

# ПАД ЗНАКАМ БЫКАВА

Будуць часам ідалы раструшчаны,
Свет разумны стоміцца ад крыкаў.
Васільком у жыце Беларушчыны
Назаўсёды застанецца Быкаў!

*Рыгор Барадулін*

Больш за сорак гадоў мы жылі па хранометру Васіля Быкава. Ягоныя аповесці з'яўляліся ў друку з дзівоснаю рэгулярнасцю, якая нагадвае звышдакладную працу астранамічнага гадзінніка. Што ляжыць у аснове гэтае працы? Талент? Самадысцыпліна? Сумленне, «абсалютна нязменнае, — паводле слоў Эрнеста Хемінгуэя, — як метр-эталон у Парыжы»? Мусібыць, і тое, і другое, і трэцяе разам. А яшчэ нешта ўласна быкаўскае — адчуванне сябе ў гісторыі і гісторыі ў сабе. Яго творы, у тым ліку і творы апошніх гадоў жыцця, былі надзвычай своечасовыя, чаканыя.

Праўда, інакш кажучы, абсалютная ісціна, убачаная вачыма асобнага чалавека, — самае змястоўнае паняцце ў творчасці В. Быкава. Найперш гэта праўда пра Вялікую Айчынную вайну, з адкрыцця якой і пачынаў пісьменнік. «Гаварыць няпраўду аб ёй, — сцвярджаў Быкаў, — не толькі амаральна, але і злачынна як у адносінах да мільёнаў яе ахвяр, так і ў адносінах да будучыні. Людзі Зямлі павінны ведаць, ад якой небяспекі яны пазбавіліся і якой цаной дасталося ім гэтае збавенне».

У векавечнай спрэчцы мяча і духу сіла заўсёды належала мячу. Аднак канчатковая перамога ўсё ж была на баку духу. Гэты феномен нашага чароўнага і такога неўладкаванага свету, кажуць, здзіўляў самога Напалеона, аднаго з апошніх рамантыкаў вайны. Між тым тлумачэнне ляжыць на паверхні. Меч, узняты дзеля таго, каб забіваць, і меч, з якім прыйшоў у свет Ісус Хрыстос, каб караць, маюць супрацьлеглыя мэты.

Беларусы гэта зразумелі адны з першых. Дзесяць вякоў беларускай гісторыі, якія мінулі з часу прыняцця хрысціянства, навучылі наш народ, што браць у свае рукі зброю не грэх, калі праўда на нашым баку. Беларусы занадта дорага заплацілі за гэтыя веды, каб так лёгка здрадзіць у часы ліхалецця сваім перакананням. Народ, які змагаецца, ненавідзячы вайну, забівае, не прымаючы забойства, ахвяруе сабой, любячы жыццё, такі народ варты павагі. Ён, прынамсі, ведае, што дзеля таго, каб перакаваць мячы на аралы, трэба напачатку хоць бы мець гэтыя мячы.

Фёдар Дастаеўскі, згадваючы дзівосную здольнасць беларусаў захоўваць праз стагоддзі ўціску і здзекаў сябе, сваю мову і сваю культуру, быў блізкі да разгадкі феномена народа, да якога меў самыя крэўныя дачыненні. Анталагічныя глыбіні беларускай гісторыі мовілі ягонымі вуснамі, каб нагадаць свету пра моц духу народа, які на практыцы праверыў слушнасць хрысціянскай маралі і прыняў яе як адзіную вечную праўду. Самому Фёдару Міхайлавічу, аднак, не хапіла адвагі назваць сябе сынам гэтага народа, хоць ён, як вядома, заўсёды быў на баку «прыніжаных і абражаных». Калі б ён нарадзіўся на сто год пазней, то, магчыма, усё было б зусім іначай. Але ён прыйшоў у свет зарана.

Феномен мастацкага генія Васіля Быкава ў тым, што ён прыйшоў да нас надзвычай своечасова. Менавіта тады, калі беларусам, пасля перажытага ў часы сталінскага і гітлераўскага генацыду, патрэбен быў абаронца, які на поўны голас заявіў, што праведны дух, узброены мячом, завостраным з двух бакоў, мае рацыю. Быкаў належыць да нацыі, якая сапраўды «нікога не біла, не падбівала, толькі баранілася», і Францішак Багушэвіч, аўтар гэтых слоў, ніколькі не памыляўся. Якая, нягледзячы на свае працяглыя гістарычныя блуканні і памылкі, здолела захаваць і зберагчы галоўнае ў сабе, тое, што імкнуцца выявіць яе таленавітыя абраннікі, а сам народ выказвае ў лёсавызначальныя моманты свайго існавання. У Васіля Быкава гэта атрымліваецца асабліва яскрава, пераканаўча, паслядоўна.

У самой натуры Быкава шмат нацыянальна-беларускага, таго, што ідзе ад яго бацькоў-дзядоў: мужнасць і сціпласць, сіла і слабасць, суровасць і спагада. Якасці, на першы погляд, супрацьлеглыя, але яны злучаюць у адно цэлае ўсё тое, што зведалі беларусы за тысячу гадоў свайго гістарычнага існавання на тэрыторыі, дзе сутыкаліся розныя этнасы, культуры, канфесіі, цывілізацыі. Менавіта гэта сенсацыйнае сумяшчэнне несумяшчальнага, уменне бачыць паразу ў перамозе і перамогу ў паразе, быць самабытнымі да таго, як прыйшло ўсведамленне гэтай самабытнасці, вылучае іх сярод народаў-суседзяў. Наша сіла, як гэта ні дзіўна, у нашай слабасці, у здольнасці разумець іншага, як

самога сябе, спагадаць, быць літасцівым і міласэрным. Гісторыя навучыла беларусаў, што такое вышыня чалавечага духу і што з'яўляецца сапраўднымі каштоўнасцямі. Яна наглядна прадэманстравала перавагу натуральнага існавання на ўлонні роднай прыроды і ўменне задавальняцца малым і самым неабходным. Злы лёс і чужая воля змушалі беларусаў зноў і зноў адстойваць сваё права жыць так, як жылі дзяды-прадзеды, нанова адбудоўваць свой зруйнаваны дом. Нашы паражэнні, якіх куды больш, чым перамог, дарагога вартыя. Перамогі, нават самыя вялікія, урэшце нічога добрага не нясуць пераможцам, акрамя неапраўданых прэтэнзій ды пустой ганарлівасці. Але каб усё гэта спасцігнуць, трэба было прайсці крыжовы шлях выпрабаванняў і пакутаў.

У нас ёсць Быкаў, і значыцца ёсць падставы для таго, каб ганарыцца сваёй Беларуссю. Быкаў ратуе нас ад прыніжэння і ганьбы, у якой мы сядзім, як у ваўчынай яме, саромеючыся, і небеспадстаўна, называцца ў цывілізаваным свеце, што мы беларусы. Эпоха, калі нам пашанцавала жыць, — гэта эпоха Быкава. Мы — нацыя Скарыны, Каліноўскага, Купалы, Быкава. Цяжка ўявіць пісьменніка, які б так маштабна і метадычна думаў пра лёс свайго народа, з такім трагічным напалам пачуцця перажываў бы за тое, што адбываецца ў вялікім свеце. Нездарма імя Быкава набыло еўрапейскую вядомасць. Цікава, што яго творы ўключаюцца нашымі ўсходнімі суседзямі ў школьныя праграмы і падручнікі, а самога пісьменніка лічаць лепшым сярод лепшых расійскіх пісьменнікаў і ўганароўваюць прэстыжнымі літаратурнымі прэміямі і расійскімі дзяржаўнымі ўзнагародамі.

Беларусь не хутка дачакаецца прыходу яшчэ аднаго пісьменніка такога маштабу і таленту, як Быкаў, бо падобнае здараецца раз на паўстагоддзе. Беспрэцэдэнтная, нябачаная з часоў Янкі Купалы пасіянарнасць, адстаронены погляд на ўсё, што з'яўляецца атрыбутыкай савецкай аднамернай сістэмы, адэкватнасць гістарычным задачам, якія стаяць перад нашай краінай, пагружананасць у глыбіні нацыянальнага быцця і напружанасць роздуму над векавечнымі чалавечымі праблемамі, — усё гэта Васіль Быкаў. У тым, што мы жывём у час, калі прыкметна пашырыўся «сектар свабоды», павялічылася сама інфармацыйная прастора, што мы адчуваем сябе не толькі беларусамі, але і жыхарамі планеты Зямля, ёсць вялікая заслуга гэтага выдатнага мастака слова, якога можна з поўным правам назваць адным з прадвеснікаў новага духоўнага Адраджэння, аднаго з яго галоўных ідэолагаў і актыўных рушэнцаў, дзяржаўным дзеячам кантынентальнага маштабу.

Васіль Быкаў — гэта унікальная эстэтычная з'ява ў айчыннай і сусветнай літаратуры, найвялікшая ступень мастацкай праў-

дзівасці, глыбіня пранікнення ў таямніцы народнай і чалавечай псіхалогіі, рэдкасная вастрыня і рэчыўнасць вобразнага бачання свету, фенаменальная своечасовасць большасці публікацый, вялікая ўдзельная вага вобразнага і публіцыстычнага слова, прытчавая шматзначнасць і прарочая відушчасць.

За ўсім, пра што апавядае Быкаў у сваіх творах, моцна адчуваецца прысутнасць беларускай рэчаіснасці, нашай унікальнай нацыянальнай гісторыі, пройдзеных намі за дзесяць стагоддзяў крыжовых шляхоў, надзвычай уражлівых і павучальных. У яго прозе з надзвычайнай вобразнай сілай выявіўся вопыт перажытага ім самім і яго пакаленнем, якое пісьменнік нездарма назваў «забітым» і якое амаль цалкам засталося на полі бою. У свеце, дзе на працягу амаль цэлага стагоддзя раскашавалі некрафільскія рэжымы, гэта пакаленне зведала толькі адну ісціну, і гэтай ісцінай была смерць, абсурднасць вайны, выдатна прадэманстраваная ў аўтабіяграфічных дыялогах з Алесем Адамовічам «Маладыя гады».

Спатрэбіўся час, каб зразумець сябе, спасцігнуць маштабы бяды, якая звалілася на быкаўскае пакаленне і на ўвесь народ, пранікнуць у глыбінныя прычыны падзей усясветнага значэння. Пачаўшы з апавяданняў, дзе ўжо столькі знаёмага, такога непаўторна быкаўскага, што, аднак, праявіцца на поўную сілу пазней, пісьменнік упэўнена і паслядоўна асвойвае вялізную прастору XX стагоддзя, на якой сутыкнуліся ў касмічных маштабах пабоішчы сілы ўсясветнага дабра і зла. Быкаў не разгубіўся ў хаосе праблем, узнятых эпохай тэктанічных зрухаў і катастроф, сярод руін і магіл на працягу ад Атлантыкі да Курыльскіх астравоў: у яго руках заўсёды была нітка Арыядны, якая пачыналася ў яго дзяцінстве, праведзеным сярод блакітных азёр Віцебшчыны, родных палёў і алешнікаў, блізкіх і дарагіх людзей. У творах Быкава, дзеянне якіх адбываецца на вусцішнай прасторы распластанай пад гітлераўскім і сталінскім ботам Еўропы, гучыць гімн роднай Віцебшчыне, краю бедных суглінкаў і самых прыгожых ландшафтаў, дзе ў вайну загінуў кожны трэці, а ў многіх мясцінах і кожны другі беларус. Першая і апошняя думка быкаўскіх герояў пра родны край. Туды рвуцца яны душой у свой перадсмяротны міг. У апошнія часы ў прыпавесцях, «байках жыцця», рэдкіх і кароткіх, як стрэл апошняга байца, выступленнях, больш падобных на рэплікі чалавека, які адчаяўся і горка іранізуе, усё мацней і выразней чуецца рэквіем па няшчаснай Бацькаўшчыне, акупаванай прыхаднямі і пустадомкамі ўсіх масцей.

Вось ён стаіць, моцны, непахісны, няўмольны ў сваёй празе называць рэчы сваімі імёнамі. Адзін супраць цэлай раці шматаблічнага зла, неверагодна вынаходлівага ў сваёй мімікрыі,

заклапочанага адным: колькі жывых душ удалося збіць са шляху дабра і колькі цёмных людзей пашэнціла збіць с панталыку. Хто і што за яго? Толькі талент, толькі праўда-матка, толькі слова, кволае, як немаўля на ўскрайку чорнай прорвы з карціны Чурлёніса. Але такая ўжо сіла святла, што і аднаго яго слабога праменьчыка дастаткова, каб цемра і чарната адступіліся на крок і не здаваліся такімі глухімі і безнадзейнымі, як чорны квадрат Казіміра Малевіча. І такая сіла хараства яго слова, сціплага, як васілёк у жыце, які, аднак, надае сакральны сэнс усяму вакол. Мае рацыю народ, які пра гэта спявае ў песні: «Няма цвяточка над васілёчка».

Быкаў адзін у цэлай Беларусі. Усе тыя, хто прэтэндуе на лідэрства і першынства, знаходзяцца наводдаль, як нязваныя госці на чужым свяце. Ніхто не валодае такой унутранай свабодай, як Быкаў. Менавіта таму яго слова гучыць як само Боскае Наканаванне. Улада цемры і ўлада грошай баіцца яго асуджэння і непрыняцця, бо гэта прысуд самой гісторыі. Аспрэчваць Быкава, змагацца з Быкавым, аб'яўляць яму вайну — марны занятак: быкаўская бывалая «саракапятка», ахрышчаная байцамі, якія зведалі, па чым фунт ліха, тужліва-вясёлай мянушкай «Бывай, Радзіма!», яшчэ здольная пастаяць і за сябе, і за тых, хто застаўся на велізарных прасторах ад крывавай Волгі і да блакітнага Дунаю. Ды і за тых, хто ўжо ні на што не здатны, акрамя звыклага айкання і скаргі на сваю горкую долю, асуджаных на немату людзей. Ён прыйшоў у гэты свет зусім не дзеля таго, каб быць уладаром думак і строга асуджаць адступнікаў і баязліўцаў. Яго клопат і ўдзень і ўначы адзін і той жа, і выяўляецца ён найперш у тым, каб зразумець іншага і, па магчымасці, дараваць яму «за грахі вольныя і міжвольныя». У перанасычаным інфармацыяй розных калібраў свеце яго голас, голас Быкава, ціхі, скрушна-стомлены, іранічна-роздумны, не знікае ў людскім шматгалоссі. Ціхае і спакойнае слова праўды над усім.

На працягу цэлых сарака гадоў, з часу публікацыі «Жураўлінага крыку», мы жывём па хранометру быкаўскіх аповесцяў, якія з'яўляліся адна за адной кожныя год ці два. «Трэцяя ракета», «Мёртвым не баліць», «Сотнікаў», «Знак бяды», «Кар'ер», «Аблава», «Пакахай мяне, салдацік», «Ваўчыная яма», «Балота» — не проста назвы, але і этапы нашага духоўнага пасталення, нацыянальнага самаўсведамлення, маральнага самаўдасканалення. Этапы нашай нацыянальнай драмы, якая надзіва дакладна паўтарае сюжэт евангельскіх містэрый, дзе ёсць свой Ісус Хрыстос, і свой Іуда, і свой Понцій Пілат, і свой цар Ірад. Нават і цяпер, калі Васіль Быкаў, здаецца, напісаў усё, што задумваў, а пра яго самога напісана гэтак многа, загадкі яго творчасці

застаюцца без адказу. Хіба не варты здзіўлення хоць бы той факт, што пісьменнік трымае нас, сваіх чытачоў, у напружанні столькі дзесяцігодзяў, калі змянілася гэтулькі куміраў. Калі мінуліся цэлыя грамадска-палітычныя фармацыі, зніклі вялізныя імперыі, абрынуліся долу гліняныя калосы ўлады. Змянілася тры чытацкія пакаленні, выхаваныя Быкавым, свет ужо не той, якім быў, а кожны твор пісьменніка нязменна ўспрымаецца як адкрыццё, кожнае яго выступленне выклікае высокую хвалю грамадскай увагі. Рэйтынг папулярнасці Быкава, нягледзячы на тое, што мастацкая літаратура займае ў жыцці грамадства далёка не тое месца, як яшчэ нядаўна, як ніколі стабільна высокі. Падобнае ў гісторыі здараецца рэдка, і цяжка прыгадаць яшчэ такі ж прэцэдэнт. Быкаў абвяргае распаўсюджанае меркаванне аб заняпадзе мастацтва слова, аб вычарпанасці радовішчаў народнай мудрасці, аб так званым канцы чалавека, гісторыі, літаратуры. Ён вяртае прафесіі пісьменніка імідж абранасці і святасці, нагадваючы, што яго абавязкам з’яўляецца не толькі пісаць, але і ствараць новыя мастацкія каштоўнасці, памагаць людзям утрымацца на краі прорвы.

Фінал XX стагоддзя бязрадасны. Не менш бязрадасны і пачатак новага стагоддзя. Столькі надзей было ў самым пачатку — на магчымасці чалавечага генія, на навуку і тэхніку, на рэвалюцыйную пераробку свету і стварэнне новага чалавека. І такое расчараванне ў самым канцы. Грандыёзны сацыяльны эксперымент завяршыўся вялікай няўдачай. Мы вымушаны гібець на руінах цывілізацыі, заснаванай на розуме асветнікаў, і выношваць кволую надзею на нацыянальнае Адраджэнне, спадзявацца на літасць Божую і багадаць. Усе мы сёння шукаем чалавечыя каштоўнасці, здольныя аб’яднаць прагматычнае і раздробленае грамадства, і пакрысе вяртаемся да скарбаў нацыянальнай і сусветнай культуры і літаратуры як вышэйшага выяўлення духоўных і творчых магчымасцяў чалавека.

У час, калі выпушчаная на волю з-за калючага дроту грамада кідаецца то назад у «светлае» мінулае, то наперад, у невядомасць, то некуды ўбок, далей ад гісторыі, якая прад’яўляе звычайнаму чалавеку неміласэрныя патрабаванні, Быкаў цярплівы і ўпарта, як ваяваў за праўду ўсё сваё свядомае жыццё, раскопвае кар’еры народнай памяці пра савецкае мінулае, нагадвае, што баліць жывым, бо мёртвым, як вядома, не баліць, дзе нас чакае пастка, а дзе падсцерагае аблава, дзе зеўраюць пусткай чорныя ляды, а дзе недаступнай скалой ўстае праклятая вышыня, дзе сцяна, якую мы разбіраем, каб тут жа наткнуцца на яшчэ больш строму сцяну-мур у свеце, дзе столькі турмаў, што ён і сам пачынае нагадваць вялізазны астрог, як беларусам-балацянам выбрацца

з такога ўтульнага і зацішнага роднага балота, дзе труба, з якой няма выхаду ні на ўсходзе, адкуль яна цягнецца, ні на захадзе, куды яна вядзе, чаму ў гэтым цудоўным свеце жоўты пясочак нагадвае не пра паўднёвыя пляжы, а пра апошняе прыстанішча чалавека. На жаль, ашалелая ад спакусаў свабоды, ачмурэлая ад таннай гарэлкі, зняверaная ўшчэнт грамада не паспявае за крокамі волата, безнадзейна спазняецца ў сваім культурным развіцці і не бачыць нічога з таго, што ўжо выразна бачыць Быкаў: незалежную еўрапейскую краіну Беларусь. Гэтую краіну нашы нашчадкі ўзновяць, рэстаўруюць, рэканструіруюць, вядома, пры ўмове, што самі мы не выкарыстаем магчымасцяў, дадзеных нам гісторыяй, па творах лепшых нашых пісьменнікаў, мастакоў, музыкаў, гісторыкаў, філосафаў. І найбольш поўную і дакладную вобразную інфармацыю яны адшукаюць у творах Васіля Быкава.

Усё больш відавочным становіцца тое, што творчасць Быкава — гэта не толькі і не столькі адлюстраванне гістарычнай праўды пра Другую сусветную вайну і ўжо не адно ўсяго шматгадовае супрацьстаянне таталітарызму ва ўсіх яго жахлівых мадыфікацыях. Творчасць Быкава — гэта перш за ўсё унікальная эстэтычная з’ява ў сусветнай літаратуры, найвышэйшая, нават на фоне высокай класікі, ступень мастацкай праўдзівасці, нязвыклая нават для самага інфармаванага чытача глыбіня пранікнення ў таямніцы людской псіхалогіі, драматычная вастрыня і разам з тым рэдкасная рэчыўнасць вобразнага бачання свету, майстэрскае выбудоўванне архітэктуры сваіх твораў, фенаменальная актуальнасць большасці яго публікацый, небывалая ўдзельная вага вобразнага і публіцыстычнага слова, якое часам нагадвае сваёй звышшчыльнасцю і насычанасцю думкамі зорнае рэчыва, прытчавая шматзначнасць і прадбачлівасць пісьменніцкага зроку. Многае з таго, што нават яго нязменным прыхільнікам здавалася перабольшваннем або празмерным завастрэннем, якія парушаюць класічныя каноны і расхістваюць іерархію існуючых эстэтычных каштоўнасцяў, сёння аказалася горкай праўдай, праўдзівей якой ужо нішто не можа быць, неаднаразова пацверджанай вучонымі, гісторыкамі, філосафамі, псіхолагамі, сацыёлагамі. У тым, што на графіку чалавечых магчымасцяў «сектар свабоды» прыкметна пацясніў «сектар неабходнасці», велізарная доля заслугі менавіта Васіля Быкава. Яго шматгадовыя намаганні ў напружаным супрацьстаянні жыццёваму абсурду, які прадэманстраваў сябе з небывалай у гісторыі людства нагляднасцю і жорсткасцю, не былі марнымі, а яго імя невыпадкова асацыіруецца з паняццем сумлення беларускай нацыі.

Сярод паняццяў «быкаўская аповесць», «быкаўскі герой», «быкаўская сітуацыя» асобнае месца займае паняцце «быкаўская

мова». У пявучай, мілагучнай, прадметна заземленай беларускай прасодыі Быкаў адшукаў высокае слова народнай трагедыі, суровыя інтанацыі жаночага плачу, страшны ў сваёй роспачы крык галашэння над труной, у якой ляжаць мілыя беларускія дзяўчаткі і хлопчыкі, што загінулі ў падземным пераходзе на Нямізе і папоўнілі сабой бясконцы лік ахвяр, знявечаных нялюдскімі рэжымамі. У беларускай мове, якая, на думку не самых выдатных прадстаўнікоў беларускай нацыі, нібыта не здатная выказваць разумныя думкі, Быкаў адшуквае словы эпічнага гучання, як у Льва Талстога, напоўненыя прарочай сілай, як у Фёдара Дастаеўскага, трагічна-ўзрушаныя і напоўненыя энергіяй роздуму над лёсам беларусаў, як у Янкі Купалы, мудра-іншасказальныя і іранічна-саркастычныя, як у Якуба Коласа, аўтара «Казак жыцця», шчымліва трывожныя і эсхаталагічна-апакаліпсічныя, як у Альбера Камю, гнеўна-асуджальныя, бы прысуд самой гісторыі, як у Аляксандра Салжаніцына. У быкаўскай мове жыве душа беларуса, дыхае на поўныя грудзі метафізічнае, эзатэрычнае, сакральнае ў беларускім нацыянальным космасе. Выхоўвае само слова гэтага пісьменніка.

Мастацкая моц і відушчая яснасць быкаўскага слова, яго сугестыўнае ўздзеянне на чытача знаходзяцца ў прамой прапарцыянальнай залежнасці ад яго ўпэўненасці, што ўсю праўду пра шматгадовую вайну народа і вайну з народам не дадзена сказаць нікому асобна, нават генію з геніяў. На выручку прыходзіць велізарны запас унутранай духоўнай энергіі народа, які за тысячагоддзе сваёй пакутнай і велічнай гісторыі здолеў захаваць маральныя праасновы свайго зямнога быцця, стварыць найбагацейшы ў свеце фальклор і міфалогію, выдатную мастацкую літаратуру, зрабіць уклад амаль ва ўсе сферы разумовай дзейнасці сучаснага чалавека. «...гады каласальных намаганняў народа, — сцвярджаў некалі Быкаў, — стварылі духоўны канцэнтрат небывалай цаны, маральны сплаў нацыі, у якім адшукалі сваё найбольш поўнае ўвасабленне не толькі наша мінулае, але ў пэўным сэнсе і наша магчымая будучыня». З незвычайнай хуткасцю, за якой не паспявала крытычнае асэнсаванне даследчыкаў літаратуры, гістарычная прастора, якую пільна азіраў і абдумваў пісьменнік, пашыралася, захопліваючы не толькі новыя, нечапаныя сферы пражытага народам вопыту, але і нябачныя раней пласты народнай памяці пра ўсе дзесяцігоддзі савецкай мінуўшчыны. Пры ўсім гэтым Быкаў досыць сціпла ацэньвае ўласныя мастацкія адкрыцці і мысліцельныя прарывы, бо вымярае не толькі свае, але і наогул чалавечыя магчымасці, фізічныя і духоўныя, па гамбургскаму рахунку, не шукаючы апраўданняў дзесьці па-за сабою. Больш таго, ён перакананы, што мастацкая літаратура з

часам апыніцца «перад альтэрнатывай: вельмі значнае і, магчыма, самае важнае пра мінулую вайну будзе сказана ў бліжэйшыя дзесяць-дваццаць год, альбо наогул ніколі не з’явіцца на свет». Гэта суджэнне, на думку Быкава, бясспрэчнае, «бо вялікую праўду пра мінулую вайну суджана сказаць толькі яе ўдзельнікам альбо сведкам. Іншым не дадзена. Іншыя могуць стварыць нават геніяльныя творы, але гэта ўжо будзе з нагоды вайны, а не яе горкай і крывавай праўдай».

Чым далей, тым больш уплываў на творчы працэс пісьменніка фактар часу. Быкаў не стаў марнаваць абмежаваны тэрмін асобнага чалавечага жыцця на тое, каб стварыць абавязкова эпас вайны, расцягваць адшуканы сюжэт на бясконцыя серыялы, множыць творчыя знаходкі, якія для пісьменніка іншага маштабу былі б падставай гонару на ўсё астатняе жыццё. Вопыт беларускай літаратуры пераканаўча сведчыў, што гэта і немагчыма, і не непатрэбна, і наогул учарашні дзень літаратуры. Ён абраў, і гэта сёння бачна, самы аптымальны варыянт рэалізацыі сваіх мастацкіх задум. Паставіўшы ў эпіцэнтр аўтарскага сузірання і напружанага асэнсавання звычайнага чалавека, «пралетарыя вайны», Быкаў вярнуў беларускую літаратуру ў яе класічнае рэчышча. Быкаўскі герой генетычна і гістарычна звязаны з пушкінскім Белкіным і гогалеўскім Башмачкіным, з купалаўска-коласаўскім мужыком-беларусам, з чорнаўска-гарэцкаўскім інтэлігентам «у сярмязе». Шараговы ўдзельнік вялікага супрацьстаяння таталітарнай ідэі, ён фізічна адчувае нечалавечы ціск чыгуннага кола гісторыі.

Кожны змагаецца за сябе і сваё выжыванне, але тым самым і за сваіх франтавых сяброў, бо часам зыход у смерць можа ўспрымацца як здрада жывым, а ўрэшце атрымліваецца, што і Радзіма не абстрактнае для яго паняцце, бо гэта і яго родны кут, да якога герой раз-пораз звяртаецца ва ўспамінах. Глечык, Лазняк, Васілевіч, Іваноўскі, Валошын, Ляўчук змагаюцца са зброяй у руках, а Сотнікаў, Мароз, Пятрок і Сцепаніда Багацькі, Хведар Роўба — адстойваючы сваю годнасць. У характары быкаўскага героя шмат «празмернай чалавечнасці» (М. Бахцін), бо перад намі — Асоба, разбуджаная ў звычайным чалавеку эпохай «паўстання мас». Гэта апошняя апора чалавечнасці ў няўтульным і жорсткім быкаўскім свеце, які з’яўляецца на рэдкасць дакладнай мадэллю свету, што на поўны рост паўстаў ў XX стагоддзі, дзе энтрапія бярэ верх, а дэструктыўныя сілы ашалела імчаць у прорву. У Асобе адзіная надзея на тое, што д’ябальскі механізм усеагульнага адчужэння і нівеліроўкі індывіда, наткнуўшыся неспадзявана на маўклівае супраціўленне, разваліцца на састаўныя часткі і рассыплецца на друз. Быкаўскі герой пастунова

ператвараецца ў апошняе звяно гістарычнага ланцуга падзей, здарэнняў, выпадковасцяў, нечаканак і адказвае ўжо не толькі за самога сябе, але і за ўсіх сваіх літаратурных папярэднікаў.

Дэталёва абмалёўваючы свайго героя, вывучаючы яго ў «памежнай сітуацыі», у стане маральнага выбару, Быкаў імкнецца увасобіць у жыццё «маральны імператыў», сарваць усе маскі са зла, якое мімікрыруе, лёгка прыкідваецца самой дабрадзейнасцю, спрабуе дапамагчы вытрываць безабароннаму дабру і адначасова абнавіць адчуванне жывога жыцця, якое людзі чамусьці схільныя губляць у руціне клопатаў і прымхлівых памкненняў. Так узнікае дзівоснае адчуванне «вечна новага» Быкава, заўжды цікавага, яркага, глыбокага, мудрага, пісьменніка, які абяцае новыя адкрыцці. Як мастаку слова яму заўсёды самому цікава, як адчувае сябе «душа ў запаветнай ліры» альбо як астудзіць «гарачую магму» даваеннага, ваеннага і паваеннага матэрыялу ў абалонцы слова і вобраза. Чыста эстэтычныя катэгорыі (героя і сюжэта, жанру і стылю, вобраза і сімвала), пры вонкавай бясстраснасці і не афішаванай цікаўнасці, заўжды прыцягвалі ўвагу Быкава-мастака, хоць сам ён, здаецца, даўно вырашыў для сябе, якая манера, традыцыйная ці супермадэрная, яму бліжэй, на каго з папярэднікаў альбо нават сучаснікаў варта арыентавацца ў сваім пошуку, якому жанру, стылю аддаць перавагу і г. д.

Наўрад ці ставіў Васіль Быкаў калі-небудзь свядома перад сабой чыста тэарэтычную задачу: стварыць «новую прозу», сцвердзіць «новы стыль», пераўзысці папярэднікаў, вырашыць у творчасці ўсе жыццёвыя і мастацкія задачы... Першаштуршком для яго заўжды было жывое жыццё, яго вечны і зменлівы рух — невычэрпная крыніца абнаўлення і вечнай маладосці душы, нават калі нешта паўтараецца або вяртаецца зноўку ў яго творы. Гэта можа быць выпадковая сустрэча: менавіта так ўзнікла задума «Альпійскай балады». Альбо ўспамін, які не дае спакою і вярэдзіць старыя раны: так распрацоўваўся сюжэт «Мёртвым не баліць». Альбо думка, якую трэба абавязкова вырашыць: так з'явіліся «у адной звязцы» Сотнікаў і Рыбак, герой і антыгерой. Альбо схаваная «на потым» згадка пра бязрадаснае і галоднае дзяцінства, пра якое не хацелася ні гаварыць, ні пісаць: яна ажыла, увасобілася ў шматлюддзе вобразаў у «Знаку бяды». Альбо разбуджаная рухам падзей памяць пра паўзабытыя эпізоды мінулага, у якіх больш горкай праўды пра эпоху, чым у вялізнай бібліятэцы мемуараў военачальнікаў...

У што ператворыцца мастацкае апавяданне — у гераічную оду ў гонар непераможнага чалавечага духу альбо ў скрушную песню ў стылі Эклезіяста? Гэта пытанне вырашаецца ў кожным выпадку асобна і неспадзявана. З аднаго боку, папярэджанне

Генрыха Бёля аб тым, што «чалавек перастае быць мастаком не тады, калі піша слабы твор, а тады, калі пачынае баяцца ўсялякае рызыкі». А з другога — напамін пра вядомае, што галоўным крытэрыем каштоўнасці твора з'яўляецца ступень абавязковасці і своечасовасці яго ўзнікнення. І як працяг — думка: «Безадказнасць, бесклапотнасць адносна формы вельмі часта цягне за сабой абыякавасць чытача да зместу твора... Мастацтва помслівае. Яно жорстка распраўляецца з тымі мастакамі, якія свядома і міжволі здраджваюць яго асноўным законам — законам праўды і чалавечнасці». У векавечнай спрэчцы рэалізму і рамантызму Быкаў нязменна аддае перавагу жорсткаму рэалізму, выяўленчых магчымасцяў якога дастаткова, каб сказаць праўду пра чалавека і свет, бо сама рэчаіснасць дае такія прыклады ўзлёту чалавечага духу і яго маральнага паніжэння, што ніякі самы фантастычны сюррэалізм не зможа прыдумаць. Досыць усяго толькі павагі да жывога жыцця, звычайнай увагі да яго шматлікіх праяў.

Ведаючы гэта пра Быкава, разумееш яго сённяшняга, аўтара гнеўнай палітычнай публіцыстыкі, дзе выносіцца няўмольны прысуд подлай натуры маленькага чалавечка, які некалі марыў перажыць вайну і «ўпіцца ў самае салодкае месца» пасляваеннага жыцця і які, падобна, дачакаўся свае зорнае часіны. Разумееш і яго неспадзяваны для многіх пераход да жанру прытчы ў форме «баек жыцця», выхапленых, здаецца, як распалены вугельчык з вялізнага агню беларускай гісторыі. Быкаў і ў гэтым выпадку з'яўляецца, несумненна, беларускім пісьменнікам. Беларускі лад розуму, заснаваны на еўрапейскім рацыяналізме, асаблівы строй душы, не чужой лірызму, сардэчнасці, прыкметная далікатнасць у дачыненняз з блізкімі і аднадумцамі і сухаватая жорсткасць ацэнак, трагічны каларыт прадказанняў, разуменне іншага, як самога сябе, — ва ўсім люструюцца перыпетыі асабістага лёсу пісьменніка і складаная гісторыя краю. «Маё пакаленне, — адзначае Быкаў, — гэта пакаленне няшчасных людзей. Яно не мела шчасця ў мінулым і, мабыць, будзе пазбаўлена яго ў блізкай будучыні. Гэта пакаленне вартых жалю людзей. Людзей, абдзеленых Богам і ў значнай ступені — самімі сабою».

Пры ўсім гэтым, не дужа вясёлым роздуме пра эпоху фундаментальныя перакананні Быкава застаюцца нязменнымі. Час толькі ўносіць свае карэктывы. Філасофія жыцця, па Быкаву, стала яшчэ больш песімістычнай, стылявы каларыт больш змрочным, высновы, нягледзячы на моцны сарказм, не пакідаюць надзеі на лепшае. Экзістэнцыйная праблема выбару, якой пісьменнік аддаў належнае, дапаўняецца яшчэ адным распаўсюджаным у заходняй літаратуры паняццем абсурду. Менавіта абсурд дакладна выяўляе наш духоўны стан, стан людзей XX стагоддзя.

Абсурд як шпаркае пераўтварэнне маральных катэгорый у сваю супрацьлегласць. Абсурд як руйнаванне былой іерархіі каштоўнасцяў. Абсурд як хуткае падзенне чалавецтва ў прорву забыцця. Абсурд не сёння пачаўся і не заўтра скончыцца.

Мастацкае слова, адной з задач якога з'яўляецца ўтаймаванне хаосу, здаецца нямоглым перад наплывам стыхіі. Аднак Быкаў таму і Быкаў, што ў сваім працяглым і цярплівым супрацьстаянні са злом і хлуснёй не здаўся. Васіль Уладзіміравіч Быкаў ужо ў Вялікім Часе. Адкрыццём быкаўскага генія сталася менавіта адкрыццё Часу ва ўсіх рэаліях нашага зямнога існавання і радыкальнае сцвярджэнне яго магчымасцяў, якіх да Быкава не ведала сусветная літаратура. Гэта і паняцце незваротнасці часу, і звязанае з ім шкадаванне аб упушчаных магчымасцях, аб чым беларусы ведаюць лепш, чым хто. Гэта і паняцце выбару, якое звужаецца да дылемы: быць альбо не быць — нацыі, мове, самому жыццю. Гэта і паняцце абсурду, калі знікае аптымістычная спадзяванка на шчаслівы збег акалічнасцяў і як багадаць з'яўляецца пачуццё рэальнасці і маральнай адказнасці, разуменне сваіх кволых чалавечых магчымасцяў у супраціве хаосу, велічы чалавечага духу.

А на пытанне: «Дык што ж мы можам?» — якое задае сабе ці не кожны пісьменнік, Васіль Быкаў даў вельмі дакладны адказ: «Мы можам тое, што мы умеем: пісаць...» Гэтага ўжо нямала ў сучаснай сітуацыі на лёсаносным пераломе двух стагоддзяў, тысячагоддзяў, цэлай касмічнай эры, які адбываецца для беларусаў пад знакам Быкава.

*Міхась Тычына*



# ТРЭЦЯЯ РАКЕТА

## 1

Я ляжу ў акопе на разасланым шынялі і доўга гляджу ўгору, у сінюю бездань летняга неба. На паверхні ціха — ні стрэлу, ні выбуху, наўкола ўсе спяць; трохі далей, ля снараднай нішы, нехта моцна сапе, здаецца, вось-вось пяройдзе на храп. Дзень стаіць ветраны, спёка не дужа вялікая, сонца схавалася за бруствер і кіруе ўжо на захад. На беражку акопа матляецца-ляскоча аб высахлы ком чарназёму нейкая былінка, а над усім гэтым высока ў небе лётаюць буслы. Дзве вялізныя птахі, распластаўшы крылы, узнімаюцца ў самую высь і кружацца там, бы купаюцца ў сонечнай раздольнай прасторы. Ветраныя патокі, відаць, патроху адносяць іх убок, за камкаваты акопны бруствер, але яны, лена і важна перабраўшы крыламі, зноў вяртаюць сабе ранейшую вышыню і кружаць, кружаць там доўга.

Буслы часта з’яўляюцца тут у сонечныя надвячоркі, лятаюць і кружацца, пэўна, выглядаючы дзе якую балацявіну, трысняговую старыцу, лужок, каб палавіць спажывы, напіцца, а то і проста па буслінаму звычаю пастаяць у роздуме на адной назе. Але цяпер яны нікуды не могуць спусціцца, бо скрозь — ля старыц, у прырэчных балацявінах, на ўсіх лужках і дарогах — людзі. Не спраўляюцца буслы нагледзець што здатнае, як на зямлі пачынаюць грукатаць стрэлы — недзе там, у ветранай прасторы, злосна фыркаюць нябачныя чмялі-кулі, буслы палахліва кідаюцца прэч — адлятаюць на захад, некуды ў бок недалёкіх Карпат.

Без буслоў бяздоннае сіняе неба становіцца пустым і нецікавым, у ім няма на чым зачапіцца позірку, я прыжмурваюся і дрымотна прыціхаю...

Раптам на брустверы над маёй галавой нешта гучна лопае, бы хто ляскае дубцом па ссохлай пыльнай зямлі, — і я прахопліваюся са сваёй санлівай задумы. У акопе па-ранейшаму ціха, усе спяць, толькі на прыступках туліцца пад брустверам Лёшка Задарожны, наш зараджаючы. Ён у адной, вельмі заношанай, нацельнай сарочцы з матузамі-завязкамі на грудзях; голыя да локцяў, ушчэнт статуіраваныя рукі камечаць зашмальцаваную гімнасцёрку, на якой вісіць канец новага недашытага каўнерыка. Хітраватыя Лёшкавы вочы на круглявым брывастым твары няўцям міргаюць, як гэта бывае ў чалавека, які зрабіў нейкае глупства.

— Сабака! — невядома да каго кажа Лёшка. — Глядзі ты! Я ж цябе падражню...

Ён кладзе на прыступкі сваю гімнасцёрку са свежаначышчаным гвардзейскім значком і хапае рыдлёўку, што стаіць побач. Я яшчэ не цямлю, што здарылася, як Лёшка, дурасліва ўхмыляючыся ўсім сваім поўным, паголеным — увогуле прыгожым — тварам, ціхенька вытыркае з-за бруствера точаны чаранок рыдлёўкі.

«Чвік!» — і на брустверы ўшчэнт разлятаецца вялікая ўсохлая груда.

Лёшка коратка ўздрыгвае, але свавольна ўхмыляецца і, заўважыўшы, што я згледзеў ягоны занятак, ужо смялей высоўвае з акопа рыдлёўку. Недзе ў варожым баку слаба кахае стрэл, і тут жа новая куля адшчэпвае ад чаранка тоўстую трэску.

— Не псуй рыдлёўкі! — кажу я Лёшку. — Знайшоў занятак.

— Ерунда там рыдлёўка! Я ўжо яго падражню, сабаку!..

І ён зноў выторквае рыдлёўку, але зараз жа хавае яе, і ў той жа час выразна чуецца «чвік», «чвік» — з бруствера пырскае зямля.

— О, о, законна! Пазлуйся, пазлуйся, — задаволена кажа Лёшка, забаўляючыся з рыдлёўкай. Ён і яшчэ хоча нешта сказаць, але толькі раскрывае рот, як устаялая ціш над акопам узрываецца траскучым грукатам разрыўной буйнакалібернай чаргі. Пясок, груды і ашмоцце кукурузы з бруствера разлятаюцца ў бакі, абсыпаюць твары, галовы, спіны сонных людзей у акопе. Але чарга кароценькая; нарабіўшы вялікага грукату, яна раптам сціхае, і вецер паволі здзьмухвае з бруствера пыл.

— Што гэта? Што такое? Свінячае рыла! — крычыць з канца акопа наш камандзір Жаўтых. Ён, як і ўсе, прахопліваецца

са сну, і, напэўна, нейкае камандзірскае адчуванне падказвае яму, што хтось правінаваціўся. Прыгнуўшыся, без папругі, у расшпіленай гімнасцёрцы, на якой пагойдваецца паўтузіна медалёў, ён цераз людскія целы пералазіць па акопу да Лёшкі.

— Табе што?.. Цесна ў акопе? — пытаецца старшы сяржант і строга глядзіць на Лёшку. Той, не варухнуўшыся, сядзіць у доле, абсыпаны зямлёй, і, паказваючы свае прыгожыя здаровыя зубы, нахабнавата ўхмыляецца.

— Нейкі Ганс ледзьве іголкі з пальцаў не выбіў, зараза!..

— Іголку ў яго не выбіў! Ты што — малалетак? Сысунок? Растлумачыць табе, што да чаго? Футбаліст мне!

З хвіліну Жаўтых злосна пазірае зверху ўніз на Лёшку, але скрозь усё ціха, і старшы сяржант, супакойваючыся, пачынае абтрэсваць з вусоў і галавы пясок. Потым ён пераводзіць свой яшчэ незадаволены позірк на нас, яго падначаленых. Вочкі ў яго маленькія, няпэўнага выцвілага колеру, яны хаваюцца пад налахмачаныя строгія бровы, і пажылы ўжо, сіні, пабіты порахам твар яго не абяцае дабра.

— Чаго разлёгся? — буркатлівым, глухаватым голасам гыркае ён на мяне. — Курорт табе, такую матары! А ну, марш назіраць!

Я пачынаю ўставаць з шыняля, у душы лаючы Лёшку за яго недарэчныя жарты з немцамі, а камандзір тым часам стаіць і азірае іншых.

— А ты, Аднавухі! Няма чаго прытварацца: бачу, не спіш! Пад’ём! — камандуе ён снараднаму Крывёнку, які нерухома ляжыць у доле, насунуўшы пілотку на чарнявы, скасабочаны шрамам твар. Але Крывёнак не варушыцца, і Жаўтых, нахіліўшыся, тузае яго за рукаў.

— Хопіць дурня строіць! Каму кажу?

Салдат нехаця расплюшчвае цьмяныя сярдзітыя вочы і незадаволена пазірае на прыдзірлівага камандзіра.

— Не нукай! Не запрог!

— А што ж — кланяцца?

Крывёнак лянівa ўстае, ямчэй месціцца пад сцяной акопа і, утупіўшы ў дол позірк, бурчыць:

— Парадкі. Не паспееш задрамаць — пад’ём.

Жаўтых пераводзіць позірк у кут на астатніх, але тых ужо будзіць не трэба. Ціхманы і худы, як жардзіна, Лук’янаў зважліва сядзіць на шынялі, старанна лыпае вачмі і робіць выгляд, быццам зусім не клаўся. Як заўжды, калі камандзір лаецца,

у сіняватых вачах гэтага маладжавага, але дачасна абвялага салдата з'яўляецца пакорная сцішанасць, куточкі яго тоненькіх вуснаў сціскаюцца — ён яўна перажывае сварку. Астатнім жа ад гэтага хоць бы што, бо ўсе мы ўжо даўно папрывыкалі да камандзірскае строгасці, крыку, патрабавальнасці. Побач ужо варушыцца наводчык якут Папоў. Ён, відаць, адчувае, чым кончыцца гэты камандзіраў гнеў, і, не чакаючы загаду, выцягвае з нішы скрынку з недачышчанымі ўчора снарадамі. Папоў паводзіць сябе з гаспадарскай упэўненасцю, без Лук'янавай боязі і Крывёнкавай санлівае незадаволенасці. Выгляд у яго пры гэтым трошкі надзьмуты, шырокі скуласты твар засяроджаны ў сабе, і вейкі вузкіх вачэй прыпухлыя, — але гэта не ад сну і не ад характару — гэта ад прыроды.

— Ну, а вы чаго гледзіцё? — гыркае Жаўтых на салдат. — Думаеце, калача дам? Не чакайце! Задарожны, Лук'янаў, Крывёнак — за працу! Няма чаго дрыхнуць, дармаеды!..

## 2

Мы — саракапятчыкі. Яшчэ нас называюць ПТА (процітанкавая абарона), яшчэ «пушкары», або з абразаю — «Бывай, радзіма». Апошняе часам злуе нас, мы гатовы тады сварыцца з абразнікам і паказваем яму на нашага камандзіра, старшага сяржанта Жаўтых, які з сорак першага ваюе пры гэтых гарматках і нішто вось — жывы. Але, відаць, абраза таму і дзейнічае, што ёсць у ёй нейкая доля праўды, якой не хочам прызнаваць мы. Вайна ў шмат чым змянілася за тры гады, змяніліся зброя і тактыка, пацяжэлі нямецкія танкі, з'явіліся «тыгры», «пантэры», «фердынанды», а саракапятка ў нас усё тая ж, што і ў сорак першым, з якой тады стралялі па танкетках і лёгкіх каробачках-танках. Вядома, што часам нам бывае нялёгка. Памалу варушачыся, хлопцы бяруцца за справу. Крывёнак, нялёгка ўздыхнуўшы, падступае да расчыненай скрынкі, твар яго крывіцца, праз усю шчаку ад рота да вуха са сну ярка чырванее нядаўні шрам — след нямецкага асколка. Замест вуха ў Крывёнка толькі невялічкая адтуліна ў галаве. Папоў з Лук'янавым ужо труць снарады анучамі. У Папова гэта выходзіць спрытна, спрактыкаваныя яго рукі так і мільгаюць удоўж блішчастых латунных гільз. Лук'янаў жа неяк раздумна, адною рукой павяртае слізкі снарад і няўпэўнена шаруе яго маленькай анучкай, сціснутай у двух

пальцах. Крывёнак прымошчваецца побач, а Задарожны, уздзеўшы на крутыя плечы цеснаватую гімнасцёрку, зазірае цераз хлопцавы галовы ў скрынку.

— Ну, ерунда! Яны і ўтрох справяцца, — кажа ён. — Што таўчыся ўсім...

Вядома, Задарожны пэцкацца не будзе. Ён сядае ў самы кут акопа і пачынае свой любімы занятак — ссоўваць ніжэй на костачкі каляныя кірзавыя халявы сваіх новых ботаў. Гэта — дзеля таго фарсістага спрыту, які нябачна адзначае ўсю ладную Лёшкаву постаць — і яго кароценькую, з падрэзаным падолам гімнасцёрку, і шырачэзныя суконныя галіфэ колеру хакі, і ліха ссунутую на самае вуха пілотку — і поўніць бесклапотна-гарэзным выразам увесь яго зухаваты брывасты твар. Жаўтых, відаць, хоча нешта прыкрыкнуць на Лёшку, але толькі бурчыць сам сабе, яўна любуючыся нахабнаватаю прыгажосцю гэтага хлопца.

— Футбаліст!.. Гультаіна!.. Глядзі мне!

Я прымошчваюся на прыступкі, дзе сядзеў Лёшка, і асцярожна вытыркаю з-за бруствера востры кончык перыскопа-разведчыка. У маленькім яго вочку-акуляры зыбаецца здаўна знаёмы прасцяг — незасеянае з вясны, парослае лебядой і пырнікам поле. Яно скрозь парэзана шэрымі і рудымі крывулякамі акопаў і хадоў зносін, за імі, на нейтралцы, хаваецца ў траве высахлая ручаіна, і ля яе стаіць-іржавее з вясны закураны, з парасчыненымі люкамі танк. Далей горбяцца няроўныя, выгінастыя хрыбціны пагоркаў, на якіх сядзяць немцы. Што робіцца там, у іхніх траншэях і ў тыле, нам нічога не відаць, затое яны зверху аглядаюць усе нашы пазіцыі, траншэі перадавой лініі, хады зносін, усе пратаптаныя ўначы сцежкі, дарогу ўбаку. Адзінае якое-ніякое сховішча ў нашым тыле — гэта вузкая палоска сланечніку, якая ад румынскае вёскі трохі не даходзіць да нашай агнявой. Вёскі, праўда, амаль што няма. Пасля красавіцкіх баёў ад яе мазанак засталіся толькі груды гліны, вываращіны абгарэлага бярвення, парослыя муравой падворкі, бяздомныя каты і скрозь ямы-варонкі.

Мы стаім тут, на травяністым палетку з параскіданымі сям-там кучамі высахлай леташняй кукурузы. Адна такая куча, крыху большая за іншыя, хавае і нашу гарматку, да якой з аднаго боку прымыкае гэты кароценькі, крокаў на пяць, акоп-ровік.

Старшы сяржант, напэўна, ужо не злуецца. Згарнуўшы цыгарку памерам ледзь не з буйнакаліберную кулямётную гільзу, ён сядзіць на дне, курыць, і клубы шызага духмянага дыму напаўняюць акоп. Гэта нам тут даюць такі тытунь з трафейных румынскіх прыпасаў, — Жаўтых калі ўвечары прынясе кілаграмовую нізку вялікага зжоўклага лісця, і мы тыдзень курым яго ўсім разлікам. Вядома, каб накурыцца такому курцу, як наш камандзір, трэба згортваць цыгарку памерам ледзь не з гаўбічны ствол.

— Слухай, Лук'янаў, — кажа праз дым Жаўтых, — ты не палікмахерам да вайны быў?

— Не, — сур'ёзна адказвае Лук'янаў і ўзнімае на камандзіра вочы. — Я на архітэктара вучыўся, толькі... вайна.

— А-а... А я думаў, палікмахер. Ужо дужа далікатна ты анучку трымаеш, — кажа Жаўтых і раптам загадвае: — А ну, тры мацней! Не разарвецца, не бойся!

Лук'янаў відавочна бянтэжыцца, зацінаецца ў сабе, пачынае церці хутчэй, але слізкі снарад вышчоўквае з рук і падае ў пясок.

— Ну от, гарота! — махае рукой Жаўтых. — Ідзі сюды, другую работу дам.

Салдат змрочна выцірае ад пяску снарад, пасля — аб падол гімнасцёркі рукі, а Жаўтых дастае з свае кірзавае сумкі пацёртую, пакамечаную картку ПТА.

— Ты гэта вось... намалюй як трэба. А то прыходзяць — чапляюцца, чаму няма? Хаця б не было каму, а то поўны разлік грамацеяў: архітэктар, футбаліст ды настаўнік, — не забываецца ён намякнуць і на маю колішнюю вучобу ў настаўніцкім тэхнікуме. Я, аднак, змоўчваю.

Лук'янаў прыкметна весялее, новая работа яму, вядома, больш па характары. Падкурчыўшы пад сябе ногі, ён прысланяецца спінай да акопнай сцяны і пачынае чарціць схему нашых арыенціраў і агню. Жаўтых сядзіць насупраць і пільна, з затоенай цікавасцю назірае за кожным рухам ягонага алоўка.

— Во тут, бачу, ты майстар. І куст якраз такі, двайны, як спарыш... І танк — як «тыгр», далібог. Добра.

Я таксама пазіраю на невялічкі аркуш паперы, адарваны ад бланка «баявога лістка» — нічога асаблівага, звычайны чарцёж. Жаўтыху, вядома, не па сіле такія малюнкі, бо хоць ён і камандуе разлікам, аднак, здаецца, мае самую нізкую ад усіх нас адукацыю — два ці тры класы. Праўда, ніхто пэўна

таго не ведае, але ва ўсякім разе ніхто ў нас ніколі не бачыў, каб Жаўтых што пісаў ці чытаў услых. Усякае пісьмовае афармленне, што трэба разліку (імянны спіс, картка ПТА, справаздачы на снарады), ён даручае Лук'янаву, Папову або мне, кажучы пры тым, што ў яго няма часу, а сам заўжды сядзіць побач і курыць. Лук'янаў, вядома, самы пісьменны тут і, напэўна, самы разумны — не бяда, што ён так няўмела-асцярожна ўпраўляўся са снарадамі. У нас ён прызнаны аўтарытэт наконт розных навук, і нават Задарожны, які наогул не прызнае нікога разумнейшым за сябе, часцяком звяртаецца да яго, калі трэба ўдакладніць, у якіх фільмах здымаўся Чарлі Чаплін, колькі год Вялікаму тэатру ў Маскве, каму перад вайной прайграў маскоўскі «Спартак» або хто такая Марыя Сцюарт. Лук'янаў без цікавасці паслухае пытанне, неахвотна, бы малому, коратка адкажа, але відаць, што ведае ён яшчэ не такое, а куды больш значнае. Праўда, на вайне яму не шанцавала. Ён быў у палоне, нешта перажыў кепскае, і ўвесь ён нейкі надламаны, пакрыўджаны, але, здаецца, неблагі, хоць у нас ён нядаўна і мы яго ведаем мала.

Куды лепш ведаем Лёшку Задарожнага, ён хітрэц і лежабока — вунь і цяпер снарадаў так і не чысціць, а ўсё аходжвае, камечыць свае боты. Але Задарожны вельмі дужы хлопец, а гэта ў нашай артылерыйскай справе — немалаважная якасць. Праўда, ён мае прывычку часам злоўжываць сваёю сілай, памучыць каго, жартуючы, і тут перападае таму ж слабаку Лук'янаву і калі-нікалі Крывёнку. Адзіны, да каго ён адносіцца з нейкай павагай (пасля камандзіра, вядома), — гэта якут Папоў. Але Папоў асаблівы ў нас чалавек, і пра яго трэба сказаць асобна.

Асаблівы ён ужо хоць бы таму, што наводчык. Усе нашы розныя няўдачы адбываліся па розных прычынах, але ўсе нашы поспехі — падбітыя ў красавіцкіх баях два танкі, спалены аўтамабіль, расстраляныя два кулямёты — справа спрытных рук і зоркіх вачэй Папова. Вочы ў яго сапраўды вельмі відушчыя, такія маленькія, трошкі нават занадта вузенькія і скошаныя, як у мангола, але другіх такіх вачэй у нашай батарэі няма. Гэткія ж асаблівыя і яго рукі — спрытныя і даўгапалыя, нібы ў музыканта. Гэтымі рукамі ён увесь час майструе што-небудзь — то футарал для прыцэла, то наразае ўзор на дзюралевым партсігары, то са снараднае гільзы выпілоўвае камсастаўскую спражку з зоркай. І ўсё

ў яго выходзіць такое ладнае, адмысловае, што не розніцца бадай з фабрычным. Яшчэ ён дужа ўжо рупны, клапатлівы і старанны, асабліва калі давядзецца часова застацца за камандзіра гарматы. Тады ўжо ён замуштруе і нас і сябе, і мы ў такі час трошкі наракаем на яго. Я зайздрошчу яго ўмельству, яго вытрымцы і тайна сам сабе мару стаць калі-небудзь гэткім наводчыкам, як ён. Жаўтых заўжды беражэ яго ад працы, ад сцюжы, ад стомы — калі трэба зрабіць што цяжкае, куды збегаць ці пастаяць лішнюю гадзіну на варце, — камандзір ніколі не назначыць на тое Папова, а ўсё болей мяне ці Лук'янава або Лёшку, калі той чым-колечы не аднекаецца.

Вось так мы і жывём тут — невялічкі артылерыйскі разлік, шэсць чалавек, — курчымся доўгія дні ў вузкім акопе і з нецярплівасцю чакаем змяркання, калі пачынаецца іншая пара сутак са сваімі справамі і сваімі, адметнымі ад дзённых, клопатамі.

## 3

Перш за ўсё: голад — не цётка. Пад вечар усе мы так наґаладаемся, што не памагаюць ні курыва, ні вялізныя цяжкія галовы сланечніку з мяккімі, яшчэ зялёнымі семкамі, якіх мы назапашваем з ночы. Хочацца есці. У гэты час рэдзенькая крупчастая кукурузная каша, якую пасля, паеўшы, усе мы дружна бэсцім, — гэтая каша цяпер здаецца нам незвычайным, жаданым прысмакам. Гэткім жа смачным уяўляецца нам і хлеб — чэрствы, калючы, напалам з кукурузнай мукой. Ад сняданку ў нас застаўся невялікі кавалак яго — рэшта нечае пайкі, — ён ляжыць на верхняй снараднай скрынцы, і кожны з нас міжвольна паглядае ў той бок. Першы не вытрымлівае Лук'янаў. Пакінуўшы на хвіліну сваю чарцёжную справу, ён неяк сарамліва дастае яго запэцканымі пальцамі і, не гледзячы ні на кога, пытаецца:

— Хлеба ніхто не хоча?

Коратка зірнуўшы на яго, мы ўсе маўчым. Тады ён аб'яўляе:

— То я з'ем.

І ён грызе гэты кавалак, ледзь не вывіхаючы сківіцы пад тонкаю скурай худых, нездаровых шчок, а мы глытаем слінку і адводзім позіркі ўбок.

Лук'янаў толькі нядаўна вылез з-пад шыняля, бо кожнага дня зранку і пад вечар яго трасе малярыя. Увечары ён трохі ачуньвае, жвавее, і мы даруем салдату яго галодную нястрымнасць, бо ведаем, што ён дужа нагаладаўся ў палоне і дагэтуль не можа наесціся. Хлебны кавалак ён зжоўвае ўвесь да крошкі і пазірае ў неба, на якім журботна дагараюць залацістыя водсветы сонца. На сцяне акопа і на брустверы няма ўжо ніводнага промня, дол увачавідкі засцілае цень, халадае — хутка змярканне.

Усе мы нецярпліва чакаем гэтага часу. Чакае яго Жаўтых, — увечары ён ходзіць да начальства ў пяхоту, дзе ў яго багата знаёмых, яго ўсе тут ведаюць, бо старшы сяржант — ветэран палка. Чакае вечара Папоў, які адразу, як толькі вылезе з акопа, пачынае аходжваць гармату — выцірае запылены за дзень казённік, прыцэл, страсае чахлы і абнаўляе маскіроўку. Лёшка ўвечары, нібы малады мядзведзь, качаецца на зямлі ля агнявой або сноўдае вакол — ён любіць усялякія дробныя прыгоды, а больш за ўсё дбае пра тое, каб выпіць дзе і закусіць. Лук'янаў наядаецца, як толькі прыносяць вячэру, і дзе-небудзь ціхенька садзіцца, думаючы свае, невядомыя нам думы. Я чакаю вечара, бо тады схоўней, зацішней, можна пасядзець на брустверы і паназіраць ноч, у якой усё прытаілася, прыціхла, але скрозь поўна таемных, далёкіх і блізкіх гукаў. У безлічы гэтых гукаў я стараюся ўчуць крокі — ціхія лёгкія крокі на тылавой сцяжыне. Я чакаю іх доўгія пакутныя суткі, чакаю насуперак сваёй волі, сам не рады сабе.

Паволі, вельмі паволі цямнее. Неба пакрысе гасіць свой залацісты раздольны водсвет, з усходу на яго наплывае сінявата-шызая мутнасць. У акопе змрачнее, асабліва хутка ў снараднай нішы і пад палаткаю, якой накрыт дальні канец нашага сховішча. Жаўтых падпяразваецца шырокаю румынскаю папружкай з мноствам дзірачак, не дужа зграбна абцягвае гімнасцёрку і падыходзіць да мяне.

— А ну, дай — зірну!

Я аддаю яму перыскоп, і камандзір, стуліўшы голаў, водзіць туды-сюды тоненькай трубкай.

— Ось маячыць, глядзі ты, думае, не ўбачым, — кажа ён, нешта прыкмеціўшы ў варожым баку. — Спяць, дармаеды, снайперы гэтыя. Вось калі б хлопнуць! Шкада — не з рукі: далёка, — кажа ён, аддае мне перыскоп і, раздзьмуўшы вусы, з натугаю, глухавата камандуе:

— А ну падрыхтавацца за вячэрай! Пойдуць сёння... — на момант ён прыціхае, аглядваючы нас. — Пойдзе Лук'янаў і...

Ён секунду раздумвае, каго прызначыць другім, але побач ускоквае Задарожны.

— Што гэта ты такі хуткі сёння? — здзіўляецца камандзір. Лёшка ладна надзімае свае крутыя аб'ёмістыя грудзі, вялікімі пальцамі спрытна рассоўвае пад дзягай зборкі; каўнер яго гульліва расшпілены на два гузікі і бялее свежай палоскаю марлі.

— Трэба, — усміхаецца Лёшка і падміргвае адным вокам.

— А-а! — здагадваецца Жаўтых. — Вядомая рэч. Ну што ж: справа маладая. Не тое што нам, старыкам...

Чорт бы яго ўзяў, гэтага хвацкага Лёшку, думаю я. Заўсёды ён арыентуецца першы, першы скарыстае момант, які я празяваю. Гэта ж сёння на нашай кухні дзяжурыць Люся, санінструктар, малодшы сяржант медыцынскай службы — тая самая наша Сінявочка, якую чакаю я і якую цяпер першы ўбачыць Лёшка. Адразу робіцца нецікавым увесь гэты вечар, не радуе і хуткая вячэра, мне хочацца толькі маўчаць і пакутаваць сабе ў адзіноце.

— А што ж — законна! — кажа Лёшка сваё любімае слова і прысланяецца плячом да сцяны акопа. Яшчэ трэба трошкі счакаць, бо светлавата.

Урэшце змрок шчыльней захутвае зямлю, зблізку відаць кучы кукурузы і сям-там чорныя плямы варонак, але варожыя пагоркі ўжо стуліліся ў дымчаста-змрочным тумане, і на небе загараюцца адзінокія зоркі.

Мы вылазім на волю. Дзіўна, як хораша тут — прывольна і шырока — і як багата паветра, і я думаю, што зусім мала трэба чалавеку, каб адчуў ён неадмысловую асалоду жыцця, кароценькую, на некалькі хвілін, шчаслівасць, бо, пачакаўшы, шчаслівасць знікае: чалавек занадта ўжо хутка прывыкае да добрага і перастае адчуваць яго.

Пяхота таксама заварушылася — недзе наперадзе чуецца лаянка, нехта прыцішана гукае нейкага Солада, бразгаюць у змроку кацялкі. Задарожны з Лук'янавым выпраўляюцца наўскасяк да палоскі сланечніку.

Хутка будзе вячэра. Я кладуся на закіданым кукурузаю брустверы і гляджу ўгору. У высокім і яшчэ светлаватым небе сям-там гараць маленькія рэдкія зоркі — іх неяк дужа мала, зусім не тое што ўзімку. Я ледзьве знаходжу ўгары коўш Вялікай Мядзведзіцы, па даўнім школьным звычаі праводжу

ад яго роўную лінію і бачу Палярную ў хвасце Малой Мядзведзіцы. Там, далёка на поўначы, збоч адрогаў Карпат, што сіняватай смугою выступаюць на гарызонце ў ясны сонечны дзень, — там ляжыць недзе мой край, мая зняволеная, знявечаная Беларусь. Хутка ўжо споўніцца доўгі і пакутны год, як я пакінуў яе, — пакінуў ледзьве жывы, абвязаны бінтамі, з перабітым сцягном. Самалёт перанёс мяне да жыцця і паратунку, я зноў узяў у рукі зброю, але там недзе засталіся мае землякі, мае старэнькія бацькі, сёстры, засталіся ў лясах партызаны роднага мне атрада «Мсцівец». Я не трапіў да іх назад — вайсковы лёс закінуў мяне на самы левы фланг вялікага фронту, але мая душа там — у далёкае лясное старонцы. У вялікім горы, як той бусел, кружыць яна над яе палямі, пералескамі, вялікімі і малымі шляхамі, над пазелянелымі ад моху стрэхамі нашых нябогаў-вёсак. Не зыходзяць з думак, стаяць уваччу нашыя хлопцы — сціплыя, цярплівыя да ўсіх нягод партызаны з «Мсціўца» — жывыя і тыя, каго ўжо няма на свеце. І ў гэтым невялічкім разліку я заўсёды нашу ў сабе стрыманы, маўклівы гонар, што я — беларус. Я не крыўдую, калі, сказаўшы не так якое рускае слова, чую ад Задарожнага абразлівае «трапка», — хай сабе я не скажу гэтак прыгожа, як ён, але ёсць у мяне свая вартасць, і ён, як бы ні хацеў, не можа абразіць мяне.

Побач на мулкія сцяблы маскіроўкі апускаецца Крывёнак. Ён не кладзецца, як я, а моўчкі сядае і пазірае ў ноч. Мне знізу добра відаць яго насцярожаная, ваўкаватая ў рухах постаць. Галава ў Крывёнка вялікая, лабатая, пілотка на ёй абыякава перакручана ўпоперак. Хлопец ён дробнай касці, але з норавам, маўчун і, як кажа Лёшка, зусім без пачуцця гумару, таму яны прынцыповыя ворагі. Мяне ён таксама не вельмі вабіць сваім характарам, але мы тут маладзейшыя з ім, гэта міжвольна нейкай маўклівай агульнасцю з’ядноўвае нас. Яшчэ мы з ім пэўным чынам дарослыя сіроты. Нашыя сэрцы глухія да хвалюючага слова «пошта», мы не кідаемся, як усе, да салдата, што прыносіць са штаба пісьмы, ніхто нам ніколі не прыслаў і аднаго трохкутнічка. Мае бацькі гэтага не могуць, бо ў акупацыі, у Крывёнка ж даўно іх няма.

Але ўвогуле ён някепскі таварыш, хоць і ўпарты, і гэтая ўпартасць не раз ужо карала яго няшчадна. Некалі здарылася так, што ён, вяртаючыся з санбата, дзе яму залечвалі рассечаны твар, спаткаў на дарозе разведчыкаў з двума немцамі.

Немцы гэтыя былі «языкі», за імі некалькі начэй запар поўзалі хлопцы ў тыл к ворагу і цяпер з радасцю ад труднай удачы вялі іх у штаб. Але дзе Крывёнку было разбірацца ў тым, калі яшчэ балела шчака і помста распірала яго нутро. І ён не стрываў. Не паспелі канваіры здзівіцца, як іхнія «языкі» ўжо ляжалі на дарозе пабітыя. Ашалелыя хлопцы замест немцаў прывялі ў штаб Крывёнка, пад вокам якога расплываўся вялізны сіняк.

У штабе яго бязлітасна вылаялі разведчыкі, штабныя камандзіры, палітработнікі і ўрэшце для канчатковай расправы прывялі да камандзіра дывізіі. Той, таксама не шкадуючы, збэсціў дурня салдата, які сапсаваў гэткую важную справу. Крывёнак не сказаў ніводнага слова ў сваё апраўданне, увесь час маўчаў, і палкоўніку напэўна здалося, што ён каецца. Таму, накрычаўшы, камандзір запытаў:

— Ну, ты зразумеў? Зробіш для сябе вывады?

Крывёнак, насупіўшы пакалечаны твар, маўчаў.

— Ты зразумеў, што нарабіў? Адказвай, я ў цябе пытаюся!

— Трапяцца — усё роўна пазабіваю, — зацята паабяцаў баец.

Гэты адказ і вырашыў яго лёс. Неўзабаве Крывёнак быў ужо ў штрафной роце, дзе яму, аднак, пашанцавала: ён выжыў тры доўгія месяцы і нават не быў паранены. Пасля на шматлікіх дарогах вайны ён адшукаў сваю часць і аднойчы, нікім не чаканы, з’явіўся ў батарэю. Як напамінак аб няўдалым мінулым, ён прывалок з сабою трафейны кулямёт — нейкую няўклюдную чорную тарахцёлку, і Жаўтых, разважыўшы, залічыў яго ў кулямётчыкі, вядома, па сумяшчальнасці з абавязкамі гарматнага нумара.

— Слухай, Крывёнак, — пытаюся я ў хлопца, — адкуль ты родам?

— А ніадкуль.

— Як гэта?

— А так. Радзіўся пад Смаленскам. Пасля, як маці памерла, дзе толькі не бадзяўся. Усе дзетдомы абышоў.

— Дрэнна ўсё ж так... без роднага кутка.

— На чорта мне куток. Табе многа карысці з яго?

— Многа, — кажу я, падумаўшы. — Ты не ведаеш гэтага.

— А мне пляваць. Гадаў біць усюды няблага, — буркае Крывёнак. Голас у яго раздражнены, абрывісты, без усякае адзнакі сцішанай чалавечай лагоднасці.

— Чаго гэта ты нервовы такі? — пытаюся я, стараючыся як-небудзь тонам ці словам не раззлаваць таварыша. Але Крывёнак лаецца.

— Ты б не быў нервовы. Распісалі б табе так морду — нябось занерваваў бы.

— Ну, твар — не рукі, не ногі. Людзі з усякімі тварамі жывуць.

— Жывуць! — Хлопец ёрзае на зямлі і адхінаецца ўбок на локаць. — Ведаю, як жывуць. Кожнаму, хто размаўляе, адвярнуцца хочацца.

— Гэта ты дарэмна. Дзяўчат жа ў нас няма. Чаго саромецца?

— Каб жа не было...

«Каб жа не было». Ага! Вядома, гэта ён мае на ўвазе Люсю. Гэта праўда, яна заўсёды мяняецца, суравее і змрачнее з твару, калі сустракаецца позіркам з Крывёнкам, хоць і паводзіць сябе з ім, як і з іншымі. Ды і Крывёнак, здаецца, стараецца быць далей ад яе, ніколі не загаворыць, не павітаецца... І тут раптам мяне азарае здагадка, ад якой ажно халаднее на сэрцы. Няўжо? Але пэўна ж так. І Крывёнак, нібы ў пацвярджэнне маёй думкі, кажа:

— Надвячоркам задрамаў — Люся прыснілася. І быццам да ранення гэта. Твар мой — як у людзей. Ажно прачынацца цяжка было...

Ну вось! Так яно і ёсць. І яму яна не дае спакою ў жыцці, і ён, напэўна, гэтак жа, як і я, пакутуе з-за яе. Дык вось чаму ён стаў нервовы, грубы да ўсіх, асабліва калі прыходзіць яна.

Стаіўшы дыханне, я чакаю, што яшчэ скажа ён, але Крывёнак маўчыць. І я таксама маўчу, бо што я магу сказаць яму? Сказаць, што і мне яна снілася двойчы, што і я вось цяпер ляжу і думаю, ці прыйдзе, — так хочацца бачыць яе, чуць яе голас, чым-небудзь дагадзіць ёй. Незвычайная, незразумелая і ніколі не адчуваная пяшчота да гэтай дзяўчыны перапаўняе маё нутро.

Эх, Люся, Люся! Калі я прыйшоў у полк, яна яшчэ была ў гэтай батарэі санітарным інструктарам. Нямала я бачыў дзяўчат-санінструктараў і ў іншых часцях, — яны неяк з гонарам ставіліся да нашага брата, болей гарнуліся да афіцэраў, але гэта і адштурхоўвала нас ад іх. Люся ж была надзіва таварыская, простая і ў той жа час вельмі прыгожая дзяўчына. Невялічкая, жвавая, з выгляду зусім яшчэ дзяўчо гадоў на

шаснаццаць, яна не спакушалася афіцэрскім сяброўствам і паводзіла сябе так, нібы і не ведала, якая яна слаўная.

У нас яна мела такую да сябе прыхільнасць усіх — і байцоў, і камандзіраў, і маладых, і старых, — што ўсе мы ледзь не навыперадкі хацелі зрабіць ёй штосьці прыемнае, як-небудзь аблегчыць яе нялёгкае франтавое жыццё.

Праўда, яна не з тых, што ахвотна прымалі заляцанні і спагаду іншых, — яна сама рабіла нам нямала турбот сваімі клопатамі пра наша здароўе, быт, гігіену. Мусіць, таму, а мо з якой іншай прычыны, начальства і вырашыла, што лепей будзе, калі забраць яе ў палкавую санчасць.

Яе перавялі ад нас, але на яе месца нікога не далі. І гэтая дзяўчына ўсё не забываецца на сваю батарэю, амаль кожную ноч наведвае нашы агнявыя, і, здаецца, палавіна з нас употай закахалася ў яе. А яна нібы нічога з таго і не бачыць, па-ранейшаму вясёлая, клапатлівая, аднолькавая да ўсіх, па-ранейшаму дбае пра наша акопнае жыццё. І ўсё ж часта здаецца мне, што гэта не так сабе, што нехта з нас таемна прываражыў да сябе яе сэрца, інакш не прысохла б яна так да нашай батарэі.

Вось такая яна, гэта дзяўчына, наша Сінявочка, як завуць яе ў палку.

Мы маўчым і цярпліва чакаем, услухоўваючыся ў кожны гук з тылу. Гукаў наўкола многа, акопныя людзі ўночы павылазілі з зямлі, толькі тых, якіх мы чакаем, не чуваць.

— Так, ну што ж, — адказвае Крывёнак на нейкія свае думкі. — Позна ўжо.

І здаецца мне, што гэта ён пра яе, што і ён чакае, і ў мяне ўжо ные-баліць нутро, бо думаецца: Люся не прыйдзе.

## 4

Але яна ўсё ж прыходзіць.

Прыходзіць, калі мы ўжо не чакаем яе і моўчкі, паныла сядзім на брустверы. Побач, на агнявой, нешта лязгае затворам Папоў; Жаўтых стаіць на пляцоўцы паміж станін і па-старэчы глуха пакашлівае.

Мы чакаем толькі нашых хлопцаў з вячэрай і здалёк яшчэ чуем у змроку іх крокі. Поўныя іх кацялкі цяпер не бразгаюць, хлопцы мякка ступаюць гумавымі абцасамі сваіх «кірзачоў», але да нас даносіцца іхняя гаворка, і мы ўслухоўваемся. Неш-

та невыразна буркае адзін голас, — напэўна, Лук'янаў, потым адзываецца другі, гучнейшы, — гэта, відаць, Задарожны, і раптам чуецца тоненькі шчыры дзявочы смех. Крывёнак міжвольна ўздрыгвае, устаўляецца ў цемру засяроджаным пільным поглядам і не кратаецца.

— Вячэра ідзе, — як заўжды глухавата, але з прыкметнай бадзёрасцю ў голасе аб'яўляе Жаўтых. — А ну давай цягні палатку! Ну, што сядзіш? Не чуеш? — буркае ён на Крывёнка і дастае з кішэні вялікі ў драўляным тронку ножык. Гэтым нажом старшы сяржант, як бацька ў вялікай сям'і, заўсёды кроіць у нас хлеб, распячатвае кансервы і б'е цукар.

Пакуль Крывёнак вытрэсвае заплямленую і запыленую за дзень палатку, яны падыходзяць утраіх. Задарожны весела зубаскаліць нешта, яўна адрасаванае Люсі, і яна тоненька, сцішана смяецца.

— Палундра! — жартоўна гукае ён, змрочным ценем падышоўшы да агнявой. — Лыжкі к бою, гвардзейцы!

— Добры вечар вам, — кажа да нас такі незвычайны тут, нейкі мілагучны і любасны голас дзяўчыны. Мы ўсе рознагалоса вітаемся:

— Здрасце!

— Добры вечар!

— Законна! Вечар на «пяць»! — развязна аб'яўляе Задарожны. Ён ставіць на дол кацялкі з крупнікам і чаем, Лук'янаў вымае з-пад пахі бохан і кладзе яго на разасланую Крывёнкам палатку. Але мы ўжо забыліся, што згаладалі, — мы не ведаем, як нам сустракаць, як трымаць сябе перад гэтаю ўвесь дзень чаканаю госцяй. Добра, аднак, што яна не чакае нашага запрашэння — яна тут з намі як дома, — адразу падступае да Жаўтыха, апускаецца на калені і расшпільвае сваю таўшчэзную медыцынскую сумку.

— Вось мазь, — аб'яўляе яна камандзіру. — У нас не было, дык прасіла аднаго — прывёз з медсанбата. Мазаць тры разы на дзень. І вось бінт, новенькі, для перавязкі.

— Ну, дзякуй. Але колькі я ўжо іх перамазаў...

Жаўтых рады ад яе клопату, задаволена сапе і пхае ў кішэню мазь. У яго на назе экзема, якая нямала турбуе камандзіра ў спякотныя дні і якую Люся настойліва лечыць вось ужо каторы тыдзень.

— То былі так сабе. А гэта не такая. Гэта новая, — запэўнівае яго Люся. — Толькі не палянуйцеся мазаць тры разы ў

дзень... Яшчэ забылася: медкамісія будзе ў чацвер. Так што, можа, яшчэ які водпуск атрымаеце.

— Ого! — не вытрымлівае Лёшка. — От гэта да! На Кубань! Да Дар'і Амяльянаўны. Здорава.

— Ну, ты!.. Рана яшчэ ржаць! Пабачымо, — кажа Жаўтых і бярэцца за хлеб. Да Люсі нясмела, бы да начальства, падыходзіць Папоў.

— Таварыш Люся. Многа, многа прасіл хачу, — кажа ён і змаўкае.

— Ну што, Папоў, кажы.

— Жона многа, многа пісьмо не слал. Чаму не слал — не знай Папоў. Нада штаб дакумент пішы. Папер пячатка стаў.

— Пасланць запытанне? — здагадваецца Люся.

— Во-во: запытанне...

— Добра. Я папрашу заўтра ў штабе. А скажы мне свой адрас.

Папоў чухае патыліцу і ўздыхае.

— Якуція. Раён Оймякон...

— Гэта ён баіцца, што жонка к шаману перабегла... Пакуль ён тут кукурузу есць, — зазначае Лёшка. Люся крыўдліва папракае яго:

— Ну што вы, Задарожны? Заўсёды з жартамі. Ці нельга сур'езней?

— Жона нету хадзі шаман. Шаман нету Якуція, — сур'ёзна кажа Папоў, робячы націск у слове «Якуція» на «і».

— Не слухай ты яго, Папоў. Я зраблю заўтра, — проста абяцае Люся, збіраючы сваю сумку.

— Ну, давай бліжэй ды павячэрай з намі, — запрашае камандзір Люсю. Тая, аднак, ускоквае з долу.

— Не, не. Вы ешце. Я ўжо...

Яна зашпільвае на баку сумку, і мне раптам становіцца вельмі крыўдна ад таго, што яна вось-вось пойдзе і застанецца адно толькі мае думкі і маё доўгае чаканне новага няскорага вечара. Яна спяшаецца і на хаду заканчвае справы.

— А як у вас з акрыхінам, Лук'янаў, вы ўсё хварэеце? Акрыхін папілі?

— Яшчэ на два прыёмы максімальна, — сцішана, але з нейкаю годнасцю адказвае Лук'янаў.

— Гэта мала. Наце вам яшчэ трохі. Толькі прымаць рэгулярна. А то некаторыя выплёўваюць...

— Ого! З такіх ручак выплёўваць! — прытворна здзіўляецца Лёшка. — Ось мяне ніякая халера не бярэ! А то б з тваіх,

Сінявочка, ручак па кілаграму гэтай атруты з’ядаў. Далібог! Каб я здох! Толькі па адной штучцы з пальчыка.

— Ох і весялун вы, Задарожны! Насмешнік! — смяецца Люся.

Жаўтых тым часам раскладвае на палатцы шэсць роўных салдацкіх паек і, бачачы, што мы марудзім разбіраць іх, прывычна гыркае:

— Ну, чаго чакаеце? Калача? А ну хапай мне жыва!

Не, нам няёмка паказаць перад гэтай дзяўчынай нашу галодную нястрыманасць, мы марудзім яшчэ, адзін толькі Задарожны, так, нібы нікога тут чужога няма, усаджваецца на зямлю, па-турэцку падкурчыўшы ногі. Вялізнаю пяцярнёй ён лапае акраец і адразу адкусвае ад яго ладны кавалак.

— Нечага драмаць — крупнік прастыў. Налягай, гвардзія! Сінявочка, калі ласка, да мяне, будзем на пару, так сказаць, есці і так далей, — з лёгкасцю слабадскога дзецюка звяртаецца ён да дзяўчыны. Люся спрабуе яго абысці.

— Не. Вы ешце, а мне яшчэ ў другі разлік, да Скварышава трэба.

— Без цябе? Ні ў жысць, — ускоквае і загароджвае ёй шлях Лёшка. Ён наглавата разводзіць свае разлапістыя рукі і затрымлівае дзяўчыну. — Только зняць пробу. Ну хоць адну лыжачку...

Люсі, відаць, зусім не хочацца есці, але паспрабуй адчапіся ад гэтага Лёшкі. Крывёнак нерухома сядзіць на брустверы і, мне здаецца ў змроку, толькі кусае вусны, гледзячы, як распінаецца Лёшка. Мне таксама чамусьці вельмі ніякавата ад гэтага і вельмі хочацца, каб яна не паслухала Лёшку і пайшла. Па-ранейшаму сумна расставацца з ёю, але гэтая прыліпчывасць Задарожнага становіцца зусім ужо нясцерпнай. І ўсё ж яна не ідзе, а ён далікатна і настойліва бярэ дзяўчыну за яе вузенькія плечы і падводзіць да свайго месца каля палаткі. Мне здаецца, што Люся адштурхне яго нахабныя заграбастыя рукі, я ўжо хачу крыкнуць: «Адчапіся, прытвора!», ды Люся раптам паслухмяна і лёгка сядае з ім поруч, Лёшка рад, ён дамогся свайго і, змяніўшы лісліва-салодкі голас на грубы, гукае ў наш бок:

— Гэй, Крывёнак! Не ясі — дай лыжку!

— Ідзі да д’ябла, — буркае Крывёнак і выцягваецца ў доле, а я ў нейкім бяздумным імкненні дастаю з-за халявы лыжку і даю Люсі. Толькі Люсі яна не дастаецца — Задарожны

вырывае яе з маіх рук, а сваю з нахабнаватай услужлівасцю перадае дзяўчыне.

— Ну, я толькі паспытаць, — смеючыся, але, здаецца, задаволена кажа Люся. — Калі вы ўжо такія гасцінныя...

— Мы? Ого! Мы і самога румынскага караля кукурузай накармілі б. Пальчыкі б аблізаў! — самаўпэўнена хваліцца Задарожны. Люся дробненька смяецца і зачэрпвае крупніку. Нейкі час усе маўчаць, бразгаючы ў кацялках, пасля Жаўтых аб'яўляе:

— А крупнік быццам і нішто: есці можна... Ну, што там чуваць у вашых медыцынскіх тылах? — пытаецца ён у дзяўчыны. — Ці хутка нам, дармаедам, у наступленне? А то ўсю малдаўскую кукурузу паямо.

— Ерунда! Куды спяшацца?! Ад кукурузы гэта не залежыць, — кажа Задарожны. Але Жаўтых не любіць, калі яму хто пярэчыць.

— От шмат ты разумееш. Не залежыць! А ну скажы, Лук'янаў, ці залежыць наступленне ад харчу?

— Безумоўна, залежыць, — ціха зазначае Лук'янаў. — Харч — эканамічны фактар, састаўны элемент усіх дзеючых на вайне сіл...

Люся слухае гутарку, з'ядае з Лёшкавага кацялка некалькі лыжак крупніку, але кідае позірк убок і бачыць нас двух на брустверы.

— Што ж гэта: я ем, а хлопцы сядзяць галодныя...

— Ерунда, жывы будуць. Госцю першае месца. Законна!

— Мы не хочам, — бадзёра пацвярджаю я. Крывёнак усё маўчыць, і Люся грозіць мне пальцам.

— Ой, ведаю: змовіліся! І вы, Лазняк, хлусіць сталі — не спадзявалася.

— Ну што вы? — кажу я нейкім не сваім, блазняцкім голасам. — Мы так...

Люся, аднак, ужо ўглядаецца ў панылую постаць Крывёнка.

— А што ж гэта мой рыцар надзьмуўся сёння? Ці, можа, пісьма не дачакаецца? Са шпіталю? — смяецца Люся. Хлопец ёрзае на брустверы і груба кідае:

— А табе якая справа?

— Ну не сярдуй, Паўлік, я ж пажартавала. Ты харошы! — сур'ёзнее Люся.

Крывёнак нешта чмыхае і, пэўна, каб як пераадолець сваю няёмкасць ад дзявочай увагі, пачынае закурваць. Курыць у такі час і гэтак адкрыта нельга, але хлопец, мусіць, забываецца пра гэта і яркім агеньчыкам раздзімае сваю цыгарку.

— А ну асцярожней там! — строга гукае да яго Жаўтых. — Што раскачагарыў!

— Будзем есці, — кажу я Крывёнку. Той не адказвае, маўчыць, і я не настойваю, бо разумею, што робіцца ў яго душы. Але і мне не лягчэй.

«Ось табе і радасць! — думаю я. — Ось і дачакаўся і цяпер вось трывай».

З новым пачуццём болю і прыкрасці я пазіраю на цьмяную постаць Люсі, ледзь не з нянавісцю — на Задарожнага і не магу даўмецца, як гэта яна не бачыць яго прысалоджанай нагласці, не заўважае яго грубаватага жарту, адносіцца да яго так, быццам ён тут найлепшы сярод нас, і мне нават здаецца, што ёй добра так сядзець з ім і есці суп.

— Ну вось так! Павячэралі — дай бог паснедаць, — кажа Жаўтых, выціраючы вусы, і бярэцца за другі кацялок. — Будзем піць чаёк і закурым...

Але папіць чаю яму не ўдаецца. Не спраўляецца ён падняць кацялок, як угары нечакана і таму незразумела спачатку, візгліва ўзвывае:

— Пі-у-у... Пі-у-у... Пі-у-у-у-у-у!!!

— Тр-рах! Тр-рах! Тр-рах! — ірве ў цемры навокал нас. Гарачыя хвалі ўдараюць у спіны, у твары, абдаюць дробнай зямлёй. Блізкае полымя на момант вырывае з цемры спалоханыя, знямелыя постаці, асляпляе. І зноў угары вые: «Пі-у-у... Пі-у-у!!! Тр-ра-ах!»

— Лажысь! — пагрозліва крычыць Жаўтых. — У акоп!!!

Прыгнуўшыся, хлопцы ўскокваюць, я перавальваюся цераз бруствер і падаю з усімі ў чорную цемру акопа. Нехта навальваецца на мяне, балюча выцяўшы абцасам у спіну. Зямля пад намі рвецца, уздрыгвае раз, другі, трэці: па галавах, скурчаных спінах лапочуць груды, і нечакана зноў усё сціхае.

— Сабакі! — кажа ў напружанай цішы Жаўтых. Штурхаючыся ў цемры, ён пачынае ўставаць. — Засеклі ці наўгад?..

За камандзірам варушацца іншыя, здаецца, усе цэлыя.

— А божачка! І напалохалася ж, — раптам зусім блізка ля мяне адзываецца Люся, і я ўздрыгваю — яе цёплае пругкае і трошкі дрыготкае цела толькі што прыціскалася да маёй

спіны. З незразумелай няёмкасцю я паварочваюся, абсыпаю спінай зямлю ў акопе і даю дзяўчыне месца.

Мы ўсе ўстаём у акопе і ўслед за Жаўтыхом пачынаем вылазіць на паверхню, а ля палаткі, быццам нічога і не здарылася, сядзіць Лёшка і даядае суп з кацялка.

— Ну і хуткія ж на пад'ем! — напаўжартоўна і здзекліва кажа ён. — Трах-бах, і ўжо ў траншэі. Ваякі!

Яму ніхто не адказвае, Жаўтых стаіць, услухоўваючыся ў трывожную ціш. Наперадзе, над пагоркамі, узлятае ў неба першая сёння ракета; губляючы агняныя кроплі, яна разгараецца, міргае па кукурузных кучах далёкім мільготкім агнём і гасне.

— А ты не дужа таго! — кажа Жаўтых. — Глядзі, каб калі бокам не вылезла. Дажартуешся.

— Хе! Ерунда! Дзвюм смярцям не бываць — адной не мінаваць. Што мне, падумаеш!..

Хлопцы зноў прысядаюць каля палаткі, недаверліва азіраючыся на чорныя пагоркі, а Люся, пэўна, яшчэ не перажыўшы свайго страху, стаіць на выхадзе з акопа.

— Ой, няўжо вы не баіцеся? — роўным голасам пытаецца яна ў Задарожнага.

— А чаго? І не падумаў.

— Смелы! Зайздрошчу смелым, — кажа яна і ўздыхае. — А я ўсё не прывыкну. Колькі нацярпелася, і ўсё боязна. Трусіха такая...

І тады я бачу Крывёнка. Нікім не заўважаны, ён зацята і маўкліва сядзіць на ранейшым месцы ля бруствера. Трошкі апанураны ад свае нястрыманасці перад дзяўчынай, я бяру з палаткі акраец. Крупніку ўжо няма: перакулены наш кацялок валяецца на зямлі.

Задарожны тым часам са смакам даядае, устае на ўвесь свой немалы рост, пацягваецца, адчуваючы застаялую сілу ў маладым дужым целе, і зноў гаворыць да Люсі:

— Смялей, дзяўчынка! З намі не прападзеш! Хадзем, правяду цябе да другога разліку.

— Не, дзякуй — я сама, — адказвае Люся і выходзіць з агнявой. — Дзе гэта мая сумка? Не памятаю, дзе і кінула.

— Ось тут. У мяне, — нейкім прыдушаным голасам упершыню адзываецца Крывёнак. Лёшка выхоплівае ў яго сумку і аддае Люсі. Яна надзявае яе цераз плячо і абыходзіць агнявую, каб выйсці на сцяжынку ў другі батальён. Поруч ідзе Задарожны.

— Дзякуй за вячэру, хлопчыкі. Да пабачэння.
— Аўфідэрзэй! — па-блазнерску кідае нам Задарожны.
— Прыходзь калі, — кажа Жаўтых Люсі. — Не забывай нас.
— Дзівакі! Як жа вас забыць? Вы ж мае родненькія, — даносіцца зводдаль ласкавы голас, і ў мяне сціскаецца сэрца. Крывёнак пераварочваецца на жывот, і з грудзей яго вырываецца цяжкі, як стогн, уздых.

5

Мабыць, апоўначы ўсходзіць месяц. Ён неяк неўпрыцям выпаўзае з-за небасхілу і, залазячы ўсё вышэй, пачынае свой нетаропкі рух па ўскрайку святлявага чэрвеньскага неба. Неба ўжо так і не цямнее да ранку, яно скрозь свеціцца нейкім невыразным унутраным святлом, прыглушаным да мутнай сінявы на ўсходзе і з зеленаватым адценнем на захадзе. Цёплы паўднёвы ветрык нясе з сабою невыразныя шолахі, таемныя, нібы чалавечыя, уздыхі, рэшткі далёкага гулу — недзе не то грукацяць танкі, не то тужацца на пад'ёме машыны. Далёка, напэўна, па той бок Прута, узлятаюць угору тоненькія зеленаватыя пункцірыкі трасіруючай чаргі. Дасягнуўшы нейкага месца ў небе, яны адзін за адным гаснуць, нібы хаваюцца за якую нябачную хмарку.

Прыслухоўваючыся да наваколля, мы сядзім укупе ля запарушанай пяском палаткі, на якой ужо не засталося і крошкі ежы. Жаўтых, адкінуўшыся на бок, курыць са жмені, побач сядзіць Папоў; Лук'янаў непадалёк мые рэшткаю чаю нашы запэцканыя кацялкі (сёння яго чарга); Лёшка, вярнуўшыся з недалёкіх праводзін, соладка качаецца ў доле, сапе і стогне ад лішкаў маладое сілы і нейкага душэўнага задавальнення. Адзін толькі Крывёнак не падыходзіць да ўсіх і моўчкі сядзіць наводшыбе.

— Любата на вайне, га? — пытаецца Жаўтых з сытай задаволенасцю ў голасе. — Любата! Цяпер у нас, на Кубані, ой як горача! Ад зары да зары, бывала, у стэпе. Праца да сёмага поту, а тут ляжы... Спі... Паеў і — на бакавую. Так і ад вайны адвыкнеш. Праўда, Лазняк? Ты колькі ў шпіталі праваляўся?
— Дзевяць месяцаў без трох дзён.
— Добра, відаць, цябе цюкнула? У нагу?
— У бядро, — кажу я.

— Та-а-ак, — няпэўна выдыхае Жаўтых і, разважыўшы, дадае: — А наогул прападзі яна пропадам, гэта вайна. У японскую ў мяне дзеда забіла. У тую германскую — бацьку. Японцы над тым Халкіным голам...

— Правільна: Халхін-Голам, — тут жа папраўляе Лёшка.

— Ну, пад Халхін-Голам... Дык гэта брата Сцёпку пакалечылі. Прыйшоў без рукі, з адным вокам. Цяпер — я. Праўда, тут ужо нічога не скажаш. Тут трэба. Але ўсё думаецца: няўжо і маім дзецям без бацькі расці?

Пэўна, штось цікавае ўдумаўшы, ускоквае з долу Лёшка.

— Слухай! Вось ты кажаш: вайна, вайна. А ты падумай, хто ты да вайны быў? Ну хто? Радавы калгаснік! Быкам хвасты закручваў! Кізякі голымі нагамі мясіў! Законна?

— Ну і што? — насцярожваецца Жаўтых.

— А то. Быў ты нікудыка. А цяпер? Паглядзі, кім цябе вайна зрабіла? Старшы сяржант. Камандзір гарматы. Кавалер ордэна Айчыннай вайны, трох медалёў «За адвагу». Член партыі...

— От сказаў! — з'едліва здзіўляецца Жаўтых. — Кавалер! Ці ведаеш ты, што ў майго бацькі крыжоў болей было, чым у мяне медалёў. І што? Думаеш, што змянілася? А то кавалер! — кажа Жаўтых і злосна ёрзае ў доле.

— Ерунда! — аб'яўляе Лёшка, зноў разлёгшыся на траве. — Мая праўда!

— Праўда! Я б усе медалі аддаў, толькі б дзяцей зберагчы. Вунь — не скончыцца вайна да новага года — старшы мой, Дзмітрый, пойдзе. Дапрызыўнік. Васемнаццаць год хлопцу. Возьмуць, трапіць у пяхоту, і што, думаеш? Маладое, дурное — у першым-другім баі і пакладзе галаву. Не жыўшы, не ведаўшы. А то медалі! Добра табе, халасцяку, ні кала, ні двара, сам сабе галава. А тут — чацвёра ў доме, і малыя!

Лёшка маўчыць, камандзір уздыхае, лагодны яго настрой псуецца.

— Толькі тое і радасці, як падумаеш, што гэтая вайна — ужо апошняя. Даваюем, і баста. Ужо другой такой не будзе. Не павінна быць. Сам я гатовы на ўсё. Але каб апошні раз. Каб дзецям не давялося.

— А што, хай паваююць, — не то ўсур'ёз, не то жартам — яго не зразумееш — пярэчыць Задарожны. — Разумнейшыя будуць. Вайна — таксама быццам акадэмія.

— Акадэмія! Эх ты! Сам вось скончы гэтую акадэмію, а пасля кажы.

— Ерунда! Ваююць жа хлопцы. І дзеўкі нават. Вунь Люська, напрыклад. Чым яна горшая?

— Ну і што ж? Думаеш, правільна гэта? Ці лёгка ёй, дзяўчыне, сярод гэткіх вот, як ты... бугаёў?

— А што?

— А нічога! Праўда, Люся — дзяўчына харошая, — кажа Жаўтых. — Даваяваць, ды даў бы ёй бог шчасця. Яна варта...

Мы ўсе маўкліва згаджаемся (хто ж з нас скажа што супраць Люсі), Жаўтых зацягваецца — ружовым агеньчыкам узгараецца і гасне зацiснутая ў яго кулаку папяроса.

— На добрай зямлі вырасла. У добры час. Што вы думаеце: ад зямлі ўсё. І чалавек. Якая зямля — такі чалавек. Нямеччына — паганая зямля. На ёй, пэўна, адны мухаморы ды порхаўкі розныя растуць. І фашысты яшчэ. Зямля, зноў жа жыццё. Калі жыццё ў маленстве ператрэ добра — будзе чалавек. Залашчыць — прапаў чалавек.

— Ну, гэта ты загінаеш, — кажа з долу Лёшка. — Ерунда гэта! Пры чым тут зямля, мухаморы... Гэта яна табе дагаджае, Люська, дык ты ўжо так за яе.

— Дагаджае! — злуецца Жаўтых. — Эх ты, галава яловая. Дагаджае! Не ведаеш ты яе. А я ведаю. Адкуль у яе гэта возьмецца? У яе гэтага і ў крыві не было. Бацька яе вунь які герой быў! Арол! Рэвалюцыю ў нас, на Кубані, рабіў. Васемнаццаць ран меў. Рана памёр. А яна ў чужых людзей гадавалася. Думаеш, соладка было? Думаеш, так гэта — ветрам надула. Таму і такая... справядлівая.

Але Задарожны ўсё не згаджаецца.

— Цябе тады перад генералам апраўдала, дык ужо і справядлівая.

— А што ж — і апраўдала. Уратавала. Калі б не яна — расстралялі б заніштo. Дурная справа — не хітрая. Шпокнулі б, і ўсё. Хіба няма дурняў і сярод генералаў? А так вось жыву.

Я ведаю — хлопцы расказвалі ўжо пра гэты не дужа даўні выпадак.

На пераправе цераз Буг атрымалася няўстойка. Немцы атакавалі, наша пяхота і артылерыя, што не паспела яшчэ закапацца на плацдарме, рынулася назад. І тут адкуль ні вазьміся — нейкі крыклівы генерал. Ён спыніў на беразе наш разлік і загадаў Жаўтыху разварнуць гармату і біць па ўсіх — па сваіх і немцах, што беглі на гэты бераг. Хлопцы развярнулі гармату, але Жаўтых скамандаваць «агонь» не

наважыўся, ды і ў астатніх не падняліся рукі гармату зарадзіць для такой справы. Стаяць яны, а пераправа аж гудзе ад народу. Затор утварыўся. Тады на «вілісе» зноў падлятае той генерал, здзірае са старшага сяржанта пагоны, аўтаматчыкі хапаюць яго і валакуць пад абрыў.

Хлопцы ўсе знямелі, не ведалі, што і думаць. Камбат Перабежчыкаў збялеў і схаваўся недзе за перакулены аўтамабіль. Начальнік артылерыі падвярнуўся паблізу, але калі згледзеў генеральскую папаху, адразу падаўся кудысь далей ад гэтага ліха. Здавалася, Жаўтыхова жыццё ўжо скончана самым паганым чынам.

І тады да разлютаванага генерала кінулася Люся. Яна дагнала ягоны «віліс», спыніла яго на пераправе — хлопцам з гэтага берага не чутно было, што адно аднаму крычалі яны, толькі раптам з «віліса» выскоквае ад’ютант, бяжыць да абрыву, Люся — за ім, і там яны з-пад самых аўтаматаў вывалакваюць Жаўтыха.

— От! Не памог ні камбат, ні якія геройскія хлопцы. А дзяўчына ўратавала. Ось што значыць зямлячка, — з гонарам кажа Жаўтых.

Месяц паціхеньку сунецца ў небе; на ўтаптаным доле варушацца нашы кароткія цені; пахне травой, раскапанай зямлёй, роснаю свежасцю дыхае сонны абшар.

— Такое не забудзецца, такое доўга помніцца будзе. Да магілы, — разважна прадаўжае Жаўтых. — Ну, але і мы аднойчы яе выручылі. Тут, мабыць, не ўсе ведаюць. Каторыя маладзейшыя — не былі. Не чулі. Хто ўжо адтуль застаўся? — азіраючы нас, пытаецца камандзір. — Папоў, раз, ну, Крывёнак. Астатнія навічкі.

Неяк надвячоркам на фланг нас перакінулі, — зацягнуўшыся, кажа Жаўтых і затоптвае абцасам цыгарку. — Сталі ў вішанніку, я якраз пераабувацца сеў. Хлопцы акоп капаюць. Гразь — на кожным боце паўпуда. Аж прыбягае салдацік — так і так. У хутары немцы раненых акружылі. Дваццаць чалавек там і адна дзеўка. Адбіваюцца, памажыце. А хутар — вунь ён: кіламетр з гакам. Чуем, страляніна ідзе. Але дзе яна не ідзе — скрозь грыміць. Не дакапалі мы акоп, кінулі лапаткі, я з салдатамі — аўтаматы ў рукі і туды. А Папоў зарадзіў і давай паліць. Адзін, а ладна так, браце, паліў — беглі і радаваліся.

— Снарад туды страляй, снарад сюды страляй. Хата не чапай, — задаволена ўсміхаецца ў змроку Папоў.

— Ага, ладна прылаўчыўся. З гадзіну мы караскаліся на той бугор, а Папоў не пускаў немцаў. Са сцен той мазанкі ўсю гліну пазбіваў, але сваіх не зачапіў. Падбеглі, ударылі збоку, немцаў турнулі і — у хату. А там пехацінцы, сапёры і, глядзім, — Люся, параненая ў нагу. Павыцягвалі ўсіх, пасля як хто з-пад агню выбіраліся. Люсю Крывёнак выносіў. Абшчапіла яна яго за шыю, так ён і валок дзеўку цераз усё поле. А з мінамёта немец лупіў — думаў я, прападуць абое. Але абышлося. Толькі я з тыдзень баяўся — а ну, думаю, камбат снарады праверыць. Засталося з дзесятак. Папоў і бранябойныя расстраляў. Добра, што танкі тады нас мілавалі... Было!..

— Было, законна! — пацвярджае Лёшка і бесцырымонна ўрываецца ў наш сцішаны, па-начному раздумны настрой. — Вось у мяне такое было! У шпіталі. Як родная стала. Нават больш. От гісторыя...

І ён у жывапісных выразах пачынае нам маляваць «гісторыю», што здарылася з ім у Палтаве, дзе стрэлася яму такая «ягадка-сястрычка», і як даставала яна абмундзіроўку, і як ён, пераапрануўшыся, выходзіў да яе за агароджу, і пра ўсё, што было далей. Мы моўчкі слухаем. Яно і цікава, гэтыя Лёшкавы прыгоды, і трохі аддае ад іх нейкаю агідай, калі хочацца не паверыць, перабіць, сказаць: «Няпраўда! Хлусіш!» Але ніхто нічога не кажа яму, усе з прытоенай цікавасцю слухаюць да канца.

Калі ён змаўкае, Жаўтых прыўстае на каленях і ўглядаецца ў чорныя пагоркі.

— Вы не заўважаеце: штось дужа ціха ў фрыцаў? — кажа ён. — І ракет не кідаюць. Можа, мяняюцца, ці што?..

Але хто ведае, што там робіцца ў немцаў? Толькі, сапраўды, тое, што яны сёння не свецяць ракетамі, трошкі трывожыць нас сваёй незразумеласцю і загадкавасцю. Праўда, пакуль усё ціха, і не хочацца думаць пра што благое.

Зводдаль ад пехацінскай траншэі, здаецца, нехта ідзе. У начным месячным змроку відаць, што гэта чалавек, але хто — разгледзець яшчэ нельга. Толькі падходзіць ён усё бліжэй і кіруе да нас. Здаецца, там двое, і ідуць яны не па сцежцы, дзе ходзяць усе, а наўпрасткі па прасцягу. Яшчэ праз нейкі час мы бачым дваіх у касках і чуем знаёмы голас, ад якога адразу змаўкае Лёшка і ўсе губляюць цікавасць да яго баек.

— Ну што, артылерысты? — гучыць з цемры надломлены барытон нашага камандзіра батальёна, капітана Троцкага. — Дружна спіце?

— Ніяк не, таварыш капітан, — кажа Жаўтых і спаважна ўзнімаецца насустрач. Мы сядзім, дзе сядзелі, толькі паварочваемся да камбата і насцярожваемся, бо ведаем, што так сабе капітан не прыходзіць. І сапраўды, Троцкі набліжаецца да пляцоўкі агнявой і строга, з затоенай да часу пагрозаю пытаецца ў Жаўтыха:

— Чаму вартавога няма?

— Дык мы ж усе тут. Ніхто не спіць, таварыш капітан, — тлумачыць наш камандзір. Але яго тлумачэнне і асабліва зварот «таварыш капітан» гучыць як апраўданне.

— Ага, усе тут! А хто назірае за праціўнікам?

— Дык вось усе назіраем...

— Гм!..

Ён ідзе далей уздоўж акопа, моўчкі мінае нас; з ім побач тупае прыціхлы Жаўтых і ззаду валачэцца сувязны з аўтаматам упоперак грудзей. Ля гарматы Троцкі спыняецца, нешта думае і пытаецца ў Жаўтыха:

— Колькі вы тут сядзіце, на гэтай агнявой?

Жаўтых пераступае з нагі на нагу і разважна ўдакладняе:

— На гэтай агнявой? На гэтай мы, таварыш капітан, так з дзесятага ці дванаццатага — чатыры дні, значыць...

— І за чатыры дні, старшы сяржант, вы не маглі выкапаць укрыцце для гарматы?

— Дык загаду не было. Думалі, можа, яшчэ куды пераставяць. Увесь час жа перастаўляюць, перасоўваюць.

— Перасоўваюць! — з’едліва кажа капітан. — Яны думалі! Вы што, першы дзень на вайне?

Жаўтых маўчыць, а Троцкі ва ўпор падступае да яго.

— Вы мне менш думайце. Вы салдаты. Хай генералы думаюць, — са стрыманай злосцю кідае Троцкі. — Вы мне заўтра знішчыце кулямёт, вунь той буйнакаліберны, — тыцкае ён пальцам у цемру. — Дзесяць снарадаў вам на тое і дзесяць хвілін часу.

— Адсюль? — пытаецца Жаўтых.

— Адсюль. Адкуль жа яшчэ?

— Адсюль нельга, таварыш капітан, — пярэчыць камандзір гарматы. — Тут нас накрыюць.

— Магчыма, — згаджаецца капітан, і ад таго, якім тонам сказана гэта, агідны халадок западае ў нашыя грудзі. Адзін за адным мы ўстаём і падступаем да камбата. — Калі вы не акапаецеся як мае быць, могуць і накрыць.

— Як тут акапаешся, калі для бліндажа ніводнае палкі! — злуецца і Жаўтых. — Усё на соплях.

— Гэта вашая справа, — абыякава адказвае капітан. — Шукайце.

— Не, так няможна, — кажа Жаўтых, падумаўшы. — І разлік і гармата прападуць. А што, з закрытай пазіцыі нельга? Вунь гаўбічнікі, дармаеды, ні разу за цэлы тыдзень не стрэлілі... Ось ім і задаць бы гэтую задачу...

Мы ўсе маўчым, бо разумеем, што ад нас патрабуецца, уяўляем сабе, што можа быць заўтра, і ўнутры само па сабе вырастае жаданне, каб Жаўтых як аднекаўся, пераклаў гэтую задачу на каго іншага. Але Троцкі не такі, відаць, камандзір, каб даць угаварыць сябе, адмовіцца ад уласнага намеру, мы ўжо ведаем яго, гэтага прыдзіру, самага строгага з усіх трох у палку камбатаў.

— Вы зразумелі задачу? — холадна пытаецца ён у Жаўтыха.

Але і наш камандзір таксама з характарам і, калі яго раззлаваць, можа паказаць сваю ўпартасць хоць каму хочаш.

— Што задача? — пераходзіць ён у наступ на камбата. — Трэ было раней яе ставіць, ён вунь тры дні лупіць адтуль. А гэтак і кулямёт не разаб'еш, і гармату загубіш. Тут жа пад самым носам. Трэба падрыхтавацца.

— Рыхтуйцеся!

— Ага, рыхтуйцеся! Трэба агнявую змяніць, акапацца як след, гэта не жарты. За ноч не зробіш...

— Вось што! — абразае яго капітан ужо іншым, катэгарычным тонам. — Мы не на кірмашы, таварыш старшы сяржант. Падрыхтавацца і ў тры ноль-ноль далажыць аб гатоўнасці.

Камбат паварочваецца і роўна скіроўвае некуды ў змрок, за ім, як цень, валачэцца маўклівы сувязны, а Жаўтых моўчкі стаіць на месцы і няўцямна глядзіць ім услед. Побач гэтак жа моўчкі топчамся мы. Першы не вытрымлівае Задарожны, са спазнелаю злосцю ён плюе ў траву.

— Чорт бы іх там пабраў, камандзіраў гэтых. Ім лацвей — у бліндажыках сядзець, а тут паспрабуй стрэльні! Ён табе задасць такога, што за дзень трупы не адкапаеш...

— Галоўная небяспека — мінамёты, — уздыхае Лук’янаў. — На водараздзеле іх карэкціровачны пункт.

Жаўтых нейкі час маўчыць, услухоўваецца ў цемру, напружана стараецца нешта зразумець і ні на кога не зважае, быццам не чуе, што кажуць хлопцы. Пасля, вылаяўшыся, лезе ў акоп, паўхвіліны поркаецца ў цемры і вылазіць з палявою сумкай на баку і аўтаматам на грудзях.

— Я хутка, — кажа Жаўтых. — Папоў, застаешся за мяне. Крывёнак, шагам марш!

Салдат, падумаўшы, нетаропка ўстае, вешае аўтамат і ідзе за камандзірам.

— Да начарта пайшоў, — кажа Лёшка. — Можа, абыдзецца.

Начальнік артылерыі — даўні Жаўтыхоў знаёмы, ён паважае гэтага камандзіра гарматы і зважае на яго прэтэнзіі. Але хто ведае, ці ўдасца цяпер Жаўтыху перайначыць загад камбата?

Хлопцы, здаецца, таксама занепакоіліся, прыціхлі і сядаюць на брустверы бліжэй адзін да аднаго — як заўжды перад няпэўнасцю або небяспекай. Цяпер неяк і Лёшка Задарожны пачынае здавацца мне звычайным, някепскім хлопцам, ураз адступае ў даўнюю далеч усё дрэннае ад яго, што паўгадзіны назад атручвала маё жыццё. Падсвядома мы адчуваем, што галоўнае ў нашым лёсе — тое нашае заўтра, сілы для якога мы можам узяць толькі ў сабе і спадзявацца толькі адзін на аднаго.

— Яму-то што! — рэзка кажа Задарожны. — Яму абы загадаць. А мы тут свае галовы паложым. Па-дурному!..

— Нашто так гаворыш — па-дурному?! — адгукаецца з цемры Папоў. Ён калі пры Жаўтыху не скажа за дзень і аднаго слова, а застаўшыся за камандзіра, вельмі ўжо чулы да кожнага слова і да кожнага ўчынку. — Мы прыдадзены пяхоце... Мы далжон страляць!

— Ерунда! Прыдадзены не прыдадзены, а будзеш выконваць усё, што ім уздумаецца, — дык і тыдня галавы не праносіш. А да Берліна яшчэ вунь колькі!

— Чаму не праносіш? У галаве розум ёсць — праносіш. Няма розум — не праносіш! — пераконана зазначае Папоў.

Лук’янаў хутаецца ў шынель і раз-пораз уздыхае. Цяпер, без камандзіра, ён крыху жывее і далікатна, стараючыся нікога не перабіць, кажа:

— Звычайны канфлікт: камандзір пасылае — баец баіцца, здаецца, што загад несправядлівы. Псіхалагічная непадрыхтаванасць да ахвяравання. Адсюль і ўсе непаразуменні.

Задарожнага, аднак, не пераконваюць ніякія довады, ён крыху маўчыць, ловячы не зусім выразны ход думак Лук'янава, і затым са злосцю пярэчыць:

— Ну ўжо ерунда! Калі загад правільны, дык я нутром яго разумею. А калі не, дык ты мне нічым не дакажаш. Як ні круці.

— Навошта даказваць? — паціскае плячыма Лук'янаў. — Загады не даказваюцца. Тут важна не чыё алібі, а патрэбен вынік.

— Ох, які ты разумны! — прадаўжае злаваць Задарожны. — Вынік! Ты б сказаў гэта Троцкаму. Мо ён цябе камандзірам паставіў бы.

Лук'янаў змоўчвае крыху, пэўна, прыкідваючы, ці варта адказваць на грубасць, а затым спакойна заўважае:

— Што з вамі спрачацца не па сутнасці!

— Падумаеш, знайшоўся мне «па сутнасці». Разумнік такі! Думаеш, я дурней за цябе? Так думаеш? Ось дудкі! Я, брат, хоць інстытутаў не канчаў, але і ў палон не здаваўся. Немцам рукі не паднімаў, не тое, што ты!

Мы ўсе прыціхаем, з прыкрасцю адчуўшы, што спрэчка пераступіла мяжу добразычлівасці і што будзе сварка. Але Лук'янаў сядзіць як сядзеў — у нерухомасці, уражаны грубасцю Лёшкі, які, мяркуючы, што яго перамога, змаўкае да часу. Такое абыякава стрываць нельга.

— Сволач ты, Задарожны, — коратка і як мага спакайней кажу я.

Лёшка зараз жа паварочваецца да мяне.

— Чаго гэта я сволач? Што я няправільна сказаў? Што? Самі вы сволачы!

І тады на яго, як заўжды запальчыва і з акцэнтам, накідваецца Папоў.

— Нашто так гавары? Нядобра гаворы, Лошка (ён заўжды так называе Задарожнага, не вымаўляючы як трэба яго імя), — Лук'янаў правылна казаў, ты нядобра казаў. Ты нядобры таварыш.

Задарожны сапе і лаецца:

— Пайшлі вы ўсе да д'ябла: нядобра, нядобра! Што я, ізвіняцца павінен? Ось паглядзім, што заўтра будзе — добра ці нядобра.

— Дурны Лошка! Нядобры Лошка! Эх ты! —ківае галавой Папоў. Задарожны ўскоквае з бруствера, адыходзіць убок і раззлавана сядае зводдаль — панылы і злосны. Мы маўчым, тоячы прыкрасць на яго, — не хапала аднаго клопату, дык вось яшчэ гэтая сварка. І ў часе гэтай маўклівасці з-за варожых пагоркаў даносіцца глухі, быццам падземны, грукат, нібы дзе далёка заводзяць танк, — ён прагрукоча і сціхае, потым, пасля нядоўгага часу, пачынае зноў. Хлопцы міжвольна ўслухоўваюцца, стараючыся разгадаць сэнс гэтага загадкавага гулу.

— Лазняк! — гукае мне Папоў. — Вартавым трэба. Трэба слухай. Добра слухай. Сёння не харошы Гітлер.

6

Уздзеўшы на плячо аўтамат, я хаджу па агнявой і ўглядаюся ў святлявае паўзмрочнае наваколле. Месяц лезе ўсё вышэй, ён някепска свеціць сваім трошкі прыплюснутым з аднаго боку вокам; дробненька трымцяць угары так і не пагусцелыя зоркі. Невялікі клопат, калі побач не спяць, хадзіць вартавым і слухаць, дзе што робіцца, ды яшчэ ў такую месячную ноч, калі навокал відаць на добрых сто метраў. Але неўзабаве цяжар новага абавязку пачынае сціскаць мае пачуцці, і мне вельмі карціць прысесці цяпер разам з усімі на яшчэ цёплы звечара бруствер і маўчаць. Толькі страціўшы гэтае права, я пачынаю адчуваць, якое жаданае яно, як гэта добра — вольна ляжаць на траве і глядзець у неба, на зоркі, і, адагнаўшы прэч благія прадчуванні, думаць пра іншае, былое жыццё, пра маю далёкую радзіму, на якую гэтак жа мільготка пазіраюць з начное бездані тыя ж самыя зоркі...

Цяпер ужо пэўна, што заўтра чакае нас нялёгкая справа. Хлопцы трошкі аблянелі за гэты ціхі спакойны тыдзень, адвыклі ад франтавых нягод і цяпер устрывожыліся. Трошкі боязна і мне, трошкі трывожна, яно і зразумела — так добра, калі ціха наўкола, не трэба ўвесь час напружвацца і пакутна чакаць самае горшае з усяго, што можа напаткаць на вайне. Толькі мне прагнуць спакою нельга.

З даўніх часоў жыве ва мне несціханы трывожны боль, ён перасільвае маю звычайную чалавечую палахлівасць, жалобай і лютасцю пячэ маё сэрца. Я не ведаю, што гэта — злосць ці нянавісць або няздзейсненая прага помсты, толькі

адчуваю, што ў жыцці мне спакою не будзе, пакуль не сціхне той гарачы боль у грудзях. І я ўжо не маю ахвоты шукаць дзе лягчэйшага — мушу ісці насустрач труднаму і трываць усё да канца.

Пачалося ўсё тое ў клёклы восеньскі ранак на роднай, далёкай адсюль зямлі, ля невялікай віцебскай вёсачкі, якая мела няшчасце асесці па-над тою жахлівай прыфрантавою дарогай...

Дарога была звычайная, якія тысячы на зямлі: і не дужа роўная, і не дужа гладкая, але яна вяла на станцыю, якую чамусьці ў тую восень упадабалі для сваіх бандыцкіх спраў немцы. На станцыі яны выгружаліся з вагонаў, платформаў, наладжвалі свае грузавікі, транспарцёры, браневікі і валакліся к фронту. Ішлі нудныя восеньскія дажджы, і варожыя колы прарэзалі на той дарожцы дзве доўгія і глыбокія, па калені, каляіны...

Гэтымі каляінамі мы, шасцёра атрадных разведчыкаў, у глухі змрок вераснёўскае ночы прыйшлі ў вёску.

Што тут нам трэба было, аб тым ведаў наш камандзір Колька Буйневіч, які і прывёў нас да патрэбнае хаты. Пакуль ён там рабіў сваю справу, мы стаялі на варце за хляўком і на гародчыку пад мокрай рабінай. Немцаў у вёсцы, здаецца, не было, вялікая калона іх надвячоркам прайшла па дарозе. Было ветрана, сцюдзёна, восеньская золь пранізвала да касцей. Вёска спала. І ўсё ж знайшліся паганыя людзі, высачылі, данеслі. Мы ж заўважылі кепскае трохі позна.

Якраз пачало світаць. Адстрэльваючыся, мы беглі па агародах, затым па дарозе, паўзлі па тых глыбокіх, як раны, каляінах. Даганяла нас з паўсотні паліцаяў і немцаў. Многія з іх палеглі на вуліцах тае вёскі. Але перапала і нам. Застаўся ў каляіне Вася Шумскі, цяжка параніла Колю Буйневіча, усадзілі кулю ў сцягно і мне. Хлопцы вывалаклі нас на пагорак і прытаіліся пад вялізным валуном збоч ад дарогі. Думалі, ён будзе нашым помнікам. Але ворагі чамусь не пабеглі за намі, а, пастраляўшы, вярнуліся ў вёску.

Патронаў у нас было мала, і ісці далей не было як. Наўкола ляжаў шырокі адкрыты прасцяг, да лесу было далёка. І мы ляжалі пад каменем, чакаючы, што будзе далей.

І дачакаліся горшага, чым калі б загінулі ўсе.

Апоўдні немцы і паліцыі пачалі выганяць жыхароў вёскі на гэтую дарогу. Выганялі ўсіх — дарослых і малых, жанчын

і дзяцей. На ўскраіне ўсіх строілі ў дзве доўгія, нібы чэргі, калоны. Затым пачалі класці ў каляіны. Над дарогай усчаўся лямант, забухалі стрэлы. Людзі нехаця, адчуваючы нешта страшнае, клаліся ў гразь і ваду.

На тым канцы вёскі пад'язджалі і спыняліся машыны, бронетраспарцёры і ўсюдыходы.

Праз гадзіну пачалося жахлівае.

Калона машын рушыла па дарозе. Па тых самых каляінах, дзе ляжалі людзі...

Гэтага забыць нельга. Мы то настаўлялі, то зноў хавалі свае аўтаматы — было далекавата, ды і што мы маглі зрабіць з нашай паўсотняй патронаў? Мы толькі глядзелі. Побач паміраў Колька Буйневіч, сцякала крывёю дрэнна перавязаная мая нага. Сыпаў дробненькі дождж...

Затым гарэла вёска. Раўлі не выгнаныя на пашу каровы, кудахталі куры, вішчалі свінні. У полі наўкол пажарышча бегалі ашалелыя авечкі, трашчалі аўтаматныя стрэлы.

Увечары хлопцы перанеслі нас цераз поле і дабраліся да лесу. Буйневіча там закапалі.

...З таго дня пачаліся мае пакуты. Я думаў, здурнею ад болю і бездапаможнасці, бяссільнае ярасці, што туманіла маю свядомасць. Зубамі я шматаў ноччу ватоўку ў лагерным шпіталі, удзень сварыўся з доктарам Фрумкіным, які хацеў мне адрэзаць нагу. Я тады стаў лаяцца, нізавошта крыўдзіў сястру і таварышаў. Я хацеў сілы, дужасці, каб устаць і ўзяць аўтамат, але сілы было вельмі мала, а нястрываны боль у назе прымушаў выць. Тады я рашыў памерці, і як найхутчэй. Я не еў, выплёўваў лякарствы, не даваў рабіць уколы. Доктар, напэўна, спалохаўся за маю нагу, а яшчэ болей — за розум і адправіў мяне на аэрадром.

У ціхім тылавым шпіталі мне стала лепш. Нагу не аднялі, я супакоіўся, хоць часам хацелася завыць, як у тым лесе. Але дактары былі чужыя, незнаёмыя людзі, ці яны маглі зразумець недарэчныя мае пакуты? Патроху гаілася нага, і я займеў надзею вярнуцца на фронт. Я зрабіўся самым старанным хворым, рабіў усё, што мне раіла медыцына, прымаў усе лекі, нават вітаміны, расходжваў нагу, рэгулярна займаўся лячэбнай гімнастыкай, якой цураліся параненыя. Я ж мусіў яе любіць: мне трэба было вярнуць сабе сілу, трапіць на фронт і сквітацца з ворагам. Быццам дражнячы мае пачуцці, у шпітальнай палаце вісеў плакат з надпісам: «Воін Савецкай

Арміі, адпомсці!» Пасля ўсяго, што я перажыў, плакат мне не дадаваў ярасці, я і без яго прагнуў схваткі і не сумняваўся, што, калі толькі дарвуся да жывых немцаў, аб маім подзвігу даведаецца свет.

Сталася трошкі інакш. Калі я трапіў на фронт, войскі спыніліся ў абароне, жыццё на перадавой было сумнае і аднастайнае, але я не траціў надзеі. Я набраўся трывання, зацяў у сабе мой боль і цярпліва чакаў, верачы, што мой час прыйдзе.

І вось цяпер гэтае заўтра!.. Невядома, якое будзе яно, але вельмі хочацца спатоліць свой боль. Хлопцы трошкі турбуюцца, трошкі непакояцца, мне ж завельмі турбавацца аб сабе не выпадае — такую раскошу не дазваляе мой лёс.

Але вось, здаецца, зноў нехта ідзе ад перадавой, — невыразны цень шмыгае ў адным месцы сцежкі, потым у другім. Спакваля становіцца бачнай постаць чалавека — яна хуценька, пэўна, подбегам, шыбуе да нас.

— Стой! Хто ідзе? — прывычна, з франтавою прыціхласцю пытаюся я, калі чалавек набліжаецца, і чакаю.

— Свае, свае, хлопчыкі! — чуецца з месячнага паўзмроку, і ад гэтага водгуку ў мяне ранейшым пакутна-радасным болем заходзіцца сэрца. Я папраўляю дзягу, спражка якой разам з дыскам спаўзла набок, набіраю паветра ў грудзі, крышачку на правае вуха, як у Лёшкі, хілю пілотку, і мае думкі скіроўваюцца ўжо іншым, весялейшым шляхам.

Лёгкай дзявочай хадой, як начная бясшумная птушка, яна неўзабаве падыходзіць да агнявой, мінае акоп. Хлопцы ўраз губляюць задумлівую нерухомасць. Лёшка ўскоквае з долу і імклівай хадой кідаецца насустрач.

— Люсёк! Ужо ўправілася? Малайчына! А мы тут чакалі-чакалі ды ўсе чаканкі паелі, — радаснай балбатнёй сустракае ён дзяўчыну. — Ідзі да мяне. Пасядзім трошкі, памарым пра тое-гэта.

— Не, хлопчыкі, пайду. Няма калі. Добрай вам ночы, — кажа яна, і нешта ў мяне нема і настойліва прагне: застанься, пабудзь. Невядома, чаму мне так хочацца, бо пячэ мяне і другое адчуванне — што не будзе мне ад гэтага радасці, але ўсё роўна я вельмі хачу, каб яна засталася.

— І тое няблага, я праведу цябе! — кажа Лёшка і спрытна падсоўвае пад дзяўчынін локаць сваю руку. Але Люся гэтак жа спрытна адводзіць локаць убок і смяецца. — Калі не супроць, вядома, і так далей. Не супроць жа? Ну, скажы праўду.

— Не супроць, — смяецца Люся. — Толькі без рук. Мы ж не мартышкі, праўда?

— Праўда! Хай без рук, — усмешыста згаджаецца Лёшка, але ўсё ж ціхенька бярэ яе за плечы, і яны па сцяжыне ідуць у тыл. Тады з бруствера ўскоквае Папоў.

— Хто дазваляў? Таварыш Задарожны! Чаму без дазвол?

— Ерунда, чаго там! Пяць хвілін! — чуецца зводдаль, і Папоў, пэўна, не ведаючы, што зрабіць, нерухома застаецца на брустверы. Лёшка змаўкае, пасля ўдалечы за кукурузнымі кучамі чуецца ціхенькі радасны смех Люсі.

І ад гэтага смеху вострая зайздрасць пранізвае мяне. Я разумею, што Задарожны нядобры салдат, што нельга гэтак, як ён, не слухаць камандзіраў, хоць бы і часовых, такіх, як Папоў, але пачынае здавацца, што гэтая яго характэрная непаслухмянасць робіць хлопца дужэйшым, больш сталым і смелым, чым я — дысцыплінаваны малады франтавік. Я разумею недарэчнасць майго жадання, але ўсё ж мне горыччу робіцца гэтая мая рупнасць і хочацца Лёшавай непаслухмянасці, яго самастойнасці, яго, можа, і не заўжды разумнай, рашучасці. Я згадваю ў ім нейкую ўладарную сілу перад жанчынамі, і думаецца цяпер, што ўсё тое, у шпіталі, аб чым расказваў Лёшка, так і было на справе. І яшчэ здаецца мне, што ён паволі і ўсё болей падабаецца Люсі, і падабаецца менавіта тым, чаго не хапае мне або Крывёнку, — грубаватаю мужчынскаю мажнасцю, самавітасцю, упэўненасцю ў сабе і, вядома, сваёй мужчынскаю дужасцю. І я зайздрошчу яму. Я хачу як мага пасталець, набыць усё тое, што ён ужо мае, як найхутчэй пражыць дваццаты свой год. Невялікія мае гады здаюцца мне зусім яшчэ хлапечым узростам — мне трэба сталасці, самавітасці, фізічнае дужасці, і ў гэтым сэнсе Задарожны раптам вырастае ў пакутны, чымсьці непрыязны, але і жаданы мой ідэал.

Я ведаю Лёшкава жыццё (ён ніколі нічога не тоіць ад іншых), ведаю, што ён быў футбаліст, грубаваты, фанабэрлівы і не дужа таварыскі хлопец. Здаецца, ён залішне самаўпэўнены; гэта, вядома, ад таго, што яму заўжды шанцавала ў жыцці, можа, і не вельмі, але ва ўсякім разе больш, чым мне ці Крывёнку. Ліха звычайна мінала яго — мінала, калі ён яшчэ да вайны жыў у Новарасійску і рана пачаў бадзяцца па прыстанях, кірмашах і розным гарадскім завуголлі. Аднойчы, як ён расказваў нам, кампанія гэткіх жа, як і ён,

свавольнікаў з цэментнага завода злавіла аднаго флоцкага, з якімі яны заўсёды вялі вайну, і добра дала яму ягонаю ж шырокаю дзягай з бляхаю. Біў яго і Лёшка, але калі, нейкі час счакаўшы, флоцкія дзеля помсты «зацапалі» іх у парку, дык дастаў ножыка ў бок ягоны сябар. Лёшка ж выйшаў з гэтага здарэння сухі.

Шанцавала яму і пасля, у вайну. Трапіўшы пад Варонежам на фронт, ён, аднак, не дайшоў да перадавой, а нейкім выпадкам апынуўся ў ахове якогась генерала ў штабе. Генерал, відаць, не быў страявым камандзірам і не дужа любіў раз'язджаць па перадавой, таму Задарожнаму разам з пяцёркаю іншых, што ўваходзілі ў яго світу — два ардынарцы, шафёр, кухар і цырульнік, — заставалася толькі дбаць пра бытавыя зручнасці і бяспеку начальніка. Гэтае шанцаванне прадаўжалася аж да таго нешчаслівага ранку, калі генеральская машына выпадкам наляцела на супрацьтанкавую міну, пакінутую немцамі на ўзбочыне тылавой дарогі. Адных пахавалі, адправілі ў шпіталь генерала, а аглушаны Лёшка, пасланяўшыся са два тыдні ў санбаце, трапіў урэшце ў стралковы полк. Тут ён дзеля важнасці аб'явіў сябе танкістам, але паколькі танкаў у палку не было, яго паслалі ў процітанкавую батарэю, бо, каб цягаць гарматы, патрэбна была сіла, а Задарожны, здаецца, трохі накапіў яе на генеральскіх харчах. Спачатку ён трошкі фанабэрыўся, не дужа слухаўся Жаўтыха, зусім не прызнаваў Папова, усё любіў успамінаць, як «мы з генералам ехалі...» або «мы з генералам разважылі». Але мала-памалу абламаўся, пацішэў, тым болей што Жаўтых не вельмі зважаў на ягоныя «з генералам» подзвігі.

Маўклівая і трывожная ноч плыве над затоенай, прыціхлай зямлёй. Час ужо, мусіць, пераступае за поўнач, коўш Вялікай Мядзведзіцы пераварочваецца на хвост, вялізным сваім чарпаком задзіраецца ўгору, месяц узабраўся ў самую высь і свеціць на поўнае вока. Пад кукурузнымі кучамі туляцца кароткія і зусім чорныя глухія цені. Часам здаецца — нехта шмыгае там ад кучы да кучы, позірк сам сабою напружваецца, але я ведаю: колькі ні ўглядайся — нічога не ўбачыш — гэта здаецца. На перадавой ціха, нават вельмі ціха, немцы маўчаць. Чорныя гарбатыя пагоркі, нібы хрыбціна распластанага на зямлі волата, ледзьве шарэюць на гарызонце. Маторны гул неўпрыцям неяк заціхае ці, можа, аддаляецца куды; у начную цішу ўрываюцца далёкія і блізкія выпадковыя гукі — недзе

ззаду ў вёсцы трывожна ржэ конь, у траншэі наперадзе лязгае нешта, пэўна, перазараджаюць кулямёт, зводдаль угары гудзе і сціхае самалёт, — мабыць, начны разведчык. Папоў ідзе ў акоп і грукае там, — мусіць, нешта шукае. Лук'янаў маўчыць з таго часу, як яму нагрубіў Лёшка, і нерухома сядзіць на чорным брустверы.

Я памалу хаджу ля агнявой і думаю пра Люсю. Вось яна пайшла з Лёшкам, ёй, відаць, добра і весела з ім (інакш не смяялася б яна так гарэзна і шчасліва), і той яе смех, скіраваны другому, вострай пілой рэжа маю душу. Але я ведаю, што Люся — вельмі, вельмі харошая дзяўчына. Апроч таго, што яна мілая і прыгожая, яна яшчэ невыказна ласкавая да ўсіх — і да знаёмых і незнаёмых, маладых і старых, — і гэтая яе ласкавая спагадлівасць, ад якой так даўно ўжо адвыклі нашы загрубелыя душы, п'яніць мяне болей, чым самае моцнае малдаўскае віно. І яшчэ яе ласкавасць ды іскрыстыя смяшынкі ў зіхатлівых вачах неяк даюць мнё спадзёўку, што не вельмі ўжо благі і я, замковы Лазняк, што яна — сябар усіх, у тым ліку і мой, і для асаблівай і абсалютнай шчырасці між намі не хапае толькі чагосьці наспелага ўжо, гатовага, але яшчэ не сказанага. І, здаецца мне, варта толькі знайсці яго, азначыць патрэбным словам, і мы ўдваіх ашчаслівімся навек вялікім шчасцем...

Але Крывёнак!.. Хіба не тое ж носіць у сабе і ён? Не, відаць, ён адчувае яе неабходнасць куды мацней, ён куды болей пакутуе, ён наогул крыху здурнеў з-за яе, гэтай чароўнай дзяўчыны. Я думаю, што калі ўжо ён не стаіў у сабе гэтага пачуцця да яе, дык яно ўжо мацней за яго самога, тое яго пачуццё. Я ж вось яшчэ трываю. Пэўна, я нізавошта не скажу нікому пра мае недарэчныя турботы, хоць і вельмі хочацца прызнацца ва ўсім, — думаецца, што за тым прызнаннем пачнецца штосьці незвычайнае. Але для гэтага ў мяне не хапае рашучасці. І яшчэ, цвяроза падумаўшы, я разумею, што ўсё ж мала ў мяне таго, што б прыйшлося да душы гэтай дзяўчыне. От калі б я быў хоць такі, як Лёшка!

Так я разважаю, думаю і пакутую ў цішы, як раптам грукатлівая чарга дзесь у першай траншэі абуджае ноч. Стрункі пучок трасіруючых бліскавак разгоніста мільгае над «нейтралкаю» ля падбітага танка, некалькі куль з рыкашэту адскокваюць ад зямлі і бліскавіцамі разлятаюцца ў бакі. Над перадавой узмывае ўгору ракета, даносіцца кароткі яе пошчак-стрэл, і пад імклівым святлом вынікае з цемры светлая

плямка долу. Мне не відаць адгэтуль, што там заўважылі пехацінцы, але іх кулямёты пачынаюць мільгаць трасёрамі, да іх далучаюцца траскотныя аўтаматы, рэдка і важка бахаюць вінтоўкі.

Я падыходжу да Лук'янава, сюды ж выскоквае з акопа Папоў, ён насцярожаны, але, здаецца, спакойны. Над перадавой зноў загараюцца дзве ракеты. Трасёры веерам снуюць над нейтральнай паласой, скрыжоўваюцца і разлятаюцца ў бакі. Немцы маўчаць, не адказваюць ніводным стрэлам, і гэта яшчэ больш незразумела і дзіўна.

— Трэба ідзі ў акоп. Не трэба сядзі тут, — кажа Папоў, і мы з Лук'янавым неахвотна падпарадкуемся яму. У акопе я спыняюся на прыступках, Папоў становіцца за гармату, мы слухаем, глядзім і чакаем.

— Можа, прыкрываюць разведку, — кажа Лук'янаў. Яго голас трошкі дрыжыць, нібы ад холаду, але ноч цёплая і ціхая.

— Каб свая разведка, не пускалі б ракеты, — пярэчу я.

Папоў маўчыць, а пасля ідзе па пляцоўцы ў кут, дзе ляжаць нашы снарады, вымае з-пад скрынак ніжнюю і кладзе бліжэй да станін. Я ведаю, гэта ён нарыхтаваў карцеч, значыць, праніклівы наводчык разумее, што ўсё там, на перадку, — не так сабе.

Але перапалох на перадавой праз нейкі час аціхае, даносіцца адтуль нечы голас, мусіць, якая каманда, і сціхаюць апошнія стрэлы. Ракеты яшчэ ўзлятаюць раз-пораз, і іх далёкае зыркае святло блукае па шэрым прасцягу перакапанага поля.

— Паганы сволач! — лаецца Папоў. — Гітлер у разведку хадзіл.

Мы ўтрох збіраемся на пляцоўцы каля гарматы. Лук'янаў сядае ніжэй, на станіну, а мы з Паповым усё ўглядаемся ў ноч.

Тут нас і застае Жаўтых з Крывёнкам.

## 7

Наш камандзір прыбягае на агнявую задыханы, здаецца, раззлаваны, і з першых яго слоў мы адчуваем, што сталася нешта кепскае. Яшчэ не дабегшы да гарматы, ён незадаволена і сіпавата гукае:

— Ну што?! Дзе рыдлёўкі? Лазняк — ты? Давай сюды ўсе рыдлёўкі — капаць будзем. Жыва! Нечага рот разяўляць! Чулі ось? Ну дык жыва!

Мы яшчэ дрэнна разумеем яго, а ён ужо хапае з прыступкаў першую рыдлёўку, якой надвячоркам Лёшка дражніў снайпера, і збоч ад гарматы пачынае раскопваць зямлю.

— Лук'янаў! — гукае Жаўтых. — Мерай адсюль восем крокаў і пачынай. Дзе Задарожны?

— Задарожнага няма, — кажа Папоў. — Задарожны без дазвол пашол з Лусай.

— Куды пайшоў? Дармаед! Ну, хай прыйдзе! Свавольнік! Валацуга! — злуецца камандзір і сапе, раскопваючы бруствер. — Лазняк! — зноў гукае ён мяне. — Прыбяры кукурузу. Убок яе.

— А што, усё ж страляць будзем? — з затоенай трывогай пытаецца Лук'янаў. Жаўтых здзіўляецца:

— А то як жа? Чулі, што робіцца? Немец праходы размініруе. Зразумеў?

Лук'янаў няўцямна выпростваецца з рыдлёўкай, паварочваецца да гарматы Папоў — здзіўленыя, мы глядзім на нашага камандзіра і чакаем тлумачэнняў.

— Ну, што раты разявілі?! — крыкліва злуецца Жаўтых і перастае капаць. — Не зразумелі? Заўтра зразумееце. Чулі — гуло?

— Чулі, — кажу я.

— Ну от! Дарма не гудзе — запомніце! — кідае Жаўтых і зноў з ярасцю налягае на бруствер, у якім трэба пракапаць шырокую траншэю — сховішча для нашай гарматы.

На нейкі час мы заміраем ад нечаканасці і прадчування ліха, што ўсё бліжэй падступае да нас. Зноў трывожны клопат агартае душы — але пакутаваць няма калі. Папоў першы пераадольвае здранцвенне і моўчкі бярэцца за рыдлёўку. Пачынаем капаць і мы.

Яшчэ праз колькі часу ўсе мы дружна налягаем на рыдлёўкі, ва ўсе бакі выкідваем з яміны зямлю, — часу да ранку засталося не дужа многа, а выкапаць трэба багата. Нядаўняе наша нежаданне рабіць — ужо забыта, мы цяпер разумеем, што заўтра хопіць гора ўсім — і пяхоце, і гаўбічнікам, і нам і што дзяліцца тут няма чым.

— Значыцца, так! — цяжка сапучы і адкашліваючыся, кажа наш камандзір. Ён убівае ў зямлю рыдлёўку, знімае сумку, распяразваецца і адкідвае ўсё гэта далей, да гарматы. — Значыць, так. Заўтра перш-наперш на золку разбіваем кулямёт. У што б там ні стала! Камандзір палка сам загадаў. Так што трэба пастарацца.

Жаўтых плюе ў далоні і зноў дыхавічна бярэцца за працу. Побач з ім капае Лук'янаў. Ён ашчадна, бы зямля — якая дарагая рэч, калупае рыдлёўкай, падбірае з долу і паціху выносіць на бруствер. Пасля некалькіх выкінутых рыдлёвак спыняецца і адпачывае з хвіліну. Гэткі працоўны тэмп Лук'янава калісьці раздражняў нас, Задарожны нават сварыўся з ім, але пасля мы прыгледзеліся і зразумелі, што гэты слабасільны, тонкі, надламаны палонам чалавек інакш і не можа. Цяпер мы прывыклі да яго і не звяртаем на тое ўвагі. Папоў, як і заўжды, робіць у нас самую тонкую справу — раўняе скос у доле, па якім заўтра прыйдзецца закочваць гармату ў сховішча. Ён робіць гэта старанна і ўвішна, — усё калупаецца і калупаецца, сагнуўшыся ў чорным доле. Крывёнак кідае зямлю рыўкамі: то вельмі часта, з тупою ярасцю, то замаруджвае тэмп, часам спыняецца, быццам задумваецца аб чымсьці, і ўсё азіраецца туды, назад, у наш тыл. Я ведаю, каго ён чакае, і здагадваюся, што непакоіць яго, але рашаю сам сабе маўчаць, адно толькі капаць, капаць да пякоткіх мазалёў на далонях. Але вось Крывёнак выпростваецца і паварочваецца да мяне:

— Чуеш? Даўно была?

— З гадзіну назад, мусіць.

— Доўга? Гутарылі?

— Ніколечкі. Адразу пайшла, і ён за ёй.

Крывёнак змаўкае і самотна паглядвае на сцежку. Нашу размову, напэўна, чуе Лук'янаў. Асцярожна ўпраўляючыся з рыдлёўкай, ён кажа:

— Распусцілі яго. Чалавека такога жывёльнага інтэлекту трэба выхоўваць. А ў нас ён на поўнай самастойнасці.

— Ага, выхаваеш яго! — глуха і зморана адзываецца Жаўтых. — Ён выхавацелям усе пальцы адгрызе. Глядзі, дакуль няма! Ну, хай прыйдзе, дармаед, футбаліст гэты. Ён у мяне папомніць!

Ад рыдлёўкі разгінаецца Папоў і кажа з заўсягдашняй сваёй разважнасцю:

— Лошка смелы. Лошка дужы — добра! Лошка хітры, Лошка ўпарты — нядобра. Марал чытай многа — не трэба. Марал чытай мала — трэба. Так я думай.

— Я яму дам, — сапе Жаўтых, шырока адмахваючы рыдлёўкай. — Хай толькі прыйдзе! Праўда, Аднавухі? — пытаецца ён у Крывёнка.

— Не грazіліся б, а даўно далі б.

— Даўно не было як. А тут не спушчу. Іш, прыліп да дзеўкі! І Люська, глядзі ты, не адшые.

— Люся нічога, — кажа Лук'янаў. — Яна разумная дзяўчына.

— Разумная? — з'едліва перадражнівае Жаўтых. — Пры чым тут розум? Ён вунь які бугай — на тое глядзі! А то — разумная.

— Мне здаецца — нічога асаблівага! — перастае капаць Лук'янаў. — Яны людзі розных узроўняў. А гэта даволі стрымліваючы фактар.

Жаўтых няпэўна чмыхае, сморкаецца, таксама выпроствaецца і прыхінаецца да сцяны сховішча.

— От кажаш — фактар! Ведаеш, у нас было дзела, на Кубані. Фельчарка адна была ў станіцы, маладая, нішто сабе з аздобы, адукаваная, вядома, і так далей. І што думаеш? Адна, а вакол усе простыя. Прыспела дзеўцы замуж і выскачыла за нашага хахла. Так нішто быў хлопец. А пасля заганарыўся: як жа — жонка — фельчарка! Разбэсціўся, піць пачаў. І біў. І колькі яна нацярпелася ад яго. Мусіла цярпець, бо дзеці. От табе і фактар!

— Магчыма і такая сітуацыя, — падумаўшы, кажа Лук'янаў. — Але гэта нетыпова. Жанчына таксама выбірае. І куды больш старанна, чым гэта робіць мужчына. Асабліва такі, як Задарожны.

Праз гадзіну сховішча амаль што гатова, застаецца толькі падчысціць скос ды прарэзаць вузкую шчыліну ў беразе — для ствала. У гэты час на агнявой з'яўляецца Лёшка. Ён нячутна са змроку падыходзіць да нас марудлівым крокам і зморана сядае наверсе — на свежы, толькі што выкінуты з ямы глей. Я, мабыць, першы заўважаю яго крутаплечую постаць, пасрэбраную месцамі, і нешта нядобрае, помслівае з'яўляецца ў маім нутры.

— Усё ж капаем? — кажа Задарожны са здзеклівым спачуваннем. — Ну і ну!

Хлопцы паварочваюцца да яго і маўчаць, перастаўшы капаць, адзін толькі Папоў калупаецца ў самым глыбокім месцы — ён праразае шчыліну.

— Прыйшоў, дармаед?! — пагрозліва пачынае Жаўтых. — Дзе бадзяўся? Хто табе дазваляў? Мы што — ішакі на цябе працаваць? Га? Адказвай!

Але Задарожны не адказвае і не бянтэжыцца ад такой сустрэчы, — ён нават усміхаецца — мне зблізку відаць, як бліскаюць у яго роце шырокія чыстыя зубы.

— Эхма! Ну што крычыце?! Што вы разумееце ў высокіх матэрыях! — спакойна і крышку фанабэрыста кажа ён.

— Глядзі ты! — амаль крычыць камандзір. — Ён яшчэ нас дакарае! Ах ты нягоднік! А ну марш капаць! Я табе пакажу брындаць усю ноч! Вайна тут табе ці пагулянкі?

Задарожны, аднак, зусім не звяртае ўвагі на камандзіра, бы і не чуе яго.

— Усё ерунда, браткі! — нейкім разважным, уціхаміраным тонам аб'яўляе ён. — Капітуляцыя. Была Люська і кокнула! Законна!

Ад тых слоў з хлопцамі штосьці робіцца. Я адчуваю, як побач уздрыгвае Крывёнак, як насцярожваецца і пільна ўзіраецца ў Лёшку Лук'янаў, нават Жаўтых і той на момант перастае крычаць і нібы слупянее.

— Капітуляцыя! — смяецца Задарожны, адзначыўшы наша здзіўленне. — Гітлер капут і так далей! А дзяўчынка першы сорт, свежанінка! От пабрыкалася!..

— Паганец! — сіпата кідае яму Жаўтых, і я мярцвею, толькі цяпер зразумеўшы сэнс усёй гэтай яго пахвальбы. Крыўда, злосць і нянавісць да яго скручваюць маю волю ў тугі, балючы вузел, сціскаюцца зубы, і душу раздзірае немы крык: «Паганец! Сволач! Гад!» Збянтэжаны і прыдушаны, я стаю з рыдлёўкай, не ведаючы, што і думаць, і толькі заўважаю, як гэтая вестка неяк нейтралізуе гнеў Жаўтыха і ён, здаецца, не ведае, што сказаць.

— Бяры рыдлёўку, і капаць! — паспакайнеўшы пасля прыпадку злосці, загадвае Жаўтых, і мяне абурае, што ён гэтак хутка адышоў ад свайго грознага гневу, — я ж прагну Задарожнаму кары. Але Задарожнаму хоць бы што. Ён не спяшаецца выконваць загад, а сядзіць на брустверы, лена раскінуўшы калені, і месяц цьмяна высвечвае яго круты лоб.

— От насовачка на памяць, глядзі! — бессаромна хваліцца ён. — Заўтра прыйдзе зноў. У адно месца. Хоць жаніся цяпер. Законна! Хе-хе.

Хлопцы капаюць сабе, роўна блішчыць у небе месяц, а ва мне раптам узгараецца нейкае сляпое шаленства. Чорная хваля гневу кідае мяне з яміны, я падскокваю да задаволе-

на-ўціхаміранага Задарожнага і з усяго маху моцна б’ю яго кулаком у твар — раз, другі, трэці.

— Ух! — ускрыквае Лёшка і з дзівосным спрытам ускоквае на ногі. Прыгнуўшы па-бычы голаў, ён адразу рынаецца на мяне, б’е мне галавой ў грудзі, збівае з ног і навальваецца ўсім сваім цяжкім здаравенным целам. У мяне запінае дыханне, але шаленства надае мне сілы, я як мага выкручваюся, стараюся вырвацца і яшчэ садануць у яго ненавісны ўкормлены твар.

— Стойце! Стой!!! — крычыць недзе Жаўтых. — Ашалелі, сабакі!

Я рвуся што ёсць моцы, ад Задарожнага патыхае лютаю сілай, ён шалее, заломвае мае рукі і б’е патыліцай аб зямлю. «Ух ты, сволач!» — крычу я ў думках, напружваюся, ускідваю нагамі, і мы абодва з бруствера рынаем у сховішча.

Тут я адрываюся ад яго, ён зараз жа кідаецца зноў, але тут сцяна, я ўстойваю на нагах і сустракаю яго кулакамі.

Нас, аднак, разнімаюць. Жаўтых, Папоў і Крывёнак хапаюць Задарожнага ззаду, адрываюць ад мяне, я выкручваюся ўбок, трошкі апамятваюся, — здаецца, я даў яму — хай помніць. Задыханы, выходжу на пляцоўку, прысланяюся да нашай гарматы і ледзьве стрымліваю сэрца ў грудзях.

— Сапляк! Сволач! Я табе морду ў біфштэкс перараблю! Біцца мне? — таксама задыханы, грыміць здаля Задарожны і тузаецца з рук хлопцаў.

— Лошка! Лошка! Не трэба! — угаворвае Папоў.

— Якога д’ябла! — са знарочыстай строгасцю ў голасе сіпіць Жаўтых, стоячы перад ім. — Ашалелі, дурні! Апомніцеся! Завошта?

Лук’янаў, прыціхлы і, здаецца, збянтэжаны, стаіць у кутку з рыдлёўкай у руках. У такіх схватках ён, вядома, не ўдзельнічае.

Я аддыхваюся і маўчу. Я не скажу завошта — хай здагадаецца ён, калі здольны на гэта, а іншым не трэба і ведаць. Мне толькі крыўдна трохі, што, здаецца, мне болей, чым яму, перапала ў гэтае бойцы, а так усе яны — і Лёшка, і Люся, і іншыя, хто заадно з імі, — няхай яны ідуць да д’ябла.

Доўга пасля гэтай сутычкі старшы сяржант усё бурчыць — абураецца на нас, а я стараюся працаваць, падбіраю з долу пясок і думаю, што ад Задарожнага чаго іншага і не выпадала чакаць. Але чорт з ім, з Задарожным, у маіх пачуццях пачынае

расці-разрастацца гідлівая пагарда да той нашай «чараўніцы», да Люсі. Вядома, што ні ў чым яна не вінавата перад намі і вольная ў сваіх учынках, але я цвёрда перакананы, што ў адносінах да ўсіх нас яна зрабіла нешта злачыннае, за што варта вялікае ганьбы. Яна ашукала нешта светлае ў нас, зблэсціла сабою ўвесь людскі род, я не хачу цяпер верыць нікому, я хачу крычаць у ноч брыдкія, паганыя словы ёй, я ненавіджу і яго, і яе — абое яны паўстаюць прада мной аднолькава мярзотныя, агідныя і нізкія.

8

Урэшце ўкрыцце гатова. Папоў таксама канчае сваю працу, мы выходзім на пляцоўку за гарматай, кідаем у кучу рыдлёўкі, Жаўтых дастае з кішэні трафейны швейцарскі гадзіннік, асцярожна зашпільвае на руцэ бранзалет і ўглядаецца ў зеленаватыя лічбы на чорным цыферблаце.

— Так... Лазняк, Лук'янаў, марш за сняданкам. І жыва! Хутка развіднее.

Лук'янаў паслухмяна збірае кацялкі, я вешаю на сябе аўтамат, і па вузенькай сцяжынцы ў траве мы ідзём ад нашай агнявой у маўклівую, трывожную цемру поля. Ноч, відаць, дабірае апошнюю гадзіну. Месяц, узлезшы ў паўнеба, пачынае ўжо ніжэць, бліщчастая кісяя хмаркі, што ўсю ноч вісела ўгары, некуды сплывае з празрыстае сіні, зоркі бліщчаць трохі вастрэй. Сіняваты змрок цяпер гусцее над варожымі пагоркамі, усходні небакрай хоць яшчэ цёмны, але ў параўнанні з заходнім святлее, здаецца, і зорак там менш, і відны адны толькі большыя. На зямлі блукаюць-варушацца няпэўныя цені; палосы, лапінкі, плямы месячнага святла санлява ляжаць на травяністым, падзёўбаным варонкамі полі.

У мяне яшчэ не мінула злосць на Лёшку, яна сваёю ўладарнаю сляпою сілай засланяе трывогу за ранак, у які чакаюць нас чарговыя выпрабаванні вайсковага лёсу. Але чорт з ім — з заўтрам, — я не люблю загадзя чакаць кепскага, мне заўжды лепш, калі яно грымне як нечакана, а так напакутуешся напярэдадні і, як гэта часта бывае, — дарэмна.

Я тупаю наперадзе па сцяжыне і апроч тае трывожнай няўпэўненасці адчуваю ў сабе пустотную лёгкасць ад чагось пражытага, страчанага, што ўжо адступіла, не хвалюе, толькі яшчэ халодным попелам ляжыць у душы. У мяне ўжо няма

ні былое зайздрасці да Лёшкі, ні нястрымнага, пакутнага імкнення да Люсі, я нешта зразумеў, перажыў і, думаецца, нават пасталеў і паразумнеў за гэтую ноч.

Мы ідзём моўчкі, ціхенька парыпвае дужка на кацялку; Лук'янаў ззаду маўчыць — ён заўсёды такі задумёны і няўклюдны. Я прыпамінаю, як нядаўна Лёшка абразіў яго палонам, а ён змоўчаў, стрываў — перанёс усё ў сабе.

— Што вы яму па мордзе не далі тады? — пытаюся я, азірнуўшыся. — Варта было б.

Лук'янаў трохі маўчыць, уздыхае, затым разважна адказвае:

— А ці варта? Ці варта чапацца! Гэта глупства. Не ён першы, не ён апошні. Я ўжо прывык.

— Дарма. Так ён і будзе чапляцца, тыраніць. Калі здачы не даць. Ён такі.

— Ніхто чалавека не тыраніць больш, чым ён сам сябе. Так вось.

— Гэта калі ў чалавека сумленне ёсць. А ў Задарожнага яно і не начавала.

— Не, чаму? — падумаўшы, адказваё Лук'янаў. — Пасвойму і ён мае рацыю. Адносна, вядома.

Мы зноў маўчым, памалу клыпаем і ўслухоўваемся ў ноч.

Сцяжынка прыводзіць нас да сланечніку, які шэраю нерухомай сцяной дрэмле ўначы. Па той бок яго, на дарозе, чуюцца салдацкія галасы, недзе далей на сцежцы коратка бліскае іскра ад цыгаркі і даносіцца сцішаны смех. Хоць і вайна, і небяспека, але пакуль ціха, і жыццё ідзе сваім чынам.

Лук'янаў ціхенька ідзе ззаду, і ў сузіральна-супакоеным настроі яго я згадваю ціхі водгук перажытых пакут, нейкі душэўны надлом, гэта цяпер мне блізка, зразумела, і я пытаюся:

— Скажыце, а як вы ў палон трапілі?

Салдат з паўхвіліны маўчыць, нешта думае, затым уздыхае:

— Проста. Пад Харкавам у сорак другім. Параніла. Страціў прытомнасць. Ачнуўся — наўкола немцы. Ну, лагер, і ўсё...

Я думаю, што Лук'янаў скажа і яшчэ што, але ён змаўкае. У адным месцы мы натыкаемся на неглыбокую мінную варонку. Месячнае святло таямніча высвечвае на сцяжыне круглую чорную пляму з стабілізатарам усярэдзіне. Хоць

небяспекі ад яе ўжо няма, але не хочацца і ступаць у яе чарнату. Я пераскокваю варонку. Лук'янаў абыходзіць яе збоч.

— Такі быў мой пачатак канца, — уздыхае Лук'янаў.

— Пачатак канца! — паўтараю я і думаю, які недарэчназлавесны сэнс у гэтых двух, такіх звычайных упаасобку, словах. — А затым што?

— Затым? Затым пачалося пекла. Усё лета закопвалі супрацьтанкавыя равы на Украіне. У сорак першым іх жа накапалі тысячы кіламетраў. І мы закопвалі. Нікому гэта не трэба было, але, відаць, іншай работы для нас не знайшлося...

— Вы ж, здаецца, афіцэрам былі?

— Лейтэнантам. Камандзірам сапёрнага ўзвода.

— Ну, а пасля?

— А пасля от радавы, — сумна ўсміхаецца Лук'янаў.

— А чаму так?

— Так.

Я не пытаюся болей, — разумею, што яго пакаралі, хоць не магу даўмецца, чаму чалавек, які столькі стрываў у палоне, павінен быў яшчэ і ў нас панесці нейкую кару.

— Гэта, брат, так, — кажа ён, ідучы побач. — У вайну мне не пашанцавала страшэнна. Ва ўсіх адносінах.

— А яшчэ што?

Лук'янаў прыцішвае хаду, пазірае ў месячную далячынь і заклапочана кажа:

— Разумееш, што атрымалася. Бацька мой камандзір брыгады, Герой Савецкага Саюза. А я вось няўдака, сорамна прызнацца каму.

Я насцярожваюся, слухаю, ён заўважае гэта і дадае:

— Пасля палону так і не напісаў яму. Не адважыўся. Дый што я напішу? Праўда, бацька мяккай душы чалавек. Маці таксама. Ні грошай, ні ласкі не шкадавалі. Здаецца, і я някепскі быў, слухаў, вучыўся. У сорак першым разам з дому пайшлі: бацька на фронт, я — у вучылішча. І вось дзіка як атрымалася.

— Ну што ж!.. Ці ваша віна? Вайна ўсё.

— Вайна, вядома. Але не ў тым рэч... — пярэчыць ён. — Недзе штосьці сфальшывіла ва мне. Я-то ведаю. Толькі...

Ён, аднак, не дагаворвае, змаўкае, і я кажу:

— Кепска!

— Вось іменна.

Я веру і шчыра спачуваю яму. Гэтая яго бяда нечым вабіць мяне, мусіць, у нас з ім нейкія блізкія перажыванні, і мне хочацца чым-небудзь суцешыць свайго таварыша.

— Ну, то нічога. Яшчэ не позна. Можна званне аднавіць. Быць бы жывым. А на кпіны вы не зважайце. Не ўсе ж у войску такія, як... Задарожны.

— Яно-то так, але... Дарэчы, ты не вельмі слухай гэтага Задарожнага, — пераходзіць на іншае Лук'янаў. — Ён трапло. Набрэша, а на справе нічога і не было. Такіх шмат... сярод нашага брата — мужыкоў.

Гэтыя словы спачатку здзіўляюць, а затым раптоўна ўзбадзёрваюць мяне. Я аж спыняюся, і нечакана для сябе ў мяне вырываецца:

— Праўда?

— Ну, а ты як думаў? Люся някепская дзяўчына... Наогул, шмат нашых уяўных бед ад таго, што мы не верым жанчыне. Мала паважаем яе. А ў ёй жа святасць мацярынства і мудрасць вякоў. Яна антаганіст злачынства, бо яна маці. Яна шмат выпакутавала. Пакуты выкрышталізавалі яе душу. А як правільна сказаў Жаўтых, пакуты робяць чалавека чалавекам. Чалавек без пакут — трава.

Насустрач ідуць пехацінцы, моўчкі брыдуць яны ў прыцемках, несучы на перадавую ранні сняданак. Гадзінай пазней ужо тут не пройдзеш; хто спозніцца, той будзе галадаць да вечара. Мы ўглядаемся ў іх невыразныя пры месяцы твары, але знаёмых сярод іх няма.

— Мы не спазніліся, хлопцы? — пытаюся я.

— Не. Яшчэ толькі пачалі даваць. Мы от першыя, — ахвотна адказвае маленькі пехацінец, згорблены ад вялікага тэрмаса на спіне. Мы збочваем на траву і размінаемся. Лук'янаў даганяе мяне і зноў ідзе побач. Відаць, я сваёю цікаўнасцю зачапіў у ім нейкую балючую струну, якая загучала цяпер шчыра і надоўга.

— Пакуты, пакуты!.. — раздумна кажа ён і з нечаканаю ажыўленасцю прадаўжае: — Я вам скажу. Я доўга памыляўся, не разумеў шмат чаго. Палон мяне навучыў многаму. У палоне чалавек адразу губляе ўсё, што паначапляла жыццё: кубікі, шпалы, ордэны, дыпломы, білеты. Застаецца адно толькі пры ім — яго душа. Як у Ісуса. Я нагледзеўся рознага. За трыццаць год жыцця не зразумеў таго, што за адзін год палону. Я ўсё думаў: усё ж яны, немцы, не якія азіяты, яны

далі чалавецтву Баха, Гётэ, Шылера, Энгельса. Аказалася, увесь іхні сэнс — Гітлер. Вось што можа зрабіць адзін чалавек з нацыяй, якая даверыцца яму. Хаця не ўсе аднолькавыя. Некаторыя думаюць па-свойму. Напэўна, кожны чалавек — ад прыроды чалавек. Жыццё робіць з яго генія або злыдня. Немцы прадалі Гітлеру свае душы, і ён зрабіў іх злыднямі. Гэта страшна — прадаць аднаму ўсе душы. Апрача ўсяго іншага, гэты адзін стане вампірам. Ён захоча акіяна крыві. Быў у нас Курт, ён шмат што разумеў правільна. Мы часам гутарылі. Я палонны, а ён салдат з аховы. Але ён трус. Ён болей за ўсё баяўся фронту. Ён ненавідзеў Гітлера, але пакорна служыў яму. Пасля ён павесіўся ў лагеры.

— Чаго ўжо чакаць ад немцаў, — кажу я, — калі вось і нашы... Колькі набралася і ўласаўцаў, і паліцаяў...

— Яно так. Гэта ўжо даказана. Трусасць і разлік на выгаду губяць усіх: і нашых, і немцаў, і радавых, і генералаў, — з незвычайным для яго запалам кажа Лук'янаў. — Не перамогшы ў сабе карысталюбца, баязліўца, не пераможаш ворага. Гэта так. Гэта пытанне жыцця і пытанне гісторыі.

Памаўчаўшы трохі, ён весялей ужо дадае:

— А за Люсю ты не турбуйся. Яна нішто дзяўчына. Так мне здаецца. Скончыцца вайна — камусь пашанцуе. Эх, калі б не вайна!..

І я раптам адчуваю, што веру яму, веру, як богу, ён звальвае з мяне нябачны камень пакут і дае светлую жаданую надзею, — дзіўна нават, якою сілай валодаюць звычайныя сяброўскія словы, сказаныя ў пару. Я не магу даўмецца цяпер, як гэта я не зразумеў усё з самага пачатку, навошта так легкадумна паверыў гэтаму балабону Лёшку. Я вельмі рады цяпер, але, здаецца, нічым таго не паказваю Лук'янаву, — мне раптам робіцца лёгка і светла на душы, і нават заўтрашняе выпрабаванне адлятае кудысь у далёкія задворкі памяці.

— Ага, Люся слаўная. Гэта ён балбатун, — згаджаюся я, і мне пакутна балюча ад думкі, што зусім нядаўна яшчэ я гатовы быў зняславіць ні ў чым не вінаватую дзяўчыну.

— Давай хутчэй, браце, каб не спазніцца! Ці не віднее? — павесялеўшы, кажу я, і мы паскараем крок — паўз сланечнік у лагчыну ля вёскі, куды ўночы прыязджае наша батальённая кухня.

## 9

Пакуль мы прыносім сняданак, пачынае світаць.

Неба з кожнай хвілінай святлее, па небасхіле ўсё шырэй разліваецца зеленаваты водсвет далёкага сонца, хутка гаснуць і без таго рэдкія зоркі. Месяц у вышыні растае, губляе сваё ядронае ўночы святло, вузее і бездапаможна вісіць над пасвятлелым прасцягам. На зямлі неўпрыцям знікаюць рэзкія цені, сплывае срэбны месячны бляск, сціпла і слаба асветленае, выступае са змроку ранішняе наваколле — травяністае, перакапанае вайной поле, шэраг слупоў над дарогай, вузкая палоска сланечніку пад вёскай.

Таропка і моўчкі снедаем.

Жаўтых першы паспешна даядае з вечка прыпраўленую тушонкай кукурузную кашу (мамалыгу, па-тутэйшаму) і засоўвае ў кішэню недаедзены кус хлеба. Шэры ў прыцемках твар старшага сяржанта ажыўлена-засяроджаны на сваіх камандзірскіх клопатах. Мы таксама выскрэбваем кацялкі, чысцей аблізваем лыжкі, і ўнутры ў кожнага з нас шпарка і няўхільна расце дрыготкая трывога. І мне аж любасна ад тае дзелавой спакойнасці, з якою гэты немалады ўжо, рудавусы, ссінелы з твару, трошкі крываваты ў нагах — звычайны калгасны дзядзька, наш цяперашні камандзір, збіраецца да начальства з дакладам аб гатоўнасці. Быццам для якой звычайнай працы ў полі, дажоўваючы ў роце сняданак, ён за тоненькі раменьчык вешае на шыю бінокль, закідвае за плячо аўтамат, насоўвае на лоб пакамечаную, белую ад сонца пілотку, якая заўжды неяк аблавушкай сядзіць на яго галаве — ад вуха да вуха. Пілотка і іншая абмундзіроўка ў яго не дужа адмысловая, звычайнае б/у, затое ўсё іншае, што вызначае ў ім сяржанта-артылерыста, дагледжана і носіцца ў ашчаднасці. Бінокль хоць і старэнькі, з вышчарбленым акулярам, але пра яго Жаўтых кажа, што не памяняе на новы, нават на трафейны цэйсаўскі. Да сяржанцкае палявой сумкі з настаўленнямі, брытвай і рознай салдацкай драбязою прышпілены компас, — як у начальства. Пад ранак ён надзявае зашмальцаваную сваю ватоўку, на ёй пакручастыя пагоны з чырвонаю лычкай упоперак і на рукаве вышэй ад локця, нібы залатая, паблісквае выразаная з бляхі самадзелка — скрыжаваныя ствалы гармат. Гэта эмблема знішчальніка танкаў. Ботаў Жаўтых не носіць, кажа, што ў іх нездарова нагам, і

ходзіць у чаравіках з абмоткамі, якія накручвае нізенька — на далонь ад халявак.

— Крывёнак, пабудзі Папова, — загадвае старшы сяржант, варушачы вусамі. — Я да камбата.

Крывёнак, здаецца, абыякавы да ўсяго, што неўзабаве чакае нас, расслаблена ўстае ад кацялка і, валюхаючыся, ідзе будзіць наводчыка, якога Жаўтых перад світанкам паклаў спаць. Папоў, вядома, не выспаўся за якую гадзіну, разбуджаны, сядзіць нейкі час у доле і, пазяхаючы, няўцямна глядзіць перад сабой.

І тады зноў з-за варожых пагоркаў даносіцца злавесны гул танкаў. Гэты раз гудзе ўжо бліжэй, пачынае нават здавацца, што танкі ідуць сюды, на нас, усе мы ўстрывожана ўзіраемся ў бок ворага, але ўбачыць там яшчэ нічога нельга. Гэты гул, відаць, канчаткова абуджае Папова, ён устае на калені, падпяразваецца, бярэ свой кацялок з ежай і, узіраючыся ў змрочныя пагоркі, ідзе да гарматы.

— Усё ж нешта яны нам рыхтуюць сёння, — кажа Лук'янаў і бярэцца за аўтамат. Мы з Крывёнкам таксама бяром нашу зброю і ідзём да сваіх баявых месц ля гарматы. Ля разасланае палаткі з рэшткамі сняданка застаецца адзін Задарожны.

Нейкі час мы моўчкі сядзім на станінах, і, па меры таго як усё больш рассцілаецца-вынікае з-пад змроку знаёмы прасцяг, усё расце, большае наша хваляванне. Крывёнак згортвае няроўную, тоўстую пасярэдзіне цыгарку і нервова, без меры цмыгае яе. Лук'янаў надзявае ў рукавы шынель і зябка мосціцца на снарадных скрынках, — як заўжды на світанні, яго пачынае трасці малярыя. На худым, нейкім да часу абвялым твары з глыбокімі зморшчынамі абапал рота і ў выцвілых вачах пад светлымі брывамі — выраз цярплівасці і пакорнасць непазбежнасці. Лёшка, здаецца, злосны і абыякавы да ўсяго, ён сядзіць, дзе сядзеў, не кратаючыся, але тое, што ён не ў гуморы, — выдае трывогу ў ягонай душы. Адзін толькі Папоў, санлявы яшчэ, без усякіх адзнак неспакою, старанна выскрэбвае з кацялка кашу і вузкімі вачыма на расплюснутым бурым твары раз-пораз глядзіць на пагоркі, дзе затаіўся вораг.

Дзень наступае і няўхільна блізіць наш небяспечны час. Ужо становіцца відаць бы кратом накапаная крывуляка першай траншэі, праз туманную золкую парнасць у лагчыне праступае чорная пляма танка ля ручая, на пагорках яшчэ

курыцца дымчастая шэрасць, але яна неўзаметку, з кожнай хвілінаю радзее і саступае месца святлу.

Пакутліва і вельмі напружана мы чакаем. Кожны засяродзіўся ў сабе, нікому не трэба размовы, ніякія словы цяпер не маюць значэння. Мы прыціхаем, натапырваемся і чакаем хуткага, таго самага часу, калі для кожнага з нас можа вырашыцца ўсё. І ў гэтую часіну нейкім дужа будзённым і таму дзіўным голасам адзываецца Папоў:

— ...Не можа пасаліць! От повар, нехарош повар!..

— Што?

Усе паварочваюцца да наводчыка, яўна збянтэжаныя тым, што ўчулі, і ён ранейшым ціхавата-абыякавым тонам кажа:

— Каша мала-мала солі, трава каша. Нехарош каша — нехарош повар.

Мы затойваем прыкрасць, ніхто яму не адказвае: ці да кашы цяпер.

І вось ў полі з’яўляецца наш камандзір. Ён бяжыць ад КП наўпрасткі па траве, і тое, што ён не ідзе, а бяжыць, спяшаецца, яшчэ больш узвінчвае нас. Я станаўлюся за шчытом на калені і раблю найпершае, што трэба зрабіць перад стральбой, — адчыняю затвор. Паварот тугаватай рукаяткі апускае клін, можна зараджаць, хоць — адчуваю я — зараджаць яшчэ рана, але мне ўжо нясцерпна бяздзейнасць, карціць што-небудзь рабіць.

Жаўтых, напэўна, здаля прыкмячае, як нядобра сцішыліся мы, і, пэўна, каб разбурыць нашу панылую прыкрасць, гукае:

— Ну, мальцы-ўдальцы! Пальнём зараз! З першага снарада — цэль, і спаць да вечара!

— Ерунда! — кідае Лёшка і ўскоквае з долу. — Паспіш тут! — Ён ідзе да ўсіх на пляцоўку, неяк беражліва несучы ля сябе свае вялікія, рудыя ад загару рукі. Жаўтых саскоквае з невысокага бруствера, ідзе на сваё баявое месца — злева ззаду ад гарматы, у шырокім гарматным сховішчы.

— Нічога. Не першы раз! Трымайцеся за зямлю-матухну. Яна выручыць, — спакойна кажа ён і ўзнімае бінокль. — Так!.. Не, яшчэ трошкі пачакаем. А ну, сядайце ўсе!

Мы, стаўшы на калені, займаем свае месцы — Папоў за прыцэлам, я справа ад яго за шчытом, між станін укленчвае Задарожны, за ім ля снарадных скрынак Крывёнак і Лук’янаў.

Жаўтых усё ўзіраецца ў бінокль; згінаецца да прыцэла Папоў — мы разумеем, што ўступаем у паядынак, дзе пытан-

не — хто каго — будзе рашацца тым, хто хутчэй. Калі толькі мы спознімся і немцы раней убачаць нас на гэтай пазіцыі, то нам будзе кепска.

— Папоў, наводзіць пад ніжні абрэз! — распараджаецца Жаўтых, ужо не адрываючыся ад бінокля. — Та-ак! Зарадзіць!!! — сіпата, спакойна, але з залішняю строгасцю камандуе ён, і я адчуваю па тым, што хоць трошкі, але хвалюецца і ён. Задарожны натрэніравана і размашыста ўсоўвае ў патроннік снарад, затвор, коратка лязгнуўшы, зачыняецца. Папоў прыліпае да прыцэла, і мы затойваем дыханне.

Ідуць апошнія хвіліны санлявай ранішняй цішыні. Неба за нашымі спінамі ўжо наліваецца водсветам блізкага сонца... Гэтыя апошнія імгненні перад адкрыццём агню асабліва нясцерпныя, тупым болем ныюць усе нервы — хутчэй, хутчэй! Але Жаўтых глядзіць, ён спакайнейшы і лепш ведае, калі трэба скамандаваць.

— А чаму без каскі? Дзе каска? — нечакана гучыць у цішы яго строгі голас. Гэта ён да Папова, які туліцца ў сваёй запэцканай змазкай пілотцы. Жаўтых так крычыць заўсёды, калі наводчык перад стралянінай не надзявае каскі, якую камандзір заўсёды возіць з сабою і без якой ён не дазваляе наводчыку ўступаць у бой. — А ну, Крывёнак, — каску! Каску яму, жыва!

Папоў, аднак, не адрываецца ад прыцэла, усё ўглядаецца ў яго, пакручваючы рукаяткі наводкі, а Крывёнак тым часам прыносіць з акопа няновую ўжо, пашкрэбаную каску і нахлабучвае яе на наводчыкаву галаву. І раптам, не паспявае яшчэ ён адысціся на сваё месца, як недзе далёка ў варожым баку раздаецца знаёмае імпэтнае «та-тата-та-та-та-та!». Адначасна імпэтна лязгае па крыле шчыта, фуркае над галовамі, чмякае ў зямлю і збоч на брустверы над камякамі зямлі ўзлятае слабенькі дымок пылу. Я інстынктыўна ўгінаюся за казённік. «Спазніліся! Празявалі!» — б'е ў галаў благая думка. Каб нешта рабіць, я азіраюся, — за мною гнецца да зямлі Лёшка, ён лаецца, а за ім далей, неяк бокам, абапёршыся на локаць, апускаецца на дол Лук'янаў. З-пад ягонай пілоткі на каўнер незашпіленага шыняля і на дашчаную снарадную скрынку нешта хуценька капае. Лук'янаў неяк увачавідкі бялее, хапаецца рукой за галаву і здзіўлена ўзіраецца — на далоні кроў.

— Сволачы! — лаецца Лёшка. Да Лук'янава кідаецца Крывёнак, даволі спакойным голасам ён пытаецца:

— У каго пакет?

У мяне ў кішэні перавязачны пакет, я дастаю яго і кідаю хлопцу, хачу і сам падацца туды, але каманда Жаўтыха спыняе мяне:

— Стой! Ціха! Прыгніся! Прыцэл шэсць — адзін снарад, агонь!

Кулі б'юць па брустверах, пырскаючы ў бакі зямлёй, я соўгаю па лінейцы ўказальнік адкату, прыгінаюся. Тут, за казённікам, трошкі схоўней, чым на адкрытай пляцоўцы. Уся наша агнявая курыцца пылам ад куль, разлятаецца ў бакі зямля, шмаццё кукурузы лязгае па шчыце. Што і казаць: няўдалы пачатак, трэба як мага хутчэй упраўляцца, інакш можа быць кепска.

— Бах!!! — нечакана і грымотна б'е ў вушы стрэл. Гармата тузаецца назад, пад казённікам з'яўляецца пустая гарачая гільза, з яе вузкае шыйкі курыцца дым.

Я не бачу за шчытком выбуху, але чую яго далёкае раскоцістае «ках-х-х!». У ствале ўжо новы патрон, і Папоў асцярожна, дужа акуратна і спакойна падкручвае махавікі.

— Фіць-фіць! Чвік!.. — праносіцца побач варожая чарга.

«Хутчэй! Хутчэй!» — стукае ў скроні думка. Я імгненна азіраюся: Лук'янаў ляжыць на баку, і Крывёнак, няўмела раскручваючы белы, чысцюткі бінт, абмотвае яму галаву. Скрозь павязку праступае і распаўзаецца бурая пляма крыві.

— Бах!!! — б'е новы наш стрэл, і правае вуха глухне, нібы ў яго забіваюць тугі корак. Я таропка пазіраю на ўказальнік адкату — адкат, здаецца, нармальны.

— Прыцэл сем! — з лютасцю ў голасе камандуе ззаду Жаўтых.

Значыць, недалёт, трэба яшчэ прыстрэльваць. Кулямёт б'е доўгімі чэргамі, і гэта, мусіць, ратуе нас, бо толькі першыя кулі з чаргі трапляюць паблізу, іншыя ж ідуць з рассейваннем навокал. Усе мы тулімся долу, Лёшка ляжыць на баку, прыціскаючы да грудзей патрон, — позіркі нашы сустракаюцца, і я не знаходжу ў ягоных вачах варожасці. Мне таксама цяпер не да злосці — Люся і ўсё, што звязана з ёю, адступаюць цяпер далёка, у нейкае невыразнае даўняе ўчора.

Папоў працуе, аднак, таропка і дакладна. Не паспяваю я да канца адчуць сваю прыкрасць ад першых стрэлаў, як бахае новы, трэці стрэл і зараз жа ззаду крычыць Жаўтых:

— Адмеціцца па разрыву!

Гэта ўлюбёны прыём нашага камандзіра. Ёсць пэўныя правілы прыстрэлкі прамой наводкай, але Жаўтых амаль заўжды карыстаецца толькі гэтым — адмячаннем па разрыву, які ні разу яшчэ не ашукаў нас. Папоў, згорбіўшы спіну, ледзь-ледзь, аднымі далонямі, кратае махавічкі наводкі і цісне кнопку спуску. Я выглядваю з-за шчытка — снарад праз пыл з бруствера ідзе ўдалеч і рвецца на пагорку.

— Верна! — радасна і натужна, з усяе сілы крычыць Жаўтых. — Тры снарады, беглы агонь!

«Слава богу! — спадае ў душы прыкрае трывожнае напружанне. — Трапілі, цяпер дабіць!»

— Бах! — грукае стрэл, гармата тузаецца, з казённіка са звонам вылятае гільза. Лёшка, на імгненне прыўзняўшыся на каленях, дасылае наступную, і праз дзесяць секунд зноў:

— Бах!

На агнявой — кіславаты парахавы смурод, пыл. Шостая гільза звонка лязгае ў доле аб папярэднія, і вось жаданая каманда:

— Ва ўкрыцце!

«Ёсць! Здаецца, удалося! Яшчэ трошкі, яшчэ...»

Мы ўсе хапаемся за гармату, я перапаўзаю цераз станіну, вырываю з восі стопар, нехта ззаду выдзірае з зямлі сашнік. Жаўтых хапаецца за левую станіну. Прыпаўшы да самай зямлі, налягаю на кола, штурхаю — гармата зрушваецца з месца. Папоў трошкі спазняецца штурхнуць левае кола, гармата перакошваецца на пляцоўцы, і Жаўтых злосна крычыць на яго:

— Папоў, такую тваю растакую! Штурхай!

На Папова камандзір крычыць рэдка, толькі ў баі пад агнём, — тут ён нікога не вылучае, тут у яго ўсе роўныя, і, паслухаўшы збоку ў такі час, можна падумаць, што ён з кожнага гатовы садраць скуру. Папоў не крыўдзіцца на тое, як не крыўдзіцца ніхто, — у насунутай на вочы касцы ён упіраецца каленямі ў зямлю, плячом — у кола, гармата зрушваецца з месца і, цяжка гойдаючыся, ідзе ва ўкрыцце.

— Та-та-та-та-та... — стукае здаля кулямёт, але мы ўжо звярнулі станіны, я напружваюся, што, здаецца, разрываюцца ад натугі грудзі, і штурхаю ў кола аберуч, аж покуль гармата не пачынае каціцца паціху сама. Хлопцы і Жаўтых кіруюць яе станінамі, а апошні, на каленях, учапіўшыся за правіла, штурхае схуднелы, з акрываўленай шчакой Лук'янаў.

## 10

Пасля мы сядзім у нашым вузенькім абжытым акопчыку і, супакоеныя ды трошкі абрадаваныя зробленай справай, утаймоўваем у грудзях ашалелыя ад натугі і перажытага сэрцы. Некалькі кулямётаў лупяць па нашай пазіцыі, раз за разам збіваючы з бруствера камякі, і пясок сыплецца на нашы галовы. У чыстым ранішнім паветры над агнявой космамі вісіць пыл. Але буйнакаліберны кулямёт маўчыць, а астатнія мы як-небудзь стрываем.

— Хапіліся! — задаволена кажа Жаўтых, седзячы на дне, і радасна смяецца, густа наморшчыўшы свой зашчацінены за ноч, сінявату твар. — Усё ж абдурылі — ведай нашых!

Пасля, пасур'ёзнеўшы, камандзір пытаецца:

— Ну, а ты як, Лук'янаў? Трываць можаш?

Лук'янаў, схіліўшы перавязаную галаву, курчыцца пад палаткай у канцы акопа і зябка хутаецца ў шынель. Рана ў яго на галаве, пэўна, не дужа страшная, ён не стогне, не скардзіцца на боль, толькі дрыжыць ад малярыі. Выгляд у салдата па-ранейшаму пакутна-засяроджаны.

— Патрываю, — ціха кажа Лук'янаў. — У санчасць жа не выбрацца.

— Не выбрацца, — пацвярджае камандзір. — Сядзі да вечара.

Мы месцімся адзін ля аднаго ў самым дне і пільна ўслухоўваемся, што робіцца наверсе. На ніжэйшым прыступку сядзіць Лёшка, у руках ў яго перыскоп, і ён раз-пораз ціхенька высоўвае яго з-за бруствера. Кулямёты нам тут не страшныя, але мы чакаем, што вось-вось ударацьмінамёты, тады ўжо будзе чаго баяцца.

Але неўзабаве сціхаюць і кулямёты, і ў ранішнім прасторы запаноўвае цішыня. Нідзе ні гуку, ні стрэлу. Ужо добра развідніваецца, недзе ўсходзіць сонца, і яркі блакіт паўднёвага неба аж буяе ад стрункіх патокаў святла. Першыя сонечныя промні кладуць свае яшчэ халодныя лапы на пыльныя груды нашага акопа. Зманутыя цішынёй, над полем з'яўляецца жаўранак. Як нешта далёкае і не ўраз зразумелае, далятае да нас яго цвіркатлівая лагодная песня; а затым і сам ён паяўляецца ў небе над самым акопам. Жаўтых першы задзірае ўгору галаву, напінаючы сухую скуру на няголенай шыі, прыжмурвае немаладыя вочы і шчыра здзіўляецца:

— Хе! Глядзі ты — заспяваў! I не баіцца! От жа малеча...

Мы ўсе пазіраем угору на дробненькае пырханне маленькае птушкі, і неяк адразу адлятаюць прэч нядаўнія страхі, турботы, з'яўляецца такое ўражанне, быццам мы толькі ўсталі з ночы ў гэтым акопе-ровіку і што не было ні трывогі, ні кулямётнага абстрэлу, ні бою. Адно толькі ніколі нядрэмнае наша адчуванне не хоча расстацца з прытоенай, заўсёды жывучай трывогай і ўсё трымае ў сабе прыглушаны напамінак пра тое, дзе мы і што нас чакае яшчэ.

Аб тым мы не гаворым, але тое, відаць, адчувае кожны, апроч хіба аднаго Папова. Як толькі сціхае абстрэл, ён пачынае нудзіцца без працы, пасля знімае гімнасцёрку і бярэцца прыладжваць пад пагоны бляшаныя палоскі. Нядаўна яму прысвоілі званне яфрэйтара, і Папоў некалькі дзён усё ахаджвае свае новыя пагоны: прышывае лычкі, з чырвонага нямецкага кабелю робіць канты, цяпер вось прыладжвае бляшкі. Жаўтых задаволены, весела і з пачуццём узрослшае годнасці азірае нас, але мы адчуваем, як ён пільна трымае вуха да кожнага гуку наверсе, і разумеем, што ён таксама чакае; Лёшка па-ранейшаму невясёлы. Крывёнак прысеў у нішу са скрынкамі і нешта калупаецца ў трафейным сваім кулямёце.

— От! Сказаў камбат, да ўзнагароды прадставіць усіх. За кулямёт. Атрымаем па медальку. Ці блага? — кажа Жаўтых.

Атрымаць медаль заўсёды прыемна салдату (асабліва таму, у каго нічога яшчэ няма), толькі Жаўтых пра тое наўрад ці марыць — вунь у яго колькі іх на грудзях. Крывёнку ды мне было б дарэчы па якой узнагародзе на нашыя нічым не аздобленыя гімнасцёркі, таксама як і Лёшку, каторы, апроч гвардзейскага значка (якім ён, між іншым, дужа ганарыцца), нічога не мае. Толькі Лёшка цяпер незадаволена ўзнімае да старшага сяржанта сваю лабатую галаву і кажа:

— Ерунду кажаш. Тут пакуль медаля дачакаешся, дык пяць разоў закапаюць.

— Чаму? — не злуючыся, добразычліва пярэчыць Жаўтых. — Цяпер — абарона, гэта хутка робіцца. Камандзір дывізіі падпіша — і гатова. Дарма толькі лаяўся ўчора: бач, як ладна абышлося, — і насмешліва дадае: — Прыйдзе на спатканне Люська, а ты ўжо ўзнагароджаны. Жаніх!

Ад тых камандзіравых слоў у мяне раптоўна і самотна занывае недзе ў грудзях — калі ён кажа тое пра Лёшку, дык,

пэўна, лічыць іменна яго вартым нашай сяброўкі. Не сказаў жа ён гэта хоць калі-небудзь пра мяне або пра Крывёнка, а менавіта пра Лёшку. Значыць, тут ёсць усё ж нешта такое, што невядома мне, а стары хітраваты Жаўтых бачыць і ведае ўсё. Значыць, штосьці ўсё ж калі не было, дык магло быць у яе з Лёшкам, недарма гэта такія выразныя намёкі, зноў пакутна думаю я. Але Задарожны незадаволена чмыхае:

— Патрэбна мне тая Люська... як сабаку пятая лапа. Не такіх бачылі.

Я не ведаю, што мне і думаць. Не зразумееш адразу, ці ён прыкідваецца, ці кажа напраўду. І я не магу даўмецца, чаго ён так раптам перамяніўся да дзяўчыны, чаму так ахаладаў да яе? На гэты конт у галаве з'яўляюцца пэўныя здагадкі, але гэта зноў тое старое, учарашняе — агіднае і пакутнае. Я стараюся ўтапіць яго ў сваёй душы, прыцяць, не даць яму ходу і скіроўваю думкі на іншае.

Не, я, мабыць, ніколі так не скажу пра Люсю, хоць — сам разумею — у тым маё гора і мае пакуты. Я магу вылаяць яе сам сабе, збэсціць са злосці ў думках, але, адчуваю я, ніколі мне не счарсцвець да яе ўсмешкі, да яе голасу, яе манер трымаць сябе — да ўсяго яе такога ветлага, сяброўскага аблічча. Мне б вельмі хацелася з'явіцца перад ёй з баявой узнагародаю, з лычкам на пагонах, з чым-небудзь, што б зрабіла мяне большым, смялейшым, дужэйшым і больш вартым у яе вачах. Гэта цяжка, але я напэўна гатовы на новыя пакуты ў баях, абы мне толькі хоць трошачкі палепшаць і наблізіцца да гэтай незвычайнай дзяўчыны. А што яна вельмі ўжо незвычайная, лепшая за ўсіх на свеце дзяўчат, у тое я веру ўсёй сваёю недарэчнай, маладою душой. Не, відаць, жывучы з ёю на адным свеце, я не магу быць абыякавы да яе і сам не магу быць абыякім.

— Хе, Люся! — іранічна хмыкае Лёшка. — Мы тут вось галовы пад кулі падстаўляем, а яна там з тылавікамі мілуецца. Таксама медаль зарабляе. Капітан гэты... як яго? Мялешкін? Даўно яна з ім круціць. Ведаю я...

Капітан Мялешкін! Гэта такі прыгожы, чарнявы хахатун з вусікамі. Праўда, я бачыў аднойчы на маршы, як на кані ён ехаў збоч фурманкі санітарнае роты і ўсё частаваў нечым дзяўчат і Люсю таксама, а яна вельмі ўжо весела ўсміхалася. Мы ішлі тады па ўзбочыне, была несусветная топкая гразь, — і я вельмі запомніў гэты выпадак.

Зноў паныласць і раздражненасць упаўзаюць у мой настрой — я зноў гатовы сказаць сабе: чорт з імі. Відаць, такая наша доля — пакуль мы тут думаем, марым, пакутуем пад агнём, там, у тыле, знаходзяцца спрытнейшыя людзі — афіцэры ці гэткія вось Лёшкі... Дзе ўжо нам! Мне становіцца злосна на сябе і на ўсё на свеце. Але недзе ў глыбіні адчування ціхенька сама па сабе жыве, не згаджаецца са мною ўпартая маленькая думка: не, не можа яна быць благою, не можа, яна не такая.

Па траншэі да мяне пералазіць цераз хлопцавы ногі Крывёнак. Ён сядае насупраць, падпёршы спінаю халодную ў засені сцяну, і, скасіўшы вочы на Лёшку, паказвае складзеную, як пакецік для парашка, паперку.

— Слухай, — ціха гаворыць ён. — Аддасі ёй... Калі што якое... Разумееш?

— Каму?

— Ну, не прыкідвайся. Ведаеш каму.

Я разумею, вядома, каго ён мае на ўвазе, але перадаваць ёй чужыя запіскі — гэтага я ўжо не буду. Зноў жа я думаю, што нічога з намі не здарыцца, наўкола ціха, так ціха, як гэта было ўчора, заўчора, і здаецца недарэчным усякае апасенне.

— Ну, выдумаў! — кажу я. — Сам аддасі. Чаму гэта я?

Крывёнак падазрона аглядае мяне, напэўна, разумее, што я прыкідваюся, яго скасабочаны твар перасмыкаецца. Некалькі часу, нібы выпрабоўваючы маю шчырасць, ён пазірае мне ў вочы, а затым, не ўпрошваючы і не кажучы нічога, хавае паперку ў нагрудны кішэньчык.

— Ну што ж... Не хочаш — не трэба.

Здаецца, ён пакрыўдзіўся.

Эх, Крывёнак, Крывёнак! Хіба не тыя ж пакуты раздзіраюць і маё нутро, хіба не нішчыцца святое і ў маёй душы? Але што зробіш?! У тым толькі і розніца, што, як і ўсе пакуты, адну душу яны спарахняюць, а другую гартуюць да трываласці сталі. Не ведаю, як у Крывёнка, а мая душа для гартавання, відаць, задужа слабая.

— Нічога, — кажу я і не веру ў свае словы. — Нічога! Ён балбатун, гэты... Нахваліўся...

Кажу я гэта дужа няўпэўнена, на ўсякі выпадак, і бачу, як Крывёнак толькі скрыўляе вусны і скептычна ўсміхаецца.

А час ідзе. Да нас у акоп ужо зазірае сонца і пачынае прыпякаць пілоткі. Плечы і тулава яшчэ ў ценю, а галовам спякотна, і Жаўтых, па-старэчы крэкчучы, перасаджваецца пад другую сцяну — у засень.

— Глядзі ты: маўчаць! Аніводнае міны. Дзіва! — кажа ён. — Ну, да вечара дабудзем, а там — на новае месца. Пад другую кучу.

Папоў надзявае гімнасцёрку і сціпла любуецца на свой выраб — пагоны. Уся вопратка на ім прыгледжаная, падагнаная, акуратная, гузікі на месцы, над правым кішэньчыкам тры вузенькія палоскі — нашыўкі за раненне. Гэтыя нашыўкі мала хто носіць у нас, хоць і многія былі паранены, але ў Папова яны на месцы. Якраз пад імі эмалевая зорка ордэна. На адным зубчыку эмаль выкрышылася, і ён белы, але ордэн роўненька прыкручаны на чырвонай суконнай падкладцы. Наводчык наш выглядае акурацістам, спраўным салдатам, адразу відаць схільнасць да вайсковае службы, толькі вось званне малое — яфрэйтар. Ну, але калі б ён быў сяржантам, дык, думаецца, яго падначаленым жылося б не дужа соладка — характар у Папова ціхі, але ўпарты і ўедлівы, асабліва ў дробязях.

— Ты, брат, цяпер як генерал, — усміхаецца Жаўтых. — А ці ведаеш што? Зрабі ты і мне такія. Га? А то гэтыя — бы з іх ноччу чэрці вяроўкі вілі. Пасля вайны расквітаемся. Запрашу цябе ў госці з тваё Калымы...

— Нашто Калыма? З Якуціі! — трошкі гняўліва папраўляе Папоў.

— Ну, з Якуціі. У вас мерзлата, а ў нас на Кубані фруктаў, дынь, кавуноў — заваліся. Ад пуза! Наладзім стол у садку, самавар разадзьмём. Паўлітэрку, канешне... Ну і астатняе. Мая Дар'я Амяльянаўна гасцей от любіць! Усё жыццё гасцей бы прымала. Такі характар... Раздушылі б бутэлечку, спамянулі б, як пад Ясамі кукурузу елі, у зямлі сядзелі... Дарэчы, трэ было б напісаць Дарцы, — раптам успамінае Жаўтых. — З Кіраваграда не пісаў. Хлопцы, у каго газетка?

Паперы ў нас няма, у наступленні дык яе бывае багата — розныя там фрыцаўскія блакноцікі, запісныя кніжачкі з драцянымі спружынкамі па краі, а цяпер, апроч газеты, нічога — ні для курыва, ні на пісьмо. Папоў дастае з кішэні акуратна складзены аркушык нашай дывізіёнкі, і старшы сяржант пачынае выбіраць краёчак з шырэйшым полем. Папоў услужліва дае яму чарнільны аловак, які ён старанна слініць пад вусамі і пачынае нешта выводзіць, прыладзіўшыся на адным калене.

— Так і напішам: Дарка, я жывы, чаго і табе жадаю. Маркел Іванавіч Жаўтых.

Ён аддзірае ад газеты палоску з гэтымі словамі і, бачачы нашыя цікаўныя позіркі, кажа:

— А што многа пісаць? Галоўнае: яшчэ жыў. Астатняе бабе не цікава. А наогул, некалькі разоў збіраўся напісаць больш, ды ўсё неяк... Вядома ж, якая салдацкая наша доля. Толькі аловак паслініш — ад камбата пасыльны: Жаўтых, кулямёт знішчыць! Пальнеш па кулямёту — транспарцёр адагнаць! Там пяхота ледзь не за грудзі нашых стралкачоў хапае — у яе пальнеш дзесятак снарадаў. А то — танкі. Колькі марокі з імі! Троцкі мне казаў аднойчы: ты, кажа, Жаўтых — мой камандуючы артылерыяй. І памятай, каб ніякай затрымкі пяхоце! Кажу: калі я камандуючы, то чаму дагэтуль не генерал? Кажа: а за генерала б ты справіўся? Ого, ды яшчэ як. Калі ўжо камандзірам гарматы спраўляўся, дык генералам плёвае дзела. Было б чым! — з таемным гонарам сціпла хваліцца Жаўтых і хавае ў пілотку сваё рэкорднае па лаканізму пісьмо.

Нам добра тут, забываецца трывожная ноч, перастае ныць душа ў чаканні абстрэлу. Здаецца, усё абышлося...

І менавіта ў такі час, калі найбольш расслабляецца нашая ўвага, я раптам адчуваю, што страшнае грымнула. Я не разумею яшчэ, што гэта, але бачу, як скалануўся пад шынялём Лук'янаў. Маленькія камандзіравы вочы раптам круглеюць у здзіўленні, паглыбляюцца і ўраз гаснуць. З прыступка ніцма ў дно падае Лёшка, і толькі тады да маёй свядомасці даходзіць з далечы знаёмы жудасны гук. Недзе там, за варожымі пагоркамі, прарэзліва і нудна выдыхаюць з сябе «скрыпуны» — шасціствольныя нямецкія мінамёты. Толькі сціхае іх працяжны агідны скрып, як з паднябесся рынае на нас прарэзлівы візг. Здаецца, нейкая лютая нябачная сіла хапае за грудзі і пачынае трасці, біць-калаціць зямлю. Я тыцкаюся галавой у Крывёнкавы калені, ёнваліцца некуды набок, зверху абрушваецца ў акоп бруствера; б'е ў вушы — выбух, другі, два адразу, тры... Мы глухнем, задыхаемся ў пыле, пяску і зямлі; пальцы хапаюцца за нешта ў пошуках апоры; нешта сціскаюць з неверагоднаю сілай. Зямля быццам рассыпаецца ад грознага ўрагану выбухаў і торгаецца, калоціцца, дрыжыць, роспачна супраціўляючыся страшнай сіле смерці.

Доўгія пакутныя хвіліны ўсё навокалірвецца, разлятаецце ўшчэнт, ранак цямнее, як ноч; у роце, у вачах, вушах — пясок і зямля. Цела балюча сціскаецца ад неаслабнага напружання

і кожнага блізкага выбуху, уся істота жахліва чакае: канец! канец! Вось-вось... Гэты! Не... Гэты! Гэты вось, гэты... Угары вые, свіргоча, падае, і дол перамешваецца з небам...

Здаецца, і целы, і нашая воля прыдушаны, запалоханы, паралізаваны гэтым наскокам смерці, усё навокал ва ўладзе бязвольнага ўтрапення. І раптам збоч чуецца нечы крык: «Папоў! Прыцэл, такую тваю растакую!» — гэта крычыць Жаўтых. Нехта балюча наскоквае на мае ногі і вылятае ў канец акопа. У свядомасць стукае кароценькая радасць — жывыя! Я расплюшчваю вочы — на гарматнай пляцоўцы ў дыме мільгае сагнутая спіна Папова, побач ля мяне варушыцца ў зямлі Лёшка, усё крычыць нешта і лаецца Жаўтых, але выбухі і візг глушаць яго. Яшчэ бліскае побач — удар! На нас абрушвае зямлю, Жаўтых падае ніцма, у пыльнай земляной каламуці нехта зноў ляціць цераз мяне — гэта Папоў. Пад яго непадпяразанай гімнасцёркай прыцэл, наводчык прытрымлівае яго рукой. У той час зноў ірве па другі бок акопа, б’е ў твар смуродам і камякамі зямлі, я падаю на нечыя засыпаныя па шыю плечы і напружваюся што ёсць сілы, каб датрываць...

Невядома, колькі мы яшчэ курчымся так, заваленыя зямлёй, паралізаваныя грымотным навалам смерці, пакутна, як цэлую вечнасць, перажываючы катаванне агнём.

Але як толькі крышачку глушэюць, аддаляюцца выбухі, першы з сіплаю лаянкаю пачынае выкарабквацца з зямлі Жаўтых. Уверсе па-ранейшаму скуголіць, раве, вые... Наваколле рвецца і разлятаецца, «скрыпуны» за пагоркам задышліва, ашалела скрыпяць, зямля ўсё тузаецца, неба над намі чорнае ад пылу і дыму, але разрывы трошкі аддаляюцца, і тугія камякі перастаюць малаціць нашы спіны.

«Выжылі! Уцалелі!» — узгараецца гатовая вось-вось згаснуць слабенькая радасць, але душу точыць трывога. Плюючыся і міргаючы, я разварушваю навокал зямлю. Потны, страшны, шэры ад пылу, Жаўтых доўга не можа выграбці з-пад грудоў ногі, затым устае на калені; аслабела варушыцца ў куце Лук’янаў, атрэпваецца побач Крывёнак. Здаецца, усе цэлы — нам пашэнціла. І ў тое ж імгненне, калі я думаю гэта, быццам кінжалам у спіну, уразаецца ў свядомасць чамусьці заіклівы Лёшкаў крык:

— К-к-к-амандзір!.. К-к-к-камандзір!.. Танкі!!!

## 11

— Т-т-танкі! Т-т-танкі! Глядзі!!! — крычыць ён, то высоўваючыся з акопа, то зноў прысядаючы. Жахлівасць гэтай навіны чамусьці не адразу даходзіць да маёй свядомасці, мяне больш здзіўляе, што Задарожны заікаецца, і нават узнікае кароценькая радасць: «Ага! Збаяўся!» Я зараз жа ўскокваю, на секунду выглядваю з-за разбуранага, раскіданага бруствера. Па схіле пагорка на нас у дымным грукаце шпарка коціць уніз касяк рабавата-жоўтых танкаў.

Побач на момант мярцвее Жаўтых; хуценька міргаючы звузелымі ад пяску вачмі, ён, быццам не верачы, некалькі секунд пазірае на танкі і выскоквае з акопа. За ім па прыступках вылятае Папоў; за ім я, ззаду тупацяць астатнія. Прыгнуўшыся, цераз закіданую грудамі пляцоўку мы рынаем у сховішча да нашай гарматы.

Я ўчэпліваюся за станіны, якія хапае за сашнікі Крывёнак. Жаўтых з Паповым напінаюцца ўнізе ля колаў. Гармата рушыцца, але ўкрыццё ў доле завалена камамі зямлі з развярочанага мінаю бруствера, гармата ідзе бокам, і Жаўтых лаецца:

— А ну вярні, вярні станіны!.. Лазняк, чуеш, такую тваю...

Я і сам ведаю, што трэба паварочваць станіны, і напружваюся што ёсць сілы, але спяшаюся, і ўсё ідзе неўпапад. Яккольвечы мы ўсё ж вывалакваем гармату на пляцоўку, заносім станіны, Жаўтых, прыгнуўшыся, кідаецца сюды-туды, як запёрты ў клетку тыгр; нізка схілены вусаты яго твар люты і страшны, на лапатках мокрыя плямы ад поту.

Танкі б’юць па пяхоце, б’юць амаль не спыняючыся. У паветры грыміць і грукоча, паднябессе стогне, цяжкі жалезны гул паўзе па абшары. Мы кідаем станіны, я хапаюся за стопары. Задарожны ззаду так ірве правіла, што ледзь не збівае мяне з ног станінай. Левай рукой я адкрываю затвор, ён зараз жа лязгае — сам Жаўтых з імпэтам усаджвае ў ствол бранябойны.

Танкі на пярэдняй траншэі. Я коратка выглядаю з-за шчыта, адзін гарыць, пэўна, падпалены пяхотай, адзін шпарка імчыць чамусьці ўздоўж траншэі; некалькі пехацінцаў бягуць сагнуўшыся па полі ў тыл. Ад пылу, грукату выбухаў і лютай кулямётнай траскатні мы нямеем. Жаўтых нешта крычыць, Папоў упіваецца ў прыцэл, і неўзабаве рэзкі стрэл бранябойнага глушыць нас. Гармата тузаецца, балюча штурхае ў плячо, я падаю, — гэта хлопцы не паспелі ўперці ў зямлю станіны.

— Сашнікі! — крычыць Жаўтых, нізка прыгнуўшыся за наводчыкам, і кулаком штурхае ў спіну Крывёнка, той хапаецца за правіла станіны і пачынае яе забіваць у ямку. Другі сашнік аслабела ўціскае ў зямлю Лук'янаў, стоячы на каленях. Крыклівая настырнасць Жаўтыха супакойвае: здаецца, калі камандзір тут, благога не здарыцца, ён дагледзіць усё, скамандуе, нам толькі б выконваць.

— Трах! — б'е другі стрэл. Слабенькі чырвоны агеньчык трасёра мільгае ля танка, аб нешта б'ецца ля яго і адлятае ўгору і ўбок.

— Агонь! Агонь! Не марудзь, агонь!

— Гах!.. Гах!.. Гах!.. — б'е гармата, падскокваючы на колах. Трасёры не ўсе відаць — некаторыя снарады без следу знікаюць удалечы. Танкі, ад першай траншэі беручы наўзбоч да дарогі, адзін за адным імкліва паўзуць па нашай абароне. Ужо відаць на бартах іхнія чорна-белыя крыжы, машыны цяжка перакочваюцца на брустверах, узнімаючы ашмоцце пылу; доўгія іх гарматы з пудовымі тармазамі на канцах пагрозліва варушацца і грукаюць стрэламі.

— Агонь! — раве Жаўтых. — Наводзіць лепш!

Папоў малайчына — наш харошы Папоў! Ён, здаецца, адзіны тут, каго не датычаць ні страх, ні хваляванне, ён не спяшаецца, не дрыжыць, цяпер ён нічога ў свеце не ведае і не бачыць, апроч танкаў. «Гах! Гах!» — тузаецца гарматка. «Так, трымайся, Лазняк! Здаецца, надыходзіць твой час, — кажу я сабе ў думках. — Ну ідзіце, гады, ідзіце. Бліжэй! Бліжэй! Яшчэ бліжэй!»

Так, яны ідуць бліжэй і мінаюць траншэі пяхоты... Але што гэта? Здаецца, яны прарываюцца! Сярод густога грукотнага гулу з лютасцю і бяссільнаю злосцю зноў крычыць Жаўтых:

— Не бярэ, халера! Д'ябла ім у горла! Маць яе за нагу! Бі па гусеніцах, па гусеніцах агонь!

Не бярэ, — я таксама адчуваю гэта. «Гах!» — падскоквае гармата, імклівая іскрынка трасёра гнуткай стралой мігае ўдалеч, б'е ў вежу танка і адскоквае ўбок. Не бярэ! Немцы, мусіць, пусцілі на нас цяжкія танкі, можа, гэта іх «тыгры»?..

Пяхота ўцякае. Дзесяткі людзей па ходах зносін, па полі імчацца з-пад удару ў сланечнік, — адзінае тут якое-ніякое сховішча, — да дарогі, падаюць, устаюць, адстрэльваюцца. За імі між танкаў гэтак жа бягуць, мітусяцца немцы. Непадалёк ад агнявой, нізка прыпаўшы долу, знямогла трухае сяржант

з потным чырвоным тварам, адной рукой ён валачэ за сабой «Гарунова», другая, нібы палка, звісае да самай зямлі. За ім, штохвіліны азіраючыся, шыбуе невялічкі баец з патроннымі скрынкамі ў абедзвюх руках. Яны нас мінаюць.

— Стой! — крычыць ім Жаўтых. — Стой, сволачы! Расстраляю, стой!

Сяржант крычыць нешта ў адказ, але нам не чуваць, тады ён, прысеўшы, тыцкае рукой у бок дарогі. Жаўтых азіраецца — гэта на фланзе. Камандзір прысядае ад нечаканасці і лаецца ўжо немаведама на каго.

— Станіны ўлева!

Танкі ўжо прарваліся праз батальённую абарону, абходзяць нас і шпарка шыбуюць абапал дарогі ў вёску.

Мы хуценька перакідваем станіны ўбок, Папоў аберуч ліхаманкава падкручвае махавікі наводкі. «Гах! Гах!» — грымяць частыя нашы стрэлы, і коратка лязгаюць пад ногі пустыя гільзы. Хлопцы прыціхлі, прыпалі долу, апанурыліся, у вачах страх. Гэта кепска! Трывай! Як-небудзь трывай, прымушаю я сам сябе. У цябе няма права баяцца, трусіць. У тыл табе шляху няма, адно тваё выйсце — біцца.

— Ага! — урэшце зларадна крычыць Жаўтых. — Ёсць! Агонь! Папоў! Агонь!

Не ўтрымаўшыся, я выглядаю з-за шчыта, і кароценькая радасць урываецца ў маё нутро. Вунь ён стаіць, апусціўшы гармату-хобат, убаку ўжо тырчыць адкінутае века люка. Ля яго прыпыняецца другі, ён трошкі падварочвае гусеніцамі ў наш бок, і я разумею — заўважыў! «Заўважыў, цяпер будзе!» — мільгае ў свядомасці спозненая думка, і зараз жа перад самай гарматай мільгае агнём бліскавіца... Удар! Усё патанае ў пыле і смуродзе... Праз пяць секунд жахлівай цішыні — устрывожаны крык Папова:

— Кукуруз!.. Таварыш камандзір, кукуруз!..

Ага, танк зайшоў за кукурузную кучу, яна зусім блізка і замінае страляць, яе трэба раскідаць, але зноў — удар!.. Пыл, смурод... Людзі задыхаюцца ад траціլавай горычы і пыльнага ўдушша.

— Так, нічога, нічога, — супакойвае кагось камандзір.

Адчуванне рэальнасці абвострана, увага бязмежная, думкі мільгаюць хутка і канкрэтна. Я разумею, што трэба бегчы ў тое пекла, насустрач танку, але непадуладная сіла цяжарам налівае ногі. Ненавідзячы сябе, я паволі ўзнімаюся з-за шчы-

та, а танк, крутнуўшыся на адной гусеніцы, збочвае з дарогі і раптам кіруе сюды, пагойдваючыся, варушачы перад сабой даўжэзнай гарматай. Зараз ён зноў грымне стрэлам... Зараз!.. Зараз!!. Ва мне ўсё напінаецца — перачакаць стрэл, затым... Але ў гэты час ззаду чуецца загад:

— Лук’янаў, убраць!

Лук’янаў! Ураз спадае напружанне; камандзіру лепей відаць, ён выбраў. Выбраў аднаго, звароту назад яму ўжо не будзе. Але сумленне маё рэагуе на тое інакш, я задушваю прыкрасць у душы і азіраюся — Лук’янаў у расшпіленым шынялі ўстае з-за скрынак, чагось азіраецца, у ягоных вачах такая самота, што здаецца: струсіць, папросіцца. Але ён не просіцца, толькі трошкі марудзіць і затым неяк дужа аслабела ўзлазіць на бруствер і, прыгнуўшыся, бяжыць да кучы. Там ён хапае з зямлі адно бярэмя, другое — раскідвае, растрасае кукурузу ў бакі, куча меншае, але танк — вунь ён!..

І тут — трах!!!

Пыл, пясок б’юць па вачах, у вушах гул, востры кароткі боль...

Праз імгненне я ўскокваю — праз рэдкі клуб пылу, бы аслеплы, незразумела марудна, нахіліўшыся і спатыкаючыся, брыдзе Лук’янаў; у дзесяці кроках за ім горача курыць варонка...

— Агонь! — басавіта раве ззаду Жаўтых, а ва мне ўсё халадзее ўнутры. Нейкая неўсвядомленая вінаватасць перад Лук’янавым прымушае мяне ўскочыць на бруствер, ззаду Жаўтых люта крычыць: «Стой! Назад!», але ў тры скачкі я падбягаю да салдата і хапаю яго пад пахі. Ён са стогнам падатліва аддаецца ў мае абдымкі.

З нейкаю апантанай сілай я валаку яго цяжкае цела да агнявой. Насустрач, абдаўшы нас гарачаю хваляй, б’е па танку Папоў. І ў той жа момант недзе зусім побач — чорны, агнявы бляск і ўдар! Ён збівае мяне, я падаю, балюча выцяўшыся бокам аб зямлю, не ведаючы, цэлы або паранены, ускокваю і зноў хапаю Лук’янава. Танк — вось ён! Цяжаленная яго грамадзіна шыбуе ўсё хутчэй і бліжэй, гнецца, дрыжыць зямля, мільгацяць гусеніцы; нібы зубамі, абвешаныя запаснымі тракамі, нястрымна пруць-сунуцца на нас яго шырокія сталёвыя грудзі...

Гнучыся да зямлі і вязнучы ў пяску ботамі, я перацягваю цераз бруствер Лук’янава і разам з ім падаю пад колы

гарматы. Некалькі куль наўздагон лязгаюць па шчыце і рыкашэцяць у бакі. У акопе стукоча кулямёт — гэта Крывёнак б'е па пяхоце. Камандзір з Задарожным ляжаць між станін; ля прыцэла адзін Папоў... Але чаму гэта сціх Жаўтых? Чаму ён не камандуе, чаму не кратаецца — прываліўся плячом да станіны і маўчыць. На каленях я падскокваю да яго — ззаду глушыць стрэл, гармата, бы жывая, жахліва тузаецца, у спіну балюча б'е гільза. Я хапаю камандзіра за плячо, ён спаўзае са станіны на дол, і струмень цёплай крыві аднекуль з шыі пырскае мне ў твар, высокім дробным фантанам абдае нерухомую Лёшкаву спіну. Я прыпадаю да зямлі, намацваю і заціскаю пад расшпіленым Жаўтыховым каўняром невялічкую ранку, але кроў усё роўна б'е і апырсквае ўсё навокал. Збялелыя павекі Жаўтыха няўцямна торгаюцца, погляд увачавідкі тухне, і зрэнкі закочваюцца ўніз. Ён не пазнае мяне.

— Камандзір! — чуецца побач незвычайны нейкі, асіплы і спознены крык Задарожнага. — Хлопцы, камандзіра забіла!!!

Ад гэтага моташнага крыку жах скаланае і мяне. Я ляжу на зямлі і чую, як дрыжыць яна, трасецца, калоціцца... Танка мне не відаць, але я адчуваю, што ён ужо за некалькі метраў ад нас і зараз усё будзе скончана. І тады, крутнуўшыся на станіне, паварочваецца сюды Папоў:

— Зараджай, Лошка! Сабак, такую тваю!.. Зараджай!

Трашчыць-захліпаецца Крывёнкаў кулямёт, Задарожны дзярэ пальцамі зямлю і горнецца-ціснецца кудысьці пад бруствер. Апантаны ад небяспекі і лютасці, я піхаю Задарожнага ботам у бок, крычу: «Зараджай! Зараджай, сволач!» Але пакуль ён бокам, як рак, перапаўзае да скрынкі, я сам хапаю снарад і скрываўленымі рукамі штурхаю яго ў ствол. З Жаўтыховае шыі зноў вырываецца тонкі струмень, толькі ён хутка меншае і, калі я падпаўзаю да камандзіра, знікае зусім. Ашалелыя вочы Жаўтыха спыняюцца...

Здаецца, усё! Канец...

Я адскокваю да снарадаў, — танк у пяцідзесяці кроках — не болей. Адной гусеніцай ён падмінае пад сябе рэшткі кукурузнае кучы, скасабочваецца, узмахвае ў паветра даўжэзнай гарматай, з-пад дні́шча струменямі пыхае дым і пыл. Папоў секунду марудзіць і раптам зноў усхопліваецца са станіны.

— У акоп!..

Гахае стрэл. Праз пыл з агнявой паспяваю згледзець, як танк адным бокам тузаецца наперад, нібы спатыкнуўшыся,

з разгону дзёўбае ствалом у зямлю і спыняецца. Уперадзе вострымі зубамі тырчыць праз дым накіроўваючае кола. Гусеніцы на ім няма. Танк стаіць да нас бортам.

Падбілі!

Але танкавая гармата раптам ажывае, матлянуушы ў паветры тормазам, апісвае паўкруг, скрыпнуўшы, паварочваецца вежа, — гэта на нас. Папоў, не цэлячыся, круціць махавічкі наводкі, і наш маленькі кароценькі ствол з самаахвярнай гатоўнасцю скіроўваецца насустрач.

Цяпер хто хутчэй! «Хутчэй!!!» — вызверваецца ў мяне ўнутраны крык. Я кідаюся ў доле да скрынак, галовамі мы сутыкаемся ў пыле з Лёшкам; стукнуўшыся, разлятаемся ў бакі, пад мае калені падае яго пілотка, у дрыготкіх ягоных руках — снарад. Зараз жа лязгае клін.

— Прэч! — ускрыквае Папоў, і цераз мяне з дзівосным спрытам куляецца ў акоп Лёшка. Танкавая гармата, неяк дрыготка і сутаргава клююючы, апускаецца ніжэй, ніжэй... Гэта апошняе, што я паспяваю адчуць, і на каленях, уніз галавой кідаюся за Лёшкам.

Стрэл і выбух наверсе грымяць адначасна. Вялізная глыба ад сцяны рушыцца на мае плечы, нейкай калючай жарствой абдае патыліцу, я, здаецца, глухну на некалькі секунд і мярцвею, напаўзасыпаны...

Раптам становіцца неяк дужа сцішана. Грымотны грукат ураз абрываецца, сціхаюць блізкія выбухі, толькі незнаёма даносіцца з далечы густое выццё танкаў і ціхенька дрыжыць зямля. Я чагосьці жахаюся, выгрэбваюся з зямлі і выскокваю з абрушанага, разбітага акопа.

12

«Прапала ўсё, дашчэнту, назаўсёды!..»

Першае, што кідаецца мне ў вочы, — добрая, з паўметра глыбінёй, яма ўскрай нашай пляцоўкі. У гэтую яміну адным колам правалілася-скасабочылася наша гарматка, і між яе станін тварам у зямлю нерухома ляжыць засыпаны пяском Жаўтых. Побач, гэткі ж зацярушаны зямлёю і пылам, спаўзае на лапатках з бруствера, пэўна, выбухам адкінуты туды Папоў. Ні каскі, ні пілоткі ў яго няма, грудзі залеплены нечым мокрым. Наводчык няўцямна, нейкім вар'яцкім паглядам глядзіць у той бок, дзе толькі што грукацеў і пёр на нас танк... Але чаму ж так ціха і дзе танк?

Я азіраюся і слупянею на каленях ад дзіўна-недарэчнага пачуцця няўпэўненай радасці, страху і здзіўлення. Вялізная плямістая грамадзіна танка ўперла ў нас доўгі гарматны ствол, скасабочылася на кукурузнай кучы, і імпэтныя шалёныя языкі полымя шугаюць, шыпяць і смыляць чорным дымам над яго прысадзістай, круглай, звернутай набок вежай.

Папоў зварухнуўся, стогне, узнімае з долу руку — на ёй замест пальцаў месіва крывавае гразі. Ён спахопліваецца, паспешна туліць яе да грудзей, ціхенька праз зубы мычыць ад болю і спрабуе спатоліць кроў, якая льецца, льецца на калені, штаны, у сухі, прагны да вільгаці дол.

Я кідаю ў доле гранаты і хачу памагчы яму, але Папоў ужо сам укручвае яе ў падол гімнасцёркі і праз боль і лютасць раздражнена загадвае мне:

— Лазняк, агонь! Агонь!

Ага! Яны ідуць далей! Ззаду на іхнім шляху між траншэй і хадоў зносін узнімаюцца ўгору тры чорныя дымы, траскотным шалёным полымем палыхае танк побач, іншыя ж уздоўж вузкай палоскі сланечніку сунуцца ў вёску. Коратка спыняючыся, яны б'юць па разбітай і без таго вясковай ускраіне, прастор стогне ад іх частых, гулкіх стрэлаў, і здалёк чутна, як з кароткім імпэтным скрыгатам праносяцца іх балванкі.

Я ўсаджваю ў ствол бранябойны і бяруся за механізмы наводкі. Гарматка ўся абдзёрта асколкамі, дужа схілілася набок, але яшчэ слухаецца маёй рукі і паварочваецца. Я торапка падводжу вугольнік прыцэла пад зад нейкага танка і цісну кнопачны спуск. Тугі гумавы навочнік балюча б'е ў брыво, я не бачу, куды ляціць мой снарад, і кідаюся за наступным. Кідаю позірк на танк — там ужо адчынены люк, і з яго высоўваецца чорная закапцелая рука. Яна слепа лапае, стараецца ўчапіцца за край люка, але зрываецца і зноў лапае. З акопа коратка тыркае чарга — гэта Крывёнак, і я не гляджу, што там адбылося далей.

— Агонь! — сурова патрабуе ззаду Папоў. — Прыцэл больш два!

Я зараджаю, кручу дыстанцыйны барабанчык прыцэла, цэлю, гахаю стрэлам і зноў кідаюся па снарад. Папоў сядзіць зняможаны, моцна ўкруціўшы падалом руку, твар яго руды, вочы запалі. Люк на танку расчынены, але ў ім ужо не бачна нікога.

— Агонь, Лазняк! Агонь!

І я страляю. У прыцэле яшчэ відаць танкі, і я раз за разам кідаюся па снарады. Пот едкаю соллю слепіць мне вочы, капае з носа на рукі, але я разумею, што танкі — наша пагібель і трэба па іх страляць. Я не ведаю, колькі гэта цягнецца, — роўна і шалёна чаргуюцца ў маёй свядомасці прыцэл, вугольнік пад танкам, грымотны стук стрэлу, затым грымаса напружання і болю на зацятым твары Папова, яго патрабавальнае «агонь!» і снарады ў скрынках. Я кідаюся, поўзаю, глухну ад стрэлаў і часта-часта задышліва дыхаю. Але раптам я хапаюся за махавікі і шалёна паварочваю ствол сюды-туды, упіваюся зрокам у прыцэл — толькі марна. Танкі прайшлі далей, схаваліся ў вішняках, на разгароджаных падворках, між руін румынскіх хацінак...

— Усё! — кажу я і апускаю рукі. — Усё! Прарваліся!

Я сядаю на зямлю між станін, прыхінаюся да казённіка, ад яго патыхае жарам, але я не адхінаюся ўбок. Я ўжо ўвесь абяссілеў, аглух, у вушах гудзе, трашчыць, вые, і перад вачыма расплываюцца жоўтыя, аранжавыя, чорныя кругі. Высокае ўжо сонца бязлітасна паліць з прапыленага, завалочанага дымам неба. У полі пуста, сям-там жаўтаватыя ў зяленай траве бугаркі — гэта трупы. Вунь, здаецца, і знаёмы — раскінуўшы ногі, тварам уніз ляжыць салдат-кулямётчык, што нядаўна бег за сваім камандзірам. Побач выпалі з рук і ляжаць кулямётныя скрынкі.

І тады рэзкі магутны выбух скаланае зямлю. Над танкам, выкінуўшы ў бакі ласкуцце дымнага полымя, падскоквае вежа, коратка скрыгае сталь, гармата коса ўразаецца ў зямлю дульным тормазам. Агонь з яшчэ большым шаленствам пачынае жэрці гуму каткоў, фарбу, залітую бензінам зямлю навакол. У паветры над намі кружыць і асядае гарэлае ашмоцце тканіны.

З акопа выскокваюць Задарожны з Крывёнкам, стаіўшыся ў доле агнявой, яны пазіраюць на танк. Пасля Задарожны ўсхопліваецца:

— Што рабіць, браткі? Прападзём жа, га?

Во калі знікла яго заўсёдная наглаватая самаўпэўненасць, вось і збаяўся ён, гэты наш хвалёны смяляка. На яго гладкім твары — спалох, вочы мітусяцца, і ён нават не спрабуе саўладаць з сабой.

Мы маўчым, Крывёнак выцірае пілоткаю твар і даволі спакойна пытаецца:

— Колькі снарадаў засталося?

— Мала, — кажа Папоў. — Мала.

Ён усё сціскае ў падоле руку і маўчыць. Мы пазіраем на яго, бо цяпер ён — нейкім чынам наш камандзір.

— Ну што сядзім? — нервова выпальвае Лёшка. — Папоў, камандуй! Ты ж намеснік! Якога чорта!..

Я зацінаю дыханне — азіраюся: перад намі ў акопах ужо нікога няма, але ззаду, на ўчастку суседняга палка, траншэі якога ідуць па пагорку, атакі не было, цяпер там грыміць бой, відаць, як кусцістымі клубамі рвуцца міны. Мы ад іх далёка наводшыбе, але ўсё ж ад іхняй прысутнасці тут робіцца спакайней.

Крывёнак схіляецца над камандзірам, расшпільвае яго скрываўленую гімнасцёрку і, пасядзеўшы над чалавекам, за рукі адцягвае яго ў сховішча. Потым бярэ Лук'янава, той ціхенька стогне.

— Давай, Лошка, завязвай мая рука, — кажа Папоў і раскручвае з падола руку.

Лёшка неахвотна адкладвае гранаты, бярэцца перавязваць. Увесь час ён азіраецца на прасцяг, але пакуль нікога паблізу няма.

— Лошка!.. Ух ты! Баліць!

— Ерунда, затое кроў не пойдзе, — кажа Задарожны. — Дык давай ірванём, га?

— Не, — кажа Папоў. — Загад няма — не можам хадзі.

— Дзівак, — запальчыва здзіўляецца Задарожны. — Які табе ў д'ябла загад? Фронт прарвалі — ты гэта разумееш?

— Загад абарона — быў, загад адступай — не быў. Страляць трэба.

— Здурнеў! Куды страляць?

— Гітлер страляць. Не ведай, куды страляць?

— Балда! — плюецца Задарожны. — Я думаў, ты чалавек, а ты чурбан з двума вокамі.

«Глядзі, як разышоўся, — думаю я. — «Чурбан», «балда»!»

Вядома, добра было б выбрацца адсюль туды, да ўсіх, але хіба мы ўчацвярых адолеем гармату? І мне дзіўна, як Задарожны не разумее таго і так прыстае да Папова.

— Што крычыш? — з непрытоенай злосцю кажу я яму. — Куды ты пойдзеш?

— Як куды? Да сваіх!

— А гармата?

— Што гармата? Гармата падбітая.

— Ну і што ж? Страляе ж...

— Ідыёты! — шчыра здзіўляецца Лёшка. — Галава і два вухі — не болей. Што ж, па-вашаму, сядзець тут да смерці?

У сховішчы выпростваецца ў рост Крывёнак, шрам на яго скасабочаным твары чырванее ад злосці.

— Заткніце вы яму рот! — крычыць ён. — Заткніце! Або хай ідзе к чортавай матары! На ўсе чатыры бакі! Ну!..

Задарожны хмурыцца, акідвае нас спадылба ненавісным позіркам і плюецца:

— Ну што ж! Прапасці вашай матары, калі вы не пашкадуеце, — адразу пацішэўшы, бурчыць ён. — Што ж, пабачым! Камандзір яшчэ гэты — балда касавокая...

Гэтая абраза раптам узрывае заўсёды спакойнага Папова. Вочы яго загараюцца нядобрым бляскам, увесь ён падаецца наперад, прыгнуўшыся, спыняецца перад Лёшкам.

— Чаму Папоў балда? Кажы, чаму Папоў балда? Лошка сам балда! Нельга гармату кідай. Папоў не бегай. Баба пагана бегай — туды бегай, сюды бегай. Папоў прысяга казал. Жаўтых не ўцікай. Папоў не ўцікай. Сволач уцікай. Маўчы, Лошка!

Папову, напэўна, моцна баліць рука, і, мабыць, яго растрывожыў Лёшка. Ён пачынае злавацца, нервова загадвае нам зараўняць на агнявой варонку пад колам і павярнуць гармату ствалом на дарогу. Сагнуўшыся, на каленях мы робім гэта. Задарожны выцірае тлусты ўспатнелы твар і больш не ўсчынае недарэчнай размовы пра ўцёкі, але ўвесь час азіраецца наўкола і нешта зацята думае. Папоў пакідае ягоназіраць ля гарматы і кліча мяне ў сховішча да нашых двух небаракаў.

Тут поркаецца Крывёнак, ён узнімае на Папова вельмі сур’ёзныя цёмныя вочы і кажа:

— Камандзір ужо адышоў. Лук’янаў канчаецца. Перавязаў трохі.

— Ідзі, Крывён, кулямёт мал-мала глядзі, — загадвае яму Папоў і, калі той выпаўзае са сховішча, уздыхае:

— Ах, ах, дрэнна!.. Вельмі дрэнна, таварыш камандыр! А-яя-яя!..

Яны ляжаць побач на падасланай палатцы — Жаўтых на спіне, закінуўшы ўгору сухі, шчаціністы падбародак; Лук’янаў з рудавата-збялелым тварам да паловы накрыты

сваім зацярушаным зямлёй шынялём. Абодва яны здаюцца мне нейкія дужа маленькія, недарэчна супакоеныя і нерухомыя.

— Камандыр, камандыр! — бядуе наводчык, відаць перамагаючы свой боль, і з частымі прыпынкамі гаворыць: — На Дняпро казаў: прапал... Тады не прапал... Цяпер прапал... А Папоў жывы... Нашто так, га, камандыр?.. Чаму так, камандыр?..

Ён пытаецца, але старшы сяржант маўчыць. Ніколі ўжо ён нічога не скажа, не закрычыць, не вылаецца на каго, як бывала, і мне робіцца вельмі пакутна, што сканаў ён, крычучы на мяне, што, можа, злосць на мяне была апошнім праяўленнем жывога ў ягоным сэрцы. Яшчэ пачынае здавацца, што, можа, гэта ён праз мяне падставіў сваю галаву пад кулю. Можа б, тая куля была мая, калі б ён ззаду не крыкнуў і я, здрыгануўшыся, не ўхіліўся, — і вось мяне яна прамінула, а напаткала яго.

А Лук'янаў? Вядома, у яго смерці ёсць нейкая мая ўскосная віна, бо, калі б я пабег да кукурузы хвілінаю раней, не чакаючы загаду, ён бы, мабыць, быў цэлы, а так вось канае на тым месцы, дзе мог ляжаць я. І ўжо не замінае яму ніхто — ні Лёшка, ні цяжкі яго лёс, ні клопаты аб бацьку. І тут раптам я прыпамінаю Люсю. Эх, Люся, Люся! Дзе ты цяпер і ці ведаеш ты, што гэтак нечакана сталася ў нас? Пэўна, ужо ніколі не прыйдзеш ты, як раней, на нашу агнявую, ніколі болей не павітаеш нас звычайным сваім «Добры дзень, хлопчыкі». Няма ўжо хлопчыкаў, пагінулі, адны раней, другія, відаць, пагінуць пазней. І як цяпер ратавацца? Але гінуць усё роўна не хочацца, па-ранейшаму пячэ ўнутры злосць ад нашых няўдач, і нянавісць да ворагаў цяжкім каменем душыць свядомасць.

Гаротна скурчыўшыся, наводчык сядзіць ля Жаўтыха, і я прыпамінаю, што ў камандзіравай пілотцы — яго неадпраўленае кароценькае пісьмо. Яно настойлівай недарэчнасцю пачынае турбаваць мяне, і я дастаю гэты шматок паперы. «Дарка, я жывы, чаго і табе жадаю...» Колькі ж мінула часу з тае пары, як пісаліся гэтыя словы, а як усё непапраўна змянілася! А пісьмы ж дадому ідуць доўгія тыдні, і колькі падзей на фронце адбываецца за той час! Як можна пісаць такое, калі, атрымаўшы яго, людзі радуюцца, а ўжо трэба, бывае, плакаць. Недарэчна гэта дзіўна.

«Ну вот, камандзір, засталіся без бацькі твае дзеці… А ў чацвер камісія...» — няўцямна думаю я і папраўляю адкінутую

ўбок Жаўтыхову руку. Але яна, сагнуўшыся ў локці, зноў памалу разгінаецца, і на запясці, бы нічога ў цэлым свеце не здарылася, па-ранейшаму рупна цікае трафейны Жаўтыхоў гадзіннічак. Камандзіраў твар, здаецца, нікольki не змяніўся, можа, толькі больш пасінела парахавое рабацінне на сківіцах ды неяк натапырылася-вырасла шчэць. Павекі яго напалову прыплюшчаны, і з-пад іх ледзьве свецяцца нерухомыя бялкі вачэй.

— Закрый мала-мала вока, — кажа Папоў. — Навошта глядзі? Хай спіць...

Беражным дотыкам я назаўжды закрываю камандзіру павекі і, здаецца, не стрымліваюся. Нешта прарываецца ва мне, поўнае неспатольнай злосці, і я дзіка лаюся, так, што аж сам раблюся ненавісным сабе.

— Нічога! Не трэба... — кажа Папоў. — Вайна!..

Так, вайна! Няхай яна будзе тройчы і сотні разоў праклята, гэта вайна. Яна кожнага дня вісела над намі ўсе нядоўгія гады нашага жыцця, яна спела, накоплівалася з самай калыскі, якую, прыйшоўшы з папярэдняй вайны, ладзілі нам нашы бацькі. Пад яе чорным крыллем гушкаліся, раслі і вучыліся мы — салдацкія сыны і самі будучыя салдаты. Нашыя маці думалі, што мы — іхнія дзеці, народжаныя імі для ўцехі ў маладосці і апоры ў старасці, а на справе аказалася, што ненадоўга былі мы ўцехай і рэдка — апорай.

Кожны год дзе-небудзь на свеце ішла вайна, дзяржавы, што не ваявалі, з усяе сілы рыхтаваліся да таго, і гады нашае сталасці былі кароценькім перапынкам паміж дзвюма войнамі, у які кавалася зброя, фарміравалася ўсялюдская злосць, рыхтавалася навуковае абгрунтаванне будучай бойні і раслі салдаты будучых рот, батальёнаў, палкоў. Мы адчувалі гэта, але ўсё ж цешылі сябе думкаю, што ўсё як-небудзь абыдзецца, што кіраўнічая мудрасць, пакты, праўда нашае мірнай справы не дапусцяць вайны. Ды нам у дзяцінстве яна і не здавалася чымсь ненатуральным — наадварот, самымі ўлюбёнымі нашымі цацкамі была зброя, самыя цікавыя кніжкі былі пра вайну. Яна была прываблівай нам, гэтая вайна, і вабіла яна нас да таго часу, пакуль была выдумкай, а не рэальнасцю. Цяпер жа вось, калі мы зведалі яе ва ўсёй неразумнасці, лютасці, подласці, ахвярнасці, мы праклялі яе — кожную вольную або нявольную, усчатую і навязаную, — і няхай яна будзе праклята навек!

У галаве маёй тлум. Вочы засцілае туманам крыўды і нянавісці. У душы ўсё апала, усё рашучае, гордае, дужае, што за цяжкі пакутны год разраслося ў намер, раскрышылася за адзін дзень. Застаўся толькі ранейшы боль і бяздумная няпэўная ўпартасць. Я няўцямна кручу ў руках Жаўтыхова пісьмо і стараюся нешта вызначыць раз назаўсёды.

— Папоў, — кажу я, пазіраючы наводчыку ў вочы. — Што рабіць? Стаяць да канца?

У рудых вачах Папова з’яўляецца здзіўленне, пасля ціхі сяброўскі дакор. Ён уздыхае і кажа:

— Нашто так кажы: да канца? Не трэба канца. Не трэба прападай. Прападай дурань! Трус прападай! Лазняк — нашто прападай? Многа-многа ваяваць трэба. Жыві трэба.

— Думаеш, Папоў лёгка? — памаўчаўшы, пытаецца наводчык. — Ой, як Папоў дрэнна! Жаўты — камандыр, даўно мой камандыр, харош друг... На Дняпро мы прападал, ой, дрэнна прападал. Якут Папоў цалавал руска Жаўты. Жаўты цалавал якут Папоў. Казалі: бывай! Немец гранаты кідай. Папоў нет гранаты, Папоў — дваццаць два патроны, Жаўты — чатыры патроны. Адын дзень страляй — сапсэм прападай.

Летняе неба — у дымнай смузе. Сонца пячэ-смаліць нашыя лбы, горкі салёны пот раз’ядае твары. Над Жаўтыхом і Лук’янавым круцяцца, лезуць у іхнія вочы мухі. Я раз за разам махаю пілоткай і адганяю іх ад нерухомых нашых таварышаў. А Папоў, не вельмі складна, блытаючы рускія і якуцкія словы, расказвае трохі ўжо чуты мною выпадак, калі меней года назад для доўгіх крывавых баёў сышліся разам двое розных людзей, сышліся, каб вось сёння расстацца навек.

## 13

— Цікава! От цікава, дакуль мы тут выседзім? Пакуль у палон пабяруць, ці як? — падае ад гарматы паспакайнелы ўжо голас Задарожны. Засцярожліва сагнуўшыся за шчытком, ён пільна азірае абшар, але скрозь пуста. За вёскаю ж тысяччу перуноў грыміць бой, і па выбухах-стрэлах чутно, што ён на адным месцы і не цішэе, а нарастае. Недзе па-над дарогаю, вылятаючы з-за пагоркаў, выюць нямецкія міны, але рвуцца яны далёка за вёскай. Папоў моршчыцца, ціхенька вохкае і ўсё не знойдзе ніяк мясціны для сваёй рукі — то туліць яе да

грудзей, то кладзе на калені, то выцягвае ў цяньку пад сцяной. Лёшку ён не адказвае.

— Было б геройства, — бурчыць Задарожны. — А то дурнота адна. Пазабіваюць, і ніхто не даведаецца. Напішуць — прапаў без весткі. Або яшчэ лепш — у палон здаўся.

Папову напэўна непрыемна чуць гэта, і ён цвердзіць сваё:

— Камандыр Жаўты не адступай — і Папоў не адступай. Трус адступай.

— Жаўты, Жаўты! Што мне Жаўты! Жаўтому цяпер усё роўна. А мы жывыя яшчэ.

— Эх, Лошка, Лошка! — ківае галавой Папоў. — Дрэнны твой галава. Малы галава...

— Што галава! — агрызаецца Задарожны. — Вось глядзі: хоць бы ты! Геройства, можна сказаць, праявіў — танк падбіў, — а толку што? І ведаць ніхто не будзе. Зноў жа Лук'янаў — чым не герой? Пад агонь лез. А яго ледзь не злачынцам лічаць.

— Лук'ян, так? — пытаецца Папоў і чагосьці задумваецца. Нешта сур'ёзнае пакутаю адбіваецца ў яго наіўных вачах. З паўхвіліны ён думае, а пасля кажа:

— Пэўна, Лошка, твой праўда. Трэба ідзі камбат Троцкі і скажы. А хто хадзі? Лошка хадзі? Лазняк хадзі? — пытаецца ён і пазірае на нас.

Гэта нялёгкая справа — пад абстрэлам прабірацца туды і назад па шляху, дзе тысячы небяспек чакаюць цябе. Але ў тых небяспеках хоць якая-небудзь надзея на паратунак, седзячы ж тут, наўрад ці дачакаешся чаго добрага. І менавіта таму мне вельмі няёмка сказаць, што пайду я. Лёшка ж, крыху разважыўшы, рашае:

— Я пайду.

— Гавары камбату: Жаўты пагібай, Лук'ян добры салдат. Не трэба яго пісаць дрэнна. І загад трэба, як гармату кідай. Папоў будзе чакай. Дзень чакай, вечар чакай. Ідзі, Лошка, — устае з месца Папоў. Лёшка разварушваецца, весялее, глыбей насоўвае на галаву пілотку і бярэ аўтамат.

— Я ў абход. Аўфідэрзэй! — буркае ён і, прыгнуўшыся, бяжыць убок, у абход вёскі. Мы застаёмся ўтрох. Папоў ідзе на станіну і пачынае назіраць замест Лёшкі.

— Правільна Папоў рабі? — пытаецца наводчык і сам сабе адказвае: — Правільна рабі. Лук'ян медаль трэба. Папоў загад трэба.

І, памаўчаўшы, раздумна дадае:

— Адын салдат, шыбка смелы салдат, танк падбівай — маладэц салдат! Другі салдат, мал-мала смелы салдат, немца страляй — два раз маладэц салдат.

Нешта нявырашанае, недадуманае камяком засядае ў маёй свядомасці, чамусьці хочацца крыкнуць, затрымаць Лёшку, але ён хутка знікае ў апусцелай траншэі, а я так і не магу даўмецца, адкуль мая незадаволенасць. У гэты час ззаду чуецца ціхі працяглы стогн. Гэта Лук'янаў. Я паварочваюся і ціхенька дакранаюся да яго калена.

— Лук'янаў! Га, Лук'янаў!

Ён ледзь-ледзь прыўзнімае павекі.

— Дрэнна мне. Душыць. Ох!..

— Пацярпі трохі, — кажу я. — Адаб'ёмся — выручым.

— Толькі не кідайце! — безуважны да майго суцяшэння, просіць ён. — Дабіце лепш. Застрэльце...

Я ведаю, у такіх выпадках няма чаго крывіць душой, угаворваць, ашукваць, — чалавеку ў такім стане трэба сказаць праўду.

— Ладна, — абяцаю я. — Так не пакінем.

— Дзякуй, — ціха шэпча ён і, цяжка дыхаючы, супакойваецца.

Так, здаецца, яму ўжо не жыць.

А сёння вось напаследак аказалася, што і Лук'янаў неблагі салдат. Я ведаю, што зусім ён не смелы, гэта не тое што Задарожны, які мог падзівіць нас сваёй паказной смеласцю. Лук'янаў — ціхі, слабасільны інтэлігент, няўдачнік у вайне, відаць, ніколі ён не вылучаўся адвагай, але вось калі давялося рашыцца на цяжкае, хоць мо і баючыся, а рашыўся. Але ж вось наважыўся на цяжкае і Задарожны. І тут мне раптам здаецца, што Лёшка ахвотна пабег у тыл толькі таму, што там Люся. Можа, яшчэ ўчора згаварыліся яны, і, можа, яна там чакае яго? Зноў панылая злосць агартае мае адчуванні. Агідная дзяўчына! І чаго яна так сноўдала на нашу агнявую, чаго гэтак ласкава абыходжвала ўсіх, калі цікавіў яе адзін толькі Лёшка? Чаму тады яна жартавала ўсё над Крывёнкам, гэткаю добранькай ставілася да мяне? Навошта яна набівалася са сваёй увагай, насіла лякарствы Лук'янаву, Жаўтыху, калі падабаўся ёй Лёшка? І вось цяпер няма больш Жаўтыха, памірае Лук'янаў, але ўцалеў гэты Задарожны, — хай яна супакоіцца і ашчасліўцца, зласліва думаю я.

Здаецца, я пачынаю адчуваць у сабе сталую нянавісць да яе. Ужо калі б давялося выжыць, я сказаў бы ёй аб гэтым, цяпер я не пасаромеўся б, — вялікая злосць да гэтай незразумелай дзяўчыны пачынае перасільваць ва мне ўсе мае ранейшыя шчырыя пачуцці да яе.

— Лазняк! — раптам устрывожана гукае Папоў. Я мігам пераадольваю тлумную дрымотную знямогу і выскокваю са сховішча. Наводчык няўцямна азіраецца на станіне, а цераз бруствер да нас пералазіць незнаёмы салдат, які немаведама адкуль узяўся тут і незаўважаны падышоў да агнявой.

— Адваюваўся! — кажа ён нейкім недарэчна бесклапотным голасам, быццам мы дзе-небудзь на занятках у тыле. І тут мы з Паповым насцярожваемся і моўчкі ўзіраемся ў яго збялелы васпаваты твар, на якім у незразумелым дзікаватым выразе застылі яго нейкія п’яныя вочы. Але самае горшае нават не ў вачах. Праваю рукой салдат заціскае левую, якая, нібы бранзалетам ад гадзінніка, перавязана вузенькай брызентавай дзяжкай, і ад самай гэтай перавязкі на нейкім ашмотку скуры вісіць зусім адбітая, скрываўленая, з растапыранымі пальцамі кісць.

— Ой, хлопці, адваюваўся, так рады! У каго е ножік? — пытаецца салдат і сядае акрай пляцоўкі. Мы ўзіраемся ў яго збялелы твар, на якім па-ранейшаму не здрыганецца ніводзін мускул. Гэты яго спакой здзіўляе і бянтэжыць нас, я кідаюся да нашых нябожчыкаў, дастаю з камандзіравай кішэні ягоны ножык і вяртаюся наверх.

— Ой, ой! — кажа Папоў. — І не баліць?

— Адстаў, — неўпапад адказвае салдат. — Всі пабіглы, а мэнэ як вдарыць! Ачнуўся, гляджу, параніты...

— Ты што, не чуеш? — крычу я ў самы ягоны твар. У засяроджаных салдатавых вачах адбіваецца кароценькае намаганне ўчуць і зразумець пытанне.

— З шістой роты я, — глухавата адказвае ён. — Панасюк. Тэпэрыча дадому пійду. На, адріж, хлопэц.

Пераадольваючы гідлівасць, з нейкім недаверам да яго розуму, я пераразаю шкуматок скуры, кісць назаўжды аддзяляецца ад рукі, салдат бярэ яе за ўказальны палец і неяк беражліва кладзе ў ямку пад бруствер.

— Пахаваты трэба. Стількі парабіла. А бінтэц е? — зноў пытаецца ён без ніякага ценю болю. — Тэпэр полечусь і — у

Іванівку. А рука не лыха. Спецыяльнасць у мэнэ — пчаляр, і аднаруч упраўлюся.

Кроў з перабітай рукі амаль што не ідзе, відаць, раменьчык добра пераціснуў яе, толькі некалькі кропель падаюць на запыленыя салдатавы чаравікі. Але ўсё ж трэба перавязаць, ды ў нас няма чым.

— Дай гімнасцёрку, — тузаю я ягоны падол, аднак салдат ухіляецца.

— Ну, скажэш: вона ж нова. Тількі ў травэні атрымлівалі. Ты спідняй адірві.

Мы пазіраем на яго са здзіўленнем, а салдат, сапраўды не адчуваючы, відаць, ні болю, ні страху, паварочваецца да мяне бокам, і я шкуматаю кавалак ад яго нацельнай сарочкі. Затым як-колечы абкручваю яго руку.

— Адваюваўся! — радасна паведамляе ён і заклапочана дадае: — От тількі медаль згубыв, — і варушыць напаказ грудзьмі. Сапраўды над кішэньчыкам тырчыць коса прышпіленая шэрая стужка медаля «За адвагу» — самога медаля няма. — Тэпэрыча не с чым і додому показатыся.

Мы маўчым, чакаем, што будзе далей.

— Ну от гарно, — кажа ён, калі я закончваю перавязку, і ямчэй месціцца над невысокім брустверам. — Спічну трохі і пійду.

— Там жа немцы. Куды ты пойдзеш?! — крычу я яму ў вуха.

— Га? Вінніцкі я. А вы звідкіля?

— Табе што, не баліць? — пытаюся я. Але Панасюк, відаць, зусім аглухлы, ён толькі пазірае на мяне і неяк знямогла прыкрывае свае рудыя з сінню павекі. Я зноў пераглядваюся з Паповым — наводчык пільна глядзіць на нашага нечаканага госця і, пэўна, таксама нічога зразумець не можа. Мне дзіўна, як гэты салдат не адчувае болю, гэта ж, пэўна, так страшна балюча, а ён нават не паморшчыцца, разважае пра дом, толькі выгляд яго нейкі дужа не адпаведны яго нетутэйшаму настрою.

Шмат загадак ледзь не кожнага дня выстаўляе вайна, і хоць даўно ўжо не навічок я на ёй, але ўсё ж часцяком ніяк не магу зразумець загадкава-супярэчлівую сутнасць многіх яе незвычайных з’яў.

14

Наша нямое здзіўленне прыпыняе далёкі маторны гул.

Раптоўна нeяк, раней не заўважаны, ён прарываецца з варожага боку, і мы з Паповым чуем яго толькі тады, калі з-за пагорка на дарозе, узняўшы воблака пылу, выскоквае некалькі машын. У іх аб'ёмістых кузавах цеснымі радамі сядзяць немцы.

Папоў ад нечаканасці нешта ўскрыквае па-якуцку і здаровую рукою хапаецца за механізмы наводкі.

— Лазняк, зараджай!

З расчыненай пачатай скрынкі я хапаю асколачны і пхаю яго ў ствол. Ад хвалявання гэта атрымліваецца няспрытна, гільза не дасоўваецца да канца, і клін не зачыняецца. Тады, як гэта часам рабіў Задарожны, я штурхаю яе чаранком рыдлёўкі і прыгінаюся на каленях.

Цяжка нагружаныя вялікія машыны, грузна асядаючы на скатах, перапаўзаюць на аб'ездзе міннага поля канаву і выбіраюцца на дарогу ў вёску. Як заўжды, знянацку дужа грымотна бахае стрэл. Пыл засцілае агнявую, я не бачу, куды трапляе снарад, і кідаюся па наступны. Зноў мяне ахоплівае ліхаманка бою, адчуванне небяспекі да дрыготкі напружвае нервы, а ў свядомасці, бы здзекуючыся, помсліва гучыць-дражніць мяне нейкі зласлівы голас: «Ага, вам канец, а ён жывы! Ён уцалее, і Люся будзе з ім, ага! Ён разумнейшы за вас, ён ведае, як і што, ён адчуваў гэта. Недарма так настойваў, казаў пра Лук'янава, а дбаў пра сябе... Ага!»

Ён агідны мне, той незнаёмы, недарэчны цяпер голас, я хачу заглушыць яго, пазбыцца, засяроджваюся толькі на сваёй справе — сноўдаю на каленях ад казённіка да скрынак. Папоў б'е часта, мяне абсыпае пяском, аглушае, я не ведаю, не бачу, дзе тыя машыны, — уся мая воля і сілы згорнуты ў адно — зараджаць. Я адчуваю, што гэтая наша зачэпка дарма нам не абыдзецца, у машынах напэўна пяхота, але цяпер нам ужо усё роўна.

А з Паповым тым часам пачынае рабіцца штосьці незвычайнае. Ён неяк весялее ці, можа, зласнее і, сагнуўшыся за прыцэлам, крычыць: «Стой, Гітлер! Стой!» — і яшчэ нешта, што заглушаюць стрэлы. Пасля яшчэ больш заўзята пачынае крычаць: «Назад, Гітлер!» Я прыўстаю на каленях і па-над шчытом назіраю ў поле. Тры машыны гараць на дарозе,

некалькі, ратуючыся ад агню, паварочваюць убок, у аб’езд. «Гух! Гух!» — раптам даносяцца адтуль два цяжкія падземныя выбухі. Дык вось чаму так радасна крычыць Папоў і чаму на яго плоскім рудым твары льсніцца шырокая дзіцячая радасць: ён загнаў іх у міннае поле.

— Многа-многа давай! Многа! Шыбка давай! — крычыць Папоў і наводзіць гармату.

Машыны замітусіліся. Дзве, разнесеныя выбухамі, грудай жалеззя асядаюць да самай зямлі, астатнія нерашуча спыняюцца, некалькі ў хвасце вернуць назад на пагорак.

— Давай, Лазняк, шыбка зараджай! — у незвычайным азарце падганяе мяне наводчык. Але вось у скрынцы застаюцца два апошнія снарады.

— Снарады ўсе!

Папоў азіраецца, ураз сур’ёзнее. Па яго рудым, ажно счарнелым твары ліюць пісягі поту, спіна мокрая і гарачая, вузенькія вочкі звузіліся яшчэ больш — да шчылін, шырокія скулы раздаліся ў бакі. Ён нешта думае.

— Нядобра! Ай, як нядобра! — кажа Папоў. — Гітлер канава ляжы. Страляй будзе! Лазняк, карцеч трэба!

У вачах-шчылінках Папова загараюцца трывожныя жоўтыя агеньчыкі, я падаюся да скрынак, адкідваю пустыя — іх ужо багата набралася ў нас, скрозь у доле качаюцца гільзы. Урэшце мне трапляе цяжкая скрынка, за вяровачную ручку я падцягваю яе бліжэй да гарматы. Тут дзесяць снарадаў карцечы, гэта апошняя наша надзея. Але карцеччу страляць па дарозе далёка, трэба, каб немцы падышлі бліжэй, і мы пачынаем чакаць.

— Ой, Лошка! — азіраецца Папоў. — Дзе Лошка? Снарад мал-мала, загад трэба...

Мы пазіраем у наш тыл — нідзе нікога. Скрозь да вёскі — пусты, распалены сонцам абшар. За вёскай ідзе бой, там няспынна рвецца, звініць, грукоча, равуць маторы і бязладна рассыпаецца кулямётная траскатня. Напэўна, немцаў далей не пусцілі, і невядома, што і як рабіць нам. Ці чакаць Лёшку, ці ўжо забыцца на яго — з ім таксама ўсё магло здарыцца, мо ляжыць дзе забіты? Але зноў жа, як і адыходзіць: усё ж побач дарога, па ёй, відаць, пойдуць немцы, і мы маглі б дапамагчы тым, што за вёскай. Калі б толькі было болей снарадаў.

Але ў нас робіцца ціха. Немцы чамусьці не спяшаюцца атакоўваць нас, яны прытаіліся недзе ля дарогі і чагосьці

чакаюць. Панасюк тым часам сядзіць, як сеў, прыхінуўшыся спінаю да бруствера, толькі галава яго схілілася набок, здаровая рука ашчадна прытрымлівае параненую. «Няўжо спіць?» — думаецца мне, і я кранаю яго за нагу.

— Гэй, ты! Ідзі ў акоп!

Але Панасюк не варушыцца, сядзіць па-ранейшаму, нібы не чуе. Папоў таксама азіраецца і, устаўшы са станіны, сігае да яго.

Наводчык прыўзнімае салдатаву галаву, і па мне слізгае яго застыглы нерухомы позірк. У прыплюшчаных вачах — ніводнае рэшткі жыцця.

— Што гэта? — дзіўлюся я. — Што з ім?

Папоў яшчэ крыху трасе-варушыць ягоныя плечы. Я падскокваю да пехацінца.

— Забіла, га? Дык не стралялі ж...

— Памірал, — кажа Папоў без вялікага здзіўлення. — Даўно памірал.

Ён асцярожна кладзе Панасюка бокам на дол, здаровая рука па-ранейшаму трымае перабітую, бы ў ёй яшчэ захаваўся боль. Вось табе і адваяваўся, прыпамінаю я нядаўнюю яго гаворку. Толькі заспакойваў сябе: аднаруч упраўлюся, спецыяльнасць ёсць, не прападу.

Гэтая смерць невядомага, ніколі раней не бачанага мною чалавека чамусьці не меней, чым пагібель камандзіра, узрушвае мяне. Колькі часу я ўсё гляджу і гляджу на яго адранцвелае цела — думаецца, як недарэчна на вайне ладзіць нейкія свае планы, нешта задумваць, пра штось дбаць, калі навокал так густа буяе смерць. Праўда, хіба спыніш думкі, хіба засцеражэшся ад жадання, хіба закапаеш у зямлю свае мары? Вось такая цяжкая і, можа, нават недарэчная на вайне з'ява — каханне, а не выходзіць з галавы Люся, і ўсё думаецца: а раптам яна не паспела адысці, трапіла да немцаў, а можа, яе забіла, — ад гэтага становіцца жахліва, хочацца кінуць усё і бегчы туды, дзе наша санчасць, можа, яе трэба ратаваць. І тут у думкі зноў умешваецца нейкі чужы здзеклівы голас, ён кажа: «Раней трэ было дбаць пра гэта, цяпер там з ёй Лёшка, ён і паратуе».

Недарэчна ўсё гэта, пакутна і нязбыўна. Відаць, ужо так уладкавана жыццё, што пакуль чалавек жывы, ён адчувае і клапоціцца, нібы яму жыць доўгія гады. У тым яго жыццёвая прывычка, навык пакаленняў. Зноў жа — на фоне вечнасці

ці вялікая ўжо розніца паміж некалькімі дзесяткамі год чалавечага веку і тымі хвілінамі, што аддзяляюць цяперашняе імгненне ад апошняга ў жыцці байца на вайне?

Прыгнуўшыся, я бяру нежывога Панасюка пад пахі і адцягваю ў сховішча. Яно занадта шырокае для двух, і я кладу да іх трэцяга. Лук'янаў ужо не варушыцца, не пазірае, можа, памёр? І я думаю, хто будзе наступны? Ці, можа, мы пагінем адразу і ўжо не будзе каму прыбраць нас з агнявой у якоеніякое прыстанішча?..

У гэты час абодва мы заўважаем, што не чутна стала Крывёнка. Трафейны няўклюдны кулямёт яго стаіць, дзе стаяў на брустверы, а кулямётчыка нідзе не відаць. Папоў зазірае ў акоп, але і там нікога няма. Дзіўная справа! Мы пераглядваемся з наводчыкам, і ён падазрона ўзіраецца ў варожы бок.

— Да Гітлер хадзі? — пытаецца Папоў і з наіўнаю трывогай ў вачах глядзіць на мяне.

— Глупства, — кажу я. — Нікуды ён не пойдзе.

Да немцаў ён не пойдзе, але тады куды ён прапаў? Хоць бы сказаў ці даў які знак, а то знік, і цяпер думай, непакойся за гэтага зацятага, нязладнага чалавека.

Мы сядзім за гарматай — Папоў на адной станіне, я на другой — і ўслухоўваемся ў прыглушанае грымоцце бою за вёскай. Папоў нешта змрачнее, задумваецца і нават не пазірае на дарогу, на якой дагараюць машыны. Іншыя падаліся кудысь назад і далей, у аб'езд міннага поля.

Раптам наводчык ляпае сябе па сцягне.

— Ой, дурны Папоў! Ой, дурны! Нашто паслал Лошка? Нашто?

— А чаму? Што такое? — пытаюся я.

— Ой, Лошка хітры! Лошка не хадзі! Кідай Лошка!

Агідная самота ўпаўзае ў маё нутро. Упэўненасць, з якою кажа гэтыя словы Папоў, дзейнічае, як гіпноз. І мне таксама робіцца ясна і зразумела, што назад Задарожны не прыйдзе — не затым ён пайшоў. Тут нейкая была яго хітрасць, якой ён дамогся, і мы засталіся ў дурнях. І ўсё ж не хочацца верыць у тое, я адганяю благія прадчуванні: усё ж ён свой чалавек, не вораг, як гэта ён можа кінуць нас тут? Хочацца як-небудзь супакоіць Папова, і я кажу:

— Нічога. Можа, усё ж прыйдзе.

— Снарад мала — дрэнна. Лошка не хадзі — дрэнна. Крывёнак прапал — дрэнна. Тры мала дрэнна — адын балшой дрэнна.

Крывёнак, аднак, неўзабаве з’яўляецца.

Спярша аднекуль з-за бруствера цяжка грукае на агнявую зачыненая скрынка са снарадамі. Мы падхопліваемся, але зараз жа з суседняй варонкі перакульваецца сюды і Крывёнак. Гімнасцёрка ў яго выбілася з-пад дзягі, штаны і грудзі скрозь у зямлі, увесь ён мурзаты ад пылу. Адною рукой хлопец валачэ за сабой маток металічных нямецкіх стужак, у другой трымае за рукаятку шырокі блішчасты кінжал.

— Дзе, чаму хадзі? Нашто маўчы? Чаму дрэнна рабі? — адразу накідваецца на яго Папоў. Крывёнак аддыхваецца, прыўстае на каленях і пачынае запіхваць у штаны падол гімнасцёркі. Яго сур’ёзныя вочы з нейкім нямым дакорам коратка пазіраюць у твар наводчыку.

— Вось, — ківае ён на снарады. — На Скварышавай агнявой узяў. І патроны.

— Скварышаў хадзі? А дзе, што Скварышаў? — мякчэе Папоў.

— Яны-то ўкацілі. Паспелі, — кажа Крывёнак. Затым ён бярэ свой доўгі эсэсаўскі кінжал, на якім цьмянай гравіроўкай паблісквае «Дойчлянд юбер алес», і пачынае выціраць яго аб зямлю. На лязы і на рукаятцы свежая кроў, і я раптам здагадваюся, дзе ён быў і дзе ўзяў стужку.

— Што, на дарогу хадзіў?

— Дзе хадзіў — там няма. Што вам? — ваўкавата адказвае Крывёнак.

— А гэта? — ківаю я на кінжал. Крывёнак усаджвае яго ў чорныя лакавыя похвы і неяк выпрабавальна пазірае на мяне.

— Ну і што? — нервова кідае ён. — І буду! Рэзаць, біць, душыць сабак, да апошняга! — Пасля ваўкавата дадае: — Вунь пяхота пайшла, бачылі?

— Як пайшла? Куды пайшла?

Папоў няўцямна міргае вачмі і прыўзнімаецца на каленях. З раптоўна апалай надзеяй я таксама выглядваю над брустверам. Бачна, як удалечыні па пагорку ўніз брыдуць рэдкія купкі людзей. Заднія нясуць ПТР, нехта валачэ станковы кулямёт, яны пераходзяць адкрытае месца і па адным хаваюцца ў ходзе зносін, што вядзе ў тыл. У першай траншэі ўжо не відаць нікога.

— Ай-яй! — заклапочана кажа Папоў і змаўкае. Гаварыць болей няма чаго, мы і без слоў добра разумеем, што сталася.

— Ой, як нядобра! Гітлер скора-скора ідзі. Давай зямля капай, зямля-матушка хавай...

Мы адчуваем — з кожнай хвілінай наша становішча горшае. Толькі цяпер нічога не зробіш, цяпер трэба чакаць Лёшку або шчаслівага выпадку і рыхтавацца да бою.

Папоў застаецца на агнявой ля гарматы, а мы з Крывёнкам лезем у акоп. Акопчык наш памялеў, бруствер разбіты, наўкола густыя воспіны мінных варонак, трава скрозь шэрая ад пылу і зямлі. Крывёнак бярэ рыдлёўку са зламаным чаранком, я — абдзёртую каску Папова з парваным раменьчыкам, і мы пачынаем паглыбляць акоп.

Пот, перамешаны з пылам, тлуста блішчыць на нашых тварах. Сонца, здаецца, ужо хіліцца на адвячорак, але паліць бязлітасна. Трошкі павявае вецер, ды яго так мала, і так хочацца піць. Галава тлумная, няма ніякага жадання ні пра што дбаць, ні думаць, — нейкая знясільваючая цягучая стома смалой налівае цела.

Я выграбаю з акопа камякастую, з травою, зямлю, наваленую выбухамі, і высыпаю яе на бруствер. Крывёнак капае побач, у трох кроках ад мяне. Ён якісь невядомы мне сёння, знікла яго простая, стрыманая таварыскасць, здаецца, за ўвесь дзень хлопец не сказаў ніводнага добрага слова, толькі ўвачавідкі худзее і чарнее з пакалечанага свайго твару. Мне робіцца няёмка ад гэтае яго недарэчнае ваўкаватасці.

— Слухай, — ціха кажу я. — Ты прадчуваеш, што нам будзе?

Ён на секунду пазірае на мяне чужым позіркам сцюдзёных вачэй і ўсё імпэтна шпурляе на бруствер зямлю.

— Ты чуеш?

— Ну і чорт з намі! — кідае Крывёнак.

Я ўглядаюся ў хлопца, выгляд у яго незайздросны, сапраўды, лепей не лезці да яго з размовамі. Але чаго гэта ён такі злосны на мяне сёння, хіба я чым-небудзь пакрыўдзіў яго? Я трохі часу думаю, пазіраючы на сябра, і адна здагадка з’яўляецца ў маёй галаве.

— Слухай, Крывёнак! Чаго ты злуешся?

— А табе што? — падымае ён неласкавы позірк.

— Не, усё ж скажы.

Крывёнак з ярасцю выкідвае цераз галаў поўныя рыдлёўкі зямлі і зморана дыхае. Але я чакаю, і раптам ён выпростваецца.

— Сам ведаеш! Чаго на Задарожнага кідаўся? Люсіна чэсць заела? Ага?

Дык вось што! Цяпер ужо знікае загадка, цяпер мне ўсё зразумела. Гэта крыху бянтэжыць мяне, але што я магу сказаць яму? Схлусіць, што Люся тут ні пры чым, — у мяне не паварочваецца язык, а сказаць праўду я не хачу.

— Ты вось пра што! Цяпер зразумела...

Крывёнак маўчыць, у мяне таксама прападае ахвота да гутаркі, і я налягаю на працу.

У канцы акопчыка вытыркаецца з зямлі нейкі пакамечаны рукаў, я цягну яго — аказваецца, гэта бушлат Жаўтыха. Дзіўнае ўражанне заўжды робяць на мяне рэчы забітых. Бушлат гэты старэнькі, густа запэцканы змазкай і яшчэ веснавой гразёю, адзін пагон у яго адарваны, а на другім чырванее роўненькая палоска сяржанцкай нашыўкі. Я памятаю, як Жаўтых прышываў яе аднойчы ўранку, у яго не было тады ніткі, і я даў яму сваю іголку. І цяпер мне чамусьці здаецца: навошта гэта?

Усе дробязныя клопаты жывых цяпер выглядаюць нейкімі вельмі нязначнымі і недарэчна марнымі перад бязмерна магутнаю з’яваю смерці. І невядома, чаму нават тут, на вайне, дзе яна як ніколі ўрадлівая, людзі паводзяць сябе, як заўсёды, з усімі ўласцівымі ім заганамі — сябелюбствам, хцівасцю, кар’ерызмам, сварлівасцю. Ці на самай справе яны ўпэўнены ў сваёй даўгавечнасці, ці мо проста не хочуць зважаць на нешта галоўнае, адзіна важнае і дужа неабходнае ў жыцці, якое нельга забыць і на хвіліну?

Пад бушлатам Жаўтых яго рэчавы мяшок. У ім небагата чаго накладзена, але нешта ўсё ж муляе ў маіх руках, і ад цікаўнасці я развязваю лямкі. Чужы рэчмяшок — гэта амаль тое ж, што чужая душа. Ось і тут — вечная, нескароная праява жыцця, якая смешна закрывае чалавеку вочы перад непазбежнасцю смерці. У камандзіравым рэчмяшку вафельны ручнік, пара ануч, настаўленне па нашай гармаце, і разам з гэтай маёмасцю, атрыманай са старшынскіх рук, — дзве цвёрдыя лусты невядома дзе ўзятай падэшвы са скуры, матацыклісцкія пальчаткі з доўгімі шырокімі халяўкамі, а ў самым сподзе — нейкая шкатулка з вельмі прыгожым лакавым вечкам... Эх, стары, мудры Жаўтых! Ты заўжды здаваўся багаты практычным жыцейскім розумам, хіба не бачыў ты, колькі заставалася ў ротах гэткіх вось нікому не патрэбных

катомак пасля ўдалых і няўдалых атак? Ведаў жа, але, пэўна, не мог адолець у сабе спакусу прыхаваць якую непатрэбшчыну, а жыццё сваё берагчы забываўся. А без яго які сэнс ва ўсіх самых цудоўных у свеце рэчах!

Я шпурляю цераз бруствер гэты незавязаны, не патрэбны цяпер нікому хатуль і зноў бяруся за каску. Сухая, напаленая сонцам зямля, як жарства, скрыгае па сталі, каска ўжо бялее вузенькім абшарпаным казырком. Мне не відаць, што там робіцца на паверхні, але Папоў маўчыць, і ў голаў лезе рознае.

Мне ўспамінаецца колішні наш камісар, які аднойчы перад атакай старанна начышчаў свае новыя, толькі пашытыя атрадным шаўцом боты і быў забіты праз якую гадзіну, нават не запэцкаўшы як мае быць гэтых ботаў. Паўстае ў вачах старшына Клыбаў, вядомы ў атрадзе барахольшчык і хцівец, у якога нельга было выпрасіць шматка на лапік і які вазіў з сабою тры вазы рознага трафейнага майна. Сталася так, што снарад ударыў якраз у фурманку і раскідаў па алешніку ўсё старшынскае багацце разам з рэшткамі скупога гаспадара... Памятаю, бачыў я ў шпіталі салдата, якому хірург апераваў сцягно і ўвесь час лаяўся. Аказваецца, нямецкі асколак разбіў у кішэні салдата сем гадзіннікаў, загнаўшы ў нагу ўсякія кольцы і спружынкі. Не, хай яно тысячу разоў спрахне, тое барахло! Ці да яго мне, калі варта толькі заплюшчыць вочы, — і вось яны, тыя страшныя каляіны, у якіх з крывавай гразёю перамешаны паламаныя рукі, ногі, раструшчаныя гусеніцамі дзіцячыя галоўкі... Але ж няўжо гэта так і сыдзе са мною ў магілу і прападзе назаўжды мая святая нянавісць?

Не! Калі ёсць справядлівасць на свеце і разумны сэнс у жыцці, дык я буду жыць. Я мушу жыць — гінуць мне нельга.

15

— Лошка!!! — раптам крычыць Папоў. — Хлопцы, Лошка!!!

Мы з Крывёнкам выскокваем з акопа, Папоў здаровай рукой паказвае ў поле, туды, дзе няма ні ворагаў, ні нашых. Сапраўды, цераз пагорак у наш бок нехта бяжыць.

Гэта яшчэ далёка, і відаць толькі, як коціцца па зялёным маленькая фігурка чалавека ў зеленавата-жоўтым, аблезлым на сонцы адзенні. Але тое, што ён кіруе сюды, ні ў кога з нас не выклікае сумнення.

Чалавек тым часам знікае ў лагчыне за бліжэйшым пагоркам, некалькі хвілін мы чакаем, не зводзячы з таго месца вачэй, і ён зноў паказваецца з-за блізкага грэбня і зноў хутка бяжыць уніз.

— Маладэц Лошка! — задаволена, амаль радасна кажа Папоў.

Добра было б, каб толькі яму не пашкодзілі немцы. Яны не так ужо і далёка і, пэўна, бачаць з дарогі адзінокага салдата і, вядома, могуць абстраляць яго. Я засцярожліва азіраюся на дарогу, але там нікога — адно толькі дымна смыляць-дагараюць аўтамабілі; другія, скасабочыўшыся, нерухома стаяць у канаве. Падбіты танк побач таксама недзе смыліць унутры, на ветры ўюцца рэдкія пасмы дыму, па-ранейшаму смярдзіць бензінам, фарбай, паленай гумай і яшчэ нечым гаркаватасалодкім — ад яго пад грудзямі робіцца блага.

Але чагосьці змаўкае Папоў, яшчэ болей нахмурваецца зацяты Крывёнак; адчуўшы нечаканае, я шукаю ў полі маленькую постаць нашага пасыльнага і таксама дзіўлюся. Ён ужо бяжыць цераз лужок ля ручая, і ўжо відаць некаторыя драбніцы ягонай постаці. І тут мне пачынае здавацца, што гэта не Лёшка і нават не салдат і не мужчына — прытрымліваючы пад пахай нейкую ношу, кідаючы позіркі ў бакі, бяжыць жанчына ў вайсковым.

Самае зоркае вока, аднак, у Папова, ён некалькі секунд востра ўглядаецца ўдалячынь і з радасным здзіўленнем ускрыквае:

— Луся?!

Так, гэта Люся. Як ні недарэчна, але гэта яна. Я і сам ужо бачу і пазнаю, як хуценька мігацяць у траве спрытныя ногі ў чорных халяўках ботаў і развяваецца на ветры залацістая шапка яе валасоў. Пад пахай у яе санітарная сумка, і мне здаецца, што я бачу нават, як глыбока ўрэзваецца почапка ў дзявочыя грудзі. Вядома ж, Люся шыбуе да нас...

Зноў самотнае, тужлівае пачуццё невядома чаму апаноўвае мяне — і няпэўная стрыманая радасць і трывога: чаго бяжыць яна? Мо што здарылася з Лёшкам, можа, яго параніла, і яна нясе нам камбатаў загад? Можа, яна думае, што ён тут, і таму не вытрымала, бяжыць, шукае яго? Але тады не трэба і яе, няхай бы яна лепш не паказвалася нам сёння. А можа, гэта яе паслаў сюды камбат Троцкі з якім загадам? Але не. Чаго гэта Троцкі будзе пасылаць санінструктара, хіба не знайшлося

якога салдата ў палку! Я ўсё думаю і не магу даўмецца, чаго яна наважылася на гэта ў такі час, у такую небяспеку, калі мы тут самі сядзім як на вуголлі.

— От маладэц! Ну, маладэц! Ох, Луся! — захапляецца Папоў, узлёгшы жыватом на бруствер, і на яго спатнелым шырокім твары блукае лагодная наіўная ўсмешка. Крывёнак жа, здаецца, да болю сашчапляе сківіцы і, не сказаўшы ні слова, лезе назад у акоп, да сваёй рыдлёўкі.

А я ўжо не магу адарвацца ад Люсі. Яна бяжыць! Не перастаючы, усё мільгаюць і мільгаюць на сонцы яе загарэлыя каленькі і матляюцца-рвуцца з галавы валасы. Яна пераскоквае цераз абмялелы травяністы ручай і, трошкі запаволіўшы бег, узнімаецца на пагорак, дзе мы. Тут яе немцы з дарогі не бачаць, але хутка яна выйдзе на роўнае, і тады будзе самае страшнае. Толькі б праскочыла яго, толькі б паспела!..

Толькі б паспела, але дзе тут паспееш! Занятыя Люсяй, мы не бачым адкуль, толькі раптам на гарматным шчыце лопае і адлятае прэч куля. Папоў ураз спаўзае ніжэй, я таксама прыгінаюся да зямлі, каб не вытыркацца з-за бруствера, і ў той жа час далёкая і кароткая ў пяць куль чарга б’е па пяску і гармаце.

— Сволач немец: у сланечнік хадзі! — кажа Папоў. — Ох, Луся!

Я кладуся на гарачую зямлю пад брустверам і раз-пораз коратка пазіраю туды, дзе павінна паказацца Люся. Апошнія да роўнядзі метры яна прападае з нашага зроку, але павінна вось-вось з’явіцца. Папоў курчыцца пад нізенькім шчытком гарматы, ён занепакоіўся і крычыць на Крывёнка:

— Што ты! Кідай лапат, страляй! Скора-скора!

Крывёнак адстаўляе рыдлёўку і высоўвае над брустверам кулямёт. Грукатлівая доўгая чарга б’е па далёкіх сцяблах сланечніку.

І вось Люся паказваецца. Яна выбягае з-за схілу, спыняецца на момант, акідваючы поле вачыма, і зноў бяжыць да нас ужо наўпрасткі. Нам ужо відаць яе твар — успатнелы, змораны, расчырванелы, але такі незвычайна прывабны твар маладой, шчырай і вельмі прыгожай дзяўчыны; трапяткая бліскаўка медаля мігаціць на яе невялічкіх грудзях. Яна азіраецца ў бакі, паглядвае на нас і, здаецца мне, усміхаецца. Толькі чагосьці яна падае. Скалануўшыся, я высоўваюся з-за бруствера, азіраюся — не, са сланечніку не страляюць.

Упёршы куртаты прыклад у плячо, Крывёнак пільна ўзіраецца туды. Ага, гэта з другога боку — з траншэі! Некалькі чэргаў прыглушана даносіцца адтуль — значыць, і там ужо немцы. Але Люся ўсё ж ускоквае і, прыгнуўшыся, шпарка падаецца наперад.

Здаецца, нам будзе блага. Я пазіраю на Папова, ён — на мяне, і мы, разумеючы адзін аднаго, пераводзім погляды ў поле. Калі немцы з абодвух бакоў і спераду — гэта дрэнь. Яны акружаюць нас...

— Лазняк, павяртай! Скора-скора!

Мы ўдвух крыху заносім станіны, Папоў пачынае круціць махавікі, пасля сцішваецца ля прыцэла, і гарматка грымотна падскоквае. Карцеч сотняю куль разбівае дзірван, узнімае на траншэйным брустверы воблака пылу, і аўтаматныя стрэлы сціхаюць. Я зноў зараджаю, але наводчык толькі ўзіраецца ў прыцэл і не страляе.

— Ага, нядобра! — зласліва бурчыць ён. — Ага, прыпаліў!

І Люся, вось яна, вось. Апошнія метры яна паўзе — хуценька, спрытна, толькі варушыцца-выгінаецца ў траве яе вузенькая спіна ды ўсё залацее-рассыпаецца на галаве кучомка валасоў. Ніколі не бачыў я, каб так спрытна поўзалі нават заўзятыя пехацінцы-салдаты. Яшчэ некалькі крокаў, яшчэ! Люся мінае прылеглую кукурузную кучу, падпаўзае да бруствера і спыняецца, з-пад рассыпаных валасоў усмешліва пазірае на нас і аддыхваецца. Я ўвесь напружваюся, быццам мне, а не ёй цяпер пераадолець самае страшнае — бруствер, і сам сабе шапчу:

— Ну, скоранька! Скоранька! Скакай!

І вось яна ўніз галавой куляецца цераз бруствер у глыбіню гарматнага сховішча, падае з пляча сумка з чырвоным крыжам на вечку, і мы кідаемся да дзяўчыны. Не, яна, здаецца, не ранена, яна толькі адкідваецца спінай да сцяны, закідвае голаў і шалёна-шалёна дыхае. Тонкія яе ноздры на роўным ладным носе ходзяць хадуном. Я гляджу, як гэтак жа апантана б'ецца на яе шыі сіненькая жылка, як ціха і вельмі зморана дрыжаць на зямлі яе абадраныя тонкія пальцы, і цёплая пяшчотная хваля расплываецца ў маіх грудзях. Як гэта я мог кепска думаць пра яе, чаму я столькі наверз у думках на яе, — хіба ж не відаць, якая яна самая найлепшая ў свеце, гэта дзяўчына!

— Ой, хлопчыкі! Хлопчыкі!.. — хоча сказаць яна нешта, але яшчэ задыхаецца ад стомы.

— Луся, вада трэба, — кажа Папоў, стоячы перад ёй на каленях. — Няма вада... — ён бездапаможна аблізвае тоўстыя засмяглыя вусны.

Яна паступова адыходзіць ад стомы, раўнее яе дыханне, дзяўчына пазірае на нас, бы шукаючы каго, і позірк яе падае на раскіданыя ногі нябожчыкаў. Трывожная засмучанасць ураз гасіць усё ранейшае ўзбуджэнне на яе твары.

— Хто гэта?

— Адзін пехацінец, — кажу я. — А там камандзір і Лук’янаў.

— Камандзір?

— Камандыр, Луся, камандыр, — уздыхае Папоў.

Мы чакаем, што яна скажа нам, я трошкі супакойваюся ўжо ад трывог за яе, мяне цяпер пачынаюць трывожыць немцы, што абыходзяць нас з двух бакоў. Але Люся, наморшчыўшы пераноссе, журботна ўглядаецца ў забітых і маўчыць. Тады Папоў пытаецца:

— Задарожны прападал?

Яна абуджаецца са змярцвення, уздыхае, падкурчвае пад сябе ногі, папраўляе кароценькую спаднічку на абдзёртых да крыві каленьках і тлумачыць:

— Задарожны паранены. У руку. Прыйшоў у санроту перавязвацца, кажа: да хлопцаў бег, не дабег. Ды куды яму, параненаму! Ну, то я і пабегла.

Штосьці нядобрае ўстрывожвае мяне.

— Што, здорава паранены?

— Ат, драпіна, — махае рукой Люся і прыкусвае губу.

— А нашто вам трэ было бегчы? — ваўкавата пытаюся я ў дзяўчыны.

— Дазвол вам прынесла, — кажа яна. — Сказаў камбат расстраляць снарады і прабівацца. Там дужа цяжка. Танкі сорак чацвёрты полк акружылі. Гаўбічнікі ўсе загінулі. Цяпер самаходчыкі б’юцца.

Я не слухаю ўжо апошніх яе слоў — сэнс новага загаду панылаю млоснасцю распаўзаецца ў целе. Куды ж тут праб’ешся цяпер, каб хоць гадзіну раней! Папоў, расшырыўшы свае вузкія, з прыпухлымі павекамі вочы, нейкі час няўцямна пазірае на Люсю, а затым злосна плюе ў пясок.

— Позна! Нашто бегла? Дарма бегла! Там Гітлер, там Гітлер, там Гітлер, — тыцкае ён у бакі. Затым, змаркатнелы, адварочваецца, прыціскае да грудзей перавязаную руку, і грымаса пакуты з’яўляецца на яго твары.

— Ладна, Папоў, не злуйцеся, — уздыхае Люся. — Вы ж мае родныя хлопчыкі. Давайце вашу руку, пагляджу, што там.

Папоў адмахваецца ад яе, адводзіць руку, ёрзае на каленях. У вачах яго — клопат, але рука напэўна ўсё ж баліць, і неўзабаве ён працягвае ёй сваю «ляльку». Люся расшпільвае сумку, хуткімі трапяткімі пальцамі нешта перабірае там і дастае бінт з ёдам.

У той час з-за пляцоўкі, з акопа, доўгай чаргой грукае кулямёт Крывёнка. Папоў вырывае ў Люсі так і не разбінтаваную руку і, прыгнуўшыся, грабецца да гарматы. Я бяру аўтамат і лезу за ім.

Ну, вядома ж, на нас ужо ідуць немцы. Са сланечніку іх высыпае ў поле чалавек з дваццаць, яны на хаду, не цэлячыся, пачынаюць лупіць з аўтаматаў. Кулі сцябаюць бруствер, цокаюць па метале гарматы, джагаюць у паветры над агнявой. З другога боку — з пехацінскай траншэі, таксама выскокваюць і бягуць сюды.

Вось яно, здаецца, пачынаецца самае горшае. І Люся!.. Трэба ж было ёй улезці ў гэтую пастку, бегчы сюды — дурное дзяўчо! Якога д'ябла сунулася сюды па сваёй ахвоце? Цяпер вось прападзе нізашто...

Крывёнак дробна калоціцца за кулямётам, і той шалёна пырскае наўкола гарачымі гільзамі. Папоў цэліцца ў тых, што бягуць ад траншэі. Я з гільзаю ў руках курчуся між станін і, напяўшыся ўсім целам, чакаю першага стрэлу. Але Папоў марудзіць, і я ведаю: ён падпускае бліжэй, — блізка ўжо ім паратунку не будзе. Добра, што Крывёнак прывалок яшчэ скрынку, бо карцечы ў нас засталося толькі сем гільз — восьмая ў мяне ў руках, адна ў ствале, адну мы ўжо выпусцілі... «Трымайся, Лазняк, трымайся! Трывай! Час твой настаў, проба твае годнасці прадаўжаецца. Помні, помні каляіны!»

— Гах! — рвецца назад гармата, і ўсё тоне ў дзікай калатнечы грому, бліскавіц, пылу і гарачых, задышлівых думак...

16

Неяк усё ж здараецца, што атаку мы адбіваем, ніхто з нас не гіне, і ў Крывёнкавай скрынцы яшчэ ляжаць тры снарады. Не шанцуе толькі нашай гармаце. Ствол яе застаецца на адкаце, наперад не ідзе — недзе прабіла супрацьадкатны механізм, і з-пад казённіка цячэ па зямлі зеленаваты ручаёк

вераценкі. Папоў сядзіць між станін, раскінуўшы ногі, я на жываце ляжу ля сашніка, мы выплёўваем з рота пясок і аддыхваемся. Побач са сховішча вытыркаецца раскудлачаная ветрам галава Люсі — яе вялікія сур'ёзныя вочы ўглядаюцца ў нас, у іх клопат, трывога і боль. Недзе ў акопе варушыцца, тупае, бразгае металічнаю стужкаю Крывёнак.

Немцы перад намі кудысь пазнікалі, пэўна, да часу пахаваліся ў сланечніку і ў траншэі; у траве, вакол агнявой, горбіцца некалькі трупаў. Але і мы знемаглі. Сіл мала засталося ў целе, пот раз'ядае твар, слепіць вочы, дапякае смага. Нейкі час мы курчымся так за гарматай. Папоў ці то ад стомы, ці ад якой душэўнай скрухі апанурваецца, цяжка дыхае і доўга не размаўляе. Пасля, пэўна, трохі адышоўшы ад стомы, ён пазірае на мяне і кажа:

— Лазняк, помні трэба. Жаўтых пагібай — помні! Лук'ян пагібай — помні! Салдат пагібай — помні! Глядзі — усё помні! Трэба век помні.

Ён адварочваецца, выцірае твар рукавом і дадае сцішана:

— Гармата памірал. Аўтамат бяры, гранат бяры. Нож бяры.

Так, дайшла чарга да аўтаматаў, нажоў і гранат — я гэта адчуваю. Гарматка паслужыла нам, і нямала, але ўсё ж скончылася і яе служба.

Я спаўзаю з пляцоўкі ў сховішча, там выпростваюся. Люся нешта нахіляецца над Лук'янавым, збоч ляжыць яе аўтамат, — я бяруся за кожух — гарачы. Не, гэта не ад сонца — гэта яна страляла, а мы ў грукаце і громе нават і не заўважылі таго. Я вымаю дыск, патроны ў ім яшчэ ёсць, але няшмат, — дыск лёгкі. Аўтамат гэты Жаўтыха, я пазнаю яго па ладнай скураной почапцы ад нямецкага карабіна. Затым я пачынаю збіраць патроны — з магазінаў, з падсумкаў, з кішэняў забітых набіраецца на якія дыскі два — не болей. Гэта небагата. Праўда, у нішы ў акопе павінна быць яшчэ, там жа мы некалі хавалі гранаты. Тым і будзем біцца.

Я сонна накладваю ў магазін аўтаматныя патроны, іх трэба настаўляць там роўненька, але пальцы не слухаюць, і патроны рассыпаюцца ў пазах. Гэта нервуе, ды і стома настойліва робіць сваю справу. У час бою неяк лягчэй было ўтрымліваць сябе ў напружанні, цяпер жа воля расслаблена, слабеюць мускулы. З нейкаю тупою злосцю ў думках я лаю патроны, канструктараў гэтага няспрытнага для снараджэння магазіна і нават камбатаў дазвол, які не прынёс нам паратунку. Затым

паглядаю на адкінутую Жаўтухову руку, — гадзіннічак усё цікае, чырвоная стрэлачка рупна бяжыць па чорным цыферблаце — хутка пяць. Толькі яшчэ пяць гадзін, а здаецца, зранку пражыта цэлая вечнасць, цэлая эпоха, за якую вось пагінулі людзі, а жывыя напакутаваліся, перадумалі, пражылі столькі, што іншым хапіла б на ўвесь век.

Але ўсё ж сама па сабе жыве ва мне і ціхая радасць, і я ведаю — гэта Люся. Я адчуваю яе тут, калі і не бачу, чую яе дыханне, кожны яе рух, яе прысутнасць неяк надае сэнс усёй гэтай нашай безнадзейнай і, можа, не дужа патрэбнай бойцы. Толькі я баюся, ці ўберажом мы яе да канца? Люся ўсё корпаецца над Лук'янавым, адшпільвае ад пояса біклагу і падносіць да ягоных вуснаў. Вада ліецца па запыленай шыі, сцякае на дол, але вось Лук'янаў ціхенька грэбае рукой па зямлі і, абапёршыся на локаць, спрабуе ўстаць. Засмяглыя вусны яго шэпчуць:

— Я зараз... Зараз...

— Не трэба. Ляжы. Яшчэ на вады, — кажа да яго Люся і нахіляе біклагу. Лук'янаў яшчэ п'е, кадык на яго худой шыі сутаргава скача ўгору-ўніз, і салдат падымае ссінелыя павекі.

— Дзякуй, — ціха кажа ён ужо апрытомнелым голасам. Затым занепакоена азірае бруствер, неба і аслабела пытаецца: — Дзе немцы?

— Ляжы, ляжы, — лагодна супакойвае яго Люся. — Усё добра, ляжы. Не трэба пра немцаў.

Відаць, гэта насцярожвае Лук'янава, вочы яго засяроджваюцца ў сабе, робяцца пільнымі, і ён пераводзіць позірк на сцяну сховішча.

— Мы не ў санчасці? Не?

— Маўчыце. Будзеце размаўляць — горш будзе, — бы малому, растлумачвае Люся. Лук'янаў неяк супакоена апускае павекі, закусвае вусны і з насцярожанай развагай пытаецца:

— Здаецца, я памру? Так?

— Ну што вы? — здзіўляецца Люся. — Навошта так думаць! Вось адаб'ёмся, і возьмуць вас у шпіталь, і ўсё добра будзе.

— Адаб'ёмся! — шэпча Лук'янаў, кусае вусны і зноў спрабуе ўстаць.

Люся далікатна, але настойліва кладзе яго на лапаткі. Раптам нейкім чужым натужаным голасам ён патрабуе:

— Дзе мой аўтамат! Дайце аўтамат!

— Ну ляжыце ж! Што вы такі неспакойны! — угаворвае Люся.

Я снараджаю патронамі тры аўтаматныя дыскі, трэба яшчэ споўзаць па той бок пляцоўкі ў акоп, каб пашукаць якія запасы. Наверсе, здаецца, пацішэла, грукоча і бахае далёка за вёскай, а тут толькі там-сям кахаюць і рэхам раскочваюцца ў небе вінтовачныя стрэлы. Папоў з-за кола назірае за полем.

Я перапаўзаю пляцоўку і звальваюся ў акоп, у якім адзінока сядзіць Крывёнак. Ён кідае на мяне не дужа прыязны позірк і падкурчвае пад сябе ногі.

— Лук'янаў апрытомнеў, — кажу я. — Жывы. А ты ўсё злуешся?

Крывёнак сцінаецца, туліцца і нічым не рэагуе на маё пытанне. Гэта ўрэшце злуе і мяне — знайшоў яшчэ час паказваць характар, калі тут усё наша жыццё ледзьве ліпее на адным валаску.

— Ну і дарма, чорт бы цябе ўзяў, — кажу я. — Што ты заця́ўся! Ты ведаеш, што нам загадана?

— Чуў! — буркае хлопец.

— Ну?

Але Крывёнак маўчыць, ад яго ўжо не даб'ешся ніводнага слова. Я разграбаю ў нішы зямлю, што навалілася з бруствера, выкопваю тры нашы гранаты, выцягваю з-пад пяску важкі засмолены пачак з патронамі. Здаецца, болей тут нічога няма.

— А ў цябе колькі? — пытаюся я ў Крывёнка. Ён неахвотна ківае на кулямёт, з прыёмніка якога звісае напалову набітая патронамі стужка.

— Гэта ўсё?

Я пакідаю хлопцу лімонку і з астатнім перапаўзаю пляцоўку. Люся сядзіць як сядзела над Лук'янавым, абапершыся на адстаўленую назад руку, а ён стогне і з частымі прыпынкамі аслабела гаворыць:

— Ну, навошта ж ашукваць?.. Навошта?.. Хіба гэтым паможаш!.. Чалавеку праўда патрэбна...

Люся маўчыць, а ён, трошкі перадыхнуўшы і неяк папспакайнеўшы, задышліва аб'яўляе:

— Ведаю, памру... У грудзях душыць... Ногі адняло... Так... Праўда ж?.. Ну, скажыце!.. Шчыра, — сіпіць Лук'янаў, і ў грудзях яго нешта ціхенька булькае. Люся маўчыць.

— Ну, што ж!.. Толькі не думаў... Так, не думаў... Жахліва і недарэчна... Тры гады вайны і — упустую... — пакутна гукае ён. — Эх! А яны ўсё збэсцілі.

Нешта надарванае чуецца мне ў голасе гэтага нечакана ажыўшага чалавека, і я, перастаўшы пхаць у дыскі патроны, насцярожваюся ў сабе. Збялелы твар Лук'янава пакрываецца буйной расою поту.

— Канец! — кажа Лук'янаў і сціхае, быццам удумваючыся ў сэнс гэтага слова. — Што мне цяпер таіць! Навошта? Хто я? Трус пархаты! — ціха, але з нейкім незвычайным напружаннем кажа ён. — Усё жыццё баяўся. Усіх! Усяго! І дарма... Нахлусіў я тады пра палон...

Адчуваю, гэтыя словы скіраваны мне, узнімаю на яго позірк і сустракаюся з яго вачмі. Але ён зараз жа адводзіць позірк убок.

— Так, Лазняк, нахлусіў я. У палон сам здаўся. У акружэнні. Са страху. Узняў рукі і пайшоў. Затым пачаў разумнець. Ды позна... І вось усё... Канец! Нішто не памагло... Эх! Навошта было?.. Навошта? — хрыпіць ён.

Гэтае прызнанне на хвіліну бянтэжыць мяне. Значыць, зусім ён не той, за каго выдаваў сябе, мала што ён гэткі разумны — ён баязлівец. Баязлівец — агідны на вайне чалавек, але можна зразумець яго і дараваць яму, калі ён шчыра імкнецца перамагчы страх у сабе. Здаецца, нялёгка далася гэтаму чалавеку перамога над самім сабой, але хоць і дарагой цаной, пэўна ж, ён перамог, і сёння мы не можам ні ў чым дакараць яго. І ўсё ж тое, што ён ашукваў нас, плёў пра свае няўдачы і рабіў выгляд несправядліва пакрыўджанага, нішчыць ва мне ўсякае спачуванне. Праўда, цяпер ужо не трэба яму ні спагады, ні спачування, відаць, не страшна яму і асуджэнне — перад канцом, — адчуваю я — адзіна важнаю ў яго рэштках жыцця засталася неспатольная патрэба ў праўдзе.

— Ну ладна, ладна. Маўчыце, — супакойвае яго Люся. Яна таксама, здаецца, бянтэжыцца, абое мы не ведаем, як рэагаваць цяпер на гэтыя словы, але злосці ў мяне да яго няма, хоць няма і спагады.

Лук'янаў стогне, сутаргава варушыцца, матляе на доле галавой. Люся стрымлівае яго:

— Вы ўсё ж паляжыце ціха: так лягчэй. Не трэба нервавацца.

— Не, ужо ўсё. Хутчэй бы! Пячэ ў грудзях... Бог мой! Як неразумна! І мой бацька! Што ён думае?.. Але што ж! Храбрасць — талент, стараннем яго не асвоіш. Я бесталанны. А каму патрэбны такі? Чалавек-трава. Як гэта агідна!..

Ён плача. З вачэй на скронях скочваецца некалькі мутных слязін. Люся, наморшчыўшы пераноссе, з унутраным болем моўчкі глядзіць на яго. Не часта даводзіцца нам чуць такое, і абаім нам трохі ніякавата слухаць яго. Але мы адчуваем, што яму вельмі нялёгка, і гэта разам з непадробнаю шчырасцю, што імкне з ягонай душы, утрымлівае нас ад пагарды да гэтага няладнага чалавека.

— Эх ты, Лук'янаў! Трэ было раней думаць, — кажу я.

— Каб жа раней!.. Цяпер я быў бы другі... А то так позна! Ось не баюся ж... Ні праўды, ні немцаў. Дзе яны? Дайце гранату! Ну дайце ж гранату!

— Навошта вам граната? — кажа Люся. — Вы ж не кінеце яе.

Лук'янаў напружваецца, прыўстае на локцях, упірае ў мяне свой дрыготкі перадсмяротны позірк.

— Лазняк, дай!.. Можа, я напаследак...

— Каб жа яна была, — хлушу я.

Ён зноў падае спінай на дол, і некалькі слязін самі сабой сплываюць з яго вачэй.

## 17

— Лазняк! — устрывожана кліча Папоў. — Скора-скора сюды!

Я хуценька выпаўзаю са сховішча на пляцоўку. Папоў напружана горбіцца за прыцэлам, і, наблізіўшыся да яго, я бачу тое, дзеля чаго ён паклікаў мяне.

У пехацінскай траншэі немцы. Сям-там бачна, як высунецца і схаваецца ствол вінтоўкі, часам блісне на сонцы каска. Відаць, яны там ідуць некуды, мабыць, акружаюць нас. Але гэта не ўсё. Удалечыні, на аб'ездзе міннага поля, зноў паказваюцца аўтамабілі, пярэднія, валюхаючы бартамі, ужо з'язджаюць цераз канаву з дарогі. Папоў пільна пазірае на іх і, паволі пакручваючы махавічкі, вядзе ствалом гарматы за пярэдняй машынай.

Але ствол споўз назад між станін, затвор не зачыняецца, так стрэліць нельга. Нічога іншага не прыдумаўшы, я ашчаперваю казённік, з усяе сілы ўпіраюся ботамі ў зямлю і нечалавечым напружаннем ссоўваю ствол наперад. Затым піхаю ў яго снарад. Клін, лязгнуўшы, зачыняецца. Здаецца, абышлося — цяпер стрэліць.

У той час па шчыце нешта гучна ляскае — асколкамі ці металічнай акалінай, нібы жарствой, сцябае мяне па шчацэ. Я хапаю новы снарад, а Папоў, перастаўшы круціць махавікі, паволі нахіляецца, напэўна, каб выглянуць з-за шчыта.

— Гатова! — крычу я, але Папоў чамусьці не кратаецца. Я скаланаюся ад нядобрага прадчування, а наводчык неяк абвяла навальваецца на механізмы наводкі і дзёўбаецца лбом у край шчыта.

— Ты што? Папоў!

Я кідаю снарад, хапаю наводчыка за плечы — ён увачавідкі бялее, затуманеным позіркам слізгае па мне і праз цяжкі апошні стогн шэпча:

— Лазняк!.. Забілі Папоў... Забілі! Навошта?.. Дурны Папоў!

— Куды цябе? Куды? Дзе? — недарэчна пытаюся я, не бачачы нідзе крыві. Але ён, апаўзаючы на маіх руках, шэпча:

— Ой, дурны Папоў! Нашто Папоў! Камбат... кажы...

— Што, што казаць камбату? Што? Папоў!

Але, відаць, марныя мае намаганні. Паўзакрытыя яго павекі некалькі секунд часта-часта ўздрыгваюць і раптам сціхаюць. Не маючы сілы паверыць у тое, што сталася, я здзічэла ўзіраюся ў яго потны застылы твар.

— Сволачы! Гады! — крычу я, і ўсё ва мне шалёна крычыць роспачна-нясцерпным крыкам. Але машыны імчаць па дарозе, я адхінаю нежывога наводчыка і прыціскаюся лбом да гарачай гумы прыцэла. Яны ўжо мільгаюць і мільгаюць міма тоненькай валасінкі трохкутнічка ў прыцэле, я кручу паваротны механізм, пераганяю трохкутнічкам пярэднюю і з невялічкім вынасам цісну на кнопку. Стрэл! У той жа час недзе блізка ля галавы зноў ляскае разрыўная ці бранябойная. Я ўспамінаю: трэ накаціць. Праз пыл кідаюся на дол да казённіка, і мае рукі сутыкаюцца там з гарачымі мяккімі рукамі Люсі. Разматляўшы на галаве валасы, яна, лежачы на зямлі, таксама ўпіраецца ў казённік. Пераплёўшы нашыя рукі ў адным намаганні, мы зрушваем ствол з месца. Затым я зараджаю... У скрынцы застаецца апошні снарад.

— Ага, гарыць! Гарыць! — крычу я, убачыўшы ў прыцэле, як дыміць на дарозе нахіленая набок машына. Замаруджваючы хаду, яе аб'язджаюць наступныя. Я ўжо не бачу, дзе першая, і б'ю па той, што трапляе бліжэй да трохкутнічка. Гарматка тузаецца, нешта металічна лязгае побач, і я праз

неаселы яшчэ пыл бачу, што стральба наша скончана: ствол сарвала з люлькі, казённікам ён убіўся ў зямлю пад бруствeрам. Люся ляжыць збоч, таксама пабялелая і напалоханая.

«Ну, вось і ўсё! Прайшлі! Не стрымалі!»

Машыны, аб’язджаючы падбітыя, шпарка імчаць па дарозе да вёскі, цяпер мы іх не стрымаем. Па гарматным шчыце б’юць кулямёты ці аўтаматы, кулі ляскочуць па метале і разлятаюцца ў бакі. Кінуўшы ўсё як ёсць на пляцоўцы, я саскокваю ў сховішча да аўтаматаў. Туды ж адпаўзае Люся.

Схапіўшы аўтаматы, мы высоўваемся з-за бруствера — немцы бягуць па траве з траншэі, бягуць, падаюць, узнімаюцца зноў. Іх чалавек з пятнаццаць. Побач у акопе густым грымоццем трашчыць кулямёт Крывёнка. Я пускаю першую, другую чаргу, бачу, як кулі разбіваюць зямлю ля траншэі, аўтамат калоціцца ў руках — некалькі немцаў падае. Затым я кідаюся на другі бок сховішча, да Люсі, яна таксама б’е доўгай лапаткою чаргой, і на мяне з яе аўтамата сыплюцца гарачыя гільзы. І раптам яна спыняецца, сціхае, прысядае пад сцяною і пачынае таропка рваць рукаятку. Заела! Я вырываю ў яе аўтамат, даю свой, пеоразараджаю двойчы. Люся прыцэльваецца, але я тузаю яе за гімнасцёрку, яна азіраецца. «Перабягай! — крычу я. — Мяняй месца!»

Я ўпершыню звяртаюся да яе на «ты», у яе ясных, поўных напружання вачах коратка ўспыхвае ўдзячная сяброўская прыхільнасць, толькі цяпер мяне гэта не радуе. Цяпер усе мае такія пакутныя адносіны да яе трацяць свой былы сэнс, я вельмі хачу толькі зберагчы яе, не даць загінуць раней, чым загіну сам. Люся прысядае, пераносіць аўтамат на два крокі далей і зноў прыцэльваецца. Дзіўна, але здаецца, быццам яна зусім і не баіцца. Твар яе спакойны, толькі вочы звужаны і шчокі страцілі былую здаровую, загарэлую чырвань. У мяне ж усё дрыжыць унутры, але знешне рухі, здаецца, спакойныя, я баюся толькі чагосьці прапусціць, не паспець, не ўбачыць і кідаюся сюды-туды ў сховішчы.

Мы б’ёмся на два бакі. Крывёнак у акопе раптам змаўкае, я трывожна ўслухоўваюся — але спакваля ягоны кулямёт грукоча далей, у самым канцы нашай пазіцыі. Ага, гэта ён б’е туды, па дарозе. Адтуль, дзе нерухома стаяць чатыры машыны, рэдкім шырокім ланцугом бягуць сюды яшчэ дзесяткі два немцаў.

Так, час ад часу ўсё горш...

Кінуўшы на брустверы аўтамат, я бягу ў кут, дзе ляжаць нашы гранаты, хапаю іх усе тры, і, калі разгінаюся, мой позірк зноў сустракаецца з затуманеным позіркам Лук'янава. Салдат тузаецца з зямлі, каб устаць, і, выцягнуўшы руку, з адчаем патрабуе:

— Дай!

І я кідаю яму лімонку, астатнія РГД кладу сабе пад ногі і падхопліваю аўтамат. Я страляю па тых, што бягуць, што ляжаць, б'ю кароткімі чэргамі, ужо не зважаючы на сваю бяспеку, аж покуль аўтамат не змаўкае. Пасля, прысеўшы, выкідваю пусты дыск і ад хвалявання доўга не магу трапіць у пазы новым.

— Дзе яны? Дзе? — стогне Лук'янаў, і ў ягоных паблеклых вачах дагараюць адчай і рашучасць.

Я не адказваю, ускокваю, — ага, яны не стрывалі, яны зноў заляглі непадалёк ад сваёй траншэі. Некалькі іх даўганогіх постацей кідаецца назад цераз бруствер, некалькі застаюцца ляжаць у траве. Крывёнак б'е з кулямёта ўслед. Тыя, ля дарогі, таксама залягаюць, і спакваля ў полі не відаць нікога. Адно толькі рой куль над намі, пырскаюць зямлёй брустверы, разлятаюцца ўшчэнт разбітыя груды...

Стуліўшыся пад брустверам, мы трохі слухаем, не верачы, што зноў адбіліся, пасля Люся першая апускаецца на дно, і раптам плечы яе ўздрыгваюць ад плачу. Я палохаюся, здаецца мне, нешта з ёй здарылася, хапаю яе за рукі, якімі яна затуляе свой твар, але яна ўсё сутаргава, без слоў хліпае.

— Люся! Што з табой? Не трэба! Не трэба!..

І яна раптам абрывае плач, коратка пазірае на мяне сур'ёзнымі вялікімі і мокрымі ад слёз вачмі і неяк адразу супакоена кажа:

— Нічога. Усё. Прабач...

Яна выцірае рукавамі вочы, закідвае назад растрэсеныя валасы, заклапочана пытаецца:

— Дзе яны?

У мяне таксама трошкі спадае напружанне, і толькі цяпер я разумею, што Папова з намі няма і што я — нейкім чынам камандзір над гэтай жменькай жывых людзей. Ніколі мне не даводзілася быць камандзірам, заўжды камандавалі іншыя, а я толькі слухаўся, а цяпер вось, у такі трудны час, — я сам сабе і ім гаспадар. Цяпер можна кінуць усё гэта — разбітую гармату, агнявую гэтую праклятую пастку, і можна пaспра-

баваць як выбрацца, пакуль яшчэ канчаткова не закрылі нам адзінае выйсце ў лагчыну. Цяпер не трэба прасіць дазволу, угаворваць Папова, цяпер усё можна рашыць самому.

Эх, бедны Папоў, ненадоўга перажыў ты свайго камандзіра, аддыхваючыся, думаю я. Але што гэта ён шкадаваў, паміраючы? Ці мо ў чым каяўся? Можа, у тым, што трымаў тут усіх нас? Ці, можа, што паслаў Лёшку? Ці яшчэ што дапякло яго напаследак? Якую гэта пакутную і загадкавую рысу падвяла смерць яшчэ ў адным чалавечым жыцці?

Але таго ўжо не ўведаеш, і я, адклаўшы аўтамат, паўзу на пляцоўку, бяру наводчыка за запыленыя, працёртыя на костачках боты і валаку ў сховішча. Прапацелая яго гімнасцёрка загортваецца пад дзягай і агаляе запалы худы жывот з сінім шрамам на правым баку. У сховішчы ўправіцца з ім мне дапамагае Люся, і мы ашчадна кладзём забітага ў сонечны прыпёк ля ног іншых. «Ну, от і чацвёрты», — кажу я тужлівым шэптам, а Люся закусвае вусны. Лук'янаў ціхенька стогне і ўжо не расплюшчвае вачэй. Рука яго, аднак, не выпускае гранаты — толькі, здаецца, марна яго чаканне. Напаследак я зазіраю на Жаўтыхова запясце — гадзіннік усё стукае, на ім палова восьмай.

Не, трэба біцца з усяе сілы. Гэта маё перакананне і маё рашэнне. І я адчуваю ў сабе новую сілу, упартая злосць напружвае мае мускулы — чорта з два мы ім паддамося! Можа, гэта і безнадзейная справа, можа, гэта канец, але інакш не дазваляе мне мой характар і мой партызанскі гонар. Інакш мне нельга, бо калі я не абаранюся тут, аддам у палон Лук'янава, што скажуць тады ў палку, што падумаюць пра мяне і маіх землякоў?.. Праўда, я не герой, не храбрэц, я вельмі звычайны і, здаецца мне, нават баязлівы хлопец, але няўжо я не змагу стрываць да канца? Ды яшчэ тут Люся, мілая, харошая Люся. Так цяжка мне гінуць з ёю, але, здаецца, яшчэ больш нестрыванай была б мая трусасць тут, перад ёй. Няхай даруе яна мне маю жорсткасць, але я буду бязлітасны да сябе, да Крывёнка, можа, і да яе — так трэба.

— Люся, бяры новы магазін, — кажу я. — На гранату. Усім па адной. Адна ў рэзерве.

— Лазняк, — сіпіць з долу Лук'янаў. — Вы мяне кіньце... Я ўжо...

Я не адказваю. Мы рыхтуемся да самага горшага. Пакуль ёсць патроны, будзем адбівацца, а там... Што ж, не мы першыя, і не мы апошнія, як кажуць людзі.

Я прыціскаюся грудзьмі да сцяны сховішча, затуляю за бруствер галаву і чакаю. Паніжэлае сонца паліць мне твар, і па-ранейшаму да знямогі хочацца піць. Люся перазараджае аўтамат і сядае ў цень, пад сцяну насупраць. Галоўнае, нешта зразумець, рашыць, думаю я, на нешта наважыцца — усё астатняе лягчэй. Самае горшае — няпэўнасць. Няпэўнасць знешняя — у абставінах і ўнутраная — у сабе, калі не ведаеш, што табе трэба, і кідаешся ва ўсе бакі, як пацук у дзежцы. Мне цяпер робіцца ўсё выразна, зразумела і лёгка. І перад Люсяю лёгка, цалкам знікае тая пакутная няўпэўненасць у сабе, няёмкасць, што дапякала мне ўвесь час нашага знаёмства.

— Не так проста нас тут узяць! Хай паспрабуюць! — азіраючыся, кажу я, каб падбадзёрыць Люсю, якая запытальна і з нейкай няпэўнай надзеяй паглядвае на мяне. Дзяўчына маўчыць і ўсё ўслухоўваецца ў гукі наверсе, а Лук’янаў стогне, падымае ссінелыя павекі і пытаецца, ледзь варушачы ў руцэ гранату:

— Ну, дзе яны? Чаму не ідуць? Хоць бы паспець... Паспець...

Нейкі час ён ляжыць нерухома, заплюшчыўшы вочы, пасля зноў расплюшчвае і кліча Люсю:

— Пячэ вельмі... Душыць... Пэўна, усё... Вады, сястра! Вады!

Люся нахіляецца і паднімае з зямлі яго пажоўклую з худымі тонкімі пальцамі кісць.

— Пацярпіце. Няма вады... І не трэба гаварыць. Нельга вам.

— Сястра, — кажа ён яшчэ, — чаго вы тут? Хто вас паслаў?

— Сама.

— Навошта, га?

— Так! Шкада вас стала, — проста адказвае Люся.

— Шкада! — шэпча Лук’янаў і заплюшчвае вочы. — Спачуваць — гэта добра... Толькі на мяне не зважайце... не варта. Пашанцуе — напішыце... бацьку напішыце... Усю праўду.

«Ну дзе яны? Чаму не ідуць?» — пачынае грызці мяне нецярпенне. Неяк пакутна ные ўсё цела, баляць ногі, і тлумна хіліцца долу галава. Я баюся, што магу заснуць, чагось недагледжу — і здарыцца нешта дрэннае. Страляніна пакуль прыціхае, немцы хаваюцца, але што будзе далей? Крывёнак не адклікаецца нічым, толькі шархаціць чымсь у зямлі.

— Люся, вы беражыце сябе, — прыцішваючы стогны, шэпча Лук'янаў. — Беражыце. Вы прыгожая... Гэта так многа!.. І не трэба так... шкадаваць нас. Не варта... А мне ўжо ўсё. Канец! Як недарэчна! Як пагана! Эх!.. Каб хоць адзін дзень! Адзін дзень жыцця!.. Я б інакш... Эх!..

Здаецца, ён памірае. Вочы яго заплюшчваюцца, шчокі ўваліліся, шчацінне на іх узнімаецца і тырчыць рэдкаю шчоткай, тонкія ноздры худога носа варушацца.

Так, ён памрэ. Ля яго, навек ужо нерухомыя, ляжаць Жаўтых, Панасюк, Папоў. Хто ж ляжа наступны? Кола гэтай магчымасці няўхільна вузее, чарод усё бліжэй... Нешта мулка-даўкае сціскае мне горла. Як заўжды ў такім стане, мне карціць вылаяцца, але побач Люся, і я да болю ў вушах сціскаю зубы.

## 18

Як пякельна доўга цягнецца дзень!

Эх, каб пашанцавала дажыць да ночы! Уночы мы, можа б, як выкараскаліся з гэтае ямы ды прабіліся да сваіх. Але вельмі марудна ніжэе сонца. Цень ад берагоў у сховішчы шырэе вельмі паволі і закрывае толькі твары забітых ды скурчаны пад сцяной маленькі заклапочаны камячок — Люсю. У паветры па-ранейшаму цяжкі смурод паленай гумы, фарбы, пораху; ад зямлі патыхае спякотай, пылам; часам прымешваецца ў паветры мутарны пах свежай крыві. Ля станіны, там, дзе ляжаў Папоў, падсыхае вільготная лужынка, і над ёю пырхаюць, гудуць, мітусяцца мухі.

«Толькі б хапіла сілы, — думаю я адзіную цяпер сваю думку. — Толькі б стрываць!..» Нешта падказвае мне, што найбольш нам трэба асцерагацца, каб не страціць развагу, не ашалець, не кінуцца куды адсюль і не падпусціць блізка ворага. Калі мы не ўтрываем тут, то на паверхні нас пераб'юць за некалькі секунд. Таму трэба сядзець, хоць і цяжка і страшна. Трэба трымацца за зямлю-матухну, як казаў некалі Жаўтых. У ёй наш паратунак і наша надзея.

— Крывёнак! — гукаю я кулямётчыка. — Ты глядзіш?

Я прысядаю ў засень побач з Люсяй. Дзяўчына, памахваючы кукурузнай галінкай, адганяе мух ад успатнелага твару Лук'янава, твар яе строгі, трошкі жалобны, у вачах — ціхая цярплівасць чакання. Відаць, яна перажыла нешта самае

труднае сёння, супакоілася ўжо і цяпер — разважная, ціхая і вельмі дарагая для мяне. Лук'янаў, аднак, не варушыцца, не стогне, зусім сціх, і Люся бярэ з долу яго нерухомую руку. Граната ціха выкочваецца з яе на зямлю.

— Жывы?

— Жывы яшчэ, — уздыхае яна. — Але ўжо хутка...

Я першы раз так блізка да Люсі, і ўпершыню нас дваіх з'ядноўвае адзін вялікі нязбыўны клопат. І хоць побач ляжаць забітыя і памірае наш пяты таварыш, я чамусьці не адчуваю асаблівай вастрыні гэтае страты, — пэўна, ад стомы і напружання нервы мае прытупіліся, прывыклі да непазбежнасці ўсіх бед. А вось блізкае Люсіна суседства нейкаю нязведанай хвалюючай ваблівасцю агартае мяне. З самых нязнаных і даўно неварушаных глыбінь маёй душы ўзнімаецца хваля ласкавага пачуцця да яе. Нешта цёплае, не таварыскае нават, а братняе крыяе ў маім сэрцы, і я вельмі хачу захінуць яе, абараніць, не даць у крыўду. Цяпер мне не дужа ўжо і важны іхнія адносіны з Лёшкам, з тым капітанам Мялешкіным, — цяпер яна са мною, і я адчуваю, што разлучыць нас можа хіба толькі смерць.

«Любая, харошая мая дзяўчынка! — хочацца сказаць мне. — Я люблю цябе! Люблю! Назаўсёды! Навек!.. Хай мы загінем, хай прападу я — усё роўна я буду любіць цябе да апошняга імгнення, бо ты — самая мая душа, мая спрадвечная мара... Як жа мне без цябе?..»

І мне чамусьці становяцца чутны тыя мае словы. Можа, гэта я вымаўляю іх? Я пазіраю на Люсю, — не, яна сядзіць усё ў задуменнасці...

А што, калі сказаць гэта?

Так вось, як думаю і адчуваю, скажу — хай ведае. Што з таго, што жыццё наша ледзьве ліпее, што ляжаць чацвёра нашых людзей, — ці наша ў тым віна, што лёс нарыхтаваў нам такую маладосць? Што будзе, калі я прызнаюся ў тым, — я не магу сабе ўявіць. Але, напэўна, тая незвычайная значнасць, што настане пасля маіх слоў, і адбірае маю кароценькую рашучасць.

— Люся, ты дужа баішся? — пытаюся я, зазіраючы ў яе вочы.

Яна сумна неяк паглядвае на мяне і ўсміхаецца аднымі куточкамі вуснаў...

— Цяпер ужо не. Можа, адаб'ёмся. Ты ж смелы, казалі. Партызан. Ваяваць умееш.

— Крыху навучыўся, — сціпла кажу я, тоячы ціхую радасць ад яе пахвалы. — Нам-то яно ўсё роўна. Мы салдаты. Але ж табе нашто так? — кажу я, баючыся спаткацца з ёй позіркам і як мага глыбей тоячы сваё пачуццё да яе. Чамусьці мне робіцца вельмі боязна, каб не адчула яна, што я неабыякавы да яе і што толькі і дбаю цяпер пра яе жыццё. Яна ж зноў самотна ўсміхаецца і коратка пазірае на мяне сваімі вялікімі журботнымі вачмі.

— А я што ж, не салдат? Ці мо думаеш, дзяўчына, так сабе?

Я маўчу і з невясёлай лагодаю крадком узіраюся ў яе тонкі, маленькі смуглявы тварык. Ён поўны нейкае шчырай рухавасці, у якой уся Люся, з усімі яе пачуццямі, клопатамі, думкамі. А яна раз-пораз памахвае сцяблінай над бедаком і нешта думае.

— Лук'янаў казаў: беражы сябе. Прыгожая... А ты? Нашто было лезці сюды? — ціха папракаю я.

— Дзівакі вы, хлопцы, — зноў сумна ўсміхаецца Люся. — Як гэта берагчы? Навокал такое робіцца!.. Вось хоць бы сёння. Уранку прывезлі ў санчасць разведчыка Смолкіна. Доктар Гутман ампутаваў абедзве нагі, руку да локця. А які быў хлопец! І ўсяго дзевятнаццаць год! Просіць: дабіце, але ж хто даб'е? Будзе жыць калекам. Ну? А я прыгожая, кажуць, — з болем у вачах кідае яна на мяне свой кароткі позірк. — І мне сорамна за гэтую праклятую прыгажосць. Усе глядзяць, як на дзіва. А я хачу быць, як усе. Хачу быць проста сумленнай, смелай, разумнай — гэта найперш. Навошта мне тое харaство?

— Ну, не трэба казаць так, — не згаджаюся я. — Ты дзяўчына. А вайна — не дзявочая справа. Тут сіла, воля патрэбна.

— Эх, Лазняк, Лазняк! — разважна ўздыхае Люся. — Мне часам здаецца, што я намнога старэйшая за ўсіх вас. Здаецца, я адчуваю, разумею тое, чаго вы не разумееце. Вы такія слаўныя, храбрыя, толькі вы не разумееце сябе. Вы трымаеце сябе так, нібы ўвесь век, да вас і пасля вас, была і будзе адна толькі вайна. Без вайны вы сябе не ўяўляеце. Ці не так? І ўсё вы мераеце салдацкай мерай. Іншай у вас няма. Праўда ж?

Я з увагаю ўслухоўваюся ў Люсін голас і хачу зразумець яе, але трошкі не ўлоўліваю яе думкі і асцярожна згаджаюся.

— Ну, можа, і так. На вайне выраслі. Што ж...

— Вось! Іншы перажывае: медалём не ўзнагародзілі! Іншы імкнецца як спрытней пахваліцца сілай, падужаць каго ці яшчэ як сябе паказаць. А таго вы не разумееце, што недзе ў кожнага з вас маці, ну ці там дзяўчына і што вы дарагія ім зусім не гэтым. Ім гэта зусім не патрэбна. Ды і няважна гэта. Важна душа ў чалавеку: каб ён быў сумленны, адданы, таварыскі, праўдзівы. Гэта ж найпершае ў чалавеку. Сіла ад прыроды дадзена, яе не зменіш. Збаяцца чалавек можа і насуперак сабе, а ашукаць каго дзеля карысці сабе — не. Калі ён чысты душой — ніколі не ашукае.

— Гэта праўда, — згаджаюся я.

— Кажуць: вайна. Але на вайне агіднасць — двойчы агідна. А подласць — нясцерпна, — кажа Люся і з дакорам пазірае на мяне, пасля пытаецца: — Думаеш, я чаму прыбегла да вас? Не стрывала — так запякло!.. Задарожны ж паранены, прыбег у санроту — перавяжыце, кажа. Перавязалі. Патрабуе паперку з чырвонай палоскай — у тыл. Я пытаю: а як жа хлопцы? А ён кажа: начхаць на хлопцаў — ім ужо капец. Зноў жа, я паранены, кажа. А рана там — драпіна адна. Ну, такога ад Лёшкі я не чакала. Ад каго хочаш, але не ад яго. Выбегла, гляджу — вы тут б'яцеся. І вось кінула ўсё, паляцела. І дазволу не запытала.

Ну вось і яшчэ навіна. Мяне быццам апарвае варам, самі па сабе сціскаюцца кулакі, я не ведаю нават, што сказаць Люсі. Нездарма не любіў я гэтага Лёшку, нечым угадваў трухлявіну ў яго нутры, і цяпер вось усё спраўдзілася. Аддзячыў ён нам — і мне, і Папову, і Крывёнку — паслалі і чакаем, а ён вунь марудзіць, хоча схавацца за паперку з чырвонай палоскай наўкось, і гора яму мала, што мы тут гінем.

— Паганец ён! — вырываецца ў мяне. — Трэ было камбату далажыць.

— Што дакладваць! — кажа Люся. — Усё ж ён паранены, фармальна мае права. Толькі з такой ранай ніхто яго ў тыл не пашле.

Так, фармальна ён мае права — у яго драпіна на руцэ, а тут за той час, пакуль мы чакалі яго, загінуў Папоў, памірае Лук'янаў, Люся трапіла ў пастку, з якой не відаць выйсця.

Зусім новае, ніколі раней не знаёмае пачуццё гневу і расчараванасці ахоплівае мяне. За ўвесь доўгі час маёй пакутнай прагнасці помсты я не думаў аб тым, не прадбачыў нічога падобнага. Я вачмі, поўнымі павагі і захаплення, гля-

дзеў на кожнага з франтавікоў. Але вось бываюць, відаць, і такія. І калі б хто другі, хто палахлівы, няхай бы той самы Лук'янаў, — але ж Задарожны, гэты мой нядаўні амаль што ідэал мужчынскае сталасці, нават мужнасці, якое так не хапала мне. І чаму ён зрабіў так? Што прычынай таму — самалюбства, характар, Люся, страх ці яшчэ якое ліха, што робіць мяне асуджаным на пакуты ад бачанага, перажытага, а яго пакідае агіднаю порхаўкай у жыцці?

19

— Піць!.. Піць!.. — пачынае стагнаць і тузацца Лук'янаў. Вусны яго сухія, твар завастрыўся, зжаўцеў, і нос, нібы дзюба, пазірае ў сляпое спякотнае неба. Люся нахіляецца да яго і ціхенька гладзіць па рукаве.

Ад напамінку пра ваду я глытаю сліну, але і сліны ўжо няма. Рот сухі, усярэдзіне таксама ссохла, у галаве тлумна ўсё круціцца. Я адчуваю, што трэба нешта рабіць, рухацца, бо так адолее сон і мы загінем. Раптам з акопа ад Крывёнка пырскае кароткая чарга.

— Што? Куды ты? — прахапіўшыся са знямогі, пытаюся я, але той маўчыць. Я ўслухоўваюся і зноў паўтараю сваё пытанне.

— Фрыц ля танка, — урэшце даносіцца з акопа Крывёнкаў голас. Я засцярожліва выглядаю з-за бруствера — сапраўды, ля танка варушыцца ў траве, здаецца, паўзе цёмная постаць.

— Стой, пачакай, — кажу я. — Можа, наш хто?

Мне шкада і аднаго патрона, шкада цішыні, якая — ведаю я — будзе нядоўгай, але якая ўсё ж набліжае нас да ночы і дае надзею на паратунак. Адсюль дрэнна відзён гэты чалавек, хоць ён і бліжэй да нашага сховішча, чым да Крывёнкавага акопа, але Крывёнак неўзабаве зноў лязгае затворам.

Побач з долу ўскоквае Люся, яна таксама ўзіраецца цераз бруствер: напэўна то немец. Нам відаць толькі, як угінаецца, варушыцца трава, часам высоўваецца з яе цёмная спіна. Крывёнак чагось марудзіць, не страляе, і тады зводдаль чуецца слабы пакутные енк:

— Паўль! Паўль!

Паранены немец — гэта пэўна. Ён і паўзе так — сутаргава, марудна, пластом па-над самай зямлёй. Люся зломвае свае вузенькія русыя бровы і гукае Крывёнку:

— Не страляй! Пачакай! Можа, у яго вада...

Я то хаваюся за бруствер, то зноў выглядваю. Хутка побач пырскае ў твар зямлёй і са сланечніку даносіцца стрэл. «Пільнуюць, сволачы!» Немец тым часам то паўзе, то заціхае, невыразна чуваць яго роспачнае, натужнае «Паўль! Паўль!». Дзіва, якога ён Паўля знойдзе ў нашым акопе, зласліва думаю я. Адзін ён нам тут не страшны, але на ўсякі выпадак я бяру з долу аўтамат і адцягваю назад рукаятку.

Спачатку з бруствера скочваецца груда, потым дзве разам, і на земляных камяках з'яўляюцца дзве страшныя, абпаленыя да чырвані рукі. Яны высоўваюцца з абгарэлых манжэтаў рукавоў, напружваюцца, ўграбаюцца ў бруствер, і вось з-за камякоў паказваецца галава з недарэчна кароценькімі і кучаравымі ад агню, падпаленымі валасамі. Немец узнімае твар, і мы з Люсяй жахаемся. Твар яго, як і рукі, скрозь у чырвона-белых апёках, ля вуха крывяністая маса; павекі на вачах зліпліся, запалі і не адплюшчваюцца. Нейкі час мы нерухома ўзіраемся ў гэты прывід, пасля я зацята камандую:

— Уніз! Хутка! Шнэль!

Але немец, здаецца, не чуе. Нішто не мяняецца на яго твары, ён усё пазірае, нібы ў пустэчу, і стогне:

— Паўль!

Тады я хапаю яго за плячо, цягну на сябе — зрушваючы камякі, ён перавальваецца ў сховішча і падае ў дол. На нашу мітусню ў акопе б'юць некалькі куль, але міма.

І вось ён ляжыць у доле. Гэта ледзьве жывы яшчэ немец-танкіст, малады, пэўна, нашых год, хлопец. Шырока раскінуўшы ногі, ён гучна стогне. Камбінезон яго скрозь у прапалінах, ад немца нясе смуродам паленай тканіны, месцамі з вопраткі яшчэ курыцца дым. Я без нянавісці, з адной толькі агідаю гляджу на гэтага хуткага нябожчыка, а Люся ўкленчвае над ім, абмацвае шырокія кішэні яго камбінезона, дастае з аднаго гаечныя ключы, круглую з чырвонай пластмасы маслёнку, клык пакулля. Біклагі ў немца няма, патронаў таксама.

— Ага, прыпякло, чортаў фрыц! — кажу я са злосцю і падчапляю яго ботам пад бок, каб адкаціць з праходу. Люся ўскідвае на мяне свае строгія вочы.

— Нашто ты? Памірае ж!

«Чорт з ім, што памірае, — думаю я. — А колькі нашых памерла — вунь Жаўтых, Панасюк, Папоў, Лук'янаў; можа,

сярод іх ёсць і той, каго забіў гэты фашыст. Ён і на яго падобныя ўтапілі нашу зямлю ў крыві, скралі ў нас маладосць, пакутамі спарахнілі нашыя душы...»

Люся, аднак, з нейкаю незразумелаю мне цярплівасцю бярэ яго пад пахі, адцягвае з-пад ног і кладзе побач з Паповым. «Пяты, — адзначаю я ў думках. — Дзіўна, не думаў, што пяты тут будзе немец». А немец стогне і кожную хвіліну сутаргава ўздрыгвае. Дзяўчына лёгка расшпільвае на яго грудзях прошву-маланку, і там, на кішэні мундзіра, нікеляванай каёмкай бліскае жалезны крыж. Гэты крыж узнімае ва мне вострую непрыязь да танкіста, я зрываю яго, шпурляю за бруствер, пасля бяруся за яго кішэні. Там мноства розных кніжачак, паперак, некалькі пацёртых пісьмаў у вузенькіх канвертах, патрушчаная аўтаручка і расчоска ў металічным футарале-абкладцы.

Я хачу знайсці яшчэ нейкі повад для свае злосці, я хачу бачыць гэтага танкіста віноўнікам усёй сённяшняй нашай трагедыі, але ў паперах толькі лічбы, нумары, нямецкія словы, напісаныя неразборлівым скорапісам, і скрозь свастыкі, арлы, сінія, чырвоныя пячаткі. Але вось загорнутыя ў цэлафан здымкі з крывулястымі абрэзамі. На першым вуліца нейкага акуратнага нямецкага гарадка з вастраверхімі хатамі, гатычнымі шыльдамі. «Грэйфсвальд» — напісана ўнізе. На другім знята група юнакоў на стадыёне, у пярэдняга футбольны мяч, — сярод іх напэўна і гэты танкіст. На трэцім ладная бландзінка з пакручастымі, доўгімі, да плеч, валасамі, яна вельмі міла ўсміхаецца мне, і, каб не яе дужа кірпаты нос, я сказаў бы, што яна прыгожая. Чацвёрты здымак прымушае мяне задумацца.

На ім, безумоўна, гэты наш «недагарак». Заклаўшы назад рукі, ён стаіць у мундзіры, і на выстаўленых яго грудзях чарнее, напэўна, той самы крыж, вочы немца, аднак, нявесела пазіраюць некуды на маё вуха. Перад ім на крэсле сядзіць немаладая ўжо, здаецца, апранутая ў жалобнае ўбранне кабета, твар яе самотны, у сумных вачах клопат. Нечым не нашым, далёкім, варожым, але і зразумелым вее на мяне ад гэтага здымка, і я стараюся разабраць надпіс на яго адвароце.

«Майн лібэр кнабэ! — выведзена сінім чарнілам. —Фюр міх біст ду дэр лецтэ, унд ду зольст даран дэнкэн. Зай форзіхціг. Ду біст майн. Ду гэхёрст ніхт дэм афіцір, генераль,

одэр фюрэр, зондэн аляйн мір. Ду біст майн! Майн! Дайнэ мутэр* 29.III 44.»

Я невялікі знаўца нямецкае мовы, але каб зразумець гэта, маіх ведаў хапае. І гэтыя чарнільныя словы бянтэжаць мяне. Простая рэч, але я ніколі не думаў, што ў майго ворага раптам акажацца маці, звычайная спакутаваная, не дужа маладая жанчына, якая гэтак нечакана стане між намі. Я думаю, што, напэўна, яна любіць яго і, напэўна, як і ўсякая маці, вельмі баіцца, каб чаго не здарылася з ім. І, напэўна, яна песціла яго ў маленстве і радавалася яго першым крокам і першым словам... і дбала, каб ён добра вучыўся і не меў двоек і каб не прастудзіўся, не захварэў, не трапіў пад машыну... Гэтаксама, як і мая, як і Люсіна, як і Папова, Лук’янава і мільёны мацярэй на зямлі. І можа так стацца, што і ён добры сын і гэтак жа любіць яе і кахае тую дзяўчыну... і суседзі старыя добрае думкі аб гэтым юнаку. Я разумею і гатовы спачуваць усякаму мацярынскаму гору, але цяпер я мушу ненавідзець гэтага яе сына, як, бадай, ён можа ненавідзець мяне, бо мы апалілі яго, а ён забіў нашага Жаўтыха і параніў Лук’янава.

Я хачу быць злосным, злосць надае сілы, але я губляю яе разам з рэшткамі гэтай сілы...

Гінуць нашы, паміраюць немцы, гінуць маладыя і старыя, добрыя, злыя, паганыя — і хто вінаваты? Адзін Гітлер? Не, адчуваю я, не адзін Гітлер. Не першы і, пэўна, не апошні імкнецца ён падпарадкаваць сабе іншых, спрадвеку валодае людзьмі ўсясветная прага ўлады, прага панаваць над іншымі, навязаць іншым свае погляды і свой парадак жыцця. Хіба гэта першая вайна і хіба апошняя! Вялікая нецярплівасць пануе ў свеце, які здаўна сплывае людскою крывёй! Мне хочацца закрычаць, нема завыць на ўсё паднябессе, страшна, нялюдскі вылаяцца...

Але я толькі недарэчна смяюся. Я адчуваю, што раблюся цынікам. Мне хочацца дабіць гэтага немца, дабіць без злосці, так, дзеля здзеку, у помсту за смерць сяброў, за мае пакуты, за тыя каляіны. «Дзіўная старая дурная кабета, — думаю я. — Чаго захацела ў такі век: прысвоіць уласнага сына. Хопіць таго, што ты нарадзіла яго, гадавала. У краіне, дзе крыважэр-

---

*Мой дарагі хлопчык! У мяне ты застаўся апошнім, і ты павінен памятаць гэта. Будзь асцярожны. Ты — мой. Ты не афіцэраў, не генералаў, не фюрэраў — толькі мой! Ты мой! мой! Твая мама.

нічае д'ябал, якая там уласнасць! У адплату за яго ідэі людзі павінны ахвяраваць яму жыццё. Ідэі дорага каштуюць, калі іх навязвае кучка. Бяры цяпер, фрау, свайго сына, бяры гэтую сваю галавешку...»

Але што гэта і дзе гудзе? Калоціцца зямля, дрыжыць паднябессе. Няўжо?.. — коле свядомасць здагадка. Але так і ёсць. З-пад нізкага сонца, хаваючыся ў яго промнях, выплывае над зямлёю статак імклівых ценяў: цяжкі гул асядае, душыць зямлю. Яны ідуць на вёску. Ідуць роўна і важна, нібы паўзуць сваімі нябеснымі шляхамі, падцяўшы кароткія лапы-колы. Я не лічу іх. Я бачу, як трое з хваста гэтага каравана збочваюць на крыло, коратка на павароце мільгаюць бляскам прапелераў і скіроўваюць на нас...

20

Густы і імпэтны, як горны абвал, роў пікіроўшчыкаў штурхае мяне ад сцяны схovішча. Я ўжо не думаю, што гэта канец, паглыбленым падсвядомым пачуццём я перажыў яго і гатовы прыняць смерць, толькі нестрываны сум агартае мяне ад думкі, што не ўдасца ўберагчы Люсю. Так і пагінем мы, і ніхто ніколі не даведаецца, як я любіў яе. Але ўгары пранозліва завывае — я штурхаю Люсю ў кут, і ў той жа час першая бомба выбівае з-пад мяне зямлю. Наступныя выбухі абрушваюць на нас цяжкія земляныя глыбы. Гасне сонца. Паветра б'е тугімі пыльнымі хвалямі. Скрозь зямля, агонь і пякельная лютасць выбухаў. Ашчаперыўшы голаў, я курчуся ў куце, як магу, затуляю Люсю і заціскаю між калень аўтамат. Дзяўчына з кожным выбухам уздрыгвае, гэтак жа ўздрыгвае зямля, дрыжу і я. Пэўна, няма такой чалавечае сілы, якая б не была падуладна страшнай сіле выбуху. Бомбы рвуцца па тры адразу. «Тр-р-рах! Тр-р-рах! Тр-р-рах!» — зямля храпае на ўсю глыбіню, здаецца, расчэпіцца, як вялізны спелы кавун. Я сціскаюся, напружваюся — роў бліжае, візг і зноў «тр-р-рах! тр-р-рах! тр-р-рах!».

Дзевяць выбухаў міма. Наўкола яшчэ шастае зямля, зверху асыпаюцца хмары пяску, узнятага бомбамі, роў глушэе, але зараз жа нарастае зноў. Я не ведаю, ці жывая Люся, яна сціснулася за маёй спінай, праз пыл мне не відаць самалётаў, але, здаецца, яны ўжо ўваходзяць у піке. Я чую, як адрываюцца і разам з ровам шыбуюць на нас бомбы. «Тр-р-рах» — б'е недзе

па акопу Крывёнка. Прапаў хлопец, мільгае думка, зараз жа новы віск і — «тр-р-рах!». Другога выбуху чамусьці няма, можа, бомба не ўзарвалася? Трошкі расслабеўшы целам, я чакаю заходу трэцяга пікіроўшчыка. Пакуль мы жывыя, але няўжо загінем ад апошняга выбуху? Павінны ж у іх скончыцца ўрэшце гэтыя праклятыя бомбы.

Трэці «лапатнік» трошкі замаруджвае, пыл паспявае асесці, пакуль ён заходзіць ад сонца. Па перакапанай агнявой мільгае спачатку ягоны імклівы цень, і затым прарэзліва вішчаць бомбы. Яны рвуцца трохі збоч, і ў мяне з'яўляецца надзея — уцалелі! Я яшчэ баюся паверыць у яе, але гул аддаляецца — цяпер трэба чакаць пяхоты. Я адхінаюся ад Люсі — яна ўскідвае голаў, і з яе валасоў сыплецца пясок, — абое мы скрозь у зямлі. Забітых закідала таксама, з-пад грудаў тырчаць адны толькі ногі. У Панасюка, пэўна асколкам, распораты чаравік, з якога вылез клык бруднае анучы. Я атрэхваю з аўтамата пясок і ўскокваю. Бруствера амаль што няма, сховішча заваліла зямлёй, падбітая гармата скасабочылася, адна станіна задралася сашнікам угору.

Немцы! Яны бягуць са сланечніку ў поле, далей нам у тыл, пад вёску — відаць, як матляюцца пачапкі іх аўтаматаў. Двое бліжэйшых засцярожліва прыгінаюцца і, бегучы, пазіраюць у наш бок.

Я тузаю рукаятку і, торапка прыцэліўшыся, тыркаю аўтаматам раз, другі, трэці, аднак немцы ўсё бягуць і бягуць. Відаць, для аўтамата да іх крыху далёка. Але чаму маўчыць кулямёт? Няўжо?..

— Крывёнак! Крывёнак! — крычу я. — Агонь. Чуеш? Агонь!

Я бачу яго — ён жывы і сядзіць у закутку свайго таксама абрушанага і змялелага акопа — счарнелы зусім, як цыган, і асалавела глядзіць на мяне. Рот ягоны адкрыты, і на твары грымаса адчаю.

— Агонь! Бачыш? Крывёнак!

— Да д'ябла! Да д'ябла ўсё!!! — раптам крычыць ён такім голасам, ад якога ў мяне скаланаецца сэрца, і ўскоквае. Ён выцягвае з зямлі свае босыя, без ботаў, ногі, і, хістаючыся, вылазіць з акопа да нас. Кулямёта яго не відаць.

— Да д'ябла сядзець! Прарывацца! Хопіць трываць! Чуеш? — крычыць і лаецца ён, увальваючыся ў наша разбуранае сховішча. Я закусваю вусны і нейкі час не магу сцяміць,

што сталася з ім, а хлопец хапае ля маіх ног гранаты, Люсін аўтамат.

— Выбірацца адсюль! Даволі! Прарывацца! Ну?! — крычыць ён і кідаецца на бруствер.

— Стой!

Я хапаю яго за нагу, ён падае ў сховішча, крутнуўшыся, ускоквае на калені і ўпірае ў мяне асалавелы ад гора і нянавісці позірк.

— Ага! І ты! І ты з-за яе? І табе яна люба? Геройства трэба? Геройства! Той у тыле герой! А ты — тут! Гэта яна ўсё нарабіла, — размахваючы кулакамі, крычыць ён да Люсі; на вуснах яго пена. — Чаго ты прыбегла? Каго ты шкадуеш? Яго? Нас? Ты — мучыцелька! Гадаўка ты, от! Ух, усе сволачы! Гады!

Гэтага я не чакаў. Гэта не слабасць — гэта шаленства, агіднасць і дурасць. Ён звар'яцеў. У мяне ўзнімаецца ўнутры гняўлівая злосць на яго і таксама сціскаюцца кулакі. Але ж немцы! Я зноў выглядаю — немцаў ужо няма, — частка іх з тых падбітых на дарозе машын, пэўна, ужо прарвалася ў лагчыну ў наш тыл, у фланг палка... Тады і кідаюся да хлопца і хапаю яго за плячо.

— Сціхні! — крычу я таксама нервова, паддаючыся яго шаленству. — Змоўкні. Ачумеў, дурань!..

У чорных ашалелых Крывёнкавых вачах жах і безразважнасць, стоячы на каленях, ён выпучвае грудзі, хрыпіць і насядае на мяне.

— Ага! Біць? Бі!!! Страляй!!! На, страляй!!! На!

Ён ірве на грудзях гімнасцёрку; трэснуўшы, тая распаўзаецца да самага падола, затым яго дрыготкія пальцы шкуматаюць сарочку. Я хапаю яго за грудзі, прыціскаю да сцяны сховішча, ён тузаецца пада мной, ірвецца і раптам сціхае. Рукі яго бяссільна ападаюць, і цела скаланае бязгучны ўнутраны плач. Я штурхаю яго на дол, прэч ад сябе, і сядаю ўбок. Дзве слязіны скочваюцца па запалых Люсіных шчоках, яна не выцірае іх і не саромеецца, толькі з нямым крыўдлівым дакорам глядзіць на Крывёнка, які нерухома ляжыць, уткнуўшы твар у зямлю.

— Герой! — ледзьве стрымліваючы злосць, кажу я са здзекам. — Прарвацца! Куды ты прарвешся? На той свет? Эх ты!

— Піць!.. — аднымі вуснамі шэпча тым часам Лук'янаў. — Піць...

Люся ўздрыгвае, сціскае сківіцы, на яе схуднелых замурзаных шчоках праступаюць жаўлакі. А побач варушыцца, упіраецца локцямі ў зямлю немец. Ён, здаецца, спрабуе ўстаць, павярнуцца, але гэта яму не ўдаецца, і тады ён роспачна просіць:

— Васэр! Айн шлюк васэр! Паўль!..

Люся сціскаецца ў камячок і курчыцца пад адным трошкі ўцалелым бокам нашага сховішча. У вялікіх яе вачах нейкі роздум, боль і зняменне.

Паляжаўшы з хвіліну, паднімаецца, сядае Крывёнак. Чорная, з раскудлачанымі валасамі ягоная галава падае на рукі, бяссільна пакладзеныя на калені. Я гляджу на яго босыя ногі, на плечы з адарванымі пагонамі. Рукаў ніжэй пляча рассечаны асколкам, на баку мокрая крывавая пляма. Хваляванне і трывога не даюць мне даўмецца, што ўсё ж сталася з хлопцам, які заўсёды быў цвёрды, разумны і ў цяжкую хвіліну паводзіў сябе як трэба. Няўжо гэта нервы? Цяпер ён аслабелы, бездапаможны, я адчуваю гэта, але не хачу супакойваць, угаворваць яго. На яго аслабеласць — ведаю я — трэба больш строгасці, патрэбна суровасць. Але мне некалі дадумваць усё гэта — я баюся, каб да нас блізка не падышлі немцы, і кідаюся да разбітага бруствера.

Навокал агнявой — пыльная земляная дрыгва. Увесь бліжэйшы травяністы абшар перакапаны, нібы яго парыў статак нейкіх вялізных дзікоў, — скрозь варонкі, земляныя вывараціны. Немцаў ужо нідзе не відаць.

— Ладна, усё! — паспакайнела, але ўсё яшчэ нервова кідае Крывёнак. — Што рабіць будзем? Кулямёта няма.

— А што рабіць? — як мага спакайней пытаюся я. — Вылезеш — тут цябе і пакладуць. Навек! А з ім як быць? — ківаю я на Лук'янава.

Я, мабыць, не менш, чым ён, намагаюся цяпер, каб як утрымаць сябе ў стане раўнавагі, трывожнае адчуванне не зменшылася, ведаю — небяспека ад нас не аддалілася.

— Мне чорт з ім — гінуць, дык гінуць. Толькі за таго не хачу. Не хачу! — кажа Крывёнак, і ягоны голас зрываецца на крык.

— Чаму гэта за яго? Ты за каго ваюеш?

— Як за каго? За сябе! За каго я павінен ваяваць?

— Мала, відаць, з табой палітзаняткаў праводзілі.

— Палітзаня-я-яткі! — адразу раздражняючыся, кажа хлопец. — На палітзанятках адно, а тут другое. Мы прападзём, а ён ордэн на грудзі прычэпіць ды будзе дзевак ахмурваць. Хіба не так!

Можа, і так, можа, і не, але я маўчу. Крывёнак нешта думае, седзячы ўнізе, пэўна ад болю, моршчыцца і адною рукой бярэцца за свой паранены бок. Люся паварочваецца да яго і так, нібы не было між намі ніякае сваркі, кажа:

— Паўлік, знімай гімнасцёрку — пагляджу.

Крывёнак паднімае на яе злосны, скалечаны шрамам твар.

— Навошта? Навошта! Яго даглядай! Мне не трэба! Я не прыгажун! Не герой! Я штрафнік! Што я табе?..

— Змоўкні! — з лютасцю гыркаю я. Крывёнак пераводзіць на мяне поўны нянавісці позірк.

— Што?.. Бабскі заступнік?

Мяне скаланае ад абурэння і злосці на яго.

— Дурань ты! Балда! — крычу я. — Асліная ты галава! Што ты разумееш! Завошта ты яе крыўдзіш? Задарожны сволач. Ён сачкануў, каб не ісці сюды. А яна бегла! Яна дзеля нас! Па-добраму! Па-чалавечы! А ты? Чаго ты дурнееш? Чаго шалееш?

Крывёнак скіроўвае на мяне нерухомыя вочы — у іх збянтэжанасць, няўпэўненасць, здаецца, ён збіты з панталыку маімі словамі. А Люся, неяк далёкая ад усёй гэтай нашай сваркі, нібы загнаны ў пастку звярок, туліцца да земляной сцяны, вочы яе поўныя напружання, але яна не плача — яна з усяе сілы імкнецца стрымаць-задушыць роспач і крыўду ў сабе.

— Піць!.. Піць!! — выдыхае Лук'янаў і грабе зямлю пальцамі. Люся ў тугі вузельчык збірае на лбе бровы, і я разумею, як ёй пакутна ад сваёй бездапаможнасці. А тут яшчэ ўсё не памірае, усё варушыцца, дрыжыць немец і таксама спалохана, трывожна просіць:

— Паўль! Васэр! Васэр!

Гэта нясцерпна — бачыць апошнія пакуты людзей, але мы не маем чым дапамагчы ім, і я адварочваюся. Я кладуся ніцма на разбіты бруствер і гляджу ў поле. Я хачу адно толькі — перамагчы трывогу ў сабе, супакоіцца, бо калі і я не стрываю, як гэты Крывёнак, дык мы па-дурному загінем.

Па траншэі ідуць немцы. Я зноў бачу, як мільгаюць над брустверам іх каскі, цёмныя пілоткі — яны ідуць некуды

ў тыл, на фланг нашай прарванай абароны. Відаць, яны да часу махнулі рукой на нашу агнявую і спакойна абыходзяць яе.

— Агонь! — кажу я самому сабе. — Агонь!

Але які агонь! Мой аўтамат выпускае са дзве чаргі і моўкне — затвор у апошні раз тупа лязгае і болей ужо не ўзводзіцца. Люся ў сховішчы поўзае на каленях і перакідвае магазіны, яе аўтамат таксама без дыска. Крывёнак абыякава сядзіць на зямлі, нізка апусціўшы голаў.

Ну што ж, засталіся гранаты...

Я бяру ля Лук’янава непатрэбную ўжо яму лімонку, выцягваю з зямлі РГД і па чарзе паварочваю іх рукаяткі. У проразях з’яўляюцца чырвоныя плямкі — гранаты на баявым узводзе. Піхаю іх у кішэні. Цяпер будзем чакаць.

— Пі-і-іць... Пі-і-іць... — енчыць ззаду непрытомны Лук’янаў.

Я не адрываю погляду ад траншэі — ведаю, рана ці позна яны ўсё ж палезуць на нас. Сонца ўжо садзіцца, яно слепіць вочы, але трэба глядзець, не празяваць. Я трошкі супакойваюся, расслабляюся, як раптам мяне скаланае спалоханы крык Крывёнка:

— Люся!!!

У голасе яго такі жах, што я на секунду мярцвею, крутнуўшыся, азіраюся — але позна. На брустверы мільгаюць толькі Люсіны боты, і яна адразу ж знікае ў бліжэйшай глыбокай варонцы. Мяне кідае ад страху — што яна ўздумала? Чаго яна? Няўжо і яна?

— Люся! Ты куды? Люся!!!

Але яна, не адказваючы, зараз жа выскоквае з варонкі, кідаецца на засыпаную зямлёй траву і хутка-хутка паўзе збоч танка. Вось яна ўжо мінае яго, страсянуўшы галавой, адкідвае з ілба валасы і паўзе, паўзе далей. Я, сцяўшыся,назіраю за ёй і толькі тады разумею — гэта яна да бліжэйшага забітага немца. У дзвюх руках я сціскаю гранаты, акідваю позіркам прасцяг, здаецца, ворагаў не відаць, але хто іх ведае... Сланечнік за дзвесце крокаў ад нас.

Люся падпаўзае да немца і трохі часу поркаецца над ім. Так, здаецца, яна знайшла там тое, чаго шукала, — у руках яе з’яўляецца біклага, і дзяўчына паварочвае назад. Азіраючыся ва ўсе бакі, яна хуценька, спрытна паўзе, зноў знікае на

момант у варонцы і зноў паказваецца, і тады са сланечніку б'е першая доўгая чарга.

Кулі няроўным касым шнурам пыльна джагаюць па раскапанай зямлі. Люся ўздрыгвае, прыціхае на момант, азіраецца і яшчэ хутчэй падаецца наперад. Пачуўшы нядобрае, да мяне на бруствер кідаецца Крывёнак, я адчуваю, як ён упіваецца ў зямлю рукамі і замірае. У мяне ў самога халадзее сэрца, але што мы можам зрабіць без патронаў.

Яна ўжо блізка. Нізка схіліўшы галаў, яна ўпарта дабіраецца да нас. У адной яе руцэ абшытая войлакам нямецкая фляжка (напэўна, вада!), у другой нейкая сумка ці кабур. Ну хутчэй жа, хутчэй, дарагая дзяўчынка! Са сланечніку зноў грукоча чарга, і зноў абмірае маё сэрца. Але Люся паўзе. Яна кіруе ў акоп, дзе дагэтуль сядзеў Крывёнак, — туды ёй бліжэй, чым у наша сховішча. Крывёнак падхопліваецца і рынаецца цераз пляцоўку. Я з гранатамі кідаюся следам.

Тут трошкі глыбей і схоўней. Люся ўжо блізка, яна падпаўзае ўжо да першых грудоў бруствера. Пэўна, у нашых вачах вялікі спалох і страх за яе, бо яна, сустрэўшы нашыя позіркі, абнадзеена ўсміхаецца зводдаль. Гэтая яе ўсмешка пераварочвае ўсё ў маім нутры, — я хачу закрычаць і вылаяцца ад напружання і страху за яе — столькі нясцерпнасці абрушыла яна ў маю душу гэтым сваім учынкам! Але яна ўжо ўзнімаецца на ўцалелы тут бруствер. Крывёнак, не зважаючы на нябеспеку, устае на ўвесь рост і выцягвае насустрач ёй рукі. Яна цягне свае да яго, прыўстае на каленях і раптам падае...

## 21

Лютая чарга разрыўных ашалела шчоўкае па брустверы, па зямлі, па траве; пясок і камякі сцябаюць па маім твары, запарушваюць вочы, знянацку я лыпаю, побач ускрыквае Крывёнак...

Праз слёзы ад пяску я ўсё ж кідаю позірк на Люсю — яна моўчкі і неяк незразумела пакорна кладзецца на бруствер; побач, ухапіўшыся рукамі за скрываўлены твар, апускаецца ў дно Крывёнак.

Вось яно! Вось самае страшнае, самае горшае — яно не мінула нас! А са сланечніку б'е другая, трэцяя чарга, куля збівае з маёй галавы пілотку, і я на момант схіляюся за бруствер...

— Люся! Люся! Люся!!! — ашалела крычыць у акопе Крывёнак, і я, зірнуўшы на яго, яшчэ раз жахаюся. У хлопца на скрываўленым твары — чырвоныя пустыя вачніцы...

— Люся! Дзе Люся?

— Люся тут, тут Люся, — шапчу я, раптам страціўшы голас. Яна ціхенька ляжыць на брустверы, паклаўшы галаву на выцягненую ўперад руку, і на твары — добрая, светлая ўсмешка, якую, напэўна, у апошняе імгненне ўбачыў Крывёнак. У выцягненай руцэ дзяўчыны біклага, а ў другой брызентавы кабур з ракетніцай. Ракетніца тоўстаю сваёй рукаяткай выпірае з яго — усё гэта звісае з бруствера. Апамятаўшыся і зразумеўшы, што сталася, я бяру Люсю за тонкія, яшчэ цёплыя кісці і разам з пяском сцягваю ў акоп. Маленькае гнуткае Люсіна цела лёгка кладзецца на мае рукі...

— Люся! — з нялюдскаю, немай адзічэласцю крычыць Крывёнак, слепа лапае па брустверы крывавымі рукамі, і я нейкі час баюся азвацца, баюся сказаць яму праўду. Тады ён гэткім жа голасам пачынае клікаць мяне.

— Сядзь, — кажу я як мага спакайней, але чужым, прыдушаным голасам. — Сядзь... Сядзі...

— Дзе Люся? Гад Лазняк, дзе Люся?

Я адчуваю, што ён зноў шалее, і болей не таюся ад яго.

— Усё. Няма Люсі...

Крывёнак змаўкае, пасля, неяк страціўшы сілу, спаўзае ў дол, затуляе далонямі свой аслеплены твар і зноў ускоквае з лаянкай:

— Сволачы! Гады!.. Сабакі!.. Падлюгі!..

Ён зноў, як звер у пастцы, кідаецца ў акопе, спатыкаецца аб пакінутую ў дне рыдлёўку і хапае яе.

— Дзе фрыц? Дзе той недабіты фрыц? Дзе ён?

Крывёнак вылазіць з акопа; зачапіўшыся за сашнік, падае, зноў ускоквае. Ён у шаленстве нічога не чуе, а я трымаю на каленях Люсю і не маю сілы спыніць яго, заспакоіць. Пакуль ён лапае ў доле, шукаючы рыдлёўку, са сланечніку зноў б’е чарга, разрыўныя гулка трэскаюць на брустверы і на гармаце.

— Ага! — учуўшы стрэлы, недарэчна ўзрадавана крычыць Крывёнак і лаецца. — Ага! Сволачы, гады!..

Босы, у парванай, расшпіленай гімнасцёрцы, без дзягі, з рыдлёўкай у руках, ён вылазіць з агнявой і, шырока расстаўляючы ногі, слепа сігае туды, дзе ворагі. Не выпускаючы з рук Люсі, я паволі ўзнімаюся ў акопе, а ён шырока і

невідушча ідзе і ідзе, высока і пагрозліва ўзняўшы рыдлёўку, і страшна лаецца. Праз пяць крокаў падае ў бомбавую варонку, гэта абнадзейвае мяне, я прачынаюся са сваёй душэўнай знямеласці і крычу:

— Крывёнак, стой! Стой! Не вылазь!

Але ён нядоўга ляжыць там, зараз жа вылазіць і зноў сігае туды, насустрач ворагу. Я ведаю, што ўсё прапала, што толькі некалькі імгненняў аддзяляюць чалавека ад пагібелі. І калі са сланечніку грыміць чарга, я заплюшчваю вочы. Расплюшчваю, але Крывёнка ўжо не бачу.

Я зноў апускаюся на дно абрушанага акопа і ціха, з вялікаю асцярогай кладу на зямлю Люсю.

Цяпер я адзін. Адзін з маёю вялікаю мукай і любай маёю дзяўчынай... Я ўражаны яе пагібеллю, уражаны вайною, мой свяшчэнны пякучы намер, як сухая груда ад кулі, рассыпаўся сёння ўшчэнт. Відаць, я слабы, я маленькая парушынка ў гэтых вялізных жорнах вайны, што страшэннаю сілай перамолваюць людскія жыцці. І мне не хапае ўжо маёй душэўнае сілы, каб супрацьстаяць пагібелі, змагацца, абараняць аднаго толькі сябе.

Я вымаю з тонкіх Люсіных пальцаў раменьчык біклагі, там, здаецца, ёсць нейкі глыток вады. Пасля з другой рукі я бяру ракетніцу — у скураных гнёздах кабуры тырчаць тры каляровыя ракеты. Мне ўжо не хочацца ні піць, ні есці, ні жыць, знікае жаданне і біцца — адстойваць гэтую ўшчэнт разбураную агнявую, — хочацца толькі памерці, ціха — і тут, побач з Люсяй...

Не ведаю, колькі часу я так, у змяненні, сяджу над ёю. Пасля ўспамінаю жывога яшчэ небараку Лук'янава і нашых там, у сховішчы. Не вельмі хаваючыся, з біклагаю ў руках я перапаўзаю пляцоўку. Лук'янаў нерухома ляжыць, дзе ляжаў, але ўжо не кратаецца. Мне вельмі хочацца, каб ён ачнуўся, загаварыў, зірнуў — гінуць аднаму страшна. Я адвінчваю біклагу, паднімаю яго запарушаную зямлёй галаву. На павеку заплюшчанага левага вока грудка зямлі, я скідаю яе. Але зубы Лук'янава сцяты. Не, ужо ўсё ў ім здранцвела— чалавек, напэўна, даўно ўжо памёр...

Няўцямным, абыякавым да ўсяго позіркам я аглядваю астатніх. Нерухомыя, глухія, сляпыя да ўсяго на свеце людзі, змярцвелыя, закіданыя зямлёй твары... А чырвоная доўгая стрэлачка на Жаўтыховым гадзінніку ўсё рупна бяжыць і

бяжыць па чорным цыферблаце. Гэтая яе жывучасць бянтэжыць мяне, — з нейкім забабонным страхам я б'ю па ёй біклагай — шкло рассыпаецца, і стрэлка спыняецца на лічбе 11.

Ну, што далей?

Побач нешта пачынае мармытаць абгарэлы немец. Жывучы! Нашы ўсе да аднаго палеглі тут, а ён вось жывы. У мяне ўзгараецца жаданне дабіць яго, задушыць. Але прыпамінаецца: Люся не дала мне зрабіць гэта ў самым пачатку — і я веру ёй. Мусіць, яна сваёй чалавечай жаночай душой адчувала нешта такое, што недаступна нам, аслепленым крывёю, нянавісцю, гарачкаю бойкі. Чорт з ім! Хай памірае сам!

Немец жа ўсё тузаецца на зямлі, мармыча нешта — відаць, штосьці яго турбуе. «Піць? — кажу я сам сабе. — Д'ябла табе лысага, а не піць».

Я падношу да сваіх ссохлых, засмяглых вуснаў пляшку і п'ю. Вада цёплая, нясмачная, смярдзіць нечым нямецкім і не ўбаўляе смагі, але я неспатольна і ўпарта п'ю. Рэшту, што яшчэ засталася ў пляшцы, выліваю ў дол. Мне яна больш не спатрэбіцца.

Кінуўшы біклагу ў кут, я вяртаюся ў акоп. Люся ляжыць у доле на камяках накіданай выбухамі зямлі, рукі яе бяссільна выцягнуты ўздоўж цела, ногі роўненька сціснуты. Я сядаю над ёю, папраўляю на загарэлых каленьках старэнькую яе спадніцу. Тонкі дзявочы твар ужо прыкметна збялеў, пахудзеў... Тая яе апошняя ўсмешка, што нестрыванасцю ўзрушыла нашыя з Крывёнкам сэрцы, паволі знікае, саступаючы месца строгай нежывой нерухомасці. Мяне бянтэжыць і здзіўляе гэтая недарэчная здранцвеласць на заўсёды такім рухавым, жывым і вельмі лагодным Люсіным твары. Здзіўляюць і вочы — яны, аказваецца, зусім не сінія, яны шэрыя, і я не разумею, чаму яны заўсёды здаваліся нам сінімі, як васількі. Колькі бязмерна роднага было ў іх, у гэтых радаснапакутных вачах!..

Я закрываю іх па чарзе, левае і правае — хай спяць!.. Што ж рабіць далей? Выбегчы ўслед за Крывёнкам? Застрэліцца з ракетніцы? Узарваць сябе з Люсяй?

У кутку на земляную пацяруху грабецца мурашка. Зямля дробная, яна разам з мурашкай раз-пораз ссыпаецца ўніз. Мурашка выграбаецца з пяску і пачынае караскацца зноў. Што значыць бяздумная ўпартасць! Я бяру яе на далонь і

здзьмухваю на бруствер — хай ідзе, ратуецца. Тут ёй добра не будзе.

Не, чорта з два! Буду біцца! Адзін за ўсіх — за Жаўтыха, Папова, Лук'янава, Крывёнка. За Панасюка. Інакш мне нельга. Я выкладваю свой боезапас — тры РГД, адна лімонка ў кішэні, тры ракеты. Усё ж не голыя рукі.

Здаецца, пачынае цямнець. Неба яшчэ блішчыць далёкім зніжэлым святлом, але ў акопе ўжо засень. Бой здалёку ўсё грыміць, не зразумееш, у якім баку нават, — калоцяцца, стогнуць абшары і справа, і злева, і наперадзе. Ціха толькі на варожых пагорках. Але там, мусіць, нікога няма.

І раптам — знаёмае траскоцце на брустверы. Пясок, камякі, зямля, пыл — на галаву. Сыпане і сціхне... Праз пяць секунд зноў... Пасля яшчэ і яшчэ. Так, пачынаецца...

Трымайся, Лазняк! Здаецца, гэта апошні твой бой. За зямлю трымайся: усё на зямлі — усё ад зямлі, — гучаць у вушах колішнія Жаўтыховы словы. Не спагань яе! Ранейшаю сілай наліваецца маё цела. І спрытам. Кожны мускул напружваецца. Толькі страху ўжо няма і следу, ужо я перажыў, патраціў яго ўвесь. Біцца, дык біцца... Насмерць!

Прыўстаўшы на нагах, я адным вокам выглядваю з-за бруствера — паўзуць! Потныя, загарэлыя, з аўтаматамі на зямлі. Збоч нехта падае, нехта перабягае ў варонку...

Я бяру дзве гранаты, яны ўзведзены. Прыціскаюся да сцяны. Чакаю. Слухаю. Нейкая жыла пад каленам дробненька, надакучліва дрыжыць.

Пад брустверам нешта стукае. Граната? Лопае запал, затым — ашалелы ўдар! Зноў земляныя камякі, пыл, пясок засцілаюць неба...

Размахваюся — і ў адзін, другі, трэці бок шпурляю свае РГД. Зараз жа выбухі — адзін! другі! трэці! Выхопліваю з кішэні лімонку. І тут — удар у бруствер. Адскочыўшы ад яго, побач шлёпаецца доўгая палка нямецкай гранаты. Са звярыным спрытам я хапаю яе і кідаю наверх. Зараз жа выбух, нечы блізкі глухі енк.

Бяру ў правую руку лімонку, зубамі адгінаю чаку. Левай зараджаю ракетніцу і ўзводжу баёк.

Ззаду за брустверам блізкія крокі — я адразу чую іх тут, у зямлі. Вырываю зубамі чаку, адпускаю планку і, прытрымаўшы секунды са тры, кідаю гранату туды. Выбух! У той жа момант на брустверы над галавой — іх выбух! Удар недзе

ззаду — і яшчэ выбух! Яшчэ рве ля гарматы, і праз пыл вынікае цёмная даўгалыгая постаць у касцы.

— Хендэ хох!

— Скулу ў бок! — крычу я і ва ўпор страляю з ракетніцы. Дымны струмень б'е ў ворага, пыхае клубком іскраў — немец хапаецца за грудзі і, падламаўшыся ў каленях, падае на спіну. Некалькі секунд з ягоных грудзей джагае яркае агністае полымя...

Немец гарыць, ракета рассыпае наўкола гушчар іскраў, ягоныя боты звісаюць ў мой акоп. Гэта яму за Люсю.

Я хуценька зноў зараджаю ракетніцу, высоўваюся і б'ю ў тых, што паблізу. Пэўна, збянтэжаныя маім агнявым адпорам, яны прыціхаюць. Ракета падскоквае па зямлі і коціцца ў траве ярка-агнянай каметай. Зялёныя бліскаўкі дагараюць і тухнуць на камяках бруствера.

Выкідваю гільзу і піхаю новую. Мяркуючы па галоўцы, гэта асвятляльная, белая. Я чакаю новай атакі і дзякую Люсі. Мёртвая, яна ратуе мяне.

Але немцы маўчаць. Маўчаць хвіліну, дзве, пяць... Што сталася з імі? Можа, яны падпаўзаюць? І тут аднекуль здалёк зноў даносіцца танкавы роў. Устрывожаны, я ўслухоўваюся, а ён усё мацнее, шырыцца ў паднябессі, набліжаецца. Яшчэ праз хвіліну на ўсю глыбіню дрыжыць, гудзе, скаланаецца зямля. Некалькі разгоністых сіняватых трас джгаюць над брустверам — адтуль, з нашага боку.

Радасная здагадка азарае мяне, і, здзіўлены, я паволі ўстаю ў акопе. Недзе побач залівающца-грукочуць кулямёты, і ўсё адтуль, з нашага боку, джгаюць-мільгацяць трасы.

З апошняй Люсінай ракетай у ракетніцы, гатовы да ўсяго, я выскокваю з акопа.

## 22

Так, я выратаваны. Усё страшнае, нясцерпнае ўжо мінула...

Наўскасяк па полі, праз сланечнік, да дарогі з даўжэзнымі, як бервяно, стваламі ідуць САУ-100. За імі бяжыць, адстае, даганяе пяхота. Я сяджу на брустверы з адзінаю сваёй ракетай і не адчуваю ў сабе і маленькага намёку на радасць паратунку. Ля маіх ног ляжыць нерухомае маленькае цела Люсі. Я вынес яе з акопа пад раздольнае неба, на шырокі палявы прастор, якога яна ўжо не пабачыць ніколі... Ні прастору зямлі, ні на-

шай перамогі, ні гэтага звечарэлага неба, якое цяпер вельмі падобна на яе шэрыя, некалі зіхатлівыя вочы... Ідзе час, а я ўсё сяджу.

Сяджу без дум, без сілы, без аніякага людскога жадання. Праклятая вайна дала і вырвала ў мяне нялёгкае права на Люсіна каханне. Цяпер што радасці мне з жыцця? Пехацінцы штосьці пытаюцца, нешта крычаць, але я не чую іх і не адказваю. Нейкі кірпаты салдат у перакручанай упоперак галавы пілотцы кідае на мяне: «Дурны ці кантужаны» — і другі, што бяжыць ля яго з кулямётам, смяецца. Ім радасна.

А я думаю: хто з нас мог меркаваць учора, што сёння здарыцца гэткае? Ці мог я за доўгія месяцы ў шпіталі прадбачыць, што мая адплата ворагу заслоніцца ад мяне новай вайсковай няўдачай і подласцю свайго ж чалавека? Як гэта ўсё складана і трудна. Я думаў: дабрацца б да немцаў! А ці толькі яны сталі віною нашай бяды! На колькі ж франтоў суджана змагацца мне — і з ворагамі ў акружэнні, са сволаччу побач, нарэшце, з самім сабой. Колькі ж гэта перамог трэба здабыць гэтымі вось рукамі, каб яны склаліся ў тую, што напішуць з вялікай літары? Як гэта мала — аднае рашучасці, добрых намераў і колькі яшчэ трэба сілы! Зямля мая родная, людзі мае, — дайце вы мне гэтую сілу! Мне яна так трэба!

Цямнее. Бой сунецца далей, за цёмныя хрыбціны пагоркаў. Па полі ідуць мінамётчыкі. Сагнуўшыся, з цяжкімі шпулькамі брыдуць сувязісты. Некуды імчаць ездавыя на перадках...

І раптам з прыцемкаў між варонак з'яўляецца Лёшка. Спорным таропкім крокам ён падыходзіць да агнявой — у яго ў здаровай руцэ два кацялкі, пад пахай другое, што бялее бінтам, бохан хлеба. Самаўпэўнена, з такім выглядам, быццам ён толькі дзесяць хвілін не быў тут, Лёшка вітаецца:

— Прывет! Ну як? Стрывалі! Героі! Законна!

Ён укленчвае, асцярожна ставіць між грудоў кацялкі, кладзе хлеб.

— Вайна вайною, а есці трэба. Праўда? Ось растараўся тут. А дзе ж хлопцы?

Я маўчу, адчуваючы, як усё перад вачмі закружылася, загойдалася і плыве ў шалёным тумане нянавісці. Пэўна, ён заўважае гэта і сур'ёзнее.

— А мяне, ведаеш, трохі цюкнула. Пакуль да санроты дабег, перавязаўся, ну і... забавіўся... Во, яшчэ Люська пра-

пала. Была і прапала. Шукалі, шукалі... Дык дзе ж хлопцы: прастыне...

Туман у маім позірку расплываецца — варонкі, выбоіны, бруствер і Лёшка ва ўсёй катэгарычнай выразнасці паўстаюць перад вачмі.

— Ідзі сюды, гад!

Я ўстаю, паварочваюся на брустверы да агнявой, і Лёшка, адчуўшы кепскае, паслухмяна лезе наверх.

— Не там шукалі. Глядзі! — крычу я.— Глядзі, сволач!!!

На некалькі секунд ён нахмурваецца, аглядае нябожчыкаў, але зараз жа здаровай рукой пачынае атузваць кароценькую сваю гімнасцёрку.

— Ну і што? Што глядзі? — злосна агрызаецца ён.— Падумаеш! Вунь не такіх пабіла. Камбату галаву адарвала. Што, я вінават?

— А хто ж — твая работа! Гад ты! Судзіць цябе!

— Судзіць? — вызверваецца ён. — Пайшоў ты да д'ябла, малакасос! Завошта?!

— Ах, завошта? Ты не ведаеш завошта? Ты пагубіў іх. Ты злачынца! Фашыст! Мы чакалі цябе, чаму не прыйшоў? Найперш сябе ратаваў?

— Параніла, во! Глядзі! На, глядзі! Не верыш? Паказаць табе? — Ён тыцкае ў мой твар сваю перавязаную кісць і пачынае з яе зрываць бінты.

— А ў нас не параненыя? Папоў не паранены? Лук'янаў не паранены? Ногі ж у цябе цэлыя, гад ты паўзучы! Чаму камбату не далажыў? Навошта Люсі сказаў, што нам канец? Чаму?..

Кожная жылка ва мне струнка дрыжыць, я гатовы растаптаць яго, пакалечыць, змяшаць з зямлёй. Але ён не бянтэжыцца — ён абураецца, яго нахабны твар распаляецца нянавісцю да мяне. Раптам яго тон з'едліва мякчэе.

— Калі хочаш, ніякага дазволу не было. Вот! Камбат забіты. Ён не загадваў. Я нічога не ведаю. Ранены, вось!

— Што-о-о? — крычу я, трацячы над сабой уладу.

— А то! Камбат мне нічога не загадваў. От! Я Люсі не казаў. Што вы нарабілі тут — не мая бяда. Я ўбаку.

— Ах, ты ўбаку! Нягоднік! Сволач!

Не адчуваючы сябе, я падскокваю да яго, гатовы кінуцца ў бойку, як тады, уночы, на гэтым самым месцы.

— Так, убаку! — крычыць ён. — Ідзі дакажы! Няхай ажываць Троцкага, Люсю, няхай запытаюць. І прэч ад мяне, смаркач!

Ён замахваецца на мяне сваёй натрэніраванай нагой футбаліста, але я, без памяці ад гневу, нават не адскокваю, — я ўскідваю ракетніцу і агнявым выбухам б'ю ў яго ненавісны твар.

На момант стрэл аглушае і слепіць. Рукі мае дрыжаць, як не дрыжалі за ўвесь сённяшні дзень. Страшэннае яркасці ззянне, усё разгараючыся ў доле, нестрываным святлом залівае агнявую, станіны, скасабочаны шчыт, колы, абгарэлага немца, кожны камячок у доле. У акопе, сховішчы, за гарматай трапечуцца-дрыжаць чорныя дзягцярныя цені.

На некалькі імгненняў на брустверы з незвычайнаю яркасцю ўспыхвае роўная і надзіва маленькая ў доле постаць Люсі. Коратка і горача бліснуўшы (як і ў жыцці), яна ўмомант азмрочваецца, і зараз жа ўсё паглынае цемра.

Вялізная, накопленая за гэты жахлівы дзень злосць, раптам выбухнуўшы, пакутна ападае ў маім сэрцы. Ураз знікае ўвага да гэтага злыдня і ўсяго на свеце, я шпурляю ракетніцу і, адышоўшыся на другі бок агнявой, кладуся ніцма на мулкія груды халоднага бруствера.

За пагоркамі паволі сціхае бой. Далёкае святло ракет слепаватым водсветам блукае па цьмяным шчыце гарматы. Вечная ў сваёй жыватворнай сіле, пахне пабітая выбухамі, здратаваная танкамі, пасечаная жалезам зямля. Росны травяны водар яе пачынае ўладарна заглушаць бензінавы чад гарэлых танкаў, парахавы смурод гільз. Угары, у святлявым веснавым небе, высыпаюць рэдзенькія зоркі — тыя самыя, пад якімі я марыў учора — і марыў зусім не пра гэткае. Знямożаны і спакутаваны, неяк душэўна здранцвелы, я доўга не магу паварушыць нічым і пластом ляжу на зямлі. Усё ва мне сцялася, асела — адно толькі пякельным болем гарыць-дагарае ў душы мая нешчаслівая любоў і мая святая нянавісць.

Я ляжу так, аж покуль з цемры не даносяцца знаёмыя галасы. Недзе мерна лязгае ворчык, коратка фыркае конь — гэта едзе разлік Скварышава. Відаць, хлопцы шукаюць нашу агнявую, спыняюцца, і неўзабаве наводчык Шчарбак, пэўна, згледзеўшы мяне на брустверы, гукае:

— Давай сюды! Тут яны.

Тады я падымаюся з долу. З'яўленне таварышаў прыўзнімае нада мной нестрываную глыбу самотнасці. Праўда, я адчуваю, што давядзецца мне ўсё растлумачыць і за штосьці адказаць. Але я не баюся. Што б са мной ні сталася яшчэ — горш і страшней, чым сёння, мне ўжо ніколі не будзе...

*1961*

# ЗНАК БЯДЫ

*Час і людзі не шмат чаго пакінулі ад колішняй хутарской сядзібы, рэшткі якой спакваля праглынула зямля і развеяў вецер. Дзе-нідзе толькі выглядвалі на паверхню яе скупыя адзнакі: вуглавы камень падмурка, прытаптаны бугор бітай цэглы ды дзве гранітныя прыступкі каля былога ўвахода ў сені. Прыпарожныя гэтыя камяні ляжалі на тым самым месцы, што і сто год назад, і дробныя рудыя мурашы, якія недзе паблізу аблюбавалі сабе прыстанішча, дзелавіта снавалі па ніжняй прыступцы. Алешнік з рова, адхапіўшы добрую частку хутарскога поля, падступіў да самай сядзібы, на месцы істопкі па-царску разросся густы куст шыпшыны сярод буйных зараснікаў дзядоўніку, крапівы і маліннiку. Ад калодзежа нічога не засталося, зруб, пэўна, згніў або яго расцягалі людзі, вада, апынуўшыся без патрэбы, знікла ў глыбіні зямлі. На рагу колішняй хаты неўпрыцям вылезла з пустазелля калючая дзічка-груша — можа, парастак ад колішніх груш-спасовак, а можа, выпадковая самасейка, занесеная з лесу птушкамі.*

*З дарогі, ад гасцінца, мала што выдавала тут былую сядзібу, хіба што адна з дзвюх ліп, якія калісь раскашавалі абапал варотцаў на ўездзе. Другой даўно не было, а гэтая, што засталася, мела жахлівы выгляд: абгарэлая і аднабокая, з тоўстым каржакаватым камлём, у якім зеўрала шырокая шчыліна дупла, яна незразумела як трымала на сабе некалькі тоўстых галінастых сукоў. Птушкі, якія часам прылятaлі з лесу, чамусь ніколі не апускаліся на яе голле, лепей садзіліся на рослы алешнік побач. Вароны, магчыма, памяталі нешта, а можа, сваім птушыным інстынктам адчувалі ў гэтым знявечаным дрэве злую прыкмету няшчасця, знак даўняй бяды. Зрэшты, знак гэты ляжаў тут на ўсім: на скупых*

*рэштках сядзібы, зарасніках дзядоўніку і крапівы, якія буйна раскашавалі ў спакої, на самазадаволенай непрыступнасці калючай шыпшыны і нават мізэрнай, з пакручастым голлем дзічцы. І толькі маладая тоненькая ліпка, што зусім нядаўна выкінула да сонца лічаныя свае лісточкі, у сваёй безабароннай адвазе здавалася госцяй з іншага свету, увасабленнем надзеі і другога, інакшага, жыцця.*

*Напэўна, усё астатняе належала тут мінуламу, скаронаму тленам і небыццём.*

*Усё, апроч непадуладнай часу, цярплівай і негаваркой чалавечай памяці, надзеленай спрадвечнаю здольнасцю пераптвараць мінулае ў цяперашняе, звязваць сучаснае з будучым.*

## I

З цярплівай ненасытнасцю карова скубла воглую зранку траву, як заўжды, мерна тупаючы сваім звыклым шляхам: каля гасцінца, па зарослай быльнягом канаве, невысокім прыдарожным адхоне, пасля цераз травяністы лапік ля белага, бы ўкормлены парсюк, валуна і далей да самага ўзлеску, што шырокай дугой ахопліваў палявы грудок з хутарам. Сцепаніда ведала, што на ўзлеску карова паверне ад дарогі ўбок — цераз пагорак да Баранняга Логу, і там ужо трэба глядзець пільней, каб не шмыганула куды далей з воч. Бабоўка на тое была спрытнюга, і не зважай, што пярэстая — белыя плямы па чорным, — а калі згубіцца, дык пабегаеш, шукаючы па хмызняках. Але гэта там, далей на ўзлеску, а тут дзецца ёй не было куды: невысокая насыпка дарогі ды голы прасцяг бульбянішча — тут можна і пасядзець у спакоі. І Сцепаніда прыслацілася клубам да гладкага бока валуна, шчыльней саставіла ў траве босыя ногі і не пільна нават глядзела на тую Бабоўку.

Было не сцюдзёна, трохі зябкавата нагам у воглай траве і ветрана. Неба спрэс усцілалі хмары, сонца не паказвалася ад рання. Зрэшты, цяпер з яго не шмат і карысці, таго восеньскага сонца, хіба было б весялей, калі б яно на якую гадзіну выбавілася з-за хмар. А так шэрае непрытульнае поле захлыналася ў ветраным шолаху быльнягу ды ўкарэлага каліўя бульбоўніку на шырокай пагоркавай ніве; міжвольна карцела адвярнуцца ад ветру, тужэй захінуць полы ватоўкі і не кратацца. Поруч, на гасцінцы, як і заўжды апошнія тыдні,

было ціха, пустэльна, цяпер тут амаль не ездзіў ніхто і не хадзіў. Калі часам і трапляўся які хадок, дык болей уранку, — якая-небудзь кабеціна з суседняй вёскі па невялікай патрэбе ў мястэчка. Гэтая ціша на гасцінцы спярша аж бянтэжыла Сцепаніду, асабліва пасля таго, як тут гуло, раўло і стагнала ад машын, падводаў, гармат, а таксама безлічы войска, што валам валіла адтуль, ад граніцы, на ўсход. Здавалася, вялікаму таму гармідару не будзе канца, а з ім не скончыцца і турботны неспакой на хутары. Ведама ж, прыдарожная сядзіба — усім пад рукой і навідавоку. Сцепаніда з Петраком збіліся з ног, спатыкаючыся і пасабляючы, чым было можна, усім, што заязджалі, забягалі, спыняліся, каб напіцца, перадыхнуць у спякоту пад ліпамі, а то пераабуцца ці папытаць дарогу. Толькі неяк пад вечар на гасцінцы стала вальней, рух парадзеў, гатовы зусім прыпыніцца, чырвонаармейцы пачалі паварочваць у поле абапал дарогі і разышліся ўпоперак па бульбоўніку. Два камандзіры, што конна завіталі на хутар, нешта доўга разглядалі на карце, а іхні баец-канавод папытаўся ў яе вядра, каб напаіць коней, і, аддаючы, сказаў, што тут будзе бой, заставацца на хутары нельга. Дужа напалохаўшыся тады, Сцепаніда забратала Бабоўку і падалася расцяробамі ў Баранні Лог. На сядзібе ўсё ж застаўся Пятрок — сядзібу нягожа было пакідаць без нагляду. Трываючы вялікі страх, Сцепаніда праседзела ў бярэзніку ноч і палову наступнага дня, але бою не было чуваць, толькo паўднём угары паявіліся самалёты і здрыганулася зямля, дзесьці забахала, засакатала і ў небе за логам паўстаў шэры слуп дыму, нешта там загарэлася. Спакваля, ачуняўшы ад першага страху, яна сцяміла, што гэта далёка, усё на тым жа гасцінцы ці, можа, нават далей, у мястэчку. Адвячоркам усё тое прыціхла, нібы і не пачыналася, яна трохі счакала яшчэ, а пасля боязна павалаклася з каровай да хутара, не ведаючы нават, ці ўбачыць што ад свайго жытла, ды і Петрака таксама. Але хутар, як заўжды, ціха стаяў сабе наводдалек ад дарогі пад старымі ліпамі, а на падворку, вылезшы з пограба, тупаў з саломай у барадзе яе Петрачок. Знаёмы дымок ад яго самакруткі струменіў цераз паркан па ветры.

Той ноччу чырвонаармейцы пакінулі на бульбяным пагорку недакапаную крывуляку-траншэю і некуды сышлі старанной, на гасцінцы ўсё апусцела, заглухла, рэдкія вайсковыя фурманкі і некалькі машын уранку паварочвалі назад, у аб’езд

на Кульбакі: за сасоннічкам самалёты разбамбілі масток цераз дрыгвяністую Дзеравянку і праехаць гасцінцам у мястэчка было ўжо неяк.

Настала новае, як падумаць, дык проста нялюдскае жыццё, што спакваля, але са страшнай няўхільнасцю ўсталёўвалася ў раёне. Ранейшае знікла. На Выселках раздзялілі калгас, разабралі небагатую яго маёмасць, інвентар, коней, і яна паслала Петрака за некалі абагуленай іх кабылкай — кабылка, аднак, аказалася немаведама дзе: перад прыходам немцаў выправілі хлопца з фурманкай на станцыю, і ён так і не вярнуўся адтуль. Яна тады насварылася на Петрака: мусіць, трэба было ўзяць якога другога каня, калі такая мітрэнга, як жа без каня ў гаспадарцы? Як тады жыць? Але гэты Пятрок — вядомая недалэга, хіба ён зробіць як трэба? Толькі знае адно — моўчкі смаліць смярдзючую сваю махорку. Цяпер во жыві як хочаш, добра яшчэ, што ёсць гэта Бабоўка, на яе ўся надзея, яна пакуль што корміць абаіх. А што будзе далей?

А Бабоўцы тым часам, мусіць, надакучыла скубці на жорсткім жвіровым адхоне, і яна ўскараскалася на прыдарожную ўзбочыну, быццам там было што смачнейшае. Сцепаніда адхінулася ад каменя: нашто карове даваць вытыркацца на насып, ці мала што можа здарыцца, каму трапіць на вочы? Праўда, за гэтыя два месяцы яна зразумела, што ад усяго не засцеражэшся, як ні туляйся, а яны калі захочуць, дык знойдуць і прыдзяруцца. Тым болей што ў немцаў знайшліся ўжо і памагатыя з мясцовых — нядаўна застрэлілі захожага чырвонаармейца, павесілі двух камуністаў на плошчы, адзін быў дырэктар школы, дзе вучыліся Фенька з Федзем. Там жа, у мястэчку, на сценах бялелі іхнія аб’яўкі з абяцанкамі жорсткае кары за ўсякае аслушэнства, непадпарадкаванне, тым больш парушэнне. Яна не ведала іхніх парадкаў, не хацела іх парушаць, але хто ведае, за што яны могуць прычапіцца да мірнага чалавека. Добра яшчэ, што цяпер гэты хутар застаўся як бы ў закутку, па дарозе ніхто не ездзіць, а ад мястэчка яго затуляе малады густаваты сасоннічак. Так спакайней.

Сцепаніда ўзлезла на дарожны адхон і хварасцінай лёгка пасцёбала Бабоўку па скарэламу заду — маўляў, давай прэч з дарогі. Карова, спаважна ступаючы, сышла з адхону ўніз у канаву. Канешне, трава там была не дужа каб прыдатная для каровінага языка — болей дуддзё і быльнёг, але хай. За дзень як-небудзь напасвіцца.

Карова скубла ўнізе, а Сцепаніда пастаяла яшчэ на гасцінцы, азіраючы з невысокай насыпкі знаёмае да драбніц некалі сваё хутарское поле. Дзесяць гадоў яно ўжо было не іх — калгаснае, але чыё будзе цяпер? Наўрад ці немцы аддадуць ім зямлю, мабыць, ведаюць, што калі што выпусціш з рук, дык назад не ўхопіш. Якая яна ні ёсць, гэта зямелька, гэты пракляты Богам пагорак, празваны Галгофай, а вось шкада яго, як маці шкада нягеглага свайго дзіцёнка. Колькі тут выхадзілі яе немаладыя ўжо ногі, перарабілі яе хворыя рукі! Столькі гадоў яна тут жыла, рабіла ўсё, што трэба было ў сялянстве, да той жа няхітрай справы спакваля прывучаўся Федзька, Феня, праўда, захацела вучыцца і паехала ў Мінск. Дзе цяпер яе дзеткі? Феня дык, можа, яшчэ і нічога, можа, дзе і жывая, калі пашчасціла ад гэтай навалы ўцячы на ўсход і цяпер недзе ў Расіі. А Федзька? Як узялі ўвосень у армію, за зіму прыслаў тры пісьмы з Латвіі, толькі пачынаў сваю службу на танках, і тут гэта вайна. Дзе ён цяпер, ці жывы хаця?

У небе з-за хмар прарэзаўся востры краёчак сонца і бліснуў на абшар знянацкім святлом. На якія паўхвіліны самотны восеньскі абсяг дужа змяніў свой выгляд, нібы заўсміхаўся насустрач жаданай сонечнай ласцы. Высветленыя ім, рэзка азначыліся на зямлі гумны, садкі і будынкі Слабадскіх Выселак, што даўжэзным радам выцягнуліся на задарожным пагорку, воддаль засінеў хвойны лес, а бліжэй і правей лёгенька зазелянеў малады гушчар хвойнічку, роўна прарэзаны паскам гасцінца. Збоч ад яго і вышэй на шэрай сукніне поля азначылася несамавітая хутарская сядзіба, яе Яхімоўшчына, з парадзелым голлем садка, парканам пад ліпамі і калодзежным дашкам над ім. Сцепаніда прыгледзелася пільней, стараючыся ўбачыць там дзе Петрака, каб дазнацца, што робіць стары. Выганяючы ранкам карову, наказвала яму што-колечы зрабіць каля дома і не забыцца натаўчы ў ступе круп — назаўтра мелася варыць крупнік. Петрака, аднак, не было відаць, ды і сонца сышло за хмары, абшар спахмурнеў, не ўгледзець было, што там, на падворку, ёсць дзе Пятрок ці не.

Сцепаніда злезла з адхону (чаго ж тырчэць без патрэбы) і памалу пайшла за каровай.

Яна далекавата адышлася ад каменя, ужо недалёка быў хмызняковы ўзлесак, як пачула чалавечы голас па той бок дарогі. Тады яна ўзняла галаву, услухалася, і трывога яе мінулася, як толькі згледзела на дарожнай насыпцы знаёма-

га рудога сабачку. Той узбег на абочыну, спыніўся, таксама пазнаў яе і борздзенька заматляў хвастом. Адтуль, з-за дарогі, данёсся новы гартанны ўскрык, невыразны, здушаны, і яна ўжо ведала, што гэта Янка Ганчарык, нямы пастушок з Выселак, мабыць, прыгнаў свой невялічкі статак і пасе па той бок дарогі, як яна сваю Бабоўку — па гэты.

І праўда, услед за сабачкам на насыпцы з'явіўся даўганогі падлетак у зашмальцаванай, з чужога пляча кашулі і з пугаю ў руках. Сцепаніда нярэдка сустракала яго на гэтым прыдарожжы ці ў расцяробах, у лесе ўсё з тымі ж чатырма каровамі, і заўжды ён прымушаў жалем сціскацца яе сэрца — такі быў недагледжаны, занядбалы, у падцятых вяроўчынай, суконных портках, з якіх тырчэлі яго доўгія пасіверaныя лыткі. Заўжды ён з трывожнай недаўменнасцю ўзіраўся ў яе твар, быццам хацеў і не мог зразумець штосьці, сіліўся нешта сказаць на сваёй мове рук і рэзкіх гартанных гукаў, якія часам палохалі яе сваёй нечаканасцю. Часам яна хацела нешта сказаць яму, ён адказваў усё тымі ж гартаннымі ўскрыкамі, і яна ніколі не ведала: ці ён зразумеў што, ці не. Але хлеб ці якую скварчыну, якую яна даставала з кішэні, браў адразу ж і, прымасціўшыся на мяжы ці на камені, з'ядаў усё да крошкі. Падобна было на тое, што небарака часцяком быў галодны. Ведама, жыў не ў роднай маці, а ў дальняй радні, якой трэцяе лета запар пасвіў жывёлу за сякі-такі харч і прытулак пад дахам.

Пастушок між тым азірнуў з дарогі свой невялічкі статак, ляснуў у паветры пугай і, падышоўшы бліжэй, моўчкі сеў на ўскрайку дарогі. Яго парэпаныя, абсаджаныя болькамі ногі ледзьве не да калень вылезлі з палапленых портак, рукі ён зябка сашчапіў на грудзях і аблёгся грудзьмі на калені.

— Ы-ы, а-а! — сіліўся ён нешта сказаць. — А-э-э!

Хто ведае, што з'явілася ў гэтай яго нячэсанай галаве пад картовай, са зламаным казырком кепкай ці ў яго наіўна расшыраных светлых вачах — якія там мроіліся думкі-намеры? Сцепаніда яму часам падкідвала на якую гадзіну-другую Бабоўку, калі здаралася такая патрэба. Яначка быў рупны і заўжды безадмоўны хлопец, і яна, вяртаючыся да каровы, кожнага разу старалася прыхапіць яму які-небудзь гасцінец — аладку, скварку, жменю гароху ці хоць спялейшы яблык з сука.

— Сцюдзёна, Яначка? Што ж ты якую надзёўку не апрануў? — сказала яна, пазіраючы на яго ўгору.

— А-а, э-э! — нешта памкнуўся ён вымавіць і махнуў рукой.

— Такі вецер, прадзьме — і захварэеш, — паляпала яна сябе па грудзях. — Ідзі апранашку якую вазьмі.

Янка нібы зразумеў штось і ўскочыў з дарогі, клопатна азірнуўся на свой недалёкі статак з чатырох кароў.

— А-а-а! У-э-э-а!

— Ідзі, ідзі! — сказала яна. — Я пагляджу. Я пагляджу! — і паказала на ягоных кароў і сваю Бабоўку.

Дзіва, але ён зразумеў — лёгка, нібы пачуў. Збегшы з дарогі, завярнуў першую чорную карову і бегма прыпусціў гасцінцам да сасоннічку, ля якога была паваротка на Выселкі. Сабачка спярша борздзенька скіраваў за падлеткам, але, нібы зразумеў свой абавязак, вярнуўся і сеў на ўзбочыне, непадалёк ад Сцепаніды.

— Рудзька, сюды! — паклікала яна, ды Рудзька толькі стрыгнуў вушамі — ён ужо дбайна азіраў статак, які памалу варушыўся ў канаве і на адхоне. Гэта быў хітраваты псяюга, не глядзі, што малы, а калі не бачыць у руках кавалка, дык дарма да чалавека не пойдзе.

Янкавы каровы жвава тупалі па той бок гасцінца, і, каб не размінуцца з імі, яна таксама павярнула Бабоўку, узышла на гасцінец і памалу пайшла наперадзе. Нагам тут, на дробнай сухаватай траўцы, было зручней, не калола дуддзё, але вецер дзьмуў апантана, і яна хутка спынілася, адвярнуўшыся ад яго. У небе плыло-неслася рванае ашмоцце хмар, невядома, у якім месцы там хавалася сонца і ці хутка меўся настаць вечар. Але яна адчувала, што ўжо даўно павярнула з паўдня, праз якую гадзіну-другую абшар пацямнее, пачне змяркацца. Некалі ў дзённай гарачцы яна любіла і чакала той час, калі з палявой пільніцы можна вярнуцца на свой падворак, у хату, дзе клопату таксама не меней, але збіралася сям'я, і звыклыя хатнія турботы былі ў асалоду асабліва пасля дзённай гарачыні ці непагадзі, аднастайнай палявой работы. Цяпер жа ёй было ўсё роўна, не вабілі і вечаровыя клопаты ў хляве ці ля печы, сям'і, лічы, не было, заставаўся толькі Пятрок; адзін за адным адышлі на той свет старыя, трохі падросшы, адляцелі дзеці, неўпрыкмет мінулася ўсё добрае і благое, што з імі звязана. А двум старым ці шмат чаго трэба? Нечага перакусіць ды набок, укрыўшыся якім кажушком, — не хацелася і паліць на ноч грубку, добра было і так. Праўда, была жывёла: карова,

дзесятак курыц і парсючок у хляўку, іх трэба было пакарміць і дагледзець. У тым амаль што і ўвесь яе хатні клопат.

Рыжая маладая кароўка з Янкавага статка, не дужа пільнуючыся астатніх, поркалася сабе ззаду, усё болей адстаючы ад іншых, і Сцепаніда крыкнула на яе раз і другі. Але тая, мусіць, не прывыкла слухацца чужога голасу і не спяшалася даганяць статак. Тады Сцепаніда вярнулася па дарозе і, сышоўшы з насыпкі, падагнала карову. Калі ж зноў ускараскалася на гасцінец, убачыла, як на другім ягоным канцы ля хвойнічку нехта бяжыць, аж раздзімаецца на спіне кашуля. Трохі, аднак, угледзеўшыся, яна сцяміла, што гэта ж Янка. Але чаму ён вярнуўся, чаму не збегаў на Выселкі? Пад вецер праз слёзы з вачэй яна пільна паўзіралася ў яго, і нешта зашчымела ў яе нутры — нейкая трывога перадалася ёй ад таго апантанага бегу хлопца.

Усё ўзіраючыся, яна пайшла насустрач, ведаючы ўжо, што здарылася благое, ніяк толькі не цямячы — што? Пасля яна не раз успамінала гэта сваё прадчуванне і дзівілася, як яно правільна падказала ёй набліжэнне таго, што так знянацку перавярнула яе жыццё. Але цяпер было толькі прадчуванне, блізкае да страху, з якім яна дачакалася Янку. Той, аднак, не дабегшы да яе, кінуўся з насыпкі да пярэдняй каровы і, аперазаўшы яе пугай, стаў шалёна заварочваць назад увесь статак. Каровы спярша нехаця, а пасля адна за адной патрухалі абапал канавы назад да ўзлеску, а Янка нешта зычна і нема крычаў, матляў у паветры пугай і тыцкаў рукой назад; твар яго скрывіўся ад страху ці, можа, здзіўлення, і Сцепаніда, яшчэ нерашуча, таксама завярнула сваю Бабоўку. Мабыць, там, у сасонніку, была небяспека, ад якой трэба было ратавацца, — так зразумела яна Янкаў спалох і сама ўжо гатова была не на жарт спалохацца.

Праз нейкі час яны амаль што бягом загналі статак у зараснікі акрай балотца, трохі адагналі далей ад гасцінца, і яна падышла ў кустоўі да Янкі. Той зірнуў на яе новым, дагэтуль незнаёмым ёй позіркам і, гартанна гергечучы, нешта трывожліва спрабаваў растлумачыць, усё паказваючы рукой назад, туды, дзе застаўся гасцінец.

— Дык што там? Што? — дапытвалася Сцепаніда, бачачы на абсівераным хлапечым твары толькі спалох, які гарэў таксама ў яго шырока раскрытых вачах, разяўленым роце. Янка даў працы рукам, нешта ўсё торкаў у кустоўе, абводзіў

у паветры, такія круцялі вырабляў на пальцах, што, мусіць, зразумеў бы кожны. Яна ж, аднак, не разумела нічога.

«Божа мой, гэта ж трэба ўрадзіцца такім недалэгам!» — упершыню з прыкрасцю падумала яна і ўслухалася. Але ў зарасніку было ціха, толькі шархацеў голлем вецер ды нейкая карова, мусіць, залезшы ў куст, воддаль трашчала суччом. З дарогі ж не было чутно ніводнага гуку. І тады яна надумалася схадзіць, паглядзець самой.

— Ты папасі Бабоўку. Ну папасі карову. Я схаджу. Я скора.

Янка загергетаў нешта зноў, заматляў рукамі, ці не разумеючы, ці не згаджаючыся, але яна яшчэ ўслухалася ў цішыню лесу і нетаропка пайшла хмызняком да гасцінца.

На гасцінцы па-ранейшаму было пуста, і нічога не чуваць адтуль, ад сасоннічку, яна пастаяла, падумала і, не выходзячы на насыпку, хуценька патупала па-за канавай, дзе з гэтага боку была пакручастая, трохі ўтаптаная людскімі нагамі сцежка.

Яна так і не магла даўмецца, што здарылася наперадзе, хоць увесь час узіралася ў канец гасцінца і разы чатыры ажно спынялася, слухаючы і разважаючы: што б там магло быць? На Слабадскіх Выселках таксама ўсё было ціха, пуста шарэў бульбяны палетак на касагоры каля яе хутара, усё дзьмуў вецер, і разы два здалося — выблісне з-за хмар сонца, ды так і не выбліснула. Так яна амаль што дайшла да сасонніку, шчыльны гушчар якога заўзята зелянеў абапал гасцінца, і да яе насцярожанага слыху ветрам данесла стук. Нешта там забівалі, ці што, — выразна ляскала па чымсь цвёрдым, аж аддавалася ў паветры, і ўпершыню яе пранізала здагадка: мост! Так, гэта было за недалёкай павароткай гасцінца, што знікаў у хвойным лапіку, менавіта там нешта адбывалася.

Сцепаніда запаволіла хаду, гатовая спыніцца, але не спынілася — хуценька дайшла да сасонніку і, каб не ісці па дарозе, звярнула ў ягоны гушчар. Тут было рукой падаць да хутара, і тут яна ведала ўсе пянькі, сцежкі, вытаптаныя Бабоўчынымі ды і яе нагамі. Яна амаль подбегам, дзе прама, а дзе ўгінаючыся ад голля, адолела невялічкі хвойны пагорак на ўзлеску, асцярожна ступаючы, зірнула на шырокую разлогу поплава з нябачнай адсюль крывулінай рэчкі. Сапраўды, ад моста ўжо чутны стаў гоман, спазнела гупнула ад скінутага на зямлю бервяна, яна адхінула ад твару калючую галіну і ўбачыла тое, што на момант прымусіла замерці сэрца.

Ля моста ўнізе, ля самай вады і на разбуранай колішнім выбухам насыпцы, завіхаўся дзесятак людзей, згружалі бярвенне з падвод, што тоўпіліся па той бок на дарозе, а на самым абрыве ля разварочаных паляў і бэлек стаяла некалькі мужчын у незнаёмай вайсковай форме са зброяй. Адзін з іх у шызай казыркастай шапцы нешта паказваў ад сябе ў бакі то левай, то правай рукой і тлумачыў, іншыя заклапочана азіралі рэшткі разбуранага моста, і яна раптоўна з нечаканым страхам уцяміла: то ж немцы!

2

«Што будзе? Чаго чакаць ад немцаў? Дзе нашы, і калі настане канец гэтай калатнечы?» — паныла думаў Пятрок.

Балючых гэтых пытанняў было шмат, і, не знайшоўшы адказу на іх, нельга было вызначыць для сябе, як жыць далей, на што спадзявацца, чым жыць сёння. Але, мабыць, марна было ламаць галаву і думаць, мабыць, нічога не ўдумаеш, і трэба прымаць тое, што нарыхтаваў табе лёс.

Але ўсё роўна думалася, бо клопат гэты ржавым цвіком тырчэў у галаве ўжо колькі часу, ці не з пачатку вайны, і адчапіцца ад яго не было магчымасці.

Між тым не сказаць, каб на хутары стала так ужо кепска, каб нават што-небудзь асабліва змянілася пад новай, нямецкай, уладай, усё быццам заставалася, як і раней: заўсёдным чынам рупіў звыклы восеньскі клопат пра хлеб, была кароўка, гадаваўся ў хляўку падсвінак, на падворку сноўдалі куры. Быў сякі-такі харч: капуста і бульбачка ў гародзе, у пуньцы пры сцяне ляжала са тры капы жыта — пад восень нажалі на пакінутым калгасным полі. На стале быў хлеб, і нават лепшы, чым калі дагэтуль, а бульбы можна б і яшчэ падкапаць — вунь яна на Галгофе, калгасная, цяпер нічыя. Высялкоўскія бабы паціху капалі сабе, каторыя спрытныя, не чакаючы якога дазволу, самі сабе ў прыклад. Яму б таксама не шкодзіла прыцягнуць мяшэчак ды засыпаць у капец на гародзе, які ён ніяк не мог акапаць за тыдзень. Сцепаніда наказвала сёння скончыць, прывядзе карову — зноў будзе сварка. Але ні да якой работы ў яго не ляжала душа, галава была занята зусім іншым клопатам, Пятрок нудзіўся, бясконца дыміў самасейкай і то сядзеў на ўслончыку пры парозе ў сенцах, то няўцямна сноўдаў, як хворы, ля хаты.

Увага яго, аднак, ні на чым не спынялася, усё навакол было звыклае і даўно знаёмае. Ды і дзіва што: тут ім пражыта дваццаць гадоў жыцця — нялёгкага, у працы, нястачы і клопатах, але іншага, мабыць, не будзе, ды і гэта ўжо ідзе на закат, у старасць. Можа б, як і дабыў свой век не ўсытасці, дык хоць у спакоі, каб не гэта вайна.

Апошнім часам пасля дажджоў узялася ў рост мурава ля плота, і Пятрок, тупаючы па ёй, усё спыняўся і азіраў падворак. Шмат год ён тут быў гаспадар, а цяпер глядзеў на ўсё быццам чужымі вачыма, быццам ён куды ад'язджаў, развітваўся, і яму было шкада ўсяго. Хата не сказаць каб новая, але дзерава папалася некалі добрае, смаляная хвоя, бярвенне на сценах трохі патрэскалася, але нічога. Хата яшчэ пастаіць. Страху ў вільчыку трэба б як-небудзь залапіць, ля коміна ад самай вясны цячэ, калі дождж, таксама як і ў істопцы, што цераз сенцы, пад адным з хатай дахам. У істопцы дык ліе добра ў дождж, на глiністым доле тады збіраецца лужына, і Сцепаніда лаецца: не дабярэшся за лета атуліць дзірку. Але во не дабярэшся, то тое, то гэта, а галоўнае — няма жаднай ахвоты цягнуць свае косці на страху па драбіне, усё думаецца: перастане дождж — высахне. А то патрывожыш гнілую салому — пачне ліць болей, чаго хацець ад тае будыніны, якой ці не сто, можа, гадоў — ставілі, глядзі, яшчэ ці не за паншчынай. А істопку, можа, і яшчэ раней. Страха на ёй, колькі памятаў Пятрок, зелянела пад цэлаю шапкай моху, у маленькім, на адну шыбку, акенцы бліскала таксама зеленаватае ад старасці шкельца. Зрэшты, шкельца куды маладзейшае за істопку, якую некалі палілі па-чорнаму, у акенца ішоў дым; у цёмным куце яшчэ і цяпер смярдзіць застарэлым гарам чорная печ-каменка.

Самая, можа, спраўная тут будыніна — новая пунька пры хляве. Праўда, з выгляду не дужа самавітая, сяк-так складзеная з тонкага яловага вярталля, у сценах спрэс шчыліны, але для пуні гэта не хіба: вецер прадзімае, а дождж не мочыць. Ладзілі яе некалі з Федзькам, думалася: калі не самому, дык, можа, спатрэбіцца сыну. Адслужыць у войску, ажэніцца, будзе ў Яхімоўшчыне. Усё ж сядзіба не самая кепская і ў здатным месцы — наводдаль ад вёскі і непадалёк ад мястэчка — жыць можна. Ды дзе цяпер Федзька?.. А ў пуньцы жытнія снапкі сохнуць на ветры, чакаюць свае пары. Часам ён зніме зверху два-тры сушэйшыя ды абтрасе ў сенцах на коўдры. Змалоўшы

на жорнах, Сцепаніда спячэ пару боханаў хлеба — ці многа на дваіх старых трэба?

Пятрок азірнуў па-над плотам восеньскі шэры абшар з бульбай да самага лесу, падышоў да калодзежа. Унізе ў чорным прадонні зруба блішчэла пляма вады — цяпер яе набіралася шмат, не тое што ўлетку. Вада ў калодзежы была смачная, заўжды сцюдзёная і чысцюткая, як сляза. Гэткай вады не было тут нідзе, нават у Выселках, дзе мелася аж восем калодзежаў. Некалі, казаў пан Адольф, тут бруяла крынічка, можа, таму і асталявалася тут сядзіба Яхімоўскіх, на пагорку пры рове. Хто б ні напіўся з калодзежа, заўсёды хваліў ваду. Гадоў восем назад замест старасвецкага асвера Пятрок прыладзіў да зруба калаўрот з ланцугом, зрабіў дашак, каб не лілося ў дождж. Яшчэ трэба б зрабіць накрыўку, каб не сыпалася што з падворка. Але ён думаў: і так будзе добра. Што там насыплецца? Хіба ветрам занясе часам ліповага лісту, якім па восені засыпала дарогу, бульбянішча ды і ўвесь падворак. Ліпы дужа разрасліся абапал варот на прыволлі, няма рады, і ўлетку атуляюць ценем ледзь не палавіну гарода. Сцепаніда ўсё каркае: абсячы, але ў яго на тое не паднялася рука — як сячы такое хараство прыроды? Не ён іх саджаў, саджалі людзі, ліпы раслі тут пры ўсім ягоным жыцці — ці гожа гэта скараняць людское? Хай растуць.

Ён пастаяў ля калодзежа, зірнуў на гасцінец за нівай, дзе нядаўна яшчэ відаць была Сцепаніда з каровай, але цяпер Сцепаніды не было відно. Мусіць, пагнала ў параснікі. Час яшчэ быў не позні, да вечара гадзіны дзве папасе, а як прыгоніць карову, тады ён, хоча ці не, змушаны будзе ўзяцца за працу. Тады ўжо прыйдзецца цягаць ваду, мыць парсюку бульбу, таўчы крупы. Тады ўжо не пабудзеш сам-насам з думкамі ў цішы — Сцепаніда не дасць пагультаіцца.

Пятрок зладзіў з рудога кавалка газеціны вялікаватую самакрутку, старанна завязаў скураны капшук са скуранымі ж завязкамі-жыламі; прыкурыць, аднак, трэба было ісці ў хату, шукаць вугалёк у прысаку. Недзе было трохі запалак, але Сцепаніда іх прыхавала, ашчаджаючы на які выпадак. Ведама, цяпер дзе возьмеш запалкі? У мястэчку ўвесь гандаль скруціўся, дзве лаўкі ўлетку яшчэ расхапалі людзі, як ашалелі тады, і, пакуль нямецкая ўлада чухалася, нічога не засталося ні ў сельпо, ні ў сельмагу. Ён таксама хадзіў разы два (Сцепаніда пагнала), ды не дужа нажыўся — з перакуленай

жалезнай бочкі за крамай нацадзіў суляю смярдзючай газы з гушчай іржы на сподзе. Невялікі для гаспадаркі набытак, але прыйдзе восень, зіма — спатрэбіцца. Хужы вось — няма солі, а без яе шмат не з'ясі. Але ці толькі солі няма?

Можа, самае горшае — няма каня.

Толькі Пятрок павярнуўся, каб адысціся ад калодзежа, як згледзеў за плотам карову — Бабоўка шастала наўпрост па бульбоўніку да варот чамусьці ад лесу, а не як заўсёды — дарогай, і за ёй у расхрыстанай ватоўцы подбегам шыбавала Сцепаніда. Хустка яе збілася набок, на лбе тырчэла сіваватая пасма валасоў. Пятрок з маўклівым пытаннем уставіўся на жонку — было яшчэ рана, Бабоўку яшчэ трэба было папасвіць да вечара. Але, мабыць, штось здарылася, і ён падышоў да варотаў і выцяг папярэчыну, каб упусціць карову.

— Пятрок, немцы...

— Га?

— Кажу, немцы! Там, на гасцінцы. Мост ладзяць.

— Мост?

Гэта была навіна, Пятрок такой не чакаў. Можа, толькі цяпер ён зразумеў, як добра было тут без моста і якая пагроза насоўвалася на хутар разам з гэтым мостам.

— Тады дрэнь справа.

— Куды як дрэнь. Наехала немцаў, нашы местачкоўцы з падводамі, возяць бярвенне. Нешта трэба рабіць! А то прыедуць, абрабуюць. Як жыць тады?

— Але ж. Толькі што рабіць? — збянтэжана стаяў Пятрок.

— Пахаваць хоць дабро. Кароўку ў лес калі прывязаць. А свінчо?..

Свінчо, іх парсючка, вядома, не прывяжаш да хвоі, парсючка трэба карміць. Ды і куры. Невялікі набытак, ведама, з тых курэй, але без іх гаспадарка — не гаспадарка. Што было рабіць, куды дзяваць усё гэта?

— Найперш за парсючка баюся, — зморана сказала Сцепаніда, папраўляючы хустку. — Забяруць. Такі парсючок ладны. Ешчы.

— Да сала яны ласыя. Матка — шпэк! Матка — яйка! — успомніў колішніх немцаў Пятрок.

— Я так думаю: трэба схаваць. Ты ідзі сюды! — пацягнула яна яго ў глыб падворка.

Яны абышлі істопку, мінулі дрывотню са старой сукаватай калодай, пералезлі цераз жэрдку ў гародчык. Тут за падвя-

лым дзядоўнікам і зараснікамі крапівы пад нізка навіслай страхой істопкі мясцілася несамавітая будка-бакоўка. Здаўна яна пуставала без жаднай патрэбы, і ў яе сцягвалі рознае гаспадарчае ламачча, выкінуць якое было шкада, а ў хаце яно замінала. Сюды рэдка калі заглядвалі, хіба па яйкі — пры дзвярах у саломе часам нesліся куры, і цяпер тут ляжалі два жоўтыя нясвежыя поклады.

— Во, калі яго сюды? — казала Сцепаніда, шырэй расчыняючы нізкія дзверцы. — Ён жа ціхі, можа, не знойдуць.

Знойдуць ці не — хто ведае, але Пятрок за доўгае жыццё разам прывык слухаць жонку, яна была не самая дурная баба, а галоўнае, заўсёды ведала, чаго хацела. І хоць клопат пра тое свінчо цяпер быў не самы найбольшы ў Петрака, ён рупна ўзяўся ладзіць таму новы схоў. Найперш павыцягваў з бакоўкі цесна набітае туды ламачча: нейкія палкі, скарэлае ад мешанкі, абгрызенае свіннямі карыта, паламанае кола і даўнюю, можа, дзедаўскую яшчэ, саху з ушчэнт паржавелымі лемяхамі. Папоркаўшыся паўгадзіны, скрынкай і палкамі неяк адгарадзіў невялічкі закутак, прынёс з пунькі саломы, не раўняючы яе, каб не дужа было відаць, напіхаў у адгародку. Сцепаніда тым часам ціхенька вывела з хляўка ладнага іх парсючка, пачэсваючы яго за вушамі.

— Дзюдзя, дзюдзя, во сюды... Цяпер сюды. Во добра, дзюдзя...

«Як малога», — падумаў Пятрок, прапускаючы ў дзверцы парсючка, які, ціха парохкваючы, старанна абнюхаў парожак, салому і паслухмяна ўладкаваўся ў сваім катушку, канешне, і не падазраючы пра небяспеку, якая над ім навісла. Сапраўды, гэта было рахманае свінчо, вельмі не хацелася б страціць такога. «Можа, яшчэ як і ацалее, калі будзе мець свой хоць невялікі свінячы розум», — падумаў Пятрок.

— Ну во! — спаканней сказала Сцепаніда. — Усё ж не навідавоку. Няхай ляжыць.

Яны выйшлі на падворак, дзе з трывожным чаканнем у сумных вачах стаяла Бабоўка і ля яе ног хадзілі дзве рабыя курыцы.

— А як жа курэй? — сказаў Пятрок.

Курэй таксама трэба было кудысьці прыбраць далей з воч, але дзе схаваеш дурную курыцу? Ціха яна не ўмее, а знёсшы яечка — радасна закудахча і тым загубіць сябе. Але

што куры, куды болей шкада кароўку, як бы на яе першую не абрынулася бяда з-за моста.

— Можа, у Бяростаўку адвесці? Да Манькі. Усё ж там далей ад мястэчка, — няпэўна прапанаваў Пятрок. Але Сцепаніда адразу ж не пагадзілася:

— Ну не. Бабоўку я на чужыя рукі не аддам.

— А як жа тады?

— У Баранні Лог. На вяроўку ці спутаць. Хай ходзіць.

— А ноччу?

— А ноччу, можа, не будуць. Яны ж удзень болей.

Слабая гэта была надзея на ноч, але інакш, відаць, не зрабіць, і Пятрок пакорліва змоўчаў.

Восеньскі дзень блізіўся неўпрыкмет да свайго скону, патроху змяркалася, але яшчэ было відно. Устрывожаная Сцепаніда ўсё не спяшалася даіць Бабоўку, якая пастаяла, уздыхнула і, не дачакаўшыся гаспадыні, пачала паскубваць пад плотам — даядаць не даедзенае ў полі. Пятрок раз за разам засцярожліва пазіраў на дарожку за варотамі і на гасцінец, думаў: ці не пакажуцца немцы? І ўсё слухаў, стараючыся ў вечаровай цішы злавіць чужы падазроны гук, каб учуць небяспеку. Але, як і заўжды, на дарожцы і на гасцінцы было зусім пуста, вакол у пахмурнай восеньскай прасторы запаноўвала вечаровая ціш. Толькі вецер нястомна церабіў парудзелую лістоту ліп, церушыў ёю на дол, у гарод за парканам, усыпаў дарожку, траву-мураву на падворку. Пятрок выцяг вядзерца вады з калодзежа і паставіў перад Бабоўкай. Але тая памакнула пысу і не піла, нешта ўсё пазірала цераз плот у поле — нібы чакала чагосьці. Трэба было заганяць яе ў хлеў, ды ў хаце бавілася Сцепаніда, і Пятрок пагукаў яе:

— Чуеш? Даіць трэба.

Нешта разам перайначвалася ў Яхімоўшчыне, дзе яшчэ не было выпадку, каб гаспадыня спазнілася падаіць карову. Але цяпер перайначвалася ў цэлым свеце, што было дзівіцца, калі і на іхнім хутары нешта стане не так, па-філасофску заспакоіў сябе Пятрок. Не дачакаўшыся жончынага голасу, ён ступіў на пляскаты, стаптаны камень каля парога і зазірнуў у сенцы. Сцепаніда стаяла, нагнуўшыся над сінім куфрам, нешта поркалася там, кінула на хлебную дзяжу нейкія транты, сваю чорную святочную хустку з чырвонымі кветкамі. Пятрок падзівіўся:

— Шукаеш чаго?

— А тут гэта... Феньчына было, каб прыхаваць куды далей.

— Што Феньчына? Сукенкі? Не выдумляй ты! Каму яны трэба?

— Каму? Немцам, — агрызнулася жонка, усё поркаючыся ў куфры. — А гэта во? Глядзі. Што рабіць з ёй?

Яна раскруціла перад ім папяровую трубачку, зірнуўшы ў якую, ён адразу пазнаў колішні Сцепанідзін гонар — грамату за поспехі ў апрацоўцы лёну. Уверсе там быў намалёваны прыгожы герб Беларусі, а ўнізе значыўся размашысты подпіс старшыні ЦВК Чарвякова. Грамата некалі вісела ў прасценку між вокнаў, пасля яе знялі, хацелі спаліць, ды Сцепаніда не дала — прыбрала ў куфар.

— Ты гэта — у печ! — устрывожыўся Пятрок. — Гэта не забаўка.

— А, хай ляжыць. Не за крадзенае ж.

Сцепаніда зноў скруціла грамату ў трубачку і захутала ў нейкую адзежыну. З іншага адабрала ў куфры што лепшае, найбольш Феньчына, і завязала вялікім клумкам у хустку.

— Трэба схаваць дзе. Можа, у капец да бульбы?

— Ну што ты! Пагніе. Ды і лішне гэта. Немцы, яны болей да ежы ласыя. Да трантаў не. Я знаю.

— Многа ты знаеш! — усумнілася Сцепаніда. — Каб з тваім знаннем голымі не застацца.

— Нічога, як-небудзь, — сказаў Пятрок. — Мы перад імі невінаватыя. А калі з імі па-добраму, дык, можа, і яны... Не з’ядуць, можа...

Ён казаў так, падбадзёрваючы сябе і супакойваючы жонку, хоць сам не менш за яе сумняваўся: а ці так гэта? Ведаў і адчуваў толькі тое, што трэба неяк пераседзець ліхую часіну, а там, можа, што зменіцца. Не век жа быць гэтай вайне. Каб засцерагчыся ад бяды, трэба паводзіць сябе як мага абачлівей і цішэй. Гэта як з куслівым сабакам: барані Божа яго зачапіць, трэба прайсці міма, быццам яго і не бачыш, але і не паказаць страху — рабіць выгляд, што ён цябе не датычыць. Так і з фашыстамі. Няўжо, калі ён іх не зачэпіць, яны без жаднай прычыны будуць да яго прыдзірацца? Што ён, нейкі начальнік ці парцейны, ці хоць бы яўрэй з мястэчка? Слава Богу, тутэйшы, беларус і хрышчоны ў хрысціянскую веру, селянін, калгаснік — такі самы, як і ўсе навакол. А што сын у Чырвонай Арміі, ды ці ж гэта па сваёй ахвоце? То ж служба. Так было пры цары, а можа, і раней. Служылі многія з вёскі,

праўда, яму не прыйшлося — падвяло здароўе. Усё ягонае жыццё прамінула тут, на вачах у людзей.

3

Як-колечы ўладкаваўшы скаціну, яны пасёрбалі ўпрыцемку астылага зранку крупніку і паклаліся спаць, ён — за посцілкай на ложку, а яна — на палку ў запечку. Пакуль скрозь было глуха і ціха, і гэтая ціша разам са звычайнасцю вечаровага клопату трохі суняла трывогу, змякчыла яе ў душах. Пятрок ціхенька прабубніў «отчанаш», чаго ён даўно ўжо не рабіў у гэту восень, з уздыхам перахрысціўся і пачаў ужо думаць, што, можа, як і абыдзецца. Прыехалі і паедуць, што ім тут доўга рабіць, на гэтым гасцінцы? Можа, яны на тое і ладзяць мост, каб кудысьці праехаць — навошта ім нейкі хутар наводдалек ад дарогі? Фронт адкаціўся чорт ведае куды, хадзілі чуткі, немцы ўзялі Маскву, але не падобна было, каб на тым вайна скончылася — вайна недзе доўжыцца, страшная гэта вайна. Можа, у Сібіры ўжо? А можа, брахня гэта ўсё пра Маскву — можа. Маскву ім не ўзяць. Мала што зайшлі далёка, але ж і Напалеон далёка зайшоў, ды падавіўся. Не так проста праглынуць гэты кусманец нават і з такой зяпай, як у гэтага Гітлера. Нябось таксама падавіцца.

Пятрок павярнуўся і так і гэтак пад кажушком на ўлежаным сваім сенніку, чуў, што Сцепаніда таксама варочаецца пры печы, і ён ціха азваўся:

— Баба, не спіш?

— Сплю. Чаго ж не, — неахвотна адазвалася Сцепаніда і змоўкла.

— А я так думаю, можа, дармо баімося? Нашто мы ім? Прыехалі і паедуць.

— Каб жа так! Каб жа паехалі! А то вунь з мястэчка не вылязаюць. Настаўнік гэты ды Падабед з сельпо дагэтуль на вяроўках гойдаюцца.

— Ай, не кажы нанач такое. Не дай Бог! — адмахнуўся Пятрок, пашкадаваўшы, што пачаў гэту гаворку.

Болей яны не гаварылі, і спакваля Петрака змарыў сон — неглыбокі трывожны сон, які не даваў спачыну. Яму доўга сніліся нейкія чэрві — цэлы клуб дробных, як на мясе, чарвей, якія варушыліся, кішэлі, абкручваліся адзін ля аднаго, паўзлі па яго нагах. Петраку стала дужа брыдка ад іх, чагось

боязна, трывожна, і ён прачнуўся. Адразу ўцяміў, што было яшчэ рана, певень у хляўку яшчэ не пяяў, у цемрадзі хаты за посцілкай гучна і звыкла цікаў гадзіннік, але не хацелася ўставаць, глядзець час, і Пятрок доўга ляжаў нерухома, спрабуючы заснуць ці дачакацца світанку. Ён думаў усё пра тое ж: як жыць на свеце, у якім гэтак раптоўна і дарэшты рухнулі спрадвечныя апоры, на што было абаперціся, каб затрымацца ў жыцці? Думаў пра сына Федзьку, якога, мабыць, няма ўжо жывога — такая вайна і столькі пагінула войска! Ды і пра Феню таксама. З вясны ад дзеўкі не было ніякае весткі, як паехала ў Мінск, дык і знікла зусім. Можа, уцякла за фронт і цяпер дзе-небудзь на ўсходзе, усё ж вучылася на доктаршу, і такія там трэба. Гэта было б найлепш, абы не папала ў лапы да немцаў. А калі не засцераглася ад іх у Мінску ці дзе па дарозе дамоў?.. Страшна было і падумаць аб тым, што магло спасцігнуць дзяўчыну.

Пад ранак ён усё ж задрамаў ненадоўга і прачнуўся, пачуўшы тупат Сцепаніды па хаце. Бралася на зачын дня, шарэлі запатнелыя вокны. Сцепаніда, апранутая ў ватоўку, адхінула занавеску ля ложка.

— Ты ж капец хоць скончы. А то без бульбы застанемся. І парсючка накармі! Ну, я пагнала...

Яна выйшла на двор, і неўзабаве пачулася шамаценне травы ля істопкі, пасля важкі тупат каровіных капытоў на падворку. Відаць, пагнала Бабоўку пад лес, у Баранні Лог, ведама, там далей ад гасцінца, спакайней.

Пятрок пачаў неахвотна ўставаць, звесіў з ложка босыя ногі, пасядзеў так, думаючы, закурыць цяпер ці спярша надзець порткі — курыць дужа карцела з начы. У хаце было, аднак, свежавата, Сцепаніда сёння не паліла ў печы — спяшалася чым раней вывесці на пашу Бабоўку, цяпер яму да палудня гаспадарыць у адзіноце. У адзіноце, аднак, было і не блага, можна было не спяшацца — распачаты ў канцы гарода капец бульбы, мабыць, пачакае, надвор'е стаяла цёплае, воглае — не падобна, каб раптам павярнула на прымаразкі. Нацягнуўшы нагавіцы, Пятрок сунуў ногі ў апоркі, накінуў кажушок на плечы і перш дастаў з-за коміна пару лістоў самасейкі — узяўся крышыць на ражку стала. Гэта была самая мілая яго работа — рыхтаваць табаку на дзень, вострым кончыкам нажа лёгка кроіў падсушаны зжоўклы ліст, прыемны пах

казытаў у носе, і Пятрок у прадчуванні курцоўскай асалоды з кароткаю жвавасцю зірнуў у акно.

Не, на паваротцы ад гасцінца было пуста, нікога не было відаць, а вось за вішаннікам, у баку па дарозе ад Выселак, штось варушылася, нехта ішоў. З нажом у руцэ Пятрок устаў з лаўкі, зазірнуў вышэй — праз запатнелае шкло сталі відаць дзве постаці, што хуткім крокам набліжаліся да хутарской павароткі.

Ён пастаяў, узіраючыся, і раптам пэўная здагадка выразна падказала яму, што гэта ж высялкоўскія паліцаі. Так, гэта былі Гуж з Каландзёнкам. У гэтай новай ролі ён бачыў іх першы раз, але ўжо чуў ад людзей, як яны сноўдалі па Выселках, у мястэчку, часам наведваліся ў суседнія хутары і вёскі — усталёўвалі новую ўладу. Цяпер яны ішлі сюды — мажны, крутаплечы Гуж і перахлябісты малады Каландзёнак — абодва з вінтоўкамі за плячыма, з белымі павязкамі на рукавах. Яны ўжо набліжаліся да павароткі, і ў Петрака затрымцела слабенькая надзея, што, можа, прамінуць Яхімоўшчыну, пойдуць далей па гасцінцы. Але, мусіць, не. Паліцаі абышлі лужыну на завароце і скіравалі на вузенькую, парослую дробнай травой дарожку да хутара.

Цяпер усё стала панятна, Пятрок борздзенька надзеў кажушок у рукавы, адчыніў дзверы ў сенцы. Пасля, не ведаючы, што рабіць, але прадчуваючы кепскае, старанна зачыніў іх за сабой і праз акно ля парога пачаў сачыць за прахожымі. Па меры таго, як яны набліжаліся, ён, аднак, спакайнеў. Ды і чаго ўвогуле было баяцца, ніякай віны за сабой ён не чуў, а Гуж дык нават быў яму нейкай раднёй па дзеду — калісь, яшчэ да калгасаў, на кірмашы ў мястэчку выпівалі ў кампаніі. Але ад пачатку калектывізацыі Пятрок з ім не бачыўся. І век бы яму з ім не бачыцца.

Паліцаі тым часам мінулі вароты, нетаропка падышлі да калодзежа; зыркія ўчэпістыя вочы Гужа на тоўстым ад'едзеным твары матлянуліся па падворку і спыніліся на дзвярах — мусіць, трэба было адзывацца. Ды надта ўжо не хацелася. Пятрок выйшаў у сенцы і няпэўна знерухомеў ля вёдзер з вадой на лаўцы. Толькі калі чужая рука забразгала знадворку клямкай, ён адчыніў дзверы.

— А-а, во дзе ён хаваецца, — напаўжартам прагудзеў Гуж і, угнуўшы галаву ў картузе, пераступіў парог. — А я гэта гляджу, няма ля будынкаў. Дзень добры!

— Дзень добры, — запалым голасам адказаў Пятрок. — Дык гэта... Чакаю.

— Каго чакаеш? Гасцей, ага? Ну, гэта добра, страчай во!

— Ага, заходзьце ж, — змушана падхапіўся Пятрок і шырэй расчыніў дзверы ў хату. Шорхаючы скураной падзёўкай, Гуж з вінтоўкаю ў руках ступіў у хату, за ім, тонка падпяразаны дзягай па чырвонаармейскім шынялі, сунуўся падгалы Каландзёнак. Пятрок прычыніў дзверы, трохі пасунуў ля стала ўслон. Але госці не селі. Каландзёнак адразу выцягся ля парога, нібы на варце, Гуж нетаропка пратупаў да стала і назад, зазірнуў па чарзе ў вокны.

— Як на курорце! — прагудзеў ён. — І лес блізка, і рака. І мястэчка пад бокам, ага?

— Блізка, ага, — пагадзіўся Пятрок, панура згадваючы пры сабе, які д'ябал іх прыгнаў сюды ў гэткае ранне. Што ім патрэбна? Другі раз сядаць ён не запрашаў, думаў, можа, што скажуць і пойдуць сабе далей.

Але, мусіць, ісці яны не збіраліся.

Гуж, паазіраўшы куткі і сцены з цвікамі, працяглым позіркам павёў па абразах у куце, нібы палічыў іх, расшпіліў на грудзях рудую скуранку.

— Цёпла, аднак, у цябе.

— Дык гэта... Не палілі сёння.

— Цёплая, значыць, хата. Гэта харашо. Трэба раздзецца, не вазражаеш?

— Дык калі ласка. Можна і зняць. Вы сюды павесьце, на гэты цвік.

Крэкчучы, Гуж сцягнуў з тугіх плеч цеснаватую, пэўна, чужую скуранку, павесіў на цвік каля яго скрыпкі, што вісела ля акна. Дзягай з вайсковаю спражкай пачаў падпяразваць сінюю мультановую світку.

— Усё іграеш? — кіўнуў ён на скрыпку.

— Дзе там. Не да музыкі, — сціпла адказаў Пятрок. Сапраўды, калі яму было іграць — у душы гучала зусім іншая музыка. Але ён не стаў многа тлумачыць, толькі падумаў са шкадаваннем, што скрыпку трэба было б прыбраць далей з воч.

— Помню, як вы калісь на вяселлі ў Выселках наярывалі. Ты на скрыпцы, а Ярмаш на бубне, здаецца. Музыкі!

— Калі тое было...

— Было! — сказаў Гуж і палез за стол. Караткаватую сваю вінтоўку паклаў побач на лаву. Каландзёнак, як стаяў у шынялі з вінтоўкаю ў руках, сеў на парозе.

— Ну, частуй, гаспадар! — сцюдзёным позіркам з-пад калючых броваў упёрся Гуж у Петрака. — Стаў паўлітра, а як жа?

— Гэ, каб было! — развёў рукамі Пятрок. — Закусіць можна, канешне, а гарэлкі няма, так што...

— Кепска, значыць, жывеш, Багацька. Пры Саветах не раскашаваў...

— Не раскашаваў, не...

— І пры германскай уладзе не хочаш. А мы не так. Мы вось тут... Нешта маем!

Ён выпрастаў на падлозе доўгую ў боце нагу і з кішэні чорных, з абвіслымі леямі галіфэ выцяг бутэльку.

— Во, чыстая маскоўская! — і, гучна прыстукнуўшы, з паказным гонарам паставіў яе пасярод стала.

Далей Петраку цягнуць не было як. Праклінаючы ў думках усё на свеце, ён схамянуўся, кінуўся ў пасуднік па хлеб, успомніў, што трэба ў хляўку пашукаць яек, мусіць жа, знесліся дзве ці тры курыцы, у істопцы было яшчэ трохі гуркоў у дзежцы. Ну і сала, вядома, у кубёлку. Ён замітусіўся, каб як найхутчэй сабраць на стол, быццам тады хутчэй бы аслабаніўся ад паліцаяў, паклаў на стол пачаты бохан хлеба, але не мог знайсці нож — толькі ж яго трымаў у руках, куды дзеўся?.. Гуж, пачакаўшы, выцяг з халявы свой шырокі, з загнутым канцом кінжал і адкроіў дзве скібы.

— А дзе ж твая... акцявістка? — нібы між іншым запытаў ён і навастрыўся слыхам. — Не ў калгасе ж шчыруе...

— Ды з каровай, знаеце...

— А, з каровай! Карову, значыць, маеш... А прыбядняешся...

— Ды я нічога... Як усе, знаеце...

— А хто бульбу выбіраць будзе?

— Якую бульбу?

— А калгасную! Савецкая ўлада ляснула, але ж калхозы ні-ні! Калхозы сахраняюцца — Гітлер загадаў. Так што бульбаўборка. Ну і бульбаздача, канешне. Як пры Саветах, ха-ха! — нядобра хіхікнуў паліцай.

Гэта Пятрок ужо чуў, хоць спярша не дужа і паверыў, што немцы пагодзяцца на калгасы. Думаў, можа, яшчэ будуць

караць калгаснікаў, а яны во што! Але дзеля бульбаздачы, напэўна. Так ім зручней.

— Я, ведаеце, адпрацаваў сваё. Хай маладзейшыя каторыя, — паспрабаваў слаба апраўдацца Пятрок. — Каторыя здаравейшыя.

— Хто гэта хворы? Ты? Ці, можа, баба твая? Пры Саветах дык вунь як шчыравала, пра хваробу не заікалася. Перадавая льнаводка, на сходах выступала.

— Ат, калі тое было! — ніякавата адвёў шматзначны папрок гаспадар і паставіў на стол шклянку. — Апошнім часам яго мала і сеялі, лёну таго.

— А было, як жа! Людзі запомнілі. А цяпер падупала!

Петраку трэба было ў істопку па сала і гуркі, але на парозе сядзеў Каландзёнак і з кіслым выразам белабрысага худога твару пазіраў убок. Гэты яўны падкоп паліцаяў пад яго Сцепаніду не спадабаўся Петраку, і ён падумаў: ці не дзеля гэтага яны сюды і прыпаўзлі?

— Дык сказалі, ну і выступала, куды ж дзенешся.

— Сказалі, кажаш? А калі цяпер нямецкая ўлада іншае скажа? Як тады вы?

— А мы што? — цепнуў плячыма Пятрок. — Як скажуць, так і будзем. Як усе, так і мы.

Гуж ямчэй уладкаваўся ў застоллі, зазірнуў у акно і шырокай рукой канавала згроб са стала бутэльку.

— Ну, а сала ў цябе няўжо вывелася?

— Зараз, зараз! — памкнуўся да дзвярэй Пятрок і наткнуўся на Каландзёнка ў парозе, які не адхінуўся нават.

— Прапусціць! — роўным голасам сказаў Гуж, і тады Каландзёнак пасунуўся на парозе.

Пятрок бразнуў дзвярыма, тыя не зачыніліся, каб было віднbackdrop, насцеж расчыніў дзверы ў істопку. У паўзмроку намацаў у кубёлку кавалак сала — ёлкі зжаўцелы кус яшчэ ад той восені. Ён ужо адчуваў, што гэта паліцэйская завітанка не так сабе, што тут ёсць пэўная мэта і што зараз нешта праясніцца. «Каб хоць Сцепаніда не сунулася сюды, адвёўшы карову, каб як даць ёй уведаць, што тут за госці», — ліхаманкава думаў ён, з паспешнай пакорай несучы пачастунак у хату.

— Во, гэта дзела! — задаволена сказаў Гуж. Ён ужо выпіў гарэлку, шклянка была пустая, азызлы твар яго трохі крывіўся, і ён адразу ўзяўся кроіць на лусты сала.

— Так, цяпер, значыць, твая чарга. Як жа, усё ж гаспадар! Гаспадароў немцы шануюць. Не тое што пры Саветах.

— Ды не... Я, знаеце, не вельмі...

— Гэта ты кінь! — перапыніў Гуж і, боўтнуўшы ў бутэльцы, наліў болей палавіны шклянкі. — Пі! За пабеду.

— Ну, хіба за пабеду, — паныла азваўся Пятрок, беручы шклянку.

— Твой жа сынок дзе? У Краснай Арміі бытта? Сталіна бароніць?

— Ну ў арміі. Салдат, так што...

— Так што за пабеду. Над бальшавікамі! — удакладніў Гуж.

Праклінаючы ў думках усё на свеце і найперш гэтага мардатага госця, Пятрок без асаблівай прыемнасці выцягнуў гарэлку са шклянкі.

— Во, дзела! — адобрыў паліцай. — Цяпер закусі.

Гуж паводзіў сябе за сталом так, нібы быў тут гаспадар, а Пятрок неяк проста і хутка ператварыўся з гаспадара ў госця ці нават прыслужніка, і толькі. Канешне, ён быў напалоханы гэтым раннім прыходам, прыгнечаны прыдзіркамі паліцая, баяўся, што будзе і горшае. Аднак, можа, і добра, што ён не адмовіўся, выпіў, гарэлка пакрысе прытупіла спалох, і збянтэжанасць яго патроху міналася. Ён ужо асвойваўся з роляй сабутэльніка, калі не гаспадара, бокам прысеў да стала і зжаваў скарынку. Гуж тым часам, нібы жорнамі, перамолваючы пашчэнкамі кус хлеба з салам, зноў наліў шклянку.

— Добрае дзела можна і паўтарыць. Ага?

— Ну, канешне. Першая чарачка — як сінічка, другая — як жавароначка, — ахвотней падхапіў Пятрок. — Але ж гэта... А таварышу? — кіўнуў ён на Каландзёнка ў парог.

— Абыдзецца, — сказаў Гуж. — Ён няп’юшчы. Ты ж праўда няп’юшчы, Патап?

— Няп’юшчы, — тонка звягнуў Каландзёнак, і ўсе ўслухаліся. У двары пачуўся нейкі староннi рух, ля хляўка спалохана закудахтала курыца.

— Ану! — рашуча кіўнуў памагатаму Гуж, не ставячы, аднак, шклянку. Каландзёнак выскачыў у сенцы, але хутка вярнуўся.

— Баба прыйшла.

Петрака міжвольна перасмыкнула, зноў шыбануў непакой за жонку — навошта яна прыперлася? Ён хацеў як папярэдзіць яе, каб не заходзіла ў хату, але, мусіць, было ўжо позна.

— Я гэта... Бабе скажу, каб закускі якой, — паспрабаваў ён устаць з лаўкі. Але Гуж адразу прыпыніў гэту спробу.

— Сядзі! Сама дасць. А як жа? Убачыць, не сляпая. Госці ў хаце...

У сенцах штось бразнула, шырока тузануліся дзверы, і Сцепаніда на момант замерла на парозе, мусіць, нечакана згледзеўшы чужых у хаце.

— Захадзі, захадзі! — коўтаючы ежу ў роце, прагугнявіў Гуж. — Не сцясняйся, ха-ха! Мусіць жа, не сцясніцельная?

— Здраствуйце, — ціхавата павіталася Сцепаніда і пераступіла парог.

«Ну, зараз возьмуць!» — паныла падумаў Пятрок, скоса пазіраючы на Гужа. Але той, нібы безуважна да гаспадыні, адкроіў кус хлеба і пасунуў на край стала.

— З'еш, Патап.

Каландзёнак з нязрушнай панылацю на белабрысым твары ўзяў пачастунак і тупа зыркнуў на гаспадыню.

— П'яце, а там ужо немцы па мосце ходзяць, — сказала Сцепаніда, хіба для таго, каб парушыць напружаную ціш у хаце.

— Правільна, ходзяць, — пагадзіўся Гуж. — Яшчэ пару дзён — і будуць ездзіць. Германская дзелавітасць!

— А чаго ім тут ездзіць? Што ў іх, у Германіі, дарог не хапае? — сказала Сцепаніда. Гуж выпрабавальна паглядзеў на яе і, нібы вожык, пагрозліва чмыхнуў носам.

— Дужа разумная, гляджу. Ах, якая разумная! Не дарма — акцявістка! Не адраклася?

— Ад чаго мне адракацца? Я не зладзейка якая. Хай зладзеі ад свайго адракаюцца.

— Хто гэта — зладзеі? Ці не мы, можа? — унутрана настырчыўся Гуж.

— А ёсць такія. Сёння так, заўтра гэтак. «Ды маўчы ты, дурніца», — даводзіў у думках Пятрок. — Што ты заядаешся? Ці не бачыш, хто перад табой?»

Сцепаніда і яшчэ памкнулася нешта сказаць, але толькі матлянула злым позіркам на Гужа, такім самым на Петрака і Каландзёнка. Гуж адразу ж падлавіў гэты яе позірк і загудзеў злым басам:

— Вот швэндаешся па палёх, нямецкія часці разглядваеш. А ў хаце госці. Што гаспадыня далжна рабіць?

— Я карову выганяла. Вунь жа гаспадар вас частуе.

— Гаспадар? Што ён умее? Ён і курыцу не пашчупае, твой гаспадар. А гасцям трэба гарэлкі! Закусь харошая трэба!

— Што яшчэ?

— Закусь, кажу, харошая. Для прадстаўнікоў германскай улады!

— Даўно вы такія прадстаўнікі? — з унутранай нястрымнасцю ўспыхнула Сцепаніда, і Пятрок адчуў, што зараз здарыцца непапраўнае.

— Баба, маўчы! — крыкнуў ён. — Маўчы! Ладзь яешню! Чуеш прыказ мой? Яешню!

Гуж нядобра зарагатаў на ягоны выпад. Сцепаніда моўчкі павярнулася і выйшла за парог. Дзверы за ёй засталіся расчыненыя, і Каландзёнак зачыніў іх, стоячы ўсё там, ля парога.

— Во бачыў? — сур'ёзна зазначыў Гуж Петраку. — Знаеш, што немцы з такімі робяць?

— Ну чуў... Але гэта...

— Вешаюць! Вешаюць на тэлефонных слупах! — прыстукнуў ён цяжкім кулаком па стале. Пахаладнеўшы нутром, Пятрок глыбей уцягнуў галаву ў плечы, паліцай, мусіць, заўважыў гэта і задаволена адкінуўся да сцяны.

— Ды яна так, не са злосці, — паспрабаваў апраўдаць жонку Пятрок.

— Ад чаго ж тады? Скажаш, ад добрасці? Камуністка яна, — аб'явіў раптам Гуж.

— Ды не... Яна языком толькі.

— Во-во, языкатая, — нядобра пагадзіўся Гуж. — Не выдралі яшчэ. Дык выдзеруць. У немцаў гэта раз-два.

Пятрок не ведаў ужо, што сказаць, каб як бараніць жонку, якую вельмі хутка нават маглі загубіць гэтыя двое. Сама яна не паберажэцца — скарэй наадварот. Але Гуж нечакана абвясціў:

— Скажы мне дзякуй. Маёй дабраце. А то б даўно ўдаўцом стаў. Панятна?

— Дык то — дзякуй.

— Во-во!

Што ж, Пятрок зразумеў: на гэты раз быццам пранесла. Можа, не возьмуць. Пакуль што. Калі гэта дурніца зноў не налезе на іх паліцэйскі ражон.

— Але «дзякуем» не абыдзешся. Ці ты думаеш, я цябе буду пакрываць і яшчэ паўлітэркі насіць? Гэта ты мне насіць должан, — зноў узяўся за сваё Гуж.

— Дык я б з гатовай душой. Але...

— Гарэлкі няма? А ты дастань! Купі! Выменяй! Для радні не можаш пастарацца? Я ж табе не чужы?

— Не чужы, ага...

«Каб ты згарэў, аднак, сваячок гэты», — зацята думаў пры сабе Пятрок, адчуваючы, што новая паваротка ў гаворцы не лепшая за ранейшую. Дзе ён возьме яму гарэлкі? У лаўцы не купіш, у суседзяў не пазычыш. Некалі, праўда, спрабаваў гнаць самагон, але і начыння таго даўно ўжо няма. Зноў жа, як было пярэчыць гэтаму жываглоту — неяк трэба выкручвацца. Як толькі?

— Я да цябе яшчэ завітаю. Чуеш?

— Чую, анягож. Ды толькі...

Ён не знайшоў, як скончыць, калі ўвайшла Сцепаніда, прынесла гуркоў і капусты, моўчкі паставіла ўсё на стол.

— Мусіць, немцы слабавата кормяць? — з прыхаванай з'едлівасцю запытала яна. Гуж нядобра вырачыў вочы.

— А табе што? Ці вельмі не падабаюцца немцы?

— Як скуллё на задніцы!

— Сцепаніда!!! — ускочыў Пятрок. — Маўчы!

— А я і маўчу!

— Маўчы!!! Знаеш... Вот ён па-родственнаму! Па-добраму, а ты! Знаеш?..

— Ладна, — сказала яна да Петрака. — Ужо выпіў, дык і гатоў зад лізаць. Дужа ты, аднак, быстры...

Апошнія яе словы ўжо даляцелі з сенцаў, бразнулі дзверы, і Пятрок вінавата пракашляўся. Ён чакаў і баяўся, што цяпер скажа Гуж.

— Баба, вядома... Што зробіш?

— Што зробіш? — злосна падхапіў паліцай. — Пута вазьмі. Каторае тоўстае, новае, з кастрой! І путам! А то пяньковай пятлі дачакаецца. Папомніш мяне!

Пятрок панура маўчаў, седзячы пры стале. Кучку накрышанай табакі ссунуў на ражок стала і невідушча падмятаў даланёй табачныя крошкі, слухаючы, як пляцкае тоўстымі вуснамі Гуж — есць яго сала, грозіцца і павучае яго, як жыць з бабай. Удвая маладзейшы, а глядзі ты, які стаў разумны пры нямецкай уладзе!

— Прыязджаў важны чын, — ужо спакайней паведаміў Гуж. — Называецца па-нямецку зондарфюрар. Загадаў усё у полі ўбраць.

— Счытай, усё ўжо ўбралі, — уставіў Пятрок.

— Не ўсё. Тое, што ўбралі, нікуды не дзенецца. Пападзе ў нямецкі засек. Але бульба! Бульба засталася. Во і яе выкапаць. І здаць. Для германскай арміі. Паняў? Як пры Саветах.

«Чорта ты яе з поля возьмеш для германскай арміі, — падумаў Пятрок. — Няхай яна пагніе там!»

У бутэльцы яшчэ трохі заставалася, Гуж выліў рэшту ў шклянку і моўчкі перакуліў шклянку ў рот. КракTануў, выцер пяцярнёй тлустыя ад сала вусны.

— І яшчэ во што! Тут, мабыць, заходзяць розныя?.. З лесу каторыя. Бандзіты! — зноў уставіўся ён на Петрыка, якому стала не па сабе ад гэтага яго позірку. — Не было такога? Ладна, паверу. Але помні: калі хто — адразу ў паліцыю. У мястэчка ці ў Выселкі. Але каб зараз жа. Паняў? А то за ўкрывацельства, знаеш? У мястэчку быў?

— Быў, ну.

— Чытаў прыказ? Расстрэл і канфіскацыя імушчаства. Немцы, яны не чыкаюцца. Паняў?

Пятрок паныла ўздыхнуў — што ж зробіш? Кругом нявыкрутка. Кругом кара, расстрэл, канфіскацыя. Як тут жыць будзеш?

Гуж, не спяшаючыся, вылез з-за стала і, сытна ікаючы, нацягнуў на плечы рудую скуранку.

— Яешня адмяняецца! — з нечаканай добрасцю аб’явіў ён Петраку. — Другім разам. Можа, калі на днях. Так што рыхтуйся!

## 4

Пятрок сядзеў на ўслоне, паныла падпёршы галаву рукамі, і невідушча глядзеў на стол, дзе тоўстыя восеньскія мухі поўзалі па тлустай ад сала сталешні. Ён не прыбіраў посуд, не дакранаўся ні да агуркоў, ні да сала, Сцепаніда таксама не падыходзіла сюды — яна сварылася ад парога.

— Устроіў частаванне! Сала, гуркі! І яшчэ разяўляецца: яешню ім! Сам яек ім нанясеш? Ты хоць раз курэй пакарміў? Каб не я, што б ты зрабіў з гаспадаркаю? Нават каня не вярнуў, калі ўсе павярталі.

Конь, канешне, быў іхнім агульным болем, Пятрок перажываў не меней за жонку, але дзе ён мог яго ўзяць? Ці ён мала нахадзіўся ў Выселкі, напрасіўся ў дзеравенскіх, ды хто ўступіць? Кожнаму на гаспадарцы найперш трэба конь.

Затое ў мястэчку яму пашэнціла болей, і ён успомніў пра сваю галоўную па гэтым часе заслугу.

— А газы хто расстараўся? Не я хіба?

— Ах, газы! Смех адзін — газы! Вунь людзі мяшкамі соль нацягалі. Запалкамі запасліся. Цукрам нават. А то суляю газы прынёс — смех адзін...

— А што? Газа ўзімку — знаеш! Мала ў каго, а ў нас ёсць.

— Маўчы ты! Газы... І гэта, знайшоў сваяка! Сабутэльніка! Каб ён мой быў сваяк, я б яго памялом з дому. Прадажнік! А ён гарэлку з ім распівае, частуе яго. Вунь немцы прыйдуць, тады іх пачастуеш.

Дзверы ў сенцы былі расчынены, Сцепаніда сноўдала то да печы, то ў сенцы, у істопку, бразгала конаўкаю ў вядры, разводзіла пойла. Цяпер, калі яны засталіся адны, яна не стрымлівалася, выгаварвала ўсё, што намуляла за гэтыя тыдні і на яго, і на вайну, і на жыццё таксама. Пятрок болей маўчаў — што ён мог сказаць ёй, чым запярэчыць? Ён адчуваў яе праўду, але ж не хацеў пастпацца і сваёй, слабаватай, але таксама блізкаю яму праўдай, якая крыўдліва варушылася ў душы, не жадаючы каму-небудзь паддацца.

— Прыйдуць — пачастуеш. Куды дзенешся? — ціха зазначыў ён, думаючы, што жонка, можа, не ўчуе. Але яна ўчула, і гэта яе абурыла канчаткова.

— Ну гэта ты частуй! Я не буду. Я сыду з каровай у лес. Каб мае вочы не бачылі.

— Гэткай бяды! — сказаў ён, таксама ўжо злуючыся. — Ідзі! Абыдуся!

— Ага, абыдзешся! Думаеш, ты пап’еш тут? Падліжашся да іх? Ды яны тваё вып’юць і цябе ж мардаваць пачнуць.

Пятрок памкнуўся быў нешта сказаць, але толькі махнуў рукой: Сцепаніду не перапыніш. Хіба што ўцямяшыш бабе насуперак яе волі? Тое, што для цябе ясны дзень, ёй здаецца цёмнаю ноччу. Паспрабуй дакажы, што сёння ёй няблага пашэнціла, што Гуж адмякчэў пасля выпіўкі і не стаў дужа да іх прыдзірацца, што ён, можа, сапраўды пакрывае яе перад немцамі. Сам жа сказаў: радня. Таму не лішне з ім ладзіць, неяк паддобрыцца, можа, завесці дружбу. Канешне, ён п’яніца, нягоднік, нямецкі халуй, але ж ён — улада. Быццам яму, Петраку, вялікая радасць піць з ім гарэлку, прыслужваць ды яшчэ слухаць яго знявагі? Але, калі хочаш жыць, мусіш трываць не такое. З ваўкамі жыць — па-ваўчынаму і выць.

Праўда, тое разумнае меркаванне толькі блытана мроілася ў яго захмялелай галаве, servers услых жа ён стрымана, ціха агрызаўся на Сцепанідзіны наскокі, ведаў: пры злосці ёй лепш не пярэчыць, ягонага верху ўсё роўна не будзе.

Сцепаніда ж тым часам, здаецца, усё выгаварыла і неяк ураз пацішэла. Спярша яна аж спалохалася, як убачыла ў хаце чужых, але затым пакрысе асмялела, асабліва калі раззлавалася. А раззлавалася яна болей на Петрака за яго нахабны наскок на яе з крыкам, камандаю ды яшчэ перад гэтымі злыднямі. Хай бы крычаў-загадваў, калі яны засталіся ў хаце ўдваіх, дык цяпер ён маўчыць ці адно буркае штось для свайго апраўдання. А тады ў яго лаянцы яна ўчула паганы намер вылузнуцца перад гэтым Гужом, дагадзіць яму тым, што зняважыць яе. Але зняважыць сябе яна не дазваляла нікому, заўжды магла пастаяць за сябе. Высялкоўцы і дагэтуль памятаюць, як калісь на калгасным сходзе яна збэсціла перад прадстаўніком з раёна іхняга кладаўшчыка — злодзея і п’яніцу Салаўя, як таго пасля знялі з кладаўшчыка і нават хацелі судзіць. А калі яна была звеннявой па льну і Кандыбішын зяць даказаў, быццам яе бабы крадуць ноччу лён, яна дамаглася праверкі, нават вобыску ва ўсіх; колькі разоў іх перапынялі на сцежцы, правяралі ў баб за пазухамі, пад спадніцамі, але марна, і гэты паклёп з іх знялі.

Яна размашыста секла сечкай траву ў карытцы. У расчыненых дзвярах пры парозе было светлавата, сечка кідала ахрап’ем на ўтаптаны земляны дол, яе парэпаныя босыя ногі, і яна горка думала, што з Петраком у такі кляты час прападзеш напэўна. Галоўнае — у яго няма жаднай цвёрдасці, мужчынскай самавітасці, з кожным ён гатоў пагадзіцца, падтакнуць, хоць той брэша, не баючыся Бога. Быццам людская пакорнасць робіць іх дабрэйшымі. Хутчэй наадварот. Не дасі адразу адпор — неўзабаве ўзаб’юцца на карак і будуць ехаць, колькі каму захочацца. Яна змалку ведала гэтага высялкоўскага Гужа, які ў калектывізацыю некуды ўцёк ад раскулачвання, а цяпер во зноў паявіўся з вінтоўкаю ў руках, каб помсціць людзям за мінулае ды піць гарэлку. Але яна не забылася на сваю апошнюю з ім сустрэчу ў трыццатым годзе і век не даруе яе яму. Хай сабе ён і з вінтоўкай. Таксама як і таму Каландзёнку, якога гадамі ненавідзела вёска аж да самай вайны, калі ён пайшоў па першай мабілізацыі ў войска, ды во праз месяц вярнуўся, людзі казалі: немцы адпусцілі

з лагера. І ён прыбрыў у мястэчка, схуднелы, у вайсковых трантах, з вошамі за каршэнню. Дык во цяпер ад'ядаецца на паліцэйскіх харчах.

Яны абодва з вінтоўкамі, улада іх над людзьмі вялікая, яны ўсё могуць. Але яна іх не баялася, бо не паважала іх. Болей таго — яна іх ненавідзела. Зрэшты, ёй не было да іх справы, у тым жыцці, якое абрынулася на свет, яна адчувала перавагу сваёй спрадвеку ўстаноўленай праўды і, пакуль у яе было тое адчуванне, магла смела глядзець кожнаму ў вочы.

Па двары, пад плотам і па бурачніку ў гародзе непрыкаянна дыбалі яе цыбатыя маладыя курачкі, нешта дзяўблі там. Несліся пакуль што тры старыя курыцы, якіх пільнавалася Сцепаніда, — здаўна ад яек быў увесь яе грашовы набытак, якая капейчына, заўжды патрэбная ў гаспадарцы. Сабраўшы са тры дзесяткі, яна несла яйкі ў мястэчка, мяняла на што патрэбнае ці прадавала местачкоўцам за грошы. Без курэй было неяк. Трэба б сыпануць ім якога зерня, падумала Сцепаніда, але яна спяшалася ў поле, і на курэй у яе ўжо не хапала часу. Таропка вынесла паўвядра мешанкі парсючку, расчыніла нізкія дзверцы застаронка, і той, пачуўшы гаспадыню, жвава заварушыўся ў саломе. Яна апусціла мешанку ў куток, пастаяла хвіліну, з любасцю пазіраючы, як парсючок заўзята зацмокаў у вядзерцы — аж затрэсліся вушы. Неўзабаве ён ужо ўлез туды пярэднімі нагамі і абярнуў яго, Сцепаніда ж папраўляць вядзерца не стала — ведала: і так выесць усё дачыста.

Але трэба было бегчы ў поле — у Баранннім Лозе, прывязаная да алешыны, пасвілася Бабоўка, нягожа было надоўга пакідаць яе без нагляду. Перш чым пабегчы з дому, яна ўскочыла ў хату ўхапіць якую скарынку — пажаваць сабе ды і пачаставаць кароўку. Пятрок, унурыўшыся, па-ранейшаму прыгнечана сядзеў за сталом і не азірнуўся на жонку.

— Пакармі курэй! — спакайней сказала яна. Як заўжды, выгаварыўшы ўсе крыўды, яна паспакайнела, і цяпер ёй стала нават шкада гэтага недалэгу Петрака, які злаваў яе, часам смяшыў, рэдка чым радаваў. Увогуле ён быў неблагі, нязлы чалавек, толькі дужа няспрытны і мала ўдачлівы ў жыцці.

Яшчэ ён быў на дзесяць гадоў старэй за яе і не дужа здаровы. Але ягоная хвароба ішла ад залішняга курэння, яна гэта ведала і цвярдзіла яму пра тое ледзьве не кожнага дня. Ды марна.

Сцежкаю цераз гарод Сцепаніда пабегла па ўзроўку ў Баранні Лог, а Пятрок пасядзеў яшчэ, трудна ўздыхнуў і ўстаў з-за стала. Зранку перапала выпіць гарэлкі, але не давялося яшчэ закурыць, і цяпер, застаўшыся адзін у хаце, ён нетаропка скруціў ладную, з палец, цыгарку. Каб прыкурыць, старанна перагарнуў учарашняе вуголле ў печы, пакуль знайшоў вугалёк з іскрынкай, раздзьмуў яго і ўрэшце з доўгачаканай асалодай зацягнуўся дымам. Толькі і было тае радасці, што закурыць, іншага задавальнення ў жыцці, мусіць, не засталося. Добра, што вясной насеяў у гародзе табакі, мультанаўкі, не паспадзяваўся на куплёную, — дзе цяпер возьмеш яе? Табака ж была хоць, можа, і горшая, чым махорка, але і не благая. Пятрок прывык да яе — лепшай яму і не хацелася.

Ён чуўся яшчэ п’янаватым, думкі яго былі ўшчэнт расшкуматаныя, і ён, думаючы пра жыццё, час ад часу ціха, бязгучна лаяўся. Прападзі яно ўсё пропадам! Дзе яшчэ тыя немцы, яшчэ немаведама, дабяруцца яны да яго Яхімоўшчыны ці не, а свае вось дабраліся. І хто? Родзіч Гуж. Ад гэтага, пэўна, свінчо не схаваеш, уведае і пра свінчо, і пра кароўку, і курэй, таксама як і пра ўсё іх ранейшае жыццё пры Саветах — тут ужо не затоішся. У яго цяпер улада, захоча — павядзе ў мястэчка, у паліцыю і павесіць на першым слупе — сапраўды размова ў іх кароткая. Дык што ж застаецца: прасіць? Але такі наўрад ці злітуецца. Пятрок заўважыў сёння, як нядобры драпежны бляск блукаў у Гужовых вачах, калі ён казаў пра Сцепаніду. Задобрыць хіба драбязой — яйкамі, салам, курай, — бо большага ў яго не было, але ці драбяза яго пройме? Найлепш, канешне, яго ўпаіць, але, адчуваў Пятрок, адным разам не шмат дагодзіш, а паіць яго заўсягды — дзе па тым часе ён возьме гарэлкі?

І тут неяк само сабою да яго прыйшло разуменне, што трэба гнаць самагон. Без самагону ў гэтым жыцці прападзеш.

Некалі, яшчэ да калгасаў, Пятрок зрабіў не дужа ўдалую спробу вырабу гэтага зелля, але тады ўсчалася вялікая строгасць з лёнам, усё, што было з валакна, паздавалі, і яшчэ было мала, прыехалі ўпаўнаважаныя з акругі, хадзілі і трэслі па дварах лахманы, раскідвалі салому ў пунях — шукалі льнувалакна. У яго ж валакна не знайшлі, але ў істопцы набрылі на самагонныя прычындалы — казан і галоўнае — ладны, з меднае трубкі змайстраваны змеявік, які і рэквізавалі. Пасля ён плаціў штраф, нацярпеўся сораму на сходах і пракляў

на гады малашаноўную справу самагонаварэння. Але гэта было даўно. Мусіць, цяпер, калі ўсё ў жыцці перайначылася, перайначыліся і адносіны да самагонкі. Адчуваў, гарэлка становіцца ўстойлівай, ледзьве не адзіна рэальнай каштоўнасцю, без якой не абыдзешся. П'юшчы ці не, а трэба рабіць гарэлку.

Ён перайшоў цераз сені ў істопку, кашляючы, прысланіўся да ступы ў парозе. Як заўжды, у істопцы не выводзіўся прыцемак, поўны пастаянных і звыклых пахаў, якія так перамяшаліся між сабой, што іх ужо цяжка было адрозніць. Найбольш, аднак, патыхала старызнай, пылам, мышамі. Праз маленькае, на бервяно, акенца сюды прабівалася слабае святло хмурнага ранку, і ў ім Пятрок нетаропка агледзеў рад дашчаных засекаў пад глухой, без вокнаў, сцяной; пустыя цяпер, плеценыя з саломы, пузатыя карабы, у якія некалі ссыпалі збожжа, калі яно не мясцілася ў засеках. У куце туліліся нізкія старасвецкія жорны з тонкімі, сцёртымі ўжо камянямі, густа абсыпаныя шэрым мучным пылам. Тут пыліліся і Сцепанідзіна прасніца, калаўрот, святлеў асінавым бокам навейшы кубёлак з іржавымі абручамі, стаялі большай часткай пустыя кадкі; пры сцяне, састаўленыя парадкам, некалькі год чакалі свае справы Сцепанідзіны кросны з бёрдамі, нітамі і навоямі. На паліцы над імі цьмяна пабліскваў няроўны шэраг парожніх, запыленых бутэлек і важна мясцілася вялікая, аплеценая лазовым кошам суляя, да рыльца налітая газай. Побач ля акенца віселі пляцёнкі леташняй цыбулі, некалькі бярозавых венікаў, пучкі лекавай травы, што запасіла з лета жонка. Невялікая гэта істопка, запыленая і запавуціненая па кутках і пад столлю, была цесна забіта, застаўлена розным начыннем да самай каменкі-печкі ў зусім цёмным куце, але дзе тут валялася ягоная патрэба, Пятрок не мог згледзець. Ён абышоў істопку, зазірнуў у цёмныя яе нетры, папоркаўся пад жорнамі і ўрэшце выцягнуў адтуль стары счарнелы казан, якім ужо гадоў дзесяць не карысталіся ў гаспадарцы.

На большым святле ў сенцах ён лепей агледзеў яго. Мусіць, казан быў яшчэ не благі, нідзе не паржавеў, і калі пачысціць яго ад гразі, пацерці, пашараваць пясочкам, дык і згадзіцца. Трэба яшчэ які цэбар ці кадка, але цэбар можна ўзяць новы, у якім мыюць бульбу, бульба ж памыецца і ў чыгуне.

Горш вось, што не было змеевіка.

Пятрок сеў на ўслончык ля вёдзер і, пакашліваючы, пачаў думаць, дзе ўзяць змеявік. Раней па такую патрэбу ён бы па-

даўся ў мястэчка да Лейбы, што рабіў у кузні: каваў панарады, падкоўваў коней, адцягваў сякеры, насякаў сярпы бабам, мог залудзіць міску і направіць сапсуты замок.

Лейба быў чалавек майстравіты, ужо ён бы Петрака выручыў. Тым болей, у іх была нават дружба. Пятрок да яго ставіўся з павагай і звяртаўся ласкава Лейбачка, а той да яго — Пятруська. Здаецца, нават яны былі аднагодкі і ведалі адзін аднаго з хлапечай пары. Здаўна ўсю кавальскую справу рабіў яму Лейба; Пятрок жа ніколі не скупіўся на плату — грашамі, яйкамі, салам, часам збожжам — усім, што па тым часе было ў гаспадарцы. Калі ж заплаціць не было чым, Лейба мог зрабіць у доўг, «напавер», пачакаць месяц, паўгода, пакуль вырасце збожжа ці прыйдзе час рэзаць авечку. І ніколі ў іх з Петраком не было ўзаемных крыўд ці непаразуменняў. Лейба напэўна змайстраваў бы яму змеявік, ды кузня яго даўно перайшла калгасу, а сам каваль з’ехаў да родзічаў у Лепель. А цяпер дык невядома, ці там хто робіць, улетку кузня стаяла замкнёная.

За гасцінцам у Выселках быў яшчэ адзін чалавек, Карніла, таксама рукасты на ўсякія справы мужчына, ужо ён бы нешта прыдумаў ці знайшоў у сваіх запасах... Але ў Петрака з ім даўно не было дружбы, хутчэй наадварот, яны былі амаль ворагі і не віталіся. А ўсяму віной Сцепаніда, якая дзеўкай гуляла з гэтым Карнілам, ды пабралася з Петраком, — малады, ён быў хлопец спраўны і музыка, не тое што гэты ваўкаваты Карніла. Сапраўды, той быў дужа цяжкога характару, калі ўжо каго не панаравіць, дык будзе касавурыцца да скону дзён. Яшчэ быў ён скупы і скнарны, хоць жыў заўсёды няблага, рабіў не ў калгасе, а ў пажарнай у мястэчку і меў добрыя рукі: мог роўна наслаць падлогу, звязаць аконную раму ці нават змураваць печ. Не, да Карнілы яму не сунуцца, лепш папытаць пры выпадку яшчэ ў каго-небудзь на Выселках.

Пятрок накурыўся ўволю, адкашляўся — мусіць, трэба было брацца за справу. Ага, найперш пасыпаць чаго-небудзь курам, і ён, знайшоўшы на кадцы стары драўляны гарнец, зачэрпнуў ім у крайнім сусеку ячменных адходаў, вынес з сянец. Куры, мусіць, ужо цікавалі яго і, толькі ўбачылі з гарцам, стрымгалоў кінуліся з-пад плота, з гарода, ад паветкі, і ён шырока сыпануў на падворак, каб хапіла ўсім. Пакуль тыя ўвішна дзяўблі на ўтаптанай зямлі падворка, падбіралі ў мураве, ён думаў: які пакручасты лёс і што вытварае ён з

чалавекам! Хіба калі гаспадар у Яхімоўшчыне карміў уранку курэй! Ці яму не было іншае, болей важнае справы па гаспадарцы? Адной скаціны тут мелі болей дзесятка галоў — конь, маладая жаробка, дзве каровы, калі яны яшчэ не цяліліся, шэсць ці восем авечак. Ну і свіней, канешне, не меней як дзве — укормны парсюк і меншы, у налецце, падсвінак. Праўда, і рук было болей. Але во сышлося на нуль, толькі і клопату што кароўка, малое свінчо ды гэтыя дзевяць курыц. Ад каня і ўсіх пра яго клопатаў некалі аслабаніў калгас, авечкі неўпрыцям вывеліся самі, ды і каму было іх даглядаць? Дзеці рана павыляталі з бацькоўскага гнязда, не вярнуць. А тут гэта вайна — яна, мусіць, даб'е ўжо канчаткова.

Усё пакашліваючы на вышмарканых камянях ля парога, Пятрок рашыў нарэшце ладзіць капец. Бульба добра ўрадзіла сёлета, на гародзе яе ўжо выкапалі і засыпалі поўную яму, але і яшчэ будзе не меней. У яму ж каторы год пад вясну находзіць вада, таму рэшту трэба закрыць у капец на пагорку ў канцы гарода — так заўсёды рабілі на хутары ва ўраджайныя на бульбу гады. Бульбачку трэба было шанаваць, тая здаўна была галоўным набыткам з поля — хлеб радзіў не заўсёды і к вясне канчаўся, а бульбачкі часцяком хапала да новай. Калі яе ў час выбраць, засцерагчы ад марозу, вады, дык хапала сабе і скаціне — бульбачка не адзін ужо год бараніла ад голаду.

5

Некалькі дзён запар восеньскае неба груваcтка цяжэла ад хмар, дужа рваў вецер, заходзячы то з аднаго, то з другога боку, а пасля ўсё сціхла, уначы пацяплела, і пад ранак пасыпаўся дождж. Прачнуўшыся на світанні, Сцепаніда пачула яго шапаткую гаману за сцяной і падумала, што сёння, мусіць, прыйдзецца пачакаць з каровай. Пятрок яшчэ ляжаў у куце на ложку і нават не кашляў, спаў, мусіць, а яна ўстала з палка, выйшла ў сенцы. Ля ганка, чуваць было, трохі цурчала са страхі, а пад дзіркай у сенцах ужо расплывалася на зямлі цёмная лужына. Каторы ўжо раз Сцепаніда раззлавана памянула свайго нядбайнага мужа і пасунула цабэрак пад тое месца ў страсе, дзе мерна капала ў дол. Прывыкшы рана ўставаць, Сцепаніда зразумела, што сну ўжо не будзе, тым болей што за дзяружкай ужо заварушыўся-закашляў Пятрок, шукаў свой капшук — дня ён не мог пачаць без закуркі. Санліва папа-

зяхаўшы, Сцепаніда ўзяла з-пад акна кляновую, купленую вясной даёнку і пайшла ў хлеў да каровы.

Тым часам амаль развіднела. Дождж уставата сеяўся з нізкага туманнага неба, але быў па-восеньску драбнаваты, без ветру і яшчэ не нарабіў гразі на падворку. Толькі ля варот хлява ў нізкім месцы блішчэла гнойная лужына.

На ліпе пачала драць горла варона, — каб хоць не на якую бяду, устрывожана падумала Сцепаніда. Варона прылятала на ліпу ўжо чацвёрты ці пяты ранак — уссеўшыся на верхавіне і звесіўшы на падворак тоўстую чорную дзюбу, прарэзліва каркала, нібы кагось клікала з лесу. Разы два Сцепаніда кідала ў яе палкай з дрывотні, але варона сядзела і не палохалася. Накрычаўшыся, яна сціхала сама, не доўга яшчэ сядзела моўчкі, а дасля цяжка саскоквала з сука і, часта махаючы крыллем, ляцела цераз хлеў у гай. Ззаду на ліпе ціха гайдалася патрывожаная ёю галіна з некалькімі зрудзелымі лісткамі.

Не спяшаючыся, Сцепаніда старанна выдаіла Бабоўку, з прыемнасцю адзначыўшы, што добра напасвіла ўчора ў Бараннім Лозе, — даёнка была поўная, з беражкамі. Нічога не скажаш, кароўка ўдалася на зайздрасць, маладая яшчэ, непераборлівая ў ежы і малочная; Сцепаніда берагла яе як самы вялікі набытак. Па гэтым часе такая карова — раскоша.

Яна выйшла з хлява, падумаўшы, што Бабоўцы трэба кінуць ахапак атавы — якую гадзіну паласаваць у хляве, а самой, пакуль дождж, можа, зварыць крупніку ці бульбы — ужо дзён колькі яна не паліла ў печы і не гатавала гарачага. Аднак не паспела яна дайсці да парога, як да яе слыху, быццам з-пад зямлі, данёсся прыглушаны, але магутны нутраны вуркат. Не цямячы яшчэ, што гэта, яна выглянула з-за паркана ў вароты і аслупянела: па іхняй дарозе з гасцінца, цяжка валюхаючы па калдобінах, сунулася ў дажджавой імгле штосьці вялізнае, шэрае і тупалобае, што не адразу і з цяжкасцю нагадала Сцепанідзе машыну. Ззаду кацілася нешта меншае, з высокай, як у самавары, трубой, і вецер данёс на падворак пах дыму, як быццам ад дроў. На мокра-блішчастых баках машыны свяціліся нейкія літары, а вялізныя колы не змяшчаліся ў нешырокіх каляінах і адной стараной мялі-тапталі быльнёг на ўзбочыне. Машына паволі, але з нейкаю няўхільнаю непазбежнасцю набліжалася да сядзібы і яшчэ праз момант са зморaным цяжкім дыхам сунулася ў вароты і спынілася на падворку. Гэты дых яе стаў яшчэ большы, у двары засмярдзела газай.

З высокай ля кабіны прыступкі саскочыў мізэрненькі чалавек ў капелюшы і даўгаватым пальтэчку, якога Сцепаніда адразу ж пазнала: то быў колішні местачковы настаўнік Свянткоўскі.

— Добры дзень, пані Багацька, — з дзіўнаватай нязвыкласцю павітаўся настаўнік, тоячы загадкава-салодзенькую ўсмешачку на вастраносенькім твары. — Гуж распарадзіўся прыняць на кватараванне нямецкую каманду. Ну і — каб усё было добра.

Сцепаніда, аднак, маўчала, няўцямна пазіраючы на машыну, брызентавы верх якой падпіраў нізкае голле ліп. І сапраўды, у той жа момант бразнулі жалезам дзверы, і на падворак адразу сіганулі двое. Яшчэ не згледзеўшы ні іхняй адзежы, ні твараў, па чымсьці няўлоўна-насцярожаным, што ішло ад іх постацяў, Сцепаніда зразумела, што гэта — немцы. Толькі калі тыя скіравалі да яе па падворку, яна адзначыла сабе ў думках, што яны ходзяць, як людзі, на дзвюх нагах і, здаецца, нават без зброі — той, што саскочыў з гэтага боку машыны, быў у цеснаватым, з мноствам гузікаў на грудзях мундзірчыку; на маладым белым твары яго за круглымі акулярамі ў чорнай аправе блукаў зусім нязлы — звычайны хлапечы выраз, на галаве з высока падстрыжанай патыліцай сядзела нейкая растапыраная, без казырка, шапачка-пілотка, і з кароткіх рукавоў мундзірчыка звісалі тонкія рукі. Але другі, што неяк порсценька выкаціўся з-за машыны, быў зусім інакшы — кругленькі, таўставаты чалавек з надта жвавым, нават мітуслівым позіркам, якім ён умомант ахапіў падворак, хлеў, хату і штосьці буркнуў ёй — незадаволенае і патрабавальнае. Але яна не зразумела яго і сама не свая стаяла з даёнкай на сярэдзіне падворка.

— О, млеко!

Толькі цяпер да яе свядомасці дайшло, што заехалі немцы сюды не так сабе, а кватараваць, як сказаў настаўнік, і пытаюцца пра малако, — хай яны падавяцца ім — ёй не шкада было малака. Але яны не кінуліся па малако, настаўнік загергетаў штось да гэтага вёрткага і кругленькага, і яна, ніколі не чуўшы такой гаворкі, аж з цікавасцю і здзіўленнем услухалася, ды не зразумела ніводнага слова. Мусіць, Свянткоўскі добра ўмеў па-нямецку, а немец па-нашаму не ўмеў нічога і таму штось сказаў па-свойму настаўніку. Свянткоўскі павярнуўся да Сцепаніды.

— Пан германскі фельдфебель пытаецца, ці очэнь свежае гэта малако?

— Свежае, чаму ж не, — сказала яна і паставіла на край муравы даёнку, ля беражкоў якой яшчэ не ўлеглася — гойдалася малочная пена.

Яны нядоўга пагергеталі нешта, маладзейшы подбегам вярнуўся да аўтамабіля і прынёс адтуль белую пляскатую кварту. Свянткоўскі асцярожненька зачэрпнуў поўную кварту сырадою і ўслужліва падаў пану фельдфебелю. Той спаважна ўзяў і, угнуўшыся, каб не абліць выпнуты жывоцік, выпіў малако і абярнуў у паветры кварту.

— Іст гут!

Настаўнік аж весялей неяк зачарпнуў яшчэ маладому, у акулярах. Выцягшы рукі з караткаватых рукавоў мундзірчыка, той таксама выпіў. Затым кварту ўзяў прысадзісты, немалады немец з рабым, як ад воспы, тварам і таксама ўсё выпіў. Але чацвёрты, высокі, як жардзіна, апрануты ў нейкі балахоністы камбінезон, толькі паспытаў з кварты і тут жа плеснуў малако на траву; зялёная мурава на пяць крокаў забялелася, нібы ўзялася цвіллю. «Не спадабалася, каб ты прапаў», — падумала Сцепаніда. Сама не свая, яна пакорліва стаяла каля даёнкі, азіраючы нечаканых заезджых, сэрца яе дужа калацілася ў грудзях, але, здаецца, якой пагрозы на іхніх тварах ці ў рухах не было відаць. «Можа, нап'юцца і паедуць далей», — падумала яна, неўпрыцям ціхенька паўтараючы: «Добрае малачко, добрае». Немцы, аднак, не звярталі на гэтыя словы ніякай увагі, як і на яе таксама. Пакуль іншыя пілі, фельдфебель пасноўдаў сюды-туды па падворку, яна падумала: заверне ў хату, аж не — павярнуў да хлява, затым падышоў да калодзежа. Свянткоўскі, сморгаючы ў роснай траве новымі ботамі, падаўся за ім, і яна чула, як яны там гергеталі штось незразумелае для яе па-нямецку.

Тыя, што напіліся малака, таксама па адным перайшлі да калодзежа, штось іх там зацікавіла. Яна стаяла каля даёнкі, не ведаючы, ці ўжо сысці куды далей з воч, ці яшчэ пачакаць. Але, мусіць, трэба, каб тут быў гаспадар, які кудысьці прапаў і не паказваецца. Ці ён не бачыць, хто да іх завітаў?

— Пані Багацька! — зноў гукнуў яе Свянткоўскі. — Германскі фельдфебель мае жаданне паспытаць вашай вады. Будзьце так ласкавы, прынясіце вядро.

— А, вядро! Зараз...

«Дабраліся нарэшце», — зласліва падумала яна, подбегам трухаючы ў сенцы. Там яна здушана-спуджаным голасам крыкнула ў хату: «Пятрок!» — плюхнуўшы рэшткай вады ў цэбар, вынесла на падворак новае цынкавае вядро, якое ў яе перахапіў маладзейшы, у акулярах. Прычапіўшы вядро да ланцуга, ён спрытна раскруціў барабан і, як толькі вядро пляцнулася аб ваду, пачаў лёгка выкручваць за жалезную ручку, а іншыя, нерухома пастаўшы ля зруба, чакалі. На яе яны зноў перасталі звяртаць увагу, і яна ўжо рашыла падацца ў хату, каб усё ж выпхнуць адтуль Петрака. Ды ў гэты момант ён і сам паказаўся на ганку — у апорках на босую нагу пратупаў міма яе да калодзежа і з нейкай страхавітай асцярогаю зняў з галавы суконную, з абвіслым казырком кепку.

— Ага, добрая вада, ведаеце, — трошкі дрыготкім, мусіць, ад хвалявання голасам загаманіў Пятрок.

Немцы ўжо выцягнулі вядро і плёскалі з яго ў нейкі зялёны гляк, стрымана перагаворваючыся між сабой. Але ніхто з іх, апроч Свянткоўскага, нават не зірнуў на гаспадара хутара, і толькі калі настаўнік штось буркнуў, рабаваты немец змераў Петрака неспяшлівым позіркам. Той пакланіўся яшчэ раз, і тады малады, што стаяў бліжэй да яго, дастаў з кішэні пачак цыгарэт, спярша сам адну ўставіў у рот, а другую даў Петраку. Пятрок, усё камечачы шапку, няёмка ўзяў цыгарэтку і стаяў з ёю, быццам не ведаючы, што рабіць. Тым часам немец пстрыкнуў запальнічкаю і прыкурыў, Петраку, аднак, прыкурыць не паднёс.

Яны нешта там гергеталі, мусіць, гаварылі пра калодзеж, а Сцепаніда ўзяла з падворка даёнку і пайшла ў сенцы. Зачыняць дзверы яна пабаялася, з прыцемку сенцаў пазірала на немцаў, слухала, як Пятрок неяк дужа хутка і па-мужчынску проста ўціраецца ў іхнюю кампанію.

Праз хвіліну ён ужо нешта тлумачыў там, паказваючы то на падворак, то тыцкаючы рукой у калодзеж; шапку, аднак, усё не надзяваў, дробны дожджык сыпаўся на яго лысаватую, з рэшткай сівых валасоў галаву. І яны яго слухалі, нават не перапынялі. Гэтая лёгкасць ягоных адносін да немцаў, аднак, не спадабалася Сцепанідзе, і яна падумала: ці не павядзе ўжо ён іх у хату? Пушчаць іх у хату ёй чамусь не хацелася, хата была недатыкальным яе прытулкам, які трэба было берагчы ад чужынцаў. «Хоць бы яны хутчэй з'ехалі», — думала яна. Але, відаць па ўсім, з'язджаць яны сапраўды не збіраліся —

адчапілі ад вялізнай машыны трохі меншы прычэп — паходную вайсковую кухню, і ўсе, апрача фельдфебеля, папіхаючы і аж чырванеючы тварамі, пакацілі яе на падворак. Пятрок памагаў таксама — рупна піхаў вялізнае гумовае кола, а пасля паказаў, дзе ямчэй уладкаваць кухню. Урэшце яны знайшлі для яе месца поруч з калодзежам, і Сцепаніда зусім апанурылася — тое, чаго яна найболей баялася, праўдзілася. Яхімоўшчына ад іх не ўбераглася. Што цяпер будзе?

Але ўсё ішло, мусіць, само сабой, незалежна ад чыёй-небудзь волі, па нейкіх сваіх, часам страшных, часам дзівосных, законах, якія дыктавала вайна. Уладкаваўшы на падворку кухню, фельдфебель з настаўнікам скіравалі да сенцаў, і гэты дурань Пятрок ужо забег ім наперад, паказваючы дарогу ў хату. На парозе фельдфебель быццам нерашуча спыніўся, перш чым пераступіць яго, незадаволена-паныла паглядзеў у цемнаватае падстрэшша сяней. Свянткоўскі штосьці яму тлумачыў, але той маўчаў, усё азіраючыся па баках. Сцепаніда таропка адсунула далей ад парога цабэрак, і немец ступіў у сенцы. Каб не замінаць ім, яна таксама адышлася далей, да істопкі, усё згадваючы: што ім яшчэ трэба? Не ідуць жа яны сюды толькі затым, каб паглядзець на іхняе ўбогае жытло, мусіць жа, ім нешта трэба? Але вось Пятрок шырока расчыніў дзверы ў хату, і яны ўсе сунуліся туды з нейкаю нават нецярплівасцю ці нават цікаўнасцю, і яна з-за іхніх плячэй быццам нават чужымі вачыма ўбачыла сваю даўно ўжо не новую хату з трохі перакошаным прасценкам і счарнелымі бэлькамі на столі, сценамі, абклеенымі зжаўцелымі газетамі. Падлогу яна даўно ўжо не мыла, закруціўшыся з каровай, бульбаю і падсвінкам, і цяпер з прыкрасцю пазірала на гразнаватыя дошкі з прыкарэлым лушпіннем ля прыпека, пачарнелыя чыгуны ля парога. Скрозь па ўсёй яе хаце тупалі цяпер боты і грубыя каляныя башмакі, пакідаючы мокрыя і гразкія сляды на сухіх дошках падлогі, і яна падумала: якога д'ябла яны тут выглядваюць? Яна ўсё стаяла ў сенцах, напружана чакаючы, калі немцы выметуцца. Але яны ўсё гергеталі там, пазіралі ў вокны, аглядалі абразы, а фельдфебель, адхінуўшы дзяружку, зазірнуў у іхняе запечча, і вусны яго гідліва перасмыкнуліся.

Яна так і не дачакалася, калі яны выйдуць, — яе ўвага адцягнулася на падворак, дзе ля калодзежа затхла дыміла, мусіць, сырымі дрывамі палілася, кухня, і худы ў камбінезоне немец перкаўся там, згінаючыся перад нізкай топкай. Пасля

ён кудысьці рашуча пакрочыў цераз падворак, і яна аж спалохалася: ці не ўчуў ён свінчо? Але не па свінчо, мусіць, тое сядзела сабе ціха, а немец неўзабаве зноў паявіўся на падворку — крывячыся ў паясніцы, валок да кухні цэлы абярэмак дроў. У Сцепаніды, як яна згледзела тое, ажно схаладнела ў душы — то былі бярозавыя палены, беражоныя ёю на зіму для распалу, іх была зусім невялікая купка пад самай страхой ля хляўка. Але во, упароў! Першым яе жаданнем было выйсці і сказаць яму: нядобра ўсё ж робіш, чалавек, не тваё ж, мусіць? Але яна не сказала, а затым рашучасць яе апала, яна праглынула крыўдлівы камяк і сказала сабе: хай, пабачым, што яшчэ будзе.

Сцепаніда ўжо адышлася ад першага страху, і ёй стала прыкра, яна адчула сябе тут лішняй, захацелася кудысьці сысці, каб нічога не бачыць і не расстрайвацца: хай гаспадарацць, як хочуць. Ці яна перашкодзіць ім? Але яна трохі разважыла і зразумела, што пакідаць сядзібу нягожа; усё ж тут карова, падсвінак, яе дзевяць курыц з пеўнем. Як на тую бяду, карову яна не паспела выгнаць у поле, добра, што яшчэ перахавалі падсвінка і на таго цяпер не так лёгка набрысці гэтым памоўзам. І яшчэ добра, што яна не выпусціла з хляўка курэй — тыя хоць галадалі, але не кідаліся гэтым на вочы. Можа, яшчэ і пераседзяць. Карову ж, аднак, хаваць не было сэнсу, усё роўна пра яе яны ўжо ўведалі, карову трэба было адвесці на пашу. Сцепаніда пачала шарыць у сенцах вяроўку, як з хаты выскачыў Пятрок, яго паморшчаны, з растапыраным шчаціннем твар свяціўся, аднак, нейкаю бы жвавай радасцю.

— Баба — яек! Яек давай, хутка!!!

«Яек!» — сказала яна сабе. Ну, ведама, без яек у іх не абыдзецца. З яек яны пачынаюць, чым толькі скончаць? Трохі, аднак, памарудзіўшы, яна расчыніла дзверы ў істопку і ўзяла з-пад рэшата ў жорнах старэнькі свой кошык, у якім цьмяна бялеліся дзесяткі два яек. Яна хацела аддаць іх Петраку, хай бы частаваў там, але той ужо вярнуўся ў хату, і ёй давялося таксама пхнуцца туды. Не ведаючы, каму падаць яйкі, яна паставіла кошык на канец услона. Адразу ж да кошыка пацягнуліся чужыя рукі, і яна, адступіўшы трохі, не магла адарваць позірку ад гэтых страхавітых чужынскіх рук. Першай туды порсценька сунулася белая, далікатная ручка, мусіць, таго фельдфебеля, яна намацала верхняе круглявае яечка ад рабенькай курачкі, самай яе нясушкі. Але чымсь тое

не задаволіла немца, ён паклаў яйка назад, узяў меншае, можа, чысцейшае ці болей жаўтлявае. Круглае ж адразу падабралі тоўстыя, як каровіны сіські, пальцы з рудымі валасамі ля костачак; затым узяла іншае яйка з краю маладая, не дужа чыстая шафёрская рука, што выпнулася са знаёмага караткаватага рукава мундзірчыка. Далей Сцепаніда чамусьці не магла ўжо глядзець — яна апусціла вочы на трохі папэцканыя ў траве хромавыя боты Свянткоўскага. Перагаворваючыся пасвойму, немцы залускалі шкарлупіннем, білі аб нешта яйкі і гучна хлёбалі з іх, без хлеба і солі. Адчуўшы гідлівасць, яна павярнулася, каб выйсці ў сенцы, і ледзьве не сутыкнулася з фельдфебелем, які топкім сцізорыкам акуратна дзёўбаў жоўтае яйка рабой нясушкі.

Дзіўна, як хутка яна супакоілася, мусіць, таму, што яны аказаліся не надта ўжо страшныя, не лаяліся і не пагражалі, — яны проста паводзілі сябе роўна і ўпэўнена, як гаспадары на гэтым падворку. Што ж, яна разумела: яны перамаглі, заваявалі гэту зямлю, мусіць, іхняе права цяпер рабіць, што захочуць. Відаць па ўсім, яны надта добра ведалі і пільнаваліся гэтага права. Але менавіта гэта іх упэўненасць у сваёй праваце і ўсведамленне беспакаранасці за тое, што не прынята рабіць між людзьмі, адразу настройвалі яе супраць. І яна адчувала, што незалежна ад таго, як яны паставяцца да яе, добрыя адносіны паміж імі наўрад ці магчымы.

Калі яны гурбою выпхнуліся з нізкіх дзвярэй на каменны прыступак ганка, яна стаяла каля хлява на падворку і чакала. Яна наўмысля пільнавала на шляху на дрывотню, каб спаткаць таго, у камбінезоне, што завіхаўся ля кухні, накладваў бярозавыя паленцы ў топку. Сказаць яму яна не магла нічога — яна толькі хацела зірнуць у яго бессаромныя вочы. Але ён болей не ішоў па дровы — ён добра ўжо расшураваў сваю кухню-машыну, і тая поўніла падворак дымам, час ад часу з жалезнай трубы шугала іскрамі ў неба. Сцепаніда падумала: каб хоць не згарэць тут праз іх. Усе гады, што жыла тут, яна чамусьці баялася пажару ад печы ці ад маланкі, неаднойчы ёй нават снілася ўначы, як гарыць яе Яхімоўшчына, а яна бяссільна бегае вакол, бы на ватных нагах, і нічога зрабіць не можа.

Немцы выйшлі ўсе разам на двор, фельдфебель трохі аддзяліўся ад іншых, нешта наказваў Свянткоўскаму, які вельмі ўважліва яго слухаў. Затым ён звягліва крыкнуў штосьці на

кухара, той адразу прутка выцягнуўся, кінуў у адказ адно толькі «яволь!». Што фельдфебель казаў ім — добрае ці благое, яна не ведала і падумала: каб вы перадохлі ўсе разам!

Іншыя тым часам звалаклі з машыны і саставілі пад страхой на прызбе некалькі жоўтых драўляных скрынак, накладзеных чымсьці цяжкім і грувасткім, мяхі з чорнымі клеймамі на баках; там жа на прызбу паставілі дзве караткаватыя вінтоўкі з жоўтымі раменнымі почапкамі. Напэўна, усё гэта заставалася тут, з кухняй, а машына збіралася выязджаць, — малады, з выстрыжанай патыліцай шафёр ужо сядзеў у машыне, і тая, завёўшыся, аж трэслася ўся ад натугі.

Фельдфебель ускочыў з другога боку ў кабіну, машына грузна адкацілася назад, збочыла тупым задам у бульбу і, разгрэбшы там цэлую канаву ў мяккай зямлі, вывернула на дарогу.

У двары засталася кухня і пры ёй двое — тонкі злы кухар і пажылы, з рабым тварам немец. Яны ўзяліся цягаць з калодзежа ваду, а Пятрок з нейкім вінавата-шкадлівым выразам у вачах прытэпаў да жонкі.

— Вой, вой! — сцішана сказаў ён. — Доўга кватараваць будуць.

Яна маўчала, хоць ад тых яго слоў ёй стала і зусім млосна. Але ўжо яна здагадвалася, што гэта — не на кароткі час, мусіць, цяпер надоўга. Пятрок азірнуўся, быццам іх мог хто падслухаць.

— Сказалі падлогу вымыць. Лішняе павыцягваць.

— Куды павыцягваць?

— Сказалі, у істопку. Нам тожа.

— Што гэта, лета — у істопку? Удумалі...

— Сказалі. Каб к вечару ўсё. Іхні галоўны прыедзе.

— Хай прыбіраюць! Хай усё прыбяруць. Хай падавяцца, — зазлавала яна, успамінаючы, як Пятрок кінуўся ім дагадзіць. Але ўсё марна: во, выганяюць.

Было ўжо не рана, воглае неба па-ранейшаму нізка вісела над мокрай зямлёй, але дождж перастаў, вецер таксама, здаецца, улёгся; у падворку драў горла дым, які абвалок хату, істопку, шызай пеляной расцягнуўся ўздоўж па бульбянішчы, над гародам. Сцепаніда рашуча расчыніла вароты хлява, забратала карову. Хай робяць, што хочуць, — ёй трэба выганяць карову на пашу, годзе той стаяць у хляве. Каб лішне не назаляць немцам, яна павяла карову цераз дрывотню ў

гарод — наўпрасткі па бульбянішчы ў поле. Бабоўка разы два трывожна азірнулася на чужых у двары, Сцепаніда са злосцю тузанула яе — хутчэй прэч з падворка.

Яна вяла карову па ўзроўку ўніз, куды збягала бульбянае поле. Роў гэты падступаў да самага канца гарода і быў глыбокі, з ручаём і крыніцай на дне, ягоныя схілы густа зараслі алешнікам і маладымі елкамі. Па той бок высіўся навідавоку ладны гаёк. На выпадак чаго ў рове можна было б адседзець дзень-два, а то і даўжэй, схавацца ад вайны, ад бяды, ад чужога нядобрага вока. Але каб не жывёла. З жывёлай доўга не выседзіш, яе трэба карміць. Зноў жа шкада сядзібы з яе якім-ніякім набыткам, якога з сабой не возьмеш, — а без яго якое жыццё ў лесе? Тым болей увосень, калі ўжо ліе за каршэнь і падбіраецца сцюжа. Мусіш трымацца жытла. Але во гэтае жытло спатрэбілася і ім. Ці другога тут не знайшлося? І ўсё, мусіць, праклятай той мост, дужа ён стаў ім патрэбны, і з ім разам спатрэбіўся гэты хутар.

Карова згаладнела хапала з-пад ног мокрую дзяцеліну, ірвала з рукі вяроўку, і Сцепаніда падумала: хай! Ведама, што карысці злаваць на гэтага дурня Петрака, што ён цяпер можа? Як ні круціся, а калі загадалі, дык мусіш выконваць. Канешне, падлогу Пятрок не памые, і будзе бяды абаім. Мусіць, ёй трэба вяртацца на хутар.

На невялічкім травяністым лапіку пры ўзроўку яна прывязала канец вяроўкі да камля алешыны і, паназіраўшы трохі, як Бабоўка ўзялася скубці траву, пайшла краем поля назад.

Было ёй да гаркоты крыўдна ў душы і боязна, і чула яна: магчымасці яе людскага жыцця ўсё вузелі-змяншаліся. З кожным днём на свеце ўсё горшала, вайна ўчэпістай лапаю падбіралася ўсё бліжэй, а цяпер дык і зусім улезла ў хату, на самы покуць, пад абразы. І што было рабіць, апроч як бедаваць, лямантаваць, плакаць? Але слязьмі ды крывёю і так набрыняла зямля, што з таго шкоды вайне? Тады што ж — трываць усё моўчкі, чакаць лепшай часіны? Чула яна сваім сэрцам: за меншай бядой заўжды дыбае большая, тады заякочаш, але хто паможа?

6

Два немцы поркаліся сабе ля кухні, а Пятрок сеў ля акна ў хаце і з гора скруціў вялізную, з бабовы струк, цыгарку. Добра пакамечаную ў пальцах жаўтлявую нямецкую цыгарэтку ён схаваў за планку пад абразамі — скурыць калі ў іншы час. Трэба было брацца за справу — прыбіраць у хаце, выкінуць у істопку ўсё лішняе, аслабаніць ад бабскага начыння качарэжнік, а галоўнае — мыць падлогу. Ён злаваў на Сцепаніду за яе незгаворлівасць: кінула ўсё, пабегла. Чорт бы яе не ўзяў, тую карову, мусі бы, пастаяла да паўдня ў хляве. Ці тут да каровы, калі на падворак уехалі гэтыя... Аднак даў жа Бог клопату, наслаў немцаў, ці ім мала было гарадоў, мястэчак, хоць бы якіх вёсак, дык во, дабраліся і да гэтага Богам забытага хутара.

Хваравіта кашляючы (балела з начы ў грудзях), Пятрок пазіраў у акно на тых двух, што цяпер гаспадарылі ля яго калодзежа. Адзін, здыхлаваты і белабрысы, у абвіслым на азадку камбінезоне, нешта сыпаў белае ў кацёл кухні, з якога валіла воглая пара, а прысадзісты, з рабым тварам раскладваў нейкі прыпас на вечку драўлянае скрынкі, акуратна засланай чыстай белай цыратай. «Глядзі, культурныя!» — з зайздрасцю падумаў Пятрок і гаротна ўздыхнуў: праз гэту іх культуру бярыся цяпер за вядро і анучу, расчынай гразь у хаце. Добра, што было суха і цёпла, дык ім яшчэ каб і чыста. Культурныя...

Цыгарка яго тым часам ужо расклейвалася ў пальцах, але ён не меў чым яе прыпаліць і не адважваўся падысці да немцаў, каб папрасіць агню. Ды ўсё ж прага курыць нарэшце перасіліла нерашучасць, Пятрок выйшаў з сенцаў і спыніўся за пяць крокаў ад кухні, трымаючы навідавоку незапаленую цыгарку. Ён думаў, можа, яны ўбачаць і дадуць агню, прасіць яму было ўсё ж няёмка і трошкі боязна. Але яны быццам не заўважалі — даўгалыгі ўсё боўтаў у катле кухні, якая парыла і дыміла на ўсю акругу, а каржакаваты, мусіць, ягоны памочнік, вялікім нажом крышыў на белай цыраце сала. Пятрок ціха пакашляў і ступіў яшчэ два крокі наперад.

— Гэта... Паночкі, каб прыкурыць...

Мусіць, яго зразумелі — каржакаваты, у белым, завязаным на паясніцы фартусе, павярнуў да яго шырокі, рабы, нейкі зусім не германскага выгляду твар і нешта прабурчэў, нязлосна так: «Я-я». Пятрок не зразумеў, але па тым, што немец

не сказаў болей нічога, здагадаўся, што яны дазваляюць. Падышоўшы да кухні, ён кавалачкам бярозавай карыны выграб сабе на траву вугалёк з топкі. Не дужа ўдала, абпёкшы пальцы, таропка прыкурыў ад вугольчыка і адчуў, як пасля першых зацяжак ягоная самасейка перабіла на падворку ўсе іншыя, чужыя тут пахі.

— Вас, вас? — неяк жвава, мабыць, зацікаўлена, загаманіў да яго памагаты кухара і адклаў нож. Пятрок зразумеў і з гатоўнасцю выцяг капшук.

— Ага, можна. Свая гэта, дамашняя, калі пан хоча...

Немец ашчадна адарваў ад яго складзенай стосікам газеткі невялікі шматок, і Пятрок адмераў яму добрую шчапоць самасейкі. Немец даволі спрактыкавана скруціў цыгарку, старанна паслюніў і прыкурыў ад свае запальнічкі — нейкай адмысловай штуковіны, з якой пстрыкала сіненькім полымем. Пятрок сачыў за ім амаль з дзіцячай цікавасцю, усё ж хацелася, каб ягоная табака спадабалася немцу. Немец грунтоўна зацягнуўся, выпусціў дым, і Пятрок падумаў: закашляе. Але не, не закашляў, толькі лыпаў светлымі пад белымі брывамі вачыма.

— Іст гут!

— Гут? — успомніў Пятрок знаёмае яшчэ з той вайны нямецкае слова і ўзрадаваўся. — Я ж кажу... Добрая, ага. Свая, так што...

— Гут, — яшчэ сказаў немец і нешта загаманіў да кухара, што арудаваў вялізным, як вясло, чарпаком у катле. Ды той раззлавана гыркнуў раз і другі, і гэты паклаў на краёчак стала цыгарку і ўзяўся за нож.

Пятрок падумаў, што, мабыць, хопіць. Усё ж абодва яны пры справе, назаляць ім нягожа, і ён задам і бокам падаўся да ганка.

Трэба было брацца за ўборку, але ён не ведаў, з чаго пачынаць. Ніколі ён не прыбіраў у хаце, заўжды гэта рабіла Сцепаніда, некалі ёй памагала Феня, у яго ж былі іншыя, чыста мужчынскія клопаты. Але во, мусіць, вайна ўраўняла, і цяпер не абышла і яго бабская справа. Найперш, мусіць, трэба было аслабаніць падлогу, каб не замінала мыць, і ён павыцягваў у сенцы ўсе чыгуны ад печы, вілы, качаргу, памяло; адсунуў стары ўслон ад парога, дзе аказалася процьма рознага хатняга начыння: дзіравыя атопкі, пабіты вазон, вечка ад кадкі, нейкія шчэпкі, мусіць, для растопкі ў печы.

Усё, што тут стаяла і ляжала доўгія гады і мела сваё пэўнае месца, не замінаючы нікому, чаму цяпер яно павінна замінаць гэтым чужынцам? Але, мусі, во замінае. Пятрок вынес у істопку і розныя транты з вешала каля печы, зняў з цвіка кажух, далікатна ўзяў у рукі скрыпку. Скрыпку выносіць у сырую істопку яму не хацелася, яе трэба было сцерагчы ад вільгаці, і цяпер, разважыўшы, Пятрок асцярожна засунуў яе за абразы. Маленькая яго скрыпачка зусім схавалася там. Хай, мо дачакаецца лепшага часу.

У хаце павальнела, зрабілася амаль пуста, і Пятрок, паўздыхаўшы, прынёс з сянец вядро з вадою, дастаў з-за печы анучу. Увесь час злуючыся на жонку, ён выліў вядро ля печы на самае затаптанае месца — хай адмакае. Вада шырока расцякалася па дошках, але спакваля збегла на ніжэйшае месца пад самы парог і сабралася ў ладную чорную лужыну. Пятрок стаяў сярод хаты. Яму трэба было ўзяць у сенцах галень, але ні разувацца, ні мачыць ногі яму не хацелася, і ён чакаў, пакуль вада куды-небудзь сыдзе.

— Божа, што гэта? Што ты нарабіў? — пачуўся з сянец Сцепанідзін голас.

— Дык падлогу ж мыць...

— Во, анучай цябе па вачах! Хто ж так мые падлогу?! Ці ты здурнеў?

Сцепаніда злосна ляскала сябе па сцёгнах — ведама, зрабіў не па яе, па-свойму, заўжды яму за гэта даставалася ад жонкі. Але, калі прыйшла, хай мые сама, ён сваё зрабіў, усё прыбраў, засталася падлога.

— А што ж ты сышла з каровай?

— Цябе не спытала...

Пакуль яны сварыліся ў хаце — трохі стрымана перад чужымі і цішэй, чым звычайна, мусіць, немцы нешта пачулі. Сцепаніда ўсё яшчэ пляскала рукамі ў сенцах, таксама не адважваючыся пераступіць парог, як ззаду за ёй з’явіўся цікаўны рабы твар, немец ухмыльнуўся, нешта нават сказаў, і яна асеклася. Але затым ён вярнуўся да кухні, а Сцепаніда кінула цераз парог анучу, якая мокра пляснулася ля Петраковых ног.

— Збірай ваду! Усю да кроплі збірай!

Трэба было слухацца, і Пятрок, крэкчучы ад натугі, мусіў нагнуцца да лужыны. Ён зграбаў анучай гразкую чорную ваду і выкручваў анучу ў закапцелы стары чыгун. Але вады

было процьма, дзіва, колькі набралася з аднаго толькі вядра. Сцепаніда тым часам зноў знікла кудысьці, і ён, каб хутчэй скончыць гэту дакучную работу, пачаў разганяць ваду па падлозе — у куткі, пад печ — абы не было лужыны. Гэта яму ўдалося лепш, чымсі збіраць яе анучай, Пятрок ужо набліжаўся да стаптанага ўчарнелага парога, як у дзвярах зноў вырас цень — на парог ступіў адной нагой немец у грубым падкаваным боце з вядром у руцэ, над якім лёгенька дымілася пара. Пятрок усё зразумеў і з прастадушнай удзячнасцю зірнуў у праставаты твар, які цяпер стрымана свяціўся дабрынёй.

— Дзякуй, паночку. Во, дзякуй вам...

Немец паставіў за парог вядро і выпрастаўся.

— Біттэ, біттэ.

— Во дзякуй! — сказаў Пятрок амаль расчулены і раптам падумаў, што трэба чымсьці аддзячыць. На ласку трэба адказваць ласкай, ці ж ён не разумее. — Хвілінку, пане, — сказаў ён і паўз немца шмыгануў у істопку — недзе там яшчэ заставалася трохі яек. Ён толькі не ведаў дзе, і пакуль зазіраў у кашы і дзежкі, з падворка данёсся нецярплівы капрызлівы покліч: «Карл, Карл, ком!», і Пятрок зразумеў, што, мабыць, не ўправіцца: Сцепаніда хаваць умела. Немец пабег да кухні, а Пятрок расчаравана выйшаў у сенцы і сутыкнуўся з жонкай.

— Бо, гэны Карла прынёс! Гарачай...

— Гарачай...

Аднак Сцепаніда, мусі, падабрэла ўжо, узяла з парога брудную анучу і толькі нагнулася да вядра, як у сенцах зноў матлянулася постаць. На гэты раз то быў Карлаў начальнік. З ціхім злым пошаптам ён ухапіў вядро і перакуліў яго на парозе. Цёплая пара шыбанула ўгору, і за ёй схаваўся спалоханы твар Сцепаніды, немец, махнуўшы вядром, імпэтна выскачыў на падворак.

— Каб ты здох, злыдзень! — азвалася з хаты Сцепаніда. Пятрок азірнуўся — каб хоць не пачулі, бо калі зразумеюць, што тады будзе? Мабыць, гэты здыхляваты сапраўды злыдзень, з ім трэба асцярожна.

— Ціха, баба. Іха ўласць, што зробіш...

— Уласць, каб яна падавілася...

Мылі падлогу ўдваіх сцюдзёнай вадой — добра яшчэ, што ў цэбры было назапашана з ночы, да калодзежа было не падступіцца. Пятрок не хацеў туды патыкацца, Сцепаніда таксама. Падлогу яна добра вышаравала гальнём, выцерла

таксама лаўкі, пашкрэбла нажом доўгі стары стол, пазмятала з падаконнікаў. Пятрок прыбіраў у сенцах, выносіў усё ў істопку ці пад хлявок на прызбу, нейкае рыззё, пакулле паўсцягваў на гарышча. Мабыць, ніколі яшчэ іхняе жытло не мела такой турботы, ніколі, нават у святы, яго не прыбіралі так, як цяпер па прымусу, і Пятрок думаў: хто ведае, як гэта спадабаецца галоўнаму немцу, а раптам не дагадзіш, што тады будзе?

Тым часам ля калодзежа даварваўся абед — дым з кухні амаль перастаў ісці, пара таксама скончылася, круглае вечка кухні было няшчыльна прычынена, і на падворку запахла смажаным, мусіць, салам з цыбуляй — немцы прыпраўлялі суп. Зласнавата-маўклівы кухар рабіў там, нібы аўтамат, не прысеўшы ні разу; пасля сваркі панура поркаўся ля стала ці ля топкі ягоны памагаты Карла. Але вось здыхлаваты выпрастаўся, дастаў з кішэні гадзіннік і нешта прагергетаў Карлу. Пятрок паціху прыбіраў у сенцах і ўсё цікаваў за імі, трохі нават шкадуючы Карла. Мабыць, таму добра папала ад кухара, інакш бы ён так не адварочваўся ад Петрака, калі той выйшаў на прыступкі і венічкам пачаў замятаць ля парога. У гэты час ад гасцінца даляцеў знаёмы нутраны вуркат, ранішняя машына, кулдыхаючы з боку на бок брызентавай будай, заварочвала да сядзібы. Пятрок з венікам кінуўся ў сенцы.

— Едуць! Баба, ці чуеш?!

Хапаючы штось на хаду, Сцепаніда выскачыла з хаты і прычыніла дзверы, яны абое стаіліся за шулам у сенцах і чакалі. Машына цяжка пхнулася па вузкай дарожцы і, як і раніцай, спынілася ў варотцах. Пятрок чакаў, што нехта выйдзе адтуль, але спярша там штось лязгнула, а пасля з той брызентавай буды пасыпаліся адзін за адным чалавек з дзесяць ці болей немцаў. Апрануты яны былі хто ў чым: у мундзірчыкі, нейкія курткі, двое ў плямістыя хвастатыя накідкі, і кожны з зялёным пляскатым кацялком у руцэ ці прышпіленым да дзягі. Зброі чамусьці ў іх не было відаць. Немцы не памкнулі да кухні, ля якой застылі абодва кухары, трохі часу яны папраўлялі дзягі, куртатыя свае пілоткі — пэўна, чакалі каманды. Тым часам з кабіны вылез чалавек у чорным цыратавым плашчы і высокім, як грэбень у пеўня, картузе з нейкаю белай адзнакай над казырком. Ён нешта сказаў перахлябістаму кухару, які паслухмяна цепнуў плячыма, нібы скалануўся, і толькі затым расслабіўся. Мусіць, то быў нейкі дазвол ці каманда.

— Ахвіцэр, — здагадаўся Пятрок.

Сцепаніда стала бліжэй да шула і маўчала, зышоўшыся ў страхавітай увазе да ўсяго, што рабілася на падворку. Але асабліва страшнага там пакуль не было нічога, салдаты абступілі кухню, і над іхнімі галовамі матлянуўся доўгі тронак кухарскага чарпака — пачыналася раздача абеду. Гэтаксама, як ля ракі ўлетку, калі на прывале харчаваліся нашыя чырвонаармейцы перад тым, як адступіць на ўсход. Цяпер ля калодзежа шчыльненька тоўпіўся тузін немцаў, нешта весела гергеталі і смяяліся, некаторыя спаласквалі кацялкі ля вядра, што стаяла пад тынам. Толькі афіцэр адышоўся воддаль, на сярэдзіну падворка, і, пазіраючы кудысь на страху хаты ці істопкі, дастаў з кішаня галіфэ тоненькі бліШчасты партабак. Пакуль ён закурваў, Пятрок хацеў злавіць яго позірк, але вачэй афіцэра зусім не было відаць за шырокім, як конскі капыт, казырком картуза. Немец прыкурваў, паводзіў сюды-туды галавой, а побач усё нешта тлумачыў яму знаёмы кругленькі фельдфебель, паказваючы наўкола рукой. Мусіць, гэтая яго рука тыцнулася ўрэшце на дзверы, і тады афіцэр згледзеў у сенцах гаспадароў і чуйна знерухомеў паставай. Пятрок тузануў за плячо Сцепаніду.

— Глядзі, ідуць!

— Хай ідуць.

Але чорт ведае, што было ім рабіць — стаяць ці хавацца, ці, можа, выйсці і сустракаць гасцей на парозе. Пятрок разгубіўся трохі і калі, згробшы з галавы кепку, сунуўся на парог, немцы ўжо ступілі на камяні насустрач. Тады ён падаўся назад, у сенцы, адступіў задам да істопкі, утаропіўшыся ў твар афіцэра, каб зразумець, з чым — благім ці добрым — ідзе той у гэты іх дом. Ды толькі на яго маладжавым, добра паголеным твары нічога не было, апроч хіба спакою і камандзірскае цвёрдасці, цёмныя вочы яго пад чорнымі брывамі толькі безуважна слізганулі па гаспадарах, даўжэй затрымаліся на змрочным падстрэшшы сенцаў; вяртлявы фельдфебель ужо расчыняў дзверы ў хату, і афіцэр нетаропка пераступіў парог. Дзверы за сабой яны не зачынілі, Пятрок чуў з сянец, як яны там не доўга пагаманілі аб чымсьці, але галасы былі сцішаныя, быццам спакойныя. Пасля з ранейшай дзелавой мітуслівасцю фельдфебель высунуўся з дзвярэй і некага таропка гукнуў з падворка («ком, ком»), два салдаты, грукаючы цяжкімі ботамі, кінуліся да ганка, фельдфебель нешта загадаў ім, тыя згодна

азваліся: «Яволь, яволь!» — і зноў бягом падаліся да вялізнай машыны пад ліпамі. «Аднак дысцыпліна!» — зважліва падумаў Пятрок, не цямячы яшчэ, што ўдумалі тыя, у хаце. Але зараз усё стала панятна — салдаты валаклі з машыны складныя жалезныя ложкі — бліщчастыя спінкі, плеценыя з металічных палосаў сеткі, нейкія пакункі, мабыць, з бялізнай і коўдрамі. Пятрок яшчэ адступіў да істопкі, каб не замінаць, і яны, порстка бегаючы, пачалі ўладкоўваць новы ўтулак у хаце, па не высахлай яшчэ падлозе соўгалі лавы, стукалі ложкамі. Да яго са Сцепанідай ніхто не звяртаўся, і Пятрок пачаў спакайнець трохі — можа, усё будзе добра. Ведама, папрацавалі, прыбралі ўсё як след, мабыць, будуць давольны. Але толькі ён падумаў так, як з-за шула ў дзвярах паявіўся вяртлявы фельдфебель, які, нібы маламу, кіўнуў яму пальцам:

— Ком!

Адчуўшы раптоўную слабасць у нагах, Пятрок увайшоў у хату, у якой пад абразамі на месцы адсунутага ўбок стала ўжо стаяў сабраны бліщчасты ложак з клумкам бялізны на сетцы; з другім яшчэ поркаўся малады мізэрнага выгляду немчык. Мусіць, да Петрака ў іх з'явілася нейкая патрэба, бо афіцэр, расставіўшы ногі, пазіраў на яго ва ўпор. Іх позіркі сустрэліся, і сэрца ў Петрака здрыганулася ад прадчування блізкай бяды.

— Вас іст дас? — з напятай пагрозай у голасе сказаў афіцэр, тыцнуўшы пальцам кудысь у сцяну, абклееную зрудзелымі, сям-там прадранымі ўжо газетамі. Пятрок толькі зірнуў туды, як адразу змярцвеў ад страху — на самым відавоку, дзе дагэтуль вісеў кажух, цямнеўся на газеціне здымак Першамайскага свята ў Маскве і на ім — партрэт Сталіна.

— Вас іст дас? — сцішана паўтарыў немец.

Пятрок усё зразумеў і маўчаў: бо што ён мог ім сказаць? Ён толькі з прыкрасцю пры сабе вылаяўся — трэба ж было так не даглядзець! Шаравалі падлогу, стол, прыбіралі ў кутках, а на сцены не пaглядзелі нават. А цяпер во, расплата...

— Сталін, паночку, — запалым голасам урэшце выціснуў з сябе Пятрок, гатовы да ўсякай кары.

— Сталін карашо?

— Ну, ведаеце... Мы людзі простыя... Каму карашо, каму не надта... — паспрабаваў выкруціцца Пятрок, падумаўшы пры сабе: каб цябе маланка забіла, чаго ты да мяне вяжашся?

Позірку, аднак, ён не адрываў ад афіцэра, апасліва стараючыся зразумець, што будзе далей, якая спасцігне яго кара.

У цёмных вачах афіцэра бліснула гняўлівая строгасць, хоць цвёрды чарнявы твар заставаўся ранейшы — спакойна-няўрымслівы, але рука пацягнулася на жывот, дзе злева ад спражкі грувасцілася тоўстая скураная кабура. Рука гэта з блішчастым вузкім пярсцёнкам на пальцы нетаропка расшпіліла язычок кабуры і ашчаперыла чорную рукаяць пісталета з тонкім даўгаватым ствалом.

«Ну, ўсё! — панына падумаў Пятрок. — Як жа недарэчна, аднак... Каб хоць сказаць што Сцепанідзе...»

З ранейшаю неспяшлівасцю немец апусціў руку, другой дужа тузануў пісталет, у якім нешта касцяна шчоўкнула, і рука пачала паднімацца ўгору, паўз Петрака. «Зараз паверне!» — падумаў Пятрок і ўжо склаў пальцы, каб перахрысціцца напаследак, як ствол на секунду знерухомеў і ў хаце грымотна бабахнула.

Петрака аж хіснула ад страху, вакол засмярдзела порахам, і сіні смярдзючы дымок ціха паплыў да акна.

У сцяне на сярэдзіне здымка чарнелася круглая дзірачка. Каб не спазніцца пасля, Пятрок загадзя і таропка перахрысціўся, гатовы да ўсяго найгоршага.

— Капут! — холадна зазначыў немец і, чамусь дзьмухнуўшы ў ствол пісталета, запіхаў яго ў кабуру. Твар яго зноў не азначаў нічога, вочы холадна свяціліся пад шырокім казырком-капытом. Сам не свой ад страху, Пятрок стаяў ля акна, пакуль фельдфебель ззаду не дужа моцна, але настойліва не штурхануў яго ў плячо.

— Вэк!

Ён хістка пераступіў парог, ледзь паднімаючы ацяжэлыя ногі, сунуўся ў істопку. У яе пыльным прыцемку аслупянела стаяла Сцепаніда.

Пятрок знясілена прытуліўся да яе пляча.

## 7

Паснедаўшы з кацялкоў на падворку, немцы трохі патаўкліся каля свае кухні, пагергеталі, пакурылі і зноў пасядалі ў машыну. На гэты раз з імі паехаў фельдфебель — афіцэр зачыніўся ў хаце, і яго не было чуваць, мабыць, нешта рабіў або спаў. Пятрок, звесіўшы галаў, сядзеў ля жорнаў у істоп-

цы і не курыў нават — мусі, пасля таго, што здарылася, не памагло б і курыва.

Сцепаніда спакваля аклемалася ад спалоху і ціхенька стаілася ў паўзмроку збоч ад акенца, чуйна ўслухоўваючыся ва ўсё, што рабілася на падворку. Але, пэўна, на падворку засталіся адны толькі кухары, іншыя з’ехалі ўсе на мост. Тады з нейкаю насцярогаю ў душы яна выйшла ў сенцы, яшчэ трохі прыслухалася — за дзвярыма ў хаце нібы ўсё вымерла, не чутна было ніводнага гуку. Мабыць, прыдаўся момант пакарміць парсючка, а то яшчэ зарохкае па-дурному і тады не ўберажэш — забяруць. Падумаўшы так, Сцепаніда нарэзала ў чыгунок трохі бульбы, трохі пасыпала абмешкі, дадала яшчэ ўчарашняй варанай, усё перамяшала. Цяпер трэба было неўпрыкмет аднесці чыгунок у застаронак.

— Пётра, глянь там, — шэптам сказала яна мужу, але той не скрануўся нават. — Чуеш?

— Ат!.. Не ўберажэш! Усё роўна...

— Як гэта — усё роўна?..

Яны ціха перагаворваліся так у істопцы, але нядаўні стрэл, мусіць, так скалануў нутро Петрака, што той быў нібы сам не свой. Нібы ў гарачцы ці якім здранцвенні. Іншы раз яна б насварылася на яго, але цяпер не было як сварыцца, ды і разумела: хапіла страху старому, і Сцепаніда хуценька глянула з сенцаў.

На падворку было пуста ўжо, толькі ля кухні, угнуўшыся цераз край, замываў кацёл Карла, яго злы кухар стаяў ля скрынак спіной да хаты і нешта калупаўся ў іх. Відаць, можна было выйсці — ці мала што магло быць у яе чыгунку, якая ім да гэтага справа?

Яна так і зрабіла — ціхенька шмыганула за істопку і па дрывотні ў зараслы дзядоўнікам гародчык. Парсючок, малайчына, нават не азваўся на яе крокі, толькі заварушыўся ў саломе, як яна пачала расчыняць нізкія дзверцы. Каб не затрымлівацца дужа, яна паставіла цераз парог чыгунок і сахой падперла дзверцы застаронка.

Парсючок памалу варушыўся сабе за дашчанай сцяной ды троху пляцкаў, амаль не падаючы голасу, а яна стаяла ў дзядоўніку і думала. Усё ж, чула яе душа, не дужа надзейны тут схоў, асабліва калі столькі людзей на падворку — выйдзе каторы хоць бы па патрэбе за рог і ўчуе. Во, ды яшчэ і куры! Неяк яна не падумала пра іх, і тыя сноўдалі цяпер па-пад

плотам, за сцяной хляўка, дзядоўніку — нешта шукалі сабе, дзяўблі. І яна не ведала, як лепей: ці заперці ўсіх разам іх у хляўку, ці адагнаць куды ад сядзібы. Як бы тыя не палавілі іх, мусіць жа, не сляпыя, убачаць.

Але курэй пакуль што яна ратаваць не стала — болей баялася за Бабоўку, якую гэты раз кінула ў кустоўі разам з Янкавым статкам. Яна спалохалася, каб Янка не пагнаў статак на Выселкі, бо ўжо вечарэла, неба так і не выбавілася з-пад хмар, якія спрэс прыдушылі яго, нізка налеглі на шэры прастор і амаль не рухаліся з месца. Добра яшчэ, што было не сцюдзёна, учарашні вецер аціх, але ў мокрай траве было дужа няўтульна нагам, калі Сцепаніда выйшла з гарода. Па трохі прабітай у бульбянішчы сцежцы яна падалася на ўзровак і там узяла ўбок, таксама слабенькаю ў траве сцяжынкаю пад мокрым, пацярэбленым слатой хмызняком. Амаль подбегам шыбуючы па краі поля да Баранняга Логу, яна думала, што, мабыць, настане і горшае, што адным толькі перасяленнем у істопку не абыдзецца. Калі яны пастаяць на сядзібе доўга, дык ці мала што можа здарыцца, а гаспадарку абяруць датла, гэта ўжо пэўна. Як тады жыць? Як засцерагчы ад іх кароўку, парсючка, курачак? Збажыну якую ці бульбу, можа, не возьмуць, нашто ім, але дровы папаляць. Хіба назапасіш тады без каня? А як быць зімой?

Клопату было шмат, як і трывог, кепскае прадчуванне грызла душу, але знешне Сцепаніда трывала і выглядала спакойнай. Яна была не з тых баб, што па першай бядзе кідаюцца ў слёзы, яна прадчувала, што бедаў будзе зашмат для яе небагатых, некалі добра ўжо выплаканых слёз, што трэба паашчаджацца на хваляванні.

Яначкаў невялікі статак яна згледзела ў кустоўі непадалёк ад дуплістай калоды паваленага дуба на самым узлеску. Каровы паціху шамацелі кустоўем, а Янка, прыхаваўшыся за ялінкай, чакаў яе і, як згледзеў, нешта горача загаманіў, усё паказваючы ў поле. Можа, ён што бачыў там? Але, здаецца, цяпер там было пуста, пара было гнаць жывёлу дадому. Сцепаніда адлучыла Бабоўку ад іншых, і тая ахвотна скіравала па сцежцы да хутара. Тут толькі Сцепаніда спахапілася, што нічога не ўзяла Янку, ды і сама яна сёння не мела крошкі ў роце. Янка на развітанне загергетаў незразумела і ўзрушана, замахаў рукамі і толькі напаследак няўмела вымавіў два трывожныя словы, якія цяпер былі зразумелы кожнаму:

— Пук! Пук!

Сцепаніда не стала дапытваць, пра што ён хоча сказаць, і хуценька пагнала хварасцінай Бабоўку — пакуль на сядзібе не было немцаў, трэба было паспець падаіць карову.

Трохі прыпацеўшы нават у калянай хусцінцы і пад ватоўкаю, яна дагнала карову да плота каля бульбянішча і зразумела, што прыпазнілася. На падворку пад ліпамі ўжо высіўся брызентавы верх машыны і чулася гамана, нязвыклае, нянаскае гергетанне, паасобныя выкрыкі, здаецца, там штось адбывалася. У недаўменні яна прыпынілася, Бабоўка падняла галаву і замарудзіла крок. Над парканам было відаць, як немцы, таўкучыся купкаю, цягнулі з машыны нешта груваасткае і цяжкое, і адзін, мабыць, заўважыўшы яе за плотам, радасна-гарэзліва закрычаў цераз гарод:

— О, матка, млеко!

Рабіць не было чаго, яна ціха сцебанула хварасцінай Бабоўку, тая пераступіла ніжнюю жэрдку ў плоце і звыклым шляхам пайшла сцяжынай да падворка.

На падворку адбывалася тое, чаго Сцепаніда найболей баялася: немцы ўсталёўваліся надоўга. Вывалакшы з машыны груваасткую шэрую брызенціну, яны распіналі яе на коллі ля тыну на нетаптанай мураве падворка, таўкліся там усёй грамадою, расцягвалі вяроўкі, забівалі ў зямлю кароткія калкі. Двое па краях дужа ўперліся ў зямлю, амаль легшы на падворак, — цягнулі вяроўкі, і шэры брызентавы дах падатна напяўся, утварыўшы вялізную, ледзьве не з хату, будыніну.

На дрывотні стаяў згорблены Пятрок, трохі захінуўшыся за вугол, пазіраў, што рабілася на падворку, і, згледзеўшы жонку, роспачна развёў рукамі. Але Сцепаніда не азвалася. «Чорт з імі, — падумала яна, — там яны замінаць будуць найменей». Ёй абы не займалі гэты канец падворка, дзе былі хлеў, курыны катушок, дрывотня, праход да застаронка. Ды, мусіць, тут для іх брудна, ім патрэбна чысцей. Той, вышэйшы за гэты, канец двара, натуральна, быў і чысцейшы.

Бабоўка, мусіць, не горш за гаспадароў адчувала небяспеку ад гэтых людзей і толькі паткнулася выйсці з дрывотні, як нерашуча стала, задрала галаву і чмыхнула — яна ці баялася. Сцепаніда зайшла наперад, пагладзіла кароўку па цёплай казытлівай шыі.

— Ну нябось... Ідзі, ідзі...

— Млека! Млека! — п’яна закрычаў хтосьці між немцаў, і не паспела яна з кароваю падысці да варотаў хлява, як памочнік кухара Карла, валюхаючы на сваіх караткаватых асадзістых нагах, ужо нёс шырокае бляшанае вядро. Ад кухні пазіралі сюды чалавекі тры і сярод іх той кругленькі рыжаваты фельдфебель, які і цяпер там мітусіўся, нешта крычаў ці камандаваў.

Звычайна яна, як даіла, кідала Бабоўцы які ахапак травы ці атавы, тады тая стаяла спакойней і лепей аддавала малако, — цяпер жа ў яе нічога не было пад рукамі, а немцы, мяркуючы па ўсім, чакаць не мелі намеру. Яна хацела сказаць Петраку, каб прынёс што, але перадумала: хай! Нешта ў ёй пыхнула злосцю і зашчапілася ад гэтай іх бесцырымоннасці — быццам яна павінна забяспечваць гэтую зграю малаком ад свае каровы, — хай бы пашукалі дзе яшчэ кароў. Бабоўка між тым, таксама нібы разумеючы ўсю меру нахабства няпрошаных гасцей, перабірала нагамі і ўсё азіралася на той бок падворка, калі Сцепаніда прысела да яе. Бабоўцы тое таксама яўна было не па нораву, карова пераступала, хвалявалася, Сцепаніда адчувала гэта, і яе абурэнне ўсё расло ўнутры. Усё ж яна неяк нацыркала паўвядра малака і ўстала ад каровы. Карла са скурана зашмальцаваным каўняром мундзірчыка стаяў побач, на яго азызлаватым твары не было нічога, апроч цярплівага, абыякавага чакання.

— Во, болей няма! — сказала Сцепаніда, аддаючы яму вядро.

Немец моўчкі ўзяў і, валюхаючы, панёс да кухні. Да Сцепаніды неяк бокам падступіў Пятрок, азірнуўшыся, ціха зазначыў:

— Але ж... Мабыць, замала. Каб іх...

— Хопіць! — рашуча сказала яна і шлёпнула карову па азадку, скіроўваючы яе ў хлеў.

І ў той час ад кухні раздаўся такі злы вокліч, што яна здрыганулася:

— Хальт! Ком!..

Гэта ўсё той фельдфебель, ён аж счырванеўся ад нейкага абурэння і, пакуль Сцепаніда пацяміла, чаго ад яе хацелі, з вядром у руках прыкаціўся ледзьве не ўпрытык да яе. Нешта хуценька і злосна гамонячы, ён тыцкаў у яе вядром, яна слухала і ўжо разумела, што малака было мала.

— А дзе я вам вазьму болей? Усё.

— Аллес?

Кругленькі фельдфебель яшчэ нешта пралямантаваў да яе, пасля порсценька павярнуўся да кухні, знайшоў там кагосьці позіркам і тузануў галавой — ком! Усё той жа Карла, па-ранейшаму нетаропка і валюхаста, прытупаў да фельдфебеля, узяў вядро, нерашуча падышоў да каровы, якая ўстрывожанымі вачыма няўцямна пазірала наўкола. Калі ён наблізіўся да яе задніх ног, яна пераступіла і стала да яго бокам. Карла змушаны быў зноў абыходзіць, і фельдфебель крыкліва вызверыўся на Петрака — той спалохана ўхапіў Бабоўку за рогі.

Сцепаніда ўжо разумела, што зараз будзе, і плюнула на падворак. Ёй было страшнавата ад таго, што яе падман, мусіць, зараз адкрыюць, і разам стала агідна: салдат браўся даіць, а яе дурань Пятрок змушаны быў яму памагаць. Бедная Бабоўка, што яны зараз зробяць з ёй, вочы б яе не глядзелі на тое. Але так, яны ўжо даілі — раскарачаны Карла гнуўся пад карову, зазіраючы на каровіна вымя, у вядры ўжо зацуркала з сісек, Бабоўка перабірала нагамі, ненастойліва памкнулася вывернуць рогі, ды, мусіць, Пятрок трымаў моцна. Сцепаніда ўся напялася ад маўклівае злосці, стаяла зводдаль і не ўзнімала позірку з долу. Але яна ўсё бачыла і нема слала праклёны гэтым чужынцам, а найбольш гэтаму рыжаму фельдфебелю, які напяўся і сачыў за ўсім, што рабілася ля каровы. Нарэшце праз якіх хвілін пяць яна зірнула ў вядро і сцялася яшчэ болей: тое поўнілася ўжо да берагоў. Ах ты, дурная Бабоўка, нашто ты аддаеш ім! Але мусіш аддаць, Бабоўка таксама баялася, баяўся Пятрок, падкурчаныя ногі якога ў суконных, залапленых на каленях штанах дробненька падрыгвалі, калі ён з натугай утрымліваў карову! Сцепаніда таксама баялася — ведала, дабром гэта не скончыцца.

— Генуг! — раптам скамандаваў фельдфебель — вядро было поўнае. Карла выпрастаўся і асцярожна, каб не разліць, паставіў малако перад начальствам. Фельдфебель з лютасцю ў скіраваным на яе позірку тужэй сашчапіў пульхныя пашчэнкі.

— Ком!

Яна ўжо ведала, што азначае гэтае слова, і памалу падышла да яго, спынілася за два крокі, не могучы адарваць позірку ад вядра, у якім зверху ціхенька гойдалася малочная пена. Яна чакала крыку, пагроз, але рыжы фельдфебель не крычаў, ён толькі пасунуў наперад да спражкі сваю кабуру.

— Паночку! — раптам чужым тонкім голасам закрычаў Пятрок і каленямі бухнуўся на непрасохлы пасля дажджу дол. — Паночку, не трэба!

Тут толькі яна зразумела, што немец хоча дастаць свой рэвальвер, і сэрца яе непрыемна скаланулася ў грудзях. Але яна не скранулася з месца, яна толькі сачыла, як ён нешта няўмела поркаецца там з рэвальверам, не можа яго адшпіліць, ці што. Пятрок і яшчэ заекатаў, пасунуўшыся бліжэй на каленях, з пакамечанай шапкай у руках, сівы, няголены і няшчасны. Яна ж стаяла, як адзервянеўшы, нібы непадуладная смерці, хоць і гатовая да яе кожную секунду. Але замест рэвальвера немец урэшце адшпіліў нейкі белы даўгаваты ланцужок, і, перш чым яна паспела што зразумець, пякельны боль аперазаў яе плячо і шыю. Яна ўскінула руку, тады дужа апякло пальцы на руцэ, ляснула па спіне, добра, што на плячах была ватоўка, праз яе было не так ужо і балюча. Фельдфебель нешта злосна крычаў і яшчэ некалькі разоў выцяў яе, але найбольш балелі пальцы пасля другога ўдару, спіне ж было амаль не балюча. Тым болей яна знайшла, як захінацца ад яго ўдараў — не пальцамі, а болей локцем, і ён, лупнуўшы з усяе сілы яшчэ разы два, мусіць, зразумеў, што надта яе не праймеш. Тады ён апусціў ланцуг і крычаў, ад натужнае злосці чырванеючы белабровым тварам, але яна, бы глухая, не слухала яго крыку і не хацела разумець яго. Краёчкам увагі яна адчула, як там, ля палаткі і ля кухні, нешта кпліва ржалі два ці тры немцы — мусіць, тое, што вытваралі з ёй, здавалася ім надта смешным, мусіць, для іх гэта было вясёлай забавай. Што ж, гагачыце, праклятыя, забаўляйцеся, падумала яна, біце няшчасную жанчыну, якую няма каму абараніць. Але ведайце: у гэтай жанчыны ўсё ж ёсць сын-салдат, ён вам папомніць. Хай не цяпер — прыйдзе час, пасквітаецца за матчыны боль і знявагу. І ты ўстань, Пётра, нягожа поўзаць перад імі на каленях. Хай! Пабілі яе, як якую прыблуду, на сваім жа двары, пад смех і гогат, але яна сцерпіць. Цярпі і ты.

Пякучым болем гарэлі шыя пад вухам і пальцы на левай руцэ, калі яна марудным крокам, прыдушаная невыказнаю крыўдай, пайшла на дрывотню, каб засланіцца ад іх нахабных вачэй, а можа, і заплакаць. Але каб яны не бачылі. Дужа хацелася заплакаць, калі б былі слёзы. Шкада, у яе даўно не было слёз, быў толькі гнеў, прыдушаны і ледзьве падуладны ёй, ад якога найперш ёй самой было дужа нясцерпна. Ну

але хай, суцяшала яна сябе, хай! Яшчэ пабачым. Можа ж, не застрэляць да вечара, яшчэ пажывём трохі...

8

Усю ноч да золаку Пятрок курчыўся на сваіх мулкіх дзежках пад кажушком, стараўся заснуць. Спярша ўсё слухаў, што рабілася на падворку, дзе хоць і сцямнела, але не было спакою: чулася незнаёмая гамана, вокрыкі, смех — чамусь дапазна там не было ўгамонку. У сенцах раз за разам грукалі дзверы, там усё бегалі ў хату і з хаты, бразгалі посудам, мусіць, частаваліся камандзіры. Спакваля, аднак, усё сціхла, немцы паснулі, але Петрака ўсё роўна не брала на сон; гаротна і неадчэпна думалася: што ж гэта будзе? Гэта ж паслаў Бог кару на двaіх старых — за што толькі? Пятрок хацеў запытаць аб тым жонку, але на ягоны здаўлены шэпт яна не азвалася, а гукаць да яе мацней ён не адважыўся: ён ужо быў навучаны і баяўся нават у сваёй хаце. Цяпер дык, мусіць, самы раз і было баяцца.

На золаку ён усё ж задрамаў, здалося, зусім трошкі, і ўбачыў дурны сон пра пацука. Пад жорнамі ў істопцы здаўна была шырокая пацукова нара, з якой цяпер высоўвалася нейкае дзікае стварэнне з клыкастаю, нібы ў дзіка, зяпай, Пятрок шпурляў у яго венікам, затым пароў туды даўгім кійком, ды марна: пацук хаваўся, каб затым вылезці зноў і пагрозліва зяваць сваёй клыкастаю зяпай, не то пагражаючы, не то пацяшаючыся з людзей. Урэшце Пятрок ухапіў ля парога паржаўлены стары калун і шпурлянуў ім па нары ў куце, але, мусіць, зачапіў жорны, і тыя з грукатам грымнуліся ў куце, дзе стаялі, толькі закурэў пыл у істопцы.

Пятрок тут жа прачнуўся, адразу цвяроза зразумеўшы, што грымнула дзесь наяве і побач. У істопцы было віднавата, займаўся ранак, на шархоткай земляной падлозе пасярод істопкі відаць былі ягоныя апоркі, жорны стаялі сабе на месцы ў куце, а Сцепаніды на тапчане пад акенцам чамусь не было, ляжаў толькі ўмяты яе сеннічок. Пятрок, як быў босы, сігануў да акенца з замурзаным, у павуцінні шкельцам, праз якое, аднак, убачыў падворак з кухняй і там злоснага кухара, які стаяў з узнятаю ў руках вінтоўкаю. Якраз у той час ён ляснуў затворам, выкінуў на траву гільзу і пайшоў кудысь у варотцы. Вінтоўку жоўтаю раменнай почапкай павесіў на тын ля кухні.

Спалохаўшыся ад думкі, ці не там Сцепаніда, Пятрок, босы, толькі накінуўшы на плечы кажушок, выскачыў на ганак: поруч з палаткі высунуўся немец, неапрануты, у помачах паверх сіняе майкі, але ў суконнай пілотцы на галаве, ён нешта крыкнуў кухару, ды той не адказаў за тынам. Зрэшты, праз момант усё стала зразумела, калі той паявіўся ў варотцах. У ягонай паднятай на паказ руцэ павісла распластаная варона, з яе разяўленай дзюбы капала кроў, і яна яшчэ слаба варушыла чорным, абвіслым крылом.

Пятрок кінуў позірк на хлеў — вароты былі ўжо расчынены, значыць, Сцепаніда пагнала ўжо Бабоўку. Гэта дало Петраку спакою — чорт яе бяры, тую варону, было не прылятаць, не каркаць — накаркалася на сваю галаву.

Ён зноў вярнуўся ў істопку, прычыніў ззаду дзверы. Цяпер ён баяўся выходзіць на падворак, каб лішне не назаляць ім, мусіць, трэба было сядзець тут, у гэтым старасвецкім сховішчы, бо дзе яшчэ было дзецца гаспадару на акупаванай сядзібе? І ён ціхенька, каб не грукнуць чым у паўзмроку, надзеў свае апоркі, тужэй захінуўся ў кажушок і стаў ля акенца. Хацелася курыць, але прыкурыць не было як, і ён цярпліва трываў, чакаючы немаведама чаго. Тым часам добра развіднела, папрачыналіся немцы, пачалі сноўдаць неапранутыя, у сподніх кашулях, блакітных і белых майках — то па патрэбе за хлеў, то курылі і па-фізкультурнаму разміналіся на падворку. Адзін у апушчаных на сцёгны помачах выцягнуў з калодзежа вядро вады, пачаў мыцца збоч ад кухні пад тынам. Там жа прыладзілі на тыне невялічкае люстэрка і галіліся нейкімі кароценькімі брытвамі. Адзін, што быў у акулярах і з высока падстрыжанай патыліцай, няспешна ходзячы па падворку, нешта цікаўна разглядваў на стрэхах, спыніўся перад дрывотняй і нешта каратка запісаў маленькім алоўвачкам у маленькай чорнай кніжачцы. Пасля прайшоў да хлява, зазірнуў у яго праз расчыненыя дзверы. Пятрок думаў, чагось шукае, але, мабыць, ён не шукаў, а таксама дастаў з бакавога кішаня сваю кніжачку і штось запісаў. «Вучоны, — падумаў Пятрок. — Толькі што там глядзець, у тым хляве?» Ён усё чакаў, калі яны збяруцца ды паедуць на мост, мусіць жа, трэба было працаваць. Але ішоў час, ужо добра парыла кухня, ад якой патыхала нейкім незнаёмым і смачным пахам, а яны ўсё таўкліся на падворку, відаць па ўсім, не спяшаючыся з працай. Дый фельдфебеля яшчэ не было відаць, як, зрэшты,

і таго іх галоўнага афіцэра — мусіць, абодва спалі ў хаце, бо ў сенцы яшчэ ніхто не заходзіў ад рання.

Займаўся лагодны, зусім не па-восеньску цёплы ранак. Недзе за тонкай смугой аблокаў блукала гатовае вось-вось выглянуць сонца. Немцы зусім парасправаліся, скінулі шынялі, а то і мундзіры. Адзін з гладкай, рудой ад загару спінай доўга мыўся ля студні, стоячы толькі ў трусах ды ботах, другі паліваў яму з кацялка, і абодва, па-маладому бесклапотна рагочучы, пырскаліся вадой. Злы кухар, апрануты сёння ў кароценькую белую куртачку, і Карла шчыравалі ля кухні: Карла, прыгнуўшыся, пароў у невялічкую топку, а кухар нешта мяшаў у катле з адкінутым вечкам. Забітую ім варону двое ўжо апранутых, але без пілотак немцаў ладзілі на вышэйшы калок у паркане, неяк склалі ёй крылы, каб было, нібы ў жывой, але мёртвая галава птушкі не трымалася роўна і ўсё падала дзюбай набок. Тады адзін прынёс з машыны тонкую драціну і неяк прымацаваў там галаву, хоць усё роўна было відаць, што варона забітая. Ён толькі адышоўся, азіраючы сваю работу, як у сенцах бразнулі дзверы, Пятрок насцярожыўся, зазіраючы наўкось у акенца, — на камянях пры парозе ўжо стаяў афіцэр, таксама ў расшпіленым кіцелі, без шапкі, з ускалмачанай чорнай чупрынай. На момант афіцэр агледзеў падворак, на якім неяк адразу падабраліся, пацішэлі салдаты, і нешта сказаў таму, што стаяў ля вароны. Той адказаў, заўсміхаўшыся ўсёй сваёй маладою круглаватаю мордаю, і адышоўся ўбок.

Пятрок прыпаў шчыльней да бервяна, каб згледзець, што будзе далей, але, мусіць, і так усё было зразумела. Афіцэр ужо цэліўся з ганка ў варону, тонкі ствол яго пісталета трохі варушыўся ў бакі, пакуль ён лавіў варону на мушку, пасля знерухомеў, знянацку ляснуў кароценькі стрэл — з птушкі над тынам паляцела пер’е.

— Браво! Браво! — заляскалі ў далоні немцы, што мыліся ля калодзежа, і адзін з намыленымі шчокамі ўбаку, і яшчэ нехта, каго Пятрок не мог згледзець з акенца. Тады афіцэр прыцэліўся яшчэ, і яшчэ лопнуў стрэл, на гэты раз куляй у вароны адарвала ўсю галаву з дзюбаю. «Браво!» — сказаў нехта спазнела. Афіцэр задаволена схаваў пісталет і пайшоў да кухні, на хаду апранаючы ў рукавы кіцель. Аднекуль да яго падскочыў вёрткі фельдфебель, і яны пачалі размову, якую Пятрок ужо не мог зразумець.

Тут, стоячы ля акна, ён учуў іншае, ад чаго на момант збянтэжыўся, не ведаючы, што рабіць. Там, за сцяной істопкі, дзе быў невялічкі садок, трэслі яблыню — аж шамацела лісце і, чутна было, густа падаючы, важка грукалі аб зямлю яблыкі, мусіць, яго антонаўкі, якія ён цярпліва спяліў на зіму. Крыўда знянацку апаліла яго, і Пятрок, забыўшыся на асцярогу, памкнуў з істопкі — усё ж гэта быў непарадак — хіба так можна рабіць? Ну, адшчыкнулі б пяток ці дзесятак яблыкаў, хай бы наклалі пару гэных пілотак — нашто ж так самавольна абтрасаць усё дзерава? І гэты афіцэр, хіба ён не крыкне на іх?

Падхоплены раптоўнаю крыўдай, Пятрок выбег праз расчыненыя дзверы з сенцаў і паўз вокны каля палаткі, прысунутай да самае прызбы, шаснуў у гародчык. Канешне ж, так яно і было. Адзін немец, раскарачыўшыся ботамі ў тоўстым галлі, сядзеў на яблыні і трос сук, спелыя яблыкі з важкім лопатам сыпаліся на грады ў бурачнік, дзе іх збіраў у шапку рыжагаловы мізэрнага выгляду немчык. Пятрок стаў на ўзмежку і ўтаропіўся ў іх дакорлівым позіркам. Але яны нават не зірнулі на яго, быццам ён быў нейкае дрэва, а не гаспадар хутара.

— Усё ж нядобра так, — крыху памаўчаўшы, сказаў ён. — Я ж вашаму афіцэру пажалюся. Нядобра, паны немцы.

Той рыжанькі, зусім яшчэ хлопчык з выгляду, выпрастаўся, неяк зладзеявата зыркнуў на яго і, хіхікнуўшы, замахнуўся надкушаным яблыкам. Пятрок ледзьве паспеў адхінуцца, і яблык, ударыўшыся ззаду аб сцяну, адскочыў у крапіву.

— Зладзюгі вы! — сказаў Пятрок амаль у адчаі. — Ну, пачакайце!..

Ён павярнуўся з рашучасцю паскардзіцца афіцэру, але ў той час ля хляўка ляснулі запар два стрэлы, і са здзічэлым кудахтаннем кінуліся цераз плот куры. Пятрок, згубіўшы ў баразне апорак, застыргікаў да хляўка па гэты бок істопкі. Стрэл ударыў яшчэ адзін раз, і цыбаты немец з дрывотні, спрытна пераскочыўшы цераз плот, з растапыранымі рукамі кінуўся ў быльнёг. Ззаду ля старой калоды стаяў з рэвальверам у руцэ фельдфебель, ён ажывела гергетаў нешта, звяртаючыся да двух ці трох немцаў, і тыя скалілі белыя зубы — смяяліся. Далей, назіраючы за ўсім, пахаджваў афіцэр у незашпіленым ад ранку мундзіры, з-пад якога паказвалася на дзязе скураная кабура.

Ураз страціўшы нядаўнюю рашучасць, Пятрок спыніўся — каму было скардзіцца? Тое, што рабілі салдаты, відаць, не было чымсь недазволеным, іх камадзіры, мусіць, былі такія ж. Мусіць, усё тое было ў іх заведзена, як у заваёўнікаў. Цыбаты тым часам пералазіў ужо цераз плот, у высока ўзнятай руцэ трымаючы за складзеныя лапкі курыцу, якая яшчэ роспачна біла ў паветры крыллем. Фельдфебель з рэвальверам у руках азіраўся па баках, мусіць, шукаў дзе яшчэ курэй. Але тыя пазашываліся са страху хто куды, ніводнай не было відаць на падворку. Пятрок памалу шкандыбаў на дрывотню, адчуваючы поўнае сваё бяссілле і нават не ведаючы, куды падацца цяпер, каб не быць у іх на вачах. Аднак ён ужо трапіў на вочы, фельдфебель апусціў рэвальвер, і ягоны пыхлівы твар ураз страціў вясёлае паляўнічае ажыўленне.

— Ком!

Ну канешне, зараз ён пачне чапляцца, можа, паб'е ці нават застрэліць яго — хіба ім доўга. Пятрок як быў, з адной босай нагой, сашкандыбаў з дрывотні і стаў на сушэйшым.

— Млеко! Варум нікс млеко?

Фельдфебель чакаў адказу, з ім побач стаялі яшчэ два немцы, сюды ж усё ў незашпіленым кіцелі з мноствам гузікаў на грудзях кіраваў афіцэр.

— Дык карова пасецца, — проста сказаў Пятрок, трохі дзівячыся гэтаму наіўнаму пытанню.

— Ком карова! Бістро! Ты поняль? — прагергетаў фельдфебель, і Пятрок падумаў: аднак жа далося ім тое малако. Ці ў іх няма чаго іншага жэрці, што яны так прычапіліся да малака?

— Ком карова! Нах хауз карова! Поняль?

— Паняў, — паныла сказаў Пятрок і павярнуўся назад да дрывотні. Трэба было ісці шукаць у парасніках Сцепаніду з Бабоўкай.

Тыя, у садку, ужо ўзлезлі на другую яблыню, з кіславатымі невялічкімі яблыкамі, якімі было густа абсыпана сучча, і латашылі іх там у кішэні і пілоткі. Двое іншых выглядвалі штосьці ў доле, сноўдалі на градах, топчучы не выбраныя яшчэ буракі і цыбулю. Цяпер Пятрок нічога не сказаў ім — хай хапаюць, хоць падавяцца. Ён знайшоў у баразне свой апорак і пайшоў разораю да раўка. Было пэўна ўжо, што ўся гародніна, садавіна ды і ўся гаспадарка пойдзе на скрут і

бурэнне, цяпер не ўберажэш нічога. Пашэнціла б уберагчы галаву.

Знарок ён ішоў нетаропка, думаў і слухаў, ці не грукне яшчэ стрэл на сядзібе, мусіць жа, адной курыцы ім будзе мала. І сапраўды, толькі ён дайшоў да беражка рова, як ззаду бахнула тры разы запар, Пятрок азірнуўся — не, адсюль не відно было, мусіць, стралялі па той бок сядзібы ці на падворку. Хай бы яны пастраляліся там самі, меней было б на свеце. Але, мабыць, сваіх не застрэляць, а курачак ці застанецца хоць на развод. «І глядзі, во так і не збіраюцца на працу, ладзіць той мост, — ці ў іх выхадны сёння, ці якое нямецкае свята?» — думаў Пятрок. Так хацелася яму сысці і не вяртацца на гэты хутар, тым болей што разгулялася добрае надвор'е, у небе праяснілася, стала прыграваць невысокае сонца, ветрык зайшоў з паўдня і зранку быў цёплы і ласкавы. Такое выдараецца не часта ўвосень. Можа, то зачыналася бабіна лета з яго спазнелай, скупой, але такой жаданаю радасцю ў прыродзе. Каб не гэтыя злыдні.

Аднак дзе ж было шукаць Сцепаніду?

Ён ужо прайшоў паўз кусты на ўзгорку, пастаяў ля белай, без кары калоды паваленага дуба, услухаўся. Сцепаніды нідзе не было чутна, і ён падумаў, што так не доўга спазніцца, што тады скажуць немцы? Яшчэ з той вайны Пятрок чуў, што ў войску не любяць, калі загады выконваюцца не бягом, не паспешліва, і бяда таму, хто не таропкі, марудны ці не дужа ўвішны. Дык то ж у сваіх, рускіх, а ворагі яшчэ болей крутыя: не патрафіш — стрэльнуць, як тую курыцу, і не трапянешся.

Добра набегаўшыся па зарасніках у Бараннім Лозе, ён не ўбачыў, а ўчуў Бабоўку, як тая паціху шамацела ў кустоўі акрай балацявінкі. Побач стаяла Сцепаніда. Нейкім ваўкавата-зласлівым позіркам яна здалёку ўперлася ў Петрака і насцярожылася, мабыць, адчуўшы нядобрае.

— Куды ўлезла! Ледзьве найшоў, — казаў ён, прадзіраючыся праз маладую гушчу асінніку. — Малака патрабуюць.

Сцепаніда хвіліну падумала, услухалася.

— Сказаў бы: няма. Учора ўсё зжэрлі.

— Сказалі прывесці карову. Мусіць, самі будуць даіць. Курыцу застрэлілі. Яблыні спрэс абтрэслі.

Сцепаніда спакойна, аднак, выслухала тыя невясёлыя навіны, нічога не запыталася, толькі паправіла ражкі хусткі на шыі.

— Скулля ім, — урэшце абвясціла яна Петраку і пайшла да каровы, якая тым часам адышлася воддаль у кустоўі. Пятрок падумаў, што яна забратае Бабоўку і яны хуценька павядуць яе дадому, але Сцепаніда рашуча прысела да вымя і ўзялася за сіські.

— Што ты ўдумала?

— Што бачыш.

Ну канешне ж, яна пачала даіць карову ў траву, і Пятрок аж спалохаўся.

— Але ж малако!..

— Скулля, сказала, а не малака.

«Мабыць, скулля», — падумаў ён спакваля, назіраючы, як белыя струмені малака з-пад яе рук б'юць у дробную, перасыпаную апалым лісцем траву. Ён ужо ведаў характар жонкі і разумеў, што Сцепаніду не перапросіш, асабліва такую, пакрыўджана-зацятую пасля ўчарашняга. І ён з пакораю моўчкі стаяў у кустоўі, пакуль яна не выдаіла карову.

— Да-а... Што рабіць?

— На во, вядзі. Хай дояць.

Сцепаніда накінула карове на рогі вяроўчыну, другі канец яе сунула Петраку ў рукі.

— Вядзі!

Ён павёў карову на ўзлесак да сцежкі, Сцепаніда ішла воддаль ззаду. Бабоўка, мабыць, мала што разумеючы з намераў гаспадароў, то ішла, то спынялася, хапала з-пад ног які шматок травы, мусіць, не напасвілася і не імкнула дамоў. Бы адчувала, што нічога добрага яе там не чакае, да вечара ж было яшчэ доўга. Пятрок з натугай пераступаў нагамі ў апорках, ён таксама непакоіўся, адчуваючы, што гэта ж зусім нягожа — прывесці карову без малака. Але што ён мог зрабіць — карова гэта ўжо не ягоная ўласнасць, гэта болей уласнасць жонкі. А пасля ўчарашняга Сцепаніда, канешне ж, пакрыўдзілася, і было ад чаго. Ён бы таксама пакрыўдзіўся, калі б яго так адсцябалі рэвальверным шомпалам — пакуль жа яго толькі палохалі. Аднак да спалоху і страху ўвогуле ён даўно ўжо прывык і, хоць палохаўся часта, навучыўся хутка спакайнець, інакш бы не ўтрываў у жыцці. Асабліва ў вайну.

Як нешта чуючы, Бабоўка зусім заўпарцілася і ад гарода не хацела ісці далей: упіралася нагамі, выкручвала галаву ў вяроўчыне, азіралася на гаспадыню. Пятрок пакрыкваў на яе, тузаў за вяроўку, але, пакуль ззаду не сцёбнула дубцом Сце-

паніда, карова не слухалася. Яшчэ ад рова стала чуваць, што немцы і не думалі вымятацца з хутара — гамана там стаяла ў самым разгары, чуўся смех, нешта мерна паціху бахала ў паветры. Пятрок угледзеўся ў антонаўку ля істопкі — толькі на вяршку яе засталося некалькі драбнейшых яблык, а так усё дрэва было абтрэсена; унізе звісаў да зямлі зламаны сук. Увесь іх гарод быў здратаваны ботамі, грады растаптаны; на агурэчніку сям-там відаць былі раздушаныя насенныя агуркі. «Во кара боская, — гаротна падумаў Пятрок. — За якія толькі грахі! І чаму гэта на мяне менавіта абрынулася такое? Хіба мала было ім гарадоў, мястэчак ці вёсак, нашто ім прыдаўся гэты Богам забыты хутар?»

Але, мусіць, быў трэба і хутар.

Яшчэ ў гародзе Пятрок сцяміў, што на падворку ішла гульня ў мяч — праз вокрыкі і гергетанне чуліся тугія ўдары па гуме. Неўзабаве здаровы, нібы гарбуз, мяч выкаціўся з-за хляўка, і за ім выскачыў распараны, ажывелы ад гульні немец, ці не ўчарашні знаёмец-шафёр? Ён каротка зыркнуў праз акуляры, падхапіў мяч і схаваўся на падворку за рогам хаты.

Пятрок прывёў на ўчарашняе месца Бабоўку і стаў, нічога не кажучы, чакаючы фельдфебеля, які ўжо зырыўся сюды ад кухні. Ён штосьці загадаў, і Карла з бляшаным вядром у руках павалюхаў да каровы. Дужа няёмка і страхавіта зрабілася Петраку, як ён згледзеў гэта вядро, падумаў: хоць бы сабралася што ў Бабоўкі, іначай будзе бяда. Чалавек пяць немцаў у расхрыстаных апратках і з узнятымі рукамі білі ўгору мяч, спрэс вытаптваючы мураву на падворку; нешта абмяркоўваў з кухарам кадоўбчык-фельдфебель, а Карла набліжаўся. Пятрок не выпушчаў з рук вяроўку, толькі падабраў яе карацей. Бабоўка па-ранейшаму боязна азіралася на немцаў і вялікімі бухматымі вейкамі міргала на кожны ўдар па мячы. Карла, як і ўчора, прысеў пад ёй і, снуючы выпнутымі локцямі, пачаў даіць.

Ды, мусіць, доўга даіць не было чаго, карова не хацела стаяць, хоць Пятрок і трымаў яе, переступала і тузалася. Праз якую хвіліну Карла падхапіў пустое вядро і выпрастаўся. Як здалося Петраку, ён занепакоена зірнуў на яго, пасля азірнуўся на дрывотню, дзе паказалася і прапала кудысь Сцепаніда, пасля прагергетаў штосьці да фельдфебеля. Той рашуча скіраваў да кухні.

— Вас іст дас? — запытаў ён, паказваючы на вядро. — Варум нікс млеко?

— А хто ж яго ведае, — са шчырасцю, на якую быў здольны, сказаў Пятрок і амаль аддана паглядзеў у злыя вочы фельдфебеля. Пунсовы твар таго стаў яшчэ чырванейшы.

— Варум? — гучна гыркнуў ён і звыкла хапіўся за сваю аграмадную кабуру.

— Бо не дае. Запускацца будзе. Цельная яна, — палохаючыся, нязграбна схлусіў Пятрок, у думках ужо лаючы жонку: трэ было ёй гэтак выдойваць. Хай бы задавіліся тым малаком — гінуць праз яго Петраку зусім не хацелася.

Немцы на падворку спынілі гульню, адзін з мячом пад пахаю падышоў бліжэй, за ім з цікаўнасцю на тварах падышлі іншыя. Усе па чарзе зазірнулі ў амаль пустое вядро, на донцы якога бялела лыжка малака — не болей. Фельдфебель нешта перагаварыў са злым кухарам, які таксама прыдыбаў сюды і стаяў, болей узіраючыся ў Петрака, чым у вядро ці карову. За кароткую паўзу, калі ўсе яны змоўклі, фельдфебель расшпіліў кабуру і паволі выцяг з яе свой рэвальвер з тонкім ствалом і тоўстаю чорнай ручкай.

Каторы ўжо раз спалохаўшыся, Пятрок падумаў, што, мабыць жа, запытаюць, перш чым застрэляць, мабыць, і яму штось трэба сказаць перад смерцю, хоць вылаяцца, ці што. Але, збіты з панталыку, ён проста забыўся на словы. Ён толькі глядзеў на ўсе вочы, як фельдфебель, аберуч ухапіўшы рэвальвер, хлёстка шчоўкнуў затворам і жвава вертануўся да Бабоўкі. — Вэк, фэрфлюхтэр...

Кароткім ударам локця ён адпіхнуў Петрака ад каровы, выхапіў з яго рук вяроўчыну. Бабоўка матлянула галавой, дужа скасавурылася, нібы ўчуўшы пагібель, а немец неяк хутка, нібы незнарок, бахнуў стрэлам у яе такое чуйнае заўжды, рухавае вуха.

Пятрок думаў, яна рванецца ці зараве, а яна неяк дужа пакорліва ўпала на падкурчаныя ногі і тыцнулася пысай у гразь. Паволі кладучыся на бок, адкінула на траву голаў, зрэнкі ў яе вялікіх вачах закаціліся ўніз, з храпы вырваўся непрацяглы ўсхрып, і яна канчаткова выцягнулася на падворку. Толькі па скуры некалькі разоў прабегла дрыжака-сутарга, і ўсё ў яе знерухомела.

У Петрака дробненька трэсліся рукі і ўсё нутро зябка дрыжэла, калі ён пайшоў з падворка, дзе фельдфебель пакрыкваў ужо на немцаў — мусіць, нешта загадваў.

9

Надзіва сабе самой Сцепаніда не дужа ўбівалася па карове — як ні шкада ёй было Бабоўку, яна адчувала, што рушылася штось непамерна большае і што вялікая небяспека набліжалася да іх ушчыльную. Заходзіла яна здаля — ад падворка, дарогі, праз малако, хату, калодзеж, але падступіла ўжо так, што было відавочна: яны схопяць абаіх за горла — во, тады прыйдзецца спалохацца. Праўда, як яна ні ўдумвалася, усё не магла ўразумець нялюдскі сэнс іх учынкаў ды іхніх намераў, хоць увогуле намеры гэтыя былі спрэс ёй варожыя, але як было дазнацца, каторы з іх прывядзе да самага страшнага. Канешне, можна б старацца як мага далей адсоўваць яго, гэтае страшнае, неяк паддобрывацца, нават падлізвацца да чужынцаў, дагаджаць ім у малым ці ў большым, але, думала яна, хіба тым пасобіш? Зноў жа яна змалку не ўмела пераломваць сябе, рабіць што насуперак перакананню, тым больш прыніжацца; патрэбных для таго здольнасцяў у яе не было ані крошкі, і яна не ведала нават, як тое можна наогул, асабліва калі яны вытвараюць такое. Тая знявага, якую яны ёй зрабілі пры першым сваім з’яўленні, не давала ёй намагчыся на іншы лад, апроч непрыязні, далейшае ж выклікала ў яе абурэнне і нянавісць. Сапраўды, такога з ёй ніколі яшчэ не здаралася. Было, што яе крыўдзілі ў жыцці, прыцяснялі, зневажалі нават, але ніхто яшчэ не падняў на яе руку — ні бацька на малую, ні якая радня, ні потым Пятрок. Ды і як было можна: па ўзросту яна многім з гэтых немцаў гадзілася ў маці, у яе самой сын быў у войску — ладны малады дзяцюк, — якое яны мелі людскае права адбіраць у яе нажытае працай ды яшчэ біць яе?

Сцепаніда сядзела ў істопцы і нават не пазірала ў акенца — яна чула ўсё, што рабілася там, на падворку. Ажыўлена гамонячы, немцы знялі ў хляве дзверы, усталявалі іх пасярод падворка і ўзяліся свежаваць там Бабоўку. Мусіць, драў шкуру ўсё той жа Карла. Чула: там сярод выкрыкаў і смеху салдатні называлася яго імя, нешта гаманіў фельдфебель, тады іншыя прыціхалі, толькі коратка гучала чыё-небудзь «яволь»; саплі ад натугі салдаты і трашчала каровіна шкура. Пятрок кудысьці сышоў, здаецца, на падворку яго не было, інакш бы яна яго ўчула ці ўчула б чый-небудзь крык на яго. І яна сядзела адна на сваім сеннічку на ўслоне ў прахладным

паўзмроку істопкі, цяпер ёй не было куды ісці, не было што рабіць. У істопцы было не сцюдзёна, ціхмана, канчаўся пагодлівы восеньскі дзень, яркі сонечны лапік з акенца пасунуўся ад пашчэрбленай земляной падлогі да жорнаў і коса высвеціў там патрэсканыя закапцелыя бёрны сцяны. Гэты залацісты лапік, аднак, усё вузеў, зыходзіў на тонкі бліщчасты аскялёпачак і ўрэшце прапаў зусім — сонца схавалася за высялкоўскім пагоркам. У істопцы адразу стала цямней, стуліліся ў паўзмроку вуглы, закуткі, насоўвалася ноч. Немцы ўвесь дзень пратаўкліся на хутары, на мост так і не ездзілі, мусіць, сапраўды сёння было ў іх нейкае свята ці які адпачынак. Сцепаніда чакала, калі яны ўрэшце ўгамоняцца на падворку ці хоць бы зоймуцца якім клопатам, — ёй усё ж трэба было наведацца ў застаронак, пакарміць парсючка, каб той не заскуголіў з голаду і таксама не апынуўся ў іх ненажэрнай кухні. Але яна не магла выйсці цяпер, калі яны гэтак апанавалі сядзібу і нікуды не рушылі з яе. Увесь дзень Сцепаніда чакала зручнага для сябе моманту і вось дачакалася вечара.

Яна здрыганулася ад нейкага тупога моцнага ўдару там, на падворку, затым наступнага; штосьь там раструшчылася, нібы сухадрэвіна, і яна, устаўшы, зірнула ў акенца. Чалавекі чатыры тупалі там ля асвежаванай, нейкай дужа невялічкай, бы цялячая, тушы Бабоўкі, і крутаплечы без мундзіра немец з закасанымі рукавамі белай сарочкі сек яе тапаром, аж падкідваліся на дзвярах каровіны ногі. Галаву яны ўжо адсеклі, і тая ляжала цяпер на стаптанай мураве ля палаткі, выставіўшы ў звечарэлае неба чорны, загнуты над лобам рог.

Сцепаніда зірнула ў акенца раз-другі, болей пазіраць не стала — яна не трывала бачыць такое. А яны там усё seклі Бабоўчыны косці, скабы, ногі, хрыбет, і кожны ўдар сякеры болем роспачы аддаваўся ў яе сэрцы.

Прыцемак блізкай ночы ўсё болей апаноўваў цеснае, застаўленае розным начыннем памяшканне істопкі. Петрака ўсё не было, і Сцепаніду пачаў агартаць неспакой. Штосьці трэба было рабіць, але што? Што яна магла ўвогуле зрабіць тут, калі не мела ніякага права, нічым не распараджалася — наадварот, цяпер распараджаліся ёю. І ўсё ж яе дзейная натура не магла прымірыцца са сваім бяссіллем, прагнула нейкага сродку, нейкай магчымасці адстаяць сябе, не паддацца.

Яна зноў зазірнула ў акенца — з Бабоўкаю там было ўсё скончана, на траве ляжалі спэцканыя крывёй дзверы, немцы

стаялі і сядзелі ля кухні, дзе, мабыць, даварвалася вячэра і адкуль несла нясцерпным пахам варанага мяса. Петрака па-ранейшаму нідзе не было відаць. Яна падбегла да глухой сцяны істопкі, услухалася — не, з гарода не чутна было нічога, можа, варта было цяпер, у шэрую гадзіну, і шаснуць да застаронка. Калі яна слухала, позірк яе незнарок напаткаў блішчасты бок суляі на паліцы, і яна падумала: увечары спаляць. Мусіць жа, трэба будзе святло і забяруць газу. Каб тая не стаяла перад вачыма, Сцепаніда зняла цяжкую суляю з паліцы і засунула ў кут пад жорны, заставіла цабэркам. Пасля набрала з цабэрка ў чыгунок яшчэ пазаўчарашняй варанай бульбы, захінула яго фартухом і асцярожна прыадчыніла дзверы з істопкі.

У сенцах не было нікога, на камянях прыступкаў таксама, яна нячутна пераступіла парог і па-над сцяной істопкі матлянулася да дрывотні. Яна не пазірала на немцаў, чакаючы і баючыся іх вокрыку, але, занятыя гаманой ля кухні, тыя, мусіць, не вельмі ўзіраліся ў яе. За рогам дрывотні яна ўздыхнула, пералезла цераз жэрдку ў гарод. Курыны хляўчук быў насцеж расчынены, падпорка валялася ў доле, курэй там не было ніводнай — ці не ўсіх ужо перастралялі гэтыя сабакі, падумала яна. А можа, пахаваліся? Ці паўцякалі? Яшчэ ўслухаўшыся ў дружны салдацкі рогат, які выбухнуў за хатай, яна ціхенька, каб чым не стукнуць, адцягнула ад дзвярэй застаронка саху, і да яе ног з такім імпэтам выкаціўся яе парсючок, што яна аж спалохалася: што з ім рабіць? Ціха рохкаючы, той радасна тыцкаў у яе ногі кароткім сваім лычком, нібы патрабуючы штось, і тады яна падалася назад праз дзядоўнік да сцежкі-разоры цераз гарод да рова. Парсючок надзіва рахмана, нібы сабака, заспяшаўся следам — подбегам з невялікімі прыпынкамі, і яна аж сцялася ўся: хоць бы не выйшаў хто з-за хаты, не ўбачыў іх тут.

Але сталася так шчасліва — з падворка не выйшаў ніхто, яна правяла парсючка здратаваным, з растаптанымі градамі гародам да плота, пералезла цераз жэрдку: парсючок з ціхім сапам прашчаміўся нізам, і тут ужо яго затулілі быльнёг, кусты ажавіння ля сцежкі. Побач быў роў, а на ўзроўку крыху воддаль адсюль варухнулася знаёмая постаць пастушка Янкі. «Уцякай ты адсюль! Уцякай!» — замахала яна рукой. Не хапала яшчэ трапіць на вочы немцам з тым яго статкам, пастраляюць кароў — ім хіба шкада? Але Янкавага статка

паблізу не было відаць, мабыць, ён ужо загнаў яго ў Выселкі, а сам, насуперак яе жаданню, чамусьці бег ёй насустрач. На самым узроўку яны сустрэліся, трохі захінуўшыся ад сядзібы крайнім кустоўем алешніку. Янка, як заўжды, нешта пакутна-гугнява паспрабаваў сказаць, ды яна не зразумела нічога.

— Во парсюк! Каб схаваць дзе?

Надзіва, ён зразумеў. На момант у яго пільных вачах пыхнула ўвішным пытаннем, а затым ён ужо замахаў рукамі, паказваючы ў завалочаную вечаровым прыцемкам глыбіню рова, куды праз хмызняк бегла крывулястая сцежка. Сцепаніда не зразумела, і ён ўхапіў яе за рукаў ватоўкі, пацягнуў. Перш чым яна наважылася ісці, парсюк ужо рушыў за ім, нецярпліва торкаючы лычком у босыя Янкавы ногі.

Яны не хутка, аднак, спускаліся крутаватай, месцамі нават абрывістай сцежкай. Парсюк боязна зарохкаў перад абрывам, не цямячы, як з яго злезці, Янка тады прыступіў на калена і знізу пераняў яго, але парсючок трапянуўся, завішчэў, і Янка змушаны быў пусціць яго на свае ногі. Не збочваючы нікуды са сцежкі, парсючок увішна і борздзенька ішоў за Янкам.

Урэшце яны апынуліся ля ручая ў сыраватым, зарослым крапівой і бадыллём прыцемку, Янка некуды ўсё імкнуў над ручаём, вабячы парсючка і Сцепаніду ў сцішэла-вечаровыя нетры ляснога рова. І, надзіва, парсючок слухаўся яго лепш, чым калі б яго вяла Сцепаніда: можа, адчуваў што ці быў згаладнелы і меў спадзёўку на ежу. Калі неўзабаве, хапаючыся за голле ляшчынніку, Янка збочыў са сцежкі і палез угору, Сцепаніда здагадалася, куды гэта ён. Ведала: тут недзе пад выварацінай-елкай на схіле рова была барсукова нара. Барсука даўно ўпалявалі з сабакам браты Біклагі з мястэчка, нара пуставала гады мо чатыры, хлапчукі, забаўляючыся, раскапалі яе ўваход, але да канца не дакапаліся — такая яна была доўгая.

Тут трэба было лезці вышэй у ляшчыннікавым ды алешнікавым зарасніку, парсючок то нязручна скакаў угору, то ўбок, то недаўменна спыняўся, мабыць, прытаміўшыся, і тады на асабліва крутой мясціне Янка абхапіў яго ўпоперак і крокаў некалькі, не зважаючы на ціхі віскат, прабіраўся так, дзе на нагах, а то больш на каленях. Сцепаніда, адной рукой трымаючы чыгунок, другой хапалася за чорнае вецце і ледзьве паспявала за хлопцам. Так яны выкараскаліся да растапыранага ў бакі карнявішча яловай вывараціны на

схіле, дзе збоч невялічкай жвіровай пляцоўкі чарнелася вусце барсуковай нары. Выпушчаны з рук парсючок перастаў вішчэць і пачаў супакоена абнюхваць утаптаны хлапечымі нагамі жвір, карані вывараціны, але калі Сцепаніда паставіла перад ім чыгунок, адразу ж, нібы забыўшыся на ўсё, смачна запляцкаў бульбаю.

— Ы-ы-ы! — нешта замахаў рукамі Янка. — Ы-у-у! — з натугай ірвалася з ягоных грудзей, але нічога зразумелага не вынікала, і Сцепаніда падумала: як жа загарадзіць гэту нару, каб парсючок не вылез і не згубіўся ў рове?

— Ы-ы-э! — яшчэ раз спрабаваў давесці нешта сваё Янка і, махнуўшы кудысь рукой, рашуча палез па схіле вышэй да ўзроўка.

Яна засталася адна ля вывараціны, слухаючы, як пляцкае ў чыгунку парсючок і шамоціць сухое лісце на схіле. Шамаценне, аднак, усё аддалялася, наўкола стала ціха. У рове зусім ужо сцямнелася, толькі край неба над тым узроўкам з гайком яшчэ трохі блішчэў апошнім закатным святлом. Сцепаніда не ведала пэўна, ці, можа, Янка пабег дадому ў Выселкі, ці што надумаў, каб памагчы ёй. Але пакуль парсючок еў, яна стаяла ля яго, убіраючы ў сябе таемныя, па-начному страхавітыя шолахі рова, і раптам падумала: да чаго дажылася! Каб уцякаць са свайго дома, хавацца ў рове, шукаць паратунку там, дзе яна заўжды пабойвалася трохі, асабліва ў прыцемках — вечарам ці ўначы. Але цяпер менавіта так: тут ёй было лепш і спакайней, чым на сваёй сядзібе — у хаце ці істопцы, і гэтае мілае стварэнне, яе паслухмяны ўвішны парсючок здаўся ёй радней за якога чалавека — ну як дзіця не раўнуючы. Асабліва пасля Бабоўкі, якую яна так па-дурному не ўберагла і якую цяпер, мабыць, жралі там, на падворку, абгрызалі яе белыя костачкі.

Настаяўшыся так і набедаваўшыся ў думках, яна прысела на тоўсты абломак вывараціны і знерухомела, настрыўшы слых. Парсючок выеў усё, што было ў чыгунку, і супакоена ўлёгся пад самыя яе ногі, гарачымі бакамі прыемна грэючы яе настылыя ступні, і яна пачала ціхенька грэбаць яго нагамі пад жыватом. Ахвотна паддаючыся на чалавечую ласку, парсючок памалу перакочваўся на бок, задаволена парохкваў. Яна сядзела на вывараціне, аж покуль угары на ўзроўку не зашамацела галлё, сухое лісце ў траве, нешта там дужа храснула, мабыць, зламалася што ссохлае. Трошкі ёй стала страшнавата, яна ўскочыла, услухалася. Ужо скрозь было

цёмна, унізе, дзе бег ручэй, панаваў суцэльны непраглядны змрок, ды і ўгары, над узроўкам, у чорную масу зліліся дрэвы, хмызняк, толькі ледзь-ледзь свяціўся дальні краёчак неба. Шастанне ўгары ўсё большала, штось грукнула збоч ад нары, і да вывараціны звалілася рухавая, запыханая постаць Янкі. Неяк бокам куляючы, ён валок сюды нешта грувасткае і, мабыць, цяжкаватае для яго.

— Э-э-э! Ы! — зморана абвясціў ён і гэпнуў ля самага вусця, мабыць, знойдзеную ў полі драўляную барану з зубамі.

І праўда, гэта было няблага — барана адразу загарадзіла ўваход у нару, трэба было толькі яе падперці ці замацаваць як, каб не паваліў парсючок. Сцепаніда падняла парсючка, удваіх з Янкам яны сунулі яго ў колішні барсучыны схоў і хуценька заставілі нару бараной. Парсючок трывожна зарохкаў, піхнуў барану лычом, спрабуючы паваліць, але Сцепаніда прытрымала яе, а Янка тым часам выламаў непадалёк добрую палку, і яны з натугай падперлі ёю барану.

— Во і добра, — ціха сказала Сцепаніда. — Сядзі і не рохкай, а то... Сажруць і дзякуй не скажуць.

Янка нешта дастаў з кішэні і прасунуў парсючку, той адразу смачна запляцкаў, шавелячыся ў цемры невялічкаю шэраю плямкай, а яны палезлі ўгору на ўзровак. Мабыць, так было бліжэй, хоць і не зручней, чым па сцежцы ля ручая праз роў. Неўзабаве, добра ўгрэўшыся, выбраліся на раўнейшае і выйшлі з кустоўя на край бульбянога палетка.

— Дзякуй табе, Яначка, — сказала Сцепаніда, кладучы руку на хударлявае пад лёгкай світкай хлапечае плячо. Янка напружыўся, спыніўся, зблізку запытальна зірнуў праз змрок у яе твар і прамычэў нешта, як заўжды зразумелае толькі яму аднаму. Яна падумала, што трэба б і яшчэ нешта сказаць гэтаму ўвішнаму бедалагу-хлопцу, ды, занятая сваім клопатам, не знайшла што і пайшла да хутара. Сцежка тут вяла па роўным, каля ўзроўка на мяжы з полем. Янка засстаўся ззаду. Ведама, ён пабяжыць у свае Выселкі, стараной у абход хутара — цяпер у хутар патыкацца нягожа.

Яшчэ здалёку ад сядзібы Сцепаніда ўбачыла яркае, аж сляпучае, святло ў акне хаты і падумала: то не лямпа, мабыць, яны запалілі сваю электрычнасць. Было ўжо зусім цёмна, палявую далячынь завалакло змрокам ночы, а кустоўе, дрэвы на ўзроўку чарнеліся дзівосным бязладным нагрувашчаннем, праз якое месцамі туманна праглядвала шырокая прорва рова.

З непрыемным боязным пачуццём Сцепаніда падышла да хутара, увайшла па сцежцы ў гарод. Надзіва тут было цёмна і ціха (ці не ўгаманіліся яны там?), толькі з акна на бурачнік падала касое і яркае лапікла святла; такое ж лапікла яна ўбачыла і на падворку, як выйшла з дрывотні. Чорная кухня з высокай трубой стаяла старанна абцёртая і прыбраная, накрытая зверху нейкай брызенцінай; пад тынам састаўленыя ў рад відаць былі іхнія вёдры. Збоч ад тых вёдраў цьмяна шарэла ў паўзмроку, мусіць, забытая зранку вінтоўка з новенькай раменнай почапкай. Сцепаніда ўхапіла гэта адным беглым позіркам і ўскочыла ў сенцы, дзверы якіх былі не зачынены. З хаты чулася спакойная картавая гамана некалькіх галасоў, і яна хуценька прашмыгнула ў істопку.

Пятрок быў на сваім месцы на дзежках і адразу азваўся са змроку, як толькі яна зачыніла за сабой дзверы.

— Ай, дзе гэта ты ходзіш па начы? Аж напужаўся во...

— Дык і ты ж недзе паўдня прападаў, — ціха сказала яна, намацваючы ў цемры свой сеннічок.

— Курэй пільнаваў. Як тых дзвюх застрэлілі, дык астатнія на ўзроўку ў яму ўбіліся. Тую, з крапівой. Сядзяць і ў хлявок не рушаць. Дык пасыпаў ім там, хай начуюць.

— Колькі ж іх хоць ацалела?

— Сямёрачка. Тэй рабенькай і чорнагалоўкі няма. І старой жоўтай няма, але не павінна, каб і жоўтую застрэлілі. Так недзе схавалася.

— Каб жа схавалася, — уздыхнула Сцепаніда, думаючы ўжо аб іншым. Новая думка-жаданне нечакана з’явілася ў яе галаве, і яна ўжо не магла думаць аб іншым — падворак цяпер уладарна прыцягваў усю яе ўвагу. Але яна маўчала, адно толькі слухала.

— Ай-яй! Прыйшоў злом! — пабедаваў Пятрок. — Во скарынку жую. На і табе, мабыць жа, нічога не ела...

Ён сунуў ёй з цемры счарсцвелы кавалак хлеба, і яна ўзяла з жалем — не да сябе, да яго. Каторы дзень ужо без гарачага, на сухім, а ў яго ж хворы страўнік — бедны стары Пятрок! Другім разам пачаў бы наракаць, скардзіцца ці дакараць яе, а цяпер во з адною пакорай. Дажыўся! Але дажылася і яна. З учарашняга не было ў роце макавай расінкі, і цяпер счарсцвелы хлебны кавалак здаўся надзвычай смачным. Яна прылягла на сеннічок, прыкрыўшы ногі ватоўкай, і, патроху адломваючы ад кавалка, клала ў рот, ціха жавала. Але най-

больш яна слухала. На падворку і ў палатцы, мабыць, ужо супакоіліся, але цераз сені ў хаце чулася нягучная вечаровая гаворка двух ці трох чалавек — на гэтых сну не было. А ёй дужа трэба было, каб яны там паснулі, у ёй усё мацней разрастаўся тайны і страшны намер, ад якога часам кідала ў дрыжыкі, але, ведала яна, адрачыся ад яго ў яе ўжо не хопіць сілы. Зрэшты, яна і не думала адракацца, яна збірала сілы, каб здзейсніць яго, нават калі б і ведала пэўна, што пасля ёй гэта вылезе бокам. Праўда, пакуль што нельга было і рыпацца; пакуль яны там не спяць, яна не магла выйсці з істопкі. Але яна ўмела чакаць. Яна ўсё жыццё толькі і рабіла, што чакала чагосьці, часам зусім па-дурному і марна, а часам усё-такі ёй шэнціла. Але яна рэдка калі адмаўлялася ад сваіх намераў, бо часта адмовіцца ад іх ёй патрабавалася больш сілы, чымсьці іх здзейсніць.

Хлеб яна зжавала ўвесь і ціхенька ляжала без сну, не кратаючыся на сваім сеннічку. Невядома, ці спаў Пятрок, але яго таксама не было чуваць — ні дыху, ні руху, мабыць, усё ж заснуў. Картавае гергетанне ў хаце, здаецца, таксама ўціхла — ці не паснулі і там? Паляжаўшы яшчэ хвілін колькі, яна ціхенька ўстала і, абапёршыся рукой аб сцяну, зірнула ў акенца — не, на падворку ўсё яшчэ блішчэла на траве яркая паласа святла, прарэзаная ўздоўж чорным ценем ад рамы, дальнім канцом амаль дасягаючы тыну з вёдрамі. Вінтоўкі адсюль не было відаць, але, адчувала яна, тая стаяла на ранейшым месцы. Сцепаніда зазірнула наўкось у адзін бок двара, у другі — нідзе не відно было ні душы. Тады яна зноў лягла на сеннічок, падумаўшы: урэшце ж рана ці позна пакладуцца і тыя, у хаце. Трэба чакаць.

Яна яшчэ паляжала з гадзіну, пільна слухаючы блізкія і далёкія гукі ночы. Недзе, мабыць, на Выселках ці ў Забалоцці за ровам, доўга, настырна брахаў сабака, аж разрываўся ад лютасці, пасля неяк раптоўна віскнуў і сціх — пабіты ці спушчаны з прывязі. Гамана ў хаце сціхла, але разы два там пачуліся крокі — кароткі цяжкаваты тупат ботаў па дошках падлогі, бразнулі дзверы, нехта выйшаў на двор, але хутка вярнуўся ў хату. Па тым, як, хліпнуўшы, знік цьмяны водсвет на чорнай бэльцы істопкі, яна зразумела, што ўрэшце там выключылі святло, скрозь стала цёмна — у сенцах, у хаце і на падворку запанаваў змрок бязмесячнай восеньскай ночы. Сцепаніда доўга яшчэ ляжала без сну, краем свядомасці

гаротна перажываючы сумныя падзеі мінулага дня: сваё хітраванне з тым малаком, якое, відаць, і пагубіла Бабоўку, дратаванне сядзібы, страляніну па курах, яе неспадзяваную ўдачу з парсючком. Можа, хоць ён уцалее, калі гэтыя не дабяруцца да рова, не выпаруць яго з барсуковай нары. Так думала яна аб усім, а сама міжвольна збірала ў сабе адвагу, каб урэшце наважыцца.

Усё ж яна, здаецца, трохі задрамала і падхапілася ад нейкага неўсвядомленага нутранога штуршка, услухалася. Пад жорнамі ціхенька драпаў пацук, ды сіпата, з прысвістам, дыхаў на дзежках Пятрок. Яна села на ўслоне, спусціла ногі на дол. Цяпер ужо нічога не было ў яе жаданнях, апроч упартае прагі цішыні, каб зрабіць тое, што яна ўжо не магла не зрабіць. Быццам не па сваёй волі, а па нечым жалезным прымусе яна ступіла да дзвярэй істопкі, ціхутка, як толькі можна было, павярнула закрутку і прыадчыніла старыя, сточаныя шашалем дзверы. Добра, яны не скрыпнулі, толькі прашэрхалі трохі, і яна пакінула іх так, не зачыненымі. Затым яна на дыбачках наблізілася да расчыненых дзвярэй з сянец, у якія трохі задзімаў вецер, услухалася. У хаце хтось сонна хроп — не дужа каб моцна, а так, супакоена-роўна, і гэта яе абнадзеіла. Мусіць, трэба смялей. Што яна, урэшце, не мае права па сваёй патрэбе выйсці з хаты на двор, хіба яна перастала быць чалавекам? Ну і што, што вайна, немцы. Жылі людзі да гэтай вайны і, мусіць, будуць жыць і пасля, а во ці давядзецца жыць гэтым, яшчэ невядома. Хто палез на іншых з ражном, як бы сам не напароўся на той самы ражон. Ціхутка ступаючы, яна сышла з камянёў-прыступкаў на прыстылую ўжо зямлю падворка, па сцюдзёнаватай воглай траве забегла за вугал на дрывотню і там стаілася: здалося, у палатцы хтось нешта буркнуў. Але гэта, мусіць, у сне, якога вартавога на падворку нідзе не было відаць, і гэта яе трохі ўзбадзёрыла. Падумала, што чуліся яны ўпэўнена, нібы гаспадары. Ведама, чаго ім баяцца, хто ім зробіць шкоду? І ўсё ж што-нішто трэба зрабіць, хай не думаюць: калі ўехалі, дык ім усё можна.

Яна дужа баялася, можа, так, як не баялася ніколі ў жыцці, асабліва калі выйшла з дрывотні і на дрыготкіх нагах, аж хістаючыся, дабегла да тыну. Ёй не трэба было аглядацца ў цемры, яна пэўна ведала, дзе было тое месца, і цяпер адразу намацала рукой вінтоўку, ухапіла яе за тонкую рулю. Вінтоўка аказалася цяжэйшаю, чым яна думала, як бы, боўтнуўшы, яна

не падняла ўсіх на ногі. Гэта трохі збянтэжыла Сцепаніду, але перайначыць намер яна ўжо не мела сілы, — на дыбачках яна падскочылі да калодзежа і апусціла ў зруб вінтоўку. Перад тым як назусім выпусціць яе з рукі, кінула позірк на хату і пакатую гарбіну палаткі, але тая сонна спакайнела ўначы, ніхто з яе не паказваўся, і яна разняла пальцы.

Сцепаніда ўжо адскочыла ад калодзежа, калі ў ягонай глыбі глуха і нутрана боўтнула, здалося, жахліва-грымотна боўтнула, але яна хуценька падбегла да істопкі і пад яе сцяной прашмыгнула ў сенцы. Тут ажно спалохалася, намацаўшы зачыненыя дзверы ў істопку, але ўспомніла, што яны часам зачыняліся самі, і цяпер дрыготкімі рукамі расчыніла іх за драўляную ручку.

Перш чым зачыніцца з істопкі, хвіліну памарудзіла, — не, усё скрозь было ціха, здаецца, удалося. «Што цяпер будзе заўтра?» — нібы ў гарачцы калоцячыся ўсім целам, думала яна і, можа, толькі цяпер спалохалася як мае быць. Жах апанаваў яе з такой лютасцю, што яна дробна засакатала зубамі і, пэўна, тым абудзіла Петрака.

— Што, сцюдзёна? На во мой кажух, накрыйся... — прабурчэў ён спрасоння і зноў сіпата, мерна задыхаў.

Сцепаніда ж не заснула да ранку.

## 10

Немцы падняліся раненька, яшчэ давідна, Пятрок пачуў іхнія крокі ля істопкі, кашаль, прыціхлыя хрыплаватыя галасы на падворку. Бразгнула вядро ў калодзежы — пачалі цягаць ваду, мусіць, для кухні. Пэўна, учарашняе свята скончылася, сёння, мяркуючы па ўсім, яны меліся брацца за справу.

Пятрок ляжаў на ледзьве прыкрытых транцём мулкіх накрыўках дзежак, напяўшы на галаву кажушок, слухаў знадворныя гукі і думаў: якія яны ўсё ж не такія, як нашы людзі, гэтыя немцы, — усё ў іх па-свойму, інакш. Нават учора ўвечары, як наладзілі сабе частаванне, свяцілі электрычнасцю, елі з талерак і пілі з маленькіх белых чарачак шнапс, развесяліліся, гаманілі, але амаль так, як звычайна, п’яных не было ніводнага. Афіцэр і гэты фельдфебель частаваліся ў хаце асобна, куды ім насілі мяса ў талерках, накрытых хустачкамі, і таксама елі-выпівалі сцішана, без гаманы, а галоўнае, не даўжэй, чым пры звычайнай вячэры. Мусіць, мінула гадзіна,

не болей, і на прыступкі выйшаў фельдфебель, нешта скамандаваў, і на падворку адразу як вымела — усе зашыліся спаць у палатку. «Дысцыплінка, аднак, вашай матары, — падумаў Пятрок з ціхаю зайздрасцю. — Слова начальніка — у іх як закон, усе ядуць, робяць і моляцца па камандзе. Не дзіва, што перамагаюць».

Але вось з'елі і Бабоўку. Пятрок трохі і злаваў ад думкі, што, можа, трэба было не рыпацца, аддаць ім тое малако, хай бы жралі сабе, калі такія аматары на малочнае, нашто было хітраваць? Праз гэтыя Сцепанідзіны хітрыкі, мабыць, і засталіся цяпер без каровы. Але ўпэўненасці ў тым не было, Пятрок разумеў, што магло здарыцца так, што ўсё роўна адабралі б карову, — не цяпер, дык пасля, ад'язджаючы. Вядома, лепей было б схаваць. Толькі як схаваеш і дзе? Карова не курыца, у крапіве не стоіцца. Ды і хто ведаў, што яны гэтак нечакана награбуцца на хутар.

У істопку данёсся знадворку прыемны, саладкаваты, быццам нават знаёмы пах, і Пятрок не адразу ўцяміў, што гэта запахла кавай. Ну пэўна ж, ён чуў яшчэ з той вайны, што германцы зранку найперш п'юць каву, а не які-небудзь квас або чай, як, напрыклад, рускія. Пятрок ніколі не спытваў гэтага пітва і думаў, што, мабыць, яно дужа смачнае. Але што марыць пра каву, тут во солі засталося жменькі са тры, як без солі будзеш есці гэтую бульбу! Не палезе ў горла. Бяда, дый годзе!

Знадворку патроху віднела, але сонца не было відаць, чутно толькі — у страсе шастаў напорысты вецер, здаецца, на ўчарашнім дні і скончылася добрае надвор'е. З ночы ў старой, з гнілаватымі сценамі істопцы было халаднавата. Пятрок і так і гэтак туліўся пад кажушком, але ўсё роўна азяб і думаў, што трэба ўставаць. Адным вокам скоса ён зірнуў на сеннічок пад акенцам — Сцепаніда, бы нежывая, ляжала скурчаная пад ватоўкаю, і ён падумаў: перажывае Бабоўку. Ведама ж, якое бабе жыццё без каровы? Без каровы жанчыне нельга.

Толькі ён надумаўся ўставаць, як дзверы ў істопку моцна тузануліся з сянец і на парозе з'явіўся немец — той самы злы кухар у перакручанай упоперак галавы пілотцы, за ім ішоў малады ў акулярах. Пятрок хуценька сеў на дзежках, мацаючы рукавы кажушка, а кухар, нічога не кажучы, бліснуў ручным ліхтарыкам і замітусіў ім па істопцы, высвечваючы па чарзе пыльныя камяні жорнаў, паліцу, вялікую кадзь у

куце; падскочыў да парожніх засекаў, пачаў расчыняць вечкі, зазірнуў ва ўсе тры. Два былі парожнія зусім, а ў трэці яны насыпалі з торбу ячменю — на крупы. Затым, гаркнуўшы: «Вэк!» — ён падскочыў да Петрака, той босы зляцеў на сцюдзёную падлогу, а немец паскідаў прэч усе яго апраткі, накрыўкі з дзежак, зазірнуў у кожную. Невядома, якога чорта шукаючы, сагнуўся пад жорны, абматляў белаю плямкай з ліхтарыка сцены, куткі, нават столь і, не сказаўшы ні слова, выскачыў у сенцы.

Пятрок надзеў у рукавы кажушок, зачыніў за ім дзверы і павярнуўся да жонкі, якая з абыякавым выглядам сядзела на сваім сеннічку.

— Што гэта ён?

Сцепаніда цепнула плячыма і моўчкі ахінулася хусткай, нетаропка надзела ватоўку. Здавалася, яна была абыякавая да з’яўлення немца, адны толькі вочы сведчылі, што яна пільна прыслухоўвалася да таго, што адбывалася на падворку. Пятрок, нічога не цямячы, зазірнуў у акенца — немцы там штось узбуджана, нават нібы напалохана гаманілі, пастаўшы ля кухні, некаторыя чамусь швэндаліся ля хлява, па дрывотні. Чаго яны там шукалі?

— Быццам нешта згубілі, — сказаў ён жонцы.

Але не паспела тая адказаць, як усе ад кухні рушылі да сяней, густа затупалі ботамі і ўжо не адзін, а трое адразу ўваліліся ў істопку, і пайшло... Са злым, рашучым выразам на тварах яны пачалі пераварочваць дагары нагамі ўсе дзежкі, кубелкі, скідаць з цвікоў транты; разграблі нагамі кучу бульбы ў сенцах, з грукатам адкінулі прэч вечка куфра і ўмомант перавярнулі там усё. Пятрок сцяўся ля шула, ён маўчаў, бо ў яго не пыталіся нічога. Ён пазіраў толькі, як даўгалыгі немец зласліва варочае ўсё ў істопцы: кашы, адсоўвае кадзь з канаплёй, рассоўвае спрэс чыгуны. Падскочыўшы да Сцепаніды, каленам перамацаў яе сеннічок на ўслоне. У акенца Пятрок бачыў, як некалькі салдат узлезлі на снапы ў паветцы і таксама параліся там, ботамі таўкучы яго хлебны запас, скідваючы некаторыя снапы на зямлю ў вароты.

— Што, паны, шукаеце? — як мага ласкавей запытаўся Пятрок.

Даўгалыгі, змераўшы яго ледзяным позіркам, нешта незразумела прагергетаў, злоснае ці пагрозлівае, і Пятрок не пытаўся болей. Урэшце, пакінуўшы разгромны вэрхал у

сенцах і ў істопцы, немцы вымеліся на падворак і там усё яшчэ хадзілі па завуголлі, зазіралі на прызбы, за тын у крапіву і нават на аброслую мохам страху істопкі.

— Здурнелі, ці што? — зусім ужо недаўменна сказаў Пятрок.

Мусіць, трэба было рабіць нейкі парадак, але ён раптам учуў знадворку знаёмы гук струны і злякнуўся: яны апаролі ягоную скрыпку. «Ах ты, горачка яшчэ», — падумаў Пятрок, гатовы заплакаць ад такой прыкрасці. Але што тут было рабіць? Калі ўзялі, дык, пэўна, пазабавяцца ды, можа, аддадуць. А калі не аддадуць, дык паб'юць, паламаюць? Не надта, аднак, разважаючы, ён памкнуўся ў сенцы якраз у той час, як з хаты адчыніліся дзверы і з іх, угнуўшы галаву ў высокай фуражцы, вылез афіцэр і за ім выкаціўся кругленькі фельдфебель. У сенцах яны сутыкнуліся, і Пятрок блытана ад хвалявання загаманіў:

— Пан ахвіцэр, няхай мне аддадуць яе... Ну, скрыпку. Бо мая ж гэта, ведаеце...

— Вэк! — гыркнуў, нібы бізуном ляснуў, афіцэр.

Праклінаючы ўсё на свеце, Пятрок задам падаўся ў істопку і ціхенька прычыніў дзверы — ля акенца поўная напружанай увагі стаяла Сцепаніда.

— Прапала скрыпачка, — сказаў Пятрок. — І якая халера ў іх здарылася?

«Пэўна ж, здарылася нешта кепскае», — думаў Пятрок, учуўшы, як на падворку прагучала каманда і ў акенцы стала відаць, як немцы пачалі строіцца — радком у дзве шарэнгі, з вінтоўкамі ў руках. Усе сталі ў строй — і фельдфебель, і Карла, на падворку перад строем застаўся афіцэр, падпяразаны па шынялі, і перад ім паныла стаяў з апушчанымі рукамі перахлябісты кухар. Ягоная белая куртка таксама была падпяразана дзягай з двума парнымі скуранымі падсумкамі. Угнуўшы галаву, кухар паныла глядзеў перад сабой у мураву падворка і, толькі калі афіцэр нешта сказаў, падняў вузкі хваравіта-зацяты твар і коратка прамовіў два словы. Тады афіцэр коратка, без размаху пляцнуў яго па шчацэ. Немец хіснуўся, але не сступіў з месца.

— Сцепаніда, Сцепаніда, глянь! Глянь! — амаль спалохана загаманіў ад акенца Пятрок. — Во дзіва! Поўху яго як рэзне...

Сцепаніда, аднак, зябка хуталася ў ватоўку і не ўстала з сеннічка, а Пятрок, як на якое цікавае кіно, глядзеў праз

акенца на тое, што адбывалася на падворку. Немцы ў страі паныла маўчалі, маўчаў і злы кухар, які таксама стаў у канцы шарэнгі, а афіцэр, заклаўшы за спіну рукі ў пальчатках, хадзіў перад строем і нешта гаварыў і гаварыў там адрывістым голасам. Скажа, памаўчыць, зробіць тры крокі, спыніцца, зноў скажа і зноў памаўчыць. Мяркуючы па змрочных выразах салдацкіх твараў, гаварыў ён не надта вясёлае — мабыць, адчытваў, ці што. Петраку было пэўна, што там нешта здарылася і што правініўся кухар. Увогуле гэта было цікава, але Пятрок пачаў трохі пабойвацца, каб тое ліха не перакінулася і на яго з Сцепанідай. Аднак, мабыць, усё залежала ад афіцэра. Пятрок ужо ведаў пэўна, што найбольшы тут пан гэты афіцэр і што добрага ад яго чакаць не выпадае, а на благое, мяркуючы па ўсім, ён гатовы заўжды.

Але во натацыя на падворку скончылася, строй рассыпаўся, некаторыя пачалі закурваць, а іншыя палезлі ў брызентавы будан машыны. «Ці не выберуцца зусім?» — абнадзеена падумаў Пятрок, ды, мусіць, выбірацца было яшчэ рана. На падворку яшчэ заставаліся шэрая палатка, кухня, афіцэр нешта памахаў рукамі перад фельдфебелем, і той раптам пакаціўся к прыступкам. Сэрца ў Петрака ёкнула: ці не сюды, у істопку?

Ён не памыліўся. Праз момант дзверы істопкі шырока расчыніліся, і фельдфебель, нібы сабачку, паманіў яго пальцам з парога:

— Ком! Ком-ком...

— Я?

— Я, я. Ты, — пацвердзіў фельдфебель.

Пятрок трохі паправіў шапку і пайшоў за ім цераз сені на двор. Салдаты ўжо ўсе садзіліся на машыну — лезлі па чарзе цераз задні борт, афіцэр стаяў ля расчыненых дзверцаў кабіны. Цераз дзірку-праломіну ў тыне фельдфебель пралез у гарод і, растоптваючы буракі на градзе, дробненька патупаў у яго дальні канец збоч садка. Пятрок з недаўменнем шкандыбаў следам.

— Клазет ніхт? — запытаў фельдфебель, раптам спыняючыся.

— Каго? — не зразумеў Пятрок.

— Сральня ніхт?

— Няма... Дык гэта, калі што трэба, дык...

Пятрок хацеў падрабязней растлумачыць гэта далікатнае пытанне, паказаць на хлеў, які цяпер пуставаў без патрэбы. Але фельдфебель не стаў слухаць яго, а кароценькімі нагамі адмераў тры шырокія крокі ля зарасніку парэчак ля плота.

— Офіцірклазет! — аб'явіў ён рашуча. — Драй час врэмя. Фэрштэйн? Панятнё?

— Дык панятна, — не зусім упэўнена сказаў Пятрок.

Што ж, гэта было не самае горшае — выкапаць ім клазет.

Пятрок нават узрадаваўся, што ўсё абышлося так проста. А ён ужо думаў... Ён аж спалохаўся, каб гэтая ямка не стала яго апошняю ямкай. Хіба ім доўга...

Ён вярнуўся да хаты і на дрывотні выцягнуў з-за дошак старую паржавелую рыдлёўку. Такой капаць не надта каб зручна, але за тры гадзіны, можа, як выкапае. Трэба выкапаць, бо чорт іх ведае, што будзе, калі не ўправіцца.

Машына, чуваць было, ужо завуркатала маторам, мабыць, усе там паселі, — Пятрок, каб упэўніцца, зірнуў з-за рога дрывотні. Так, надворак амаль апусцеў, машына, разграбаючы вялізнымі коламі зямлю на гародзе, разварочвалася пад ліпай. Ля кухні застаўся адзін Карла, і ля яго пад тынам уладкоўвалася абіраць бульбу Сцепаніда. «Ну, ведама, далі ўсім працы», — падумаў Пятрок, згледзеўшы перад жонкай паўмяшка бульбы, мабыць, набранай у ягоных сенцах. Усё аддаляючыся са сваім вуркатам, машына папаўзла да дарогі, і Пятрок з рыдлёўкай выйшаў на падворак, адчуваючы на душы немалую палёгку ад таго, што ўрэшце збавіўся ад гэтай навалы. Але, мусіць, рана парадаваўся — паміж палаткаю і вокнамі хаты стаяў, тоячы важную міну на твары, малады немец з вінтоўкай, над якой тырчэў бліскучы шырокі штык. «Ну во, паставілі вартавога, — здагадаўся Пятрок, адразу вяртаючыся да сваёй звыклай панылаunion. — Мабыць, радасці тут не дачакаешся», — падумаў ён, выпраўляючыся цераз падворак да сваёй работы, як пачуў голас Карлы:

— Фатэр, ком!

Карла стаяў ля кухні над нейкім вялізным чанам. Калі Пятрок падышоў бліжэй, прыпадняў над чанам накрыўку, там было мяса. Пэўне ж, Бабоўчына мяса. Ухапіўшы добры кавалак за абломак касці, ён спярша паднёс яго Сцепанідзе. Тая, аднак, грэбліва пакруціла галавой.

— Не буду.

Тады Карла павярнуўся да Петрака, і той узяў з яго рук ладны кавалак з косткай. Ад мяса ішоў смачны і сытны пах, вельмі захацелася есці, але Сцепаніда так з’едліва зірнула на Петрака, што той сумеўся.

— Гэта... Можна апасля, пан Карла? Ведаеце, лепш, каб вы далі гэта самае... Прыкурыць.

— Куріц! — зразумеў Карла. — Я! Яволь.

І ён дастаў з кішэні пачак цыгарэт, яны закурылі па адной, Пятрок прагна зацягнуўся, усё трымаючы ў руцэ кавалак мяса.

— Я гэта... пакладу. Ну, каб апасля, — паказаў ён на мяса і на істопку.

— Я, я, — пагадзіўся Карла.

Пятрок хуценька падаўся да сенцаў, але тут ад палаткі рашуча ступіў вартавы.

— Хальт! Ферботэн!

— Што?

— Хальт! Цурук! — абвясціў ён, спрытна перагарадзіўшы шлях да парога. Яго ладны ружовашчокі твар адразу зрабіўся каменным.

«Вой ты, гора! — падумаў Пятрок. — Ужо не пушчаюць і ў хату. Як жыць тады?» Але, мусіць, так: ужо не пускалі і ў істопку. Пятрок патаптаўся на падворку, да пазногця дакурыў Карлаву цыгарэтку. Карла, часам зыркаючы на яго незразумелым позіркам, пачаў тупаць ля кухні. Ля паркана абірала бульбу Сцепаніда, якая, мусіць, каб не бачыць нікога на падворку, павярнулася да ўсіх спіной.

Што зробіш — Пятрок са шкадаваннем паклаў кавалак на белы метал накрыўкі і пайшоў у свой кут на гародзе. Трэба было капаць афіцэрскі клазет.

Капаць спярша было лёгка, рыдлёўка на ўвесь штык лезла ў мяккі агародны перагной, які Пятрок патроху адкідаў ад плота. Але затым зямля стала цвярдзейшая, пайшла гліна, тут трэба было дзяўбці ды яшчэ нязручна паварочвацца з рыдлёўкай у цеснай ямцы. Хоць надвор’е зранку выдалася сцюдзёнаватае і ветранае, Пятрок хутка ўгрэўся, расшпіліў кажушок. Ужо ён выкапаў да калена, прытаміўся і адчуў, што так неўзнарок можна і спазніцца. Мабыць, ужо мінула палова, калі не болей, дадзенага яму тэрміну, а палавіна яміны яшчэ не была выкапана. Але ён уходаўся, аж змакрэла спіна пад кажушком, і, каб трохі спачыць, прысеў на край яміны.

У той час і пачуў гаману на падворку. Голас здаўся яму знаёмы, Пятрок азірнуўся — па градах цераз бурачнік да яго сігаў Гуж у запэцканых граззю ботах, з вінтоўкай на плячы і белай скамечанай павязкай на рукаве ўсё той жа рудой скураной паддзёўкі. «Што яшчэ за няшчасце!» — нядобра падумаў Пятрок. Паліцай падышоў да ямы і скінуў з пляча вінтоўку.

— Капаем? — не вітаючыся, сказаў ён.

— Ды во. Як бачыш...

— Не тое капаеш.

— Што скажуць. Мы цяпер, знаеш, усё па прыказу.

— Дык во табе мой прыказ: пойдзеш на бульбу. У Выселкі. Ужо ўсіх выгнаў, адны вы з бабай засталіся.

«Яшчэ навіна! — падумаў Пятрок. — Каб вы спруцянелі з вашаю бульбаю! Ідзі на гэтую сцюжу, не еўшы, на ўвесь дзень у поле...» — Як мага ласкавей зірнуўшы на паліцая, лісліва сказаў:

— А можа б, нас аслабанілі ўжо. Здароўе, знаеш, падарванае. У баку во круціць, дык гэта...

— Ну, ну мне! — строга перапыніў яго Гуж. — Круціць яму! Во не выберам бульбу, немцы галаву адкруцяць. Загадалі: выбраць да бульбіны і адвезці на станцыю. Срок — да нядзелі.

— Дык гэта... Хіба ж маладзейшых няма? — пачаў нервавацца Пятрок. — Бабаў якіх. А то во шэсцьдзесят год маю...

— Давай, давай! — нецярпліва прыстукнуў прыкладам па зямлі Гуж. — Без разгавораў.

Журботна памарудзіўшы трохі, Пятрок пачаў вылазіць з недакапанай яміны. Дужа яму не хацелася ісці немаведама куды, у высялкоўскае поле, але, мусіць, прыйдзецца. Ад гэтых тым больш не адчэпішся. Гэтыя знойдуць цябе і пад зямлёй, выцягнуць і прымусяць на ўсё, на што іх прымушаюць немцы.

Узяўшы рыдлёўку, ён пакорна пайшоў за паліцаем да хаты, адчуваючы, як натрудзіў у клазеце паясніцу, і раптам падумаў: а можа, і лепш — далей ад гэтай разрабаванай імі сядзібы, на чыстае поле. Там хоць сярод сваіх, не будзеш чуць гэты здзек і прынуку. Як заўжды, ён ужо спрабаваў знайсці што прыдатнае ў новым становішчы, бо як жа тады было жыць, калі не прыстасоўвацца да абставін? Так, як хочацца, усё роўна ж не будзе, гэта ён знаў пэўна.

Яны пралезлі праз дзірку ў тыне на падворак, дзе ўжо густа дыміла кухня, з яе катла валіла клубамі пара. Карла боўтаў у

катле, а Сцепаніда па-ранейшаму ў маўклівай засяроджанасці абірала ля паркана бульбу.

— Ну, акцявістка, ты доўга там? — нецярпліва гыркнуў да яе Гуж.

— Не паганяй, не запрэжаная, — спакойна сказала Сцепаніда, кідаючы ў вядро бульбіну.

— Я не паганяю, а прыказываю. Бярыце кашы і марш абодва за мной!

— А дзе я вазьму кашы?

— У доме вазьмі! Мусіць жа, ёсць у сенях кашы?

— А хто мяне туды пусціць?

— Як хто? А часавы што — не пусціць? Гэй, друг! — іншым тонам — дабрэй — сказаў Гуж да вартавога. — Дай я пагляджу. Кош трэба. Панімаеш — кош!

— Цурук! — гыркнуў вартавы і скінуў з пляча вінтоўку.

«Во, добра! — маўкліва парадаваўся Пятрок. — Во так табе і трэба: цурук! А ты думаў!» І ён нават з сімпатыяй паглядзеў на гэтага тупарылага вартавога, які так дарэчы асадзіў ганарыстага паліцая.

— Ах ты чорт! — заклапочана крутануўся Гуж. — Ну торбу бяры, якое вядро...

— Дзе я вазьму вядро? Гэта ж іхняе.

«Не, Сцепаніду голымі рукамі не возьмеш, — можа, першы раз са шчырым захапленнем падумаў Пятрок. — Калі ўжо заўпарціцца, дык паякочаш. І я цяпер табе не памочнік. Прымушай, калі ўмееш!»

За гаманой на падворку яны не адразу ўчулі, як з гасцінца збочыла тая іх вялізная машына і неўзабаве ўкацілася ў самыя вароты. Яна яшчэ не спынілася, як з кабіны неяк дужа паспешна вываліўся рухавы фельдфебель, на ягоным счырванелым твары было нейкае ажыўленне — добрае ці не — цяжка было зразумець упачатку.

— Вас іст дас? — гыркнуў фельдфебель, спыняючыся перад Гужом. Той няўклюдна спрабаваў узяць пад казырок, але яму ўсё сапсавала вінтоўка, почапка якой слізганула са скуранога пляча і павісла на локці.

— Вас іст дас? Что ест это? — зусім ужо нядобра паўтарыў фельдфебель, беручы рукі ў бокі, і стаяў так, маленькі і таўставаценькі, перад няўклюднай рукастаю постаццю Гужа.

— Прыказ на бульбу, пан афіцэр. На картошку! — удакладніў Гуж. — Каб выбралі да нядзелі.

— Вас іст дас? — не прыняўшы тлумачэння, яшчэ болей раз’ятрана загырчаў фельдфебель і ступіў яшчэ на крок бліжэй да Гужа.

— Я ж кажу, пан афіцэр, загадана ўсім на картошку. Пан бургамістр...

— Вас іст дас? — зноў цвердзіў сваё фельдфебель, і Гуж на гэты раз, мусіць, з’еў усе словы. Выцягнуўшыся і вырачыўшы на немчыка вочы, ён моўчкі стаяў, аж покуль той не страпянуўся і неяк дужа ўжо спрытна знізу ўгору пляцнуў яго два разы — па адной і па другой шчацэ. Паліцай хіснуўся разам з вінтоўкай, якую аблапіста хінуў да сябе, мусіць, чакаючы і яшчэ аплявух. Але болей фельдфебель не біў, толькі разгоніста ткнуў кароценькім пальчыкам на варотцы з падворка.

— Вэк!

І калі Гуж не то спалохана, не то ўзрадавана таропка засігаў да варотцаў, фельдфебель абразліва працадзіў праз зубы:

— Ванютшi паліцайшвайн...

— Ага... Правільна вы яго. Нядобры чалавек, — не ўтрымаўся Пятрок, дужа задаволены тым, што атрымаў Гуж. Ён аж калаціўся ад радасці, але фельдфебель неяк недаўменна зірнуў на старога, быццам першы раз убачыў яго, і нядобра прыжмурыў вочы.

— Офіцірклазет фертіг?

— Дык дзе ж я зраблю, калі во гэты прыпёрся! — пачаў Пятрок, здагадаўшыся, пра што пытае немец. Але тут жа ён схамянуўся і змоўк, згледзеўшы, як фельдфебель неяк паспешліва сігануў да яго збоку. У наступны момант ён ледзь не заекатаў ад болю — нічога не кажучы, фельдфебель торкнуў яму такога выспятка, што Пятрок аж падскочыў. «Ой, Божачка мой!» — толькі і паспеў ён сказаць сабе ў думках, як апантаны вылецеўшы праз дзірку на гарод.

## 11

Сцепаніда сама не ведала, як перажыла тую гадзіну ранкам, калі немцы трэслі сядзібу, пераварочвалі набытак. Тое, што ноччу яе ніхто з іх не бачыў, было пэўна ўжо, але ад гэтага не рабілася лягчэй, думалася featured рознае. Зноў жа вінтоўка прапала менавіта тут, на хутары, і таго, мусіць, было даволі, каб жорстка пакараць ягоных гаспадароў. Дзіўна, як учарашнюю ноччу, ахопленая толькі адной сваёй прагай

зрабіць ім шкоду, яна не падумала аб тым. А як даўмелася, дык ёй стала страшна.

Але пакуль што ўсё абышлося ладна, немцы ўсе вымеліся, пры кухні застаўся адзін толькі Карла, і ёй загадалі памагаць яму: спярша абіраць бульбу (тры паўнюткія вядры), пасля перамыць два тузіны плоскіх кацялкоў з вечкамі; яшчэ Карла прымусіў вышараваць пяском два закапцелыя чаны і ў дадатак памыць нейкія кухонныя анучы ў гарачай вадзе з мылам. Знарок не хутка, без жаднай ахвоты яна рабіла ўсё гэта, і спакваля, па меры таго, як спакайнела пасля ранішняга спалоху, у ёй рос неспакой за парсючка — як ён там? Трэба было яго накарміць, а то, пэўна, верашчыць на ўвесь роў, раптам хто набрыдзе, выпусціць ці ўкрадзе, што тады ў гаспадарцы застанецца?

Але Карла не адпушчаў яе ні на крок ад кухні, усё даваў работу, яна моўчкі, безадмоўна рабіла. На полудзень немцы чамусь не прыехалі — можа, выйшла якая няўпраўка на мосце ці шчыравалі за ўчарашні святочны дзень. Прыехалі яны толькі перад змяркannем і адразу абсыпалі кухню — усе, відаць было, launched, згаладнелыя, абсіверaныя на ветры. Пятрок ужо выкапаў і абгароджваў парканнаю загародкаю афіцэрскі клазет на гародзе, а яна шаснула ад кухні да сенцаў, і вартавы саступіў убок — цяпер ён дазволіў увайсці ў істопку...

Сцепаніда ўвайшла і стаілася — яна баялася папасціся каму на вочы, усё думалася: а раптам хто з іх пазнае ці здагадаецца, што менавіта яна ўзяла вінтоўку. Не было б патрэбы, яна б не вылазіла з гэтай істопкі, дзе быў цяпер для яе прытулак і схоў і дзе зранку было ўсё перавернута і перакулена. Пятрок яшчэ не прыйшоў з гарода, і яна трохі парассоўвала па кутках дзежкі, начынне, павесіла транцё на цвікі па сценах. Золкі восеньскі дзень пад вечар і зусім сапсаваўся, пачаў імжыць дождж, немцы не надта гойсалі па падворку, а неяк хутка пабралі свае кацялкі з мясам ля кухні і пазашываліся ў палатку.

Калі на двары павальнела, Сцепаніда сабрала ў чыгунок рэшту старой варанай бульбы з цабэрка, трохі пасыпала яе вобмешкай, зірнула ў акенца. У наваколлі браўся хуткі асенні прыцемак, ля кухні нікога ўжо не было, апроч Карлы, які, напяўшы на галаву касы клін зялёнай палаткі, нешта прыбіраў там — наводзіў парадак. І яна з чыгунком, трохі прыхінутым

палой ватоўкі, выйшла з сянец, адразу, аднак, наткнуўшыся на вартавога — пажылога, даўганосага немца ў насунутай на вушы пілотцы. Ён стаяў пад страхой ля ганка і адразу выцяг нагу перад парогам.

— Эс іст ферботэн! Нелзя!

— Няможна? Во як...

Яна не стала ні прасіцца, ні ўгаворваць немца — з хаты даносіліся зласлівыя словы фельдфебеля, значыць, ён ці той афіцэр загадалі вартавому не пушчаць яе ў двор. «Каб вы паздыхалі ўсе!» — сказала яна сабе ў думках і вярнулася ў істопку.

У істопцы яна паставіла чыгунок ля парога, села на сеннічок і праседзела так, аж покуль у істопку не ўлез Пятрок. Ад яго патыхнула макрэддзю і сцюжай, але Пятрок нават не здаўся змораны — хутчэй вясёлы і задаволены.

— Баба, жывём! — з ненатуральным для яго ажыўленнем загаманіў ён з парога. — Зрабіў сарцір, ну, гэты клазет... Афіцэр пахваліў.

— Можа, аблаяў?

— Не, пахваліў, яй-богу. Па плячы так паляпаў. Гут сказаў.

— Здорава ты выслужыўся, — з’едліва сказала Сцепаніда, трохі дзівячыся пры сабе з Петрака: знайшоў чым радавацца.

— Ды не выслужыўся, чорт іх бяры! — з прытоеным запалам загаманіў Пятрок. — А во падумаў, мо скрыпку аддадуць.

— Не аддадуць, — сказала яна. — Не затым бралі.

— А нашто яна ім? Іграць жа не ўмеюць.

— А можа, і ўмеюць.

— Каб умелі, ужо ігралі б. Я знаю.

— Ну ідзі, прасі, — сказала яна, думаючы, аднак, аб іншым.

Яна думала, што парсючок, мабыць, прападзе, проста азалее ў гэту сцюжу, калі перш не здохне з голаду ў той нары. І што рабіць? Хіба папрасіцца па якой патрэбе з сядзібы, можа, пусцілі б? Але якую прыдумаць прычыну, каб паверылі, яна не магла даўмецца і напружана думала, думала.

— Ану пайду, — набіраўся рашучасці Пятрок, але ўсё яшчэ не адчыняў істопкі.

І тады яна ўспомніла пра недастрэленых сваіх курэй, якія, мабыць, некуды сышлі з хутара ці, можа, пахаваліся ў рове. Тупаючы ўдзень ля кухні, яна крадком усё пазірала па заву-

голлі, ці не пакажацца каторая. Але не паказалася ніводнай, значыць, недзе добра зашыліся.

— Папрасі там, каб пусцілі курэй пашукаць. Курэй, скажы, разагналі ўчора.

— А што? Можна. Ну, Божа, памілуй.

Не бачна было ў цемры, але яна ведала: Пятрок перахрысціўся, і памалу, нерашуча адчыніў дзверы. Затым не адразу, счакаўшы, з сянец пачуўся ціхенькі стук у другія дзверы, у хату, і Сцепаніда захвалявалася — чорт ведае што зараз будзе? Хоць бы жывы вярнуўся яе Пятрок.

Аднак, здаецца, яго ўпусцілі ў хату, і ён прапаў там надоўга. Яна чакала і слухала, ды нічога адтуль не было чуваць, апроч рэдкіх нянаскіх слоў, што-небудзь зразумець па якіх было нельга. І раптам тоненька пявуча загучала адна струна скрыпкі, другая і трэцяя — ладна загучалі, і яна пазнала Петракову руку. На што іншае ён быў не надта каб здатны, але іграць умеў, як рэдка хто іншы. «Няўжо аддадуць?» — неяк з сумнаю радасцю падумала Сцепаніда. Аднак Пятрок не вяртаўся, а замест яго з хаты хвалююча-пявуча пацякла музыка колішняй любімай ёю «Купалінкі». Сцепаніда слухала-слухала, душачы ў сабе нешта жаласлівае, якое ўладарна брала ў свой палон, і яна не стрымалася. З вачэй выплыла адна за адной некалькі слязін, яна хуценька сцерла іх з твару ражком шорсткай хусткі і зноў стаілася, слухаючы. Пятрок іграў слаўна, чыста і нават старанна, як некалі іграў малады на вечарынках у Выселках, Замошшы, Гузах на пару з цымбалістам Лаўрыкам. Як скончыў, чутно было, там зноў загаманілі, прыціхлі, і з хаты загучаў новы матыў песні пра Волгу, якую спявалі перад вайной. Чуваць было, яму падпявалі нават — не па-нашаму, недарэчна-фальшыва на чужой гэтай мове. Сцепаніда слухала-слухала, і яе першае міжвольнае замілаванне музыкай пачало саступаць месца прыкрасці і нават злосці — навошта ён там ім іграе? Знайшоў каго цешыць музыкай! Не мог адмовіцца, ці што? Сказаў бы: не ўмею, не мая скрыпка — сынава. А то ўзрадаваўся: пахваліў афіцэр за сарцір, дык, можа, гатоў яму іграць, калі ён там сядзець будзе. Ну хай толькі вернецца! Калі ўрэшце не заслужыць ад іх яшчэ аднаго добрага выспятка.

Тым не менш ішоў час, а з выспяткам там не спяшаліся: мусіць, сапраўды ягоная ігра спадабалася. Пятрок іграў доўга, пасля песняў узяўся за танцы і перайграў ім і «казачка»,

і «лявоніху», і «страданіе». Сцепанідзе нават здалося, што там разы два папляскалі яму, і нехта сказаў «брава», ці што. «Глядзі ты! — дзівілася Сцепаніда. — Во ўпадабалі! Ну чакай жа, я табе пакажу, як дагаджаць гэтаму груганню!»

Можа, толькі праз якую гадзіну стукнулі дзверы — адны, другія.

Пятрок сапраўды вярнуўся ў істопку і з парога ціха, але задаволена паведаміў:

— Ну, я ж казаў...

— Аддалі? — холадна запыталася яна.

— Аддалі, во, а ты казала, — ён сунуў ёй нешта ў цемры, і яна не адразу намацала тоненькі ражок скрыпкі.

— А пра курэй спытаў?

— А, пра курэй... Забыўся. Знаеш, забыўся... Там, ведаеш, з імі не дужа пагамоніш.

Коратка размахнуўшыся, яна шпурлянула скрыпку ў цёмны куток ля жорнаў, тая трохі стукнулася аб штось няцвёрдае і адскочыла, ціхенька загуўшы струнамі. Пятрок жахнуўся.

— Ты што, ты што?.. Ты што гэта, таго?..

— Я не таго. Гэта ты, гляджу, хутка таго, — напаўголаса, але злосна вымавіла яна. — Прыладзіўся, грае. Каму ты граеш — падумаў? Можа, яны дзяцей тваіх пазабівалі. Дзе твая дачка? Дзе сын? Каторы ўжо месяц — ніякай вестачкі, а ён ім грае.

— Ну, дык што зробіш? Што? Так сказалі. Ну і граў. Затое аддалі.

— Аддалі! Цяпер штовечар ім граць будзеш?

Пятрок не паспеў адказаць, як знадворку недзе блізка ля хаты бабахнуў дужа гучны ўначы стрэл, і адразу загаманілі там многія галасы — устрывожана, з вокрыкамі, па-нямецку. У хаце рэзка бразнулі дзверы, усе там выскачылі на цёмны падворак, і яшчэ пачуліся трывожныя крыкі, і зноў запар два разы бабахнулі стрэлы. Сцепаніда сядзела, бы нежывая, не разумеючы, што там дзеецца, куды і ў каго там страляюць, як раптам над хатай і падворкам пыхнула сляпучае, бы электрычнае, святло ўгары: у акенца шыбануў яркі вогненны пук, які хутка перабег цераз падлогу, па дзежках з Петраком, што змярцвела трымаў у руках чырвоную скрыпку, і раптам згас на сцяне пад чорнаю бэлькай столі.

— Ракета, — сказаў Пятрок запалым голасам. — Што ж гэта робіцца? Спаляць...

Яна таксама не ведала, што гэта робіцца, і не бачыла нічога, толькі страхавіта ўслухоўвалася ў незразумелую калатнечу каля сядзібы. Падобна было, аднак, калатнеча пасунулася за хату, да рова, чуваць стала, што беглі туды, тупаючы па зямлі ботамі; там жа бахнула яшчэ некалькі стрэлаў. А калі неўзабаве загарэлася яшчэ адна ракета — яе дальняе святло цьмяным няпэўным водбліскам шаснула па суччы ліп, груваcткім будане машыны пад імі. «Каго яны там згледзелі? — думала Сцепаніда. — Няўжо парсючка? Мо выграбся, прыбег, цяпер пэўне ж застрэляць».

Яна ўжо не магла сядзець і слухаць — стала на калені да акенца і ўзіралася ў цемру. Пасля памкнулася нават выйсці, але тут жа вярнулася да акенца, падумаўшы, што цяпер выйсці нельга: яшчэ застрэляць у цемры. І яна слухала ўсё: недалёкую ўстрывожаную гаману ля рова ці на гародзе, па той бок сядзібы, яшчэ некалькі стрэлаў і гучных крыкаў-каманд па-нямецку.

— Божа мой, Божа! Што гэта? — не могучы даўмецца, бедаваў Пятрок.

— Ціха ты! Слухай...

Ну ведама ж, што яшчэ ім заставалася, апроч як сядзець і слухаць. Неяк у гэтай нясканчонай напружанасці, як там трохі прыціхла, яна пачула кароткую сцішаную размову ля ганка — мабыць, хтось загаварыў з вартавым, і яна зразумела адно толькі знаёмае слова «бандытэн». Але адкуль тут і якія бандыты? Няўжо напалі на іх, калі немцы так раз’юшана кінуліся за імі да рова? Але чаму тады не чутно стрэлаў адтуль?

— Што будзе, што будзе? — ледзь чутна бедаваў Пятрок, і яна ціха азвалася да яго:

— Што будзе, тое і будзе. Не знаеш хіба?

— Каб жа хоць не спалілі! Гэныя ракеты, знаеш, як паляць!

— Могуць і спаліць, — проста пагадзілася Сцепаніда. — Яны ўсё могуць.

Ёй здалося, што нехта прабег завуголлем ля сцяны істопкі на падворак ці да палаткі, зноў там загаманілі, але на гэты раз кароценька — слова на слова, і той зноў пабег кудысь у гарод. Стрэлаў, аднак, не было чуваць, хоць ракеты яшчэ некалькі разоў пасвяцілі, і ціхі іх дальні водбліск трохі парэдзіў цемрадзь на двары і ў істопцы. Яна ўбачыла белы, як палатно,

Петракоў твар, у руках няшчасны музыка сціскаў непатрэбную цяпер скрыпку, мусіць, не ведаючы, куды з ёю дзецца.

— Ідуць!!!

Пятрок аж напяўся ў цемры, яна амаль фізічна адчула гэта, а пасля ўжо і да яе слыху данеслася далекаватая яшчэ гамана, галасы. Яны набліжаліся — падобна было, што нейкая група немцаў, ці, можа, яны ўсе вярталіся на сядзібу. Так, мусіць, вярталіся — галасы сталі выразней, іх часам перабіваў адзін гучнейшы. «Ці не фельдфебелеў?» — падумала Сцепаніда і яшчэ ўслухалася: не, то быў нейчы другі голас, які штось даводзіў астатнім, тлумачачы ці, можа, апраўдваючыся.

Неўзабаве на сцежцы за істопкай і на дрывотні затупалі, зашлёпалі па гразі крокі, па падворку адразу матлянулася некалькі прамянёў з ліхтарыкаў, якімі яны свяцілі сабе. І сапраўды, яны рушылі ці не ўсёй грамадой — разам спыніліся на падворку каля прыступак. Нехта ўбег у хату («Ліхт, ліхт!»), і ў акне ярка заззяла электрычная лямпачка — уключылі святло.

Сцепаніда стаяла ля акенца, пэўна ўжо ведаючы, што зараз выявіцца штосьці нядобрае, дужа непрыемнае для яе, але таго, што выявілася, яна не прадбачыла. Праз старое замурзанае шкло акенца не шмат што было бачна ў трохі падсветленай імгле падворка — хіба тое, што высвечвалася электрычнасцю з хаты. Але яна згледзела, як яны там паклалі на траву нешта цяжкое, што ўдвух прывалаклі з дрывотні, і самі пасталі, засланіўшы яго ад істопкі і ажыўлена гамонячы між сабой. Некаторыя смяяліся, іншыя страхавіта штосьці выкрыквалі. З-за іх спін і пілотак відаць была ўсярэдзіне высокая фуражка афіцэра ў блішчастым плашчы. Ліхтарык з ягонай рукі клаў светлую пляму ля ног у доле.

— Некага забілі, — сказала яна Петраку, які мясціўся побач, зазіраючы ў акенца. Але, мусіць, не паспеў той што згледзець, як у сенцах стукнула, прыцьмелы праменьчык з ліхтарыка матлянуўся па істопцы, асляпіў іх пад акенцам.

— Фатэр, ком! Смотрэль айн бандзіт! Апазнаваль айн бандзіт, — паправіў сябе фельдфебель.

Перахрысціўшыся на хаду, Пятрок на хісткіх нагах падаўся да дзвярэй, а Сцепаніда засталася ў цемры і ўжо не пазірала ў акенца. Яна скамянела ўся на сярэдзіне цеснай істопкі, ужо ведаючы, што сталася страшнае, і, як прысуду, чакала пацвярджэння сваёй здагадкі.

Калі вельмі хутка вярнуўся Пятрок, яна не спытала ў яго — хто, баялася тое пачуць без пытання. Яна была б удзячна Петраку, каб той не сказаў нічога, проста змоўк бы да ранку. Але Пятрок быў не такі, каб доўга маўчаць. Толькі прыткнуўшы дзверы, ён паведаміў шэптам:

— Янку забілі.

Яна маўчала, адчуваючы толькі, быццам рухнула кудысьці ў цемру, дзе не было супынку, а ён, мабыць, зразумеў гэта яе маўчанне як нявыказанае нямое пытанне.

— Ну, таго пастушка. З Выселак.

Каб раптам не ўпасці, яна рукамі намацала край сеннічка і апусцілася на яго.

Яна сапраўды кудысь правалілася з гэтай істопкі і з гэтае ночы, нібы не адчуваючы сябе на гэтым тлумным і страшным свеце, які ўсё вузеў, меншаў, каб неўзабаве паўстаць перад ёй неадольнаю перашкодай, канцом. Яна ведала — яе канец набліжаўся хутка і няўмольна і думала толькі: завошта? Што яна зрабіла не так, напроціў Бога і сумлення, чаму такая кара абрынулася на яе, на людзей?

«Чаму і завошта?» — пыталася яна ў сябе, не знаходзячы, аднак, адказу, і думкі яе ішлі далей, у глыб перажытага. За сцяной на падворку патроху цішэла, перасталі тупаць цвёрдыя боты, часам сцішана чуліся галасы, але яна не слухала тых апрыклых чужых галасоў, — трохі паспакайнеўшы душэўна, яна ўбачыла іншы час і ў ім учула іншыя галасы — з далёкае далечы яны данесліся да яе на суцяшэнне, гароту ці роздум ці, можа, несучы якую надзею. Надзею з мінулага, калі якая была там, бо з будучага наўрад ці яна мела азвацца...

## 12

На хутары той дзень не палуднавалі: Сцепаніда чакала са школы Федзьку і Феню, Петрака зранку не было дома — на золаку павёз з мужыкамі самаабкладанне на станцыю, меўся прыехаць хіба што позняй ноччу. Якраз нахапілася вялікая слізгота — дзён тры дагэтуль была адліга, на дварэ ўсё плыло, сеяўся дробны дождж з неба, а ранкам ударыў мароз — поле, дарога, дрэвы пакрыліся карыной слізкага лёду; адзін сук на ліпе не вытрымаў ледзянога цяжару, абламіўся і завіс абледзянелым голлем да снегу. Праз трохі пратаалае акно Сцепаніда згледзела за гэтым суком чалавека ў полі, які то рухава

бег па саннай дарозе з Выселак, то прыпыняўся трохі, разоў колькі разгоніста коўзаў, мусіць, па слізкай каляіне, матляючы ў паветры доўгімі рукавамі світкі. Калі чалавек перабег гасцінец і скіраваў да хутара, Сцепаніда пазнала ў ім высялкоўскага хлопца Патапку. Патапка быў пераростак, у школу зімой не хадзіў: не меў што абуць, і цэлымі днямі сядзеў на лаве ў хаце, палову якой займаў сельсавет, — заўжды разявіўшы рот, слухаў, што гаманілі мужчыны. Калі здаралася патрэба каго паклікаць, тады сельсавецкі старшыня, аднавокі Лявон, пасылаў Патапку. Хлопец не дужа каб ахвотна, але ішоў ці бег, куды пасылалі, і, вярнуўшыся, зноў садзіўся пры парозе на лаву з пільнаю ўвагай да ўсяго, што гаварылі старэйшыя.

Трохі паўглядаўшыся ў акно, Сцепаніда адставіла ў кут прасніцу з воўнай, паправіла хустку. Было пэўна ўжо, што Патапка бяжыць на хутар не так сабе, што ў яго ёсць патрэба. Апошнім часам у Выселках ледзь не кожны вечар збіраліся сходы, лічы, з Вадохрышча вясковыя актывісты і прыезджыя ўпаўнаважаныя з раёна і нават з акругі стараліся як сагітаваць мужыкоў у калгас. Але ўсё марна. Заўчора праседзелі ўсю ноч, спрачаліся і сварыліся, разышліся, калі добра ўднела, а запісалася ўсяго шэсць гаспадарак.

Гледзячы на Патапку, Сцепаніда падумала, што, мабыць, і цяпер той бяжыць наказваць на сход. Значыць, лікбезу сёння не будзе. Яна трохі пашкадавала аб тым, бо сёння, як ніколі раней, удала спісала старонку ў сшытку, і словы, можа, першы раз за зіму, выйшлі даволі зграбныя, амаль скрозь роўненькія, мабыць, у школе пахвалілі б. Мінулы раз дык паганілі, ды і было цемнавата, пісала, як палеглі дзеці, і ў газнічцы канчалася газа, а Пятрок усё наракаў з запечку, што не ў пару ўлегла ў грамату, трэба класціся спаць. Цяпер жа, застаўшыся адна ў хаце, яна села за прыбраны стол і нетаропка вывела радкоў з восем: «Мы будуем машыны, мы будуем калгасы». Ды, мабыць, сёння заняткаў не будзе.

Тым часам у сенцах бразнулі дзверы і, не атэпваючы ног, у хату ўвапхнуўся Патапка — рослы белатвары падлетак, падпяразаны вяроўчынай па лапленай світцы. Не павітаўшыся, перш шморгануў разы два счырванелым прастуджаным носам і прагугнявіў:

— Там Лявон цётку кліча.

— А што, сход?

— Не, не сход. Камбед будзе.

— Цяперака?

— Ну.

— Збяруся, прыйду, — сказала Сцепаніда, трохі схамянуўшыся нутром: то было нешта новае. З восені камбед не збіралі, казалі, што будуць выбіраць новы. Але во, мусіць, знайшлася патрэба і ў старым.

Патап яшчэ шмаргануў носам, паправіў перакручаную на галаве шапку-аблавушку і вылез у дзверы. Перш чым зачыніць іх, грукнуў аб парог абцасамі ботаў, і Сцепаніда пазнала: то былі Лявонавы боты. Сам Лявон цяпер, напэўна, сядзіць, далей залезшы за стол у сельсавеце, і падкурчвае пад лаву ногі, каб хто з заходжых не бачыў босага старшыню. Але халера на яго, і ў Багацькаў з абуткам не лепей, проста бяда з абуткам: ні сабе, ні дзецям — ні купіць, ні паладзіць з чаго. Былі адны лапленыя валёнкі, дык сёння іх ранкам надзеў Пятрок у дарогу, і ёй цяпер трэба было абуваць чуні. Ну, але аб сабе яна не дужа клапацілася, ішла ж не ў царкву, а калі пасяджэнне камітэта беднаты, дык чаго там саромецца. Абы цёпла нагам.

Яна хутка сабралася, надзела трохі навейшую шарсцяную спадніцу, завязала падніз свяжэйшую, белую ў крапінку хусцінку, спрытней забарсала на нагах чуні. Не надта шчыравала над убраннем — была не маладая. І хоць здароўем Бог не пакрыўдзіў, але ж — сорак год — бабін век, не тое што дваццаць. Зняла з цвіка ля парога галоўнае сваё ўбранства — кажушок, аздоблены спераду вышыўкай, хоць і не новы, але ладны і цёплы кажушок, годны на ўсякі выхад. Хату яна не замыкала, хутка меліся вярнуцца са школы дзеці, можа, яна яшчэ спаткае іх на дарозе. Школа была недалёка, усё ў тых жа Выселках, куды вяла вузенькая санная дарожка ад хутара. Яна ўсё ішла і пазірала наперад, ці не пакажуцца яе двое малых: Фенечка хадзіла ў трэці клас, а Федзя ў другі. Але дзяцей не было відаць, дзень канчаўся, а дарога была страшэнна слізготная, проста шкло. Каб не паваліцца, Сцепаніда пазірала болей пад ногі, ступала асцярожна і думала з клопатам: што будзе там, на камбедзе?

Але, мусіць, клікалі не так сабе, мусіць, штось будзе. Учора ноччу, у непраглядным куродыме ад тытуню, у сельсавецкай хаце пад ранак наспела нешта такое, што, адчула яна, дабром-мірам не кончыцца, нешта здарыцца. Пачалося ўсё з напружанай насцярожанасці і мужыкоў, і ўпаўнаважанага, і

сельсавецкага старшыні Лявона, пакуль выбіралі прэзідыум, галасавалі, зацвярджалі парадак дня — усё той жа цяпер з Калядаў, — у хаце збіралася, вісела, напружвалася нешта клопатна-трывожнае, важнае і нават пагрозлівае. Як загаварыў упаўнаважаны з раёна Касмачоў, усе ўнурылі галовы, пахавалі вочы, слухалі і маўчалі, не пазіраючы адзін на аднаго. Касмачоў гаварыў ладна, болей біў на факты, на прыклады, расказваў, як дужа зажылі калгасаўцы ў Будніках, што пад Леплем: другі год вялікія ўраджаі, будуюць клуб, на полі аруць два трактары, набылі малатарню, жняяркі. Даволі ім, высялкоўцам, трымацца за свае вузкія шнуркі-надзелы, гібець у беднасці і нэндзе, калі свая, Савецкая ўлада дае магчымасці, ідзе насустрач беднякам і сазнацельным серадняка́м таксама. Уся краіна дружна становіцца на рэйкі калектывізацыі, дык ці гожа ім адставаць? Касмачоў гаварыў памяркоўна, націскаў на сазнацельнасць серадняка, які павінен выступаць у саюзе з бедняком, а не з кулакамі і падкулачнікамі. Словы ён падбіраў разумныя, харошыя словы, і сам выглядаў разумным, памяркоўным дзядзькам. Ён і быў памяркоўны і разумны: перад тым, як стаў рабіць у раёне, гадоў колькі выкладаў гісторыю ў школе і, казалі, быў дужа адукаваны настаўнік. Яму верылі. Але адной толькі веры для высялкоўцаў аказалася мала, патрэбны быў прыклад. А прыкладу, на які можна было б паглядзець, паблізу якраз і не было.

Ля Касмачова, цяжка ўзваліўшыся грудзьмі на стол, сядзеў Лявон Багацька з вузенькім чорным матузком наўкось цераз лоб. Лявон быў свой, высялкоўскі мужык, мнагадзетны і малазямельны і, як яна з Петраком, надзелены па беднасці дзвюма дзесяцінамі яхімоўшчынскай зямлі. Вока Лявону выбілі на польскай вайне недзе пад Віслай, калі ён схапіўся на шаблях з двума польскімі ўланамі, і яму дужа дасталася, ледзь аклемаўся ў шпіталі і вярнуўся дамоў калекам, падцягваў нагу і не меў двух пальцаў на правай руцэ. Гаварыць Лявон не ўмеў аніколечкі, словы ягоныя былі што валуны ў полі, і ён браў болей маўчанкай, упартай нязрушнасцю характару. Пасля выступлення Касмачова як-колечы, з вялікім недаборам рук, прагаласавалі за арганізацыю калгаса, а як дайшла справа да запісу, усё прыпынілася. Лявон тады нязграбна, у кажусе, падняўся за сталом над ушчэнт закапцелай лямпай і сказаў, падняўшы руку:

— Калі так, я першы. Хай! І выклікаю паследаваць прымеру Багацьку Сцепаніду.

Гэта ўжо было нешта новае. Тыя разы Лявон таксама запісваўся першы, але следаваць прыкладу не выклікаў, за ім запісваліся Сцепаніда, Антось Недасека, дэмабілізаваны чырвонаармеец, беззямельны Васіль Ганчарык, і на тым наступаў перапынак. Болей ніхто не запісваўся, сядзелі моўчкі, курылі. Зноў выступалі ўпаўнаважаныя, мацерна лаяўся Лявон за несазнацельнасць, і зноў марна.

Цяпер Сцепаніда ўстала з лавы пад сцяной і сказала, што згодная ўступіць у калгас.

— А каго выклікаеш паследаваць прымеру? — напружана ўставіў у яе адно вока Лявон.

Сцепаніда трохі сумелася. Пакуль стаяла, аднак, ля лавы над угнутымі спінамі мужыкоў і азірала іх ускудлачаныя, сівыя, лысаватыя патыліцы, ссутуленыя гадамі, працай і гэтым неспадзяваным клопатам плечы ў кажушках, паддзёўках, цалейшых і палапленых армячках, сцяміла: выклікаць трэба такога, каб ён напэўна запісаўся і таксама выклікаў некага здатнага для прыкладу наступным. Спярша яна хацела назваць Карнілу, што цяпер сядзеў за тры чалавекі ад яе, той якраз і зірнуў на яе неяк бокам з касматага каўняра кажуха, але ў тым яго позірку яна на адчула падтрымкі — хутчэй спалох, нядобразычлівасць, і яна сумелася.

— Ну, выклікаю Ладзіміра Багацьку, — сказала яна пагадзя, нават не абдумаўшы, добра будзе тое ці не.

Ладзімір быў чалавек памяркоўны, не самы бяднейшы ў вёсцы, але і не багаты, зямлі меў, можа, на якую дзесяціну болей за Петрака ці Лявона, з яго малодшай дачкой Анютай Сцепаніда гэтую зіму хадзіла ў лікбез і сядзела за адным сталом у школе. Анюта ёй падабалася, хоць і была ўдвая маладзейшая, але чулася нібы малодшая сястрычка — такая была прыхільная і сяброўская.

Высокі хударлявы ў паддзёўцы Ладзімір натужна ўстаў з услона, дрыготкай рукой пакратаў вусы. З вялікай, аднак, неахвотай, бы хворы, выцадзіў з сябе нешта, што таварышы з прэзідыума зразумелі як згоду ўступіць. Пасля ён з такой жа ледзьве адоленай натугай думаў, каго выклікаць на прыклад, і назваў Антося Недасеку. Малады яшчэ, жвавы і спрытны Антось тут жа пагадзіўся і выклікаў суседа цераз вуліцу Івана Гужова, якога ўсе ў вёсцы звалі проста Гужом.

«Неяк пайшло», — падумала Сцепаніда і ажно парадавалася, што Лявон гэтак удала прыдумаў рушыць калгасную справу. Гэта ж так проста: адзін за адным, ланцужком, па прыкладу актывіста, суседа, сваяка. Усё ж так весялей і надзейней, не тое што вытыркацца аднаму з пакутнаю думкай: а раптам іншыя не захочуць, не падтрымаюць, а ты застанешся дзіваком ці няўдачнікам, бо наўрад каб ты аказаўся разумнейшы, калі робіш насуперак іншым? Усё ж справа гэта хоць і выгадная, як паглядзець здаля, хоць і дзяржаўная, разумнымі людзьмі прыдуманая, але новая, не бачаная дагэтуль, нікім не спытаная, хто ведае, як яшчэ ўсё абернецца. Мажа, дзе і абярнулася добра, але ж там, мусіць, і зямля лепшая, не такая, як тут: то пясок, то гліна, а то і балота. Ды і людзі, напэўна, больш здатныя, не тое што тут. Каго ні вазьмі, дык калі не гультай, дык нямоглы, а то сквапны праз меру, то сварлівы, не гаспадарлівы ці тупаваты завельмі. Яны і для аднаасобства не дужа здатныя, а як будзе ў калгасе? За сябе Сцепаніда не надта баялася, яна — як усе, а калі ішла добраахвотна і першай, дык болей таму, што была бяднячка, уведала нявыкрутку на дзвюх дзесяцінах, дзе толькі надарвешся на той гліне пад ровам. Хопіць таго, што яна надрывалася ў парабках пана Яхімоўскага, шэсць год рабіла, не шкадуючы сябе. А што зарабіла? Добра яшчэ — далі ягоную хату ды дзве дзесяціны. Як бы жыла інакш? З Петраком, такім жа, як і яна, парабкам, ды двума нажытымі дзяцьмі?

Цяпер Сцепаніда акрыяла душой: урэшце зрушылася, пайшло, будзе калгас, што ўжо чапляцца за тую бядняцкую нэндзу, ці не пара саступіць са спрадвечнага і даверыцца новаму. Тым больш калі разумныя людзі раяць. Яна паважала разумных людзей, асабліва тых, каторыя з горада, адукаваныя, думала: ужо яны на благое агітаваць не будуць. Добра, што і Пятрок не надта пярэчыў, хоць на сходы хадзіць перастаў, пасылаў яе і бурчэў кожнага ранку, як збіраўся на ток ці да скаціны. Але што ведаў Пятрок, які павучыўся некалі дзве зімы ў школе, толькі і ўмеў распісацца, ды і то аж спацее, бывала, пакуль выведзе на паперы сваё няхітрае прозвішча.

Мабыць, аднак, яна раней часу парадавалася, хоць і здаўна ведала, як гэта блага — загадзя радавацца. Стары Гуж выклік Недасекі не прыняў, запісацца ў калгас адмовіўся. Так ладна наладжаны ланцужок раптоўна парваўся.

Пасля зноў выступаў Касмачоў, грукаў кулаком па стале Лявон, заклікаў да сазнацельнасці, сход загаманіў без ладу і без сэнсу, бы прарвалася штось нядобрае. Ладзімір усчаў сварку з Карнілам, ледзь не пабіліся. А стары, абрафслы сіваю шчэццю Гуж сядзеў, бы перад смерцю, прамы і маўклівы, туга сашчапіўшы вусны, і глядзеў кудысці ў кут, дзе некалі віселі абразы, а цяпер прыбіты цвікамі цьмяна свяціўся папяровы партрэт Карла Маркса. Так болей нічога і не ўдалося да золаку. На золаку па адным разышліся.

Яшчэ з вуліцы ў Выселках Сцепаніда згледзела на сельсавецкім падворку буланага коніка пад стракатай папонай, запрэжанага ў ладны зялёны вазок, і здагадалася, што гэта прыехаў Новік. З пачатку зімы той ездзіў у гэтым спрытным вазку, бо яшчэ ўлетку перабраўся ў горад і стаў працаваць у акружкаме. Дужа крута пайшоў угору гэты Недасекаў хлопец, які, стаўшы начальнікам, перш змяніў прозвішча на Новіка, мусіць, ранейшае яму замінала. Ён спрытны быў і ў дзяцінстве, няблага вучыўся ў школе, а пасля — на настаўніка ў Віцебску, але настаўнікам рабіць не схацеў, падаўся ў кіраўнікі. «Гэты не Касмачоў, — падумала Сцепаніда, паварочваючы да сельсавета, — гэты ўсіх тут бачыць наскрозь. І не глядзі, што тутэйшы, а з людзьмі трымаецца строга, па-начальніцку і наогул прынцыповы, дзелавы, кажуць, дужа парцейны. Зрэшты, — думала яна, — можа, цяпер такім быць і трэба, бо з нашымі людзьмі інакш нельга. Калі яны што і прызнаюць, дык гэта ўладу і строгасць».

Сельсавецкая хата стаяла пры самай вуліцы ў сярэдзіне вёскі — доўгая, нізкаватая будыніна пад дранкай з рудаватаяблезлай палатнінай лозунга ў падстрэшшы, на якой белымі літарамі значылася: «Цясней змычку горада з вёскай!» Сяней пры хаце не было, адчыніўшы дзверы, прыхожы адразу трапляў у вялікі пуставаты пакой, дзе некалі жыў высланы псаломшчык Конан з вялікай сям'ёй, а цяпер кватаравала хворая Каландзёнчыха з сынам, на выгляд не то дзецюком, не то падлеткам Патапам. Ля парога Сцепаніда трохі атэпала чуні і расчыніла дзверы, адкуль яе абдало цяплом напаленай грубкі, а нізам з-пад ног сунулася воблака сцюжы. Яна тарапка зачыніла дзверы і спынілася, стараючыся ўгледзець, хто ў сельсавеце. Там-сям сядзела некалькі мужчын, у падстоллі плавалі-круціліся шызыя космы дыму. Гучная размова мужчын разам спынілася.

— Во і Багацька, — сказаў з-за стала Лявон і змоўк.

Яна павіталася і села на краёчак лавы каля дзвярэй, ведала — пытацца няма чаго, зараз і без таго ўсё праясніцца. Яна толькі стрымана зірнула на заклапочаны, нават прыгнечаны твар старшыні, што сядзеў над нейкай паперынай, перавяла позірк на ладную, падцятую постаць Новіка, падпяразаную шырокай ваеннай дзягай па зялёнага колеру фрэнчы, яго зграбныя, з бліскучымі халявамі боты, у якіх ён энергічна крочыў ад акна да грубкі цераз пакой і, відаць, гаварыў нешта важнае перад яе прыходам. Чорны шарсткаваты чуб яго раз за разам спадаў на лоб, і Новік, энергічна трухнуўшы галавой, закідваў яго назад. У парозе поркаўся каля грубкі Патапка, соваў у топку тоўстыя смаляныя палены, ад якіх аж гуло ў некалі пабеленай, але добра ўжо абшкрэбанай сялянскімі плячыма грубцы. Побач з услона за ім дужа пільна сачыў малодшы Недасека, які цяпер гаспадарыў сям'ёй у бацькавай хаце і, як і Сцепаніда, быў членам камітэта беднаты. Аблезлы залаплены кажушок на ім быў шырока расшпілены ад цеплыні. У хаце ўвогуле было цёпла.

Трохі памаўчаўшы, Новік ступіў па падлозе тры крокі і павярнуўся да стала.

— Я ўжо сказаў: галоўная небяспека на даным этапе — гэта правы ўхіл. Нельга дазволіць, каб тэмпы калектывізацыі замарудзіліся. Тым больш сарваліся. А ў вас іменна так: зрыў! Галавацяпства! Восем сходаў, і не можаце арганізаваць калгас. Мяккацеласць і папусціцельства класаваму ворагу. Таварыш старшыня, колькі вы раскулачылі? — Новік раптам жвава павярнуўся на абцасах і апынуўся перад Лявонам. Той недаўменна падняў свой аднавокі твар з сінім шрамам на левай шчацэ.

— А каго раскулачваць? Галота.

— Ах, галота? Дык чаму ж тады твая галота байкаціруе калгаснае будаўніцтва?

— А таго што баіцца. Не ведае. Як будзе ў калгасе, не ведае. Не шутачкі...

— Як будзе — партыя сказала. У рашэннях з'езда Саветаў напісана. Ці вы не растлумачвалі?

— Мы растлумачвалі. Сазнацельная часць сялян — за. Але сазнацельных мала.

— Сазнацельных мала! — пагрозліва паўтарыў Новік. — Перш-наперш самім трэба стаць сазнацельнымі. А во вы

самі — вы ж заражаны душком укланізму. Я вот гляджу, часнасобственніцкія тэндэнцыі для вас важней, чым рашэнні партыі.

Новік раз'ятрыўся, гэта відно было па ягоных нервовых рухах, хадзе, на якой ён часта спыняўся і кідаў Лявону крыўдныя словы абвінавачання. Але і Лявона, відаць, дапякло: пакалечаны твар яго ўсё болей бурэў, адзінае вока з-пад касмылявага белага брыва налівалася нутраным гневам, і ён не стрываў:

— Ты мяне ўкланізмам не дакарай! Я не менш за цябе хварэю за калгасы. Я кроў праліваў за новае жыццё. Але як во рабіць? Добра табе ездзіць, трэбаваць! А во сядзь на маё месца, убядзі! Каб згадзіліся па сваёй ахвоце. Каб без нагана, як у некаторых.

Мусіць, Новік зразумеў, што так будзе не размова, а сварка, ды яшчэ на людзях. Ён памаўчаў трохі і сеў збоч стала.

— Ладна. Я вас навучу, — сказаў ён спакойней. — Дзе камбед?

— Во Багацька Сцепаніда, зараз прыйдзе Ганчарык. Сямёна не будзе, павёз збожжа на станцыю, — пацішэлым тонам, але яшчэ ваўкавата адказаў Лявон.

— Ну, што будзе паўнамоцна. Сельсавет, камбед, прадстаўнік акружкама — будзе паўнамоцна. Трэба рашаць. Ударыць па сабатажніках. А то развялі галавацяпства!.. Адкрывай сумеснае пасяджэнне.

— Гэта... Сумеснае пасяджэнне шчытаецца адкрытым, — прабурчаў Лявон і змоўк.

— Пытанне адно: адпор сабатажнікам калгаснага руху, — падказаў Новік. — Прадлагаю раскулачыць Гужова Івана. Як кулацкага падпявалу і сабатажніка.

Костачкамі пальцаў Новік прыстукнуў па абшкрэбанай сталешніцы, зірнуў на Сцепаніду, затым — працяглым позіркам на Лявона. Лявон узваліўся грудзьмі на стол і заціх.

— А па якой стацці? — запытаў ён, памаўчаўшы. — У яго зямлі чатыры дзесяціны. Самы серадняк.

— Знаю, — сказаў Новік. — Яго ж надзел поруч з нашым. Зямлі не багата, сагласен. Але — сабатажнік. Сам жа ты казаў, што ён сарваў сход. Зрыўшчык, значыцца. Калі ўпрэцца, нічым не зрушыш. Ужо я яго ведаю.

Сцепаніда маўчала — да такога павароту справы яна была не гатова. Гуж для яе быў як і ўсе: не багацейшы за іншых,

хіба больш цягавіты ў працы, да таго ж меў двух сыноў, работнікаў у самай сіле, а тры мужыкі ў гаспадарцы гэта табе не тры бабы. Варочаюць, ого!

— Дык ён жа другіх не падбухторваў. Ён сам не пайшоў, пры чым жа тут зрыўшчык! Ці сабатажнік? — напружана разважаў за сталом Лявон, перакладваючы з месца на месца паперку.

— Як вы не разумееце?! — урэзаў кулаком па сталешніцы Новік. — Яго вы не зрушыце — за ім не зрушацца іншыя. На яго ў сяле азіраюцца: аўтарытэт! Во мы і ўдарым па гэтым аўтарытэце! Тады запяюць інакш. Пабаяцца.

— А ці правільна гэта? — набраўшыся духу, сказала Сцепаніда. — Раскулачваць, каторыя кулакі. А Гуж серадняк. Не, я не сагласная.

— Ну і кіраўніцтва! Ну і актыў! — пакутна застагнаў Новік. — Галавацяпы вы! Ён жа горш, чым кулак. Ён — сабатажнік! Зрывае калектывізацыю ў Выселках. А Выселкі зрываюць тэмп у раёне. Раён-зрыўшчык, вы разумееце, што гэта такое? Мусіць, за гэта цяпер па галоўцы не гладзяць. І нас, і вас!

— Як хочаце, а несправядліва гэта, — не здавалася Сцепаніда. У горле ў яе зацяло, і яна ўжо гатова была спрачацца, але Новік раптам усхапіўся і так закрычаў, нібы яна абразіла яго.

— Якая справядлівасць, цётка? У вас цемрашальства ў галаве, адсталае ўяўленне пра нейкую някласавую справядлівасць! А мы, бальшавікі, кіруемся адно класавай справядлівасцю: ніякай пашчады ворагу! Той, хто стаіць на нашым шляху, нам вораг, і мы яму ламаем хрыбет. Інакш новага жыцця нам не бачыць. Нас саміх сатруць у парашок. У вас капітулянцкія, праваўкланісцкія погляды, якія трэба бязлітасна выкараніць!

Сцепаніда маўчала. Яна ўжо ўсумнілася, падумала, можа, і так. Можа, гэты Новік і мае рацыю, ведама ж, ён разумны, адукаваны, не тое што яна — ходзіць у другую клясу лікбеза. Але ж Сцепаніда як уявіла сабе тое раскулачванне, плач, гора, высылку, дык ёй стала моташна. Што было рабіць?

— Як я скажу дзеравенцам? — пакутна круціўся за сталом Лявон. — Што сабатажнік? Ці зразумеюць? Не, не зразумеюць. Бо я і сам не разумею, — казаў ён памяркоўна і ўсё

перакладваў на стале паперку — то бліжэй, то далей, то па адзін бок, то па другі.

У гэты час разгоніста-шырока расчыніліся дзверы, і ў хату ўскочыў высокі хлопец у шынялі з яркімі малінавымі пятліцамі на каўняры, зняў з галавы вастраверхі шлем з шырокаю зоркай на лбе. Сам быў счырванелы, запыханы, мусіць, спяшаўся, а вочы яго свяціліся жвавасцю і задавальненнем.

— Пазнішся, Ганчарык, — змрочна папракнуў Лявон. — Даўно трэба...

— Толькі прыбег з мястэчка, маці кажа: камбед.

Васіль Ганчарык павітаўся за руку з Новікам, пасля з Лявонам, абышоў астатніх — Недасеку, падаў руку Патапу, пацiснуў сцюдзёнымі пальцамі далонь Сцепанідзе.

— Я каля вас, цётка.

— Сядай, — пасунулася трохі Сцепаніда. Ёй, аднак, было не да Ганчарыка — вялікі клопат затлуміў яе галаву.

— Пра што гамана? — запытаў Ганчарык, усё яшчэ ўсміхаючыся прывабнымі ямкамі на зружавелых шчоках. Ён толькі ўвосень прыйшоў з войска, адслужыўшы недзе на Далёкім Усходзе, цяпер збіраўся жаніцца. На ягонае пытанне, аднак, ніхто не адказаў, усе клопатна надзьмуліся, і ён, нешта адчуўшы, таксама сагнаў з твару мілую ўсмешку. Сцепаніда шапнула:

— Гужа раскулачваць...

— Во што!

— Так, раскулачваць, — зноў пачаў Новік. — І няма чаго рассусольваць. Калгас пад пагрозай зрыву. А Гуж... Наёмны труд быў? — раптам запытаў Новік і насцярожыўся, чакаючы адказу.

— Які там наёмны! — сказаў, нібы адмахнуўся, Лявон.

Але ў той час ля грубкі заварушыўся Новікаў брат Антось Недасека.

— А гэта... Як трысцен ставіў. Наймаў, ага. З Загразззя дзеда аднаго. Яшчэ за грошы сварыліся, Гуж яму тры рублі скруціў.

— Во, бачыш! — ажывіўся Новік і аж угнуўся перад Лявонам. — Было!

— Дык ці мала... Будаваў трысцен! Яно, калі так...

— Не так, усё правільна. Наёмная рабочая сіла — першая адзнака эксплуататара. Няважна, што мала зямлі.

— І гэта... Жаць памагалі, — узрадаваны сваёй кемлівасцю, гаманіў малодшы Недасека. — Наймаў ці за так — не ведаю. Але памагалі. Краўцова дачка Маруся жала.

— Тым больш! — яшчэ болей узрадаваўся Новік і задаволена адкінуўся за сталом. — Усё ясна. Давай стаў на галасаванне.

Сцепаніда захвалявалася, аж млосна стала, расшпіліла кажушок, зноў пачала зашпільваць. Разумела, Новік гаварыў правільна: гэты Гуж упёрся, не зрушыш, і на яго азіраюцца іншыя, можа, і была наёмная сіла — на будове ці ў жніво, але ж... Было дужа шкода гэтага старога, асабліва ягоных жанчын — цётку Фрузыну, хваравітую дачку Настульку, з якой яна тое лета адбывала радоўкі на пасце. Не, не магла яна пераступіць цераз гэтую жаласць нават дзеля агромністых класавых інтарэсаў. І не ведала, што рабіць.

— Што ж, — апанурана сказаў за сталом Лявон. — Калі так, прагаласуем. Хто, значыць, каб не раскулачыць, пакінуць...

— Не так! — усхапіўся Новік. — Няправільна! Хто за тое, каб Гужава Івана раскулачыць, падняць рукі, — аб'явіў ён і высока задраў сваю руку.

Ля грубкі ахвотна падняў руку яго брат. Патап Каландзёнак, стоячы на каленях ля топкі, азірнуўся з разяўленым ротам, як на нешта дужа цікавае, глядзеў на галасаванне. Сцепаніда, хаваючы вочы, спадылба касіла позірк у застолле, каб бачыць, як будзе Лявон. Той, аднак, яшчэ болей угнуўся, аблёгся на сталешніцу, а рукі не падняў.

— Дык што ж, — незадаволена сказаў Новік і апусціў руку на стол. — Хто супраць раскулачвання?

Не паднімаючы галавы ад стала, варухнуў у паветры даланёй Лявон, і Сцепаніда тады таксама трохі прыпадняла руку.

— Два на два, значыцца! — расчаравана абвясціў Новік. — Дзяла! А ты, Ганчарык? — раптам уставіўся ён на Васіля, і Сцепаніда сцяміла, што хлопец не галасаваў ні за, ні супраць.

— Я ўстрымаўся, — проста сказаў Васіль.

— Як гэта — устрымаўся? — аж страпянуўся Новік і ўскочыў з лавы. — Як гэта — устрымаўся? Ты — камсамолец, дэмабілізаваны чырвонаармеец? Хочаш працаваць у чырвонай міліцыі і ўстрымліваешся ад вострай класавай барацьбы? Дык што ж ты — сазнацельна іграеш на руку класаваму ворагу? — гняўліва крычаў ён, усё бліжэй падступаючы да Васіля. Той толькі міргаў прыгожымі, нібы ў дзяўчыны, вачмі.

— А калі я не разабраўся!

— Разбірайся! Справа калектывізацыі пад пагрозай зрыву. Камбед напалову заражаны правым ухілам. Сельсавет праяўляе апартунізм. Актыў — спрэс галавацяпы. А ён — не разабраўся. Тры хвіліны табе на роздум, і каб вызначыўся: хто? За калгасную палітыку ці супраць калгаснай палітыкі? Вызначы сваё палітычнае ліцо.

Сцепаніду аж трэсла, нібы ў ліхаманцы, целу стала нясцерпна горача, пот плыў па спіне, адчула: зараз штосьці рашыцца. Ад Васілёвага голасу будзе залежыць лёс Гужовых і, можа, лёс калгаса таксама.

Сапраўды, Васіль думаў не болей за тры хвіліны, штосьці прыкінуў, угнуўшы твар да падлогі, і ягоныя пальцы на каленях у сініх галіфэ ціхенька дрыжалі. Новік стаяў насупраць, чакаў.

— Ну?

— Так, ладна. Я — за, — рашыў Ганчарык і выпрастаўся.

Новік крута павярнуўся ад яго да Лявона.

— Усё! Прынята! Большасцю галасоў. Аформіць у пратакол. Гужоў Іван падляжыць раскулачванню.

## 13

Каб гэта было дадзена чалавеку — хоць трошачкі зазірнуць наперад, угледзець наканаванае яму, але схаванае за пластамі часу, тое, што з усёй відавочнасцю адкрыецца ў наплыве наступных дзён. Дык дзе там! Нічога не можа чалавек уведаць з свайго будучага і, бывае, радуецца з таго, што неўзабаве зробіцца прычынай гора, а то плача над тым, што пасля выклікае хіба што ўсмешку.

Сцепаніда той вечар усё ж не прамінула лікбеза, і хоць не пахвалілася ладна напісанымі радкамі (не было ўжо часу бегчы на хутар па сшытак), затое добра прачытала зададзенае, толькі адзін раз збілася на слове, якое цяпер часцей за іншыя гучала ў чалавечых вуснах: к а л е к ц і в і з а ц ы я. «Калектывізацыя, — паправіла Роза Якаўлеўна, іхняя настаўніца на лікбезе, і паўтарыла: — К а л е к т ы в і з а ц ы я! Запомніце ўсе, як гэта вымаўляецца па-беларуску».

Ды ўжо ж, мабыць, запомніла яна і ўсе іншыя, хто быў той вечар у няпаленай школцы — болей дзяцюкі і пераросткі, што сабраліся на лікбез, і сярод іх толькі дзве жанчыны — Сцепаніда Багацька і Ганна Багацька, або, як яе звалі, — Анюта.

Не, не радня — чужыя, проста ў Выселках паўвёскі былі Багацькі, а яшчэ паўвёскі — Недасекі, Гужовы, невялікая сям'я Ганчарыкаў. Пад поўнач, як скончыліся заняткі, яны ўдзвюх выйшлі са школы і нетаропка пайшлі ў канец Выселак.

Анюта ўвесь вечар была невясёлая і, чытаючы, рабіла памылкі, Сцепаніда нават падказала ёй двойчы: «Да працы ўсе, хто чуе сілу, пад сцяг чырвоны, вольны сцяг!» — а тая ўсё роўна не запомніла. Нешта з ёю рабілася незразумелае. Праўда, Сцепаніда не мела такога звычаю — лезці з роспытамі ў чужую душу, хапала свайго ўласнага клопату. Аднак Анюта сама не ўтрымалася.

— Ці ведаеш, цётачка, радасць жа ў мяне. Але ж во, нярадасна.

— Чаму ж нярадасна, калі радасць? — падзівілася Сцепаніда.

Яны ішлі вузкай, укатанай саньмі вуліцай, угары над стрэхамі пазірала ва ўсё сваё зіхоткае вока поўня, густа раіліся зоркі; ладны мароз браў за шчокі і пальцы — Сцепаніда схавала рукі ў рукавы кажушка, сашчапіла на жываце. Але было дужа слізка, ішлі дробненькім няпэўным крокам. Каб не ўпасці, Анюта ўзяла Сцепаніду за локаць.

— Дык гэта ж, дамовіліся з Васілём Ганчарыкам на жэнскі дзень ажаніцца. Учора быў, з бацькам раіўся ўвечары.

— Ну дык добра ж, — сказала Сцепаніда. — Вася ж хлопец харошы. Кажуць, міліцыянерам будзе рабіць?

— Будзе, ага. Ён такі разумны, такі ласкавы...

— Любіш яго?

— Ой, цётачка, не знаю, як і сказаць вам. Дужа ж люблю яго.

— Ну і добра. Чаго ж бедаваць? Радавацца нада.

— Дык я ж бы і радавалася. Але ж вянчацца не хоча.

— Ну, такой бяды, што не хоча! Цяпер жа робяць камсамольскія вяселлі, без папа. У сельсавеце запішуцца, павыступаюць, і ўсё.

— Дык я ж нічога... Ды — бацька! — уздыхнула Анюта. — Бацька не хоча так, без папа. Кажа, няшчасны шлюб будзе. А я ж не хачу, каб няшчасны. Я ж столькі шчасця жычу сабе і яму, каб ты толькі ведала, цётачка...

— Ай, не слухай ты, Анюта. Ад папа шчасця нямнога. Даўней, бывала, усе ў царкве вянчаліся, але хіба ўсе шчасна

жылі? О-ей! А цяпер, што там бацька! Як вы схочаце, так і будзе.

— Яно так. Але ж...

Анюта змоўкла, аддаўшыся сваёй журбе, і Сцепаніда падумала: як не ў пару! Яшчэ не выйшла замуж, а ўжо скруха-клопат, ужо сохне дзеўка. Канешне ж, Анюта не з тых нявест, якім абы павярнуць па-свойму, абы абкруціць жаніха. Ёй трэба яшчэ, каб і іншым ля яе было добра, каб бацька не сварыўся, давольны быў, каб усё абышлося ладненька і прыстойна. Ну але хіба Ганчарык пагодзіцца браць шлюб у папа ці, як даўней, гуляць вяселле са сватамі і сваццямі, шаферамі, сяброўкамі, пітвом і цалаваннем? Мабыць, яму, камсамольцу, тое нягожа.

— Цётачка, можа б, ты як прыйшла, папрасіла бацьку. Ён жа цябе паслухае, — раптам прыпынілася Анюта. У яе тоненькім голасе былі такая скруха і адначасна такая надзея, што Сцепаніда хуценька пагадзілася:

— Ну добра ж... Скажу калі.

На ваколіцы яны разышліся. Анюта павярнула па сцежцы, да свайго падворка, а Сцепаніда пайшла дарогай далей — з пагорка ўніз, цераз гасцінец, да свайго хутара. Яна думала, што, ці пагаворыць з Ладзімірам, ці не, усё роўна па-ягоным не будзе — будзе так, як пагодзяцца маладыя. Цяпер настае такі час. Гэта не тое што пры царызме, калі без бацькоў маладыя дзеўка ці хлопец не маглі нічога, а бацькі трымаліся даўніх звычаяў, законаў дзядоў, парушыць якіх ніхто не адважваўся. Цяпер жа рушылася ўсё, дазвання, на добрае ці не — хто ведае. Можа, і пашкадуюць пасля, але цяпер ужо ходу назад няма — толькі наперад і наперад, як пяецца ў той песні.

Наўкола ляжала прытуманеная бель поля, неба поўнілася мігатнёй зор, відаць было далёка — шырокі палявы прасцяг з гасцінцам, які цемнаватаю рысай пралёг упоперак яе шляху. У далечы таго прасцягу пад змрочнаю сцяной гаю на Галгофе мясцілася цёмная купка яе Яхімоўшчыны, хутара, які стаў яе лёсам. І хто б мог падумаць? Некалі маладой дзяўчынай яна пайшла туды наймацца на жніво да незнаёмага гаспадара, у незнаёмую сядзібу, а цяпер во бяжыць туды, як у свой адзіны прытулак. Во як павярнула жыццё. Сцепаніда не чаплялася за старое — у старым у яе наўрад ці набралася б паўгода людскага жыцця, спрэс душылі работа, ранняе сіроцтва, нэндза і бяспраўе. Гадоў колькі парабкавала ў пана Жулегі

і паўпанка старога Яхімоўскага, рабіла на чужой зямлі, бо сваёй не мела. А што такое чужая зямля, той да скону дзён не забудзе, хто хоць раз паспытаў хлеба з ласкі чужых рук. Праўда, пасля рэвалюцыі ўсё тут крута змянілася, павярнулася да такіх, як яна, другім, лепшым, бокам: пан Жулега ўцёк у Варшаву, скончыў свой шлях на зямлі стары Яхімоўскі, і яны з Петраком перабраліся з істопкі ў хату і атрымалі ад новай улады дзве дзесяціны хутарской зямлі. Спярша зажылі і няблага, уволю наеліся свайго, а не панскага хлеба, абзавяліся скацінай, канём. Пётра, які ў галотнай бацькавай сям'і быў нібы за парабка, так зашчыраваў на сваёй гаспадарцы, што яна спалохалася за яго здароўе. Але свая зямля вымагала, і ён так рупіў з усякай работай, так заўзята араў, біў кукай глыжы, угнойваў кожны маленькі лапічак глею, затым сам адзін касіў, звозіў і зноў араў, сеяў, скародзіў. Набытая ад старой гаспадаркі кабылка не вытрымала і пала першай вясной, гэта было вялікае гора, якім нагараваліся ўволю, пакуль набылі каня. А тады звалілася ліха на Петрака. Як нарадзілася Феня, Сцепаніда падпала здароўем, і ён мусіў адзін і жаць, і касіць, ірваў, як асілак, і надарваўся. Неяк вазіў з поплава сена, ягоная брычка падвярнулася на ўзроўку, Пятрок падставіў плячо і зламаў ключыцу. Два месяцы праляжаў у бальніцы, ледзь выхадзілі дактары, на полі перастаяла і палегла ярына, па восені нажалі са дзве капы, ледзь вярнулі насенне. Той год выпаў галаднаваты, хлеба хапіла да Вялікадня, добра, што ратавала бульбачка. Былі і яшчэ скупыя на хлеб гады, калі то вымачвала, то засушвала, а то бракавала насення, гною, скаціны. Пятрок, аднак, не здаваўся, рабіў як пракляты, гэтак заўзята, што дзеравенцы з Выселак сталі з яго пасмейвацца — шчыраваў удзень і ўначы, а плёну было курам на смех. Але ён усё не мог нагаспадарыцца ўволю, высах, схуднеў, сіпата дыхаў, але рваў, варочаў, пазней за ўсіх клаўся і раней уставаў. Сам сабе гаспадар, які клапот, такі і ўмалот, што зробіш, тое і заробіш, любіў ён казаць тады, як яна ўшчувала часам, каб паспакайнеў, адпачыў, пабярогся. Сцепаніда ж пасля няўдач у гэтай зацятай барацьбе з зямлёй за жыццё сказала сабе: не, так не забагацееш, толькі надарвеш здароўе і раней часу сыдзеш у глей на вясковых могілках. Калгас дык калгас, сказала яна сабе, як бы там ні было, мабыць, горш не будзе. Як усе, так і мы, авось не прападзем і ў калгасе. А Петрыку

дык, пэўна, здаравей будзе, мо лішні год пажыве на гэтым няласкавым свеце.

Здалёку на хутары пад ліпамі замігаў чырвоны агеньчык у акне, яна падумала: значыць, прыехаў Пятрок — і парадавалася маладой бабскай радасцю — уся сям'я ўрэшце сабралася, скончыліся дзённыя турботы, цяпер да заўтра душа спакойная. На белым ад месячнага святла падворку стаялі сані з рэштаю сена, конь ужо быў упарадкаваны, карміўся ў хляве. Можа, Пятрок разжыўся на газу, падумала Сцепаніда, бо ў газнічцы яе засталося дужа мала — на адзін, можа, вечар. Яшчэ наказвала папытаць наконт ботаў у аднаго знаёмага яўрэя-шаўца на станцыі. На боты, канешне, было мала грошай, усяго дзесяць рублёў, але, можа б, як дамовіўся напавер ці паабяцаў якую бараннюю лапатку, фунты два масла ці яшчэ чаго, як-небудзь сплацілі б. А то ў адных валёнках дваім яўна нявыкрутна, калі хто абуе, дык другому хоць сядзі дома, нікуды не вытыкайся. А вытыкацца трэба, як во сёння, кожны дзень не гэта, дык тое, усё клічуць, абавязваюць, трэба ісці-бегчы.

Дзверы ў сенцы былі не зашчэплены, яна пераступіла парог і зашчапіла іх, увайшла ў хату. Адразу сцяміла: дзеці ўжо спяць, у дымнаватым прыцемку хаты было ціха і цёпла, смярдзела газай і тытунёвым дымам, на канцы стала гарэла газнічка, і Пятрок пры ёй перабіраў нейкія паперкі, мусіць, квіткі, вывяраў плацяжы: што сплаціў, што пратэрмінавалі, колькі нарасло пені і што засталося.

— Даўно прыехаў? — сцішана запыталася Сцепаніда.

— А нядаўна.

— Еў што?

— Елі тут. Крупнік.

Яна пачала распранацца, павесіла на цвік кажушок, зняла з галавы цёплую хустку.

— Ну як камуна? — запытаў ад газнічкі Пятрок. — Сарганізавалі ўжо?

— Пастанавілі Гужа раскулачыць, — сказала яна аб іншым. — Прыязджаў Новік. Як сабатажніка і што наёмная сіла.

Пятрок падняў да газнічкі немалады, зморшчаны і зашчацінелы твар і ўважліва паглядзеў на яе. У ягоных вачах спярша адбілася трывожнае здзіўленне, якое хутка саступіла месца панылсці.

— Што робіцца на свеце! — трудна сказаў Пятрок. — Наёмная сіла. Якая наёмная сіла?

— А такая, — сказала яна. — Памагалі ставіць трысцен. Наймаў. І на жніве таксама.

— Бога на вас няма! — уздыхнуў Пятрок. — Раскулачыць. Наёмная сіла. У таго ж старшыні Лявона таксама была наёмная сіла. Як малацілі. Во, Ладзіміравы мальцы памагалі. Адной рукой што ж ён — і цэпам не ўдарыць. Дык і яго раскулачыць?

— Тут, бач, яшчэ сабатаж, — сказала Сцепаніда. — Заўчора ж ён на сходзе ўпёрся і сарваў калгас.

Яна села на нізкі ўслончык і пачала разбэрсваць свае наледзянелыя за дарогу чуні. Пятрок за сталом не мог супакоіцца.

— Калі ўжо да такіх дайшла вочарадзь, дык што ж пасля будзе? Каго ж вы праз год-два будзеце раскулачваць?

— А тады, можа, не будзе каго. Усе ў калгас паўступаюць.

— Можа, і паўступаюць. Але як жа з класавай барбой? Класавая ж барба не адмяняецца?

— Можа, і адменяць. Калі ворагаў не стане. Дужа ты знаеш, — незадаволена абарвала яго Сцепаніда.

Сапраўды, што ён знаў, гэты цёмны мужык, які не хадзіў нават на сходы, рэдка калі браў у рукі газету, з начальствам ніколі не гутарыў. Мог толькі цьмяна меркаваць аб усім сваім небагатым мужыцкім розумам.

— Што гэта ў нас усё не так, як у людзей, — раздумна казаў Пятрок, пазіраючы на мільготкі агеньчык газнічкі. — Вунь на станцыі гаварыў з адным мужыком аднекуль з-пад Улы. У іх нічога. Ціха. І калгасаў не чуваць, ніхто не прыязджае, не заганяе. Нікога яшчэ не раскулачылі.

— Чакай, дабяруцца. У глушы, можа, жывуць. За балотам дзе.

— Можа, і за балотам. А ў нас?..

— А ў нас во, у раёне пад носам. Ды і з акругі не прамінаюць: пры дарозе ж. Яно і добра, што пры дарозе, у тым тожа выгода, — сказала Сцепаніда і ўспомніла: — Газы купіў?

— Далі. Адну літру. На пай. Дужа яе хопіць, гэтае літры?

— Ну колькі хопіць. А там падвязуць. Дарога ж усталявалася. А пра боты пытаўся?

— Боты? — неяк спалохана зірнуў на яе Пятрок, быццам толькі зараз успомніўшы пра боты. — Ботаў няма, — сказаў

ён і ўстаў з-за стала — худы, невялічкі, з запалымі грудзямі стары. Так, стары, бо меў ужо пяцьдзесят год — не маладзён.

Пятрок адхінуў посцілку ў запечча і нешта ўзяў з ложка, на якім яны спалі.

— Во замест ботаў.

— Што гэта?

Яна недаўменна пераняла з яго рук нейкі зграбненькі чорны футаральчык, нібы лёгенькую дзіцячую трунку, і не адразу сцяміла, што гэта і навошта.

— Скрыпка! — сказаў Пятрок.

— Здурнеў ты!

— Можа, і здурнеў.

— Гэта ж дарага, мусіць, — спалохалася Сцепаніда. — Во, хадзіць няма ў чым. У Федзькі башмакі разваліліся, а ён — скрыпку! Яна ж вялікія грошы каштуе. Мусіць, усе дзесяць аддаў?

Пятрок ніякавата патэпаў каля яе, узяў футарал і беражным дотыкам закарэлых пальцаў разняў зашчапкі. Ашчадна, нібы дзіця, выняў адтуль чырвона-блішчастую скрыпачку з чорнай дэкай і прыгожа закругленымі выразамі па баках.

— Ты ж хацела, — вінавата напомніў Пятрок.

— Калі гэта я хацела? Калі тое было? Тады маладая была, дзяцей не мела. А цяпер... Ну, ты здурнеў! У што цяпер абуцца будзе, хоць босая хадзі, а ён — скрыпку! Калі ты на ёй граць будзеш — во зіма канчаецца. Сеяць скора...

— Ды ўжо, мабыць, адсеяўся, — апанурана сказаў Пятрок і адчужана адышоўся, сеў на лаву. Нядоўгая прыўзнятасць у настроі канчаткова пакінула яго. На стале побач з футаралам ляжала не кранутая смычком скрыпка.

— Чырвонец аддаў, яшчэ два вінаваты. Напавер даў. Яўрэй адзін на станцыі.

Сцепаніда ляснула ў далоні.

— Тры чырвонцы, а-я-ёй! Ну, ты з глузду з'ехаў! Ашалеў на старасці год. Мы ж страхоўку яшчэ не заплацілі. Налог толькі за той год выплацілі, а ўжо новы прыслалі. Пені па нядоімцы набегла. Абуць нечага на ногі. Газы няма. Цукру з восені ані драбка, Фенечка без салодкага не есць нічога. Каб хоць булку якую купіць, а то скрыпку! І за такія грошы! Дзе ты цяпер возьмеш тыя чырвонцы? Хто табе дасць?

— У камуне заробім.

Сцепаніда злавалася, ледзь не плакала. Што ён гаворыць, гэты бязглузды чалавек, нашто яму скрыпка? У такі час? Калісь навучыўся трохі вадзіць смычком, раз на кірмашы ў мястэчку папрасіў у нейкага цыгана троху пайграць, яна стаяла поруч і пахваліла, дык ён загарэўся: куплю! І во знайшоў час і грошы — купіў, але не на радасць, хутчэй на бяду. Навошта ёй гэтая скрыпка? Ці да скрыпкі цяпер, калі не сёння, дык заўтра прыйдзецца завесці ў калгас каня, ссыпаць насенне, аддаць збрую, сані, калёсы, перайначыць усё жыццё на новы, нязнаны і немінучы лад. Ці да музыкі цяпер?!

Час так змяніўся, усе на вачах перайначваецца. Што засталося ад таго, як яны былі маладыя і з большаю сілай, а галоўнае — з такімі неспатольнымі марамі і спадзяваннямі?

## 14

Дужа недарэчная выдалася тым годам вясна, якая нямала дадала людзям турбот да іх і без таго немалых жыццёвых клопатаў.

Толькі што скончылася доўгая пакутная вайна, у вёскі і хутары пакрысе вярталіся дзецюкі і маладыя мужчыны, узнёслыя і ганарыстыя ад перамог над белымі, немцамі, палякамі, у вастраверхіх будзёнаўскіх шлемах, растаптаных гамашах з абмоткамі, з мяшэчкамі за плячыма, але з вялікан надзеяй пачаць новае, адваяванае ў старога жыццё. Трэба было брацца за зямлю, араць і сеяць, каб было што з'есці налета. Зямля чакала і таксама бы рыхтавалася да свае адвечнае справы — радзіць хлеб. З Благавешчання добра прыгрэла сонца, за які тыдзень сагнала ўвесь снег, стала цёпла і амаль што суха ў полі. На Вербніцу Сцепаніда з Петраком збіраліся ў царкву і яшчэ пасварыліся трохі ранкам — надзявацца ці не. Пятрок угрэўся раніцай на падворку і хацеў ісці ў адной сарочцы, але Сцепаніда змусіла яго накінуць паддзёўку, і яны, трохі незадаволеныя адно адным, выйшлі з істопкі, каб сцяжынай цераз азіміну скіравацца наўпрасткі да мястэчка. Стары Яхімоўскі таксама выцягся з хаты на двор і стаяў на сугрэве ля прызбы — прыгорблены, тонкі ў сваім вузкім чорным каптане з густым радам да шыі зашпіленых гузікаў, абапёршыся на старадаўні з перламутравым убранствам кіёк і неяк бы з зайздрасцю глядзеў ім услед выцвілымі старэчымі вачыма. Якраз за тыдзень да таго ён пусціў іх на хутар, бо ў

Петраковай сям'і на Выселках ім ужо стала неяк, Сцепаніда адразу не паладзіла са свякроўю і надоечы папрасіла пана Яхімоўскага, каб налета пусціў у істопку — усё роўна яна ўжо гаспадарыла на падворку і ў будынках, а новы парабак Пётра будзе ў помач, бо куды ж ён мог дзецца без хаты, без сваёй зямлі і гаспадаркі. Раней дык з вясны выпраўляўся ў заробкі, батрачыць на фальваркоўцаў, цяпер жа было невядома, якія дзе будуць заробкі, ды і стаў не халасты — жанаты. Сцепаніда ласкава так папрасілася, і, мусіць, паважаючы яе чатырохгадовую адданасць хутару, Яхімоўскі пагадзіўся, сказаў: жывіце, месца хопіць, істопка цёплая. Тым больш — вясна на двары.

Вясна сапраўды шпарка каціла скрозь па абшарах, на касагорынах і ўзмежках порстка прабівалася зялёная траўка, дзецюкі і дзеўкі ў Выселках паскідвалі з ног лапці і пачалі хадзіць босыя — цяпер аж да восені. Пасля Благавешчання некалькі дзён і начэй запар над Галгофай і хутарам чулася радасна-трывожнае курлыканне жураўоў — даўжэзныя, не дужа стройныя кліны іх знясілена валакліся ў ветраным небе на поўнач. На поплаве ў Баранні Лозе ўжо з'явіўся аднекуль цыбаты аблезлы бацянок, спаважна хадзіў па багне, выглядаў жаб. Аднойчы ў сонечны ранак над полем азіміны пасыпалася з неба знаёмая песня жаўранка, і Сцепаніда, парадкуючы на падворку жывёлу, аж страпянулася ў радасці — і ад гэтае песні, і ад раптоўнага адчування шчасця.

Ішла першая вясна іхняга жыцця з Петраком, хай сабе не на сваёй зямлі, у чужой хаце, затое ў любасці, міры і згодзе. Яна ўжо хадзіла з новым чалавечкам пад сэрцам, часам слухала яго трапятанне, і думкі яе мкнулі наперад, туды, дзе іх ужо будзе трое. Гэты нябачны жаўраначак закрануў у ёй штосьці дужа сугучнае ў душы, на нейкі час яна без рэшты аддалася яму, услухалася ў спеў і адначасна ў гучанне ўласных душэўных бомаў. Ды ненадоўга. Таго ж дня пад вечар усхадзіўся сіверкі сцюдзёны вецер, з-за рова насунулася аблажная сіняя хмара, дужа халаднела, і ўвечары пасыпаўся снег. Ураз у прыродзе ўсё дужа змянілася, азлела, наваколле зашарэла пад снегам, ад вясны не засталося і звання. У істопцы стала па-зімоваму холадна, але напаліць там не было як, печка-каменка калісьці палілася па-чорнаму, дым выходзіў у акенца пад столлю, якое цяпер было затулена мохам і дошкамі. Нанач Сцепаніда прынесла ў чыгунку жару з хаты, тым трохі грэлі-

ся, і яна думала ўсё: а як жа тыя жавараначкі ў полі? Спеву іх не стала чуваць на шмат дзён, у аснежанай буслянцы на старым клёне ў Выселках тырчэлі дзюбатыя галовы бусла з бусліхай, ноччу браў добры марозец, пазамярзалі лужыны, некалькі начэй, не сціхаючы, выў па завуголлі вецер. З дня ў дзень людзі чакалі, што пацяплее, снег, праўда, не ляжаў доўга, растаў, але затым пайшоў зноў папалам са сцюдзёным дажджом, усё навакол раскісла, і ўсё буяніў золкі паўночны вецер. У поле было не вылезці, людзі вытыркаліся з хат дагледзець жывёлу і зноў зашываліся ў прытулак — чакаць.

У такі час, калі яна неяк выйшла ў сенцы, каб натаўчы свінням бульбы, а Пятрок заняўся ў істопцы разбіраць гаспадарскую вупраж, у двары пачуліся галасы незнаёмых людзей. Кінуўшы таўкач, яна прыадчыніла дзверы, да якіх ужо ішлі ад варотцаў трое мужчын. У пярэднім — вусатым, усмешыстым мужыку ў вайсковым картузе — яна не адразу пазнала Цыпрукова з валаснога камітэта, другі быў бедна апрануты ў армячок высялкоўскі камсамолец Грышка, а трэці нёс пад пахай жоўтую кардонную папку з матузамі і быў ёй незнаёмы — можа, хто з павета ці нават вышэй. Мужчыны павіталіся, і Цыпрукоў спытаў, ці дома Адольф Яхімоўскі.

— Пане Адоля! — гукнула яна, прыадчыніўшы дзверы ў хату, каб гаспадар выйшаў насустрач гасцям, але тыя самі, не чакаючы запрашэння, пасунуліся ў дзверы. Яна засталася, дзе стаяла, — у сенцах над казаном з варанай бульбай, але не магла не ўчуць, пра што яны там гаварылі ў хаце. Пятрок таксама высунуўся з істопкі — затаіўшы дыханне, яны ўдваіх слухалі.

Зрэшты, неўзабаве ўсё стала панятна — прыезджыя апісвалі хутар. Найперш пачалі з зямлі, правяралі па дакументах хутарскія надзелы, межы, высвятлялі, колькі і чым засеяна, колькі ў арэндзе. Пыталіся пра парабкаў і арандатараў і ўсё запісвалі ў сваю кардонную папку.

Адольф Яхімоўскі паходзіў з нейкага старога шляхецкага роду, які некалі быў багаты, але патроху бяднеў, вузеў клінам, як казаў Яхімоўскі. Неяк, будучы ў добрым настроі, пан Адоля паказваў Сцепанідзе старыя пажоўклыя паперы з гербамі і абкрышанымі чырвонымі пячаткамі, у якіх былі апісаны ўсе ўладанні Яхімоўскіх-продкаў — і тут, і ў іншых мясцінах. Яго дзед меў фальваркі пад Дрысай, у Падсвіллі і яшчэ недзе, але гэты хутарок быў ці не апошнім прытулкам

збяднелага роду, і хоць Адольф шэраг гадоў намагаўся з усіх сваіх старэчых сіл, каб захаваць калі не былое багацце, дык хоць бы рэшту былога гонару, тое яму ўдавалася кепска. Два ягоныя сыны, што нарадзіліся на хутары, бацьку памагалі слаба, абодва, падросшы, падаліся ў гарадское жыццё, ва універсітэты ў Вільні і толькі калі-нікалі ўлетку наведваліся на хутар, але тыдні на два — не болей. Як пачалася вайна з немцамі і Вільня апынулася па той бок фронту, ад сыноў не было ніякае весткі, пан Адольф не любіў гаварыць пра тое, але Сцепаніда ведала: чакаў іх з апошняе надзеі, ды марна. Не дачакаўшыся, памерла старая Адоліха, гаспадарка і скаціна трымаліся Сцепанідзіным клопатам, а зямлю Яхімоўскі здаваў у арэнду — з палавіны ці як дамовяцца, на астатнюю наймаў на сезон парабкаў. Быў ён чалавек маўклівы, спакойны і ўвогуле не распешчаны жыццём, не злы — за тое болей за ўсё шанавала яго Сцепаніда і пільнавалася хутарскога хлеба. Хоць часам было не салодка, ведала: лягчэйшага не знайсці. Цяпер жа, учуўшы тую гаману ў хаце і нешта зразумеўшы, яна раптам адчула сябе на крутым павароце ў жыцці, толькі не магла даўмецца: у які бок той паварот — да лепшага ці благога. Але што надышла паваротка, тое было пэўна.

Зрабіўшы ўсё, што патрэбна было ў хаце, мужчыны павыходзілі на падворак аглядаць маёмасць. Пан Адольф з імі не выйшаў — унураны застаўся, як быў, пры стале на ўслоне, і яна пайшла паказваць начальнікам збожжа ў свірне, хлеў, двух коней, падсвінкаў. Захожыя лічылі і ўсё запісвалі на паперыну — і зерне ў засеках, і лён у павецці, і скаціну, і яна запыталася ў Цыпрукова, навошта гэтак яны правяраюць. Цыпрукоў растлумачыў, што гэта экспрапрыяцыя, бо набытак эксплуататараў цяпер пераходзіць ва ўласнасць народа. Сцепаніда не дужа зразумела, што гэта такое, і запыталася, тоячы маленькую квелую надзею: «А зямля як?» І Цыпрукоў сказаў, што зямлю падзеляць паміж беззямельнымі і парабкамі і каб Пятрок назаўтра ранічкай прыйшоў у валвыканкам, дзе ўсё і вырашыцца.

Яна аж затрэслася, як спуджаная, ад тае навіны і, як мужчыны пайшлі з падворка, доўга не магла адважыцца сказаць пра тое Пятру. Яна проста гатова была скакаць ад радасці — гэта ж падумаць: яны займеюць сваю зямлю, і без грошай, без сваркі, без судоў і прашэнняў — атрымаюць, і ўсё. Па праву экспрапрыяцыі.

Калі яна сказала аб тым Петраку на дрывотні, той выпусціў з рук палена і сеў міма калоды — проста ў гразь. Зараз жа падхапіўся, пачаў ачышчаць порткі, а яна засмяялася, шчаслівa і радасна, толькі тут жа згледзела, як змяніўся разгублены выраз Петраковага твару на амаль спалоханы, і сама азірнулася. Ззаду стаяў пан Адольф са сваім нязменным кіем у руках, і па яго зморшчаных, голеных шчоках каціліся дзве слязіны.

— Радуецеся? Шчэнсце вам? Ганьба...

Не паспелі яны сцяміць, што сталася, як ён павярнуўся і патупаў да ганка. Яго пагнутыя раматусам ногі дробна дрыжэлі ў каленях.

З гэтай хвіліны Сцепаніда не ведала, як адчуваць сябе, што думаць. Радасць яе азмрочылася, ёй стала няёмка, бы яе злавілі на якім злачынстве, і яна ведала, што вінаватая. Хай сабе ў думках і спадзяваннях, усё ж яна паквапілася на чужое, чаго ні разу не рабіла за ўсе гады свае службы ў Яхімоўшчыне, дзе яна з усяе сілы праз беднату і нястачу берагла свой гонар, старалася, каб ніхто ніколі і ні ў чым не папракнуў яе. А яна ж магла б і ўзяць, не спытаўшыся, у яе ж руках было шмат чаго, лічы, уся гаспадарка, але калі было што трэба, яна казала гаспадару і не памятала выпадку, каб той ёй адмовіў. Ён быў не благі, пан Адоля, цаніў у ёй дбайную работніцу і яшчэ болей паважаў за сумленнасць у адносінах да яго гаспадаркі. Цяпер жа ўсё гэта стала ўпоперак яе сумленню: як быць? Як жыць, калі не ўзяць, адмовіцца ад тае зямлі, а калі ўзяць, дык як глянуць у вочы яе гаспадару, Петраковаму і яе дабрадзею?

Ноч, што настала пасля таго дня, была поўная пакут, разваг і хістанняў — абое яны з Петраком напакутаваліся на ложачку ў істопцы, і нашапталіся, і намаўчаліся, але ніхто з іх да ранку так і не прыдумаў нічога, чым бы можна было суцешыць сумленне. Уранку ж трэба было ісці ў Выселкі, у валвыканкам. І тады Пятрок, падняўшыся на дасвецці, звесіў з ложка босыя ногі і, яшчэ раз трохі разважыўшы, вырашыў:

— Не пайду. Ну яе...

Сцепаніда ўскочыла з-пад коўдры.

— Як — не пойдзеш? Што ж тады?..

— Не пайду, і ўсё. Не магу я...

Не, на гэта яна не магла пагадзіцца, ранкам яна адчула сябе больш пэўна, выразна зразумела, што іх ужо не двое ў сям'і, а бадай што трое, у яе два галасы — яе і дзіцяці — супраць

аднаго нерашучага голасу Пётры. Пакуль той збіраўся да скаціны, яна насварылася на яго, нават трохі заплакала, але рабіць не было чаго — хуценька сабралася сама і пабегла цераз поле ў Выселкі.

З вялізнага хутарскога прасцягу ім выразалі дзве дзесяціны — каля сасонніку і рова; у іншых мясцінах зямля адышла іншым беднякам і беззямельным, якіх з лішкам для адной экспрапрыяцыі набралася ў Выселках. На нарэзку Сцепаніда не пайшла, усё ж выпхнула неяк Пётру, а сама чакала за тынам на падворку, усё ўглядаючыся ў купку мужчын на полі, якія сноўдалі з сажнем, мералі, лічылі. З акна з-за вушака часам выглядвала змарнелая, у чорным, постаць Яхімоўскага, і тады Сцепаніда захіналася за вугол ці ішла на дрывотню, каб не бачыць яго, — было дужа нялоўка, амаль пакутна ад таго, як на ўсё тое глядзеў былы гаспадар хутара. Усе гэтыя дні ён амаль не паказваўся з хаты і не размаўляў з імі, ён сядзеў там пакрыўджаным сіднем, здаецца, страціўшы ўсякі інтарэс не толькі да гаспадаркі, але і да жыцця наогул. Яна з Пётрам таксама не чапалі яго, ні пра што не пыталіся і па-ранейшаму нічога ў яго не бралі — абыходзіліся сваім. Гаспадарка на хутары зменшылася, у стайні застаўся адзін толькі конь, другога забралі ў воласць, у хляве пакінулі адну кароўку, падсвінкаў забралі ўсіх, павезлі ў мястэчка ў сталоўку. Іншае, што засталося: вупраж, сякі-такі інвентар і начынне — было як бы нічыё, Яхімоўскі страціў да яго ўсё дачыненне, але і яны не набылі, яны б хацелі абысціся сваім. Ды, мусіць, гэта не дужа давалася, часам трэба было нешта ўзяць, то вядро, то гарохавін карове, то распачаць новы капец бульбы, ранейшы ўжо скончыўся. Тады Сцепаніда адчыняла дзверы ў хату і звярталася да пана Адолі, які ў накінутай на кастлявыя плечы камізэльцы сядзеў на засланым коўдраю ложку, паставіўшы тонкія ў шкарпэтках ногі на аблезлую, калісь фарбаваную жоўтым падлогу. Не паднімаючы да яе лысай, без рэшты валасоў галавы, ён коратка кідаў:

— Бярыце. Цяпер жа ўсё — ваша.

Яна паварочвалася і выходзіла з хаты, паспеўшы, аднак, заўважыць на ражку стала, мусіць, не кранутую ім ежу — міску астыглай бульбы, гарлач малака і дзве лусты хлеба, якія прынесла ўранку. Стары зусім перастаў есці — невядома, як думаў жыць. Так можна было хіба паміраць.

Ёй было шкада яго, і гэтае шкадаванне надта азмрочвала іх вялікую радасць першага гаспадарання на ўласнай зямлі, усведамленне таго, што кабылка Ласка цяпер зусім іхняя, таксама як і чорная рахманая кароўка, не дужа, праўда, малочная, але маладая. Наперадзе было вольнае жыццё з безліччу клопатаў, цяжкой працай, але без прынукі, жыццё, дзе ўсё благое і добрае будзе залежаць толькі ад іх дваіх з Пётрам і ні ад каго болей. Гэта так радавала, узносіла аж пад самае неба ў шчасці, ад прадчування якога часам яна аж скалананалася — не верылася нават, што так усё павярнулася. То была ўдача, якую можна было хіба што сасніць.

Калі б толькі побач у хаце як жывы дакор ім не сядзеў днямі, саставіўшы з ложка ногі, ссохлы, лысы, раздушаны жыццём і няшчасцем стары.

Неяк яна не стрывала і ўвечары, управіўшыся са скацінай, сказала Петраку, што трэба пагаварыць з Яхімоўскім, што так нягожа, яны ж з ім столькі жылі ў добрасці і згодзе, без сваркі, а цяпер... Зноў жа трэба сказаць, што іхняй віны тут няма, што так павярнула ўлада, што тыя дзве дзесяціны ім далі, але яны іх не прасілі. Узялі, праўда, але калі б не ўзялі яны, дык бы аддалі іншым — ці мала галыцьбы на свеце. Трэба было неяк паддобрыцца да Яхімоўскага, каб не злаваў, а жыць — хай жыве ў хаце, яны пераб'юцца ў істопцы, пакуль не агораюць як-небудзь якую сваю хаціну. Як устануць на ногі. Яна ж будзе глядзець старога, няўжо ж за ягоную ласку яна не аддзячыць яму на яго ж зямлі!

Пятрок пакрактаў, не хацеў, адчуваў няёмкасць, але мусіў пайсці ў хату, і яна пачала ўслухоўвацца з сянец у не дужа ахвочую іх гаворку. Але хіба гэты Пятрок што зробіць як трэба — ён пачаў дужа здалёку, і гадзіну яны гаварылі пра іншае, успаміналі колішняе жыццё за царом, парадкі ў мястэчку і розныя навакольныя здарэнні ў лесе, на паляванні. Тады, выцершы фартухом рукі, Сцепаніда таксама сунулася цераз парог. Нешта адчуўшы, пан Адольф надзеў у рукавы свой чорны кафтан і зашпіліўся на ўвесь рад гузікаў. Яна прысела на лаве каля парога, а ён, крэкчучы, умасціўся ў старасвецкае дубовае крэсла насупраць вялікага цьмянага люстэрка ў прасценку.

— Даруйце нам, пане Адоля, — сказала Сцепаніда, як ён паправіў полы кафтана і склаў на каленях худыя рукі.

— Пан Езус даруе, — сказаў Яхімоўскі і строга, працягла паглядзеў у парог.

— Вы ж ведаеце, мы не самі. Ці ж мы прасілі? Нам далі.

— Але ж вы не адмовіліся...

— Ну як жа адмовіцца, пане Адоля? Аддалі б яшчэ каму. Вунь Ганчарыкам нічога не дасталося.

Здаецца, яна сказала трапна, Яхімоўскі хвіліну змоўчаў, мусіць, не ведаючы, як адказаць ёй. Толькі пасля вымавіў цвёрда, нібы прысуд:

— Цёнгле быў грэх квапіцца на чужое. На чужым і дармовым шчэнсця не бэндзе. Мне шкада вас.

Яны прымоўклі на парозе, а ён неяк задуменна ці роспачна ківаў голай і жоўтай, як касціна, галавой, думаў што ці дакараў іх моўчкі. Гэтыя яго словы — не пра сябе, а пра іх — неяк дужа кранулі трывогаю Сцепаніду, і яна зараз жа адчула нейкую благую праўду ў іх і замаркоцілася.

— Але ж нічога не зробіш, — сказаў ён пачакаўшы. — Я не жычу вам блага, хай Езус, Марыя памогуць вам...

— Дык дзякуй за тое, — сказала Сцепаніда амаль расчулена.

Гэта было галоўнае — каб ён не затаіў на іх крыўды, не пажадаў благога, з астатнім яны як-колечы саўладалі б. У іх быў конь, была гаспадарка, у свірне пакінулі ім насенне, каб абсеяць ярыной іх дзесяціны, можа, яшчэ застанецца і ячменю на крупы ці гароху на суп. Бульбы ў гаспадарцы хапала, было два кублы сала — з восені ашчаджалі для парабкаў у пільніцу, цяпер парабкаў тут болей не будзе. Ужо яны б яго пракармілі, гэтага старога, як родзіча-кутніка, як дзеда. Бог з ім! Ці яны хацелі яму злога!

Тым часам капрызлівая, з халадамі, вясна доўжылася ледзь не да Вялікадня, і толькі пасля памалу, бы нерашуча, запознена пачало цяплець. На Юр'еў дзень дык стала і зусім цёпла, і, устаўшы раненька, Сцепаніда з Петраком па старадаўнім звычаі пайшлі ў хлеў. Некалі ў гэты дзень выганялі скаціну на пашу, але цяпер выганяць не было куды: апроч шэрай свінухі, на пожнях яшчэ не нарасло нічога. Пятрок стаяў у дзвярах, а Сцепаніда рэштаю прыпасенай з Грамніц абхадной свечкі нацерла карове падгрудак — ад злога духу і каб была малочнай улетку, а Пятрок, запаліўшы пучок сухой евангельскай траўкі, старанна акурыў хлеў, каровіна і кабыліна стойлы — так было заведзена здаўна і так заўжды рабілі

на хутары. Калі яшчэ пацяплела к паўдню, парабіўшы, што трэба было, ля хаты, Сцепаніда дастала з палічкі свянцоныя галінкі вярбы, завязала ў хусцінку кавалак прыхаванага з Вялікадня куліча. Чысцей апрануўшыся, яны ўдваіх пайшлі на агледзіны поля, якое цяпер добра парыла пад ласкавым сонцам — чакала ратайскага плуга.

Найперш пачалі з азіміны ля сасонніку, дзе ўжо ярка зелянела прадаўгаватая ніўка ад самага рова паўз хутарскі гарод і будынкі. Пятрок ішоў наперадзе і трохі стрымана ўсміхаўся ў коратка падстрыжаныя вусікі. Быў ён тады не так сабе і малады, але і не стары — што сорак гадоў для мужчыны? А ўсміхаўся зноў ад тае ж неспадзяванай іх радасці: ішоў на хутар, лічы, прымаком і парабкам, а во стаў гаспадаром і азірае свае палеткі. Канешне, ён разумеў, што з дзвюх дзесяцін не забагацееш, але, мажа, як пражывеш з свайго хлеба. Трохі баяўся, каб праз гэтую зіму і асабліва халодную, зацяжную вясну не падупала азіміна, але, здаецца, благое іх абышло — жытнёвая рунь ужо аправілася ад замаразкаў і яркім аксамітам зелянела на ўсім прасцягу. Праўда, ніжэйшая мясціна каля дарогі была яшчэ цемнаватая, мабыць, прымокла ад доўгай вады, Пятрок саступіў з узмежка і нагнуўся, каб вырваць каліўка, паглядзець карэньчык. Але толькі ён памкнуўся да абвялага ніцага парастка, як згледзеў у зліплых глыжах нешта шэранькае, бы камочак чаго чужога, і пальцы яго міжвольна паднялі з зямлі за растапыранае крыльца маленькую шэрую птушачку. То быў жаўраначак, мабыць, з тых небаракаў, што ашукаліся першай абяцанкай вясны і паплаціліся жыццём за сваю заўчасную песню.

— Глянь, Сцёпа...

Сцепаніда падбегла да Петрака па ўзмежку і расчулена пераняла з ягоных рук небараку-птушачку, раскіданыя крыльцы якой без сілы абвіслі ў паветры, таксама як і галоўка з маленькай разяўленай дзюбкай.

— Божа... Пятрок! Што ж гэта?.. Гэта ж кепска...

— Кепска?

— Ой, гэта ж няшчасце! Гэта ж на бяду нам, — гатова была заплакаць Сцепаніда.

Пятрок зніякавеў таксама, але стараўся заставацца бадзёрым і не хацеў паверыць, што ад гэтай малечы можа быць якое няшчасце.

— Ну якая бяда! Змёрз проста. Такая сцюжа...

— Божа мой, Божа мой! Нашто ж ты яго чапаў? Нашто ты яго згледзеў? — бедавала Сцепаніда сама не свая ад гэтага яўнага знаку бяды.

Нейкі час яны не ведалі, што рабіць, і, ашаломленыя, стаялі на мяжы над маленькай мёртвай птушачкай з белымі, як ніцыя жытнёвыя парасткі, падкурчанымі кіпцюркамі. Сцепаніда нават заплакала, і Пятрок не суцяшаў яе: мусіць, самому было не лепей. Жаўраначка закапалі пад мяжой у ямцы, уваткнулі над ім вербную галінку — для знаку. Не ведалі, што рабіць з астатнімі вярбінкамі, — неяк знікла жаданне абносіць імі азіміну, стала ніякавата і нават трошачкі боязна невядома чаго. Прыгнечаныя, яны без ранейшай цікавасці абышлі ўзмежкам надзел і павалакліся да хутара.

Каб яны ведалі, што іх чакае на хутары, дык, мабыць, уцяклі б ад яго куды далей, можа б, і не вярнуліся на яго. Але вялікая сіла — нязнанне, яно, пэўна ж, не меней значыць для чалавека, чым яго самыя выдатныя веды, яго вытанчаная здольнасць прадбачыць будучае, зазіраць наперад. Нязнанне таксама ахоўвае, аберагае, дае чалавеку магчымасць жыць.

На хутары ў істопцы Сцепаніда развязала хусцінку з кулічом, адкроіла кавалак і занесла ў хату пану Адольфу. Той, як здалося, спаў у запечку, бо ў хаце яго не было відаць, і Сцепаніда паклала куліч на белую талерку, што ўзяла з пасудніка, паставіла на стол. У хаце было надта ціха, але яна не звярнула на тое ўвагі — наогул, яна не мела звычаю затрымлівацца тут: зробіць што ці возьме і — у сенцы, нашто турбаваць старога чалавека. У істопцы яны з’елі рэшту таго куліча з малаком, і Пятрок пайшоў на падворак. Яго ўжо ахапіў веснавы неспакой, трэба было ладзіць плуг для баразны, пад павеццю ён не мог знайсці ворчык, а без ворчыка як запражэш? Сцепаніда ж у вялікім чыгуне пачала боўтаць пойла карове — Чарняўка любіла менавіта такое, трохі забоўтанае мукой пойла і зусім не піла ваду.

Так яна боўтала, прысеўшы над чыгуном, як у расчыненыя дзверы неяк хістка сунуўся Пятрок і здушана крыкнуў ёй з неспакоем, спалохам, нават жахам у голасе:

— Сцепаніда!

Яна ўскочыла з долу, здалося, што Петраку блага, ён і сапраўды як палатніна пабялеў з твару, выцягнутыя да яе яго рукі нядобра дрыжалі.

— Сцепаніда!!!

Яна кінулася да яго, але ён адступіўся, памкнуўся назад на падворак, скіроўваючы яе ўвагу ў другі бок, да хлява. Яна кінула позірк далей і згледзела, што дзверы ў свірне насцеж расчынены, чаго не было ніколі, заўжды там грувасціўся вялікі замок, чорны ключ ад якога вісеў у хаце на цвіку ля парога. Адчуўшы благое, яна подбегам кінулася да дзвярэй і яшчэ з падворка ў свірановых прыцемках убачыла няпэўную чалавечую постаць. Неяк, быццам схіліўшыся над засекам, нерухома стаяў на падкурчаных у каленях нагах Адольф Яхімоўскі. Не сваім голасам яна крыкнула: «Паночку Адоля!» — але ён не азваўся. Тады яна ўскочыла ў свіран і зразумела ўсё. Зверху ад бэлькі звісала туга напятая вяроўка, жоўтая, бы голая косць, галава Яхімоўскага скруцілася набок разам з шыяй, рукі ўпалі ўздоўж худога абвіслага цела, адно плячо неяк ненатуральна паднялося вышай, а другое апусцілася. Яна схапіла яго за гэтыя кастлявыя пад суконным каптаном плечы, і цела грузна павярнулася. Ён вісеў так нізка, што падкурчаныя ногі яго ў святочных хромавых ботах з шоргатам пасунуліся на земляной падлозе. Не ў лад са сваім спалохам Сцепаніда падумала, што нават і тут, каб павесіцца, чалавеку не хапіла прасторы, так было нізка і нязручна.

Праз два дні яны з Петраком адвезлі не дужа зграбна змайстраваную з старых дошак труну на каталіцкія могілкі ў мястэчку і закапалі. Яшчэ праз дзень з мястэчка прыехаў арандатар Мацкевіч, які пагрузіў у параконную фуру груваосткае дубовае крэсла, гадзіннік у даўгім футарале і прыгожую чырвонага дрэва канторку, казаў, што за доўг, які не сплаціў яму Яхімоўскі. Сцепаніда з Петраком не пярэчылі, сказалі: бяры! Ім заставалася болей — лічы, уся сядзіба, дзве дзесяціны зямлі, кабылка, карова. Хіба па тым часе гэтага было мала?

На пачатку вясны яны перацягнулі з істопкі свой небагаты набытак і так сталі жыць у хаце.

Стары Яхімоўскі пакрысе стаў забывацца. Часам успамінаўся, але той успамін не прыносіў радасці, і яны стараліся думаць пра іншае. Тым болей што бедаў і клопату хапала ўсе тыя гады.

Азіміна сабе расла, клопат пра яе быў невялікі, але ж яе пасеяна было ўсяго дзве ніўкі, а галоўную частку надзела, што была на пагорку, трэба было араць пад ярыну. Яно б нічога, канешне, неяк бы ўзаралі, але горш, што самы верх гэтай гары з пазалеташняга года ляжаў аблогай. Яхімоўскі

яго не араў, арандатар некалі кінуў, бо зямля там была не дай Бог — гліна, якая ў сухі год камянела, бы тая скала. Але лацвей было Яхімоўскаму мецць якую дзесяціну аблогай, у яго хапала і лепшай зямлі, а як во было ім? Пабедаваўшы крыху, Пятрок запрог маладую кабылку ў ладны, новы яшчэ плужок і паехаў узнімаць аблогу.

Ён біўся там ад раніцы да паўдня, Сцепаніда, занятая іншымі справамі на сядзібе, чакала яго палуднаваць і не дачакалася. Адчуўшы благое, кінула недаробленае на падворку і ўзроўкам пабегла на той іх новы надзел, на тую халерную выспу, дзе змагаўся з зямлёй Пятрок.

Яшчэ здалёку, з узроўка, яна ўбачыла кабылку і Петрака ля яе, якраз тыя стаялі на самае выспе, але чамусь Пятрок кінуў плуг і нешта тузаўся ля кабылы, якая апанурылася ў баразне сярод ссохлага леташняга быльнягу і стаяла з мокрымі бакамі, нізка звесіўшы голаў. Сцепаніда падбегла бліжэй, выскачыла з аблогі на некалькі вузкіх баразёнак і ледзь не войкнула, пакалоўшы ногі аб калючы глей, які, нібы бітая цэгла, чырванеўся ўперамешку з хамлакамі ссохлага гною і леташнім быльнягом. Дзіва што кабылка ўходалася, тут і стары харошы конь, мусіць, надарваў бы жылы, пацягаўшы за сабой плуг. Вараная іхняя кабылка і яшчэ пацямнела ад поту, які ручаямі ліўся па яе выпнутых скабах, а бакі яе дыхавічна хадзілі ад launch пeратомы, і галава апушчалася ўсё ніжэй. З трывожным адчаем у голасе нешта гукаў да яе Пятрок, босы, у зрэбнай непадпяразанай кашулі, з узмакрэлымі ад поту плячыма — ён зірнуў на Сцепаніду, тузануў кабылку за аброць, і тая раптам хіснулася — заднія ногі яе раз’ехаліся, і яна села ў пастромках на мулкае ворыва.

— Авой, бяда, што ж рабіць? — роспачна прамовіў Пятрок і зноў узяўся тузаць і лашчыць кабылку, гладзіць па шыі, але, мусіць, дарма. Неўзабаве падагнуліся яе і пярэднія ногі, і яна легла ў вупражы, уцягшы ў хамут галаву, грабучы глей нагамі. Пятрок кінуўся яе распрагаць, ды ніяк не мог развязаць супонь, тады Сцепаніда скінула з плуга ворчык, тым аслабаніўшы пастромкі і пэўна ўжо адчуваючы, што ў іхняе жыццё раптоўна і неспадзявана ўварвалася новая вялізная бяда.

Так яно і сталася, кабылка не паднялася болей, як яны ні стараліся яе падняць — сенам, травой, паўбулкай хлеба, прынесенай Сцепанідай з сядзібы. Галава яе на доўгай пля-

скатай шыі неўзабаве таксама апала на глей, толькі вочы яшчэ трывожна варушыліся, нібы молячы людзей аб паратунку. Ды ратаваць, мабыць, было позна ўжо. Пад вечар яна апошні раз напружылася, выпрастала ногі і знерухомела назаўжды.

Сцепаніда ўся трымцела ад гора, ужо добра ведаючы, што чакае гаспадарку, якая засталася без каня, ды яшчэ ў такую пару, калі ён найболей патрэбны. Пятрок разгублена пастаяў, змакрэлы ад поту, урэшце не вытрымаў, сеў і, утуліўшы ў рукавы твар, заплакаў. Сцепаніда не супакойвала яго, крадком выцерла слязіну з уласнай шчакі і ўспомніла нядаўнія агледзіны поля і таго нежывога жаўраначка пад мяжой.

— Гэта яе праклялі, гару гэтую. Не было зямлі, але і то не зямля.

Пятрок супакоіўся трохі, пасядзеў яшчэ, астыў целам, нутром — трэба было думаць, як жыць далей.

Пад вечар ён прыйшоў з хамутом на хутар, узяў старую рыдлёўку і скіраваў у Баранні Лог, да хваёвай выспачкі, дзе капалі пясок і закопвалі здохлую жывёлу. Там, на ўскрайку хвойніку, выкапаў яміну, затым прывёў ад Ладзіміра з Выселак яго ладнага буланага коніка з хамутом і пастромкамі і адвалок кабылку да выспачкі. Сцепаніда туды не пайшла, яна не магла на тое глядзець, і думала ўсё, як жыць, калі такія напасці ў такі самы непрыдатны час. Дзе ўзяць каня, каб узараць той пракляты пагорак? Не кідаць жа яго зноў аблогай, з чаго ж тады жыць?

Пятрок прывалокся позна, скупа адказаў на яе пытанні, з’еў трохі крупніку і сеў на парозе ў сенях. Яна спрабавала нешта сказаць, можа, выклікаць яго на размову, але, мабыць, яму было не да размовы, і яна не стала назаляць, занялася сваімі справамі. А пасля і яна задрамала ў запечны, а калі прачнулася на світанні, Петрака ўжо не было, кудысьці сышоў, і яна падумала: мабыць, у Выселкі, трэба ж было прасіць у каго каня, даць рады той выспе. Іншыя ўжо адсеяліся, а яны не маглі яшчэ ўзараць.

Але яго не было і ўранку, як развіднела, і пасля, на снеданне, тады яна, устрывожыўшыся, зірнула цераз плот на гару і ажно знерухомела ад скрухі і здзіўлення, убачыўшы ўдалечы адзінокую сярод поля постаць, якая мерна неяк хісталася ў бакі, быццам што робячы на адным месцы. Яна хацела пабегчы туды, але ў печы ўжо варылася бульбачка, неяк было кінуць печ без прыгляду. Тады, зразмеўшы нешта,

яна трохі счакала, наладкавала сякі-такі харч у хустку — міску бульбы, як зварылася, кавалак сала, хлеб, гарлач малака — і пайшла на гару.

Ну, так яно і было, як ёй здалося: Пятрок капаў рыдлёўкай — калупаў, біў, сек пракляты той глей, парослы ўжо маладым пырнікам між ссохлага леташняга быльнягу, і ўжо агораў ладны клінок з канца ніўкі. Але як яна зірнула на яго твар, дык ледзьве пазнала мужа — такі ён стаў страшны, схуднелы, аброслы цёмнаю шчэццю, а ў яго вялікіх вачах тлеў немы дакор за ўсе няўдачы жыцця — каму толькі? Пляскатыя грудзі яго і яшчэ апалі, плечы выпнуліся худобай, мокрая ад поту зрэбная кашуля матлялася ад ветру, як на калку.

— Пятрок, што ж ты робіш? — сказала яна і стала ў канцы ніўкі.

— Што бачыш, — задышліва адказаў ён, не прыпыняючы працы.

— Ці ж ты ўскапаеш!

— А што ж рабіць?

— Можа б, даў хто каня? Нада ж да людзей схадзіць.

— Ужо хадзіў. Хто дасць? На гэтую во камяніцу?

Яна не настойвала болей, ведала, што ўвогуле Пятрок казаў праўду: такой пільніцай у каго дапросішся, кожнаму конь патрэбны самому. Зноў жа, хто дасць свайго беражонага ў чужыя рукі ды яшчэ на такую зямельку? Дык што ж, капаць рыдлёўкамі? Але, мусіць, іншага не выпадала.

Яна, памятае, трохі нават заплакала тады, уявіўшы сабе сялянскую долю без коніка. Пятрок прыпыніў працу, знямогла абапёрся аб рыдлёўку.

— Што ж рабіць? Жыць жа нада. Як-небудзь...

Чатыры дні ад цямна да цямна яны ў дзве рыдлёўкі адольвалі той глей і ўсё ж неяк адолелі яго. Праўда, абое засталіся без сілы, знемаглі дашчэнту, але неяк усё ж ускалупалі, хоць і мелка, мясцінамі толькі падрапалі зверху рыдлёўкамі. Рабілі ўсе дні моўчкі, часам толькі пераводзячы дых з рыдлёўкамі ў руках. Пасля Пятрок паўдня біў кукай глыжы і аднойчы ўранку ўзваліў на сябе паўторбы ячменю, узяў плеценую з саломы сявалку. Пасеяў хутка, забаранаваць, праўда, на паўдня пазычыў каня ў Лявона, надзел якога быў побач, трохі ніжэй, зямля там таксама была не дай Бог, але трохі мякчэйшая па супесі. Управіліся якраз у суботу, ціхім пагодлівым адвячоркам, і Сцепаніда думала адпачыць трохі, разагнуць

адубелыя, у мазалях, далоні. Але Пятрок, хвіліну пасядзеўшы на прызбе, узяў сякеру і падаўся кудысь узроўкам. Яна запытала, па што, думала, па якую лясіну ў печ, бо дроў было мала, але ён не адказаў і знік за плотам.

Вярнуўся ён на падворак, калі яна ўзялася даіць карову, і адразу ж, не павячэраўшы, паваліўся ў запечку. Калі, управіўшыся з вечаровымі справамі па гаспадарцы, яна ўвайшла ў хату, ён зняможана хроп, і яна не стала нічога пытацца, таксама лягла.

Назаўтра паўтарылася ранейшае — ён знік на світанні, і яна ўжо не ведала куды. Але ці мала ў мужыка спраў па вясне, асабліва яшчэ пры такой бядзе, без каня. Можа, пайшоў у Выселкі, думала яна, зноў жа наконт каня, бо яшчэ трэба было вывезці гною пад бульбу, узараць гарод, пасадзіць бульбу — работы на зямлі вясной заўжды процьма. Сцепаніда навязала на ўзроўку карову і, калі вярталася да сядзібы, незнарок зірнула на гару і зноў жахнулася ад таго, што ўбачыла.

Якраз уставала сонца, якое, праўда, тут жа, пад лесам, упаўзала ў нізкую хмару, і збоч ад яго на святлявым ускрайку ранішняга неба яна ўбачыла здалёк чалавечую постаць, якая, угнуўшыся, быццам дужалася з нечым, якім слупом або дрэвам — чымсьці высокім і, мабыць, цяжкім. Яна ўжо зразумела, што гэта Пятрок. Але што ён удумаў?

Збочыўшы са сцяжыны, Сцепаніда кінулася наўпрасткі туды, колючы ногі ў дробным глеі засеянай нівы, падбегла да сваёй палоскі. Тут ужо стала відаць, як на самай выспе ў канцы іх надзела пахіла вагаўся свежы, з неакоранай лясіны збіты вялізны крыж, які, упіраючыся ў зямлю нагамі, з усяе сілы паднімаў над сабой Пятрок. Як яна падбегла бліжэй, ён ужо выраўняў крыж угары і крыкнуў: «Трымай!» Сцепаніда аберуч ашчаперыла сыры і шурпаты ствол дубка, патрымала яго роўненька ў глыбакаватай яміне, якую таропка пачаў засыпаць Пятрок. Крыж быў высозны і страшэнна цяжкі, варта ёй было незнарок трошкі нахіліць яго, як яна спалохалася, што не ўтрымае, але ўсё ж утрымала, і Пятрок пакрысе закідаў яміну глеем.

— Памажы, Божа, не адступіся ад рабоў тваіх, — прабубніў ён, хрысцячы спатнелы, спакутаваны за гэтыя дні твар. Яна таксама перахрысцілася, падумаўшы: а мо і праўда паможа? Адвядзе праклён ад гэтай клятай людзьмі і Богам зямлі.

Крыж пастаяў вясну і лета — на самай выспе над лесам і ровам, воддаль ад дарогі. Кожны, хто ехаў ці ішоў гасцінцам, пазіраў на гэты знак чалавечай бяды, але мала хто ведаў, якая была то бяда. Тады ж нехта з высялкоўцаў назваў гэты пагорак Галгофай, ды так і пайшло: Галгофа ці гара Галгофа, а то яшчэ Петракова Галгофа. Так звалі і пасля, як мястэчковыя камсамольцы Капылоў Жэнька, Меерсон і малодшы Хвасько ўвосень павалілі крыж. Неяк завіталі на хутар, папрасілі пілу, Пятрок даў, а Сцепаніда яшчэ пачаставала іх квасам — якраз настаяўся, добры быў квас, — хлопцы пажартавалі, напіліся і пайшлі. Яна думала, што тыя мелі патрэбу ў лесе ці рове, а яны завярнулі па мяжы на выспу і за якіх дзесяць хвілін спілавалі крыж. А пасля, як прынеслі пілу, яшчэ прачыталі ім натацыю пра шкоду рэлігійных забабонаў. Пятрок спахмурнеў, угнуў галаву і не спрачаўся, а Сцепаніда тады пасварылася з імі. Вясной, як яны з Петраком гаравалі на той Галгофе, тады ніхто не бачыў, каб памагчы, а цяпер, як вырас нейкі ячмень, бач, ім крыж вочы коле. Але што ім яе сварка, яны пагагаталі сабе з яе цемнаты і пайшлі.

А назва гары засталася, і, мабыць, яшчэ доўга будзе так звацца гэты нязладны для хлебаробства пагорак, асвенчаны іх слязьмі і працай, іх і людскімі пакутамі.

## 15

Мабыць, зіма паварочвала на вясну — мінулі завеі, удзень пацяплела, на падворку добра падтайвала, а ўначы браўся ладны марозік, аж патрэсквала ў вуглах. Ранак усчынаўся шырокай, разлітай на паўнеба пунсовасцю, з-за лесу ў марознай смузе ўскочвалася чырвонае кола сонца, набірала сілы, яснела, і неўзабаве даўжэзныя сінія цені ад дрэў, пагоркаў, слупоў выцягваліся цераз усё поле з аселым пасля адлігаў, хрупасткім снегам. Марозная далячынь мроілася шараватаю просінню лесу, размытай стракатасцю пералескаў, кустоўя, трыснягоў, балацявін, а поруч усё ярка ззяла, бялела да рэзі ў вачах. Было па-святочнаму ціха і прыгожа.

Сцепаніда, аднак, мала любавалася прыгажосцю пагоднага ранку, мо нават і не прыкмячала яго — яна прыпазнілася каля печы, не ўправілася са скацінай, сказала Петраку, што дарабіць — напаіць авечак, замяшаць курам, — а сама пабегла цераз поле ў Выселкі.

Мякка бегла па ледзяной дарожцы ў старых лапленых валёнках і думала, што вернецца цяпер хіба ўпоцемку — была самая гарачка з калгасам, які ўсё ж сарганізавалі тыдзень назад. Сядзелі да ранку, але ўсё ж дамагліся — большая палавіна Выселак пагадзілася ўступіць. Мабыць, Новік праўду казаў: раскулачыш аднаго — іншыя задумаюцца. Задумаліся, памеркавалі і пагадзіліся. Цяпер тры дні запар камісія па абагульванні хадзіла па дварах, апісвала насенне, інвентар, коней, збрую. Звычайна Сцепаніда прыбягала ранічкай у сельсавет, і адтуль іх чатыры чалавекі ішлі па вёсцы, нікога не мінаючы, у кожны двор — праз жаночы плач, страхавіта-заклапочаныя позіркі старых, напружана-прымоўклую дзіцячую ўвагу — бралі ўсё на ўлік. Было трудна, але было трэба.

Яна думала ў той дзень, што не застане старшыню ў сельсавеце, што, мабыць, прыйдзецца даганяць камісію дзе ў вёсцы, і дужа падзівілася, калі, адчыніўшы дзверы доўгае, як абора, псаломшчыкавай хаты, убачыла ўсіх на месцы. Прымоўклы сядзеў за сталом Лявон і насупраць — каржакаваты мужык у чорным паўкажушку, яго сусед Карніла, якога таксама выбралі ў камісію па абагульванні, адвярнуўшыся да акна, стаяў у сваім доўгім ваенным шынялі Вася Ганчарык. Было дужа накурана і сцюдзёна, і панаваў нейкі спалох ці клопат, які адразу адчула Сцепаніда. Яна стрымана павіталася:

— Дзень добры.

— Чорта ён добры, — сказаў Лявон, павёўшы на яе адным вокам. — Паганы дзень.

Сцепаніда не зразумела.

— А што? Надвор’ечка добрае.

— Аж занадта добрае. Ранняя вясна бярэцца. Але... На во прачытай.

Ён падаў ёй невялічкі, добра пакамечаны ўжо аркушык раённай газеты «Чырвоны араты». Не разумеючы яшчэ — што, яна з натугай пачала чытаць рассыпаныя па старонцы загалоўкі: «Вышэй сцяг індустрыялізацыі!», «На новыя рэйкі!», «План вывазкі дзелавой драўніны пад пагрозай зрыву». На другім баку быў невялічкі малюнак: чырвонаармеец, шырока расставіўшы ногі, пратыкае штыком тоўстага брухатага буржуя з ашчэранымі зубамі.

— Не туды глядзіш, — сказаў Карніла. — Во, у рагу.

Сапраўды, у самым ражку газеціны не дужа вялікімі літарамі значыўся загаловачак: «У Слабадскіх Выселках

патураюць класаваму ворагу — кулаку». Сцепаніда ўпілася вачмі ў дробненькія літары заметкі і, трохі шавелячы вуснамі, пачала чытаць. У заметцы пісалася, што ў той час, як скрозь па краіне ідзе вострая барацьба з кулаком як з класавым ворагам, у Выселках гэту барацьбу ігнаруюць і раскулачылі толькі аднаго ворага, які меў наёмную сілу, — Івана Гужова. А наёмную сілу мелі яшчэ наступныя гаспадары: Багацька Карніла, які два леты наймаў бяднячку Каландзёнак Прузыну жаць збожжа, Прахорыха, што тры гады запар наймае араць, жаць і сеяць, Багацька Уладзімір, які наймаў малаціць. Усё гэта могуць пацвердзіць сведкі. «Ніякай літасці класаваму ворагу!» — такім заклікам канчалася тая заметка. Падпісана яна была загадкава — проста: селькор.

Сцепаніда зразумела, што было ад чаго апанурыцца гэтым мужчынам, асабліва Карнілу, ды і старшыні Лявону. Ёй таксама зрабілася страшнавата, яна нават хацела яшчэ раз прачытаць, каб упэўніцца, што ўсё зразумела правільна, але Карніла ўзяў у яе газету.

— Ну, бачыла? Гэта я класавы вораг?

— А я патураю, — з’едліва сказаў Лявон.

Сцепаніда прысела на лаву, нечага яна не магла даўмецца, хоць напісанае ў газеце было праўдай, але ж... Куды яна вяла, тая праўда заметкі, пра тое страшна было падумаць.

— І хто б гэта быў, свалата? — двума пальцамі скалечанай рукі стукнуў па стале Лявон.

— А я вам скажу — хто! Ягоная работа! — знервавана сказаў Карніла і ўстаў ад стала. Ля акна павярнуўся Ганчарык, ладны ў сваёй чырвонаармейскай форме, паверх якой вісела на баку цяжкая кабура з наганам — красамоўная адзнака яго новай міліцэйскай службы.

— Паеду ў раён. Я знайду, хто.

— Няма чаго доўга шукаць, — стаяў на сваім Карніла. — Каландзёнак гэта, я вам кажу. Магу закласціся на што хочаш.

— Можа, і Каландзёнак, — сказаў Лявон. — Ён жа ў нас грамацей. Але не тое галоўнае.

— А што ж галоўнае? — гарачыўся Карніла. — Напісалі паклёп, хіба ж гэта няважна?

— У тым-та і справа, што не паклёп. Што праўда! Наймалі ж? Наймалі. Значыць, наёмная сіла.

У хаце ўсе змоўклі, пазіраючы хто куды — што такое наёмная сіла і якія яна цяпер мае вынікі, было ўсім вядома.

Сцепаніда таксама маўчала, хоць і разумела, што цяпер нешта трэба рабіць, некаму скардзіцца, ці што? Праўда, у глыбіні душы яна яшчэ не магла паверыць у кепскае, бо тыя пералічаныя ў заметцы людзі хоць і наймалі памагчы па гаспадарцы, але ж якія яны кулакі? І не сабатажнікі нават, бо разам з усімі ўступілі ў калгас, а Прахорыха проста старая бабылка, што дажывала свой век у струхлелай хаце. Ці ж ёй пад сілу было самой абрабіць і засеяць чатыры дзесяціны зямлі? Ну і наймала каго абрабіць поле з паловы ці трэцяй часці. Дык які ж яна класавы вораг?

— Але дзе Патап? — запытаўся Ганчарык.

— Збег, шчанюк. Ведае, паганец, што цяпер яму далей з воч, — не сунімаўся Карніла. Лявон прагна зацягнуўся апошнімі зацяжкамі з недакурка і са злосцю шпурнуў яго на падлогу.

— А я яму прытулак даў! У сельсавет пусціў. Ну паганец! Цяпер чакай у мяне!

— А што ты яму зробіш? — спытаў Карніла. — Не выганіш жа.

— За праследаванне селькора крымінальная адказнасць, — напомніў Ганчарык.

— За яго адказнасць. А яму ніякай адказнасці! Наплёў — і прэч з воза. А тут шавялі мазгой. Бойся! Думай, што выйдзе. Мабыць жа, гэтым не кончыцца.

— Мабыць, не кончыцца.

— Трэба ехаць у мястэчка, — сказаў Лявон і падняў знявечаны твар да Ганчарыка. — Паедзем удвух.

— А як жа апісанне? — запытала Сцепаніда. — Яшчэ ж той канец сяля застаўся. Ці мо другім разам?

— Не, — сказаў Лявон. — Вы апісвайце. А мы пад вечар прыедзем.

— Ну добра.

Павольна, усё дужа паныла Карніла патэпаў па хаце, нешта падумаў і так і гэтак. Ведама: яму было не соладка — працягнулі ў газету. Сцепаніда пашкадавала яго, бо ведала, які ў яго самалюбівы нораў, хоць з выгляду ён быў мужык ціхі, негаваркі. Карніла хацеў нешта сказаць, надзеў на рукі лапленыя, з кажуха, рукавіцы, зноў зняў іх. Але махнуў рукой і ўзяўся за клямку. Сцепаніда таксама пайшла да дзвярэй.

Так, моўчкі, Карніла наперадзе, а Сцепаніда ззаду, яны пайшлі вуліцай у дальні канец Выселак, што раскінуўся за

пагоркам у нізінцы. Карніла доўга маўчаў, шырока тупаючы па наледзянелым снезе ў чорных валёнках. Валенкі былі яшчэ новыя, каляныя і здаваліся цяжкімі ў нязграбных, клееных з тоўстай аўтамабільнай гумы галёшах. Канешне, ён часам наймаў што памагчы, хоць на зямлю і быў не багаты, але быў ашчадны, любіў майстраваць і меў троху пчол. Казалі суседзі, што быў скупы і не любіў пазычаць не толькі вяскоўцам, але і родзічам. Ад калгаса не адмаўляўся, уступіў разам з усімі. Лявон яшчэ меўся паставіць яго брыгадзірам, бо Карніла гаспадарыць умеў і быў рупны. Ды вот гэты допіс у газеце.

— Во, кажуць: кіраўнікі, кіраўнікі, — сказаў ён, павярнуўшыся да Сцепаніды, і тая подбегам дагнала яго. — А я табе скажу: горай за суседзяў нікога няма. Ніхто табе столькі шкоды не ўчыніць, як твой сусед.

— Ну, ведама ж, — пагадзілася Сцепаніда. — Бо ўсё блізка, пад бокам.

— Пад бокам, усё бачаць і заходзяцца ад зайздрасці. Асабенна яшчэ, калі нягеглы які. Няўдака! Такі не тады рады будзе, калі сам каня купіць, а калі ў суседа конь здохне. Праўда! Знаю я такіх суседзяў! Ад іх кавалак хлеба трэба пад армяком есці. А то пазайздросцяць. А зайздрасць, яна бокам вылязае. Канешне ж, не таму, хто зайздросціць. Я не кулак, не багаты. Зямлі не болей, чым у другіх. Але я работу люблю. І парадак. Не тое што другі: кінуў, рынуў, пайшоў. Я, калі ўзяўся, дык давяду ўсё да ладу. Зямлю, я яе лепей чым лусту хлеба дагледжу, усе шнуркі на каленях выпаўзаю, усе камочкі ў пальцах ператру. Я ржавую драціну не абміну, падбяру. А як жа іначай у гаспадарцы? Ды во, некаму вочы коле.

— А няўжо гэта Патап напісаў? — усумнілася Сцепаніда.

— А то хто ж? Ён жа ў нас селькор. Памятаеш тады, як на Прахорыху даказаў? Пра лён?

Гэта Сцепаніда памятала добра. Пра той учынак Патапа Каландзёнка, можа, з год гаманілі ў Выселках, а то і ва ўсім раёне. Былі нават спрэчкі: каторыя маладзейшыя ледзь не загрудкі браліся са старымі, якія ганілі хлопца, а маладыя хвалілі, бо пра Каландзёнка напісала тая ж газета, праславіла на ўвесь раён. Здарылася тое залетась, позняю восенню, калі раён апынуўся ў прарыве па льназдачы. Лён не ўрадзіў, не вырас, бо з вясны засушыла, а здаваць трэба было, мужыкі спрэс сталі нядоімшчыкамі. З акругі і з раёна адразу прыехалі аж два ўпаўнаважаныя і разам з Лявонам пачалі хадзіць па

дварах, выбіваць лён. Але што можна было выбіць, калі ўсё паздавалі дагэтуль, сабе не пакінуўшы ані каліва; калаўроты і кросны той год стаялі без працы. Каб як выпаўзці з планам, нават развівалі вяроўкі, конскія путы — усё здавалі як валакно. У старой Прахорысі, ведама, не знайшлося нават якой вяроўчыны, каб раскруціць, упаўнаважаныя яшчэ пашкадавалі бедную бабыліху, якая ўсё плакала і наракала на лёс, на сваю старасць і нездароўе.

Але як толькі камісія выйшла з халоднай, няпаленай хаты на двор, Патапка Каландзёнак, які заўжды круціўся каля начальства, падышоў да старшага ўпаўнаважанага, маладога мужчыны ў чорным бобрыкавым паліто, і шапнуў, што ў пустым хляве ў бабкі схаваны лён. Спярша яму не паверылі, зазірнулі ў пусты, з расчыненымі дзвярыма хлеў, і Патапка, узлезшы на бэльку, выцягнуў з-пад страхі тры куксы выдатнага гладкага кужалю. Гэта быў сабатаж, і хоць Прахорыха апраўдвалася, што ўшчэнт абнасілася, што тое ёй для сподняга на смерць, склалі пратакол і хацелі судзіць. Але неяк абышлося з судом, мусіць, усё ж пашкадавалі бабулю, а пра класавую пільнасць Патапа Каландзёнка напісала раённая газета «Чырвоны араты». Во пасля таго выпадку Лявон і пусціў у сельсавецкую хату Каландзёнка з маткаю, якія жылі да таго ў лазні. Самога ж Патапа ў вёсцы сталі клікаць Селькор — адны з пахвалой і зайздрасцю, а другія з насмешкай. Што ж датычыцца Патапа, дык, мусіць, ён зразумеў гэта па-свойму, і яшчэ разы два ў газеце паявіліся кароценькія заметкі пра высялкоўцаў: адна — што ў вёсцы добра працуе лікбез, а другая пра збор попелу на ўгнаенне.

Яны падышлі да скасабочанай, пад трухляваю страхой хаты, Карніла пакратаў зачыненыя знутры веснічкі. Тут жыў Багацька Барыс, мнагадзетны бядняк, які, аднак, ці не апошні на сходзе запісаўся ў калгас і адразу знік з вёскі. Казалі, некуды з'ехаў. Веснічкі ніяк не адчыняліся, тады Карніла так трасянуў іх, што тыя ледзь не паваліліся разам са слупкамі і расчыніліся. Яны абое зайшлі на засмечаны саломай і трухой, зруднелы ад намыяў падворак, праз халодныя сені ўвайшлі ў хату.

— Дзень добры. Ці ёсць тут хто? — падаў голас Карніла.

Не адразу з запечча выткнулася Лізавета, Барысава жонка, з паспешна захінутым нейкаю радзюжкай малым на руках, які туліўся мурзатым тварыкам да пустой Лізавецінай сіські.

Счырванелымі, мабыць, ад плачу вачмі Лізавета ўставілася ў захожых.

— Лізаветка, мы апісаць, што ў калгас абабшчаствляць падлягае, — стараючыся як мага ласкавей, сказала Сцепаніда. Лізавецін твар ад тых слоў пыхнуў знянацкім гневам.

— Апісваць? Апісвайце! Во іх апісвайце! Маня, Тэкля, Ганула — усе сюды! Во іх бярыце, карміце ў сваёй камуне.

З запечча да маці кінуліся дзве басаногія малыя ў заношаных каптаніках, ухапіліся за брудную спадніцу. Саромеючыся, выйшла старэйшая Ганула і таксама, пазіраючы спадыбла, стала за маці. У падпеччы, чуваць было, спуджана кудахталі куры, смярдзела чымсь непрыемным, і было дужа няўтульна ў запушчанай хаце.

— Ладна, — сказаў Карніла. — Ты тут нам шпіктакль не строй. Дзе Барыс?

— А я знаю, дзе той Барыс? Мне не сказаў. Калі ў калхоз запісаўся, дык яго і апісвайце. А я не пайду і каровы не дам. Карова мая, у пасаг бацька выдзеліў. Не маеце права адбіраць.

— Ды сціхні ты, Лізавета! — зазлавала і Сцепаніда. — Карову мы пісаць не будзем. Запішам толькі каня. Ну і вупраж. Семяны тожа.

— А няма сямян. І каня тожа няма.

— Як гэта няма? — настырчыўся Карніла. — Быў жа конь, вараны.

— Быў, ды няма. Сплыў. Во як!

— Сплавілі? Прадалі?

— Хоць бы і прадалі, — выцерла слёзы Лізавета. — А што ж, дарма ў камуну аддаваць? Ці нам яго хто дарма даў? Грошы плацілі.

— Дурная ты, як стаптаны бот! — памаўчаўшы, зазлаваў Карніла. — Во і пастрой з такімі калхоз! Перш табе б розуму набрацца! Культуры якой навучыцца! Во ў хаце не прыбрана, дзеці замурзаныя. Гультайка ты, а маладая яшчэ! Толькі малых раджаць, болей анічога не варта!

— Якая ёсціка!

— Ідзі паказвай, што дзе. Каб мы не тыцкаліся, як зладзеі.

— А не буду нічога паказваць. Самі глядзіце.

Яна пачала хутаць у радзюжку малога, зусім безуважная да іх, і Карніла, не стрываўшы, плюнуў пад ногі.

— Ну глядзі, апішам. Тады не наракай.

Удваіх са Сцепанідай яны зноў выйшлі на забруджаны ўшчэнт падворак, Карніла агледзеўся.

— Дзе тут у іх што? Там варыўня, здаецца?

Але не паспеў ён павярнуць да старой, з выкрышанымі вугламі будыніны, як з вуліцы пачуўся задыханы дзіцячы голас:

— Дзядзька Карніла, татка сказаў, каб вы ў сельсавет ішлі.

Абвязаная пад пахі хусткай, па той бок веснічак стаяла меншая Лявонава дачушка Волечка. Зірнуўшы на яе счырванелы ад бегу твар, Сцепаніда зразумела: штось сталася.

— Чаго яму там закарцела? — насцярожыўся Карніла.

— Ай, там прыехаў... Ну, з мястэчка дзядзька такі з чорным каўняром.

— Касмачоў?

— Ну. І яшчэ другі з ім. Дык татка сказаў...

Карніла адразу пазмрачнеў з твару, нешта трохі падумаў і з роспаччу вылаяўся:

— Ядры яе маць! Так я і ведаў!..

Болей ён не казаў нічога — валюхаста прыпусціў па наледзянелай вуліцы, і Сцепаніда ледзьве паспявала за ім. Воддаль бегла задыханая Волечка.

Ля сельсавета быццам бы ўсё было па-ранейшаму, коней не было відаць: можа, стаялі ў двары? Напусціўшы ў хату сцюжы, яны разам сунуліся ў дзверы, якія Сцепаніда не дужа ўпраўна зачыніла ззаду — і паглядзела за стол. Там ужо сядзелі двое: Касмачоў — у канцы ля акна і наўзбоч ад яго пры сцяне — незнаёмы плячысты мужчына з цвёрдым паголеным тварам, у бліскучай скуранцы, наўкось ад пляча перацятай рамянём — ад нагана, ці што? Мужчына глядзеў перад сабой на сашчэпленыя на сталешніцы рукі, вялікімі пальцамі якіх ён неяк спрытна круціў адзін каля аднаго. Касмачоў у паддзёўцы з чорным каўняром заклапочана пазіраў у парог; у прасценку на лаве, угнуўшы галаву і абапёршыся локцямі аб калені, нервова дыміў самасейкай Лявон. Побач з ім сядзеў Вася Ганчарык. Усе зацята маўчалі, мабыць, нешта прыгнечана перажываючы, і гэтая іх прыгнечанасць адразу перадалася двум захожым, якія, ціха павітаўшыся, селі на лаву ў парозе.

— Сход, ці што, будзе? — ціха запытаў Карніла, болей каб парушыць няёмкую ціш хаты.

— Раскулачванне! — нядобра буркнуў Лявон.

— Як? Ужо ж раскулачылі?!

— Раскулачылі, ды не ўсіх! — сарваным голасам знервавана выпаліў Лявон, устаў і адвярнуўся да акна. — Казаў жа, адным не абыдзецца.

Касмачоў за сталом павярнуўся бокам, пасля зноў абапёрся локцем аб стол, відаць было, ён таксама стрымліваў хваляванне, хоць знешне стараўся выдаць сябе спакойным, як заўжды, памяркоўным. Але гэта яму давалася кепска. У той жа час Лявон без дай прычыны злосна-пагана вылаяўся і ляпнуў недакуркам аб дол. Мужчына, не паднімаючы галаву ад стала, спадылба ўставіў у яго пільны цяжкаваты позірк, паглядзеў трохі, перавёў позірк на Касмачова. Той тады павярнуў галаву да Лявона і, пазіраючы ў падлогу, сказаў з дакорам:

— У класавай барацьбе галоўнае — падняцца над асабістым.

Зноў стала ніякавата і дужа ціха, здавалася, ніхто не дыхае нават. Сцепаніда заскарузлымі пальцамі ціхенька церабіла рубчык на пале кажушка і адчувала сябе так, што хоць праваліся з той лавы.

— Дык каго ж раскулачваць? — унутрана напяўшыся, запытаўся ў гэтай цішы Карніла. Лявон са здзічэлым спрытам адскочыў ад акна.

— А тых, што наёмны труд мелі! Што ў газеце працягнуты! Уразумеў?! — крыкнуў ён, і было незразумела, чаго ён так вызвярыўся — ад злосці або ад спачування.

Карніла сцяў шырокія пашчэнкі, паволі апусціў долу твар. Пасядзеўшы трохі, устаў і памалу пабрыў да дзвярэй. Як дзверы за ім зачыніліся, Сцепаніду нібы працяло болем ад думкі: што ж гэта робіцца?

— Што, і яго? — запыталася яна, звяртаючыся да ўсіх. Голас яе напяўся ў нервовай узрушанасці, і гэта ўсе адчулі.

— І яго. І Ладзіміра. І Пракопіху, — кінуў Лявон.

— Раскулачыць?

— Анягож прэміраваць!

Яе ўсю хапіла нейкая ўнутраная гарачка, плечы адразу спатнелі, вочы заслала невідушным туманам, хвіліну яна не ведала, што сказаць ім і што падумаць самой. А яны ўсе тут — мужчына за сталом, Касмачоў ля яго, аднавокі Лявон і нават Ганчарык — з нейкай напружанай увагай знямелі і толькі чакалі, што скажа яна. І яна дужа не ў лад са сваімі пачуццямі зарагатала нядобрым нервовым рогатам, якога

аж сама спалохалася, бо адчула, што гэты яе смех вось-вось абарвецца нечым жахлівым.

— Дурні вы! — раптоўна прыцяўшы смех, выпаліла яна. — Ёлупы! Каго раскулачваеце? Тады ўсіх раскулачвайце! Усіх да аднаго! І калгаса не трэба будзе. І ніякага клопату. Давайце ўсіх! І мяне таксама — парабчанку пана Яхімоўскага. І яго вунь — беззямельнага Ганчарыка! Усіх! Дазвання!

Яе трэсла, бы ў ліхаманцы, змутнелым позіркам яна нікога не бачыла ў хаце, яна думала, што затрасуцца і яны ад яўнай бязглуздзіцы іхняга намеру, ад такой відавочнай несправядлівасці. Але яны спакойна сабе сядзелі, як пні, — нязрушна, упэўнена, і тады ёй зрабілася блага — ад страты ўлады над сабой.

— Ціха, цётка, — сапраўды дужа спакойна сказаў Касмачоў. — У палітыцы патрэбна паслядоўнасць.

— Якая паслядоўнасць? — ускочыла яна з лавы, болей за ўсё ўзрушаная гэтым яго разумным спакоем. — Якая паслядоўнасць? А справядлівасць не трэба? Калі ўжо да беднякоў дайшло! Дык хіба справядліва? Вы, разумныя людзі, хіба вы не бачыце! Але ж спытайцеся ў мужыкоў... У якога цёмнага дзеда спытайцеся, ён скажа вам: так жа нельга! Нельга, каб свае — сваіх! Ці вы ўжо здурнелі там ад навукі, не бачыце? Гэта ж усе людзі навакол бачаць, а вы...

Яна крычала — нязладна і блытана, пераскокваючы з крыўды на злосць, болей звяртаючыся, аднак, да таго незнаёмага мужчыны ў чорнай скуранцы. Яна хацела, каб ён, чужы чалавек і, мабыць, нейкі начальнік, зразумеў, што робіцца несправядлівасць, і заступіўся. Яна верыла ў справядлівасць і дужа хацела верыць, што справядлівасць зараз жа пераможа крыўду. Але ў хаце ўсе маўчалі, маўчаў і гэты мужчына, упарта хаваючы вочы, — нават не зірнуў на яе. Тады яна закрычала яшчэ гучней:

— Гэта ж ашалець трэба! Лявон! Ты ж свой, тутэйшы, як жа можна так? Трэба куды ісці скардзіцца! Трэба ў Маскву ехаць, да самога Калініна. Ён жа павінен заступіцца! Нельга ж так! Не па-людску гэта! Не па-бальшавіцку! Гэта ж перагіб!

— Ану ціха, цётка! — ужо нядобра гыркнуў Касмачоў. — Таварыш Ганчарык, што стаіцё? Супакойце гражданку!

Вася павярнуўся да акна, і на ягоным твары адбіліся такая пакута і такая разгубленасць, што Сцепаніда трохі абцішэла.

— К чорту ўсіх вас! Рабіце што хочаце! Але без мяне!..

Яна павярнулася і шыбанула ў дзверы, размашыста бразнула імі знадворку. Дзверы не зачыніліся, тады, падумаўшы, яна вярнулася і прычыніла іх.

Яна бегла ўтаптанай дарогай у сваю Яхімоўшчыну, і слёзы цяклі па яе зяблых шчоках, а ўнутры ў яе ўсё галасіла, і яна не ведала, што рабіць. Яна толькі адчувала з незвычайнай выразнасцю, што зараз жа трэба нешта зрабіць, некуды бегчы, звяртацца да некага. Але куды бегчы і да каго звяртацца?

А можа, да Новіка? Усё ж свой, вясковы, і цяпер — вялікі начальнік. Ён жа тады вёў гаворку пра аднаго Гужа, іншых не памінаў. Ён павінен ведаць гэтых людзей — якія ж яны кулакі? Паскардзіцца, хай скасуе гэты загад на раскулачванне. Мала што напісала газета? Паглядзець, хто напісаў у газету — падшыванец гэты, няўклюда лягчоная, ні хлопец, ні дзеўка — паскуда адна! Дык яго слухацца?

Сцепаніда прыбегла на хутар, зазірнула ў хлеў, дзе звычайна корпаўся ля скаціны Пятрок, але Петрака цяпер не было і саней не было пры хляве — ці не паехаў па дровы? Даўно збіраўся і казаў: пакуль не адабралі каня, трэба навазіць дроў. Хай возіць. Яна забегла ў хату, у куфры пад прыскрынкам у яе была прыхавана завязаная ў насовачцы траячка — берагла на які пільны выпадак, але, мабыць, пільнейшага ўжо не будзе. Падумаўшы, ухапіла яшчэ кошычак, кінула туды свяжэйшую хусцінку, адрэзала лусту хлеба. Не блізкі свет Полацк, калі дабярэшся да яго. Але з мястэчка нехта паедзе. Забегчы да Лейбы, ён балагол, можа, адвязе. Не хопіць грошай, каб заплаціць, — папрасіць у доўг, пасля, можа, заплоціць яйкамі ці яшчэ чым. Лейба — чалавек добры, мог і пачакаць да вясны ці да лета. Не паднімаў вэрхал, як іншыя.

Было ўжо не рана, сонца асела ў хмару на захадзе, мароз апаў, уначы ці не паверне на адлігу. На голле ліп насела варання, нешта кешкаліся там, крычалі — мабыць, сапраўды будзе адліга ці вецер.

Сцепаніда спяшалася. Каб зберагчы час, збочыла з дарожкі на сцежку цераз малады сасоннік — гэтым зразала лішніх паўвярсты шляху. Сцежка была не дужа ўтаптаная — некалькі пар ног пратупалі ў снезе, але цяпер, пасля адлігі ў мароз, снег трымаў добра, толькі ў самым сасонніку быў рыхлаваты, і яна праваліласся разы два. Стала горача, трохі распусціла каля шыі хустку і, то ўгінаючы галаву ад хвойнага сучча, то ўхінаючыся ўбок сама, прабіралася так у самым гушчары да гасцінца і

думала: каб хоць застаць дома Лейбу, а то, можа, з’ехаў куды, тады трэба будзе ці начаваць, ці вяртацца на хутар.

Яна ўжо гатова была збегчы з прыгорачка на ўезджаны шлях гасцінца, як у прыдарожных сасонках наперадзе кагось згледзела. Было, аднак, цемнавата, вечарэла; нехта, прыгнуўшыся, шаснуў ад яе ўбок, а другі, вялікі мужчына ў караткаватым паўкажушку і чорнай калматай шапцы, ступіў ёй насустрач.

— Куды, Сцепаніда? — неяк дужа спакойна гукнуў ён, і яна адразу пазнала малодшага Гужовага сына Зміцера. Гужоў тыдзень назад раскулачылі, забралі набытак, але пакуль што нікуды не вывезлі, казалі, чакаюць вагоны. Цяпер гэты з Гужоў заступіў ёй сцежку, і яна стала, не ведаючы, што адказаць яму.

— Куды разбеглася, пытаю?

— У мястэчка. А табе што?

— Чаго гэта ў мястэчка?

— Ну, дзела ёсць.

— Дзела напроціў ночы?

— Ну а што?

— А тое, што пойдзеш назад. Паняла?

— Гэта чаго? Што мне, у мястэчка нельга?

Гуж падышоў бліжэй, можа, думаў, што яна павернецца ад яго, саступіць са сцежкі, а яна не павярнулася і не саступіла. Яна гнеўна глядзела ў яго, мусіць, не надта цвярозы, малады яшчэ твар з белымі брывамі. Твар, як ні дзіўна, не выдаваў нічога: ні асаблівай злосці, ні строгасці, ні якой пагрозы, толькі вочы былі дужа пільныя і сцюдзёныя.

— Там што? — кіўнуў ён на кошык і, перш чым яна паспела адказаць, выхапіў кошык з рук. — Хустка, хлеб... А гэта? Грошы? Грошы спатрэбяцца...

Ён запіхаў у кішэнь чорных брыджаў яе насовачку з пакамечанай траячкай і раптам азвярэла вылаяўся:

— А цяпер бягом! На хутар бягом!!! Акцявістка, ядрыт тваю такую!..

— Што ты робіш? Што робіш? Я закрычу, нахабнік ты! — раз’юшылася і Сцепаніда. Тады Гуж саўгануў чымсь пад палой кажушка і тыцнуў у грудзі ёй руляй. Так, гэта была кароценькая чарнаватая руля без мушкі, яна ўвапхнулася ў кажушок насупраць сэрца, вялікая Гужова рука туга ашчаперыла абрэзаную дзеравяшку ложа.

— Тваё шчасце, радня што! А то... Паняла?

Так, мабыць, яна паняла. Тым болей што ў хвойнічку непадалёк, трошкі шавелячыся і шавелячы галінкі, стаілася і яшчэ адна цьмяная постаць — пільна сачыла за іхняй сутычкай на сцежцы.

Сцепаніда павярнулася і пайшла сцежкай у глыб хвойніку да хутара, ні разу не азірнуўшыся і трошкі баючыся стрэлу ў спіну. Ведала, Зміцер быў здольны на ўсё. Бывала, падлеткам абтрасаў сады, глуміўся з меншых, пляжыў гародніну ў Выселках. Калі ў суседа Карнілы завёўся сабачка, які не даваў Гужу разбойнічаць паначы, дык той злавіў яго, удушыў і павесіў у Карнілы на шуле. Гэты літасці не меў ад роду. Не тое што ягоны рупны, добры і гаспадарлівы старэйшы брат ці нават строгі, але спакойны, набожны бацька, які даводзіўся нейкай раднёй Петраку.

— І каб нікому не слова! Паняла? А то пеўніка пад стрэшку! Ты мяне знаеш! — данеслася ўжо здаля.

Зноў яна, нібы пабіты сабака, ішла ў свой хутар і душылася ад слёз адчаю, крыўды і бяссілля. Нікуды не паткнуцца! Яе абрабавалі, як якога дурня, за вярсту ад жытла, адабралі апошні рубель. І хто? Зноў жа свой чалавек, якога яна яшчэ смаркачом гразілася некалі абстрыкаць крапівой за тое, што крыўдзіў малых на выгане. Цяпер не абстрыкаеш, цяпер стрыкаецца ён, ды так, што абпякае душу. Не шкада ёй было тае траячкі, але во нахабна так пагразіўся, і яна мусіла слухацца, бо што яна зробіць? Калі ён пайшоў на такое, яму нядоўга і падпаліць сядзібу. Ці забіць дзе ў хвойніку.

Ну але тады што — трываць?

Трываць было не ў яе характары, мусіць, яна ўсё ж на нешта наважыцца, нешта зробіць. Найперш яна раскажа Петраку, а заўтра збегае да Ганчарыка, у сельсавет. Усё ж ёсць Савецкая ўлада, знойдзецца нейкая ўправа на тых разбойнікаў у лесе.

Калі яна дабрыла да хутара, ужо сцямнелася, у намерзлым акенцы мірна блішчэў чырвоны агеньчык — дзеці сядзелі пры стале за ўрокамі. Пятрок паіў на падворку каня, мусіць, толькі што выпражанага з саней, якія стаялі каля дрывотні з некалькімі тоўстымі сухадрэвінамі — ці не з Баранняга Логу. Цяпер будзе чым уволю напаліць печ, мабыць, хопіць да цёплага. Але дровы, якія ў іншы час парадавалі б яе, цяпер ледзьве крануліся яе свядомасці — яна падалася да Петрака.

— Пётра! А Пётра!..

Мабыць, Пятрок адразу адчуў нешта кепскае ў яе голасе — такім голасам яна звярталася да яго не часта. Ён кінуў на снег вядро і ўстрывожана ступіў ёй насустрач.

— Пётра, што ж гэта робіцца? — сказала яна і ўсхліпнула. Пятрок разгублена стаяў насупраць.

— Хто табе? Што цябе?..

— Яны ж заб'юць нас. І хату спаляць... Яны ж азвярэлі! У мяне і кошычак адабралі...

Пятрок неяк адразу абвянуў, засмуціўся, толькі ўздыхнуў, вымавіўшы:

— Дык і цябе, значыць...

— А што, і цябе?

— І мяне... У сасонніку, ага?

— У сасонніку.

Пятрок азірнуўся, падышоў да дрывотні, паслухаў трохі, узіраючыся ў бок недалёкага рова.

— Слухай... Паслухай мяне. Нікому ні слова! І не патыкай носа! Сядзі дома. Бо... І мне гразіліся: за адно слова спаляць.

Сцепаніда апусцілася на шурпаты яловы камель на санях, у яе ўжо не было сілы стаяць. Значыць, і Пятрок пабываў ужо ў іхніх руках, значыць, і ён ужо з імі пазнаўся і цяпер загадвае маўчаць. Інакш... Сапраўды, страшна падумаць, што будзе інакш. Дзе тады жыць? Куды ісці з дзецьмі?

Пятрок напаіў каня, завёў і паставіў у хлеў. Папоркаўся там нядоўга і зноў выйшаў на двор. Ужо было зусім цёмна, з-за рага істопкі дзьмуў пругкі вецер, зорак у небе не было відаць ніводнай. Сцепаніда сядзела на бервяне, абнямоглая, заплаканая, і думала: што рабіць? Галоўнае, каб усё тое неяк не зачапіла дзяцей, не апаліла іх бязлітасным сваім крыллем, абышло міма. Пасля, канешне, будзе ўсё, але як падрастуць, хай. А цяпер каб уберагчы як ад благога іхнюю дзецкасць, іх слабыя, недарослыя душы.

— Во, бабанька ты мая, дажыліся! — прытэпаў да яе Пятрок. — Хто калі думаў! Гэта ж і я: еду, толькі павярнуў з гасцінца — наўпрасткі хацеў, — выходзіць. Давай каня! Які табе конь, не бачыш — дровы. Давай, і ўсё. І руляй пад нос. Узяў бы, але гужы ў мяне слабыя, ірваныя гужы, я і кажу... Паглядзеў, пусціў. Кажа: родзіч усё ж. Каб ты спруцянеў, такі родзіч! Ну, але калі што — спаляць. Яны такія. Раз'ятраныя. Ім што? Ім губляць нямашака чаго. Як ваўкі ў лесе.

— Браты там, ці што?

— А чорт іх ведае! Але не адзін. Я ж бачыў...
— Дык што ж? Маўчаць?
— А што ж яшчэ? Жаліцца? Дык пашкадуй дзяцей!
Сцепаніда маўчала. Дзяцей яна пашкадуе, канешне, але хто пашкадуе яе? З яе наглуміліся, цяпер яна будзе глуміцца сама з сябе, трываць, калі не трываецца, маўчаць, калі з нутра рвецца крык. Хіба гэта па-людску?

Усю тую доўгую ветраную ноч яна не заплюшчыла вока — ляжала, як дзеравяная, на палку пры печы, — думала. Думы былі бясконцыя, цяжкія, беспрасветныя, з безліччу пытанняў, на якія яна не знаходзіла адказаў. Нешта ў свеце заблыталася, перамяшалася, зло з дабром ці адно зло з другім, яшчэ большым злом. Ці, можа, у ёй самой што змянілася — перайначылася, надламілася, спапялела, спрахнула? Яна шмат чаго не разумела, але добра адчувала адно: так не павінна быць, не па-чалавечы гэта, значыць, нешта трэба рабіць. Не ляжаць, не чакаць, не мірыцца — заўтра ж трэба бегчы ў Выселкі, у мястэчка, у акругу ў Полацк, дайсці да добрых людзей. Не магло ж таго быць, каб недзе там, наверсе, не было разумных людзей, якія зробяць як трэба, дамогуцца справядлівасці і адвядуць бяду. Гэтыя не маглі, ці не ўмелі, або не хацелі, ці не разумелі чагось, значыць, трэба вышэй. Перад яе вачмі ўсё стаяў Новік, як ён тады патрабаваў раскулачыць, але ж аднаго Гужова, пра іншых ён не казаў нічога. Яна не галасавала супраць Гужова і пасля дужа шкадавала старых Гужовых, але цяпер, пасля ўчарашняй сутычкі ў сасонніку з іхнім Зміцерам, жаласць да іх у яе прапала. Хай раскулачваюць, хай вывозяць з вёскі гэтага зверыядаўца, каб яго і духу тут не было. Без яго тут будзе спакойней.

Але ж за што іншых?

Пра іншых яна не магла думаць без болю ў душы, асабліва пра Анютку Ладзіміраву, старую Прахорыху ды і Карнілу. З Карнілам у яе здаўна былі асаблівыя адносіны, якія калісь ледзьве не сталі агульным іх лёсам. Праўда, не сталі...

Яна тады была дзеўкай, рабіла ў старога Яхімоўскага, жыла ў Выселках, але на працу кожнага дня бегала ў Яхімоўшчыну; уставала раненька, на зары, і цераз бальшак шыбавала на хутар. Трэба было падаіць дзвюх кароў, выгнаць на пашу, нарыхтаваць корму свінням, гусям, якіх тут быў немалы статак, што пасвіўся ля рова на ржышчы. Клопату было шмат на хутарской сядзібе, але нямоглы Яхімоўскі

амаль што не ўлазіў у гаспадарчыя справы, вохкаў сабе ў запечку, і яна гаспадарыла, як знала. Апроч яе на хутары былі яшчэ парабкі, але тыя рабілі ў полі, да якога яна амаль не мела адносін. Ёй хапала адной сядзібы, хаты, жывёлы, якая не давала перадыхнуць ні зімой, ні ўлетку. Не мёд быў той хутар, але што яна магла без зямлі, без пасагу — бедная прыжывалка ў няласкавай, мала шчаслівай братавай сям'і?

Аднойчы яна трохі запазнілася ўстаць і таропка бегла па роснай сцяжыне ў бульбоўніку цераз гароды. Мінаючы сядзібу Карнілы, пачула ягоны голас з падворка, на якім гойсала наравістая Карнілава карова, не давалася з сабой зладзіць. З год перад тым Карніла аўдавеў, застаўся з двума малымі, жаночую справу па гаспадарцы рабіў усю сам, не дужа ўмела, а часам няўклюдна, і бабы ў вёсцы смяяліся, як ён мые бялізну ці месіць хлеб; некаторыя па-добраму спачувалі яму. Сцепаніда спынілася, ужо зразумеўшы, што карова не даецца даіць, Карніла бегаў за ёй з даёнкай, падлашчваўся і гразіў, але нічога ў яго не выходзіла. Тады з пэўнай няёмкасцю яна ўвайшла ў вароты і палашчыла ўстрывожаную карову, тая адразу паспакайнела, Карніла вынес з сянец лусту хлеба, пасыпаную соллю, і Сцепаніда ўзялася даіць. Малака было не так многа, яна хутка выдаіла яго і, смеючыся, падала гаспадару даёнку. Але Карніла даёнку не ўзяў, а неяк пагрозліва насунуўся на яе — дужы малады мужык у расшпіленай на шырокіх грудзях кашулі, прысадзісты і рукасты. Сцепаніда ажно спалохалася трохі, але тут жа згледзела, што ў ягоных пацямнелых вачах была такая бездапаможнасць, амаль разгубленасць, што яна адвяла яго рукі і засмяялася.

— Ты што, Карнілка! Апомніся...

Мабыць, гэта яго працверазіла, ён адышоўся ад жанчыны і адвярнуўся да тыну, пастаяў крыху, загароджваючы, аднак, праход у варотцы, і яна ўжо сумелася была: што рабіць? Зноў павярнуўшыся да яе, ён сказаў гэтак сумна:

— Вот каб мне за жонку цябе...

Яна зноў засмяялася.

— Дык шлі сватоў, чаго ж ты...

— А пойдзеш? — зноў настырчыў позірк Карніла.

— Падумаю. Можа, і пайду. Не знаю яшчэ...

Яна і сапраўды не знала, хоць нічога не мела супраць яго. Карніла быў мужык спраўны, але ж удавец з двума малымі. А яна хадзіла ў дзеўках, з хлопцаў нікога на прыкмеце не

мела, ніхто яшчэ да яе не сватаўся. Што было ёй рабіць? Месяцаў колькі яна чакала, марыла рознае, уяўляла, аж зненавідзела сябе і Карнілу. Ды сватоў ён так і не прыслаў, на Мясаед прывёў з Кухналёў перастарку Вандзю, якая і загаспадарыла на Карнілавай сядзібе. Сцепаніда трохі паплакала ў падушку і супакоілася, хоць і не забылася на той летні ранак на ягоным падворку.

Можа, цяпер яму за тое пакаранне?

Але ж не, хіба за такое можна караць? А завошта тады караць Ладзіміра, старую Прахорыху? Дый Гужова таксама... Зрэшты, калі падумаць, дык, можа, усё і пачалося праз гэтага Гужа? Калі б ён тады не заўпарціўся і каго выклікаў, дык бы не прыязджаў Новік, не патрабаваў бы яго раскулачвання. І не раскулачылі б, калі б на галасаванні Ганчарык не падняў руку і тым не зрабіў большасць. А не раскулачылі б Гужа — не было б заметкі ў газеце, а тады ж што? Тады не чапалі б і гэтых?

Але тады праз каго ўсё гэта? Праз Гужа? Новіка? Ці Васілёву няўстойку? Дык няўжо ж ад адной толькі ягонай рукі так шмат залежала ў Выселках? Але во, мусіць, залежала. Проста страшна падумаць, як шмат, бывае, залежыць у жыцці ад аднаго толькі слова, рукі, нават нейчага позірку. Асабліва ў гэткі час! Якім трэба быць памяркоўным, ашчадным, справядлівым і добрым. Бо тваё зло супраць некага можа абрынуцца з яшчэ большаю сілай назад, на цябе самога, тады ой як стане балюча. А перад тым, як ты валіў яго на суседа, ці балела табе? Часам бывае радасна, што цябе абышло, абмінула, усім цяжарам зваліўшыся на іншага. А як абрушыцца на цябе самога?

Ранкам яна ўстала разбітая, ушчэнт растузаная сваімі думкамі — трэба было збіраць ў школу малых, а то б не ўставала. Хай бы Пятрок карміў парсюка, авечак, добра, карова яшчэ не цялілася, даіць не трэба было. Пры газнічцы наабірала чыгунок бульбы, запаліла ў печы. Дзеці яшчэ спалі: салодка пасапваў уранні Федзька, Фенечка таксама сцішылася, а то ўсю ноч неспакойна варочалася на ложку. Пятрок выйшаў на двор і, мусіць, забавіўся ля скаціны. Цяпер, як заўважыла яна, ён даўжэй, чым калі раней, бавіў час ля каня, ведаў: хутка прыйдзецца ім разлучыцца. Шкада было спраўнага маладога коніка, якога год назад нажылі і цяпер аддаваць... Яна разумела Петрака. Тым часам пачало днець, засінеўся золак у

вокнах, у хаце было відна ад агню з печы, і яна ўжо хацела была дзьмухнуць на газнічку, як у акно пастукалі. Спярша яна падумала, што гэта Пятрок, але не — стук быў нейкі надта даўгі і рэзкі, спалоханы, ці што, Сцепаніда падумала: калі што, там жа недзе ў хляве гаспадар. Але яна падышла да акна і не адразу разгледзела за намёрзлай і падталай шыбкай жаночую постаць ля прызбы.

— Цётачка... — глухавата данеслася з-за акна як не з гэтага свету, і яна пазнала Анютку. Сцепаніда таропка расчыніла дзверы з сянец, Анютка ўбегла ў хату і адразу ўпала на лаву, заходзячыся ў ёкаце. Яе чорны сачок быў расшпілены, хустка з'ехала на патыліцу, светлая расплеценая каса рассыпалася па плячах.

— Ой, цётачка, ой, бяда ж у нас...

Яна ўжо здагадалася. Учора ў сельсавеце стала зразумела, якая бяда насоўвалася на Ладзіміра, Анютку і яе дарослых братоў, і цяпер хацела неяк суцешыць дзяўчыну. Але тая раптам устала з лавы, абарвала плач і, аціраючы слёзы з твару, загаманіла:

— Ой, цётачка, ноччу ж Анціпа з Андрэем забралі — прыехала міліцыя і забралі, усёператрэслі, шукалі яшчэ Гужовага Зміцера, але ж Зміцер хітрэйшы, Зміцер уцёк, а нашых пабралі, павялі некуды...

— Так, так, так, — машынальна казала Сцепаніда, ужо здагадваючыся аб іншым. — Яны з Гужом былі?

— Ой, цётачка, хіба ж я ведаю, але гэтыя дні недзе прападалі. Зміцер як прыйшоў за імі — і прапалі, дзве ночы не былі дома. А сёння ж... Ці вы мо чулі, што ўначы сталася на бальшаку? Ой, гэта ж бяда сталася. Кажуць, нехта пераняў Касмачова, ну і таго з Полацка, і стралялі. Во там, у сасоннічку. Кажуць, Касмачова паранілі, добра, што конь вынес. Конь як паддаў і вынес аж у мястэчка. Ну, міліцыю паднялі, ай, што рабілася! Ноччу... Наехалі якраз, як браты вярнуліся. Толькі кажухі пасцягвалі — стук-стук, пытаюцца: дзе былі? Тыя: дома. Тады да мяне... А я што скажу, я ж нічога не ведаю...

Ашаломленая тым, што чула, Сцепаніда апусцілася на ўслон, адчуваючы, як усё перамяшалася ў яе пачуццях і ў яе галаве таксама. Патроху яна пачала разумець, што сталася — сталася страшнае. Адчула яшчэ невыразную сувязь таго страшнага здарэння з тым, што рабілася днямі і ўчора, са сваёй сустрэчай у сасонніку. Яна маўчала, пазіраючы на

Анюту, якая ўзялася папраўляць хустку. Сэнс незвычайных падзей марудна даходзіў да яе свядомасці. У запеччы паўставалі малыя. Федзька, надзеўшы порткі, страхавіта высунуўся з-за радзюжкі і стаяў так са спалохам на сонным твары.

— Ай-яй! Што ж гэта робіцца?! — прамовіла яна разгублена.

Анютка, трохі суняўшы ўзрушанасць, гаварыла, ламаючы на грудзях рукі:

— Я ж не ведаю цяпер, што рабіць! Бацька заплакаў: кажа, навошта вы так на старасць маю? А як павялі Анціпа з Андрэем, дык і саўсім біцца стаў аб зямлю, мне страшна стала, ну, я і пабегла сюды. Што ж цяпер рабіць, цётачка?

Што ж было рабіць? Каб яна ведала, што трэба было рабіць. Але, мусіць, цяпер ужо нічога не зробіш. Цяпер позна! Пасля такога ўжо зусім позна, ужо цяпер не паткнешся нікуды. Цяпер ёй стала зусім зразумела, што там рабілася, у сасоннічку, як яна бегла ў мястэчка, чаго яны спынілі яе: ім не траячка яе спатрэбілася — яны чакалі. А яна перашкодзіла. Але ж нада на такое наважыцца, дайсці да такога. А цяпер... Што цяпер будзе?

## 16

Праз дзень раскулачвалі Багацьку Ладзіміра.

Ранічкай у Яхімоўшчыну прыбег Патап Каландзёнак, якога цяпер Сцепаніда не хацела пушчаць у хату, і ён быццам адчуваў гэта — пастукаў у акно і празвягаў Лявонаў загад прыйсці на раскулачванне. Яна сказала яму і сабе — скулля! І не пайшла. Няхай раскулачваюць без яе, яна не галасавала за тое раскулачванне. Але потым затрывожылася, болей за Анютку, — як яна там? Гэта ж так яе павязуць, і яна ніколі ўжо не пабачыць дзяўчыну. Аж расхваляваўшыся ад тае думкі, Сцепаніда як была, у няновай спадніцы і атопках, пабегла ў Выселкі.

Трохі наводшыбе ад вуліцы, на Ладзіміравым падворку, ужо тоўпіліся людзі, пахмурна стаялі запрэжаныя ў сані коні. З хаты выносілі майно: клумкі, кажухі, падушкі, мяхі, — усё неяк таропка, без ладу кідалі ў сані. Трошкі ўбаку, ля плота, знерухомела купка вясковага люду, болей жанок з дзецьмі, мужчын было мала, і сярод іх на падворку вылучалася высокая постаць Лявона ў залапленым кажусе, з чорнай паскай

наўкось па шчацэ, цераз лоб. Выгляд у старшыні быў змрочны і злы, — нібыта раскулачвалі яго, а не Ладзіміра. Непадалёк на снезе стаяў незнаёмы Сцепанідзе прысадзісты мужчына ў чорнай бліскучай скуранцы, які таксама назіраў за гэтай выпраўкай у нікому не вядомы, далёкі, жалобны шлях. Дзверы ў сені былі расчынены, адтуль выскачыў спатнелы, чорны, цыганскага выгляду Антось Недасека, пра штось запытаў у Лявона. Следам паказаўся Васіль Ганчарык, — няспрытна, задам ступаючы з ганка; валок цяжкаваты зялёны куфэрак, які з другога боку трымаў сам Ладзімір. Згледзеўшы той куфэрак, Сцепаніда міжволі ахнула: то ж быў Анюцін пасаг, з якім дзяўчо нядаўна яшчэ збіралася замуж — неяк зімой паказвала Сцепанідзе, што там было нарыхтавана. Цяпер гэты рыштунак сам Ганчарык выпраўляў немаведама куды — на Салаўкі, у Сібір — хто ведае? Сцепаніда глыкнула даўкі ком у горле, з усяе моцы памкнулася стрымаць слёзы. Зрэшты, тое было нялёгка, некаторыя бабы ўжо плакалі, — ціхмана хліпаючы насамі, выціраючы рукавамі вочы, а малая Барысава Маня ўсё тузала маці за палу кажушка і пытала:

— Мама, а куды гэта яны? І я хачу ў сані...

Лізавета крыкнула на дачку раз і другі, ды малая не сціхала, і тады старая Маланння, што стаяла побач з кіём у руках, мовіла з нейкім благім намёкам:

— Чакай, дачушка. Вырасцеш — паедзеш яшчэ...

Васіль з Ладзімірам уладкавалі куфэрак на сані, Ладзімір пачаў прывязваць яго даўгой вяроўчынай, а Ганчарык выпрастаўся, і Сцепаніда не пазнала ягоны твар — такі спакутаваны выраз ляжаў на ім, — зусім не падобны на яго, ранейшага.

— Праслядзіце за цем, как укладываюцца, — падкрэсліваючы інтанацыяй кожнае слова, загадаў яму незнаёмы ў скуранцы, — мабыць, упаўнаважаны з раёна. — Пад вашу лічную ответсцвеннасць.

Ён стаяў на двары асобна ад іншых, засунуўшы рукі ў кішані скуранкі, і Вася моўчкі кіўнуў, пайшоў у хату Ладзіміра.

«Гэта ж трэба! — разгублена думала Сцепаніда. — Сам нявесту сваю... Хаця, мабыць, ужо не нявеста...»

Яна хацела пабачыць Анютку, баялася гэтай сустрэчы і не магла абысціся без яе, бо ведала, што ім больш не пабачыцца. Але Анюта ўсё не выходзіла з хаты, мабыць, нешта яшчэ

збірала, і Сцепаніда наважылася — рушыла цераз двор у сені. Толькі яна ступіла на ганак, як той, у скуранцы, вызверыўся:

— Эй, куда? Нельзя!

— Чаго?

— Нельзя, сказал!

«Пайшоў ты на сухі лес!» — адказала яна ў думках, і, пыхнуўшы нутраной злосцю, рашуча ступіла ў сені.

— Ганчарык, вазвраці пастаронніх! — данеслася ззаду.

Ганчарык у хаце, аднак, не адазваўся, хаця дзверы былі ўсюды расчынены насцеж, і ў іх стала відаць абадраная, нібы абрабаваная Ладзімірава хата: голыя сцены, засмечаная і заследжаная падлога, бязладна рассунутыя лаўкі. Пасярод пустой горніцы на голым услоне, патупіўшыся, плакала Анютка, і Ганчарык, нерашуча кранаючы яе за плячо, прасіў асіплым, чужым голасам:

— Ну, ціха... Ну, ціха... Ну, што ж цяпер...

Сцепаніда апанурана пераступіла парог, раптам адчуўшы, як штосьці ў ёй нібы абарвалася, і новая непадуладная ёй сіла ахапіла яе разварушаныя за тыя дні пачуцці.

— Анютка!

Анютка падхапілася на ўслоне, а Сцепаніда ўпала побач, абняла дзяўчыну і захлынулася ў кароткім, бы енк, плачы, калі, здавалася, не стрывае, разарвецца сэрца. З даверлівай пакораю дзяўчына прыпала да яе ўсім сваім трапяткім целам, нібы да маці, якую некалі страціла ў дзяцінстве. Абдымаючы яе за плечы, Сцепаніда гладзіла яе вузкую, у плюшавай жакетцы спіну, сама абліваючыся слязьмі, праз іх нічога не бачачы навакол. Аднекуль здаля да яе слыху даляцеў вокрык упаўнаважанага:

— Таварыш міліцыянер!..

Яна не адразу зразумела, што гэта звярталіся да Ганчарыка, які з вінаватай разгубленасцю на збялелым твары крануў яе за плячо.

Так яна і ведала: тут нельга плакаць, абдымацца з дачкой раскулачанага, якая цяпер з сяброўкі, суседкі нібы ператварылася ў заразна-хворую — у класавага ворага. Мабыць, трэба было ёй штосьці сказаць, але Сцепанідзіна сэрца поўнілася невыказным плачам, маўклівай скрухай па недарэчным лёсе гэтай няшчаснай дзяўчыны.

— Цётка Сцепаніда! — настойліва паўтарыў побач Ганчарык.

У хату ўвайшоў Ладзімір, здзеў шапку. Не звяртаючы ўвагі на яе, таксама як і на міліцыянера і быццам на дачку таксама, прайшоў у кут з адсунутым сталом і лаўкай, зняў са сцяны крайні абраз, астатнія, мабыць, назаўжды пакідаючы ў гэтай выстуджанай пустой хаце. Гэта быў абраз святога Мікалая-цудатворцы, — стары, з аблезлай пазалотай, на счарнелай дошцы. Прыцяўшы абраз да грудзей, Ладзімір укленчыў з ім на падлозе.

— Мір дому... Зямлі...

Анютка адарвалася ад Сцепаніды, ускочыла. Сцепаніда таропка выцірала ражком хусцінкі мокры ад слёз твар. Развітанне канчалася, трэба было ісці. Але толькі яна скіравала ў дзверы, як ззаду раздаўся здзічэлы крык Анюткі:

— За што? Вася, цётачка, за што ж гэта?!.

Сцепаніда, аднак, не спынілася, падумала толькі, што на сёння, мабыць, ёй хопіць, і выйшла з сяней. У двары чакалі ад'езду нагружаныя майном сані, трохі ўбаку тоўпіліся людзі. Не зірнуўшы ні на кога, яна пратупала каля іх да варотцаў і слепа пабрыла вясковаю вуліцай, не ведаючы куды і па што...

Ужо далёка адышоўшыся ад Ладзіміравага падворка, заўважыла, што ідзе не ў Яхімоўшчыну — у другі канец вёскі, але павяртаць не стала. Якраз наперадзе згледзела дужа знаёмую мясціну, дзе некалі была іхняя хата і цяпер стылі на ветры бярозы ля вуліцы ды на мяжы сядзібы распусціў тонкае вецце вішаннік. Хаты не было, хата згніла, і яе разабралі на дровы, а гарод перайшоў суседу Багацьку Дзям'яну, які дбайна абгарадзіў яго добрым бярозавым плотам. Сцепаніда, аднак, не спынілася каля былога жытла і немаведама куды тупала ўздоўж вуліцы — міма знаёмых спрадвеку хацін, сцен, вулічных дрэў, платоў, абышла таўшчэзны, што вылез ажно на вуліцу, камель Маланнінага клёна. Спусцілася з пагорка і ішла далей, аж покуль не ўбачыла новы штыкетнік каля Аўсюковай хаты, дзе цяпер была школа і куды яна з восені спраўна тры разы ў тыдзень бегала на лікбез; цяпер там сядзелі за партамі яе Федзька і Феня і яшчэ тры дзесяткі рабят, пасаджаных за чатыры рады парт — па радзе на клас. Сцепаніда прыпынілася каля штыкетніка, абаперлася на яго грудзямі і думала. Дзеці хай вучацца, можа, іх напаткае лепшая доля, чымсі іхніх бацькоў, можа, навука дасць хлеба і выведзе ў жыццё. А яна ўсё, яна болей на лікбез не пойдзе. Пасля ад'езду Анюткі яна ўжо не магла сядзець за той партай без

яе, не магла пераступіць той парог школы, дзе ўжо ніколі не будзе яе. Гэта ж Анютка ўгаварыла яе пайсці на лікбез, казала, сорамна быць непісьменным, калі ўсе ў краіне вучацца, малыя і старыя. Сама яна так старалася, так шчыравала з навукай, і цяпер Сцепанідзе стала зразумела, чаму — Ганчарык жа быў грамацей, перад службай скончыў чатыры класы ў мястэчку. Як жа было ёй адстаць ад яго? Маладзейшай, падлеткам, не было як вучыцца, у шаснаццаць год стала за гаспадыню ў хаце, як памерла ад сухотаў маці, бацька не ажаніўся болей, а блізняты-браты Анціп з Андрэем нешта бавілі час, прыглядаліся ды ваגаліся. Цяпер ужо не пажэняцца.

Калі ў школе раптам выбухнуў радасны дзіцячы розгалас, яна зразумела, што дастаялася да перапынку, і адарвалася ад штыкетніку. Трохі яна паспакайнела, сабралася з думкамі, але, мусіць, далей тут стаяць было нягожа, і яна паволі паплялася па вуліцы назад, захацела пабачыць Лявона — здавалася, Лявон ведае нешта такое, чаго не ведае яна, нешта скажа, можа, суцешыць. У сельсавецкай палавіне было, аднак, пуста і стаяў слупам пыл — гэта Патап Каландзёнак шкрэбаў па затаптанай, невядома калі мытай падлозе тонкім гальнём, і яна стала ў парозе.

— Лявон хіба не прыходзіў?

— Не, не прыходзіў.

Абыякавы да яе, Каландзёнак усё драў гальнём падлогу, горнучы ў парог смецце і пясок, і яна ўбачыла на ягоных заўжды ссінелых босых нагах неблагія яшчэ, хоць і паношаныя боты. Але гэтыя боты былі не Лявонавы.

— Што, боты зарабіў? — спытала яна з тайным здзекам у тоне.

— Рэквізаваныя, — буркнуў Патап, ваўкавата зіркнуўшы на яе праз узняты з падлогі пыл.

— Старайся, паршывец! — сказала яна і выйшла на вуліцу.

Яна ішла ўздоўж плота і думала, што во, жыве ж чалавек — яшчэ малады, а ўжо граматны, нават праз меру, скончыў тры ці чатыры класы і ўсё рабіў быццам бы правільна, а нічога, апроч крыўды і нянавісці, да сябе не выклікаў у вяскоўцаў. Напісаў у газету, і ўсё тое само па сабе было таксама правільна, а чым яно абярнулася для людзей?

Яна не мела яшчэ слоў у галаве, каб сказаць яму ўсё, што адчувала, але было пэўна, што адчувала адну толькі брыду да гэтага маўклівага падростка, які сваёю ўвішнасцю на-

рабіў такога, што хіба сам не разумее чаго. Гэты не Зміцер. На Зміцера зірнеш, і адразу відаць, што ён табе можа зараз зрабіць, а што заўтра зробіць гэты маўчун, таго не ўзнаеш. Цяпер ёй успомнілася, што дзеці ў вёсцы ніколі не гулялі з ім у свае дзіцячыя гульні, і хоць быў ён нязлы і нікога не крыўдзіў, яны абміналі яго стараной. Заўжды ён быў сам па сабе, адзін — ці ў вёсцы, ці па дарозе ў школу, ці ля статка ў полі. Падросшы, пачаў гарнуцца да тлумных клопатаў і спраў дарослых, бывала, не прапускаў ні аднаго сходу, з ранку да позняй ночы тырчэў у сельсавеце, слухаў, маўчаў. Што думаў толькі? Мабыць, і надумаў. «Каб ты спруцянеў, нячысцік», — са злосцю падумала Сцепаніда.

Яна ўжо мінала апошнія хаты Выселак, ужо відаць стаў сіратліва апусцелы Ладзіміраў падворак з расчыненымі насцеж веснічкамі, як недзе за Ганчарыкавай хатай, здалося, да неба ўзвіўся вар'яцкі жаночы крык. Яна аж скаланулася ад гэтага крыку і спынілася пасярод вуліцы. Якраз у той момант з-за рога хаты выбегла расхрыстаная Ульяна, Васілёва маці, яна здзічэла крычала адно толькі: «Людцы! Людцы!» — і роспачна біла кулакамі ў свае пляскатыя грудзі. Убачыўшы Сцепаніду, кінулася да яе, усё лямантуючы і крычучы нешта, чаго Сцепаніда зразумець не магла, хоць і ведала пэўна, што сталася нешта страшнае. Праз плач і лямант Ульяна паказвала на хату, у голыя вокны з тоўста намёрзлым лёдам на шыбах. Пра нешта здагадаўшыся, Сцепаніда подбегам кінулася туды і ўжо на падворку пачула гэткі ж жудасны крык з хаты — гэта заходзіўся плачам Яначка, трохгадовы Васілёў брацік. Праз расчыненыя дзверы Сцепаніда ўскочыла ў сенцы, адкінула напаўрасчыненыя дзверы ў хату, думаючы, што трэба ратаваць з нейкай бяды Янку, але ў цемнаватай знадворку хаціне яна не магла даўмеццца, дзе ён крычыць.

Затое яна згледзела іншае і на момант аслупянела на сярэдзіне падлогі, працятая жахам.

Ля акна за канцом пустога стала аблёгся грудзьмі на сталешніцу Вася Ганчарык — як быў у сваёй чырвонаармейскай форме: шынялі, рамянях, толькі без шлема. Светлавалосая галава яго ўткнулася лбом у стол, рука выпрасталася наўкось па стале, звесіўшы на ўслон разнятыя пальцы. У затхлым паветры хаціны яшчэ чуваць быў трывожны пах стрэлу.

У куце ля печы немым крыкам заходзіўся малы Янка.

## 17

І вось гэтаю ноччу звёўся нешматлікі гаротны род высялкоўскіх Ганчарыкаў.

Невялічкае, танклявае цела падлетка ў загорнутай на грудзях кашульцы ляжала пад тынам ля лаўкі. Пятрок быў ашаломлены гэтым забойствам і не мог даўмецца, як яно здарылася — як той нямко апынуўся тут уначы? Што яму было тут патрэбна? Пятрок быў так уражаны і напалоханы за ноч, што нібыта страціў мову і нават перастаў бедаваць — яго апанаваў жах. Зрэшты, як і Сцепаніду таксама, якая ў маўклівым здранцвенні сядзела на сваім тапчане і не паварушылася нават.

Немцы даўно ўгаманіліся і, мусіць, спалі ў сваёй палатцы, не спаў толькі іх вартавы, які то стаяў пад страхой ля прыступкаў, то памалу тупаў сюды-туды па падворку. Калі трохі зашарэлася святло ў акенцы, як заўжды, бразнуў посуд ля кухні — то браўся за сваю справу Карла. Пятрок адзначыў пры сабе гэтыя гукі і схамянуўся з паўсоннага забыцця — трэба было рыхтавацца да новай бяды і новых турбот, бо што ж яшчэ мог прынесці з сабою новы дзень? Але толькі ён апусціў ногі з дзежак, шукаючы імі скарэлыя свае апоркі, як учуў далёкі перарывіста-траскотны гук ад гасцінца — так некалі траскаталі матацыклы, якія, аднак, даўно там не ездзілі. «Значыць, ужо мост гатовы, калі па гасцінцы гойсаюць матацыклы, — паныла падумаў Пятрок, — мусіць, так». Густы трэскат тым часам глух, але затым рабіўся гучнейшы, і вось матацыкл завуркатаў зусім блізка, пасля яшчэ бліжэй (мабыць, ужо ўязджаў на падворак) і раптам сціх. Пачулася нейкая нядоўгая гамана з Карлам, пасля з вартавым ля ганка. Пятрок, зацяўшы дыханне, слухаў. Матацыкла тут раней не было відаць, мабыць, гэты прыехаў аднекуль здалёку, з нейкім, відаць, загадам, — можа, што зменіцца на сядзібе? І праўда, падобна было на тое, што прыехаў пасыльны: найперш пачуўся ціхенькі далікатны стук у дзверы, дзе спаў афіцэр, спакваля дзверы, чуваць было, адчыніліся і зачыніліся зноў, ціхай размовы адтуль у істопцы амаль не было чуваць. Затое, калі адтуль хтосьці выйшаў, вартавы на падворку раўнуў нейкую каманду, і ля палаткі адразу ўсчаўся вэрхал — затупалі, загаманілі, забегалі па падворку. Але, здаецца, без трывогі ці спалоху — проста паднімаліся па нейкай патрэбе, можа, раней часу, ці што.

Пятрок прыліп да акенца — дужа цікава было ўведаць, што там яшчэ адбываецца. Сцепаніда ж, з выгляду абыякавая да ўсяго, сядзела на сеннічку, падпёршы плячмі бёрны сцяны. Вочы яе былі прыплюшчаны, але па тым, як яна час ад часу расплюшчвала іх, Пятрок здагадваўся, што яна не спала — як і ён, яна пільна ўслухоўвалася ў тое, што рабілася на падворку.

На гэты раз толькі два ці тры немцы таропка памыліся з кацялкоў ля калодзежа, іншыя выходзілі з палаткі ўжо ў шынялях і нават з вінтоўкамі ў руках, некаторыя з ранцамі, сумкамі і нетаропка, бы чакаючы чаго, спыняліся на падворку, гаманілі і закурвалі. Падобна было, што ні на работу, ні снедаць яны не збіраліся, і гэта навяло Петрака на думку, ад якой ён ажно скалануўся ў радасці.

— Баба, а баба, чуеш? Яны ж выязджаюць!

— Жджы, выедуць табе.

— Яй-богу, выязджаюць. Глядзі, майно з палаткі выносяць. Вунь да машыны...

То была праўда, яны вывалаквалі нейкія скрынкі, клумкі з палаткі і кідалі іх цераз задні борт у машыну. Яшчэ праз хвіліну два салдаты вырвалі некалькі калкоў з зямлі, і тугі горб палаткі абвяў, зморшчыўся і апаў долу.

— Ага — вымятаюцца-такі! Ай, дзякаваць Богу! — апанавала нечаканая радасць Петрака, і Сцепаніда, прыўстаўшы, зірнула ў акенца. Але, мусіць, найперш згледзела яна не тое, што ўзрадавала Петрака.

— Ляжыць... Хоць бы прыкрылі чым. Як скаціну якую. Звяры!

Ведама, гэта яна пра Янку. Але Пятрок нават баяўся пазіраць туды, пад паркан, дзе бялеўся апалы жывот падлетка, да якога цяпер, здаецца, ні ў каго з іх не было ніякае справы. Забілі і кінулі. Але за што? Вядома, нямко, няцяжка забіць: глухі, вокрыку вартавога не чуе, сам сказаць нічога не можа. Але за што забіваць? Што ён зрабіў ім благога?

Ён думаў, што немцы забяруць хлопца з сабой — калі ж забілі, дык, мусіць, мелі ў тым нейкую мэту, не дзеля гульні ж тое. Аднак немцы ладкавалі сваё варахоб'е, да забітага ніхто з іх і не падыходзіў нават. Адзін толькі пажылы таўставаты немец у шынялі, з ранцам за плячыма і вінтоўкай на рамяні адышоўся крыху ад кухні і здалёку так угледзеўся — сумна ўгледзеўся — і, здалося Петраку, уздыхнуўшы, пайшоў да машыны пад ліпы. Карла, не зважаючы на зборы, рабіў сваю

паўсядзённую справу: шураваў у топцы, падкладваў туды дровы, у катле нешта закіпала, і сырая пара густа шыбавала адтуль цераз тын па ветры. За гэтай парай Пятрок не адразу згледзеў фурманку, якая ціха неяк пад’ехала да варотцаў і стала ля машыны. З фурманкі саскочыла знаёмая даўгалыгая постаць Гужа ў рудой скуранцы, з караткаватаю вінтоўкай у руках.

Якраз у той час з сенцаў выйшаў афіцэр у сваім чорным цыратавым плашчы, спыніўся каля прыступкаў, азіраючы падворак, і Гуж умомант падляцеў да яго, няўклюдна выцягнуўся, як па камандзе «смірна». «От зараз дасць!» — зласліва падумаў Пятрок, успомніўшы яго ўчарашнюю сутычку з фельдфебелем, але, падобна было, сёння штосьці змянілася ў іх узаемаадносінах. Афіцэр круціў сюды-туды галавой, з акенца Петраку не было відаць ягоных вачэй, заслоненых шырокім казырком-капытам, але выраз ягонага твару, здаецца, быў дабрадушна-спакойны. Гуж нешта тлумачыў, а той, скупа якаючы, слухаў, а пасля падышоў бліжэй і падняў руку. Пятрок зноў адчуў кароценькую радасць: «Урэжа!» Ды не, не ўрэзаў — некалькі разоў з добрасцю паляпаў па плячы паліцая — гут, гут! Акурат як і ўчора яго за дбайна абсталяваны афіцэрскі клазет, які, відаць па ўсім, болей ім не спатрэбіцца. «Значыцца, чымсь дагадзіў паліцай, чымсь выслужыўся», — падумаў Пятрок, і ягоны ўзнёслы настрой пачаў хутка змрачнець — прыезд Гужа не абяцаў дабра. Асабліва яшчэ калі яго пахваліў афіцэр. Чакай цяпер новага ліха!

Немцы тым часам рухава выбіраліся, ужо ўсё пагрузілі ў машыну, павыносілі з хаты белыя складныя ложкі і пачалі чапляць за крук машыны грувасткую Карлаву кухню на гумовых колах. Чалавек пяць іх, тужачыся, кацілі яе да варотцаў, разварочвалі, а з топкі сыпаўся жар, і скрозь патыхала дымам, вецер круціў на падворку космы стылае пары. Гуж памагаў там, а Пятрок стаяў ля акна і думаў: «Ірві кішкі, каці, а я не пайду, і не выйду, калі не выганяць, вочы б мае не бачылі вас, злыдняў. Пастралялі курэй, забілі карову, застрэлілі хлопчыка — за што? Хіба гэта па-людску? Калі не людзей, дык пабаяліся б Бога, Бог жа ўсё бачыць. Мусіць, ён ім яшчэ спомніць іхнія зладзействы на чужой зямлі».

Урэшце ўсё было скончана, усе там пазалазілі пад брызент на машыну, фельдфебель трушком апошні раз абабег падворак і таксама палез у кабіну. Пра гаспадароў, дзякаваць Богу,

яны не ўспомнілі, не развіталіся, значыць, не мелі патрэбы. Гаспадары тым болей. Цяжка валюхаючы па калдобінах, вялізная машына, з кухняй, пасунулася да гасцінца. Пятрок ужо хацеў быў перахрысціцца з палёгкай, як у той час у варотцы з-пад ліпы з гарода, нязручна выварочваючы перадок, увапхнуўся рыжы конік з фурманкай, у якой тузаў лейцамі паліцай Каландзёнак. Гуж, адразу набыўшы звераватую рашучасць у рухах, ужо па-гаспадарску паказваў, куды трэба заехаць і дзе стаць на падворку. Пятрок ад прыкрасці злосна харкнуў у кут.

— Маць тваю... Не паспелі адны, ужо другія...

Але тут ужо рабіць не было чаго, Пятрок адчуваў: ужо тут не адседзішся ў істопцы — трэба выходзіць на падворак.

— Ну?! — упёр вочы Гуж недзе ля яго ног, як толькі Пятрок ступіў цераз парог. — З бандытамі знюхаўся?

— Я? — няўцямна прамовіў Пятрок.

— Ты. А то чаму ж нямецкая каманда цэлую ноч аблаву рабіла?

— Аблаву? А мне адкуль ведаць? Я ў істопцы сядзеў. Яны ж во бачылі.

— Бачылі? — падняў позірк Гуж і торкнуў пальцам пад тын. — А во гэты? Як тут апынуўся?

— Хіба я знаю?

— Не знаеш? — Гуж пераступіў з нагі на нагу, перахапіў у другую руку вінтоўку. — Ану пач бабу!

— Сцепаніда! — паклікаў Пятрок і саступіў убок з камянёў.

Сцепаніда неўзабаве выйшла, тужэй зацягнула хустку пад барадой і спынілася ў дзвярах, зябка хутаючыся ў ватоўку.

— З гэтым во кароў пасціла? — кіўнуў Гуж у бок тыну.

— Ну пасціла, —ціха сказала Сцепаніда, засоўваючы рукі ў рукавы ватоўкі.

— Хто яшчэ прыходзіў? Ну, да яго на пашу?

— А ніхто не прыходзіў, — сцішана адказвала Сцепаніда.

— Чаму ж тады гэты нямко пад кулю падлез?

— А я знаю, чаму?

— Ён не знае, гэта не знае! — узарваўся Гуж і спрытна перахапіў з рукі ў руку вінтоўку, пагрозна патрос ёю ў паветры. — Вы мне дурняў не корчыце. Я знаю. Наскрозь бачу абаіх. Асабліва цябе, акцявістка. Ужо тая вінтовачка тваіх

рук не мінула, — працінаючы Сцепаніду злым позіркам, гырчэў Гуж.

Сцепаніда, затаіўшы дыханне, засяроджана пазірала кудысь пад ліпы.

— Сказаць усё можна, — уставіў сваё Пятрок. — Але грэх, не знаючы, на каго валіць. Мы тут во ў істопцы сядзелі. Шчытай, пад арыштам. Калі б што...

Фурманка стаяла ў двары, конік, панура апусціўшы галаву, мусіць, спаў, ля воза моўчкі стаяў туга перацягнуты дзягай па шынялі Каландзёнак. Закаціўшы вочы, здавалася, ён цалкам паглыбіўся ў сябе, але варта было Гужу павярнуцца да воза, як паліцай зноў стаў поўны ўвагі.

— Ладна, — сказаў Гуж. — Пасля. Цяпер няма як. Давай таго пацана ў воз, — спакайней сказаў ён Петраку і скіраваў да паркана. Каландзёнак кінуў лейцы на ахапак сена ў возе.

Зацяўшы страх у душы, Пятрок нерашуча падышоў да распластанага цела падлетка ў скарэлай цёмнай кашульцы, галава яго была закінута патыліцай у траву, і на скроні ля вуха прысох камяк гразі ці, можа, крыві; крывавыя пісягі на голым, выпацканым жываце таксама падсохлі ўжо. Падышоўшы, Пятрок аслупянеў, не ведаючы, як узяцца за хлопчыка, тады Каландзёнак ухапіў забітага за голыя парэпаныя лыткі ў караткаватых лапленых штанах і, нібы якую лясіну, безуважна павалок да фурманкі, разграбаючы ім смецце ў доле. Янчкавы рукі нязручна растапырыліся, галава на танклявай шыі трохі заварушылася, як у жывога.

«Божа, Божа! — жахнуўся Пятрок, млосна ідучы следам. — Што дзеецца!..»

— Бяры, што стаў! — гыркнуў здаля Гуж, калі яны спыніліся ля фурманкі. Сам, аднак, не падступіўся да хлопца — круціў з самасаду цыгарку.

Удвух з Каландзёнкам яны паднялі трохі цяжкаватае, ужо апруцянелае Янкава цела, паклалі яго ў фурманку.

Каландзёнак трохі захінуў яго сенам, болей дзеля прыліку, усё роўна было відаць, хто ў возе. Пятрок думаў, што цяпер яны паедуць, і ўжо адышоўся трохі ўбок, каб не замінаць фурманцы, як Гуж выпаліў:

— Ты тожа з намі!

— Куды?

— На работу. А што ж! Пазагаралі, як на курорце, цяпер на работу! Мост дарабляць. А як жа? Вунь местачкоўцы каторы дзень укалваюць, а вы тут запанелі пад бокам у немцаў.

«Каб ты так усё жыццё панеў, смоўж пракляты!» — паныла падумаў Пятрок, ведаючы, аднак, што прыйдзецца ісці. Ужо гэтага не ўпросіш, асабліва пасля таго, што тут здарылася, на гэтай сядзібе. Добра яшчэ, што не заарыштаваў назусім, а толькі выганяе на работу.

Лаючыся ў душы, Пятрок пайшоў за фурманкай, у якую ўжо на хаду ўскочылі паліцаі. Каландзёнак кіраваў канём, а Гуж сядзеў ззаду, ледзь не да зямлі звесіўшы даўгія ногі, і цікаваў за Петраком, каб не ўцёк, мусіць. Але куды было ўцякаць? Пятрок тут пражыў паўжыцця, выгадаваў дзяцей, пазнаў столькі турбот, страху і гора, а можа, трохі і радасці ў маладыя годы, як далі зямлі, агораў сваю гаспадарку. Куды было ўцякаць? Ён быў чалавек ціхі і мусіў рабіць усё, што ні скажуць, у іх была сіла, а што было ў яго? Спрацаваныя рукі, раматус у нагах ды немаладыя гады за плячыма, што ён мог выставіць насуперак ім? Хіба дзе схітрыць трошкі, але і то з немцамі — з гэтымі ж не надта і схітрыш, гэтых не ашукаеш.

Ды і з немцамі тыя хітрыкі абярнуліся ліхам, лепш бы без іх. Лепей папраўдзе ўжо, у адкрытую.

Фурманка абмінула лужыну на завароце з гасцінца і ўз’ехала на лепшую дарогу, а Пятрок пашкандыбаў сабе сцежкаю за канавай. Тут пачынаўся ўжо сасоннік, а за ім будзе паваротка і той мост. Хай ён прападзе, гэты пракляты мост, колькі праз яго напасцяў на іх Яхімоўшчыну. Як было добра, калі ён быў зруйнаваны бомбамі і два месяцы ніхто тут не хадзіў і не ездзіў. А цяпер... Цяпер будзе пекла, гэта пэўна ўжо.

Але да моста яны не даехалі, не даехалі нават да павароткі.

Збоч ад гасцінца ў сосонніку, дзе некалі высялкоўскія мужыкі ды і местачкоўцы капалі на якую патрэбу жвір, цяпер стаяла са тры фурманкі, і некалькі мужыкоў лена кідалі ў іх з ямы. Каландзёнак збочыў да краю дарогі і спыніў каня. Гуж саскочыў з фурманкі. Мужыкі перасталі капаць, нехта адзін, а за ім і астатнія па чарзе нерашуча сцягнулі з галоў шапкі і знерухомелі перад паліцаем.

— Што так марудна? — строга запытаў Гуж. — Колькі вазоў адправілі?

— Шэсць, здаецца, — сказаў лысы мужчына, з тварам, густа зарослым сівым шчаціннем.

Пятрок пазнаў у ім Ігната Дубасея з Заграззя. Некалі, яшчэ да калгасаў, Дубасей вырабляў аўчыны, і Пятрок хадзіў да яго, як надумаў пашыць кажушок, во гэты самы, што быў у яго на

плячах. Цяпер, з няпэўнасцю стоячы на дарозе ля яміны, ён не ведаў, як быць, ці, як усе, зняць шапку, ці стаяць, як стаяў. Але каб залішне не вылучацца ад іншых, таксама ціхенька сцягнуў з галавы суконную кепку.

— Трэба дванаццаць, душу з вас вон! Чуеце?! — раптам пачаў звярэць Гуж. — Трэба шавяліцца, а не гультаяваць, не за Саветамі вам! Перакурваеце, мусіць, зашмат?

— Ды мы...

— Ніякіх перакураў! Дацямна каб засыпаць шашу. Ты! — кіўнуў ён Каландзёнку. — Злазь і сачы. Каб ніхто нікуды! Работаць мне, работаць!!!

Каландзёнак паклаў лейцы на воз і выцягнуў з-пад сена сваю даўгую вінтоўку. На яго месца сеў Гуж. Напаследак ён абвёў ненавісным позіркам яміну і трох прыціхлых мужыкоў у ёй, зглездзеў Петрака на ўзбочыне.

— Ты, Багацька, — у падмогу! І шнэль, шнэль, шнэль! Панятна?

Фурманка з Гужом пакаціла да рэчкі, нехта з мужыкоў прабурчэў штось незадаволена, нехта ўздыхнуў. Пятрок па сыпучым адхоне сышоў у яміну і ўзяў рыдлёўку з надламаным тронкам, што тырчэла збоку ў пяску. Угары над імі стаяла недагружаная фурманка, а ля яе з вінтоўкай пад пахай, як вартавы, слупам застыў Каландзёнак. Ягоныя вочы зноў закаціліся пад павекі, здаецца, у думках ён далёка паляцеў адгэтуль.

Наўрад ці хутчэй, чым дагэтуль, яны пачалі кідаць жвір угору, у фурманку. Кідаць было нязручна, высока, яміны сталі даволі ўжо глыбокія, блізка ад дарогі жвір выбралі і капалі ўсё далей. Пятрок хутка ўгрэўся, стала гарчыць у грудзях, ён запаволіў тэмп, а пасля і зусім прыпыніў працу, абапёрся аб тронак рыдлёўкі. Але толькі ён разы два спакайней уздыхнуў, як на абрыве страпянуўся Каландзёнак.

— Капаць!

— Дык гэта... Змарыўся ж. Аддыхнуць...

— Капаць!!!

— Дык гэта... Сынок...

«Сынок», аднак, ужо ўхапіў вінтоўку і зашчоўкаў затворам, гатовы стрэліць. Пятрок крыху спалохаўся, рукі самі схапіліся за тронак рыдлёўкі, ён кінуў трохі жвіру ў фурманку, і Каландзёнак апусціў вінтоўку прыкладам у дол. «Ну і гад! — падумаў Пятрок. — Чаму яго маці не прыдушыла малога?

Гэты ж горш за Гужа. З тым хоць пасварыцца можна, неяк апраўдацца, а гэты адразу хапаецца за вінтоўку».

Накапаўшы вазы чатыры, Пятрок трудна выпрастаўся — гружаны воз выязджаў на дарогу, здаецца, болей вазоў не было, можна было б трошкі спачыць. Але не паспеў ён узрадавацца, як з-за павароту зноў застукацелі колы, і неўзабаве прыезджы ўжо асаджваў задам каня, зручней падстаўляючы воз. Гэта быў Карніла з Выселак, як заўжды, стрыманы, негаваркі, ладна апрануты ў яшчэ мала ношаную шэрую суконную паддзёўку. Апошнім часам Карніла адпусціў чорную касмылявую бараду і выглядаў дзед дзедам, хоць быў на пяць год маладзейшы за Петрака.

Яны ўжо шмат год не віталіся і не размаўлялі, але цяпер Карніла, згледзеўшы ў яміне Петрака, стрымана кінуў «дзень добры», і Пятрок неяк радасна загаманіў:

— Дзень добры, ага. Тожа выгналі, з канём нават?

— Ды ўжо во чацвёрты дзень рупімся, — сказаў у бараду Карніла, таксама беручы з воза рыдлёўку. — Спяшаюцца, мост трэба.

— Каму трэба, а нам дык згары ён ясным агнём, мост гэты.

Карніла коратка зыркнуў на Петрака адным вокам, скоса паглядзеў на Каландзёнка, які ўжо навастрыў вуха да іхняй размовы, і гучна сказаў, мусіць, каб чуў паліцай:

— Трэба, трэба памагчы нямецкай арміі. А як жа!

Пятрок ніякавата змоўчаў, не ведаючы, як прымаць тыя ягоныя словы. Збоку мяркуючы, дык казаў ён быццам па шчырасці, быццам гэтак і думаў. Але Пятрок думаць так не хацеў, таму і змоўк, ведаў: надта сам у сабе гэты хітры Карніла, з ім не пагамоніш. Што б ён ні казаў, усё меў нешта на мэце сваё, не сказанае. Асабліва такі стаў год дзесяць назад, як выкінулі з калгаса, у які ён толькі ўступіў. Добра яшчэ — не выслалі, і Карніла пачаў рабіць у мястэчку, спярша ў прамарцелі, а пасля гады чатыры дзяжурыў у пажарнай камандзе і, як аказалася, зажыў не горш, чым яны ў калгасе. А можа, і лепей.

Яны капалі без пярэдыху да паўдня і пасля паўдня; фурманкі ўсё гойсалі на мост і з моста, балазе відаць было блізка. Каторыя на конях, дык тыя хоць адпачывалі, як везлі туды ці ўлегцы ехалі адтуль, а бясконныя Пятрок з Дубасеем не ведалі ні хвіліны адпачынку і ўжо думалі, што ўпадуць ад знямогі. Ігнат хоць быў здатней для таго апрануты, у суконны каптан, Пятрок жа ў сваім кажушку даўно ўжо змакрэў,

як шчанюк, ад поту і думаў: не мінуць запалення. Некалі ён ужо хварэў на запаленне лёгкіх — застудзіўся на лесанарыхтоўках, як вазілі лес з пушчы і ў яго неяк зламаліся сані з бярвеннем, ну, прыйшлося папацець, парваць кішкі. Праз дзён пяць ужо кідаўся ў непрытомнасці між чужых людзей у вёсцы, дзе кватаравалі нарыхтоўшчыкі, думаў, не выжыве. Можа б, і сапраўды не выжыў, калі б не адвезлі ў бальніцу. Але ў бальніцы, як палягчэла, быў нават рады, што захварэў і нікуды не трэба ехаць, ляжы сабе ў цяпле, пры ніштаватых харчах і людскім абыходжанні, не тое што ў лесе, на марозе, аб сухім харчы, з коньмі ды ў слабаватай адзежцы і ў заўжды мокрых чунях. Апошнім часам так было кожнай зімой, давалі рудстойку Данбасу, а ў тую яму дык проста пашэнціла праз хваробу. Праўда, пасля яшчэ доўга вадзіла ў бакі ад слабасці, ды быў маладзейшы, як-колечы акрыяў да вясны. Але тады былі дактары, бальніцы, а цяпер? Захварэеш, хто цябе вылеча? Прыедзе і застрэліць гэты паўвар'ят Каландзёнак, скажа: правініўся перад Германіяй.

Ігнат Дубасей, памалу капаючы, усё нешта бурчэў сам з сабой у яміне побач, Пятрок прыслухаўся: стары крыўдаваў, што прыгналі сюды яго, старога чалавека, а маладзейшыя засталіся дома, іх не чапаюць. Пятрок трохі падзівіўся з тае гаворкі, запытаў, чаму ў іх так.

— Гэ, чаму? Самагоначкай рот залілі гэтаму злыдню. Самагоначка цяпер — сіла.

Што самагонка — сіла, Пятрок ужо ведаў і моўчкі пагадзіўся з суседам. Толькі на ўсё трэба ўмельства, не кожны можа зрабіць і самагонку. Зноў жа — начынне няма.

— Начынне, халера на яго, звялося. Цяпер дзе што возьмеш? Змеявік, напрымер, — знарок з тайным намерам пабедаваў Пятрок і прыціх, чакаючы адказу.

— Хе, начынне! Во ў нас Цімка Рукаты. Бывала, да вайны за грошы чорта табе змайструе. Цяпер не ведаю. Цяпер што яму — грошы!

— Гэта той, што пад вязам хата? Адгэтуль, з краю? Буслянка яшчэ, здаецца...

— Ёсць і буслянка. Хата ладная ў яго. Пад дранкай.

Пятрок яшчэ хацеў удакладніць нешта, але зверху ад дарогі іхнюю размову ўжо ўчуў Каландзёнак і віскнуў танклявым голасам:

— Не разгаварваць! Капаць!

— Капаем, капаем. Каб табе гэту лапату ў горла, — ціха зазначыў Дубасей, а гучней з ліслівасцю загаманіў да паліцая: — Сынок, гэта мне па нуждзе каб... Ну ў лясок, га?

— Капаць!

— Дык па нуждзе ж, сынок...

— У яміне.

— Дык як жа ў яміне? Чалавек жа я. Мне трэба...

Але Каландзёнак, нібы аглухшы, ужо закаціў вочы і, здавалася, нічога не бачыў навакол. Тады стары ўваткнуў у жвір рыдлёўку і, дужа наморшчыўшы свой зашчацінелы твар, палез па абрыву з яміны на той бок, дзе зачынаўся дробненькі малады сасоннік.

— Назад! — віскнуў з дарогі Каландзёнак, але Дубасей ужо вылазіў з-пад абрыву на роўнае, пад сасонкі, і Пятрок, гледзячы на яго знізу, бачыў толькі яго галаву ў чорнай касматай шапцы. Раптам гэтая шапка смешна падскочыла ўгору, і ў тое ж імгненне з другога боку ляснуў гулкі вінтовачны стрэл — шырока расставіўшы даўгія ногі, Каландзёнак перазараджаў вінтоўку.

— Назад!

Стары Дубасей задам поўз па абрыву, сунучы сабой жвір, і Пятрок аж жахнуўся (забіты?). Але не, здаецца, жывы, толькі збялелы як палатно і без шапкі. Споўзшы да нізу, не адразу, неяк аслабела-хістка падняўся на ногі.

— Капаць! Быстра! Шнель! — віскаў з дарогі паліцай, трымаючы аберуч вінтоўку.

Невідушчымі, поўнымі слёз вачыма Дубасей агледзеў яміну, слепа нашарыў збоку сваю рыдлёўку.

— Божа мой, Божа! — ціха шапталі ягоныя вусны. — Што ж гэта? Як жа гэта? Мы ж некалі з ягоным бацькам таварышавалі. Разам у салдатах служылі. Бацька ж чалавек быў...

«Ну і змяя, ну і гадзюка! — думаў Пятрок, знясілена точачы ў жвір рыдлёўку. — Чаму яго малога хвароба не ўзяла?.. Колькі харошых людзей пагінула, а гэты во раскашуе. Як усё несправядліва на божым свеце...»

Каландзёнак не даў ім ні перакурыць, ні перадыхнуць хоць крыху, падводы ішлі і ішлі, і яны капалі і кідалі, капалі і кідалі. Ужо яміна стала глыбокая, у рост чалавека, трэба было добра размахнуцца, каб дакінуць да воза, а рукі ўжо не слухаліся. Дубасей капаў побач, без шапкі, з голай, як калена, нічым не прыкрытай галавой, і ў вачах у старога было поўна слёз, якія

ён крадком выціраў заскарузлай рукой. Зводдаль на дарозе слупам стаяў Каландзёнак, відаць, яму было сцюдзёна, рукі ён хаваў у кішэнях, і вецер ляскатаў поламі шыняля па яго ботах, але паліцай ні на крок не адступаўся ад яміны.

Неяк яны, аднак, дацягнулі да вечара, знемагліся ўшчэнт, а колькі накідалі вазоў, дык перасталі і лічыць. Як пачало змяркацца і пад нагамі ў яміне ўжо трэба было ўгледзецца, куды пхнуць рыдлёўку, на дарозе з'явіўся Гуж. Скуранка ягоная была расшпілена на грудзях, твар распарана-счырванелы, пэўна, ад самагону, не іначай.

— Генуг, гультаі! — адразу аб'явіў Гуж. — На сёння генуг! А заўтра будзе загад. Ці сюды, ці на бульбу. Па дамох разайдзісь!

Ад тае каманды ў Петрака адразу падагнуліся ногі, і ён сеў, дзе стаяў, — на нейкую жвіровую купіну, зусім знясілены без ежы за цэлы дзень. Дубасей пагробся вылезці з ямы і ледзьве выбраўся пад сасонкі, дзе ляжала яго прастрэленая шапка. За ім спакваля вылез з ямы Пятрок.

Ужо было цемнавата, разгарачанае цела хутка астывала, Пятрок здрыгануўся і, як мог найхутчэй, падаўся гасцінцам на хутар. Ён думаў, што калі так пойдзе і далей, дык на жыццё разлічваць залішне, прыйдзецца сканаць, і, можа, чым хутчэй, тым лепей. Але ж, халера на яго, страшна вельмі канаць, хацелася яшчэ пажыць. Хоць бы затым, каб пабачыць, як урэшце дадуць ім харошага штурхеля ў зад, як завыюць яны ад рускага бота. Мабыць, усё ж завыюць. Не можа так быць, каб не завылі, — не павінна так быць. Шкада вось, што можна не дачакацца, і гэта было б дужа несправядліва і крыўдна.

У поцемках ужо ён прыплёўся на цёмную сваю сядзібу, увапхнуўся ў сенцы і схамянуўся ад таго, што забыўся куды ісці: у хату ці ў істопку. Але во дзверы з хаты самі расчыніліся, ён пазнаў у прыцемку жонку і пераступіў парог. Тут ужо ўсё было прыбрана і стала, як і раней, да немцаў, відаць было, палілася ў грубцы, ярка свіціліся шчыліны каля дзверцаў, і было цёпла. Пятрок, як быў у кажушку, апусціўся на лаву насупраць грубкі.

Сцепаніда нешта сказала наконт ежы, але ён ужо не думаў пра ежу. Ягонае цела прагнула толькі аднаго: заваліцца і заснуць тут, у цяпле свае хаты, якая гэтак нечакана сёння вярнулася да яго. Але ён ужо ведаў, што трэба паклапаціцца

аб іншым — трэба падумаць аб заўтрашнім дні, калі хочаш яшчэ пажыць і дачакацца лепшага.

— Ты прынясі мне скрыпку, — сказаў ён жонцы.

— Скрыпку? Навошта? Ці ты граць будзеш?

— Адыграўся ўжо.

Ён не сказаў болей нічога, і яна пайшла з лучынкай у істопку і неўзабаве прынесла ягоную скрыпку і смычок пры ёй. Зноў нічога не сказаўшы, Пятрок выйшаў на двор, па сцежцы перайшоў гарод, пералез цераз плот да рова.

Гэтаю сцяжынкай трэба было абмінуць поле, перайсці цераз узровак — за лугавінай Баранняга Логу пад лесам было Заграззе, дзе ў хаце пад вязам з буслянкай жыў Цімка Рукаты, на ўсе рукі ўмелы чалавек, які мог зрабіць усё, што ты хочаш.

18

Лёс ці выпадак далі перадышку, быццам бы адсунулі ўбок самае страшнае, і Сцепаніда трошкі душэўна выпрасталася. А то былі хвіліны, калі яна развітвалася з жыццём і толькі шкадавала, што была занадта баязлівая, наважылася на дужа нямногае і так мала зрабіла. А і тое, што зрабіла, было не заўсёды ў лад, атрымлівалася цераз пень-калоду, па-дурному. Па-дурному яна асталася без Бабоўкі, праз свой недагляд пагубляла курэй. Ды і Янка таксама, мусіць, прапаў праз яе, — каб была разумнейшая, дык бы неяк давяла хлопцу, што і блізка нельга патыкацца да хутара. Але каб жа тое веданне, што прыходзіць заўжды надта позна, калі яно ўжо без патрэбы.

Як бы там ні было, жыццё покуль доўжылася, трэба было нешта есці і, можа, паклапаціцца пра заўтра, а не толькі пра тое, што было на падворку. Насоўваліся халады, каторы дзень спрэс хмарылася восеньскае неба, дажджыла, а бульба ўсё ляжала ў кучы на канцы гарода. Петраку ўсё не выпадала ўзяцца за яе, і Сцепаніда, развaжыўшы, дастала рыдлёўку. Не дужа складаная гэта справа, хоць і лічылася чыста мужчынскай, — забуртаваць якія два вазы бульбы. Сцепаніда падраўняла кучу, падгрэбла, шчыльней абклала саломай і пачала абкопваць зямлёй.

На сядзібе яе болей нічога не турбавала, спакваля сабралася ў хляўку шэсць курыц, чатырох, пэўна, з'елі немцы. Учора ж, як толькі з падворка, забраўшы Петрака, з'ехалі

паліцаі, яна найперш кінулася ў роў, знайшла ў барсуковай нары свайго згаладнелага парсючка, які так ёй узрадаваўся, што кінуўся ў ногі і забыўся пра голад, як яна пачасала ягоны схуднелы бок. Ён не падаў нават голасу, як яна валакла яго на ўзровак, а затым трушком бег па сцяжыне да хутара і, відаць, з вялікай неахвотай зноў улез у цесны свой застаронак. Там ужо яна яго ўволю накарміла бульбай, не пашкадавала вобмешкі, пасля ён выпіў чыгунок вады і супакоіўся.

Абкапваць было не дужа каб цяжка, хоць, ведама, Пятрок зрабіў бы гэта спрытней. Але Пятрок зранку займаўся справай, дзе яна ўжо была староннняй. Устаўшы яшчэ да світання, ён бразгаў у істопцы самагонным начыннем, пасля некуды знік, паявіўся зноў, узяў вёдры, каромысла, пачаў насіць кудысь брагу. Яна думала, што ён уладкуецца ў істопцы ці хоць бы ў асеці, а ён сышоў некуды далей — у роў ці яшчэ куды, не сказаў нават ёй. Толькі калі ўсё там было настроена, прыйшоў прасіць якія дзве запалкі. Голас яго стаў зусім сіплы, а сам з выгляду зусім стомлены, змардаваны, які ён, здаецца, не быў ніколі. Яна дала яму дзве запалкі і сказала, каб не сядзеў доўга — на дварэ сцюдзёна, мокра, нядоўга застудзіць грудзі, што тады будзе карысці з яго самагонкі.

— А, чорт яго бяры! — махнуў рукой Пятрок. — Усё адно ўжо...

Сцепаніда абкапала адзін бок капца, паляпала рыдлёўкай па зямлі, раўняючы таўставаты яе пласт на саломе. Увесь гэты час, што б яна ні рабіла — ці поркалася дома, ці парадкавала парсючка, — не магла пазбыцца думкі пра Янку. Так яна шкадавала цяпер, што ў той дзень згледзела яго на ўзроўку — хай бы ён дзе пасвіў у параснiках, навошта ён трапіўся ёй так блізка? Але, мусіць, нейкая злая сіла вабіла яго да гэтага хутара, да той небяспекі, якая абярнулася для яго пагібеллю. Сцепаніда не магла пазбыцца горкага адчування свайго дачынення да яго смерці, хоць і разумела: тое, што яна зрабіла з іхняй вінтоўкай, не тычылася болей нікога, нават Петрака, і яна не бачыла тут жаднай сувязі з Янкам. Канешне ж, яна разумела, што прывяло хлопца ў роў, мабыць жа, ён ішоў да яе парсючка, але навошта ён палез так блізка да хутара? Няўжо не адчуваў, чым гэта можа для яго скончыцца? І вось скончылася.

Капец яшчэ не быў уладкаваны, як яна пачула голас з падворка — хтось клікаў яе. Але хто ў такі час мог тут паявіцца,

не трэба было доўга думаць, канешне, гэта зноў былі тыя самыя злыдні. Уся ўнутрана сабраўшыся, гатовая да кепскага, Сцепаніда ўваткнула ў зямлю рыдлёўку і пайшла цераз гарод да дрывотні.

Так яно і было, яна не памылілася. На тым месцы, дзе нядаўна дымела кухня, цяпер стаяла фурманка са знаёмым панурым конікам у аглоблях, а Гуж з Каландзёнкам ужо заглядвалі ў вокны і гукалі яе. Ля фурманкі з ніякавата-старонні́м выразам на зграбна-чарнявым твары стаяў з вінтоўкай на плячы Антось Недасека.

— А, во яна! — убачыўшы яе, сказаў Гуж. — Дзе Пятрок?

— А тут хіба нет? Тады не ведаю, — схлусіла яна, адразу сцяміўшы, што гэты прыезд, мабыць, не па яе — па гаспадара хутара.

— Адчыняй дзверы! — загадаў Гуж. Але, апярэдзіўшы яе, сам скінуў клямку з прабоя і размашыста бразнуў дзвярыма.

Пакуль яна ішла за імі, Гуж паспеў зазірнуць у істопку, агледзець мітуслівым позіркам сенцы, нават прынюхаўся да чагось сваім мясістым шырокім носам і бразнуў дзвярыма, заходзячы ў хату. Там ён таксама спярша зірнуў у кожнае з вокан.

— Дзе Пятрок?

— Я ж не ведаю, сказала. Я вунь бульбу абкопваю.

— Ах, ты не ведаеш? Дык мы ведаем: самагон гоніць! Дзе гоніць? — раптам запытаў Гуж, паварочваючыся да яе і адразу захінуўшы ад яе ўсё святло з вокан. Яна не стала ні пераконваць яго, ні бажыцца, што не ведае, дзе Пятрок, толькі ціха вымавіла:

— Мне не сказаў.

Гуж штось памеркаваў і злосна скрыгатнуў шырокімі пашчэнкамі.

— Ну, падла, ты ў мяне дажджэшся! Урэшце я цябе павешу. З вялікім маім задавальненнем. З наслажджэннем!!!

— Гэта за што? — не паднімаючы позірку, спакойна пацікавілася яна, аднак не саступаючы з месца перад ім ля парога. У яе таксама міжвольна сашчапіліся пашчэнкі, толькі яна не паказала таго і глядзела долу. Чыстую пасля немцаў падлогу яны агідна забрудзілі гразкімі ботамі. Але хай, ёй не было шкада падлогі, ёй нават закарцела пасварыцца з гэтым увішным служкам новага парадку.

— Сама знаеш — за што! Вы! — раўнуў ён да сваіх памагатых. — Ану пашуруйце сядзібу: у таку, у асеці. Недзе ён тут гоніць.

Каландзёнак з Недасекам пасунуліся ў дзверы, а Гуж сеў ля стала, не адрываючы ад Сцепаніды гняўліва-пагрознага позірку.

— Ты ж знаеш, што цябе трэба вешаць як бальшавіцкую акцявістку. А ты яшчэ хвост паднімаеш! На што ж ты расчытваеш?

— А ні на што не расчытваю. Я цёмная жэншчына.

— Гэта ты цёмная жэншчына? А хто калгасы арганізоўваў? Хто баб у хату-чытальню збіраў? Цёмная жэншчына? А раскулачванне?

— Раскулачванне ты не забудзеш, канешне,— сказала яна і прысланілася плячом да чалесніка. Яна ўжо неяк справілася з сабой і ва ўпор пазірала на паліцая.

— Не, не забуду! Па гроб не забуду. І папомню яшчэ некаторым. Шкада, Лявона няма. Я б яму папомніў! Як ён з бацькі боты здзіраў!

— Лепш бы на тое цяпер забыцца, — памаўчаўшы, сказала Сцепаніда. — І для цябе тожа лепш. Спакайней было б.

— Не-а, гэта ўжо хрэна! Я не забудуся. Я не забудуся, з чыёй ласкі на чужой зямлі гора мыкаў. Я цяпер чаго сюды прыбіўся? — заходзячыся напятай, ледзьве стрыманай лютасцю, гаварыў Гуж. — Думаеш, немцам служыць? Чхаў я на немцаў. Мне трэба расчытацца з некаторымі. З калхознічкамі, маць вашу за нагу! Што тут раскашавалі, як мой бацька на Салаўках канаў.

— Не дужа тут раскашавалі. Работалі.

— За палачкі работалі? Так вам і нада! Нашто было лезці ў калгас? Ты ж за яго агіціравала!

— Лацно было агіціраваць за тое, чаго не знаеш.

— Дык якога жа шыша, не знаўшы, не ведаўшы, палезлі? Як у прорву. Цяпер нажраліся палачак, паразумнелі?!

— Разумныя і тады былі. Але як было жыць? Нагараваліся ў малазямеллі. Што можна было на дзвюх дзесяцінах з дзецьмі?

— А на шасцідзесяці сотках лепш стала? Дзвюх дзесяцін ім мала было? Во цяпер немцы дадуць зямлі, колькі хочаш. Да трыццаці га. Каторыя, канешне, заслужаць. Перад германскай уласцю заслужаць.

— Табе пэўна ўжо дадуць. Заслужыў.

— Мне? А начарта яна мне? Я яе з дзецкіх лет зненавідзеў. Пляваў я на зямлю.

— Завошта ж тады стараешся?

— Ах, якая разумная, гляджу! Усё табе трэба знаць! А хоць бы за тое, што ўладу далі. Дзеля ўлады! Я ўсю жысць быў падначалены, малы чалавечак. Усяго бойся. А цяпер у мяне ўласць! Поўная. Я ж цяпер для вас вышэй, чым сельсавет. Вышэй, чым райкам. Чым саўнаркам нават. Я ж магу любога, каго хочаш, стрэльнуць. Мне ўсё давяраюць. А магу і наградзіць. Вось табе што нада? Карова нада, немцы схарчылі? Будзе карова! Заўтра прывяду. Парсюка? Таксама. Каня няма? Заўтра з Выселак двух прыганю. Адбяру і прыганю. А ты думала?

— Нам адабраных не трэба.

— А я табе і не дам. Ты ж враг! Враг Германіі. Думаеш, я не знаю, чыіх рук не мінула тая вінтовачка? Дарма дуракі-немцы на нямка спісалі! Я пагадзіўся, думаю: хай! А сам імею ў віду. Я яшчэ тут пашурую. У адным месцы. Знаеш, у якім!

Ён амаль крычаў гэта, утаропіўшыся ў яе бязлітасным пільным позіркам, і яна сумелася, першы раз за гэту сустрэчу, думаючы: каб цябе разарвала, халуй нямецкі! Але сапраўды было ніякавата на душы, здавалася, ён ведаў нешта, нібы сам падгледзеў ці, можа, даказаў хто. Хоць розумам яна пераконвала сябе, што нічога пэўнага ён ведаць не мог. Палохаў? Выпрабоўваў? Можа быць, хоць і ад таго ўсё роўна было пагана.

— А во Пятрок разумнейшы за цябе, — памаўчаўшы і трохі паспакайнеўшы, сказаў Гуж і ўскочыў ад стала. — За самагон ўзяўся. Правільна! Толькі хай не здумае ад мяне таіцца. Галаву адкручу і скажу, што безгаловым радзіўся. Выменяў змеявік на скрыпку і думае ўтаіць. Не ўдасца: у мяне агентура!

У сенцах затупалі крокі, расчыніліся дзверы, цераз парог пералезлі даўгалыгі Каландзёнак і меншы, плячысты Недасека.

— Ну што?

— Нідзе нетуці! — віскнуў Каландзёнак.

Недасека спярша зрабіў вялікую заклапочанасць на твары і, памяркоўна паводзячы рукой, пачаў тлумачыць:

— Абшарылі гэта, счытай, скрозь. І ў пуні, і ў асеці, і ў хляўках ва ўсіх. Няма. І дзе ён падзеўся, хто ведае.

— Хранова шарылі! — абвясціў Гуж. — Ну ладна. Няма калі, а то б...

Ён яшчэ раз таропка зазірнуў у кожнае акно і перахапіў вінтоўку.

— Недасека, пільнуй! Садзіся і дажыдайся! Прыйдзе, не дзе дзенецца. Яе, — кіўнуў ён на Сцепаніду, — нікуды за парог. Прыйдзе — гарэлку ка мне. Паняў?

— Паняў, ну, — не дужа рашуча запэўніў паліцай.

— Ось так! Паехалі, Каландзёнак! А ты запомні, што я сказаў, — замест развітання кінуў ён Сцепанідзе. — Пакеда не позна.

Яна стала ля печы і глядзела ў акно, як яны там разварочваліся з фурманкай, як садзіліся ўжо на хаду і выязджалі з варотцаў. Толькі пасля яна адарвалася ад акна і зірнула на сутулавата-пакорную постаць Недасекі, што цярпліва стаяў ля парога.

— Сядай, што ж стаяць.

— Ага. Гэта... сяду. А то ногі ж, яны свае, не казённыя.

Недасека сціпла апусціўся на ўслон, уздыхнуў, аберуч абапёрся на рулю вінтоўкі з расшчэпленым прыкладам.

— Па гарэлку ехалі або як? — запыталася Сцепаніда.

Недасека зрабіў выраз шчырага недаўмення на ўвогуле сімпатычным, з роўнымі броўкамі твары.

— А хто ж яго ведае! Ён усё. Ці па гарэлку, ці яшчэ за чым. Нам не кажаць.

— Няўжо так ніколі і не кажаць?

— Не-е, — лыпнуў круглымі вачмі Недасека. — Праўда, калі жыдоў выкурвалі, дык казаў. Інструктаж даваў падрабязны: і каб патроны былі, і дзе стаяць кожнаму. Каму ў ацапленне, значыць, а каму іх варахоб'е парадкаваць.

— А іх жа куды?

— А іх пагналі. Зондаркаманда пагнала ў кар'ер. А там...

— Усіх? — халаднеючы нутром, насцярожылася Сцепаніда.

— Счытай што ўсіх. Мала засталося.

«Ну во, гэтыя ўжо дачакаліся!» — амаль з жахам падумала Сцепаніда. Неяк у канцы лета была ў мястэчку, тады там адвялі тры вуліцы каля рэчкі, сагналі туды ўсіх яўрэяў, некаторых з сваіх жа начальнікамі ці паліцаямі паставілі — таксама во з павязкамі. Людзі казалі: ой, ненадоўга гэта, усё роўна паб'юць, трэба ўцякаць. Але дзіва: ні адзін не ўцёк, усе

сядзелі і чакалі, а сярод іх жа былі і маладзейшыя, і разумныя былі некаторыя. Але гэтыя разумныя так меркавалі, што не павінны пабіць, што і немцы людзі, ды і ў Бога вераць, во і на спражках у іх напісана. Дужа прыгожа даводзілі тыя разумнейшыя, і іх слухалі. Ведама, калі чалавек чаго хоча, дык заўжды знойдзе на тое апраўданне, пераканае спярша сябе, а пасля і астатніх. Ці наадварот. Ну і даседзеліся во да кар'ера.

— Колькі людзей нізавошта пагінула, а якую халеру, дык ніхто і не чапае. І кулі на яго не знойдзецца. Я пра твайго сябрука, пра Каландзёнка. І тады ён быў злыдзень, і цяпер гэткі самы, — сказала Сцепаніда.

— Злыдзень, ага, — проста пацвердзіў Недасека. — Спярша Гуж хацеў яго шлёпнуць. У хату ноччу прыйшоў, мяне пільнаваць паставіў. А пагаварылі — і палюбіліся. Назаўтра ўжо і вінтоўку яму ўручыў. Во як робіцца.

— Хутка робіцца. Нават і чырвонаармейскае формы не знасіў. Як быў у сваіх...

— Я так думаю: а куды ж яму болей? Яго ж тут усе ненавідзелі яшчэ з той пары. Куды дзецца? Толькі ў паліцыю.

— Толькі ў паліцыю, праўда, — пагадзілася Сцепаніда. — Прамая дарожка. А цябе якая прывяла дарожка? Ці, можа, спадабалася? — асмялеўшы, запыталася Сцепаніда.

— Дзе там! — прамадушна прызнаўся Недасека. — Не дай Бог нікому.

Ён гаротна ўздыхнуў і тоўстым прыкладам ціхенька пасоўгаў па дошцы падлогі.

— Думала, даспадобы, як гэтак шчыруеце?

— Пашчыруеш! Учора на мосце немец гэны адзін на яго накрычаў, ну, на Гужа, дык той мяне гразіўся застрэліць. Мужыка аднаго з Заграззя не ўпільнаваў. Уцёк на падводзе.

— Яшчэ застрэліць, — сказала яна. — Калі ў вас такія парадкі. Ці нашыя застрэляць.

— Праўда, — ціха пагадзіўся Недасека. — Ну, а што зробіш? Прапашчы я, — прызнаўся ён і папрасіў Сцепаніду: — Можа б, паесці што далі, цётка? Не еўшы сягоння.

Сцепаніда падзівілася трохі: паліцай, а просіць — такое цяпер пачуеш не часта. Гуж, канешне, прасіць бы не стаў, а гэты сапраўды, як ягня. У печы ў яе стаяў чыгунок з капустай, якую яна трымала для Петрака, але цяпер, падумаўшы, зняла засланку і з кутка ўзяла вілы.

— Чаго ж не паснедаў уранку?

— Ды не было як. Уночы Гуж на заданне падняў. Бомбу шукалі. Ды чорта цяпер яе знойдзеш.

— Якую бомбу?

— Ды во пасля бамбёжкі ля моста ляжала. Неўзарваная. Нехта, аднак, падабраў. Відаць, спатрэбілася.

— Ну падабраў, дык і што?

— Ага! А калі пад мост падкладзе? Ды вухне? Тады каму атвячай? Паліцыі, канешне. Бо не дагледзелі.

Яна наліла міску капусты, паклала кавалак лапуна на стол. Недасека прысланіў да печы вінтоўку, якая яўна замінала яму, і з асалодай узяўся сёрбаць заскварануюю капусту. Спакваля ўгрэўся, расшпіліў на грудзях шэрую суконную паддзёўку, а кепкі не зняў; твар яго неяк па-хатняму ажывеў і праясніўся. Крадком Сцепаніда пазірала на яго і думала, як ён падобны ўсё ж на свайго старэйшага брата Новіка, асабліва цяпер, калі дагнаў яго па гадах. Праўда, той быў худзейшы, нібы ўсохлы і кастлявы, але рысы твару такія ж выразныя, цёмныя вочы і цёмны шчаціністы падбародак, не зважаючы, галіўся ці не. Дзе ён цяпер, той Недасека-Новік?

— Успомніла брата твайго, Новіка, — сказала Сцепаніда, сустрэўшы запытальны позірк Недасекі.

— Новік? Што Новік! Яму дык цяпер добра, а мне? Гэта ж праз яго я во... З гэтым цягаюся, — варухнуў ён локцем з павязкай на рукаве. — Праз яго ўсё.

— Хто б цябе прымусіў?

— Гуж, хто? Што ж мне было рабіць? Лепей у зямлю класціся? З такім братам... Некалі дык быў пачот і павага, а цяпер? Цяпер адзін паратунак — паліцыя.

— Баюся, не паратуешся.

— Можа, і не паратуюся. Але як знаць? Каб чалавек сваю судзьбу знаў, дык жа не знае.

— Можа, і лепш, што не знае, — сказала Сцепаніда. — А то б натварылі такога...

Яна стаяла ля печы, штораз пазіраючы ў вокны, ці не ідзе Пятрок, і ёй стала шкада гэтага недарэку-паліцая. Сапраўды, улез у такую справу, з якой наўрад ці ёсць выйсце.

— А ты ўжо і вешаў каго? — запыталася яна.

— Не-е. Яшчэ не. Не дай Бог вешаць, страшна!

— А калі скажуць?

— Скажуць, дык што ж. Мусіш.

— І сваіх таксама?

— Чаму сваіх? Не-а. Каторыя камуністы. Ну там бандыты.

— А што б табе сказаў твой брат? Калі б прыйшоў цяпер? Ты думаў пра тое?

— Думаў. Добрага не сказаў бы.

— Ну, а каб яго злавілі і табе загадалі павесіць? Павесіў бы брата?

— Вот ты дзіўная, цётка! Дысцыпліны не ведаеш. Загадалі б — павесіў бы. А то б самога павесілі.

— Дык у цябе ж дзеці ёсць.

— Вот то-та і яно, што ёсць. Каб не было дзяцей, я б — ого! Я б збег куды ў лес. А то шасцёра дзяцей — далёка не сыдзеш.

— Ну во, ты для дзяцей так стараешся. А калі яны вырастуць, паразумнеюць, думаеш, яны падзякуюць табе?

— Хто знае? Як каторы, — трохі нават сумеўся Недасека і паклаў лыжку.

— Яны ж будуць цябе ўсё жыццё праклінаць.

— Як праклінаць? — недаўменна зірнуў на яе Недасека. — Я ж для іх гэта... Праз іх пакутую, раблю ўсё гэта.

— Антоська! — нечакана для сябе сказала яна амаль спагадна, кранутая гэтай яго няўцямнасцю. — Лепей бы ты памёр для іх.

— Я?

— Ты, Антоська! Ты ж губіш усё жыццё іхняе. І сябе таксама.

— Не, я не сагласный, — надзьмуўся Недасека. — Сябе, можа, і гублю, а іх не-а. Што б яны жэрлі цяпер, каб не я? Я ім мукі два мяхі прыцягнуў. Ботаў тры пары. Пальтэчкі. Я ж не тое што некаторыя — абы напіцца. Я пра іх дбаю. Усё-такі шасцёра, не жартачкі. Старэйшаму толькі пятнаццаты... Лацвей табе, цётка, казаць, а мне... Дый брат яшчэ. Каб не брат хоць.

Сцепаніда болей не казала нічога, толькі слухала яго блытанае апраўданне і думала, які ж ён дурны, а можа, і подлы. Яе спагадлівасць да яго хутка выцяснялася злосцю, і яна думала, што такіх не навучыш, нічога ім не зразумець, бо далей свайго карыта ім не дадзена бачыць. Такія ад прыроды сляпыя да маленькага пробліску чалавечнасці, дбаюць толькі аб сабе і апраўдваюцца часам дзецьмі. Божа, што будзе яшчэ з тых іхніх дзяцей, што яны пярэймуць ад гэтых во таткаў? Лепш бы яго як найхутчэй забілі дзе, менш было б шкоды і

болей карысці сваім жа. Ды і ягоным дзецям таксама, якіх ён так рупна забяспечыў мукой і абуткам...

19

Пятрок гнаў гарэлку.

Ён выбраў для таго самы прыдатны закутак, які можна было знайсці ў рове, — разложысты мелкаваты раўчук за барсуковай нарой, густа зарослы маладым ельнікам, у якім было зацішна і схоўна. На невялічкай прагаліне між ялін уладкаваў няхітрае самагоннае начынне: казан з брагай, дзежку, налітую сцюдзёнай, з ручая, вадой; доўга корпаўся, покуль прыладзіў да месца медны змеявік-трубку, і ўрэшце расклаў цяпельца. Ад ашчадна падпаленай адною запалкай бяросты лёгка загарэлася сухая растопка, а з ёй — і бярозавыя паленцы, бярэмак якіх ён не паленаваўся прынесці з хутара; куслівыя языкі полымя пачалі порстка лізаць стары закапцелы казан. Ад сухіх дроў дыму было не шмат, і Пятрок упершыню за ранак задаволена паглядзеў угору, у хмарнае ветраное неба над хваёвым вяршаллем, думаючы, што здалёку яго не павінен хто-небудзь заўважыць, хіба налезе знянацку. Дровы хутка разгараліся, Пятрок, стоячы на каленях перад казаном, рупна пасоўваў галавешкі, каб больш грэла знізу. Ён і сам грэўся, бо хоць і было зацішна, аднак ад зямлі паднімалася лесавая сырасць, ад якой стылі плечы і рукі. Ля агню ж было добра. Зноў жа трэба было сачыць, каб у час збавіць агонь, інакш прыгарыць брага і спляжыць увесь выган. Пятрок, канешне, не першы раз у жыцці браўся за такое дзела, меў ужо нейкі вопыт. Але вопыт гэты прыпадаў на даўнія ўжо, дакалгасныя гады. Апошнім жа часам перад вайной самагон гналі рэдка, хіба з нейкай пільнай нагоды, бо не было з чаго гнаць ды і піць не дужа было ахвотнікаў. Але, мусіць, казан грэўся марудна на вогнішчы ў рове — не тое што ў асеці або істопцы, дзе, ведама ж, было зручней. Але там хіба цяпер выганіш?

Каторы ўжо раз за апошнія тыдні Пятрок пабедаваў ад думкі, што ў такім няздатным месцы паставілі некалі хутар — так блізка ад дарогі. У мірны час дык яно, можа, і нічога, можа, і прывабней нават паблізу ад гасцінца, ад вёскі і мястэчка. Праўда, апошнія перад вайной гады той прывабнасці надышоў быў канец: ссялялі хутары, ды так настойліва,

што ў Выселках адразу падаўжэла вуліца з хутарскіх будынін, у мінулае лета якраз надышла чарга яго Яхімоўшчыне. Ужо разабралі і звезлі гумно, пасля сенакосу меліся разварушыць увесь хутар. Але вось вайна не дала, і цяпер можна толькі зайздросціць тым, хто апынуўся ў вясковым гурце, а не застаўся, як ён, наводшыбе. Хаця і цяпер ёсць хутары і вёскі, дзе па-ранейшаму, як у Бога за пазухай. Вунь тое ж Заграззе, хоць і не дужа далёка ад мястэчка, але стулілася за балотам і жыве ў спакоі, нават Гуж паяўляецца там, можа, адзін раз у тыдзень, а немцаў там дык і наогул яшчэ не бачылі. А ў яго Яхімоўшчыне?.. Немцы пастаялі некалькі дзён, а спляжылі, лічы, усю гаспадарку. Але чорт яе бяры, гаспадарку, горш во — забілі нямка, гэтага бяскрыўднага пастуха-хлопчыка, ды і ён з жонкай ледзьве выбавіліся з таго наслання. Дык то немцы, ведама, фашысты, а як тут жыць з гэтым Гужом, які ведае цябе здаўна і бачыць наскрозь ды яшчэ мае нейкую злосць за мінулае? Толькі дарма ён чапляецца, Сцепаніда тут ні пры чым, Сцепаніда якраз была супраць таго раскулачвання. Але во чапляецца, ездзіць, выганяе на працу. І, мабыць, яшчэ будзе чапляцца, пакуль не заганяе дашчэнту гэты помслівы і грызлівы чалавек, як прывязаны на ланцуг сабака. Цяпер чорт яго бяры, не шкада таго хлеба і працы — можа, самагонкай пашэнціць заліць яго сквапныя вочы.

«Божа, Божа, — думаў Пятрок, пазіраючы на мігатлівую мітусню агняных языкоў у вогнішчы, — што робіцца на свеце! Якая страшная вайна, як няўдала пачалася, што будзе далей? Страшны час!» Хоць і да вайны хапала litрознага ў вёсцы... Пятрок слаба разбіраўся ва ўсёй той складанай механіцы барацьбы ў маштабах краіны, але што датычыцца сваёй вёскі, дык тут ён ведаў болей за якіх упаўнаважаных. Упаўнаважаным, бывала, падабалася, як выступаў на сходах Антось Недасека, думалі, мабыць: які свядомы! А Пятрок ведаў, што гэта ён выступае так згодна таму, што днямі падаў заяву аб дапамозе як мнагадзетнаму і малазямельнаму. Во і стараецца! А калі Барыс Багацька прагаласаваў за калгас, дык зусім не таму, што быў яму рады, а каб дапячы Гужову, з якім даўно быў у сварцы і які, бы чорт крыжа, баяўся калгаса. Ды і ягоная Сцепаніда, хоць і агітавала за калгас па ўсёй вёсцы, калі разабрацца, болей старалася за сябе, ну, і за яго, вядома, бо ўжо стала відаць, што з дзвюх дзесяцін пражыць неяк, а здароўе пакладзеш, гэта пэўна. Але во як яно абярнулася: Ба-

рыс уцёк у Ленінград да родзічаў, Гужа раскулачылі і выслалі, а цяпер за тое трэба аддувацца, і першаму — Пятру Багацьку, жонка якога некалі трапіла ў той камбед і на сходзе пасядзела ў прэзідыуме. Каб цяпер тыя яе пасядзелкі не вылезлі бокам.

Пятрок далей пад казан падсунуў дзве галавешкі і падклаў збоч бярозавае паленца, падумаў, што, мабыць, ужо хутка закапае. Медная літровая конаўка даўно ўжо чакала пад кончыкам змеевіка, але там было яшчэ суха, яшчэ ніводная кропля не выцекла з трубкі. Пятрок зноў зірнуў угору: у ельніку на ўзроўку мітусліва-трывожна круцілася сарока, нешта настойліва сакатала, і Пятрок падумаў: ці не крадзецца хто да яго з рова? А можа, сарока сакоча на яго самога? Усё ж для пэўнасці, каб заспакоіць сябе, ён устаў і ўгледзеўся праз хмызняк — быццам паблізу нічога не было відаць. Але сарока не аціхала, падлятала то бліжэй, то абыходзіла гушчар старанной і ўсё настойлівей трашчала няўрымслівую сваю трывогу. Тады ён, прыгнуўшыся, прадраўся праз ельнік і ўбачыў ля ручая Рудзьку, сабачку пастушка Янкі. Мабыць, асірацеўшы без гаспадара, сабака круціўся па полі і забрыў на вогнішча, можа, згаладнеў і цяпер, убачыўшы Петрака, жвава заматляў хвастом, не зводзячы радасна-ажывелага позірку з чалавека.

— Ну што? Чаго сядзіш? Ідзі сюды, — сцішана паклікаў ён Рудзьку, і сабачка сапраўды ахвотна прашмыгнуў пад елачкамі да вогнішча. Аднак блізка не падыходзіў, сеў зводдаль і, папераменна пазіраючы то на гаспадара, то на вогнішча, чагосьці чакаў.

— Што, есці хочаш? Дык няма нічога. Выпіць будзе, а паесці няма, — як да чалавека, з роўнаю добрасцю гаварыў да яго Пятрок.

Шкада, у кішэнях у яго не было нічога, што можна было б з’есці. Аднак, прыбіўшыся да чалавека, Рудзька, здаецца, гатовы быў тым задаволіцца, мусіць, ён набыўся ўжо ў адзіноце і цяпер ля вогнішча пры чалавеку адчуў сябе ў спакоі, лёг і паклаў галаву на лапы, стомлена пазіраючы на агонь.

Але во, здаецца, набліжаўся той самы прыемны момант, калі першыя кроплі з трубачкі, урачыста бумкнуўшы ў дне, упалі ў медную конаўку. Пятрок зараз жа выграб з-пад казана недагарэлыя галавешкі, цяпер будзе даволі вуголля ды слабага агню, полымя ўжо не трэба. Тым часам кроплі з трубкі пасыпаліся часцей, нават быццам зацурчала тоненькім, як нітачка, струменьчыкам, сярод дымнага смуроду ў раўку

прыемна запахла спіртным. Тут трэба было асабліва ашчадна абыходзіцца з агнём, трымаць жар у адной меры: каб не астыў казан, але і каб не перагрэўся, не падгарэла гушча, — што і казаць, умельства трэба было не меней, чым пры ігры на скрыпцы. Пятрок аж захваляваўся і то прысоўваў галавешкі бліжэй да казана, то адсоўваў іх далей; ад дыму ў яго слязіліся вочы, і ён выціраў іх скарэлымі пальцамі і ўсё зазіраў у конаўку: а ці многа? Урэшце там набралася да палавіны, ён узяў конаўку і ашчадна пераліў чысцюткую, як сляза, гарэлку ў старую, ад ліманаду, бутэльку. То быў пяршак, самая моцная на градус порцыя з усёй выганкі. Яму стала шкада аддаваць яе ў ненажэрнае горла Гужа, можа б, сам калі выпіў пры якой нагодзе ці ашчадзіў для добрага чалавека. Так трохі разважыўшы, Пятрок закаркаваў скамечанай паперынай бутэльку і адышоўся да шыпшынавага куста на ўскрайку прагаліны. Там ён выграб у зямлі добрую ямку і, уладкаваўшы туды бутэльку, старанна загарнуў яе прэлым лісцем. Хай ляжыць на час лепшы.

Рудзька не адрываў позірку ад яго корпання ля самагоннага начыння і ўмольна-цікаўнымі вачмі суправаджаў кожны яго рух з конаўкаю: цярпліва чакаў, мабыць, што гаспадар урэшце чымсь пачастуе яго. Але пачаставаць яго ў Петрака не было чым, ён і сам выгаладаўся, пакуль перагнаў казан брагі — выйшла яшчэ тры бутэлькі, далей ужо сачылася рудая юшка, на сподзе, мабыць, засталася адна гушча. Трэба было канчаць, і Пятрок выграб з-пад казана ўвесь жар, затаптаў яго апоркамі ў доле, казан адвалок з прагаліны ўсё ў той жа шыпшынавы куст, дзе старанна закапаў лісцем і зверху кінуў яшчэ некалькі хваёвых лапак. Змеявік, як самую каштоўную дэталь, трэба было ўзяць з сабой, таксама як і дзяжу. Тры бутэлькі з яшчэ цеплаватым самагонам парассоўваў па кішэнях і за пазухай. Урэшце напаследак прыкурыў ад вугольчыка і памалу пайшоў да сцежкі.

Пакуль ішоў ровам каля ручая, Рудзька бег ззаду, але затым на паваротцы да хутара трохі адстаў, і Пятрок, павярнуўшыся, ціха паклікаў яго. Рудзька наўскач дагнаў старога і болей ужо не адставаў. Здаецца, ён быў сціплы і выхаваны сабачка, які паважаў людзей і ніколі не соваўся куды без запрашэння.

Яшчэ падыходзячы гародам да істопкі, Пятрок учуў невыразны голас, быццам бы з хаты, але затым голас той сціх, і Пятрок падумаў, што, мабыць, гэта здалося, — хто цяпер,

апроч Сцепаніды, мог быць на сядзібе? Тым не менш маленькая трывога ўжо запала ў ягоную душу, і ён на дрывотні спыніўся, кінуў на трэскі дзежку і, азірнуўшыся сюды-туды, сунуў за дровы змеявік і тры бутэлькі з гарэлкай. Так лепей, бо ці мала хто мог забрысці ў хату, не немцы, дык паліцаі, што таксама не лепей. Пасля, надаўшы твару абыякава-стомлены выгляд, увайшоў у сені.

Ну, так яно і было, ён не памыліўся — з хаты чулася размова: адзін голас быў Сцепанідзін, а другі... Не ўцяміўшы адразу, чый быў той голас, Пятрок нясмела расчыніў дзверы ў хату.

— Во, а мы чакаем. Думалі ўжо — не дачакаемся сёння.

«Вы ды каб не дачакаліся — воўк за гарой здохне», — падумаў Пятрок, пазнаўшы паліцая Недасеку, што падняўся насустрач з лавы. Ён падаў Петраку шырокую далонь, якую той ціхенька паціснуў, думаючы ўсё: «Каб ты здох, унюхаўтакі. Але што ж, мабыць, здагадлівыя... Не паспееш нешта падумаць, як яны ўжо ведаюць».

— Але калі на работу, дык не пайду, — сказаў Пятрок. — Учора падбіўся, няма рады.

— Ай, не хадзі, — ахвотна пагадзіўся паліцай. — Сёння можна і не ісці, немцы паехалі. Ну як, ці нагнаў? — раптам запытаў ён і сціх, поўны ўвагі.

Пятрок зразумеў, што ён мае на ўвазе, і ўжо хацеў быў аднекацца, нешта схлусіць, але перш зірнуў на Сцепаніду, якая моўчкі стаяла пры печы. Злавіўшы ягоны позірк, яна сказала:

— Во дажыдаецца. Быў жа Гуж, ужо ўсё ведае.

Каторы ўжо раз Пятрок моўчкі пры сабе вылаяўся, ну але што ж! Без Гужа тут, ведама, не абыдзецца, але, можа, і лепей, што няма самога старшага паліцая, не трэба нічога тлумачыць ці апраўдвацца. І ўсё ж самагон ён хацеў аддаць ва ўласныя рукі Гужа, каб было зразумела, каму і ад каго, ды, можа, яшчэ і абгаварыць, за што. Папрасіць, каб не дакучаў з працай, не прысылаў немцаў кватараваць, перастаў чапляцца да жонкі. Ці мала ў яго было спраў да Гужа! Але ж во трэба цяпер ні за што, ні пра што аддаваць самагон Недасеку, які, можа, сам усё і вып’е.

Памарудзіўшы трохі, Пятрок выйшаў з хаты і на дрывотні выцягнуў з-за штабялька дзве бутэлькі гарэлкі. Трэцюю рашыў не аддаваць, пabерагчы трохі. Ідучы ў хату, трошкі пабойваўся, што Недасека заўпарціцца, скажа: мала, тады прыйдзецца апраўдвацца, што мала нагнаў, бо кепскае на-

чынне ці мала заквасіў. Але, на яго здзіўленне, Недасека не сказаў ні слова, запіхаў бутэлькі ў кішэні суконнага галіфэ, што нізка спаўзло на калені.

— З бульбы ці жытняя? — толькі і пацікавіўся паліцай.

— Жытняя. Стараўся, а як жа! Цяпер жа, ведаеш, трэба ўсім дагадзіць, уласці асобенна, — ветліва сказаў Пятрок.

— Уласці заўжды дагаджаць трэба. Хоць савецкай, хоць нямецкай, а як жа, — глыбакадумна заключыў Недасека і ўзяўся за клямку. — Ну, то да пабачэння!

Ён пайшоў, быццам нават задаволены тым, што ўзяў, Пятрок падазрона пасачыў у акно, як паліцай выходзіў з варотцаў, і тады стомлена сеў на лаву. Сцепаніда палезла ў печ па чыгунок з рэшткай капусты.

— Дзвюма бутэлькамі думаеш заліць яму вочы? — з’едліва запытала яна, спадылба пазіраючы на супакоенага Петрака.

— А што, мала?

— Сам ведаеш. Як бы зноў не прыпёрся.

— А не дам. Што ў мяне, спіртзавод?

— Аднак ужо ведаюць, што гоніш. Што змеявік на скрыпку выменяў. Агентура, кажа.

— Во як! Каб яна спрахла, агентура тая!

— Толькі во бомбу не могуць знайсці. Бомба там ля моста ляжала, дык спёр нехта.

— Бомбу! Ну каму яна трэба... Хіба Карніла? Пэўна, Карніла, — сказаў Пятрок, падумаўшы. — Таму ўсё трэба. Што дзе ляжыць, усё дамоў цягне.

Седзячы на тым самым месцы, дзе нядаўна еў Недасека, Пятрок сёрбаў капусту. Адчуваў ён сябе дашчэнту змораным, дужа сіпела ў грудзях — мусіць, ад дыму, але ўпершыню за шмат дзён з’явілася задаволенасць у душы, што зрабіў справу і тым трохі адкупіўся дзеля спакою, надоўга толькі ці не — невядома. Але на сёння, дык, мабыць, пэўна адкупіўся, ужо сёння Гуж пакіне яго ў спакоі. Даядаючы засквараную капусту з глінянай міскі, ён думаў, што спярша закурыць, а пасля трохі адпачне ў цяпле свае хаты, а там памяркуе, што рабіць далей. Але, як заўжды, Сцепаніда болей за яго ведала, што трэба рабіць найперш, а што пасля.

— Капец так і не абладзілі. Мне сёння не далі гэтыя. Ды і хлеба нямашака, малоць трэба.

— Бульба пачакае. Не марозіць яшчэ.

— Ну а хлеб? Есці ж няма чаго.

— Заўтра, — сказаў Пятрок. Пасля яды, у хатнім цяпле яго зусім размарыла ад стомы, і ён не меў сілы брацца цяпер за якую справу. Хоць бы і за самую пільную.

— А калі заўтра выганяць абаіх? На мост ці на бульбу? Ці яшчэ куды, — насядала Сцепаніда.

— Не выганяць.

— Як гэта — не выганяць! Што, ён табе даў аслабаджэнне? Нап'ецца ды зноў прыедзе, будзе чапляцца.

Можа, і прыедзе і будзе чапляцца і паграseverity, але Пятрок так ужо выматаўся за гэтыя дні, што цяпер не меў жаднае сілы што-небудзь рабіць. Паеўшы, ён згарнуў цыгарку, прыпаліў яе ад вугольчыка з загнеткі і пайшоў у запечак.

— Я зараз...

Не скідаючы апорак, ён прылёг у запечку і, не дакурыўшы цыгаркі, заснуў. Здалося, толькі самкнуў павекі, як на падворку дужа забрахаў забыты ім Рудзька, штосьць затупацела ў доле — Пятрок прахапіўся са сну і з цяжкай галавой кінуўся да акна. На тым месцы, дзе нядаўна стаяла кухня, нехта прывязваў да тыну спраўнага рудога коніка, і, як павярнуўся, каб ісці да ганка, Пятрок пазнаў Каландзёнка — у шынялі, з вінтоўкай за плячмі.

— Каб вы паздыхалі ўсе! — роспачна вылаяўся Пятрок, ужо адчуваючы, якая патрэба прывяла гэтага паліцая ў Яхімоўшчыну.

Рудзька ўсё брахаў — спярша на каня, які апасліва паводзіў вушамі, але не саступаў з месца, а пасля напусціўся на Каландзёнка. І той раптам спыніўся, хапаючыся рукой за вінтоўку. Пятрок, як быў без кажушка, выскачыў у сенцы і закрычаў на сабачку:

— Рудзька, прэч! Прэч ты, шчанюк! Я табе дам! Не трэба яго страляць, ён не ўкусіць! — загаманіў ён да паліцая, які ўжо піхаў патрон у патроннік. Рудзька, мабыць, зразумеў нарэшце, што яму пагражае, і забег за вугал на дрывотню. Ён яшчэ пабрэхваў адтуль, але ўжо без вялікае злосці, і Каландзёнак закінуў вінтоўку на вузкае, абвіслае ў шынялі плячо.

— Па гарэлку прыехаў, — проста абвясціў паліцай, не мяняючы поснага выразу на белым панурым твары.

— Дык я ж аддаў! Недасека ж узяў дзве бутэлькі, — захваляваўся Пятрок. — Што ж у мяне, фабрыка?

— Гуж сказаў: яшчэ дзве бутэлькі. Інакш заўтра будзе рэпрэсія.

— Што будзе? — не зразумеў Пятрок.

— Рэпрэсія. Ну гэта — будзем цябе вешаць. Ці, можа, страляць? — усумніўся Каландзёнак. — Не, вешаць, здаецца. Ага, успомніў — вешаць. Рэпрэсія, значыць.

— Ото дзівосы! — развёў рукамі Пятрок. — Дык дзе ж я вазьму? Я ж аддаў. Недасека...

— Тады бяры шапку.

— Зачым?

— Пойдзеш у мястэчка. Гуж сказаў: не дасць гарэлкі — самога за каршэнь і сюды. На рэспрэсію.

— Гэтак?..

Ну што яшчэ можна было зрабіць перад гэтымі злыднямі? Пятрок памаўчаў, падумаў і амаль з відавочнай выразнасцю зразумеў, што і гарэлка — не выйсце. Не, не ўратуе яго самагон — як бы не пагубіў хутчэй, чым што іншае.

Ён моўчкі ступіў на воглую зямлю падворка, не тоячыся, прайшоў на дрывотню і выцягнуў з-за альховага штабялька трэцюю сваю бутэльку.

— Ну во! А казаў — няма! Пакуль вам рулю ў пашчэнкі не сунеш, не зразумееце! — тонка завішчэў Каландзёнак і выхапіў з ягоных рук мурзатую бутэльку. — А яшчэ?

— Няма! Яй-богу, болей няма. Во хоць абшукайце. Выгнаў, знаеце, мала, запарка няўдалая.

— Ладна, — падумаўшы, згадзіўся Каландзёнак. — Аддам, а там хай сам рашае.

Ён адвязаў каня і скочыў на яго ўпоперак хрыбта жыватом, перакінуў па другі бок даўгую ў боце нагу. Конік пабег да гасцінца, а з гарода на падворак выйшла Сцепаніда, несучы кош з бульбай.

— Зноў па гарэлку?

— Зноў, — сумна пацвердзіў Пятрок.

— А я што казала? Цяпер пачнуць ездзіць...

— А ўжо скулля! Болей няма.

— Табе ж горш будзе, калі няма.

— А ўжо горш не будзе, — запальчыва сказаў Пятрок, не адчуваючы, аднак, упэўненасці ў сваіх словах. Праўда, канчаткова ён не хацеў верыць у кепскае, усё думаў: а можа, яшчэ як-небудзь абыдзецца...

## 20

Надвячоркам, як пачало ўжо змяркацца, пакрактаўшы трохі і пасварыўшыся з жонкай, Пятрок мусіў награбці ў начовачкі высушанага на печы жыта і пайшоў у істопку. Трэба было малоць: на хлеб ці на гарэлку, бо ўжо стала відаць, што без таго і без другога на гэтым свеце пражыць немагчыма.

Жорны былі старасвецкія, з тонкімі, пабітымі і сцягнутымі абручом камянямі, даўно не насяканымі, малолі не дужа спраўна, адной радасці, што круціць іх было не надта каб цяжка. І Пятрок памалу круціў за млён, нячаста падсыпаючы цеплаватага жыта з начовак, і неадчэпна думаў пра套 рознае, болей благое, што цяпер, бы мошка ў спёку, лезла ў яго галаву.

Вайна, канешне, нікому не ў радасць, лічы — усім гора, але калі тое гора праз немца, чужынца якога, дык што ж тут і дзівіцца, гэта як мор — чума ці халера, тут на каго наракаць? Але калі гэтая чума праз сваіх, вясковых, тутэйшых людзей, вядомых усім да трэцяга калена, якія раптам перасталі быць тымі, кім былі ўсё жыццё, а зрабіліся нелюдзямі, звяр'ём, падуладным толькі гэтым набрыдам-немцам, тады як разумець тое? Ці яны раптам ператварыліся ў звяр'ё і вытвараюць такое па чужым прымусе, прытаптаўшы ў сабе ўсё чалавечае, ці, можа, яны і не былі людзьмі, адно прытвараліся імі ўсе гады да вайны, якая разбудзіла ў іх зьяруг. Па натуры сваёй Пятрок быў чалавек ціхі і мяккі — гэткі, якімі была большасць у Выселках: страхавіты, зважлівы, трохі набожны. Такія ж былі і продкі. Дзед, бывала, ніколі не дазваляў сабе сказаць грубае слова не толькі на каго з сямейнікаў, але і на сяльчан, местачкоўцаў, аблаяць якую жывёліну, як гэта павялося зараз, калі нават падлеткі і тыя ўсё з мацюгом да каня ці каровы. Крый Бог, каб ён калі зрабіў каму шкоду ці ўзяў не сваё з двара або з поля. А цяпер?.. Добра, што ён не дажыў да такога страхоцця, не пабачыў, што робіцца ў свеце, на гэтай вайне...

Спярша, як толькі прыйшлі немцы, Пятрок наведваўся ў мястэчка, каб што-небудзь прыдбаць, зірнуць на новы парадак, а больш, каб пачуць, што робіцца ў свеце, і дазнацца, як яно будзе далей. Памятае, неяк каля пажарнай сабралася ў засені пад клёнам трохі мужчын — сядзелі, курылі. Гаворка была невясёлая — усё пра тое ж. Дзён колькі назад у раён прыехаў нейкі нямецкі чын у рудым фрэнчы з чырвонаю перавяззю на рукаве, казалі: прызначыў новае кіраўніцтва з мяс-

цовых. Мужыкам увогуле гэта спадабалася, што кіраўніцтва будзе не з немцаў, не якое прысланае, а менавіта з сваіх, мясцовых. Трохі счакаўшы, новае начальства ўсталявалася ў мураванай будыніне колішняга выканкама, і там ужо бачылі нямецкага перакладчыка, былога настаўніка, ціхманага халасцяка Свянткоўскага, што шэсць гадоў кватараваў ля моста ў яўрэйкі Рывы. Галоўным паліцаем адразу стаў Гуж, які перад тым толькі паявіўся ў мястэчку. Неўзабаве надзеў на рукаў павязку і Антось Недасека, што надта здзівіла местачкоўцаў, бо ніхто з іх не мог сказаць нічога благога пра гэтага чалавека. Трэцім паліцаем многія абураліся адкрыта, бо даўно яго не любілі ў Выселках, але Патап Каландзёнак, мусіць, ужо прывык да таго і не дужа звяртаў увагу. Цяпер ён зважаў толькі на немцаў і на свайго непасрэднага начальніка — старшага паліцэйскага Гужа. А Гуж? Узяўся за старое ці новае, яго не зразумееш, дзесяць гадоў яго не было тут — праходзіў навуку ў далёкім Данбасе, на каго там вывучыўся, можна толькі здагадвацца. Але цяпер адно ўпіваецца дадзенай яму немалой уладай, разам з немцамі панішчыў местачковых яўрэяў, разрабаваў іхняе майно і дзень пры дні фарсіць у рудой скуранцы, што нядаўна яшчэ насіў вядомы ўсім загадчык райземаддзела Яфім Кац.

Вось табе і сваё кіраўніцтва.

«Але як жа так можна, — думаў Пятрок, мерна ківаючыся ля жорнаў у такт ходу млёна — узад і ўперад. Было зусім цёмна, якой газнічкі ён не паліў. Сцепаніда ашчаджала газу, і ён не хацеў сварыцца — змеле і ўпоцемку. — Як жа так можна? — пытаўся ў думках Пятрок, — каб свае — сваіх?» Гэта ж як спрадвеку шанаваліся ў вёсцы добрыя адносіны паміж людзьмі, рэдка хто (можа, вырадак толькі) адважваўся на яўнае зло ў адносінах да суседа, даваў сабе волю судзіцца ці нават сварыцца з такім жа, як сам, селянінам. Здаралася штоніпто, не без таго ў жыцці, але часцей за ўсё праз зямлю — за надзелы, пожні, жывёлу. Але ж цяпер якая ж зямля? Каму яна патрэбна стала, зямля, даўно ўся сварка праз яе адпала, а міру з таго не пабольшала. Людзі разбэсціліся. Раней малады не мог дазволіць сабе прайсці міма старэйшага, каб не зняць шапкі, а цяпер гэтыя во маладыя знімаюць другім галовы разам з шапкамі. І не баяцца нічога — ні боскага гневу, ні суда чалавечага. Як быццам так заведзена тут спрадвеку, як быццам на іхнім баку не толькі сіла, але яшчэ і праўда. А можа,

ім і не патрэбна праўда, даволі крыважэрнае нямецкае сілы? На праўду яны гатовы пляваць, калі яна будзе ім замінаць у іхнім злачынстве. Аднак праўда ўсё ж ім замінае, інакш бы яны не азіраліся кожнага разу на немцаў, не залівалі б сваё сумленне гарэлкай, не хапаліся б за вінтоўку, не пагражалі б рэпрэсіяй ды нямецкай строгасцю.

Пятрок змалоў, можа, з гарнец жыта, пакратаў рукой мяккую, цеплаватую ля цёплых камянёў муку і падумаў, што калі ўжо ўзяўся, дык трэба намалоць болей — і на хлеб, і на брагу, бо трэба ж заквашваць зноў. За мерным глухаватым гудам камянёў ён не адразу пачуў голас Сцепаніды з хаты, а як пачуў, дык сцяміў, што кліча яна не першы раз, і нейкі спалох быў у тым яе голасе. Ён перастаў круціць, і адразу моцны стук у сенцах трывогай напоўніў сядзібу — хтось дужа лупануў у дзверы, басавіта лаючыся:

— Хазяін, курва тваю маць! Адкрой!..

Пятрок сцяміў адразу: гэта знадворку, сунуўся ў сенцы, дрыготкімі рукамі намацаў крук і выдзер яго з прабоя. Дзверы, расчыніўшыся, ледзьве не збілі яго з ног, Пятрок адхінуўся, і ў сенцы ўваліўся нехта вялізны, здалося, чамусьці касматы; на Петрака дыхнула моцным пахам гарэлкі, цыбулі і яшчэ нечым — чужым і агідным. Ён моўчкі стаяў за дзвярыма, а яны самі знайшлі дзверы ў хату і расчынілі іх — на сенцы пыхнула чырвоным святлом ад зыркага полымя з грубкі, якую паліла Сцепаніда, і чацвёра іх з тупатам, сапам, шорханнем мокрай адзежы ўвапхнуліся ў хату.

— Хазяін! — зноў раўнуў першы голасам, па якім Пятрок напружана стараўся здагадацца — хто? Але здагадацца ніяк не мог, мабыць, то былі незнаёмыя.

— Я тут, — сказаў ён з сянец.

— Хазяін, свету! Свету дай!

— Дык дзе ж цяпер свет? Нетуці свету. Во хіба з грубкі...

— Дай з грубкі! Лучыну зажгі!

Пятрок увайшоў у хату, якая адразу стала маленькай і цеснай, і прыткнуўся ля самага парога, ужо ведаючы пэўна, што дабром для яго гэты начны прыход не скончыцца. Сцепаніда таропка прыладжвала на загнетцы даўгую лучынку з агнём на канцы. Яе святло мільготка бегала па чатырох грувасткіх, настырчаных постацях, што разваліста тупалі па хаце, азіралі сцены, абмацвалі штосьці ў застоллі. Пятрок зноў паспрабаваў згледзець каго знаёмага, але не пазнаў нікога. Той пярэдні,

што першы ўваліўся ў сенцы, як добра загарэлася лучынка, павярнуў да яго насаты, аброслы запушчанай шчэццю твар.

— Хазяін?

— Ну хазяін. Ведама...

— Бандзіты заходзят? Гавары быстра!

— Якія бандзіты? — не зразумеў Пятрок. — Ад нас во нядаўна немцы выехалі, считай, нядзелю стаялі...

Двое з захожых прыселі на лаву, трымаючы між калень вінтоўкі, двое засталіся на сярэдзіне хаты.

— Сала ёсць? — запытаўся насаты, і не паспеў Пятрок адказаць, як другі, што стаяў наперадзе, крутануўся да яго бокам, падставіўшы позірку левую, з белай павязкай, руку. «Ага, паліцаі, значыць», — здагадаўся Пятрок, які спярша нават не ведаў, як сябе з імі паводзіць, што гаварыць.

— Ды што ты да яго з салам! — нейкім прыемна адкрытым, са шчырасцю, голасам папракнуў паліцай насатага і запытаўся з усмешкай: — Гарэлка ёсць?

— Адкуль жа? Няма гарэлкі, — сказаў Пятрок раптам асіплым голасам. Насцярожаныя госці па-змоўніцку пераглянуліся.

— Эта ты брось зажымацца! Такой номер у нас не прайдзёт! — быў гатовы абурыцца насаты. — Стаў бутылку, а патом пасмотрым.

— Дык чэсна няма! Што я хлусіць буду, — стараючыся як мага болей шчыра і таму, мусіць, фальшыва апраўдваўся Пятрок. Захожыя, відаць, ужо злавілі гэтую яго ненатуральнасць у голасе і яшчэ болей здзівіліся.

— Ты бачыў? — пасля нядоўгай замінкі сказаў паліцай да насатага. — Адмаўляецца!

— Што, жыць надаела? А эта ты нюхал?

Перш чым Пятрок што зразумеў, насаты тыцнуў яму пад нос сцюдзёную, прасмярдзелую порахам рулю выхапленага з-пад палы нагана.

— Самагону! Жыва!

— Дык але ж я не маю, — слаба стаяў на сваім Пятрок, хоць ужо ведаў, што ягоныя словы ім, што гарох да сцяны, — ім патрэбна была гарэлка.

— Якая вам гарэлка ад нас? — раптам загарачылася Сцепаніда, што дагэтуль моўчкі тулілася ў цяні каля грубкі. — Дзе ён вам яе возьме?

— Гужу дык недзе ўзяў, — лагодна сказаў паліцай з павязкай. — А нам шкадуе. Нядобра так. Не па-чэснаму.

— Якому Гужу? Хто гэта вам сказаў?

— Каландзёнак сказаў, — удакладніў паліцай, і Пятрок здагадаўся: мусіць, то былі прыезджыя паліцаі з Крынкаў. Канешне, мост, мусіць, гатовы, цяпер будуць ездзіць і крынкаўскія, і вязнікоўскія, і яшчэ шмат якія з далёкіх і блізкіх вёсак і ўсе заварочваюць на Яхімоўшыну — ведама ж, пад рукой, пры дарозе. І Пятрок аж жахнуўся з свае задумы: што ён нарабіў з тым самагонам? Хіба можна было напаіць гэтых сабак з усяе акругі? Ці ў яго хопіць на тое жыта, начыння, ягоных дзвюх спрацаваных рук?

— Каландзёнак тут месяц не паяўляўся! — смела схлусіла далей Сцепаніда, і паліцаі пераглянуліся ў недаўменні.

— Як гэта — не паяўляўся?

— А так. Не было яго тут. Можа, дзе ў другім месцы ўзяў.

— Няпраўду гаворыш, — заўсміхаўся паліцай з павязкай. — Каландзёнак не хлусіць.

— Ану абыскаць! — раптам закрычаў насаты. — Всё абыскаць! Бярыце лучыну і всюду: в сенях, в абоdo ры!

— Дык спаліце ж хутар, хіба так можна з агнём, ці вы здурнелі! — залямантавала Сцепаніда.

Але двое, што сядзелі на лавах, жыва ўскочылі і, пахапаўшы з загнеткі лучыны, пачалі падпальваць іх у грубцы. У дымным мільготкім смуродзе на момант асвяціліся іх счырванелыя азызлыя твары, відаць, абодва былі на добрым падпітку, і чакаць ад іх якой асцярогі не выпадала. З лучынкамі яны падаліся ў сені, чуваць было — палезлі ў істопку, з дзвярэй павалакло сцюжай, і Петраковы плечы ў адной камізэльцы перасмыкнуліся ад дрыжакі. Двое, што засталіся ў хаце, вальней расступіліся перад гаспадаром.

— Ану ідзі сюда! — зацята загадаў насаты. Пятрок моўчкі ступіў на сярэдзіну хаты і стаў, гатовы да горшага. — Водку даеш?

— Дык няма, — сказаў ён проста ўжо амаль абыякавым голасам, разумеючы, што даказваць, бажыцца тут без карысці. Яны былі ў такім стане хцівай драпежнасці, што ягоныя словы наўрад ці маглі многа значыць. Ім патрэбна была гарэлка.

— А еслі найдзём?

— Знойдзеце, дык ваша, — сказаў Пятрок, адчуўшы, аднак, што, мусіць, сказаў няўдала: яшчэ падумаюць, што ён

недзе хавае. Але там, дзе хавае, яны не знойдуць, хоць бы перавярнулі ўсю сядзібу і яшчэ ўвесь роў у дадатак.

— Знойдзем — палучыш пулю. За ашуканства, — паабяцаў паліцай.

— А не найдзём — тожа прыстралім, как сабаку, — удакладніў насаты. — Так што харашэнька падумай.

— Што ж, воля ваша, — паныла сказаў Пятрок і зразумеў, што выйсця для яго не будзе. — Толькі няма гарэлкі.

Наступіла невялічкая затрымка, паліцаі, відаць, чакалі, што прынясуць тыя, што пайшлі шарыць у істопцы. Сцепаніда мяняла лучыну на загнетцы, каб было трохі відаць у хаце, у якой віўся пластамі дым і дужа патыхала гарэлым. Пятрок вельмі баяўся, каб не падпалілі што ў істопцы ці дзе на падворку, бо якой жа ашчаднасці можна чакаць ад п'яных. З усіх чатырох адзін толькі паліцай з павязкай здаўся яму трохі менш п'яным ці менш звераватым, чым той насаты з наганам, і Пятрок сказаў да яго:

— Ды не шукайце, яй-богу, няма. Што ж мне, шкада, яйбогу...

— Бандзітам прыберагаеш! — раўнуў насаты. — А нам фігу? За нашыя старанні для народа!

— Ды што ты яму чытаеш мараль? — па-ранейшаму дужа сардэчна сказаў паліцай. — Час марнуеш. Пастаў да сценкі яго. Жыць захоча — знойдзе.

І ён хораша засмяяўся, паказаўшы шырокі рад прыгожых зубоў.

«Во табе дабрэйшы і цверазейшы!» — расчаравана падумаў Пятрок. А ён яшчэ хацеў у яго папрасіцца, каб не знушчаліся, паверылі, што нічога няма. Неяк разам Пятрок перастаў ужо баяцца за сваю сядзібу, апасацца, што тыя дзе-небудзь падпаляць. Ужо ён хацеў аднаго: каб хоць як выкараскацца з гэтага ліха, і думаў, што, мабыць, не ўдасца, не выкараскаешся.

З цёмных сянец, папаліўшы свае лучынкі, улезлі тыя двое ў чорных шапках з вінтоўкамі.

— Што, няма?

— Ды няма нічарта, цёмна, як быццам нічога такога. Меле, там мука ў жорнах...

— Ах, мелет! — вызверыўся насаты. — Для каго-та на самагоначку мелет! А для нас нет! Ану к сценке! Жыва!

У Петрака пацямнела ўваччу, здаецца, ён нібыта пахіснуўся ад слабасці ці страху, адчуўшы, што зараз усё, мабыць, і скончыцца. Нехта дужа піхнуў яго ў плечы, пасля ў бок, ён няўцямна ступіў і апынуўся ў прасценку паміж двума вокнамі на падворак. Насаты насупраць прыладзіўся ямчэй — расставіў на падлозе ногі і нетаропка падняў на яго руку з смярдзючым наганам.

— Што вы робіце, ірады? За што вы яго? — залямантавала ад печы Сцепаніда, і насаты апусціў руку.

— А, жалка стала? Так нясі пару фляжак! Ну, быстра!!

Але Сцепаніда залямантавала яшчэ гучней:

— Скуль я вазьму вам, няма ў нас ніякай гарэлкі, каб вы сваіх жонак не бачылі, як мы тую гарэлку...

— Заткніся! — раўнуў насаты, і паліцаі ўчэпіста схапілі Сцепаніду за рукі, размашыста штурхнулі ў сені. Там яна сцішана войкнула і раптам сціхла. «Ці не забілі?!» — здрыгануўся ад страху Пятрок, які таксама ўжо развітаўся з жыццём.

— Так, счытаем да трох! — аб’явіў насаты, зноў скіроўваючы на яго рулю нагана. — Даёш, нет? Раз... Імей в віду, я б’ю точна, без промаху. Два... Ну, даёш? Нет?

«Няўжо ты застрэліш, сабака? — думаў Пятрок, млосна пазіраючы на хісткую рулю нагана, якая споўдала ў паветры праз тры крокі ад яго. — Няўжо хопіць лютасці на забойства? Ці, можа, палохаеш? Але каб хутчэй што-небудзь. Страляць, дык страляй, чорт з табой, усё роўна, відаць, не суджана перажыць вайну, пабачыць дзяцей. Але хоць бы пачуць, як турнулі гэту напаўзь», — разгублена думаў Пятрок, і дзве слязіны ціха паўзлі па ягоных даўно ўжо не голеных шчоках.

— Тры! — раўнуў урэшце насаты, і ў тое ж імгненне калючае чырвонае полымя ўдарыла Петраку ў твар, вушы забіла тугім коркам ад стрэлу, і праз момант ён не адразу зразумеў нават, што быццам жывы і стаіць, як стаяў — плячмі да прасценка. Толькі праз паўхвіліны скрозь густы звон увушшу да яго, бы здалёку, данесліся галасы паліцаяў, тыя спрачаліся.

— Ды што з ім цацкацца, патроны псаваць! Бі ў лоб, і пайшлі!

— Не спяшы! Я яго па часцям раздзелаю. Как бог чарапаху. Ну, так гдзе водка? Долга малчаць будзеш?

Пятрок ужо не адказваў — ён амаль што аглух і аслупянеў у безнадзейнай абыякавасці да сядзібы, жонкі і найперш да самога сябе, бо якіх сіл абараніць сябе ўжо не знаходзіў.

Яны нешта там выранджаліся — адзін свяціў лучынкамі, палячы іх пучкамі, дым густа валіў у хату і праз расчыненыя дзверы струменямі сплываў у сені; цені ад людзей крукастымі пачварамі хадзілі па сценах і столі: то пыхала, то аціхала полымя лучынак, слепячы яго слязлівыя вочы і высвечваючы насупраць каржакаватую постаць ягонага ката з наганам.

— Гдзе водка? Гавары! Ах, малчыш?..

Новы стрэл грукнуў, здаецца, мацней за першы, дужа трэснула штосьці ў вуху, і Пятрок, не ўтрымаўшыся, паваліўся бокам на канец услона. Ён дужа ўдарыўся клубам, рукамі трапіў у штось гразкае на падлозе, дужа балела ў вуху, але паліцай не даў яму доўга грэбацца па падлозе, выцянуў ботам у грудзі і за каршэнь, бы шчанюка, зноў падняў да сцяны. Каб не ўпасці, Пятрок у поўнай знямозе прыціснуўся плячмі да шархоткіх газет якраз у тым месцы, дзе ўжо чарнеліся радком тры дзіркі ад куль.

«Божа, за што?»

— Ах ты, хутарская сволач! Кулацкая вша! Зажымаеш? Ну, палучай!..

«Толькі б адразу. Не мучыцца каб... Адразу...» — сноўдала ў яго галаве міжвольная думка-жаданне, Пятрок глытнуў салёныя слінкі і зноў адчуў вялікую абыякавасць да сябе і да жыцця наогул. Не паспеў ён, аднак, сабрацца і ўнутрана расслабіцца перад апошнім уздыхам, як зноў грымнула, агняна-смярдзюча пыхнула раз, другі, трэці — асляпіла, забіла глухатой вушы, калені яго падагнуліся, і ён, абдзіраючы плячмі газеты, паволі споўз па сцяне на падлогу.

Здаецца, на нейкі нядоўгі час ён страціў прытомнасць, так было млосна ў грудзях і неяк было дыхнуць, вочы яго амаль нічога не бачылі ў дымным смярдзючым змроку, і толькі нейкім куточкам свядомасці ён адзначыў яшчэ, што жывы. Чамусьці жывы... Аднекуль, быццам здалёк, да ягонага слыху прыбіліся галасы ягоных забойцаў:

— Што доўга з ім пэцкацца! Канчай, і патопалі.

— Сам пусць даходзіт!

— Дай я...

— Пагадзі! Яшчэ прыгадзіцца, — адпіхнуў паліцая насаты і, ступіўшы да Петрака, трохі схіліўся над ім. — Ты понял, слізняк? Нам водка нужна. Водка, панімаеш? Не сягодня, так завтра. Штоб был харошы запас. Понял? Іначы прыдзём — распрашчаешся з жызню.

«Няўжо не заб’юць?» — амаль спалохана падумаў Пятрок, вяла, як пасля непрытомнасці, узграбаючыся з падлогі. Абапёрся аб сцяну, стаў на адно калена, праз дым паглядзеў на хату. Лучынкі ўсе згарэлі, свіціліся трохі з грубкі, дзе таксама ўжо прагарэлі дровы, і апошнія галавешкі клалі барвяную пляму на затаптаныя дошкі падлогі. Усе іх чатыры пачварныя постаці адна за адной пхнуліся ў насцеж расчыненыя дзверы, адкуль нізам па хаце распаўзалася воглая сцюжа, цела пачала біць дрыжака. Пятрок з натугай успёрся на другое калена, увесь калоцячыся ад перажытага страху, сцюжы і невыказнае крыўды — за што?

— Бабу адліць?

— Чорт яе не возьме. Сама ачухаецца...

То былі апошнія іх словы, сказаныя ўжо ў сенцах, далей пад вокнамі пратупалі іх крокі, яны сталі сціхаць, і ўсё навакол аціхла.

Пятрок неяк узгрэбся на ногі і, трымаючыся абеbecause за абадраныя сцены, пабрыў у сенцы — недзе там была Сцепаніда, жывая ці, можа, ужо мёртвая.

Пераступіўшы парог, ён згледзеў у змроку яе босыя ступні — Сцепаніда нерухома ляжала на разгрэбенай, скрозь раскачанай па зямлі бульбяной кучы.

## 21

На Петракова здзіўленне, Сцепаніда неяк устала на ногі і, хістаючыся, бы п’яная, сама дабралася да запечча. На ўсе яго лямантацыі яна маўчала, толькі ціха стагнала часам, і ён усё тупаў па хаце — то насіў ёй вады, то ўкрываў кажушком, то бедаваў, горка і шчыра, а болей кляў тых звяругаў, немцаў, вайну. Ён ужо не зашчапляў сенцаў, толькі прычыніў дзверы — чорт з імі, хай ідуць, б’юць, паляць — усё роўна з імі не жыць. Відаць, жыццё наогул трэба канчаць, нашто так пакутаваць, няма для таго ўжо сілы ды і жаднай патрэбы. Усё роўна яны не дадуць памерці па-чалавечы, сваёю смерцю, — яны даканаюць сілком, але спярша пацешацца, як хочуць, дапякуць, што сам павесішся па сваёй ахвоце, — бо што ж яшчэ можна зрабіць з сабой, калі жыццё — бясконцая нясцерпнасць пакут?

Тую ноч ён не клаўся зусім, трохі прыткнуўся на ражку стала, быццам задрамаў, паклаўшы галаву на локці, і на

світанку ачнуўся амаль ад спалоху, што пачынаецца новы дзень — што ён прынясе? Але ўжо было пэўна — не добрае ж ён прынясе, а новыя пакуты і страхі, можа, смерць нават, бо колькі ж яны будуць гуляць у смерць, некалі ж, мабыць, і здзейсняць сваю пагрозу. Чорт яе бяры, тую смерць, ён перастаў ужо баяцца яе, білі б толькі хутчэй. Шкада, мусіць, у самым пачатку вайны, многа чаго ён не пабачыць, а галоўнае — не дазнаецца ўжо пра лепшае. Мусіць жа, яно будзе калі-небудзь, лепшае. Але што ж... Так далей жыць нельга. То не жыццё.

Здаецца, Сцепаніда ў запечку трохі аціхла, перастала стагнаць, ці не задрамала нават, і Пятрок выйшаў у істопку, знайшоў свой кажушок на дзежках ля жорнаў. Так ён і не змалоў жыта — ні на хлеб, ні на гарэлку і малоць болей не будзе, не будзе заквашваць — хай мелюць і гоняць самі. Яму ўжо годзе. Калі няма іншага паратунку, дык што ж, гарэлка таксама не паратунак. Хай лепш заб'юць проста так, без дай прычыны, хоць бы за тое, што ён — чалавек.

Ён выйшаў з сянец на падворак і не зачыніў за сабой дзвярэй — нашто? Дзверы цяпер без патрэбы, тыя ўсё роўна адчыняюць і пройдуць, куды захочуць. Для каго цяпер дзверы?

Позні восеньскі ранак з натугай праясніваў хмарнае неба, зацягнутае туманнай смугой бульбяное поле з агалелым хмызняком на краі ля рова; усё навакол поўнілася ветраной стыласцю і золлю. Рэшта рудой лістоты трывожна ляскатала на счарнелым ліпавым голлі, мокрае лісце за ноч густа ўслала дарожку, стаптаную мураву падворка, наліпла на зрубе калодзежа і мокрай лаўцы пад тынам.

Гэта ноч пад расстрэлам нешта зрушыла ў Петраковай свядомасці, нешта непапраўна зламала, збіла хаду яго думак са звыклага для яго кола, ён не ведаў ужо, што рабіць і куды ісці. Карцела, праўда, сысці куды далей ад сядзібы, бо адчуваў, што тут яго зноў спасцігне тая ж навала, зноў з'явяцца тыя, з вінтоўкамі, і яму будзе кепска, калі не зусім пагібельна.

На дарогу ён ужо баяўся паказвацца, адтуль цяпер ішла для яго ўся небяспека, як заўжды, хацелася затуліцца за рог, схавацца ад чужога хцівага вока. Ён пайшоў на дрывотню, зірнуўшы са смуткам на насцеж расчыненыя вароты хлява, раскіданыя па дрывотні лепшыя яго бярозавыя паленцы і нават перакуленую і адкочаную з яе спрадвечнага месца калоду, на якой гадоў трыццаць seклі тут дровы. З дрывотні

ён згледзеў знаёмую сцежку цераз здратаваны гарод у роў і нечакана пайшоў па ёй — ён ужо ведаў куды. На аслабелых хісткіх нагах ён сашкандыбаў праз хмызняк уніз, не адхінаючы голля, якое чаплялася за шапку і за плечы, таропка пайшоў па сцежцы ля ручая, мінуў барсукову нару, перабраўся па камянях на той бок і ўрэшце ўзлез угору, у меншы равок, зарослы непралазным гушчаром маладога ельніку.

На знаёмай прагаліне было сыра і пуста, воглае вуголле на ўчарашнім вогнішчы паміж трох закапцелых камянёў апала маленькаю кучачкай. У шыпшынавым кусце з засмяглымі барвовымі ягадамі ён згледзеў свой чорны казан, трохі прыкіданы сапрэлым лісцем і падумаў: чорт з ім! Хай іржавее. Ён болей да яго не дакранецца, з самагонкай усё скончана. Азірнуўшыся, ён прысеў ля куста і пад зламаным сучком разгроб лісце, за брудную шыйку выцяг такую ж запэцканую чорнай зямлёй бутэльку, ашчадна ацёр яе касматай палой кажушка. Яны там пілі, здзекаваліся ці весяліліся, а ён не паспытаў нават. Ён ашчаджаў, стараўся, каб лепшай выгнаць. Каму? Пра каго ён клапаціўся, дурань? Пра сябе, канешне, але хіба пра сябе цяпер так клапаціцца трэба? Ах, дурніла старое...

Пятрок выдраў папяровы корак з бутэлькі і ашчадна глыкнуў раз, другі. Добрая, халера, гарэлачка, які ён усё ж маладзец, што не аддаў першака — хай п’юць тую бурду, тую рудую рэшту. Мабыць, ім усё роўна. А гэтай во самай лепшай ён сам пачастуе сябе, бо хто ж яго яшчэ пачастуе? І чым яшчэ паласаваць сябе, калі не закуркай ды гэтай во, праз гора выгнанай горкай. Праўда, без чаркі, нібы які п’яніца — з рыльца бутэлькі. Але што ж, такі распракляты час, зручны для смерці і зусім нягожы для людскога жыцця.

Ён яшчэ трохі выпіў, перавёў дух і падумаў, што ўсё ж гэта паскудства піць без закускі, хацеў шпурнуць бутэльку далей у роў, ды сквапна асцярогся: стала шкада недапітага. У думках ужо настала млявая лёгкасць, ягонае гора перастала быць такім безнадзейна горкім, як толькі што адчувалася, з’явілася прыемная ўпэўненасць у сабе і нават прыбыло сілы ў целе. Сволачы яны, канешне, думаў Пятрок пра паліцаяў, але і ён не даўбежка, не які там ахламон, недарэка, ён таксама трошкі цяміць у жыцці і нават у вайне, якую ён пабачыў у тую пару, як тыя пад сталом лазілі. Ён не дасць ім на сабе ездзіць, як ім захочацца, яшчэ ён пастаіць за сябе. Во хоць бы і з гарэлкай: чорта ён даў ім гэтую найлепшую бутэлечку, нават выстаяў

пад расстрэлам, нагледзеўся смерці ў вочы, а вот жа не аддаў, упёрся, і паехалі з чым і прыехалі. Скулля ім!

Не азірнуўшыся нават на сваю прагаліну, ён падлез пад калючы ельнік і, трохі запарушыўшы вочы, выбраўся на сцяжыну, па якой нетаропка патупаў у аўражнай цішы назад. Бутэльку з недапітым першаком не кідаў, трымаў у руцэ і думаў, што яшчэ трохі глыне і тады кіне ў ручэй. На завароце ручаіны, дзе разам заварочвала і сцежка, ён стаў, трохі здзіўлены, ледзь не сутыкнуўшыся з Рудзькам, сабака таксама, мабыць, дзівіўся гэтай нечаканай сустрэчы, але тут жа ўзрадаваўся, замахаў хвастом.

— Ну што, што, Рудзька? — загаманіў да яго Пятрок. Цяпер, мусіць, вельмі дарэчы было пагаманіць з кім-небудзь, але з кім жа тут пагамоніш, апроч як з выпадковым сабачкам. Рудзька, з пільнай увагай зразумець нешта, узіраўся ў яго твар сваімі пакутна-няўцямнымі вачмі і енчыў ціхенька, бы просячы штось.

— Галодны? Галодны, канешне. Ну, пайшлі. Цяпер, бачыш, няма анічога, ні якой крошкі. Во, бачыш? — спрабаваў вывернуць пустую кішэню Пятрок. — Няма. А ў хаце штонебудзь будзе. Пайшлі, дома цябе накармлю.

Ён пайшоў далей па сцежцы, думаючы, што на гэты раз трэба абавязкова што-небудзь даць Рудзьку, які ці не з учарашняга чакае яго тут, у рове. Але ж учора не далі тыя звяругі — добра яшчэ, што не прыстрэлілі на падворку. Ды і яго самога таксама хацелі застрэліць, што перажыў — страшна ўспамінаць нават.

— Во, брат, жыццё настала! — паскардзіўся Пятрок і азірнуўся на Рудзьку, які, бегучы ззаду, зноў уважлівей паглядзеў у ягоны твар і пакутна наморшчыў маленькія броўкі. — Жыццё! Сабак б’юць, як людзей, і людзей страляюць, нібы сабак. Ураўнялі род чалавечы! Падспасобілі пад скаціну якую, ага, брат!

«Хаця ім што, — думаў Пятрок, — ім абы жорсткасць сваю спраўляць, упівацца сілай, людскую кроў піць. Без крыві засмяглі б іх глоткі. І гарэлкаю не размочаць. Не, не размочаць. Ім пасля крыві гарэлку давай, а пасля гарэлкі зноў на кроў цягне. Во па гэтым коле і носяцца. Ах, звяругі, звяругі!»

Ён ужо ўпэўнена тупаў па сцежцы з цвёрдым намерам на хутары чым-небудзь накарміць Рудзьку, бо зусім асірацеў сабачка, мабыць, пабойваецца людзей і круціцца на адным

месцы ў рове, дзе той страшной ноччу згубіў свайго Янку. Але Янка ўжо ўсё, Янка цяпер далёка, ягоная душа цяпер, мусіць, на небе. Бязгрэшная хлапечая душа, яна пэўне ж пападзе ў рай. А во куды пападуць нашы грэшныя душы?

Пяршак Пятрок не дапіў, цвяроза падумаў, што яму, мабыць, годзе, трэба палячыць Сцепаніду. Пасля ўсяго перажытага жонцы самы раз будзе глынуць які кілішачак жытняй — пэўна ж, прыбудзе сілы ды і бадзёрасці. Малы кілішачак гэта як лекі, і неблагія лекі прытым, самі дактары не адмовяцца. А дактары знаюць, як трэба піць. Дактары ўсё знаюць: і што піць, і чым закусваць. Яму таксама не шкодзіла б чым закусіць, дужа хацелася есці, асабліва цяпер, пасля выпіўкі. Усе гэтыя дні галодны, не раўнуючы як той Рудзька.

— Там паямо, — азірнуўшыся, абнадзеіў Пятрок сабачку, які, не адстаючы ні на крок, бег следам. — Ужо мы цяпер паямо...

З натугай, аж спацела спіна, ён ускараскаўся па крутой сцяжыне на ўзровак. Сабачка, зразумеўшы нарэшце, куды ўзяў кірунак Пятрок, трохі абмінуў яго і пабег наперадзе, дужа не выпінаючыся, аднак, перад чалавекам. Пятрок думаў, што трэба найперш засмажыць бульбы з салам, калі яшчэ засталося яно ў кубёлку. Прыйдзе, абярэ бульбы і засмажыць, дасць есці Сцепанідзе і знойдзе што кінуць гэтаму беспрытульнаму Рудзьку. Бо хто ж яго накорміць цяпер? Тут жа забілі Янку, во ён і круіцца. Счытай, ужо як бы тутэйшы сабака. З Яхімоўшчыны.

Але чаго раптам Рудзька стаў на сцяжынцы і настырчыўся, ягоны хвост перастаў матляцца? Пятрок хістка, не адразу спыніўся — ужо відаць стала ягоная сядзіба цераз гарод, і там, за дрывотняй, штось матлянула рудое. Ну быццам які руды дыван на паркане, але гэта не дыван, мусіць? Пятрок працёр пальцамі вочы і ўгледзеўся лепей — так яно і сталася, як ён баяўся, не хочучы, аднак, прызнацца сабе. Яго апярэдзілі. На двары ля паркана ўжо тупалі, ківаючы галовамі, рыжы і вараны коні, і, хоць ля іх нікога не было відаць, Пятрок зразумеў, што яны ўжо прыехалі.

Пятрок ледзь не заплакаў ад крыўды, гора і страху, які наўхват ашчаперыў яго, пераступіў на сцежцы, азірнуўся — ён не меў ужо сілы ісці туды, на сядзібу, бо вельмі добра адчуваў, што там чакае яго. Але куды было ісці? У чыстае поле? У Баранні Лог? У балота? Назад у роў? Але ў хаце

заставалася хворая, прыбітая жонка, увесь ягоны набытак, — яны ж адпомсцяць яму, як захочуць. Хіба ад іх паратуешся?

І ўсё ж ногі яго павярнулі назад, і ён аж прыгнуўся трохі, увабраў галаву ў плечы і хісткімі крокамі патрухаў па сцежцы да рова.

Толькі ён не дабег нават да пачатку кустоўя, ззаду данёсся першы пагрозліва-гучны крык: «Пятрок, стой! Стой, такую тваю... Назад!» І зараз жа тугі шчаўчок стрэлу ляснуў, здалося, над самай яго галавой. Куля пранеслася міма, у хмызняку на ўзроўку ціха ўпала долу ссечаная ёю галінка, і ён раптам, ацверазеўшы, уцяміў, што ўцякаць нельга. Ад іх не ўцячэш!

Сапраўды, двое іх ужо беглі цераз гарод наўпрасткі ад сядзібы, і ён спярша стаў, а затым і павярнуўся назад. Тыя таксама сталі за плотам ля абсталяванага імі афіцэрскага клазета, вінтоўкі яны трымалі напагатове, каб адразу, як ён пабяжыць, усадзіць яму кулю паміж лапатак. Але ён не бег, ён ішоў па сцежцы, па якой хадзіў тут дваццаць гадоў, і ўсё ў ім паднімалася, напружвалася, пухла ў страхавітай крыўдзе-пратэсце: за што? Неяк няўцям ён адчуў у руцэ бутэльку, што нёс Сцепанідзе, там яшчэ трохі боўталася, але цяпер ужо Сцепаніда не вып'е. Не размахваючыся, ён шпурнуў бутэльку ўбок, з кароценькай радасцю сцяміўшы, што і ім таксама адтуль не дастанецца — хай выцякае ў бульбоўнік. Ён усё болей рашуча ішоў насустрач паліцаям, якія за плотам таксама ішлі напярэймы яму да сцежкі — Гуж у сваёй скуранцы наперадзе, а Каландзёнак з паднятай вінтоўкай ззаду. Амаль фізічна адчуўшы іх зласлівы намер, Пятрок спыніўся.

— Ну што? Ну што, гадаўцы? Чаго вам трэба? — слаба крыкнуў ён амаль праз слёзы, якімі замакрэлі вочы. Пад горла яму таксама падвалілася нешта, мулкае і даўкае, і ён спыніўся на сцежцы за пяць крокаў ад плота.

— Ану ходзь бліжэй! — неяк дужа спакойна, з ледзьве прыкметнай пагрозай сказаў Гуж, утаропіўшыся ў яго цвёрдым, як цвік, позіркам. Твар паліцая быў нібы дзеравяны, і Пятрок адчуў, што на гэты раз не абыдзецца.

— Што вам? Чаго вы чапляецеся? Якога ражна вам трэба ад мяне? Гады вы, нямецкія запраданцы...

— Ану спакойна! — зарычэў Гуж, ускідваючы вінтоўку. — А то мы...

— Што вы, што? Застрэліце? Дык страляйце, чорт вас бяры! — з нечаканай рашучасцю, ад якой сам спалохаўся,

закрычаў Пятрок і патрос у паветры сцятымі ў кулакі рукамі. — Страляйце!!!

— Гэта паспеем! — спакойней аб'явіў Гуж. — Ідзі сюды!

— А во не пайду! Не пайду да вас і слухаць не стану. Вылюдкі вы!!!

Гуж спакойна закінуў вінтоўку за плячо, кіўнуў Каландзёнку:

— Ану, дай яму!

Каландзёнак сігануў цераз верхнюю жэрдку плота, па растаптаных барознах ступіў да яго і размахнуўся. У Петрака зазвінела ў вуху, сяліба хіснулася ўваччу, і ён нечакана апынуўся на мулкіх каляных палівах бульбоўніку.

— Устаць!

— Зараз! Зараз! Устану... Яшчэ ўстану... Але за што б'яце? Што я — чалавек?

Не паспеў ён, аднак, узграбсціся на ногі, як другі ўдар у правае вуха паваліў яго на другі бок у гразкую растаптаную баразну.

— Дзе гарэлка?

— А во — скулля вам! — сказаў Пятрок, плюючыся крывёй — здаецца, яму выбілі апошнія зубы. — Во, наце! Наце! — тыцнуў ён Гужу кукіш. — Біце! Я вас не баюся! I Гітлера вашага не баюся! Во і яму тожа! Скулля ўсім вам!

Каландзёнак зноў падскочыў да яго і размахнуўся, але Гуж за плотам спыніў яго, цвёрда гукнуўшы:

— Стоп! Пака хопіць. Мы яго гэта... Паказацельна.

— Рэпрэсію, ці што? — тонкім голасам спытаў Каландзёнак.

— Рэпрэсію. На вяроўцы, — сказаў Гуж і таксама пералез цераз плот. — Ану паднімайся!

— Не паднімуся. Страляйце!

— Паднімешся, стары корч! Самагоначку разбазарыў. Раздаў, каму не трэба. А сваім — фігу? Не, я ўжо цябе ўзгрэю. За ашуканства. I за аскарбленне фюрара. За фюрара, знаеш, што палагаецца?

— А хоць што! Я і фюрару плюну ў яго вусатую морду. I табе тожа, прадажнік!

— Цыц!

Гуж коратка ткнуў яму ботам пад грудзі, Пятрок войкнуў і скурчыўся на баку ў бульбоўніку. Хвілін колькі ён не мог ні ўздыхнуць, ні сказаць што, дыханне яму перацяло, у ва-

чах усё пайшло кругам. «Канец! Хутчэй бы, каб без гэтых пакут», — неслася ў думках, якія адно яшчэ мелі здольнасць неяк усведамляць яго незайздросную долю, можа, апошнія некалькі хвілін перад канцом.

— Устаць!

Але ўстаць ён не мог, хоць не мог таксама і крыкнуць што паліцаям — ён толькі роспачна хліпаў ротам, як рыбіна, выкінутая з вады на бераг. Тады Гуж падышоў да яго і дужа тузануў за плячо.

— Устаць!

Спакваля, аднак, ён трохі глынуў паветра, раз і другі. Гуж зноў тузануў яго, удвух з Каландзёнкам яны паставілі яго на ногі і, ухапіўшы пад пахі, павалаклі цераз гарод да дрывотні. Ён ледзьве перастаўляў аслабелыя ногі, шапка яго засталася ў бульбоўніку, дужа стыла на ветры галава з рэдзенькім белым пухам — рэштаю яго валасоў. Але, мабыць, яму ўжо не спатрэбіцца ні шапка, ні якое здароўе, ні нават сама галава, і ён не шкадаваў сябе. Ён толькі думаў, што яшчэ трэба сказаць гэтым пачварам, — пакуль быў язык, ён яшчэ меў нейкую супраць іх зброю. Але, як назло, патрэбныя словы не ішлі ў галаву, і ён толькі тупа бубніў:

— Чакайце, чакайце, будзе вам...

— Гэта табе будзе! Гэта ты пачакай трошкі, — з тайным зларадствам паабяцаў Гуж.

Яны болей не білі яго, прывялі на падворак да прывязаных ля тыну коней. Каландзёнак усё трымаў яго пад руку, а Гуж чамусьці пабег у хату. «Ці не возьмуць яны і Сцепаніду?» — падумаў Пятрок. Ён думаў, што зараз убачыць яе і яны пойдуць разам на апошнюю сваю Галгофу, але вельмі хутка Гуж выскачыў з сянец адзін.

— Так, садзіся! — крыкнуў ён Каландзёнку. — Часу мала.

Каландзёнак, аднак, перш чым сесці на свайго панурага коніка, падвёў Петрака да варотцаў пад ліпамі і віскнуў:

— Марш! Туды! — і махнуў да гасцінца.

Пятрок пастаяў, сцюжа і воглы вецер трохі далі яму аддыхацца, і ўпершыню пасля запальчывага ўзрушэння з’явілася страхавітая думка: куды? Куды яны яго павядуць? Яны там абодва паўскоквалі на коней без сёдлаў, выязджалі з падворка, а ён стаяў у варотцах і не мог ступіць з месца. Чаго ён добраахвотна пойдзе за імі на свае пакуты, хай забіваюць

тут, на парозе ягонага жытла, навошта яшчэ напаследак дагаджаць ім...

— Ну, марш!

— А не пайду. Забівайце...

— Як гэта — не пайду? — шчыра здзівіўся Гуж, гоцаючы вакол яго на кані. — Я табе задам такога «не пайду», што ты пабяжыш як падсмалены.

І ён злосна выцяў Петрака хварасціной па галаве — як варам апякло лысіну, Пятрок хіснуўся, але ўстаяў на нагах.

— Не пайду, нячысцікі! Хоць што хочаце, не пайду!

У ім зноў узнялася і падхапіла яго гняўлівая хваля крыўды і роспачы, яна дала яму сілы, і ён рашыў не здавацца. Адсюль ён нікуды не пойдзе, калі забіваць, дык хай забіваюць тут.

Гуж пакруціўся з канём па дарожцы, мабыць, не ведаючы, што рабіць з гэтым старым няўломкам, але болей не біўся, крыкнуў Каландзёнку:

— Вярніся, зірні там якую вяроўку.

«Звяжуць? Павесяць? Хай! Абы не ісці нікуды. Хай смерць, але дома», — горка думаў Пятрок, зусім ужо гатовы да смерці. Сцепаніды ён так і не ўбачыў, можа, яны забілі яе...

— Не хацеў па-харошаму — вісець будзеш, — прыгразіў Гуж, седзячы перад ім на кані. Доўгія ногі яго ў гразкіх ботах нізка боўталіся пад конскім брухам. — За аскарбленне паліцыі. І фюрара.

«Хай! Хай. Чым такая жысць — хай!» — думаў Пятрок, ужо не адказваючы яму. Ён ужо не азіраўся нават на сваю сядзібу і на падворак, ён думаў, што літасці ў іх не папросіць, як бы кепска яму ні зрабілі. Абы толькі стрываць, абы не доўга трываць...

— Рукі! Рукі! — віскнуў над вухам Каландзёнак і, не чакаючы, калі ён паслухаецца, сам ухапіў адну руку, другую, склаў іх на жываце і пачаў скручваць канцом вяроўкі. Пятрок чуў, як ён напружваецца, сапе, схіліўшыся да яго, і не супраціўляўся, толькі пазіраў на вяроўку і думаў: во куды прыгадзілася! То былі ягоныя лейцы. Тады, пры калектывізацыі, старыя аддаў з канём у калгас, а навейшыя прыхаваў у істопцы, часам навязвалі на іх карову, што-небудзь увязвалі на возе, а болей яны віселі на тоўстым цвіку ў сенях. Цяпер імі вяжуць ягоныя рукі. Спатрэбіліся.

Урэшце Каландзёнак завязаў тугі вузел на ягоных руках, другі канец вольна раскінуў у доле па стаптанай капытамі

і развернутай аўтамабільнымі коламі дарозе, і Пятрок аж здзівіўся: нашто? Але тут жа стала ўсё зразумела — з другім канцом у руках паліцай узлез на каня.

— Пайшоў! Быстра! — скамандаваў Гуж, не ад'язджаючы, аднак, ад яго. Ад'ехаў адзін Каландзёнак, лейцы на гразі распрасталіся, напяліся і дужа тузанулі яго за рукі. — Быстра, сказаў!!!

Гуж зноў сekануў яго дубцом па галаве, якую наскрозь працяў боль. Каб не ўпасці, Пятрок змушаны быў пабегчы на гэтай вяроўчыне за Каландзёнкам, які нагамі штурхаў у бакі каня, а Гуж з дубцом у руках паганяў яго ззаду.

— Быстра! Быстра, стары бальшавіцкі корч!

Пятрок не паспяваў, спатыкаўся, кідаўся ў бакі, апоркі вязлі ў гразі, але ўпасці цяпер на дарогу было б яшчэ горш. І ён бег, сігаў, тузаўся на вяроўцы, якая рвала скуру на ягоных руках і цягнула, валакла яго да гасцінца. Твар ягоны зноў замакрэўся ад слёз, якія няспынна студзіў пругкі вецер, што парывіста дзьмуў насустрач.

— Нячысцікі! Гадаўцы! — захлынаючыся ветрам, крычаў Пятрок. — Але пачакайце! Мой Федзька прыйдзе! Сын мой прыйдзе... Ён вам пакажа... Не думайце... Федзька прыйдзе!..

## 22

Пятрок знік, прапаў з гэтага свету, як і для яго прапалі гэты хутар, роў, Сцепаніда, іхнія дзеці Фенька і Федзя — прапаў цэлы свет. І засталіся, можа, успаміны, калі яшчэ было каму ўспомніць ягоныя жыццёвыя пакуты, дробныя і вялікія клопаты. Адны з іх і ён бы не прамінуў забыць — навошта было травіць душу кепскім ці непрыгожым, што назбіралася за жыццё, другое ж хацеў бы помніць. І хацеў, каб трохі помнілі людзі, можа, што згадзілася б і для іх. Бо былі ў тым пражытым разам з горыччу і нейкая непазнаная слодыч, аддалены гук жыцця, а можа, і само жыццё — хто скажа?

...Снег тады валіў тыдзень ад самых Калядаў, а за тры дні да Вадохрышча ўсчалася завея, якой тут не зналі ці не з сатварэння свету. Снегу намяло поўны двор, дзён колькі неяк было вылезці з хаты. Але ж трэба было прынесці вады, прыдбаць дроў, дагледзець скаціну, і Пятрок перш чым адчыніць дзверы ў хлеў, кожны раз мусіў адкопваць іх, каб як прашчаміцца ўнутр. Праз паўгадзіны, аднак, ад яго адкопанак

не заставалася і следу — спрэс у двары грувасцілася некранутая тоўшча тугога, спрасаванага ветрам снегу.

Той дзень, праўда, зверху не сыпалася — болей мяло нізам, надзьмула на падворку даўгую хрыбціну-гурбу — ад дрывотні да самых варотаў хлява, крыху меншую — ля калодзежа і пад тынам. Калодзежны зруб апынуўся ўпоравень з долам, Пятрок ледзьве дабраўся да яго з вядром, але зачарпнуць вады не было як: у зрубе чарнелася вузенькая, бы нара, дзірка-адтуліна. Пятрок пра сабе вылаяўся. Настрой яго быў і без таго кепскі: у хаце толькі што пасварыўся з жонкай — усё праз клопат аб хлебе. Хлеб Сцепаніда ашчаджала, можа, праз меру, дамешвала ў яго бульбу і вотруб'е, і той хлеб ужо неяк стала ўзяць у рот. Хоць, ведама, яна мела на тое прычыну — жыта ў засеку засталося не болей мяшка, а да вясны і першай травы было не меней чатырох месяцаў. Як было не ашчаджаць? Неяк адагнаўшы ад сябе звыклы той клопат, Пятрок прычапіў да калаўрота вядро, але вядро адразу засела ў цеснай снегавой нары, не дастаўшы вады. Тады ён азірнуўся, каб папіхнуць яго чым, якой жэрдкай з плота, ды так і знерухомеў над замеценым зрубам. Цалкам па дашчэнту зараўнянай дарожцы з гасцінца прабіраліся тры цёмныя постаці — марудна ішлі пад вецер, угнуўшы галовы і, мусіць, ступаючы ў сляды пярэдняга. Вецер шалёна курыў ад іхніх ног снегам, нёс яго цераз усё поле да хвойніку, дзе на гасцінцы чарнеліся дзве легкавушкі і ля іх таксама варушыліся людзі. «Ну, пэўна, там замяло, там заўжды замятае ўзімку, асабліва на краі сасоннічку, наўрад ці прайсці тым легкавушкам», — падумаў Пятрок, зняў рукавіцу, высмаркаўся. Цяпер ужо не было сумнення, што тыя здарожаныя з гасцінца кіравалі сюды, да хутара. Трэба было сустракаць гасцей.

Выцягшы з калодзежа лёгкае, са снегам, вядро, Пятрок стуліўся ад ветру і пачакаў крыху, пакуль людзі падыдуць да варотцаў падворка. Пярэдні быў ужо блізка — ладна сігаў шырокім і дужым крокам, на яго плячах чарнелася блішчастая на марозе скуранка, пад пахай ён трымаў такі ж чорны партфель і быў віднейшы за іншых паставай, напэўна, маладзейшы за таго, што ішоў следам. Ужо ля варотцаў Пятрок добра разгледзеў гэтага другога — то быў сярэдняга росту мужчына ў чорным бобрыкавым паліто і высокай, перасыпанай снегам каракулевай шапцы, на яго счырванелым ад ветру

твары відаць былі невялічкія падстрыжаныя вусікі. Трэці быў у даўгім чырвонаармейскім шынялі і шлеме з шырокімі апушчанымі вушамі, падпяразаны дзягай з наганам, што ў такт кроку целяпаўся на правым баку.

— Можна да вас, хазяін? Трошкі абагрэцца? — сказаў пярэдні, у скуранцы, падыходзячы да варотцаў.

— Дык чаму ж не! Такая завея, яно канешне, — сказаў Пятрок, мяркуючы пры сабе, што гэта начальства, і, мабыць, не малое: можа, з вобласці, а то і вышэй.

Ён узяўся за верх варотцаў, але расчыніць іх не было магчымасці, варотцы толькі адхінуліся трохі ў глыбокім снезе, і трое захожых адзін за адным неяк прашчаміліся на падворак. Затым ён прывёў іх у сені, дзе ўсе дружна загрукалі намёрзлымі ботамі, абіваючы снег, і, калі расчыніў дзверы ў хату, з-за занавескі з нейкаю трантай у руках выскачыла Сцепаніда і ажно войкнула, згледзеўшы на парозе столькі незнаёмых мужчын. Тут жа яна шаснула назад у запечча. Якраз другі дзень там ляжала хворая Феня: дужа напаў кашаль, нават была гарачка, і яны не пусцілі яе ў школу — жарты, па такой віхуры брысці ў мястэчка. Федзя быў здаравейшы і хадзіў, а яна ляжала, спадзяваліся, можа, паправіцца. Покуль ён поркаўся па гаспадарцы, Сцепаніда распаліла грубку — але ў хаце было сцюдзёнавата і пахла дымам, дровы разгараліся кепска. Ведама, сырая алешына, якая тлела і дыміла, скупа даючы жару.

Пятрок зачыніў дзверы, госці трохі асвойталіся ў хаце; старэйшы, з вусікамі, каб страсянуць, зняў ля печы заснежаную шапку, пад якой аказалася лысая ці чыста паголеная галава, і сцішана сеў на лаве, паклаўшы локаць на ражок стала. Побач сціпла прысеў вайсковец з наганам — гэты шлема не зняў. А трэці, што быў у скуранцы, згледзеўшы квелы агонь у грубцы, адразу схіліўся да яе, прысеў на нізкі ўслончык.

— Э, кепска гарыць! Растопкі мала, га, гаспадыня?

З запечка выйшла Сцепаніда, без хусткі, але ў сваёй аўчыннай камізэльцы, стрымана азірнула гасцей.

— Дзе ж яе ўзяць, растопку? Сырымі во палім.

— Сырымі гэта не дзела, — сказаў незнаёмы і пырнуў мокрыя камлі ў грубцы. — Сырыя трэба не так накладваць. Не клеццю — шатром нада. Я гэтую навуку некалі ў Сібіры прайшоў... Разгарыцца, нідзе не дзенецца.

Папоркаўшы альховыя камлюкі, ён прычыніў дзверцы — не зусім, а так, каб заставалася шчылінка, азірнуўся на Петрака, які сціпла стаяў пры парозе.

— Хазяін, у калхозе састаіш? Ці аднаасобнік?

— У калхозе, анягож, — звыкла азвалася за гаспадара Сцепаніда. — З першага дня мы.

— Ну і як? Зажытачны калхоз?

— А, які там зажытачны! Беднаваты калхоз.

— Удваіх жывяце?

— Удваіх. І дзетак двое. Сынок у школу пайшоў, а дачушка во прыхварэла, кашляе.

Феня і сапраўды закашляла ў запеччы, у хаце ўсе змоўклі, прыслухаліся. Той, што сядзеў ля стала, за ўвесь час не скрануўся нават, толькі на Феньчын кашаль павёў чорным брывом, зірнуўшы на занавеску-радзюжку ля печы. Гэтак жа маўкліва-роздумна ён пазіраў на Сцепаніду.

— Надвор’ечка такое, што прастудзіцца нядоўга, — сказаў ад грубкі той, у скуранцы. Ён зноў расчыніў дзверцы і тонкай альховай палкай папоркаў у агонь, мабыць, перастройваючы дровы па-свойму.

— Анягож, — лёгка падхапіла Сцепаніда. — Абутак, ведаеце, нягеглы. Валёначак няма, у парваных гамашыках бегае, прастудзіла ногі, цяпер другі дзень гарачка, кашляе.

— Нялёгка даецца навука сялянскім дзецям, — роздумна заўважыў госць і павярнуў голены, з моцнымі пашчэнкамі твар да стала. — А вот жа вучацца. Што значыць цяга да ведаў, да святла.

Пятрок падумаў, што, мабыць, цяпер гэты старэйшы па ўзросту, а можа, і па пасадзе штось скажа, але ён не сказаў нічога, усё моўчкі сядзеў пры стале, пазіраючы ў грубку. На ягоным твары ляжаў адбітак задуменнай нерухомасці, стомы, бы якой глыбокай заклапочанасці. Здавалася, ягоная ўвага была скіравана кудысьці далёка ў нейкія свае клопаты, і ў гэтай хаце нішто яго не цікавіла.

— Нічога, цётка, — болей бадзёра сказаў той, ад грубкі. — Выканаем пяцігодку — будзе і абутак, і шмат што яшчэ. Вальней будзе. А пака трэба работаць.

— Дык мы ж работаем. Стараемся. Не складаючы рук. За панамі так не работалі.

— Нам складваць рук нельга.Міравая буржуазія, яна пільна сочыць. Складзем — тут жа і задушаць.

— Што ж мы, не панімаем? Але во адзецца няма ў што. Даўней дык лён быў, а цяпер увесь лён здаём, а сабе нічога. Каб хоць крамніны якой, дзецям на світачкі, — пачала скардзіцца Сцепаніда, мабыць, ужо зразумеўшы, што перад ёй — начальства. Петраку тое не спадабалася — ну нашто яна? Толькі ў хату чужыя, начальства ці не, а яна ўжо са сваімі клопатамі. Не дасць людзям абагрэцца. Ён зважліва стаяў ля дзвярэй, думаючы, што захожыя самі штось скажуць — лезці да іх з пытаннямі было, мабыць, нягожа.

Але Сцепаніда тым часам, мусіць, зусім асмялела і ўжо скардзілася на тое, што дагэтуль не заплочана людзям за здадзеную па нарыхтоўках воўну, Смык трэці раз абяцае, назначае тэрміны, а грошай няма. Пятрок аж паморшчыўся ад няёмкасці — людзі староннія, можа, з Полацка ці нават з Віцебска, скуль ім ведаць тутэйшыя парадкі, нейкага там упаўнаважанага нарыхтовак Смыка. Лысы ля стала ўсё сядзеў нерухома, нават заплюшчыўшы вочы ад launched ператомы ці, можа, сагрэўшыся ў хаце. Але, аказалася, слухаў і чуў усё і, калі Сцепаніда сказала пра грошы, расплюшчыў вочы і ціха гукнуў таму, што сядзеў ля грубкі:

— Запішыце...

Той расшпіліў партфель і ў сінім невялічкім сшытку напісаў некалькі слоў.

— І гэта... Пад лён даюць самую няўдобіцу, дзе глей, кажуць: вырасце, а які там рост, як засушыць, аберуч не выдзераш, і нізенькі, рэдзенькі, на трэці нумар, не болей...

«Ну, пагнала ўжо! — амаль з болем падумаў Пятрок. — Ужо нагаворыць...»

Госці, аднак, слухалі быццам нават з увагай і не перапынялі. Лысы, ужо расплюшчыўшы вочы, пазіраў на яе быццам бы і без стомы, ва ўпор, хоць і маўчаў. А той, што ў скуранцы, толькі адзін раз перапыніў, спытаўшы, як назва калгаса, і ўжо сам, без напамінку, штосьці пазначыў у сшытку. Мусіць, адчуўшы іхнюю прыязнасць, Сцепаніда выгаварыла шмат што з сваіх крыўд на парадкі ў калгасе, у раёне і нарэшце ўспомніла пра сняданак: «Можа б, зварыць бульбачкі, калі са скваркай?» Лысы ля стала, бы струхнуўшы з сябе нерухомасць, рашуча сказаў «не» і павярнуў галаву да маўклівага, у шынялі, вайскоўца:

— Паглядзіце там...

Той борздзенька выскачыў у дзверы, а трэці, ля грубкі, расчыніў дзверцы, з якіх пыхнула ўмеранай цеплынёй — дровы ўсё ж разгараліся.

— Ну во, бач! Па-сібірску весялей пайшло! — бадзёра зазначыў госць.

Якраз у той час у запеччы зноў закашляла Феня, Сцепаніда падалася за радзюжку, і лысы ля стала трудна ці зморана ўздыхнуў. Калі яна неўзабаве выйшла адтуль, суняўшы дачку, той, што быў у скуранцы, устаў з услончыка і, здалося, адгарадзіў паўхаты сваей шырокай спінай.

— Трэба ж лячыць дзіця. Доктара прывозілі?

— Дык дзе ж па такой завеі. Можа, сама як ачуняе. Дрэнна во, што малака няма, карова запусціўшыся, а болей не есць нічога.

— Гэта кепска. Мёду нада купіць.

— Гэ, каб жа было за што, — стрымана паскардзілася Сцепаніда.

Неўзабаве, дужа тупаючы ў сенцах, увайшоў вайсковец і нешта сказаў. Той, што сядзеў ля стала, адразу падняўся, пачаў зашпільваць на аплік каўнер, паліто, але затым расшпіліў яго і расшпіліў усе гузікі на грудзях. Петраку не было відаць, што ён дастае адкуль, другі, у скуранцы, якраз загарадзіў яго, але неўзабаве ён здагадаўся. Сцепаніда няпэўна прамовіла: «Не-не! Што вы, не трэба, — але тут жа пачала дзякаваць раўнейшым голасам: — Спасібачка вам, калі так...»

— На малако і лякарства, — ціха зазначыў старэйшы.

На яго лысай галаве ўжо сядзела высокая чорная шапка, ён захінуў паліто і скіраваў у дзверы. Пятрок саступіў убок, у самы качарэжнік, і гатовы быў праваліцца ў зямлю ад сораму — навошта яна ўзяла? Як жабрачка якая — ад незнаёмых, ды яшчэ, пэўна, начальства, хоць бы і на лекі дзіцяці, але ж ці гэта прыгожа?

— Дзякуй вам. А як жа аддаць? Каб хоць знаць, каму, — трохі абянтэжана казала Сцепаніда, ідучы следам.

— Аддаваць неабавязкова, — цвёрда сказаў мужчына ў шапцы.

— Але ж доўг!..

— Невялікі доўг.

— Ведаць каб хоць, адкуль вы?

Той, у паліто, ужо выходзіў у сенцы, за ім пнуўся ў дзверы другі, што быў у скуранцы. Вайсковец, які ішоў апошні, прапусціўшы іх, крадком азірнуўся і ціха гукнуў у хату:

— З Мінска. Таварыш Чарвякоў.

Сцепаніда на момант знерухомела з заціснутым у кулаку чырвонцам, а Петрака нібы абдало жарам: ну і ўпарола жонка! У каго напрасілася на міласціну! То ж сам кіраўнік рэспублікі. А яна пра лён, пра грошы... Але госці выходзілі з сенцаў, і, хоць было страшэнна няёмка, ён мусіў праводзіць іх. Нягожа было выпраўляць людзей, не давёўшы хоць да варотцаў.

На падворку ўсё мяло, у паветры вісела смуга, але на свежым снезе было відно далёка. На гасцінцы пад хвойнічкам стаялі дзве легкавушкі, і ля іх чарнелася некалькі постацей — мусіць, дарогу там усё ж адкапалі, можна было ехаць.

Ля варотцаў, павярнуўшыся ад ветру, Чарвякоў спыніўся.

— Дзякуй за абагрэўку, гаспадар. Здароўя тваёй дачцэ, — сцішана пажадаў ён.

Пятрок разгублена стаяў, не ведаючы: кланяцца, дзякаваць, ці як? У яго ажно адняло мову, і ён нічога сказаць не мог. Тады Чарвякоў спытаў нешта ў свайго памочніка, і той удакладніў:

— Прозвішча як тваё?

— Багацька, — сказаў Пятрок і сумеўся, упершыню пасаромеўшыся ўласнага прозвішча — так недарэчы прагучала яно на гэтым нехуцавым, заваленым снегам падворку.

— То багатага жыцця, таварыш Багацька, — пажадаў напаследак старшыня ЦВК, і ўсе, угнуўшы галовы, пачалі прабірацца па сваіх ранейшых слядах да гасцінца.

Пятрок сумеўся і зноў не адказаў нічога, толькі пазіраў на гэтых людзей і ў думках паўтараў узрушана: «Дзе ўжо багата!.. Дзе ўжо багата!..» Ранейшы нязбыўны клопат апанаваў яго з новаю сілай — жыта ў засеку заставалася пуды з чатыры, з хлебам, можа б, як і дацягнуў да крапівы і шчаўя, каб было болей бульбы. Бульба, аднак, канчалася, неўрадлівае было лета на бульбу, вымакла ад дажджоў, пагніла пад каліўем. Невядома, як было дажыць да новай?

## 23

Неяк, аднак, дажылі да вясны, не сытна — больш голадна, але дачакаліся цёплых дзён і зялёнай травы. Сцепаніда з першай крапівы налаўчылася варыць нейкае варыва, якое, калі яго добра засмажыць салам, можна было і есці. Горш было з хлебам. Але старшыня калгаса Багацька Лявон ухітрыўся дадаткова размеркаваць на працадні тры бурты леташняй бульбы, і Пятрок прывёз к Першамаю калёсы прарослых, абвялых, як порхаўкі, клубняў. Нічога, елі, мяшалі з ячменнай мукой на лапуны, хоць ячмень таксама ашчаджалі на крупы.

Нарэшце ў самую сілу ўвабралася лета, маем прайшлі спорныя, з навальніцай дажджы, і азіміна нават на глеі і пагорках дружна шыбанула ў рост. Жытное было якраз на гэтым баку гасцінца, ля рова і хутара і далей па ўсёй Галгофе. Часам, калі выпадала вальнейшая хвіліна, Пятрок подбегам кідаў вокам на поле і радаваўся: добрае мелася быць у тым годзе жытное. Калі не засушыць улетку, не залье на Ілью, дастаіць сухое да Спаса. А сенакосы дык былі ўжо гатовы, ужо Лявон сабраў мужчын на «пробу касы» ў Бараннім Лозе ля рэчкі. З нязвыкласці ці ад недаедку Пятрок аж задыхаўся, заняло ў грудзях, пераняло дыханне, але ён ведаў: гэта спярша, пасля пройдзе, калі ўцягнецца, — няўжо ж ён горшы, чым другія мужчыны. Вунь і Лявон хоць і з двума пальцамі на руцэ, а як зашчэміць паміж імі касільна, дык махае касой як апантаны. Тут ужо дзейнічае мужчынскі гонар — ніхто не хоча аказацца слабейшым, кожны пнецца за іншымі з апошняй магчымасці. Тым суботнім адвячоркам разбілі дзялянкі, вырашылі, якія і дзе пойдуць брыгады, дамовіліся назаўтра, у нядзелю, пачаць на зары і касіць, пакуль прыпячэ сонца. Лявон наказаў увечары накляпаць добра косы і каб ніхто не пазніўся, у канцы дня меліся падвесці вынікі, і якая брыгада скосіць больш, тую тады — на чырвоную палавіну дошкі, а тую, што менш, — на чорную. Другой брыгадзе выпаў якраз лягчэйшы, ад ельніку, бераг поплава, трава там была ніштаватая, але і не дужа высокая, меліся пэўныя шанцы абагнаць трэцюю брыгаду гразёўцаў і папасці на чырвоны бок дошкі.

На тым і разышліся позна ўвечары з псаломшчыкавага падворка, дзе гады тры як асталявалася кантора калгаса. Пятрок спяшаўся ў сваю Яхімоўшчыну, бо трэба было паспець накляпаць касу, мянташка ж у яго была дужа кеп-

ская — кавалак бруска, бы абмылак, заціснуты ў драўляныя тронкі, — такім пакуль наменціш касу, іншыя абыдуць цябе далёка. Але Лявон паабяцаў: ранкам згойсае ў мястэчка і прывязе паўсотню брускоў на ўсіх, у сельпо ўжо заплочаны грошы, будзе без ашуканства. Конна гэта гадзіна часу, і справе канец.

Паспадзяваўшыся на новую мянташку, Пятрок не ўзяў свой стары «абмылак» і, пачаўшы касіць, хутка адчуў, што каса пачынае тупець, а Лявона з мянташкамі яшчэ не было. Мужыкі прайшлі ўжо два пракосы, ужо над ельнікам паднялося сонца, раса, праўда, яшчэ трывала ў густой траве, якая добра клалася ў пульхны выгінасты рад. Пятрок усё часцей паглядваў на беражок ельніку, з якога на поплаў выбягала дарожка — ці не пакажацца старшыня з торбай мянташак. Ды ўсё марна. Пад сняданак ужо, калі з касцоў сцякло добра поту і замакрэлі зрэбныя і кужэльныя спіны, з ельніку выбег і стаў, нібы чагосьці спалохаўшыся, меншы Лявонаў сынок Мацейка. Пятрок падумаў спярша, ці не прыслаў яго старшыня з брускамі, ды ў руках у хлопца не было нічога. Калі ён падышоў бліжэй і нехта з касцоў грубавата запытаўся пра бацьку, хлопчык гэпнуўся задам у траву, затуліў твар рукамі і затросся ў бязгучным плачы.

— Што такое? Што з табой?

— Бацьку... ноччу... забралі...

Касцы знерухомелі, бліжнія моўчкі ўторкнулі ў пожню косы, дальнія яшчэ дакошвалі рады, але па адным ішлі да ельніку — ужо зразумелі, што сталася. Лявона Багацьку? За што?

Неяк супакоілі хлопца, нядружна, напаўсілы дакасілі да снедання, хоць болей сядзелі, курылі, скупа выказвалі рознае. Некаторыя цвярдзілі: памылка, ужо Лявона не возьмуць, бо ён жа не вораг, не ўрадзіцель, ніколі не ішоў напроціў, некалі пацярпеў за Савецкую ўладу. Ясна, што тут недагляд, памылка, каму трэба, разбяруцца і праз дзень-другі выпусцяць.

Калі Пятрок прыплёўся з касою дамоў, Сцепаніды ў хаце яшчэ не было, не прыйшла яна і ў полудзень, і ён не ведаў, куды яна знікла, па якой патрэбе. Здарэнне з Лявонам збянтэжыла ўсіх, бы аглушыла, людзі не ведалі, што думаць і што рабіць. З паўдня Пятрок на касьбу не пайшоў — у яго апусціліся рукі, зноў жа ён надта трывожыўся за Сцепаніду, думаў: хоць бы не забралі і яе.

Сцепаніда прыбегла надвячоркам — задыханая, спатнелая, без хусцінкі на раскудлачанай галаве, у прапацелай паркалёвай кофце — аказалася, яна ўжо збегала ў мястэчка, у райкам, міліцыю, дазнавалася, завошта — Лявона? Ды марна. Ніхто ёй не сказаў нічога, усе ваўкавата маўчалі, яна пасварылася са старшынёй выканкама Капустай, якога прасіла заступіцца, ды той сказаў — не. На падворку стомлена ўпала на прызбу, паныла адказала на ўзрушаныя Петраковы пытанні і пасля роздуму, трохі супакоіўшыся, аб'явіла:

— Нада збіраць подпісы.

— Якія подпісы? — здзівіўся Пятрок.

— За Лявона. Што ён свой, бальшавік, не ўрадзіцель.

Пятрок падзівіўся, падумаў.

— А тады што?

— А тады падаць у НКВД. Хай паглядзяць.

Той жа вечар у Феньчыным сшытку пісала нешта старонках на трох і, прыхапіўшы хімічны аловак, пабегла ў Выселкі. Хутка мелася прыйсці з пашы карова, трэба было даіць, а гаспадыня знікла да поўначы. Аббегала ўсе двары ў Выселках, вярнулася ноччу маўклівая і ўзрушаная і, што-нішто зрабіўшы па гаспадарцы, паваліліся спаць. Пятрок таксама лёг позна, хоць назаўтра планавалі расчаць новую лугавіну за ельнікам, ісці туды было няблізка, уставаць трэба было яшчэ раней. Падняўся, як толькі пачало днець, толькі засінелася неба на ўсходзе, а Сцепаніды ўжо не было, пабегла ўжо. Карову мелася выгнаць Феня, але Феня так салодка спала, што Пятрок памарудзіў браць касу, выгнаў карову сам. Але ж адчуваў, што гэта непарадак, гэта разарэнне для гаспадаркі, калі ад яе адцуралася гаспадыня.

І праўда, што адцуралася. Якіх дні тры Пятрок яе быццам не бачыў на хутары, толькі мільгне дзе, ранкам ці ўвечары, а так усё на нагах. Аббегала тры вёскі і, праўда, назбірала нямала подпісаў, — Лявона шкадавалі, быў ён чалавек свой, памяркоўны, не злосны і не помслівы. Ніхто не мог паверыць, што ён вораг ці які ўрадзіцель. Людзі не разумелі, завошта яго ўзялі ў такі час, пакінулі калгас без кіраўніцтва. Праўда, кіраваў гаспадаркай брыгадзір трэцяй брыгады Аўтух з Заграззя, і дзіва — чалавек, які быццам няблага ладзіў са старшынёй, ніколі быццам з ім не сварыўся, падпісаць хадайніцтва за Лявона адмовіўся: «А скуль я ведаю, урадзіцель ён ці не. Калі органы ўзялі, дык нешта знаюць». Сцепаніда не дужа

ўгаворвала, раззлавалася, абазвала яго ваўкалакам, як часам звалі Аўтуха па злосці, і пабегла цераз лес у раён.

Адтуль яна вярнулася не хутка, ужо гналі з пашы кароў, і Пятрок толькі прывалокся з касьбы, здавалася, сам без рук і без ног, стомлены і злосны — на жыццё, жонку, работу. Маўкліва адкроіў лусту сала з кубёлка, адламаў кавалак калючага, з мякінай, хлеба — дужа хацелася есці, ажно калаціліся ногі ў каленях. І тады ўбачыў на падворку жонку. У панылай знясіленасці Сцепаніда паціху клыпала ад варотцаў, дужа кульгаючы на адну нагу, і ён успомніў: дні два таму жалілася, што баліць пята, мусіць, занозіла дзе — ведама ж, з Вялікадня босая, бегае па палях, пожнях, лясах, а цяпер яшчэ і па вёсках. Сцепаніда паваліласся, ледзьве дабрыўшы да прызбы, трохі пасля Пятрок падышоў да яе, коўтаючы ў бяззубым роце цвярдую скарынку.

— Ну што? Што сказалі?

— Во! Вярнулі, — яна кінула на прызбу складзеную ў чатыры столкі паперыну.

— Ай-яй! Што ж рабіць?

— А я знаю?

Яна спрабавала ўстаць і тут жа асела долу — пята балюча нарывала, без кія Сцепаніда ўжо не магла перайсці ў хату. У той вечар яна нават не даіла карову, неяк падаілі Пятрок з дачкой, пасля Пятрок нарваў пад парканам лісця дзядоўніку і абвязаў ім распухлую, гарачую ступню. Сцепаніда стала нязвыкла раздражнёнай, усё ёй было няўлад, яна каротказлосна гыркала то на яго, то на Феню, але Пятрок разумеў і не крыўдзіўся: ведаў, бяда дабрэйшай не робіць. Ён сам пазаганяў курэй, накарміў парсюка, прынёс суды вады з калодзежа і толькі прылёг на лаве ў сенцах, дзе спаў гэтыя дні, як Сцепаніда гукнула з запечча:

— Пятрок, хадзі сюды.

Перасільваючы страшэнную стому, ён неахвотна ўстаў, праз расчыненыя дзверы прывалокся да яе ў споднім.

— Пятрок, трэба з’ездзіць у Мінск, — ціха, але цвёрда сказала яна.

— У Мінск?

— Ага. Да таварыша Чарвякова.

Пятрок ужо здагадаўся, у чым справа, і маўчаў як аглушаны — не жартачкі, у Мінск. І ехаць яму, чалавеку, каторы

і ў Полацку быў усяго тры разы і то два з іх — калі быў маладзейшы, яшчэ за царом. Але ж і яна не можа, сам бачыў, куды ёй з такою нагой, а Лявона папраўдзе было шкада. Як не памагчы чалавеку? Але і памагчы немаведама як.

— Заўтра і паедзеш. Два чырвонцы я пазычыла ў Карнілы. Сама хацела, ды во...

— Але дзе я там знайду Чарвякова? Мусіць, няпроста: горад.

— А там жа ёсць Дом урада. Пісалі ж газеты, што паставілі Дом урада. Значыць, там і Чарвякоў.

— Гм... Але куды ісці? Што я... Не быў жа ні разу.

— Во і пабудзеш. А што! Спытаеш. Людзі пакажуць. А то што ж, прападаць чалавеку?

Пятрок маўчаў. Кепска, канешне, калі прападае харошы чалавек, шкада яго. Але і сябе таксама шкада, бо чорт яго ведае, дзе той Мінск, дзе Дом урада, як туды трапіць? Чуў некалі ад мужчын, што трэба ехаць на Оршу, там перасадка, трэба купляць білет — хоць бы ведаць, колькі гэта каштуе. Мусіць, нямала. Пятрок проста быў ашаломлены тым, што на яго абрынула гэтым вечарам жонка. Але ён ведаў, што калі яна ўжо надумалася, дык не адступіць.

Прыйдзецца ехаць.

— І не кажы нікому. Калі што, брыгадзіру скажу — да доктара. Бо хворы.

— Але ж...

— Ну што — але ж? Ён жа нам бытта знаёмы, Чарвякоў. Можа, заступіцца. Убачыш, напомні, як зімой, на Вадохрышча, грэцца заходзілі. І чырвонец пазычыў. Во і аддасі.

— Яно так. Але ж...

Дужа не хацелася яму выпраўляцца ў тую нязнаную дарогу, на край свету — у Мінск, да старшыні ўрада. Проста браў жах, як спрабаваў уявіць сабе, што з тым звязана.

## 24

Праз дзень ранкам Пятрок вылазіў па крутых сходцах з вагона на людным пероне ў Мінску.

Адной рукой ён дужа трымаўся за слізкі жалезны поручань, а другой не менш моцна сціскаў старанна звязаны матузком кужэльны мяшэчак з сякім-такім харчам: абцяру-

шаным кавалкам хлеба, лустай сала, цыбулінай і двума крута зваранымі яйкамі. Яшчэ там было трохі солі ў паперцы і на сподзе ляжаў стары счарнелы складанчык з напалову abламаным лязом. Апранута на Петраку было ўсё лепшае для такога выпадку: не новыя, але чыстыя картовыя штаны, вымытая Сцепанідай сацінавая кашуля, трохі, праўда, залапленая ля каўняра ззаду. Але лапікла таго не было відаць, бо на плячах быў надзеты руды, даматканага сукна пінжак, у нутраной, зашпіленай кішэні якога ляжала Сцепанідзіна хадайніцтва з дваццацю сямю подпісамі. Там жа быў і чырвонец. Другі чырвонец ён размяняў у Леплі, як купляў білет у вагон; рэшту трэба было ашчаджаць, каб вярнуцца.

Так ён памалу клыпаў па людным пероне сярод нязвыклай для яго людской гаманы і беганіны, скаланаючыся ад раптоўных паравозных гудкоў і знянацкага чмыхання пары з-пад абмазучаных вагонных колаў. Галава яго была бы ў п’янага — аж гуло ў ёй і круцілася, і ён не разумеў, ці то ад бяссоннай начы ў перапоўненым людзьмі вагоне, ці ад гэтай гарадской калатнечы. Галоўнае — ён не ведаў, куды падацца з вакзала, і добра, што ў вагоне трапіўся чалавек з Халопеніч, які і паказаў, куды яму трэба рушыць. І Пятрок скіраваў ад вакзала вузенькім тратуарам, беручы бліжэй да будынкаў, часам аж натыкаючыся на бляшаныя трубы, што тырчэлі на сценах. Але ён баяўся апынуцца на краі, бо па бруку раз за разам з грукатам і лязгам несліся трамваі — не дай Бог наедзе — так і трыбухі вон. Таму ён ціснуўся да камяніц з бясконцым чаргаваннем дзвярэй і акон, у некаторых былі выстаўлены нейкія тавары, але ён не глядзеў на іх. Неяк з дзвярэй шыбанула чымсь смачным, і ён аж спыніўся, глянуў, здаецца, то была сталоўка: за невялічкімі столікамі сядзелі па чатыры чалавекі і елі штосьбелае на талерках, мабыць, пшонную кашу. У другім месцы пачалі трапляцца людзі насустрач, што неслі свежыя буханкі хлеба, некаторыя часам адломвалі ад іх скарынкі і крадком на хаду жавалі. Далей уздоўж нізкай абшарпанай будыніны выцягнулася шумная гаманкая чарга, пачатак якой хаваўся ў расчыненых дзвярах з вялізнымі літарамі «Хлеб» на шыльдзе. Пятрок аж падзівіўся: столькі народу, і ціха прайшоў па бруку, амаль страхавіта мінаючы той чалавечы гармідар. Далей па вуліцы і на тратуары было вальней. Яшчэ праз невялікі час, не дайшоўшы, аднак,

да павароткі, дзе халопеніцкі чалавек наказваў павярнуць управа, ён адчуў, што зрабіў памылку, абуўшы ссохлыя за вясну боты, якія цяпер страшэнна мулялі ў пальцах, аж нешк было ісці. Знаў бы, дык паехаў бы лепш босы. Але босых тут не было відаць, усе ішлі абутыя, не тое што ў вёсцы. Ды і Сцепаніда насела: абуй боты, нягожа цяпер у горадзе босым. І во абуў на сваю пакуту.

Але неўзабаве ён забыўся на боты, мо прыцярпеўшыся, а мо ад здзіўлення, якое ахапіла яго на рагу дзвюх вуліц, як ён убачыў той гмах — шэрую, не зразумець, на колькі паверхаў, будыніну, цэлае нагрувашчанне камяніц з аднолькавымі вокнамі, але няроўных памераў і няроўна пастаўленымі фасадамі — то бліжэй, то далей ад вуліцы, з аграмадным пляцам-дваром пасярэдзіне і вялізнаю, з настольнік, палатніной сцяга паверсе. Там жа, пад дахам, быў і каменны герб Беларусі. Ну ведама, то быў самы галоўны дом Мінска, дзе засядаў урад.

Пятрок замарудзіў хаду: трэба было сабрацца з духам, набыць рашучасці. Гэта ж не сельсавет і не райвыканкам, дзе ступіў тры крокі з вуліцы — і ты ўжо ў дзвярах, на парозе. А тут? Перш трэба было адгадаць, дзе тыя дзверы ці, можа, вароты, каб падысці да іх. Але ж там, пэўна, ахова, ці яна пусціць яго без дакументаў? Трэба будзе прасіцца. Усё болей пабойваючыся і трацячы невялікую сваю рашучасць, Пятрок памалу ішоў уздоўж дома-палаца і ўсё ўзіраўся ў прыступкі, дзверы, якіх тут было замнога нават для такога гмаху. Да якіх падысці? Ён думаў, што, можа, хто скіруе туды з вуліцы, тады б і ён павярнуў следам, але з вуліцы ніхто туды не скіроўваў, усе ішлі ўдоўжкі па тратуары. Невядома, колькі мінула часу, але сонца, напэўна, недзе ўзышло, толькі ці яго тут убачыш сярод камяніц. У доле скрозь ляжаў густы і прахладны, нібы ў ельніку, цень.

Так, нічога не вырашыўшы і ні на што не наважыўшыся, Пятрок мінуў шырокі падворак-пляц, пратупаў яшчэ крыху і ўбачыў збоку дужа прыгожы, змураваны з чырвонай цэглы касцёл. Іншы раз ён бы палюбаваўся гэткай спрытнай збудоўкай, але не цяпер. Заклапочаны, ён памацаў пад шпількай Сцепанідзіну паперыну, хацеў быў закурыць, але захваляваўся, павярнуўся і зноў пайшоў да Дома ўрада.

На гэты раз ён не дужа разглядваў яго і не выбіраў прыступкі — ён павярнуў да тых, што былі насупраць пад радам

зашклёных дзвярэй. На прыступках і ля дзвярэй было пуста, але, прыгледзеўшыся, Пятрок заўважыў за шклом штосьці белае, якое спярша памалу варушылася, а затым насцярожана знерухомела. То быў міліцыянер, Пятрок пазнаў яго па белай кашулі, перакрэсленай наўкось чорным паскам ад рэвальвера, белай, з зоркай, фуражцы на галаве. Стала відаць, як міліцыянер з-за шкла з вялікаю ўвагай сочыць за Петраком, які ўжо выйшаў на сярэдзіну падворка, аднак усё болей замаруджваючы сваю хаду. Вялікім намаганнем ён прымушаў сябе ісці, але ногі кепска падпарадкоўваліся яму, упарта наравілі павярнуць убок, туды, дзе было многа людзей і куды не дасягаў позірк міліцыянера. І так сталася, што ногі перамаглі, збочылі ад прамога кірунку. Пятрок перастаў камандаваць імі і сам з вялікай палёгкай падаўся прэч з падворка да вуліцы, на тратуар.

Тут ён скінуў з сябе напружанне, уздыхнуў, адчуў, што ўвесь мокры ад поту, нібы на тым пракосе ў Баранні́м Лозе, і некалькі часу ішоў па вуліцы, мала што прыкмячаючы навакол. Ён праклінаў сябе за нерашучасць, за тое, што ўлез у гэту справу, дакараў за гэткі дурны характар і ўгаворваў не хваляваціца, не баяцца дужа. Ну што яму той міліцыянер? Хіба ён ішоў сюды з кепскім намерам? Ён папытаць проста, як дайсці да таварыша Чарвякова ці хоць бы перадаць яму тыя паперы. Што ён, па сваёй волі гэта ці гэта яго інтарэс? Ён жа выканаўца агульнай справы, па даручэнні сяльчан. Сам ён тут амаль што староннi. Перадасць і пойдзе назад, чаго хваляваціца? І тым не менш не мог суняць страхавітага хвалявання і мог сысці немаведама куды ў гэтым горадзе і згубіць Дом урада. Пятрок спыніўся, трохі расслабіў правую нагу, якую, пэўна, ужо намуляў дашчэнту, рукавом пінжака выцер пот з твару. Не, усё ж ён падыдзе да міліцыянера, каб толькі спытацца, і нічога болей. Нашто баяцца.

Пятрок зноў пашкандыбаў да будынка-гмаху, стараючыся не звяртаць увагі на бот, які па-ранейшаму націраў пальцы. Як на тую бяду, да яго падступілася і ўсё болей пачала турбаваць звычайная чалавечая патрэба, але цяпер было не да яе, і Пятрок трываў. На рагу будынка, аднак, ён замарудзіў крок, каб не адразу сунуцца на пляц-падворак. Але ўсё ж сунуўся, прамінуў кветнік у доле і павярнуў да прыступкаў, баючыся нават зірнуць туды. А як зірнуў, дык зноў ледзь не

спатыкнуўся: ля тых самых дзвярэй на ганку стаялі аж два міліцыянеры ў белым і моўчкі на ўсе вочы глядзелі на яго, бы толькі яго і чакалі. Пятрок, нібы заяц у зімовым полі, апісаў на асфальце крутую пятлю і ледзь не подбегам вярнуўся на вуліцу. Пакуль мінаў Дом урада, стараўся надаць сабе выгляд чалавека, у якога процьма немалаважных спраў і якога тут зусім не цікавіць нічога.

Мала што заўважаючы навакол, ён адышоўся далёка за чырвоны касцёл і ўжо не спыняўся. Спыніцца — значыла для яго павярнуць назад, зноў да Дома ўрада, а вяртацца ў яго ўжо не ставала сілы. Зноў жа ягоная патрэба вымагала пэўнага месца, якога ён нават не ведаў, дзе тут шукаць. Ён толькі дазволіў сабе дастаць капшук і згарнуць цыгарку. Закурка трохі супакоіла яго, і Пятрок не першы ўжо раз, але дужа выразна падумаў: нашто ён паехаў сюды? Зажыве нага, хай бы Сцепаніда і ехала. Яна бойкая, яна не сумелася б перад міліцыянерам. Яна ж брала чырвонец, які немаведама як аддаць, янаназбірала тых подпісаў, з якімі немаведама што зрабіць.

Даўшы сабе невялікую палёгку, ён пакурыў трохі, аддыхаўся ад нядаўняй страхавітай няёмкасці і так памалу ішоў людной вуліцай, цікуючы па яе баках. Абапал грувасціліся то нізкія, то высокія будынкі з беззліччу вокнаў, балконаў, шыльдаў, у абодва канцы грукацелі набітыя людзьмі трамваі. Неяк угары над адным з іх густа пасыпаліся іскры, і Пятрок аж спалохаўся: загарыцца! Але не загарэўся, і ніхто на вуліцы быццам і не заўважыў таго, усе беглі сабе, занятыя ўласным клопатам. Тым часам ранак, мусіць, перайшоў на дзень, над дахамі закапцелых камяніц ускацілася спякотнае сонца, засень на тратуары зусім звузеўся, і так прыпякло, што хоць плач. Пятрок, колькі было змогі, трываў, хоць яму было ўжо не душна, а горача ў суконнай адзежыне, але ён не знімаў пінжака — усё ж баяўся за паперу і грошы. Ён кульгава ішоў людной вуліцай трохі ўніз паўз трамвайныя рэйкі, што ўвесь час беглі поруч і дужа блішчэлі пад сонцам, пратупаў далёка, упарта думаючы: недзе ж павінна быць якая разрыўка, кусцікі, раўчук ці пустка, якія б яму спатрэбіліся. Але вуліца ніяк не канчалася, абапал бясконцымі радамі цягнуліся дамы — вялікія, меншыя, часам аднапавярховыя, як у мястэчку, затое паміж вялікіх цагляных гмахаў. І скрозь — вокны і дзверы, вокны і дзверы. У некаторыя можна было зайсці з тратуара,

там штось прадавалася, але Пятрок толькі кідаў туды заклапочаны позірк і не заходзіў. Нага балела ўсё болей, ступню ён стаўляў цяпер бокам і лаяў сябе, што не памазаў боты, ад дзёгцю яны б сталі мякчэйшыя і, можа б, меней мулялі. Але спяшаўся ў Лепля, каб паспець на цягнік, а цяпер пакутуй. Не на жарт ён пачаў хвалявацца, бо ішоў час, а таго, што шукаў, нідзе не было відаць. Аднаго разу заглянуў у смярдзючы пад'езд з абадранымі аб вазы сценамі, але ў двары былі дзеці і жанчыны, адна вешала на вяроўцы бялізну і дужа цікаўна паглядзела на яго. Ад няёмкасці ён моўчкі павярнуў назад і хуценька выйшаў на вуліцу. Добра, што нічога не запыталася, што б ён адказаў ёй?

Наперадзе па той бок вуліцы зазелянелі высокія дрэвы, мусіць, нейкага сквера, ён трохі прыспешыў крок, але неўзабаве зноў пайшоў цішэй — там таксама было поўна людзей, што сядзелі на лаўках, чыталі, побач гулялі малыя, іншыя проста шпацыравалі па цяністых дарожках. Насустрач па вуліцы ішла маладая жанчынка, трымаючы ў адной руцэ павадок з лахматым сабачкам, а ў другой — распушчаны над галавой парасон, і Пятрок падзівіўся: было ж так сонечна, ніводнай хмаркі на небе. Ён пастаяў трохі, паазіраўся і зноў пакутна пакульгікаў туды, дзе вуліца пераломвалася на пагорку і збоч сквера за ладна расфарбаваным дамком з прыгожымі вокнамі зноў высіўся шэры гмах, вельмі падобны на Дом урада. Па гэты ж бок вуліцы цягнуўся высокі дашчаны плот, за якім быў відаць немалы двор з вялізнымі каштанамі над пакатым дахам. Вароты ў двор былі шырока расчынены, хоць там нікога не было відаць, толькі чуваць — лілася-цякла вада. Пятрок нясмела зазірнуў з-за пахілага шула — збоч ад каштанаў, у густым цяні дрэў тырчэла металічная тумба-калонка, ля якой поркалася цыбатая дзяўчынка ў стракатым сарафаніку. Далей віднеўся нейкі хлявок, цямнеліся зараснікі бэзу, дзядоўнік у доле, падобна, там магло быць тое, што яму цяпер было трэба.

Як ён увайшоў, дзяўчынка адразу ўскочыла ад меднага таза з мыльнай вадой, у руках у яе былі зграбныя маленькія апранашкі, мабыць, ад лялек, жвавыя вочкі дзіцяці ўсмешыста ўставіліся ў яго.

Пятрок падышоў бліжэй і сказаў першае, што набрыло ў галаву:

— Ці можна напіцца каб?

— Можна, — ахвотна адказала дзяўчынка ў стракатым сарафаніку, з якога выглядвалі худзенькія загарэлыя плечы.

Пятрок думаў, што яна пабяжыць у хату па конаўку ці які кубак, а яна тут жа хуценька нешта ўзяла з бруку, цісканула рычаг тумбы-калонкі — долу празрыстым струменем палілася вада.

Ён ашчадна ўзяў з яе мокрых пальчыкаў белы сцюдзёны кубак, піць зусім не хацелася, але во прыйшлося, і, аддаючы кубак, ён ліхаманкава матлянуў позіркам па зарасніках ля хляўка. Здаецца, не памыліўся: сапраўды наводдаль была прыбіральня.

Дзяўчынка запыталася пра нешта, але ў яго ўжо не ставала трывання. Стараючыся спакайней, але ўсё ж, мабыць, подбегам ён шыбануў па сцежцы, зарослай абапал дзядоўнікам.

Калі ён вяртаўся, дзяўчынкі ў двары не было, ля калонкі стаяў яе медны таз, ад якога дробна брукаванай канаўкай цякла па схіле вада. Пятрок трохі парадаваўся — усё ж было нялоўка перад гэтай гарадской малечай, і ён адчуў сябе амаль шчаслівым, калі апынуўся ўрэшце на знаёмай вуліцы. Але тут яго зноў апанаваў клопат: што рабіць далей? Усё ж надта вымагала справа, дзеля якой прыехаў, няўжо ж ён такі недалэга, што паедзе дамоў ні з чым? Што ён скажа тады Сцепанідзе? Што скажа Сцепаніда яму, ён добра ведаў.

З узноўленай горкай рашучасцю ён патупаў па той жа спякотнай старане вуліцы ў процілеглым напрамку. Ужо цвёрда наважыўся: няхай хоць што будзе, а ён падыдзе да міліцыянера і запытае. Ужо не арыштуюць яго за тое, можа, і не аблаюць нават, хоць аблаяць было б за што. Але ён ветліва папытаецца, як пабачыць таварыша Чарвякова, калі не зараз, дык, можа, пасля, ён пачакае. А калі зусім нельга пабачыць, дык, можа, таварыш міліцыянер перадасць старшыні ўрада сялянскае хадайніцтва за свайго старшыню калгаса. Харошы ж быў старшыня — і парцейны, і гаспадарлівы, за што яго арыштоўваць? Гэта ўсё свае, мясцовыя начальнікі, хіба яны разумеюць? Але таварыш Чарвякоў павінен разабрацца, ён жа чалавек душэўны і мае вялікую ўладу. Няхай ён іх пакарае. Зноў жа доўг, які трэба вярнуць. Пятрок не такі чалавек, каб скруціць грошы, такога за ім яшчэ не было. Ды і Сцепаніда таксама. Да чаго іншага бывае ўсялякая, а што да капейкі, дык тут яна дужа акуратная. Вылузнецца, а аддасць, калі пазычала.

Па-ранейшаму дужа кульгаючы, дашчэнту спатнелы пад тоўстым суконным пінжаком, з кужэльнай тарбінкай у руцэ, Пятрок прамінуў чырвоны касцёл і набліжаўся да рога тае запаведнай і страхотнай будыніны. З шырокага падворка наперарэз яму, аж напалохаўшы, выкацілі дзве легкавушкі, ён ледзьве паспеў адскочыць убок, слізгануўшы па іх позіркам. Але не, Чарвякова там не было. У пярэдняй сядзелі мужчына з жанчынай, а ў задняй некалькі вайскоўцаў — у фуражках, гімнацёрках з рамянямі-партупеямі на плячах, — некуды шпарка пакацілі, абмінаючы трамваі на вуліцы. На пляцы-падворку было па-ранейшаму пуста, ні ля дзвярэй, ні за шклом не відаць было ні душы, і Пятрок аж сумеўся: ці не прыйдзецца пхнуцца ў дзверы, у нетры гэтай будыніны? Канешне, лепей было папытаць ранкам, тады хоць было ў каго. А цяпер? Стаяць, стукацца ці самому расчыняць дзверы?

Дужа паволі, нібы абмацваючы падэшвамі кожны прыступак, ён падняўся на шырокі каменны ганак і падышоў да бліжніх дзвярэй. Спярша зірнуў праз шкло, каб убачыць каго ўнутры, і аж схамянуўся ад сполаху: такі нехуцавы чалавек пазіраў на яго з-за шкла — аброслы сіваю шчэццю твар, засмяглыя, крыўдліва пакрыўленыя вусны, страхавіта раскрытыя вочы; сіняя кашуля на грудзях была ўся мокрая ад поту, пот сцякаў па твары, і мутная кропля вісела на канцы недаўгога, бульбінай носа. Пятрок абцёрся, нясмела крануў шырокую ручку дзвярэй, патузаў, ды дзверы не скрануліся нават. Тады ён папіхнуў іх ад сябе, але таксама марна. У той час за шклом нешта мільганула, і ён пачуў невыразны голас — ну канешне, то быў міліцыянер у знаёмай белай кашулі, белай фуражцы, з зоркай над казырком. Ён нешта гукаў, але Пятрок недачуў і ўсё спрабаваў адчыніць дзверы. Тады міліцыянер за шклом сігануў убок, і за два крокі ад Петрака лёгка расчыніліся другія дзверы — аказваецца, яны былі і не зачынены. Пятрок сумеўся ад няёмкасці, але хіба зразумееш, якія тузаць, калі іх тут некалькі.

— Вам што, грамадзянін?

Здаецца, то быў другі міліцыянер, не ранішні — малады, з прыемным чарнабровым тварам, танклява перацяты шырокаю, з наганам, дзягай. На яго белых грудзях лёгенька целяпаўся ланцужкамі невялічкі значок, а рука з гадзіннікам прытрымлівала расчыненымі цяжкія дзверы, запрашаючы за-

ходзіць унутр. Але Пятрок ужо не хацеў заходзіць, паклаўшы ля ног тарбінку, ён дрыготкімі пальцамі расшпіліў воглую ад поту кішэню, з якой асцярожна выцяг добра такі пакамечаныя лісткі хадайніцтва.

— Мне каб да таварыша Чарвякова. Во тут напісана, дык...

З яўнай зацікаўленасцю на твары міліцыянер узяў тыя лісткі, неяк дужа спрытна прабег позіркам не надта прыгожае Сцепанідзіна пісанне і рашуча склаў яго ў чатыры столкі.

— Позна ты прыйшоў, дзядзька.

— Дык мо пачакаю?

— Надта доўга прыйдзецца чакаць.

— Во як, — паныла сказаў Пятрок, усё яшчэ мала што разумеючы. Здалося, міліцыянер кпіць з яго ці жартуе. Але калі не жартуе, дык што ж тады рабіць?

— І гэта... Яшчэ доўг у мяне. Знаеце, чырвонец павінен, аддаць каб...

— Які чырвонец? Каму?

— Ну, таварышу Чарвякову. Пазычаў жа.

Прыгожы міліцыянераў твар стаў пакутна-напружаны, бы ў чалавека забалеў жывот, — мусіць, ён таксама хацеў і не мог зразумець чагосьці.

— Ха, пазычаў! Цяпер на тым свеце расплоцішся, дзядзька. На гэтым не ўдасца. Памёр Чарвякоў.

— Гэтак?

Міліцыянера паклікалі ўнутр будынка, а Пятрок застаўся перад дзвярыма на ганку. Здаецца, ягоная справа сапраўды скончылася — назаўжды і разам. Ён старанна запіхаў у кішэню паперкі, узяў з ганка мяшэчак. На асфальце падворка ахапіла такая гарачыня, што стала млосна, і ён раптам забыўся, куды павярнуць, каб ісці да вакзала. Тлумны туман напоўз на яго свядомасць, ён не мінаўся ўсю дарогу да станцыі, і як Пятрок стаяў у чарзе па білеты, і як пасля сядзеў пад сцяной на лаўцы, чакаючы цягніка на Оршу. Усё, што рабілася навакол, было яму дужа пастыла і дужа хацелася дамоў. Да сваёй сядзібы, пагорка і рова, сваіх лугавін і імшарын, свайго маленечкага кутка на гэтай вялізнай няласкавай зямлі...

25

Сцепаніда амаль што не спала, толькі забывалася часам, у галаве цьмела ад думак, а больш ад абурэння і крыўды: што нарабілі! А яна іх чамусь не баялася. Яна баялася немцаў, чужынцаў, а гэтыя ж былі свае, добра знаёмыя змалку, і хоць яна разумела, што яны здольны на ўсё, не магла прымусіць сябе баяцца. Нават Гужа. Ёй здавалася, той проста крычыць, палохае, грозіцца, але кепскага ім не зробіць. Ды і гэтыя, што ледзь не прыбілі яе, хоць і незнаёмыя, захожыя аднекуль, але ўсё ж нядаўна яшчэ свае, тутэйшыя і гавораць па-нашаму або па-руску. Чаму ж тады так усё перайначылася?

Яна чула, як яны мардавалі Петрака на падворку, як выпінаўся там Гуж, спрабавала ўстаць, але ў яе галаве ўсё закружылася, і, каб не ўпасці, яна зноў павалілася на палок. Яна глядзела сухімі вачмі ў закураную столь запечча, слухала крыкі з падворка і думала: не, гэтага ім дараваць нельга. Век такое не даруецца ім. Такога нельга дараваць нікому. Нават скаціне такое не даруюць, а людзям тым болей.

Ёй было кепска, дужа балела ў правым баку галавы, нават да валасоў там нельга было дакрануцца, усё там, мусіць, распухла. «Ці не праламалі яны чэрап?» — занепакоена думала яна, але далей яе думкі пераскоквалі на Петрака — куды яго павялі? Калі не заб’юць, дык, мусіць, пасадзяць у склеп пад царквой — цяпер яны зганялі туды ўсіх падазроных ці непакорных, у той сыры апаганены склеп пад зруйнаванай царквой, дзе павесілі тоўстыя цяжкія вароты і пільнавалі вартай. Мусіць, там цяпер і Пятрок. І што ён нарабіў ім, каб саджаць яго ў той склеп? Такі ціхі, паслухмяны, маўклівы, хіба не дагадзіў гарэлкай? А можа, яго ўзялі за яе, Сцепаніду? Калі пачаў заступацца? За яе, канешне, маглі ўзяць абаіх. Але найперш узялі б яе.

Здаецца, яна пражыла ўсё, перажыла свой лёс. Як і не жыла на гэтым, Богам уладкаваным свеце. Усё збіралася, доўгія гады чакала, адкладвала на пасля, жыццё было нібы подступам, падрыхтоўкай, зборам. Перавярнулі аднаасобніцу, ладзілі калектывізацыю, думалі: зажывём пасля. Але пасля выконвалі пяцігодкі, змагаліся з класавым ворагам — усё ў нястачы, трывогах, калатнечы і неспакоі. Было многа клопату пра тое, што з’есці, як узбіцца на кавалак хлеба, дацягнуць да свежае бульбіны. Не было ў што апрануць дзяцей, недзе

набыць абутак. Жыць было неяк і думалася: пасля, як падрастуць дзеці, выйдуць у людзі, і адпадзе трудны клопат пра іх. Але во выраслі дзеці, толькі б уздыхнуць з палёгкай, ды тут — вайна.

Хай яна спрахне, гэта вайна, як перажыць яе, як дачакацца дзяцей? І тое, і гэта, мабыць, ужо не пад сілу. Не па магчымасці. Але што ж тады ёй па сіле? Што па яе магчымасці?

На шчасце ці на бяду, яна ведала, у чым яе хопіць да скону. За сваё цяжкое жыццё яна ўсё ж спазнала праўду чалавечых адносін і пакрысе здабыла свой невялічкі чалавечы гонар. А той, хто аднойчы адчуў сябе чалавекам, ужо скацінай не стане. Шмат што ў жыцці, асабліва гора і бяда, пераканалі яе ў тым, што з людзьмі трэба абыходзіцца па-добраму, калі хочаш, каб і да цябе адносіліся па-людску. Напэўна, чалавек такі ўжо ад прыроды, што адказвае дабром на дабро і не можа адказаць дабром на зло. Зло не можа спарадзіць нічога, апроч зла, на іншае яно не здольна. Але бяда ў тым, што людская дабрыня перад злом бяссільна, зло лічыцца толькі з сілай і баіцца адно толькі кары. Толькі непазбежнасць адплаты можа прыцішыць драпежны ягоны нораў, прымусіць задумацца. Інакш на зямлі запануе пекла, аб якім гаворыцца ў Бібліі.

Часам яна чула, як гаварылі пра немцаў: культурная нацыя. Можа, у чым-небудзь і культурная, але хіба культурны чалавек можа дазволіць сабе так адкрыта разбойнічаць у свеце, як гэта распачалі немцы? Яна не чытала іх кніжак, не разбіралася ў іх высокай палітыцы. Але яна прывыкла меркаваць пра вялікае па малым, аб свеце — па сваёй вёсцы. І яна не памылялася. Яна ведала, што добрыя людзі не чыняць подласць ні па сваёй волі, ні па прымусу. Подласць — справа нягоднікаў. Ужо адно тое, што немцы прыйшлі на яе зямлю са зброяй, давала зразумець, што праўда не на іхнім баку. У каго праўда, таму не патрэбна зброя. Зноў жа даволі паглядзець, хто з імі ў хаўрусе, каб зразумець, хто яны самі. Да апошняй сваёй хвіліны яна не скорыцца ім, бо яна чалавек, а яны звяры. Хай сабе і дужыя.

Сцепаніда трохі забылася ад болю і, можа, нават заснула, але хутка прачнулася ад блізкага сабачага брэху і зразумела, што гэта ўсхадзіўся Рудзька. Брахаў ён на падворку, здалося, з дрывотні. Але на каго брахаў, хто тут дзе мог поўзаць ля хаты? Трохі забаяўшыся, яна падняла галаву і зірнула з запеч-

ча на хату, у якой было зусім цёмна, ледзь трошкі свіцілася акно насупраць, і якраз у тое акно нехта ціхенька пастукаў з падворка.

Сэрца ў яе закалацілася, яна паспрабавала ўстаць, аберуч трымаючыся за грубку, выйшла з запечча, усё ўзіраючыся ў акно. Але там нічога не было відаць. Ціхі стук, аднак, у ніжнюю шыбку зноў паўтарыўся з ранейшай настойлівасцю.

— Хто там? — дрыготкім голасам запыталася яна і ўслухалася.

— Аткрой, мамаша. Сваі.

— Чаго вам нада?

— Ну аткрой!

— Не адкрыю. Я адна ў хаце, хворая, не адкрыю.

Мусіць, пачуўшы Сцепанідзін голас, смялей забрахаў Рудзька, падскочыў бліжэй да парога. Яна хацела сказаць яшчэ, што Петрака няма і гарэлкі таксама няма і не будзе, што нягожа паначы ламіцца ў дзверы да хворай і старой бабы, але падумала, што тым іх не спыніш. Мабыць, зараз выб'юць вокны ці дзверы і зноў пачнецца тое, што ў мінулую ноч. Але, надзіва ёй, яны там не ламіліся чамусь і не стукалі болей, яны ціха пагаманілі паміж сабой і, мусіць, пайшлі, бо Рудзька забрахаў далей — ля тыну ці ў самых варотцах. Тады яна трохі пастаяла, паўслухоўвалася і падумала, што, мабыць, то была не паліцыя. Але хто? Мабыць, нетутэйшы, усё ж і гаворка руская — хто б гэта мог быць? А раптам гэта якія чырвонаармейцы, можа б, што сказалі пра Федзьку? Ой, што ж тады яна нарабіла? Трэба ж было іх пусціць у хату.

Гэта невялічкае начное здарэнне зусім растрывожыла Сцепаніду, яна забедавала ў думках, ступіла да акна і праз спатнелыя шыбіны ўгледзелася ў начны ветраны змрок, услухалася. Не, нідзе болей не было нікога. Рудзька сціх, мусіць, тыя адышліся далёка.

Рэшту той ночы яна не заснула ні трошкі і не спрабавала нават. Яна праседзела ля акна, слухаючы і слухаючы невыразную шапаткую цішу знадворку. Галава ўсё балела, але Сцепаніда быццам трохі абвыклася з гэтым болем, і, калі ў вокнах пачало трохі шарэць на золаку, яна ўстала. Усё ж яна была яшчэ жывая, магла пераадолець немач, трэба было нешта рабіць. Яна ўжо адчула, што не можа болей сядзець на хутары, трываць пакуты ад невядомасці. Хопіць ёй той

невядомасці, што праглынула Федзьку, Феню дык цяпер яшчэ і Петрака. Не, трэба было некуды ісці, нешта шукаць.

Рудзька маўчаў на падворку ці, можа, куды збег, а на світанні падаў скнарлівы голас парсючок, яна ўчула яго праз сцяну і падумала: другі дзень як някормлены. Клопат пра парсючка даў ёй саўладаць з хворасцю і выгнаў з хаты ў сенцы: там навобмацак яна знайшла стары чыгунок, намыла бульбы, насыпала трохі вобмешкі з жорнаў. З страхавітай нерашучасцю адчыніла дзверы з сянец на падворак, якія аказаліся не зашчэпленыя з учарашняга, і зноў прыпомніла начны стук у акно — яны нават не спрабавалі адчыніць дзверы. Не, гэта не паліцаі, гэта хтось з нетутэйшых, захожых. Шкадаванне зноў працяло яе — чаму ж яна іх не пусціла? Можа, гэта быў адзіны выпадак што-небудзь дазнацца пра Федзьку.

Яна паставіла есці парсючку, знайшла ў стале кавалак лапуна для Рудзькі, які зусім ужо не хацеў ісці нікуды з падворка, дашчэнту прытамілася, села на лаву і задумалася: што ж рабіць далей? Найперш трэба было дазнацца пра Петрака, калі ён жывы. Але дазнацца можна было толькі ў мястэчку — тут жа хто табе скажа? Значыць, трэба ісці ў мястэчка.

Пасядзеўшы яшчэ на лаве, яна паднялася, пайшла ў істопку. На самым сподзе кубёлка ў солі яшчэ было два кавалкі сала, яна дастала адзін; у сваім схове — пад разбітым гарлачом за печкай-каменкай — было яшчэ пяток яек, на паліцы стаяла з мінулага лета запыленая бутэлька вішнёўкі. Усё гэта ўладкавала ў меншы, лёгенькі кошык, з якім да вайны хадзіла на кірмаш у мястэчка, і выйшла з сянец.

На дварэ, як і ўсе гэтыя дні, было сцюдзёна і ветрана, але дождж не ішоў, мабыць, перастаў на світанні. Падворак і дарога спрэс былі ў гразі. Галава яе была яшчэ кволая, балела зверху, асабліва цяжка было нагнуцца, яна захутала яе ў цёплую хустку, на ўсе гузікі зашпіліла ватоўку. На ногі яна не мела чаго абуць і хадзіла да замаразкаў босая, а пасля абувала апоркі ці скарэлыя буркі, што недзе валяліся ў запеччы. Цяпер на гэтую гразь буркі надзець было нельга, і яна пайшла босая — па дарожцы к гасцінцу. Хаты яна не замыкала, недзе згубіўся замок — толькі ўваткнула трэсачку ў прабой, і ўсё. Красці там не засталося чаго, а паліцаяў ніякія замкі не ўтрымаюць.

Яна пайшла краем дарожкі, дзе па гразі, а дзе па мокрай траве, абышла жоўтую лужыну на заваротцы і ўзлезла на

невысокі насып гасцінца. Яна не была тут ад таго дня, як Янка-нямко згледзеў за сасоннікам немцаў, і цяпер адчула, што тут шмат што змянілася. Найперш зноў, як да вайны, уверсе гулі напятыя на слупах правады, парваныя пры адступленні. Значыць, ужо наладзілі тэлефон, па якім перагаворваецца нямецкая ўлада. Па-другое, гасцінец быў спрэч здратаваны свежымі слядамі ад фурманак, аўтамабільных колаў, конскімі і чалавечымі слядамі. Значыць, ездзілі. Перад ёй у сасоннік уязджала сялянская фурманка — белы конік рупна бег у аглоблях, а мужык, што сядзеў у калёсах з бабай, усё памахваў над галавой кароткаю пужкай. Яна падумала, што прыпазнілася трохі дайсці да гасцінца, а то б, можа, пад’ехала з імі, і азірнулася, каб згледзець, ці не едзе хто ззаду.

Ззаду ніхто болей не ехаў і не ішоў, затое спераду з-за павароткі ў сасонніку выскачыла машына, за ёй яшчэ адна і яшчэ. То былі не такія вялікія машыны, як тая, што стаяла ў іх на сядзібе, але таксама цяжкія, груvasткія, да верху нечым нагружаныя. Сцепаніда збочыла да канавы, каб не замінаць ім, прыпынілася нават, позіркам упілася ў блішчастае шкло пярэдняй, каб згледзець там твары. Твары іх, аднак жа, не дужа былі відаць, але яна адчула, што то былі немцы — іхнія пыхлівыя паставы, светлыя беражкі пагонаў на плячах, высокая шапка ў таго, што сядзеў ля шафёра. Абдаўшы яе ветрам і нафтавым чадам з матора, першая машына праскочыла міма, затым праехала другая, а на трэцяй у кузаве ля кабіны яна ўбачыла трох маладых немцаў; адтуль жа неслася прыемная музыка — адзін зграбна іграў на маленькім гармонічку, у які дзьмуў з рота. Як машына параўнялася з ёй, крайні, з вясёлым, счырванелым ад ветру тварам хлапчына крыкнуў:

— Матка, гіп яйка!

— Матка, шпэк! — падхапіў другі і наўздагон шпурлянуў у яе чымсь светлым, што пляснулася ў гразь ля яе босых ног.

Яна не сказала ім ніводнага слова, яна толькі глядзела, як яны, вясёлыя, маладыя і дураслівыя, пранесліся з такім форсам ля яе, спакутаванай, старой, чужой маці, ледзьве не забітай дзве ночы назад, і ніводная жылка не трапянулася на яе твары. Як ні дзіўна, але цяпер яна іх не баялася, і яна б не сказала ім ніводнага слова, калі б яны звярнуліся да яе. У яе свядомасці яны так і не сталі людзьмі, а засталіся пачварамі, гаварыць з якімі было для яе абразай. Міжвольна яна пашка-

давала цяпер, што той ноччу не кінула яшчэ што ў калодзеж, не падпаліла хаты — хай бы згарэлі разам са сваім афіцэрам. Тады яна надта асцярожнічала з імі, можа, пабойвалася. А навошта? Хіба цяпер што залежыць ад страху? Вунь Пятрок нашто ўжо баяўся, асцярожнічаў, дагаджаў, так ужо дбаў, каб усё абышлося ціха. Але чаго ён дабіўся гэтым? Забралі без дай прычыны. І яшчэ заб'юць ці павесяць.

Колькі яна натузалася за жыццё з гэтым Петраком ды і насварылася колькі, а во шкада чалавека, аж хочацца плакаць. Ну што ён зрабіў ім? Каму ў чым перашкодзіў? Калі і не памог нікому, дык жа такі характар. Але на кепскае ён не здатны. Быў аж залішне добры па цяперашнім часе, ды і па ранейшым таксама. Гэткая ўжо натура: хутчэй аддасць, чым возьме. Лягчэй саступіць, чымсі даб'ецца. Не любіў сварыцца, яму ўсё каб ціха. А без сваркі, паціху чаго даможашся ў жыцці? Ды ён і не дамагаўся нічога.

Яна ўспомніла, як некалі ганяла яго ў Мінск да Чарвякова, і каторы раз сумелася ад прыкрасці: ці па Петраку гэта было? Але ж і сама не магла — паўтара тыдня прастыргікала па падворку з хворай нагой.

Доўга яна падазравала яго: можа, не аддаў. Не знайшоў, не паспеў, пабаяўся. Колькі дацінала яго допытамі, аднак Пятрок стаяў на адным: аддаў міліцыянеру. Словам — усё ў парадку, і трэба толькі адно: чакаць.

І яны чакалі, што ж яшчэ заставалася. Толькі марна чакалі ўсе тры гады, аж покуль не прыйшлі немцы. Тут ужо стала не да Лявона.

Немцы не прымалі іх за людзей, глядзелі і абыходзіліся, як са скацінай, — мусіць, гэтак жа трэба ставіцца і ім да немцаў. З поўнай пагардай, з нянавісцю, з непакорнасцю ўсюды, дзе толькі можна. Тым болей што іншыя адносіны да іх дабра не дадуць. Выпадак з Петраком добра засведчыў гэта.

Гасцінцам яна перайшла сасоннічак, паазірала надта раскапаную яміну ў жвіры на паваротцы і ўрэшце ўбачыла крайнія местачковыя хаты, дах пажарнае вышкі, таполі над вуліцай. Над некаторымі комінамі вецер ірваў шызы дым, быў ранак, паліліся печы. Пасля таго як пабілі яўрэяў, многія хаты пуставалі, іншыя заняла розная набрыдзь, паліцыя. Звонку там мала што і змянілася, у тым мястэчку, дзе, мабыць, і зараз ішло звычайнае, як і да вайны, жыццё. Затое нешта змяніла-

ся на гасцінцы — на свежым дарожным насыпе над ракой жаўцелі новыя парэнчы моста, якога не было тут з палавіны лета, ды і насып быў разварочаны бомбамі, нібы яго перакапалі свінні. А цяпер, глядзі ты, — пабудавалі. Пабудавалі, каб ездзіць, ганяць свае машыны далей на ўсход, да фронту, каб вазіць сваёй арміі ўсё, што ёй трэба. Мусіць, шмат што ёй трэба, калі прыгадзіўся і такі несамавіты гасцінчык з такім во на дваццаць крокаў мастком цераз іх балацяністую рачулку.

Значыць, стала патрэбна.

Запаволеным крокам яна падышла да моста і з нейкаю душэўнай няпэўнасцю ступіла на гразкія, але яшчэ новыя дошкі насцілу, пакратала рукой пагабляванае дрэва парэнчы. Усё было тоўстае, грубое, моцна збітае і звінчанае балтамі, мусіць, разлічанае надоўга. Значыцца, так і будзе цяпер — будуць ездзіць немцы, гойсаць паліцаі, будуць хапаць людзей і вазіць па гэтым мосце ў мястэчка, каторых вешаць на тэлеграфных слупах, а каторых саджаць у царкоўны склеп ці закопваць у кар’еры па той бок мястэчка. Дужа патрэбны мост, нічога не скажаш. Жыцця праз яго не будзе.

А як добра было ў тыя некалькі месяцаў, калі замест яго тырчэлі тут голыя палі, быў ушчэнт разварочаны насып і цераз рэчку нельга было перабрацца — рэдкі прахожы набіраўся адвагі па дзвюх хісткіх жэрдках перайсці на той бок ракі. Тады пажылі нядоўгі час у спакоі, ніхто па начах не ламіўся ў дзверы, немцы не паказваліся не толькі на хутары, але нават і ў Выселках, а вёскі, што былі далей па гасцінцы, апынуліся як у Хрыста за пазухай. Новая ўлада да іх не дапялася.

Сцепаніда ўжо была перайшла мост і спынілася: а во каб яго падпаліць! Усё ж драўляны, можа б, загарэўся і згарэў, і настала б тады тое жыццё, што было без яго. Сапраўды, калі выліць на яго газу, што расстараўся Пятрок...

Сцепаніда зноў вярнулася на мост і неўпрыкмет босай ступнёй памацала яго гразкія сырыя дошкі — не, халера на іх, мусіць, такія не ўпаліш і газай. Каб хоць улетку, а цяпер усё скрозь мокрае, сырое, са свежай лясіны, не, такое не ўпаліш... Во каб сюды тую бомбу!.. Нечаканая гэта думка так уразіла Сцепаніду, што яна перастала адчуваць сябе на гэтай дарозе і забылася, куды ішла і па што. Яна ўспомніла нядаўнія словы Петрака і ў нейкім азарэнні сцяміла, што яно ж так і ёсць! Яна надта добра ведала высялкоўскага Карнілу,

каб адразу ўпэўніцца, што без яго тут не абышлося. Але ж Карніла!.. А можа, цяпер паслухаецца яе? Яна яго ўпросіць.

І яна хуценька пайшла назад па гасцінцы, ад рэчкі да хвойніку, за якім якраз насупраць Яхімоўшчыны была паваротка ў другі бок — на гару ў Выселкі.

На гасцінцы ніхто ёй не трапіўся, толькі далёка ззаду нехта нетаропка дыбаў з мястэчка. Але на высялкоўскай дарожцы яна напаткала Александрыну, колішнюю сваю равесніцу, з якой зналася ад самага дзяцінства, яны нават разам выходзілі замуж, помніцца, абедзве вянчаліся ў царкве зімой на Вадохрышча. Яшчэ, памятае, у той дзень вараны жарабок Александрынінага бацькі зламаў нагу на тым самым мосце, праваліўшыся ў дзіравым насціле, такі быў паганы мост. Александрына памалу ішла, павязаная хусткай рагамі пад пахі, і вяла за руку хваравітага, тоненькага, вельмі цёпла апранутага хлопчыка.

Яны павіталіся.

— Даўно не бачыліся, Сцепанідка, куды ж ты, як маешся?

— Ды так, ведаеш... Цяпер жа так, — трохі сумелася Сцепаніда, засцігнутая знянацку гэтым пытаннем. Яна проста не ведала, як адказаць, і хуценька запыталася: — А ты ж як?

— Ай, Сцепанідка, во горачка навалілася, вяду ж хлопчыка да доктара, з’еў нешта благое, дык рады няма, пяты дзень мучаецца, — ахвотна загаманіла Александрына, адразу забыўшыся на сваё пытанне. — Гэта ж трэба на мяне такое сёлета, — яна засцярожліва азірнулася на дарогу і цішэй сказала: — Гэта ж, ведаеш, Віця прыйшоў мой, камандзір, ледзьве выбавіўся...

— Віктар? А што ён — з вайны? — здзівілася Сцепаніда.

— Ай, якая вайна! Кантузіла яго дужа, галава баліць, рукі трасуцца. Ой, якое горачка было там, на фронце, расказвае...

— Трудна?

— Ой, не кажы! Танкамі, кажа, душыць усіх, а ў нас жа адны вінтовачкі, і тыя... Паразбягаліся каторыя па лясах, каторыя ў палон, а каторыя во дамоў, каму недалёка...

— Во як!

Сцепаніда слухала, але нешта ў ёй міжволі насцярожылася да гэтай кабеты, колішняй яе сяброўкі, нешта не спадабалася ёй, і яна думала: яе Віктар прыйшоў, а дзе мой Федзька? Федзька напэўна не пабяжыць і ў палон не здасца, і калі няма

ад яго ніякага знаку, дык... Дык, пэўна, у сырой зямельцы ўжо Федзька.

Трохі крыўдна было за сына, і адчула яна кароценькую зайздрасць да Александрыны: хоць і кантужаны, але во вярнуўся. Але ў той і без старэйшага дома пяцёра, поўная хата дзятвы. А ў яе пуста. Было двое, і тых... Ніводнага.

З такімі невясёлымі думкамі яна дабралася да Выселак, але вуліцай не пайшла — у канцы гародаў завярнула на сцежку і падалася да недалёкай пуні пад клёнам, адкуль ужо рукой падаць было да Карнілы. Яна не была ў яго, можа, з дзесяць гадоў, ад самай калектывізацыі, і ўбачыла, што за той час Карнілава сядзіба не абстарылася, можа, паднавела нават. За высокім спраўным парканам лязгнуў ланцуг і злосна забрахаў сабака, яна стала, баючыся адчыніць ладныя, збітыя з новых дошак варотцы. Думала, нехта ж павінен выйсці. Ёй не хацелася, каб выйшла Вандзя, высокая, ссохлая Карнілава жонка, з якой у яе так і не складаліся адносіны з самага дня іх жаніцьбы. Хоць і не сварыліся, але ніколі і не пагаварылі нават, а сустрэўшыся дзе на дарозе ці ў мястэчку, моўчкі разміналіся, бы незнаёмыя.

Яна хвіліну глядзела па-над варотцамі на хату пры добрым, з зашклёнымі бакавінкамі ганку, пад новай саламянай страхой, а ён паказаўся аднекуль збоку ад шмат якіх прыбудовак, хляўкоў, павецяў. Зусім кулацкая сядзіба, падумала Сцепаніда. Няблага ўладкаваўся Карніла, хоць рабіў не Бог ведае дзе — на пажарнай у мястэчку і, мабыць, меў часу. Рупнасці ж у яго хапала заўсёды.

Карніла выткнуў аднекуль галаву, зірнуў у варотцы, угледзеўся.

Яна ледзьве пазнала яго — чорнабародага, шырокай касці, дужага мужыка, які цяпер памалу, з недаверлівым роздумам падышоў да варотцаў і адкінуў дзве ці тры цяжкія жалезныя зашчапкі.

— Ты як у крэпасці, — пажартавала яна, аднак, мабыць, з сур’ёзным тварам. Мусіць, ён адчуў натужнасць яе жарту і сам не азваўся, прапусціў яе ў двор і ззаду гэтак жа на ўсе засаўкі старанна зашчапіў варотцы.

— У мяне дзела да цябе, — сказала яна. — Але каб нікога...

— Ну ідзём у паветку. Якраз там я...

Ён нетаропка правёў яе каля чорнага, мабыць, злога сабакі, які ціха вурчэў ля будкі, зайшоў за рог сенцаў, адтуль

яны прайшлі ў двор з кучай гною ля шула, яшчэ завярнулі ў нейкі засценак і апынуліся нарэшце ў прыадчыненых дзвярах бакоўкі, застаўленай безліччу драўлянага і металічнага ламачча, колаў, дошак, нейкіх лясін-нарыхтовак, чурбакоў і калодак, з развешанымі на сцяне інструментамі і жалязякамі і нават варштатам у куце. Ля дзвярэй на нізкай калодцы ляжала старая ўседжаная ватоўка, а ля большай стаяла кола, над якім, мабыць, завіхаўся Карніла. Як яны ўвайшлі, гаспадар адразу сеў на ватоўку і ўзяўся за сваё кола. Ён ні аб чым не пытаўся, і яна стаяла ля шула, не ведаючы, з чаго пачаць.

— Майструеш?

— Майструю. Што ж рабіць...

— Дома ўсё добра?

— Ды ўсё бытта.

— А майго Петрыка забралі. Учора.

— Кепска, калі забралі, — сказаў ён ранейшым сцюдзёным тонам, нават не падняўшы галаву ад кола, толькі, можа, дужэй стукнуў па вобаду цяжкім малатком.

Яна не асабліва хацела з ім гаварыць, ведала ягоны няпросты нораў, але ўсё ж думала: можа, ён хоць здзівіцца. Але ён не здзівіўся, ён, відаць было, надта засяродзіўся ў сабе ці на сваёй рабоце. Ці такі цвердаскуры стаў за гэтыя гады, па такім часе.

— У мяне да цябе просьба ёсціка, — проста сказала яна, падумаўшы, што, можа, і лепш так — без лішніх слоў, адразу пра справу.

— Гэта якая? — усё так жа холадна-суха запытаў ён, дужымі рукамі напінаючы шыну на вобад, і шыя яго аж счырванелася над каўняром ад натугі.

— Аддай бомбу.

Можа, упершыню ён зірнуў на яе спадылба, калянуўшы трывогай з-пад чорных касматых броваў, і ледзь чутна няпэўна хмыкнуў.

— Ведаю, бомбу ты і прыбраў. Тую, ля моста. Але нашто яна тебе? Аддай мне.

— Многа ты ведаеш, — толькі і сказаў Карніла.

— Аддай. Ну нашто яна табе — адзін клопат. Па такім часе.

— А табе нашто?

— Мне трэба.

— А хто сказаў, што я маю?

— А ніхто. Сама даўмелася. Я ж надта добра ведаю цябе, Карнілка.

Яна змоўкла і, здаецца, перастала дыхаць — сачыла за ім, за рухамі ягоных грубых, шырокіх рук на новым, з белага дрэва вобадзе кола, на які не хацела налазіць шына, і Карніла падшчымліваў яе далатом, пакуль некалькімі дакладнымі ўдарамі малатка не ўзбіў на вобад. Пасля трудна ўздыхнуў.

— Ды што ты хочаш: тавар за так?

— За так? — здзівілася яна. Сапраўды, ёй і ў галаву не прыходзіла гэтае пытанне — чым яна заплоціць Карнілу? Ды і чым можна было заплаціць у такі час за гэткі тавар?

— За так цяпер і блыху не заб’еш, — прабубніў Карніла. — Цяпер такі час. Вайна...

— Дык, ці ведаеш, грошы...

— Э-э, якія грошы! Што цяпер з тых грошай...

— Ну, во тут у мяне сала з два фунты. Паўдзесятка яек...

— Сказала, яек! Яек і ў мяне знойдзецца. На яешню.

«Вот жа скнара!» — пачала злавацца Сцепаніда. Яна пазнавала колішняга Карнілу, у якога, казалі, зімой снегу не выпрасіш. Але добра яшчэ, што ён не адмовіўся, што мае бомбу. Тут ужо яна ўгадала пэўна і ціха парадавалася. Астатняе як-небудзь. Але як?

— Дык што ж я табе... Грошай не маю, кароўку немцы з’елі. Курачак пастралялі, пяток усяго засталося. Мужыка Гуж забраў, у мястэчка павёў. Што ж я яшчэ маю?.. — сумелася яна.

— А свінчо? — раптам спытаў Карніла і другі раз зыркнуў на яе сваім цяжкім позіркам. — Ці тожа не маеш?

— Парсючок застаўся, ага. Вясновы, — спахапілася Сцепаніда і змоўкла: ці не захоча ён парсючка?

— Добра, што парсючок застаўся, — неяк абыякава сказаў Карніла, устаў і падаўся ў кут, нешта перабіраў там у жалеззі і нарэшце выцягнуў крывую драціну, з якой узяўся высякаць цвік.

— Застаўся, ага. Але... Ну, бяры парсючка... Аддам...

— А паўпуда будзе?

— Будзе з паўпуда. Харошае, ешчае свінчо, — запалым голасам пахваліла парсючка Сцепаніда і здзівілася ад думкі: няўжо яна аддасць парсючка? З чым жа тады застанецца?

— Ну, хіба за парсючка, — ажывеў крыху Карніла. — Ну і гэта... Па цяперашнім часе — тавар! Для чаго табе толькі?

— А гэта ўжо маё дзела. Трэба.

— Ну вядома. Калі, можа, у лес каму? Тавар добры.

Карніла нядоўга нешта падумаў, пасля выглянуў з дзвярэй, гукнуў нешта сабаку і рукой махнуў Сцепанідзе, каб ішла следам. На падворку яны пералезлі цераз нізкія варотцы на зады сядзібы, зарослыя кустоўем парэчак, агрэсту, гушчаром маладога вішанніку. Пад тынам у лапухах і крапіве Карніла падняў пласт зляжалага гарохавіння, пад якім зажаўцеўся канец чагось даўгога і круглага, нібыта з бляшанкай, прываранай на хвасце. То была бомба.

— Во! — задаволена сказаў ён і хуценька апусціў гарохавінне. — Паўцэнтнера важыць. Сіла!

Сцепаніда трошачкі захвалявалася, адчула, можа, упершыню, якую небяспеку ўзвальвае на сваю галаву, але ўжо не адступала. Хай бярэ парсючка.

— Запрагу каня... Толькі паначы каб. Як сцямнее.

— Ну ведама ж, як сцямнее, — трохі нявесела пагадзілася яна.

## 26

Яшчэ да таго, як пачало змяркацца, Сцепаніда тупала па падворку, выходзіла ў варотцы, стаяла за тынам каля калодзежа — усё ўглядалася ў дарогу, у бок Выселак. Яна ведала пэўна, што яшчэ ранавата, што Карніла нізашто не выедзе, пакуль не ўцямнее, сам жа сказаў пра гэта, а ён чалавек грунтоўны, не якое брахло. Але яна не магла бавіць час у хаце, яна нават не паела сёння і не паліла ў грубцы, так ёй карцела перабыць небяспеку той перавозкі, бо — не дай Бог натрапіць паліцыя! Што тады будзе абаім?

З паліцыяй яна ўжо сустракалася сёння ў мястэчку, куды пайшла адразу ад Карнілы з Выселак, дабралася да іхняй турмы ў царкоўным склепе. За той час, як яна не была ў мястэчку, паліцаі добра абстроіліся — да напаўразбітага цаглянага мура царквы зрабілі прыгародку з высокіх і тоўстых дошак і брамку, пры якой стаяў вартавы з вінтоўкай. Яна аж парадавалася, калі пазнала ў гэтым вартавым Недасеку Антося, і падумала, што ёй з самага пачатку пашэнціла. Мінаючы

шырокую мутную лужыну, адразу павярнула з плошчы да гэтай брамкі, маючы намер як мага ласкавей запытацца пра Петрыка, перадаць яму харч. Але Недасека яшчэ здалёку спыніў яе злым вокрыкам:

— Назад! Нельга!

— Гэта ж я, Багацька з Яхімоўшчыны, — сказала Сцепаніда, спыняючыся і падумаўшы, што ён яе не пазнаў.

Але і пасля яе слоў чорны, цыганаваты твар Недасекі застаўся ранейшы — недаступны і строгі.

— Сказаў, назад! Забаронена.

— Я толькі запытацца, ці Пятрок тут?

— Кажу, забаронена! Назад!!!

«Ах, каб ты спруцянеў! — злосна падумала Сцепаніда і недаўменна перахапіла кошычак з адной рукі на другую. — Што ж цяпер рабіць?»

— Скажы толькі, куды пасадзілі? — таксама пачынаючы злавацца, папрасіла яна.

Але Недасека выглядаў такім непрыступным і злым, якім яна ніколі яго не бачыла. Нібы яго падмянілі кімсьці. Тады яна паспрабавала неўпрыкмет падысці да яго бліжэй.

— Не падыходзь! Прымяню аружыю! — вызверыўся паліцай, хапаючы з пляча вінтоўку з расшчэпленым і склёпаным жалезкай прыкладам.

Яна моўчкі пастаяла трохі і пайшла назад цераз гразкую небрукаваную плошчу на яе другі бок, дзе ў спрытным каменным дамку з балконам атабарылася цяпер паліцыя. Яна думала, можа, там убачыць каго знаёмага, запытаецца, але здалёку яшчэ згледзела, што і там на прыступках стаіць нейкае мурло ў шынялі і з вінтоўкай, мабыць, таксама варта. Нерашуча падышоўшы, яна спынілася воддаль, ля тэлеграфнага слупа з падпоркай, паставіла на сушэйшае кошык, чакала, мо выйдзе Гуж або Каландзёнак, каб запытаць. Але, як на тое ліха, з паліцыі ніхто не выходзіў — ці ўсе яны там былі чым занятыя, ці там проста не было нікога. І яна ўсё стаяла на ветры, які церусіў дробным дождыкам, яе хустка дужа макрэла, стылі на золі мокрыя ногі, але яна цярпліва чакала, не зводзячы позірку з зачыненых дзвярэй дамоўкі. Яна не адразу пачула, як ззаду запляскалі па гразі нейчыя крокі, і, азірнуўшыся, убачыла настаўніка Свянткоўскага, які дробненькай таропкай хадой кіраваў у паліцыю. Праўда, ён

надаваў сабе выгляд, што не пазнае яе ці не заўважае, і нават угнуў галаву ў капелюшы, мусіць, каб не вітацца.

Але яна хуценька з апошняй надзеяй павярнулася да яго, успомніўшы, што чалавек ён нязлы, можа, скажа два словы.

— Добры дзень вам...

— Добры дзень, — суха адказаў Свянткоўскі, аднак не спыняючыся. Тады яна падхапіла з-пад слупа кошык і ступіла яму наперад.

— Можа б, вы гэта перадалі Багацьку Петраку. Мусіць жа, тут ён недзе.

— Тут, да, — сказаў Свянткоўскі і засцярожліва зірнуў на блізкую дамоўку паліцыі. Вартавы там спадылба назіраў у іх бок. Аднак Свянткоўскі амаль не спыняў хады, і яна пабаялася, што не затрымае яго, што ён зараз міне яе, тады не дагоніш.

— Можа б, вы перадалі яму... Яечкі тут, сала...

Свянткоўскі моўчкі пераняў з яе рук кошычак, яго маленькія вочкі на мізэрным вастраносенькім твары трывожна матлянуліся па плошчы.

— І зараз жа ідзіце адсюль! Зараз жа, быстра!!! — кінуў ён ціхім настойлівым шэптам.

Узрадаваная, Сцепаніда была трошкі сумелася, адчуўшы нейкі стоены непакой у тых словах былога настаўніка, і на момант знерухомела, пазіраючы ззаду на ягоную прыгорбленую спіну ў чорным суконным паліто, якое, можа, гадоў дзесяць насіў Свянткоўскі. Той падышоў да ганка, прыпыніўшыся трохі, паскрэб аб штось у доле запэцканыя гразёй боты і, коратка зыркнуўшы на яе з-пад капелюша, знік за дзвярыма. Тады толькі яна сцяміла пагрозлівы сэнс яго слоў і зразумела, што гэта ён не са злосці — хутчэй са спагады да яе. Мусіць, нешта там адбывалася, пра нешта яны дазналіся, і над ёй таксама навісла бяда.

Але бяды сабе яна не хацела, у яе быў адчайны намер, яна не магла цяпер па-дурному рызыкаваць у мястэчку пад носам у паліцаяў і спярша нетаропка, а пасля ўсё хутчэй і паспешней пашыбавала местачковай вуліцай да гасцінца. Мабыць, трэба было спяшацца, наўрад ці ў яе было многа часу, а спраў і клопату ў яе было безліч. Ужо бегучы гасцінцам, яна думала аб тым: што б магло здарыцца і дзе? Дома ці, можа, у Карнілы? Ці, можа, аб нечым прагаварыўся Пятрок?

Але што ведаў Пятрок? Яна даўно ўжо адраклася ад бабскай завядзёнкі пра ўсё балбатаць з мужыком, мо таму, што Пятрок не дужа падзяляў яе думкі і з яўным недаверам адносіўся да яе намераў і планаў. Шмат што рабіла яна як сама знала. Пятрок часам трохі бурчэў, але за гады прывык да яе незалежнасці, а то і першынства, і абаім, здаецца, было някепска. Не дай Бог, каб ён даведаўся цяпер пра вінтоўку, ён бы памёр ад страху. І добра, што яна ад яго ўсё ўтаіла. Яна ўжо даўно пераканалася, што толькі тое будзе ў сакрэце, што ведаеш сам-адзін і ніхто болей у свеце. І то не заўсёды. Такі цяпер свет і такія людзі.

Сцепаніда прыцішыла крок толькі на сваім падворку, дзе з палёгкай уздыхнула, як згледзела, што тут усё па-ранейшаму, нікога няма, і ў прабоі коса тырчыць, як тырчала, уваткнутая ёю раніцай трэсачка. І яна падумала, што, можа, гэта Свянткоўскі сказаў проста так, каб пастрашыць яе ці прагнаць ад паліцыі. Але ж яго сцішаны тон быў дужа падобны на змоўніцкі і таіў нейкае спачуванне. Мабыць, усё ж тут нешта не так. Мабыць, яшчэ нешта будзе.

Нават не зайшоўшы ў хату, Сцепаніда засталася на падворку і пачала пільнаваць Карнілу. Яна неадрыўна ўзіралася ў шэры вечаровы прыцемак над шырокім прасцягам поля, дзе хутка раставалі ў шэрасці высялкоўскія хаты, дарога на пагорку, гасцінец з радам тэлеграфных слупоў. Заставаўся лепей відаць бліжні канец дарогі на хутар, але і ён паступова расплываўся, патанаў у змроку. Цямнелася.

Побач па падворку таксама сноўдаў сюды-туды прыблудны сабачка Рудзька. Калі яна спынялася, узіраючыся ўдалеч, ён таксама заміраў ля яе ног, узіраўся і ўслухоўваўся ў нешта сваё, сабачае. Але во ён неяк палахліва напружыўся, завурчэў, брахнуў, коратка і пагрозліва; Сцепаніда ціха шыкнула на яго, тупнуўшы нагой. Рудзька сціх, а яна ўжо напэўна ведала, хто там, і падалася з варотцаў у цемру. Яшчэ зводдаль яна ўчула ціхенькі стук кола ў выбоіне, змораны дых каня, неўзабаве на дарожцы паявіўся няпэўны варухлівы абрыс яго галавы, воза — побач валюхаста тупаў прысадзісты Карніла з лейцамі ў руках.

— А я ўжо чакала, — ціха сказала Сцепаніда, пераймаючы на дарозе фурманку.

— Чаго ж чакаць? Як змерклася, во запрог і паехаў. Дарога ж не дальняя.

— Не дальняя, але...

Яна хацела сказаць, што цяпер і на блізкай можна налезці на немцаў або спаткацца з паліцыяй, якая поўзае ўсюды за сваёй спажывай, ды і благі чалавек таксама мог выгледзець, — ці мала бяды цяпер падпільноўвае за тынам сваёй сядзібы. Але яна змоўчала, каб лішне не вярэдзіць душу сабе і Карнілу. Абышлося — і добра.

— Куды табе яе? — ціха запытаўся Карніла, калі яны заехалі пад ліпы, і напяў лейцы.

— Куды?

Сапраўды, куды ж яе можна схаваць тут? Мабыць жа, у хату нягожа, у хаце адразу знойдуць, значыць, трэба ў якое здатнае месца паблізу ад сядзібы, каб было прыглядна і бяспечна. І Сцепаніда падумала пра равок за хлявамі, які дужа зарос шыпшынай, маліннікам, ды і ямы там з хворастам, якраз будзе чым закідаць, схаваць да таго часу, як яна стане патрэбна.

— Давай за хлявы. У роў.

— Можна і ў роў. Мне што? Мне ўсё роўна.

Карніла падвярнуў перадок калёс і памалу павёў каня ля тыну ў захлеўе, Сцепаніда ўпоцемку ішла наперадзе, паказвала, як лепей ехаць.

— Тут во далей ад плота. Тут пень. Во, цяпер прама за мной.

Яна лёгка і ўпэўнена ступала ў цемры, бо ведала тут кожную былку ці патарчаку, а Карніла штось поркаўся ззаду, спыняўся, ашчаджаў, відаць, воз ці каня. Трохі ён адстаў ад яе, і Сцепаніда пастаяла нядоўга, прычакала яго і болей ужо не адрывалася, аж покуль яны не дабраліся да хмызняку на ўзроўку.

— Во тут яміны недзе... — Прыгнуўшыся ў цемры, Сцепаніда пашарыла нагамі ў траве. — Зараз падніму хворast.

— Спярша давай сцягнем, — сказаў ад воза Карніла. — Я вазьму, а ты падсабі. Усё ж груз...

Яны сталі ля воза, Карніла аберуч пацягнуў бомбу з-пад сена, Сцепаніда падхапіла пад паху яе сцюдзёны жалезны хвост.

— Цяжкая, халера!

— А ты думала! Затое моц мае. Не які там снарадзік. Сіла!

Дужа асцярожна яны апусцілі даўгое, слізкае ад дажджу цела бомбы на мокрую траву ўзроўка. Карніла сaступіў ніжэй у яміну, пацягнуў яе на сябе.

— Яна, ведаеш, трохі таго... З бракам, — задышліва паведаміў ён і выпрастаўся ў цемры.

— Няўжо з бракам? — насцярожылася Сцепаніда.

— Брачок невялікі, праўда. Калі хто з вайскоўцаў, дык справіць. Невялікі брак, — паспяшаўся супакоіць яе Карніла.

— Чаго ж ты тады не сказаў?

— А табе што? Не ўсё роўна? Мусіць жа, сама ўзрываць не будзеш? А спецыяліст — ён справіць. Каторы вайсковец.

— Дык дзе ж той вайсковец...

Аднак далей яна нічога казаць не стала, падумала, што яшчэ прагаворышся перад гэтым Карнілам. Пра яе задуму не павінен быў ведаць ніхто староннí. Хаця Карніла не староннí, канешне. І яшчэ разумела яна, што адной ёй наўрад ці справіцца, патрэбны будуць памочнікі. Але памочнікі знойдуцца. Не можа быць, каб не знайшліся памочнікі! Не цяпер, дык пасля. Абы была бомба.

— А тое, што мокра, — нічога? Не адсырэе? — запыталася Сцепаніда.

— Анічога. Зарад жа ў жалезі, — упэўнена сказаў Карніла, і яна падумала, што, мабыць, ён ведае: служыў у войску і нават быў на польскай вайне, казалі, ледзь не дайшоў да Варшавы.

Яны добра навалілі на яміну сухога хворасту, які ляжаў поруч — Пятрок улетку церабіў тут узровак, каб не разрастаўся хмызняк, не засціў гародніну. Цяпер без патрэбы быў той яго лішні клопат, прыйшлося клапаціцца аб іншым. Але хворост спатрэбіўся.

— Ну во, хай ляжыць, — зморана сказаў Карніла. — А дзе ж той падсвінак?

— Ды ў застаронку. Трэба кругаа аб'ехаць. Сляды каб...

— Ну ведама. Каб сляды...

Ён зноў узяў каня за аброць, а Сцепаніда пайшла наперадзе і навобмацак у воглай цемрадзі прывяла яго да сцежкі цераз гарод, скінула жэрдку з плота, каб ён мог праехаць да істопкі.

Пустыя калёсы стукотна перавальваліся па барознах, але нішто там дужа не стукнула-скрыпнула, конь мякка ступаў па мяккай зямлі. Ля дрывотні яны спыніліся.

— Во тут. Я зараз!

Пралезшы праз мокры дзядоўнік, яна адкінула ад дзвярэй падпорку, нізкія дзверцы адразу расчыніліся, і пад ногі ёй

выкаціўся з цемры светлы рухавы круглячок, які радасна зарохкаў, затыцкаўся цвёрдым лычком у яе мокрыя ступні. На момант ёй стала шкада парсючка, столькі яна напакутавала з ім, а цяпер мусіла аддаваць у чужыя рукі. Але высілкам волі яна тут жа прыцяла ў сабе тое шкадаванне. Цяпер, калі ўсё ішло прахам, было не да шкадавання.

— Ідзі, ідзі сюды...

Парсючок даверліва даўся ёй у рукі, яна прыціснула да грудзей яго цяжкаватае трапяткое цела і паднесла крокаў пяць да фурманкі.

— Во, куды тут?

— А ў торбу. Торба ёсціка...

Ну вядома, у яго ёсць торба, бо як жа вазіць свінчо ў возе без торбы. Толькі як яго запіхаць туды, падумала Сцепаніда. Нязграбна ўпоцемку яна сунула яго галавой у падстаўлены мех, але парсючок, мусіць, здагадаўся, што чакае яго, растапырыў ногі, затузаўся з апантаным страхам, і яна ледзьве ўтрымала яго ў руках.

— Ну что ты? Ну цішай, дурань!..

Карніла, аднак, хвацка ўкруціў яго торбай і гэпнуў у задок воза, захінуў сенам. Парсючок пранозліва заверашчэў у возе.

— Ціха ты! Халера, малы, а піску...

— Не такі ўжо і малы! — гатова была пакрыўдзіцца Сцепаніда. — Вясновы, спраўны падсвіначак.

— Я думаў... А то...

Падобна было, Карніла расчараваўся, здалося яму, што парсючок недарослы. Праўда, не кабанок яшчэ, але ж і бомба, як сам прызнаўся, не дужа спраўная, з бракам. Яшчэ трэба неяк спраўляць, падумала Сцепаніда з апрыклай нядобрасцю да гэтага вупара Карнілы.

— Ешчы, спакойны, дужа здатны падсвіначак. Каб не гэта во, век бы не аддала.

— Ладна, — сказаў Карніла, спыняючы на тым размову. Калёсы яго трохі рыпнулі на развароце, Сцепаніда паказала яму, як выехаць з падворка, і адтуль яны скіравалі ў варотцы. Там Карніла спыніўся.

— Дык ты ж гэта, маўчы. Калі што — я цябе не бачыў, нічога не ведаю.

— Што ж я, малая? — азвалася Сцепаніда і падумала: «Нябось не дурнейшая за цябе».

Карніла паціху паехаў цёмнай дарогай, чутно было спярша, як тузаўся, спрабуючы падаць голас, парсючок пад сенам, але памалу ўсё сціхла. Баягуз Рудзька, які дагэтуль недзе хаваўся па-за вуглámі, цяпер падбег да гаспадыні і няпэўна гаўкнуў у змрок.

— Ну во! — сказала яна да сабакі. — Што цяпер будзе?

Яна і не заўважыла, як акалела на гэтай золі і вымакла, асабліва спадніца і ногі, але цяпер яе ўзяло такое ўзрушэнне, што яна не магла даць сабе хвіліны спакою. Яна не магла сядзець дома, карцела некуды ісці, пакуль ціха, нешта зрабіць, каб наблізіць той момант, калі на гасцінцы гахне. Калі рассыплецца гэты ненавісны мост. Хай тады ладзяць. Хай вяртаюць тую каманду, зганяюць людзей. Можа, пакуль збяруцца, міне нейкі час, зноў якіх са тры месяцы, настане зіма, а там нашы дадуць ім пад зад. Яна чула ўжо неаднойчы ад мужыкоў, што нашыя заўжды лучаць зіму, як на той фінскай ці яшчэ даўней на французскай. Зіма заўсёды нашым паможа. Галоўнае, цяпер у яе было чым, не голымі рукамі. У рове ляжыць грозная сіла, якая разнясе мост на трэскі. Куды толькі падкласці яе?

Памятае, у ранейшым тым мосце дык былі адкосіны пад насцілам, куды часам залазілі падшыванцы і воўчым храпам палохалі на дарозе коней. Туды здатна было ўладкаваць бомбу. А цяпер як? Яна, як хадзіла, толькі аднаго разу спынілася на мосце і як след нічога не разгледзела там. А раптам пад мостам усё закапалі, зраўнялі, куды тады ўладкуеш бомбу? Не падкладзеш жа яе зверху на дошкі, дзе ходзяць і ездзяць людзі.

Яна дужа занепакоілася гэтым клопатам і, не зайшоўшы ў хату, выбегла ў варотцы і пусцілася па дарожцы к гасцінцу. Было зусім цёмна, то сыпаў, то пераставаў дробны дожджык, вецер жа дзьмуў не перастаючы. Не дабегшы да павароткі, Сцепаніда збочыла ў поле і дзе крокам, а дзе подбегам шыбавала наўпрост, каб хутчэй. Спярша пад нагамі яе шорхала мокрае ржышча нівы, пасля пачалася мокрая трава ля хвойнічку, які яна абышла з другога боку, ад поплава. Перайшла нешырокую балацявінку з зарослай асакой канавай і недалёка ад моста ўскараскалася на жвіровы насып гасцінца.

Найперш яна тут услухалася, нават ссунула на патыліцу мокрую хустку: было цёпла ад хады, дужа трывожна, але,

здаецца, на гасцінцы было па-начному пуста. Яна трохі пабойвалася, каб яе тут не напаткаў хто, асабліва калі знаёмы, як тады апраўдаешся? Але ўсё абышлося. Унізе ля насыпу цьмяна паблісквала пляма вады ў рацэ, яна асцярожна сышла да яе са свежанакапанага адхону і стала, зазіраючы ў непраглядны змрок падмастоўя, дзе няпэўна бялеў рад свежых паляў і ўгары шырока навісала чорная плаха моста. Яна не столькі ўбачыла, колькі здагадалася па характару насыпу, што паміж насцілам і зямлёй засталася добрая адтуліна, у якую можна было змясціць многа. Улезе туды і бомба, яна нятоўстая.

Задаволеная, Сцепаніда ўскараскалася на гасцінец і пайшла да хвойнічку. Удача надала ёй адвагі, а гэтая начная хада адабрала сілы, яна ўся ўпрэла пад вопраткай, дашчэнту абмакрэла і цяпер ужо ціхім крокам шкандыбала па краі гасцінца. За хвойнічкам павярнула на сваё поле, думаючы ўсё: каб жа што не пашкодзіла, каб жа паспець. Дужа хацела яна здзейсніць цяпер сваю помсту, ад якой у яе ўжо не было сілы адмовіцца. Ведала, аднак, што яшчэ клопату хопіць, трэба шукаць памагатых, а найперш спецыяліста-вайскоўца, каб нешта там справіць.

Трэба заўтра ж збегаць у Выселкі, падумала яна, да Александрыны, Віктар жа камандзір, павінен нешта ўмець. Калі што, дык у хляўку яшчэ засталося пяць курыц, заплоціць. Ён хворы, кантужаны, мусіць, яму патрэбна кураціна, булёнчык. Яна яго ўпросіць...

## 27

Як толькі пачало днець, Сцепаніда выйшла з запечча, паправіла хустку на галаве, захінула ватоўку.

Нарэшце канчалася ноч з начнымі прывідамі, думкамі і самотай, — пачынаўся дзень, у які яе чакала шмат спраў і незвычайнага, трохі страхавітага клопату. Яна была цалкам ва ўладзе гэтага клопату і нават ноччу, у сне, бачыла і перажывала нешта, звязанае з бомбай. Снілася ёй, быццам яна караскаецца на нейкую гару і валачэ за сабой цяжкі груз, які цягне яе ўніз, а пад нагамі слізка, як на гразкай дарозе, рукам няма за што зачапіцца, але яна ўсё роўна лезе і лезе ўгору. Тым больш што ўжо блізенька верх, беражок нейкага ўзроўка,

ёй патрэбна сілы хоць бы на некалькі намаганняў, хоць бы яшчэ на два крокі. Тут, аднак, штосьці затуманьваецца ў яе свядомасці, малюнак сну перайначваецца, і яна ачынаецца. Яна расплюшчвае вочы і разумее, што зачынаецца ранак.

Але Сцепаніда не дужа ўнікала ў заблытаны сэнс сну, ява яе не намнога ўступала прывідам начы. Клопат падганяў яе, і яна выйшла ў сенцы, узяла з куфра старую, трохі прадраную на рагу кашолку, у істопцы насыпала ў кішэню са дзве жмені зярнят з начовачак, якія так і не дамалоў Пятрок, выйшла на падворак. Стыў мокры восеньскі ранак, вецер гнаў касмылявыя хмары над ліпамі, але дажджу не было, і лясная далячынь за Галгофай выразна вылучалася на небакраі — як заўжды перад халадамі ці зімой — на мароз. Сцепаніда зайшла на дрывотню і расчыніла няшчыльна прычыненыя дзверы хляўка, курачкі радком сядзелі на жардзіне: дзве галовамі да дзвярэй, а тры — да сцяны. У кутку на саломе ля жоўтага старога поклада ляжалі два свежыя яечкі, і гаспадыня са спагадай падумала: бедныя курачкі, яны яшчэ несліся!

Яны даўно ўжо жылі тым, што знаходзілі на падворку, гаспадыня іх не карміла і цяпер, адчуўшы сваю віну перад імі, шчодра пасыпала з кішэні ля парога. Куры захлопалі крыллем, закудахталі і са згаладнелым імпэтам кінуліся з шастка да парога.

Яна яшчэ ім пасыпала і, пакуль яны, штурхаючы адна адну, навыперадкі клявалі, думала: каторую ўзяць? Яна ведала кожную з іх ад пісклячай пары, кожную адрознівала ад іншых па яе аздабе і ўбранству, ведала, якая і калі кожная з іх нясе яйкі. Найлепшыя яечкі несла стракатая, з чорнай галоўкай невялічкая курачка, якую, канешне, яна браць не будзе. Горай за іншых неслася цыбаценькая маладая курачка, чорная, з касматымі ножкамі, самая худзенькая і баязлівая, яе нават і цяпер дзяўблі ўсе іншыя, і яна падбірала ззаду за ўсімі. Але ж які з яе будзе наедак, з худой? І Сцепаніда выбрала жоўценькую спакойную курачку, не горшую за астатніх, але і не самую лепшую. Яна спакойна ашчаперыла яе зверху за крыльцы, і курачка не супраціўлялася, з даверам і добрасцю аддаючы сябе ў гаспадыніны рукі.

Сцепаніда звязала матузком яе ногі і паклала ў кашолку. Затым вярнулася ў сенцы, зняла з вешала над куфарам старую паркалёвую хусцінку і ёю абвязала зверху кашолку.

Перад тым як выйсці, яна азірнула ўбогія сцены сянец, куткі, куфар. Але болей нічога прыдатнага для гасцінца яна не магла нагадаць у сваёй абрабаванай вайной гаспадарцы. Калі не пагодзіцца на адну, яна не пашкадуе ўсіх, хай есць, толькі б удалося тое адзінае, што цяпер адбірала яе ўвагу, клопат і сілы, а можа, і яе жыццё. Іншага яна не магла, а тут у яе руках апынулася такая магчымасць, якая выпадае не кожнаму. Гэта была вялікая яе мэта, і яна пастараецца яе здзейсніць. Шкада, што яна не можа зрабіць усё сама, але, можа, памогуць людзі? Пэўне ж, памогуць. Трэба толькі знайсці здатных людзей — не злыдняў і не баязліўцаў, і тады, можа, Пятрок дачуецца яшчэ, што здарылася на гасцінцы. Абы толькі ўдалося.

Канешне, адчувала яна, з людзьмі будзе самае труднае. Найлепш, калі б яна мела каго з мужыкоў, калі б дома быў Федзька ці хоць бы Пятрок. Яна зноў пабедавала ў думках, калі ўспомніла, як не пусціла ў тую ноч незразумелых захожых, можа, якраз яны і памаглі б? Але ж хто можа напэўна ўгадаць тое, чаго няма і толькі яшчэ мае адбыцца? Ці яна ведала, хто яны? Яна і цяпер нічога пэўна не ведае, толькі здагадваецца і мяркуе. Але меркаваць пра іх можна рознае, ды на справе мала што праўдзіцца.

Настылая за ноч гразь на дарозе студзіла яе босыя ногі, і яна выбірала, дзе трохі сушэй і каб без травы. Трава спрэс была мокрая, як бы ў золкай расе, і ў ёй болей, чым у гразі, стылі ногі. Неба патроху праяснілася, быў позні ранак — хмарны, без сонца, ветраны і сцюдзёны, але яна не заўважала ні ранку, ні сцюжы — яна думала, як лепш падысці да Віктара, каб пагадзіўся. Але ж павінен. Некалі ён быў ладны, паслухмяны і разумны хлапчына, усё бегаў у маленстве да іх на хутар, цягаўся з Федзькам. Аднойчы яна адчытала абодвух за небяспечнае свавольства з запалкамі, карабкоў восем якіх яны абкрышылі для зараду ў прыпяканку, і яна спалохалася, што павыпальваюць вочы. Праўда, падросшы, яны разышліся: Віктар годам раней за Федзьку пайшоў на ваенную службу і перад вайной, казалі, ужо быў камандзірам з трыма трохкутнічкамі на пятліцах. Мусіць, ён сумее абысціся з той бомбай.

Карніла ж казаў, што няспраўнасць там невялікая, спецыяліст справіць.

Сцепаніда перабегла пусты зранку гасцінец, пайшла краёчкам такой жа гразкай дарогі на Выселкі. Крайнія высял-

коўскія хаты былі ўжо блізка, яна бачыла, як у канцавым за плотам двары Амяллянавы мальцы запрагалі ў калёсы каня, і вецер данёс да яе мацерны мужчынскі вокрык. На пагорку дарога стала трохі сушэйшая, але ў яміне пляскалася на ветры шырокая лужына жоўтай вады, якую яна абышла стараной, а як выйшла зноў на сярэдзіну дарогі і зірнула наперад, на момант знерухомела. З высялкоўскай вуліцы ішлі па дарозе трое мужчын, двух з іх яна пазнала адразу, то былі паліцаі Гуж і Каландзёнак, а трэці... Трэці ішоў паміж імі, угнуўшы галаву і заклаўшы за спіну рукі; першага позірку на яго было даволі, каб зразумець, што гэта арыштаваны. Сэрца ў яе нядобра трапятнулася ў грудзях, калі ёй здалося, што гэта... Але нават у думках яна баялася сказаць сабе яго імя — пакуль яшчэ заставалася няпэўнасць, Сцепаніда дужа хацела памыліцца і думала: няхай бы гэта быў хто сабе хочаш — знаёмы, сусед, якая радня, абы не ён.

Запаволеным цяжкім крокам яна ішла насустрач мужчынам, і ў яе свядомасці ўсё болей і выразней выяўлялася знаёмае аблічча, каржакаватая постаць у шэрай паддзёўцы, шырокі разварот плячэй, цяжкі нетаропкі крок. І ён, і паліцаі ішлі па гразі нетаропкай спорнай хадой — наперадзе Гуж, а ззаду Каландзёнак, і ёй, як збавення, хацелася праваліцца пад зямлю, абы толькі не спатыкацца з імі.

Але яны ўжо згледзелі жанчыну і з трошкі празмернай увагай зводдаль пазіралі на яе, а падышоўшы бліжэй, зірнуў на яе і арыштант. То быў Карніла.

Тым не менш яна ішла з такім выглядам, быццам не ведала з іх нікога, і толькі ногі яе прымлелі, і яна намаганнем волі ледзьве перастаўляла іх па гразі. Яна б так і размінулася з імі, не сказаўшы слова і нават не павітаўшыся, калі б не той позірк Карнілы. Яго знешне спакойны барадаты твар, аднак, выражаў цяпер адбітак такой тугі і такой устрывожанасці, што Сцепаніда міжволі спынілася. Але тут жа спыніўся і Гуж.

— Куды ідзеш, акцявістка?

— У дзярэўню, не бачыш? — сказала яна, зірнуўшы на яго спадылба, і падумала: ну, прапала! Забярэ абаіх. Але Гуж найперш кіўнуў на кашолку:

— Там што?

— Курыца.

— Ану! — Гуж патрабавальна працягнуў руку, і яна падала яму кашолку.

— Так. Патап, на! Прыйдзем — адкруціш галаву. Спатрэбіцца.

Ён аддаў кашолку Каландзёнку і павярнуўся да яе, ва ўпор працяў стоеным пагрозлівым позіркам.

— Усё сноўдаеш?

— Сноўдаю. А што, нельга? — запытала яна, з апошняю сілай вытрымліваючы гэты ягоны позірк. Думала, што зараз ён паставіць яе побач з Карнілам і павядзе ў мястэчка. Гэта было б жахліва. І, відаць было, ён некалькі секунд вагаўся, мабыць, не ведаючы, што зрабіць з ёю.

— Ну-ну, пасноўдай! — неяк загадкава-з'едліва сказаў ён і адвярнуўся да Карнілы. Але Карніла ўжо не глядзеў на яе — паныла пазіраў некуды ў хмарную далячынь мокрага поля.

— Шагам арш!

Яны пайшлі далей да гасцінца, а яна няпэўным аслабелым крокам пабрыла да Выселак. Тое, што забралі Карнілу, балюча ўдарыла па яе адчуваннях, таксама як і па яе планах, і яна адчула, што, мабыць, неўзабаве ўсё непапраўна рухне. Але яна не магла лёгка з тым прымірыцца. Яна гатова была змагацца, тым больш што ў яе была воля, нейкая свабода дзеяння, рукі яе яшчэ не былі звязаны. Але чаму не забралі яе? Можа, пакінулі на пакуль што? А можа, пра бомбу ім невядома? А можа, яны шукалі бомбу і ўзялі Карнілу? А дзе бомба, ён ім не сказаў. І не скажа. А раптам скажа? Пачнуць катаваць, выцягваць з цела жылы, хіба ўтрываеш? Дык няўжо скажа? Што ж ёй рабіць?

Не адразу яна зразумела, што ісці да Александрыны не мае сэнсу, што наогул ісці ў Выселкі ёй няма па што. Што ёй трэба самой ратавацца. Толькі дзе і як?

Амаль дайшоўшы да першых высялкоўскіх хат, яна нясмела азірнулася: паліцаі з Карнілам ужо набліжаліся да хвойнічку на гасцінцы, тады яна спынілася, памарудзіла трохі і хутка пабегла тою ж дарожкай назад да хутара. Цяпер ёй трэба было дамоў, да сваіх сцен, быццам там быў нейкі ратунак, нейкае заспакаенне.

Паліцаі з Карнілам ужо схаваліся за павароткай у хвойнічку, яна перабегла гасцінец, задыханая, хуткім крокам і подбегам дасягла падворка і, мінаючы хату з істопкай, праз дрывотню і захлеўе выйшла на ўзровак. Аднекуль да яе выскачыў Рудзька, радасна заскуголіў, галодны, але цяпер ёй

было не да Рудзькі: трэба было некуды перахаваць бомбу. Яшчэ на гародзе яна занепакоілася, як убачыла, што след ад колаў дужа прарэзаў барозны і лехі і выразнай крывулінай вёў да расцяробу на ўзроўку. Але яна ледзь не змярцвела ад спалоху, як зазірнула ў яму — з-пад нагрувашчанай кучы хворасту збоку вытыркаўся жоўты жалезны хвост бомбы. Гэта ж трэба было так бязглузда схаваць яе — першаму, хто тут апынецца, стане відаць, што пад галлём. Але ведама ж — рабілі ўсё ўпоцемку, спяшаючыся, ноччу, хіба здатна што зробіш? Ноч болей для таго, каб красці, а хаваць, пэўна, трэба ўдзень.

Сцепаніда хуценька пабегла да хаты, на дрывотні ўзяла старую рыдлёўку, мусіць, найлепш цяпер будзе закапаць бомбу ў зямлю. Толькі дзе? На гародзе? У захлеўі? На ўзроўку? Але, напэўна, на ўзроўку ў кустоўі, там мяккая, без травы, зямля, і можна будзе закідаць усё смеццем, апалым лістоўем. Наўрад ці там будуць шукаць. Хай там і ляжыць. Там ужо сапраўды, апроч яе, ніхто болей не ведае. Там будзе схоўна.

Непадалёк ад ранейшай яміны ў алешнічку яна пачала капаць новы схоў-ямку крокі са тры ўдоўжкі і вузенькі, бы дзіцячая магілка. Спярша капалася хутка, перагной лёгка паддаваўся рыдлёўцы, яна зняла першы штых і спынілася. Далей замінала карэнне, якое жорсткімі бізунамі ва ўсіх кірунках пранізала глебу. Яна секла яго тупою рыдлёўкай, выдзірала рукамі, некаторыя карані спрабавала ламаць, ды яны толькі гнуліся, бы кулакі, выстаўляючы белыя вузлы, і парушылі зямлёй у твар, на галаву і плечы. Уся змакрэўшы ад поту, яна якую гадзіну ці дзве калупалася ў той яміне, покуль выкапала яе па калена, неяк трохі расчысціла ад белых агрызкаў карэння. Зямлю далёка не адкідала, ведала, зямля ёй спатрэбіцца. Калі яма была гатова, Сцепаніда трохі перадыхнула на беражку і адклала рыдлёўку. Трэба было ісці па бомбу.

Да старой яміны было крокаў мо дваццаць, яна павыкідвала з яе ўчарашні хворост і ўзялася за доўгі і важкі жалезны кругляк бомбы. Побач пад самыя рукі падкаціўся Рудзька, панюхаў жоўтую абалонку і чыхнуў. Сцепаніда натужылася, каб выкаціць яе з ямы, і спалохалася: бомба толькі скранулася трохі і зараз жа скацілася на ранейшае месца. Гэта ж быў жах — у яе не хапала сілы!

Сцепаніда выпрасталася, рукавом выцерла пот з ілба — добра было каціць яе ў гэтую яміну, а як цяпер выкаціць? Ды

яшчэ адной? Яна аж захвалявалася і, не даўшы сабе адпачыць, ухапіла бомбу за адзін канец, вялізным высілкам перасунула яго вышэй. Затым зайшла з другога канца і прыпадняла хвост. Але не паспела яна перакласці яго вышэй, як той першы канец ссунуўся на ўлежанае месца ў дне яміны. Сцепаніда ледзьве не заплакала ад прыкрасці — што ж ёй рабіць?

Трохі паразважаўшы і супакоіўшы сябе, яна выйшла з яміны і пашукала на ўзроўку камяні. Камянёў было шмат, але ўсё дробныя, Сцепаніда адышлася далей, пакуль знайшла два болей прыдатныя і прынесла іх да яміны. Цяпер неяк трэба было, па чарзе падкладваючы камяні пад нос і пад хвост, выкаціць бомбу. Доўга яна высільвалася там — і каціла, і сунула, укленчыўшы, упіралася каленьмі ў мокрую зямлю. Дашчэнту запэцкала спадніцу і ватоўку, змакрэла ўся ад поту і гразі, хустка яе ссунулася з галавы на патыліцу, але ўсё ж выбавіла бомбу з яміны і сама знясілена ўпала побач.

Праклятая бомба! Сцепаніда ўжо думала, што надарвецца, покуль управіцца з ёю, але во неяк уходала. Цяпер трэба было перакаціць яе да новай яміны. І хоць бы хто не налез тут у хмызнячку, не апынуўся паблізу, не згледзеў. Праз рэдкі алешнічак тут яе можна было заўважыць з дарогі, ад падворка, — хоць бы паспець, покуль нікога няма.

На роўным бомба лёгка перакацілася па воглай траве жоўтымі, запэцканымі зямлёй бакамі, але далей у алешнічку каціць было неяк, і Сцепаніда ўхапіла яе за круглую жалязяку хваста. Так, трохі прыпадняўшы, цягнуць было можна, але трэба было ўвесь час высільвацца і трымаць прыпадняты хвост, а сілы ў Сцепаніды было ўжо мала. Яна правалакла бомбу крокаў мо пяць і выпусціла з рук, сама таксама ўпала задам у траву. Хвілін колькі задышліва хліпала ротам, трохі, аднак, аддыхалася і зноў ухапіла пальцамі за мокры хвост. На гэты раз яна працягнула і яшчэ меней, калі зноў упала. У наступныя разы ўжо толькі тузала і рыўкамі, па адным кроку, не болей, сунула яе да ўзроўка; паясніца яе пераломвалася ад болю, мокрыя рукі, пальцы і калені былі ўсе паабдзіраны аб патарчакі. І яна спяшалася.

Кожны раз яна азіралася наўкола праз хмызнячок, усё паглядвала ў бок сядзібы — баялася, не дай Бог, хто прыйдзе, убачыць. Тады яна прапала, прапала бомба. І гэта пасля такіх высілкаў!

Калі яна ўрэшце прывалакла бомбу да яміны, сілы яе, падобна было, зусім скончыліся, яна ўжо не магла перакаціць яе цераз накапаны горбік зямлі і ўпала на яе грудзьмі, ляжала так, мусіць, доўга. Увесь час яна казала сабе: ну годзе, уставай — і абяцала: устану, зараз устану. І не ўставала, бо не магла. Уваччу ў яе спярша ўсё зацямнелася, нібы ўначы, затым дужа паволі праяснівалася, і сэрца вырывалася з грудзей ад знямогі.

Мабыць, яна ляжала так доўга, ашчаперыўшы ўшчэнт перапэцканае цела бомбы і сама ад ног да галавы выкачаная ў гразь. Калі трохі паслабаднела дыханне, ужо не ўстаючы, уперлася ступнямі ззаду ў вузлаватыя карані алешын, высілілася апошні раз і пасунула спярша хвост, а затым і галаву бомбы.

Зрушваючы з сабой свежую зямлю, бомба ўрэшце цяжка гупнулася аб дно — увалілася ў яміну. Сцепаніда яшчэ паляжала на гразкай зямлі, пасля ўстала і ўзяла рыдлёўку.

Закопваць было лягчэй, і яна старанна закідала яму зямлёй, патапталася зверху. Рэшту зямлі з краёў выбрала рыдлёўкай і рассыпала неўпрыкмет наўкола. Затым прыбрала ўсё з камлёў, з куставін, абмяла, абтрэсла і абабрала пальцамі, каб і знаку не было ад таго, што тут нехта капаў. Крыху воддаль сабрала ў алешнічку ахапак чорнага лісця, прытрусіла тую мясціну, пасля адышлася далей па ўзроўку, назбірала яшчэ рудага, чорнага, вільготна-сапрэлага лісця, накідала на яміну, каб і зблізку не відаць было свежай зямлі. У дадатак схадзіла да старога схову, прывалакла трохі хворасту, раскідала сям-там. Быццам тут ніхто і не ступаў ніколі.

Абапіраючыся на рыдлёўку, яна ледзьве прывалаклася на свой падворак, дзе яе запытальна-ўважлівым позіркам сустрэў згаладнелы Рудзька, але цяпер яна не магла нават сказаць яму добрае слова. Толькі калі той паспрабаваў следам за ёй ускочыць у сені, яна спыніла яго — усё ж сабака павінен быць на падворку. Яна зашчапіла сенцы, прывалаклася да палка ў запеччы і лягла, як была ў хустцы і ватоўцы, — распранацца ў яе ўжо не засталося сілы.

Яна ляжала так у выстуджанай хаце, атупелая ад знямогі, прыслухоўваючыся да няпэўных далёкіх і блізкіх гукаў знадворку, і думала, што можа так здарыцца, што возьмуць яе, тады, канешне, усе яе намаганні будуць дашчэнту спляжаны.

Але ж, можа, ёй яшчэ і пашчасціць. Галоўнае было зроблена, засталося менш. Хоць таксама яшчэ нялёгкае. Але каб хоць некалькі дзён волі, каб ёй пабачыцца з Віктарам, схадзіць у мястэчка, з сім-тым параіцца. Калі якая бяда, дык горнешся да людзей, бо хто ж яшчэ паможа табе, як не людзі? Людзі загубяць, але ж і памогуць людзі. Нават і ў такі страшны, кляты час, як вайна.

Паляжаўшы нямала часу, яна, аднак, трохі спачыла, рукі і ногі гудзелі, але прыйшло заспакаенне, — і стала сцюдзёна.

Яна ўжо некалькі дзён не паліла ў печы, у грубцы таксама, хата дашчэнту выстудзілася. Мусіць, трэба было прапаліць на ноч, а то да ранку заляскаеш тут зубамі. Ды і зварыць бульбіну. Есці таксама хацелася вельмі, а ў яе не было нават скарынкі хлеба.

Сцепаніда марудна апусціла ногі і злезла з палка. На дварэ ўжо вечарэла, але яшчэ было відно, у завуголлі гуў вецер, і голле ліп на падворку апантана матлялася, гнучыся пад няспынным ветраным напорам. У грубцы ляжалі накладзеныя пазаўчора дровы, трэба было толькі падпаліць іх. Сцепаніда ўзяла з загнеткі лучынку і сунула руку паміж печчу і сцяной — там яна хавала ад Петрака запалкі. Толькі яна дастала адтуль карабок, як на падворку дужа забрахаў Рудзька. У яе нядобра скаланулася сэрца, і з карабком у руках яна падскочыла да акна.

Рудзька скакаў па двары і апантана брахаў, аж захліпаўся, а па дарожцы з гасцінца да хутара хуткім крокам сігалі чацвёра мужыкоў з вінтоўкамі. Здалёку яна нібы пазнала кожнага з іх і сказала сабе: «Ну, усё!»

Як ні дзіўна было для яе самой, яна не дужа спалохалася і не пабегла нікуды, нібы чакала таго і разумела непазбежнасць менавіта такога канца. Напружаннем збянтэжанай памяці яна толькі прыкінула цяпер, што трэба зрабіць напаследак, і не ўспомніла нічога. А можа, яна ўсё ўжо зрабіла? Яна сунулася ад акна ў запечча, потым выбегла ў сенцы, мусіць, каб быць далей ад акон. Рудзька ўсё захлынаўся ў варотцах, і тады на дарожцы зводдаль бабахнуў першы іх стрэл. Рудзька прарэзліва заскавытаў і сціх — ці не назаўжды? Яна зразумела: цяпер чарга будзе за ёю.

Штосьці сцяміўшы, аднак, яна кінулася з сянец у істопку і накінула крук на прабой. Не, так проста яна ім не дасца.

Яна ўсё ж не Рудзька. І не Пятрок. І нават не Карніла. Яшчэ яна з імі пабораецца. Хай б'юць! Заб'юць, тады што ж... Тады іх перамога. Але яшчэ не забілі, і па сваёй волі яна ім не паддасца.

Тры ўдары абцасам у дзверы гулка аддаліся ў сенцах.

— Адкрой!

Яна сядзела на кукішках за тоўстым дубовым шулам у істопцы і маўчала.

— Сцепаніда, адкрой! А то ўзламаем!

«Ламайце!» — пакорна падумала яна. Але не так лёгка паламаць старасвецкія дзверы, на якіх у тры пальцы дошкі, скаваны з цэлага прэнта крук, прабіты цераз усё шула і загнуты канцамі знутры прабой. Ламайце!

Яны там перагаворваліся за дзвярыма — прыслухаўшыся, яна пазнала рыклівы голас Гужа, пісклявы падгалосак Каландзёнка, іншыя былі ёй незнаёмы.

— Гэй, акцявістка! — раўнуў Гуж. — Па-добраму адкрой! А то горш будзе! Ты мяне знаеш!

— А скулля вам! — крыкнула яна, не стрымаўшыся, і зараз жа пашкадавала: нашто было з імі вязацца? Хай бы не ведалі, дзе яна, стукалі сабе ў дзверы, біліся галавой аб сцены.

Яна думала, што яны будуць выломваць дзверы, а яны ўдарылі чымсь па акне, у хаце зазвінела, пасыпалася шкло, пасля з трэскам разляцелася рама. Гэта ўжо было горш, гэтак яны хутка будуць у сенцах. Добра, што ў істопцы маленькае акенца, у такое не ўлезеш. Але ж нешта яны надумаюць...

— Багацька, выхадзіце самі, мы біць не будзем, — пачуўся памяркоўны, амаль спакойны голас Свянткоўскага. «І гэты тут! — зласліва падумала Сцепаніда. — Добранькі, называецца...» — Пакажыце толькі, дзе бомба? Чуеце? Вас мы не чэпім.

«Іш, чаго захацелі!» — падумала Сцепаніда і адпаўзла ад дзвярэй да жорнаў. Яны там ці не ўсе ўжо разам тупалі ў сенцах — мусіць, нехта адзін улез у акно і адшчапіў дзверы. Але дзверы ў істопку не адшчэпяць.

Толькі яна падумала так, як дзверы з сянец тузануліся, нешта так грукнула ў іх, што пасыпалася труха са сцяны, і яшчэ загрукала з трэскам — мусіць, яны білі ў дзверы сякерай. Канешне, гэта было ўжо горш, гэта мяняла справу, усё звужаючы тое хліпкае кола бяспекі, у якім яна апынулася і

дзе ўсё меней заставалася месца для якой-небудзь надзеі. Але яна ні на што не спадзявалася, яна выразна ўсведамляла свой лёс, толькі да апошняй магчымасці адцягвала свой самы апошні момант.

Так, як хацела яна, на вялікі жаль, не выходзіла, яе планы рушыліся. Але ёй дужа патрэбна было, каб і па-іхняму таксама не выйшла.

Напэўна, яны маглі б застрэліць яе за дзвярыма — схавацца ад кулі тут не было дзе, але яны не стралялі. Мусіць, яна патрэбна была ім жывая. Каб сказаць, дзе бомба, ці што?

Значыць, ад Карнілы галоўнага яны не дазналіся. Але і ад яе не дазнаюцца таксама.

Яны ўжо ці не ўсе чацвёра адразу ламіліся ў дзверы, якія хадуном хадзілі ў пройме, толькі моцныя каваныя крукі і завесы не давалі ім разваліцца ў шулах. Але ж разаб'юць усё роўна. Рана ці позна, Сцепаніда ведала ўжо, што трэба зрабіць, толькі спалохалася ад думкі, што можа спазніцца. На каленях яна сунулася пад жорны і ўпоцемку дрыготкімі рукамі выкаціла адтуль цяжкую суляю з газай.

Яны ўсё білі, дзверы трэсліся і трашчалі, а яна выцягнула драўляную затычку і з шырокага рыльца пасудзіны пляснула на дзверы, затым паабапал дзвярэй, аблiла другую сцяну — на падворак. Яна і сама аблілася — рукі, ногі, спадніцу, засмярдзела газай, але цяпер усё тое не мела значэння. Кінуўшы на дол ужо лёгкую пасудзіну, з маленькай кішэнькі ватоўкі дастала запалкі, якімі так і не паспела распаліць грубку, і, стоячы на каленях, чыркнула запалкай па карабку.

Але з першай запалкай яе напаткала няўдача, дзверы не загарэліся, запалка атухла.

Тады яна сцягнула з галавы хустку і выліла на яе з суляі рэштку газы, запаліла другую запалку, — хустка пыхнула барвовым полымем, і яна, абпякаючы рукі, кінула яе на парог.

Сцепаніда ўпала нічком на старасвецкі земляны дол, утаптаны за вякі нагамі паноў, шляхты, парабкаў, нагамі Петрака, яе мужа, і яе дзяцей, і, задыхаючыся ад дымнага смуроду, глядзела на агонь. Полымя ад хусткі гулліва шыбанула на дзверы, узвілося пад столь і коса папаўзло па бёрнах сцяны; загарэліся нейкія транты на цвіку ў куце; кучаравыя агняна-чырвоныя космы полымя закруціліся, заверашчэлі ў шызым і чорным дыме, усё імкнучыся вышэй у падстолле,

да смаляных бэлек істопкі. Яна ўжо задыхалася ад дыму і шчыльней прыціснулася да прахладнай земляной падлогі.

У сенцах, чуваць было, раздаліся галасы, нехта штосьці крыкнуў загадна-трывожнае, але яна не зразумела — што, толькі адзначыла ў думках, што дзверы ламаць перасталі.

Замест таго праз хвіліну ў сенцах гулка бабахнуў стрэл, і нешта ўдарыла ззаду ў кубёлак. Куля! Але цяпер хай страляюць, цяпер гэта ўжо не палохала яе. І яшчэ бабахнула ў другім баку, на падворку — другая куля ўдарыла недзе пад жорны, якія ўжо займаліся з кута касмылявым свіркоткім полымем. Істопку скрозь завалакло змрочнымі пластамі дыму, праз якія сям-там угары прабіваліся-бліскалі мільготкія языкі агню, дыхаць рабілася ўсё трудней, і яна, ужо не кратаючыся, падкурчыўшы ногі, ляжала ў доле. Яна адчувала, што зараз згарыць, што, мабыць, рухне падстолле, ці раней задыхнецца ад дыму, калі да таго не застрэляць знадворку. Але цяпер ёй было ўсё роўна.

Яна сваё ўсё зрабіла, якіх-небудзь надзей на паратунак у яе не засталося.

Яны там, на падворку, нешта гаманілі і крычалі, яшчэ некалькі разоў стрэлілі цераз сцяну, але ёй у істопцы нічога не было чуваць — агонь усё болей убіраўся ў сілу, па кутках і па сценах трашчала, сквірчэла, гуло — палалі ўжо столь, сцены, дзежкі ў куце, кросны, засекі, дробнае гаспадарскае начынне — усё драўлянае, шматгадовае і сухое. На яе густа патыхала жарам і сыпаўся прысак, дужа пякло ў галаву і ногі, здаецца, ужо загараліся валасы на патыліцы, яна ўткнулася тварам у рукаў ватоўкі і марудна, але няўхільна пакутна задыхалася. Яна толькі думала, што з ёй будзе раней — згарыць ці задыхнецца ў дыме, — і не ведала, што цяпер лепей. На кароткі момант свядомасць яе млява зацьмелася, яна забылася, пасля ачнулася і адчула, што на спіне смыліць вата — гарыць ватоўка. Гэта ўжо быў канец, і яна не ў лад са сваім станам падумала: чаму ж яе там, у яміне, не ўбачыў хто з бомбай? Хоць бы хто-небудзь з тутэйшых — які пастушок, малец, жанчынка, каб запомнілі месца, пакінулі знак у памяці. Бо інакш, калі не адкапаюць гэтыя, задарма прападзе яе клопат і спрахне без толку сіла, на якую яна спадзявалася.

Між тым дыхаць ужо не было як, яна задыхалася, смылелі валасы на галаве і ўдушліва дыміла вата з ватоўкі.

Здаецца, загарэліся і рукавы на локцях, якімі яна затуляла твар і думала: а можа, і добра, што яе ніхто не пабачыў, ні добры, ні злы чалавек, і ніхто нічога не ўведае. Добрым людзям і не трэба, а гэтыя хай шалеюць. Хай думаюць — дзе? І не спяць ні ўдзень ні ўначы — баяцца да скону.

Гэтая думка прынесла маленькае супакаенне і была астатнім праблескам яе спакутнелай свядомасці перад апошнім забыццём, з якога яна ўжо не ачнулася.

Яна ўжо не чула, як, дапятыя агнём, выскачылі з сяней паліцаі, не бачыла, як занялася полымем страха істопкі і вецер магутна раздзьмуваў яго, скіроўваючы ў бок хлява і пунькі, і як неўзабаве шырокае мора агню з трэскам, гулам і скрыгатам запанавала на ўсёй сядзібе, драпежна жаручы будынкі, дровы, бліжэйшыя да сцен дрэвы, платы, абсыпаючы падворак іскрамі і попелам.

Імклівыя раі іскраў і агнянае клочча саломы несліся ў начным задымленым небе над ровам да сасонніку і дарогі з ненавісным ёй мастком цераз дрыгвяністую рэчку Дзеравянку.

Пажар ніхто не тушыў, хутар гарэў грунтоўна і доўга — усю ноч, дагараў у наступны дзень, і паліцаі не падпускалі нікога блізка, самі трымаючыся воддаль, — баяліся выбуху бомбы.

А бомба на ўзроўку чакала свае пары.

*1982*

# АБЛАВА

## Раздзел першы

## ЧАЛАВЕК НА ІМШАРЫНЕ

Прырэчная лугавая імшарына з раскіданымі па ёй бухматымі купкамі лазняку ды грыўкамі зрудзелага бярэзніку дружна зелянела позняю восеньскай атавай. У доле скрозь было мокра, няўходна, мох часам асядаў пад нагамі, і тады з-пад яго цвіркала мутная жыжа. Але мох дужа не правальваўся, дрыгвы тут не было. Гэта цяпер, увосень, імшарына набрыняла вадой і стала падобнаю на балота, а ўлетку, у пару сенакосу, дык тут скрозь было суха, вольна хадзілі касцы, бабы і нават ездзілі на брыках, калі звозілі сена. Дзе-нідзе ў доле яшчэ і цяпер, налітыя чорнай вадой, блішчэлі сляды конскіх ног. Пасля дажджоў прырэчнае балота шырока разлілося, заліло імшарыну, якая, бы цеста на дражджах, пачала пухнуць мяккім вільготным мохам. Скураныя пасталы на нагах у чалавека даўно раскіслі ад балотнай вады, анучы наскрозь змакрэлі. Але чалавек не заўважаў таго і між кустоўя ўпарта імкнуўся кудысьці. Наўкола стаяла цішыня, нідзе не было нікога. Людзі завіхаліся на палетках, выбіралі бульбу, — нашто цяпер каму гэтая дальняя прырэчная імшарына? Чалавек, мабыць, ведаў тое і ўсё ж адчуваў сябе неспакойна, нават трывожна; хада яго была такая насцярожаная, што, здавалася, варта недзе каркнуць вароне, як ён здрыганецца і абамрэ на месцы.

Быў ён немаладога веку, даўгалыгі і шырокі ў плячах, але надта худы, з жылаватай выцягнутай шыяй. На даўно не голеным твары чырванеў даўгі прастуджаны нос, з-пад святлявых броваў насцярожана зыркалі шэрыя вочы. Рот яго быў трохі

разяўлены — ад стомы ці залішняй увагі, і з-пад абвіслых вусоў вытыркаліся два ніжнія зубы, іншых спераду не было відаць. Дыханне ў чалавека чулася сіпатае і частае — усё ж, мусіць, далася яму ў знакі гэтая хада па балоце. Апрануты ён быў у зрудзелы ад старасці вясковы армячок-паддзёўку, залаплены на плячы чорным суконным лапікам, на запалым жываце скасабочана трымалася раменная папружка. Пакамечаная кепка на галаве даўно ўжо страціла сваю ранейшую форму і выглядала нібы аблавушка — відаць, насілі яе не адзін год. Мабыць, таксама, як і порткі, спераду і ззаду абсаджаныя лапікамі, на якія, у сваю чаргу, былі прышыты новыя лапікі — такія зношаныя былі порткі. Бадай самае спраўнае на чалавеку былі ягоныя пасталы, хоць і раскіслыя ад вады, але з моцнай сырамятнай скуры, туга сцягненыя на нагах вераўчанымі забэрскамі, канцы якіх былі абкручаны аднізу на калашынах тых нехуцавых порткаў. Ніякай ношы ці хатулька ў чалавека не было відаць, вольныя рукі яго, аднак, не матляліся, а, напаўсагнутыя, насцярожана віселі па баках.

Відаць было па ўсім, што чалавек даўно ішоў адзін, звыкся са сваёй адзінотай і старанна абмінаў людзей. Людзі для яго былі найвялікшаю небяспекай у полі, на дарогах, ці не таму ён выбіраў шлях воддаль ад дарог, паселішчаў, між параснікаў і балацявін або цераз лес. За час блукання ён адвык ад чалавечага голасу, сам маўчаў, толькі напружана, да болю ў галаве, думаў і безупынна ўзіраўся ў наваколле. Слых яго стаў такі востры, што ён лёгка заўважаў самы кволы птушыны шолах у кустоўі, за вярсту лавіў стук калёс на дарозе; нягучны дзіцячы вокрык даваў яму знаць, дзе пасвіцца вясковы статак. Статка ён не баяўся, ужо разы тры, натрапіўшы на пастушкоў, разжываўся ў іх хлебам ці бульбінай, аднойчы нават паспытаў трохі сала. Сала дала дзяўчынка, якая разам з другой гэткай жа малечай пасвіла шэсць каровак на ржышчы пад лесам, і ён, вылезшы з кустоўя, спярша папытаўся, якая вёска здаля на пагорку і як клічуць дзяўчынку. Мусіць, тая ўсё ж напалохалася, але адразу выняла з кішэні бацькавай світкі загорнуты ў чыстую анучку свой полудзень і моўчкі аддала дзядзьку. Ён узяў, адышоўся і, хоць быў згаладнелы, бы воўк, не мог узяцца есці — так узрушыў яго той яснавокі позіркі дзяўчаці, які неспадзеўкі нагадаў яму ягоную дачушку Волечку. Добра адышоўшыся па ўзлеску, ён зашыўся ў гушчар і не стрымаўся — заплакаў, мо першы раз з таго

часу, як пахаваў дачушку. Не суджана было ёй пабачыць сваю зямельку, прыбраў бог на чужой старане, навек супакоіў над жвіровым абрывам далёкай сцюдзёнай ракі.

А бацька дайшоў.

Прырэчная імшарына разам з ракой крута паварочвала ўбок, наперадзе між кустоўя засінеўся хвойны грудок, і Хведар Роўба запаволіў хаду, гатовы зусім спыніцца. На твары яго адбіўся выраз тугі, нават болю, ён зморшчыўся сваімі зашчаціненымі маршчакамі, нібы збіраўся заплакаць. Ды і сапраўды ледзь не заплакаў, расчулены, можа, пазнаўшы памятную з дзяцінства мясціну — той пясчаны грудок сярод балацявіны, на якім зімой і ўлетку зелянела купка стромкіх старых хваін. Там, ведаў, была дарога, якою ён калісьці ездзіў на станцыю, у мястэчка, малы — з бацькамі на кірмашы, затым у раён да начальства, колькі разоў вазіў нарыхтоўкі збожжа, падатак просты і два разы цвёрды. Грудок, здаецца, не змяніўся за ўсе доўгія пяць гадоў, як Хведар не бачыў яго, хвойкі нібы папрыгажэлі нават і бухмата зелянелі зводдаль, быццам слалі яму прывітанне з таго даўняга самотнага дня, як ён апошні раз глядзеў на іх з воза па дарозе на станцыю.

Вельмі яму хацелася падысці да грудка, каб хоць зірнуць на знаёмыя мядзяныя камлі хвой, сухі жвірысты дол, ды ён не пайшоў. Блізка было і жадана, але... Наперадзе, мусіць, чакалі яго і яшчэ болей родныя мясціны, а там, за грудком на дарозе, маглі паявіцца людзі. Свае, знаёмыя, дзеравенцы. Але сустрэчы са сваімі і знаёмымі ён баяўся болей за ўсё.

«Божа літасцівы, чаму ж я такі нешчаслівы? — звыкла падумалася Хведару, як думалася бадай штодня ўсе пяць гадоў ягоных пакут. — Жывуць людзі, спакойна ходзяць па гэтай зямельцы, і, мусіць, ніхто не ведае, як без яе. А я...» А ён, калісьці гвалтам адарваны ад яе, здаецца, здзічэў нутром ад самоты па ёй, спарахнеў розумам. Двойчы за апошні год ён уцякаў — па-дурному, без падрыхтоўкі і аніякага шанцу, дзе ж было дапяцца да ўдачы. Але во ці не пашэнціла ўсё ж, калі ўжо зніклі ўсе спадзяванкі. Здаецца, і напраўду хутка ён убачыць свой родны кут, сваё поле, стрэхі маленечкай падлеснай вёскі Нядолішча, з яе малаўрадлівымі палеткамі, балоцістым выганам і параснікамі, дзе мінулі яго маладыя гады, дзе будучыня колісь паклікала яго да незабыўнага, зманлівага шчасця. Няўжо цяпер яму надарыцца такое? Ад

таго грудка па дарозе заставалася тры вярсты да канчатковае мэты яго падарожжа. Няўжо яна спраўдзіцца?

Каб не ісці па дарозе і размінуцца з грудком, трэба было неяк праскочыць па вузенькай голай лагчынцы з ручаём, перайсці па той бок дарогі, бо на гэтым пачыналася балота, па якім ён, мабыць, не пройдзе. Тут ужо ён наскрозь усё ведаў, не трэба было пытацца. Ён і раней ні пра што не пытаўся, хіба дзе ў пастушкоў, аднойчы — у бабкі, што з кійком у руках брыла па дарозе ў полі. І ніколі — у мужчын ці маладых хлопцаў, дзевак, якія хутка маглі яго затрымаць, здаць у міліцыю. На маладых надзеі не было ніякай, тыя цяпер спрэс камсамольцы, выхаваныя ў нянавісці, падазрэнні да кожнага чужога, незнаёмага. А да такога знаёмага, як ён, — тым болей.

Дарогу ён перабег удала, паблізу нікога не было відаць, і, трохі захінуўшыся за кустамі алешніку, даклыпаў да большага лесу. То быў край вялікага Казённага лесу, у якім некалі выдзялялі дрэвы сялянам — на пабудову. Ён і сам пілаваў тут на хату, як будаваўся пасля вайны на сваім толькі што прыдбаным надзеле, які тады наразаў яму сельсавет — дванаццаць дзесяцін — па дзве дзесяціны на душу. А было ў яго тады шэсць душ: ён з жонкай Ганнай, двое старых, сынок Мікалай ды малая дачушка Волечка, якая ў той год нарадзілася. І ён, пагарджаны парабак, патомны беззямелец, стаў уладаром гэткага багацця зямлі з былога панскага прасцягу пад лесам. Помніў, душа яго спявала ад шчасця, белы свет здаваўся несканчона зіхоткім раем. Пабудаваў хату, гумно, хляўкі — зажылі...

Недзе тут, у лесе, між негустых таўшчэзных хваін, павінна была трапіцца яму старая дарожка, але ён не стаў шукаць яе, пайшоў наўпрост. Стомлены, згаладнелы, з настылымі мокрымі нагамі, ён не мог адолець у сабе трывожнага неспакою і міжволі імкнуўся наперад — каб толькі хутчэй. Часам нават забываўся на асцярогу і шыбаваў наўпрост, праз хмызняк і кустоўе, хрускаючы апалым суччом; перайшоў беразнячок-падлесак і выбраўся на амаль чысты і голы расцяроб-дзялянку. Дзесьці паблізу была і ягоная дзялянка, дзе ён са шваграм Тамашом пілаваў узімку бярвенне, падлетак Міколка памагаў тады абсякаць суччо. Дзе цяпер той Тамаш?..

Усё ж ён трохі прабег па зарослай травой лесавой дарожцы —ісці спакойна ўжо не ставала сілы, — усё ў ім імкнулася наперад, туды, дзе на ўзлеску павінна было паказацца поле і ягоная асіраацелая без гаспадара сядзіба. Канешне, не пустуе, хтось там жыве... А няшчасны гаспадар, здаецца, траціў развагу ад нецярпення, узрушэнне калаціла яго нервовай дрыжакай, так хацелася яму згледзець хутчэй дранкавы дах з чырвоным комінам, саламяныя стрэхі хляўкоў, гародчык пад вокнамі, некалі поўны вяргіняў, яблынькі ў садку па-над сажалкай. Як садзіў ды прышчэпліваў, былі яшчэ малыя, са жменькай лісточкаў у суччы, а цяпер... Цяпер, мабыць, ужо стаяць з яблыкамі. Не дзіва, мінула столькі гадоў.

Ён выбраўся на ўзлесак ля старой, знаёмай з дзяцінства раскарэкі-грушыны, травяны дол пад якой быў спрэс абсыпаны свежымі і ўжо гнілаватымі грушамі; безліч іх жаўцела ў пажухлай лістоце. Адсюль ужо добра відаць быў вялізны прасцяг узаранага на зябліва поля. Хведар марудна клыпаў па ўзлеску, усё пазіраючы ўніз, да ручая, дзе ляжаў ягоны сіроцкі надзел. За ім віднеліся ўдалечы крайнія хаты Нядолішча — стрэхі хляўкоў, садкі і платы ля гародаў. На крайнім агародным шнурку, сагнуўшыся, поркалася жанчына ў чырвонай хусціне, мусіць, нехта з Антосевых баб выбіраў бульбу. Але дзе ж ягоная сядзіба, дзе хаты і будынкі? На раўнінным, трохі пакатым пляцы надзелу з слабенькай восеньскай рунню гойдалася на ветры некалькі велікаватых ужо дрэў садка, ніводнай жа будыніны не было побач. Скрозь ляжаў прасцяг голага поля — ад лесу аж да самай сажалкі ўнізе.

Хведар яшчэ ішоў, нязграбна шоргаючы пасталамі ў сухім быльнягу ля ўзлеску, але сілы яго ўсё марнелі, крок рабіўся ўсё цяжэйшы, і ён стаў. Пасля вяла апусціўся на ўзмежак ля альховых кустоў і знерухомеў.

Ну во і дабрыў. Дапяўся. Бадай што праз тры месяцы неверагоднага шляху, пакут і цярпення. Але на што было спадзявацца і на што наракаць? Чаго ён хацеў? На што разлічваў? Найперш, каб пабачыць. Ну вось і пабачыў... Ці тут павінен яго хто сустракаць, хто прывячаць — уцекача з таго свету? Ці хоць бы ашчаджаць яго пакінутую сядзібу — мусіць, пайшла на патрэбу іншым. Можа, кудысь перавезеная, дала прытулак добраму чалавеку. З дзецьмі і старымі. Ужо, напэўна, шчаслівейшаму, чым ён. А зямля?.. Зямля во засталася і нават зелянее рунню. Здаецца, і неблагая рунь. Толькі на тым

канцы каля сажалкі зачарнелася ад вільгаці, там заўжды ўсё пасеянае вымакала. Некалі ён стараўся там саджаць бульбу, два разы сеяў каноплі. Збажына ж каля сажалкі не радзіла. Але гэтыя цяпер, мусіць, не ведаюць. Засеялі ўвесь прасцяг жытам, думаюць, будзе расці...

Ён сядзеў так, апанураны, у абсалютнай знямозе, і глядзеў на ўсё тое, чаго не бачыў гады і да чаго гэтак імкнуўся. Над полем і вёскай маркатнеў восеньскі адвячорак, з лесу плыў густы пошум ветру, і кудысь ляцелі ўгары раскудлачаныя даждждавыя хмары. На полі і паблізу не было нікога, людзі адно трохі варушыліся ў вёсцы на гародах і падворках, за платамі і парканамі. З канца вуліцы выехалі калёсы з падлеткам, які сярдзіта махаў пугаўём на гнядога кастлявага коніка — з ціхім грукатам калёсы пакаціліся ў раўчук за вёскай. Падлетка Хведар ужо не стараўся і пазнаць, хоць тут, вядома, некалі ведаў кожнага, старога і малога. Але ж мінулі гады, за якія, мабыць, сышлі на той свет старыя, павырасталі малыя. Ці ён пазнае каторага? Але не дай бог, каб тут пазналі і яго. Ці хоць бы заўважылі. Схамянуўшыся, споўз з узмежка, стуліўся, сеў ніжай. Нядаўняе ўзрушэнне патроху міналася, ён ужо болей спакойна стаў пазіраць на знаёмае з дзяцінства поле, палетак азіміны, рэдкія адзінокія дрэўцы на былых межах, кустоўе ў нізінах і каля балотцаў. У тым канцы вёскі зелянела шыракаватая купка хвоек, нешта бялелася пад імі. То былі тутэйшыя могілкі з усёй ягонай раднёй, старымі, дзядамі і прадзедамі — усім яго родам. І шмат якімі вясковымі родамі, што адышлі, аджылі сваё, адпакутавалі. Зайздросная ўсё ж доля, падумаў Хведар: навек разам з усімі, у сваім кутку. А ягоная жонка Ганула, спакутаваная вясковая кабетка, не ашчаслівілася нават і гэткаю доляй — легла ў балотную ямку пад сцюдзёным Котласам. Ці думалася калі. Ці хто чуў тут тую незразумелую назву, якая во стала яе страшным лёсам. Ды ледзьве не стала і яго таксама.

Хведар доўга сядзеў на ўзмежку з кустоўем, узіраўся ў прасцяг. Пачалі зябнуць яго мокрыя ногі, ды і самому стала халаднавата, прыкметна халаднела пад вечар. Відаць было, у вёсцы ішло звычайнае вечаровае жыццё, людзі, мусіць, прыйшоўшы з поля, ладзілі свае дваровыя клопаты. Па сцежцы на гародзе прайшла баба з каромыслам на плячах, нетаропка набрала вады са студні, паазіралася, счакала і, цяжка ступаючы, панесла ваду назад. У хатах запалілі грубкі,

пачалі варыць бульбачку на вячэру, з двух ці трох комінаў вецер панёс клочча дыму. Хведар прагна азіраў наваколле, узіраўся ў падворкі, але найбольш ягоную ўвагу прыцягвала сваё колішняе жытло. Здавалася яму, што ля ўцалелага садка ўсё ж застаўся нейкі няпэўны след ад ягоных будынін, можа, не ўсё там панішчана. Адгэтуль відаць быў густы зараснік быльнягу, нешта грувасцілася там — на месцы падмурка, ці што. І ён думаў, што трэба ўсё ж дабрысці туды, паглядзець, хоць бы памацаць зямельку, якая некалі абяцала яму столькі радасці, а дала — адно гора. Але было яшчэ відна, трэба было счакаць. І ён цярпліва чакаў. Як хаты ў вёсцы трохі завалакло вечаровым сутоннем і ўжо мала што ў полі можна было згледзець, устаў. Хістаючыся, пабрыў наўкось па азіміне да ледзьве прыкметнай у ветраной шэрані купкі садовых дрэўцаў.

Як ён і здагадваўся, котлішча не было заарана, някратаным застаўся падворак, ацалелі падмуроўка ад хаты і вуглавыя камяні ад свірна... Камяні былі аграмадныя, асабліва адзін, што паклалі пад ніжні вугол будыніны. Іх прывалаклі з Гараняў. Яшчэ тады яму памагаў швагер Тамаш, і яны ўдвух ледзьве ўскацілі на калёсы гэты камень, які і цяпер гладкім бокам вытыркаўся з зарасніку крапівы, ніхто яго не зрушыў. Падмуроўка пад хатай месцамі выкрышылася, абрасла пустазеллем, ганка з трох пляскатых камянёў не было зусім, мусіць, тыя камяні ўзялі разам з хатай на новае месца. Там, дзе некалі была печ, грувасцілася аброслая палыном куча бітае цэглы — усё, што засталося ад печы. Яно і вядома, болей не магло застацца: цэгла была нехуцавая, дрэнна абпаленая, ён бачыў гэта тады, як купляў, ды на Савацееўскай цагельні не было лепшай: там не хапала паліва. Тады казалі: нічога, для печы згадзіцца. Яно і згадзілася, печ неяк праслужыла год з восем, толькі комін мусілі перакласці, — на комін ён прывёз ад Тамаша сотню старых цаглін, яшчэ даўняй, царскага часу фармоўкі. Сумна яму было сланяцца па гэтым пабураным котлішчы, душа аблівалася крывавымі слязьмі. Адно што парадавала яго — дык гэта садок, дрэўцы ўвабраліся ў самую сілу і былі куды большыя за яго чалавечы рост. Яны бесклапотна ляскаталі лісцём на ветры, нібы зусім безуважныя да таго, хто даў ім жыццё. Тры антонаўкі прышчапіў на другім годзе свайго тут жыцця, дзве грушкі — праз год. Чаранкі прывёз аж з Фарынава, купіў у знаёмага настаўніка на станцыі.

Першы прывой, аднак, не прыняўся, увосень прышчэпліваў зноў, тады ўдалося лепей. Цяпер ён абышоў дрэўцы, пакратаў іх таўставатыя камлі, нібы павітаўся з кожным. Было ўжо цемнавата, і яго зацікавілі яблыкі — ці было хоць што ў суччы? Паўзіраўшыся ў цёмнае лісце, пакратаў навобмацак ніжнія галіны, трошкі страсянуў крайнюю антонаўку. Не, нідзе нічога не варухнулася нават і не ўпала долу. Ці абабралі ўжо? І тады ён згледзеў апушчаны долу паламаны сук, другі, што ляжаў у траве, і зразумеў, што, мабыць, яблыкаў тут даўно ўжо няма. Як тут ім быць — садок сярод поля, неабгароджаны, занядбаны, без гаспадара і дogляду. Ведаў здаўна: яблыні, як кветкі, без чалавечай любові расці не будуць.

Хведар абышоў і іншыя мясціны котлішча. Там, дзе быў калодзеж, зеўрала аброслая быльнягом яміна, ад зруба ці калаўрота не засталося і знаку; на дрывотні ў голым доле трохі прыкметны былі зляжалыя трэскі, але дроў тут не відаць было ні палена. Пастаяў, узлезшы на кучу бітае цэглы сярод быльнягу, успомніў, як некалі грэўся на печы, прыехаўшы ўзімку з лесу ці з дарогі, як тут спалі старыя ды і жонка Ануля таксама. Але бядотная яго Ганулька, можа, меней за ўсіх тут грэлася — болей тупала перад чалеснікам, кожнага рання гатуючы харч на немалую сямейку, чыгуны бульбачкі для жывёлы. Не мела часу і пагрэцца нават у маразы і сцюжу, калі сіберныя ветры выдзьмувалі іх хутар. А цяпер ужо навек супакоілася і ніколі ўжо не пагрэецца, лежачы ў чужой мёрзлай зямлі, акрай сумных балотных могілак. Хварэла яна нядоўга, перад тым як легчы, штодня цягалася на лесасекі, дзе з брыгадай такіх, як і сама, жанчын збірала і паліла суччо. Нямоглая была ўжо даўно, з Грамніц, дужа кашляла ноччу, жалілася на боль у баку, але да дактароў не хацела — баялася дактароў, таксама як і начальства, старалася як мага менш з імі знацца. Узімку ёй трохі памагла загаворам старая Банадысіха, высланая аднекуль з-за Воршы зямлячка, казала тады, быццам зрабілася лепей. Але ненадоўга. Якраз у чысты чацвер, прывалокшыся з дзялянкі, лягла і болей не ўстала. Яму не было як даглядаць яе, самога выганялі штодня на тралёўку, рыхтаваліся да веснавога сплаву, трэба было назапасіць шмат дрэва да крыгаходу. Начальнік участка не даваў нікому дыхнуць, і брыгады рабілі ў лесе ад зары да змяркання. І ён, абліваючыся горкімі слязьмі ў душы, кінуў яе на малую Волечку, якая цэлы дзень то плакала, то тоненькім дзіцячым

галаском пяяла маці ўлюбёную ёю «Вутачку». Мабыць, так яна і адышла з гэтага свету пад жаласны спеў дачушкі, і, як ён прыплёўся ўвечары ў барак, Волечка сядзела, ціхенькая і журботная, сказала: мамачка спіць. Ён кінуўся да Ганулькі на нары, затузаў, загукаў, пасля разгарнуў ашмоцце, якім яна была ўкручана, — Ганулька ўжо асцюдзянела. Удваіх з Волечкай пачалі плакаць — яна голасна і няўцешна, ён — моўчкі, душачыся нутранымі слязьмі.

Назаўтра яго аслабанілі ад працы, з прыкрасцю і незадаволенасцю начальнік сказаў: да паўдня. За гэтыя паўдня трэба было выкапаць магілку, змайстраваць якую труну, адвезці на могілкі акрай пасёлка, у балоцістай голай нізінцы. Могілкі там былі новыя, можа, другі год як распачатыя, хоць крыжоў сабралося ўжо багата — спецперасяленцы паміралі дружна, асабліва старэйшыя людзі, — не прыжываліся на гэтай дзікаватай зямлі. Зрэшты, мёрлі і маладзейшыя — ад непасільнае працы, галадухі і сухотаў, якія валілі нават дужых маладых мужчын. Казалі разумныя людзі — найбольш, аднак, ад суму-тугі па родных мясцінах, ад нуды вечнага з імі расстання. Яно, можа, і праўда.

Якраз набліжалася вясна, на пагорках ужо раставаў снег, хаця ў той нізінцы за пасёлкам яшчэ ляжаў тоўстым, зацвярдзелым пластом. Хведар гадзіну шкрабаў яго рыдлёўкай, пасля дзёўб кайлом мёрзлую глебу. Выкапаў неглыбока, можа, да паясніцы, не болей, але капаць далей не ставала сілы, а найбольш — не было часу, ён дужа баяўся спазніцца, не паспець да паўдня. Кінуўшы ўсё на могілках, пабег майстраваць якуюнебудзь труну. Майстраваць ён збольшага ўмеў, рукі змалку былі прывучаны да няхітрага цяслярскага інструменту, але трэба былі дошкі. Загадчык гаспадаркі, да якога ён сунуўся ў прыбудоўку са сваёй патрэбай, корпаўся над паперамі ў доўга маўчаў; у парозе маўчаў Хведар, цярпліва чакаючы ягонага слова. Урэшце загадчык устаў, нетаропка закурыў і з вялікаю неахвотай пасунуўся на задворкі, дзе былі складзены дошкі. Тут іх, прысыпаных снегам, ляжала багата штабялёў — тоўстых і тонкіх, дваццатак і саракоўвак, іншага пілавання таксама. Але гэты змрочны чалавек паказаў яму на канцы гарбылёў, што тырчэлі з-пад снегу, і сказаў праз зубы: «Во цягні. Пяць штук, не болей».

І Хведар пачаў выбіраць што-ніштo лепшае з тых сырых, умерзлых у снег гарбылёў. Выцягнуў пяць штук, сукаватых і

неашкораных, і, сашчапіўшы зубы, павалок іх да барака, дзе як-колечы збіў труну. Плакаць хацелася ад крыўды, зірнуўшы на тую труну, у якой наканаваў бог Ганульцы знайсці свой апошні спачын.

Хавалі ўдваіх з Банадысіхай, іншых браць з працы не дазвалялася. Удваіх паклалі цяжкую намёрзлую труну на вадавозныя сані, Банадысіха з Волечкай умасціліся абапал, а ён памалу павёў за аброць старую падслепаватую кабылу на ваколіцу. Лацвей, везці было недалёка. Банадысіха ззаду ціха бубніла малітву, а ён, спакутаваны і знясілены, думаў, што трэба і яму следам. Жыць так, як яны жылі тут, было нельга, лепей памерці. І, мусіць, памёр бы, калі б не Волечка. Дзяўчынцы ішоў дзесяты гадок, удалася яна не па-дзіцячы разумная, сур'ёзная, ніколі не ўсміхнецца, бывала, і ён думаў: мо хоць яна дажыве да чаго лепшага. Вельмі хацеў, каб яна дажыла. Ды не збылося тое і ў Волечкі...

Але што было рабіць далей, ён не мог даўмецца. Ён збіўся з панталыку ў гэты вечар на сваім котлішчы і стаяў, бы аглушаны, раптам страціўшы ўсе жаданні. Галоўнае — страціў мэту, якая вяла яго праз доўгія тыдні праз усе нягоды і пакуты сюды, на родныя гоні, у свой кут. Што яго чакае тут, ён, бадай, не думаў, усё былое стала для яго няважным. Нядаўна яшчэ галоўным было — дайсці, хоць дапаўзці, каб хоць адным вокам зірнуць і памерці. О, памерці тут, знайсці вечны прыстанак у родным кутку было б найвялікшым шчасцем, пра якое ён не адважваўся і марыць...

Але што рабіць, пакуль ён жывы, куды падацца? Пайсці да каго ў вёску ён не меў права, каб не наклікаць на людзей бяды ды і сябе не выдаць міліцыі. Пакуль яго ніхто з вёскі не згледзеў, ён мог разлічваць на нейкую тут волю, якая адна яго і натхняла, давала жыць. А калі ўбачаць, пазнаюць, мусіць, тады ўсё і скончыцца. Тады зноў тое, што горш за пагібель. Тады ўжо хай смерць. Але цяпер ужо ў сваім кутку. Ужо да смерці яго адгэтуль не вытураць.

Тым часам зусім сцямнелася, усчаўся настырны вецер, і Хведар стаў зябнуць, аж скаланацца ад сцюжы. Дзе было затуліцца ад ветру? Хоць бы пакінулі якую пуньку, паветку, хоць бы сабачую будку, дзе жыў іхні Лабацік, ласкавы малады сабачка, прыдбаны на хутар незадоўга да іх высылкі. Дык не, не пакінулі нічога. Спрэс пустка і разарэнне. Але і ісці яму адгэтуль не было куды, і ён не ішоў. Доўга непрыкаяна тупаў

сюды-туды ў быльніку, азіраў цёмныя зараснікі дзядоўніку і крапівы. Узлез на печышча, пастаяў і сеў, бо стаяць ужо не ставала моцы, балелі ногі. Сядзеў, думаў. Пра былыя гады і былыя клопаты. Пра дурныя, няспраўджаныя надзеі. Пра жонку Ганульку. Як закладвалі зруб хаты, пад чырвоны вугол паклалі царскі рубель і повязь — яе і яго матузы. На багацце і каб жылі добра, не сварыліся і не разлучаліся. Яны і не разлучыліся да самай яе смерці. Добрая была жанчына: і працавітая і зважлівая. Хведар не памятаў нават, ці пасварыліся калі. А шчасця было так мала. Але ці па іхняй віне? Такое выдалася жыццё. Толькі дражнілася шчасцем, а ўволю надзяліла работай, турботамі і бядою. Думаў: хай, яны стрываюць усё, можа, хоць дзецям будзе лягчэй. Усё ж займелі зямлю, батракамі не будуць, як некалі батрачыў ён, Хведар. І праўда, сынок Міколка надта прыхільна памкнуўся да зямлі і гаспадаркі, рана пачаў рабіць плячо ў плячо з бацькам. Ажно люба было глядзець, як ён гнаў баразну новенькім сінім плугам ці на касьбе ішоў у радзе дарослых мужчын. Ды неўзнарок неяк улёг у навуку — спярша ў школе, затым — як уступіў у камсамол. І ўсё — сходы, мітынгі, спрэчкі. Стварылі ячэйку і прызначылі яго сакратаром. Стала не да гаспадаркі... Але бацька ўсё думаў: хай! Можа, выйдзе ў людзі, а ён ужо як-небудзь пераб'ецца і без памагатага. Ведама, лягчэй не стала. Асабліва калі той перабраўся ў раён і зусім забыўся на дарогу ў Нядолішча.

Міколка, вядома, хлопец разумны, адукаваны, не раўня бацьку. А тое, што ён адбіўся ад гаспадаркі, можа, і добра. У тым, напэўна, яго паратунак, інакш дзе б ён быў зараз? У Котласе ці яшчэ далей. А так начальнік у раёне. Нікому Хведар не пісаў з высылкі, а швагру Тамашу неяк паслаў ліст (яшчэ як была жывая Ганулька) і праз паўгода атрымаў адказ. Той не пісаў, як жыве, ні слова пра парадкі ў раёне, усё больш — пра здароўе і ў канцы паведаміў, можа, самую прыемную навіну: што Міколка вярнуўся з Чырвонай Арміі і цяпер вялікі начальнік у раёне. Ганулька, можа, першы раз за гады, шчасліва заўсміхалася, Волечка запляскала ў ладкі, а ён нахмурыўся — радуючыся і заклапочана адначасна. Жартачкі: сын раскулачанага — начальнік. А калі даведаюцца?

Пасля Хведар шмат начэй думаў пра тое, пра сына і ягоную начальніцкую пасаду, непакоіўся і перажываў. І ўсё стаяла ў думках, што сказаў Сталін: сын за бацьку не ад-

казвае. Гэтыя словы ён чытаў у газеце, шмат разоў чуў ад людзей. Мусіць, і сапраўды так. Калі Міколку паставілі ў раёне начальнікам, дык, мусіць жа, ведалі, дзе бацька і маці і з якой сям'і ён паходзіць. А можа, даўмеліся ўрэшце, што раскулачылі няправільна, незаслужана, таму і сын ні пры чым. Тым болей што той даўно не жыў пры бацькавай гаспадарцы, рабіў у райкаме, затым служыў у Чырвонай Арміі, нават быў камандзірам.

І ўсё роўна Хведар не пісаў сыну, не мог у сабе адолець чагосьці, страху ці асцярогі, хоць і дужа прасіла жонка, аж заплакала аднойчы. Усё ж ён баяўся, не за сябе, канешне, — за сына. Думаў, калі можна, Мікалай парупіцца напісаць сам. Тамаш пісаў, што бачыўся з ім у раёне, значыцца, мог бы дазнацца бацькаў адрас. А калі не піша, дык, значыць...

І ўсё ж ён не хацеў думаць благое, ён спадзяваўся. І тады, як задумаў гэтыя ўцёкі, і яшчэ раней, да ўцёкаў. І ў жахлівай дарозе — на плытах, чыгуначных платформах сярод штабялёў бярвення, у доўгім бадзянні па лясах і прасёлках. Удзень і ўначы ён думаў, вагаўся і — так нічога і не ўдумаў. Ён не ведаў, як паставіцца яму да сына, а галоўнае — як сын паставіцца да яго.

Праўда, калі вялікі начальнік, дык, мабыць, штосьці можа. Начальніку многае дазваляецца. Бывае, простаму чалавеку няможна, а начальству не забаронена. Гэта ўжо Хведар ведаў, нагледзеўся і за царскім часам, і ў войску, і пры новай уладзе таксама.

Наўкола ўжо добра ўсталявалася восеньская ноч, зводдаль прыціхла вёска, зусім патануўшы ў змроку. Спярша недзе бліскала пара агеньчыкаў у тым канцы вуліцы, ды згаслі і агеньчыкі. І Хведар устаў. Ён раптам наважыўся прайсці па начной вуліцы, зірнуць на знаёмыя хаты, клёны ля калгаснай канторы, дзе некалі стаяла шырокая арка з выцвілым лозунгам цераз дарогу. Тут спрэс жылі знаёмыя людзі — старыя і маладзейшыя, працавітыя і не вельмі, добрыя, злыя, абыякавыя — яго колішнія аднавяскоўцы. Ён нікога не бачыў з іх ад таго сакавіцкага ранку, як выехаў на калёсах сядзібы і ўсё азіраўся аж да раўка, калі ўжо нічога не стала відаць. І на яго пазіралі і плакалі некаторыя — болей бабы, — пастаўшы пад старой пахілай вербінай ля Саўчыкавай хаты.

Даўняй дарожкі ад сядзібы да вуліцы, здаецца, ужо не было, зарасла травой, але пад нагамі намацвалася нейкая

сцежачка, і ён пайшоў па ёй каля сажалкі. Сцежка вывела яго на дарогу. У звыклым колішнім месцы гразкаватай дарогі ён сышоў у раўчук з грукатлівым мастком. Як і пяць, і дзесяць гадоў назад, той ледзьве трымаўся ад старасці і, бывала, дужа грукацеў пад коламі калёсаў і брык. Пахілая вербіна быццам усохла нават, але ўсё хілілася над дарогай, і за ёй чарнелася ў змроку старая Саўчыкава хата. Але ці жыў там Саўчык — Хведар не ведаў. За ўсе пяць гадоў ягонага котлаўскага жыцця яму ніхто не пісаў з гэтай вёскі, ды і ён не пісаў нікому, нічога ні пра кога не ведаў. З Лёксам Саўчыкам некалі вучыліся ў адным класе царкоўнапрыходскай школы, пасля прызываліся разам на вайсковую службу. Быў ён спакойны, зважлівы мужчына, бедны і гаротны, як і ўсе тут, меў пяцёх дзяцей, і ўсе дзяўчынкі. Дзе ён цяпер? Ці жывы хоць?

Вуліца ляжала па-начному чорная і пустая, мяккая пасярэдзіне адператаптанага кароўімі капытамі долу, парослая ля парканаў сакоўнай бухматаю муравой. Хведар абмінуў кучу бярвення ля Аўдоццінага падворка (ці не думае будавацца ўдавіца?). Але што ж, што ўдавіца, мабыць жа, падраслі сыны, можа, ужо і ажаніўся каторы і будуецца. Ціхенька прайшоў каля гародчыка Зыркаша, пра якога цяпер не хацеў нават і думаць. Сапсаваў гэты Зыркаш яму ўсё жыццё (і, мабыць, не аднаму яму), быў чалавек зайздрослівы і нядобры: калісь напісаў скаргу на яго за малатарню, з якой усё і пачалося. Калі б не тая яго заява, можа б, усё і абышлося і Хведар не туляўся б цяпер паначы, як злодзей, жыў бы разам з усімі і не спазнаў бы тых пякучых няшчасцяў, якіх шчодра адмераў яму ягоны халерны лёс.

Затым ён спыніўся і пастаяў крыху, прыслухоўваючыся, ці не падасць дзе голас сабака. Але сабакі пакуль што маўчалі ці іх зусім не было ў вёсцы. Іх не было і раней, успомніў Хведар, хіба што на хутарах, у мястэчку. Вяскоўцы ж па сваёй беднасці лічылі за лепшае карміць лішняга свінёнка, чым трымаць сабаку. Мабыць, і цяпер так. Не забагацелі яго вяскоўцы. За рэдкім вішаннікам ля садка ўрасла ў зямлю нехуцавая будыніна з голымі рабрынамі крокваў — зусім без страхі. Відаць, тут ужо не жылі. Але дзе ж тады мнагадзетная сям’я Івана Пагарэльца, то ж была ягоная хата, падумаў Хведар. І яшчэ адну хату з чорным праваллем пустых вокнаў зглядзеў ён за парканам, — напэўна, пакінутае жытло. Другая ж поруч утульнай завалінкай выпнулася на самую вуліцу, дзе калісь

любілі пасядзець мужчыны, але цяпер пад яе скасабочанай сцяной пахіла тырчэў рад колляў-падпорак, каб не ўпала. Тут некалі жыў адзін самы гарласты актывіст камбеда, худы і вялізны, бы жардзіна, Зміцер Цыпрукоў. Ужо ён, напэўна, заслужыў лепшае хаты пры Савецкай уладзе, бо быў, мабыць, самы бедны ў вёсцы. Ды, мусіць, не заслужыў, калі дажыўся да такой во — коллем падпёртай хаціны.

Улезшы ў свежыя каровіны лепяхі, Хведар сышоў трохі ўбок, бліжэй да плота. Усё ж ён баяўся, каб з кім не сустрэцца, каб хто не пачуў яго тайную хаду злодзея. Але на начной вуліцы не было нікога, мусіць, вёска добра заснула. Толькі за сценамі бліжніх хлявоў часам уздыхалі-варушыліся сонныя каровы ды раз у падворку на тым баку ціха стукнулі дзверы, — мусіць, нехта выходзіў па патрэбе. Ціхенька ступаючы па мяккай зямлі, Хведар мінуў знаёмую вуліцу і дайшоў да могілак.

Як і заўжды, тут панавалі ціш і спакой, хвоі сумна гулі ўгары. Зблізку бялелі свежыя крыжы ля дарогі — два большых і некалькі нізенькіх, дзіцячых. Ён трохі пастаяў ля штыкетнічка-агароджы і, знайшоўшы праход, не без хвалявання ступіў у гэтае паселішча мёртвых. Ведаў, ад праходу трэба падняцца на пагорачак, дзе хавалі даўней і дзе ён памятаў кожную магілку. Ад вуліцы ж (трохі відаць было ў змроку) магілкі занялі ўсю нізінку, далёка выйшаўшы з-пад хваёвых шатаў. Гэтых ён не ведаў ніводнай. А там, на выспачцы, колькі ён памятаў, стаялі чорныя дубовыя крыжы Шулякоў — бацькі і трох сыноў, род якіх быў, можа, самы стары ў Нядолішчы. Расказвалі некалі, што гэты сямы першы Шуляк, прыйшоў сюды з літоўскай зямлі і быў знакаміты сілаю. Праз тую сілу ён спаткаўся і з маладзенькай дзяўчынкаю, пакаёўкаю тутэйшай паненкі, да бацькі якой чагось прыязджаў той літоўскі пан, кучарам у якога служыў Шуляк. Аднаго разу, як ён запрагаў коней у брычку, з-за рога стайні выскачыў панскі бык, раззлаваны чырвонаю спаднічкаю пакаёўкі, і прыезджы фурман паказаў сваю сілу, скруціўшы таму быку рогі. Мабыць, тады ён і паклаў вока на маладую служанку. Яе паненка, адзіная панская дачушка, відаць, так даражыла ёю, што ўгаварыла бацьку аддаць тры прыгонныя сям'і за аднаго кучара, каб толькі не разлучацца з пакаёўкаю. Затым, пажаніўшыся, яны доўга жылі ў маёнтку, нажылі шэсць сыноў, тры з каторых ужо другое стагод-

дзе ляжалі цяпер поруч з бацькам пад смалянымі камлямі таўшчэзных хвояў. А насупраць ад іх трошкі ніжэй высіўся металічны буданчык з прыгожымі чыгуннымі слупкамі, павітымі таксама чыгунным лісцем вінаграду. Там ляжала мармуровая пліта на магіле маладога пана-паручніка, які, дужа паранены на вайне з германцамі, сканаў у сваім маёнтку. Цяпер, вядома, нікога з паноў не засталося, занядбаная магілка абрасла пустазеллем, а ў паржавелым буданчыку часам поркаліся пастушкі ці вясковыя падшыванцы, хаваліся ад дажджу прахожыя. Па другі бок ад яе, між дзвюма сукаватымі хвоямі, быў невялічкі пляц іхняга роду Роўбаў — і дзяды, і яго, Хведара, старыя, малодшая сястра Тэкля, двое малых, што яшчэ перад вайной памерлі ад дыфтэрыту. Крайняй была магілка ягонага брата Пракопкі, годам маладзейшага за Хведара, добрага, ласкавага мужчыны, які так і не ажаніўся і нікога не пакінуў пасля сябе. Сканаў у васемнаццатым ад тыфусу, калі Хведар быў у германскім палоне. Так і не пабачыліся браткі аж з чатырнаццатага, як абодвух узялі на вайну. Было б добра і яму прымасціцца побач, месца было, калі што, можна б трохі пацясніць суседнюю магілу, мабыць, той не пакрыўдзіцца. Гэта было б проста здорава! Можа, не заўжды прызнаючыся сабе, ён найбольш за тым і імкнуўся сюды — за тысячу кіламетраў, праз пяць гадоў выгнання.

Хведар нетаропка і амаль ужо не баючыся абышоў у цемры свае магілкі — чатыры радком і дзве трохі ніжэй на схіле, памацаў шурпатыя, замшэлыя крыжы. Баяўся, каб не наткнуцца на які новы, каго з ягонай радні. Але не, у гэтай мясціне новых магіл быццам не было зусім. Хаця, канешне, маглі быць і далей, дзе ў якім іншым месцы. Цяпер не тое што раней — хавалі дзе хочаш, і ў чужой зямлі. Як ягоную Ганульку. Ці Волечку. Каторы ўжо раз ён адчуў горкі дакор сабе, што так неахайна пахаваў дачушку — ні абгародкі не зрабіў, ні нават крыжа. Не было з чаго і надта спяшаўся, яго маглі чакаць плытагоны, і ён вёрст пяць берагам ракі даганяў плыты.

Ён пасядзеў на чыёйсьці старой, без крыжа, добра, аднак, абкладзенай камянямі магіле, слухаў шэпт старасвецкіх хваін угары, думаў. Дужа дапякала шматдзённая, застарэлая ўжо стома. Каб не даць сабе ўпасці ад знямогі, трэба было ўстаць і ісці. Але куды? У хату да каго не папросішся, тут жа заставацца не было як: на золку яго адразу ўбачаць. Значыць,

зноў — у лес. Лес заўжды з міласэрнай гатоўнасцю прымаў яго, не тое што людзі. Тым болей знаёмы ад маленства вялікі Казённы лес, ужо ён дапаможа цяпер бяздомнаму чалавеку.

## Раздзел другі

## НОЧ І СПАКОЙ

Мабыць, ён недалёка і адышоўся ад узлеску, але сярод дрэў і драбняку-падлеску стала нібы зацішней, нават цяплей быццам, ён узлез у нейкі лісцвяны гушчар і ўпаў у нетаптаную калючую папараць. Ужо не ставала сілы — ні ісці, ні паўзці. Перад тым як заснуць-забыцца, успомніў, што сёння за дзень пратупаў, мабыць, вёрст сорак — ад золку да ночы. Болей ён бы ўжо не прайшоў нават і сорак крокаў.

Прачнуўся ад сцюжы, увесь надта скалеў, здранцвелі да калень ногі, галава была цяжкая, нібы пасля гарэлкі. Не адразу зразумеў, дзе ён, спярша падалося — на тарфянішчы пад Котласам і што спазніўся на працу. Але, расплюшчыўшы вочы, сцяміў: Котлас далёка. Ён — дома. У світальным лесе, на сваёй радзіме. На радзіме ўсіх сваіх продкаў. Гэтая думка трохі падбадзёрыла Хведара, ён устаў на калені і пачаў неяк грэцца — унутраным намаганнем бораючы сцюжу, — як гэта рабіў ужо не першы раз, акалеўшы ўранні. Там, на Поўначы, калеў амаль кожнага ранку, праўда, там не было калі заўважаць тое, там ледзьве паспяваў сабрацца, каб не спазніцца на развод, у тайгу на лесапавал ці на земляныя работы, калі рабіў на тарфянішчы. Там былі строгія нарадчыкі, крыклівыя брыгадзіры, не дай бог было прыпазніцца — заставаўся галодны на ўвесь дзень. А то яшчэ быў і пабіты.

Цела памалу грэлася, а ногі па-ранейшаму як былі акалелыя, так і засталіся, але ногі, напэўна, сагрэюцца на хадзе. Трэба некуды ісці, тут яму сядзець не выпадала. Тут было зусім блізка да вёскі, мабыць, у лес прыгоняць пасвіцца статак, могуць заўважыць. Так, статак тут добра вытаптаў дол, падумаў Хведар, згледзеўшы сляды кароўіх капытоў, а неўзабаве пачуў і галасы, — мабыць, на ржышчы пад лесам гукалі пастухі. Каб не трапіць каму на вочы, ён ускочыў і ціха падаўся кустоўем.

Памалу рабілася цяплей, у лесе ўвогуле было зацішна. За пажаўцелымі верхавінамі бяроз, між бухматых лапаў ялін праглядвала хмарнае неба, і скрозь плыў, то цішэй, то мацней, нудны лесавы шум. Дужа хацелася есці, даўно ўжо надаедна-пуста бурчэла ў жываце. Яно і не дзіва: за ўчорашні дзень у роце не было ні крошкі, ён не меў часу паклапаціцца пра тое — так імкнуўся да роднага кута. Апошнюю скарынку хлеба, здабытую ў прахожай бабкі, зжаваў пазаўчора, бульбянога палетка на поплаве, вядома, не напаткаў, мусіць увесь дзень пасціцца. Учора, аднак, неяк трываў, — можа, ад хвалявання перад хуткім спатканнем не адчуваў і голаду. Але сёння з самага рання проста не меў сілы трываць. Толькі што тут і дзе можна было здабыць з'есці? Да пастухоў не падыдзеш, пастухі могуць пазнаць. На дарогу не паткнешся таксама — можа трапіцца знаёмы, тады ўсё прапала. З незнаёмымі было лягчэй, на выпадак сустрэчы з кім меў даведку, быццам ён — Зайцаў Андрэй Фаміч, ураджэнец Смаленскай вобласці і працуе на Тасьмінскім дрэваапрацоўчым камбінаце рознарабочым. Канешне, Смаленская вобласць зусім не ў гэтым баку, і дзе той Тасьмінскі ДАК, не ведаў і сам Хведар. Даведка, вядома, няблага гадзілася дзе-небудзь у Комі і не дужа — за тысячу вёрст ад яе. Але што было рабіць Хведару? Іншай паперыны ён не меў, а гэтая яму ўсё ж памагла два разы, і то добра.

Ціха, быццам крадком, ступаючы па апалым шархоткім лісці ў кустоўі, ён прайшоў наўкось да ўзлеску ля вёскі. Учора ён бачыў там старую грушыну, пад якой было чым пажывіцца, але тады яму было не да ежы. Сёння ж тыя грушы выклікалі ў яго нейкае нервовае нецярпенне, і ён неўзабаве ўбачыў праз голле прасцяг знаёмага поля пад лесам.

Ля грушыны не было нікога, мусіць, ад жывёлы яе аберагала блізкая азіміна, статак мінаў яе зводдаль ці глыбей у лесе. Хведар хутка назбіраў у кішэні світкі некалькі прыгаршчаў гнілабокіх грушак, смак якіх ён памятаў з дзяцінства, і тут жа з прагнасцю пачаў іх жаваць. Аднак, мусіць, трэба было чаго пашукаць да грушак, аднымі грушамі сыты не будзеш, гэта ён ужо ведаў. Значыць, трэба паглядзець, дзе бульбы. Але тут было жытное, зелянела рунь, бульбу, мабыць, саджалі ў полі за лесам, калі толькі яшчэ не выбралі. Але не павінны выбраць, думаў Хведар. Да кастрычніка наўрад ці выберуць, а верасня яшчэ заставалася з тыдзень, не меней.

Тым часам у лесе ўжо добра развіднела, дужа шумелі елкі і плылі-ляцелі ўгары кудластыя хмары, але дажджу не было. Не было і расы на траве, трохі сохлі-грэліся на хадзе яго ногі ў растаптаных, раскарузлых пасталах. Гэтыя пасталы ўвогуле няблага яму служылі — якая б абутка вытрымала тую дарогу, што яму выпала. А пасталы хоць бы што. На мокрадзі змакрэюць, а не распаўзаюцца, у сухмень закарэюць, сціснуцца, стануць нібы жалезныя. Нязносныя пасталы! Дзякуй таму чыгуначніку, што трапіўся яму з касой ля пуцявой казармы. Спыніў, паглядзеў адно: «Здалёку ідзеш?» — «Здалёку», — сказаў Хведар. І той буркнуў: «Чакай», а сам вярнуўся ў казарму і хутка вынес кавалак чэрствага хлеба з агурком і гэтыя во пасталы. «Абувайся, спрытней будзе». Хведар быў босы, крывяніў збіты палец на левай назе, і ён тут жа звыкла абуўся ў пасталы і няновыя, праўда, анучы, падзякаваў чалавеку. І праўда, стала куды спрытней, чым босаму, ён адтопаў у іх вёрст, можа, з дзвесце.

Навастрыўшы слых, увесь насцярожаны, Хведар памалу ішоў цераз знаёмы да кожнага дрэўца лес, і ціхае адчуванне шчасця лілося ў ягоную душу. То быў яго родны лес, тут ён пасвіў жывёлу, збіраў грыбы, пасля пілаваў дрэвы, калі вывозілі ў Данбас на рудстойку. Здаецца, нават ён пазнаваў колішні яго пошум. Там жа, на Поўначы, лес быў інакшы і шумеў іначай: магутна, дзіка, пагрозліва. Гэты ж не, не дзіка, — мілагучна і таемна трапяталі парудзелыя бярозкі, угары ў задуменным пошуме марудна плылі кудысь вершаліны елак. Падлесак, аднак, парадзеў за той час, як Хведар не бачыў яго, ці, можа, драбналессе павырастала ў ладныя дрэўцы бярэзніку, ляшчыны, асінніку. І была ўжо восень — жоўтае і зрудзелае лісце пачало асыпацца долу, слалася па траве і шархацела пад ягонымі пасталамі. І ён усё апасаўся, каб яго тут хто не ўчуў. Аднак ён удала мінуў пагорачак з елкамі, лагчынкай выйшаў на даўнейшыя расцяробы — самы, можа, глухі куток іхняга лесу: былыя дзялянкі, на якіх густа браўся хмыз, алешнік, малады ельнік, ядловец. Тут жа пачынаўся доўгі роў з ручаём унізе, прайшоўшы панад якім, Хведар апынуўся на ўзлеску. Далей было поле.

Як ён і здагадаўся, поле было занята бульбяным палеткам, які пачынаўся ад самага ўзлеску. Бульбу на ім, аднак, ужо выбралі, разараныя баразны чарнелі раскіданым чэзлым бульбоўнікам, зямля была ператаптана людскімі і конскімі

нагамі. Пастаяўшы на ўзлеску, Хведар спрабаваў разгарнуць канец баразёнкі і адразу знайшоў бульбіну, затым яшчэ дзве. «Э, дрэнь выбіраюць, — падумаў ён з раптам узноўленай гаспадарлівасцю. — Хіба як будуць пераворваць...» Але калі добра выбіраць, дык і пераворваць можна для прыліку, а тут, падобна, і выбіралі дзеля прыліку. Заскарузлымі пальцамі ён капаўся ў сухіх глыжах і натрапляў на бульбіны, піхаў іх у кішэні паддзёўкі. Хутка набраў дзве кішэні, класці ўжо не было куды, і ён са шкадаваннем выпрастаўся: такое багацце ў зямлі! Каб тое яму трапілася пад Котласам, дзе елі траву, кару з дрэў. Бульбіна там была смачней за яблык. Нават сырая.

З цяжкімі кішэнямі ён падаўся назад, у лес. Трэ было выбраць мясціну, раскласці цяпельца. Мабыць, гэта было самае небяспечнае — цяпельца. Дым маглі згледзець здалёк, убачыць ля яго чалавека. Мабыць, лепш за ўсё атабарыцца ў расцяробе, за ровам, туды, ведаў, у ранейшыя часы не надта патыкаліся. Хіба што бабы — па ягады, грыбы там не раслі. І яшчэ, людзі ведалі, некалі там пладзіліся ваўкі, бывала, у Піліпаўку вылі на ўсе галасы. Малыя туды баяліся паткнуцца. Самы раз было туды зашыцца яму. Поруч з ваўчыцаю. Ведама ж, не з людзьмі, нявесела падумаў Хведар.

Ён доўга ішоў лесам, пакуль выбіўся на той узровак, улез у надта зараслы алешнікам ды ляшчынаю роў, трохі абмыў у ручаі свае заскарузлыя рукі. Вада была сцюдзёная і чысцюткая, бы сляза, і ён на запас напіўся з прыгаршчаў. Па слізкіх, зялёных ад водарасці камянях перайшоў на другі бок рова. Ускараскаўся не адразу, два разы адпачываючы, і падумаў, што аслабеў, аднак жа, завельмі. Як тою вясной на тарфянішчы, калі ўжо не мог сам вылезці з тарфяной ямы, а рыдлёўка здавалася цяжкаю, бы бервяно. Во што значыць жыццё! Ды і гады. Малады, бывала, у лесе адзін паднімаў камель хвоі на сані, жартуючы, бягом цягаў па ўсходцах мяхі збожжа на млыне. Аднаго разу, дурны, паспрачаўся з кусянкоўскімі мальцамі і падняў Іванаву жаробку. Слаўная была жаробачка, з лысінкай на мордзе. Пасля на ёй ездзіў міліцыянер Заўялаў... А цяпер ледзьве выбраўся з рова, які падлеткам перабягаў за адзін раз, без перадыху. Вот што зрабіў з Хведарам час і яго недарэчнае здзічэлае жыццё. Каб тое веданне, хіба так бы яго скіраваў? Але і як было яго скіраваць іначай? Ці ён ім кіраваў?

У расцяробах былі сапраўдныя лесавыя нетры — блытаніна алешніку і асіння, папараць стаяла да пояса, буяла дуддзё нейкай лесавой непатрэбшчыны. Хведар адышоўся далей ад рова, выбраў невялічкую прагалінку пад зараснікам крушыны і пачаў ладзіць цяпельца. Дужа хацелася з'есці бульбіну, здавалася, не было ў свеце нічога смачнейшага за печаную ў прыску бульбіну. Але прыску, мабыць, трэба яшчэ дачакацца. Касцярок з сучча, якога ўвогуле тут хапала, загарэўся ад першай сярнічкі, але ж, халера на яго, густа паваліў дым, і Хведар спалохаўся. Так яго маглі згледзець. Ён трохі раскідаў цяпельца, каб зменшыць дым, але зусім суняць яго было нельга. Тады ён падклаў хворасту болей, каб гарэла даўжэй, а сам адышоў воддаль у хмызняк. Калі хто і падыдзе на дым, дык, мабыць, яго не ўбачыць. Спярша ўбачыць ён.

Прысеўшы ў дробным кустоўі, ён пачаў здалёку пазіраць на дымны хвост за крушыннем і думаў: да чаго ж ты, братка Хведар, дажыўся! Ну добра, там, на чужой зямлі, за тысячу вёрст адгэтуль, там трэба было ўсяго баяцца, хавацца, таіцца. А во і тут! На сваёй зямлі. Сярод сваіх людзей. Калі гэта было і з кім! А з ім во здарылася. І не зробіш нічога. Мусіш! Інакш...

А што, зрэшты, інакш? Пагібель? Гэта было б куды як зманліва, — можа, пахавалі б на родных могілках. Пасадзяць у турму? Мабыць, у турме горш не будзе — неяк бы кармілі і дах быў бы над галавой. Пасля ўсяго, што з ім сталася, турмы ён не надта і баяўся. Але яму наўрад ці перапала б турма. Пэўна ж, яго адвезлі б назад, зноў туды, на страшную сцюдзёную зямлю, на якой жыць ён не мог. Мог толькі памерці. Як памерла ад сухотаў яго Ганулька, згарэла за два дні дачка Волечка. Адчуў, настала ягоная чарга. Але ён памерці хацеў дома.

І яму пашэнціла, ён дабраўся дамоў.

Дык чаго ж і на каго ён мог наракаць? Ён быў шчаслівы. Учора як згледзеў роднае поле і вёску, дык у душы ў яго ўсё засмяялася і запяяла. Канечне, засмуціла зруйнаванае котлішча, усё ж ён спадзяваўся ўбачыць хутар. Сніў безліч разоў свой падворак, студню з калаўротам, недабудаваны трысцен. Усё думаў, ці здагадаліся тыя, што жывуць цяпер там, перакрыць клець. Страха ў левым кутку пачала праця-

каць, асабліва ў навальніцы. Усё збіраўся перакрыць свежымі кулямі. Ды не сабраўся...

А цяпер дык і няма нічога.

Дзе яно, ягонае падворышча, хата? Куды ўсё вывезлі? Ці, можа, спалілі на дровы ў сельсавеце? Як спалілі пасля вайны фальварак Альбертаўку. Слаўны быў фальварачак — і дамоўка, і стайня. Стайня асабліва зайздросная была: з бруса, пад гонтай. Разабралі ўсё і папілавалі на дровы — у сельсавет і хату-чытальню. Мусіць, цяпер і яго так — на дровы, пусцілі агнём і дымам. Дзіўна, але ён не шкадаваў. Калі шкадаваць усяго, што набыў і страціў, дык можна было звар'яцець. Нажываў гадамі, за немалыя грошы, мазалём крывавым, хрыбтом сваім і жончыным, тросся над кожным лапікам зямлі, кожнаю палкай і снапком. А страціў усё, і за адно імгненне, і сам апынуўся на катарзе. Толькі завошта? Гэтае праклятае *завошта* пякельным вухналём сядзела ў яго галаве. Тысячу разоў ён пытаўся ў сябе, як ехалі ў смярдзючых вагонах, як іх гналі абозам па замерзлай рацэ, як рабіў там, на паўночным прыгоне, — пытаўся ў жонкі, у людзей, знаёмых і незнаёмых, пытаўся ў начальнікаў. Усе нешта казалі пра ўладу, класавую барацьбу і калектывізацыю. Але ніхто яму не растлумачыў так, каб адразу стала зразумела: завошта ў яго адабралі ўладай жа дадзеную зямлю, майно і саслалі на катаргу? Завошта? У чым яго віна? Што паслухаўся ўлады і ўзяў зямлю? Дык як было не ўзяць, з чаго б тады ён карміў сям'ю? Брат Міцька не хацеў дзяліцца, бо і праўда, дзяліць не было чаго — шэсць дзесяцін няўдобіцы, — што б выйшла з тае дзяльбы? Зноў жа, брат быў старэйшы, на гаспадарку меў болей права, чым малодшы Хведар. Два леты запар Хведар батрачыў у фальварку, а пасля ажаніўся з такой жа батрачкай, як і сам, — без зямлі і пасагу. Там таксама зямлі было з зайцаў хвост, а сямейка дай Бог: восем душ і з іх пяць мальцаў. Як было адмовіцца ад казённай? Узяў зямлю.

Што дбайна рабіў? Дык жа біўся зімой і ўлетку як рыба аб лёд: і будаваўся, і абрабляў палеткі, стараўся спраўна плаціць падаткі і пазыкі. Падрос — стаў памагаць сын Міколка. Зноў жа быў такі заклік урада — будуйце культурную гаспадарку, каб не жыць, як жылі, — у цемрыве і галечы. (Каму ж хацелася жыць у галечы?) Усе прагнулі жыць хоць трохі па-людску і есці хлеб без мякіны. Паверыў, што ўласць кажа праўду. Аказалася — падмануўся.

Цяпельца яшчэ не дагарэла, як ён закапаў у дробны прысак дзесятак карэлых бульбін — на болей не хапіла прыску. І зноў адышоўся далей — ці мала хто? Але пакуль навокал было ціха; троху пасакатала сарока ўбаку, ля рова, і неўзабаве паляцела далей. Усё пакутуючы ад голаду, Хведар праз колькі хвілін вярнуўся, дубчыкам выкаціў з вуголля крайнюю бульбіну — была яшчэ сыраватая і цвярдая, але нічога: агонь ужо жыўца выгнаў. Збольшага абцёр аб штаны попел і, апякаючыся, з'еў усю, не грэбуючы і абгарэлым бокам. Затым выграб другую. Бульба сапраўды была дужа смачная, ды і ён быў згаладнелы як мае быць і ёў без перапынку, пакуль не засталіся апошнія дзве бульбіны. Мусіць, тыя спякліся ўжо добра, і ён іх, гарачыя, сунуў у кішэню — аж запякло сцягно.

Трохі падсілкаваўшыся, адчуў сябе весялей і пачаў думаць, як бы паткнуцца з лесу. Усё ж вельмі карцела паглядзець на поле, можа, на каго з вяскоўцаў — хоць здалёк, згадаць, як жывецца ў калгасе. Увесь час трохі лепш, чым жыў ён. Галоўнае — яны ўсе вольныя, на сваёй зямлі, пад Котласам ён не меў ніякіх звестак аб іх, толькі часам з'яўляліся чуткі — невясёлыя, аднак, чуткі. А як папраўдзе? Усё ж, мабыць, жывуць усе роўныя, не лішэнцы, як ён.

Зараснікамі ён абышоў роў і па імшарыстай балацявіне выйшаў на ўзлессе — ужо з трэцяга боку лесу. Гэтае поле звалася ў іх Сёрбава і межавала з суседняю вёсачкай Чарнаруччам, стрэхі якой відаць былі ўдалечы на пагорку. Тут і сапраўды працавалі людзі, ягоныя суседзі-калгаснікі, — выбіралі бульбу. Яму ні дня не давялося рабіць у калгасе (не пусцілі ў калгас), дык ён думаў убачыць цяпер дружную працу грамадой, усіх разам. Мо нават з песнямі. Замест таго ў ветранай палявой далечы калупаліся над баразёнкамі з дзесятак баб, і ён бачыў адсюль іх сагнутыя шэрыя спіны, вялікія галовы ў тоўста накручаных хустках, босыя ногі. Усе цягалі за сабой вялізныя кашы з бульбай, якія па адным зносілі ў кучу на сярэдзіне загона. Каля той кучы стаяў з паперынай у руцэ цыбаты мужчына, мабыць, учотчык, а тры іншыя ганялі плугамі барозны, надта ўжо памахваючы пугамі на коней. Коні, відаць было адсюль, ледзьве клыпалі адператомы, нізка коўтаючы галовамі, — худыя, знямоглыя сялянскія коні. Некалі ў іхняй вёсцы такія былі хіба што ў самых занядбаных гаспадароў — Цыпруковага Зміцера ды Ігналёнка. Іншыя ж ўсе як бы там ні жылі, а коней гля-

дзелі, без каня якая ж гаспадарка. Тут, мабыць, глядзелі не надта. Праўда, ён пазіраў здалёк — зблізку, можа, не такія ўжо кепскія былі тыя коні; можа, і бабы рабілі весялей, чым яму здалося. Але нешта самотна-журботнае ўлілося ў яго адчуванне каля таго поля. Ведама, людзі былі далёка і ён не мог пазнаць хоць каторага, а пазнаць дужа хацелася. Тады ён краем лесу пайшоў у другі бок — да свае вёскі, дзе была дарога ў мястэчка, можа б, каго ўдалося падгледзець на той дарозе? Хоць бы пабачыць, пазнаць, не марачы ўжо, каб пагутарыць ці спытацца. Спытацца, канешне, няможна, трэба таіцца. Што зробіш, такі яго лёс. Яго вылучылі з грамады, выбракавалі, бы карослівае свінчо са статка, і выкінулі далёка. Ці мог ён назаляць каму? Набівацца? Тым болей прычыняць шкоду сваім набіваннем?

Дарога, колькі ён памятаў яе, не змянілася — была ўсё такая ж — раз’езджаны між кустоўя бальшак з застарэлымі лужынамі на выбоінах, якія, дзе можна было, відаць, аб’язджалі фурманкі. І дзве бярэзіны на тым баку стаялі, як стаялі ўвесь век, — адна прама, а другая раздзяліўшыся на дзве, віламі, — старыя, закарэлыя, тоўстыя бярэзіны з абдзёртымі і пасечанымі камлямі. Пад раўнейшаю — відаць было цераз дарогу, — мабыць, нядаўна палілі вогнішча, падпяклі бяросту, таксама як і вецце аднізу. Пастухі, напэўна. Хведар нізка прысеў за пыльным прыдарожным кустоўем, стаў назіраць. Не ведаў, куды глядзець болей — у бок вёскі ці ў дальні канец, пад мястэчка. Пакуль што ні там, ні там на дарозе ніхто не паяўляўся, мусіць, усе рабілі на полі, чаго раз’язджаць бальшаком на той час? Аднак ён цярпліва сядзеў і думаў, каго б найперш хацеў тут пабачыць. Мабыць, найперш Саўчыка Лёксу, усё ж аднагодак, сябра і ўвогуле сардэчны мужык, хай Бог дасць яму шчасця. Толькі дагэтуль не надта ўжо Бог надзяліў шчасцем. У мікалаеўскую вайну Лёкса быў паранены шрапнелем у плячо і, колькі яго памятаў Хведар, усё бедаваў з рукой, не мог рабіць ніякай цяжкой работы. А ў сялянстве дзе ж возьмеш лёгкую? Біўся бядак Лёкса на адным надзеле з кучай малых дзяцей, Хведар часам памагаў яму — то папілуе дровы, то паможа накідаць гною на воз. Разоў колькі пазычаў грошы. Але памагаў так, па-суседску, без вялікае шчырасці. Нават і з прыкрасцю, калі, бывала, папросіць хамут, а тут самому запрагаць трэба. А ўвогуле Хведар яго шкадаваў, бо сусед, да таго ж аднагодак, і нямала

абодва натрываліся на вайне. Каб веданне, як яно абернецца далей, дык бы шкадаваў з большаю шчырасцю. Усё ж харошы быў чалавек.

Ну але, мусіць, гэта марная справа — чакаць таго, што табе хочацца.

Хведар добра наседзеўся ля бальшака і падумаў, што, мабыць, дарма ён удумаў тое, як у дальнім канцы дарогі, ад мястэчка, з'явілася фурманка. Рыжы рахманы конік даволі спраўна каціў з горкі ўніз, і за ім на возе відаць былі двое — мужчына і баба. Тое, што лейцамі кіравала жанчына і сядзела яна ў перадку, зацікавіла Хведара, хоць ён яшчэ і не пазнаў нікога. Жанчыну і праўда было не пазнаць, калі яны пад'ехалі бліжэй — тая была адвярнуўшыся на той бок калёс. А вось мужчына... Мужчына быў у калматай зімовай шапцы, з настаўленым каўняром шарачка, ён абнікла сядзеў у задку, склаўшы на каленях рукі, ногі яго былі ўхутаны стракатаю хатняй коўдрай, твар худы і белы. Увесь час бы глуха нядобра пакашліваў. Нешта дужа знаёмае здалося Хведару ў гэтым твары, калі фурманка пад'ехала бліжэй, і тут жа раптам, нібы падказаў хто, ён пазнаў чалавека. То быў Мікіта Зыркаш, ягоны, Хведараў, ліхадзей, які пісаў тады на яго за малатарню, з чаго ўсё і пачалося. Спярша цвёрдае заданне, а затым і ўсё астатняе. Але ж, мабыць, не далося жыццё і зайздросніку Зыркашу, угледзеўшы якога, Хведар зразумеў усё — той быў хворы. Мусіць, яго хворага цяпер жонка везла з бальніцы ці ад доктара, і, угледзеўшыся ў чалавека, Хведар зразумеў, што не жылец на гэтым свеце Зыркаш. Адною нагой ён ужо там, Хведар гэта адчуваў добра. Нагледзеўся на такіх за жыццё. Трохі нават бы радасна стала ці нават зларадна: мусі, Бог бачыць усё і карае па справядлівасці. У іншы час Хведар, можа, болей парадаваўся б з тае прычыны, але цяпер не хацеў. Зларадства сваё ён ужо амаль пераплыў — перагарэла яно за гады ва ўласных пакутах, нікому не хацеў бяды, як і сабе таксама. Хай доўга жыве зайздроснік Зыркаш.

Але стала сумна. І гаркотна. Мусіць, дзень ужо браўся на адвячорак — канчаўся першы ягоны так доўга чаканы дзень на радзіме. Што далей?

Ён яшчэ пасядзеў троху, думаў, можа, і яшчэ каго згледзіць на вечаровай дарозе, ды болей не было нікога. Як пачало змяркацца, устаў, пайшоў краем кустоўя ў бок вёскі. Мусіць, трэба было б, пакуль не змерклася, брысці ў свае расцяробы,

каб пасля не драць вочы ўпоцемку. Але яго ўсё цягнула да вёскі. І ён памалу ішоў лесам, пасля, асмялеўшы, выткнуўся на ўзлесак ля палетка з рунню, пастаяў на ўзмежку. За лагчынкаю ў вёсцы хутка гусцеў восеньскі змрок, заблішчэла некалькі агеньчыкаў у вокнах — там палілі святло. І яму захацелася ў прыцемку зазірнуць да каго ў акно, паглядзець з цемры ў хату, убачыць знаёмыя твары. Страшнавата было, ну, але, можа, не пазнаюць, калі і ўбачаць. Ён не адгукнецца нікому, толькі пройдзе па вуліцы і зазірне. Так карцела пабачыць каго жывога-знаёмага. Найперш добрага чалавека, не злыдня, канешне.

Ціха, амаль крадком, часта спыняючыся, ён зноў, як і ўчора, прайшоў рунню паўз сваё нешчаслівае котлішча, пацiху патупаў ля плота збоч ад дарогі. Ну во і прысадзістая Саўчыкава хата пад крывой сукаватай вербінай. Калі ўлезці ў гарод, якраз апынешся перад акном, што насупраць Лёксавай печы, там жа, у падаконні, некалі мясціўся кухонны столік, за якім елі. Зусім ужо ўпоцемку Хведар пералез цераз плот, паабстрыкаў у крапіве рукі, але няблага затуліўся ў зарасніках ад вуліцы і ад падворка. Праўда, святла ў Лёксавых вокнах пакуль што не было, ды Хведар адчуваў, што там не спалі — нейкія невыразныя гукі ўсё ж даляталі з таго боку сядзібы. І ён стаіўся ў крапіве, чакаў. І праўда, урэшце недзе глуха бразнулі дзверы, у акне ўзнікла хліпкае цьмянае святло — ад газнічкі, канешне. Мільганула ў адным акне, у другім і спынілася недзе ў дальнім кутку, ля запечча, ці што? Хведар напружана ўзіраўся — хто там? За акном каўзануўся нейкі няпэўны цень і прапаў. Хто то быў, адсюль зразумець было нельга. Як нельга было ўчуць людскога голасу ў заўжды гаманлівай на дзіцячыя галасы Лёксавай хаце. Ці там усе маўчалі, ці, можа, ціха снаўдала адзінокая постаць? Напэўна, жаночая. Але дзе ж тады астатнія? Дзе сам Лёкса? І яго пяцёра дачок?

Нічога болей не дачакаўшыся ў крапіве, Хведар вылез з гарода на вуліцу і зноў, як учора, ціха прайшоў з канца ў канец вёскі. Мігатлівае святло з вокнаў бліснула яшчэ ў некалькіх хатах, але ў дзвюх вокны былі завешаны фіранкамі, а каля трэцяй хтосьці тупаў на падворку ля самых веснічак, і Хведар, уцяўшы галаву ў плечы, таропка прайшоў далей. Усё ж ён баяўся.

## Раздзел трэці

## ПОЎНЯ

Начаваў зноў у лесе. Па ўзлеску адышоўся далей ад вёскі і скорчыўся на сухой імшарыне пад кустом ядлоўцу. Ноч была сцюдзёнаватая. Мабыць, да першых пеўняў ён звыкла дрыжэў і круціўся без сну, усё думаючы і думаючы над недарэчнымі вывертамі свайго нешчаслівага лёсу.

Усё не пераставаў дзівіцца, як гэтак удала дамогся свайго, відаць, яму ўсё ж здорава пашэнціла, можа, першы раз у жыцці. Праўда, каб ведаў адразу, што чакае яго, мо яшчэ і падумаў бы: ці варта наважыцца на такое? А не ведаў, і мусіць, добра, што не ведаў, не ўяўляў нават. І цяпер во — дома. Як будзе далей, ён не думаў ні тады, ні цяпер, думаць аб тым ён быў бяссільны, не хацеў і спрабаваць марна. Галоўнае — была шчасліва дасягнута нязбыўная яго мара, а там — што будзе. Як у п’яніцы, які імкнецца займець бутэльку, а пра хуткае пахмелле і не думае. Ці як згаладнелы — абы наесціся, а што затым — яго не дужа цікавіць. Здаецца, Хведар спатоліў прагу свае душы, а што будзе далей, хай тое і будзе.

Ноччу зноў хацелася есці, дзве свае бульбіны ён даўно ўжо з’еў, бадзяючыся па лесе, у кішэні яшчэ былі тры сырыя. Там, пад Котласам ці Сыктыўкарам, няблага елі і сырыя. Калі парэзаць бульбіну скрылькамі на хлеб, як рэдзьку ці бручку, з’ясі за мілую душу. І памагае ад цынгі. Мусіць, прыйдзецца і тут перайсці на сырызну, як скончацца сернікі. Як ён ні бярог іх, засталося ўсяго шэсць штук у дужа пацёртым карабку, а болей дзе возьмеш? У лесе не знойдзеш. Хіба папрасіць у вёсцы? А тут не папросіш. Гэта можна было прасіць у той старане, дзе цябе ніхто ведаць не мог. А тут пазнаюць адразу. Во дзіва, падумаў Хведар, выходзіць, што ў чужой старане лепш, чым у роднай? Да якой імкнуўся, пра якую думаў удзень і ўначы. І дзе столькі знаёмых, суседзяў, аднасяльчан. З кім мінулася яго жыццё. Але менавіта да іх і не паткніся, іх трэба сцерагчыся найбольш. Чаму так сталася? Так не па-людску і не па-боску? Чаму так?

Цяпер у яго, бы ў малога, былі сотні гэтых *чаму,* адказаць на якія ён, колькі ні думаў, не мог. Як не мог і ніхто. У каго толькі ён не пытаўся.

Гэтая ноч, здаецца, была бясконцай, як бясконцымі былі ягоныя турботы ад сцюжы. Ён усё круціўся на вогкім імшыстым доле, курчачыся і так і гэтак, калаціўся, ляскаў рэштаю зубоў, каб як сагрэцца. Але сагрэцца не было як. Ды і дрымотная знямога на мяжы сну моцна трымала яго ў сваіх кіпцюрах, ён то забываўся трохі, штось трызнячы, то прахопліваўся зноў. Вакол было ціха. Апоўначы амаль сціхнуў звыклы лесавы шум, вяршаліны елак у небе зусім пазнікалі ў густой цемрадзі, між хмар трохі паблiскала і знікла высокая зорка. Мусіць, за поўнач недзе пакугікала лясная сава — у балотным баку, за расцяробамі. Урэшце коратка кугікнула апошні раз і змоўкла, бы падавілася. Можа, і ён трохі задрамаў пад ранак, зусім ужо знямогшыся ў барацьбе са сцюжай ці прытрываўшыся да яе.

Прачнуўся, адразу ахоплены нейкай трывогай, бадай страхам — узняў галаву і адразу ўбачыў насупроць у хмызняку мокрую каровіну пысу з ніткай зялёнай сліны на валасатай губе, — карова цікаўна ўперлася ў яго самотным позіркам вялікіх вачэй. Поруч зашархацела вецце, і да першай вылезла з кустоўя другая кароўка, рыжая, са зламаным рогам на крутым кароўім ілбе, таксама ўставілася ў яго. У наступнае імгненне Хведар з прыкрасцю сцяміў, што трапіў у вясковы статак, які, мабыць, зараз увесь абступіць яго, і ўскочыў. Каровы былі не страшныя яму, але ж дзесь тут ішлі пастухі. (Усё ж, мусіць, не трэба было так неабачліва класціся пад кустом.) Хведар махнуў рукамі на цікаўных кароў і толькі памкнуўся ўбок, у кустоўе, як дзесьці побач гаўкнуў сабака. Па звяглівым голасе Хведар даўмеўся, што сабачка так сабе, мабыць, не ваўкадаў. Але, халера на яго, той заекатаў так апантана, што, здалося, нарабіў вэрхалу на ўвесь лес. Хведар бегма кінуўся прэч, далей у лес, і тады сабака выскачыў з алешніку збоч і пабег, пабег — напярэймы яму, ці што? Што было сілы бегучы між кустоўя, Хведар у думках лаяўся і шэптам гукаў на сабаку: ды адстань ты, пракляты пёс! Але пёс не адставаў, екатаў з яшчэ большым імпэтам і гнаўся за ім, аж захліпваючыся ад звяглівае сабачае злосці. «Малы, а злы, як чарцяка, каб ты здох!» — казаў сабе Хведар. Ды сабака не думаў здыхаць, ён доўга гнаў чалавека па зарослым алешнікам лесе, і Хведар не мог на яго крыкнуць ці як адагнаць, мог толькі лаяцца ў думках і махаць рукамі. Сабака

ж, відаць, махання таго не баяўся, а злых думак не разумеў. Сабачае ж злосці ў яго хапала не на адну вярсту.

Усё ж, мабыць, трохі знямогшыся, ён пачаў адставаць, сцішаць свой брэх, пакуль зусім не змоўк ззаду. Але і Хведар нямала стаміўся ад гэтага бегу і ледзьве плёўся між дрэў у змрочным сукаватым ельніку. Яго душылі знямога і крыўда. Гэта ж трэба — яшчэ і сабака! Баяўся сабак у вёсцы, а спаткаўся з імі ў лесе. Хай бы ўжо воўк, дзік ці якая аўчарка, што вадзіліся там на Поўначы, а то дробны, звяглівы шчанюк. Каб ты здох, пракляты, як ты выматаў апошнія сілы... Добра яшчэ, калі ў тым кустоўі яго не згледзелі пастухі.

Гэты пракляты сабака загнаў яго ў той куток лесу, які ён ведаў найгорш. На голым і змрочным доле тут не было нават травы ці моху — усё скрозь густа абсыпала ігліца, на якой не расло нічога. Вакол цесна стаялі разлапістыя таўшчэзныя елкі, праз іхні гушчар амаль не праглядвала далёкае неба. Затое было ціха, здавалася, людскі клопат зусім не пранікаў сюды. Роўны лесавы пошым ішоў-сплываў некуды верхам, амаль не дасягаючы долу, дзе трэск сучка пад нагой быў чутны далёка. У гэтым яловым кутку Хведар быў мо разы два за жыццё — зімой, як пілавалі елкі на вывазку ў Данбас; тады ж вазіў свае кубаметры на станцыю, за сорак кіламетраў ад вёскі. Ведаў, далей у гэтым кірунку пачыналася знакамітая ў тутэйшых краях Багавізна — вялікі балотны абшар без дарог і паселішчаў, які шырокаю паласой цягнуўся аж да самай польскай граніцы. Але гэта быў ужо зусім чужы край, малавядомы і таямнічы.

Адператомы дрыжэлі калені, хацелася адпачыць. Але Хведар усё не мог супакоіць сябе пасля знянацкай трывогі і разгублена брыў ельнікам, выбіраючы вальнейшыя мясціны, каб не натыкацца на сухое яловае суччо. Цяпер ужо, мабыць, можна было не баяцца, статак сюды наўрад ці ганялі, людзі тут не мелі чаго рабіць. Патроху ён спакайнеў, і разам са спакоем пачало ўладарна расці вострае адчуванне голаду. Міжволі ён пазіраў па баках, бы шукаючы, што б з’есці. Толькі з’есці тут не было чаго. Тады ён сеў на адтапыраны корань вываратціны, дастаў з кішэні свой даўні ножык. Ножык быў начэплены на раменьчыку, і Хведар бярог яго ўжо колькі гадоў. Некалі, яшчэ за тым, далёкім, жыццём купіў яго ў сельпоўскай краме і карыстаўся штодня. Большае лязо ўжо стачылася да вузкага пёрка, затое меншае было амаль

новае і спраўна сядзела ў пацямнелым жалезным тронку. Гэтым лязом Хведар тоненька абскабліў большую бульбіну і пачаў яе есці, рэжучы на невялічкія скрылёчкі. Смак сырой бульбіны быў не надта прыемны, але цяпер было не да смаку. Абы ўпіхнуць што ў страўнік, каб прыглушыць голад. Бо ўжо проста не ставала сілы ісці па гэтым непрытульным дзікаватым лесе.

Так ён зжаваў патроху свае астатнія бульбіны (болей у кішэнях нічога не было), а голаду не спатоліў. Усё роўна хацелася есці. Тады ён падумаў, што трэба пашукаць грыбоў. Сырыя грыбы есці не адважыўся б, але калі распаліць цяпельца... Мабыць, тут можна. Ці зашыцца яшчэ глыбей у лес, туды, да Багавізны. Ужо там, мабыць, яго ніхто не ўпалюе.

І ён доўга нетаропка брыў ельнікам, не надта ўжо і ведаючы, дзе ён, а ельнік усё не канчаўся, і ніякіх грыбоў вакол не было відаць. Зрэдку траплялiся старыя, мабыць, летнія, счарнелыя мухаморы, і болей нічога. Ці, можа, такі быў год— не грыбны, думаў Хведар, усё болей нудзячыся ад свае няўдачы. Пасля ён павярнуў трохі ўбок — бліжэй да, мабыць, недалёкай лесавой вёсачкі Чазлякі, — ужо там, мабыць, гэтага ельніку не будзе. А ў тамашніх парасніках ён што-ніштo знойдзе. Калі не баравікі, дык хоць сыраежкі. Абы толькі там не пасвілі статак. Дзе статак, туды па грыбы хадзіць марна.

Да Чазлякоў, аднак, ён яшчэ не дабрыў — не ведаў нават, ці далёка да іх засталося, — як на нейкай імшарыне сярод ельніку згледзеў журавіны. Густы россып чырвоных кропелек у дробнай, глянцавітай лістоце, здаецца, нікім не чапаны, бы знарок чакаў яго тут. І Хведар кінуўся ў ягады, пачаў зграбаць іх прыгаршчамі. Ён і еў іх, не дужа выбіраючы, — з лісцем і смеццем, і сыпаў у кішэні, поўзаючы на каленях у сыраватай, але не дужа балоцістай імшарыне. Канешне, журавіны кепска спатольвалі голад, ды іх смак быў прыемны — звыклы ягадны смак, вядомы яму з дзяцінства і не забыты на Поўначы. Там таксама калі-нікалі ён дарываўся да гэтага ласунку, які неаднойчы ратаваў яго, як і сотні такіх самых небарак, ад голаду і хваробы. Толькі там не часта выпадала тое, што тут — бяры хоць кашамі. Шкада, што ў яго цэлыя ўсяго тры кішэні — у штанах і паддзёўцы, — ці многа набярэш у іх. Калі кішэні былі поўныя, ён пачаў грэсці ягады ў шапку і так поўзаў на каленях па імшарыне, аж пакуль не сказаў сабе: годзе! Усяго

не з'ясі, а ўзяць з сабою ўжо не было як. На ўсялякі выпадак ён пастараўся прыкмеціць шчаслівую імшарынку — за вялікім ельнікам у бок Чазлякоў. Мо яшчэ спатрэбіцца.

Трохі павесялеўшы, з цяжкімі кішэнямі і поўнаю ягад шапкай у руках пайшоў далей. Куды — і сам не ведаў. Ельніку, здавалася, не было канца-краю, ці, можа, ён узяў няўдалы накірунак?

Мабыць, і праўда — няўдалы, ён зразумеў тое, як убачыў перад сабой нізкі, без елак, падлесак і за ім нешырокі прасцяг асакі, за якім усчыналіся глухія зараснікі лазы і алешніку. То пачыналася Багавізна, якая ў тутэйшым краі была д'ябальскай, страхавітай мясцінай. Многія пакаленні жыхароў шмат чаго начуліся пра яе ад старэйшых і ў сваю чаргу расказвалі ўнукам неверагодныя і страшныя гісторыі, што там здараліся з людзьмі. Усё незвычайнае і страшнае ў тутэйшай мясцовасці ішло з Багавізны. Ёю палохалі плаксівых дзяцей і п'яных мужыкоў, жадалі ў злосці крыўдзіцелям праваліцца пад зямлю ў Багавізне. Там і сапраўды можна было праваліцца так глыбока, што ніхто не змог бы дастаць. Казалі, там быў нейкі падземны ход ці рака, што злучала тамашнія прадонні з іншымі вірамі і азёрамі. Калі перад рэвалюцыяй у Багавізне залілася Змітракова карова, дык пад восень яе труп знайшлі аж у Белым возеры — праз сем вёрст ад Багавізны, хоць іх не злучала ніякая, нават самая малая рачулка. То быў людзьмі і Богам пракляты край — дзесяць вёрст суцэльнае багны і віроў, між якімі ліпелі чэзлыя вольхі, аер, зараснікі трыснягу ды на купінах буяў улетку лазняк. Туды ніколі не хадзілі па ягады, нават журавіны, якіх там заўжды было процьма, не лавілі рыбу. Людзі спрадвеку абміналі тыя мясціны, а калі хто выпадкам туды трапляў, дык пасля дзён колькі дрыжэў ад страху і ўпудна крычаў паначы. Зімой Багавізна трохі падмярзала, але яе шматлікія вокны-прадонні нават у самы люты мароз браліся тоненькім лёдам, які не трымаў чалавека. Хіба што ваўка. І ў калядныя марозныя ночы там да ранку гучала выццё шматлікіх ваўчыных зграяў. Некалі там вадзілася багата мядзведзяў, якія не давалі спакою і жыхарам суседніх паселішчаў. Хведар памятаў, як дзед расказваў пра адну такую сустрэчу з касалапым, акрай Багавізны, дзе старога заспела залева і ён мокры схаваўся ў выпаленае пастухамі дубовае дупло. Ліў дождж, было цемнавата, а ў дупле і зусім стала цёмна, калі ў яго сунулася нешта касматае і смярдзючае. Дзед

сцяўся, ні жывы ні мёртвы, — мядзведзь так яго прыціснуў шырокім касматым задам, што нельга было дыхнуць. Касалапы зручна ўмясціўся ў дупле, мабыць, мяркуючы адпачыць тут да ранку. Але дзеду адпачываць не было як, яму трэба было араць прыгон, а раней знайсці і забрытаць каня, якога ён пусціў недалёка пасвіцца. І як было вылезці, каб не патрывожыць няпрошанага госця? Доўга дзед думаў, а тады як крыкне, і той мядзведзь, як корак з бутэлькі, выскачыў з дупла, абдаўшы, аднак, чалавека не дужа духмяным рэчывам. Такая была Багавізна.

Хведар павярнуўся прэч ад гіблай мясціны і зноў пайшоў лесам. Прытаміўшыся, сеў пад тоўстым яловым камлём, аблітым белай смалой, патроху еў з шапкі журавіны, думаў. Усё ж як добра ў лесе на волі! Ніхто цябе нікуды не гоніць, ты не патрэбны нікому, як і ніхто не патрэбны табе. Каб так можна было пражыць жыццё! Зрэшты, калісь так і жылі: у хаўрусе з прыродай і лесам, знаходзячы ў ім і пракорм у галодныя гады, і прытулак у часы ліхалецця. Лес абараняў, лес саграваў душу і цела. Хто ж яшчэ большы быў дабрадзей для тутэйшага люду? Мусіць, лепшага не было ніколі. Але гэта даўней. А цяпер во настала часіна — не паратуешся і ў лесе. Людзям заўжды знойдзецца да цябе патрэба ці злосць, знойдуць і пад зямлёй, адшукаюць і ў лесе. Не дай Бог адбіцца ад людзей, стаць не такім, як усе. Гэта ён добра зведаў. Аднак і не прыкмеціў, як усё тое сталася, што таму стала прычынай. Вось і ў прыродзе, хто ведае, якія існуюць прычыны, але здараецца амаль тое самае. Яму прыгадаўся выпадак на паўночнай рацэ, калі ён рабіў плытагонам. Неяк сядзеў у дашчаным буданчыку на вадзе, часаў кліна пад аслабелае перавясла, і раптам праз дзверы ў нейкай здзічэлай трывозе куляю ўляцеў верабей, кінуўся яму на плечы, на галаву, аж збіў долу шапку. Хведар ад спалоху ўгнуўся, замахаў рукамі, адбіваючыся ад вераб'я, які праз момант вылецеў у дзверы. Выскачыўшы за ім, Хведар зразумеў прычыну дзіўнага ўчынку птушкі. Аднекуль над плытамі коса шуганула чародка вераб'ёў, і птушкі, бы па камандзе, кінуліся на небараку. Угары закруціўся птушыны клубок, усе люта рвалі аднаго, і хутка ад верабейчыка нічога не засталося. Нават нічога не ўпала на раку, толькі некалькі пушынак-пер'яў ціха апускаліся над вадою. Тут жа, даўшы круты разварот, вераб'іная чародка знікла за лясным абрывам ракі. Хведар

тады стаяў і думаў: завошта? Нават і птушкі! Ці гэта такі спрадвечны закон прыроды — каб усе на аднаго? Але чаму на аднаго? Чым гэты верабей разгнявіў астатніх? Нейкім кепскім учынкам? А можа, толькі якімсьці непадабенствам да астатніх, ці можа быць так, што ён і не вінаваты — вінаватая стая? Як у людзей? Ці ў птушак так не бывае?

Хаця, мабыць, у птушак бывае інакш, чым у людзей. Усё ж у птушак больш справядлівасці. Той выпадак з вераб'ямі ён бачыў у жыцці аднойчы, а людской несправядлівасці нагледзеўся да брыдоты. Кожнага дня.

Гэты раз ён доўга сядзеў пад елкай, неяк сцішыўшыся, прыдрамнуў, можа. Недзе ўгары, на яловай вяршаліне, гарласта закаркала варона, і ён абудзіўся. Усё ж ягоныя думкі кіравалі далёка ад гэтага ельніку, часцей імкнуліся да вёскі. Ён думаў пра яе там, на Поўначы, думаў цяпер. Пра яе хаты, клопаты, сваіх суседзяў-сяльчан. Пра яе палітыя потам гоні. Яму не было як да яе паткнуцца, але думкамі ён быў там. І яго дужа цягнула туды. Хоць бы і праз небяспеку.

Мабыць, адвячоркам ён нарэшце наважыўся і зноў рушыў па лесе. Ішоў ранейшым шляхам, туды, адкуль яго выгнаў сабака. Ішоў асцярожна, цікуючы навакол, часта спыняўся, слухаў. Ды навокал было ціха і пуста. Вецер угары, мабыць, уняўся пад вечар, елкі стаялі роўна і супакоена, бы ў задуменні. Той статак, мабыць, ужо брыдзе каля выгана, падумаў Хведар, злы сабака рупліва падганяе ззаду каровак. Людзі таксама імкнуцца з поля да свайго жытла; напроціў начы ў лесе наўрад ці хто будзе.

Не паспеў ён яшчэ выйсці на ўзлесак, як пачало змяркацца. У лесе пад дрэвамі стаў гусцець змрок, стулілася, нібы пашырэла, кустоўе ўнізе, вільгатнейшым рабіўся травяны дол, і Хведар пачаў трохі спяшацца — ісці было яшчэ многа. Ужо ў прыцемках ён мінуў тое месца, дзе яго спудзіў сабака, і неўзабаве выйшаў з лесу. Наперадзе распласталася трохі светлаватае, але павітае ўжо змрокам поле. Да вёскі трэба было ісці полем, па стаптаным статкам іржышчы. Мабыць, аднак, ісці цераз поле было яшчэ рана, і ён сеў на абмежку, сядзеў, патроху еў журавіны, бавіў час. Перад ім ляжалі знаёмыя да кожнай драбніцы гоні — з дзвюма грушкамі на Петраковым надзеле, каменнаю крушняй зводдаль, у канцы загонаў. Некалі тут быў і бацькаў надзел, на якім нямала папрацаваў і ён, Хведар. Праўда, на тым надзеле болей і

даўжэй за яго гаспадарыў старэйшы брат Міцька, які, як усчалася калектывізацыя, падаўся на шахты ў Данбас. Спярша з'ехаў сам, а затым забраў і сямейку, назусім кінуўшы хату, зямлю, усю маёмасць. Мусіць, нельга тут стала жыць брату высланага кулака, і Міцька рашыўся на высылку па сваёй волі. Як ён цяпер там, на шахтах? Ні разу не напісаў яму пад Котлас, зрэшты, як не напісаў яму і Хведар таксама. Ды ён не ведаў і адраса. Распадаліся сем'і, нішчылася людская роднасць, спрадвечная вясковая крэўнасць. Сталі браты як чужыя.

Што брат, калі во і сын таксама.

Пра сына Міколку Хведар не пераставаў думаць ніколі, гэта была яго незагойная болька, даўні пякучы клопат. Добра, канешне, што сыну ўдалося адкараскацца ад бацькавай ганьбы і нават пралезці ў начальства. Але, мусіць, дужа рызыкоўна ўсё тое, можна і згарэць датла. Чула яго бацькоўскае сэрца, што ў надта хісткім становішчы апынуўся сын, і дужа хацеў бацька як-небудзь засцерагчы яго ад бяды. Але што мог ён, даўні лішэнец, беглы спецперасяленец, чым мог памагчы сыну? Хіба адрачыся ад яго, ніколі не напомніўшы аб сабе ні пісьмом, ні просьбай, ні нават скупой весткай, — быццам ён знік, памёр, ці яго і не існавала зусім. Хай будзе шчаслівы сынок Міколка, хай ніколі не скрыўдуе на бацьку. Можа, пашэнціць хоць апошняму з роду Роўбаў, іншых удача ўжо абмінула і, мабыць, ніколі не вернецца.

Над полем і выганам памалу ўсталёўвалася сцюдзёнаватая восеньская ноч. На небе ў ірваным ашмоцці хмараў з'явіўся бліскучы кругляк поўні, нядоўга павісеў над полем і закаціўся за раскудлачаны край аблокаў. Праз нейкі нядоўгі час выкаціўся ў іншым месцы, і на гэты раз свяціў доўга і ярка, абліваючы поле, узлесак, чалавека на абмежку бліскучым прывідным святлом. Хведар не любіў поўні, яна заўжды трывожыла яго загадкавым, няпэўным адчуваннем. Цяпер жа дык і зусім была яму непатрэбнай, і Хведар чакаў, калі яна схаваецца надоўга. Вёска і яе хаты з узлеску былі відаць кепска, адсюль іх засланялі хвоі на могілках, якія высокаю суцэльнай купай чарнелі за выганам. Там панаваў змрок, і нават у месячным святле нічога нельга было ўбачыць. Хведар, аднак, узіраўся ў тыя дальнія вясковыя абрысы, і ягоную ўвагу найболей прыцягвалі могілкі. Як поўня (надоўга ці не) схавалася ў хмарах і навакол усё пацямнела, ён падняўся

з узмежка, таропка пайшоў у поле. Поўня за той час зноў выглянула разы два і зноў схавалася за аблокі, але ён, ужо не спыняючыся, дайшоў да могілак. З гэтага боку, ад поля, хісткая агароджа ля іх была паламана, мусіць, жывёлай, ён пералез цераз нізкую жэрдку і спыніўся: месяц ляніва асвятляў бязладнае нагрувашчванне крыжоў і магіл. Гэта былі, мабыць, усе новыя пахаванні, іх тут сабралася шмат, і ніводнага з іх Хведар не ведаў. Вялікія і малыя крыжы і крыжыкі, а то і зусім растаптаныя магільныя купіны без усялякага знаку белым пяском святлелі наўкола. На высокіх каталіцкіх крыжах дзенідзе ў змроку бялелі паркалёвыя стужкі ці кветкі; ссохлыя букеты кветак мясціліся ў стаўбунках пад крыжамі. Зводдаль на магіле ля плота Хведару кінулася ў вочы, мабыць, выразаная з фанеры пяцікутная зорка, якая прыкметна адбівалася на фоне светлаватага неба. Ступаючы між магіл, Хведар з цікаўнасцю перайшоў туды і ў месячным сяйве здзіўлена прачытаў чорныя літары на белай дошачцы: «Сокур Іван». Ніжэй былі дробненькія лічбы нараджэння і смерці. Хвіліну Хведар недаўменна пазіраў на гэтую дошачку, агледзеў пагорачак магілы ў доле. Відаць было нават уначы, што магілу ніхто не абкладваў і не даглядаў, яна бязладна абрасла шархоткім высахлым быльнягом і выглядала надта ўжо занядбанай на гэтых могілках. Зрэшты, як і шмат якія вакол яе. Але ж то былі даўнія і, можа, усімі забытыя пахаванні, а гэтая належала чалавеку, якога наўрад ці забылі ў вёсцы. Як высылалі Хведараву сям'ю, гэты Сокур памагаў начальнікам і з выгляду тады быў здаровы, сярэдняга веку чалавек, дужы і рухавы. Чаму ж ён апынуўся тут без пары? — немаведама ў каго пытаўся Хведар. Здаецца ж, не быў і злым чалавекам, Хведар на яго крыўды не меў, але ж... Можа, каб ведаў свой хуткі канец, пастараўся б быць лепшым. Бацька ж яго быў разумны, паважаны ў вёсцы селянін-серадняк, ніколі нікому не прычыніў клопату. Некалі ўзяў у гаспадарку братаву жонку з дзецьмі, як брата забіла перуном на Іллю. Была навальніца, і той схаваўся пад грушаю ў полі ды там і застаўся. Пад вечар нежывога яго знайшлі пастухі, назаўтра пахавалі, засталася хворая ўдава з трыма дзецьмі. Стары Сокур прыняў усіх у свой дом, выгадаваў, давёў да ладу дзяцей. Харошы быў чалавек. Мусіць, аднак, сын удаўся не ў бацьку. Вялікага зла ён не рабіў, але, мусіць, быў занадта падаткі для свае пасады старшыні сельсавета, раённае начальства папіхала ім, як

хацела. Тады ж, як высылалі Роўбу, ён быў наглядчыкам і рупным памагатым двух упаўнаважаных з раёна, сачыў, каб раскулачаныя, як было загадана, узялі з сабой толькі пілу, тапор ды харчоў на тры дні. Усё астатняе — збожжа, бульба, майно, нажытае за гады потам і працай, рэквізавалася на карысць сельсавета. Яно няхай бы рэквізавалася на грамадскую патрэбу, думаў затым Хведар, але ж яны рэквізавалі найбольш для таго, каб не даць ім, небаракам, у іх дальнюю гаротную дарогу, каб яны хутчэй там памерлі ад голаду і марозу. Шасцігадовая Волечка якраз надзела новыя чорныя валёначкі, што ён справіў ёй у мястэчку з леташняй воўны, дзяўчынка ўсю зіму ашчаджала іх, надзела, можа, якія разы тры, болей абыходзілася старэнькімі, лапленымі-пералапленымі, якія меркавалася данасіць да вясны і выкінуць, але як стала збірацца ў гэта свой шлях, маці сказала Волечцы надзець новыя — усё ж выпраўляліся ў людзі, і маці хацелася, каб дзяўчынка выглядала па-людску. Волечка паслухалася, на сваю бяду, і тады стаяла ля ганка на снезе ў зграбненькіх чорных валёначках. Мусіць, дарма стаяла. Кінуліся тыя валёначкі ў хцівыя вочы ўпаўнаважаных, і старэйшы з іх, чалавек у чорным паўшубку, нешта загадаў Сокуру Івану. Сокур трохі памяўся, перасмыкнуў голеным тварам, але падступіў да дзяўчынкі і перадаў загад. Волечка паслухмяна здзела адзін чорны валёначак, затым другі і засталася на снезе ў адных панчошках, пакуль маці, заплакаўшы, не прынесла ёй з сенцаў старыя. Хведар, згледзеўшы тое, сказаў сабе: «Ая-я-я-я!», на што Сокур, учуўшы, зноў перасмыкнуў тварам і моўчкі цепнуў плячыма: маўляў, што зробіш? Ці мая гэта воля? Ён узяў тыя чорныя маленькія валёначкі і насіў з сабою, пакуль яны збіралі бедныя клумкі на сані. Не, каб сказаць тым, з раёна: не па-боску гэта — разуваць малое, не ў цёплы ж край выпраўлялі — на Поўнач, у маразы, на голад і здзек. Ды не, не сказаў. Так і паехала Волечка ў стаптаных валёначках і хадзіла ў іх яшчэ дзве зімы, і прастуджвалася, і хварэла. Аж покуль не прастудзілася ў апошні раз, калі ўжо нічога ёй не стала патрэбна.

Яны тады гналі плыты па сцюдзёнай паўночнай рацэ — цэлую плывучую чараду з бярвён на тысячы кубаметраў драўніны. Было іх трынаццаць чалавек у брыгадзе сплаўшчыкам, а брыгадзірам быў Кузняцоў, сярэдніх гадоў барадаты мужчына, які не першы год рабіў тут на сплаве. Ён добра

ведаў раку і ўсе яе павароты, мелі і перакаты, умеў у свой час збочыць, каб абысці небяспечны зліў, не рассыпаць звязкі, не налезці на камень ці на якую пясчаную выспу. З людзьмі быў строгі, малагаваркі, не любіў гультаёў і слабасільных (што, дарэчы, было для яго адно і тое ж). Мусіць, з гэтай прычыны Роўба трапіў у яго брыгаду, бо быў тады цягавіты і паслухмяны. Знайшлася, аднак, прычына, па якой ён ледзьве не вылецеў з плытагонаў. Пасля смерці жонкі не было на каго пакінуць дзесяцігадовую Волечку, і ён мусіў узяць яе на плыты. Але браць на такую работу дзяцей там забаранялася, і Кузняцоў, убачыўшы плытагона з дзіцём, тут жа адправіў яго ў кантору. Мабыць, ён думаў, што Роўба будзе спрачацца ці, можа, прасіцца, але той пакорліва сабраў сваю торбачку, узяў за руку дачушку і, сказаўшы «да пабачэння», смірна пайшоў да сходцаў. З берага ён апошні раз азірнуў плыты і ўбачыў брыгадзіра, які, стоячы на тым самым месцы, пазіраў на яго. І раптам брыгадзір махнуў да яго рукой — маўляў, вяртайся! Хведар гэтак жа моўчкі вярнуўся, як і ішоў, і Кузняцоў сказаў са злосцю: «Заставайся. Толькі глядзі — засыплешся, я нічога не знаю. Паняў?» — «Паняў», — сказаў Хведар, ураз акрыяўшы душой ад такога павароту лёсу. Сапраўды, ён ужо прывык да думкі, што будзе працаваць на сплаве, яму падабалася рачное прыволле, лясныя берагі навакол і высокае вольнае неба ўгары. Цяжкое працы на плытах ён не баяўся, — мабыць, цяжэй, чым на тарфянішчы ці на лесапавале ў тайзе, не будзе. Зноў жа пры ім будзе Волечка, і на ягонай душы не будзе шчымець кожны раз за дзяўчынку — як яна там, галодная, ці не пакрыўдзіў яе хто, малую? Як была жывая маці, тады ўсё здавалася прасцей, болей звыкла, хоць і тады Волечка цэлымі днямі сядзела ў халодным бараку, у той час як маці завіхалася на лесасецы. А цяпер у пасёлку не засталося ніводнай роднай душы, а людзі было розныя, зборныя з усёй краіны, як было пакінуць на месяц ці на два дзіця без нагляду? Хведар дужа ўдзячны быў брыгадзіру за яго дабрыню і на плытах ірваў жылы за двух.

Каб ён ведаў, чым абернецца тая дабрыня, дык бы ён лепш кінуў дзіця ў тайзе, у незнаёмым паселішчы на беразе, сярод чужых, незнаёмых людзей. О, каб тое знаццё...

На плытах Волечка не сядзела без працы, хоць і малая, але па характары была дужа прыслужлівая і чым магла памагала строгім, маўклівым дзядзькам. Праз дні два брыгадзір

паставіў яе памочніцай да кашавара Краўца, ціхага, рахманага чалавека, самага старога з усёй іх брыгады. Той увогуле някепска ставіўся да малой, не крыўдзіў. Мо часам крыкне, калі што зробіць не так ці не ў час, але без злосці. Без злосці — гэта галоўнае. Не тое што ягоны зямляк Рагаўцоў, нервовы, зласлівы чалавек, што бясконца лаяўся брыдкімі словамі. Лаяўся з якой дробнай ці вялікай прычыны, а часцей — без усялякай прычыны — ад свае нутраной злосці. Кожны раз, як Хведар чуў тое, яго бы цвіком працінала ў сэрцы. Спярша ён стараўся, каб як засцерагчы Волечку, каб яна не чула таго. І як Рагаўцоў блізка лаяўся, ён пытаўся ў дачкі пра што-небудзь ці пасылаў яе на другі канец плытоў. Але неяк раз, як гэты Рагаўцоў асабліва брыдка абкладаў пры малой баб, што ўбачыў на беразе, Хведар не стрываў і стрымана папракнуў чалавека — маўляў, усё ж нягожа так пры дзіцяці распускаць язык, можна б трохі і па-людску. Рагаўцоў тут жа ўскрычаў, што ссыльны Роўба яму не ўказ, бо ягоная лаянка — дробязь для таго, хто нелегальна возіць староннніх і тым груба парушае рэжым. Вось ён возьме ў бліжэйшым пасёлку і «стукне», і тады ягоная дачушка ўчуе яшчэ не такое на бліжэйшым этапе, куды яе запраторыць разам з яе чыстаплюем-бацькам.

Хведар так збянтэжыўся ад тых нахабных нялюдскіх слоў, што проста не знайшоў, як адказаць. Здаецца, ён ужо нагледзеўся людской подласці ва ўсіх яе нечаканых праявах, але такой не прадбачыў. Увечары, як яны прайшлі Вусцюжную мель, ён ціха сказаў аб тым брыгадзіру, думаў, можа, брыгадзір заступіцца, папракне Рагаўцова. Але той толькі насупіўся і сказаў: «Гэны ўсё можа». — «Дык што ж мне рабіць?» — разгублена спытаў Хведар. І Кузняцоў, утаропіўшы ў яго суровы погляд, сказаў: «Будуць чужыя — хавай дачку». — «Куды ж схаваеш на плыце?» — шчыра здзівіўся Хведар, на што атрымаў хуткі адказ. «А пад плытом і схаваеш», — кінуў брыгадзір і пасігаў сабе па слізкіх бёрнах у хвост да стырнавога. Хведар застаўся стаяць, не ведаючы, сур'ёзна гэта ці, можа, для здзеку? Толькі спакваля да яго разуменне прыйшло: а праўда! Можна ж схавацца ў ваду, за плытом. Волечка ўжо навучылася няблага плаваць, будзе трымацца за бервяно, мо не ўтопіцца. Толькі адно нядобра — лета ўсё ж канчалася, вада пасцюдзянела, яны на плытах ужо не купаліся, толькі трохі мыліся ўранні.

Хто ведае, ці спраўдзіў сваю пагрозу той злыдзень Рагаўцоў, калі на плыт для праверкі ўскочыў вохравец з раённай камендатуры, як яны сталі перад Усысвінскім перакатам. Бывала, тыя вохраўцы наведваліся і раней, але так, больш для прыліку, спытаюць што-нішто ў брагадзіра, зірнуць сюды-туды і спяшаюцца на бераг. Гэты ж, мардаты, прыземісты шлапак у даўгім шынялі, пагаманіўшы з брыгадзірам, відаць, намерыўся прайсці па плытах да кармы, і ў Хведара нядобра скаланулася сэрца. Ён стаяў з багром у руках па правым баку плыта, а праз пяць крокаў ад яго, трымаючыся за вяроўчыну, сядзела ў вадзе Волечка, толькі як светлая галоўка зыбалася на паверхні. І вось ворхавец спыніўся пасярод плыта, пагойдаўся на таўсцейшым камлі бервяна і завёў з брыгадзірам гаворку пра хітрасці тутэйшай рыбалкі, якую блясну болей любіць увосень сёмга. Час быў не позні, але ўжо далёка не паўдзён, з усходу дзьмуў халаднаваты вецярок. Унутры ў Хведара мярцвела ад нецярпення, калі слухаў тую недарэчную размову. Але во, здаецца, яны ўжо будуць вяртацца, ужо павярнуліся, каб ісці. І зноў сталі. Вохравец пачаў нешта паказваць на тым беразе, і Хведар моўчкі праклінаў яго: каб ты здох, кот мурлаты! Волечка ўжо, мусіць, здранцвела ў вадзе пад плытом. А той з брыгадзірам бясконца доўга ішоў па нерухомых плытах, пасля доўга таптаўся на беразе, усё азіраючы раку. Хведар стаяў і напружана думаў: стукнуў Рагаўцоў ці не? Урэшце вохравец знік за кустамі на беразе, а ён ледзьве выцягнуў Волечку на бярвенне — ужо тая пасінела ад сцюжы і не магла вымавіць слова. І зубкі яе дробна стукалі, і вусны ніяк не маглі скласціся для зграбнага слова. Дрыготкімі рукамі бацька выціраў яе грубай мешкавінай, цёр худзенькія плечы, запалую грудку, а пераапрануць у сухое не было ў што, і ён здзеў сваю світку, неяк укруціў дачушку. Прыйшоў Кузняцоў, убачыў усё, зразумеў і скінуў ватоўку — на ўхутай! Дзякуй яму, ухутаў. Пасля Кравец нагатаваў вады, і ён паіў яе кіпнем — здаецца, неяк сагрэў дзяўчо.

На ноч паклаў на іхнім звычайным месцы, ззаду за буданчыкам, на звільгатнелых улежаных трантах, ухутаў мешкавінай і брыгадзірскай ватоўкай. Спярша сагрэлася і заснула, і ён, седзячы побач, думаў: мо яшчэ і абыдзецца. Ды не абышлося. Пад ранак запылала дачушка, усчаўся вялікі жар, прасіла ўсё піць, жалілася: баліць галоўка. Ён усё паіў яе цёплай вадой, іншага нічога ў іх не было — ні лекаў, ні

якіх зёлак. Раніцай трохі задрамала, але была гарачая, а яму трэба было заступаць на стырно. Наперадзе, сказаў брыгадзір, быў самы трудны ўчастак шляху, трэ было глядзець пільна. Але, як ні глядзелі, усё ж пасадзілі крайні плыт на каменне, ледзьве здзёрлі яго пад абед. За той час ён якіх пару разоў наведаўся за буданчык, і ў яго кожны раз ападала сэрца — кепска было дачушцы. Як на тую бяду, абапал ракі плылі таежныя, без аніводнага паселішча берагі, цягнуліся голыя абрывы, і над імі высіўся хвойны дрымучы лес. Брыгадзір бачыў ягонае гора і, здаецца, спачуваў яму, сказаў: у канцы тыдня прыйдзем у Мезу, там ёсць амбулаторыя, можа, зносім туды малую. Нібы збаўлення, Хведар прагна чакаў тае Мезы ўдзень і ўначы, сам не кладучыся ні на хвіліну, усё то варочаў стырном, то багром, бегаў па зыбкіх плытах, штораз заглядваючы за буданчык. Волечцы рабілася ўсё горш. На трэці дзень яна ўжо не пазнавала яго, толькі прасіла адагнаць птушак. Спярша ён здзівіўся: якіх птушак? А тады зразумеў: яна ж трызніць. Наступнаю ноччу неяк сцішылася і неўпрыкмет адышла з гэтага свету. Назаўжды адляцела, як светлая малая птушачка, яе чыстая дзяўчачая душа...

Да паўдня яна ляжала ўсё там жа, за буданом на трантах, і яны не ведалі, што з ёй рабіць. Тады брыгадзір выдраў з будана тры дошкі, якія былі там заместа падлогі, сказаў Краўцу збіць труну. Той і праўда збіў — маленькую, на метр, скрыначку, у якую паклалі худзенькае збялелае цела Волечкі. Ну а як пахаваць? Навокал вада, плыты нідзе не прыстаюць да берага, што ім рабіць? І брыгадзір надумаў заднім плытом трохі падграбці на павароце да берага (спыніць жа гэтую аграмадзіну было немагчыма) і па водмелі знесці труну на бераг. Хведар скочыў з плыта раней, яны перадалі яму труну, і ён, стоячы па грудзі ў вадзе, прыняў яе. Пакуль выбраўся на сухое, дужа намок, намачыў нежывую дачушку, пасля ўзлез на абрыў і агледзеўся. Скрозь на беразе сцяной стаяў лес — елкі і піхты. У адным месцы была невялічкая прамыіна, і на адным баку ля яе ўтварыўся роўны зграбны мысок. Неяк усцягнуў на гэты мысок труну і ўзяўся капаць магілку. Мусіць, у каменным жвіры капаў доўга і трудна, але ён не прыкмячаў таго, ён увесь час горка плакаў, не стрымліваючы слёз. Жыццё адняло ў яго апошнюю радасць, адзіную яго ўцеху, і Хведар думаў: што яшчэ чакаць ад яго? Што яно можа адабраць яшчэ? Пасля ўсяго, што з ім сталася,

уласнае жыццё траціла ўсякі кошт, ён не надта і даражыў ім; яно даўно зрабілася невыносным. Таго Рагаўцова, як ён позна ўвечары дагнаў плыты, ён не мог бачыць ад нянавісці і крыўды. І не мог зразумець, як гэта іншыя, і брыгадзір Кузняцоў таксама, паводзілі сябе з тым злыднем, нібы нічога і не здарылася. Ці яны нічога не разумелі? Ці баяліся яго? Ці яшчэ што? А Хведару ўсё ж спачувалі. Кравец ціха войкаў, круціў галавой, брыгадзір жа зацята маўчаў, здавалася тады, ён ні пра што іншае і не дбаў, апроч як пра свае плыты. Але як нарэшце прыйшлі ў Котлас і збылі на лясной біржы свой лесавы караван, гэты Кузняцоў паклікаў яго за рог складской будыніны, дзе не было нікога, і сказаў: «Даведка трэба?» — «Даведка? А дзе яе ўзяць?» — не зразумеў Хведар. «На, трымай, — сказаў Кузняцоў, азірнуўшыся, і сунуў у ягоныя рукі складзены квадрат паперкі. — Бярог для сябе, але, гляджу, табе самы раз будзе».

Хведар узяў тую даведку на імя Зайцава Андрэя Фаміча, яна і праўда неўзабаве дужа яму спатрэбілася. І ён быў бы шчыра ўдзячны брыгадзіру, калі б не тая цана, якую ён за яе заплаціў. Тая непамерная цана замінала яго ўдзячнасці, і ён часам думаў, што ў параўнанні з загубленай дзіцячай душой усё тое — дробязь.

Поўня на небе ярка свяціла між хмар зыркім сцюдзёным святлом, кладучы наўкось на магілах частыя цені ад крыжоў. Воддаль на выспе пад хвоямі стаяў чорны змрок, які шырокім і даўгім ценем амаль дасягаў дальняга краю могілак па-над выганам. Тут жа было ўсё добра відаць — кожны крыж і кожная купінка магілы. І толькі калі ў небе насоўвалася суцэльная хмара, тады ўсё навакол патанала ў цемрадзі. Хведар нібы заплюшчваў вочы і невідушча стаяў між магіл. Увогуле тут яму было добра, нават спакойна і ўтульна: ён нібы далучаўся да аднасяльчан і ладзіў з імі нетаропкую маўклівую бяседу — і пытаўся, і скардзіўся, і разважаў. Шкада, што не меў адказу, ну але ўжо ён прывык да таго, нібы аглух за многія тыдні свайго адзінокага блукання. У задуменні тупаючы між магіл, напаткаў і дбайна прыбраную магілу — на схіле бліжэй да крайніх аграмадзін-хвояў. Тут сапраўды кідаўся ў вочы дагляд і дбайнасць — магіла было роўненька абкладзена дзёрнам і свежа пасыпана дробным белым пяском, васьміканцовых крыжоў мясцілася аж два разам — меншы і большы за ім, абодва фарбаваныя белаю фарбай. Поруч прыткнулася спрыт-

ная, бы дзіцячая, лаўка, на якую, стаміўшыся, прысеў Хведар. Хто тут пахаваны, ён не мог здагадацца. Ужо, мабыць, не стары, не дзед і не баба, магілы старых так не ахаджваюць. Можа, гэта так пастаралася жонка для любага мужа? Але жонка наўрад ці зрабіла б усё так майстроўна і дбайна. Тады муж — жонцы? Ці хутчэй за ўсё бацькі — свайму дзіцёнку, мабыць, так. Але нідзе не напісана нічога — безыменная магіла, навек прапісаная толькі ў сэрцах, блізкіх нябожчыку.

А ў яго Волечкі, мабыць, няма ўжо і купінкі...

Доўжылася ціхая месячная ноч. На могілках стала сцюдзёнавата, надвор'е ці не меціла павярнуць на замаразкі, думаў Хведар, панікла седзячы ля прыбранай чужой магілкі. Яму нікуды не хацелася рушыць адсюль, тут ён, як нідзе ў іншым месцы, адчуваў сябе ў спакоі, адноснай бяспецы. Мусіць, недзе пад ранак закацілася-знікла поўня, навакол стала цёмна, бы ў склепе. Да начной цемрадзі Хведар, аднак, даўно прызвычаіўся, цемра яго не палохала. І ён сядзеў, прыпамінаў, думаў. Жаваў кіслыя журавіны, ашчадна выбіраючы з кішэні па дзве-тры ягады разам. І, мабыць, трохі драмаў. Толькі, як заўжды, пачала даймаць сцюжа. Да сцюжы ён не мог прызвычаіцца, асабліва пад старасць, на дрэнных харчах, і пакутаваў ад яе ў ссылцы і тут во таксама. Можа, таму, што намёрзся, як ніхто за жыццё. Не ўмеў грэцца, як іншыя, ляскаючы сябе рукамі, прысядаць і тупаць. На сцюжы ён дубянеў, сціскаўся, нерухомеў — трываў. Таксама як трываў голад, знясіленасць, ганьбу. Ужо нямала гадоў усе яго намаганні ішлі на адно толькі — трываць. Ён не ўзрываўся, як некаторыя, калі, здавалася, трываць было неяк, не абураўся ад кепскіх харчоў, зверскай працы ці людской несправядлівасці, толькі сціскаў зубы, калі тыя яшчэ былі ў яго, і — трываў. Мусіць, не было ў свеце такіх абставін, якія б ён не навучыўся трываць. Апроч хіба аднаго — няволі-журбы расстання. Тут ужо ён не мог перайначыць сябе, ягоная натура насуперак усім абставінам імкнулася дамоў — праз безліч небяспек і нягод. Тады, першы раз, не ўдалося, не пашэнціла другі раз. Затое дамогся таго трэцім разам і цяпер быў амаль шчаслівы. Дык што яму цяпер сцюжа! Ці голад! Урэшце, ён быў там, дзе марыў апынуцца пяць жахлівых гадоў. Што яму болей?

Мусіць, трэба было ісці ў лес, каб ранкам не налезці каму на вочы, але ён разморана бавіў цёмны перадсвітальны час, вагаўся. Яшчэ праз нейкі нядоўгі час прыкмеціў, што на

магілках стала відней, выступілі са змроку бліжнія магілы і крыжы, і ён зразумеў: світае. Ускраек неба над лесам ужо засвятлеўся на самы першы зачын новага дня, і ён устаў з лаўкі. З'явілася думка менавіта такою гадзінай, на ціхім золку, пакуль не абудзілася вёска, яшчэ прайсці па вуліцы — хто ведае, можа, астатні раз, болей ужо не прыйдзецца. А цяпер, можа, ніхто не згледзіць.

Вузенькай дарожкай паміж магіл прайшоў праз густы змрок тоўстых хвояў і выйшаў з-пад іх на вясковую вуліцу. Дахі дамоў, вяршаліны вулічных дрэў, садкоў толькі выплывалі са змроку, вуліца і двары ляжалі яшчэ ў цемрыве, ніклі ў санлявым спакоі вясковыя хаты, прызбы, платы; густаваты змрок туліўся пад абвіслымі стрэхамі хлявоў і дваравых будынкаў. Хведар ціхенька прайшоў да сярэдзіны вёскі. На нейчым плоце вецер варушыў стракатую анучу, згледзеўшы якую, Хведар падумаў з трывогай: аднак добра світае, мабыць, ён усё ж прыпазніўся. І ён паддаў кроку. Ён ішоў краем вуліцы, ашчадна і мякка шорхаючы ў мураве пасталамі, толькі сюды-туды зыркаў позіркам — хацелася як найбольш убачыць, заўважыць, запомніць. І раптам ягоны позірк застыў у недаўменні: насупраць за тынам шарэў нейчы ўважлівы жаночы твар, скіраваўшы на яго здзіўлены позірк цёмных вачэй, якія ўвачавідкі пачалі шырэць, акругляцца ў нямым раптоўным здзіўленні. Ён нічога болей не бачыў там — ні апраткі, ні нават хусткі на галаве, адзін толькі гэты погляд азваўся ў ім раптоўнай здагадкай: «Любка». І ён стаў. За два крокі ад яго былі варотцы ў двор, ён тузануў іх, не ведаючы яшчэ, навошта гэта зрабіў, расчыніў у двор. Жанчына, бы страціўшы мову, глядзела на яго, невядома, пазнаючы ці не, а затым здзічэла-галасна закрычала: «А-а-а-ай!» і кінулася назад, на ганак. Ён скалануўся ад спалоху, але стаяў у варотцах і ўчуў, як у хаце грукнулі дашчаныя дзверы і тут жа лязгнула засова.

Падумаўшы, што зараз нехта выскачыць з хаты ці праз вокны ўбачыць яго на вуліцы, Хведар шаснуў у двор, сцежкай пабег у гарод і па росным бульбоўніку загумення падаўся ў світальнае поле. Усё ў ім калацілася ад гэтай неспадзяванай сустрэчы з Любкай, з якой яны разам раслі ў вёсцы, рабілі побач на бацькоўскіх надзелах, якую ён некалі нават кахаў трохі — наіўным маладым дзецюком перад прызывам на вай-

сковую службу. І крыўдна было яму, і горка, але ж... Мабыць, спалохалася жанчына і ледзьве не пагубіла яго. А можа, і не пазнала. Але не дзіва — хіба пазнаў бы сябе ён сам? Што ў ім засталося ад ранейшага Хведара, ад таго жаўтаротага дзецюка? Цяпер ён здань, начны, бесцялесны прывід, ад якога жахаюцца людзі, месца якому, мабыць, побач з ваўкамі ў лесе.

## Раздзел чацвёрты

## РАДАСЦЬ ЗЯМЛІ

Пакуль развіднела, ён быў ужо ў лесе, раздумна плёўся па блытаных, пратаптаных жывёлай сцяжынках і думаў, дзе б яму прыткнуцца на дзень. Мусіць, сюды зноў прыгоняць кароў, тут месца яму няма. Тады дзе ж яно ёсць? Канечне, дзе далей ад жытла і людзей, ад поля і сенажацяў. Значыць, зноў трэба плясціся ў расцяробы ці ў той дальні змрочны ельнік, на балотныя імшарыны. Разважыўшы, усё ж вырашыў, што лепш — у расцяробы. Там, ведама, небяспечней, чым у ельніку, затое ў тым баку поле і бульбянішча, на якое яму трэба будзе схадзіць. Як заўжды, зранку пачало дужа смактаць пад грудзямі, хацелася есці. Журавіны ён амаль усе з'еў уначы, яны кепска спатольвалі голад, толькі праганялі смагу. Трэба было ісці па бульбу.

У гэтую раннюю гадзіну дня, мабыць, можна было не надта баяцца спаткаць чалавека, і ён з вярсту ці болей ішоў добра ўтаптанаю сцежкай, якая блытана выкручвалася ў маладым бярэзніку. Пасля, як сцежка павярнула да зімовых дзялянак, ён збочыў з яе ўлева, да Доўгага рова, пайшоў мешаным, з рэдкімі елкамі лесам, падняўся па некрутым схіле ўгору. У лесе ўжо настаў дзень, было відна, навакол сцішана драмалі елкі, не варушыўся ніводзін лісцік у жаўтлявым вецці бяроз. Здаецца, усталявалася добрае, без дажджу надвор'е, можа, нават пачнуцца прымаразкі. Тады ўраз пачарнее лісце алешын, золатам зажаўцее бярэзнік, дружна пацярушыць лістапад. Праз нейкі нядоўгі час лісцвяны лес стане скразны для позірку, усё жывое ў ім будзе бачна здалёк. Мусіць, тады яму будзе горш... Але ён не хацеў думаць пра тое, што будзе, ён жыў адным днём, ягоныя клопаты не ішлі далей наступнага

вечара. Увечары, мабыць, будзе спакайней, а ўдзень трэба трымаць вуха востра.

Бадай у тым самым месцы, дзе і першы раз, ён асцярожна спусціўся кустоўем у шырокую праваліну рова, напіўся там у ручаіне, памыў рукі і твар. Паднімаўся на другі схіл доўга, разоў колькі спыняючыся, адпачываў, не ўпершыню заўважаючы, як менее ў яго сілы. Яшчэ нядаўна, у дарозе, неяк не прыкмячаў вялікае слабасці, мабыць, там рухала ім вялікая сіла мэты. А тут... Мэта ўжо апынулася ззаду. Найперш за многія дні бадзяння аслаб без хлеба, ведама, ягадамі не надта пракормішся. Але што ж тады — зноў ісці ў вёску, прасіць у каго хлеба? Чым гэта можа скончыцца? Ён і так дужа баяўся за нядаўнюю сустрэчу з Любкай, як бы яна аб тым не раззваніла ў сяле. А можа, не пазнала, калі так закрычала жудасна?

Вылезшы з рова, доўга аддыхваўся, пасля адышоўся далей да ўзроўка, знайшоў трохі ўтульную мясціну між двума кустамі ляшчынніку. Перш чым легчы, агледзеў суччо — не, арэхаў тут не ўрадзіла, на яго бяду, пажывіцца не было чым. У доле, праўда, сталі трапляцца грыбы — сыраежкі і ваўнянкі, зрэдку чырванеліся мухаморы, і ён падумаў, што хутка, мабыць, дойдзе чарга і да грыбоў. Але найперш яго вабіла бульба, пакуль тая яшчэ была ў полі.

З бульбаю ў яго быў звязаны адзін малапрыемны выпадак у германскім палоне, цяпер дык і смешна ўспамінаць аб ім. Але ўспаміналася часам, бо горкае і вясёлае ва ўспамінах заўжды месцяцца побач. Спярша ў палоне ён паўгода гібеў на варанай бручцы, калі з паўсотняй такіх, як сам, небаракаў рабіў на чыгуналіцейным заводзе. Затым трапіў да баўэра. Гэта быў стары гаспадар гер Ёган, два сыны якога ваявалі на фронце, а дома жыла нявестка з двума падлеткамі. Зямлі ж у таго Ёгана, як і скаціны, было процьма, і, каб апрацоўваць яе, баўэр узяў шасцёх парабкаў з рускіх палонных арміі генерала Самсонава. Наогул у баўэра было і няблага, прынамсі, кармілі па-людску, хоць рабіць прымушалі штодня без выхадных і святаў. І яны рабілі, як чэрці, як валы, — усе гаспадарчыя работы ў полі, на гумне і дома. На гэты конт быў заведзены цвёрды, бадай як у казарме, парадак, за якім асабіста назіраў сам гаспадар сядзібы, што некалі служыў у войску фельдфебелем і бясконца напамінаў ім аб тым. Пра гаспадарчыя справы болей клапацілася нявестка, якая насілася па палях

на ладным буланым жарэбчыку, усё выглядаючы, дзе што зроблена, а што недароблена; гаспадар жа болей прыглядваў за батракамі — муштраваў і клапаціўся адначасна. Клопат яго быў асаблівы. Ён пакараў штрафам кухарку, калі тая неяк паклала ў іхні кацёл меней мяса, чым было ўстаноўлена нормай, караў вінаватага за брак у працы ці недаробак тым, што два ці тры дні не даваў мітаг — абедаць, толькі адзін фруштук раніцай. Аднойчы, калі палонны туляк Белашэеў паскардзіўся гаспадару, што другі палонны ўкраў у яго партабак, гер Ёган не стаў дужа разбірацца, а пакараў абодвух. Ён загадаў парабкам узяцца за левыя рукі, як для прывітання, і з прымаўленнем «гутэн морген — гутэн таг» біць па чарзе адзін аднаго ў вуха. Іншыя парабкі, а таксама кухарка, малыя і гаспадар з нявесткай назіралі за той гульнёй з ганка. Спярша было нават смешна, як два рускія, быццам лянiва, напаўсілы пачалі біцца, але хутка кінуліся разнімаць іх, бо тыя так разлютаваліся, што ледзьве не скрывавілі адзін аднаго.

Штодня яны ўставалі па званку ў пяць гадзін раніцы, акуратна засцілалі коўдрамі свае тапчаны, пілі каву з павідлам і чорным хлебам і адпраўляліся на працу. У паўдзён палуднавалі ладнаю міскай супу і кашай з кавалкам мяса, хлеба ім давалі па фунту на раз. Спалі на чыстай бялізне, якую старая кухарка мяняла кожную суботу; кожную суботу таксама мыліся пад цёплым душам у прыбудоўцы да кухні. Белашэеў, з якім пасябраваў Хведар, усё не мог нарадавацца сваім вайсковым лёсам, казаў, дома не спаў так чыста і не еў так сытна, як у гэтым палоне. А праца што ж — да сялянскае працы ім не прывыкаць. І, мабыць, усё было б увогуле добра, калі б не Рудзі, чатырнаццацігадовы падшыванец, сын Герды і ўнук старога Ёгана.

Гэта зладзюга Рудзі, мусіць, кожную гадзіну дома толькі і дбаў, каб зрабіць што брыдкае парабкам. То ён падапрэ каго калком у прыбіральні, то выцягне з хамута супонь, калі трэба запрагаць каня, то падставіць пад хвост кабыле іхні жбан ад квасу. Аднойчы ён выняў з нагружанай фуры шворан, і як Хведар пагнаў каня, фура звалілася з перадка, рассыпаўшы па вуліцы бульбу. Хведар кінуўся яе збіраць, а той Рудзі ад смеху хапаўся за жывот у гародзе, і Хведар, не доўга думаючы, агрэў яго цераз плот пугай. Затым сабраў усё да бульбіны, наладзіў фуру і, нічога нікому не сказаўшы, паехаў у поле. А калі ўвечары вярнуўся ў двор, дык убачыў

там старога гаспадара, счырванелую ад гневу Герду і таго злыдня Рудзі з крывавым пісягом на шчацэ. Стары Ёган тут жа распачаў следства, Хведар спрабаваў апраўдацца, але яго не захацелі і слухаць. Нявестка нешта гырчэла пра камендатуру і гаўптвахту, але свёкар сказаў, што гаўптвахты не будзе: ён не можа дазволіць, каб у гарачы дзень веснавых работ ягоны работнік сядзеў у кутузцы ці ляжаў на тапчане з пасечаным бізунамі задам. Ён яго пакарае ганьбай — заўтра Фэдэр пойдзе на працу ў адной кашулі, без порткаў.

Спярша Хведар не зразумеў нават: што гэта за дзіўная кара — без порткаў? А адных падштаніках, ці што? Але аказалася, што не ў падштаніках — зусім без нічога аднізу. Было не сцюдзёна, прыгравала сонца, але пакутам Хведара не было межаў. Увесь час і так і гэтак тузаў долу падол споднян сарочкі, каб хоць як прыкрыць свой мужчынскі сорам, але прыкрыць не было як — трэба ж было працаваць: нагружаць у фуры бульбу, цягаць кашы ў полі. А навокал былі людзі, немцы і немкі, іхнія дзеці, хлопчыкі і ладныя ўжо дзяўчаты, усе з рогатам ці ўтрапёна пазіралі на яго, і ён гатовы быў завыць ад сораму і крыўды. Ён ледзь дачакаўся вечара таго бясконцага доўгага дня і, прыбіўшыся ў свой катух, без вячэры шаснуў пад коўдру. Якое гэта было неспазнанае шчасце — адчуць сваё цела прыкрытым ад чужых вачэй! Усё ж яму ішоў тады трыццаць першы год, ён быў жанаты і думаў, што горшага здзеку прыдумаць ужо немагчыма, гэты — самы вялікі. Але мінуў час, пасыпаліся іншыя здзекі, у параўнанні з якімі адмысловая выдумка таго баўэра здавалася недарэчным жартам — не болей.

Голадна глытаючы слінкі, Хведар скорчыўся пад кустамі на дробнай траве, увабраў галаву ў шырокі, злямцаваны каўнер свае світкі, засунуў рукі запазуху і ляжаў так. Вочы часам заплюшчваў, нічога не бачачы наўкола, ды адсюль няшмат можна было і згледзець. Затое ягоны слых быў, як заўжды, абвострана-чуйны. Здаецца, і ў сне. Хведар прыслухоўваўся да наваколля, бо чым жа яшчэ мог ён засцерагчыся ў ягоным становішчы? Лес пачаў трошкі шумець, але ўвогуле скрозь стаяла лясная ціша; часам пырхала ў кустоўі птушыная драбяза, ды тое не парушала Хведаравага спакою. І памалу, неўпрыкмет ён быццам бы адасобіўся ад гэтага лесу і гэтага часу, бы засынаючы, убачыў сябе здаля і мо ўпершыню зразумеў усю гароту свайго становішча. Тое

відовішча самога сябе прымусіла яго схамянуцца ад нейкага здзіўлення, ці што. Сапраўды, чаму ён непрытульна ляжаў тут, праз дзве вярсты ад тае мясціны, дзе ўпершыню ўбачыў свет, дзе ён пражыў сталае сваё жыццё, дзе нарадзіліся яго дзеці? Чаму ён стаў тут для ўсіх жахлівым чужынцам, хто ў тым вінаваты? Можа, адзін сам? Ці і яшчэ хто іншы? А можа, і ніхто? Але ж як тады ўсё тое стала магчыма? Увогуле, гэта ж трэба так вось страціць усё, зрабіцца выгнаннікам, беглым катаржнікам, чалавекам без права і закону. І як усё пачалося? Колькі ён думаў пра тое, як і з чаго пачалося, — выразнага адказу знайсці не мог. Бо пачалося ўсё неяк няўзнак, недаўменна і неспадзявана, а абярнулася менавіта тым, чым абярнулася. Ці мог ён прадбачыць усё ў той завірушны вечар, як яны сядзелі ў сельскай хаце і старшыня Сокур вынес на абмеркаванне загадкавае пытанне: на каго размеркаваць тры цвёрдыя заданні, якія ён прывёз з райвыканкама? Нялёгкая была гэта справа для членаў сельскага Савета, якім з’яўляўся тады і Хведар Роўба. Тыя гады ён лічыўся серадняком — па колькасці сваіх дванаццаці гектараў зямлі. Было некалькі гаспадарак, багацейшых за яго, мелі па чатырнаццаць і пятнаццаць гектараў. Але што то былі за гектары? Змітрок Бядута, напрыклад, меў іх шаснаццаць, але жыў бедняком, бо рабіць на зямлі не было каму, два сыны не вярнуліся з вайны, сам быў стары і нямоглы. Ягоны надзел — дальняя прырэчная балацявіна за час вайны, рэвалюцыі і польскай вайны спрэс зарасла кустоўем і толькі што на паперы лічылася ворывам. Але недзе лічылася, і Змітрок самы першы атрымаў позву на цвёрдае заданне. Ён жа, Хведар, дык і не думаў ніколі, што яго можа напаткаць такі самы лёс, хоць і жыў збольшага спраўна, але ж які ён кулак? Адзін конь, дзве каровы, авечкі, свінчо — бадай, як і ва ўсіх астатніх у Нядолішчы. Што былі гусі, дык сажалка ж у канцы гародаў. Цёк ручай з балацявінкі, неяк увесну яны з сынам запрудзілі яго ля мастка, нацякла ладная сажалка ды так і засталася. Але, мусіць, не тое вызначыла яго кулаком, а малатарня.

Хай яна спрахне, тая малатарня, навошта ён з ёю звязаўся! Малаціў бы, як і раней, цапамі, ужо не так шмат было таго збожжа, каб яго за зіму не абабіць на таку ў тры цапы. Дык не, захацелася, каб культурна, каб малатарняй...

Як цяпер помніцца, думку пра тое падаў сын Міколка. Тады ўжо ён быў ладны дзяцюк, увосень збіраўся на прызыў у

Чырвоную Армію і лічыўся сакратаром камсамольскай ячэйкі ў Нядолішчы. Як ён стаў сакратарыць, у хаце паявіліся газеты і брашуры, некаторыя цікавыя часопісы, як «Бязбожнік», напрыклад. Звычайна сын быў дужа заняты дзень і чытаў толькі ноччу пры лямпе, а назаўтра што цікавейшае падсоўваў бацьку — то артыкул у «Беларускай вёсцы» пра падаткі і самааблажэнне, то выступленне таварыша Сталіна пра апазіцыю, а то брашуру наркама Прышчэпава пра культуру сельскай гаспадаркі. Хведар чытаў збольшага, не дужа ўсё разумеючы, але галоўнае ён цяміў спраўна: жылі сапраўды кепска, бедна, малакультурна, гаспадарку вялі няправільна. Гэта — вядома, на кепскае ён даволі нагледзеўся. Але як гаспадарыць правільна? Мусіць, каб правільна весці гаспадарку, аднаго ведання мала, патрэбны грошы, інвентар, угнаенні. Каб было больш угнаення на яго гектары, завялі другую кароўку, выгадавалі цялушачку, хоць малака для іхняй сямейкі хапала і ад адной галавы. Гады чатыры перад тым Хведар, можа, самы першы ў вёсцы, купіў у Полацку плуг — новенькі, фабрычны, афарбаваны ў сіні колер, з роўненька вытачанымі дубовымі ручкамі. Спрытны аказаўся плужок, адна радасць была араць ім, нават прыходзілі паспрабаваць суседзі. Пасля купілі плугі і яшчэ некалькі мужыкоў. Плугі ўсім падабаліся.

І вось неяк увосень позненька ўвечары прыходзіць Міколка. Стомлены, згаладнелы, у гразкіх ботах, аказваецца, быў на нейкай нарадзе ў раёне. Маці хутчэй міску на стол, ён з'еў троху і кажа: «Бацька, а давай купімо малатарню. Ёсць такая магчымасць праз патрэбкааперацыю. Грошы можна не разам — у россрочку». Хведар адказаў не адразу, падумаў. Канешне, яно б дужа не блага, тая малатарня, ён ужо бачыў такую ў суседняй вёсцы Шаўцы. Летась там тры ці больш гаспадаркі склаліся і купілі, казалі, добра малоціць, дужа задаволеныя былі мужыкі. І лягчэй, чым цапамі, і хутчэй. Але ж... Бы чула ягонае сэрца, чым тое можа абярнуцца. Ужо ведаў прыкмету: новае і небывалае ў сялянскім жыцці — часта пахне махлярствам ці дурасцю, і трэба папярэдне прыгледзецца, каб не ашукацца. Ён так і сказаў сыну, а той толькі засмяяўся: як гэта ад малатарні можа быць кепска? Гэта ж за тыдзень з малацьбой можна ўправіцца, не тое што ўсю зіму цапамі махаць. Яно так, канешне, думаў Хведар, ды ўсё маўчаў, вагаўся. Уранку, як Міколка пабег па сваіх камсамольскіх справах,

асцярожна параіўся з Гануляй і вырашыў: купім. Пакуль не перакупіў хто спрытнейшы з якой іншай вёскі.

Малатарню прыцягнулі на трэці дзень пасля Пакроваў. Памог швагер Тамаш, доўга ладзілі пад павеццю прывад з драўлянымі дышламі і жалезнымі прэнтамі перадачы. Адклаўшы свае камсамольскія справы, памагаў і Міколка, усё ж ён таксама разбіраўся ў сучаснай сялянскай тэхніцы. Урэшце ўсё наладзілі і апрабавалі новую машыну. Ну, канешне, ніякага параўнання з цапамі — і хутка, і якасна. Праўда, народу для абслугі трэба болей, чым на таку; развязваць перавяслы, падаваць на стол, затым адзін машыніст, самы галоўны чалавек на малатарні, двое адграбаць зерне і прыбіраць салому. І яшчэ паганяць коней у паветцы. Чалавек шэсць, не меней, патрабавала да сябе тая малатарня. Але ўсё апраўдалася. Малацілі талакой, гаспадаркамі дзвюма ці трыма адразу, як калі складвалася. Хведар нікому не адмаўляў, меркавалі, як хто хацеў, а плацілі, хто колькі мог. У залежнасці ад намалоту, канешне. Усё па добрай волі, што ж ён які эксплуататар для сваіх сяльчан? Мусіць, ён бы даў малаціць і дарма, але трэба былі грошы, усё ж малатарня каштавала не дзешава, і хоць узялі ў крэдыт, але сплочваць трэба было кожны квартал. Да Каляд памалацілі ўсе суседзі і некаторая яго радня. Нават прывозілі з суседніх вёсак. Усім малаціў Роўба.

Нядоўга, аднак, пагрукацела на ягоным таку тая чырвоная малатарня. У наступную восень прыйшоў той самы сельсавецкі старшыня Сокур, з ім яшчэ нехта вусаты з раёна і апячаталі. Аказваецца, дапусціў ён эксплуатацыю, непрацоўны даход. «А як жа цяпер? Што будзе?» — пытаўся Хведар. «Што будзе, тое і будзе», — цьмяна адказаў вусаты, зашчапляючы свой пацёрты партфельчык. Яны ўдвух, не азіраючыся, пайшлі са двара, а ён моўчкі стаяў ля варот, ужо адчуваючы, што гэта — не страта малатарні. Гэта — пачатак і яшчэ большай бяды, што чорнай варонай закружылася над яго галавой. Міколкі ў той час ужо не было дома, месяцы два, як прызвалі на вайсковую службу, адправілі на далёкаўсходнюю граніцу. Прыслаў адтуль першы ліст, апісваў, як адказна і пачотна служыць на самай баявой граніцы, «у непасрэдсцвенным сапрыкаснавенні» з японскімі самураямі, і што давер родзіны ён апраўдае. Хведар скупа яму адпісаў пра

іхняе жыццё, але пра малатарню не ўставіў ні слова. Хай сын служыць спакойна, апраўдвае давер родзіны.

А ў Нядолішчы на той час заварыліся малавясёлыя справы. Знайшліся зайздроснікі, як той Зыркаш, якія напісалі на яго за малатарню ажно ў Полацк — што абірае сялян. Але ж хіба ён абіраў?.. А як сталі размяркоўваць цвёрды падатак, адразу ўспомнілі тую малатарню, і Сокур сказаў, што тут будзе па справядлівасці, на малатарні Роўба нешта заробіў. Хведар не ведаў, як адказаць: коратка адказаць ён не ўмеў, а доўга тлумачыць не было як. І выйшла так, што старшыня меў рацыю: заробіў Роўба ці не, але ў вёсцы другой малатарні не было, і цвёрды падатак прыляпілі яму законна.

Цяпер, падумаўшы, дык разумееш — на чарта яму здалася тая малатарня? Лепей бы, як спрадвек, малацілі цапамі, мелі б які-ніякі хлеб і сваё жытло. І не мелі б таго няшчасця, што, як з прорвы, абрушылася затым на яго сямейку.

Але, мусіць, тады нічога ўжо не ўратавала б, малатарня была толькі прычэпкай. Так ужо калі гружаны воз пахінецца ў калдобіне, дык, як ні хапайся рукамі, абернецца, адзін бок перасверыць другі. Тая малатарня была толькі апошнім давескам, які перасверыў яго і без таго нахілены воз жыцця. Бо яго пазначылі, як пазначаюць памаўзлівую скаціну ў статку, нейкая адзнака асаблівасці з'явілася на ягоным прозвішчы ў сельсавеце ці, можа, у раёне. Той цвёрды падатак — семдзесят пудоў збожжа ён неяк сплаціў, хоць падмёў усе хлебныя засекі ў клеці — вывез усё да першага сакавіка, як і прадпісвала абвестка. Галаднавата стала ў іх на стале, невядома, чым было засеяць яравы клін: засталося пуды два ячменю і трохі аўса. І ён не ведаў: ці прыкупіць астатняе, ці пазычыць у каго? Ён яшчэ не надумаў, як яму выкруціцца з ярыной, калі прынеслі новы, яшчэ болей цвёрды падатак: на гэты раз восемдзесят пудоў збожжа і сто рублёў грашыма. Ён сказаў сабе: з глузду яны там з'ехалі, дзе ён гэтулькі возьме? Бегаў у сельсавет, ездзіў у раён да знаёмага сакратара Церабільнікава, які яшчэ з ягоным Міколкам разам працаваў у камсамоле, — скардзіўся, тлумачыў, прасіў. Не, не памагло нічога, сказалі: не сплоціш у срок, апішам усю гаспадарку, «в том чысле будынкі і жывёлу». Пабедаваў з тыдзень і пачаў хадзіць па радні, сваёй і жончынай, па хоць бы трошку заможных людзях у вёсках. Але ўсе нібы здранцвелі, аглухлі да чужой бяды, ніхто нічога не даў. Мусіць, кожны думаў, як выкруціцца самому, бо Роўба

ўжо не першы быў абкладзены цвёрдым падаткам, чуў, такі ж падатак панакладвалі і ў іншых вёсках. Тады кінуўся прадаваць малатарню, абвясціў у вёсцы, у суседніх паселішчах. Ды ніхто не купляў, не пытаўся нават. Мусіў папрадаваць жывёлу, абедзвюх кароў, усе авечкі, дзвюх свіней. Дурны быў, не ведаў, што дарма ўсё гэта, не ўратуе і квітанцыя аб поўным разліку. Нічога, мабыць, ужо не магло ўратаваць, калі хтосьці надзяліў яго паганым і страшным словам «кулак».

Неяк тады, бегаючы па грошы, спаткаў у мястэчку Наэма, старога яўрэя, з якім калісьці меў справу, як купляў малатарню, ды заходзіў да яго і раней. Дружбы між імі вялікай не было, але Наэм мог пазычыць грошы і нават пачакаць, калі не выпадала аддаць, як дамаўляліся, ці замест рублёў мог узяць яйкі, масла ці нават пару мяхоў бульбы. Заўжды дзелавы рухавы Наэм брыў па вуліцы, бы нічога не заўважаючы вакол. Усё ж Хведар павітаўся, і яны разгаварыліся трохі, і тады Хведар дазнаўся, што і ў Наэма таксама нелады з уладай. Як Хведар паскардзіўся на сваю бяду, стары яўрэй узяў яго за гузік і дужа пацягнуў да сябе. «Я табе скажу: кідай усё, бяры дзяцей у ахапку і ўцякай. Куды? Няважна куды — куды вочы глядзяць. Пасля позна будзе... Гэта табе кажа Наэм! Я ўсё кінуў і во з гэтым вандзэлкам іду на станцыю. Я тут не жыхар болей! Я — бежанец! Ты мяне паслухай, Хведар!»

Не, тады Хведар яго не паслухаў: як гэта ўсё кінуць? А зямля, гаспадарка? І куды падацца? Тут усе яго карані, вяскоўцы, радня — як ён можа з'ехаць куды ў непрытульны, нязнаны свет?

Ён пражыў у Нядолішчы яшчэ месяцаў дзесяць. Нярадаснае было тое жыццё, бясхлеб'е і посніца надоўга пасяліліся ў ягонай хаце. Хведар дык яшчэ неяк трываў, сцяўшы зубы, а Ганулька пачала часта плакаць, асабліва ўранку ля печы, як бралася варыць ежу і нешта трэба было ўсыпаць у чыгун, пакласці на патэльню. Для малой Волечкі хадзіла па малако ў вёску да Лёксы ці да Грачыхіных. Тыя ім спачувалі, перажывалі іхнюю бяду, бы сваю, і, чым маглі, памагалі. Мусіць, тады ён схадзіў і да Цыпруковага Зміцера, які трэці год быў вінен яму трыццаць рублёў грошай. Быў вінен з той малацьбы і не аддаваў, і Хведар не мог напомніць яму — было ўсё ж няёмка, бы ён дамагаўся чаго незаконнага. Дарма тады не паслухаў Ганульку, якая, калі ён сабраўся ўвечары да Зміцера, сказала: «Не ідзі! Хай яны згараць, тыя трыццаць

рублёў, калі ён такі чалавек нягодны...» Мусіць, нягодны, нават напэўна так, думаў Хведар, але ж сам трапіў у нявыкрутку, як тут не пойдзеш. Пайшоў і, канечне ж, атрымаў дулю. Не меў грошы Зміцер ці не схацеў аддаць — хто яго ведае, толькі дужа нядобра пагаварылі яны, і Хведар, прыйшоўшы дамоў, зацята маўчаў да ранку. Яно, можа б, і нічога асаблівага, можа б, як і абышлося і без тых грошай, калі б гэты Зміцер не быў у актывістах камбеда. Калі пачалося самае страшнае — раскулачванне, менавіта ён і прапанаваў на пасяджэнні раскулачыць Хведара Роўбу. Як лішэнца і цвёрдападатніка. Што ж, яго паслухалі, Хведара выслалі. Правялі класавую барацьбу на вёсцы, а тая трыццатка так і засталася за Зміцерам. Хай карыстаецца на здароўе. Хведару не шкада грошай, толькі яшчэ болей сумна зрабілася ад таго на свеце.

Недзе ўгары свяціла негарачае сонца, вяршаліны елак воддаль ціха гарэлі ў ягоных бліскучых промнях. На іх голлі грэліся вароны, часам пералятаючы кудысь — на суседнія елкі, ці што? Унізе ж, пад ляшчыннікам, стыў сыраваты засень, было халаднавата, і Хведар колькі разоў ужо варочаўся то адным, то другім бокам, каб не дужа застуджацца ад зямлі. Ён прыдрамаў трохі, можа, з гадзіну ці больш, пасля апроч сцюжы яму стаў дапякаць голад, і ён сеў пад кустом. Карцела пайсці ў поле па бульбу. Можа, там ужо ўсё выбралі, людзей на палетку, мабыць, няма, і ён што-нішто знойдзе. Якіх дзесятак пакінутых у зямлі бульбін — то, мабыць, не будзе кража. А калі і кража, дык не дужа вялікая. Калгаснікі яму даруюць. Усё ж яны ўзялі ад яго болей — адна сядзіба чагосьці каштуе. Дый малатарня таксама. А яму спатрэбілася ад іх якое паўвядзёрка бульбы. Не так ужо і многа.

Устаўшы, ён памалу паплёўся між кустоўя алешніку, улез у завалены хворастам малады асіннік, ледзь выбраўся з яго. Трохі затрымаўся ў зарасніку высокага, у рост чалавека, малінніку са ссохлымі, счарнелымі ягадамі ў вецці, якія тут не ўсе выдзяўбалі птушкі, збіраў па адной, еў. Наедак, аднак, быў няважны, толькі хрумсцелі на зубах насенныя костачкі, маліны ўжо страцілі ўсю ранейшую слодыч. На сконе дня вылез з узлеску недзе паблізу ад таго бульбянога палетка на занятае азімінай поле і зразумеў, што занадта ўзяў управа, цяпер трэба ісці па ўзлеску назад. Толькі ён адышоўся мо з паўвярсты, як пачуў нейчы блізкі нягучны голас. Хведар стаіўся ў кустах, крадком паглядзеў наперад. Непадалёк на

ўзлеску з вяроўчынай ў руках клыпаў згорблены, у рудым армяку стары, пасвіў рахманую чорную кароўку. Тая ўсё нацягвала вяроўку, імкнучыся па траву ў кустоўе, і стары зласнавата бурчэў на яе. Хведар прыгледзеўся з зарасніку, ці не знаёмы хто? Але не, мусіць, то быў незнаёмы. Напэўна, чалавек не з ягонай вёскі, можа, з якой суседняй. Хведар мог бы яго абысці лесам, ды ў яго раптам з'явілася думка: а можа, папрасіць хлеба? Калі той пасвіць тут зранку, дык, можа, запасся хлебам, можа б, і яму даў кавалак. Дужа хацелася хлеба.

Урэшце набраўшыся адвагі, ён выйшаў з узлеску і роўна пайшоў краем азіміны, усё цікуючы за пастухом. Той ужо мог яго ўчуць, але пакуль не звяртаў увагі, і Хведар падышоў зусім блізка, стрымана павітаўся. На яго зірнулі выцвілыя вочы старога чалавека з тварам, аброслым (зрэшты, як і ў самога Хведара) сівою блытанай шчэццю. Чалавек нібы паморшчыўся, разглядаючы яго, але не адказаў нічога. Тады Хведар павітаўся зноў.

— Ды чую, чую, — сказаў стары, шамкнуўшы бяззубым ротам. — Дзень добры, ну.

— Карову пасяцё?

— Карову, анягож. Не каня. Каня ўжо не пасу. Адпусціў.

— А самі адкуль жа будзеце? — запытаўся Хведар і сцішыўся. То было важнае для яго пытанне, каб вызначыць, можа ён пазнаць Хведара ці не.

— Ды вунь, з Ушатаў, — сказаў стары і ўважліва агледзеў Хведара. Убогі выгляд яго, аднак, здаецца, не ўразіў пастуха — той сам быў апрануты не лепш. Хведар з палёгкай расслабіўся. У дальняй вёсцы Ушатах ён ведаў мала каго, таксама як і яго там мала хто памятаў.

— Можа, закурыць маеце? — раптам сказаў Хведар і не пазнаў свайго голасу, такі той стаў слабы і жаласны. Курыць ён зусім не хацеў — даўно адвык ад курыва, але не мог адважыцца адразу папытацца пра хлеб.

— Ёсціка, — сказаў стары і палез у сваю глыбокую кішэню. — Во самасеечкі трохі маю. Толькі запаліць няма чым.

— Запаліць, можа, знойдзем, — сказаў Хведар, аднак пашкадаваўшы, што завёў тую гаворку пра курыва — трэба было ашчаджаць запалкі. Усё ж яны скруцілі з жоўтай газеціны па невялікай цыгарцы, і Хведар дрыготкімі пальцамі

асцярожна церануў запалку, ашчадна прыкурыў сам, пасля ўжо смялей даў прыкурыць старому.

— У калгасе, дзед? — запытаўся Хведар, як яны зацягнуліся па адным разе. Ад тае зацяжкі ў яго адразу закруцілася ў галаве, і ён ледзь не хіснуўся. Стары другі раз падазрона паглядзеў на яго.

— У калгасе, а як жа... Цяпер усе ў калгасе. А як жа...

— Няўжо і аднаасобнікаў не засталося?

— Аднаасобнікаў? — прыжмурыў адно вока стары і спытаўся: — А ты сам адкуль будзеш? Здалёк?

— Ды я... Нетутэйшы, — схлусіў Хведар. — Да радні іду.

Чорная карова памкнулася за куст на ўзлеску, пацягнула вяроўчыну, і стары мусіў пацягнуцца за ёй. Хведар паціху пайшоў следам.

— А там, адкуль ідзеш, хіба асталіся аднаасобнікі?

— Ды не, знаеце...

— І ў нас не асталося. Каторыя ў калгас не хацелі — вывезлі. Каторыя пасля і захацелі, тожа раскулачылі і выслалі. Кулакі, падкулачнікі, — мармытаў стары, з вяроўчынай у руках усё кіруючы за каровай.

— Ну а як жа ў калгасе? Ці багата?

— Багата! — сказаў адразу стары. — З Вялікадня да Іллі траўку елі. З Іллі пачалі патроху бульбачку капаць. Ды што — на Іллю, якая там бульбачка! Арэхі...

— Во як?

— Ну. А што ж ты, не ведаеш? Ці ў вас там не было голаду? — стары ўтаропіўся ў яго дакорлівым позіркам.

— Дык як вам сказаць? Было...

— Ну, аднаго і паратунку, што кароўка. Малачко! Ды і тое здаць трэба. Дзвесця літраў. І мяса, і яйкі. І воўну. Зімой асмалілі падсвінка, дык штрафу далі пяцьдзесят рублёў.

— За падсвінка?

— Анягож. За скуру. Скуру ж трэба здаваць. А ў вас хіба не такія парадкі?

— У нас? Ды як вам сказаць? Строга, але, можа, не так, — трохі збянтэжыўся Хведар — ён не ведаў, як адказаць старому. Ці ўсюды было так, як тут? Ці, можа, у іншых мясцінах было трохі інакш. Мусіць, стары гэта зразумеў па-свойму.

— Я і казаў: нідзе няма так пагана, як у нашым раёне. Нягоднае кіраўніцтва, нягодныя людзі. Ці ж можна так: за якую

нядоімку — апошнюю карову. А малыя? Як ім без малака? Памруць. Ці мала іх памерла ўлетку. І малых і старых. Во бадзяюся па лясах з гэтай, — ён тузануў вяроўчынай. — Каб не адабралі. Бо плаціць жа падатак няма чым.

— Бяда, бяда, — раздумна паспачуваў старому збянтэжаны Хведар, якому яшчэ ні з кім не давялося гутарыць аб тутэйшых парадках, даведацца, як жывуць гэтым часам ягоныя землякі. Стары быў першы, і яму хацелася шмат пра што папытацца ў яго, хоць ён і баяўся выклікаць якое падазрэнне да сябе — усё ж чужы чалавек.

— Бяда, анягож.

— Можа, трэба было паскардзіцца? Жалабу куды напісаць? — асцярожна параіў Хведар.

Стары зласнавата ўхмыльнуўся ўсім сваім касмылявым тварам.

— Каму жалабу? Начальству? Дык яны ж самі ў нас як звяры. Прыедзе каторы... Вунь гэны Роўба: усё мацюгом ды пагрозай, Сібірру палохае...

Хведар знянацку адчуў, як закалыхалася пад ім зямля і коса паплыло кудысь поле.

— Роўба?

— Ну, Роўба. Цяпер жа ён парцейны сакратар. Малады, а нібы той цівун! Ад бацькі адмовіўся. Бацька ж яго раскулачаны ў Нядолішчы, дык адмовіўся. Казалі, і прозвішча меўся мяняць, каб анізвання...

Хведар, здалося, уязджаў у зямлю, якая ўсё плыла, гойдалася навакол. Ён ужо кепска чуў, што яшчэ казаў стары, які гаварыў і гаварыў — скардзіўся, мабыць, на парадкі ў раёне. Хведар яго не слухаў. Ён так нечакана ўчуў тое пра сына, з такім нутраным болем уразіла яго тая навіна, што ён анямеў на хвіліну. Болей не мог ні пра што пытацца, толькі самотна паглядзеў на шырокі абсяг руні, за якой на пагорку віднеліся стрэхі недалёкай вёскі, і моўчкі пайшоў па ўзлеску. Пра хлеб так і не папытаўся... Ён ужо не мог нічога прасіць, пайшоў прэч, як пабіты сабака. Ішоў і думаў: нашто прыйшоў сюды, зачапіў гэтага старога! Лепш бы ён не ведаў нічога ні пра тутэйшае жыццё, ні пра сына. Жыў бы, як раней, аднымі сваімі бедамі, што гадамі насіў у сабе. Нашто яшчэ да іх дадаваць і гэтыя? Як з імі жыць у сваёй спарахнелай душы?

Хаця якое ўжо там жыццё...

Зусім няўцямны да наваколля, ён далёка адышоўся па ўзлеску ад старога з каровай, ні разу не азірнуўшыся на яго; пасля зайшоў глыбей у лясцвяны лес і апусціўся ў высокую папараць. Тое, што ён чуў пра сына Міколку, напачатку бянтэжыла, збівала з тропу. Ну хай адмовіўся ад раскулачанага бацькі, навошта ж так да людзей? І яшчэ мяняць прозвішча? Што ж тады застаецца ад мінулага? Як тады жыць у будучым? Што ён скажа сваім дзецям, калі тыя будуць у яго? Дужа яму няпроста было зразумець сына, якога ён не бачыў сем год, і тое, што ён пачуў пра яго, адно бянтэжыла і абурала.

Малы Міколка быў жаласлівы да жывёлы, неяк усю зіму трымаў у клетцы пад ложкам бедалагу-курачку, якая зламала нагу. Дужа шкадаваў маці, як тая хварэла на рожу. А як вырас, мусіць жа, гэтак аддана палюбіў камсамол. Можа, і не сам камсамол, як тую гарластую мітусню, якой з захапленнем займаліся маладыя — ад суму і самоты, — седзячы зімой у цёмных, завеяных снегам вёсках. Усё нешта выдумвалі, выконвалі, засядалі, абмяркоўвалі і прымалі рэзалюцыі. З усёй іх ячэйкі асабліва актыўнічалі Міколка і ягоны аднагодак Шурка, адзіны сынок у бядначкі-ўдавы Міхаліны. Аднойчы яны прынялі рэзалюцыю, каб зняць абразы. Канешне, дамагчыся таго ва ўсёй вёсцы, як ім хацелася, хлопцы не мелі сілы, тады пастанавілі зняць хоць бы ў сваіх бацькоў. Тое было прасцей, але, мусіць, таксама не надта, бацькі іх не дужа слухаліся. Хведар глядзеў на хлапечую задуму даволі памяркоўна — што тыя абразы! Праўда, вісяць у куце, нікому не замінаюць, але і карысці з іх таксама няма ніякай. А Гануля заўпарцілася, і Міколка яе ўгаворваў ад Каляд да самага вялікага посту. Усё ж дамогся, аднойчы пазнімаў і абразы, і ручнікі з іх, замест павесіў партрэт Карла Маркса; ручнікоў, аднак, вешаць не стаў. З таго часу вісеў у куце барадаты чалавек, таксама ні карысці з яго, ні шкоды. Міколка ж быў задаволены, ну і добра.

І тут пад вясну выпадкам камсамольскі сакратар дазнаўся, што ў Шуркі застаўся адзін абраз, вісіць на покуці. Міколка сабраў камісію з трох чалавек, і яны пайшлі ў хату да Шуркі абследаваць. Аказалася, што так яно і ёсць, як казалі: абраз архангела Гаўрыіла вісіць сабе, дзе і вісеў, Міхаліна, Шуркава маці, плача, нізашто не дае знімаць, і Шурка нічога зрабіць з ёй не можа, такі аказаўся мяккацельны камсамолец. Міколка тут паставіўся крута. Думалі, ён скіне абраз, а ён абраз не

чапаў, а сабраў камсамольскі сход і, не зважаючы на даўняе сяброўства, дамогся, што Шурку выключылі з камсамола. Хведар трохі падзівіўся з таго і неяк увечары мякка папракнуў сына. Сказаў, ці не занадта сурова яны паставіліся да свайго ж вясковага хлопца, як Міколка яму адказаў з нечуванаю раней строгасцю ў голасе: «Камсамол такіх ашуканцаў сцірае ў парашок!» — «Ну-ну!» — зважліва сказаў сабе бацька і пайшоў па сваіх хатніх справах. На тыя сынавы клопаты ён глядзеў тады, бы на дзівацтва малых. Малое — дурное, падрасце — паразумнее.

Мабыць, аднак, паразумнеў па-свойму.

Разважыўшы, Хведар пачаў спакайнець, думаць інакш: а можа, цяпер так і трэба. І ў ссылцы ён даволі нагледзеўся на ўсялякія выкруты чалавечых лёсаў, начальніцкую строгасць і жорсткасць без мэты, ці якія мелі адну мэту — здзек. Але дабрыня, мусіць, там, дзе справядлівасць і праўда. А дзе класавая бязлітаснасць, жорсткасць вышэйшых да тых, хто ніжэй, якая ж там дабрыня! Мусіць, навек адышла дабрыня з мінулым часам, на змену ёй паявілася нешта новае — жорсткае і няшчаднае. Ягоны разумны Міколка, мабыць, хутка засвоіў тое. Калі ён цяпер стаў такі, значыць, такім стаць было трэба. Асабліва калі ён не па сваёй злосці, а з дзяржаўнай патрэбы. Значыць, іначай нельга. А што выракся бацькі... Крыўдна, канешне, і балюча, ды што зробіш? Можа, ён адрокся таму, што бацька быццам памёр і ніколі не дазнаецца пра тое. Прынамсі, для яго, сына, сапраўды памёр, калі за шмат год ад таго — ні ліста, ні якой выпадковай весткі. Можа, так сыну лепей. Зноў жа — кулак!.. Мабыць, бацьку ўжо тым не нашкодзіць, а сын пажыве, можа.

І ўсё ж было крыўдна, балюча было Хведару, хоць плач.

Калі пачало вечарэць, ён падняўся з папараці, агледзеўся. Скрозь у целе была вялікая слабасць, ногі зрабіліся тоўстыя, бы кулі (ці не пачалі пухнуць?), і неяк цягнулі ўніз. Ён зноў памалу пайшоў праз гушчар на ўзлесак і па-над рунню патупаў у бок бульбянога палетка.

Сонца тым часам ужо сышло з небасхілу, схавалася за вяршаліны лесу, але неба над полем яшчэ поўнілася ягоным нізкім святлом, у якім вольна плылі кудысь пульхныя аблокі. Як Хведар і прадбачыў, бульбу на палетку ўжо ўсю выбралі, ні жанчын, ні коней нідзе не было відаць, толькі воддаль бугрыўся адзіны, накрыты саломай бурт. Ну але бурт яму

не патрэбны. Трохі адышоўшыся ад канца загона, Хведар разгроб рукамі ўзараную баразну, калупаўся ў зямлі. Не, тут не было нічога, мабыць, усё падабралі. Тады ён адышоўся далей, перагарнуў у двух-трох месцах зямлю, знайшоў перарэзаную лемяхом палавіну бульбіны. Падняў галаву, агледзеўся — быццам нідзе нікога. Ён прайшоў трохі ўбок па загоне, дзе валялася ў барознах раскіданае каліўе бульбоўніку, падумаў, што, можа, што-нішто засталося. Капаў у некалькіх месцах, а знайшоў усяго чатыры бульбіны. Канешне, можна б дайсці да недалёкага ўжо бурта, набраць там у кішэні, але ён не хацеў надта аддаляцца ад ягонага выратоўцы-лесу. Дый зноў жа — красці калгаснае? Красці ён не хацеў, ён мог толькі ўзяць пакінутае, нічыё, што спрадвеку людзі не лічылі за грэх. Цяпер тым болей. Таропка пакапаўшыся ў зямлі, знайшоў яшчэ тры невялічкія бульбіны і спалохана азірнуўся. Ад узлеску ў напрамку да яго шырока сігалі па бульбянішчы дзве мужчынскія постаці. Сцяміўшы ўсё адразу, ён выпусціў з рук толькі што знойдзеныя бульбіны і таропка падаўся ўбок — наўкось цераз палетак, да лесу. Тыя таксама збочылі яму наперарэз — адзін пажылы, у ватоўцы і ботах, а другі, маладзейшы і цыбаты, у кепцы на галаве з даўгім насунутым на лоб казырком. Хведар ужо зразумеў, што справа яго — дрэнь, што тыя ловяць яго. І ён, што было сілы, пабег да ўзлеску, але не наўпрост, а беручы ўбок, усё ж трохі наперадзе яго даганятых. Ягоныя пасталы чапляліся за раскіданае каліўе бульбоўніку, ён ледзьве трымаўся на аслабелых нагах; чатыры бульбіны нялоўка боўталіся ў кішэні. Крокі яго, мусіць, былі куды карацейшыя, чым тых двух, што шырока сігалі яму напярэймы ад лесу. І ён спалохаўся, што не ўцячэ — дагоняць. Але няўжо яны сапраўды будуць яго лавіць, не адстануць? У нейкі момант яму ўдалося іх трохі апярэдзіць, ён амаль дасягаў бярозавага мыска на ўзлессі, з’явілася выратоўчая надзея — а раптам? Яны ўжо нібы заставаліся ззаду, як той першы пагрозліва закрычаў здаля:

— Ах ты, кулацкая морда! Спыніся! Спыніся, кажу!

Хведар аж спаткнуўся ад нечаканасці, тое, што пазнаюць яго, ён не прадбачыў. Але калі так называюць, значыць, пазналі. Як крыкнулі трэці раз, Хведар здагадаўся, што гэта — Зміцер Цыпрукоў, ён яго ловіць! Ах, Божа ж мой, не хапала яшчэ трапіць у рукі да гэтага зласліўца! Пякучая злосць шыбанула ў Хведаравы адчуванні, яна надала сілы.

Хведар ірвануўся, нібы апошні раз, і, не азіраючыся, убег у кустоўе ўзлеску. Тут ён яшчэ бег, праўда, усё марудней, пасля ішоў крокам і зноў аслабела трухаў, каб як мага далей адысціся ў лес, прэч ад таго нешчаслівага поля. Яго даганятыя, здаецца, у лес не пабеглі, засталіся на ўзлеску, і ён доўга шкандыбаў рэдкім недарослым хвойнікам, думаў, што сёння яму не пашэнціла канчаткова. Сёння ні адной прасветліны ў ягоным лёсе за ўвесь гэты пагодны сонечны дзень. Мала яму было тае навіны пра сына, дык яшчэ і Зміцер. Але глядзі ты: пільнуе ў полі. Ці ён які вартаўнік, ці начальнік, калі ў рабочы час разгульвае адзін па палёх. Ды, мусіць, — брыгадзір, здагадаўся Хведар, на тое было дужа падобна. Але Зміцер — брыгадзір, гэта ўжо нечакана. Самы няўклюдны гаспадар, у якога некалі здохла кабыла ад бяскорміцы, бо з'ела страху за зіму і не хапіла. Той Зміцер, які за жыццё не навучыўся плясці лапцей (заўжды пляла яму жонка), цяпер гэты недалэга робіць брыгадзірам. Праўда, горла меў добрае, мог накрычаць на каго хочаш, што цяпер, мабыць, самае важнае. Як там, у ссылцы, так і тут, у калгасах. Мабыць, аднолькава...

## Раздзел пяты

## АБЛАВА

Ноччу ўсчаўся вецер, лес апантана шумеў, елкі, здавалася, аж гулі ад ветранога напору, не перастаючы, ляскаталі лісцем бярозы, і Хведар думаў: зараз палье дождж. Той ноччу ён не пайшоў у вёску, ён наогул болей не вылазіў з лесу, які даваў яму больш-менш бяспечны прытулак. Іншага на гэтай зямлі ў яго не засталося. Кожны раз ён абіраў для сябе новае месца — абы далей у лес. Гэты вечар, уцёкшы ад даганятых, упаў долу там, дзе яго застаў прыцемак — у маладым густаватым ельніку, акрай хмызняковай імшары. Ісці далей, мусіць, не мела сэнсу, за імшарынай пачыналася балота, а галоўнае — у яго ўжо не заставалася сілы. Трохі адляжаўшыся, сеў, парэзаў на скрылікі і зжаваў тыя чатыры бульбіны. Болей з яды ў яго не было нічога, і ён сядзеў ноччу ў ельніку, думаў.

Божа мой, Божа, чаму мне выпала гэткая доля? Чаму я такі бядак? Хто ў мяне ўкраў шчасце і цяпер палюе за маім жыццём? Хіба я такі грэшны перад людзьмі ці пера Богам? Каго

я забіў, абабраў ці хоць зняважыў — каго? Заўжды стараўся як найлепш, барані Бог, каб хто пакрыўдзіўся, не папракнуў знарок ці з непаразумення. Заўжды пачціва ставіўся да ўлады, быў шчыра ўдзячны ёй за зямлю, за шчодрасць да бедняка, нядаўняга фальваркоўскага парабка. Ды і як жа інакш — Савецкую ўладу лічыў сваёй, сялянскай уладай. Яшчэ, бывала, пярэчыў на сходках, як некаторыя наракалі: таго няма, таго мала. Няма мануфактуры, цвікоў, не хапае газы, не купіць цукру... Казаў каторым нецярпліўцам: чакайце — не ўсё адразу. Савецкая ўлада, яна не пакрыўдзіць бедняка, яна галоўны свой клопат мае аб трудавым сялянстве. Ды ці ён сам тое прыдумаў? Аб тым пісалася ў газетах, тое ж гаварылі прадстаўнікі на сходах. І ён верыў. Ён гатовы быў усім пра ўсё верыць, бо сам не хлусіў ніколі, нікога за жыццё не ашукаў.

Хто ж ашукаў яго? І ашукаў так жорстка, бязлітасна, на ўсё жыццё?

Зрэшты, да ашуканстваў ужо можна было прывыкнуць — ці мала ён іх перажрываў у жыцці? Ашуквалі суседзі, радня, сяльчане. Заўжды ашуквала начальства — і тут, і ў высылцы. Ашуквалі таварышы па няшчасці. Некаторым за тое ён нават быў шчыра ўдзячны...

З Поўначы ўцякалі звычайна вясной, як раставаў снег і абуджалася тайга. Хоць і бедная была паўночная веснавая тайга, харчу ніякага не мела, апроч хіба ягад. Але стала вышэй хадзіць негарачае сонца, канчаліся лютыя маразы і сцюжа. А галоўнае — пачыналася пара зялёнай травы, дарогі без слядоў — ідзі куды хочаш. Такою парой мала хто з нявольнікаў гэтых лагераў і пасёлкаў не мроіў пра ўцёкі, пра той запаветны край, з якога быў вырваны сілай. Але ж тысяча кіламетраў тайгі, бездараж і бязлюддзе давалі адвагі не многім. Для тае адвагі патрэбна было жалезнае здароўе, звярыная сіла, а яны пад вясну ледзьве цягалі ногі. Але мары ап'янялі, а ап'янелы чалавек хто ведае на што здольны. І на разумнае, і на дурное — гэта ўжо гледзячы па абставінах.

У іх на сплаве, які толькі што распачаўся, уцячы з пасёлка было няцяжка — цяжка было затым перайсці тайгу. Некаторых лавілі — на рацэ і на дарогах, некаторых нават за сотні кіламетраў — на чыгунцы і прыстанях. І ўсё роўна ўцякалі. Ён пра ўцёкі ўсур'ёз не думаў, пакуль на руках была хворая жонка і малая Волечка. Але затым, як застаўся адзін... Хіба толькі думалася і тут жа забывалася. Усё ж рашучасці

ў яго не хапала, а пра свае мары ён нікому не намякаў нават. Ён наогул быў там маўклівы, сваіх людзей побач не аказалася, а з чужымі трымаўся асцярожна — ці мала што! Дый не падабаліся многія: крыклівыя, жорсткія, нягодныя. Можа, яго абыходзілі таксама, пагарджалі ім — забітым, малапісьменным мужыком-беларусам. Канешне, што ён для іх? Чым ён мог быць ім карысны? І ён прывык да тае няўвагі да сябе і дужа здзівіўся аднойчы, калі ім зацікавіўся чалавек.

Нейк на штабялёўцы ў запані, як брыгада грувасціла бярвенне ў высачэзныя гурты, да яго ціха падышоў Вугор. То быў таксама ссыльны, але не з сялян раскулачаных, а яшчэ з нейкіх, ён працаваў у адной з ім брыгадзе, ды таемна знаўся з некаторымі людзьмі ў іншых брыгадах. Былі чуткі, што ў ссылку ён трапіў пасля Варкуты, дзе на шахтах адбываў тэрмін за нешта крымінальнае, выйшаў там у начальства, ды на чымсьці праштрафіўся. Родам быў гарадскі, здаецца, аднекуль з Урала, паводзіў сябе стрымана, з начальствам — без асаблівай пакоры, ведаў сабе цану, часам вольнічаў — мог дазволіць калі лішнюю хвіліну на перакур. І начальства не надта да яго чаплялася, бы зважала яму.

Гэты Вугор паазіраўся, паслухаў — блізка нікога не было, і кажа Хведару: «Дамоў хочаш?» Хведар здзівіўся, збянтэжыўся, адразу і не зразумеў пытання. Тады той растлумачыў: «Ёсць такая магчымасць. Нас двое. Трэцім будзеш?» Пра што было і казаць, канечне ж, дамоў Хведар гатоў быў паляцець на крылах, усё ў ім узгарэлася ад тых слоў чалавека. Толькі як? Якая ў іх з’явілася магчымасць? Але, мусіць, з’явілася, калі добры чалавек прапануе. «Значыць, згодны? — ціха папытаўся Вугор. — Тады заўтра станавіся на крайні штабель».

Назаўтра ўранку ён і сапраўды стаў на працу ля крайняга ад лесу штабеля. Зрабіць гэта было няцяжка, бо іншыя, калі брыгадзір расстаўляў на рабочыя месцы, стараліся не вытыркацца: той штабель быў самы дальні, і бёрны да яго трэба было цягаць здалёк. Хведар жа тады выйшаў наперад і якраз апынуўся ў той чацвёрцы, якую накіравалі на канец пляцоўкі. Там жа апынуўся і Вугор. Яны памалу ўзяліся качаць бярвенне, але, як толькі брыгадзір знік з вачэй, Вугор міргнуў адным вокам: маўляў, за мной! Бокам, бокам ён падаўся ад пляцоўкі, Хведар з дрыготкім сэрцам паклыпаў следам.

Уцяклі яны ўдала, тады іх ніхто не затрымаў, можа, і не заўважыў нават. У распадку да іх далучыўся аднавокі вярзіла, што меў прозвішча ці мянушку Скакун. То быў, як зразумеў Хведар, стары Вугроў сябрук, і яны ўтрох першы ж дзень адмахалі па дзікай тайзе вёрст сорак. Звычайна ў тым краі ездзілі па рэках зімой ці берагамі ракі ўлетку, але цяпер ім берагамі не выпадала — на берагах іх адразу б узяла міліцыя. І яны выправіліся кружным шляхам — тайгой. Ягоныя сябры прыпаслі троху харчу, мабыць, рыхтаваліся болей старанна, чым ён, і дужа ашчаджалі тыя шэсць кілаграмаў мукі і дваццаць шэсць сухароў, што неслі ў навалачцы ад падушкі. У іхняй невялічкай групе ўсім распараджаўся Вугор. Хведар увесь час быў дужа ўдзячны яму, што даверыўся і ўзяў за кампанію менавіта яго, а не каго іншага. З тае ўвагі ён ужо гатовы быў сябе паважаць, не кажучы пра ягоную ўдзячнасць Вугру. Вугру ён служыў у дарозе чым мог: стараўся ўзяць на сябе што цяжэйшае з ношы, даўжэй пасядзець ля цяпельца, як астатнія двое клаліся спаць, каб папільнаваць агонь. Неяк ля ручая, як яны сушыліся пасля дажджу, Хведар расчулена падзякаваў Вугру за давер і ўвагу да сябе. Той, аднак, хітра прыжмурыў ад дыму вока і з ухмылкай сказаў: «Дык я ж адразу ўбачыў: дужа дамоў хочаш». — «Што праўда, то праўда. Дзякуй жа табе за тое». — «Пасля аддзячыш. Красненькімі», — ухмыльнуўся Вугор.

Тады ён і сапраўды быў неблагі хаўруснік, клапатлівы таварыш. Па справядлівасці дзяліў іх небагаты харч, уранку сам распальваў касцярок, заўжды вызначаў шлях і ішоў наперадзе. Тайгу, як можна было здагадацца, ён ведаў лепш за іх двух, мабыць, не першы раз падарожнічаў па ёй. Куды і як будуць ісці далей, Вугор ім не казаў, і Хведар ні пра што не пытаўся: ён ужо прывык спадзявацца на вопыт таварыша. Сапраўды, хіба б ён адзін адмахаў за тыдзень две сотні вёрст без дарог, па незнаёмым лесе? Гэта пасля ён што-ніштo зразумеў у жахлівай справе ўцёкаў, а тады быў дурны і зялёны, бы салдат-навабранец.

Папаліся яны па-дурному, выпадкова; тут, канешне, ні Вугор, ні хто іншы не быў вінаваты. Увечары каля невялічкай таежнай рачулкі напаткалі пакінутую паляўнічую хатку, зайшлі, думаючы, чым пажывіцца, але марна, нічога здатнага ў ёй не знайшлі. Начаваць там не адважыліся, адышліся вярсты дзве і ўжо ў прыцемку, дашчэнту змораныя, не распальваючы

цяпельца, паклаліся радком на мяккім моху ў хвойніку. На світанні іх і паднялі пад рулямі дзвюх стрэльбаў. Пасля аказалася, што ўчора ля тае хаткі іх згледзеў тутэйшы паляўнічы, сказаў брату і яны ўдвух дагналі ўцекачоў. Усё адбылося нечакана, знянацку; каб яны мелі трохі больш часу, дык, можа б, як выкруціліся. Але не паспелі яны апамятацца, як прыйшла фурманка, і іх адвезлі на лесаўчастак, адтуль на прыстань, у камендатуру. Браты-паляўнічыя, мабыць, атрымалі сваю ўзнагароду, а яны апынуліся ў становішчы яшчэ горшым, чым да ўцёкаў. Хведар дужа пераживаў ад таго, проста счарнеў з твару ад гора і нават не ўзяў свой кавалак хлеба, які ім кінулі ў каталажцы. Вугор тады, неяк адразу страціўшы свой звычайна добразычлівы тон, буркнуў: «А табе чаго кіснуць? Табе дык радавацца трэба». — «Як?» — не зразумеў Хведар. «А так! — нядобра засмяяўся яго таварыш. — Што кабаном не стаў». — «Якім кабаном?» — усё не разумеў Хведар. «Не ведаеш якім? Во, у тым уся справа, што ўжо не ўведаеш».

Хведар тады так і не зразумеў нічога. Толькі пасля, як яго вярнулі ў яшчэ горшае пекла — на тарфянішча за Сыктыўкарам, неяк у размове з вушлымі зэкамі ён папытаўся, што значыць гэтае слова, і ў яго пацямнела ўваччу. Аказваецца, так звалі таго наіўнага дзівака, якога падбівалі на ўцёкі, каб, калі скончацца прыпасы, пахарчавацца ім у тайзе. Гэта і ёсць *кабан.*

А ён столькі часу быў удзячны Вугру. Ён проста яго палюбіў, найперш за давер і ўвагу. Так той апекаваў свайго кабана... Ну але ж гэта Вугор — закаранелы злачынец, забойца, чаго іншага было ад яго чакаць. А як во жыццё паставілася да чалавека, бы той Вугор, — неміласэрна, жорстка і вераломна?

А можа, гэта яму пакаранне за Бога? За абразы, якія ён маўкліва дазволіў Міколку вынесці з хаты? Спярша Ганулька іх прыхавала на гарышчы за комінам, але Міколка, дазнаўшыся, дастаў адтуль і пабіў аб вугол за свірнам. Маці плакала, а ён, Хведар, не ведаў, як паставіцца да таго. Трохі было і шкада святых, з якімі мінала жыццё, але зноў жа — калі тое робіць сын ад імя ўлады... Усё ж уладзе ён верыў. Лічыў, што там недзе, у Маскве ці Мінску, сядзяць разумныя людзі, адукаваныя і справядлівыя, і калі яны вырашылі, што без Бога народу лепш, дык, мабыць, гэтак і трэба. Чаму лепш — ён зразумець не мог. Але ці шмат ён тады разумеў наогул, маючы

ўсяго дзве зімы царкоўнапрыходскай школы. Затое ягоны сын меў аж сем класаў, мабыць, ужо ён разумеў больш.

Аднак жа Бог пакараў яго, а не сына. Сына ён узнагародзіў быццам... А калі пакарае і сына?

Дождж і праўда ўсчаўся. Дробнае дажджавое сяйво з парывістым ветрам хвалямі хадзіла па лесе, асыпаючы ельнік; схавацца тут ад яго не было дзе. Мусіць, трэба было перайсці пад вышэйшую яліну, але навокал ляжала такая цемра, што было боязна ўстаць, каб не выкалаць вочы. Такой ноччу добрыя людзі па лесе не ходзяць, думаў панылы Хведар. Часам дождж пераставаў, нібы сціхаў зусім, добра, аднак, намачыўшы траву, абвіслае голле ялін, Хведаравы галаву і плечы. А затым пачынаўся зноў. Хведар ужо не кранаўся з наседжанага месца і не клаўся долу — сядзеў, згорбіўшыся і раз-пораз падрыгваючы ад сцюжы. Хоць было холадна, мокра і няўтульна, але ён трошкі адхалонуў душой — усё ж ноччу можна было не баяцца. З зацятым неспакоем ён чакаў золку, бо не ведаў, куды падацца ўдзень, дзе раздабыць харчу. Ды і наогул... Адчувала ягоная душа, што дзень прынясе новыя трывогі. Хоць бы не прынёс бяды.

Мусіць, аднак, пад раніцу дождж перастаў. Вецер жа ўсё не сціхаў — трэс долу дробныя кроплі з вецця, і ў лесе здавалася, што гэта прадаўжаецца дождж. Але неба над ельнікам паяснела ўжо, хоць і было змрочнае і хмарнае, — сумнае неба непагоднага восеньскага дня. Менавіта ў той час дзесьці паблізу пачалі каркаць вароны — так заўзята, што, здавалася, чутна было ва ўсім лесе. Нейкая невыразная трывога ішла ад гэтага іх нязмоўчнага крыку, і Хведар са злосцю ўслухоўваўся, думаў — якога д'ябла яны раскаркаліся? Ён ужо хацеў быў устаць і пайсці ў той бок, прагнаць іх, ці што? Але не было сілы ўстаць, хацелася сядзець так і сядзець, можа, нават прылегчы пасля тлумнай бяссоннай начы. Памалу развіднела, і ў лесе зблізку сталі відаць яловыя галіны, натапыранае сухое суччо ля камлёў, голы, абсыпаны ігліцаю дол. І раптам на гэтым доле ў ельніку з'явіўся аднекуль заяц, сюды-туды пакруціў вушастаю галавой, прысеў на заднія лапы і пярэднімі пачаў дбайна аціраць вусатую пыску. Хведара ён не бачыў ці, можа, палічыў за пень, і той не рашыўся варухнуцца, каб не спалохаць жывёліну. Мабыць, гэта яму ўдалося. Непатрывожаны заяц паволі, бы ў роздуме, праскакаў за пяць крокаў ад яго і схаваўся недзе ў ельніку.

А вароны ўсё надрываліся — нападалі на каго ці проста сварыліся ў сваёй варонняй зграі, — мусіць, таксама нейкія ў іх непаладкі, падумаў Хведар. Як у людзей. Але, мабыць, такіх, як у людзей, не бывае ні ў якіх істотаў. Тыя калі дзяруць каго, дык каб з'есці, а гэтая — хіба каб задзерці і кінуць. І ўзяцца за наступнага. Усё ж лютая істота чалавек!

Можа, ён так і сядзеў бы ў тым ельніку, дзе было хоць і мала ўтульна, але ціха і спакойна, калі б не голад. Голад падцінаў ягоны жывот, аж балюча было пад грудзямі, і ён усё думаў-думаў: ну што б знайсці з'есці? У лесе, мабыць, ужо нічога знайсці было нельга, хіба што грыбы. Грыбоў ён мог бы тут назбіраць, асабліва на імшарыне каля балота, ды сырыя іх не з'ясі, а ўдзень паліць касцярок ён асцерагаўся. І тады ягоныя думкі ўсё часцей пачалі туліцца да вёскі, да той ігрушыны на ўзлеску, ля якой ён ужо частаваўся. Грушкі былі нічога сабе, мо з гэтай начы нападала болей, мабыць, варта туды схадзіць.

Ён добра намок, пакуль выбраўся з ельніку, — кожная яліна сыпала на яго жменю сцюдзёных кропляў, нізкае вецце выцірала сваю дажджлівую вільгаць аб яго і без таго змакрэлую вопратку. Ну але што зробіш — трэба было трываць. Макрэдзь і сцюжу трываць было звыкла, каб яшчэ навучыцца гэтак жа трываць голад. Ды голад, мабыць, не можа стрываць ніхто. Ні чалавек, ні жывёліна. Голад — гаспадар над усімі.

Хведар памалу ішоў па лесе, выбіраючы болей адкрытыя, без падлеску мясціны, усё ж каб меней мокнуць ад вецця. Чамусьці ён падумаў з цікаўнасцю: які сёння дзень? Зусім згубіў лік дням і не мог адрозніць святое нядзелі ад будняў. З сённяшняй ночы пасялілася ў яго адчуванні нейкая загадкавая туга. Ён не ведаў, чаму так, — ці ўчора надта засмуціла нядобрая вестка пра сына, ці ўсур'ёз растрывожылі тыя пярэймы на бульбянішчы? Ці яшчэ што. А мо во гэты варонні гвалт, які і цяпер чуваць быў адсюль, з старога лесу. Мабыць, не падзяліла чаго вараннё, думаў Хведар.

Усё ж ягоны слых за гэтае бадзянне па лясах стаў дужа чуйны, ён выручаў не раз, не падвёў слых і цяпер. Яшчэ не дайшоўшы да ўзлеску з грушай, Хведар заўважыў якійсь неспакой на ўзлессі, а затым і спыніўся. З-за кустоўя ўжо віднеліся слупы на дарозе, зялёныя лапікі руні, шэры восеньскі ўзмежак. Якраз на гэтым узмежку непадалёк ад ігрушыны стаялі два чалавекі — адзін у шэрым будзённым

пінжаку, а другі ў такой жа рудой, як і ў яго, саматканай паддзёўцы, — адзін другому даваў прыкурыць. Як той, што прыкурваў, падняў ад запалкі галаву, Хведар адразу пазнаў Міхалінінага Шурку, маладога хлопца, Міколкавага дружбака, якога некалі выключылі з камсамола. Другі стаяў да лесу спіной, і Хведар не мог разгледзець яго. Пасля, закурыўшы, абодва яны ўставіліся позіркамі некуды ўбок, адкуль данеслася некалькі слоў нягучнай размовы, і Хведар таксама пасунуўся за кустом. Яму адкрыўся наўкось добры прасцяг узлесся і на ім чалавек шэсць, што пасталі ў рад крокаў праз дваццаць адзін ад аднаго — чагось чакалі. То былі ягоныя аднасяльчане, маладзейшыя і двое старэйшых. У бліжэйшым з гэтага раду Хведар пазнаў Міхася Майстронка, што жыў якраз насупроць ягонае сажалкі, і Хведаравы гусі часам рабілі на ягоным гародзе шкоду; тады між імі былі дзве ці тры малапрыемныя сутычкі, а так жылі між сабой някепска. За ім таптаўся па ўзмежку схуднелы і пастарэлы, з сівымі скронямі пад чорным картузом Лёкса Саўчык — у даўгім армяку, з пугаўём у руках. Божа, во і сустрэўся, пабачыўся, паныла падумаў Хведар. Але чаму яны тут пасталі, каго чакаюць? І тады яму бы цюкнула ў галаву: ды гэта ж яны — па яго. Яны ж зараз пойдуць у лес выганяць яго. Ланцугом, як на паляванне. Як зімой палююць на воўка з сцяжкамі. Толькі гэтыя цяпер без сцяжкоў. Бо ён не воўк — ён чалавек, з ім можна і прасцей.

На дрыготкіх нагах Хведар паціху патрухаў у глыб лесу. Усё ў ім калацілася ад крыўды, ад прадчування хуткай бяды. І нічога не зробіш, нічога не скажаш, нічым не апраўдаешся. Ён мог толькі бегчы, уцякаць, як звер. Але не як чалавек. Чалавек бы не ўцякаў ад людзей, ён бы нешта сказаў, і яго б паслухалі. Значыць, ён ужо не чалавек. Ён дашчэнту расчалавечыўся.

На пагорачку ў змяшаным рэдкалессі ён павярнуў управа — убок да бальшака і поплаву, туды, адкуль ён прыйшоў тры дні назад. Мабыць, пакуль была такая магчымасць, трэба ўцякаць з гэтага лесу, лес для яго ўжо не прытулак. Лес цяпер іхні. У ім яны хочуць злавіць яго — і тады... Не, усё ж ён не дасца. Пакуль ёсць сілы, ён іх апярэдзіць. Ён не дасць вярнуць сябе туды, адкуль з такім намаганнем вырваўся. Туды ён не вернецца.

Хведар бег, аслабела і няўцямна, ужо не выбіраючы шляху, прадзіраўся праз кустоўе падлеску, вымак наскрозь — ад ног

да галавы. Ззаду, аднак, было ціха, яго яшчэ не даганялі, і ён спяшаўся паспець. Паспець выскачыць з лесу на поплаў, там уздоўж рэчкі была чужая, зарэчнага раёна зямля, мабыць, там пра яго яшчэ не ўведалі. Яму ўжо трошачкі заставалася лесу, затым будзе нешырокая лагчына і бальшак, які ён перайшоў той раз. Але ён задыхаўся, змарыўся ўшчэнт і да ўзлеску ледзьве даплёўся ад знямогі. Усё ж, перш чым выйсці, зірнуў на лагчынку, там не было нікога. Тады — на грудок і дарогу, і разам асеў долу. Ля старых хвой на бальшаку стаялі машыны — тры грузавыя палутаркі, і ад іх у напрамку да лесу ішла грамада людзей — чалавек трыццаць ці больш. Наперадзе рашуча крочыў па сенажаці чалавек у расшпіленым чорным плашчы, ён нешта казаў і рукой шырока паказваў астатнім — ці не разысціся па-над лесам у ланцуг?

Згледзеўшы тое, Хведар крута павярнуўся і пабег назад у лес. Усё ж, мусіць, ён яшчэ меў нейкую магчымасць, тыя толькі пераходзілі лагчынку. Пакуль яны паднімуцца па адхоне, увойдуць у лес... Не, ён адарвецца, ён не дасць ім дагнаць сябе. Толькі куды яму бегчы — во ў чым загвоздка. Злева Нядолішча і землякі-калгаснікі, ззаду гэтыя, што прыехалі, мабыць, з раёна. Усе апранутыя ў чорнае, не вясковае — значыць, з раёна. Кіраўніцтва і актыў. Яны ззаду. Справа ў яго ельнік і далей багністая Багавізна, там не пройдзеш. Няўжо спераду яму пакінулі выйсце? Там, дзе бульбянішча, дзе ён учора сустрэў дзеда з каровай. Няўжо там нікога няма? Гэта была б удача, толькі б паспець дабегчы туды. Добра, што яго яшчэ не ўбачылі, раней убачыў ён сам. Тое давала шанец. Толькі б не здрадзілі ногі. Усё ж бегчы яму было трудна, сіпата зацінала грудзі, у роце набралася гаркоты, якую ён не мог выплюнуць. Плечы і грудзі пад яго мокрай і цяжкой апраткай спатнелі, па шчоках паўзлі цуркі поту. Раз-пораз ён выціраў твар рукавом, азіраўся і то бег, то ішоў хісткім няпэўным крокам — далей ад гасцінца і ад вёскі таксама. Мусіць, не проста было вытрымаць гэта дакладны, касы кірунак у лесе, здаецца, ён трохі яго ўжо зблытаў. Падобна было, што ён занадта ўзяў управа — далей ад тых і тых даганятых, і тым прыціснуўся да Багавізны. Не, яму трэба было трохі далей ад яе, каб выйсці на трэці бок лесу — да бульбянішча. Галоўнае — яму б вырвацца з гэтых абцугоў, якімі яго абхамілі з абодвух бакоў. Можа, трэці яшчэ заставаўся вольны, і тое дасць яму выскачыць.

Ужо з’явілася спадзяванне, што ён як-небудзь выкруціцца. Усё ж яго ніхто з іх не бачыў. Ад задніх ён, мабыць, адарваўся, а тыя збоку, ад вёскі, мабыць яшчэ толькі ступілі ў лес. А можа, яны яшчэ чакаюць на ўзмежку. Яму б толькі дабегчы да бульбянішча, а там бы ён вырваўся з гэтага лесу.

Але бегчы ўжо не ставала сілы, і ён, спатыкаючыся, марудліва тупаў па травяным доле. Увесь час азіраўся — ці не пагналіся? Здаецца, яшчэ не гналіся. Але ў тым кірунку, ад гасцінца, пачуліся галасы — мабыць, там ужо пайшлі па ягоных слядах. Галасы, галёканне рабілася мацнейшымі, во забрахаў і сабака. Але не ўчарашні вясковы — гэта быў рык дужага, пароднага пса. Хведар пабег зноў — цяжка, знясілена, страхавіта, штораз азіраючыся. Пільнасць яго і ўвага цяпер былі да таго, што адбываецца ззаду. Ён празяваў нейкі момант, калі трэба было зірнуць наперад, і за кустом ядлоўцу ледзь не сутыкнуўся з зайцам. Чымсь спуджаны, той сігануў насустрач, а як згледзеў яго, шырока скочыў убок і праз хмызняк падросту спалохана кінуўся назад, адкуль бег. Таксама няма спакою, коратка падумаў Хведар і тут жа спыніўся. Там, куды паскакаў заяц, зблізку пачулася:

— Стой! Стрелять буду!

— Куды ты — стрелять! Это же заяц...

І там засмяяліся — бесклапотным хлапечым смехам.

Хведар насцярожана выцяг з каўняра шыю, наперадзе, куды ён імкнуўся, у жаўтлявым лісці падросту мільганулі дзве зялёныя шапкі, нехта ціха гукнуў да іх зводдаль, і яны стаіліся. Хведар зразумеў: шлях яму і туды адрэзаны. Відаць, з гэтага боку, ад бульбянішча, загон рабілі чырвонаармейцы-пагранічнікі. Іхняя застава была недалёка, пад суседнім лесам. Але ж чаму — і пагранічнікі? Што ён, які шпіён ці шкоднік? Ці ён уцёк з турмы, дзе сядзеў за якое злачынства? Ён прыйшоў у свой родны кут, дзе нарадзіўся, жыў. Дзе нарадзіліся і аджылі ўсе яго продкі. Чаму — пагранічнікі?

Мусіць, аднак, ён горшы за шпіёна. Бо таго ловяць адны пагранічнікі, а яго апроч тых яшчэ і два загоны — з вёскі і з раёна. А Божа ж мой, во дык воўк. Во дык дзікун...

Усё ж шчасце яго было ў тым, што ні з аднаго з трох загонаў яго пакуль што не заўважылі — ён іх заўважыў першы. Але ці доўга яму будзе так шэнціць? Мабыць жа, згледзяць і яго. Што ж ён, які невідзімка? Праўда, ён ведаў гэты Казённы лес і цяміў, у які бок сунуцца. Але ж і яны, мабыць,

таксама ведалі лес, ужо яго аднавяскоўцы напэўна, думаў Хведар. Цяпер ён бег невядома куды, мабыць, у чацвёрты бок, дзе не было выйсця. У чацвёртым баку быў тупік, лясны край — Багавізна. Там дрыгва, багна, віры, улетку туды не сунешся. Туды і звер не ходзіць, не тое што чалавек. Да самых маразоў там патоп і пагібель.

Але куды ж яму дзецца?

Ён ужо не бег — ён плёўся між змрочнага ельніку, па мяккім, набрынялым вільгаццю доле. І ўсё слухаў, што робіцца ззаду. Ззаду ваўсю гучалі галасы, хтось там галёкаў, адкрыта і загадна, гучна брахаў сабака. Мабыць, загоны сышліся, а яго ўпусцілі. А можа, яны вернуцца назад, на гасцінец і ў вёску, абнадзеена падумаў Хведар і стаіўся за елкай. Хоць бы далі аддыхацца, а то знямоглая гаркота раздзірала грудзі...

Аддыхацца, аднак, не далі.

Яны ўжо былі недзе блізка, убачыць іх яму заміналі дрэвы. Зрэшты, як і ім яго, мабыць, таксама. Але ён пачуў ажывелыя вокрыкі зводдаль: «Глядзі, след!» — і зразумеў, што яны пайшлі наўздагон. І што яму ад іх не ўцячы. Іх некалькі дзесяткаў, жыхароў і чырвонаармейцаў, яны абклалі лес з трох бакоў. А ён перад імі адзін. І ён ушчэнт змораны. І ўжо не ведае, куды бегчы і дзе хавацца. Ён толькі бяжыць. Мабыць, апошнія свае крокі. І тут ён убачыў перад сабой у ельніку хуткае мільганне ў доле — то ўцякаў-ратаваўся заяц. Спярша бег ад чырвонаармейцаў, а цяпер, мабыць, ад яго, Хведара. Але нашто ад яго? Ён сам цяпер быў у становішчы зайца. Мо нават горшым, бо заяц, напэўна, яшчэ ўратуецца...

«Людцы, завошта вы так? — гучала ў ім нутраным роспачным шэптам. — Што я зрабіў кепскае вам? Што — малатарню?.. Дык тады ж дзякавалі па шчырасці, здаецца. Ці ж я хацеў каму кепскага? Ці сабе многа ўзяў? Я ж аддаў усё вам — бярыце. Толькі завошта ж мяне так люта? Людцы, адумайцеся!..»

Аднак ніхто не адумваўся — яго гналі, як гоняць воўка на адмысловым паляванні. А ён усё чакаў, што нехта там стане і скажа: «Пастойце, братцы! Што ж гэта мы...»

Не стаў, не сказаў, і яго гналі далей.

— Роўба, стой!!!

Ну вось, нарэшце...

За ўвесь час недарэчных сваіх уцёкаў Хведар чакаў гэтага вокрыку ўдзень і ўначы, і ўсё роўна цяпер ён прагучаў знянацку і страшна. Хведар не адразу азірнуўся — там ззаду, між елак, ужо мільгалі цёмныя постаці, сваіх ці чырвонаармейцаў — ён не разглядзеў нават. Галоўнае ён сцяміў: яго ўбачылі. Але ўжо і бегчы рабілася неяк, мабыць, ягоны маршрут канчаўся. Неверагодна дзівосны маршрут — праз тысячу вёрст да роднай зямлі. Аднак жа няласкава яна сустрэла яго, родная яго зямелька. Не, ды Бог з ёй, чаго было чакаць лепшага. Такі яго лёс! Пракляты лёс, які наканаваў яму ў такі час нарадзіцца селянінам.

Скончыўся змрочны ельнік, і за кустоўем лазняку ўсчыналася дрыгвяністая імшарына. Не спыняючыся, бегма ён сунуўся туды. Мяккі таўшчэзны пласт моху зазыбаўся пад нагамі, пасля ногі правальваліся да каленяў у чорную хлюпкую гразь. Далей ісці, мабыць, было вар'яцтвам. Але што для яго не было вар'яцтвам? Наперадзе трымцела на ветры клочча асакі, аеру, буялі ад берага лазняковыя купіны, і між імі blішчэлі чорныя вокны прадонняў; там усчыналася Багавізна. Ён, аднак, не спыняўся — з роспачным намаганнем выдзіраючы з твані свае пасталы, дабрыў да лазняку і пралез між кустоўя. Тут ужо брыў да пояса ў багне, рассоўваючы целам раску, упарта лез усё далей, пакуль ногі мелі нейкае апірышча ў тваністым, перавітым карэннем доле. Хутка, аднак, дол знік пад нагамі, знянацку Хведар шуснуў з галавою ў густую багністую прорву, аднак усё ж вынырнуў, згубіўшы з галавы шапку. Каб не захлынуцца канчаткова, ухапіўся аднаруч за нейкі слізкі корань з суседняй купіны. Увесь ён быў у багне, толькі галава яшчэ вытыркалася на паверхню. Смярдзючая вада цякла з носа, сцюдзёныя яе абдымкі скавалі ягонае цела, ногі спруцянелі ад сутаргаў, і ён дробненька, з перапынкамі дыхаў.

Ззаду на цвёрдым беразе за імшарынай гучала галасістая гамана, брахаў сабака, мабыць, там сышліся загоншчыкі. Ці яны згубілі яго, ці баяліся лезці ў сцюдзёную, смярдзючую твань? Ён добра чуў тут іх устрывожаныя галасы: «Во, туды пабег...» — «У твані ён!» — «Глядзі, куды сунуўся! Ах ты маць часная!» — «Вылезе, нідзе не дзенецца кулацкая морда!»

«Не, ужо не вылезу!» — з панылай злосцю сказаў ён сабе ў думках, гойдаючы целам застаялую раску на твані. Яго тут

трохі хавалі ад берага купіны і лазняк. А галоўнае — тыя, на беразе, мабыць, не надта імкнуліся ў багну, мабыць жа, ведалі, што дна ў ёй няма. І ён гэта ведаў. Колькі разоў, бывала, са страхам глядзеў здаля на лазняковы прасцяг бяздоннае багны, якую заўжды акуратна абыходзіла жывёла. Цяпер ён сядзеў у ёй. І, мусіць, шляху назад не было.

Ад сцюжы ў вадзе дубянелі рукі і асабліва ногі, усё ўнутры ў яго сцялася ў тугі, хваравіты вузел — каб толькі стрываць. Але, мабыць, доўга трываць тут не прыйдзецца, усё ўжо канчалася. Трошкі, аднак, не хапала рашучасці. Варта было выпусціць з рук той корань ад купіны, як ён бы адразу пайшоў у бездань. Цяжкая суконная паддзёўка ўладна цягнула ўніз, пасталы зрабіліся, мабыць, пудовымі і таксама цягнулі за ногі. Але ён трымаўся, немаведама на што спадзеючыся, і часта дробненька дыхаў, бы рыбіна, выкінутая на пясок.

— Роўба, вылазь!

— Вылазь па-добраму. А то...

— Грамадзянін Роўба, ад ліца Савецкай улады папярэджваю...

Яны там крычалі, а ён ужо мала і слухаў. Усё роўна вылезці адсюль ён не мог. Ды не надта і хацеў. Ён толькі марудзіў. Дарма, аднак, марудзіў. Недзе зблізку, за лазняком, пачулася:

— Штось не відаць тут...

— Ды там. След во ў дрыгве...

«О, людзі, людзі! За што ж вы так?.. Людзі...»

Аднак яны ўжо лезуць. Хведар трохі пасунуўся ў твані, гайдануўшы раску, павярнуў за купінай галаву. Дзве постаці ў асацэ, высока ставячы ногі, памалу прабіраліся да яго прадоння. У руках аднаго матлянуўся даўгі шост-палка, — ці не збіраліся яны выганяць яго з твані? Ён бачыў іхнія галовы ў кепках, іх саміх да пояса. Гэта былі незнаёмыя хлопцы, мабыць, камсамольцы з раёна. Недзе за кустамі паблізу басавіта брахаў сабака, але ў ваду, здаецца, не лез.

— Далей не сунешся.

— Давай, давай! Яшчэ можна! — пачулася трохі збоку, і ад тых слоў у Хведара разам заняло дыханне. Ён пазнаў гэты голас — ён бы пазнаў яго і на тым свеце. «Бедны Міколка! — раптам падумаў Хведар. — І яму во лезці сюды! Мусіць, аднак, не ад салодкай жызні». Тыя двое з шастамі, аднак, ці не згубілі яго сляды, трохі павярнулі ўбок, за самы гушчар лазняку, можа, яны падумалі, што ён сядзіць там.

А ён не сядзеў там, ён не хаваўся наогул. Ён ужо быў для іх недасяжны. Ён яшчэ не дабрыў да таго свету, але ўжо бадай што сышоў з гэтага. На гэтым засталася хіба ягоная галава і вочы. Каб астатні раз зірнуць і развітацца. Як убачыць яго, дык ён і адыдзе. Калі датрывае... Божа, ніколі ў яго не было думкі забіць сябе, заўжды ён апантана змагаўся за жыццё. А тут во мусіць...

Аднак, можа, ён хоць перад канцом згледзіць сына? Бедны Міколка: што ён перажывае цяпер? Пэўна ж, то не па сваёй волі — ён змушаны! Можа, яму загадалі? Які вышэйшы начальнік. Бо, мабыць жа, ёсць і над ім начальнік. І паслалі яго лавіць у лесе бацьку, якога ён выракся. Калі выракся, дык, мабыць, можна і лавіць. Але калі такое магчыма, тады як жа жыць? Можа, яму яшчэ загадаюць, злавіўшы, учыніць допыт над бацькам? І сын змушаны яго катаваць? Божа, нашто ты стварыў тады белы свет!

— Ляшчук, вунь туды пырані!

Гэта таксама Міколка — аднекуль здаля цвёрдым начальніцкім голасам, якога не ведаў Хведар. Той голас ён набыў ужо без бацькі. Шчаслівая яго маці, што не бачыць таго. І не чуе.

Тым часам у суседнім лазовым кусце зашархацела, і канец тонкай палкі наскрозь прапароў лісцвяны гушчар. Цяпер настала чарга ягонай купіны. Але, мабыць, яны не паспеюць. Усё ж ён іх апярэдзіць.

Хведар інстынктыўна хлябнуў болей паветра — на астатні раз — і выпусціў з рук вузлаваты корань. Цяжкія ногі ў нязносных сырамятных пасталах адразу памкнулі яго ў глыб багны, ён захліпнуўся. Знутры балюча ўдарыла ў вушы, і ўсё пагасла ў вачах.

Не дадзена было ціха жыць, дык хоць пашчасціла ціха памерці.

Шукалі яго доўга, паролі шастамі з берага і з куп'я. Ды так і не знайшлі.

Багна спрадвеку ўмела хаваць свае таямніцы.

*1988*



# *Апавяданні*

## АДНА НОЧ

### 1

«Юнкерсы» з'явіліся раптоўна.

Іх крыжастыя імклівыя цені нечакана выслізнулі з-за стромкіх, разбітых мінамі чарапічных дахаў і абрынулі на горад імпэтны грымотны рэў. Запаволіўшы бег, Валока ўстрывожана глянуў у задымленае пажарамі неба і, заўважыўшы, што ад бліжэйшага самалёта ўжо адваліліся першыя бомбы, скочыў пад чыгунную агароджу, збоч вуліцы. Некалькі доўгіх секунд гэты немалады ўжо, крутаплечы і рукаты баец у шапцы і цеснай старой гімнасцёрцы, сціснуўшыся нутром, чакаў. Бомбы рванулі ў скверыку за агароджай, зямля сутаргава скаланулася, тугая гарачая хваля ўдарыла Валоку ў спіну, балюча аддалася ў вушах, нешта коратка і звонка бразнула побач, і затым вуліца, шэрыя дамы і сквер патанулі ў віхуры шызага пылу.

«Паўтонная, не меней», — падумаў Валока, выплёўваючы з рота пясок. Наўкола лапацела-ляскала аб дол каменне, цэгла, кавалкі асфальту; у паветры пыльнымі струменямі церушыла зямля; паволі асядаючы, доўга матляліся дробныя лісткі акацый, шматкі паперы, нейкае паленае рыззё. Недзе ўгары сярод дыму і рэву матораў прагрукацеў кулямёт — ад пашкрэбанага з балконамі дома насупраць сыпнула жарствой, і вялікая, з бабовы струк, жоўтая куля, цокнуўшы па камянях, шалёна закруцілася на тратуары. На чарговым заходзе зноў раўлі пікіроўшчыкі.

Трэба было бегчы далей.

У скверы між тоненькіх дрэўцаў ужо замільгалі прыгнутыя спіны, нехта выскачыў з-за агароджы і адразу кінуўся на другі бок вуліцы. Па цёмнаму лапіку на спіне Валока пазнаў сяржанта, аддзяленнага з іхняга ўзвода. Узрадаваўшыся, што наперадзе чалавек, баец ускочыў і, прыгнуўшыся, падаўся следам.

Сяржант у некалькі скачкоў перабег вуліцу і пад новы скогат бомбаў шаснуў убок, у падваротню. Валока ж трошкі адстаў, ззаду рванула, і калі, задыханы, ён уляцеў пад скляпенне, дык ад збянтэжанасці аж спаткнуўся: з двара на яго выскачылі два немцы. Валока ажно прысеў, але і немцы тут, відаць, не чакалі яго, пярэдні нешта гергетаў задняму, на імгненне ў яго расшыраных вачах бліснуў спалох і здзіўленне. У той жа момант Валока, не цэлячыся, ціскануў на спуск — аўтамат тузануўся, немец выпусціў з рук карабін і ляпнуўся тварам на брук. Яго новенькая блішчастая каска, забразгаўшы, крыва пакацілася на тратуар.

Куды знік задні, Валока не згледзеў.

Будынкі зноў скалануліся, захісталіся ад блізкіх выбухаў, недзе з грымотным грукатам рухнула сцяна, ззаду ў пад’езд шуганулі клубы рудога цаглянага пылу. Валока ўгнуўся, скокнуў цераз адкінутую немцаву руку, на якой яшчэ торгаліся кашчавыя, з пярсцёнкам, пальцы, і кінуўся ў нейкія расчыненыя дзверы. У дзвярах паката хілілася столь, і некуды ад парога ўніз беглі прыступкі; спяшаючыся, Валока не патрапіў на іх, аўтамат загрукацеў па прыступках, наверсе яшчэ раз ірванула, і, баец, трываючы боль у назе, паляцеў у цемру.

Тут было ціха і цёмна. Засень і халодны бетон падлогі прыемна студзілі яго разгарачанае, потнае цела. Валока сцішыўся, услухаўся, ступіў раз, другі, мацаючы ў доле ўпушчаную зброю, шырэй загроб ля сябе рукамі і знячэўку жахнуўся: пальцы шкрэбнулі па нечых пыльных і яшчэ цёплых ад надворнае гарачыні ботах. Баец унутрана скалануўся, а боты тузануліся з-пад яго рук, і ў той жа момант нешта тупое і цяжкае гахнула яго ў спіну. Валока войкнуў, ухапіў ротам паветра і з усяе сілы рвануў у цемру тыя ногі. Свядомасць разанула здагадка — немец!

Вораг не ўтрымаўся, хіснуўся, але яго рукі паспелі ўхапіць Валоку за галаву і сашчапіліся на шыі. Баец напружыўся, ірвануўся, ды марна. Вораг, сагнуўшы яго, гнуў галаў уніз і, шкрэбаючы па падлозе падкутымі ботамі, намагаўся апы-

нуцца наверсе. Валока, крыху супакоіўшыся, ухапіўся за вопратку немца, напяўся і са злосцю падумаў, што лёгка яму не паддасца. Сам намацаўшы падэшвамі апору, ён усім целам рынуў на ворага.

— Ы-ых!

Валока, задыхаючыся ад болю ў шыі, адчуў, як грукнулі аб бетон варожыя косці. Ён цяпер апынуўся наверсе і кідаў туды-сюды свае ногі — шукаў апору. Рукамі ж ён учапіўся ў варожыя рукі, што сціскалі яго шыю, і пачаў выдзіраць з іх галаву.

Праз хвіліну ці меней, натужваючыся, як толькі можна было, і ледзьве адольваючы варожую сілу, ён вызваліў галаву, дужа падаўся наперад плячом і з натугай распластаў немца ў доле. Няпэўна яшчэ, але Валока адчуў, што сам дужэйшы за яго, цяжэйшы; толькі, відаць, той быў больш спрытны, бо не паспеў баец саўладаць з пругкасцю яго ўчэпістых рук, як тыя зноў ухапілі яго за горла.

Немец гэта зрабіў нечакана і хвацка. Валока толькі крэкнуў ад неспадзеўкі і болю, на момант абвяў і разгубіўся, а немец крутнуўся пад ім, брыкнуў у бок нагамі і рвануўся наверх.

— А-а-а! Сволач! Ы-ых! — хрыпеў Валока.

Ён не ведаў ужо, як супраціўляцца, і інстынктыўна ўчапіўся ў тыя рукі, што сціскалі яго шыю. Ён ірваў іх ад сябе, стараючыся разняць мёртвую хватку і не даць кіпцюрастым пальцам ашчаперыць глотку. Урэшце, выкручваючыся з апошніх сіл на падлозе, Валока ўсё ж ададраў адну руку, але другая тады спаўзла ніжэй і ўчапілася ў каўнер яго зашпіленай гімнасцёркі.

Баец пачаў задыхацца. Грудзі распірала ад нястачы паветра, — здавалася, вось-вось хрусне горла, і Валоку апанаваў страх, што вось так недарэчна даў загубіць сябе. З роспачнай нечалавечай сілай ён ірвануўся, як мог упёрся ў падлогу каленямі, напружыўся і дзвюма рукамі моцна крутнуў убок адну, найбольш учэпістую руку ворага. Каўнер байца затрашчаў; зноў нешта глуха стукнулася аб падлогу, вораг засоп, размашыста шоргнулі па бетоннай падлозе ягоныя боты.

Ад некалькіх роспачных рыўкоў палепшала; Валока вызваліў шыю і, здаецца, пачаў асільваць немца. Тады ў пачуцці шыбанула злосць і недзе ў свядомасці мільгануў люты намер забіць адразу ж, — ён набавіў сілы. Баец цяпер зразумеў, што

яму можа дапамагчы тут. Валтузячыся і сапучы, ён намацаў нагамі сцяну, зноў упёрся ў яе і пхнуўся ўсім целам на ворага. Той зноў апынуўся ўнізе — Валока нешта замычаў ад зларадства і, усе больш заходзячыся ад лютасці, урэшце дабраўся да варожае шыі.

— І-і-і, э-э! — мычаў немец, і Валока адчуваў, што перамагае. Вораг прыкметна збавіў імпэт і толькі абараняўся, хапаючыся за разлютаваныя Валокавы рукі і шалёна тузаючыся. Валоку, аднак, вельмі замінала сумка з дыскамі, якая перакруцілася на баку, трапіла пад немца і пачапкай трымала яго, як на прывязі. Пасля, змагаючыся, Валока зноў страціў апору, у валтузні недзе прапала сцяна; ногі шкрэблі па слізкай падлозе, але баец з усяе сілы трымаўся наверсе і не выпускаў варожае шыі.

Немец роспачна затрапятаў, заенчыў, захрыпеў, ірвануў аберуч ягоныя рукі, ляпнуўся аб бетон галавой, напружыўся, кінуўся ўбок выгнутым целам. Толькі Валока не выпускаў яго, ямчэй прыналёг плячом, ухапіў пяцярнёй горла і ціскануў.

Але ў той момант здарылася штосьці страшнае.

Грымотны пярун ударыў у вушы, здрыганулася і рухнула ў нейкае бяздонне падлога, чорнае падзямелле громам і грукатам абрушылася на чалавека. На галаву, спіну, плечы рынула цэгла, зямля, пясок, задушыла нейкім смуродам, балюча ўдарыла ў голаў, навалілася і прыцiснула... Валока інстынктыўна хіснуўся ад немца, ускінуў над сабою рукі, затуліўся, бездапаможна падставіўшы абвалу потную, пабітую спіну.

Грымоцце, аднак, хутка спынілася, сціхнуў абвал, але ўсё Валокава цела сквалі цесната і цяжар. Нельга было ні выдыхнуць, ні варухнуцца, і толькі ў свядомасці бліскала кароценькая і радасная думка: «Жывы». Але не было паветра, і ён задыхаўся ад пяску і нейкага смярдзючага ўдушша. Адчуўшы, што гіне, Валока рвануўся з тае магілы; нешта туга, але падатліва рассунулася над ім, ён шпарка задыхаў і расплюшчыў запарушаныя пяском, балючыя вочы.

## 2

Дзіва, як ён уцалеў.

Навокал ужо не было ранейшай цемры, разам з ею знік недзе і халаднаваты прастор склепа. Было душна, і скрозь

грувасціўся цагляны ды бетонны друз. Спачатку Валоку здалося, што выбухам ён адкінуты кудысьці з таго месца, дзе біўся з немцам, але, угледзеўшыся ў прыцемкі, пазнаў абсыпаныя шчэбнем уцалелыя крутыя прыступкі, з якіх ён зваліўся сюды. Іх было толькі шэсць; вышэй разламаная бетонная пліта, як крыга ў паводку, касабочыла са столі і, упершыся рабром у лесвіцу, загароджвала выхад. З другога боку, наўкось ад Валокі, урэзалася канцом у завалены цэглай дол шырокая двухтаўровая бэлька. Яна была сагнута, — пэўна, ад выбуху, і калі б упала на якіх паўметра бліжэй, дык наўрад ці давялося б цяпер Валоку бачыць яе.

Павярнуўшыся, баец вызваліў ад завалля рукі, прыўзняўся, але ногі былі яшчэ моцна нечым прыціснуты. Ці ён аглух, ці сапраўды было зусім ціха, толькі ў вушах нешта вісклівa, працягла і балюча звінела. Пакрысе ён павярнуўся на бок і паспрабаваў устаць. Ногі, здаецца, уцалелі, рукі таксама, толькі адна вельмі балела ў плячы. Ссыпаючы з сябе пыл і абломкі, ён прыўзняўся на руках, выцягнуў з-пад друзу адну нагу, пасля другую і сеў. І тады з грудзей яго прарваўся сутаргавы нястрымны кашаль. Валока аж захліпаўся ад ўдушша, грудзі разрываліся; пыл і пясок забілі, мусіць, усе лёгкія. Уздрыгваючы ўсім целам, некалькі пакутных хвілін чалавек кашляў і адплёўваўся і пасля, калі палегчала, зноў агледзеўся наўкола.

Так, яго добра заваліла тут. Заваліла лесвіцу і склеп, уцалеў толькі змрочны закутак за прыступкамі ды якіх метры са два ля выхада. Той бок склепа, насупраць ад увахода, быў зусім забіты цэглай, бетоннымі глыбамі; столь над ім скасабочылася, разламаўшыся на кавалкі, і з чорных шчылін дзе-нідзе тырчала ржавая арматура. З адной такой шчыліны ў паўзмрок сутарэння цадзіўся знадворку тоненькі мільготкі праменьчык. У ім, роячыся, густа бліскалі пылінкі, і ён ледзьве прабіваўся да долу, дзе клаў на цагляны зломак прыцьмелую плямку святла. Ад гэтай яго кволай спробы прабіць змрок і было тут трошкі відна.

Паматаўшы галавой, Валока вытрас з вушэй пясок і ўчуў, як глухімі ўздыхамі з-пад зямлі данесліся сюды гукі вайны — выбухі, далёкі маторны гул і глухаватыя кулямётныя чэргі. Гэта насцярожыла і заклапаціла; падумалася, што трэба хутчэй вылазіць, бо рота, мусіць, ужо адышлася далёка. Баец падняўся на ногі і, спатыкаючыся, пабрыў было да прыступак.

Там ён агледзеўся, убачыў і выцягнуў з-пад шчэбня свой згублены аўтамат, рукавом выцер яго ад пылу. Тое, што знайшлася зброя, трохі супакоіла яго; чалавек аддыхаўся і адчуў, што болей за іншае баліць плячо. Упершыню ён успомніў тады пра немца. Вядома, таму ўжо капец; прыбіла, напэўна, у куце; так, дзякаваць Богу, не давялося і душыць, падумаў Валока. Да немца, мёртвага, у байца злосці ўжо не было.

Угары зноў прыглушана загрукацелі чэргі, то наш «дзягцяр»; Валока пазнаў бы яго дзе хочаш. Гэта ўзбадзёрыла байца. Прыгнуўшы галаў, ён абмацаў навіслую над прыступкамі глыбу, паднатужыўся, паштурхаў, аднак нічога нідзе не кранулася. Мусіць, зверху яго тут добра прываліла нечым. Але як жа тады выкараскацца? Пакутуючы ад болю, ён сышоў з прыступак, угледзеўся ў змрок пакарэжанага падстолля. Нідзе ніякае дзіркі, ніякай адтуліны, здатнай для таго, каб можна было пралезці. Зрушваючы абломкі цэглы, баец ускарабкаўся на кучу друзу пад промнем і ў другім месцы памацаў рукамі скасабочаную патрэсканую столь. Адзін кавалак бетону кратаўся, але толькі ледзь-ледзь — хоць і быў разламаны, ды ўсё ж трымаўся, пэўна, на арматуры. Валока зазірнуў у шчыліну, але там, апроч добра асветленых на зломе тоўстых яе краёў, нічога не было відаць.

Што ж рабіць, — як вылезці, няўжо няма ніякага ходу? А можа, трэба крыкнуць, паклікаць на дапамогу? А калі тут паблізу немцы? Хто ведае, ці ўтрымалі нашы той сквер? Такая бамбёжка, мусіць, дала немцам якую карысць. Ён злез з друзу, зазірнуў у цёмны куток збоч лесвіцы — скрозь пыльнае цаглянае завалле. Колькі трэба перакапаць яго, каб дабрацца да якой праломіны! Дык што ж рабіць!

Раптам на кучы цэглы і ламачча варухнуўся кавалак цагліны. Пасля, крануты аднекуль знутры, заварушыўся друз і яшчэ некалькі кавалкаў ссунулася ўніз. Валока здрыгануўся, сумеўся і ажно прыгнуўся, углядаючыся. «Вось табе і на!» — без страху, поўны аднаго толькі здзіўлення, сказаў ён сабе. І у той жа час зглядзеў край чорнага, акаймаванага галуном пагона, засыпанае глінай плячо мундзіра, і раптам нечакана акрэсліўся дагэтуль не заўважаны ў паўзмроку твар немца. Яго немаладыя, вільготнага бляску вочы чамусьці вельмі напружана, быццам збянтэжана глядзелі на байца.

Валока ўнутрана сцяўся («Ах ты, пракляты, уцалеў!») і левай рукой падхапіў ствол аўтамата. Але былы страх знік,

цяпер баец не дужа і баяўся гэтага недадушанага ворага. Немец, аднак, не варушыўся, яшчэ трохі паўзіраўся ў байца і затым тузануўся з ламачча. Твар яго пры гэтым скрывіўся ад болю, вораг прастагнаў і немачна заплюшчыў вочы.

«Забіць!» — бліснула думка. Валока прывычна скіраваў на ворага аўтамат, гатовы вось-вось націснуць на спуск; гэта было так лёгка зараз і так проста. Але, мабыць, гэтая лёгкасць і прытрымала яго рашучасць. Немец зноў аслабела заварушыўся, намагаючыся вызваліцца з-пад абломкаў. «Ну лезь, паспрабуй! Падыдзі! — казаў сабе баец, пільна назіраючы за кожным аслабелым рухам ворага. — Вылезеш, тут жа і ляжаш!»

Гэта быў чацвёрты вораг, які трапіў яму пад аўтамат. Першага ён падстрэліў у сорак трэцім пад Прахараўкай з акопа, у часе нямецкай атакі. Той упаў тады на траву, павярнуўся, неяк здзіўлена пaглядзеў на Валоку і сціх. З другім давялося трохі пазмагацца. Баец даганяў яго ў акопе, той страляў з парабелума, параніў яго сябра Макіўчука, — то быў нейкі афіцэр у фуражцы з кукардай, і Валока, загнаўшы яго ў тупік, прыкалоў штыхом. Трэцяга расстраляў там, у пад’ездзе. Цяпер вось гэты.

Але страляць яго ў доле было неяк няёмка. Валока чакаў, калі ён вылезе і што будзе потым.

Толькі вылезці яму было нялёгка. Немец патузаўся плячыма, разварушыўшы цагліны, выцягнуў з-пад завалля руку, пакрывіўся тварам ад болю. Затым застагнаў, умольна зірнуў на байца і зноў бяссільна абвяў.

«А, даняло, сабака!» — прабурчаў Валока, усё напружана сочачы за ім. Але аўтамат ён апусціў. Немец пакутна торгаўся, разварушваючы драбязу і ўсё не могучы выдраць ногі, прываленыя нейкай бетоннай глыбай. Валока яшчэ пастаяў насупраць, назіраючы за марнымі намаганнямі ворага. Мусіць, ад таго, што немец страціў ужо былую небяспеку для яго, паволі асядала ў байцу злосць і мякчэла, адступала кудысьці рашучасць забіць. Немец застагнаў, апусціў галаў, кусаючы вусны. «Пераломаны ногі, ці што?» — падумаў Валока. Бачачы, што немцу не выбрацца без дапамогі, ён неяк не ў лад са сваім пачуццём ступіў бліжэй і, упершыся абцасам, адваліў убок вялізны пляскаты кавалак сцяны.

Затым сам аж здзівіўся, навошта зрабіў тое, — немец вальней заварушыўся, абапёрся аб дол рукамі і, схіліўшы ўніз

галаву з разматлянымі пыльнымі космамі, паволі выцягваў з-пад друзу ногі. Ага!.. Цэлы... Ён ужо апынуўся на волі, але чамусьці не спяшаўся скарыстаць яе, — мусіць, яго добра прыбіла ў часе абвалу. Тоячы ў душы супярэчлівую, перамешаную са спачуваннем зласлівасць, Валока стрымана назіраў за ім.

Абапіраючыся рукамі на загрувашчаны дол, немец нейкі час сядзеў, не могучы, відаць, саўладаць са слабасцю і болем. Побач, сцяўшы над пераноссем запарушаныя пылам бровы, з аўтаматам напагатове чакаў Валока. Немец усё мацаў сваю нагу ў калене, варушыў ботам. Затым, нібы чагосьці здзівіўшыся, зірнуў на байца і ўслухаўся. Знадворку глуха даносілася далёкая страляніна; грымнула некалькі выбухаў; праз шчыліны ў столі сям-там прасеялася крыху пяску. Немец паглядзеў угору і, нібы прыпамятаўшы штосьці, таропка ўстаў і, кульгаючы, падаўся да лесвіцы.

Валока не бачыў у яго ніякае зброі, ведаў, нікуды яму не вырвацца адсюль, і таму спакойна сеў на цагляны зломак, з перавагай пазіраючы на ворага. Аўтамат ён трымаў між калень. «Ага, паспрабуй», — з’едліва падумаў баец, гледзячы, як немец штурхае пліту над прыступкамі. Той рабіў гэта, відаць, з усяе сілы, ззаду ў кароткім разрэзе аж матляліся канцы мундзіра, але пліты зрушыць не здолеў. Тады немец павярнуўся; на яго збянтэжаным твары было пытанне, але бездзельна спакойны выгляд Валокі, мусіць, даў яму зразумець, што выйсця адсюль няма.

Ён вяла сашупіў з прыступак і сеў, абхапіўшы рукамі нагу. Валока з прытоенай цікавасцю агледзеў яго пакамечаную, абсыпаную пылам постаць з яфрэйтарскім шаўронам на разадраным да локця рукаве і ўпершыню ўбачыў на яго баку кабуру. Гэта зацікавіла і насцярожыла, з’явіўся новы клопат: што рабіць, калі вораг ажыў ды яшчэ ў дадатак да ўсяго і ўзброены?

Немец тым часам, відаць, паволі спакайнеў, правай нагой спіхнуў з левай бот, закасаў штаніну і насоўкай пачаў перавязваць калена. Калена было скрываўлена, кроў паўзла і паўзла з нейкае невялічкай, але вельмі крывацёчнае раны, і хутка насоўка стала ўшчэнт мокрая. Па ўсім выглядзе немца нельга было заўважыць, каб ён збіраўся ратавацца ад байца або нападаць, і гэта супакойвала. Неяк міжвольна пранікшыся спачуваннем да яго болю, Валока адставіў убок нагу і намацаў

у кішэні пацёрты, даўно ўжо ношаны там перавязачны пакет. Баец мог і не даваць яго: не так ужо і шкада яму было гэтага падбітага гітлераўца. Аднак нейкае чалавечае велікадушша штурхнула дапамагчы, бо была ў тым патрэба.

Немец не чакаў, пэўна, гэтага, і пачак упаў у друз ля яго ботаў. Спярша салдат сумеўся, але затым зразумеў — погляд яго адразу праясніўся. Ён нават буркнуў «данке» і, праз боль усміхнуўшыся, дастаў пакет. Твар у яго быў ужо немалады, загарэлы лоб перарэзалі маршчыны і над скронямі блішчалі залысіны. На абсівераных няголеных шчоках шархацела русявае шчацінне.

Валока ўсё глядзеў на ворага, не ведаючы, што рабіць далей, і толькі інстынктыўна адчуваючы, што трэба асцерагацца. Немец вышэй закасаў штаніну і пачаў ашчадна абкручваць бінтом калена. У гэтым занятку ён мерна гойдаўся, раз-пораз падстаўляючы святлу са шчыліны зашчаціненую шчаку з шырокім косым рубцом каля вуха, — мусіць, колішнім следам асколка. Валока ўбачыў тое і сам сабе ўсміхнуўся: гэткі ж самы рубец насіў і ён на левым баку — то была памятка баёў пад Курскам. Немец відавочна ачуньваў і насцярожаным позіркам шэрых вачэй зрэдку пазіраў на байца.

Але доўга разглядваць адзін аднаго ім не давялося. Зямлю пад нагамі зноў затаўклі выбухі, — напэўна, то смалянула «кацюша» або шасціствольны нямецкі мінамёт. Зварухнуўшыся, абодва яны схілілі галовы і ўслухаліся. Немец застыў з нацягненым ля нагі бінтом і чакаў, утаропіўшы позірк у пакарэжаную столь склепа. Але выбухі паволі заціхлі, асыпаліся апошнія пасмы пяску са шчылін, і зноў стала ціха і глуха. Адзін толькі праменьчык косаю дымчатаю паскай скупа цадзіўся ў паўзмрок падзямелля.

Валока заварушыўся: трэба ж было нешта рабіць, як вылазіць. І прыпёрла ж яшчэ гэтага немца! Але ён быў пабіты і, здаецца, дбаў толькі пра свой боль. Мабыць, таму галоўны Валокаў клопат, як вылезці, на нейкі час прыцішыў у ім страх перад немцам. «Хай спрабуе», — падумаў баец, маючы на ўвазе нечаканы напад. Ён трымаў у руках аўтамат, адчуваў у сабе сілу і спадзяваўся на яе. Да таго ж Валока бачыў побач не якога там загадкава драпежнага фашыста, а пажылага ўжо, пабітага і ўезджанага вайной чалавека. Хоць немец і маўчаў, аднак няцяжка было меркаваць, што ён адчуваў цяпер, і толькі яго салдацкая форма не давала Валоку забыцца, што гэта во-

раг. Засцярожліва пазіраючы спадылба, баец уздзеў на плячо аўтамат і, спатыкаючыся, палез па друзу пад паўразбураную, паламаную столь.

Трэба было шукаць нейкае выйсце.

3

Шчыліны на зломах у бетоне былі дзе-нідзе шырокія, у іх можна прасунуць пальцы, але ўхапіцца не было як. Задраўшы ў падстолле твар, Валока як-колечы спрабаваў расхістаць абломак, ля якога цадзіўся промень, штурхнуў яго ўгору і пацягнуў на сябе. З шчыліны пасыпаўся пясок і жарства, баец адхінуў убок твар і яшчэ больш напяўся, каб як-небудзь разварушыць пліту.

Увесь час ён не забываўся пра немца ўнізе і, ледзьве скасіўшы вочы, адчуваў і бачыў кожны яго рух на прыступках. Немец спачатку цікаўна глядзеў на марныя байцовы спробы, затым не дужа ўпэўнена ўстаў. Валока адразу кінуў пліту і ўзяўся за аўтамат. Але вораг у другі раз амаль добразычліва ўсміхнуўся і трахнуў на рамяні кабуру.

— Найн, найн, — заспакоена прагаварыў ён, махнуўшы прытым рукой. Здаецца, кабура ў яго сапраўды была пустая. Валока з недаверам, аднак, апусціў аўтамат і вылаяўся ў душы. У яго зноў заварушылася непадуладная яму насцярожанасць да гэтага чалавека-ворага. А немец тым часам, узмахваючы рукамі і кульгаючы, узлез на кучу, задраў голаў, агледзеў шчыліны і ў адным месцы прасунуў у злом пальцы.

Дзве пары рук уперліся ў адзін кавалак бетону.

Дзіўна гэта было Валоку! Каб хто расказаў — не паверыў бы, але цяпер неяк усё выходзіла само сабой, і баец, здаецца, ні ў чым не мог папракнуць сябе. Толькі якую гадзіну назад, не бачачы і ніколі не ведаючы адзін аднаго, яны душыліся, біліся ў гэтым склепе, поўныя злосці і лютае прагі знішчэння, а зараз, нібы нічога між імі і не здарылася, суладна рвалі са столі кавалак бетону, каб выкараскацца з агульнай бяды.

Пліта краталася — трошкі ўгору, трошкі ўніз, жарства са шчылін усё сыпалася, і Валоку здавалася, што можна расхістаць і выдраць яе. Час ад часу крадком ён пазіраў на немца, які, выцягшы з шырокіх рукавоў валасатыя, загарэлыя рукі, стараўся трапляць у лад з яго намаганнямі. Загарэлы шчацiністы твар немца з добра развітай ніжняй сківіцай

крывіўся ад пяску і натугі, а таксама, напэўна, ад слабасці; на пераноссі густа высыпалі дробныя кропелькі поту. Зрэдку ён выціраў іх рукавом, размазваючы па замурзаных шчоках. Бінт на галаве, зашмальцаваны ад поту каўнер і плячо з адарваным пагонам неўзабаве густа абсыпаў пыл. Валока чуў блізкае няроўнае немцава дыханне, тупанне яго ботаў побач са сваімі, і ад гэтае блізкасці ці ад суладнасці агульных намаганняў тое варожае, што ўвесь час жыло ў ім да гэтага немца, пачало меншаць, раставаць і прападаць. Невыразна яшчэ адчуваючы ў сабе тую змену, Валока бянтэжыўся і чагосьці не мог зразумець у сабе.

Так яны варушылі тую зломіну хвілін дзесяць, але яна ўсё ж не паддавалася. Немец змарана дыхаў, ды і Валока прымлеў і нарэшце апусціў рукі. Запылены тонкі праменьчык струнка ўпёрся ў запарушаны пяском немцаў бот.

— Халера, — сказаў баец, з прыкрасцю паглядзеўшы ў столь. — Сілы мала.

— Я, я, — зараз жа ціха адгукнуўся немец. Ён таксама з клопатам агледзеў столь і зусім нечакана, з марудлівым няўмелым намаганнем, вымавіў: — Малё сілы.

Валока варухнуў запарушанымі пяском бровамі, здзіўлена паглядзеў на немца — разумее, чмур!

— Што, фарштэй па-руску?

— Малё, малё, — сказаў немец і ўсміхнуўся. — Вітэбск руска фрау... гражданка малё-малё ўчыль.

— Глядзі ты! Ось дык фокус!

Баец злез з цаглянае кучы, стомлена апусціўся на канец пагнутай бэлькі і палез у кішэню — як заўжды ў цяжкім клопатным стане захацелася закурыць, «праясніць мазгі». Аўтамат ён прыткнуў між калень. Немец, нібы чакаючы гэтай перадышкі, таксама з гатоўнасцю сеў, дзе стаяў, — пад самым промнем на цэгле. Параненую нагу беражна выцягнуў перад сабой.

— Фокус, фокус... Не знай, што то ест, — казаў ён, крывячы твар ад болю.

— Ге! — упершыню ўсміхнуўся і Валока. — Гэта, брат, не адразу і зразумееш...

Заскарузлымі пальцамі баец развязаў вышыты пеўнямі кісет, дастаў складзены кавалак газеты, насыпаў і разраўняў махорку. Пасля крутнуў разы два матузком-завязкаю, але

спыніўся, спадылба зірнуў на немца, трохі разважыў і махнуў кісетам.

— Лаві!

Немец зноў, відаць, не зразумеў сэнсу слова, трошкі спазніўся лапнуць далонямі, але ўсё ж ля самых ботаў кісет злавіў.

— О, рус махорка! — сказаў ён і па чарзе адной і другой ноздрою панюхаў кісет. Пасля няўмела разматаў тугую завязку і неяк вельмі няспрытна згарнуў цыгарку.

Так яны закурылі, прыпаліўшы кожны паасобку — Валока ад запалкі, якая знайшлася ў яго патрушчаным карабку, немец — ад запальніцы, адмыслова змайстраванай накшталт маленькага блішчастага пісталеціка. Насалодзіўшы грудзі першай зацяжкай, Валока неяк уважліва, упершыню з добразычлівай зацікаўленасцю агледзеў немца.

— Дык што ж рабіць будзем? Як выбірацца?

— Я, я, — пагадзіўся немец. — Ідзі. Нада ідзі. Туды, навэрх, — паказаў ён пальцам у праламаную, але такую яшчэ моцную столь.

— Навэрх, — грубавата перадражніў Валока. — Вядома, наверх. Не ўніз жа. Але як вылезеш?

Невядома, што немец зразумеў з гэтае фразы, але ўраз заклапочана абвёў позіркам сцены, цёмны закутак за прыступкамі, задраўшы шырокія пашчэнкі, агледзеў столь.

— Арбайт нада, — кіўнуў ён галавой у самы змрочны куток, завалены цагляным друзам. — Арбайт... Мнёга арбайт.

— Арбайт, канечне... А ты хто? Рабочы ці гэта... хлебароб? — запытаў Валока.

Немец, наморшчыўшы лоб, угледзеўся ў яго.

— Я, я! — зразумеўшы пытанне, радасна адгукнуўся ён. — Арбайт! Как ета па-руску... тышлер.

Не прыпомніўшы патрэбнага рускага слова, ён дзвюма рукамі зрабіў такі рух, нібы габляваў дошку, і Валока здзівіўшыся, зразумеў:

— Столяр?

— Я, я, — пацвердзіў немец.

— От дык фокус! І я ж столяр. Я — столяр! — тыкаючы сябе пальцам у грудзі, гучней крыкнуў Валока, нібы гучнейшае немец мог лепш зразумець. І ўсё ж, відаць, ён зразумеў, коратка ўсміхнуўся праз дым і ашчадна дацмыгаў махорку.

— Іх хаўз, дом арбайт. Мнёга, мнёга хаўз, — казаў ён, рукамі робячы ў паветры такі рух, нібы абмацваў двухскатны дах.

— І я гэта... хаўзы будаваў, — сказаў Валока і, паказваючы, паклаў далонь на далонь. — Зрубы рубіў. Рускі вугал. І нямецкі рубілі. Ведаю гэта.

— Гут, гут, — задаволена ківаў галавой немец.

— Усё ведаю. Гэта яшчэ рыгель, рэйсмус, — вашыя ж назвы.

— Я, я. Рыгель! Рэйсмус, — як рэха, паўтарыў немец знаёмыя словы. Пасля ён пасур'ёзнеў і, счакаўшы, пакуль баец дакурыць цыгарку, устаў.

— Нада ідзі! — зноў падняўшы палец угору, сказаў немец. Валока таксама ўстаў, узяў у рукі аўтамат, недаўменна паглядзеў на яго, не ведаючы, куды прыбраць гэтую рэч, і пасля надзеў цераз галаву за спіну. Так ён заўсёды будзе пры ім і не дужа перашкодзіць у працы.

Немец узлез па цэгле ў самую гару, скурчыўся там у змроку і пачаў кідаць уніз цагляныя зломкі. Ва ўсёй яго цяперашняй паставе і абліччы баец не бачыў нічога варожага, нічога недаверліва-хітраватага, немец быў просты, рухавы і нават, адчувалася па нечым, — чулы і шчыры чалавек. Валока падлез да яго ў змрок і, зусім заціўшы ў сабе падазронасць, спытаў:

— Як цябе зваць?

Немец спыніў працу, праз пыл павярнуў да яго твар — ён не разумеў пытання.

— Завуць як? — гучней, бы глухога, запытаў Валока. — Мяне — Іван, а цябе? Ганс? Фрыц?

— Фрыц! Я, я! Фрыц Хагеман, — нібы ўзрадаваўшыся сваёй здагадлівасці, ахвотна абвясціў немец і засмяяўся. — Іх — Фрыц, ду — Іван. Гут! — І ён зноў засмяяўся, у дробныя зморшчынкі сабраўшы свой немалады ўжо твар.

— Гут-то гут, — разважна, але паддаючыся яго лёгкасці, сказаў Валока. — Толькі не дужа. Вось вылезем, а тады што?

Але на немца гэты Валокаў клопат не зрабіў уражання. Ён па-ранейшаму рупна выдзіраў з груды наваленыя сюды кавалкі нейкае разбуранай сцяны і кідаў іх уніз. Баец прымасціўся побач і, нязручна сагнуўшыся ў цеснаце, пачаў рабіць тое ж.

4

Невядома, колькі мінула часу. Яны ўжо багата перакідалі ўніз друзу, пад столлю можна было стаць — там, у змроку і пыле, сапраўды была праломіна некуды ўгору і ўбок, толькі яе моцна заваліла. Праменьчык са шчыліны знік, цяпер адтуль нясмела клалася ў пыл толькі маленькая плямка знадворнага святла, і ў сутарэнні панаваў густы, ледзь-ледзь прышарэлы змрок. Як-колечы прызвычаеныя да яго, дзве пары вачэй трохі бачылі паблізу, і людзі працавалі. Абодва яны наскрозь прапыліліся, немец раз-пораз чыхаў, а Валока цяжка, дыхавічна кашляў. Тое, што яны ўсё ж намацалі выхад, крыху абнадзейвала байца, цяпер ён ужо не думаў, што прападзе падурному. Затое новы, куды большы і складанейшы клопат усё настойлівей пачаў агартаць яго.

Які нячысцік звёў яго з гэтым недарэчным немцам, думаў Валока. Праўда, пакуль яны былі тут і разам выкарасквaліся з аднае бяды, баец сяк-так мог пагадзіцца на гэтае іх сяброўства. Але што рабіць, калі яны вылезуць? І хто там наверсе — свае ці немцы? Калі свае, то гэта яго клопат — яшчэ палова бяды: немца можа як-небудзь пашанцуе залучыць у палон. А калі немцы? Зноў біцца? Дык ці не лепш забіць яго тут?

Але Валока толькі думаў так, адчуваючы, што застрэліць цяпер гэтага чалавека ўжо не можа. Як было страляць яго, калі між імі рушылася галоўнае для таго — узаемная нянавісць, калі раптам у варожым мундзіры з'явіўся перад ім зважлівы, рупны, працавіты, самы звычайны чалавек, які і да Валокі ставіўся не як вораг-фашыст, а як супольнік і сябра. Здаецца, гэта быў зусім неблагі немец, і недзе ў сподзе пачуццяў баец адчуваў у сабе няёмкасць ад таго, што нядаўна ледзьве не задушыў яго. Але зноў жа вельмі нават магло стацца, што і ён забіў бы Валоку. Незвычайна гэта было і дзіўна — адчуваць яго тут, побач з сабой; хвілінамі нават забывалася, што яны ворагі. Задумаўшыся, байцу хацелася падрабязней распытаць яго пра нямецкае ўмельства ў сталярнае справе, хацелася сесці, пакурыць, мірна і па-добраму пагутарыць; здавалася, у тае іх разважнае добразычлівасці адкрыецца нешта значнае і цікавае.

Але пагадзя Валока пачынаў сумнявацца. З выгляду немец быў неблагі чалавек, працавіты, — пэўна, лёгкага, спагаднага характару (такога, як іхні санінструктар Корзан), але хто

ведае, што ў яго сядзела ўнутры. Пэўна ж, усе яны добрыя ў палоне або забітыя, але хто тады нарабіў такога гора людзям, хто столькі пазабіваў, папаліў, абрабаваў, перавешаў, хто заліў крывёю ўвесь свет? Ды і што скажуць хлопцы і начальства, калі даведаюцца, як ён тут раскурваў маршанскую махорачку з гэтым фрыцам? А калі дазнаецца капітан Воранаў, маўклівы загадкавы чалавек са схаванымі пад бровы вачмі, як ён паставіцца да такой суполкі? Валока мог меркаваць — штоколечы наконт гэтага ён ужо чуў за паўгода службы ў палку.

Пакутна было і складана даўмецца, як яму быць тут, у гэтай недарэчнай і такой нечаканай бядзе.

Зноў добра ўмарыўшыся, яны паселі на цэглу ў куце і пачалі адплёўвацца. Валока дастаў кісет, насыпаў у паперку махоркі і, прытрымліваючы яе пальцамі, перадаў кісет немцу. Той ахвотна пераняў. Калі Валока саслюніў цыгарку, ён услужліва пстрыкнуў запальнічкай, даў прыкурыць яму, затым прыкурыў сам. Мільготкі, маленькі, як іскрынка, агеньчык запальнічкі трохі разагнаў змрок, асвяціў пакарэжаную столь, вывараціны цаглін у сцяне і два ўшчэнт запыленыя невясёлыя твары. Патрымаўшы ў кулаку запальнічку, Фрыц, пэўна, рашыў не тушыць яе і пачаў прыладжваць у вышчарбіне сцяны. Яна дрэнна ўсталёўвалася там, і Валока падняў з долу кавалак цагліны. .

— На вось прыпры.

Але немец раптам здрыгануўся, бялявыя бровы на яго твары саўгануліся на лоб, ён з жахам услухаўся ў нешта, што адбывалася знадворку. Валока ўзняў голаў — наверсе, над самымі іх галовамі, пачуліся крокі — туп... туп... туп... Праз бетон данёсся блізкі, аднак глухі, невыразны голас, недзе над прыступкамі штось грукнула і сціхла: чалавек, пэўна, спыніўся ці мо адышоўся далей. Баец ускочыў — першым яго жаданнем было крыкнуць, азвацца, але ў той жа момант ён злавіў на сабе напружана ўмольны позірк немца і сам схамянуўся.

Хто? Такое пытанне ўраз маланкай пранеслася ў свядомасці абодвух, і, вядома, абодва яны прагнулі рознага. Гэтая хвілінная іх раз'яднанасць зноў застарэлай варожасцю захліснула Валокава нутро, але толькі на кароткі час. Адразу, як сціхлі крокі, сціхла і нясцерпнае жаданне азвацца — цвярозая разважнасць падказвала яму, што трэба маўчаць і выбірацца з падзямелля самім.

Яны яшчэ паўслухоўваліся, мярцвеючы ад празмернае ўвагі, затым немец выдыхнуў, неяк абвяў з цела і пачаў паволі прыладжваць у сцяне запальнічку. Баец закашляўся, зацяў рот далонямі. Крокаў болей не было чуваць.

— От папалі дык папалі, — не так немцу, як самому сабе сказаў Валока, выдыхаючы ў трапяткую цемру зацяжку. Немец звесіў з калень цяжкія натруджаныя рукі і ўздыхнуў. Яго нядаўні, трохі бесклапотна-бадзёры настрой відавочна прыхмурэў, — пэўна, ад працы ці мо ад гэтага трывожнага клопату.

— Вайна нікс гут! — раптам прыцішана, але з набалелай упэўненасцю азваўся ён, і баец ажно здзівіўся ад гэтае перамены ў настроі ворага. — Вайна — шайзэ!

Немец сказаў гэта з нейкім трудным, зацятым адчаем у вачах. Валока, трохі разявіўшы рот, недаўменна, з прыхаванай іроніяй паглядзеў на яго.

— Во як: не гут! Чаму ж ты гэта не скажаш свайму фюрэру?

— Фюрэр — шайзэ! — строга абвясціў немец, відаць, толькі адно гэтае слова і зразумеўшы з доўгай Валокавай фразы. — Фюрэр своляч! Фюрэр эйнфахерменш нікс нада, — сказаў ён і стукнуў сябе кулаком у грудзі. — Фрыц Хагеман нікс нада вайна. Хагеман нада фрыедэн, нада кіндэр аўфцыген, арбайт нада, хаўз нада! Шайзэ вайна.

Валока зразумеў не ўсё, але ўцяміў прычыну абурэння гэтага немца, толькі спачуваць яму ён не збіраўся. Немец жа, мусіць, выліў свой даўні гнеў і на хвіліну змоўчаў. Баец тым часам дакурыў цыгарку і ўрэшце, наважыўшыся на тое, што ўвесь час непакоіла яго, сказаў:

— Слухай, Фрыц. Вылезем туды, — ён паказаў пальцам угору, — давай палон. Рус плен — і вайна капут. Га?

Немец уважліва выслухаў, нешта зразумеў, але з раздумнаю цвёрдасцю пакруціў галавой.

— Нікс плен. Плёхо плен. Рус энкеведэ дойч — Сібір. Пуф-пуф дойч.

— Ніхто цябе не будзе пуф-пуф. Чаго ты баішся? — загарачыўся Валока. — Ты ведаеш, колькі у нас вашых камарадаў плен?

Фрыц зноў уздыхнуў, нявесела ўгледзеўся ў агеньчык запальнічкі ў сцяне. З ягоных вачэй выплыла і атуліла ўвесь твар туга чалавека, які колькі ні прыкідваецца сам сабе, як

ні абнадзейвае сябе, а ўсё ж ніяк не можа пазбыцца вялікага і нязбыўнага, як смерць, клопату. Задумаўшыся, ён трошкі памаўчаў, пасля заварушыўся, расшпіліў кішэнь мундзіра і дастаў нейкія паперы. Перабраўшы іх, знайшоў там надарваны канверт з пацёртымі краямі і дастаў адтуль картку.

— Майн фрау унд кіндэр. Дрэздэн, — сказаў ён і падаў картку байцу. Той няўмела, з ашчаднаю зважлівасцю да чужога, але зразумелага і па-чалавечы дарагога наблізіў картку да слабенькага святла запальнічкі.

З фатаграфіі на яго пазіралі жанчына і трое малых. Старэйшы — галаногі хлапец у кароткіх штоніках стаяў каля крэсла, дзяўчынка сядзела на каленях у маці, сярэдні — хлопчык год дзесяці — стаяў ля старэйшага і трымаў пад пахай паласаты мячык. Ззаду віднеўся невялічкі, але ладна адбудаваны і дагледжаны домік з верандаю, высокі чарапічны дах, у прасценках густая лістота вінаградніку. На хвіліну баец ажно ўпіўся ў гэта вачмі.

— Ладная дамоўка, нічога не скажаш, — уздыхаючы, прагаварыў Валока, адчуўшы ў душы ціхенькі самотны боль ні то ад разбуджанага суму па спрадвечнаму, мірнаму, гаспадарчаму жыццю, ці мо ад успамінаў аб сваіх там, дома... З прытоенай зайздрасцю і скрухаю ён аддаў картку назад.

— Драй кіндэр! — сказаў Фрыц, хаваючы у кішэню паперы. — Плёха плен. Гаўптман гестапа Крафт шрайбен, — фрау, кіндэр ком, ком унд канцлагер. Плёха!

Валока зразумеў. Пэўна ж, так, яны, гэтыя немцы, не дужа там няньчацца і са сваімі — ён ужо чуў, што за такія справы сем'і гэтых фрыцаў па галовах не гладзяць. Ну, але што ж тады ім рабіць?

А Фрыц тым часам ямчэй усеўся на цагляным зломку і, памагаючы сабе рукамі, пачаў нешта тлумачыць.

— Фрыц нікс буржуй, Фрыц арбайт! — нібы ў доказ таго ён выцягнуў перад сабой шырокія, дужыя, працавітыя далоні. — Маркі мала-мала Фрыц. Айн хаўз Фрыц. Хагеман — бедны чалавек. Рус Іван — бедны чалавек. Цвай бедны чалавек, — паказаў Фрыц два пальцы. — Мі панімайт.

— Ну гэта... Які я бедны? — невядома чаму сумеўся Валока. — Чаго Іван бедны? Што я, беспрацоўны? Калгаснік я.

— Я, я, — пагадзіўся немец. — Плёха рускі кальхаснік. Кальхас бедна.

«Што ён мяне тут ахмурае, — падумаў Валока. — Куды гне?» І яму дужа захацелася быць не горшым, чым гэты немец, — не ўступіў жа ён яму ў нядаўняе бойцы, быў роўны ў працы, і цяпер вельмі ж нежадана было яму аказацца нейкім бедняком, вартым спачування. Унутры ў ім усё запратэставала супраць гэтага абразлівага варожага спачування.

— Наш калгас багаты. Вось! У нас не такія — у нас яшчэ лепшыя дамы. Мы шыферам крылі. І хлеба — во! — гаварыў ён, паказваючы далонню да шыі. Немец, здаецца, нічога не зразумеў і казаў сваё:

— Плёха рус кальхас... Бедна...

Баец адчуў, што не дужа абхітрыш гэтага немца, які прайшоў палову Расіі і, пэўна, нагледзеўся рознага. Але ўсё роўна Валока не хацеў здацца.

— Мала што дзе там бедна, а ў нас багата. Во. Мы хлеба па сто пудоў палучалі. І бульбы. І гароху. І масла па пуду, і грошы — тысячу рублёў. Тысячу, разумееш? — з пафасам назваў ён суму, якая ў даваенным сялянскім разуменні была ўвасабленнем параўнаўча высокага дастатку. Ва ўсякім разе за гэтыя грошы можна было купіць добрую карову. А гэта было ўжо нямала. Немец нахмурыў лоб, імкнучыся штосьці зразумець у запальчывай гэтай гамонцы, і Валока пальцам вывеў на запыленай сцяне палачку і тры нулі.

— Тысяча! От!

— Таўсенд! Кілёграм масле? — здзівіўся немец і недаверліва паглядаў то на лічбу, то на байца. А той, адчуўшы, што немец памыляецца, але, бачачы яго захапленне, не стаў выкрываць непаразумення і нахабнавата пацвердзіў:

— Ну! А ты думаў...

Немец загасіў у вачах недаверлівы агеньчык і паскроб патыліцу.

— Усё было. Да вайны, — гаварыў далей Валока з такім адчуваннем, бы рашыўся на штосьці адчайна забароннае, адкуль назад ніякага ходу ўжо не было. І ён лез напралом. — Радыё было — раз, — пачаў ён загінаць на левай руцэ пальцы. — Лісапед. — Для нагляднасці ён падабраў ногі і пакруціў, бы педалямі, у паветры.

— Рад, — здагадаўся немец.

— Во, во, рад — два.

— Іх імель крафтрад, матацыкль, — аб’явіў немец.

— Матацыкл? Матацыкл што? Матацыкл ерунда, а ў мяне была... ведаеш што? Гэта што плавае — чых-чых-чых! Маторка звалася. Во! — паведаміў ён, знайшоўшы свой галоўны ў гэтай спрэчцы козыр.

— Лодка?

— Ага, лодка. От жылі. Каб не вы, фашысты...

Фрыц падумаў, яшчэ паўзіраўся ў байца, наморшчыў лоб і ўздыхнуў, няпэўна супакойваючыся. «Паверыў», — коратка, з надзеяй, падумаў Валока.

— Фашызм нікс гут. Плёха фашызм, — сказаў Фрыц, і баец цяжка падняўся з месца. Немец таксама ўстаў, услухаўся, але скрозь было ціха.

Яны зноў пачалі разбіраць заваллe, выцягваць каменныя вывараціны з праломіны ў сцяне, але канца гэтае справе не было відаць. За праломінай ішла суцэльная сцяна друзу, і хутка з яе ўжо нічога нельга было выдраць — так там усё было туга спрасавана. Абодва за той час дужа ўходаліся, запыліліся. Валока, не перастаючы, кашляў ад пылу. Урэшце ён вылаяўся і вылез на вальнейшае месца. Стала відаць, што калупацца там — справа дурная і марная.

Яны памаўчалі, змарыўшыся, пасля Валока пайшоў абмацваць усе закуткі гэтага падзямелля. Запальнічка свяціла слаба, і ён больш вобмацкам, чым бачачы, натрапіў на нейкую патарчаку, што высоўвалася ўгары са столі. Гэта было ў баку ад таго месца, дзе ўдзень прабіваўся праменьчык. Баец гукнуў, і Фрыц прынёс сюды свой мізэрны свяцільнік. Мільготкая іскрынка праплыла ў цемры і, толькі калі немец падняў яе ў кулаку пад самую столь, трошкі асвяціла цьмяны кавалак бетону.

Слабенькае святло хліпка блукала па столі, два твары напружана ўзіраліся ўгору. Валока напяўся — зломак кратаўся. Немец свяціў адной рукой, а другой таксама ўпёрся ў край гэтае вывараціны.

— Ахтунг! Памалё! Малё трэба, Іван, — засцярожліва сказаў ён, і баец пачуў яго цёплае дыханне ля вуха. Там, ззаду, за спіной, вісеў яго аўтамат, які лёгка можна было ўхапіць, але Валока ўжо не звяртаў на гэта ўвагі.

— Што там «ахтунг!». Ану, дужэй. Раз, два, узялі! Шырока расставіўшы ногі, яны ўперліся, Валока папіхаў зломак у адзін бок, у другі, той яўна паддаваўся іхняе сіле. Тады баец напяўся яшчэ, і зломак зрабіў шырэйшы ход туды і назад. Здавалася,

у гэты раз яны сапраўды знайшлі выйсце. Валока аж акрыяў духам і, змораны, сабраў у сабе рэшту сіл. Зломак паддаваўся, вось-вось павінен быў выпасці, як раптам немец засцярожліва ўскрыкнуў, запальнічка ўраз пагасла, і нейкі жахлівы цяжар, прарваўшыся, рухнуў на Валоку. Ён і не ўцяміў нават, што сталася, уваччу бліснула аранжавая зарніца, і страшны боль у галаве пагасіў адчуванне.

5

Не, ён не загінуў — ён жыў, але навакольны свет даходзіў да яго свядомасці праз пякельную нясцерпнасць пакут. Спачатку было такое ўражанне, нібы ён дзесьці сцяты, сціснуты, бы ў якой зубатай пашчы, і страшны боль пранізвае ўсё яго цела. Асабліва балела галава; нешта там, у самым нутры мозгу, торгала, калола, рэзала, варухнуцца не было сілы і было вельмі пакутна. Яшчэ больш балела спіна. Ад гэтага болю ў адно з праясненняў свядомасці Валоку здалося, што ён раздзеты ляжыць на ржышчы, калючкі якога разам з калючкамі асоту ўпіваюцца ў яго цела. Ён хоча крыкнуць, пазваць суседа Трахіма, які жне побач на коннай жняярцы, але ніяк не можа выдавіць з сябе таго крыку. Праз хвіліну, аднак, ён бачыць жняяра; толькі гэта чамусьці не Трахім, а немец — той Фрыц, з якім ён спаткаўся куды пазней, на вайне, і ў яго аўтамат, — аднаруч ён тузае лейцы, а другой прытрымлівае на каленях зброю. Немец чамусьці гаворыць па-беларуску. Валока заходзіцца ад страху, бо ведае, што жняяр Фрыц зараз спыніць коней і застрэліць яго. Ён ездзіць па кругу навокал байца, кругі ўсё звужаюцца, і зубы жняяркі ўсё бліжэй і бліжэй прысоўваюцца да яго ног. А тут яшчэ дужа пячэ сонца, так смаліць, што ажно разломваецца галава, унутры ўсё ссохла, і нясцерпна хочацца піць. Валока шэпча: «Піць, піць...» — толькі слоў няма: вусны варушацца, а гук прапаў. Затым сонца пачынае зніжацца, падступаць да яго, але чамусьці робіцца маленькім, не большым за агеньчык запалкі. Страх патроху мінаецца, толькі спякота ўсё ранейшая і ўсё хочацца піць. І яшчэ робіцца цёмна, прападае кудысьці поле і Трахім, а ён апынаецца ўжо на вайне. За пагоркам стракоча кулямёт, а недзе паблізу над галавой чуецца спагадлівы голас іх ротнага санінструктара Корзана: «Гут, Іван, гут! Жывы Іван гут...» Санінструктар гаворыць па-нямецку, толькі байца гэта

чамусьці не здзіўляе, той рады, што побач чалавек — ён дапаможа. І зноў загараецца ў цемры агеньчык і плыве некуды ўдалячынь. Валока жахаецца ад таго, што яго пакідаюць, ён ускрыквае ад жудасці, як некалі ўскрыкваў у маленстве, напалоханы жахамі сноў. І ўжо з большай рэчаіснасцю бачыць у змроку асветленую з таго боку постаць з адарваным пагонам, які целяпаецца па плячы. Постаць сунецца кудысьці ў цёмны кут, на момант слабенькаю плямай асвятляецца сцяна ў адным месцы, пасля ў другім. І вось у асветленай мясціне мільгае знаёмы абрыс аўтамата. Валока здзіўляецца — гэта ж яго ППШ нумар НЛ 0482. Баец не цяміць яшчэ, што і як сталася папярэдне, не ведае, хто там, толькі здагадваецца, што гэта не санінструктар. І ўсведамленне таго, што яго абяззброілі, зноў жахам працінае байца. Пераадольваючы страшны боль у галаве, ён прыўзнімаецца з долу, пакутна сядае, падпёршы сябе дрыготкімі рукамі, намацвае нейкі цагляны абломак і чакае. Забіць, забіць, забіць у што б там ні стала, інакш заб'е той!.. Валока спрабуе ўстаць, сэрца яго надрыўна калоціцца ў грудзях, толькі ён дужа слабы, цяжкія рукі не слухаюцца, і страшны боль у галаве мацнее. А вораг усё поўзае ў цемрывай далечы, высвятлівае глухі мур сцяны — што ён шукае? Затым плямка святла спыняецца, дрыжыць на адным месцы, коратка клацае затвор аўтамата. Валока, душачыся ад болю і знямогі, сціскаецца, у вачах мутнее, і тады ў куце грукае стрэл. Шырокі чырвоны бляск зусім асляпляе байца, рукі не вытрымліваюць, ён падае, але боль не павялічваецца — чалавек жыве. Ён збірае ў сабе сілы крыкнуць, нясцерпна паміраць у гэтай нямой маўклівасці, але ў той час да яго слыху даносіцца мернае, вельмі лагоднае цвіркатанне вады. Ну вядома ж, так можа цвірчэць толькі вада! Валока ўжо бачыць у цемры яе зіхаваты струмень і, адчуваючы, як пакідаюць яго рэшткі свядомасці, выдаўлівае з сябе стогн.

Наступным яго адчуваннем было далікатнае, лагоднае казытанне на барадзе, на шыі; здавалася, нейкая жывая істота паўзла за каўнер, на грудзі, толькі на вуснах і ў роце стала лепш і нешта жалезна-цвёрдае дробненька стукала аб зубы. Валока расплюшчыў вочы — у зрок ударыла рассыпчатая яркасць іскраў; яны гойдаліся, скакалі на адным месцы ля самага яго твару, але не пяклі. Пасля ён сцяміў, што ўсё гэта адбівалася ў вадзе. Аднекуль здалёк да слыху даходзілі словы:

— Трынкен, Іван! Трынкен!

Ён глытаў доўга, многа, зубы ўсё ляскалі аб край нейкай пасудзіны, а ў свядомасці коратка і выразна бліснула ява — ён згадаў, дзе ён і хто з ім. «Немец! Фрыц!» На момант адарваўшыся ад вады, ён зірнуў угору, — над ім мільгала ў кулаку запальнічка і расплываўся ў нейкай недарэчнай ухмылцы страшны, тупы ад таго, што быў незвычайна падсветлены знізу, твар з вялікімі і валасатымі ноздрамі, брывастым ілбом, пад якім лыпалі выпуклыя жаўтлявыя бялкі вачэй. Вочы, аднак, таілі ў сабе лагоду і спагадлівасць, і гэта супакоіла байца.

— Трынкен, Іван. Трынкен...

Ён зноў апусціў голаў да пасудзіны; у глыбіні яе, у вадзе, гойдаўся агеньчык ад запальнічкі. Чамусьці Валоку зрабілася блага — ён хіснуўся ад вады, Фрыц штосьці сказаў, пабурчаў і прыбраў ваду ўбок.

Баец сцішыўся ў доле, так яму стала лягчэй — спякотны жар уняўся, толькі галава, плечы і нешта ўсярэдзіне тупа балела. Ён зноў заплюшчыў вочы, аддаючыся спакою, і раптам прахапіўся ад думкі — дзе аўтамат? Чалавек ірвануўся з долу — немцавы рукі адразу прытрымалі яго, настойліва паклалі назад, і Валока ў нейкім раптоўным прасвятленні здзівіўся з самога сябе: было ад чаго палохацца, калі цяпер ён у поўнай уладзе гэтага немца. І ён адчуў нейкую сталую прыязнасць да яго, быццам яны знаёмы былі ўвесь век і цяпер сталі самыя найбліжэйшыя адзін аднаму і самыя патрэбныя. І таму — прэч усе падазрэнні, засцярожлівасць, недавер! Усё, што стала над іх чалавечаю сутнасцю, — усё, наслоенае іх нацыянальнаю рознасцю, палітычнай варожасцю, вайной, — усё гэта, аддзеленае ад іх магільнаю тоўшчай руін, засталося там, наверсе, у беззваротным мінулым. Два гэтыя пажылыя, труднага лёсу працаўнікі былі тут людзі і толькі дбалі пра тое, як абодвум застацца жывымі дзеля іх сем'яў, мірнае справы, дзеля самых звычайных і незаменных чалавечых радасцей.

Валока памацаў рукой немцава калена побач і слаба пацісннуў яго. Фрыц жыва адгукнуўся, падняў яго руку, таксама далікатна пацісннуў яе ля локця і асцярожна паклаў на дол. Тлумачыць адзін аднаму нічога не трэба.

Пасля баец сціх і забыўся. Клопат яго знік, боль крыху прыціх, але нейкія ўнутраныя пакуты працягваліся. Невядома, ці гэта быў сон, ці трызненне хворага, толькі пакутныя здані і прывіды доўгі час не пакідалі яго.

Неяк ён убачыў сябе ў Брэслаў, на гарадской ускраіне ў садку, дзе з тыдзень да наступлення перафарміроўваўся іх полк. І быццам яшчэ не было гэтага наступлення, але ўжо ўсё, што здарылася цяпер з ім, стала мінулым, і Валока не стараўся зразумець, чаму гэта так. І быццам быў жывы камбат Папрэнка, забіты яшчэ пад Оршай; ён выклікаў Валоку ў штаб, і баец з цяжкім сэрцам прыйшоў у бліндаж, хоць ведаў, што ў Брэслаў штаб батальёна змяшчаўся ў ладным катэджы з балконамі, а не ў бліндажы. Але ў бліндажы чамусьці аказаўся не камбат Папрэнка, а капітан Воранаў. «Ну што, нямецкі шпіён?» Такім папрокам сустрэў ён Валоку, хапіў яго за плечы, здзёр пагоны, потым пачаў настаўляць пісталет у кружочкі медалёў на ягоных грудзях. «Немца хаваў? Ворага тытунём частаваў? Чаму не забіў?»

Валока вельмі хацеў вытлумачыць, што і як сталася з ім у гэтым склепе, але мову ў яго адняло, і ён адчуваў, што зараз будзе пагібель. І сапраўды, Воранаў стрэліў, але болю Валока не адчуў і тады здагадаўся: медалі. Медалі яго ўратавалі ад кулі. Але ў той жа час у Воранава замест пісталета апынулася супрацьтанкавае ружжо — гэта ўжо была пэўная смерць.

«Здраднік! Пракурыў Радзіму? Вышэйшую меру табе!» — гучалі страшныя словы, і Валока азірнуўся ў пошуках выйсця. Але раптам аказалася, што ззаду роўнае поле, Воранаў некуды знік, і ён, Валока, як у даўнія, даваенныя часы, сядзіць у вясновы дзень на краі баразны, паставіўшы босыя ногі на мяккі вільготны глей. Побач шнурком сядзяць калгаснікі, яго аднавяскоўцы, у баразнах адпачываюць коні, а ззаду, па раллі, клююючы вялікіх белых чарвякоў, скачуць гракі. Усе кураць, жартуюць, снедаюць тым, што папрыносілі ім дзеці і жонкі, п'юць квас. Валоку таксама вельмі хочацца піць, але сняданка яму ніхто не нясе, бо яго дом чамусьці далёка адсюль. Ён адзін тут вайсковец, на ім салдацкія галіфэ і гімнасцёрка, толькі яна без дзягі, якая разам з аўтаматам і скаткай ляжыць воддаль на раллі, і на скатцы сядзіць вялікі, нейкі нерухомы чорны грак. Усе смяюцца і кураць, а Валока ведае, што яму ўжо сняданка не будзе, бо ён асуджаны да смяротнае кары, і што ўсё тое, што ляжыць пад граком, ужо здадзена старшыні, які зняў яго і са сталавання.

Пасля таго коні, людзі і гракі знікаюць, толькі той, нерухавы, усё сядзіць на скатцы і крумкае. Аказваецца, гэта воран. Валока палохаецца настойлівай загадкавай птушкі, прабуе ўскочыць, тузаецца і ачынаецца.

## 6

За пакутную ноч памутнела яго свядомасць, і Валока не адразу ўцяміў, дзе ён і што з ім сталася.

Перш-наперш яго здзівіла блізкая, устрывожаная страляніна. Недзе таропка патрэсквалі аўтаматныя чэргі, бахалі вінтоўкі. Аднойчы нават данёсся крык, але Валока не зразумеў, у якім баку ён раздаўся. Перамагаючы санлівую аслабеласць, баец расплюшчыў вочы.

У склепе было светлавата. Па-над сцяной, дзе яны выдзіралі зломак, ляжала новая куча друзу, — відаць, тая, што абрынулася на яго, — і над ею яркім дзённым святлом блішчала дзірка. Валоку адразу скаланула радаснае імкненне, ён тузануўся ў доле, сеў, але боль у галаве прымусіў яго пакутна схіліцца набок.

Як-колечы ён, аднак, утрымаўся, перамог слабасць, трошкі аддыхаўся і паварушыў у ботах адубелыя ад сцюжы ногі. Пасля ён усё ж сеў і паволі падняў галаву, абкручаную нейкай анучай, шкумат якой звісаў каля вуха. Валока асцярожна памацаў гэты скрываўлены турбан і тады, ураз прыпамятаўшы, што з ім сталася, з удзячнасцю падумаў пра немца.

Фрыц Хагеман сядзеў побач, прысланіўшыся спінай да пагнутае бэлькі, і спаў. Галава яго звесілася на плячо, валасы растрапаліся, ніжняя губа адтапырылася. Шчацінне на яго шчоках за ноч пабольшала, і ўвесь ён выглядаў вельмі стомленым, пажылым чалавекам. Ля яго ног стаяла каска з рэштаю вады. Валока адразу памкнуўся за ёю, але, узяўшы ў рукі, зноў апусціў на зямлю. Вада дужа смярдзела потам, і байца ледзь не зблажыла. Гэта была нямецкая салдацкая каска, сотні якіх валяліся на месцах баёў; хлопцы іх заўжды адкідвалі з-пад ног ботамі, — тым больш што траплялiся акрываўленыя, прастрэленыя, усякія. Каска адразу напомніла байцу пра варожае і агіднае.

Валока паморшчыўся, зноў прыслухаўся і агледзеўся. У куце за прыступкамі, на закіданай друзам падлозе, цямнела вільготная пляма, і чуваць было, як мерна капае недзе вада: кап-кап-кап. З трубы, пэўна, падумаў Валока і зноў паглядзеў на немца. Відаць, прытаміўшыся за ноч, той моцна спаў, і баец стаў напружана думаць у цішы, што яму рабіць далей.

Трэба вылазіць. Здаецца, ён здолеў бы сам як-небудзь выкараскацца адсюль — дзірка ёсць, — што яму цяпер немец!

Хай спіць, а прачнецца — хай сам дбае; без яго Валоку спакайней, ды і бяды менш будзе. Толькі... Толькі хто там, наверсе? Страляніна, здавалася, яшчэ болей пашырылася — чутна стала і ў адным баку, і ў другім, раз за разам непадалёк гахнулі тры выбухі. Хто гэта? Нашы? А калі немцы? Калі немцы — яму будзе кепска з яго праламанаю галавой, а калі нашы — пападзе немцу. Нарвецца на якога аўтаматчыка, не паспее і рук падняць, як той прашые яго чаргой. Хлопцы ёсць бязлітасныя, у многіх свежыя раны ў сэрцы — усё можа стацца.

Не, прыйдзецца, відаць, разам — здаць Фрыца ў палон, і на душы будзе спакайней.

Так разважаючы, Валока сядзеў каля немца і азіраў таго, соннага, без асаблівай варожасці да яго і без вялікай прыязнасці. Уначы было інакш — ён бачыў толькі яго асветлены запальнічкаю, звычайны, як і ва ўсіх, чалавечы твар, — а цяпер перад ім сядзеў немец у прапыленым, з адарваным пагонам мундзіры, у нізкіх скураных ботах, побач валялася ягоная каска з арлом на баку, не хапала толькі нямецкага аўтамата. Валокаў ППШ ляжаў зводдаль, і баец па салдацкай звычцы пацягнуўся да яго рукой, зачапіў за почапку і павалок да сябе. Магазін заскрыгаў па жарсцвянаму долу, і немец, раптам абарваўшы мернае роўнае дыханне, прачнуўся.

Спачатку ён таксама, відаць, звянтэжыўся, залыпаў вачмі, а затым, пазнаўшы байца, усміхнуўся і трохі здзіўлена азваўся:

— О, Іван, лебенд? Гут, гут.

Заўважыўшы, што Валока прыбраў сабе аўтамат, ён заклапочана варухнуў бровамі. У вачах адбіўся кароценькі неспакой, але ён зараз жа падавіў яго і зноў бадзёра, стараючыся як мага выразна вымаўляць кожнае слова, сказаў:

— Можна ідзі. Туда ідзі. Дзверы туда іх махен...

— Дзверы?

Валока хацеў усміхнуцца, але ў галаве ўраз балюча кальнула, і твар яго зморшчыўся ў пакутнай грымасе.

— Болна?

— Ладна, — паморшчыўся баец. — Жывы будзем — не памром.

Ён не хацеў паказваць немцу свае слабасці — крый Божа, не застагнаць — і, дапамагаючы сабе рукамі, устаў на ногі. У галаве адразу закалола, перад вачмі расплыліся рудыя кругі. Ён асцярожна і з вялікай натугай выпрастаўся, але

не прастагнаў, стрымаўся. Трошкі пастаяўшы так, аслабела ступіў па друзе да дзіркі ў куце. Фрыц хацеў падтрымаць яго, але Валока ўпарта адняў руку.

Кульгаючы, немец падаўся туды таксама, першы далез да дзіркі і зазірнуў угору; за ім узабраўся на друз і Валока. Яму балюча было закідваць голаў, і баец не змог паглядзець угору. У той час недзе паблізу пратрашчала чарга, другая, пачуліся галасы — нехта крыкнуў, пасля там, наверсе, загаварылі не ціха і не гучна, але так, што слоў разабраць было нельга. Валока сцяў сківіцы; немец, паўразявіўшы рот, з абвостраным неспакоем у шэрых вачах паглядзеў на байца. Яны нічога не сказалі адзін аднаму і на нейкі час замерлі пад тою праломінай. Зноў трывожнае, як подых пагібелі, пытанне «хто?» секанула па іх свядомасці.

Але гамонка наверсе спынілася — можа, людзі адбегліся, а можа, замоўклі, — яшчэ праз хвіліну аднекуль здалёк данесліся доўгія кулямётныя чэргі. Нешта там адбывалася. З пачаткам новага дня ўсчыналіся новыя схваткі, і Валоку ахапіў неспакой.

— Трэба лезці, туды, наверх, — паказаў ён немцу. Фрыц зразумеў, коратка пацвердзіў:

— Я-я, — і, пакульгваючы, замітусіўся, шукаючы, што б падкласці, каб зручней было дабрацца да дзіркі. З некалькіх кавалкаў бетону ён склаў невысокі падмостак, прымерыўся — трохі было нізка, тады ён скульгікаў уніз, прынёс каску і паклаў яе наверх. Так можна было ўхапіцца за край праломіны.

Ён і сапраўды ўхапіўся і нават, прыўзняўшыся на руках, выглянуў, але ў нерашучасці апусціўся зноў. Зноў на імгненне сустрэліся іх вельмі сур’ёзныя позіркі, але ніводзін нічога не сказаў другому, — абодва толькі слухалі, як прастор наверсе калацілі стрэлы, і стараліся як-небудзь угадаць, хто там. Толькі ўгадаць не было як.

Тады немец нахмурыўся, рашуча напяўся, скочыў, высіліўшыся на руках, упёрся здаровым каленам у край і апынуўся наверсе.

Некалькі секунд ён стаяў там, азіраючыся, а знізу на яго напружана глядзеў Валока. Баец з натугай трымаўся на нагах, у вачах хісталася наваколле, але цяпер — адчуваў ён — рашалася найбольшае, і ён з першай жа секунды не хацеў прапусціць яго. У Валокавай душы раптам узнялося нешта крыўдліва-пакутнае, нейкае адчуванне сваёй аслабеласці,

падумалася нават, — немец падасца адсюль, і ён застанецца адзін у гэтай яме. Валока адчуваў у сабе ўжо выразны зачатак прыхільнасці да гэтага незвычайнага ворага, — цяпер ён быў яму гэтак патрэбны, як бывае патрэбны ў бядзе таварыш.

Толькі немец нікуды не бег. Ён пераступіў ботамі ля самае дзіркі, агледзеўся, з-пад абцасаў шархотка пасыпаўся ў склеп пясок, і затым з дзіркі ледзь не па локаць высунулася яго рука.

— Іван, шнэль! Быстра!..

Валока ўзлез на падмостак, падняў насустрач руку, але немец незадаволена пераступіў, махнуў кісцю — спярша ён збіраўся пераняць аўтамат. Баец зняў ППШ з пляча, бяздумна сунуў яму і раптам спалохаўся. Аутамат апынуўся ў немца, і Валоку — кароценька, на імгненне — здалося: абхітрыў! Аднак немец не збіраўся ў яго страляць, а з салдацкай беражлівасцю да зброі паклаў ППШ на дол і працягнуў у дзірку абедзве рукі.

Напяўшыся, Валока даў свае, немец моцна ашчаперыў іх, пацягнуў, баец упёрся ботам у сцяну, да болю сцяў сківіцы, каб не застагнаць, і бокам пераваліўся цераз край праломіны.

Так абодва яны апынуліся наверсе ў руінах вялізнага дома, канец якога, задраўшы ў неба ўцалелую тарцовую сцяну, стаяў, нібы агромністы помнік разбурэнням вайны. На сцяне другога ці трэцяга паверха коса вісела карціна ў пазалочанай раме, неяк трымаўся яшчэ пасечаны асколкамі габеленчык з ласямі; зачапіўшыся за нешта, тырчаў дагары нагамі ложак з металічнаю сеткай. У выбітым, недарэчным цяпер на выгляд акне варушылася на ветры фіранка. Ад вуліцы гэтае месца адгароджвала другая сцяна, якая рухнула ўнутр дома і вялізнаю плахай касабочылася ўгору з-пад самых іх ног. Там, недзе за вуліцай, у праяснелым ужо ранішнім небе ціха краталіся верхавіны ліп, у скверы ля якога ўчора хаваўся ад бомбаў Валока.

Яны трошкі аддыхаліся, услухаліся: зноў стала выразна чуваць, як блізка на вуліцы, страляючы, беглі людзі. Данесліся і крыкі, толькі Валока не разабраў слоў, а немец, раптам устрапянуўшыся і размахваючы рукамі, кінуўся па друзе ўгору. Аднак бегчы ў ламаччы было не дужа зручна, ды ён яшчэ і кульгаў, але ўсё ж далёка адарваўся ад байца, які, ледзьве перастаўляючы ногі ў грудах цэглы, брыў следам. Фрыц першы дабраўся да таго месца, адкуль можна было са-

скочыць на вуліцу, выпрастаўся ўсёй сваёю паджарай постаццю на фоне нябеснае яснасці, і тады Валока вельмі выразна і непапраўна, як смерць, пачуў узрадаваныя галасы ворагаў:

— Хагеман! Хагеман! Ком! Ком! Хагеман!

Валока чакаў іх, увесь ранак быў гатовы на горшае, і ўсё ж у гэтую хвіліну яны абрынуліся на байца неспадзявана. Ён асеў у дол, а Фрыц, крутнуўшыся да яго на цагляным абрыве, з радасцю на раптоўна ажыўленым твары крыкнуў:

— Іван! Іван! Ком!

І памкнуўся скочыць, каб бегчы туды, куды звалі яго таварышы.

— Стой! — не так гучна, але з няскоранай рашучасцю прамовіў Валока. — Стой!

На момант на немцавым твары мільганула разгубленасць, нават боль, а можа, спалох, затым ён узмахнуў у паветры рукамі і знік па той бок руін.

Валока таксама на момант быццам самлеў, разгубіўшыся ад такой нечаканасці, а затым, не зважаючы на сваю знямогу, прыпадаючы на рукі, бягом кінуўся наверх, туды, дзе знік Фрыц.

Хагеман далёка не адбег, вуліца таксама скрозь была завалена рэшткамі дамоў, і ён пералазіў цераз цагляныя глыбы якраз пад тым месцам, дзе з’явіўся Валока. Насупраць, па-над чыгуннай агароджай скверыка, адстрэльваючыся і прыгінаючыся, беглі немцы.

— Стой! — крыкнуў Валока, убачыўшы яго. — Фрыц! Стой!

Немец аж скалануўся ад яго голасу, прыўзняў галаву — твар яго, здалося Валоку, зморшчыўся, нібы ад болю. І немец на момант спыніўся, зірнуў на байца, затым — на скверык, дзе немцы — усе, колькі іх было, — прымарудзілі хаду, некаторыя выпрасталіся, здзіўлена ўгледзеліся ў іх двух. Але гэта толькі на імгненне. Зараз жа там загаварылі, і зычны камандзірскі голас, як бізуном, ляснуў па руінах:

— Хагеман, ком! Шыссен!

Фрыц кульнуўся цераз глыбу, што перагароджвала яго шлях да сваіх, а Валока, адчуўшы, што зараз усё скончыцца, але ўжо не думаючы пра сябе, а толькі з усяе свае ўпартасці не жадаючы аддаць ворагам гэтага чалавека, стрыкнуў панад ім чаргою. Кулі з пералётам і недалётам у розных месцах абсыпалі навокал яго руіны.

Тады немец яшчэ раз ускочыў, крутнуўся, зірнуў угору на Валоку — у яго вачах адбіўся ўжо страх і азвярэлая лютасць чалавека, у якога не было выйсця. Баец, сцяўшыся, упаў між ламачча, не зводзячы з немца позірку, і ўбачыў, як той ліхаманкавым рухам выхапіў нешта з кішэні, ірвануў другою рукой і, каратка размахнуўшыся, шпурнуў у яго. Яно, гэтае невялікае і імклівае, чорнаю птушкай мільганула ў ранішнім небе і, не даляцеўшы да Валокі, гулка-каратка шчоўкнула.

«Граната!» — чамусьці са спазненнем бліснула здагадка, і Валока, адчуўшы канец і не маючы ні сілы, ні якое магчымасці ўратавацца, ірвануў да пляча аўтамат.

Чаргі ён, невядома чаму, не пачуў, у нейкую долю секунды згледзеў толькі, як апруцянела хіснуўся Фрыц Хагеман, і ў той жа час вышэй ад Валокі, ударыўшыся ў прасценак, аглушальна рванула граната. Гарачы імпэтны ўдар сцебануў яго па плячы, і зараз жа ўсё патанула ў пыле, які ўдушлівым воблакам накрыў байца.

Пыл яго і выратаваў.

Валока адчуў, як немцы ўдарылі з аўтаматаў, некалькі куль раскрышыла цагліны побач, але ён, прыгнуўшыся, з раптоўным спрытам ірвануўся назад, упаў, ускочыў зноў, перакаціўся цераз вялікі зломак, аббег глыбокую варонку, з якой яны толькі што вылезлі, і, запаволіўшы хаду, выбраўся з руін на закіданы друзам падворак. Па дарожцы, вымашчанай бетоннымі пліткамі, дабег да шнурка нейкай калючай загарадзі, прадраўся праз яе гушчар і, падлезшы пад прадраную драцяную сетку, апынуўся ў нейкім вузенькім незнаёмым правулку.

Яго адразу ледзьве не збілі з ног хлопцы-аўтаматчыкі. Гучна ляскаючы падэшвамі, яны шалёна беглі некуды, — мабыць, напярэймы тым немцам, што адступалі ля сквера. Задні страхавіта зірнуў на яго скрываўленую галаву, але змоўчаў, не сказаў нічога. Ён быў знаёмы, гэты хлапец з рабацінкамі на пераноссі і яснымі насцярожанымі вачмі, але Валока не здолеў прыпамятаць, дзе ён бачыў яго, і адчуў, як забалела параненае плячо.

Правулак быў вузенькі і зусім пусты. Валока паглядзеў у адзін канец яго, у другі і, сцяўшы пад пагонам рассечанае асколкам плячо, хістаючыся, пайшоў туды, адкуль беглі аўтаматчыкі. Угары, у ясным вясновым небе, бахала, сіпела, калацілася гулкае рэха бойкі.

«Што ж гэта? Як жа гэта?» — толькі цяпер акрэслілася ў яго галаве яшчэ няўцямная думка-здзіўленне. Узрушаны і змардаваны, ён нечага ніяк не мог сцяміць ці, можа, не мог чагосьці ўспомніць — разгарачаным нутром ён толькі адчуваў, што сталася вялікая, яшчэ не ўсвядомленая да канца несправядлівасць, перад магутнаю сілай якой і ён, і Фрыц Хагеман былі бездапаможнымі. І яму было вельмі пакутна ад таго і хацелася завыць ад крыўды, якая ашчаперыла і душыла яго.

*1961*

## НА ЧОРНЫХ ЛЯДАХ

Называецца — даваяваліся!..

Тое, што яны даваяваліся дарэшты, да астатняй магчымасці, камандзір зразумеў не цяпер і не ўчора, як іх прыціснулі да ракі і секлі ў кустоўі з кулямётаў, а яны толькі агрызаліся рэдкімі вінтовачнымі стрэламі. І нават не тыдзень таму, як змардаваныя, галодныя, невялічкаю групай, рэштаю батальёна туляліся па лесе, не ведаючы, куды паткнуцца, дзе раздабыць правіянту, табакі, пару начных гадзін адпачыць у спакоі. Іхнюю трагічную нявыкрутку камандзір выразна адчуў ужо на пачатку вясны, як стала зразумела, што гэты раён абкладзены з усіх бакоў — ва ўсіх блізкіх і далёкіх вёсках, на хутарах і фальварках поўна чырвонаармейцаў, якія браліся за іх няспешна, абачліва, грунтоўна. Тыдзень таму іх выкурылі з наседжанага хваёвага грудка ля балота, не далі перайсці рэчку ў суседні раён, яны ледзьве адарваліся ад цэлага палка чырвоных. Увесь дзень учора бахала-тарахцела на тым баку лесу, спярша гучна тахкалі стрэлы, гайдалі лесавое рэха кулямётныя чэргі, а пасля, пад вечар, усё неяк неўпрыцям сціхла. Мяркуючы па ўсім, прыйшлі кранты і на групу Улашчыка, якая спрабавала атабарыцца ў тым баку лесу. Значыцца, і там не было паратунку, як не было яго тут, каля Морачы, як не было ў гэтых лясах, у акрузе — на ўсёй Беларусі. Яшчэ ўзімку, седзячы ў заснежаных лесавых нетрах, яны спадзяваліся ператрываць халады, дачакацца вясны, калі, можа, яшчэ ім пашчасціць. Ды не пашчасціла. Па цяплу, па зялёнай траве і тым стала лацвей, і тыя актывізаваліся, згрупаваліся, абкружылі і пачалі

паляванне па ўсіх правілах палявой навукі — бы на ваўкоў. Во тады і стала зразумела, што іхнія дні палічаны, не сёння, дык заўтра яны ўсе палягуць.

Ад самае раніцы яны аслабела валакліся па лесе, кожны стараўся не дужа адстаць ад пярэдняга, а ўсе разам — ад камандзіра, які то хістка сігаў наперадзе, то спыняўся сярод хваін, слухаў, азіраўся. Азіраючыся, ён паварочваўся ўсім целам, бо не мог паварушыць галавой на балючай, абвязанай брудным рушнікам шыі. Параненая яшчэ на пачатку зімы шыя ўсё не гаілася, гніла, рудая жыжа цякла з яе па грудзях, на жывот, павязка заўжды была мокрая. Навокал пакуль што было ціха і глуха ў гэтым глухім кутку лесу, толькі хваёвы шум слаўся ўгары, мерна гайдаліся хвойныя вяршаліны; часам ціха патрэсквала сухое голле пад нагамі тых, хто ззаду аслабела дабрыдаў да пярэдніх. Тады, па чарзе спыняючыся ля камандзіра, усе слухалі, азіраліся, бы штосьці выглядваючы па баках. Яны не размаўлялі цяпер, ды і даўно ўжо не размаўлялі паміж сабой, бо ўсё было перагаворана, вядома; спрачацца не было пра што. Есці таксама ў іх не было нічога, не было чаго закурыць. З боезапасу засталося ўсяго па два-тры патроны на вінтоўку ды шэсць патронаў у барабане камандзіравага нагана. Гэта і ўсё. Адбівацца ў іх не было чым.

Але добра яшчэ, калі ўсіх пераб'юць. А калі каго возьмуць параненым, непрытомным, павязуць у горад ды пачнуць вызнаваць, чый, каму якая радня, хто бацькі, жанкі, дзеці? Тады што? Не, яны даўно ўжо ведалі, што пагібель — не найгоршае з усяго, што нарыхтаваў ім іхні паўстанцкі лёс. Горш, калі яны, гінучы, пацягнуць на пакуты іншых, тых, дзеля каго, па сутнасці, распачалі ўсё тое. Нават забітымі яны не знойдуць паратунку ад бальшавікоў. Як той Аксяневіч з Курбыкам, што асталіся ля ракі. Забітых іх павезлі ў горад — на апазнанне. Тры дні іхнія целы ляжалі на фурманцы ля штаба, куды па чарзе ганялі гараджанаў, вяскоўцаў, і нехта іх апазнаў. Апазнаў на гора бацькам і родзічам, якім той жа начы павязалі за спінай рукі і павезлі. Куды — хто ведае. Таму яны наважыліся. Доўга не абмяркоўвалі, камандзір сказаў, і ўсе пагадзіліся, выйсця ў іх не было. Зброю — вінтоўкі і наган — пакінуць з сабой, а паперы, якія дакументы раніцай сабралі да купы і спалілі ў ядлоўцы. І засталіся без імёнаў і прозвішчаў, без роду-племя — восем абадраных, згаладнелых, аброслых барадамі валацуг, што вырашылі сёння канчаць...

Рабіць тое трэба было як найхутчэй, пакуль тыя з начы, здаецца, згубілі іх след у гэтым лесе, і яны адарваліся ад даганятых, неяк заблыталі на балацявіне сляды і выйшлі ў ціхі лесавы край. Хаця тая цішыня магла быць здрадлівай, кожную хвіліну яны рызыкавалі наскочыць на бальшавіцкі ланцуг ці засаду. Зноў жа доўга брысці ім не выпадала, камандзір ведаў, што тут недзе павінны пачацца Чорныя ляды, а далей, можа, вярсты праз тры, баравы хвойнік скончыцца, пачнецца лугавы прасцяг з дарогай — там ужо, напэўна, іх чакаюць. Ну але пакуль што, здаецца, ім далі нейкі перадых, у лесавой глушы нідзе не было чутна ні голасу, ні крыку, ні стрэлу. Толькі б нагледзець здатнае месца, якую баравінку, пагорачак. Але ў гэтым раўнінна-забалочаным краі нідзе ніякай баравінкі — спрэс дрымучыя лясныя нетры, бярозы ды сосны, імшарыны, пясчаны, парослы ядлоўцам дол. І яны валакліся, аж покуль наперадзе не паказаўся прагал, зверху шэра засвяцілася хмарнае неба, у доле непадалёк відаць стала нагрувашчанне карчоў, звалочаных сюды з недарасцярэбленых лядаў. Мясціна, канешне, не самая лепшая, падумаў камандзір, але ўжо якая ёсць. Брысці далей было зусім рызыкова.

Ён стаў, паазіраўся. Адразу ж за ім спыніўся і запытальна зірнуў на яго той, што ішоў следам, — мажны, хоць і малады яшчэ чалавек са святлява аброслымі шчэццю пашчэнкамі, апрануты, як і камандзір, у доўгі, са скарэлымі поламі шынелак.

— Што, тут, камандзір?

— Тут.

— Можа б, далей?

— Не, далей нельга, Мяцельскі. Можам не ўправіцца. Адна ж рыдлёўка.

Самотны цень мільгануў і прапаў у светлых вачах Мяцельскага — той быў камандзіраў памочнік і цяпер без загаду зразумеў найпершую сваю задачу.

— Казак, давай! — стрымана гукнуў ён таго, хто валокся трэцім у гэтым разбрыдным страі. То быў нізенькага росту, нявідны паставай чалавечак у шэрай паддзёўцы са стрэльбай на рамяні і кароткай, засунутай за дзягу рыдлёўкай. Болей рыдлёўкі ў іх не было ні ў каго. На хадзе вымаючы яе з-за спіны, Казак падышоў да начальнікаў і спыніўся.

— Ну што? Капай!

Без роспыту і лішніх слоў Казак пачаў раскопваць мяккую імшарыну, пад якой апынуўся светлы, амаль белы баравы жвір. Казак быў чалавек паслухмяны, ніколі не пярэчыў начальству, што скажуць, тое і зробіць. Да таго ж зусім негаваркі, болей маўчаў, і ніхто ніколі не ведаў, што яго найболей турбуе. Нават ці турбуе наогул. А мабыць, турбавала, як во цяпер, калі ён дужа хацеў курыць. Есці хацеў таксама, але голад для яго быў пачуццём звыклым, ён нямала нагаладаўся за жыццё, але каб не курыць?.. Без табакі ён доўга не мог, ён тады проста маўкліва марнеў, і на абвялым, у рэдкім валассі твары яго была невымоўная пакута.

Іншыя, пакрысе падыходзячы да гэтай мясціны, спыняліся, моўчкі, з насцярогаю пазіралі ў раскапаны дол, чакалі. Мабыць, усе ўсё разумелі, тлумачыць нікому не было патрэбы. Мяккі, парослы беламошнікам жвір ляцеў з казаковай рыдлёўкі пад іхнія ногі — на старыя змакрэлыя боты, разлезлыя аўстрыйскія гамашы і нават лапці з аборамі, як на нагах у Дзеда — дужа чорнабародага, з чорнымі густымі брывамі шарагоўца. Не страсаючы абсыпаных жвірам лапцей, той адышоўся наводдаль і апусціўся на дол. Галава яго неяк сама па сабе ўгнулася, унурыўся позірк, вусны заварушыліся, нібы творачы святую малітву. А можа, і не малітву, можа, ён проста штось гаварыў сабе ці людзям. Разабрацца ў тым, аднак, не было каму, кожны імкнуўся засяродзіцца ў сабе. Хіба апроч Кажухара. Гэты меў такое прозвішча, бо некалі шыў кажухі, у адным з якіх, мабыць, быў і цяпер — несамавітай, счарнелай ад вільгаці апратцы з аблезлым каўняром. За пазухай перад сабой ён ашчадна трымаў правую, тоўста абкручаную нейкай анучай руку. Тыдзень таму на шашы яе добра-такі лупанула бальшавіцкая куля, і цяпер Кажухар дужа пакутаваў. Са скрыўленым ад болю, даўно не голеным тварам ён патупаў каля людзей ды сеў побач з Дзедам.

— Ну во, братка, як яно ўсё атрымалася...

Яму відочна хацелася пагутарыць, пабедаваць, каб хоць як заглушыць боль у руцэ, але Дзед не адказаў — таму, мабыць, балела сваё.

«Атрымалася!» — паўтарыў у думках Ігар Забела, што ачмурэла стаяў насупроць. Трэба б неяк падбадзёрыць сябе, але ў яго проста не знаходзілася для таго слоў. Вусны яго на момант здрадліва скрывіліся, вочы гатовы былі пакрыцца

слязьмі. Нeяк, аднак, ён намогся, асіліў нечаканую слабасць, цвярдзей сашчапіў голыя юначыя пашчэнкі і адвярнуўся.

Неўзабаве да выразна азначанай у імшаніку яміны падышлі і астатнія; хто стаяў адвярнуўшыся, хто апанурана пазіраў на ўвішнага Казака ці сабе пад ногі. Аўстрыяка нядоўга пастаяў сярод іншых ды, забіраючы паўколам навакол, памалу пайшоў па лесе. Каб стрымаць раптоўную немач, ён пачаў пазіраць угору, між хваёвых вяршалін, што ціха і мерна пагойдваліся над голым яшчэ, бязлістым веццем бяроз. Недзе там, у глыбіні неба, плылі і плылі шэрыя веснавыя аблокі, што неслі кудысь веснавыя дажджы — на азіміну, пад ярыну, на родныя палі і гоні. Яму ж, Аўстрыяку, ужо не прыйдзецца выйсці на поле, натрудзіць далані аб ручкі плуга, удыхнуць хмельны пах ворнай зямлі. А так хацелася... Тое карцела ўвесь час, снілася па начах. Як тры гады гібеў у пацуковых акопах той мікалаеўскай, як галадаў у бараку аўстрыйскага палону. Затым як уцякаў дамоў, прабіраючыся начамі праз чужыя палі і пералескі.

Камандзір, крокі на тры адступіўшы ад ямы, як заўжды, з засяроджана стрыманым выглядам думаў сваю неадчэпную думу пра гэтых людзей. Цяпер ім патрэбна была якая гадзіна спакою, каб не пашкодзілі тыя. Праўда, пакуль было ціха, але ён не меў ніякай гарантыі, што цішыня задоўжыцца і дасць магчымасць зрабіць задуманае.

Вядома, усё тое было жахліва, не па-чалавечы і не па-боску, напэўна, але што ж было ім рабіць? Увесь гэты жах утварыўся не па іхняй волі — д’ябал ці лёс падвялі іх менавіта да такога выніку. Іншага не выпадала. Іншы быў яшчэ болей жахлівы, з двух жахаў яны выбралі найменшы. Каб толькі давесці ўсё да канца, а там... А там хай жыве Беларусь! Без іх.

Напрыканцы ўсяго надта карцела абвінаваціць іншых, тых, каго цяпер тут не было. Але камандзір адчуваў, што не трэба нікога вінаваціць — ні зачыншчыкаў, ні кіраўнікоў, рабілі ўсе, як умелі, хоць умельства таго і бракавала. І ў кіраўнікоў з’езда, і ў камісара Жаўрыда. Але ўсё — ад шчырага сэрца, дзеля карысці народа. А што да камандзіраў палкоў, дык тыя (можа, за выключэннем аднаго здрадніка) і зусім паводзілі сябе па-геройску, шчыравалі, не шкадуючы ўласных жыццяў. Ды марна, нічога не пайшло на карысць. Усё на згубу. Як заўжды, масы засталіся ўбаку, не падтрымала іх Беларусь. А супраць, не памарудзіўшы, выступіла сіла, якую яны, зда-

ецца, не ўлічылі. А галоўнае, змарнавалі самы дарагі час — на размовы-перамовы, узгадненні, паразуменні. На дэмакратыю. А тыя не перамаўлялі, тыя знай білі. Цяпер вось расплачвацца. Як заўжды на вайне, галоўная плата — кроў, і плоціць той, хто найменш вінаваты. Як яны тут — былы камандзір роты ды гэтыя дзядзькі-шарагоўцы. А яшчэ хлопчык... Камандзір колькі ні думаў, ніяк не мог пагадзіцца з пагібеллю Валодзькі. І не ведаў, што можна прыдумаць, як схітрыць, каб неяк зберагчы ягонае жыццё. Аднаго з усіх. Якія цвёрда рашылі, калі тое — дык усім разам. Без выключэння. Бо выключэнне знайшлося б не для аднаго. А ім трэба было не пакінуць слядоў. Яно, мусіць, і правільна, і маральна. Ды во гэты падлетак, ён блытаў усе іх лагічныя меркаванні і пратэставаў супраць пагібелі. Ці, можа, гэта ў ім самім бунтавала яго даўняе вучыцельскае мінулае, — хто знае.

Аднекуль здаля, з хвойніку, пачулася трывожнае сарочае сакатанне, пасля яно стала бліжэй, да яго далучылася новае — збоку. Камандзір незадаволена ўгледзеўся ў высокае голле хвой, і Валодзька тады згледзеў сарок. Дзве іх ужо зляцеліся разам і, пераскокваючы ў голым суччы бярэзін, сакаталі і сакаталі, трывожачы людзей. Валодзька падхапіў з долу ламачыну, падбег да іх бліжэй і шпурлянуў яе ўгору. Але сарокі толькі пераляцелі на іншыя дрэвы. Хлопец вярнуўся да ямы.

— Не бегай, Валодзя, — ціха сказаў да яго камандзір.

— Раскрычаліся на ўвесь лес.

— Хай крычаць...

Можа, і праўда, хай крычаць, цяпер ужо ўсё адно, абы толькі не паказаліся тыя. Валодзька ўгледзеўся ў лесавыя нетры — быццам нікога нідзе не было, значыць, гэта сарокі — на іх.

Тым часам Казак накапаў ужо ладныя кучы жвіру з абодвух бакоў і сам паглыбіўся ў яміну амаль да каленяў. Здаецца, ён няблага ўгрэўся, аж спатнеў лоб пад нізка насунутай на лоб аблавушкай. І як чарговы раз выпрастаўся, каб шапку спіхнуць на патыліцу, у яму скочыў Валодзька.

— Дай я...

Без вялікай ахвоты Казак аддаў хлопцу кароткі тронак рыдлёўкі, якую Валодзька з імпэтам увагнаў у жвір.

Як Казак яшчэ пачаў капаць, Валодзька быў побач, і яго біла дрыжака, нейкая нутраная ліхаманка, хоць ён і не адчуваў

сцюжы. Увогуле ў той дзень не было холадна. Мусіць, каб як саўладаць з сабой, ён прагнуў хоць якога дзеяння, імкнуўся чымсьці заняць сябе. Тыя дні, як і ўсе, ён быў галодны, ушчэнт зморany, мінулае ночы заснуў усяго на гадзіну — сядзеў у дазоры. Але цяпер немаведама адкуль у яго ўзялося сілы, ён капаў, бы машына, — хутка і напірыста, кідаў і кідаў у бакі зямлю, не паднімаючы галаву ад долу і стараючыся ні пра што не думаць.

Думкі, аднак, самі лезлі ў галаву, і самыя неадчэпныя з іх былі пра сябе. Не хацелася паміраць Валодзьку Сулашчыку, хацелася жыць. Ды, мусіць, не выпадала. Як не выпадала жыць ягонаму бацьку, шмат каму з шарагоўцаў ды камандзіраў іхняй Слуцкай брыгады. Некаторыя, можа, і ўберагуцца, думаў Валодзька, асабліва па той бок польскай мяжы, але не ўсе. Валодзька ўжо чуў, што камандзіраў ды кіраўнікоў паўстання палякі выдалі бальшавікам, некаторых парастралялі ў Слуцку, іншых сем’ямі вывезлі немаведама куды на ўсход. Пэўна, вывезлі і ягоную старэйшую сястру Сашу з дзяўчынкай — ведама, за такога бацьку, брата ды падпаручніка-мужа, што адышоў за Лань, па галоўцы бальшавікі не пагладзяць. Было дужа трывожна і клопатна і за сябе, і за іншых — родных і блізкіх, якім ён нічым памагчы не мог. Хіба апроч свае смерці.

У гэтай невялічкай прымоўклай групе вайскоўцаў нутраная ліхаманка біла не аднаго Валодзьку Сулашчыка, бадай, усе яны ледзьве стрымлівалі нервовую дрыжаку. Але, можа, самы нецярплівы з іх быў Аўстрыяка. Здаля абышоўшы яму, ён толькі аднойчы зыркнуў на Валодзьку і падумаў, што капаюць яны надта марудна. Так можна і не паспець і дачакацца горшага. Але ў яго ўжо не ставала сілы трываць. Ён угаворваў сябе: хутка ўжо скончыцца, усё супакоіцца назаўсёды. Але спакою ад таго не прыбаўлялася, рабілася ўсё нясцерпней. Хоць у думках ён і казаў сабе: ну чаго шкадаваць? Жыцця? Дык якое гэта жыццё? Гэта пекла, боскае пакаранне, а не жыццё. Дома, у недалёкай адсюль вёсцы наўрад ці чакае яго нялюбая, чужая жонка з чатырма чужымі дзяцьмі, маючы зямлю, тая прыдбае і новага мужа. Родны брат застанецца адзіным гаспадаром на бедным надзеле, і ніхто яму болей не будзе пагражаць дзяльбой. Хіба паплача крыху і супакоіцца ў звыклых клопатах пра дзяцей ды гаспадарку ягоная сястрыца. Усе як-небудзь пражывуць і без яго, — як жылі без яго дагэтуль. Калі ён

не пашкодзіць. А можа, і надта пашкодзіць, калі бальшавікі дазнаюцца, як ён ліха біў іх пад Мазыром. Удалыя справы былі там у войску Булак-Балаховіча, хвацкі камандзір, не тое, што гэтыя... Гэтыя болей наконт палітыкі, усё пра Беларусь... Тое няможна, гэта не дазваляецца. А генерал даваў волю і паваяваць, і пагуляць. Калі як выпадала. Праўда, Аўстрыяку выпала не шмат — хіба ён да таго імкнуўся? Ён імкнуўся да міру, хацеў зямлі, ды не збылося. Як прыйшоў з вайны на свой бядняцкі надзел, усё ў яго пайшло прахам. На тым бацькоўскім надзеле не дужа дбайна гаспадарыў старэйшы брат Казімір з трыма сынамі, якія і далі яму гэтае прозвішча — Аўстрыяка. Спярша браты хацелі падзяліць гаспадарку і зямлю, але што б у іх атрымалася з тых чатырох дзесяцін бацькоўскай зямлі? Мусіць, нічога здатнага, і Аўстрыяка адступіўся. Дужа яму не хацелася, але мусіў прыстаць прымаком да аўдавелай Аўдохі, што жыла пры бальшаку на водшыбе ад вёскі. Зямлі яна мела трохі болей, чым яго брат, мужык не прыйшоў з вайны — памёр недзе ў Сібіры ад тыфу. У хаце па земляной падлозе ў яе бегала чацвёра малых дзяцей, а галоўнае — дужа непрывабная была тая Аўдоха, не ляжала да яе салдацкае сэрца Аўстрыякі. Ды мусіў. Ажаніўся і стаў прывыкаць да іншага, не халасцяцкага жыцця. Пасеяў азіміну, упершыню адчуўшы сябе гаспадаром, прывёў да ладу гумно і назапасіў дрэва на дошкі для падлогі. Увосень малацілі, для ўпраўкі наняўшы памагатага з вёскі. Ураджай выдаўся неблагі, зернем засыпалі ўсе карабы ў Аўдоцінай варыўні. І тады неяк ранній восеньскім адвячоркам у хату завіталі трое. Ён не здзівіўся: сядзіба была пры дарозе, на падворак часцяком забягалі людзі — то напіцца вады, то пагрэцца, перакурыць. Але гэтыя завіталі не пакурыць, — нядоўга патупаўшы па хаце, уручылі яму абавязацельства на продразвёрстку, сказалі, каб праз пяць дзён здаў дваццаць пудоў збожжа на патрэбу Чырвонай Арміі. Ён злосна пасварыўся з імі, сказаў: скулля вам, во ў мяне дзеці, іх карміць трэба, а Чырвоная Армія хай пасее і сажне, а не рабуе сялян. Тады, можа, праз тыдзень, якраз у нядзелю, як яны з Аўдоццяй сабраліся на кірмаш купляць парасят, з бальшака на сядзібу насыпаўся атрад чырвонаармейцаў. За дзесяць хвілін яны выграблі з варыўні ўсю збажыну, чамусьці далі яму распісацца і паехалі ў горад. А ён, не распрэгшы каня, сеў на прызбу ды і праседзеў да паўдня. Было чаго столькі пакутаваць на вайне ды ў палоне,

ісці ў гэтыя прымакі, ірваць кішкі на запушчанай гаспадарцы, каб апынуцца на зіму жабраком. І што гэта за ўлада настала, як з ёю жыць? Ён так імкнуўся дадому, на сваю Беларусь, а тут аказалася горш, чым на вайне, у палоне. Там хоць быў вораг, там прымушалі рабіць, нават каралі смерцю. Але там кармілі. А чым тут ён накорміць гэтых рабят?

Як зрабілі мітынг у Семежаве, ён прыбег дадому, дастаў з падстрэшша ў гумне польскі карабін і запісаўся ў паўстанцкі полк. Што-што, а ваяваць ён яшчэ не адвучыўся і думаў, што толькі так цяпер і можна чагось дамагчыся.

У панылым задуменні Аўстрыяка далекавата адышоўся ад астатніх, пасля таропка вярнуўся, але яма ўсё была не гатовая. Угнуўшы шырокую спіну, там размашыста шпурляў рыдлёўкай Мяцельскі; стоячы збоч, цярпліва чакаў камандзір.

— Ну ці хутка вы? — са скрухай вырвалася ў Аўстрыякі.

— Паспееш, — нядобразычліва буркнуў з ямы Мяцельскі.

Аўстрыяка паныла адышоўся — паспееш! Ім трэба як найглыбей. Быццам тое было важна для яго — як глыбока ён будзе ляжаць у зямлі ці нават застанецца дзе незакапаны ў кустах. Мёртваму, мусіць, адзін чорт. Але гэты доўгі клопат з магілай выцягваў у Аўстрыякі ўсе жылы, ён ужо ледзьве трываў. «Добра яшчэ, калі не наладзяць багамолле, — думаў ён. — Дзед ці Кажухар часам не прэч былі памаліцца». А камандзір можа яшчэ і завесці прамову-казань пра бацькаўшчыну, што таксама не мёд. Не любіў Аўстрыяка марудзіць ні ў якой справе, не той меў характар. А зрэшты, якога д’ябла яму зараз марудзіць? Каго цяпер яму трэба слухаць? Ужо цяпер ён сам сабе гаспадар, тым больш што ў карабіне ў яго засталіся тры патроны. Яму ж хопіць і аднаго.

Падумаўшы так, ён адкінуў полы свайго шызага, з двума радамі гузікаў аўстрыйскага шыняля, сеў на шорсткі белы імшанік і сцягнуў з адной нагі бот. Брудная сапрэлая ануча сама раскруцілася на ступні, ён даслаў патрон у патроннік і вялікім пальцам нагі намацаў спускавую скабу. Каб не разбурыць раптоўны намер, нават не зірнуў у той бок, дзе былі астатнія, рашуча ціскануў на спуск.

Ягоны знянацкі стрэл змусіў усіх скалануцца. Крутнуўшыся ад ямы, мусіць, адразу зразумеў усё камандзір.

— Не дачакаўся! — сказаў ён, і відавочны боль ценем мільгануў па ягоным схуднелым твары. — Забела і ты, — кіўнуў ён Казаку. — Давайце яго сюды.

Не дужа, аднак, рашуча двое шарагоўцаў падышлі да нерухомага, скорчанага на баку Аўстрыякі, з разбітай пашчэнкі якога лілася кроў — на цёмны, зашмальцаваны каўнер шыняля, на плячо, густа капала ў мох. Нейк няўмела яны падхапілі Аўстрыяку за рукі, пацягнулі нагамі па доле да ямы. Казак перад тым хацеў узяць карабін, ды Забела нецярпліва гыркнуў: «Начарта табе», і той кінуў зброю на дол.

Яма ўсё яшчэ не была гатовая, мусіць, сапраўды трэба было яе паглыбіць на аршын ці болей. Пасля нядоўгага перапынку, выкліканага Аўстрыякавым стрэлам, Мяцельскі зноў налёг на рыдлёўку. Яму таксама трываць было трудна, не ставала сілы чакаць, карцела скончыць усё як найхутчэй. Тое, што Аўстрыяка апярэдзіў усіх, яму не спадабалася — які разумны! Не стрываў. Добра яшчэ, калі ягоны стрэл не пачулі тыя, што недзе засталіся ззаду. А калі ўчулі? Вельмі нават проста яны тут могуць не справіцца са сваёй задумай ды трапяць у іншую пастку. Яшчэ страшнейшую.

Але Мяцельскі ўжо ведаў, што жывым яму трапляць у бальшавіцкія лапы нельга, аднойчы ён ужо быў у тых лапах. І хоць тады левыя эсэры былі ў хаўрусе з бальшавікамі, да яго прычапіліся, быццам ён абразіў камісараў. А ён і праўда абураўся на мітынгу за тое, што бальшавікі разагналі Усебеларускі кангрэс, на які выбіралі дэлегатаў усе — і армія, і сяляне, і работнікі. Вылучалі, абмяркоўвалі, галасавалі. Мяцельскі быў такі рады, што ад іхняе роты прайшоў ягоны сябра прапаршчык Каўшовіч, за якога Мяцельскі месяц драў горла на мітынгах. Ледзьве не ўсім палком яны праводзілі прапаршчыка на станцыю ў Маладэчні, паціскалі руку, давалі наказы. Пасля сталі чакаць. Але неўзабаве, замест дэлегата-прапаршчыка, прыйшла вестка, што кангрэс разагнаны бальшавікамі, а Каўшовіч толькі праз тыдзень ледзьве дабраўся з Менска — без шашкі, дакументаў і без мандата. Усё адабралі бальшавікі. Такога старшы унтэр-афіцэр Мяцельскі стрываць не мог і з двума сябрукамі далучыўся да партыі эсэраў. Зноў разам з Каўшовічам яны ледзьве не штодня выступалі на салдацкіх мітынгах. Прапаршчык дык стараўся гаварыць складна, па-інтэлігенцку, а Мяцельскі звыклым салдацкім мацюгом «мяцеліў» і сваіх палкавых бальшавікоў, і іхняга начальніка Мяснікова, якога называў не іначай як крывавы мяснік. Зімой яго ўзяла чразвычайка, пасадзіла ў смярдзючае складское сутарэнне, дзе напачатку ён добра выспаўся

і думаў, што, мабыць, хутка выпусцяць. Але не выпусцілі, а дні праз тры павялі наверх, да нейкага мізэрнага чарнявага камісарчыка. Той хвілін пяць вывучаў нейкія паперы, дзе, мабыць, было напісана пра ягоныя выразы наконт «крывавага мясніка», а пасля запытаўся, ці казаў ён тое. На гэта Мяцельскі з невінаватым выглядам перапытаў: «А што — няпраўда?» Ён бы мог лёгка даказаць праўдзівасць уласных слоў, але замест таго каб слухаць арыштанта, камісарчык ускочыў з-за стала і замахнуўся ботам, цаляючы яму паміж ног. Мяцельскі лёгка перахапіў той бот, трошкі тузануў, і камісарчык бразнуўся патыліцай на падлогу. Ён толькі ўсміхнуўся з слабасільнага небаракі, ды рана, відаць, усміхнуўся. У пакой уварвалася іх цэлая зграя, яны «мяцелілі» яго ў куце, пасля на падлозе, у яго не засталося жывога месца на целе, і ён тры дні не падымаўся з гнілой саломы ў сваім сутарэнні. А як паднялі на чарговы допыт, у тым пакоі ўжо сядзеў іншы — мажны, таўставаты чалавек у вайсковай гімнасцёрцы, ён усмешыста, быццам нават спачувальна сустрэў арыштанта, папытаўся прозвішча і, макнуўшы ў чарніліцу ручку, выразным почыркам вывеў на паперыне «расстрелять». Чамусьці яго не расстралялі адразу, некалькі дзён ён прапакутаваў у сутарэнні, а затым у Менск увайшлі немцы. Варта з тае чразвычайкі паўцякала, дзверы расчыніліся, і Мяцельскі, трымаючыся за сцены, выйшаў на вуліцу. «Не! — сказаў ён сабе. — З гэтымі людзьмі не жыць. Не дадуць». Паўгода затым ён сядзеў нахлебнікам у гараджанкі-сястры, крыху рабіў на бровары, быў за вучня ў яўрэя-шаўца, пілаваў з татарынам дровы для менчукоў. Як выбухнула гэта паўстанне за незалежнасць, падаўся ў Слуцак, затым у Семежава, уступіў у Грозаўскі полк. Шкада, ім не пашэнціла ў снежні, не пашэнціла асобнаму батальёну ў партызанцы пасля паўстання. Сілы былі не тыя, і бальшавікі іх разграмілі адзін раз, затым другі і трэці. Увесну вайсковае шчасце канчаткова здрадзіла паўстанцам, пазбавіла іх магчымасці жыць.

Кажухар з Дзедам тым часам сядзелі наводдаль і ціха гутарылі. Зрэшты, болей мовіў пра сваё Кажухар, якому, не перастаючы, балела рука. Пасля ранення перавязаць яе не было чым, тады абкруцілі па локаць нейкай зрэбнай анучай, якая адразу набрыняла крывёй, затым зверху скарэла, і Кажухар болей не адважыўся яе садраць. Дый навошта ўжо здзіраць, хутка павінна было ўсё скончыцца — і боль, і ўсё астатняе.

Люляючы цяпер гэта балючае за пазухай валлё, паранены мерна пагойдваўся ад болю і праз слёзы ціха жаліўся Дзеду:

— Ну завошта такая доля, скажы? Хіба я... Проціў Бога, ці што? Ці супроціў людзей? Каб хоць як-небудзь жыць, дык нельга.

— Гэ, чаго захацеў! — зласнавата перапыніў яго Дзед. — Жыць!

— Ну. Жыць і то нельга.

— Было. Аджылі. А цяпер ляжам.

— Ляжам? Божа мой, Божа...

Кажухар, аднак, не дужа бедаваў, што ляжа, спакутваны ад болю, ён прагнуў аднаго — скончыць свае пакуты. Хаця б і ў магіле. Усё роўна жыццё спляжана дарэшты. Некалі марыў набыць зямлю, каб зажыць на сваёй гаспадарцы, і нібы вол, ад зары да зары шыў кажухі, збіраў грошы.. Абшыў кажухамі, лічы, такі горад, як Слуцак, а яго праца абярнулася торбай керанак, на паўпуда солі. Добра, што сын Уладзя, не глядзі, што малады, а ўдаўся разумнейшы за бацьку, не падманіўся на яго рамяство, пайшоў у горад служыць. Можа, чаго і дaслужыцца, асабліва калі выб’ецца ў якое начальства ды паладзіць з бальшавікамі. Бацька во не паладзіў, за тое яму такая расплата.

Ад болю ды роспачы Кажухар і стагнаў, і круціўся ў доле. Вочы яго змакрэлі, і ён ужо не саромеўся тае макраты, не выціраў іх. А Дзед побач бы і не прыкмячаў таго, сядзеў, унурыўшыся нерухомым позіркам у дол, і моўчкі, пакутна перажываў нядаўняе мінулае, яшчэ да паўстання, калі ён быў дома і пасварыўся з жонкай. Брыдка пасварыўся, хаця і было за што. Жонка ў каторы раз зрабіла не так, але ж... Гэта жаласлівая кабета заўжды кагось шкадавала — то дзяцей, то суседак, ды асабліва каго-небудзь з радні. Хто бяднейшы. А бяднейшы з усіх быў яе малодшы брат Сёмка, мнагадзетны і негаспадарлівы селянін, які звычайна з Вялікадня сядзеў без кавалка хлеба. У Дзеда ў свіронку была прыхавана тарбінка грэчкі, меўся па вясне засеяць лапік ля сажалкі — не ўсё ж душыцца бульбай ды крупнікам. Але во жонка, як яго не было дома, добра-такі адсыпала з тае тарбіны брату — бач, згаладнелі дзеці. Згаладнеюць, вядома, бо трэба працаваць, дбаць пра дзяцей ды гаспадарку, а не лайдачыць паўгода на печы. І вось аддала пуд грэчкі, быццам самой не патрэбна. Дзеда гэта абурыла, проста ўзарвала, і ён даў добрага штур-

халя жонцы, тая ўпала, загаласіла, а ён выскачыў на падворак, у самога аж трэсліся рукі. Якраз трэба было збірацца ў полк на фарміроўку, ён забег дадому за сякім-такім харчам ды так і пайшоў улегцы, пад жончын плач. Спакваля, аднак, падабрэў, мінулася злосць, і не шкада стала той грэчкі, а паскуднае пачуццё засталося, не міналася, нават расло з часам, і цяпер выбухнула, заглушыўшы ўсё іншае, — ну трэба было? Гары яна гарам і грэчка, і ягоная ашчаднасць. Ён гатовы быў аддаць усё, абы толькі засталася згода, дабрыня ды шкадаванне адно аднаго. Бо чым цяпер жонка будзе памятаць яго? Тым грубым, злым штурхалём, ад якога паляцела ў кут?

Кепска, горка і балюча было на душы ў Дзеда. Калі б не іх гэты канец, можа б, яшчэ і павініўся і паладзіў з жонкай. Увогуле яна была не злапомная, даравала рознае, не першы раз. Але ўжо не павінішся — усё панясеш з сабой. На той свет. І ўсё праз гэта іх жыццё, спрадвечную сялянскую галоту, якая душыла вяскоўцаў, не давала па-людску жыць і нават па-людску памерці.

— Божа міласэрны, маці-царыца нябесная, — са слязьмі шаптаў побач Кажухар. — Не пакінь нас, не адвярніся хоць у гэты астатні час...

— Успомніў! — зноў зласнавата буркнуў Дзед. — Як прыпячэ, тады ўспамінаем. Раней помніць трэба было.

— Ды ці я калі забываўся? Я заўжды помніў, маліўся...

— А цяпер маліся не маліся — адзін канец.

— Ай, Божачка ты мой, Божачка! — ледзьве не екатаў Кажухар, усё люляючы руку. Так было яму балюча — і ад рукі, і на сэрцы, і хацелася спагады хоць бы ад таго, хто апынуўся тады бліжай за іншых. Ды чалавек той, відаць, не прывык спачуваць. Зноў жа марна было цяпер спачуваць каму-небудзь — усе яны апынуліся ў аднолькава гаротным стане і мелі аднолькавыя падставы для спачування. Ад каго толькі? Хіба ад Госпада Бога.

Мяцельскі капаў апантана, але, мусіць, трэба было глыбей, хоць няроўныя, абрушаныя берагі дасягалі яму пад пахі. Ды ён пачаў стамляцца, і камандзір, які прыкмячаў усё, кінуў апантанаму Забелу:

— Давай падмяні.

Нядаўні гімназіст Ігар Забела з яўнаю неахвотай улез у яму, пераняў з рук Мяцельскага цёплы ад натруджаных даланёў тронак рыдлёўкі. Неяк так сталася, што ён хутка перажыў сваё

напружанне; стрэл, а затым і скрываўленая галава Аўстрыякі вярнулі яго да самотнай рэальнасці, якая абяцала неўзабаве паставіць вялікую кропку на ўсім. Усвядоміўшы тое, Ігар адчуў рэзкі інстынктыўны пратэст — як было добраахвотна класціся ў зямлю ў свае няпоўныя дзевятнаццаць гадоў? Але няўмольная сіла абставін, якая ўсе апошнія гады люта ўладарыла над людскімі лёсамі, як заўжды, гнула ягоную волю ў дугу, заўсёды дамагаючыся свайго. Рэдка калі тыя абставіны выяўлялі паслабку, давалі зрабіць, як сам хочаш. Дзіўна, але тады, у той самы рашучы вечар, калі ён мог бы зрабіць інакш, ён інакш не зрабіў. Праз боязь, страх і трывогу ён зрабіў так, як вымагаў ад яго сяброўскі абавязак, па-свойму зразуметае высакародства. Ён не адмовіў Алегу Блажэвічу, ён пайшоў з ім. Ранічкай, як маці яшчэ спала, таропка сабраў свой небагаты набытак — пару бялізны, башлык, пачак папірос, Лёльчына фота і шаснуў праз чорны ход на зборны пункт у гімназію. Сярод пракуранай людской гаманы не адразу знайшоў свайго старэйшага сябра Блажэвіча, які, паціскаючы яму руку, коратка кінуў: «Малайчына, умееш трымаць слова гонару» і запісаў у сваё аддзяленне. Тады, можа, першы і адзіны раз Ігар ціха паганарыўся ў душы за сваё высакародства тым, што намогся і стрымаў слова. Што, калі спатрэбілася, можа на справе абараніць незалежнасць народнай рэспублікі, пра якую сказана столькі прыгожых і рашучых слоў. Ці ён думаў тады, што праз колькі тыдняў будзе выцягваць скрываўленае цела Блажэвіча з заснежанага поля пад Семежавам — цяжкапаранены ўранку той да вечара сцякаў крывёй пад бальшавіцкім агнём, увесь дзень да яго нельга было падабрацца. Ігару ў тых баях наогул пашчасціла, можа, пашчасціла і пазней, ніводная бальшавіцкая куля яго не зачапіла. Мусіць бы, куды лепш было яму легчы разам з Блажэвічам, прынамсі, не спазнаў бы таго, што давялося спазнаць затым і што не дай Бог спазнаць нікому. І не толькі іхні жахлівы паўстанцкі лёс, але і трохі іншае. Яшчэ да таго як спаліць усе дакументы, неяк лежачы надвячоркам у кустоўі, ён спаліў Лёльчына фота, як дазнаўся ад людзей, што яго светлае, незямное каханне стала жонкаю чырвонага слуцкага ваенкома. Ён узненавідзеў яе за здраду, без агіды не мог сабе ўявіць, як яна цалуецца там са смярдзючым бальшавіцкім камісарам, не разумеў, чаму яна стала не такой, што была раней, — чужой, нават варожай. Але неяк памалу тая яго нелюбоў выпетрылася, Лёлька рабілася для

яго ўсё больш абыякавай, і ён болей думаў пра маму, дужа дакараў сябе за ўсё тое, што прычыніў ёй сваім гэтым свавольствам. А найбольш ён шкадаваў сябе, сваё кароткае жыццё. Жыццё, канешне, не ўдалося, чаго было за яго трымацца, чаго шкадаваць? Але ўсё роўна было шкада, хацелася жыць хоць як-небудзь, хай у той іх калатнечы. Ды было неяк. Неяк, бо ён дужа любіў сваю маму, што ўжо страціла на мінулай вайне яго вотчыма, штабс-капітана Левандоўскага, любіў-шкадаваў меншага браціка Паўліка. Як ім будзе жыць пры такім іх сынку і братку?

Забела капаў не так каб і ўвішна. Глыбіня стала, мусіць, такой, якой і патрэбна была, кідаць жвір ён намагаўся высока, ды глыжы ўсё скочваліся з берагоў у яму — ужо не ставала сілы кідаць вышай і далей. Зноў жа падмяніць яго, мусіць, не засталося нікога, пэўна, усе ўжо адбылі сваю чаргу. Апроч, вядома, параненых Кажухара і камандзіра. Значыць, яму і давяршаць гэтую невясёлую справу.

Камандзір не мог скрануць шыяй, павярнуць галавы, але ён дбаў усё рабіць як належыць і кожную справу даводзіць да канца. Гэта было ягоным правілам са студэнцкай маладосці, як вучыўся ў семінарыі, затым выкладаў у гімназіі, а таксама ў вайну, калі, стаўшы прапаршчыкам, камандаваў паўротай у інгерманландскім палку. І калі ў яго што-ніштo не атрымлівалася, не знаходзіла завяршэння, дык часцей не па ягонай віне — з прычыны ўмяшання вышэйшых камандзіраў ці збегу зменлівых абставін. Як з гэтым іх партызанствам. Калі б ён быў на месцы камандзіра батальёна, дык шмат што, асабліва ўпачатку, рабіў бы інакш, не лез бы на злом галавы супраць пэўнай сілы, і, можа б, тады яны не дайшлі да гэтае ямы як да нейкай містычнай расплаты за ўсё ранейшае. Ці да апошняй кропкі ў тупіку, куды іх загнаў неміласэрны паўстанцкі лёс.

Цярпліва чакаючы, калі нарэшце будзе гатова гэта яма-магіла, камандзір міжволі і ў каторы раз перабіраў у памяці падзеі апошніх тыдняў-месяцаў іх барацьбы, каб усё ж хоць перад канцом зразумець нейкі таямнічы сэнс іхняга трагічнага фіналу. Але, мусіць, усё ўжо было перабрана ў памяці. Канешне, камандзір разумеў, што прысуд ім быў вынесены даўно, гэты зыход быў відавочны, як толькі яны кінулі выклік страшнае сіле і сталі са зброяй у шарэнгу. Выклік быў дзёрзкі і рашучы, а сілы ўсё ж малыя, і менавіта гэтая акалічнасць

вырашыла ўсё астатняе. Але і як было іначай? Народ чакаў, а кіраўнікі адзін перад адным імкнуліся выступіць. Верныя рыцары рашучай фразы, яны спярша ап'янілі тых, хто іх слухаў на ўсіх тых шматлюдных мітынгах, а затым неўпрыцям і самі паверылі ў свае прыгожыя словы. Калі ж і самі сталі нявольнікамі ўласных хмельных прамоў, тады ўжо нічога нельга было ні спыніць, ні перайначыць. Яны былі змушаны, за імі пайшлі іншыя, — найперш, хто мала разумеў, але надта верыў. А то ішлі з пачуцця абавязку, раптоўна народжанага гонару і таму не маглі не пайсці. Калі не цяпер, дык калі ж? Хіба што ніколі. Але ніколі — то было страшна, страшней за пагібель, бо было банкруцтвам усяе святой шматгадовае справы. Так, ён таксама нямала сумняваўся ў хуткім поспеху паўстання, яшчэ болей было ў яго неспадзеўкі на колькі-небудзь удалае партызанства іхняга асобнага батальёна. Але ішоў, бо для яго заставалася пэўным: тое трэба было калісь зрабіць, раней ці пазней. Без таго, без іхняй галаваломнае адвагі, ахвяр і крыві ўся іх нацыянальная справа, бы невылечны сухотнік, асуджана на вялы, задоўжаны скон. Цяпер на скон не будзе асуджана. Зерне кінута, па вясне ўгрэецца глеба, будуць усходы. Колькі б зіма ні доўжылася, настане вясна. Яны ж угнояць глебу, мусіць, такое іх гістарычнае прызначэнне, так трэба. Для вольнай радзімы і для гісторыі.

Так суцяшаў сябе камандзір, а гарката няўдачы душыла яго, сціскала прастрэленую шыю, цяжка было дыхаць — на хадзе і тут па-над ямай таксама. І тады ён успомніў даўні, звыклы з юнацтва твар другога асуджанага, што калісьці стаяў не над ямай — пад віселькай, і яго вешчыя словы да каханай Марыські. Да Беларусі. Ніколі яна не будзе ні вольнаю, ні шчасліваю, пакуль не скіне з душы прыгон маскаля. Апынуцца паміж Расеяй і Польшчай усё роўна што паміж кувалдай і молатам, які б'е метадычна, магутна, бязлітасна. Нішто не стрывае тых жахлівых удараў. Пакуль б'е молат і рэжа галовы серп. Гэта ж трэба такое прыдумаць — молат і серп, серп і молат...

Сарокі ў голлі сакаталі ўсё болей, бы прадчуваючы тое страшнае, што тут неўзабаве адбудзецца. Іх ужо ніхто не адганяў, не палохаў, і яны бязладна паначапляліся на бярозавым голлі, спраўлялі свае птушыныя хаўтуры. Зводдаль ад іх з'явіліся са тры вароны. Тыя сядзелі спакайней, толькі

здзіўлена пазіралі ўніз, але маўчалі. Людзям жа было не да іх. Людзі апекваліся ўласным клопатам.

Можа, самы спакойны, ціхманы і з выгляду нават абыякавы да ўсяго ў гэтай грамадцы быў Казак, шараговы стралец, патомны парабак слуцкіх фальваркаў. Галоўным правілам яго ў жыцці было: як усе. Як усе паводзіў сябе ён, калі рабіў у пана Пясецкага: рабіць дык рабіць, есці дык есці, спаць дык спаць — як усе. І на паўстанне пайшоў таму, што пайшлі парабкоўцы з маёнтка — усе шасцёра. Калі б яны пайшлі да бальшавікоў, мусі бы, да бальшавікоў пайшоў бы і Казак. Але вызначыў выпадак ці, можа, адзін парабак, які па вясне паявіўся ў іхнім маёнтку. Ён не казаў, дзе рабіў да таго, але ў маёнтку быў прыстаўлены памагатым да цесляра, рамантаваў інвентар. Гэта быў дужа гаваркі чалавек. Спярша хлопцы не дужа верылі, казалі: балбоча. Але неўзабаве ўслухаліся і сцямілі, што балбоча не так сабе, нешта ўсё ж ведае. А і сапраўды, ведаў ён шмат што і шмат дзе пабываў за свае яшчэ маладыя гады, нават у Піцеры і ў Рызе. Казаў, што па перакананнях ён сацыяліст-эсэр і што толькі тады па-людску зажывуць працоўныя людзі, як падзеляць панскую зямлю. Але перш чым падзяліць, зямлю трэба было адваяваць у паноў — палякаў ды расейцаў, Беларусь павінна стаць незалежнай, як Польшча ці Германія, мець свой урад і свой парламент. Спярша гэта здалося дзіўнавата — беларускі парламент! Але пасля, як у Менску сабралі кангрэс, хлопцы і праўда паверылі эсэру, бо нешта там адбывалася падобнае на яго прадказанні. Як загарэлася гэтая калатнеча ў Слуцку, ён і сагітаваў усіх ехаць туды. Казак доўга не вагаўся, прыкінуў: ваяваць за Беларусь мо не будзе трудней, чым штодня ішачыць у панскім маёнтку. Зноў жа, адгаворваць яго не было каму, шкадаваць таксама. Уранку яны запрэглі панскую фуру і ўсе шасцёра пакацілі шашою ў Слуцак. Начальнікі і каторыя разумнейшыя з шарагоўцаў казалі: да зімы пераможам, вернемся і зажывем сваёй беларускай сям’ёй, па справядлівасці, без маскалёў і палякаў. Ведама ж, жыць сваёю сям’ёй, па справядлівасці ды ў згодзе, хто не схацеў бы? Асабліва яшчэ, калі надзеляць зямлёй. Казак быў не супроць. Абы ўдалося. На жаль, не ўдалося. Не толькі сваёй сямейкай, але і наогул жыць. Ды што ж... Казак не разумнейшы за іншых і, канешне, не шчаслівейшы. Калі во камандзір, былы афіцэр і вучыцель, кажа, што іначай нельга, значыцца, і праўда нельга. Значыць, нявыкрутка, і тое,

што яны ўдумалі, мусіць, не абысці. Прыйдзецца паміраць. Але як усе, так і Казак. Вось калі б закурыць толькі. Перад смерцю...

Закурыць, аднак, не было ні ў каго, і Казак патупаў-патупаў каля кучы жвіру ды стаў чакаць свайго часу.

Нарэшце адчуўшы, што хопіць, Забела збольшага параўняў дол у яме, памераў крокамі. Атрымалася восем крокаў удоўжкі, мабыць, хопіць на ўсіх.

— Фініта ля камедыя! — знарок бадзёрым голасам гукнуў ён і кінуў угору рыдлёўку.

— Ладна, годзе, — глуха азваўся камандзір і паклікаў астатніх. — Усе — сюды!

Калі яны неяк нясмела, бы баючыся, узлязалі на жвір, бліжай да ямы, камандзір ціха спытаўся:

— Хто першы?

— Першы ўжо ёсць, — сказаў Мяцельскі. — Во Аўстрыяка.

— Давай яго сюды.

Разварочваючы ботамі рыхлую кучу, Мяцельскі рашуча падвалок распластанае цела Аўстрыякі да ямы, уніз галавой падаў яго Забелу. Той, ледзьве сам утрымаўшыся на нагах, пераняў небараку, сцягнуў з краю ямы і неяк выпрастаў яго ў доле. Рукі Аўстрыякі трэба было скласці на грудзях, але тыя ніяк не хацелі складвацца і тырчэлі скорчанымі пальцамі ўгору.

Тым часам да ямы падышлі Дзед з Кажухаром; трошкі зводдаль боязна-ваўкавата прыткнуўся непрыкметны Казак. Валодзька ўвесь час быў побач з камандзірам. Ён змарнеў з твару, прыціх, здаецца, баяўся вымавіць слова. Мяцельскі высока стаяў на кучы жвіру.

— Дык як будзем? Па адным ці ўсе разам?

— Па адным, — ціха мовіў камандзір. — З нагана.

— У яме. Каб меней грукату.

Мабыць, усе ўсё зразумелі і сціхлі, нават не дыхалі. Камандзір абвёў усіх чужым напружаным позіркам і адчуў, што трэба нешта сказаць на развітанне. Ці на суцяшэнне. Калі ў іхнім становішчы яшчэ існавала суцяшэнне. І ён сказаў:

— Што ж, спадары... Нам не ўдалося, можа, удасца іншым. Яны нас успомняць. Усё ж мы не за сябе, не за сваё, якога ў нас не было. Мы — за Беларусь. Нашу няшчасную старонку. Прымі, Божа, твае ахвяры...

Яны ўсе стаялі і маўчалі. Яны чакалі. І камандзір, зглытнуўшы даўкі камяк у набалелым горле, раптам сказаў са знарочыстай строгасцю:

— Хто першы?

Выдалася кароценькая пакутная паўза, пасля якой Мяцельскі кінуў са злосным адчаем:

— Ат, маць тваю... Давай я...

Зноў абрушваючы жвір, рашуча скочыў у яму.

— Дайце рэвольвер!

Камандзір расшпіліў на баку кабур, выняў наган. Мяцельскі ўхапіў яго знізу, рухава выцягся побач з застыглым ужо Аўстрыякам.

— Жыве Беларусь!

— Жыве, — нечакана слабым голасам азваўся камандзір, і глухі рэвальверны стрэл у яме перапыніў яго водгук. Дзве сарокі з бліжняй бярозы спуджана пераляцелі на дрэвы далей. А на зямлі зноў настала пакутная паўза, усе стаялі моўчкі, баючыся зазірнуць у яму.

— Ну, хто далей? Ты, Зубко? — няпэўна павярнуўся камандзір у бок Дзеда. Той сігануў цераз жвір і спыніўся.

— А ружжо?

— З ружжом, братка, — мякка сказаў камандзір.

Тады Дзед неяк грузна зваліўся ў яму, і яны зноў знерухомелі, чакаючы. Чакаць, аднак, давялося нядоўга, стрэл коратка грукнуў і сціх.

— Ну? — зноў павярнуўся камандзір да астатніх. Засталося іх тут пяцёра. — Ты? — запытальна кіўнуў ён да Кажухара.

— Ды я... Калі адважуся. Калі што, дык прыстралі, камандзір. Калі што...

І няспрытна ўсеўшы на бераг ямы, Кажухар ціха споўз туды. Яны зноў прыціхлі. Чакаць давялося даўжэй, чым тыя разы, мусіць, Кажухару не дужа ўпраўна было з адною рукой. Нарэшце-такі ў яме лопнула тугім стрэлам. Камандзір падышоў, зазірнуў туды, пастаяў крыху, углядаючыся ўніз, ды зноў павярнуўся да астатніх.

— Так. Забела!

— Я! — з гатоўнасцю адгукнуўся Ігар і, не раздумваючы, лёгка скочыў уніз. — Я зараз. Тут толькі трэба паправіць, — пачулася з ямы.

Яны не глядзелі, што ён там папраўляе, міжволі мярцвеючы ў страхавітым напружанні, яны чакалі стрэлу. У барабане

нагана яшчэ заставалася тры патроны. Але ж тут іх стаяла чацвёра... Гэтае адкрыццё спярша збянтэжыла камандзіра, а затым раптам узрадвала. Здаецца, яно давала нейкае выйсце ў няпростай сітуацыі, пра якую ён цяпер напружана думаў.

Калі, як заўжды, боязна вычакаўшы стрэлу, яны азірнулі сябе, дык Казак адчуў, што настала яго чарга. Без напамінку або загаду ён разам са стрэльбай лёгка шаснуў у яму, дзе праз кароткі час лопнуў рэвальверны стрэл. На край ямы ступіў амаль змярцвелы Валодзька.

— Сулашчык! — гукнуў да яго камандзір. — Пастой...

Валодзька спыніўся, ледзьве ўтрымаўшыся на беражку ямы. Ён нават не зірнуў туды, штосьці новае адчуўшы ў голасе камандзіра.

— Табе, Сулашчык, заданне: закапаць, зараўняць. Каб следу не асталася. І — жыві!

— Я?

— Ты, а хто ж. Жыві. За нас, за бацьку. Дай я цябе абдыму.

Няспрытна, адною рукой камандзір нямоцна абняў Валодзьку. Трохі памарудзіў і таксама, густа абрушваючы жвір з берагоў, зваліўся ў яму. Валодзька застаўся стаяць — ашаломлены, разгублены, працяты адным пытаннем: як гэта — жыві? Адзін? За ўсіх? Але як яму жыць без іх? Ці магчыма гэта наогул? Тое было незразумела, і ён стаяў, агаломшаны, аднак, раптоўнай надзеяй, што будзе жыць. Яна, тая надзея, заглушыла ўсе ранейшыя памкненні, разбудзіла новыя пачуцці. У душу лінула святло, і ён ажно скалануўся ад нечаканасці, калі з ямы пачуўся апошні стрэл. Гэта быў стрэл камандзіра. Валодзька заставаўся жыць.

Пасля ён закопваў яму-магілу і плакаў. Ужо можна было не стрымліваць слёз, саромецца тут не было каго. У яму ён не зірнуў ні разу, ён гроб і гроб рыдлёўкаю рыхлы жвір з берагоў і думаў, што здатная будзе магіла, сухая, калі б такая дасталася бацьку. Крыўдна было да слёз, але бацьку ён закапаў на прырэчнай балацявіне, у тарфяніку. Выкапаць глыбака там не было як, падступала балотная вада дый часу надарылася якая гадзіна. Такі вось лёс чалавека, якога Валодзька любіў усё жыццё, жыць з якім усё жыццё марыў. Ды жыць не давялося. Здаецца, болей за ўсіх бацька любіў Беларусь, і за гэтую сваю любоў дзевяць год прагібеў на нарымскай катарзе, нажыў там сухоты. За той час бязбацькавічам падрос у Клецку Ва-

лодзька. Доўгія гады марыў, як дачакаецца і сустрэне з катаргі свайго сацыяліста-бацьку, як яны затым будуць заўсёды разам. І праўда, дачакаўся. Ды разам давялося пабыць нямнога, бацьку зноў паклікала Беларусь. Ідучы на фармаванне палка, той нізашто не схацеў браць з сабой пятнаццацігадовага сына, казаў: рана, хай чакае яго з перамогай пад бел-чырвона-белым штандарам. Валодзька і праўда застаўся дома, у іх слуцкім дамку, дзе яны другі год кватаравалі ў пані Хаванскай. Ды дома Валодзька доўга не ўседзеў, асабліва калі дазнаўся, што ягоны катаржнік-бацька стаў камандзірам роты, у якую набірае шарагоўцаў. Маці яго тры гады таму як памерла, дома гаспадарыла старэйшая Валодзькава сястра Саша, яна сама рвалася ў войска, дзе апынуўся яе падпаручнік муж, але ў яе была маленькая дачушка Леначка, і Валодзька наважыўся. Аднойчы ў марозлівы восеньскі адвячорак ён нечакана паявіўся ў Грозаве, адшукаў у штабной хаце бацьку, і ў таго ўжо не хапіла рашучасці прагнаць яго з батальёна. Над Мораччу зазімкам яны прыкрывалі з групай адыход батальёна, і бацька, перабягаючы, атрымаў тры кулі ў грудзі, доўга, марудна канаў на руках у счарнелага ад гора сына. Валодзька ледзьве паспеў закапаць яго ў балацявіне, калі ўжо бальшавіцкія ланцугі шарылі ў прырэчным кустоўі — шукалі параненых.

Капаў Валодзька нядоўга, з усяе сілы гроб і гроб жвір, раўняў, раскідваў яго ў бакі, каб меней было прыкметна, што тут нехта поркаўся. Стаміўся страшэнна, але спакваля пачаў спакайнець. Перад тым усё баяўся не справіцца, не паспець скончыць сваю сумную справу. Усё азіраўся, баючыся, што між хвой паявяцца тыя. Але, здаецца, паспеў. Уся зброя — наган і вінтоўкі — засталіся ў яме, у яго была толькі рыдлёўка, якую трэба было закінуць куды далей. Каб не знайшлі.

Мабыць, ужо надвячоркам з тае рыдлёўкай у руцэ ён і пабрыў па лесе. За ім, пералятаючы з дрэва на дрэва, сакатала і сакатала, бы гналася, зграя сарок, і ён не ведаў, як ад іх адкараскацца.

Ён ішоў і ішоў, сам не ведаючы куды, — абы прэч з гэтых жудасных Чорных лядаў...

*1993*

# ЖОЎТЫ ПЯСОЧАК

Іх везлі ноччу па цёмных гарадскіх вуліцах кудысь прэч ад турмы, але ў які бок горада, Аўтух зразумець не мог. У крытай машыне не было акон, не свіцілася нідзе нават маленькай шчыліны, і ні ўнутры, ні знадворку нічога не было відаць. Аўтух спачатку падумаў, ці не трапіў ён у страхавіты «чорны воран», пра які начуўся ў турме і нават раней, на вёсцы. Але, мабыць, то быў не «чорны воран», бо, як ён згледзеў уначы, калі іх вывелі на турэмны падворак, была гэта машына, хоць і вялікая, але не чорная. І нешта кароткае было напісана на яе баку, ды ён не разабраў што — не далі. Пачалі штурхаць, каб хутчэй улязалі ў яе цёмнае нутро, а ў яго якраз развязалася аборына на лапці, і ён, сагнуўшыся, узяўся яе завязваць. Ды тут жа атрымаў злога выспятка ў зад — гэта той канвойны, ці як яго — малады танклявы вайсковец з вусікамі, які сёння распараджаўся імі. Аўтух таропка ўлез у машыну, дзе ўжо сядзела чалавек шэсць яго спадарожнікаў, і стуліўся ля самых дзвярэй, якія тут жа з бразгатам зачыніліся. Машына папаўзла-паехала з падворка, праз браму, затым па вуліцах, паварочваючы то ў адзін бок, то ў другі. Леваруч ад Аўтуха сядзеў незнаёмы яму мужчына ў скуранцы, якога напачатку, як яго арыштавалі, Аўтух бачыў у кабінеце следчага. Але цяпер Аўтух не мог зразумець, чаму той тут? Ці таксама арыштаваны, ці вязе іх у якую іншую турму? А можа — на волю? Бо завошта караць Аўтуха, які з яго польскі шпіён? У Польшчы не быў ні разу, мала што жыў пры мяжы. На хутары. І аднаасобна...

Во ў тым, што аднаасобна, мабыць, найбольшы ягоны грэх. Праз тую аднаасобнасць ён за год натрываўся столькі, што іншаму хапіла б на ўсё жыццё.

— Гэ, таварыш... А, таварыш, — далікатна папіхнуў ён локцем суседа ў скуранцы. — Не ведаеце, куды гэта нас?

— На Кудыкіну гару, — не адразу і зласліва адказаў сусед, нядаўні следчы ўпраўлення НКУС па прозвішчы Сурвіла.

Гэты Сурвіла, не тое што Аўтух, — ён і ў цемры, з заплюшчанымі вачыма мог вызначыць іхні маршрут. Даўно і добра ён ведаў гэтую дарогу — ад гарадскога цэнтра да ўскраіны і далей, паўз прыгараднае вёскі да недалёкага ляска, дзе было наркамацкае стрэльбішча. Некалі сам туды вазіў такіх жа, асабліва як служыў у камендатуры. Пасля ўжо, як

перавялі ў следчы аддзел, разы два выязджаў на практыкаванні па стральбе з асабістае зброі — пісталета ТТ. Раней усе чэкісты ўпраўлення былі ўзброены рэвальверамі сістэмы «наган», а летась у першую чаргу следчым выдалі новенькія ТТ — спрытныя такія, пляскатыя пісталеты з чорнымі шчочкамі на рукаятках. З іх і стралялі. Ён здаў практыкаванне на «добра». А цяпер тыя практыкаванні будуць здаваць іншыя. На практыцы. На іхніх патыліцах...

Па тым, як машыну стала кідаць з боку на бок, Сурвіла зразумеў, што яны выязджалі з горада. Недзе збоч у цемры туліцца невялікая прыгарадная вёсачка, а іх чакае паваротка ўлева, ад якой... Ад якой да мэты, да апошняй мяжы, лічы, што нішто. Засталося якіх паўгадзіны часу, і ўсё. Усё назаўжды скончыцца.

Тое, што хутка ўсё скончыцца, яго, аднак, не дужа і турбавала. Да таго ён гатовы быў месяц таму, нават да суда, ведаў, яго не памілуюць. Стрэльнуць. Бо тое, што яму прад'явілі для абвінавачвання, увогуле было папраўдзе: дапушчаў і перавышэнне, і незаконныя метады — і біў, і ламаў косці — даваў дразда. Але ж хіба ён адзін? У іхнім упраўленні так працавалі ўсе — стараліся, не спалі начэй, выбівалі ўсё, што можна было выбіць з арыштаваных. А тыя праклятыя ворагі таксама маталі іх нервы, нізашто не хацелі прызнавацца — выкручваліся, хлусілі, ашуквалі следчых і, нават падпісаўшы ўжо прызнанне, адмаўляліся ад яго на судзе. І ўсё бубнілі сваё: нічога не ведаем, ні ў чым не вінаватыя. Не шкодзілі, не шпіёнілі, нікога не вербавалі. Трэба было выбіць — і прызнанне, і сведчанне — прозвішчы, даты, сустрэчы. Часам перабіраў, гэта праўда. Але ж на карысць справы, не для сябе. Той Сёмух сканаў у ягоным кабінеце. Што сканаў, бяда невялікая, але, сканаўшы, забраў усё з сабою. А на яго была надзея. Як добра далі, пачаў што-нішто паказваць. Думалі праз яго раскруціць усю іхнюю арганізацыю, да таго ішла справа. А ён узяў ды сканаў...

Купцова застрэліў з таго новенькага ТТ. Але Купцоў кінуўся на яго з кулакамі. А кулакі ў двухметровага каваля з прэсавага цэха такія, што двума ўдарамі мог увагнаць у падлогу. Добра, Сурвіла паспеў прымяніць зброю. Так што — як вінаваціць. Калі строга, паводле новай правазаконнасці, дык, можа, і правільна — ён вінаваты. А калі па рэвалюцыйнай, пралетарскай... Зрэшты, ён не дужа і апраўдваўся — прызнаў

усё. Але ў глыбіні душы хацелася спадзявацца, што пакараюць не надта. Усё ж ён не якая контра, не польскі шпіён ці беларускі нацыяналіст. Ён жа свой брат чэкіст. Павінны ж на тое зважыць. І цяпер яму крыўдна, што не зважылі на розніцу паміж ім і сапраўднымі ворагамі народа, піхнулі ў гэтую машыну разам з іншымі. З гэтымі шпіёнамі і шкоднікамі, нацыяналістам і нават недарэзаным буржуем. Кінулі ў адну машыну і яшчэ, глядзі, кінуць у адну яму. Але ж гэта яўны апартунізм, правы ўхіл. Ці нават шкодніцтва ў саміх органах.

У машыне панавала цішыня, толькі чуваць было, як ляскаюць колы па бруку ды штось паскрыпвае ў рагу буды, асабліва калі машына трапляе на выбоіну.

— Гэтак! На Кудыкіну, кажаце? — не мог чагосьці ўцяміць Аўтух і зусім апанурыўся ад кепскага прадчування. Відаць, тое прадчуванне дужа яго гняло, і ў хуткім часе ён зноў заварушыўся ў цемры. Недзе тут паблізу сядзеў ягоны зямляк, нават аднавяскавец, хоць і ўдвая маладзейшы за яго, з гэткім самым прозвішчам Казёл. Як навучыўся на настаўніка і пачаў пісаць вершы, дык змяніў тое нягеглае прозвішча на лепшае і падпісваўся пад вершамі, што часам друкаваліся ў газетах, Фелікс Гром. Праўда, Аўтух вершаў не чытаў, толькі чуў пра іх ад людзей. Зрэшты, пра вершы на следстве з ім гаварылі мала, болей пра тое, як гэты Фелікс Казёл-Гром завербаваў Аўтуха ў сваю шайку. Цяпер Аўтух ціха паклікаў:

— Фэля, а Фэля?

— Ну! — пачулася здаля ў машыне.

— Куды гэта нас вязуць?

— На выкананне прыгавору, — з нядобрым надломам у голасе адказаў Фелікс. І менавіта гэты выразна адчуты надлом яшчэ болей устрывожыў Аўтуха.

— Няўжо на расстрэл?..

— А ты думаў...

— Але ж... Я дык думаў... Можа, яны...

— Памаўчы лепш! — абарваў размову зямляк, якому, відаць, было не да таго.

Сапраўды, размаўляць Феліксу Грому было проста неяк, пасля допыту ў яго дужа балела ў грудзях, было не ўздыхнуць. Ён толькі падзівіўся дзіцячай няўцямнасці дзядзькі Аўтуха — не ведае, куды вязуць, ці не хоча паверыць, што ўсё ўжо скончана. Пазаўчора быў суд — дзесяць хвілін чыткі загадзя

нарыхтаваных папераў, з якіх яшчэ да прыгавору ўсё стала зразумела. Відаць, нічога не зразумеў з таго ягоны аднавяскоўвец Аўтух. Ці ўсё думае пра сваю пакінутую аднаасобніцкую гаспадарку пад лесам?

Фелікс Гром даўно перастаў думаць і пра родную вёску, і пра Менск, дзе жыў і вучыўся, як паступіў у педагагічны тэхнікум, і нават пра сваю паэзію, зборнік якой падрыхтаваў ужо да друку і вясной здаў у выдавецтва. Цяпер яму ўжо не пабачыць таго зборніка, які, відаць, пакаралі раней за аўтара. У час следства на допытах розныя следчыя наперамен цытавалі старонкі ягоных арыштаваных вершаў — чыталі, крэмзалі і падкрэслівалі рознымі алоўкамі, пільна шукаючы хітра замаскаванай крамолы. «Блістае раніца агністая на хмарах восені маёй...» Што значаць гэтыя вашы хмары?» — «А нічога, апроч таго, што значаць хмары наогул». — «Э, не, у паэзіі хмары — гэта нешта іншае, — казалі літаратуразнаўцы з наганамі на баку. — Гэта на небе хмары, а тут штосьці іншае. Таемнае. Дык што такое гэтыя хмары? Што вы разумееце пад ранішнімі хмарамі?»

Ён нічога не хацеў разумець пад хмарамі, затое нешта разумелі яны, але яму не казалі. Ён павінен быў сам здагадацца пра іхнія думкі і падказаць ад сябе. Вось тое было б прызнанне, якога гэтак дамагаліся ад яго, і яму было б куды лепей. Але ён не здагадваўся і не прызнаваўся. Тады яго білі — палкай па нагах, ботам у грудзі, не давалі спаць трое сутак.

А пасля пачалі шыць шпіянаж на карысць Польшчы. І прыплялі да яго дзядзьку Аўтуха, што жыў за вёскай на хутары і не ўступаў у калгас. А ён з тым Аўтухом, па сутнасці, і гутарыў усяго адзін раз летась, як прыязджаў з Менска да хворага бацькі. Тады хадзіў пазычыць каня, каб з'ездзіць да доктара. Ды дзядзька Аўтух каня не даў, сказаў узяць у калгасе, а яму трэба паспець звазіць сена, бо збіралася на дождж. І гаворкі ў іх было якіх пяць хвілін. І вось цяпер за тыя хвіліны — расплата. Абодва — да вышэйшай меры.

— Ну што вы не пасядзіце? Усё тузаецеся, як на патэльні, — пачулася незадаволеная буркатня ў цемры.

— Ды каб выглянуць дзе. Тут жа вёска мая Зялёны Луг, — адказаў той, што тузаўся.

— Ты ж гарадскі, казаў, — азваўся ад дзвярэй Сурвіла. — Паказваў на допыце: з Камароўкі.

— То ж жыў на Камароўцы. Як на чыгунцы рабіў. А нарадзіўся ў Зялёным... Да.

— Во — выясняецца! — мовіў Сурвіла. — А то ўсё — рабочы, чыгуначнік. Блытаеце нешта, Шастак.

— Нічога не блытаю. Паходжаннем з вёскі. Але ж рабочы. Тое трэба ўзяць пад увагу. І парцейны!

— Быў, — коратка абвясціў Сурвіла.

Тая рэпліка былога чэкіста зачапіла балючую струну ў параненай душы рабочага Шастака, які загаманіў, як пра што недагаворанае і балючае.

— Быў і астаюся. Ужо не адмоўлюся, не такі. Перад парціяй я чысты.

Машыну моцна трасянула на нейкай калдобіне, паэт Фелікс Гром аж войкнуў ад болю ўсярэдзіне. Хтось спераду ў цемры вылаяўся.

— Падлы! І перад канцом не могуць па-людску! У богадушу іх маць!..

— А цішай нельга? — злосліва папракнуў Сурвіла.

— А што цішай?! Цішай-цішай! Ды пайшлі вы...

— Ты хто? Як прозвішча?

— А табе што? Ты следчы?

— А хоць бы і так.

— Ну Зайкоўскі. Калі следчы, дык, мабыць, запісана ў вашым сратым прыгаворы. Такую іх маць... Ды не навальвайся ты гэтак, буржуйскі чмур! — вызверыўся ён на кагосьці ў цемры. — У мяне во рука зламаная...

Здаровай рукой Зайкоўскі піхнуў у плечы суседа, які на паваротах няўзнак дужа хіліўся да яго і вярэдзіў зламаную лапатку. Пералом быў нутраны, закрыты, стаўся які тыдзень таму на допыце, калі яго з паўгадзіны ахаджвалі два следчых — малады, танклявы, як гліст, і пажылы — вусаты з ордэнам на гімнасцёрцы. Дабіваліся падпісаць, што ён польскі шпіён, звязаны з дэфензівай, па прозвішчы Млынец. Але Зайкоўскі не быў лазутчыкам, тым болей Млынцом, бо быў звычайным маскоўскім грабежнікам, які надумаў ратавацца ад крымінальнага вышуку ў Менску. У Маскве за ім лічылася аж восем рабункаў, хоць, папраўдзе, грабянуў ён болей (ці не чатырнаццаць) і ўсё неяк выкручваўся, не даваўся ў рукі ні крымінальнаму вышуку, ні ГПУ, ні міліцыі. Аж пакуль яго не выдала палюбоўніца Вандзя. Подлая стукачка Вандзя спярша прыгрэла, а затым прадала. Добра, што ён такі вёрткі

і ўцёк з міліцыі, замачыўшы аднаго мільтона. І скеміў, што ў Маскве ягоныя справы скончыліся, трэба ірваць кіпці. Тады ён успомніў, што ў Менску некалі пражываў ягоны дзядзька, з якім ён не бачыўся ад самага нэпа. Прыехаўшы, доўга шукаў патрэбны яму нумар на нейкай Заслаўскай вуліцы, а як знайшоў, зразумеў, што даў маху: дзядзька кудысьці вытрахнуўся; у зялёным, з садком, дамку жылі іншыя людзі, якія нічога пра дзядзьку і не чулі. Дзе было яго шукаць і дзе начаваць нават? Пайшоў на вакзал. Ведаў жа: вакзалы — не самае лепшае месца для такіх, як ён, валацуг. Але здорава нахадзіўся за дзень, прытаміўся, якраз паліў дождж, і ён думаў пасядзець крыху, абсохнуць. Ды не стрываў — заснуў, і на вакзале яго і ўзялі. Проста гэтак, з усмешкай два мільтоны папрасілі прайсці. Во і прайшоў свой надта кароткі блытаны шлях — ад вакзальнай лавы да лавы падсудных. І цяпер — вышэйшая мера.

Каб не гэтая лапатка, ён бы, вядома, рызыкнуў. Было яшчэ сілы, яшчэ не ўсю яе выбілі на іх касталомных допытах. Але з такой лапаткай, лічы, аднарукі. А з адною рукой — квіты і кранты. І Зайкоўскі толькі кусаў вусны — ад болю і роспачы, што нічога не мог перайначыць у сваім недарэчным лёсе.

Між тым аблаяны ім буржуйскі чмур Валяр’янаў трохі пахіснуўся ад сварлівага суседа і не прамовіў ні слова. Наогул ён мала зважаў на тое, што рабілася навакол, і звыкла жыў у свеце ўласных думак, — адзіным свеце, у які мог не пушчаць нікога. Нават у турме. Ні з кепскім, ні з добрым, якое ў гэты пракляты час магло лёгка ператварыцца ў сваю супрацьлегласць. Як і звычайная чалавечая спагада, прыветнасць абарочвалася няшчасцем. Стрыечная сястра Валяр’янава, што пасля вайны апынулася ў Кракаве, выпадкам дазналася пра гаротны лёс брата, які зарабляў на хлеб рахункаводствам у Менску і гадаваў двух маленькіх дзяўчатак. Сястра паспагадала. Вясной пад каталіцкае Вялікадне Валяр’янаў атрымаў на пошце маленькі пакуначак з нетутэйшымі штампамі і знайшоў там дзве дзіцячыя сукеначкі, белыя панчошкі, безапасную брытву для сябе і пакецік цукерак у блішчастых абгортках. Для ягоных дзяўчатак то была вялікая радасць, ды і ён парадаваўся — найбольш першае за пятнаццаць гадоў вестачцы ад сястрычкі-гімназісткі, якую, думаў, назаўжды страціў у дзевятнаццатым годзе, калі яны развіталіся ў Кіеве. Аднак нядоўгаю была тая іх радасць. Не мінула і месяца, як

неяк пад ранак у дзверы пастукалі. Жонка Дуся ўскочыла з ложка і адразу залямантавала — яна ўжо прадчувала, што гэта такое. Ды і ён здагадаўся, адчыніў дзверы і ўжо не зачыніў іх — зачынілі за ім чужыя. Таксама як і за жонкай, якая білася ў істэрыцы і крычала, і кідалася на кожнага з цэлай зграі чэкістаў, што пераварочвалі ў іхнім пакойчыку ўсё дагары нагамі. Ужо назаўтра тыя сукеначкі і панчошкі сталі на следстве рэчавымі доказамі ягоных шпіёнскіх сувязяў з польскай разведкай.

Гэта быў яго шосты арышт пасля рэвалюцыі. Ён ужо стаміўся апраўдвацца і на допытах збольшага маўчаў, прымаючы зняважлівыя і пабоі як штось правамернае і заслужанае. Паміж допытамі жыў у роспачных успамінах аб сваім даўнім, дарэвалюцыйным, гэткім не падобным на цяперашняе жыцці. Хаця і там было рознае, але была вучоба, вайсковая служба і нават два перадваенных падарожжы — у Баварыю і Аўстрыйскія Альпы. У Кракаве ён ніколі не быў і не думаў, што гэты незнаёмы горад так трагічна прычыніцца да ягонага лёсу.

Часам бывала, калі трохі сціхаў вэрхал у камеры, Валяр'янаў маліўся-размаўляў з Богам. Прасіў у яго — не за сябе — за двух маленькіх дзетак, што засталіся цяпер немаведама дзе. Болей яму маліцца не было за каго. Прасіць Бога за жонку, мабыць, не мела сэнсу — ведаючы яе характар, Валяр'янаў меркаваў, што па-добраму з ёй не абыдуцца. А на зло яна кідаецца, нібы тыгрыца, не паглядзіць, хто перад ёй — следчы, канваір ці нават начальнік турмы, яна не зважыць ні на чын, ні на сілу. Арыштаваўшы, чэкісты павялі яе са звязанымі рукамі. З уласнага вопыту Валяр'янаў ведаў, што такія характары ў турме доўга не вытрымліваюць. Або іх забіваюць, або яны — самі забіваюць сябе. Страціўшы ў рэвалюцыю першую жонку-дваранку, ён ажаніўся з дворнікавай дачкой Дусяй, думаў, што цяпер прыйшоў іхні час. Але памыліўся. Час настаў, відаць, зусім непрыдатны ні для тых, ні для іншых. Не далі жыць з Дусяй, не далі жыць і самой Дусі. І во засталіся цяпер дзве дзяўчынкі-дашкольніцы, што з імі будзе?

Што неўзабаве будзе з ім самім, Антон Аркадзевіч не надта турбаваўся, ён разумеў, што прысуд яму вынесены не пазаўчора, а, мабыць, яшчэ ў семнаццатым. І то цуд, што ён пражыў пасля яшчэ столькі гадоў, — тэарэтычна тое было немагчыма, практычна ж неяк атрымалася. Толькі навошта? Што далі яму тыя дадатковыя гады жыцця? Несканчоную плойму

страху, клопату, рызыкі — за сябе, за жонку, за малых дзяцей. Усё ж, мабыць, кепска ён зрабіў, што ажаніўся і пусціў на свет галоту, бязбацькавічаў. На што спадзявацца малечы без бацькі і маткі — на добрых людзей? Але дзе тыя добрыя людзі? Выveліся дарэшты. Асталася надзея на святое правідзенне, на Госпада, які няўжо не паможа? Няўжо не возьме пад сваю боскую апеку маленькіх бездапаможных анёлаў?

Падобна, машына выехала з горада, а можа, і збочыла з шашы. Рух яе прыкметна запаволіўся, вялізную буду раз за разам трэсла і хістала на выбоінах, часам здавалася, вось-вось яна спыніцца, натужна равучы маторам. Партыец-бальшавік Шастак таксама добра ведаў гэтую дарогу і беспамылкова вызначаў, дзе яны едуць. Чым далей ад'язджалі ад турмы, тым ён турбаваўся ўсё болей. У турме за паўгода адсідкі ён не сказаць каб надта і непакоіўся — там у яго былі свае адмысловыя абавязкі: дагадзіць следчым, запомніць і далажыць ім, пра што гаварылі арыштанты. Ужо другі год Шастак быў членам ВКП(б) і разумеў перадавую ролю рабочага класа ды ягонага авангарда — партыі бальшавікоў. Ён няблага працаваў у дэпо, лічыўся ўдарнікам. Але калі ўжо здарылася такое, што ён апынуўся ў турме, дык і тут трэба паводзіць сябе як бальшавік: памагаць органам выкрываць ворагаў. Усім вядома, што ворагі — страшэнна хітрыя людзі, яны ўсё тояцца, хітруюць і ашукваюць; патрэбны д'ябальскія высілкі, каб іх выявіць і пакараць. І Шастак стараўся. Прыкідваўся дурнем, распытваў, слухаў і запамінаў, часам даваў парады. Як гэтаму аднаасобніку Казлу. Збянтэжанаму і скатаванаму на першых допытах, параіў яму прызнацца ва ўсім і падпісаць, што патрабуюць следчыя; маўляў, тады дадуць меней, а то і пусцяць дамоў. А будзе ўпарціцца — станецца горш, могуць і шлёпнуць. Казёл, здаецца, паверыў і пакрысе падпісаў. І праўда, следчы Кутасаў Шастака не ашукаў: Казла перасталі цягаць на допыты, той паспакайнеў і пачаў чакаць вызвалення. Следчы пахваліў Шастака, які нават парадаваўся за Казла, падумаў: можа, і сапраўды выпусцяць. Але менавіта пасля гэтае справы з Казлом штось саскочыла і ў Шастака, падобна, у чымсь западозрылі яго самога. Западозрылі, канешне, па-дурному, ні ў чым ён не быў вінаваты, бо ўсё рабіў, як казалі. І тое, што ад яго запатрабавалі падпісаць паказанні аб шкодніцтве на чыгунцы, спярша здалося яму непаразуменнем. Але ягоны следчы Кутасаў растлумачыў, што як член ВКП(б) ён абавязаны не

пярэчыць органам, а пасабляць ім у іхняй ганаровай рабоце. І павінен памятаць, што органы не памыляюцца. Няхай нават каго абвінавацяць несправядліва, але так трэба, каб выкрыць асабліва небяспечных лазутчыкаў, што зацясаліся ў згуртаваныя рады партыі. Зноў жа нехта павінен і ахвяраваць сабой, як гэта рабілі палымяныя рэвалюцыянеры, — дзеля інтарэсаў рабочага класа, у імя вялікіх ідэй Леніна—Сталіна. Партыя ацэніць усё па справядлівасці і не забудзе нічыіх ахвяраў... Такі паварот справы не дужа падабаўся Шастаку. Канешне, ён гатовы быў і далей дапамагаць партыі і яе органам і ўжо нямала зрабіў для таго, але адчуваў, што той шлях, на які яго падштурхоўваў следчы, усё ж тоіць у сабе небяспеку. Адзінае, што суцяшала яго, дык гэта тое бясспрэчнае меркаванне, што партыі лепей відаць, мабыць, так трэба, партыя не памыляецца. І, сцяўшы сэрца, ён пагадзіўся. Падпісаў паперы, быццам ён, Шастак Мікалай Іванавіч, з’яўляецца ўдзельнікам групы шкоднікаў пад назовай «Наперад за свабоду» (НЗС), якую ачольвае намеснік наркама шляхоў зносін. Сказалі, што ён мог бы ўдзельнічаць там і па заданні органаў, і Шастак ужо ведаў, што бывае і так. Галоўнае — пагадзіцца і падпісаць, а пасля на судзе ўсё адкруцяць назад і яго апраўдаюць. Суддзі — яны кваліфікаваныя чэкісты і сваго чалавека з органаў не дадуць у крыўду.

Дагэтуль у Шастака ўсё ішло быццам няблага. Яго не білі на допытах, абыходзіліся ветліва, з павагай, здаралася, нават частавалі гарбатай з цукеркамі. А тут нешта перамянілася. Тыдні два яго зусім не вадзілі да следчага, быццам забыліся, што ён тут сядзіць і чакае. Пасля павялі на суд. Шастак думаў, што ў адносінах да яго суд — пустая фармальнасць, але на справе аказалася не так. Не фармальнасць. Найперш да яго адразу зласліва паставіліся канваіры, сурова сустрэлі суддзі. Кароткі злы допыт там здаўся яму недарэчным: мусіць, гэтыя суддзі не ведалі, што ў яго інакшая, чымсьці ў астатніх, справа. Пэўна, не ведалі. Магчыма, следчы Кутасаў штосьці не перадаў ім. Якіх папераў ці якіх указанняў. І калі яму аб’явілі: да вышэйшай меры з канфіскацыяй маёмасці, ён найперш шчыра здзівіўся. Але тут жа падумаў, што, мабыць, так трэба. Усё ж ён там быў не адзін — іх было шмат, абвінавачаных ворагаў народа. Значыць, яго трэба было прыкрываць, каб не западозрылі іншыя. Хоць бы і той самы Казёл Аўтух, які таксама атрымаў вышку. А пасля, можа, Шастака і выпусцяць.

Бо завошта ж яго расстрэльваць? Яго ўзнагародзіць трэба за ягоныя пяцімесячныя турботы ў турме, за паслугі, якія ён аказаў органам і партыі. Пасля дзён колькі ён цярпліва чакаў у камеры, ды марна. Тады пачаў патрабаваць следчага, таго ж Кутасава. Аднойчы, калі ён, дужа затрывожаны, пачаў грукаць у дзверы, увайшлі два наглядчыкі і пачалі яго біць. Тады ён адчуў выразна, што ягоная справа дрэнь. Але ўсё роўна не хацелася верыць у кепскае, чакаў, што нарэшце Кутасаў яго пакліча, і ўсё стане, як трэба. А калі не кліча, то, можа, яго няма ў турме, можа, з'ехаў куды ў камандзіроўку. У Маскву. Не мог жа ён забыцца, што ў турме-«амерыканцы» яго чакае верны памагаты органаў партыец Шастак.

Ён выглядаў следчага ўначы на падворку, як іх вывелі для пасадкі ў машыну, але следчага не было і тут. Бы скрозь зямлю праваліўся. Тады Шастак пачаў думаць, што, мабыць, той з'явіцца перад самым расстрэлам і ў апошні момант адлучыць яго ад іншых. І ён думаў, што галоўнае для яго цяпер, як і раней — не раскрыцца, не зазлаваць, да канца выканаць свой сакрэтны абавязак. Тады ўсё будзе добра. Павінна быць добра.

...Машыну дужа пахіліла набок, страсянула, матор, чутна было, гучна зароў, але, падобна на тое, яны спыніліся. Сурвіла прыкладна вызначыў — у лагчынцы, дзе заўжды была разбіта дарога, і ў мокрыя дні стаялі глыбокія лужыны. Надоечы якраз пачаліся дажджы, лужыны маглі і пабольшаць. Седзячы ля дзвярэй, ён слухаў, як пад машынаю марна шархацелі ў каламуці колы — машына буксавала. Наперадзе бразнулі дзверцы кабіны і пачуўся мужчынскі голас — гэта вылез на дарогу памкамендбанта Касцікаў, які цяпер ехаў выканаць прыгавор.

— Лявей, лявей бяры, ахламон! — раздражнёна гукаў той да шафёра, які старанна газаваў маторам. Але машына толькі тузалася на месцы, камякі гразі ляскаталі па яе жалезным днішчы.

— Дай я...

Пачаў газаваць Косцікаў — і дужа, і цішай, але, падобна, дарма, — яны толькі глыбей садзіліся ў багну.

Некалі гэтага Косцікава, тады маладога хлопца, які толькі пачынаў службу ў органах, перавялі з раёна ў іхняе ўпраўленне турмы. На працы яго першым сустрэў Сурвіла, які тады заступіў на дзяжурства. Хударлявы, нясмелы Косцікаў уважна

слухаў ягоны апавед пра заведзеныя ў турме парадкі, абавязковыя строгасці з арыштантамі. Усё тут было яму новае, Сурвіла ж меў ужо сякі-такі вопыт. Тады ён параіў маладому чэкісту, дзе пашукаць кватэру, і той сапраўды знайшоў ладны дамок ля Кальварыйскіх могілак; неўзабаве запрасіў Сурвілу на госці, і яны добра там выпілі. Праз нейкі час Сурвіла перайшоў у следчы аддзел на павышэнне, а Косцікаў застаўся ў камендатуры на ягонай пасадзе памочніка каменданта. Цяпер, калі чэкісцкая служба Сурвілы гэтак трагічна канчалася, як бы той самы Косцікаў не заняў ягонае месца ў следчым аддзеле. Што ж, Сурвіла не меў падставы пярэчыць: Косцікаў хлопец талковы, сапраўдны чэкіст, не глядзі, што малады гадамі.

Урэшце памкаменданта, відаць, зразумеў, што сілаю рухавіка з багны не вылезці. Уключыўшы малы газ, ён выскачыў з кабіны і забразгаў засовам машыны.

— А ну — падпіхнем! Ты, Мікалай і ты, Казёл, вылазьце!

Яны сядзелі блізка ля дзвярэй і згодна падняліся. Сурвіла рашуча скочыў ботамі ў твань, а Аўтух замарудзіў, не ведаючы, куды тут ступіць. Але Косцікаў зноў злосна прыкрыкнуў, і Аўтух няспрытна плюхнуўся лапцямі ў ваду.

— Давай! Як я скажу, — камандаваў Косцікаў, стоячы на ўзбочыне. — Шафёр, паддай газу! Ну, раз, два — узялі!

Што было сілы яны пачалі піхаць у зад нізка асеўшай буды — Сурвіла з аднаго боку, Аўтух з другога. Вакол было цёмна. Збоч ад дарогі чарнеўся ў тумане лес, з начнога перадранішняга неба церушыў дробны дожджык. Колы шалёна кідалі ў іх ашмёткамі гразі. Сурвілава скуранка стала хутка макрэць, таксама як і руды суконны Аўтухоў армяк. Яны дужа стараліся, упіраючыся нагамі ў гразкае дно лужыны, але машына не зрушвалася з месца, мусіць, села як трэба. Спакваля тое зразумеў Косцікаў і крыкнуў шафёру, каб перастаў газаваць, — па-дурному паліць бензін. Цяжка дыхаючы, Сурвіла з Аўтухом выпрасталіся. У той час з буды пачуўся глухаваты Шастакоў голас:

— Дык гэта... Пусціце і мяне. Пасаблю...

— Давай! — сказаў Косцікаў і, ступіўшы адною нагой у багну, адчыніў дзверы. Шастак рашуча скочыў у гразь. Косцікаў зноў прычыніў дзверы.

— А ці трэба? — ціха сказаў да яго Сурвіла.

— Нічога! — махнуў рукой памочнік каменданта. — Не ўцякуць...

Ужо ўтрох яны зноў пачалі піхаць машыну, але ўсё марна, тая тузалася, дрыжэла ад натугі, а не кранапася з месца. Разам з ёю ўсім целам тузаўся ў будзе паэт Фелікс Гром. Ён думаў, што, мабыць, трэба б і яму вылезці і памагчы, усё ж няёмка сядзець, калі побач надрываюцца людзі. Але яго не клічуць і, мабыць, не паклічуць. Ён вораг. І ўжо куды большы, чым ягоны аднавяскоўвец Аўтух ці рабочы-партыец Шастак, не кажучы ўжо пра чэкіста Сурвілу. Чаго тут гэты Сурвіла, Фелікс Гром не зразумеў дагэтуль. Справу таго разглядалі асобна ад іхняй, і папраўдзе ягоны лёс не дужа і цікавіў паэта. Зрэшты, як і астатніх, апроч хіба ягонага земляка Аўтуха. Дзіўна, аднак, што справу камсамольца-паэта звязалі з асобаю аднаасобніка, з якім ён нічым звязаны не быў, апроч хіба таго, што паходзіў з той самай вёскі. Фелікс Гром быў ужо заўважаны ў літаратуры, а Казёл Аўтух з прычыны свае малапісьменнасці наўрад ці чытаў нават газеты. Але во звязалі абодвух. Не адразу, мабыць, толькі тут, у турме, Фелікс зразумеў, што трапіў у пастку не таму, што пачаў пісаць вершы, а што пачаў іх пісаць па-беларуску. Расейскія вершы не выклікалі да сябе і дзесятай долі тае ўвагі з боку рэдактараў і крытыкаў, якую выклікалі беларускія. І ён думаў цяпер, які д'ябал падбіў яго да паэзіі, тым больш — беларускай. Калі папраўдзе, дык яму куды болей падабалася руская — Пушкін, Лермантаў і асабліва Фет. Але пісаць так, як некалі пісаў Фет, было немагчыма, яго засмяялі б свае ж сябры-камсамольцы. Належала браць прыклад з Маякоўскага, які зусім не падабаўся Феліксу Грому. І ён памкнуў да згуртавання «Маладняк», у які дружна паўступалі іншыя маладыя паэты, і пачаў пісаць, як яны, — знарок прыўзнята, задзірыста, «бурапенна». Стараўся перайначыць у сабе прыроджаныя, а значыць, абывацельскія схільнасці і густы — усю гэтую любасць да бору і лесу, нязначных праяў жыцця, засвоіць іншую эстэтыку, інакшы слоўнік, напоўнены грымотай завадскіх цэхаў, дымам фабрычных труб, калектыўнай працай людзей, будаўнікоў камунізму. І, здаецца, нешта ў яго пачало атрымлівацца. Газета «Савецкая Беларусь» у аглядзе паэзіі памянула ягонае прозвішча ў ліку маладых пралетарскіх паэтаў. Нават надрукавала адну страфу з яго лепшага, на думку крытыка, верша пад назвай «Майскія

радзіны»: «Грымяць і стукаюць машыны, турбіны радасна гудуць — спраўляюць майскія радзіны, гэта ўдарнікі ідуць».

Акрылены афіцыйным прызнаннем свайго таленту, Фелікс напісаў яшчэ з тузін падобных вершаў і адчуў сябе заправускім песняром пралетарыяту.

Усё ў яго ішло добра, і раптам гэты недарэчны арышт. Пэўна, хтось на яго настукаў, даказаў за якое неасцярожна, па п'янцы сказанае слова. У турме спярша дапытвалі толькі за вершы ды размовы ў асяроддзі паэтаў, а пасля, мабыць, сцяміўшы, што з таго будзе невялікі набытак, звязалі ягоную справу з дзядзькам Аўтухом: — прызнавайся, што польскі шпіён! Здаецца, таго ж дамагаліся і ад Аўтуха. І дамагліся. Па сваёй сялянскай дурноце ці, можа, не стрываўшы здзекаў на допытах, Аўтух падпісаў паказанні, нібыта Казёл завербаваў яго ў агенты дэфензівы, каб той хадзіў праз мяжу. Трэба было яму вербаваць гэтага маласвядомага аднавяскоўца? І навошта яму патрэбна была тая мяжа? І навошта патрэбна было фальсіфікаваць усё тое органам?

Штурханіна і ляскат колаў знадворку раптам спыніліся, адно ледзь чутна гудзеў матор. Панылы голас чэкіста абвясціў:

— Ну што? Селі?

— Селі на дзіфер, — сказаў Шастак.

Фелікс Гром далікатна пастукаў у дзверы.

— Можа, і я памагу? Усё ж учацвярых...

Адтуль, знадворку, ніхто не адказаў, але дзверы, бразнуўшы, расчыніліся.

— А ну давай усе! Усе вылазь, маць вашу за нагу. І піхаць! Дружна, усе разам! — закамандаваў памочнік каменданта з напускной, аднак, злосцю. Менавіта такая яго злосць не палохала і не абражала. І Фелікс падумаў, што, можа, гэты чэкіст і не такі ўжо благі чалавек. За два месяцы турмы, допытаў і катаванняў ён натрываўся рознага і ўжо думаў, што сярод іх няма ніводнага людскага чалавека, адны звяры. А так хацелася хоць пры канцы сустрэць чалавека з дабрынёй у душы, які б паставіўся да небаракі калі не з разуменнем, дык хоць з маленькаю да яго спагадай. Усё ж ён быў чалавек. Хоць і паэт, і вораг, прысуджаны да вышэйшай меры пакарання.

Фелікс Гром скочыў у цемру, адразу ледзьве не да каленяў трапіўшы ў каламутную багну дарогі. Аднак астатнія двое за

ім не паспяшаліся, і памкаменданта Косцікаў зноў перайшоў на свой звыклы, здзеклівы крык:

— Ну, вы! Доўга чакаць, маць вашу растак!

— А скулля табе! — пачулася з буды — гэта спакойна азваўся грабежнік Зайкоўскі. — Я прыгавораны, мне не паложана штурхаць машыну.

— Як гэта — не паложана? — апешыў Косцікаў.

— А так! Крымінальны кодэкс РСФСР, стацця сто дваццаць сем-прым. Чытаў?

Азадачаны Косцікаў на хвіліну змоўчаў, шырока расставіўшы ля буды ногі, каб не ўлезці ў самае глыбокае месца. Цяжка сапучы адператомы, маўчалі іншыя. Фелікс Гром ямчэй прыладжваўся ў лужыне, каб спрытней было папіхаць з твані. Нарэшце Сурвіла сказаў:

— Ды залівае ён! Ніякай пра гэта стацці няма...

— Хай і няма. Усё роўна не выйду. Хоць задавіцеся! Прысудзілі расстраляць, дык будзьце любезныя даставіць у цэласнасці і сахраннасці да месца казні. Панятна?

— Зараз я табе пакажу месца казні! — ускіпеў Косцікаў і дастаў з кабура пісталет. — Будзеш у мяне ў гразі валяцца, як дохлы пёс, бандыцкая твая морда! — страшна пагражаў ён. Аднак да дзвярэй не лез, — усё баяўся ля іх трапіць у глыбокае месца багны.

— А што табе начальства скажа? — чулася з машыны. — Вёз — не давёз...

Падобна, становішча ўскладнялася. Аддзелены шырокаю лужынай багны, Зайкоўскі пакуль заставаўся недасяжны.

— Ну, падла, ты ў мяне дачакаешся! Я на цябе абоймы не пашкадую. Паследавацельна!

— Давай дуй! Паследавацельна...

Апошнія словы Зайкоўскага Косцікаў пакінуў, аднак, без увагі — яго турбавала іншае. Ён моўчкі агледзеў у цемры змакрэлыя постаці асуджаных, нібы палічыў іх.

— А там буржуй гэты, — падказаў Шастак.

— Белагвардзеец, — удакладніў Косцікаў. — А ну вылазь, гражданін Валяр'янаў! Ваша сранае благароддзя!

Спакваля з буды паказалася лысая, без шапкі галава Валяр'янава, які спярша сеў на парог, пашукаў, на што абаперціся нагамі, нерашуча перабраў побач рукамі.

— Сігай, не трусь! — падбадзёрыў яго Сурвіла.

Белагвардзеец, аднак, не сігануў, а, ухапіўшыся за плячо Аўтуха, грузна апусціўся ў лужыну.

— Ну — узялі! Раз, два — узялі! — трохі адышоўшыся ўбок, закамандаваў Косцікаў, усё размахваючы пісталетам.

Яны зноў узяліся піхаць. Шафёр газаваў рыўкамі, спрабуючы скрануць машыну з глыбока выкапанай коламі ямы. А ў зачыненай будзе чуўся прыглушаны, бы здаля, голас пакінутага ў адзіноце Зайкоўскага.

— Піхайце, піхайце! Дружней піхайце, жалкія рабы сацыялізму! Гнюсныя прыслужнікі трацкістаў! Піхайце на сваю пагібель. Шчыруйце за крывавы ЧК! Давайце дружней! Мацней, крэпчэ і вышэ!..

— Ты глядзі! — цяжка соп ля буды Шастак. — Тут кішкі ірвеш, а ён там абражае. Во сачок пракляты!..

— Давайце дужэй, пралетарскае адроддзе! То вам зачцёцца бальшавіцкаю куляй!..

— Замаўчы! Я загадваю замаўчаць! Буду страляць, — гразіўся Косцікаў, тупаючы па ўзбочыне ля машыны.

Аднак асуджаны Зайкоўскі не сунімаўся і яшчэ крычаў штось — нядобрае і абразлівае. Тады Сурвіла першы адарваўся ад вугла буды і параіў:

— Ды страляні ты яму ў ягоную глотку! Дакуль слухаць будзем?

— Лічу да трох і выпускаю ўсю абойму!

— Выпускай! Калі казённай машыны не жалка... — неслася з буды.

Аднак не паспеў Косцікаў пачаць свой адлік, як матор стрэльнуў выхлапам і заглух. З-пад машыны напаследак пыхнула сінім дымком, зрабілася дужа ціха.

— Што такое? — знерухомеў Косцікаў.

— Усё. Бензін скончыўся, таварыш памкаменданта, — глуха азваўся з кабіны шафёр. Косцікаў вылаяўся.

Усе стаялі моўчкі, быццам расчараваныя або ашуканыя чымсьці. Сапраўды, гэтак стараліся, столькі патрацілі высілкаў, і ўсё марна. І зноў прыйдзецца пачынаць спачатку.

— Так! — пасля нядоўгай маўклівай паўзы вызначыў Косцікаў. — Шафёр, давай дуй у гараж. Хай прысылаюць бензіну.

— Хай Чысцякову скажа, — параіў Сурвіла. — Чысцякоў у курсе, пад’едзе.

— І далажы дзяжурнаму, — удакладніў памкамендانта. — Давай дуй! Хутка!

Малады баец-шафёр зморана патрухаў па дарозе ў горад. Асуджаныя паволі выбраліся з гразі на сушэйшую ўзбочыну. Усе чакалі, што далей закамандуе іхні начальнік. Той аднаруч расшпіліў шынелак, з другой не выпускаючы пісталета.

— Так! Думаеце цяпер пашабашыць? Чорта з два! А ну бярыцеся! Зноў штурхаць будзем.

Не надта ахвотна ўсе зноў паўлазілі ў багну і ўперліся рукамі ў запэцканы гразёй зад машыны: Сурвіла і Шастак — па вуглах, Аўтух і Фелікс побач. Валяр'янаву дасталося самае гіблае месца — пасярэдзіне. Машына грунтоўна асталявалася, здаецца, на самай глыбіні лужыны і рабіла ўражанне, што вось-вось паплыве па ёй. Ды не плыла, нават не краталася з месца. Косцікаў, размахваючы пісталетам, зноў пачаў дырыжыраваць з абочыны, а яны, месячы нагамі багну, піхалі і піхалі.

Аднак зноў усё было марна. Машына асела зусім нізка і, падобна, ніякая сіла не магла яе вывалачы з дарожнае прорвы. Праз нейкі час уладны голас памкамендانта заглух, і яны расслабілі рукі.

— Так не пойдзе! — з горыччу загаманіў Шастак. — Калі піхаць, дык трэба ўсім піхаць. А то як у брыгадзе — адзін укалвае, а другі адлыньвае.

— Хто гэта адлыньвае? — насцярожыўся Сурвіла.

— А то не бачыце? Во буржуй гэты! Толькі за борт трымаецца.

Валяр'янаў ніякавата пацепаў плячыма.

— Я не трымаюся...

— Ну як жа! Хіба не бачыў! Яшчэ адпіраецца, — не сціхаў Шастак. — Дзеля прыліку толькі...

— Хто яшчэ бачыў? — насупіўся Косцікаў. Астатнія, аднак, маўчалі, і памкамендانта пачаў персанальны допыт: — Аднаасобнік, бачыў?

— Не, не. Нічога не бачыў.

— А ты, паэт?

Фелікс Гром ніякавата пераступіў у лужыне, каламуцячы і без таго скаламучаную твань.

— Ну, можа, ён і не дужа... Усё ж чалавек у гадах, — няпэўна адказаў ён.

— Ага, у гадах! Значыць, не можа? А шкодзіць савецкай уладзе можа? Так, я сам прасачу за кожным. Сачка прыстралю без разгавораў. І кіну пад колы. Тады вылезем.

Фелікс Гром сам піхаў, лічы, адною рукой, другой не мог высока ўзяцца — балела ў грудзях. І цяпер ён спалохаўся, каб тое не згледзеў пільны Шастак ці нават сам памкаменданта Косцікаў. Што яму перашкодзіць тут выканаць сваю пагрозу: прыстрэліць і кіне ў гэтую багну. Ад аднае думкі пра тое Фелікс здрыгануўся і страхавіта зірнуў на цьмяную постаць у шынялі на ўзбочыне.

Яны зноў піхнулі. На гэты раз па камандзе і з усяе сілы, у Фелікса Грома ад болю аж пацямнела ўваччу. Побач, адчуваў ён, нямала высільваецца і белагвардзеец-буржуй Валяр'янаў — мабыць, таксама пабойваецца чэкіста. Хаця, калі падумаць, чаго ўжо было ім баяцца, куды апантана імкнуцца? Наперад, да свае смерці? А можа, справа ў тым, што кожны быў пастаўлены перад просценькім выбарам, дзе лепей легчы — у пясчаную сухую зямельку ці ў гэтую багну, ад якой яшчэ ў жывых да каленяў задубелі ногі. «Так можна і прастудзіцца», — з іроніяй вісельніка падумаў паэт Фелікс Гром. Свой катафалк яны ж самі і штурхалі да месца паховін, то было штосьці новае ў спрадвечным абрадзе пахаванняў. Ці адмысловых метадаў катавання. Во пра што варта было б напісаць верш, баладу ці сагу. Але не рыфмаваным ямбам, а каб гекзаметрам, як Гамер. Мабыць, Гамер быў бы самы прыдатны паэт для гэтай праклятае эпохі...

— Раз, два — узялі!.. А ну — рушылі! Яшчэ раз! Яшчэ! — дзікім голасам крычаў побач Косцікаў. — Не адлыньваць! Дужэй! Яшчэ дужэй!

Разы два ён пальнуў угару з пісталета, прымусіўшы здрыгануцца іх, спатнелых і ўжо дашчэнту знясіленых. «Давай! Давай!» І во дзіва — машына трохі скранулася. Яны, узрадаваныя, паддалі яшчэ болей, напяліся рукамі і нагамі, і тая трохі пасунулася, прапаўзла ў твані. Тыя, што былі пасярэдзіне — Гром і Валяр'янаў, улезлі ў самую глыб, але не адступіліся, не прыбралі ад буды рук, і ўрэшце ўсе разам выпхнулі перапэцканую гразёй машыну з самага глыбокага месца. Хаця гразка было скрозь па дарозе, але ўшчэнт раскаламучаная лужына засталася ззаду, і яны знямогла спыніліся.

— Ну во, такую вашу маць! — амаль ласкава вылаяўся памкаменданта. — Што значыць умелае кіраўніцтва! А то —

аслабелі, сілы мала... Прымусіць трэба! Дзесяць мінут перакур! — аб’явіў ён і адышоўся на сушэйшае ля канавы месца. За ім нерашуча павылазілі з гразі асуджаныя, пакорліва стоўпіліся побач. Чэкіст засунуў пісталет за борт шыняля і выняў з кішаня пачак «Беламора». Найперш як сябру працяг пачак Сурвілу:

— Частуйся...

Той гразкімі пальцамі ашчадна дастаў з пачка адну папяросу, зважліва прыкурыў ад падстаўленай у прыгаршчах запалкі. Над дарогай паплыў араматны тытунёвы дымок.

— За ўдарную работу па ліквідацыі ЧП пры выкананні задання аб’яўляю благадарнасць, — з фальшывай урачыстасцю аб’явіў Касцікаў.

Асуджаныя нібы страпянуліся на дарозе ад тых даўно сцёртых з памяці слоў, адчуўшы ў іх пранізлівы водгук назаўжды адрэзанага ад іх жыцця. Тут жа яны зразумелі тое як жарт, але і жарт быў адзнакай жыцця, недасяжнасцю якога нібы дражніў іх гэты незразумелы чэкіст і тым рабіў ім яшчэ болей балюча.

Адзін толькі Шастак, здаецца, гатовы быў усур’ёз прыняць сказанае.

— Дзякуй, таварыш... Грамадзянін начальнік. Каб гэта залічылася...

— Залічыцца, залічыцца, — няпэўна паабяцаў памкамендanta.

— На тым свеце, — ухмыльнуўся Сурвіла.

— Чаму на тым? — не пагадзіўся ягоны калега. — І на гэтым. Я вам прадастаўлю самую лепшую ямку. Сухую, з жоўтым пясочкам... Не горш чым ударнікам сацыялістычнага спаборніцтва.

Было не зразумець, казаў ён тое сур’ёзна ці хітравата здзекаваўся з іх, у ранішнім прыцемку быў кепска відаць выраз яго жвавага маладога твару. Але голас здаўся зусім памяркоўным і добразычлівым, і тое міжволі заспакойвала.

— Ну але ж во я — не вінаваты, — ступіў наперад Шастак. — Ну праўда. Во той следчы таварыш Кутасаў ведае. Я не шкоднік.

Косцікаў смачна зацягнуўся папяросай і разважна выпусціў даўгі струмень дыму.

— Ну ведама, невінаваты. Каб ты быў вінаваты, табе б на следстве кішкі выматалі. Косці б пераламалі. Жонку б на

тваіх вачах таго... Калі б быў вінаваты. А так — спакойна застрэлім на сасновым пагорачку. І ўсё. Праўда, буржуй? — раптам звярнуўся ён да Валяр'янава, які стаяў трошкі збоч ад астатніх.

Падобна, ён хацеў зачапіць Валяр'янава, але той не адказваў на ягонае пытанне. Ды ён яго і не пачуў, гэтага маладога, самаўпэўненага чэкіста. Ён ужо нямала пабачыў іх на сваім вяку, пачынаючы з дзевятнаццатага года, калі яго расстрэльвалі ў Алушце. Ён думаў пасля, каб тады расстралялі, дык не было б тых пакут і прыніжэнняў, якія ён перажыў за ўсе наступныя свае гады. Але ў Алушце не расстралялі, толькі давялі да дыстрафіі і выпусцілі паміраць самахоць. І гэта пратрымаўшы тры тыдні сярод паўсотні былых афіцэраў добраахвотніцкай арміі ў сырым вінным склепе без ежы і вады, не выпускаючы па натуральнай патрэбе. Гэта апошняе дапякала Валяр'янава болей за голад і смагу, ён доўга не мог прызвычаіцца хадзіць «па-бальшому» і «малому» на вачах у натоўпу розных па чынах і ўзросце людзей, і ўжо тады зразумеў нялюдскую сутнасць чэкістаў. Яны — нелюдзі, так і трэба было іх разумець, калі толькі нармальным розумам магчыма было што зразумець. Родны брат Валяр'янава, мілы паручнік Аркадзь Аркадзевіч, так і не зразумеў, мабыць, з кім мае справу, — гарачыўся, пратэставаў, спрачаўся. І звар'яцеў. Прыстрэлілі, бы сабаку, і кінулі ў прыдарожны быльнёг. Ён жа вось выжыў, галоўным чынам таму, што не пратэставаў, ніколі ні з кім не спрачаўся, паводзіў сябе ніжэй за траву, цішэй за ваду. Зрэшты, чаго дачакаўся? Таго ж, што і брат. Толькі гадоў на пятнаццаць пазней. Варта было ашчаджацца?

Тым часам пачало днець. Абапал дарогі выплыў са змроку восеньскі палявы прасцяг з пагорачкам зводдаль і прыдарожным хмызняком паблізу. Зверху то імжыў, то пераставаў дробны восеньскі дождж, з поля дзьмуў вільготны заходні вецер. На пагорак бегла гразкая раз'езджаная дарога з налітымі дажджом каляінамі. Гараджане тут ездзілі нячаста, а каляіны былі ад машын наркамата ўнутраных спраў, які толькі і карыстаўся тае дарогай. Асабліва ноччу. А то, бывала, і ўдзень, падчас маскоўскіх праверак, калі ў горадзе тэрмінова разгружаліся турмы.

Тое, што Валяр'янаў ніяк не адрэагаваў на ягоную ўвагу, не спадабалася Косцікаву.

— Ты, буржуй! Да цябе абрашчаюцца!

— Я чую, — ціха, аднымі вуснамі адказаў Валяр'янаў.

— Дзякавай маёй дабрыні. Хацеў прыстрэліць.

— Дзякуй...

— Во! А то не напомніш — не падзякуюць. Буржуйская нявыхаванасць...

— Да сваіх яны дык дужа добра выхаваныя, — падхапіў Шастак. — Усё: благадару, благадару...

— Да сваіх, але не да пралетарыяту, — заўважыў Сурвіла. — Пралетарыі — іхнія ворагі.

— Мабыць, мала стралялі, — сказаў Шастак.

— Стралялі не мала. Але ўсіх яшчэ не перастралялі. Усё за віной гналіся. За даказацельствамі і прызнаннем. Болей паперкі пісалі, — як пра штосьці набалелае з горыччу зазначыў Сурвіла.

— А што пісаць? — здзівіўся Шастак. — Хіба адразу не відно: контра. Во гэты: камізэлька, гамашы, каверкот...

— Можа, яшчэ і гальштук завязваў? — прыгожа заўсміхаўся Косцікаў.

— Завязваў, — ціха адказаў Валяр'янаў. — Як кожны інтэлігентны чалавек.

— Вы паглядзіце: яго арыштоўваюць, а ён завязвае гальштук. Хіба павесіцца ў турме.

— Каб уйсці ад пакарання, — сказаў Сурвіла. — Ну, такі нумар у нас не пройдзець. У нас парадак!

«Каб яны задавіліся з іхнімі парадкамі», — дрыжачы на ветры ад макрэдзі, сярдзіта думаў Аўтух Казёл. З рознымі іх парадкамі ён ужо нямала пазнаўся, і не толькі ў турме. Асабліва апошнія гады, як сталі яго дапінаць за яго аднаасобніцтва. І было б за што? Хіба ён супроць савецкай улады ці супроць камуністаў? Але ж ён мусіў карміць сям'ю, жыць з уласнае працы. А яму кажуць: у калгас. Паглядзеў ён, як тыя разумныя гаспадарылі ў іхнім калгасе. Нявыбраная бульбачка гніла ў зямлі да маразоў, убранае збожжа прападала нявысушанае ў арцельным гумне. Інвентар за два гады разваліўся дашчэнту, не было каму паправіць калёсы. Умелыя паўцякалі ў свет, разумных перасаджалі, а хто застаўся? Бабы ды нямоглыя дзяды. І вядома, ягонае аднаасобніцтва сталася ім бяльмом у воку. Вясной абрэзалі зямлю, пакінулі адно балотную няўдобіцу з хмызняком. Пойдзеш у калгас? Не, не пайду. Тады абрэзалі пожні, каб не было дзе напасвіць кароўку. Затым пастанавілі ліквідаваць гумно, бо, ці бачыце,

будавалі калгасную абору, спатрэбіліся матэрыялы. Асець, пуню і ток — усё перавезлі ў калгас, дзе за зіму тыя бёрны расцягалі на дровы. Ужо не стала куды выпусціць і курэй. Зноў прыехала начальства: ну, пойдзеш у калгас? Сказаў: не пайду, на сваёй зямлі паміраць буду. Дык трактарам перааралі дарогу — ад хутара да бальшака. Каб не пратаптаў сцежку, засеялі вікай. Абмінаў тую віку за вярсту па лесе. Тады сказалі, быццам ён праз лес ходзіць у Польшчу. Каб ім да свае магілы гэтак хадзіць, думаў Аўтух.

Ужо ўсё абабралі, абрэзалі па самыя вокны, а тады пачалі зарыцца на яго маладога каня. Свае зрабіліся, як дэрбіны — ад бяскорміцы ды непасільнае працы, а ягоны конік быў, як намаляваны. Выгадаваны з жарабя ад уласнай кабылкі, ён быў прыязны гаспадару, можа, болей, чым жонка, чым нават дарослыя дочкі. Бывала, Аўтух возіць з поля снапы і да вечара так уходаецца, што не мае сілы сесці за стол. І не дзіва: цэлы дзень на кожнае горцы падстаўляе пад брыку плячо, папіхае; нібы ў парцы, памагае везці. Праўда, і конік нібы разумеў гаспадара, стараўся, выжыльваўся на маладых тонкіх нагах, вёз усё, колькі ні накладзі ў воз. Як было аддаць такога на безуважнае арцельнае карыстанне, дзе б яго заездзілі за адно лета, надарвалі, сапсулі. Дык укралі. Надвячоркам адвёў папасвіцца на свежую атаву, спутаў, ды не надзеў замок, пашкадаваў натруджаныя за дзень ногі. І ўкралі. Аўтух адразу ўведаў хто, зрэшты, пра тое ведала ўся вёска, быў у іх адзін такі злодзей — украў ён у Аўтуха не ў першага. Кінуўся Аўтух у міліцыю, у раён, да пракурора. І нічога. Усе ветліва слухалі і нават спачувалі, але шукаць і не думалі. А тое, што ён сам паказваў на злодзея, пад увагу не бралі. Казалі, патрэбны доказы, а доказаў няма. Але якія яшчэ ім доказы, калі ўсім навакол вядома, што гэты Балазен здаўна крадзе коней і збывае цыганам на Палессі. Аказваецца, не. Трэба доказы. Такі парадак.

Там патрэбны былі адмысловыя доказы, а вось тут можна караць і без доказаў. Аўтух ніколі і не падумаў хадзіць за мяжу, начарта яму трэба была тая Польшча, а яны кажуць: хадзіў. Быццам яны яго там злавілі. Ці хоць бы там яго хто бачыў. Але напісалі, хадзіў, і ўсё. Прызнавайся!

І ён, дурань, прызнаўся, паслухаўся гэтага партыйца і падпісаў, што падсунулі. Думаў, тым выгадае. А не выгадаў —

прагадаў дашчэнту. Стаўся польскім шпіёнам. Во зрабіў падаруначак сабе і дочкам. І ўсёй радні. На ўсё іх жыццё...

— Бальшавіцкі парадак! — згодна пацвердзіў Шастак. — Мыш не праскочыць.

— А ты памаўчы! — нечакана абрэзаў яго Косцікаў. — Ты — здраднік.

— Я? — аж пабялеў ад крыўды Шастак.

— Ты, ты, — роўным голасам паўтарыў памкаменданта. — Вось той, — ён кіўнуў у бок Валяр'янава, — той не здраднік, бо ён вораг адкрыты. Белы афіцэр і так далей. А ты — і нашым, і вашым.

— Я не вашым... То есць не нашым! — ад хвалявання пачаў блытацца Шастак. — Я служыў партыі, я бальшавік. Мяне тут гэта... Па ашыбке.

— Ладна, — махнуў рукой Косцікаў. — Разбяруцца... «Як гэта — разбяруцца? — не мог зразумець Шастак. Хто разбярэцца? І калі разбяруцца? Што гэта ўсё значыць? Вельмі няпэўныя былі тыя словы чэкіста, але ў свае няпэўнасці яны неслі нейкі зародак выратоўчай надзеі. А раптам і сапраўды яшчэ не ўсё страчана? Штосьці яшчэ направіцца?» І Шастак, апанураны і адначасна трохі абнадзееены, з зацятай крыўдай у душы адступіўся ўбок. Бліжэй да памкаменданта падышоў Сурвіла.

— Ты гэта, скажы, — ціха, падобна, каб не ўчулі іншыя, запытаўся ён. — І мяне?

— І цябе, — зірнуў на яго светлымі вачыма Косцікаў. Сурвіла зрабіў выгляд, што тое яго надта здзівіла.

— З імі во — разам? — кіўнуў ён на астатніх.

— Ну, гэта... Паглядзім, — няпэўна сказаў чэкіст і пусціў густы струмень дыму ў твар былога калегі.

Ад тых слоў Косцікава ў Сурвілы таксама з'явілася маленькая надзея. Канешне, у яго і ў думках не было, што нядаўні калега пашкадуе яго, не выканае прысуд. Ці нават не так яго выканае. Але, напэўна, ён усё ж мог трохі перайначыць тое выкананне, зрабіць яго па магчымасці прыстойным для свайго чалавека-чэкіста. Хоць бы і асуджанага. Бо нават аднолькавы прысуд не раўняў яго з гэтымі ворагамі народа, ён і пасля смерці прагнуў застацца салдатам арміі Дзяржынскага. Хаця, канешне, і ў яго здараліся хібы, часам ён памыляўся, часам не хапала адукацыі. Як у тым выпадку з маладой студэнткай, якую яму давялося расстрэльваць. Але

тады ён быў малады, а дзяўчына была дужа ўжо слаўная ў свае дзяўчачай прыгажосці — худзенькая такая, спрытная, з вялікімі здзіўленымі вачыма і вабным тварыкам, зірнуўшы на які, Сурвіла не наважыўся стрэліць. Ён стрэліў міма, каб не ў патыліцу, — ля вуха. Яна ўсё роўна звалілася ў яму, мабыць, знепрытомнеўшы ад страху, ды там і асталася, заваленая наступнымі целамі. Ніхто таго не заўважыў і не дазнаўся ніколі, але ўсё роўна Сурвіла пачуваўся ніякавата. Хаця, зразумела, тады ён меў невялікі чэкісцкі вопыт і паддаўся на дзявочую прывабнасць. Забыўся, што перад ім найперш выкрыты вораг народа. Ды ён памятаў свой ганебны ўчынак і, можа, менавіта таму стараўся. Тое старанне дало свой плён, і пасля, ужо ў следчым аддзеле, ён паказаў за паўгоддзе найлепшыя вынікі — 127 чалавек падведзеных да вышэйшай меры — болей, чым у каго-небудзь іншага.

І цяпер вось яго самога...

Не паспелі яны аддыхацца, прагнаць трохі стому, як здаля на дарозе з горада з'явілася машына — зноў вялікая крытая буда, якая, валюхаючы па калдобінах, пад'ехала бліжэй і стала. З яе выскачыла трое стралкоў у шынялях, з вінтоўкамі ў руках яны кінуліся да групы асуджаных.

— Адставіць! — спакойна сказаў Косцікаў. — Усё ў парадку.

Шафёры ўзяліся пераліваць з бляшанкі бензін, а асуджаных Косцікаў зноў загнаў у буду, дзе іх сустрэў незадаволены, быццам нават заспаны, Зайкоўскі.

— Не далі і паспаць... Падонкі!

— Наспішся! — сказаў Сурвіла. — Хутка заснеш вечным сном.

— А хрэн з ім! Чым такая жызня! — вылаяўся грабежнік і зноў выцягся ўпоперак буды сваім доўгім целам.

Яны зноў няхутка ехалі па гразкай, выбаістай дарозе, за імі нягучна гурчэла другая машына. Усе, аднак, адчувалі, што хутка іхні задоўжаны шлях скончыцца. Кожны стараўся не надта думаць пра самы-самы канец, а ўсё роўна думалася. Фелікс Гром ад самага суда і прыгавору ўсё ўяўляў сабе, як яго будуць расстрэльваць. Дакладна тае жахлівай працэдуры ён, канешне, не ведаў, але з кіно памятаў, як расстрэльвалі парыжскіх камунараў. Роўная шарэнга стралкоў, выстаўленыя наперад палкі-вінтоўкі, скіраваныя ў ахвяраў ля цаглянай сцяны. Тыя ў белых кашулях, з горда выпнутымі грудзьмі.

І залп. Лёгкі сіні дымок ад вінтовачных руляў, праклён цьераўскім катам... Прыгожа! Але дзе тут для іх якая шарэнга стралкоў? Тры вінтоўкі — тых, з задняй машыны, ды пісталет у начальніка — які ж тут залп?

І хто закрычыць праклён? Ужо ён, Фелікс, не будзе крычаць нічога — хай яны пагараць усе разам — і каты, і іхнія ахвяры. Увесь час, што ён прабыў у турме і на следстве, ён наракаў на Аўтуха і ягоную сялянскую дурноту. А як выявілася цяпер, былі там і горшыя за Аўтуха арыштанты. Хоць бы вось гэты Шастак. У камеры Фелікс яшчэ размаўляў з ім, нешта расказваў пра літаратуру. Трэба было! Ды ці Шастак быў там адзін? Добра яшчэ, што з імі не сядзеў Сурвіла, мабыць, таго трымалі ў асобнай камеры. У чэкістаў і камеры асобныя, як і ўсё іншае ў іхнім жыцці. Толькі паэт — сярод простага народа, без якіх даброт і прывілеяў. Фелікс Гром ужо шчыра шкадаваў, што некалі ўлёг у літаратуру, вучыўся, лепш бы застаўся непісьменны. Ягоны малодшы брат скончыў чатыры класы і рабіў у калгасе. Неяк будзе жыць без кніг і без вершаў. А што яму дало ягонае памкненне ў літаратуру?

Але ж во і дзядзька Аўтух таксама не пісаў вершаў. І наўрад ці калі чытаў іх. І цяпер яны будуць ці не ў адной яме разам.

Так, Аўтух Казёл на тым часе клапаціўся не пра якія там вершы, у яго быў зусім іншы клопат — бульбяны. Канешне, ён разумеў, што не час было думаць пра тое. Але во думалася. Недзе пад лесам застаўся шнурок нявыбранай бульбы, выйшла няўпраўка, як не стала каня. А той шнурок трэба было выбраць найперш. А то разыдуцца дажджы, залье лагчынку, тады не ўлезеш на яе і з канём. Ці здагадаецца пра тое жонка? Прападзе бульбачка, а што есці ўзімку? Хаця цяпер едакоў і паменее, але паменее і работнікаў. Зноў жа, скаціна...

Машына цяжка нахілілася ўсёй будой, пасля задралася ўгору кабінай, збочыла, пераваліла нейкі раўчук і дужа страсянула ўсіх на сподзе ў будзе. Зайкоўскі незадаволена падняўся ў змроку і сеў, прыхінуўшыся спінай да жалезнай сцяны. Але, мабыць, штосьці адчуў і не лаяўся. Ды і астатнія адчулі, што, мабыць, прыехалі. Дзверы буды пакуль што не расчыняліся, іх не выпускалі. Там, знадворку, штось перагаворвалася ахова, хтосьці пабег некага клікаць. Відаць па ўсім, там рыхтаваліся.

І во нарэшце дзверы расчыніліся. Трошкі нахіліўшыся падлогай, машына стаяла ў маладым хвойным ляску.

— Выхадзі! Па адным!..

Ніхто, аднак, не скрануўся, усе сцяліся, замерлі ў будзе і чакалі. Чаго толькі чакалі? Хутка, аднак, у дзвярах паявіўся жвавы, усмешысты твар Косцікава, які найперш брыдка вылаяўся.

— Ты! — упёрся ён позіркам у першага, каго згледзеў у цёмнай будзе — то быў Аўтух. — Выхадзі!

«Чаму я першы? Чаму я першы?» — закрыўдаваў у душы Казёл і нязграбнаываліўся з машыны. Вакол ціха стаялі дрэўцы-сасонкі і ля іх побач знерухомелі поўныя ўвагі маладыя хлопцы-байцы. Непадалёк і крышку ўбаку жаўцеў свежы пясчаны пагурачак. Усё было зразумела...

— Ну? Упярод!

З незразумелай злосцю Косцікаў піхнуў Аўтуха ў плячо, той зачапіўся раскіслым ад твані лапцем за росную траву і ўпаў. Сэрца яго моцна білася ў грудзях, было надта няёмка за свой нехуцавы, жабрачы выгляд, асабліва перад гэтымі чысцюткімі маладымі хлопцамі ў вайсковым, што цяпер з перабольшанай увагай уставіліся ў яго. Ён таропка ўстаў і апанурана патэпаў да ямы, душачы ў сабе крыўду: чаму мяне першага? Ці я самы найгоршы вораг?..

— Ну, хрысціся, — сцішана, без ранейшай злосці ў голасе сказаў Косцікаў. Аўтух, баючыся не паспець, таропка перахрысціўся — па праваслаўнаму, справа налева. І чакаў.

— На калені!

На беражку ямы ён паслухмяна апусціўся на калені. Зрушаны лапцямі пясок пасыпаўся ў яму, і ён спалохаўся, што зваліцца туды заўчасна. Але не зваліўся, толькі прыплюшчыў вочы і чакаў.

— Гэта нястрашна, — сказаў ззаду чэкіст і лязгнуў затворам пісталета — даслаў першы патрон. Толькі Аўтух зірнуў у прадонне глыбокай ямы, як стрэлу ўжо не пачуў. Здалося, яма сама кінулася насустрач і назаўжды агарнула яго пясчанай сваёй глыбінёй.

— Так! Адзін ёсць! — мовіў памкаменданта і пайшоў да дзвярэй машыны. Ягоная праца распачалася, ён рабіў яе звыкла і дакладна, як і кожнага дня.

Зноў у машыне ўсе замерлі, сціхлі, чакаючы, каго ён пакліча наступным. І тады ён згледзеў ці, можа, прыпамятаў

Зайкоўскага, які цяпер маўкліва туліўся ля задняй сцяны буды.

— А ну ты, бандзюга!

Прыгнуўшыся, Зайкоўскі сігануў да дзвярэй, рашуча скочыў з машыны.

— Рукі назад! Назад рукі!

— Куды назад? Во зламана, не бачыш?

— Я табе зараз і другую зламаю, — тузануў яго за рукаў пінжака Косцікаў. Зайкоўскі, аднак, ухіліўся.

— Не чапай! Даручана — страляй. А без рук!

— Ах ты, бандзюга!

— Я не бандзюга! Я болей палітычны, чым вы разам узятыя!

— Во як?

— Во так!

— Ну пайшлі, — трохі паспакайнелым голасам сказаў Косцікаў, паказваючы пісталетам у бок ямы. Байцы, што стаялі паблізу, паднялі штыхі. Мабыць, такое яны тут чулі не кожны дзень.

— Ты гэта во што! — раптам прыпыніўся Зайкоўскі. Спыніўся і Косцікаў. — Будуць расстрэльваць самога, каб не ў гэтай яме. Каб нам не смярдзеў.

— Ах ты гаўно! — вызверыўся Косцікаў і стрэльнуў Зайкоўскаму ў грудзі — раз, другі, трэці. Той няўклюдна паваліўся на рассыпаны каля ямы пясок. Пад яго целам пачала расплывацца крывавая лужына.

— Будзе мне яшчэ пагражаць... Пагражаць мне! — не мог супакоіцца Косцікаў.

Зласлівыя словы расстралянага чымсьці, аднак, зачапілі чэкіста, які трохі пастаяў з пісталетам, сочачы, як здрыгаецца і выпінаецца ў апошніх канвульсіях вялікае цела бандыта. Адкінутая ўбок здаровая рука яго згрэбла жмут мокрай травы, але не вырвала, пальцы паволі расцяліся.

Амаль лагодны напачатку настрой Косцікава пачаў прыкметна псавацца. Звыклы працэс прывядзення ў выкананне прысуду яўна парушаўся, і прычынаю таму — гэты маскоўскі бандыт. Са сваімі беларускімі ворагамі Косцікаў не меў вялікага клопату, тыя заўсёды былі паслухмяныя і перад ямай паводзілі сябе як авечкі. Турма, доўгія месяцы допытаў, суд ламалі іх канчаткова, і расстрэльваць такіх было нават сумна. Некаторыя, праўда (асабліва з ліку партыйцаў), перад

смерцю крычалі: хай жыве Сталін, або камунізм, ці сусветная рэвалюцыя, мабыць, хітра разлічваючы на ягоную катоўую спагаду. Ён не пярэчыў: хай жывуць, калі каму хочацца, каб жылі, і заганяў чарговую кулю ў чарговую патыліцу. Ужо ён іх нагледзеўся, розных гэтых патыліц: чорных і рыжых, гладкіх і кучаравых, са срабрыстай сівізною і зусім голых, аблыселых. І ніхто ніколі не абразіў яго, не аблаяў нават, — што значыць палітычна свядомы матэрыял. Не тое што гэты крымінальны прыблуда.

— Выходзьце два адразу! — голасна скамандаваў ён ля машыны. — Ты, белагвардзеец, і ты, сраты паэта! Жыва!

Фелікс Гром паслухмяна саскочыў з машыны і спыніўся, чакаючы напарніка. Валяр'янаў аслабела і нязграбна вылязаў з буды, — павярнуўся на жывот, дацягнуўся нагамі да долу. Злезшы, нервовымі пальцамі пачаў зашпільваць гузікі бобрыкавага паліто. «А можа, жонка ўсё ж выжыве, — падумаў ён. — Нешта ўсё ж значыць пралетарскае паходжанне. Ды й дзеткі... Хоць і без бацькоў, але ўсё ж лепш, чым нічога. Жыццё ёсць жыццё, якое б там ні было...»

У расшпіленай тужурцы з загадзя закладзенымі назад рукамі цярпліва чакаў апошняй каманды Гром. Ён мала што бачыў вакол, вочы яго недарэчна змакрэлі, было страшэнна крыўдна за сваё да часу загубленае жыццё. Загубленае праз нядаўна яшчэ самае для яго святое — паэзію. Будзь яна праклята! Лепш бы растрасаць гной у калгасе, не чытаць ніякіх кніжак. Але хто ведаў, што ўсё гэтак скончыцца? Вельмі і вельмі шкада. З тым шкадаваннем у душы ён і пайшоў да жоўтага пясчанага пагорачка, за якім яго чакала ніштo.

Байцы ужо сцягнулі ў яму супакоенае цела Зайкоўскага. Рыхлы пагорачак быў дужа стаптаны іхнімі ботамі, беражок ля ямы стаў болей зручны, пляскаты. Валяр'янаў без напамінку апусціўся каленямі на яго краі, тройчы перахрысціўся і сціх. Ён быў гатовы прыняць сваю доўгачаканую пагібель. Хацеў памаліцца, ды падумаў, што не паспее. Фелікс Гром мясціўся побач, штосьці яму замінала. Толькі Валяр'янаў зірнуў уніз і заўважыў, што тут неглыбока, як два нягучныя стрэлы ззаду звалілі абодвух у яму.

У машыне засталіся апошнія — Шастак і Сурвіла, і Касцікаў крыкнуў ад ямы:

— Здраднік, выхадзі!

У дзвярах буды паказаўся збялелы з твару Шастак.

— Я, што лі?

— Ты, ты! Выхадзі!

— Я не здраднік. Я ўжо тлумачыў. Гэта ашыбка...

— Якая табе ашыбка! — вызверыўся Косцікаў. — Усё напісана і падпісана. Шагам марш!

Ушчэнт разгублены збялелы Шастак саскочыў з машыны і пачаў сутаргава зяваць, агаляючы гнілыя, абламаныя зубы.

— Але ж, але ж... Мяне нельга страляць... Я член партыі!

Такія словы ля ямы памочніку каменданта Косцікаву даводзілася чуць нярэдка, асабліва калі прыводзілі групу партыйцаў, і ў Косцікава ў адказ быў нарыхтаваны выпрабаваны аргумент, які заўжды дзейнічаў безадмоўна.

— Калі ты член партыі, — закрычаў Косцікаў, — дык якога ж хрэна аказваеш супраціўленне органам?!

— Я, я не аказваю...

— Ну дык марш! Марш да ямы! Ці памагчы?

Хістаючыся, бы п’яны, Шастак пабрыў да ямы. Але на разварушаным пагорку зноў прыпыніўся.

— Няправільна вы...

— Усё правільна! — сказаў памкаменданта і стрэліў яму ў патыліцу. Кастлявае цела Шастака спотырча паваліласся ў яму — да тых, што туды зваліліся раней.

Калі Косцікаў вярнуўся да машыны, там ужо стаяў, вылезшы з яе, Сурвіла. Ягоны азызлы твар стаў зусім бурачнага колеру — ад стомы ці нейкіх нутраных пакутаў.

— Што, і мяне туды? — запытаўся ён, маларухавым позіркам утаропіўшыся ў пясчаны пагорак.

— А куды ж? Асобнай ямы ў мяне няма.

— Выкапай.

— Яшчэ чаго не хапала!

— Давай я сам.

— Капай! — падумаўшы, пагадзіўся Косцікаў. — Усё роўна спазніліся. — Шафёр, нясі рыдлёўку.

Малады шафёр з пярэдняй машыны прынёс рыдлёўку, Сурвіла аберуч памацаў тронак, агледзеўся навакол.

— Дзе? Тут?

— Хоць бы і тут. Давай. Толькі жыва! — сказаў Косцікаў, не хаваючы, аднак, пісталета.

Сурвіла пачаў капаць — імпэтна, нервова, кідаючы ўбакі поўныя рыдлёўкі жвіру. Мабыць, усё ж хвалюючыся, ён мала дбаў пра акуратнасць і замест прамавугольніка магілы

расчаў бадай круглую яму. У сасонніку было не сцюдзёна, начная імжа ранкам спынілася. Сурвіла хутка ўгрэўся, азызлы твар спатнеў і зрабіўся яшчэ болей чырвоны. На хвіліну прыпыніўшыся, ён здзёр з плячэй абшкрэбаную скуранку, шпурнуў яе пад ногі Косцікаву.

— На, вазьмі. Нашто прападаць...

Запэцканым у гразі хромавым ботам той гідліва адкінуў скуранку з-пад ног. Сурвіла не стаў упрошваць — не хоча, не трэба. Яму таксама ўжо нічога не было патрэбна. Апроч вось гэтай асобнай магілы. Тут яму будзе спакайней, чым у агульнай, упокат з ворагамі народа. І ўсё ж яго распірала крыўда, змаўчаць якую ён не меў сілы.

— За што? Чэснага работніка органаў! Што я парушыў? Бязвіннага ворага забіў? Ды іх тысячамі забіваць трэба! Я стараўся! Чатыры разы прэміявалі. За ўдарную работу, да гадавіны Акцября. І ўсё дарма. Пашкадавалі ворагаў, шпіёнаў, нацдэмаў! І гэта правільна? Не! У органы прабраліся ворагі, во гэта што! Яны сярод нас!

— Годзе! — з надрывам загадаў Косцікаў. — Лепш памаўчы!

— Я маўчаў! Усё лета маўчаў. Як і ты! Як і сотні чэкістаў! І во мне за гэта...

— Маўчы і капай! — усё больш злуючыся, крыкнуў Косцікаў.

— Не, ужо скажу. Во і ты... Думаеш, уцалееш? Службай адкупішся? Не! Прыйдзе і твая чарга...

— Маўчаць!!

— Не, ужо скажу! Мы павукі ў банцы! Да... Сталін...

Мабыць, гэта было занадта. Непадалёк з вінтоўкамі нагатове стаялі байцы аховы, поўны трывожнай увагі чакаў ля машыны маўклівы шафёр. Усе са здзіўленнем утаропіліся ў знаёмага чэкіста, які капаў сабе магілу і гаварыў штосьці дзіўнаватае. Урэшце Косцікаў прыўзняў пісталет і, не цэлячыся, два разы стрэліў. Выпусціўшы рыдлёўку, Сурвіла падламіўся ў каленях і бокам асеў на раскапаны дол.

— Дабі ж... — выціснуў з сябе ледзь чутна.

Косцікаў ступіў на крок бліжэй і стрэліў у галаву. На траву і пясок пырснула шэрымі крупінкамі мазгоў.

— Вазьміце і туды, да астатніх, — загадаў ён байцам.

Закінуўшы за спіны даўгія вінтоўкі, тыя ўзялі былога чэкіста за рукі, пацягнулі да ямы. Косцікаў пайшоў у бок ад машыны.

Гэтая праклятая ноч дашчэнту выматала ягоныя сілы. Прыкметна пачала здраджваць вытрымка, як ён ні стараўся паводзіць сябе стрымана. Здаецца, нескладаная работа, але штодня адно і тое ж. Вязуць і вязуць, нібы бараноў, калі таму будзе канец? Вунь колькі накапана ямаў за вясну і лета. І будзе накапана новых. Косцікаў акінуў позіркам прагаліну між сасонак на схіле — мабыць, за восень заселяць і яе. І вельмі проста дзе-небудзь апынецца і ягоная яма...

У гэтым жыцці ўсё вельмі проста.

## НАРОДНЫЯ МСЦІЎЦЫ

З поля да вёскі можна было ісці па сцежцы, уздоўж кукурузы, каб затым на аселіцы завярнуць да хаты. Але той шлях цяпер здаўся задоўгі, і Іван, па мянушцы Снайпер, рашуча павярнуў на палетак. Тым болей што кукуруза тут выдалася дохлая, да калена даўгалыгаму Івану, як, зрэшты, і ўсюды ў іхнім калгасе. Апроч хіба шнурка пад борам, уздоўж бальшака ў раён. Але пра той шнурок дужа дбалі і старшыня, і брыгадзіры, — то быў шнур напаказ для начальства, якое з вясны сноўдала па раёне з найбольшым цяперашнім клопатам — пра кукурузу. Ні пра жыта, ні пра ярыну, ні пра бульбу так не дбалі, як пра гэтую кукурузу, якая, аднак, упарта не хацела радзіць на тутэйшых клятых падзолах.

Пра кукурузу дбалі, але скаціну кармілі ўсё ж сенам, хоць назапасіць яго на зіму было няпроста. Найперш не было дзе, усё паўзорвалі пад пасевы, засталіся хіба што балацявіны ды хмызнякі. Зранку Іван Снайпер касіў сваю пайку ў кустах між пнёў і алешніку, ды між пнёў не шмат накосіш, хіба на пару-другую рэзгінаў, і ўсё. Адно што — намахаешся касой да болю ў плячах. А тут, як наліха, скончылася курыва, і Іван Снайпер ледзьве датрываў да вечара. Як сонца пахілілася да лесу, плюнуў на тую нехуцавую пайку і з касой на плячы рушыў дадому. Памятаў, недзе ў кухвайцы павінен застацца распачаты пачак «Прымы».

Шоргаючы гумовікамі ў нізкарослай кукурузе, ён кіраваў цераз палетак наўкось і думаў, што кукуруза наўрад ці акрыяе да восені, каб хоць было што скасіць на сілас. Зрэшты, на гэтым падзоле не надта расло і ў ранейшыя, дакалгасныя, гады. Іван Снайпер памятаў, як колісь бурчэў бацька, возячы

сюды гной вясною: колькі яго ні вазі, ураджаю не будзе. Такая зямля. Непадалёк за кукурузным палеткам быў іхні надзел, на якім падлетак Іван упершыню сціснуў у даланях выслізганыя ручкі плуга і правёў сваю першую баразну. Увогуле скупы на пахвалу бацька тады шчыра пахваліў сына, сказаў: будзе гаспадар, ёсць на каго пакінуць зямлю. Аж гаспадара з Івана не выйшла, выйшаў снайпер, а зямля засталася нікому не патрэбнай, зрэшты таксама, як і яе былы гаспадар. Бацьку ўзялі ранняй вясной, а старэйшаму ў сям'і Івану найперш стала патрэбнай не скалектывізаваная зямля, а дровы, каб маці магла зварыць бульбу для траіх згаладалых братоў і сястры, якія зранку сядзелі на астылай печы. І ён з сякерай за дзягай ішоў у кустоўе, сек алешыны і па снезе цягаў іх на дрывотню, каб насекчы дроў і напаліць у хаце. Пра бацьку наогул стараўся не ўспамінаць, аж покуль яго не паклікалі ў раён і не ўручылі паперку пра рэабілітацыю «за адсутнасцю складу злачынства». Яшчэ праз год у райфо ён атрымаў 650 рублёў — за смерць бацькі, якая, як было напісана ў паперцы, наступіла ў сорак другім годзе «ад язвы страўніка». За тыя грошы Іван Снайпер купіў новую кухвайку і бутэльку «Маскоўскай». Каб памянуць бацьку.

З аселіцы ён пералез цераз жардзіну ў плоце і апынуўся на сваім агародзе. Перш чым выправіцца па баразне далей, звыкла павёў адным вокам да хляўка — ці няма дзе курэй. Другога вока не меў, замест выбітага асколкам пасля вайны ў шпіталі ўставілі шкляное. Але шкляное Іван Снайпер не падабаў і ўстаўляў яго хіба як куды ехаў — у раён ці да доктара на інвалідную камісію, куды спраўна выклікалі штогод. Каля дома абыходзіўся сваім апошнім, да якога прызвычаіўся за гады і бачыў ім адным не горш, чым некаторыя двума. Хоць бы і цяпер лёгка прыкмеціў жонку Стасю, якая, сагнуўшыся, стаяла ў бурачніку. Угледзеўшы яго, выпрасталася, хвіліну паўзіралася, пакуль ён падышоў бліжэй. Мусіць, не разумела, чаму ён так рана, калі ўсе іншыя мужыкі яшчэ шчыравалі на пайках.

— Што, ці скасіў?

— Анягож табе пакінуў?

— Усё?

— А што там касіць? Ацяробкі...

Жонка змоўчала, мабыць, не надта яму верачы. Але ён не стаў яе пераконваць, моўчкі павесіў касу на вугал і пайшоў у

сенцы, дзе на шуле вісела яго новая кухвайка. Ён паляпаў па кішэнях, але там было пуста, і тады ён успомніў, што два дні таму той пачак яны дакурылі ў Воўчым Лагу, як выпівалі з Ляплеўскім. З нагоды... Іван Снайпер ужо не памятаў, з якой нагоды была тая п’янка, бо п’янак розных з вясны здаралася ў іх нямала. Але ён памятаў, што апроч Ляплеўскага там былі яшчэ малодшы Цыпрукоў зяць, міліцыянер з раёна, а пасля набрыў абавязковы ў такой справе Дубчык. Добра пагудзелі тады, ледзь дабрылі да аселіцы, як ужо прыгналі з пашы кароў.

Ад няўдачы з курывам злосна стала на душы ў Івана Снайпера, а тут яшчэ пачала церціся аб ягоныя гумовікі маладая кошачка, нешта замяўкала, і Іван са злосці паддаў ёй у бок, хай не вярэдзіць душу чалавеку, у якога няма чаго закурыць. На падворку прыслухаўся. Праз дзве хаты адсюль чуваць быў мерны жалезны стукат: гэта цягавіты Саўчанка адбіваў на бабцы касу, рыхтаваўся да заўтрашняе касьбы. Але заўтра мелася быць нядзеля, і ўжо ён, Іван Снайпер, заўтра касіць не пойдзе. Хіба — з паўдня, паверне тыя ацяробкі, каб лепш падсыхалі ў кустах. Саўчанка ж, ведама, будзе шчыраваць і заўтра, як і кожнага дня. Гэта такі ўжо чалавек. Што значыць з сям’і падкулачнікаў. Ужо ў яго напэўна будзе што закурыць, падумаў Іван Снайпер і сступіў з нізкіх приступкаў ганка. За парканам на агародзе зноў выпрасталася яго дзябёлая жонка.

— Гэта чуеш, да Касатага Вусаў прыехаў, — лагаднейшым, чым раней, голасам паведаміла яна.

— Вусаў?

— Ну, Вусаў. Той самы!

— Да Касатага?

— Анягож...

«Во гэта навіна», — падумаў Іван Снайпер. Старэйшыя вяскоўцы гэтага Вусава памяталі ўсе гады да вайны і пасля, але ніхто дагэтуль нідзе не чуў і не бачыў яго. Спакваля пачалі на яго забывацца, думалі: прапаў за вайну, як тады папрападала нямала. Меркавалі, што туды яму і дарога. Ніхто ніколі не памянуў яго добрым словам, так ён насаліў тут за тыя некалькі гадоў, што ажыццяўляў класавую барацьбу і рэпрэсіі ў іхнім Богам праклятым раёне. А ён, глядзі ты, — аказваецца, жывы, здаровы і нават прыехаў да свайго сябрука — сувязнога Касатага. Але да каго ж яшчэ мог ён наведацца?..

— Надвячоркам Манька Валодзева бачыла, як з аўтобуса цераз аселіцу ішоў. Агародамі. Мусіць, каб не пазналі. Спраўны такі, у капелюшы.

— Мабыць, баіцца, аднак...

Узварушаны той навіной Іван Снайпер памалу пабрыў заляпанай каровінымі лепяхамі вуліцай да хаты Саўчанкі. Ён аж забыўся на сваю патрэбу, калі ступіў у расчыненыя варотцы яго сядзібы. Саўчанка, мажны, шыракагруды дзядзька з сівою чупрынаю на галаве, у белай расшпіленай сарочцы, скончыўшы адбіваць касу, прыладжваў яе да касавільна.

— Чуў? — запытаў ад варотцаў Іван Снайпер. — Вусаў прыехаў.

З выгляду быццам абыякавы да ягоных слоў Саўчанка падняў касу, памацаў, ці не кратаецца на касавільне. Каса не краталася.

— Прыехаў, ага, — пацвердзіў ён спакойна.

— Да Касатага?

— Да Касатага.

— І што яму трэба?

— Значыць, штосьці трэба, — ухіліўся ад адказу Саўчанка. Але, мусіць, ён таксама не шмат што ведаў. Хоць калі б і ведаў, ад гэтага чалавека не шмат можна было дазнацца.

— Закурыць у цябе ці ёсць?

Вялікай рукой Саўчанка моўчкі вышчаміў з цеснай кішэні штаноў пакамечаны цыгарэтны пачак, даў суседу, пасля ўзяў цыгарэту сам.

— Дык гэта што ж атрымліваецца? — закурыўшы, не мог чагосьці даўмецца Іван Снайпер. — Па-новаму пачынаецца, ці як?

— Можа, і па-новаму.

Саўчанка быў старэйшы за Івана і ў адрозненне ад яго негаваркі і стрыманы ў пачуццях. На тое былі свае прычыны: толькі якіх-небудзь пяць гадоў назад ён прыехаў з Сібіры, з ссылкі, у якой адбухаў ці не дваццаць пяць год. Паехаў некалі маладым мальцам з бацькамі-падкулачнікамі, а вярнуўся сівым і старым. Паводзіў сябе ціхмяна, мабыць, не адчуваючы раўнёй з астатнімі калгаснікамі, хоць бы во і з гэтым Іванам. Гэты так загераізаваўся ў вайну, што гатовы быў забыцца на сваё бацькоўскае прозвішча Ярашэвіч і ахвотна адгукаўся на мянушку Снайпер. Але лацно Івану, ён і праўда прайшоў агонь і ваду ў партызанцы і хоць славы там агораў не шмат,

затое языку цяпер даваў волю. Не тое што Саўчанка, нядаўні ссыльны падкулачнік, які на старасці год захацеў дажываць свой век у родным кутку. Тут трэба было раз і назаўжды забыцца на свае крыўды. Калі б яны забываліся.

— Я яму пакажу, сволачы, такую яго маць! — вылаяўся Іван Снайпер, кіруючы з падворка.

На вуліцы, аднак, ён спыніўся, яшчэ не маючы рашучасці рэалізаваць сваю злосць. Патаптаўшыся ля плоту, успомніў, што ёсць яшчэ чалавек, якому варта пачуць тую навіну пра Вусава, гэта — Ляплеўскі, настаўнік, што рабіў у раёне і прыехаў цяпер у касьбу памагчы маці. Тая жыла на краі вёскі, ля сажалкі, і Іван Снайпер рашуча скіраваў туды. Каб хоць параіцца, аслабаніць з душы тое, што пачало распіраць яго ад застарэлае крыўды. Калісьці той энкавэдэшнік перасаджаў палавіну вёскі. То быў чужынец, аднекуль прыезджы ў іхні раён і ў іхняе вёсцы займеў сабе вернага памочніка з мясцовых — Касатага, з якім і саджалі, пачынаючы з трыццаць трэцяга. Але асабліва пашчыравалі яны ў трыццаць сёмым, калі загрэблі і старога Іванавага бацьку. На ўласнага стукача Касатага ў вяскоўцаў злосці ўжо не было, яна ўся перагарэла за гады, калі гэтага недалэнгу таксама загрэблі, хаця і апошнім у тую пару — на заедак. Праўда, таму ўсё ж неяк пашэнціла вярнуцца пасля вайны з нажытымі ў лагеры сухотамі і таксама рэабілітаваным, як ягоныя ахвяры, што без следу пазнікалі ў лагерах і турмах. Цяпер ён жыў-дажываў са старой бабай у старым дамку, апусцелым ад дзяцей і сямейнікаў, якіх некалі было ў яго многа. Але сямейнікі параз'язджаліся хто куды, бо жыць з такім бацькам было не надта каб зручна, асабліва апошнім часам. Людзям Касаты казаў, што на супрацоўніцтва з органамі яго змусіў усё той жа Вусаў, бо Касаты меў грашок яшчэ з часоў рэвалюцыі, калі, будучы ў войску, пацікавіўся палітыкай і разы два наведаў партыйныя сходкі левых эсэраў. Тая цікаўнасць дорага каштавала салдату, ды і ці толькі яму аднаму.

На незагароджаным ад вуліцы падворку Ляплеўскага нікога не было відаць, але на паркане каля сенцаў віселі поруч дзве касы з блішчастымі лёзамі, згледзеўшы якія, Іван Снайпер зразумеў, што гаспадар дома. І яшчэ нехта апроч, які, мяркуючы па ўсім, памагаў яму на касьбе. Іван Снайпер пацііху перайшоў зарослы лапухамі падворак, зайшоў па той бок хаты і адразу ўбачыў двух мужыкоў. Пад глухой сцяной

ля старой разгалістай ігрушыны быў змайстраваны невялічкі столік з лаўкай, за якім цяпер сядзеў маладжавы, хаця ўжо лысы Ляплеўскі і ягоны госць Дубчык. Гэты, апошні, быў дужа падобны на дачасна састарэлага хлопчыка з худой шыяй і зморшчаным, бы печаны яблык, тварыкам. Абодва моўчкі ўтаропіліся ў нечаканага заходжага. На засланым газецінай стале валяліся калівы сарванай з градкі цыбулі і стаялі дзве шклянкі. Бутэльку, вядома, яны засцярожліва паспелі прыхінуць у траву побач, што, аднак, адразу згледзеў Іван Снайпер.

— П’ем! — замест прывітання строга канстатаваў ён.

— А што — нельга? — з выклікам азваўся Ляплеўскі. У ягоным паглядзе, аднак, мільгануў цень занепакоенасці — ці мала што? Усё ж Ляплеўскі нядаўна ўступіў у партыю, чаго дамагаўся шмат гадоў, як, зрэшты, і Іван Снайпер, таму з’явілася падстава асцерагацца. — І табе можам наліць. Дубчык, дай шклянку.

Дубчык, нешта жуючы поўным ротам, не адразу пасунуў сваю пустую шклянку, у якую Ляплеўскі ашчадна адмерыў роўна палову. Затым трохі плюхнуў у сваю.

— Во дакасілі, дык надумалі адмеціць, — сціпла патлумачыў гаспадар.

Іван Снайпер моўчкі выпіў тыя паўшклянкі — адным спраўным глытком, заядаць нічым не стаў, узяў са стала пачак «Прымы». Зацягнуўшыся пару разоў, расслаблена апусціўся на вузлаватыя карані грушы, што вытыркаліся з зямлі.

— А вы ведаеце, хто да Касатага прыехаў?

— Ну, а хто? Пляменнікі? У яго ж у Оршы племяшы жывуць, — спакойна зазначыў гаспадар, таксама закурваючы.

— Пляменнікі!.. Вусаў, во хто прыехаў. Той самы. Чэкісты НКВД. Які твайго брата змыліў. І тваіх, Дубчык. А то — пляменнікі...

За столікам ураз знерухомелі, змоўклі, Ляплеўскі на момант нібы праглынуў язык, а Дубчык нават перастаў жаваць.

— Гэта што ж яму трэба? — вымавіў нарэшце Ляплеўскі.

— А во нешта трэба. Можа, у свой час не дабраў?

— Дык не дабраў. Мы ж во засталіся.

— Мы дык засталіся. А колькі не засталося? У мяне — бацька. У цябе брат. Такі слаўны дзяцюк быў, граматны чалавек, усё вучыўся, вучыўся. І парцейны. У яго вунь, — Снайпер

кіўнуў на Дубчыка, які амаль са спалохам на дзіцячым твары нерухома сядзеў, адхінуўшыся да бёрнаў сцяны. — У яго во, лічы, уся сям'я ляснула.

— Бацька, — тонкім голасам сціпла ўдакладніў Дубчык.

— Бацьку ўзялі. А матка памерла. Чаму памерла — не знаеш? Бо надарвалася адна з кучай малых. Ты во добра — старэйшы. А трое малых тваіх дзе?

— Пад крыжамі...

— Во, пад крыжамі. Бо з голаду дайшлі. Помню, як жабравалі. Малыя. Па вёсках. Праўда, малым хоць давалі...

— Жабравалі, — паныла пагадзіўся Дубчык.

— Дык рэабіліціравалі, — уставіў сваё Ляплеўскі і завучана бадзёрым тонам дадаў як усім вядомае: — Парція дапусціла памылкі, яна іх і выправіла.

— Што? Выправіла? — настырчыўся Іван Снайпер. — Па шэсцьсот пяцьдзесят рублёў заплаціла? За чалавечую душу. Гэта кампенсацыя?

— Гэта — адчэпнае, — ціха ўдакладніў Ляплеўскі.

— Вот іменна — адчэпнае. Каб адчапіцца ад людзей.

— Але ж ты ўзяў? І ён во ўзяў, — кіўнуў Ляплеўскі на змарнелага пад сцяной суседа.

— А то — не ўзяць? Ты б не ўзяў?

— Мне не плацілі. За брата не паложана, — сказаў Ляплеўскі.

— А я ўзяў. Бо паложана. Па закону. Я на тыя грошы кухвайку купіў.

— Ты купіў кухвайку, а Дубчык — паўлітру.

— Не, тры бутэлькі купіў.

— Ну во, аж тры бутэлькі. І ўсё прапілі. Дык ці варта было плаціць такую кампенсацыю. Вы ж усё роўна ў райфо вярнулі. І кухвайку прап'еш, — сказаў ён і коратка задаволена рагатнуў, пазіраючы на Івана Снайпера, які ніякавата ёрзаў на мулкіх каранях.

— А што, болей няма? — іншым тонам папытаўся той пасля нядоўгае паўзы.

— Не, болей няма. Скончылася, — паказаў гаспадар пустую бутэльку. — Хіба ў Дубчыка...

— Была ў сабакі хата! — безнадзейна заключыў Іван Снайпер. — Пайду да Баранíхі схаджу.

У Баранíхі павінна штосьці быць — ці якая бутэлька самагонкі, ці хоць бы кіслага балгарскага віна, якое нікому не

падабаецца, бо слабое і добра не вып’еш. Але калі не было іншага, пілі, хіба толькі меней. Бо, як казалі, віно — не гарэлка, многа не вып’еш.

— Дык нам чакаць, ці што? — папытаўся Ляплеўскі.

— Чакайце, — няпэўна азваўся Іван Снайпер ужо з панадворку.

Ляплеўскі з Дубчыкам засталіся, дзе сядзелі. Абодва курылі і, не маючы вялікай ахвоты размаўляць, думалі кожны на свой лад. Ляплеўскі, хоць і не быў ад прыроды маўчун, але даўно адарваны ад вёскі, з вяскоўцамі размаўляў мала. Па-першае, шмат з кім тое было нецікава, а па-другое, ён ужо напярод ведаў, што ад каго пачуе. Выключэнне рабіў хіба што за сталом ці за бутэлькай. Іншая справа выпіць. Але шкада, што выпіваць нельга было моўчкі, прыходзілася гаварыць, што заўжды было небяспечна, асабліва ў вялікіх кампаніях. Ды і сам-насам таксама, бо не было ніякай гарантыі, што сабутэльнік — не падасланы сексот. Вось трохі выпілі з маўчуном Дубчыкам, але набрыў гэты балбатун Іван Снайпер, і Ляплеўскі адчуваў: цяпер пачнецца надоўга. Хаця цяпер яго трымала тут не так жаданне дабавіць, не Іван Снайпер, як навіна, якую той толькі што прынёс. Каб на цвярозую галаву, можа б, усё сталася іначай, а на хмельную Ляплеўскі рабіўся надта чуллівы: старыя крыўды нечакана ажывалі ў ягоных пачуццях і рабіліся амаль неадольнымі. Цяпер ён з трывогай думаў пра Вусава. Найперш — глядзі ты, не баіцца нічога, калі ў такую пару завітаў на месца выкрытага свайго злачынства, якое скрозь асуджана і людзьмі і ўладай. На што разлічвае чалавек, якога тут дзесяткі гадоў праклінала вяскоўцы, які пакалечыў жыцці шмат якіх сем’яў, панішчыў нямала людзей?

Ляплеўскі ўсё жыццё перажываў за старэйшага брата Сяргея, які першы з сям’і некалі выбіўся ў людзі і цягнуў за сабой астатніх. Яго пасля школы ўладкаваў у настаўніцкі інстытут у Оршы, дзе рабіў сам, узяў на кватэру ў сваю каморку ў чыгуначным бараку, карміў, апранаў і выхоўваў. Выхоўваў, вядома ж, у камуністычным духу, як і належала свядомаму камуністу-выкладчыку. Вучыцца было нялёгка, не хапала ні харчоў, ні часу, і Сяргей кожны раз, як выходзіла якая пастанова ЦК партыі, раіў брату яе прачытаць, падказваў, якую скарыстаць дадатковую літаратуру. І ўсё прывучаў выступаць на сходах, быць актыўным камсамольцам, не ашывацца па закутках, ініцыятыўна і смела паводзіць сябе з сябрамі, не губляючы,

аднак, класавай пільнасці. Тое не надта давалася ціхмянаму малодшаму Ляплеўскаму, але ён стараўся. У інстытуце быў членам бюро камітэта камсамола, агітатарам, здаў нормы на значкі ГТО, ГСО, «Варашылаўскі стралок». Разы два яго ўжо выклікалі на бяседу ў органы, здаецца. Мелі штось на ўвазе. Штось, аднак, добрае, нават прыемнае для ягонага лёсу. І ён чакаў.

Але ўсё рухнула аднойчы паўночнай парой. Толькі ён заснуў, зmoраны канспектамі «Кароткага курса ВКП(б)», як у шыбіну пастукалі. Сяргея не было дома, якраз за дзень да таго паехаў на вёску памагчы маці нарыхтаваць дроў, ну і прыхапіць сёе-тое з харчу для двух гарадскіх сыноў. Ляплеўскі адчыніў, у каморку ўвалілася чалавек шэсць энкавэдэшнікаў, паднялі Сяргееву жонку з грудным дзіцём, запатрабавалі гаспадара. Хлопец сказаў, што выкладчыка Ляплеўскага няма дома. «Где он, говори быстро!» — загадаў галоўны чэкіст з кароткімі вусікамі пад носам-бульбінай. Некалькі часу Ляплеўскі вагаўся, згадваючы, казаць праўду ці схлусіць. Але не стрываў і сказаў, як было, што брат у вёсцы. На вёсцы тае начы яго і ўзялі. Але ўжо не той з вусікамі, а мясцовы ўпаўнаважаны, мардаты бязвусы Вусаў.

Шэраг гадоў да вайны і пасля Ляплеўскі каяўся, што сказаў праўду, можа, трэба было паслаць іх у Віцебск ці ў Менск, — хай бы шукалі, трацілі час. А самому як-небудзь папярэдзіць брата, можа б, і ўратаваўся, калі б з’ехаў куды далей. Як гэта некаторыя рабілі тады. Але што было б самому, калі б тое яго ашуканства раскрылася? І без таго клопату яму хапала, часам ён ажно зайздросціў брату, бо той знік невядома дзе; калі жыў, дык, мабыць, яго кармілі. А як было жыць яму — выключанаму з інстытута, без жылля, без прапіскі, без працы. Добра яшчэ, што пасля некалькіх месяцаў бадзяння па падстрэшшах і ў садках у знаёмых уладкаваўся на чыгунку пуцявым рабочым, атрымаў карткі і нейкі заробак, які даў яму магчымасць датрываць да вайны. У вайну трапіў у акупацыю, ледзьве не памёр ад тыфусу ў роднай вёсцы, пасля яго загрэблі ў Германію на Рурскія шахты... А пасля вайны? Вербаваўся ў Карэла-Фінскую, вучыўся завочна і толькі тры гады таму выбіўся ў настаўнікі.

А летась нават прынялі ў партыю.

Ляплеўскі ўстаў ад століка, усё курачы, падышоў да плота. Сонца ўжо закацілася за лес, з алешніку за бульбяным

палеткам насоўваўся вечаровы прыцемак, мацней запахла бульбоўнікам, прыемна павеяла дымком з суседняга коміна. Плечы ў лёгкай сарочцы ўжо ахінала вільготная свежасць. Трэба было схадзіць у хату ды надзець пінжак, але гаспадар бавіў час, чакаў пасланца па дабаўку. Дубчык у заношанай шэрай світцы таксама цярпліва чакаў, падпіраючы худымі плячмі яшчэ цеплаватыя бёрны сцяны.

— Дубчык, у цябе хоць з радні хто застаўся?

— Ды няма нікога.

— А сястра старэйшая? Клаўдзяй, здаецца, звалі?

— Дык памерла.

— А малодшая?

— Тожа памерла.

— А Кандрусёва старэйшы сын. Ён жа табе дваюрадным братам даводзіўся?

— Таго ў вайну забілі.

— Дык што ж ты — адзін?

— Ну, — ціха азваўся Дубчык.

Дубчык і сапраўды жыў бабылём, адзін у старой хаце, скаціны ніякай не меў, не трымаў нават курыцы, рабіў у калгасе па спецыяльнасці «куды пашлюць», еў, дзе што дадуць. Піў, колькі нальюць, паводзіў сябе ціхмяна і непрыкметна. Калі дзе перабіраў, дык там і засынаў — хоць на лаўцы ў хаце, хоць пад кустом у полі. Мужыкі яго недалюблівалі за недаросласць, а болей за схільнасць да дармаўшчыны — у курыве ці ў выпіўцы; бабы ж нават любілі — за безадмоўнасць. Калі дзе што трэба было з мужчынскае працы — напілаваць дроў, узлезці на страху да коміна ці выкапаць магілу нябожчыку, найперш клікалі Дубчыка. І той рабіў. Пра плату не пытаўся ніколі, ды яму рэдка і плацілі, — звычайна давалі, на бутэльку ці самую бутэльку, якую Дубчык тут жа і выпіваў — з выпадковым сабутэльнікам. Але і сам пры выпадку не пудлаваў, калі ў каго паспявала выпіўка. На тое ён меў адмысловы нюх і не ўпускаў свайго ніколі.

Праз якіх паўгадзіны на падворку паявіўся Іван Снайпер, за ім нетаропка ступаў Саўчанка, які моўчкі дастаў з кішэняў пінжака дзве паўлітры, з важнасцю паставіў на стол.

— Ого! — міжволі вырвалася ў гаспадара.

— Вось табе і ого! — перадражніў Іван Снайпер. — Дубчык, а ну давай нарві цыбулі. І гэта — хлеба! Што ў цябе, вучыцель, хлеба няма?

— Хлеб ёсць. Зараз...

— Дык налівай!

Пакуль гаспадар хадзіў у хату, шукаў хлеб і надзяваў пінжак, Іван Снайпер з Саўчанкам налілі па шклянцы і выпілі. Дубчык тым часам нарваў побач на гародзе ладны пук цыбулі. Затым настала іхняя з гаспадаром чарга выпіць з тых самых шклянак. У бутэльцы засталося няшмат.

Выпіць балазе было і стоячы, але, каб курыць, мабыць, трэба было сесці. На гэты раз за столікам уладкаваліся Іван Снайпер з Саўчанкам, гаспадар прымасціўся пад ігрушай, а Дубчык наводшыбе ля вугла, на краі падмурка. Ён не курыў і ў гутарцы амаль не ўдзельнічаў. Так, калі запытаюць, адкажа. Але цяпер у яго ні пра што не пыталіся, трое дбалі аб сваім, і Іван Снайпер усё не мог супакоіцца.

— Прыехаў падлюга! Думае, тут пра яго забыліся. Не, яму, падле, таго не дарую...

— А што ты яму зробіш? — спакойна запытаўся Ляплеўскі. — Солі на хвост насыплеш?

— Ды ўжо адпомшчу сабаку.

— Як? У газетку напішаш? — з’едліва дапытваўся Ляплеўскі. — Вунь адзін напісаў, дык з партыі выключылі. За паклёп!

— Не, я пісаць не буду! Я яго заб’ю! — нечакана для сябе вырашыў Іван Снайпер. — А што? Што так гледзіцё?

— Такі рашучы. Глядзі, каб штаны не ўпалі.

— А і праўда, — стрымана азваўся Саўчанка. — Такому адпомсціць — не грэх. Было ў Сібіры, аднаго вертухая да кедра ў тайзе прывязалі. Праз месяц знайшлі — адзін шкілет. Камары заелі.

—Ага, то ў Сібіры! — з зайздрасцю вымавіў Іван Снайпер. — А тут дзе прывяжаш? Свае ж і адвяжуць. Каторыя сексоты.

— Не ўсе ж сексоты, — ціха зазначыў Ляплеўскі.

— Хапае. І ў нас таксама.

Ляплеўскі не запярэчыў, толькі прыслухаўся, каб зразумець. На што намякае? Ляплеўскі заўжды быў чуйны да нават малога намёку такога кшталту, бо за намёкам магла быць небяспека ці яе блізкі сігнал. Тое, што некалі пасобіла яму ў жыцці, дало магчымасць скончыць інстытут і нават уступіць у партыю, цяпер вельмі проста магло ўсё спляжыць. Настала іншая пара, пачалася новая палітыка, і невядома яшчэ,

як там, наверсе, паставяцца да інстытута сексотаў. Могуць тайна аддзячыць, а могуць і адкрыта спагнаць. У кожным з гэтых выпадкаў было няпэўна і неспакойна, гняло і выклікала трывогу. Нарабіў гэты дурань Хрушчоў вэрхалу не толькі з кукурузай...

Спакваля зусім звечарэла. Густаваты прыцемак праглынуў ужо агарод і падворак, накрыў дрэвы і дахі. Усё навакол сціхла, стаілася насустрач летняй кароткай ночы. Толькі пад ігрушынай за хатай чулася стрыманая гамана падпітых людзей ды мільгалі ў змроку чырвоныя аганькі іх цыгарэт. Адзін, выгнуўшы крутую дугу, знік у гародзе за плотам. Іван Снайпер са злосным мацюгом вырашыў:

— Годзе піць! Мальцы мы ці засранцы?! Гайда помсціць!

— Яшчэ ж бутэлька засталася, — напомніў Ляплеўскі.

— Тады налівай! Але па апошняй. Вунь Дубчыку, а то ён мала выпіў.

— Ды выпіў я. Можа, годзе? — няпэўна азваўся Дубчык, аднак, пасоўваючыся бліжэй да стала.

— Выпі. І ты, сусед, выпі, — запрапанаваў Іван Снайпер Саўчанку. — Там, брат, сіла спатрэбіцца.

— Ад гарэлкі сіла? — усумніўся Саўчанка.

— А ты думаеш — не? Выпіўшы заўжды дужэй цвярозага. Навука гаворыць, чытаў.

— Але ноччу нядобра. Нібы бандыты, — сказаў Ляплеўскі. Яму, пэўна, не надта хацелася лезці ў даволі сумніўную справу, ды ён не мог устаяць ад напору Івана Снайпера.

— Нам, значыць, па начы нельга? Ага? А ім дык было лацвей. Заўжды ноччу шчыравалі, каб сведкаў не было. Я ж памятаю, мне ішоў пятнаццаты год. Прыехалі трох: гэты Вусаў і з ім яшчэ два міліцыянты. Касаты — за панятога. Паднялі ўсіх апоўначы, толькі заснулі. Бацька якраз пастаўкі вазіў на станцыю, прыехаў азяблы, змораны, толькі чуні разуў, анучы ля грубкі развесіў. Уставай, ты арыштаваны. І вобыск. Усё перавярнулі, у дзежку з капустай шампалом шпыралі — контррэвалюцыю мацалі. Польскі шпіён! А я, панімаеш, не дужа і спалохаўся, бо ведаю ж: не шпіён, мяне яны не возьмуць. Чаму так думаў, дурань безгаловы? Вунь жа вас, Саўчанка, усіх пабралі, табе ж таксама было няшмат год...

— Дык то ж у трыццаць трэцім, — азваўся з-за століка Саўчанка. — На ссылку ўсіх бралі: і старых, і малых.

— А я скуль ведаў: на ссылку ці на расстрэл? Сядзеў з рабятамі ў запеччы, каб вобыску не мяшаць, а бацьку яны ля парога з узнятымі рукамі пад вінтоўкай трымалі. Бачу, гэты Вусаў выцягвае з куфэрка маю будзёнаўку з чырвонай зоркай. Скажу вам, неяк увосень бацька прывёз з кірмашу, дужа яна мне падабалася, тая будзёнаўка, з маленькімі такімі гузічкамі, таксама з зорачкамі. Я ж змалку да вайсковага прыхільнасць меў, шкада, праз калецтва не давялося нават да сяржанта выслужыцца.

— Во чаму ты так гімнасцёрку ўпадабаў. Трэці год з плечаў не скідаеш, — ціха пасміхнуўся Саўчанка.

— А што — паважаю. Але не пра тое гаворка. Надзеў раз тую будзёнаўку ў школу, ну мальцы і наляцелі: дай ды дай памераць. Адзін гузік і адарвалі. Бацька ўвечары пабачыў і адабраў, кажа: спярша аблавушку данасі. Крыўдна было, але, думаю, ладна. Ужо хутка дваццаць трэцяга лютага, дзень Чырвонай Арміі, ужо тады ён пра мяне ўспомніць. Выпрашу. Ды во — кукіш, а не дзень арміі. Вусаў гэты маю будзёнаўку міліцыянту аддаў, кажа: не дамо польскаму шпіёну чырвонаармейскі ўбор кампраметаваць. Тая будзёнаўка мне затым два гады снілася.

— Таму ты і снайперам стаў? — спытаў Ляплеўскі.

— Не, снайперам не таму. Снайперам гэта па слабасці характару. У партызанку, як вока асколкам выбіла, ну трохі загаілася, а тут блакаду немцы распачалі. Загад: усіх інвалідаў у строй. Якраз снайпера нашага Біклагу забіла, вінтоўка з прыцэлам засталася. Каму яе аддаць? Усе адмаўляюцца: то не магу, то не ўмею. Вядома, дрэйфяць, бо тут адвагі паболей трэба, чым з простым ружжом. Дык камандзір кажа: «Івану Ярашэвічу, у яго адно вока спраўнае, а другога няма, то і прыплюшчваць не трэба. Будзе біць нямецкіх захопнікаў». Во я і біў як снайпер. Двух паліцаяў шпокнуў і аднаго захопніка. Як цяпер памятаю: ранічкай на ўзлеску вылез з люка на танку, узіраецца ў дальні ўзлесак з бінокля. А я праз сто метраў пад кустом ляжу. Ну я яму і гвазданууў прама пад бінокль, так і абвіс у люку.

— Герой! — няпэўна сказаў Ляплеўскі.

— А ты думаў! Медаль «За адвагу» не кожнаму давалі.

— Ну, і камандуй. А мы за табой.

— Лады, мальцы! Тады яшчэ па каліву і завязалі. А то... Не знаю, які ён цяпер, а тады ладны бугай быў.

— Не думай, не змізарнеў. Такія не мізарнеюць, — сказаў Саўчанка.

Яны яшчэ выпілі — на гэты раз моўчкі, ужо агорнутыя новым клопатам, які абрынуў на іх гэты няўрымслівы Снайпер. Пасля Ляплеўскі ненадоўга адлучыўся да плота і зноў вярнуўся да століка. Іншым разам пара было ўжо і разыходзіцца, усё ж купальская ноч кароценькая, ды нейкая сіла трымала іх разам, як змоўшчыкаў небяспечнае справы, якая невядома яшчэ чым скончыцца. І яны ўсё сядзелі за столікам, на якім цьмяна шарэла газета з дзвюма парожнімі шклянкамі. Саўчанка нялоўка неяк саўгануў локцем і скінуў кудысь кавалак хлеба, які тут жа палез шукаць у траве. І доўга не мог знайсці, пакуль Дубчык не намацаў яго зводдаль на сцежцы.

— І каб усе разам! Каб ніхто не сачкануў, — папярэджваў Іван Снайпер.

— А чым мы яго? — прастадушна запытаўся Дубчык.

— А хто чым. Бяры кол або камень. Нажа няма?

— Нажа няма, — сказаў Ляплеўскі без ценю гумару.

— Дык прынясі! Ужо ж у хаце нож ёсць?

— Не, няма.

— Ну і хазяйства! Нават нажа не маюць. А калі зарэзаць каго?

Дубчык аж дробненька засмяяўся ад таго Іванавага досціпу, а можа, успомніўшы, што і ў яго не было нажа. Можа, гады чатыры, як зламаўся бацькаў самаробны, з драўлянымі тронкамі, выкуты ў местачковай кузні. У сваёй бабыльскай гаспадарцы Дубчык абыходзіўся сякерай, праўда, таксама старой і заржаўленай, з нязручнай і кароткай расхістанай ручкай. Яшчэ ягоны бацька, калгасны вартаўнік, збіраўся яе паправіць, маці ўсё лаяла яго за няздатны інструмант, ды так і не сабраўся да арышту. Тупаючы марознай зімой ля калгаснага свірна, ён усё спяваў прыпеўкі — недзе пачутыя, а таксама ўласнага сачынення, часам бязглуздыя, а часам з пэўным, дужа надзённым сэнсам. І хтосьці яго ўчуў. Ці адмыслова падслухаў. Як арыштоўвалі ўначы, дык гэты Вусаў, мабыць, не стрымаўшыся, працытаваў адну, якая на ўсё жыццё ўрэзалася ў памяць падлетка-сына: «У калгасе добра жыць, хто на могілках ляжыць». Бацька тады аж заўсміхаўся з радасці ад увагі да ягонай творчасці. Тады наўрад ці ён прадбачыў, што і сам хутка ляжа на нейкіх могілках і паўміраюць малыя

ягоныя тры дачушкі, састарыцца сынок, а тая сякера-інвалід з раструшчаным тронкам усё будзе служыць. Несмяротная сякера.

— Я гэта — па тапор збегаю, — ціха прапанаваў Дубчык.

— Давай, толькі хутка. А, ядры яго звер, — няўжо світае?

— Аднак світае, — пагадзіўся Саўчанка. — А ў мяне ў Кутах яшчэ пайка не скошана...

— Скосіш, паспееш! Ат, матары яго, давай разлівай, дап'ем і годзе, — раптам вырашыў Іван Снайпер. — А то... Сумленне не дазваляе.

— Не дазваляе. Сумленне — яно тонкая рэч, — пагадзіўся Ляплеўскі, ужо бразгаючы бутэлькай аб пустую шклянку.

— Мне годзе, — сказаў Саўчанка.

— Годзе дык годзе, — ахвотна пагадзіўся разлівака.

— Нам болей дастанецца. Ага, вучыцель? — падхапіў Снайпер.

— Я ўжо пас!

— Што так? Ці брата не шкада? Я ж твайго Сяргея во як учора помню. Граматны мужык быў.

— Да, граматны.

— І дужа парцейны. Тожа ў калгас заганяў, — сказаў Саўчанка.

— Што ж, такая палітыка была.

— Ну і яго загналі. Каб не крыўдна было, — зноў з нейкім намёкам сказаў Саўчанка.

— Каму не крыўдна? — здзівіўся Ляплеўскі.

Усё ж яны добра выпілі, і думкі ў іхніх галовах раіліся густа, блыталіся словы, што не ў лад з думкамі ішлі з языка.

— А ўсім — і камуністам, і беспартыйным, — няпэўна тлумачыў Саўчанка.

— Мой брат быў чэсны бальшавік, — пачынаў злаваць Ляплеўскі. — Гэта яго энкавэдэшнікі загубілі.

— Ён тут дванаццаць чалавек загубіў, — удакладніў Іван Снайпер, маючы на ўвазе Вусава. — І яшчэ мае нахабства сюды прыязджаць на госці. Ці не ведае, што ўсіх рэабілітавалі?

— А можа, ён мяркуе, што рэабілітавалі няправільна. Інакш гэта ж — брак у рабоце, — сказаў Саўчанка.

— Мы яму пакажам брак! Я яму самалічна чарапок раскрою! — лютаваў Іван Снайпер, ускочыўшы з-за стала. Але ўпаў, зачапіўшыся гумовікамі за траву, зноў з натугай ускараскаўся на ногі. У той час з пашарэлага падворку сунуўся Дубчык з сякерай у руках, якую ў яго адразу выхапіў Снайпер.

— Во гэтай сякерай галаву знясу!!

Наглядна дэманструючы астатнім, як ён зробіць гэта, Іван Снайпер замахнуўся ў паветры, і сякера, зляцеўшы з тронка, недзе тупа шпокнулася ў гародзе.

— Што гэта? Што ты мне прынёс, паскуда! А ну шукай!

Дубчык моўчкі палез у гарод, поўзаў там пад плотам і ў градках, але знайсці не мог.Тады Іван Снайпер выламаў бліжні кол з плота, адкінуў на траву рэшту ссохлых лазовых перавязкаў.

— Пайшлі!

Ён быў ужо на добрым падпітку, але, мабыць, не заўважаў таго. Астатнія, відаць, цверазейшыя за яго, напэўна, ужо сталі разумець сур'ёзнасць сітуацыі і не адразу кінуліся за самазваным камандзірам. Хоць і не стрымлівалі яго. Першым з гатоўнасцю скіраваў за Іванам Снайперам Дубчык, пасля з-за стала ўстаў Саўчанка. Ляплеўскі спрабаваў нешта намацаць на газеціне ды кінуў і таксама падаўся следам за ўсімі.

— Мальцы, не адставаць, не адставаць мне!

Яны выйшлі з падворка на пустэльную ранішнюю вуліцу. Вёска спала, сонца яшчэ не выкацілася з-за лесу, але навакол было ўжо добра відаць. Недзе ў хляве паблізу спазнела пракукарэкаў певень, цераз вуліцу, вяртаючыся з начнога палявання, перабег чыйсьці кот. Саўчанка збочыў на свой падворак і прыхапіў навостраную звечара касу — прыгадзіцца. Ля плота зранку ўжо пасвілася сівая каза Бараніхі, яна толькі азірнулася на мужыкоў і працягвала сваю традыцыйную справу. Бараніхі паблізу не было відаць, затое ў сваім двары Іван Снайпер адразу ўбачыў жонку. Ну вядома, тая не спала, як заўжды, калі гаспадар дзе-небудзь бавіўся, і цяпер стаяла ў варотцах.

— Куды гэта вы?

Іван Снайпер зрабіў выгляд, што не бачыць жонкі і важна пратупаў міма з калом на плячы. Тады жонка звярнулася да іншых.

— Аўдзей, Дубчык, куды гэта вы?

— Чэкістага біць, — не адразу патлумачыў Дубчык.

— Ай, Божа, здурнелі, ці што!

Жонка зусім выскачыла з варотцаў на вуліцу і аж залямантавала ў прадчуванні хуткага злачынства.

— Спыніцеся, не чапайце яго! Не рабіце таго, вы сябе пагубіце, не хадзіце туды!

— Ціха, цётка! — прыкрыкнуў на яе Ляплеўскі.

Жанчына засталася ззаду, а болей іх ніхто не спыняў, і яны не надта спорай хадой ішлі па вуліцы.

Сядзіба Касатага была на канцы вёскі, і чацвёра мужчын не надта суладнай чарадой валакліся туды. Імі кіравала няздзейсненая прага помсты, застарэлая крыўда. Нечакана яны атрымалі магчымасць сквітацца. Ляплеўскі трымаўся трохі ўбаку ад Івана Снайпера, ягонай рашучасці на вуліцы пачало бракаваць. Хоць ён і не быў меней за іншых п'яны, але не мог не разумець небяспеку іхняй задумы, асабліва яе наступствы. Мусіць, трэба б запярэчыць гэтаму Снайперу, думаў ён, але пярэчыць усё не выпадала, і ён ішоў разам з усімі — цяпер следам за Дубчыкам. Дубчык жа, можа, упершыню адчуў сілу свае праваты і гатовы быў дзеля яе на што хочаш. Асабліва калі разам з мальцамі, на чале з адважным завадатарам Іванам Снайперам.

Так яны прывалакліся нарэшце ў канец вёскі. Далей ляжаў пусты выган, а да сядзібы Касатага з вуліцы вёў нядбайна агароджаны плотам кароткі завулак. Прайсці ў той завулак мальцы чамусь асцерагліся. Іван Снайпер спыніўся, за ім спыніліся астатнія.

— А калі ён з нагана праз акно? — сказаў Ляплеўскі.

Усе на хвіліну змоўклі, прыслухоўваючыся, але ні на падворку, ні ў хаце нічога не было чутна. Пасля вечаровай гасціны, мусіць, там яшчэ спалі.

— Я ж казаў: трэба было ўначы, — сказаў Іван Снайпер.

— Трэба пачакаць: выйдзе. У дзевяць аўтобус, — патлумачыў Саўчанка. Іван Снайпер пагадзіўся.

— Правільна! Бы пры шашы ў засадзе.

Яны адышліся па другі бок пыльнай дарогі і спыніліся ля канавы. Нядоўгая вулічная праходка, падобна, стаміла іх пасля бяссоннае ночы, і Дубчык першы сеў на зямлю за канавай. За ім на дробную, запэцканую курамі траўку апусціўся Іван Снайпер і астатнія. Побач Снайпер паклаў свой інструмант забойства — кол.

— Я яму як урэжу! — гразіўся ён. — А вы не зявайце. Як упадзе, адразу насесці. Галоўнае, каб усе разам. Мы яму пакажам рэпрэсію... А закурыць? Ці ёсць у каго закурыць?

Усе, аднак, маўчалі, здаецца, курыва ні ў кога не было. Тады Іван Снайпер вылаяўся і сціх. Мабыць, трэба было патрываць, зрабіць сваю справу, а затым ужо дбаць пра курыва ці яшчэ што.

З-за саламяных і шыферных дахаў выглянула нарэшце нізкае сляпучае сонца, Саўчанка глыбей насунуў на вочы кепку. Ягонае звыкла зацiснутае жыццём пачуццё было на парозе нейкага выйсця, адчуваў, калі б яны здзейснілі тое, на што наважыліся, ён бы адчуў палёгку. Толькі во гэты Снайпер... Саўчанка пачынаў сумнявацца ў ягоных якасцях самазванага камандзіра-завадатара. І ўсё болей стаў пазіраць не на падворак Касатага, а на сцежку ў поле. Там, згледзеў адразу, паявілася з касой ранняя кабета Бараніха, за пуняй на гародзе стала, пастаяла, няўцямна ўзіраючыся з-пад рукі на іхнюю купку на выгане. Яна ішла касіць пайку, тым напомніўшы Саўчанку пра яго патрэбу, і ён затурбаваўся:

— Ну дзе ён там? Мне тожа касіць трэба.

— Ды чакай ты! У Сібіры не накасіўся! — груба папракнуў яго Іван Снайпер. — Заб’ем, тады і скосіш.

Яны і яшчэ пасядзелі моўчкі, напружана ўзіраючыся ў ненавісны падворак, які працягваў мірна спаць. Пэўна, пасля добрага гасцявання ўвечары. А можа, і ўначы. Але пачынаўся дзень, і ягоныя турботы ўсё болей апаноўвалі людзей. За парканамі суседніх падворкаў замільгалі жаночыя хусцінкі — гаспадыні распачыналі ранішнюю дойку, выглядвалі на вуліцу, калі пачнуць выганяць на пасту. Дбайна абскубваючы падплоцце, да мужчын паволі набліжалася памаўзлівая Баранішына каза. За ёй з’явіліся на вуліцы тры хлапчукі, — з цікаўнасці да таго, што тут мела адбыцца, паселі непадалёк пад плотам, моўчкі пазіраючы на мужчын.

— Ну што ён там так доўга! — занепакоіўся і Ляплеўскі.

— Хіба дняваць будзе?

— А можа, ён агародамі? Струсіць — па вуліцы, — памеркаваў Саўчанка.

— Дагонім! І ногі паламаем.

— Ну-ну.

Яшчэ пасядзелі колькі часу. Нарэшце Саўчанка рашуча ўстаў з канавы.

— Ды ну яго ў дупу! Пайду касіць...

— Дрэйфіш? — злосна прыжмурыў адзінае вока Іван Снайпер.

Не адказаўшы, Саўчанка ўскінуў на плячо касавільна і спорна пакрочыў краем вуліцы. Астатнія яшчэ болей апанурыліся, ужо амаль безнадзейна азіраючы абгароджаную сялібу Касатага. Сонца тым часам прыўзнялося над вёскай, стала прыграваць астылую за ноч зямлю. Іван Снайпер стомлена адкінуўся на локаць, вальней выцяг у канаву доўгія ногі ў шэрых, падсохлых ад начное расы гумовіках. Трохі паляжаўшы, успомніў:

— Ляплеўскі, а там не засталося?

Ляплеўскі, што сядзеў побач, ленавата павярнуў да яго лысаватую галаву.

— Адкуль?..

— Ты не цямні. Павінна застацца. У бутэльцы. Дубчык, а ну збегай. А то, знаеш, — галава расколваецца.

Дубчык паслухмяна ўстаў і моўчкі патэпаў вуліцай у другі канец вёскі, дзе нешта павінна было застацца. Іван Снайпер трохі пасядзеў яшчэ, але ягоная галава ўсё болей хілілася на грудзі. Чалавека агортала стома, і ён пляцнуўся плячмі на траву.

— Ды што ж цяпер мы — удвох? — няпэўна запытаў Ляплеўскі.

Іван Снайпер не адказаў. Калупаючы травіной у зубах, Ляплеўскі зірнуў на яго зверху і зразумеў: іхні завадатар спаў.

— Ну во — дачакаліся!

Ён, аднак, прадаўжаў сачыць за падворкам насупраць, ды там нічога пакуль не мянялася. Памаўзлівая каза між тым ужо наблізілася да іх па канаве, недаўменна ўзняла ад травы галаву і ўставілася на двух мужыкоў, што заміналі ёй пасвіцца на звыклым шляху. Ляплеўскі замахаў рукой: «Пайшла прэч!» Ды марна: каза і не думала саступаць. Хлапчукі насупраць засмяяліся, мабыць, ім стала цікава ўбачыць, як настаўнік будзе адганяць бадлівую казу. Ён хацеў устаць і як мае быць шугануць яе, ды раптам на падворку Касатага ўбачыў людзей. Ну, канешне, адзін у кухвайцы, згорблены і белагаловы, — то быў сам галоўны вясковы сексот, побач ягоная баба, а спінай да вуліцы стаяў мажны плячысты мужчына ў чорным пінжаку, з партфелем у руках. Яны развіталіся. Парукаўшыся, госць

лёгкім жэстам дакрануўся да светлага капелюша на галаве і, не азірнуўшыся, пайшоў да вуліцы.

— Іван! Іван! — Ляплеўскі штурхануў у бок таварыша. — Ідзе! Ён ідзе!

Іван Снайпер толькі прамармытаў нешта і вальней выпастаўся ў канаве. Ад прыкрасці Ляплеўскі вылаяўся, не ведаючы, што рабіць. Вусаў ужо згледзеў іх тут, за дарогай, і Ляплеўскаму здалося, зараз паверне назад — можа, на агароды...

Аднак Вусаў не павярнуў на агароды, толькі на момант замарудзіў хаду, выходзячы з завулка, і зараз жа даволі ўпэўнена скіраваў упоперак, цераз дарогу. Несумненна, да іх. Ад нечаканасці Ляплеўскі марудна падняўся на ногі, паспрабаваў зашпіліць пінжак, ды пальцы чамусьці не маглі намацаць гузік. Ён не мог адарваць позірку ад рослае постаці чэкіста, яго цвярдога, рашучага твару, кароценькага гальштука на грудзях і — асабліва — ад стракатых радкоў ягоных узнагарод на левай грудзіне. «Як у маршала», — мільганула недарэчная думка ў разварушанай свядомасці настаўніка.

— Здарова, вучыцель! — бадзёра павітаўся Вусаў. — На касьбу сабраліся?

— Ды не, знаеце, — штосьць выціснуў з сябе Ляплеўскі.

— А то хто? — кіўнуў Вусаў на распластаную постаць Івана Снайпера.

— Ды так. Сусед...

— Ну, а как жысць?

— Ды нічога.

Вусаў узіраўся яму проста ў твар, і ў тым позірку не было ні варожасці, ні насцярогі, адна спакойная ўпэўненасць бязгрэшнага праведніка. Збянтэжаны Ляплеўскі не мог даўмецца, як яму паводзіць сябе. Іван Снайпер ляжаў, бы нежывы, а што мог ён адзін? Ды і наогул ці варта было што рабіць? Упэўненасць чэкіста абяззбройвала, і Ляплеўскі толькі ўнутрана ўсміхаўся з нядаўняй свае рашучасці. А яны яшчэ турбаваліся, дурні, каб гэты чалавек куды не збег агародамі. Нашто яму куды бегчы?

— Я в курсе, — сказаў Вусаў, усё свідруючы яго сваім валявым позіркам. — Всех реабіліціравалі. Выплацілі дзеньгі...

— Дзякуй, — нечакана выціснуў з сябе Ляплеўскі.

— Галоўнае цяпер — не азлобіцца. Работаць, работаць надо! Для страны, для народа, для парціі...

— Ведама ж, партыя...

— Правільна! Парція ўсягда права! Чалавек можа ашыбацца, парція — нікагда. Ну, вучыцель, жадаю ўспеха.

Ён падаў на развітанне руку, і Ляплеўскі, бы да агіднай жабы, слаба дакрануўся да яе. Затым хвіліну пазіраў услед яго мажнай, крутаплечай постаці, як ён усё далей ішоў па вуліцы, абмінаючы ссохлыя і свежыя каровіны лепяхі ў доле, і не ведаў, што рабіць. Нават, што думаць. Са спазнелаю злосцю зірнуў на распластанага за канавай Снайпера, пад нагамі якога валяўся сухі кол з гнілым абламаным канцом.

Пасля злосна вылаяўся і паплёўся да свайго падворка.

# *Прыпавесці*

## СЦЯНА

*Рыгору Барадуліну*

Сцяна была каменная, закапцелая, дужа старая, як і ўвесь гэты будынак-турма, што дастаўся дыктатару краіны ад ранейшага дыктатара, а таму — ад яшчэ ранейшых. Дыктатары ў гэтай краіне не выводзіліся ніколі. Калісьці тут балявалі ці спраўлялі крывавыя трызны, плялі змовы і ўсялякія іншыя злачынствы — супраць улады, народа ці каго з тых, хто выйграў у бясконцае барацьбе за ўладу. Або прайграў, таксама. А цяпер тут сядзеў ён і такія, як ён. Іншыя, мабыць, сядзелі даўно і доўга, ён жа тут апынуўся нядаўна. Ранейшыя ягоныя гады і месяцы мінулі ў іншым месцы, надта, аднак, падобным на гэта. Перамена месца зняволення не дужа, аднак, яго ўзрушала — і там, і тут для яго быў нарыхтаваны каменны калодзеж, сыры і цёмны, — пяць крокаў удоўж і тры ўшыркі. Жалезныя дзверы з засовам, смярдзючая параша ў куце, — як і ўсюды. Адзінае, што тут прыцягвала ягоную ўвагу, была сцяна. Тая, што насупроць ад дзвярэй.

Колькі і дзе ні сядзеў, ён заўжды цікавіўся сценамі, тым, як і з чаго яны зроблены. І асабліва — што было па той бок, за сцяной. Звычайна па той бок была зваблівая, недаступная для яго воля, пра якую ён не пакідаў марыць. А зроблены сцены былі як трэба, як гэта ўмелі рабіць калісьці: камень, вапна і цэгла — усё спрэс сцвярдзелае і нязрушнае, бы дзяржаўная воля гаспадароў — не ўкалупнеш, не драпанеш. Не прастукаеш нават. Яшчэ ў першы тут дзень ён спрабаваў пастукаць на звыклай для яго турэмнай азбуцы, але аніякага адказу не пачуў. А можа, за сцяной не было нікога. Значыць, там магла канчацца гэтая мур-турма і пачынацца воля. Зелянець на

сонцы які куст цёрну, трава, буяць пры сцяне старыя дрэвы замкавага парку…

Стоячы на каленях ля сваіх лахманоў, ён прыслухаўся. Але скрозь было ціха. Наглядчык нядаўна пратупаў за дзвярыма, крокаў яго ўжо не стала чуваць. Слабая электралямпачка пад дужа высокаю чорнай столлю ледзьве развейвала змрок на каменнай падлозе, была, мабыць, глухая турэмная ноч. І ён пакрысе папоўз на каленях да той супрацьлеглай ад дзвярэй сцяны, пачаў яе мацаць, агладжваць — даследаваць.

Ніжні рад буйных каменных блокаў быў складзены шчыльна і нязрушна і не прымаў у сябе ніякі ягоны стук — хоць костачкай пальца, хоць кулаком. Тое ж было і вышэй. Драпін і нейкіх адзнак людскога паходжання на камянях хапала, але яны мала пра што яму сведчылі. Можа, там было што напісана, ды ў паўзмроку нічога нельга было разабраць. Хаця ён і не дамагаўся таго. Навошта яму былі адзнакі чыйгосьці лёсу — яму хапала свайго пакутнага, гаротнага і дужа няўдалага. Трудна было ўявіць нешта іншае ў тым лёсе, апроч гэтай во каменнай нары. Мабыць, іншага і не будзе ніколі, тут і скончыцца ягонае жыццё. Без жаднай надзеі.

А так хацелася лепшага, якой перамены. Толькі якой? Увогуле ён выдатна разумеў, што на спадзяванні не было падставы, трэба было мірыцца з найгоршым. І з тым дажываць адмераны табе Богам і суддзямі тэрмін. Ды ўсё не мог саўладаць з надзеяй. Здаецца, яна ўпарта і неадчэпна валодала ім.

Сцяна была сцюдзёная і цвёрдая. Спрэс шурпатыя бакі граніту, закамянелыя ад часу наплывы вапны. Дзе-нідзе, праўда, траплялі мякчэйшыя кавалкі, складзеныя з каменя-ракушачніку. І толькі ў кутку, у сырым і нават вільготным кутку ўнізе... Час ці, можа, вільгаць штосьці зрабілі нават з каменем ці з вапнавай зацвярдзеласцю — там, здалося яму, было трохі мякчэй. Канешне, не так, каб можна было штось выдраць, які кавалак. Але... Калі парупіцца, мусіць, варта было паспрабаваць.

І ён спрабаваў. Спярша кіпцямі, ды хутка пазламваў іх на абедзвюх руках. Тады голымі пальцамі. Пальцамі, вядома, не шмат дамогся, ды ўсё ж...

У яго з’явілася надзея, быццам нават цьмяная мэта жыцця. Ён пачаў менш успамінаць былое, нават менш гаротна думаць. Толькі чакаў, як крокі наглядчыка трохі прыціхалі за

дзвярыма, тады кідаўся ў кут, сядаў на кукішкі і дзёр, калупаў, драпаў. Ён амаль не пазіраў туды, яму ўжо не трэба было святло, пальцы яго ведалі ўсе драбніцы каменя, увогуле надта цвёрдага, якога, здаецца, не бралі ніякія ягоныя высілкі. Але на ражку, у самым кутку быццам было зручней — мякчэй, ці што. Менавіта там і сышліся цяпер усе ягоныя назапашаныя за гады воля і надзея.

Ён спаў у суткі, можа, якіх пару гадзін перад пабудкай — скурчыўшыся на трантах пад сушэйшай сцяной, неяк забываўся, пакуль здалёку не далятаў гук гонга — сігнал уставаць. Чакаў сняданак, міску чачавічнага сёрбава, якое з'ядаў за хвіліну. Астатні час удзень і ўначы бавіў у куце — бы шашаль у дрэве, тачыў камень. Ражок каменя ўжо яўна вызначыўся на каменным рэльефе, мабыць, яго можна будзе паспрабаваць выдзерці першым. А там мо з'явіцца і дзірка. Ці хоць бы патанее сцяна. Хоць бы каб маленькая дзірачка, ён бы, здаецца, пралез. Як было ў дзяцінстве, калі яны, падшыванцы, лазілі цераз агароджу ў суседні сад. Старэйшыя яго пасылалі першым, бо быў ён самы худзенькі — маленькі рухавы жэўжык, які пралазіў усюды, дзе толькі можна было пралезці. І дзе не было ніякай магчымасці — таксама. Ведаў з таго часу — калі пралазіла галава, магло пралезці і ўсё цела. Такі быў жэўжык. Пакуль не падрос і не заняўся палітыкай. У палітыцы было інакш. Часам не мог пралезці ніхто. Не пралез і ён. Таму і папаўся.

Ён не лічыў дзён і не ведаў, колькі мінула іх, як ён улёг у сваю бясконцую працу. Час для яго чаргаваўся пабудкай, ядой — двойчы на суткі, крокамі наглядчыка за дзвярыма — туды і назад. Як з'явілася Мэта, узнікла нецярпенне. Часам яно так жахліва ўзгаралася, што ён палохаўся. Ведаў, так нельга. Калі што і выйдзе, дык дужа няхутка, праз нялёгкае пераадоленне каменя і часу. Для таго патрэбны дні, месяцы, а то і гады. Трэба было запасціся вялікім трываннем, уменнем скараць час. І ён запасаўся. Прывучыў сябе да павольнасці, метадычнасці, непаспешнасці. Трудна было да таго прызвычаіцца, засвоіць тую непаўторнасць, д'ябальскую вытрымку, зрабіць яе другой уласнай натурай. Але ён стараўся, бо без таго не стала б надзеі. Нецярпенне нішчыла надзею — гэта ён ведаў пэўна. Надзея ж часам то зусім замірала, то ўзгаралася да нясцерпнасці. Неяк, калупаючы ўсё за ражком каменя, ён пачуў па той бок сцяны нейкія

адзнакі жыцця: быццам піск птушаняці. Нутраным зрокам ён ужо ўбачыў там птушынае гняздзечка — недзе паблізу ў зарасніку цярноўніка маленькія жаўтаротыя птушаняты, і тое здалося яму дужа добрым знакам. Нецярпенне ахапіла яго да роспачы. Спатрэбілася сцюдзёная разважлівасць, каб астудзіць яго. Той піск мог быць зусім не птушыны, а мышыны, напрыклад. Значыць, там магла быць нара з агіднымі турэмнымі пацукамі. Але і нара, мусіць, вяла кудысьці з муру. Можа, таксама на волю.

Аднойчы на зыходзе глухой начы, якую ён перабыў амаль без сну, усё калупаючы ў сваім змрочным кутку, адчуў, што той вугалок-аскялёпак нібыта кратаецца пад ягонымі пальцамі. Не надта каб дужа, але ягоныя чуйныя пальцы ўсё ж запрыкмецілі невялічкі рух — уніз і ўгару. Тое надало яму незвычайнага імпэту. Ён напяўся, рвануў, але тут жа і астудзіў сябе: сёння не трэба. Сёння хай будзе ўсё, як было. Мабыць, выдзерці той аскялёпак трэба на пачатку начы, а не ў канцы. Усё ж на пачатку куды болей часу і болей магчымасці. Зноў жа ўранку звычайна прыходзяць наглядчыкі.

Перад прыходам наглядчыкаў ён турбаваўся, каб тыя чаго не заўважылі на ягоным твары — якога ажыўлення, следу надзеі. Хоць у камеры было змрочна, але ён ведаў: штосьці магло адбіцца ў выразе яго аброслага шчэццю твару, у які яны кожнага разу пранікліва ўзіраліся. З цікавасці ці па абавязку свае турэмнай службы. І ён намагаўся зрабіць той выраз як мага спакайнейшым, засяроджаным на чымсьці ўнутраным, сонным, замкнёным ад знешняга позірку. Невядома, як тое яму ўдалося, але, здаецца, наглядчыкі пакуль што нічога не заўважылі. Тое ўжо было немалой удачай. Але ўдач цяпер яму трэба было шмат, ён прагнуў удач. І найперш у тым сырым куце.

І праўда, лёс да яго, мусіць, паставіўся міласэрна. Неўзабаве ён выдраў каменны аскялёпак — вузкі, з вострымі бакамі, за якім, аднак, нічога яму не адкрылася. Далей скрозь быў цвярды, шурпаты, сцюдзёны камень. Але тым аскялёпкам усё ж можна было дзейнічаць, нібы інструментам, тачыць ім паміж камянёў. І ён пачаў тачыць, адломваць, шараваць камень аб камень. Біць ён не мог, трэба было як мага пазбягаць шуму, каб нічога не ўчулі ні за дзвярыма, ні там, за сцяной. Ён па-ранейшаму не ведаў, што яго там чакае — воля ці, можа, новая турма. Але надзея ўпарта малявала яму пэўныя

перспектывы волі: горад, спатканне з сябрамі і з ёй... Яму б толькі адолець гэты каменны мур.

І ён калупаў — ціхенька, з асцярогай, увесь час чуйна прыслухоўваючыся да шолахаў-гукаў за дзвярыма. Раз-пораз падхопліваўся ды кідаўся на свае транты ў другім кутку. Але ўначы тое здаралася рэдка, уначы да яго праз дзверы амаль не зазіралі, болей глядзелі звечара. Пад раніцу наглядчыкі таксама, мусіць, стамляліся, хадзілі радзей і павольней. Аднойчы ён сцяміў, што варта пасунуць пасцель бліжэй у кут, каб рабіць сваю справу лежачы, так было б непрыкметней. Але як было тое зрабіць? Усё ж, калі пасунуцца з пасцеляй на метр, яны адразу заўважаць. А калі памалу, па колькі дзюймаў за дзень? І ён пасунуўся. Спярша на тры дзюймы, пасля на пяць. І яшчэ. Кожны раз, калі прыходзілі наглядчыкі, ён няўзнак і пільна назіраў за іхнімі позіркамі — ці не заўважылі яны? Не, пакуль быццам нічога. Ці, можа, гэтак умелі схаваць свае падазрэнні? Але тое было б жахліва, каб заўважылі і чакалі, маючы намер злавіць у самы апошні момант. Схапіць ззаду за ногі, калі ён ірванецца на волю.

У канцы лета ён ужо прасунуўся з трантамі ў кут амаль ушчыльную. Пра тое, што скончылася лета, ён меркаваў па вопратцы наглядчыкаў, якія апрануліся ў цяплейшае. Часам некаторыя прыходзілі, мусіць, знадворку, ад іх веяла восеньскай свежасцю, блішчэлі кроплі дажджу на плячах уніформы. У камеры ж заўжды стаяла аднолькавая тэмпература — халаднаватая для лета і цеплаватая для зімы. Ніякага ацяплення тут не было.

Яшчэ праз нейкі час ён пратачыў між камянёў вузкую шчыліну, у якую пралазілі чатыры пальцы ягонай рукі. Там сапраўды аказаўся лёх ці, можа, мышыная нара — вузкая і, здаецца, глыбокая. Ён ссыпаў туды ўсе наточаныя за ноч крошкі ад сцяны, і яны зніклі там, не пакінуўшы рэшты. Дзірку пад ранак, перад пабудкай, акуратна закладваў каменным аскялёпкам — той добра клаўся на сваё рашейшае месца, і нават зблізку нічога падазронага нельга было заўважыць.

Яшчэ дужа баючыся паверыць у сваю ўдачу, ён усё ж страціў частку свае насцярогі і ледзьве не загубіў усю справу. Сталася тое праз ягоныя рукі. Неяк прынёсшы ежу — міску чачавічнага сёрбава, наглядчык, немалады, з хваравітым тварам мужчына, спыніў позірк на ягоных руках. Ён таксама заўважыў тое, але рук схаваць не паспеў — у абедзвюх была

міска. «Што, будаўнік?» — папытаўся наглядчык і кіўнуў на яго рукі. Будаўнік, як мага спакайней адказаў ён, хоць у ягонай душы ўсё напялася ад раптоўнага страху: няўжо здагадаўся? Але не, здаецца, не здагадаўся, бо сказаў быццам са спачуваннем нават: і я рабіў мулярам. Пасля ўжо, застаўшыся на адзіноце, ён уважліва даследаваў свае агрубелыя, у цвярдых мазалях рукі. Ніколі яны ў яго не былі такія, фізічнай працай на волі ён амаль не займаўся. Будаўніком стаў тут, у гэтай камеры. Толькі не будаваў — бурыў старадаўні каменны мур, мабыць, тое было цяжэй, чым будаваць. Але дзеля волі на што не пойдзеш? Тое можна зразумець, толькі назаўжды страціўшы волю.

Мусіць, было б лепш, калі б ён загінуў, памёр, каб яго пахавалі сябры па барацьбе, і яна, паплакаўшы, пахавала б разам з ім і сваё да яго каханне. Так было б лягчэй, але так не стала. Сталася горш, і тое душыла сваёй няпэўнасцю, нескончонасцю, недагаворанасцю. У той восеньскі вечар яны рассталіся, як меркавалі, на пару гадзін, апоўначы ён абяцаў вярнуцца ў яе свяцёлку на паддашшы акрай гарадскога парку. І яна, памятае, нават не збіралася класціся спаць, сказала: буду чакаць. І не развіталася як мае быць, толькі трошкі прыгарнулася да яго і расчыніла палавіну дзвярэй — ідзі! Ён і пайшоў. Ён спяшаўся, бо ісці было на край горада, а часу бракавала, і ён спазняўся. Каб ведаў, куды спяшаўся! Думаў, па справе іх святой барацьбы, да сябра, а там чакала яго самая чорная здрада. І ён не паспеў падаць каханцы хоць які-небудзь знак, так нечакана абрынулася на яго бяда. І знік назаўжды. Вельмі можна было падумаць: уцёк. Ад сяброў, ад яе, з горада наогул. Ды яшчэ падумаюць, што здрадзіў. Можа, усё тое зрабілі іхнія ворагі, каб сябры і яна думалі, што ён прадажнік. І цяпер замест кахання яна яго ненавідзіць. Хіба ж можна кахаць здрайцу? А яшчэ ён не сказаў ёй самага галоўнага слова — усё думаў, збіраўся ды адкладваў. То не было зручнага моманту, то прыдатнага для таго часу. Думаў — пасля.

Не, яму вельмі патрэбна апынуцца на волі.

Усе гады, праведзеныя ў адзіночках ды ў агульных камерах, ён і не марыў калі-небудзь дачакацца волі. Канешне, можна было чакаць амністыі, часу, калі сканае дыктатар. Але дыктатары ў гэтай краіне паміралі нячаста, бо мелі жалезнае здароўе, як і наогул усе дыктатары. Хутчэй памрэ ён, ягонае здароўе ніколі не было надта моцнае. На волі, праўда, неяк

ліпеў, падахвочаны барацьбой за вялікую ідэю. Тут жа ён падупаў і часта кашляў, балела ў грудзях. Але як з’явілася гэтая надзея, ён адчуў сябе лепш, быццам набыў другое дыханне, і кашляў толькі, лежачы на трантах. Як калупаўся ў кутку, нават не кашлянуў ні разу. Не мог таго дазволіць сабе.

Аднойчы глыбокай ноччу, як пратупалі за дзвярыма і сціхлі крокі наглядчыка, ён намацаў у нары штось новае. Новы край каменя, ражок, за які можна было ўхапіцца. Пакуль што аднаруч, але, калі яшчэ папацець, дык можна і аберуч. Тое адкрыццё яго надта ўзрушыла. Гэта быў плён, новыя магчымасці, узрастанне надзеі, набліжэнне жаданай мэты.

Але, мусіць, не трэба было спяшацца. Хутка выдраць той камень наўрад ці ўдасца, на тое ў яго проста не хапала сілы. Спярша трэба было абкрышыць, пашырыць шчыліну, можа, раскалупаць побач другую. Усё ж, мусіць, ён перабольшыў свае магчымасці, пачаў дужа пацець і, канешне, стамляцца. Асабліва пад ранак. Ды яшчэ бадай што без сну. Якіх дзве гадзіны звечара ці перад пабудкай, мабыць, было замала і не давала часу адысці ад стомы, аднавіць сілы. Сваю міску чачавічнага сёрбава ён з’ядаў усю, але таго цяпер было мала. Неяк папрасіў дабаўкі, ды на яго толькі здзіўлена глянулі: чаго гэта ён раптам? І ён змоўк. Мусіў абысціся тым, што давалі.

З тае хвіліны, як ён намацаў край каменя, часцей стаў думаць пра яе. Яе мілы воблік паўставаў перад ім у куце, як ён калупаў, шкроб, тузаў. З’яўляўся ў кароткім сне. І заўжды кепска — сумна і гаротна. Ніколі — весела, гулліва, як нярэдка было на яве, асабліва калі заставаліся ўдваіх на яе паддашку. За сценамі шумеў дрэвамі вецер, у вокны пазіралі вузлаватыя сукі клёнаў, а ім так хораша было ўдваіх. Нават без слоў. З маўклівым клопатам адзін пра аднаго і аб іх агульнай і святой справе.

Цяпер яму б толькі сказаць, што ён кахае яе і ён — не здраднік. Ён — ахвяра, і няхай яна тое ведае. Каб усё папраўдзе. Каб яна не думала пра яго інакш — інакш ён не заслугоўвае. Калі б ён ведаў, як тое можа абярнуцца, быў бы тады інакшы. Быў бы ў сто разоў лепшы. Смялейшы. Разумнейшы. І кожны дзень, калі яны былі разам, гаварыў бы ёй, што кахае. Як нікога — ніколі. Калі б тое ведаў. Але ж не ведаў і не сказаў. І яго дужа гняло нясказанае слова.

І цяпер гэтая надзея...

Пакуль што, аднак, усё ішло няблага. Падобна, турэмшчыкі нічога не заўважалі і ні пра што не здагадваліся. З воглага заўсёды кутка дужа веяла сцюжай, камяні сталі халодныя, нават мерзлі рукі. Тое, аднак, дало падставу адчуць, што засталося няшмат. Некалькі апошніх камянёў, а там — воля. Аднойчы ўдзень, лежачы на сваіх трантах, ён пачуў галасы — гэта адтуль, з-за сцяны. Гаварылі дзесьці паблізу ад ягонага кутка, слоў нельга было разабраць, але то былі людзі з волі. Значыць, воля была дужа блізка. Менавіта ў такі час ён стрываў немалую трывогу, што пачалася зранку. За дзвярыма ўсчаўся крык, здаецца, кагосьці там білі. Пасля крык стаў глушэй, перайшоў у камеру, ці што? Ён сядзеў, слухаў і, сцінаючы сэрца, чакаў. Думаў, што тое нейкім чынам можа тычыцца і яго. І праўда, неўзабаве ягоныя дзверы шырока расчыніліся, уварвалася цэлая зграя турэмшчыкаў, з лаянкай выпхнулі яго ў калідор — пачалі шманаць. Перавярнулі ягоныя транты, абмацалі сцены. Ён нібы абмёр ад кепскага прадчування, здалося, што яны нешта ведаюць. Мажліва, ён аж пабялеў з твару і спалохаўся, што тое заўважаць. Быццам, аднак, не заўважылі — вымеліся, папярэдне піхнуўшы яго на скамячаныя растрэсеныя транты. Тую ноч ён не калупаў у куце, болей чакаў і слухаў. Нешта неспакойная выдалася ноч — ледзьве не да ранку хадзілі і бегалі за дзвярыма турэмшчыкі, зноў чуліся крыкі, лаянка, грозныя каманды. Але пад ранак усё быццам пацішэла і зусім аціхла. Ён трохі задрамаў перад пабудкай.

Наступныя суткі былі спакайнейшыя, і ён, бы згаладалы да ежы, улёг у сваю справу. Ён стараўся браць углыб у самую тоўшчу сцяны, не калупаючы яе ўшыркі. Калі б ухапіцца глыбей, ды яшчэ аберуч, каб ужо выдзерці, выкаціць вялікі камень, утварылася б нара-лёх. Каб толькі якая адтуліна. Ужо б ён прашчаміўся.

Што-колечы ён накалупаў, але стала невядома, куды дзяваць той каменны друз. Пакінуць у куце было нельга, тое б адразу заўважылі. Разы два ён высыпаў у парашу, якую выносілі зняволеныя пад наглядам турэмшчыкаў. Але і тое было рызыкова. Хіба з’ядаць? Пакуль што ён сыпаў друз у чаравікі, што стаялі збоч каля дзвярэй. Быццам навідавоку, але змрок не даваў згледзець, што ў іх. Сам быў босы. Быццам у абутку яму было горача.

Ранкам аднаго дня, яшчэ да сняданку, зірнуўшы ў свой кут, ён ледзьве не страціў прытомнасць: у змроку цьмяна свіцілася вузенькая кароткая шчылінка. Бы светлая стрэмка на глухой чарнаце сцяны. Баючыся, што тое заўважаць наглядчыкі, ён кінуў туды сваю турэмную куртку, неяк захінуў светлую стрэмку. Турэмшчыкі і праўда не заўважылі, але ён падумаў, што годзе! Трэба як найхутчэй ірваць кіпці. Іначай усё прападзе.

Наступнаю ноччу ён дамогся новага поспеху — так пашырыў шчыліну, што мог прасунуць у яе абедзьве рукі, неяк узяцца за бок каменя. Належала яго рваць на сябе, але ці вырвецца? Ці стане ў яго столькі сілы? Усё ж сілы, мабыць, было малавата. Тады ён пачаў варушыць камень — цягнуць і піхаць яго з боку у бок, зверху ўніз. Тое адабрала нямала часу, але дало большы вынік, — здаецца, ён перамагаў каменную пароду. З яго слабымі чалавечымі сіламі і яго магутнаю прагай волі.

Нарэшце ён выдзер гэты камень, хоць у самога паплылі ад натугі каляровыя кругі ўваччу, захлыналася дыханне. У сцяне быў вузкі і глыбокі лаз, з якога патыхнула сцюжай і змрокам бязмесячнай ночы. Але, мусіць, у яго не засталося часу. Да ранку былі лічаныя хвіліны — ён адчуваў, што не паспее. І ў апошнія хвіліны можа здарыцца бяда.

З вялікаю асцярогай ён ускаціў камень на ранейшае месца, доўга круціў яго, пакуль уладкаваў дакладна туды, дзе ён заўсёды ляжаў. Неяк затуліў трантамі шчыліны. Здаецца, і зблізку нічога не было відаць. Але калі не ўчыняць шмон. Калі будзе шмон, усё прапала.

Той дзень ён пачуваўся бы на іголках. То сядзеў, то ўскокваў, хадзіў сюды-туды па апрыклай камеры. Наглядчык, што прынёс яму сёрбава, быў у воглым шынялі і змакрэлых ботах, значыцца, там, на волі, ішлі дажджы. Здаецца, настала вясна. Значыць, ён дамогся нейкага выніку толькі праз паўгода. І яго не выкрылі. Ужо гэта была ўдача — нечуваная, небывалая. Жахліва, калі ўсё сарвецца ў апошні час. У апошнія хвіліны. Яму б толькі дачакацца начы...

Але настала і ноч. Турэмшчыкі паводзілі сябе, як заўжды: прынеслі вячэру, змянілі парашу. Ні ў іхніх паводзінах, ні ў позірках, здаецца, не было нічога, што выклікала б у яго трывогу. Ужо ён бы заўважыў. Ягоны зрок і слых сталі цяпер, бы напятыя струны, бы лазерны прамень — ён заўважаў

усё. Надта шмат цяпер залежала не ад яго — ад іншых. І ён настроіўся на іншых — на ягоных турэмшчыкаў. Што залежала ад яго, ён зрабіў усё. Нават болей, чым спадзяваўся.

Ён хваляваўся. Увечары не здолеў з'есці сваю пайку хлеба (не лезла ў горла) і не ведаў, куды яе схаваць. Няз'едзеная, яна магла выклікаць падазрэнне і выдаць яго. Сунуў яе ў чаравікі, да паловы засыпаныя друзам. А сам ужо прызвычаіўся босы. Як босаму будзе там, на волі, не хацелася думаць. Галоўнае, каб вырвацца на тую волю. Як добра ўцямнела і за сцяной аціхлі ўсе шолахі-шумы, стаў на калені і перахрысціўся. Канечне, ён быў не надта рэлігійны, але ж... Мусіць, для надта вялікае мэты здатны ўсе сродкі — і д'яблавы, і Богавы. Абы памаглі. Трохі адкаціў убок камень, згорбіўся, нагнуўся — галава пакуль што лезла. Дужа абдзёр вуха, садраў скуру на лобе. Але прашчаміцца целам было трудней. Галоўнае, не пралазіла плячо і за ім рука, як ён ні выкручваў яе у гэтым каменным лёху. Тузаўся так і сяк, аж спалохаўся, што зусім зашчаміўся, бо не мог ужо выдзерціся і назад. Але ўсё ж, неяк намогшыся, прашчаміў руку з галавой, мабыць да крыві абдзёршыся пад кашуляй. Горш, аднак, што і далей не стала лягчэй. Ён ужо адчуваў, што пасунуцца назад ці наперад у яго проста не стае сілы. Некалькі часу ён ляжаў так, зашчэмлены ў камяніцы, і не рухаўся. І тады выразна адчуў, што прападзе. Калі не знойдзе ў сабе сілы на апошні рывок. Яго ахапіў спалох. Але спалох, мусіць, і надаў сілы, прымусіў ірвануцца. За штосьці ён учапіўся рукой наперадзе і трохі пасунуўся. Затым зноў напяўся і яшчэ пасунуўся. І яшчэ. І ўрэшце па грудзі выдзерся з каменнага лёху, далей стала лягчэй. І ён апынуўся пад сцяной знадворку, на мокрым, сцюдзёным бруку з дробнаю траўкай між камянёў.

Вакол было цёмна, даволі сцюдзёна, але зацішна. Нейкі час ён пластам ляжаў на бруку, аддыхваўся, не ў стане падняцца, каб сесці. Пасля падняў галаву — у чорным небе высіўся шэры мур сцяны, ад якой паўколам зачынаўся іншы — мабыць, вежа гэтага старога збудавання. Сцяна была ўзбоч, каля ягонага лёху, што чорнаю плямай зеўраў нізка ля ног. Вакол была ноч і воля, да якой нарэшце дапяўся. Але чаму ж ад яго адхлынула радасць?

Нешта ўпарта замінала тае яго радасці, можа, змрочная няпэўнасць наваколля — што тое было? Вуліца, падворак, закінуты сквер? Але нідзе не відаць было дрэваў. Хоць па-

вінны ж былі яны расці ля старога турэмнага муру. Замест стромка ішла ўвысь чорная вежа, а за ёй мроіўся ў цемры шэры працяг усё той жа сцяны. З кепскім прадчуваннем ён устаў на ногі, хістаючыся патэпаў паўз сцяну, мацаючы яе збітай да крыві рукой. Пад яго босымі нагамі быў слізкі і сцюдзёны брук. Хутка ён упёрся ў куток; высокая, на два паверхі сцяна паварочвала ў іншым кірунку. Ледзьве не подбегам ён скіраваў ля яе, усё мацаючы рукамі яе шурпаты тынкаваны бок, думаючы наткнуцца на браму, арку ці які выезд. Ды марна. Ён бег нядоўга і ледзь не выцяўся аб выступ старой і няроўнай каменнай кладкі, за якой, аднак, бы чарнелася штосьці. То была шырокая і высокая ніша з дзвярымавыездам з гэтай каменнай посткі. І праўда, у нішы чарнеліся вялізныя, акаваныя жалезнымі крывулякамі дзверы, але ні каля іх, ні ўнізе не прасвечвала ні шчыліны. Не было і клямкі. Ён ціха патузаў дзверы, паштурхаў плячом — тыя нават не скрануліся ад яго слабой сілы. Тады ён кінуўся адсюль у другі бок, выцяўшыся аб штось у цемры, апынуўся на бруку. Моцна пабіў калена, ускочыў і знерухомеў у палахлівым здзіўленні. Над ім у змрочнай шэрані неба высіўся знаёмы сілуэт шыбеніцы, амаль над самай галавой невысока звісала вяроўка-пятля. Пад ёй быў збудаваны драўляны падмостак, на які ён і наткнуўся ў змроку. Выйсця адсюль не было.

Збянтэжаны і знясілены, ён ціха апусціўся долу. То быў поўны тупік; пастка за ім зачынілася. Надзея, што вяла яго гэтулькі часу, увачавідкі змарнела і раптам сканала. Ён яшчэ жыў, але толькі нейкаю часткай свае істоты. Жыць у турме не мела сэнсу, памерці таксама не большы сэнс. Добра б не нарадзіцца зусім. Але, на жаль, тое ад яго не залежала...

## ТРЫ СЛОВЫ НЯМЫХ

Народ быў нямы.

Жыў на шырокай вялікай выспе сярод акіяну, ніякіх сувязяў з іншымі выспамі не меў і думаў, што ўсе астатнія народы, якія недзе жывуць, таксама нямыя. Зрэшты, мова не дужа была і патрэбная нямым, — усё, чаго вымагалі гаспадарчыя, людскія ды сямейныя дачыненні, яны разумелі без мовы — па вачах, жэстах, рухах. Ніякай балбатні ў вольны час не было, бо не было вольнага часу — усе працавалі ад

ночы да ночы. Жылі небагата, але й не галадавалі, і калі не здаралася мору, эпідэміі ці ўрагану, дык пачуваліся амаль шчаслівымі. На выспе, воддаль ад цывілізацыі, валадарылі мір і спакой. Войнаў людзі спрадвеку не ведалі.

Праўда, здараліся выпадкі, якія часам прымушалі людзей хваляваццa. Гэта калі на марскім даляглядзе паказваўся вялізны белы карабель, і з яго на выспу ў затоцы высаджваліся людзі. Тыя людзі былі незвычайныя. Усё ў іх было прыгожае ды разумнае — і твары, і вопратка, і начынне. А галоўнае — яны ўмелі мовіць. Словы з іхных вуснаў сыпаліся, бы соевыя бабы з мяшка, і азначалі таемную сілу, бо следам ішлі пэўныя дзеі і ўчынкі. Гэта было племя *гаваркіх*, вырашылі нямыя, бо ў іх нават прылады вымаўлялі словы — такія маленькія чорныя скрыначкі. Нямыя баяліся гэтых людзей дый паважалі таксама. Чужынцы ж, у сваю чаргу, не злаваліся на маўклівых нямых — наадварот, усяляк давалі зразумець, што іхная немата ім падабаецца. Настолькі падабаецца, што аднойчы яны высадзіліся на бераг і пачалі будаваць палац. Нямыя не пярэчылі — спакойнае, панылае жыццё на выспе, лічы, ім абрыдла.

Палац быў збудаваны з каменю, шкла і мэталу, якія прывезлі на белым караблі. А разам прывезлі і ўладу. Улада, сказалі гаваркія, патрэбная для нямых, бо такім чынам яны будуць далучаныя да найлепшых дабротаў цывілізацыі. Нямыя паставіліся да таго з энтузіязмам — ім хацелася далучыцца да цывілізацыі. Некаторыя з ліку самых разумных ці дужых пайшлі працаваць у палац, а таксама ў паліцыю і самакіраўніцтва. Усё тое было патрэбна выключна дзеля інтарэсаў нямых.

Праўда, нямыя павінны былі за тое плаціць. Была прывезена дамова пад назвай Канстытуцыя, якая вызначала памер тае даніны і парадак яе спагнання. А таксама прадугледжвала іншыя абавязкі для нямых і прывілеі для ўлады. Нямыя павінны былі падпарадкоўвацца ўладзе, за што ім пакідалася родная для іх немата. Увогуле яны былі задаволеныя, бо цалкам захоўваліся традыцыі продкаў. Праўда, тыя, што былі пры ўладзе або ў паліцыі, хутка вывучыліся размаўляць з гаваркімі — вядома ж, на іхнай, гаваркой мове. Іншыя былі вольныя ад тае вучобы. З часам, аднак, колькасць прыўладных павялічвалася, яны ўжо займелі і ўласны назоў — *гарызантальнікі*. Адпаведна павялічваліся памеры

падаткаў, бо трэба ж было плаціць ім заробак. Нямыя пачалі вохкаць і вахкаць, але маўчалі і нояк сплочвалі тыя падаткі. На бяду, у хуткім часе стаўся недарод; як нямыя сплацілі падаткі, самім мала чаго засталося. Пад восень у паселішчах нямых пачаўся голад. Вялікія групы іх прыходзілі да брамы палаца і позіркамі ды гукамі прасілі есці. Але есці ім не давалі. Іхныя ж суродзічы, што сталі прыслужнікамі, адганялі іх ад брамы, некаторых нават пабілі палкамі. Гэта былі першыя пабітыя на выспе людзі, і тое выклікала гнеў. У паселішчах на плошчах перад каменнымі ідаламі стаў збірацца народ; узнімаючы ўгару рукі, людзі прасілі заступіцца. Падобна, аднак, ідалы перасталі разумець нямых.

А голад між тым рабіўся невыносны. Соя і кукуруза зусім пагінулі на палёх ад спёкі, дажджу не было з вясны. Пад восень наляцеў ураган, які бушаваў тры дні запар і заліў выспу так, што не засталося ні каліва. Пагінула шмат жывёлы і людзей. А жывыя зноў пайшлі да палаца.

У той час да гаваркіх прыехаў з-за акіяна іх галоўны правіцель — Вялікі Дэмагог. Гэта быў дужы, высокі мужчына з пагрозлівым позіркам і вялікім ротам, які не зачыняўся ніколі. У першай жа сваёй прамове, сказанай у палацы, ён абвясціў, што ад сёння краіна называецца Народная Дэмагогія, пагражаў усім непаслушэнцам карай, шчыроўцам абяцаў узнагароды, галоўнай з якіх быў прывілей жыць. Прыкарытнікі ззялі ад шчасця, вядома ж, у спадзеўцы зарабіць найбольшы з прывілеяў.

Жыць на выспе рабілася ўсё горш. Пасля неўраджаю, голаду і ўрагану настаў мор. Нейкая злая пошасць касіла нямых у іхных пальмавых паселішчах, нават не было каму хаваць мерцвякоў. Жывыя пачалі рабаваць мёртвых. Наспяваў вялікі маўклівы бунт — супраць палаца, паліцыі, гарызантальнікаў і нават супраць ідалаў, якія адвярнуліся ад нямых. Улады з дапамогай вялізнае зграі прыкарытнікаў, што ўжо збольшага навучыліся мове гаваркіх, стараліся не дапусціць гвалту. Дзясяткі іхных агітатараў пешшу і на мулах хадзілі й ездзілі па паселішчах, угаворваючы нямых спадзявацца, трываць і маўчаць. Апошняе было самае важнае. Яшчэ нямым загадалі кожны дзень тры разы кланяцца ў бок палаца, паліцыянты сачылі, каб тое рабілася па-шчырасці, а не прытворна. Тыя й стараліся рабіць па-шчырасці, але па-шчырасці кепска атрымлівалася. Некаторыя з самых

кемлівых пачалі ўжо заўважаць сілу, якая тоіцца ў слове прыгнятальнікаў, і бяссілле ўласнае нематы. Адзін з іх, сапраўдны глуханямы, у часе ранішніх паклонаў на плошчы перастаў кланяцца і нешта бязладна загаманіў-залемантаваў да паліцыянтаў. Паліцыянты, вядома, такога непаслушэнства не маглі дапусціць і накінуліся на яго з палкамі. Білі доўга й люта, глуханямы вырываўся й крычаў, ды марна. Пасля раптам сціх, здалося, сканаў.

Ля мерцвяка сабраліся нямыя, хацелі несці яго ў халупу, ды паліцыянты стаялі абапал і не пушчалі людзей. Атмасфера на плошчы стала напружанай, чуўся лямант і гвалт, плакалі жанкі. І тады раптам нябожчык ускочыў, мусіць, каб бегчы. Але паліцыянты яго ўхапілі й зноў пачалі біць. І менавіта ў такі момант, мабыць, канаючы, глуханямы выразна й гучна крыкнуў:

— Каб вы здохлі!..

Усе на плошчы знямелі, здранцвелі, гул і лямант разам спыніўся. Жах узвіўся ў паветры і ўразіў паліцыянтаў. Спярша тыя два, што трымалі глуханямога, а пасля й яшчэ два побач, бы драўляныя чурбаны, упалі патыліцай аб зямлю й не крануліся болей.

Тады людзі, гнаныя здзіўленнем і жахам, кінуліся да глуханямога, ды ён і сапраўды быў мёртвы. Яго аднеслі ў халупу, і ён доўга ляжаў там непахаваны. Яго баяліся хаваць, бо адчулі ў ім вялікую, непазнаную сілу. Ад таго часу глуханямы стаўся першым апосталам нямога народа.

Трагедыя ў паселішчы стала такой ашаламляльнай, што нямыя на нейкі час забыліся пра ўсе няшчасці — голад, хваробы і ўраганы. І нават пра белы палац. Усе думалі пра словы, якія глуханямы панёс з сабой у магілу. На нейкі час улады таксама прыціхлі. Вялікі Дэмагог, які кожны дзень чытаў свае пагрозлівыя літанні, тры дні маўчаў. Пасля з’явіўся ягоны ўказ, якім навек забаранялася быццам бы паскудная мова нямых, а ягоныя гарызантальнікі ў мэтах бяспекі пераймяноўваліся на *вертыкальнікаў*.

Ды, відаць, было позна. Старыя з ліку нямых пачалі ўспамінаць забытыя паданні яшчэ болей старых, якія быццам бы сведчылі, што й на выспе некалі была мова. І нават прыпаміналі некаторыя словы, як напрыклад, «свабода» і «воля». Некаторыя з выгнаных з палаца прыкарытнікаў, што навучыліся там чытаць і пісаць па-дэмагогаўску, займеўшы

шмат вольнага часу, пачалі распрацоўваць мову нямых. Асабліва ахвочай да таго стала моладзь. Мінула паўгода, і ў паселішчах ноччу, у полі ці ў моры на рыбным лове сталі чуваць галасы. Нямыя пераставалі быць нямымі. Пад вялікім сакрэтам ад паліцыянтаў і вэртыкальнікаў берaглі ў памяці тры словы глуханямога. Тых словаў баяліся, бы зараджанай зброі, ведаючы, што зараджаная зброя некалі страляе. Тое разумелі нямыя, прыкарытнікі і ўсе гаваркія. І апошнія не драмалі. Побач з палацам была тэрмінова збудавана турма, бы пчаліныя соты, раздзеленая на цесныя каморкі, куды саджалі нямых, каб тыя не размаўлялі. Была створана разгалінаваная Служба бяспекі (СБ), што вербавала стукачоў. Стукачам плацілі гарнец маісу за кожны данос — пры голадзе тое была немалая плата, і недахопу ў стукачах не адчувалася. Тым болей што іхная праца мела зусім легальны характар, і ўсе яны былі аб'яднаныя ў прафесійны Саюз стукачоў (СС). Для далейшага дасканалення працы вертыкальнікаў апошнія атрымалі новую геаметрычную назву — *дыяганальнікаў* і пажыццёвы службовы статус. Паліцыянтам на 30 сантыметраў падаўжаліся баявыя бамбукавыя палкі і на 5 сантыметраў падымаліся туллі фуражак, каб самыя недамеркі выглядалі не горш за гігантаў. На крэдыты міжнародных банкаў была закуплена зброя масавага паражэння і кампутарная тэхніка. Для яе абслугоўвання прыехалі кадры з былых сацкраін, адкуль з прычыны тамтэйшага крызысу пачалася няспынная выцечка навуковых мазгоў. Зухаватыя спецыялісты заняліся даследаваннем апошняй у свеце недаследаванай праблемы — узаемазалежнасці дэмагагічнай улады і дзікунскае мовы. На дзесятках еўрапейскіх, азіяцкіх, афрыканскіх ды палінезійскіх мовах аналізаваліся тры магічныя словы, якія забілі чатырох паліцыянтаў. У той матэматычнай непрапарцыйнасці і палягала навуковая загадка веку.

Аднак мінаў час, а выніку тае працы не было ніякага. І тады Служба бяспекі Вялікага Дэмагога (СБВД) дазналася, што тыя вучоныя розных навук ёсць спрэс спецыялісты ў кантынентальных ракетах (СС-20) ды комлексах «Тaполя». Разумеючы шмат чаго ва ўладзе і ракетах, яны амаль нічога не разумелі ў мовах, тым болей у мовах нямых. Раззлаваны Вялікі Дэмагог прагнаў іх усіх з выспы, пакінуўшы аднаго — самага шчырага маладога ракетчыка (які ў тым і прызнаўся), каб ён служыў у якасці звычайнага шафёра — абы мець

зарплату ў доларах. Праз год, аднак, высветлілася, што той ракетчык-шафёр зусім не ракетчык і не шафёр, а кадравы палкоўнік савецкага КГБ. Вялікі Дэмагог уласнаручна адсек яму галаву.

Сярод нямых таксама знайшліся разумныя людзі, да іх спакваля далучыліся некаторыя са звольненых за розныя правінкі з палаца. Была складзена таемная да ўлады апазыцыя. Яна нарадзіла падпольны навукова-моўны гурток, які заняўся вывучэннем магчымасцяў знакамітага праклёну — вядома ж, у мэтах знішчэння дэмагагічнага рэжыму на выспе. Было ўстаноўлена, што той, хто здольны з гібельным для ўладаў наступствам выкрыкнуць тыя словы, сам абавязкова гінуў. Ці, можа, тыя словы прыходзілі да яго ў прадчуванні пагібелі? У тым палягала галоўная для гуртка праблема. Ахвяраваць сабою гатовы быў шмат хто, але ніхто не хацеў ахвяраваць марна. Справа была дужа складаная, і гурткоўцы вырашылі ўдасканаліцца структурна. Найперш яны перайменавалі гурток у калегіум. Былі абраныя генеральны лідэр (гл), пяць віцэ-лідэраў (вл) і адзінаццаць галоўных спецыялістаў (гс). Астатнія сталі проста спецыялістамі (пс). Праўда, усе працавалі на заморскай мове, уласная знаходзілася ў стане распрацоўкі. Справа ўскладнялася тым, што распрацоўшчыкі належалі да розных дыялектна-нямых групаў, і кожная з іх настойвала на ўласным нямым дыялекце ў выглядзе пэўнага набору гукаў і жэстаў. Доўга спрачаліся. Была нават прапанова замест віртуальнай праблемы мовы заняцца рэальнай распрацоўкай новага гатунку сорга. У выніку калегіум раскалоўся на соргаўцаў і моўшчыкаў. Моўшчыкі, дзякаваць Богу, на той час заставаліся ў большыні.

Менавіта з прапановы апошніх на трэці год было вырашана дзеля хутчэйшага поспеху трохі змяніць парадак словаў у знакамітым праклёне, бо вымаўленае глуханямым не надта пасавала нацыянальнай традыцыі маўчання. Наадварот, яно разбурала тую традыцыю, што было надта непатрыятычна. Пасля доўгага абмеркавання фраза загучала так: «Можа б, вы надумаліся крыху здохнуць?» Знайшоўся й ахвярнік, які, не марудзячы, выгукнуў яе перад палацам у твар самага лютага й ненавіснага афіцэра-паліцыянта. Але чамусьці афіцэр не ўпаў долу, а дастаў найноўшай мадыфікацыі пісталет і застрэліў ахвярніка. У калегіуме ледзьве перажылі расчараванне і зноў вырашылі змяніць парадак словаў. Важна было,

калі не панішчыць паліцыянта, дык хоць бы зберагчы жыццё чалавека — усё ж у калегіуме былі гуманісты. Магічны праклён пабудавалі такім чынам: «Будзьце ласкавы калінебудзь памерці». Натуральна, форма праклёну змянілася, але сэнс застаўся ранейшы — гэта было важна. На фразу ўскладалася вялікая надзея, і яна была хутка вымаўлена самым разумным і адукаваным чальцом калегіума. Але зноў сталася неспадзеўка — ніводзін з прыгнятальнікаў не ўпаў, і ахвярнік не быў забіты. Нават не атрымаў палкі. Увогуле ў калегіуме тое спадабалася, бо чалавек уцалеў. Першы раз аперацыя абышлася без стратаў і давала надзею. Яна была абвешчана першай перамогай калегіума.

Як ні дзіўна, у палацы на тое ніяк не адрэагавалі. Паводле чутак, што рэдчас вынікалі адтуль, з прычыны нямогласці Вялікага Дэмагога, у якога ад перанапругі спаралізавала язык, чакаўся прыезд Новага, Самага Вялікага Дэмагога (НСВД), палітыка яго ў моўнай праблеме пакуль заставалася невядомай. Як ён у хуткім часе прыехаў, дык найперш змяніў статус калегіума — той набыў легітымнасць і пераймяноўваўся ў Акадэміум пры Новым Самым Вялікім Дэмагогу (АНСВД) з новай задачай: стварыць сапраўды народную мову — нямую па форме і дэмагагічную па зместу. Узрушаныя нечаканым клопатам чальцы акадэміума паслалі НСВД пашыраны факс і пакляліся не шкадаваць сілы для стварэння мовы нямых. У хуткім часе быў выдадзены канчатковы варыянт праклёну глуханямога, які гучаў так: «Няхай здохне той, хто выступае супраць мовы народа». Права вызначыць злыдня, якому наканавана здохнуць, карэктна дэлегавалася Новаму Самаму Вялікаму Дэмагогу.

З нагоды гістарычнай даты ўвечары над палацам, паліцэйскай казармай і турмой нямога рэжыму быў наладжаны святочны феерверк.

Збяднелы, апанураны, зняверany народ на выспе памалу забыўся пра свайго глуханямога апостала і тры ягоныя словы. І зноў стаў нямы.

Тым разам — назаўжды.

# КОШКА І МЫШКА

Мышка ў той дзень увогуле была сытая, але яна была маладая, цікаўная і доўга не магла сядзець на адным месцы. Тым болей у яе цёмнай норцы, дзе нічога не было відаць, нічога не чуваць. А поруч, на падворку, — яна ўжо ведала — была процьма цікавага, асабліва пад лапухамі, дзе бегалі порсткія кузуркі, сядзелі, варушачы вусамі, чорныя жукі, а на травяных галінках круцілі рожкамі дзівосныя слімакі ў цвярдых скурчаных ракавінах. Увогуле мышка была далікатная, добразычлівая да малых насельнікаў падворка. Яе таксама ніхто асабліва не крыўдзіў, і яна думала, што дужа баяцца там не было чаго. Яна імкнулася быць аптымісткай.

Праўда, яна ўжо чула, што недзе там час ад часу паяўляецца страшны мышыны вораг — кот. Але мышцы яшчэ не даводзілася спатыкаць яго, і яна думала, што і не давядзецца. Навошта кату цікаваць малую палахлівую мышку — мабыць, яму лепей мець справу з вялікімі пацукамі. З мышкі які наедак?

Той раз яна магла б і не вылазіць з норкі, але ўзяла ды вылезла.

На падворку пад лапухамі было цёпла, аж горача, і ціха, — мабыць, жывёлу яшчэ не прыгналі з поля. Побач шорхалася ў пяску квактуха — старая, рабая курыца, якая квохнула разы два, заўважыўшы мышку. Мышка шмыргнула ля яе далей да прызбы і раптам толькі роспачна піскнула. Аднекуль зверху на яе пляцнуліся дзве кіпцюрыстыя лапы — бегчы ўжо не было як. Канечне, то была кошка — маладая, юрлівая, з белымі прыгожым лапкамі. Мышка спярша спалохалася, але тыя лапкі абыходзіліся з ёй далікатна, і тое супакойвала. І мышка падумала, што ўвогуле ёй пашэнціла — было б куды горш апынуцца ў страшных кіпцюрах ката. А там, можа, і нічога яшчэ не здарыцца, — мышка хацела быць аптымісткай.

І праўда, не ўчыніўшы ёй вялікага болю, кошка падхапіла мышку зубамі і вынесла на чысты, падмецены падворак. Мышка напружана думала, і ўсё так выходзіла, што кошка палуднаваць ёй не збіраецца. Інакш бы яна пад'ела ў зацішку, ля лапухоў. На падворку нікога не было, кошка паклала мышку ў доле. Мабыць, можна было б паспрабаваць уцячы, але мышка не хацела выказваць непаслушэнства і тым зла-

ваць кошку. Яна ўсё спадзявалася на лепшае. Тады кошка далікатна штурхнула яе лапкай пад бок, нібы патураючы бегчы. І праўда — мышка пабегла.

Зусім ужо блізка было да норкі, як кошка ўсё ж дагнала яе і дужа ўпілася кіпцюрамі ў хрыбціну. Мышцы стала дужа балюча, і яна аж перастала дыхаць. Але неўзабаве і супакоілася, бо кошка ўсё не спяшалася яе хрумстаць. Пэўна, то была добрая кошачка, яна толькі хацела пагуляць з мышкай. Тады мышка знерухомела і, бы нежывая, перавярнулася лапкамі ўгору. Тое, відаць па ўсім, спадабалася кошцы, якая абедзвюма лапкамі пачала кідаць з боку на бок маленькую сымулянтку, бы запрашаючы яе да гульні. Гуляць мышка ўвогуле любіла, і хоць цяпер і баялася трохі, але ўсё не магла паверыць у кепскае. Ужо надта лагодна, без злосці ставілася да яе ладная кошачка, няўжо гэткая можа з'есці рахманую мышку?

Мусіць, мышка магла б яшчэ ўцячы, асабліва калі ў гэтай гульні апыналася бліз лапухоў, ды ў яе ўсё не ставала рашучасці. Зноў жа, яна была аптымістка, дагэтуль жа нічога кепскага з ёй не здарылася. Але во кошка, ці, можа, таму што нагулялася, ці з якой іншай прычыны, дужа цяўкнула мышку ля шыі — ад болю ў той аж памутнела ўваччу. Кошка тым часам паклала мышку ля ног, азірнулася па баках — падобна, яна адпачывала. Ці, можа, разважала, каб пусціць мышку? Павінна была б пусціць, бо мышцы было блага, наўрад ці яна цяпер магла б уцячы. Але яна спадзявалася.

Яна верыла ў дабрыню, тым болей ад такой ладнай маладой кошкі, якой яна не зрабіла нічога кепскага. Нават не раззлавалася на яе. Мышка разумела, што ўвогуле кошкі — ворагі мышак, але ж, мусіць, і кошкі бываюць розныя: злыя і добрыя. Таксама, як і мышы. Яна во, напрыклад, зусім добрая мышка, нікому ніякага зла не ўчыніла. Не пакрыўдзіла ніводнае кошкі. Навошта ж кошцы забіваць яе? Каб папалуднаваць? Але ж тое можна зрабіць з якой іншай мышкай, не абавязкова з ёю.

Кошка ўсё азіралася па баках, нібы чакаючы чаго, а мышка нерухома ляжала ў доле і разважала. Разважала пра справядлівасць. Усё ж несправядліва ўладкаваны свет, калі адныя істоты дужыя і нахабныя, а іншыя слабыя і палахлівыя. Слабым і палахлівым жывецца кепска, і, мусіць, таму яны дбаюць пра справядлівасць, дабрыню і спагаду. Ды дужыя не

зважаюць на тое. А і праўда, нашто дужым спагада? Дужым патрэбна яшчэ болей сілы, бо сілу сіла дае. А што во рабіць беднай мышцы, у якой ці не зусім перакушаны карак?

Але ж кошка зусім не страшная, нават прыгожая — і пыска, і вусікі, хаця навошта яна аблізваецца? Што тое значыць?

І раптам кошка страпянулася, зыркнула касымі вочкамі ў бок недалёкага ганку. Мышка сцялася ўсім сваім маленькім цельцам — на ганку, пагрозліва выгнуўшы хвост, стаяў страшны мардаты кот; мабыць, ён ужо згледзеў наводдаль кошку з небаракай-мышкай. Кошка, пэўна ж, спалохаўшыся, дужа хапнула зубамі мышку і кінулася пад лапухі.

Там яна разам прыкончыла бедную мышку, апошняй думкай якой было: добра, што яны ўратаваліся ад ката.

Мышка да канца заставалася аптымісткай.



# *Публіцыстыка*

## ВЫСТУПЛЕННЕ НА V З’ЕЗДЗЕ СП БССР

Можна шмат гаварыць пра поспехі беларускай літаратуры ў духу некаторых учарашніх дакладчыкаў, але мне здаецца, што наш з’езд Саюза пісьменнікаў усё ж не юбілейны і таму лепей гаварыць пра іншае.

Шкада, але я не магу пагадзіцца з выказаным тут аптымізмам адносна выдатных дасягненняў нашай літаратуры. Усім вядома, як крытыкавалася літаратура на XXIII з’ездзе партыі. Два гады запар Камітэт па прэміях не прысуджае прэміі ў галіне літаратуры. Літаратура не толькі траціць павагу да сябе з боку кіраўніцтва, але і губляе сілу ў барацьбе за чытача, якога сотнямі тысяч адбіраюць у нас стадыёны ў якасці нечуванай, я б сказаў ганебнай для цывілізацыі з’явы — арміі агалцелых балельшчыкаў. Не ведаю, як каго, мяне ж гэтыя факты наводзяць на сумныя развагі. І сапраўды, як гэта атрымалася, што наша літаратура, якая заўжды ўражвала чалавецтва геніяльнасцю сваіх твораў, дажылася да таго, што за два гады не знаходзіцца кнігі, якую можна было б адзначыць Дзяржаўнай прэміяй? У чым справа? У чым справа таксама, што нашы нацыянальныя прэміі, мякка кажучы, зусім не ў пашане і то прысуджаюцца, то пра іх нібыта забываюць, і месяцы не чуваць, што вылучана і калі будзе прысуджэнне.

Па ўсім відаць, нашая літаратура перажывае крызіс. І гэта, можа, каму-небудзь падасца дзіўным: столькі пра яе гавораць, праяўляецца такі клопат. Чаму ж тое дзіця такое хілае?

Мне здаецца, што прычыны таго заняпаду ляжаць якраз там, дзе планаваліся поспехі. Адбылася вельмі простая

з’ява: у адносінах да літаратуры дзесьці згублена мера, ёю закіравалі, яе заняньчылі.

Калі ў гаспадарцы валюнтарызм неяк асуджаны, дык у літаратуры ён дагэтуль у пышным роскавіце. У народнай гаспадарцы ўжо не так камандуюць, як у літаратуры. Вытворчыя адносіны там намагаюць ладзіць з некаторай натуральнасцю і заканамернасцю. Літаратура ж застаецца тым, чым была сельская гаспадарка ў нядаўнім мінулым, — кожны мае да яе адносіны і пры выпадку не супроць патаптаць яе і без таго не надта ўрадлівы агарод.

Але вельмі і вельмі памыляюцца тыя, хто лічыць, што ў мастацтве і літаратуры няма няўмольных законаў, што іх можна папіхаць, як захочацца. На жаль ці на шчасце, такія законы ёсць.

Галоўная цяжкасць для мастака заключаецца ў тым, што законы мастацтва нярэдка не супадаюць з дзеючымі на кожным этапе законамі грамадскага жыцця. Больш таго, яны амаль заўсёды ў супроцьстаянні. У жыцці ідэальнае грамадства тое, дзе як мага меней канфліктаў, а ў мастацтве наадварот. Для жыцця найлепей характары роўныя і празрыстыя, а для мастацтва — складаныя і супярэчлівыя. Мастак у творы або раздвойваецца паміж гэтымі рознаскіраванымі мэтамі, або схіляецца ў нейкі адзін бок. Вось чаму нават для самага вопытнага празаіка пісаць кожную новую кнігу — значыць пачынаць усё спачатку. Увесь яго ранейшы вопыт траціць сваё значэнне, ён заўжды бездапаможны, калі новы жыццёвы матэрыял увасабляецца ў пэўныя мастацкія формы. Прытым немагчыма падпарадкаваць законы мастацтва законам жыцця, таксама як і наадварот. Патрэбна гармонія, мера, тое, што прынята называць мастацтвам і што вызначаецца толькі талентам мастака. Ажыццяўляць дыктат у гэтай справе абсалютна немагчыма без таго, каб не задушыць мастацтва.

Але ці ўсе ў нас разумеюць гэтую даволі банальную ісціну? Баюся, што далёка не ўсе. У жыцці на кожным кроку мы сустракаем горкае неразуменне літаратуры, неразуменне, якое выклікае сум і роспач, асабліва калі вядомыя ідэалагічныя руплііўцы пачынаюць рабіць паспешлівыя палітычныя вывады.

Дзіўна, што ў наш час, на 49-м годзе Савецкай улады, у адносінах да літаратуры грэбуюць тым, што некаторым трэба б засвоіць яшчэ ў школьным дзяцінстве. І я перакана-

ны, што высокія аўтарытэты, ідэйныя абгрунтаванні, хоць бы і спасылкі на вайну ў В’етнаме, тут абсалютна не маюць рацыі. Усе беды тут — ад непісьменнасці, нізкай эстэтычнай культуры, а то і дыпламаванага абскурантызму тых, хто прыстаўлены кіраваць літаратурай.

Першай і галоўнай праявай таго абскурантызму, на мой погляд, з’яўляюцца адносіны да адмоўнага ў літаратуры. Яшчэ вялікі Бялінскі ў сваім артыкуле «Ответ «Москвитянину» пісаў: «Творчество по своей сущности требует безусловной свободы в выборе не только от критиков, но и от самого художника. Ни ему никто не вправе задавать сюжеты, ни он сам не вправе направлять себя в этом отношении. Он может иметь определенное направление, но оно у него только тогда может быть истинно, когда без усилия, свободно сходится с его талантом, его натурой, инстинктами и стремлением. Он изобразил вам порок, разврат, пошлость: судите, верно ли, хорошо ли это сделал, а не толкуйте, зачем он сделал это, а не другое, или вместе с этим не сделал и другого. Говорят: что это за направление — изображать одно низкое и пошлое! А почему бы и не так?» — пытаецца Вісарыён Бялінскі і ў іншым месцы гэтага артыкула адказвае: «Это — не один дар выставлять ярко пошлость жизни, а еще более — дар выставлять явления жизни во всей полноте их реальности и их истинности»[1].

Так, мастацтва — не адвольны твор мастака, але і не планавы прадукт грамадства, яно — душа гэтага грамадства. Нельга дастаць і як сабе хочаш перарабіць тую душу без таго, каб не перайначыць характар грамадства. Абое яны існуюць у адзіным узаемазалежным цэлым.

Літаратуры даводзіцца цяжка, асабліва калі мець на ўвазе не гэтак тэарэтычныя высновы, як яе жыццёвую практыку. У наш час зусім нярэдкія з’явы, калі нават выдатныя тэарэтычныя пастулаты на справе ператвараюцца ў штосьці, што найболей нагадвае свайго роду неакласіцызм. Пра тое не прынята гаварыць, але не сакрэт, што ў літаратуры час ад часу запаноўваюць характэрныя адзнакі менавіта такога літаратурнага напрамку: калі губляецца рэалістычны характар рэчаіснасці, грэбуюць жыццёвай праўдай, рэальнае выцясняецца яўна ідэальным. Я ахвотна пагаджуся, што мастацтва так званага сацрэалізму не дапускае ў сабе безідэйнасць, бяскласавасць, абстрактны гуманізм і гэтак да-

лей. Але бясспрэчна, што і іхнія супрацьлегласці, узведзеныя ў катэгарычны абсалют, — не меншае зло, хіба што з іншым, адваротным, знакам. Менавіта гэтае зло нанесла немалую шкоду нашаму мастацтву. І гэта зразумела, калі мець на ўвазе знакамітыя словы У. Леніна, які ў сваёй працы «Детская болезнь «левизны» в коммунизме» пісаў, што «самое верное средство дискредитировать новую политическую (да и не только политическую) идею и повредить ей состоит в том, чтобы во имя защиты ее довести ее до абсурда».

Хіба не зразумела, што голы рацыяналізм, імкненне падпарадкаваць літаратуру ды мастацтва патрэбам кожнага сёння, таксама як загадзя распланаванага заўтра, ігнараванне жыццёвых складанасцяў, дыялектыкі развіцця наносяць непапраўную шкоду не толькі літаратуры, але і ўсяму грамадству.

Мастацтва — гаючы дождж грамадства, якое без яго крытычнага ўздзеяння непазбежна пакрываецца плесенню і загнівае. Апалагетыка без разбору, бяздумнае сцвярджэнне ўсяго існага — па сутнасці не што іншае, як магільшчык грамадства, і вельмі шкада, што мы дасюль не зразумелі ўсёй небяспекі тае з’явы. Вельмі шкада, што і сёння шмат хто кіруецца думкай, нібы людзі, што бачаць заганы ў жыцці, тым больш адважваюцца крытыкаваць яго, заражаны духам буржуазнай ідэалогіі, паклёпнікі або нават ідэалагічныя дыверсанты. Няўжо ёсць патрэба даказваць, што такая думка па меншай меры неразумная, што праўда, якой бы непрыемнай яна ні была, калі яна сумленна выказана, не можа пашкодзіць дабру, што сапраўдныя, а не прыдуманыя ворагі ўсіх часоў выдатна маскіруюцца самай артадаксальнай фразеалогіяй, выконваюць ролю самых верных служак. Хіба трэба пераконваць, што ўсе ўрадавыя перавароты, усе ўдары ў спіну, усе змовы і здрады рабіліся людзьмі прыбліжанымі, заўжды вельмі лаяльнымі.

Безумоўна, каб пісаць праўду, апроч таленту патрэбна немалая мужнасць. Але не меней мужнасці патрэбна і для таго, каб успрыняць праўду ва ўсёй яе паўнаце і складанасці. І ў гэтым сэнсе варта выказаць жаль, што некаторыя нашы кіраўнікі, тыя, каму больш за іншых павінна быць уласціва гэтая якасць, апынаюцца, мякка кажучы, не на вышыні. На словах прызнаючы крытыку за рухаючую сілу грамадства, яны тым не менш імкнуцца надаць гэтай крытыцы толькі

адзін кірунак — зверху ўніз. Але для літаратуры не існуе ні верху, ні нізу. З'яўляючыся чалавеказнаўствам, яна з аднолькавым правам даследуе і даярку, і міністра, радавога члена партыі і сакратара ЦК.

Вядома, што, як і кожная манаполія, манаполія на крытыку — прыемная рэч для таго, каму яна належыць. Няма патрэбы гаварыць, якая «карысць» з яе ў іншых сферах грамадскага жыцця, але для літаратуры яна — згуба. Літаратура без крытычнага пачатку — забава для гультаёў, абывацельская цацанка. Хіба мала ўрокаў такога парадку дала нам сумнай памяці тэорыя і практыка бесканфліктнасці? Папрок жа ў адрас літаратуры за так званае ачарніцельства ці паклёп — з'ява банальная па сваёй распаўсюджанасці, супраць яго ва ўсе часы змагалася літаратура. На гэты конт я зноў дазволю сабе звярнуцца да аўтарытэту Бялінскага. «Самое сильное и тяжелое обвинение, которым писатели риторической школы думают окончательно уничтожить Гоголя[2], состоит в том, что лица, которых он обыкновенно выводит в своих сочинениях, оскорбляют общество... Подобное обвинение больше всего показывает незрелость нашего общественного образования. В странах, упредивших нас развитием целых веков, и понятия не имеют о возможности подобного обвинения. Никто не скажет, чтобы англичане не были ревнивы к своей национальной чести: напротив, едва ли есть другой народ, в котором национальный эгоизм доходил бы до таких крайностей, как у англичан. И между тем они любят своего Гогарта[3], который изображал только пороки, разврат, злоупотребления и пошлость английского общества его времени. И ни один англичанин не скажет, что Гогарт оклеветал Англию, что он не видел и не признавал в ней ничего человеческого, благородного, возвышенного и прекрасного. Англичане понимают, что талант имеет полное и святое право быть односторонним и что он может быть великим в своей односторонности. С другой стороны, они так глубоко чувствуют и сознают свое национальное величие, что нисколько не боятся, что ему могло повредить обнародование недостатков и темных сторон английского общества. Но и мы можем жаловаться только на незрелость общественного образования, а не на отсутствие в нашем обществе чувства своего национального достоинства... Чем сильнее человек, чем выше он нравственно, тем смелее он

смотрит на свои слабые стороны и недостатки. Еще больше можно сказать это о народах, которые живут не человеческий век, а целые века. Народ слабый, ничтожный или состарившийся, изживший всю свою жизнь до невозможности идти вперед, любит только хвалить себя и больше всего боится взглянуть на свои раны: он знает, что они смертельны, что его действительность не представляет ему ничего отрадного и что только в обмане самого себя может он находить те ложные утешения, до которых так падки слабые и дряхлые. Таковы, например, китайцы или персияне, послушать их, так лучше их нет народа в мире и все другие народы перед ними — ослы и негодяи». Далей ён піша: «Не таков должен быть народ великий, полный сил и жизни, сознания своих недостатков, вместо того чтобы приводить его в отчаяние и повергать в сомнение в своих силах, дает ему новые силы, окрыляет его на новую деятельность», і далей: «Писатель выведет в повести пьяницу, а читатель скажет: можно ли так позорить Россию? Будто в ней все одни пьяницы? Положим, что читатель умный, даже очень умный человек, да следствие-то, которое он вывел из повести, — нелепо. Нам скажут, что искусство обобщает частные явления и что оно уже не искусство, если представляет явления случайные. Правда, но ведь общество, и особливо народ, заключает в себе множество сторон, которые не только повесть, целая литература не исчерпает»[4].

Прашу прабачэння за даўгую цытату, але мне здаецца, што сказанае Няіставым Вісарыёнам, мае самыя непасрэдныя адносіны не толькі да Гогаля, але і да нашай сучаснай літаратурнай практыкі. Калі б нашы выдаўцы і крытыкі часцей чыталі Бялінскага ды лічыліся з яго аўтарытэтам, можа б, яны зразумелі ўсю недарэчнасць шмат якіх уласных прэтэнзій да літаратуры, якія болей за сто гадоў таму разбіў вялікі крытык-дэмакрат. Гэта ж праўда, што з 1847 года, калі былі напісаны гэтыя словы, у нашай літаратуры не шмат змянілася, па-ранейшаму ў яе адрас усё тыя ж папрокі. Варта напісаць не надта прывабнага генерала, як адразу ж раздаюцца абвінавачванні ў падрыве прэстыжу савецкіх палкаводцаў; варта намаляваць адмоўны персанаж чыгуначніка, як ужо пішуць пра паклёп на слаўных савецкіх чыгуначнікаў. Абскурантызм з поваду знявагі гонару мундзіра ў апошні час набыў пагрозлівы характар. Я мог

бы прывесці красамоўныя прыклады з уласнай практыкі, з жыцця ўсім нам вядомага Аляксея Карпюка[5], які за наіўную спробу напісаць праўдзівую літаратурную аўтабіяграфію свайго, я б сказаў, гераічнага жыцця, паплаціўся ўжо шмат чым і, мабыць, паплаціцца яшчэ.

У кожнай прафесіі важнейшае значэнне мае думка спецыяліста, майстра пэўнага рамяства, але не ў літаратуры. У адносінах да літаратуры здарылася так, што ісціна вызначаецца па прынцыпу субардынацыі. Як кажуць, чым вышэй пасада, тым бліжэй да Бога. У канцы пятага дзесятка гадоў Савецкай улады мы марым аб тым жа, пра што ў свой час клапаціўся Луначарскі[6], які яшчэ ў 1931 годзе казаў, што «вопрос надо ставить не так, чтобы Центральный Комитет писал лозунги, а писатели подыскивали иллюстрации к ним, а так, чтобы партия, Центральный Комитет среди других информационных материалов читали и писателей и получали от них импульсы для своих постановлений и лозунгов».

Напісаць добры твор нялёгка ва ўсіх адносінах, але яшчэ цяжэй яго надрукаваць. Гэта ж факт, што ў нас лёгка друкуюцца толькі пасрэдныя творы, тыя, у якіх нічога няма, якія падобны на сотні папярэдніх, ужо выпрабаваных выдаўцамі і крытыкай. А тое, што не адпавядае афіцыйным установукам, сустракаецца з недаверам і пераадольвае магутнае супраціўленне ва ўсіх сферах. Практычна аўтар апынаецца перад дылемай: або прыняць патрабаванні выдавецтва і спаскудзіць твор, або той ніколі не пабачыць свету. Нярэдка ў выдадзеным творы дужа няшмат застаецца ад аўтара і ягонай канцэпцыі. Дзіўны і незразумелы гэты ўзаконены недавер да таленту, недавер, які абразлівы сам па сабе для кожнага літаратара і прыніжае літаратуру.

І тым не менш мы мусім пісаць. Мы стаім на парозе вялікіх падзей нашай гісторыі. У нас ёсць пра што пісаць і ніколі не было недахопу талентаў. Літаратура пачалася не ўчора і скончыцца не заўтра. Беларуская літаратура — не толькі тое, што выдадзена ў ведамстве Захара Пятровіча[7]. Дзённікі і нататкі Даўжэнкі[8], Нікалаевай[9], Кузьмы Чорнага[10], шматпакутныя творы Гарэцкага[11], рукапісныя творы ўсіх часоў і народаў — не менш літаратура, чым шматтомныя шэрагі ў лідэрынавых вокладках. І мне здаецца, што трэба пісаць не толькі пра жыццё народа, але і пра жыццё літаратуры. Варта памятаць, што Лукаш Бэндэ[12] ўвайшоў у

нашу культуру гэтак жа назаўжды, як і тыя пакутнікі, якіх ён загубіў. Трэба часцей напамінаць пра той горкі вопыт нашай культуры. Асабліва для тых, хто ўсё яшчэ не страціў ахвоту ў падкутых ботах пагойсаць на яе здратаваным агародзе.

Магчыма, гэтыя словы не ўсім спадабаюцца. Можа, замест іх камусьці хацелася б пачуць ад мяне пакаянне ў духу Го Можо[13]. Але ў наш час такія пакаянні, як гэта красамоўна засведчыў А. Макаёнак[14], не шмат чаго варты. Таму не будзем крывіць душой. Мы не ворагі народа і не падрывацелі асноў Савецкай улады, адданасць якой у свой час засведчылі ўласнай крывёй. Да таго ж мы не патрабуем незвычайнага, мы толькі просім болей цярпімасці. Пастаўце сябе на нашае месца, і вы зразумееце, што выбар у нас невялікі: або літаратура, або нелітаратура. Сярэдзіны — няма.

У заключэнне хачу адзначыць, што, нягледзячы на шмат якія невясёлыя выказаныя тут думкі, я веру ў стваральную сілу літаратуры і ў добразычлівасць тых, хто пастаўлены ёю кіраваць. Яшчэ хачу падзякаваць шмат якім пісьменнікам, што праявілі ўласную мужнасць і пісьменніцкую салідарнасць з поваду вядомага выпаду ў мой адрас[15]. Покуль мы будзем з’яднаны па важнейшых пытаннях нашага жыцця і будзем гаварыць пра тое адкрыта, беларускі народ можа спадзявацца на добры лёс сваёй літаратуры.

*1966*

## ВЫСТУПЛЕННЕ НА Х З’ЕЗДЗЕ СП БССР

Вядома, сёння хацелася б гаварыць найперш пра чыста літаратурныя справы, пра нашы тэмы, стыль, ступені майстэрства. Пра нашых герояў-сучаснікаў. Так, як мы гэта рабілі 5—10 і 20 гадоў таму, калі шчыравалі з трыбун, каб павярнуць літаратуру тварам да здзяйсненняў сучаснасці, да нашых герояў-працаўнікоў, да несумненных заслуг мудрага кіраўніцтва і, вядома ж, «авангарднае ролі партыі», якая так паспяхова вяла нас «ад перамогі да перамогі». Але во настала абуджэнне, хваравітае працверазенне пасля шматгадовай эйфарыі, і свет убачыў, што нашы героі — не болей як пухіры, надзьмутыя нашай фантазіяй, рай наш — нішто іншае, як галеча на 57-м месцы ў свеце, а нашы «ум, честь и совесть»

вялі нас туды, куды і самі не ведалі. Значыць, завялі, як той міфічны Сусанін! Дзе цяпер выйсце з гэтага тупіка і заняпаду, у якіх апынуліся, а найболей — у якіх яшчэ апынёмся. А што апынёмся, тое відавочна ўжо для цэлага свету.

І во дзіва: як ішлі ў той нерат, быццам ніхто не заўважаў, не біў трывогу, не пратэставаў — не толькі не спаліў сябе на плошчы, як той беспрацоўны славацкі камуніст, але нават не пасварыўся з начальствам. Каб нічога таго не бачылі, не заўважалі, дзень і ноч побач грукаталі глушылкі і шчыравалі ўсе органы, парткамы, арганізацыі — ад ЦК да СП, столькі сілы і грошай было патрачана на тое, каб схаваць найперш ад саміх сябе найвялікшы дзяржаўны сакрэт — бег да прорвы. Для таго ствараліся песні, пісаліся раманы, краіна жыла ў штучна створанай і старанна падтрыманай эйфарыі росквіту і праведнасці.

Цяпер настала эйфарыя іншага зместу, эмоцыі гневу закіпелі ў нашых грудзях. Зрэшты, яно і правамерна: куды ж было падзецца тым эмоцыям, не зважаючы на ўсё, накопленым за столькі гадоў нематы і змушанага аптымізму. І гэта добра, што яшчэ захавалася гэтая здольнасць душы да неспакою, да хоць бы спазнелага і боязнага пратэсту. У тым пэўная адзнака таго, што нацыя не ўмёрла ў сваёй стогадовай быдлячай пакорнасці.

Але перабудовачныя зрухі апошніх гадоў абудзілі не толькі праведныя народныя эмоцыі — прахапіліся ад спалоху і іншыя сілы. З розных куткоў краіны і асабліва верхніх паверхаў кіраўнічых гмахаў пачуліся слёзныя крыкі: нішчацца высокія арыенціры, хістаюцца ўстоі, глядзі рухне ўвесь так старанна збудаваны палац народаў, і настане канец.

Але каму — канец?

Калі чытаеш у «ПС»[1] несканчоны лямант наконт пагібелі асноў, дык цяжка адмовіцца ад думкі, што некаму, відаць, ёсць што губляць са стратай тых шматгадовых устояў. Інакш бы так не лямантавалі. І праўда, ёсць. І сярод гэтых страт найперш, вядома, — яе вялікасць улада над уся і ўсім, чароўная адмычка ад усяго іншага, жаданага і зваблівага ў жыцці. Так, улада! Гэта некалі, у мінулым, людзі імкнуліся да традыцыйных даброт жыцця — зямлі, грошай, маёмасці, таго, што давалася працай некалькіх пакаленняў. Цяпер жа, каб дасягнуць жаданага, трэба зусім іншае, і найперш — паслужлівасць. Розум? Дзелавітасць? Сумленне? Не толькі

не абавязковыя, але часцей за ўсё і замінаюць. Значыць, толькі паслужлівасць. Без гэтае самай распаўсюджанай пошасці веку не можа абысціся ніхто — ні чыноўнік, ні навуковец, ні мастак. Усё — талент, шчырасць, дабрыню і розум перамагае магутны малох улады, тыя, хто маюць уладу, хто на паўдарозе да яе, хто мае для яе патэнцыяльныя даныя. Перад уладай не можа ўстаяць ніхто. І калі сярод нас усё ж знаходзяцца тыя, хто могуць сёння сказаць, што яны незалежныя ад яе, што яны ўбераглiся ад яе смяротна-зваблівых чараў і жывуць вольнымі людзьмі, дык мы павінны зняць шапку перад гэтымі нешматлікімі людзьмі.

Павінны! Але ці здымаем? Ці таму нас вучыць жыццё? Хутчэй за ўсё мы іх узненавідзім. За тое, што яны не такія, як мы. Не такія дробязныя трапетуны, як многія, і могуць сказаць, што думаюць. І нават выйсці на плошчу. Але тым яны быццам прыніжаюць нашу мізэрную годнасць. І прычыняюць клопат. А калі яшчэ да ўсяго дадаецца іх несумненны талент, дык наогул нашае непрыязні няма мяжы. Ужо тут мы не дамо ім узвысіцца хоць бы з прынцыпу, мы іх імкнёмся прынізіць, паставіць у наш звыклы рад. Любячы літаратуру, усё ж сябе мы любім болей за ўсё. Раней для таго прыніжэння былі хлёсткія азначэнні — «папутчык», «вораг народа», «ідэалагічны дыверсант». Цяпер не менш хлёсткія — «нефармал», «дэмакрат», «народафронтавец». Але ці не час паразумнець некаторым штатным энтузіястам пісьменніцкай канферэнц-залы — часы ўсё ж мяняюцца. Калі яшчэ да нас тое не дайшло, дык дойдзе, бо дайшло да іншых — нашых суседзяў, блізкіх і далейшых, дзе некаторыя з былых «нефармалаў», «заклятых дэсідэнтаў» сталі героямі нацыі, прэм'ер-міністрамі, прэзідэнтамі. Але што ж, у нас на Беларусі — усё не так, як у людзей, прынамсі, як у Еўропе. На жаль, мы ўсё яшчэ — не Еўропа, і гэта не зважаючы на нашу гераічную гісторыю, на нашы ахвяры, наша легендарнае доўгацярпенне, якому няма мяжы.

Але ж колькі можна? Чаму нас нічому не вучыць не толькі гісторыя, але і сённяшні самы надзённы і балючы вопыт, учарашнія падзеі, горкія і ганебныя?

Цяпер нярэдка пачуеш, што СП не адпавядае новаму часу, састарэла яго структура, патрабуе абнаўлення кіраўніцтва. Правільна: і састарэла, і не адпавядае. Але СП — найперш гэта мы самі; і кіраўніцтва наша такое, яко-

га мы заслугоўваем. Не больш і не менш. Калі палітычная свядомасць СП, нашы палітычныя ідэалы — на ўзроўні свядомасці гуртка рыбаловаў-аматараў, дык чаго ж чакаць ад праўлення, прэзідыума, сакратарыята? І чаго чакаць ад народа, калі ягоную інтэлігенцыю, творцаў і майстроў прыгожага столькі гадоў імкнуліся ператварыць у нясмелую замуштраваную групку дзіцячага садка, да якой найбольшае патрабаванне, каб сядзелі ціха. І сядзелі ціха. Дзесяцігоддзямі сядзелі, бяскрыўдна дазваляючы папінаць сябе зграі ідэалагічных наглядчыкаў ад класнай дамы Сінельнікавай[2] да ідэалагічнага Прышыбеева — Паўлава[3], які нават стаў нашым калегам. Усё ж ён чалавек «сціплы», бо мог бы стаць і класікам, і ўлезці ва ўсе хрэстаматыі, і атрымаць прэміі і званні. Хто б яму перашкодзіў? Тыя, хто цяпер выступаюць супроць ушанавання таленту Рыгора Барадуліна, аж распіналіся пра незвычайны талент Савелія Яфімавіча. А іншыя маўчалі. Як маўчалі, калі распраўляліся з А. Карпюком, калі ва ўпор не заўважалі У. Караткевіча. Калі на Траецкім прадмесці, дзе цяпер збіраюцца паставіць помнік ахвярам афганскай авантуры, бравыя хлопцы з адпаведнай выпраўкай лупцавалі дзяўчатак з мастацкага вучылішча за іх «крамольную» спробу правесці гуканне вясны. Калі самадзейныя купальскія вогнішчы на працягу многіх гадоў залівалі з пажарных машын. Верхам знявагі і непрыкрытага тэрору ў адносінах да беларускага народа стала, канешне ж, векапомнае 30 кастрычніка[4], калі ўчыніўся здзек з народных веры, традыцыі, культуры, калі наваяўлены айчынны фашызм ва ўсёй красе паказваў сваё насарогава аблічча. На вялікі наш сорам, знайшліся і інтэлігенты, якія імкнуліся апраўдаць і адобрыць гэтае злачынства стагоддзя. Ну але што ж, хіба першы раз! Дзеля свае роднае партыі чаго не зробіш? Іншыя рабілі не тое — варта пачытаць сёння апублікаваныя стэнаграмы паказанняў некаторых з іх на славутых працэсах трыццатых гадоў. Можна звар'яцець, а мы перасталі і здзіўляцца.

Людзі могуць быць розныя — беспрынцыпныя і бяспамятныя, гісторыя ж жыве па сваіх законах і рупна робіць свой беспрыстрасны рэестр. Ад яе пільнага вока не засцеражэцца ніхто. І тут нельга адкараскацца ад думкі, што мы, беларусы, нясём на сабе нейкую каінаву пячаць за немаведама якія грахі ў мінулым ці будучым. Я ўжо не кажу пра Чарнобыль,

гэты гіганцкі атамны генацыд, які, здаецца, усё ж даканае нацыю. Асабліва пры такой эканоміцы і такой палітыцы. І пры такім начальстве! Незабыўны наш Караткевіч некалі расказваў прытчу, як Бог, стварыўшы зямлю, размяркоўваў яе між народамі. Нехлямяжыя беларусы, вядома ж, спазніліся, усё ўжо было падзелена. Апроч аднаго райскага кутка з мяккім кліматам, лясамі-барамі, рыбнымі рэкамі, урадлівымі палямі. І гэты куток Бог аддаў беларусам. Але, каб тыя не заганарыліся, прыставіў да іх надта ж благое начальства. За шмат стагоддзяў, што мінулі з біблейскіх часоў, парадзелі лясы, спаскудзіліся рэкі, клімат змяніўся. Але якасць нашага начальства засталася нязменнай. Столькі гадоў нацыя без лідэра! Ва ўмовах дэмакратыі, дык тое, можа, было б і няблага, але ж нам да дэмакратыі — як да таго гарызонту, які ўсё аддаляецца. Пакаленні пражылі без яе і, мусіць, будуць жыць новыя. Але як во пражыць без начальства?

Азіраючыся цяпер назад пры не надта і вялікім веку, бачыш, як няшмат было сярод іх людзей людскіх, у якіх за гады іхняй кар'еры не вытруцілася чалавечае ў душах. Бы слупы, яны стаяць у часе, аддзеленыя адзін ад аднаго кіламетрамі. А іншыя... Можа, упершыню за столькі гадоў у нас з'явіўся старшыня ўрада — спецыяліст і рэфарматар, і нацыя пазірае на яго з вялікай, ці не апошняй надзеяй. Хаця ў сучасных умовах усеагульнага развалу і ранейшага дыктату ЦК наўрад ці ён многа зможа...

Зрэшты, мы не максімалісты. Беларусь абышлася б і без выдатнага кіраўніцтва, але з такім, якое б не шкодзіла, не душыла, не цугляла нацыю на кожным кроку. А то па цуглянню наша рэспубліка, безумоўна, самая перадавая ў Саюзе. Нездарма Алесь Адамовіч[5] гэтак трапна ахрысціў яе «вандэяй перабудовы». Сапраўды, на што мы дзесяткі гадоў трацілі свой грамадзянскі імпэт, свой творчы запал? На змаганне за тое, што даўно ўжо дасягнута ў самых слабаразвітых краінах, што для якой-небудзь Верхняй Вольты[6] пройдзены і забыты этап. Дзесяткі гадоў мы змагаліся за родную мову — некаторыя касцьмі клаліся ў тым змаганні (як Уладзімір Дамашэвіч, напрыклад), закідвалі пісьмаміенкамі ЦК КПСС, Гарбачова[7]. За што пасля па адным іх цягалі ў ЦК на допыты, па сутнасці на здзек, бо ўсе пункты скаргаў ЦК КПБ разам з падначаленымі яму міністэрствамі настойліва абвяргаў. Сёння, калі абставіны трохі змяніліся,

аддамо належнае нашым братам, мастакам Беларусі, некаторым з навукоўцаў, настаўнікам, імёны якіх цяпер і не ўспамінаюцца. Гэта цяпер, калі стала можна, ТБМ[8] раскашуе на ўсенародным, афіцыйным прызнанні, і дай яму Бог раскашаваць і далей. Тое, што яно робіць, вядома, трэба рабіць. Але і не трэба заспакойвацца, па сутнасці, нічога яшчэ не дасягнута. Трэба зразумець, што доўгачаканы акт надання дзяржаўнасці беларускай мове — не больш чым чарговы бюракратычны манеўр, нацыянальны падман. Пры цяперашніх далёкіх ад дэмакратыі пазіцыях нашага кіраўніцтва праблема нацыянальнае мовы застаецца нявырашанай. Для таго каб беларуская мова стала сапраўды народнаю, дзяржаўнаю мо-ваю, відаць, патрэбна змена ўсяго антынацыяналістычнага, сервілісцкага ладу на суверэнна-дэмакратычны, што нам пакуль і не свеціць. Мабыць, мы яшчэ не дараслі да таго. Да таго дарасла Балтыя, а не Беларусь, рукамі якой цяпер спрабуюць душыць яе боскую ініцыятыву да волі. Саюзны В[ярхоўны] С[авет] прымае законы аб крымінальнай адказнасці за тэрытарыяльныя прэтэнзіі, а Прэзідыум нашага ВС выдае заявы аб такой прэтэнзіі да Літвы. Сорам гэтай ганебнай акцыі падае, вядома, і на нас, творчую інтэлігенцыю. Нам найболей адказваць за ганебныя акты, якія падпісваюцца тымі, хто, бы матылі, з’яўляюцца і знікаюць. Ні за што не адказваючы. Як яны ні ў нас, ні ў Маскве не адказвалі ні за Венгрыю 56-га года, ні за Чэхаславакію 68-га, ні за Афганістан. Нам жа заставацца на гэтай зямлі і ў яе гісторыі і, значыць, несці гістарычную адказнасць.

Могуць сказаць: а што мы можам?

Сапраўды, што?

Мы самі — задушаныя, нямыя і бяспраўныя. Дзесяткі гадоў мы змагаліся за рэабілітацыю нашых няшчасных праведнікаў ад Гаруна[9] да Гартнага[10] і пяці дзесяткаў іншых дзеячаў культуры, на якіх ужо рыхтаваліся новыя абвінавачванні — так сказаць, пасмяротныя, па другім заходзе. Год назад Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР праз Вярхоўны суд рэспублікі ўрэшце рэабілітаваў вялікую іх групу. Але без удзелу кіраўніцтва СП. Кіраўніцтва СП у той час вяло зацятую вайну з БНФ[11], даказваючы яму, сабе і найперш, вядома ж, начальству, згубу праграм БНФ, яго-ных памкненняў да волі і незалежнасці. Чым скончылася гэтая барацьба, вядома — беспрэцэдэнтным для гісторыі

нашай культуры ганебным «уотэргейтам» у нашым доме, самаўпраўствам міліцыі[12], знявагай годнасці ўсёй нацыянальнай інтэлігенцыі. І зноў без усялякага выніку — кіраўніцтва СП нават не пасварылася з начальствам. Як жа, а раптам начальства разгневаецца і адмовіць у свае панскае міласці? Факт гэтага ганебнага ўварвання ў «пошуках бомбы», вядома ж, ніхто не расследаваў, і не развеяны падазрэнні, што некаторыя з апаратчыкаў СП і навялі міліцыю на гэты начны ўзлом. Я ўстрымліваюся ад каментарыя гэтага факта, хай яго ацэніць наша шаноўная грамада.

І што ж, на тым усё сціхла? Бомбу не знайшлі, але дакументы забралі, і ўсё скончылася? Скончылася хіба ў аператыўных зводках карных органаў, але для гісторыі толькі пачынаецца. І ўсё тое, безумоўна, праявіцца ў жыцці наступных пакаленняў, дзяцей тых дзяўчынак і хлопчыкаў, якіх лупцавалі веласіпеднымі ланцугамі каля Траецкага прадмесця, якіх труцілі газамі каля Маскоўскіх могілак, білі міліцэйскімі палкамі ля Курапат, дзе здаўна ляжаць у брацкіх магілах іхнія дзяды і прадзеды. Такое не забываецца, не знікае ў памяці народа і ягонай гісторыі, якія б высілкі для таго ні рабілі камуністычная партыя, КДБ, МУС, нашы псеўдавучоныя ад Абэцэдарскага да Залескага. Безумоўна, апроч гісторыкаў над тым парупяцца творцы: раманісты і мастакі, песняры і рэжысёры, якія цяпер змушаны змагацца, смешна мовіць — за прызнанне ў Беларусі яе нацыянальнай гістарычнай сімволікі. Пра тое нават нельга сказаць у далёкім ці блізкім замежжы — ніхто цябе не зразумее: чаму так? Які ў гэтым сэнс ці хоць бы якая логіка? Я не ўпэўнены, што тое разумеюць нават тыя, што забараняюць гэтую няшчасную сімволіку. Бел-чырвона-белы сцяг ім, бачыце, ненавісны за тое, што яго насілі паліцаі. Дык паліцаі ж насілі і штаны, што ж тады вынікае з вашых вучоных высноў, шаноўныя панове? Няма сумнення, усё гэта будзе смешна і недарэчна нават праз вельмі кароткі час. Але цяпер не смешна. Цяпер балюча і крыўдна, бо тупы жандарскі бот па-ранейшаму папірае і фізічнае існаванне нацыі, і яе стогадовыя духоўныя набыткі. Якія яна па крошцы выпрацоўвала ўласнымі высілкамі, высілкамі сваіх найлепшых людзей, збірала і зберагала — праз войны, голад, галечу, іншаземнае панаванне.

Народ — сірата без лідэра, гэта элементарна. Але яго будучыня не безнадзейная, калі ён мае ўласную інтэлігенцыю,

якая генерыруе ідэі і з'яўляецца жыватворным ферментам палітычных працэсаў у грамадстве. Антынародныя, антынацыянальныя сілы гэта разумеюць выдатна, і таму такое шалёнае супраціўленне ў Беларусі сустракае яе Народны Фронт. Усе сродкі кінуты на барацьбу з ім, з поўнаю пагардаю да элементарнай цярпімасці, этыкі і маралі. Але і непрызнаны Беларускі Народны Фронт жыве, дзейнічае з апірышчам галоўным чынам на нацыянальна-дэмакратычную інтэлігенцыю, пры падтрымцы найбольш свядомых слаёў народа. І гэта дае надзею. У гэтым сэнсе нам трэба сёння азірнуцца на саміх сябе, паглядзець, якія мы інтэлігенты і як выконваем свае абавязкі перад народам. Вядома, у мастацтве найперш талент, але, апроч таленту, яшчэ так неабходнае сумленне. І калі талент — ад Бога, дык сумленне — хоць і не цалкам, усё ж у значнай меры — ад нашае чалавечае волі. І калі мець на ўвазе наш дужа нават няпросты час і наша мастацтва, дык у іх, мабыць, болей за ўсё і вырашае менавіта сумленне. Сумленне ва ўсім: у стаўленні да народа, да гісторыі, да сучаснасці і будучыні. Пісьменнікі цяпер усе разумныя і таленавітыя, ведаў у кожнага звыш меры. І дай Бог, каб ён надзяліў нас яшчэ і сумленнем.

Ці трэба нам сваё карпаратыўна-цэхавае аб'яднанне, свой прафесійны саюз?

Мабыць, патрэбны.

Толькі не такі, якім мы ўжо сытыя па горла. Не як зброя ўлады супроць літаратуры, не сродак уціску, а такі, каб выражаў волю большасці, нашу волю і нічыю болей. Не міністэрства літаратуры (каму толькі не падпарадкаванае — ад ЦК да райаддзела міліцыі), не дэпартамент папяровых спраў з трыма паверхамі пісцоў-чыноўнікаў, а наш родны дом, наша царква, калі хочаце, у якой бы пісьменнік мог знайсці праўду і абараніць свае інтарэсы. Менавіта абараніць, а не навучыцца літаратуры ці марксізму — ужо гэтаму, калі захочам, мы як-небудзь навучымся самі. Кіраўніцтва тое павінна быць не ў ролі паноў-міністраў, а ў ролі нашых таварышаў, дэмакратаў па перакананнях, не дзялкоў, а сумленных, разумных грамадзян. Таленавітых? Так, было б пажадана, каб таленавітых, але тое зусім неабавязкова. Сумленных — во гэта абавязкова. Такое, каб не кіравала намі і не дазваляла каму б там ні было кіраваць сабой. (Надта ж добра вядома, да чаго прывяло такое шматгадовае кіраўніцтва над ім.) Каб мела свой гонар і паважала гонар

іншых. Але найперш сваіх членаў і членаў іншых братніх творчых саюзаў. А калі якая несправядлівасць, уціск ці занядбанне — літаратуры або грамадства, — каб мела адвагу сказаць пра тое перад усім светам, а то і выйсці на плошчу і павесці за сабой тых, хто яшчэ адважваецца людзьмі звацца.

Што, занадта? Не, не занадта. Іншых і розных у нас ужо было даволі. Цяпер патрэбны менавіта такія. Тым болей што часы наступаюць далёка не райскія — горкія і цяжкія часы. Барацьба будзе зацятай. За хлеб, за гонар і праўду — для сябе і нашага цярпліўца-народа.

*1990*

## ВЫСТУПЛЕННЕ НА І КАНГРЭСЕ БЕЛАРУСІСТАЎ

Беларусы, мабыць, адна з самых няшчасных нацый Еўропы. Не зважаючы на ўсе нашы зусім неблагія, Богам дадзеныя чалавечыя якасці, мы дагэтуль не маем таго, што варта мець кожнай нацыі свету, для чаго, па сутнасці, яна і існуе пад небам. І ўсё таму, што з нейкага капрызу гісторыі мы ўпусцілі свой нацыянальны цягнік і апынуліся ў ролі вечных паязджан, пазбаўленых прыстойнага лёсу, здатнага прытулку дзяржаўнасці. Можа, толькі цяпер гісторыя дае нам пэўны і надта сумніцельны шанц, і ўсё залежыць ад таго, ці пакарыстаемся мы ім. Ці ён у каторы раз выслізне з нашых няўмелых рук. Асабліва калі ёсць надта спрытныя рукі, якія б’юць спрактыкавана, пад дых.

Зноў, як і заўжды, найбольшыя спадзяванні на нашу мову — гэты галоўны нацыянальны набытак, наша гістарычнае апірышча. Нездарма яе так вынішчалі ў стагоддзях — забаранялі, аплёўвалі, адвучвалі ад яе цэлыя пакаленні — нацыянальна панішчаныя, класава раз’яднаныя, спаскуджаныя шматгадовай маной; нешта ўсё ж значым у сусветнай суполцы народаў, дык найперш праз гэтую нашу мову. Без яе ад нас не засталося б і следу, як не засталося яго ад колішніх тутэйшых ятвягаў. Мова верна служыла народу ў добры і благі час, ратавала яго існаванне і ніколі не здраджвала яму. Гэта ёй нярэдка і няўдзячна здраджвалі на Беларусі. За што заўжды былі бязлітасна пакараны Богам і гісторыяй.

На гэтай мове праз пэўную долю маны і пустаслоўя створаны, аднак, самы светлы і высакародны фальклор, напісана немалая літаратура. І сёння я рады вітаць у гэтай зале нашых братоў у выгнанні, а таксама нашых знакамітых паслоў, паўнамоцных прадстаўнікоў беларушчыны ў розных краінах свету. Гэта іх намаганнямі народы пазналі Беларусь і беларусаў — высакароднасць нашага сэрца, наш бясхітрасны розум і наш неспатольны боль.Так, боль. Менавіта боль — гэты наш гістарычны спадарожнік, які ні на год не пакідаў нас у мінулым, не пакідае і зараз. У нашай імперыі даўно ўжо няма шчаслівых народаў, але беларусы, як ужо сказана, можа, самыя нешчаслівыя сярод іх. Бо, не зважаючы на гаманкую імітацыю рэфармізму, на Беларусі нічога не мяняецца, па-ранейшаму нашай афіцыйнай рэлігіяй застаецца сацыялістычная дэмагогія, наш парламент — не болей чым гаманкая сходка камуністаў, занепакоеных адзінай праблемай — утрыманнем улады. У нас беззваротна панішчана сялянства, гэты традыцыйны асяродак беларускасці, наш рабочы клас робіць толькі першыя няўмелыя спробы ўстаць з каленяў, а наша нацыянальная інтэлігенцыя ў масе сваёй — тыповае ўвасабленне лакейскага канфармізму. Менавіта ў гэткіх варунках беларускі народ наблізіўся да краху нацыянальнай культуры і дзяржаўнай эканомікі, наперадзе нас чакае татальны заняпад і голад з усімі яго жахлівымі наступствамі. Перспектыва выжывання нацыі, густа засыпанай радыенуклідамі, абсалютна няпэўная, калі не зусім змрочная. У гэткіх варунках ашчаднікамі нашай нацыянальнай існасці можа стаць беларуская дыяспара, выгнанне, дзе высілкамі беларускіх патрыётаў можа захавацца наш нацыянальна-культурны генафонд. У нас, на Беларусі, тое ўжо немагчыма, тое панішчыцца калі не пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, якая не паспела гэтага зрабіць у свой час, дык ва ўмовах рыначнай эканомікі. Гістарычны вопыт паказвае, што зберагчы сябе ды сваю існасць нацыя здольная толькі ва ўмовах абсалютнага суверэнітэту. Дзяржаўны суверэнітэт, поўная культурная самастойнасць і палітычная незалежнасць — не заганная ідэалогія і не сепаратысцкае палітыканства, як гэта сцвярджаюць шавіністы-дзяржаўнікі. Гэта адзіна магчымая форма нацыянальнага выжывання ў сучасных, савецкіх умовах. Без поўнай палітычнай незалежнасці нацыя з такім аслабленым у нацыянальных

адносінах менталітэтам выжыць не можа. Успомнім мудры запавет мужнага Яські з-пад шыбеніцы[1]. У ім уся справа. Таму зусім наіўнымі, калі не яўна спекулятыўнымі, з'яўляюцца намеры тых нашых псеўдапатрыётаў, якія цешаць сябе ілюзіямі дамагчыся захавання на беларушчыне метаду прыручэння да яе «правільнай», «нескажонай» камуністычнасці, бальшавізму з «ласкавым» тварам. Які ў бальшавізму твар, чалавецтва добра ўжо ўведала, і нідзе той твар не мяняецца. Ён нязменны.

Так, спадзяванак у нас няшмат, і, можа, апошняя наша надзея на несмяротную сутнасць народа. Усё ж дзеля чагосьці ён быў створаны Богам на гэтай благаслаўлёнай зямлі. І мы цешым сябе думкаю, што Беларусь яшчэ неяк паслужыць на ёй, калі не нам, дык наступным пакаленням, а можа, і сусветнай цывілізацыі. У гэтым сэнсе мы і вызначаем наш абавязак і бачым нашу святую надзею, якія мы і ажыццяўляем, наколькі тое нам дадзена бязлітасным лёсам і не меней жорсткай гісторыяй.

*1991*

## МЭТА І СРОДКІ

Ужо колькі часу беларуская грамадскасць б'ецца за родную мову, за яе існаванне, недапушчэнне яе пагібелі. І ўсё без жаданага выніку. Выпадак, трэба прызнаць, небывалы ў гісторыі зямных нацый, парадаксальны для XX стагоддзя. Але не для нас. У нас, у Беларусі, тое падаецца цалкам заканамерным і ўжо не здзіўляе нікога. Болей здзівіла б каго, калі б тая барацьба скончылася перамогай. Ці якім-небудзь прыстойным вынікам.

Раней змаганне за мову вялося адно нацыянальнай элітай, што канфрактавала з бальшавіцкім таталітарызмам, з партыяй камуністаў, якая супрацьстаяла нацыі — зацята, паслядоўна, душачы ўсе яе памкненні, перш за ўсё — памкненне да волі і самавызначэння. У гэтай барацьбе партыя канала, але не дала перамагчы сябе. І цяпер дамагаюцца таго яе нашчадкі, яе наменклатурныя рэшткі, што знаходзяцца пры ўладзе і заклапочаны рэстаўрацыяй ранейшага ладу. Вядома ж, неўміручай Расейскай імперыі, якая набывае ця-

пер другое дыханне. А як здаўна вядома, у адзінай імперыі павінен быць адзін імператар, адна вера і адна мова.

Праўда, усё ж на двары не сярэднявечча, а канец дваццатага стагоддзя, і тыя, хто ажыццяўляюць уладу, карыстаюцца трохі інакшымі ад традыцыйных метадамі свайго панавання. Найперш у выглядзе адносна ліберальных канстытуцый ды папулісцкіх законаў. Добра ведаючы пры тым, што, як і заўжды, ніякія з тых законаў выконвацца не будуць, а канстытуцыя ў нас — не болей чым «фількіна грамата», прызначаная для ашуканства Міжнароднага валютнага фонду ды міжнароднай грамадскасці. Менавіта такія меркаванні клаліся ў аснову стварэння і славутага Закона аб мовах, які распрацоўваўся і прымаўся ў якасці запаснога перабудовачнага варыянта на выпадак, калі раптам пераможа дэмакратыя. Але дэмакратыя не перамагла, яе не аказалася пры ўладзе, а наступная камуністычная наменклатура, хутка паспакайнеўшы пасля путчаўскага перапуду, пачала «круціць дынаму», як на паўкрымінальным наваязе называецца класічная бюракратычная валтузня і цяганіна. Новыя шыльды ды некалькі дэпутатаў-беларусаў у Вярхоўным Савеце (не лічачы апазіцыі), што ў сваіх выступах перайшлі на родную мову — вось і ўвесь рэальны набытак тае абмежаванай барацьбы за абмежаваныя мэты. Зрэшты, яно і зразумела. Можна было колькі заўгодна выступаць, горача дыскутаваць, пісаць красамоўныя артыкулы, але барані Божа не сігаць далей дазволенага, што магло падарваць аўтарытэт улады. Так яно робіцца і дагэтуль — каб не зачапіць уладу, не прагневаць яе партыю. Вядома ж, партыю камуністых, да якой многія з тых моўных энтузіястаў належалі і якой спраўна служылі. Каб захаваць славуты прынцып «нацыянальнай згоды».

Але згоды з кім?

А з тымі, вядома, хто, жывучы і, можа, нават нарадзіўшыся на Беларусі, ва ўпор не бачаць ніякай беларушчыны. Для каго беларуская мова «непрыгожая і дзікая». На якой, як яны кажуць, не створана нічога каштоўнага. Якія адзіна каштоўнае бачаць хіба што ў Расеі, а калі ў Беларусі, дык толькі ўвасобленае ў генеральскія лампасы ды ў атамнаракетныя лабараторыі ВПК[1]. Згоду з хаўруснікамі тых, хто залілі свет крывёй, а цяпер з азвярэласцю няўдакаў руйнуюць чачэнскія гарады і сёлы ды рыхтуюць новы, абноўлены геапалітычны плацдарм на захад ад Масквы. Не ў прыклад

чачэнцам нашы нацыянальныя калабаранты гатовы без супраціву здаць усё, чым непадзельна валодаюць самі, у тым ліку і мову. Найперш, можа, мову, бо здача мовы ў наш крызісны час не патрабуе ніякіх грашовых затрат і можа нават прынесці эканомію ў змарнелы «заячы» бюджэт. Зноў жа даўно вядома, што беларусы — памяркоўная, «рахманая» нацыя, яна праглыне ўсё, што ёй ні падсунь. Мабыць, праглыне і рэферэндум аб мове. Тым болей што ягоны вынік ужо прадвызначаны «ўсенародна абраным» прэзідэнтам: 84 працэнты за аднаўленне дзяржаўнага статусу расейскай мовы. Што ж, з такой палітыкай, якую ажыццяўляе аўтарытарная прэзідэнцкая «вертыкаль», падначаленае расейскім генералам т. зв. беларускае войска, прэзідэнцкі АМАП ды прэзідэнцкія спецназ, МУС, КДБ можна дасягнуць і большага. Нават і знакамітыя 99,99 працэнтаў. Так што ў дадзеным выпадку прэзідэнт яўна недабірае.

У імя ўсё той жа «нацыянальнай згоды» ды «каб не было вайны» высілкамі свайго ж Вярхоўнага Савета паспяхова змарнавана ідэя стварэння прыстойнага дзяржаўнага гімна і не меней паспяхова марнуецца рэформа граматыкі і правапісу. Ранейшы правапіс, можа, і не дасканалы, можа, і залішне камунізаваны, але звыклы для некалькіх пакаленняў беларусаў, меў хіба патрэбу ў пэўным удасканаленні. Цяпер ён разбураецца ўзаемнай нязгодай «тарашкевічаўцаў» ды «наркомаўцаў»[2]. Каб яго паправіць і сапраўды дасягнуць «нацыянальнае» згоды ў моўнай праблеме, камісіі Вярхоўнага Савета так і не хапіла адвагі. А без тае камісіі хто ж навядзе парадак у разладжаным механізме мовы? Тысячы настаўнікаў, кажуць, не маюць пэўнага кшталту ведаў, а дзесяткі дасведчаных моваведаў, кандыдатаў, дактароў і акадэмікаў, не валодаюць адпаведным правам. Веды і правы засяродзіліся адно ў знакамітай камісіі, якая не мае... чаго? Хіба як раней — адпаведнае пастановы ЦК КПБ ды Савета Міністраў БССР? І вось вынік: як правільна ўжыць нават спрадвечнае беларускае слова, ужо не ведае ніхто — ні вучні, ні настаўнікі, ні моваведы.

Моўны вэрхал, што запанаваў на Беларусі, можа, болей для яе шкодны, чым колішняя забарона мовы: ён разбурае яе знутры. На працягу стагоддзяў беларуская мова самаіснавала ў няпростым атачэнні розных моўных стыхій, ды ўсё ж зберагла сябе, бо ў асноўным захоўвалася цэласць тэрыторыі,

непадзельнасць адзінага арганізму нацыі. Беларусь, вядома, перажыла нямала страшных катаклізмаў, і калі выжыла, дык у шмат якіх адносінах таму, што жывілася ўласнаю мовай, зрэшты, як і мова жывілася духоўнымі сокамі нацыі. Аж да пачатку XX стагоддзя, калі тая цэласць сталася парушанай у выніку валюнтарысцкага падзелу жывога цела нацыі на дзве палавіны, што падвергліся рознаскіраваным сацыяльна-канфесійна-моўным уздзеянням. Тыя ўздзеянні, безумоўна, падарвалі спрадвечную гармонію мовы, парушылі яе нацыянальную сутнасць. Мова Заходняй Беларусі ў каторы раз апынулася пад магутным рэлігійна-дзяржаўным уплывам «пальшчызны», у той час як ва ўсходнюю ў выніку фарсіраванага пашырэння пісьменнасці хлынуў шырокі паток партыйна-бюракратычнага канцылярыту. Той уплыў у выглядзе знакамітай «трасянкі» ўрэшце пашырыўся на ўсю Беларусь, дзе і пануе да гэтага часу. У літаратурную ж мову, як рэакцыя на расейскамоўную інтэрвенцыю, пашыбавалі мясцовыя дыялекты, якія безліч аказаліся ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. Мова Купалы і Коласа, што некалі легла ў падмурак беларускай літаратурнай мовы, стала мала каму патрэбная.

У гэткіх заблытаных варунках легітымацыя нацыянальнае мовы, наданне ёй статуса адзіна дзяржаўнай выдалася складанай задачай. І не толькі з прычыны традыцыйна непрыязнага стаўлення да яе савецка-партыйнай улады — пэўную абыякавасць да свае мовы праявіла нацыя, асабліва яе гарадская частка. Дакоры, угаворы, заклінанні моўных адраджэнцаў мала дзейнічалі на зняверанных, нацыянальна распрапагандаваных людзей, якім сваю мову трэба было спасцігаць нанова, што само па сабе было няпроста, асабліва ў атмасферы паўнаўладдзя іншае, расейскае, мовы. Гарадскі побыт, вытворчая дзейнасць, навучанне, вайсковая служба, усе органы ўлады даўно абслугоўваліся расейскай мовай, у дзвюх мовах проста не было патрэбы. Для авалодання другой, хоць бы і роднай, не хапала патрыятызму, патрэбна была сацыяльная неабходнасць. Але ва ўмовах вельмі адноснага суверэнітэту ў тае неабходнасці не мог пераканаць ніхто — ні моўныя ваяры, ні памяркоўныя аргументы гаспадароў утульных кабінетаў, здаецца, мала поспеху здабылі таксама і прастадушныя моўныя рамантыкі ў сваёй палымянай агітацыі на мітынгах і ў пікетах. Калі з першымі ўлады тайна ладзілі апрабаваным метадам перніку, дык да другіх

прымянілі АМАП з яго адпрацаванымі метадамі: галавой аб асфальт, за ногі — ды ў міліцэйскі УАЗ. Як гэта нядаўна сталася з шаноўным прафесарам на плошчы Незалежнасці ў Мінску[3].

Нас імкнуцца пераканаць, што ў галіне мовы вынікі будуць напрыканцы стагоддзя, як тое і прадугледжана славутым моўным законам. Але ці спатрэбяцца тады каму тыя вынікі? Вельмі сумніўна, што, калі справа пойдзе гэтак і далей, дык яшчэ праз дзесяць — дваццаць гадоў на Беларусі знойдзецца каму сказаць беларускае слова. Традыцыйны творца і зберагальнік беларушчыны — наша сялянства перастае быць такім ужо сёння. Тое, што ад яго засталося на вёсцы, наўрад ці можна назваць сялянствам, беларускім тым болей; горад жа ў нашым стагоддзі так і не стаў беларускім. Інтэлігенцыя... Вядома, якая сёння ў нас інтэлігенцыя, што ціха плача па тых незабыўных часах, калі жылося нябедна і ганарова. Калі была ружовая мэта роўнасці і сацыяльнай справядлівасці. Цяпер мэты не стала, а нацыянальная ідэя ў разуменні сучаснага дэнацыяналізаванага ды зрусіфікаванага інтэлігента — ідэя сумніўная. А галоўнае— страхавітая, за якую яшчэ нядаўна каралі. Зноў жа ў адрозненне ад камунізму нацыяналізм нікога не корміць. У тым яго хіба.

Само па сабе зразумела: без нацыі няма дзяржавы, а без дзяржавы не будзе і нацыянальнае мовы, — навейшая гісторыя красамоўна сведчыць пра тое. Але Беларусь апынулася ў асаблівых варунках: быццам з’яўляецца дзяржава, ды страчваецца мова карэннай нацыі. Ды толькі, мне думаецца, калі з’явяцца сапраўды важкія падставы для добрай надзеі на суверэннасць, адразу ж пачне адраджацца мова. І беларусы хутка прыпамятаюць матчыну мову, і небеларусы актыўна да яе павернуцца. Тое ўжо разумеюць найбольш дэмакратычна настроеныя грамадзяне і з ліку небеларусаў. Жыццё, суверэннае існаванне, вытворчыя адносіны будуць вымагаць ад іх менавіта беларускай мовы, бо карыстацца расейскай будзе проста нязручна, нявыгадна, непрыстойна ўрэшце. Гэта не значыць, аднак, што расейская будзе падлягаць забароне. Наадварот — дэмакратычнае грамадства суверэннай дзяржавы будзе змушана ўсяляк заахвочваць вывучэнне і карыстанне там, дзе гэта запатрабуецца, і расейскай, і ангельскай, і нямецкай, і польскай, і ўкраінскай мовамі. Чым больш грамадзянін будзе ведаць моў, тым лепш, як гэта і прынята

ва ўсім цывілізаваным свеце, і як гэта павінна было быць на Беларусі. Ды не было. Уся моўная патрэба за семдзесят гадоў сышлася да адной мовы, і то не сваёй. Хай сабе і развітой, і папулярнай, але беларусам усё ж генетычна чужой. Як бы там ні сцвярджалі моваведы ў пагонах і філосафы ад марксізму.

Праблема беларускай мовы на Беларусі — не ізаляваная праблема, у ёй трэба бачыць складаны і балючы комплекс праблем, народжаных крызісным існаваннем нацыі ў XX стагоддзі. Ці можна ўсур'ёз дамагчыся суверэннасці мовы, калі не дасягнута суверэннасць нацыі? Калі папяровыя пачаткі тае суверэннасці з гэткай упартасцю «інкарпаруюцца» ў склад вялікай пануючай дзяржавы, на што нястомна працуе ўвесь вялізны дзяржаўны апарат — ад камуністычных саветаў да дыктатарскай «вертыкалі». Калі прэзідэнт дзяржавы не прапускае зручнага выпадку, каб не сказаць сваё прэзідэнцкае «фэ!» фармальна ўзаконенай дзяржаўнай мове. Неверагодная сітуацыя! Але менавіта такі прэзідэнт у выніку выбараў апынуўся «выразнікам і абаронцам» нацыянальных інтарэсаў беларусаў. Што ж на тых выбарах думала сабе нацыя?

Лёс мовы залежыць найперш ад свабоды і незалежнасці Беларусі, ад ступені яе цывілізаванасці. Ад вырашэння праблем дзяржаўнасці, ад стану яе разбэрсанай эканомікі, якая сацыялістычнай быць не здолела, а стаць рынкавай ёй не даюць. У такіх умовах моўныя праблемы віснуць у паветры і не рэфармуюцца, як не рэфармуецца нічога з астатняга. Каб усё тое зрушыць у патрэбным напрамку, патрабуюцца адэкватныя сродкі. Патрэбна пэўная мэта. Але найперш патрэбна палітычная воля нацыі, каб усвядоміць неабходнасць калі не ўласнага адраджэння, дык хоць бы ўласнага выжывання. Чалавеку, які страціў жыццёвую волю, не патрэбна мова, яму трэба спакой.

Наша нацыя даўно хворая на дэнацыянальныя сухоты і мае тэрміновую патрэбу ў леках. Хто дасць ёй тыя лекі? Мабыць, ніхто, калі яна сама не знойдзе іх у сваім нацыянальным арганізме.

*1995*

# ДОЎГАЯ ДАРОГА ДАДОМУ
*(Фрагменты)*

Родная мая мясціна, мабыць, не надта тыповая для раўніннай поўначы Беларусі — дужа зрыты рэльеф, пагоркі і лагчыны, раўкі, балацявіны і азёры. Азёраў дык нават зашмат — палявых і лясных, круглых, крывулястых, часам з голымі, а ў бальшыні з аброслымі трыснягом берагамі. Ну і, вядома, лясы. Чырвоных бароў, праўда, засталося няшмат — бары высякалі, асабліва пасля войнаў — на будоўлю, дровы, на продаж. Палі амаль паўсюль цесныя, лапікамі на пагорках, нізінах, часцяком парэзаныя раўчукамі з алешнікам на схілах. На тых лапіках пад лесам, каля балотаў, па-над рэчкамі ці азёрамі рассыпаліся вёскі — невялікія, з крывымі вуліцамі, а то і зусім без вуліцаў, — з дарожкай ад хаты да хаты. Не хутары і не вёскі, але так, мабыць, было зручней гаспадарыць, бо гаспадарка ахоплівала хату, хлявы, свіран,варыўню, гумно з токам, паветкай і пуняй. Нават невялікая вёска здалёку рабіла ўражанне немалой забудоўкі. Цягам часу будынкаў усё менела — гарэла, бурылася, пераносілася да калгасных падворкаў — абораў ды канюшняў. Менела і людзей. Цяпер у маіх Бычках два дзесяткі самотных хатаў, палова з якіх стаяць пустыя. У астатніх дажываюць свой век нямоглыя пенсіянеры.

Наш падворак у вёсцы быў крайні, далей — поле і парослы алешнікам ды ляшчыннікам роў. З тым ровам найперш звязанае маё маленства; у ім, асабліва ўлетку, было безліч зманлівага і цікавага. Там зліваліся дзве ручаіны, утвараючы вадзяныя запруды на камянях, сцежку заўжды перакопвалі кратовыя норы, крыху далей, на схіле, зеўрала барсукова нара, а ўнізе, пад абрывам, бруіла з-пад камянёў крынічка. Усе даваенныя гады

мы бралі з яе ваду, якую, аднак, не дужа лёгка было цягаць па крутых сцежках, асабліва ўзімку. Але калодзежу на падворку мы не мелі, а вада з крынічкі была дужа добрая — чыстая, заўжды сцюдзёная і смачная, як казала маці. У калодзежах такой не бывае.

Над ровам удалечыні відаць былі цёмныя купкі ельніку, то — Гаі, Бліжнія і Дальнія, куды дзятва пачынала хадзіць з Вялікадня, калі падсыхалі сцежкі. Там мясціўся зусім ужо інакшы свет — лясны, змрочны і таямнічы. У Піліпаўку чулася, як там выюць ваўкі, хаця адмысловае ваўчынае месца звалася Ваўкоўшчынай, яно было збоч і далей ад Гаёў, за іншым, яшчэ глыбейшым ровам. Увогуле равоў у нас хапала, усе зарослыя хмызняком, з крутымі, галаваломнымі схіламі.

Пачаў сябе памятаць, можа, гадоў з пяці. Першыя мае ўражанні ад навакольнага свету, аднак, звязаныя з возерам. […]

Пра дзядоў-прадзедаў ведаю няшмат, мабыць, мала захавалася пра іх у нашай сямейнай памяці. Ці, можа, бацькі не мелі патрэбы распавядаць пра іх дзецям. Спярша тое насамрэч было малым нецікава, а пасля не было каму слухаць. Ведаю толькі, што адзін дзед быў патомны рыбак, усё жыццё лавіў рыбу. Тую справу перадаў сыну, брату маёй маці — Лявону, які таксама лавіў рыбу. Другі дзед быў селянін-адыходнік, сезонна рабіў на прамысловых прадпрыемствах у Курляндыі, там жа пад канец жыцця выбіўся ва ўпраўляючыя цагельнага завода. Баба жыла ў вёсцы, але рана памерла, вялікіх уражанняў па сабе не пакінула. Бацька Уладзімер Хведаравіч у маладосці нямала пабадзяўся па свеце і толькі на старасці жыў у роднай вёсцы. Як цяпер пагляджу, гэта, можа быць, самае нешчаслівае пакаленне, якое за ўсё сваё жыццё долі не знала. Адно бязладдзе, рэвалюцыі, войны. Ды калектывізацыя. Ды барацьба з ворагамі народа... Голад, кроў і пакуты.

Зямлі было мала, казалі тады — два надзелы, дык бацька кожнае лета хадзіў у адыходнікі — на цагельныя заводы ў Латвію, пасля служыў чатыры гады ў царскай арміі, у Горадні, дзе, дарэчы, пасля і мне давялося жыць. Толькі прыйшоў са службы, пачалася Першая сусветная вайна, быў змабілізаваны ў самсонаўскую армію, недзе ў Аўгустоўскіх лясах трапіў у палон і апынуўся ў Нямеччыне. Працаваў у баўэра. У палоне, казалі, было па-рознаму, як дзе і каму. На заводах і ў шахтах дык дужа кепска, а ў прыватных гаспадароў, здаралася, і нішто. Канешне, трэба было працаваць, але немцы кармілі, апраналі,

неяк клапаціліся аб працаўніках, не тое што пасля на радзіме, у калгасах. Бацька часта ўспамінаў свой палон добрым словам, што ў мяне, вечна галоднага падлетка, выклікала непаразуменне і зайздрасць. Яшчэ бацька быў на Грамадзянскай вайне, наступаў на Варшаву. А перад тым палякі наступалі на нас, у ваколіцах вёскі адбыўся бой, было шмат забітых з абодвух бакоў. Тое месца, дзе ляжалі забітыя, пасля доўга называлі Бітаю пожняй. […]

Маці Ганна Рыгораўна паходзіла з вёскі Завулак, якая апынулася па той бок мяжы, пад Польшчай. За мяжой застаўся і яе брат, той, што лавіў рыбу. Яна ўвесь час па ім гаравала, асабліва як агітатары распавядалі, што працоўныя ў Польшчы гібеюць без правоў і без хлеба. Для нас, дзяцей, гэта таксама была нейкая драма, спасцігнутая ў надта раннім узросце. Я быў старэйшы. Праўда, была яшчэ старэйшая за мяне сястра Антуніна, але яна памерла ў пятнаццаць гадоў... Пасля мяне нарадзілася сястра Валя, а ў 30-м годзе — брат Мікола (памёр у 2000-м). Ну калі яшчэ казаць пра бацькоў... Бацька быў даволі строгі да нас, дзяцей, увогуле мы яго пабойваліся. Маці ж наадварот — дужа мяккая і жаллівая, я ніколі не чуў ад яе гучнага слова — усё з ласкай і добрасцю, і я лічу, што гэта кепска. Жыццё — усё ж бязлітасная рэч, для яго яшчэ ў дзяцінстве патрэбна загартавацца характарам. Я ж засвоіў ад маці занадта шмат мяккага, што мне неяк шкодзіла — на вайне і пасля вайны. Асабліва ў войску, дзе ў пашане пэўная звераватасць характару. Мабыць, варта яшчэ зазначыць, што вёска наша была ў якіх-небудзь двух кіламетрах ад мяжы з Польшчай, і тая акалічнасць накладвала свой адбітак на шмат што — побыт, палітыку, самаадчуванне людзей. […]

Школа ў вёсцы арганізавалася на мяжы 30-х гадоў, спярша гэта была пачатковая школка ў сялянскай хаце. Хата тая і дасюль стаіць, пасля вайны ў ёй жыў мой брат Мікола. А тады гаспадары проста перасяліліся ў трысцен, а большы пакой аддалі пад школу. Там паставілі два даўгія сталы і сабралі чалавек пятнаццаць вясковай драбнаты. Настаўнікам быў Антон Васільевіч Аўласенка з вёскі Дарошкавічы. Дарэчы, ягоная дачка жыве ў Менску, замужам за старэйшым Машэравым. Сталася так, што ўсе мае сябры былі старэйшыя за мяне і пайшлі ў школу раней, а мне толькі шэсць год. Сяджу адзін дома, а ў школе штосьці адбываецца цікавае, і я таксама хачу туды. Тады аднойчы бацька ўзяў мяне за руку і павёў да настаўніка. Пагаварыў з ім,

і Антон Васільевіч кажа: хай ходзіць. Даў мне сшытак, пяро, а Валодзя Галавач, з якім я хадзіў на возера, павёў на замерзлае балота, акуратна зрэзаў ножыкам чарацінку, уставіў туды пяро. І пачаў я вучыцца.

Відаць, да гэтага часу (а можа, трохі раней) адносіцца маё знаёмства з мастацкай літаратурай. Яшчэ чытаць не ўмеў, і першы мастацкі твор мне прачытаў бацька. Гэта быў знакаміты «Гой» Міхася Лынькова[1] («І плакала Рыва...») А ў школе неяк прынёс настаўнік некалькі дзіцячых кніжак, пачаў раздаваць для чытання — на табе, на табе... Мне дасталася тоненькая кніжачка, казка «Царэўна-лягушка», а Валодзю «Канёк-гарбунок»[2]. Гэта была мая першая школьная крыўда — не хацеў я чытаць пра «лягушку» — хацеў пра каня-гарбунка. Абдзяліў лёс на першым этапе. У другі клас пайшоў ужо ў іншую вёску — у Двор-Слабодку. Гэта трошкі далей, але школа там была лепшая, у былой панскай сядзібе. Пад школу адвялі палову панскага дома з верандай, кафлянай грубкай і вялікімі вокнамі. Вучыў нас малады настаўнік Сцяпан Рыгоравіч Троцкі, а таксама ягоны калега Крацёнак. Першы цяпер на пенсіі, доўга працаваў у Браславе. Тады быў вясёлы, нязлы, мы яго любілі. Ён вучыў, здаецца, адну зіму. Пасля прыйшоў іншы — Сяргей Сцяпанавіч Новікаў, паходжаннем з нашае вёскі. Гэты ўжо быў супрацьлегласць ранейшаму — даволі строгі чалавек, парцеец, ён арганізоўваў калгасы ў нашай акрузе і загінуў у партызанах, у час знакамітага разгрому, названага пасля «прарывам». У яго была свая, партыйная сістэма навучання: вельмі ён напіраў не на мову ці арыфметыку, а на грамадазнаўства, на гісторыю таксама. У пакоі, дзе мы вучыліся, было два класы — два шэрагі партаў. Калі ў адным класе ішоў вусны ўрок, дык у іншым — пісьмовы, значыць, самастойны. Ды бывала так, што я свае задачы хуценька парашаю і сяджу, слухаю, пра што ідзе гаворка ў старэйшым класе. Неяк сталася, што некалькі разоў, калі там ніхто не мог адказаць на нейкае пытанне настаўніка (памятаю, нешта пра Парыжскую камуну), дык я паднімаю руку, і Сяргей Сцяпанавіч мяне выклікае, а пасля сарамаціць старэйшых за тое, што яны не ведаюць. Вось так я паактыўнічаў пару разоў, і настаўнік кажа: няма чаго табе там сядзець, перабірайся сюды. Так сярод зімы ён перавёў мяне ў чацвёрты клас. Хаця тое мне не пайшло на карысць. Бо скончыў я чатыры класы ў дзесяць год, а што далей? Сярэдняя школа ў Кублічах, за тры кіламетры, дык бацька і кажа: «Куды табе, малому, далёка хадзіць? Хадзі

зноў у Слабодку». І пайшоў я зноў у чацвёрты клас, абы вучыцца. Значыць, у трэці клас хадзіў паўгода, а ў чацвёрты два гады. Пасля пайшоў у Кублічы, дзе была сярэдняя школа і куды хадзілі хлопцы і дзяўчаты з усяе акругі. [...]

У тыя гады я ўжо захапіўся чытаннем. Але дзе браць кнігі? Канешне, у школьнай бібліятэцы, якая была не дужа багатая, ды ўсё ж класіка ў ёй знаходзілася, і беларуская і руская, і штонішто з сусветнай. Найперш прыгодніцкая літаратура — ад Жуля Верна[3] да нашага Янкі Маўра[4], кнігі якога я вельмі любіў. Дужа папулярную на той час «Як гартавалася сталь»[5] чыталі па чарзе ўсёй школай. Аднойчы я захварэў і доўга не хадзіў у школу, затое чытаў, і перачытаў усё, што было ў Слабодскай школе, а гэта пераважна руская класіка. Тады ж адолеў «Вайну і мір»[6], тры тамы «Ціхага Дона»[7], шмат што з Ганчарова, Тургенева, а таксама Зарэцкага, Гартнага, Галавача. Доўга нідзе не мог дастаць коласаўскую «Дрыгву», пра якую дазнаўся са школьнай граматыкі. Дык падпільнаваў, як яна паявілася ў нарыхтоўчай краме ў Селішчах. Але ж дзе было ўзяць грошы? Звычайна летняй парой дзеці дралі лыка лазы, крушыны, усё тое сушылі на сонцы і здавалі ў нарыхтоўчыя канторы. Чарговы раз занёсшы ладны бярэмак лазы ў Гушчынскую Слабодку, я займеў магчымасць купіць «Дрыгву». Як усё тое было прачытана, ішло паляванне на кніжкі па сябрах і знаёмых. Скажам, дачуўся, што ў кагосьці ёсць якія незнаёмыя кніжкі, я прасіў даць пачытаць. На два дні, на адну ноч. Памятаю, з намі ў школе вучыўся Баброўскі, здаецца, з вёскі Чамярычына. Ягоны бацька ці дзед былі настаўнікамі яшчэ за царскім часам, і пасля іх застаўся сундук з кніжкамі. Во гэта быў скарб! Баброўскі прыносіў мне кніжкі ў школу, я да яго бегаў па кніжкі і ўлетку. Чытаў пераважна выданні XIX стагоддзя — Маміна-Сібірака, Караленку, Станюковіча, Памялоўскага, некалькі раманаў Шэлер-Міхайлава ды іншых. У яго ж неяк знайшоў рэдкую па тым часе кнігу Жуля Верна «Из пушки на Луну», якая мне дужа спадабалася. Дазнаўшыся, што на беларускай мове яе няма, я сам пераклаў яе з расейскай, паслаў у Менск у газету «Піянер Беларусі», каб там надрукавалі і пазнаёмілі беларускіх дзяцей з гэтым творам. Канешне, тое было наіўна, але кніжны свет ужо звыкла стаў для мяне не меней значны за рэальны. У дзіцячыя гады адбывалася нейкае душэўнае фармаванне, можа, болей важнае за ўплывы рэальнага свету... [...]

Тут, можа, трэба сказаць яшчэ пра адно школьнае захапленне — маляванне. […]

На нейкім часе ў школе паявіўся новы піянерважаты, малады хлопец Віктар Кандрацкі, які ажаніўся з нашай Клаўдзіяй Якаўлеўнай. Працаваў ён няшмат і раптам знік, аказваецца, паступіў у Віцебскае мастацкае вучылішча. Аднойчы ўлетку мы сустрэліся ў Кублічах, і ён расказаў пра вучобу, паказаў свае студэнцкія малюнкі. Сказаў, што даюць інтэрнат і нават плоцяць стыпендыю — аж 60 рублёў. Заахвочаны ім, я пайшоў да дырэктара па свой класны табель. Дырэктар спярша не пагаджаўся, усё ж я быў выдатнікам у школе. Але мусіў табель аддаць. […]

Вось, памятаю, ці не ў 32-м годзе тое было, вясной. Па краіне ішла калектывізацыя, па сутнасці гвалтоўная ліквідацыя сялянства як класа. У спрэс сялянскай краіне ліквідоўваўся сялянскі клас — што ёсць класічны генацыд — хіба што паводле класавай прыналежнасці. Сялян агітавалі, што ў калгасе будзе лепш, а яны, «дурні», не верылі і тым стваралі канфлікт з дзяржавай. Але тое ў сферы палітыкі, а як было ў жыцці? Быў малы, але ж памятаю, як у вёсцы ішоў сход — некалькі дзён запар, сялянаў усё ўламвалі ўступаць у калгас. Тыя ўпіраліся — думалі, нешта залежыць ад іхняе згоды. Ды марна. Неяк прачынаюся дужа рана, устрывожаны тым, што плача маці. У дзяцінстве я дужа адчуваў мамін настрой і звычайна адпаведна рэагаваў на яго. Я ніколі не бачыў, каб мама плакала. А тут проста галосіць, бы па нябожчыку. Побач у куце, унурыўшыся, сядзіць бацька. Я падскочыў да маці і пытаюся: чаго ты? А бацька кажа: не чапай яе — арганізаваўся калгас. Ну, хай бы арганізоўваўся, але чаму плача маці? Аказваецца, таму, што на золаку прыехала брыгада і выграбла ўсё з кублаў, з мяхоў і засекаў. Во і кармі дзяцей! Дык маці і плача. Бацька маўчыць, што ён можа сказаць? Вось з тае пары і пачалося. Вядома ж, як у калгасах было — голад, прыгонная праца, рэпрэсіі... Жалезнай хадой ішло раскулачванне. Раскулачылі селяніна, у якога была карова з цялушкай. Ва ўсіх па адной карове, а ў гэтага — з цялушкай. Другога раскулачылі за тое, што ўлетку пляменніца памагала жаць жыта. Значыць — наёмная сіла. І трэцяга — як сабатажніка. Не хацеў уступаць у калгас, упіраўся. Вывозілі сем'ямі. Памятаю хлопца, з якім вучыўся. Раскулачванне было ўвосень, хаця не памятаю — ці да арганізацыі калгаса, ці пасля... І вось ён не пайшоў у школу, і я пабег яго праведаць. Гля-

джу, там ужо грузяць майно на фурманкі, а мой сябра хваліцца: «Мы цягніком паедзем, ага!» І мне стала зайздросна — чаму майго бацьку не раскулачылі, і я б таксама цягніком паехаў. А так цягніка і не бачыў... Арганізавалі калгас, прыйшла вясна, даелі бульбачку, што засталася ад абагульнення. Есці не стала чаго. Елі мякіну з травой, крапіву. І так доўжылася шмат гадоў, бо з калгасаў нічога не давалі. [...]

Улетку паслаў дакументы ў Віцебск, у мастацкае вучылішча. [...]

На ўступныя экзамены ехаў цягнікам, гэта быў мой першы выезд у вялікі свет, з перасядкаю ў Полацку, у якім я таксама быў першы раз. [...]

Увосень пачалася вучоба: жывапіс і малюнак, якія выкладаў стары Лейтман, усе іншыя прадметы, як і ў школе. Жылі мы спярша ў інтэрнаце на Магілёўскай плошчы, цяпер яе няма — перайменавалі ў Савецкую. Ці, можа, Цэнтральную. А потым, забыўся, з якой прычыны, нас чатырох пасялілі ў прыватным доме на Смаленскім кірмашы. Здаецца, раней тая плошча называлася Краснаю. Праз нейкі час у вучылішчы арганізавалася скульптурнае аддзяленне, і я з невялікай групай хлопцаў перайшоў туды. Скульптурныя класы мясціліся ў бакавым завулку перад былой ратушай і мастацкім музеем. Вучыла нас скульптар Ганна Іванаўна Бяляева, паходжаннем, здаецца, з Кіева. (Пасля вайны нідзе не чуў пра яе, мабыць, прапала.) Дырэктарам вучылішча быў Іван Восіпавіч Ахрэмчык. [...]

Я там правучыўся няшмат. Увосень саракавога года аб'явілі «радасную» навіну: пастановай урада стыпендыі адмяняюцца, за ўсе матэрыялы і падручнікі трэба плаціць. Як было жыць, не толькі вучыцца? Грошай мне з дому ніколі не прысылалі, ды я і не прасіў. Аднойчы бацька, як ехаў у горад, заехаў да дзядзькі Сцяпана, пазычыў тры чырвонцы, якія я расцягваў, як мог. Найбольш — на хлеб, якім звычайна мы харчаваліся. [...]

Якраз у гэты час пачынаецца набор у новаарганізаваныя школы прафесійнага навучання (ФЗН), і я хутка зноў апынуўся ў Віцебску. Што ў Віцебску — мяне радавала. Знаёмы горад, любыя музеі. І ўспаміны. Невясёлыя, аднак, успаміны... У школе вучылі на будаўнікоў: муляры, бетоншчыкі, арматуршчыкі — усё дужа далёкае ад мастацтва. Мастацтва рабілася ўсё больш недаступным. Трэба было працаваць — на сцюжы, з растворамі. Але тут кармілі, давалі прытулак у інтэрнаце, а пасля яшчэ пачалі і апранаць. У вучылішча я не хадзіў, хіба калі ўвечары

падыходзіў пад вокны, бачыў паверх фіранак захінутыя анучамі скульптуры на станках. Было сорамна і балюча... […]

На пачатку чэрвеня — выпуск. Нам аб'явілі, што паедзем працаваць на Украіну, у горад Шостку. […]

Пагодным чэрвеньскім ранкам мы прыязджалі на Украіну... Белыя мазанкі, таполі, нечуваная мова на станцыях, гогалеўскія асацыяцыі пераносяць мяне ў іншы свет, рамантычны і казачны. Не думалася тады, што гэтак шмат для мяне драматычнага і трагічнага будзе звязана з гэтай краінай.

Не паспеў агледзецца, як след пазнаць горад, як выбухнула вайна. […]

Тысячныя калоны 17—18-гадовых юнакоў пацягнуліся па пыльных дарогах на ўсход. Стаяла паўднёвая спёка. У сёлах і гарадках, дзе мы праходзілі, нас праводзілі жанчыны і дзяўчаты, давалі якую ежу, садавіну, махалі хусткамі. Некаторыя плакалі. Мы паводзілі сябе вольна, жартавалі. Нас, жменьку беларусаў, ніхто не аплакваў, нашыя плакальшчыцы засталіся далёка. Але і ўкраінкі нас шкадавалі і любілі. На ўскраіне старажытнага Глухава адна чарнакосая ўкраінка падбегла і пацалавала мяне — то быў першы хвалюючы дзявочы пацалунак у маім жыцці. […]

Харчуемся, чым дзе прыйдзецца. Болей самапасам. Быў вялікі ўраджай яблыкаў, гародніны. Забягаем у прыдарожныя крамы, у якіх, аднак, амаль пуста. Усё расхапалі да нас. У Белгарадзе я спрабаваў купіць фруктовага чаю, які можна было есці, ды загруз у натоўпе каля прылаўка. Праз тое адстаў ад калоны, а затым і згубіў яе. Пакуль бегаў па забітых войскамі вуліцах, настала ноч. Стомлены, зайшоў у паўразбураную бомбай хаціну і заснуў. Пабудзілі каменданцкія патрулі. Адвялі ў камендатуру. Там уначы допыт — хто такі, чаму адстаў, з якой мэтай? Абшукалі, адабралі дакументы. Знайшлі ў маёй валізцы карту — выдраны з падручніка аркушык, на якім я, грамацей, адзначаў, як рухаецца фронт. Той аркушык мяне ледзь не загубіў. Лейтэнант у сіняй фуражцы, што дапытваў мяне, пасля першых жа словаў выцяў у адно вуха, затым з іншай рукі — у другое: «Почему скрывался?» Я спрабаваў давесьці, што адстаў ад каманды, што іду з Сумскай вобласці. А мой следчы на тое адказваў: «Все так говорят, грубо работают ваши фашисты, по шаблону. Но мы выбьем из тебя признание, японский городовой!» Тую адмысловую лаянку я тады чуў упершыню і запомніў на ўсё жыццё.

Што праўда, болей мяне не білі, яшчэ палаяўшыся, адвялі ў цесную камеру ў сутарэнні. Тут было цёмна, адчувалася прысутнасць людзей, і я прысеў каля ўвахода. Але неўзабаве прывялі і яшчэ некага, пасвяціўшы ліхтарыкам, мяне змусілі перасесці далей. Я прысланіўся плячмі да сцяны і, здаецца, задрамаў трохі.

Як стала днець, прачнуўся. У камеры трохі пасвятлела. Тут сядзела чалавек восем, я паўзіраўся ў маіх суседзяў. Адзін ляжаў на баку, выцягшы даўгія ногі ў высока накручаных абмотках. Другі сядзеў побач, на галаве ў яго была фуражка з зоркай над казырком. А яшчэ адзін ляжаў ля мяне, ён быў у белай вышыванцы, з рукамі, закладзенымі назад. Я не адразу здагадаўся, што яны ў яго звязаныя, і незнарок памкнуўся іх развязаць. Але чалавек тузануўся і прастагнаў: «Не чапай, застрэляць». І я адвярнуўся. […]

Пад вечар некалькі чалавек вывелі, болей не прывялі нікога. У камеры павальнела, але знадворку цішэй не стала. Недзе, даволі блізка, бахала артылерыя. Я зноў трохі задрамаў. А прачнуўся ад таго, што дыхнула свежым паветрам, у дзвярах стаялі вайскоўцы ў плашч-палатках. Ботамі яны пабудзілі тых, што былі бліжэй, і загадалі выйсці. Дужа хутка ў другім канцы будынка пачуліся стрэлы. «Чатыры», — са страхам мовіў хтосьці ў камеры. Твар майго суседа ў вышыванцы стаў зусім белы, бы абсыпаны мукой. Дзверы затым пачалі часта расчыняцца, падобна, пачалі выводзіць усіх, па чарзе. Недзе, не так далёка, усчалася страляніна, праз якую мы чулі некалькі блізкіх стрэлаў. Чарговы раз прыйшлі два — малады ў сіняй фуражцы і сталы вусаты чырвонаармеец з вінтоўкай. Гэты, вусаты, кіўнуў мне — на выхад, і я паслухмяна падняўся. Не памятаю, як выйшлі са склепа, цераз выбрукаваны двор завярнулі за вугол мураванага будынка на вытаптаныя грады агароду. І там пад старым дашчатым плотам я згледзеў у крапіве даўгія ногі ў высока накручаных абмотках. І я не стрымаўся — слёзы самі ручаём паліліся з вачэй. Чырвонаармеец прыпыніўся, бы здзіўлены маім бязмоўным плачам, і раптам кажа: «Пацан, бяжы! Хутка!» І я рвануў цераз бульбоўнік да блізкай праломіны ў плоце, чакаючы, што ён зараз у мяне стрэліць. Ён і сапраўды стрэліў, але ўгару, як я зразумеў, бегучы, хоць і не азірнуўся нават. […]

Увогуле тады мне пашэнціла. Як збоч ад дарогі ў лесе знайшоў сваю каманду, тая ўжо строілася для фармоўкі. Я вельмі ўзрадваўся, пачуўся амаль шчаслівым. Але ж у мяне

не было ніводнага дакумента, усё засталося ў Белгарадскай камендатуры. Добра, што камандзіры не надта прыдзіраліся — не было часу, ды й хлопцы пацвердзілі: то наш. […]

Ну а ў жніўні 42-га прызыў хлопцаў 1924 года нараджэння, і адразу — у запасны полк пад Тацішчавам. Тое паселішча вядомае шмат каму з ветэранаў, многія там спасцігалі сваю першую вайсковую навуку, якую памятаць будуць доўга. Той полк дзейнічаў, відаць, ці не да канца вайны — рыхтаваў кадры, салдацкія і сяржанцкія — для перамогі. Праўда, мне давялося прабыць там нядоўга, на пачатку верасня мяне накіравалі ў Саратаўскае пяхотнае вучылішча. […]

Увосень 43-га прысвоілі званне малодшага лейтэнанта. Пагоны выдалі залатыя, на якія кожны з выпускнікоў прышпіліў па адной маленькай зорачцы. Атрымалася даволі прыгожа, пайшлі сфатаграфавацца. Ды атрымаць фота не паспелі — ноччу ўсіх паднялі для адпраўкі на станцыю, дзе ў тупіку стаялі пустыя таварныя вагоны. Праўда, з жалезнымі печкамі, і то добра.

Ехаць давялося доўга, месцы ў вагонах абсталёўвалі самі — цягалі на станцыях дошкі для нараў. Прадукты атрымалі мукой, па аднаму кілаграму на чалавека, з тае мукі пяклі на печках ляпёшкі, якімі і харчаваліся ўсю дарогу. […]

Мой першы бой у якасці камандзіра ўзвода не надта запомніўся. Помню толькі, як ротны, нейкі камлюкаваты, цывільнага выгляду чалавек у паўшубку, гнаў салдатаў і мяне разам праз шырокае поле кукурузы, пакуль мы не трапілі пад агонь. Заляглі. Пасля ішлі зноў. Ноччу ішлі ў батальённай калоне. Зранку і ўвесь дзень нас жахліва бамбілі нямецкія самалёты, і мы то разбягаліся па стэпе, то зноў збіраліся на дарозе. Неяк спыніліся на краі сяла ў пустой абory, ротны сказаў, што трохі адпачнем і будзем атакоўваць кашару за дарогай. І толькі я задрамаў у кутку на саломе, як усчалося бамбаванне, трэба было вымятацца ў стэп — пад агонь з-за дарогі. Ротны застаўся ў аборы, дзе яго і забіла пры другім налёце «юнкерсаў». З камандзіраў у роце я застаўся апошні, таму да мяне і прыбег намеснік камандзіра палка — наступаць, такую тваю маць! Пайшлі наступаць — ланцугом па полі да кашары. На гэты раз нам пашэнціла, агню не было, мы дабрылі да развалюхі-кашары, дзе не знайшлі нікога, немцы вымеліся. Каб чаго не сталася, я паслаў у тыл аднаго сяржанта далажыць, што кашара ўзята. Як высветлілася пасля, таго нявартa было рабіць. Сяржант вярнуўся і сказаў, што камандзір палка

аб’яўляе мне падзяку. Што ж, добра. Мы заляглі за кашарай у снезе, згаладнелыя, замерзлыя. І мой памкамузвода кажа: а давайце ў кашару, трохі пагрэемся. Тым болей што салдаты дзесь раздабылі тэрмас шнапсу. Акурат для сугрэву.

Пагрэцца, аднак, не паспелі, як з недалёкай кукурузы выпаўзлі тры бронетранспарцёры і адкрылі па кашары шквальны агонь. Мае паўскоквалі і без усялякай на тое каманды сыпанулі назад, да дарогі. За імі дзе паўзком, а дзе подбегам рушыў і іх нехуцавы камандзір. Там пад абстрэлам даседзелі да ночы. А як сцямнела, на дарогу прыбег намеснік камандзіра палка, які тут жа паабяцаў мяне расстраляць, калі я да ранку не вярну страчаную кашару. Аказваецца, ён ужо далажыў пра яе ў дывізію, а яна зноў апынулася ў немцаў. Становішча маё было такое, што горш не прыдумаеш. Ля кашары стаяць тры бронетранспарцёры, а ў мяне засталося якіх пятнаццаць салдатаў. Як яе узяць?

Аднак мусіў браць. Уначы пры бліскучай поўні пайшлі, ды хутка вярнуліся зноў: немцы не падпусцілі і да паловы поля. Стаў чакаць ранку і свайго прысуду. Але за той час штось сталася на фланзе — страляніна, крыкі. Хутка адтуль бяжыць аўтаматчык, — на штаб напала нямецкая разведка, намкампалка патрабуе, каб усе мы — неадкладна туды, на дапамогу. Пабеглі на дапамогу, ды спазніліся. Немцы ўжо вымеліся, а намкампалка забіты. Уранку ля школы два маіх салдаты капалі яму магілу. А да нас у роту прыйшоў новы камандзір, лейтэнант Міргарад, з якім я праваяваў да Калядаў. Нейкім чынам той выпадак адбіўся ў напісаным праз дваццаць гадоў апавяданні «Ранак-світанак». [...]

Новы, 1944 год сустрэў пад сціртай у заснежаным полі. Як пацямнела, бой стаў сціхаць, — немцы таксама хацелі сустрэць навагоддзе. Старшына прынёс вячэру — пярловы суп. Той, хоць і пляскаўся ў тэрмасе, але даўно прастыў і быў сцюдзёны. Хлеб дык і наогул змерзлы — секлі нямецкім штыхом. Але афіцэрам менавіта пад Новы год выдалі доппаёк — па жмені сухога пячэння і баначку шпротаў на трох. Жуючы з кішаня тое пячэнне, я і задрамаў пад сціртай, не дачакаўшыся запаветнага часу змены года.

А недзе на золаку паднялі — батальён рушыў у наступ. Немцы джгалі трасіруючымі з недалёкага сяла, адкуль іх належала выбіць. На той раз не выбілі — заляглі ў голым полі. [...]

Аднойчы на пачатку зімы я зрабіў першую спробу асвоіць артылерыю. На полі бою каля сцірты саломы наткнуўся на кінутую саракапятку. Перад тым тут стралялі танкі, і гэтыя артылерысты ці, можа, уцяклі, ці іх пабіла — за сціртай ляжала некалькі трупаў. А снарады былі — некалькі скрынак. Як страляць з такіх гарматаў, нас у вучылішчы трохі вучылі. І я паспрабаваў. Не па танках — па пяхоце ў недалёкім сяле. Расстраляў усе снарады, мой салдацік мне памагаў. Шкада, гармату мы не маглі ўзяць з сабой, пакінулі ля сцірты. […]

Перад наступленнем кінулі нам невялікае папаўненне з тылавых падраздзяленняў. У нашу роту далі ручны кулямёт і прыслалі батальённага пісара. У пісара быў аўтамат, але без патронаў... Але спярша пра кулямёт. Вось пачынаюць выцягваць калону, а ў мяне ніхто не хоча браць кулямёт. Шмат людзей з Сярэдняй Азіі — мая ні бельмеса, мая ні бельмеса. І астатнія адмаўляюцца: я не служыў, не ведаю, як з яго страляць. Каб не кідаць кулямёт, аддаў яго нейкаму дужаму дзядзьку, каб ён хоць нёс. Нельга ж губляць кулямёт... А тут стаіць пісар без патронаў, мармыча: што мне рабіць, толькі блытацца пад нагамі? Хітраван, мабыць, хацеў, каб яго адправілі з роты. Тады камандзір роты кажа: «Быкаў, аддай ты яму дыск, каб ён не ныў». Ну я і аддаў, бо болей аўтаматаў ва ўзводзе не было, усе толькі з вінтоўкамі. А сам застаўся з апошнім, што пры аўтамаце. Тое было, канешне, памылкай. А можа, і паратункам, як пасля выявілася.

А тут, упаўшы, бачу, што справы нашыя — швах. Па-першае, з кукурузы ідуць танкі. Колькі іх там, не зразумець, можа, чатыры ці пяць. Ці яшчэ болей. Узраўлі рухавікі, і яны рушылі, загрукацелі іх кулямёты. А між танкамі — аўтаматчыкі — і крычаць: «Рус, здавайся!» Так яны заўсёды крычалі, калі заганялі нас у якую пастку. Ну, я пачаў біць з аўтамата, здалося, задаў ім агню. Але во аўтамат змоўк, значыць, патроны ўсе. Азірнуўся назад, а нашы далёка ўжо бягуць у полі. Тут засталіся толькі тыя, што ўжо не кратаюцца. І я ліхаманкава рашаю для сябе: ляжаць ці ўскокваць? Калі праляжу яшчэ хвіліну, дык яны мяне возьмуць жывым. Калі ўскочу, дык буду расшкуматаны кулямётнай чаргой. Што лепей?

Але немцы ў той час перанеслі агонь па тых, што адбегліся далей, мусіць, блізка ля сябе яны цэляў не бачылі. Агняны напор нібы павальнеў. Я ўскочыў і кінуўся перабежкамі. Нават не перабежкамі, а рыўкамі. Ускокваю, а праз тры-пяць

крокаў падаю. Затым зноў ускокваю і зноў падаю. І так трошкі адарваўся ад немцаў. Прытым я навучыўся пазнаваць, калі яны страляюць па мне. Як чэргі пачынаюць мільгаць вакол, падаю. А як перамяшчаюцца па іншых, ускокваю. І ў такі момант, як бег, па лытцы моцна ўдарыла, бы палкай. І я ўпаў. У боце адразу стала горача, гэта палілася кроў. Я думаю: відаць, перабіла нагу. Калі так, дык усё, скончыўся Быкаў... Але ўсё ж праз колькі секунд ускочыў, чакаю, падломіцца нага ці не? Не, быццам не падломваецца. Толькі баліць, і ў боце ўжо хлюпае. Аўтамат без патронаў, але ў мяне і без яго навешана: палявая сумка, дзве гранаты, адна супрацьтанкавая, кумулятыўная — даволі несуразная штуковіна. Па-першае, цяжкая, далёка не кінеш, па-другое, трэба, каб яна ўдарыла аб браню сваім донцам, з якога толькі і можа тую браню праламіць. А каб граната так ударыла, у яе рукаятцы зроблены стабілізатар — такая стужка з тканіны. Увогуле кідаць яе вельмі нязручна. І тармозіць яна сама сябе, ды яшчэ гэты палёт... Кідануў я гэтую гранату няўдала. Відаць, недакінуў, і яна не ўзарвалася. Або я не трапіў, і цяпер не разумею, што атрымалася.

А з танка мяне заўважылі, і той рашуча давярнуў у мой бок... Ну, тое расказваць доўга, а так гэта секунды... І вось я закруціўся, бы вуж, на снезе, ледзьве паспеў выхапіць з-пад танка ногі, як ён гусеніцай — па полах майго шыняля, і пайшоў далей. Здалося, я ўжо развітаўся з жыццём. Але гляджу: там, дзе танк, хтось ускоквае і шырока размахваецца гранатай, аж адлятае ўбок палявая сумка. З палявой сумкай у нас быў толькі ротны, лейтэнант Міргарад. Выбух, танк засмылеў і неўзабаве запалыхаў на снезе. Там усчалася страляніна, але гэта ўжо нашы забахалі, мабыць, па танкістах. А я з гэтага месца ўсяляк — то бокам, то на каленях пачаў пад дымам прабірацца далей. І тут якраз побач надарыўся санінструктар нашае роты, аказваецца, ён бачыў, як мяне параніла. Санінструктар і кажа: «Не трэба туды, за ўсімі, немцы якраз туды і цаляюць. Давай у гэты бок, дзе кукуруза, там быццам лагчынка». І праўда, мы павярнулі ўбок, дзе тырчэла нейкае будыллё, і выйшлі з-пад удару, які кіраваў на сцірту. Пасля патрапілі на нейкую дарожку. Там ён сцягнуў мой бот, перавязаў нагу. Рана была скразная, прабіла галёнку, як пасля аказалася, адшчапіла частку касці. Нага ад таго не падламілася, але боль быў страшэнны, я потым праваляўся ў шпіталі студзень, люты, сакавік — амаль тры месяцы. Не зажывала...

Яшчэ забыўся сказаць, што як бег, яны абстрэльвалі нас і з танкавых гарматаў. І вось адзін снарад разарваўся якраз наперадзе, мяне моцна выцяла ў жывот, — у гарачцы здалося, што я атрымаў яшчэ і асколак. Асколак у жывот — то вельмі кепска. Хаця спярша боль невялікі, гэтыя параненыя доўга не жывуць. Я ўжо бачыў такіх. Цела ўсё мокрае — не зразумець, ці ад поту, ці ад крыві. Перавязаў мяне санінструктар і пакінуў на дарозе, яму трэба было ў роту. У нашай жа арміі быў загад, што байцам забаранялася пакідаць поле бою дзеля суправаджэння параненых. Ля сціртаў грымеў бой, туды пайшлі танкі, і мой санінструктар быў там патрэбны. Дарэчы, ён там і загінуў. Там жа загінуў і камандзір роты Міргарад, ды і шмат іншых. Сцірты гарэлі ярка ўначы, і адтуль на дарозе паявілася фурманка з параненымі. Але то была фурманка не нашай — суседняй часці, і ў ёй сядзела дзяўчына-санінструктарка. Мяне пасадзілі таксама. Праз нейкі час мы спусціліся з пагорачка, наперадзе ляжала вялікае сяло з царквой. Там дзяўчына ў кагось папытала, дзе санчастка, куды везці параненых? (Далей было тое, што апісана ў аповесці «Мёртвым не баліць».) [...]

Ранкам пачаўся бой, ужо за гэтае сяло. Помню, узышло сонца, усё ярка высвеціла. На вуліцы нейкія выкрыкі, хтосьці кудысь бяжыць, а ў мяне, відаць, тэмпература паднялася, і я перастаў разумець, што адбываецца. І ад гэтай калатнечы, і ад недасыпання. Ва ўсякім разе я ўжо не ведаю, хто ў сяле — нашы ці немцы? Бо страляніна чулася ў адным канцы, пасля ў другім, раздаваліся незразумелыя крыкі, затым усё прыціхла. Думаю, што ж я тут буду ляжаць, чаго дачакаюся? Выпаўз у сені. Каля дзвярэй адгароджаны дошкаю засек з бульбай, такой дробненькай, мабыць, на корм. Я прылёг на гэтую бульбу, дастаў пісталет і ляжу. Чую, бягуць па вуліцы, па дварах, але быццам гаворка не наша, значыць, немцы. Дзверы зачынены, але калі іх расчыніць, дык я тут жа, насупраць дзвярэй, можа, трошкі збоку. І вось туп-туп па двары. Адчыняюцца дзверы — немец! Адной рукой трымае дзверы, а ў другой — аўтамат. А я з пісталетам гляджу на яго. Канешне, я магу стрэліць у кожную секунду, а яму для таго трэба перахапіць аўтамат у правую руку. І вось я не стрэліў, а ён кінуў дзверы і павярнуўся назад. [...]

Пад камендатуру я займаў хату псаломшчыка, дзе засталося трохі старых расейскіх кніжак. І я там чытаў «Так сказаў Заратустра» і яшчэ нешта з антычных аўтараў, вядома, у перакладзе на расейскую. Хоць і вайна, але цягнула да ведаў, да

культуры, якіх недабралася за мірным часам. Было пагоднае лета, стаялі цёплыя паўднёвыя ночы. І да мяне прыходзіла адна сястрычка з інжынернага, якую я частаваў грэцкімі арэхамі і малдаўскім вінам. І мы падоўгу гутарылі пра літаратуру, мастацтва. Яна распавядала пра сваё даваеннае жыццё ў зялёнай украінскай Звянігарадцы, адкуль была родам. Гэтай парой мне споўнілася дваццаць гадоў, яшчэ я не ведаў жанчыны і дужа ашчадна адносіўся да нечаканага пяшчотнага пачуцця. Тым болей першага і гэткага нечаканага. Але неяк прыйшоў незнаёмы лейтэнант, з выгляду старэйшы за мяне, і прадставіўся: «Уполномоченный контрразведки СМЕРШ. Слышали, что такое СМЕРШ?» Так, я што-нішто чуў пра той яго СМЕРШ, але што яму трэба? А яму трэба дазнацца пра нашыя адносіны з чырвонаармейцам Лужковай. Бо гэта справа бяспекі. А я, дурань, думаў, што гэта асабістая справа... Але ўсё ж нарэшце аказалася, што асабістая, бо, як пасля паведаміла мне чырвонаармеец Лужкова, той смершавец меў на мэце яе перш за ўсё як дзяўчыну. Праз якіх-небудзь дзён дзесяць інжынерны батальён з'ехаў на іншы ўчастак, і пачалося ў мяне пакутнае, ледзьве не штодзённае ліставанне. Здавалася, увесь сэнс жыцця залежаў ад таго, як хутка будзе ад яе ліст. Але правільна зазначана кімсьці, што каханне — казачка заўсёды з сумным канцом. […]

Якраз перад наступам атрымаў першы ліст ад бацькоў — гэта пасля трох год абсалютнага бязвесця. Парадваўся, што ўсе жывыя, хата не спаленая. Сястру Валю вывозілі ў Нямеччыну, але яна была вёрткаю, мая сястрыца, і ўцякла з-пад канвою. Яны таксама нічога не ведалі пра мяне і парадваліся майму лісту — што жывы. Бо за тыдзень да майго ліста атрымалі «пахаронку», гэта праз тыя баі, пад Кіраваградам. (Зрэшты, тая «пахаронка» яшчэ мела для мяне малапрыемны працяг праз шмат год пасля вайны.) […]

Кулямёты сякуць, толькі вецце сыплецца. Камбат крычыць: «Быкаў, агонь!» А чым агонь? Гэта было, канешне, жахліва, я тады хацеў, каб мяне як найхутчэй забіла. Усё ж паслаў передок на поле, пазбіралі ў быльнягу снарады, пачалі мы страляць. Словам, у гэтым лесе яны калашмацілі нас добра, а што мы зрабілі ім нашым агнём, тое невядома. Можа, збілі, а можа, тыя пад вечар самі адышлі. […]

Помняцца і яшчэ прыкрыя, а то і камічныя выпадкі. Як я ўжо казаў, у Румыніі я першы раз захварэў на малярыю. Даволі паскудная хвароба, тым болей што шпітальнага лячэння не

вымагае. Зімой была перадышка, а вясной пачаліся прыступы. З пэўнай рэгулярнасцю — пад вечар або калі ўбачу ваду... Хоць здалёк, хоць зблізку. Раптоўна здрыгаюся, і пачынаецца ліхаманка на некалькі гадзін. Аднойчы мы займалі пазіцыю на прамой наводцы ў полі. Трошкі далей і збоч ад агнявой раслі дрэўцы, нейкія кусцікі. Агонь не вялі, але немцы былі блізка. Мяне раптам затрэсла, і я адышоўся да тых дрэўцаў. Было цёпла, ужо зялёная траўка прабівалася. Як лёг, салдат наваліў на мяне нейкіх трафейных коўдраў, нямецкіх шынялёў — каб сагрэцца. Пасля, як крыху адпусціла, заснуў. А як прачнуўся, дык здзівіўся, што вакол дужа ціха. Высунуў галаву з-пад таго варахоб'я — ужо сцямнела. Але дзе гармата? На агнявой няма маёй гарматы, стаяць нейкія людзі і пазіраюць чамусьці не туды, куды заўжды пазіраюць на фронце — у бок праціўніка. Гэтыя пазіраюць назад. Я яшчэ прыгледзеўся і прыслухаўся — то ж немцы! Канешне, спалохаўся, хаця нічога дзіўнага. У пяхоце такіх, негераічных, выпадкаў хапала. Але пра тое мала напісана. Бо з пяхоты, апроч хіба В. Кандрацьева, у літаратуру ніхто не прыйшоў. Мабыць, не засталося. Усё лепшае, што напісана пра вайну з ліку яе ўдзельнікаў, канешне, належыць усё ж артылерыі. Мабыць, паводле традыцыі, распачатай артылерыстам Л. Талстым. А тут, пакуль я дрыжэў пад варахоб'ем, нашы драпанулі, гармату камбат загадаў адцягнуць ніжэй у сяло, а пра мяне забыліся. Таго салдата, што там мяне накрываў, паслалі па аўтамабіль, а іншыя не ўгледзелі... І вось бачу чужыя сілуэты — адзін у касцы, а другі, помню, у казыркастай шапцы... І я паўзком, на кукішках даў адтуль дзёру. Знайшоў сваіх, камбат пытаецца: «Дзе быў?» У немцаў, кажу, быў. Пасмяяліся...

Усё ж ішоў сорак пяты, да перамогі заставаўся апошні месяц. А здарылася б тое раней на год ці паўгода, было б не да смеху. Як з тым нашым камандзірам узвода кіравання, які параненым пабратаўся з немцам. У Венгрыі, у час бою за нейкае сяло, надта бамбілі нямецкія самалёты, і гэты лейтэнант, паранены ў нагу, сунуўся ў скляпок на двары сялянскага падворка. Якраз змяркалася, і ў той скляпок сунуўся і яшчэ нехта, таксама паранены. Тады скончылася бамбёжка і наогул скончыўся бой. І во яны сядзяць удвух, але ў цемры не бачаць адзін аднаго і не ведаюць, хто побач — свой ці чужы? Таму маўчаць. А галоўнае — не ведаюць, хто заняў сяло — нашы ці немцы. Ніхто першы не хоча адкрыцца. Так мінула ноч. І толькі як па-

чало світаць, лейтэнант убачыў, што перад ім немец, гаўптман медыцынскай службы. І ніхто з іх за пісталет не схапіўся, бо зноў жа — невядома, хто наверсе. Першы не стрываў немец, таксама паранены, неяк выбраўся, а лейтэнант сам выбрацца не можа. Сядзіць і чакае, калі прыйдуць немцы і возьмуць яго ў палон. Або прыстрэляць у яме. Немцы і прыйшлі. Але на ламанай рускай мове растлумачылі, што страляць не будуць, будуць рабіць арцліхер беістанд (медыцынскую дапамогу). І выцягнулі лейтэнанта, занеслі яго ў медпункт, дзе той жа ягоны начлежнік перавязаў яму нагу і папытаўся, што ён хоча: да сваіх ці ў палон? Канешне, лейтэнант захацеў да сваіх. Тады яго ўначы два немцы паклалі на палатку і падцягнулі да нашых акопаў на краі сяла. Праз паўгадзіны ён туды і зваліўся. Ну, адвезлі ў санбат, ляжыць там лейтэнант, яго перавязваюць, але ж дужа яму цікава з сваіх прыгодаў. І ноччу ціхенька ён расказаў пра тое суседу — што з ім тры дні таму здарылася. Падзівіліся трохі абодва. А яшчэ праз дзень прыйшоў незнаёмы афіцэр і сказаў, каб гэтага лейтэнанта тэрмінова падрыхтавалі да эвакуацыі. Аднаго. Болей яго ніхто ў палку не бачыў. І чутак нават ніякіх не дайшло.

Пасля той выпадак нейкім чынам паслужыў мне, калі я пісаў «Адну ноч». Хаця там іншы фон ды інакшы час, але грамадства, а найперш нашая рэдактура, не былі гатовыя прыняць падобныя тэмы, ад якіх патыхала непрымальным для іх пацыфізмам. Тагачасны рэдактар «Полымя» Максім Танк адмовіў аўтару ў публікацыі таго апавядання з прычыны «невыразнасці», як ён напісаў, ідэі. Думаецца, ідэя была выразная, як надта выразнымі былі і партыйныя ўстаноўкі ў адносінах да яе. [...]

Так настала сёмае мая. Мы — усё ў тым пасёлку, пяхота таксама на ягонай заходняй ускраіне. Амерыканцы яшчэ далёка. І вось уначы нашыя радысты дачуліся, што заўтра падпісанне капітуляцыі Германіі. А мы атрымліваем загад: у 19.00 атака на нямецкія пазіцыі. Падрыхтавацца да атакі, ставіць гарматы на прамую наводку, суправаджаць пяхоту агнём і коламі. Ну, мы найперш напісалі лісты дадому, маўляў — ідзём у апошні бой. Калі што, дык.... Псіхалагічны стан болей чым паршывы, бо пераналадзіліся ўжо на мір, паявілася ўжо надзея, што выжылі. А тут...

Праўда, яшчэ памарудзілі з гадзіну, а тады пасля кароткага артналёту паднялася пяхота. Але немцы не страляюць, во дзіва! Калі пяхота дабрыла да варожых траншэяў, тыя аказаліся пу-

стыя. Немцы змыліся. І начальства загадала чапляць за машыны гарматы і даганяць немцаў. Але без пяхоты. Калі што, самім быць за пяхоту. І за артылерыю таксама. Што ж, мы паехалі. Ехалі ўсю ноч і ранак. Немцаў дагналі. Далей усе дарогі былі запруджаны нямецкімі калонамі — пяхота, артылерыя — усе кіруюць на захад, здавацца амерыканцам. Нам яны здавацца не хочуць. А мы і не бярэм. Мы атрымалі новую задачу — як мага хутчэй злучыцца з саюзнікамі. А гэтых мы проста мінаем. Некаторыя з немцаў буркаюць: «Гітлер капут» і ўскідваюць руку. У каторых на руках гадзіннікі, нашыя іх знімаюць. Гадзіннікі — самы папулярны трафей. Некаторых раззбройваем. Асабліва тых, хто ў эсэсаўскай форме.

Дамчалі да ракі Энс у Цэнтральнай Аўстрыі. Гэта быў мой апошні рубеж той вайны. За ракой амерыканцы. Пакідалі на лужку абы-як пастаўленыя машыны, пачалі «сустрэчу». Нас на той бок не пушчалі, затое амерыканцы свабодна прыйшлі на гэты бок. Некаторыя з амерыканцаў мелі славянскае паходжанне (пераважна з палякаў), а ў нас былі хлопцы з Заходняй Беларусі, якія разумелі па-польску, такім чынам устанавіліся зносіны. Яны нам дарылі свае гадзіннікі, запальнічкі, розную драбязу — на памяць. Мы ім што маглі падарыць — зорку з пілоткі. Але знайшлося віно, і мы добра ўпіліся разам — пераможцы розных армій і нацыянальнасцяў. І ўсе паснулі проста ў кузавах нашых «студэбекераў». Начальства некуды знікла, можа, да іншага начальства, у кожнага знайшлася свая кампанія. […]

Праз пару дзён полк пастроілі на лужку з нагоды перамогі. Палічылі, хто самы старэйшы (не ўзростам, а па часе прабывання ў палку), хто найболей заслужаны (лічы — узнагароджаны). Даўжэй за ўсіх праслужыў у палку начфін, а самы ўзнагароджаны — камандзір маёй гарматы старшына Лук’янчанка. Але заслужана ўзнагароджаны гэты немалады ўжо сялянскі сын аднекуль з Кубані. Камандзіры батарэяў узнагароджаныя не надта, узводныя яшчэ меней. Ордэн Чырвонай Зоркі — звычайная наша ўзнагарода за вайну. У мяне таксама. А Вальку Бахцігозіна так і не ўзнагародзілі нічым. Раней усё казалі — малады, паспее... А тут і вайна скончылася.

Праз дзень-другі — новы загад: падрыхтавацца да маршу. Куды? Кажуць, быццам аж у Сафію. Праз Венгрыю, Югаславію, Румынію. Па слядах нядаўніх баёў. […]

Па наплыўным мосце цераз прыгажун Дунай пераехалі ў братнюю Балгарыю, дзе мне наканавана было пражыць год. […]

Нядоўгі час пасля я правёў у стралковай дывізіі пад Бургасам, але і тую расфармавалі, вывеўшы на станцыю Кодыма Адэскай вобласці. Са станцыі Унгены мы ішлі пешым маршам — якраз па тых месцах, дзе два гады таму ваявалі. У тое лета на поўдні панавалі страшэнная засуха і яе звыклы спадарожнік — голад. Малдаўскія сёлы стаялі паніклыя, без людзей, людзі сышлі на поўнач — Украіну, Чарнаўцы. Забег я ў сяльцо пад вышынёй, куды хадзілі ўначы і дзе нас ледзьве не захапілі ў палон. У тым сяльцы я не сустрэў ніводнага чалавека, яно зусім абязлюдзела. Не было і гаспадара, які частаваў нас курацінай. Адна лебяда ў дварах, поле чорнае, выпаленае спякотай. У вайну не было гэткага... Улетку я быў ужо ў Нікалаеве, у тамашняй стралковай дывізіі. Дывізія стаяла ў летніх лагерах пад Цярноўкай за Бугам. […]

У лютым нечакана-неспадзявана далі водпуск, і я рынуўся на радзіму. Ехаць давялося праз Крывы Рог, Харкаў, Гомель. На вакзалах пры перасадках было жахліва — натоўпы людзей, вайскоўцаў і цывільных, старых, жанок і дзяцей, чэргі і штурханіна... Неяк дабраўся з чамаданам да Падсвілля, дзе, ведаў, працуе ў бухгалтэрыі сястра Валя, пабудзіў яе ўначы — вядома ж, на канцылярскіх сталах, дзе яна начавала з сяброўкай. Раніцай разам выправіліся па снегавой дарозе праз лес у Кублічы. Па дарозе сястра расказвала сваю крыўду, як пасля вызвалення з нямецкага палону яе паслалі ва Усходнюю Прусію па каровы для калгаса. Месяц ці болей гналі вялізны статак, даілі і пасвілі па дарозе, баранілі і даглядалі, самі заўсёды галодныя і халодныя. Але мусілі трываць, бо абяцалі, як прыгоняць, даць карову, — нашую Акулярку ў 43-м з'елі партызаны, — і сястычка трывала. Але як прыгналі, аказалася, што каровы патрэбныя для развіцця калгаснай жывёлагадоўлі, і ганшчыцы засталіся з носам.

Дома радасна было, што ўсе жывыя, хата таксама цэлая, не спалілі. Але хлеба няма, ашчаджалі крышку насеннай бульбы, а болей ні малака, ні мяса. Не засталося нават курэй, якія некалі да вайны былі галоўнымі пастаўшчыкамі жабрацкага бюджэту. Увечары прыйшлі вяскоўцы, нядаўнія партызаны, распавядалі, як перажылі вайну. Колькі зведалі гора і крыўд! Ад немцаў, партызанаў, народнікаў... У тым ліку і ад некаторых мясцовых, асабліва з тых, якія да вайны актыўнічалі з Саветамі і ў вайну

не прамінулі ўслужыць акупантам. Але што ж, каму не хацелася жыць? Як таму ранейшаму нашаму старшыні калгаса Ягору, што трапіў у палон. Палонных трымалі ў лагеры пад Лепелем, мясцовых пушчалі дадому. Жонка пайшла па яго, ды Ягор не паслухаўся, дамоў не пайшоў. Кажа, дома адразу данясуць, што камуніст, і стрэльнуць. А тут мяне мала хто ведае, можа, перажыву вайну. Не перажыў вайну наш старшыня Ягор, загнуўся ў тым лагеры.

З маіх сяброў-школьнікаў амаль не засталося нікога — хто прапаў у партызанах, хто ў паліцыі (змабілізавалі на пачатку акупацыі), хто быў забіты на фронце пасля вызвалення. Некаторыя з маладых, не трапіўшы пад дэмабілізацыю, прадаўжалі служыць. Іншыя прайшлі ўсе колы пекла — мабілізацыю ў 41-м, палон і канцлагеры, пасля — вызваленне, фронт і зноў лагеры — на гэты раз у іншым баку, на поўначы і ў Сібіры. […]

Бацька спытаўся пра мае планы — як далей? Сказаў, што хачу дэмабілізавацца і прыехаць дахаты, у Беларусь. А ён кажа: «Ці трэба? Усё ж там, у войску, хоць трудна, ды кормяць. А тут, даямо бульбачку, і — голад. Як да вайны. Цяпер на сваёй палосцы не пасееш — не тое што ў вайну. Ужо зааралі і межы...»

Ехаў назад у Нікалаеў з балючым адчуваннем расчаравання, вострым усведамленнем таго, што на радзіме не знайшоў гаючага заспакаення душы, да якога імкнуўся ў свае 22 гады. Няўтульным здаваўся навакольны свет — непрыдатны для шчасця ў вайну, малапрыдатны і ў міры. Зусім не гэткім ён бачыўся ў дзень, калі скончылася вайна. Мір дужа ткнуў мяне мордай у смярдзючую калдобіну жыцця. Як было з яе выбрацца? […]

Вясной, якраз перад Першым маем, прыйшоў загад на маё звальненне ў запас. […]

Паехаў у Менск. Раней у сталіцы не быў, і тое, што там убачыў, збянтэжыла. Горад ляжаў у руінах. На нейкай вуліцы знайшоў Саюз мастакоў, старшынёй якога тады быў Ахрэмчык. Мне далі магчымасць яму патэлефанаваць. Расказаў, хто я, па што прыехаў. Ён кажа, што пакуль ніякай вучобы няма, вучылішча не працуе, дзе яно будзе — у Віцебску ці Менску — яшчэ ўрадам не вызначана. Жыць тут цяжка. Вам, кажа, няма рацыі тут заставацца. У некаторых абласцях ёсць аддзяленні мастацкага фонду і неблагія калектывы мастакоў. Напрыклад, у Бярэсці ці Горадні. Раю паехаць туды, там будзе праца, і пражыць там лягчэй, чым у Менску. А пасля, можа, адчыніцца

і мастацкае вучылішча. Падумаў я, што, відаць, так і трэба зрабіць. Якраз на дзень Перамогі цягніком цераз Баранавічы паехаў у Горадна — горад, дзе ў мяне не было ніводнай знаёмай душы. І які гэтак грунтоўна і на шмат год прычыніўся да майго чалавечага лёсу.

З першага пагляду горад мне спадабаўся, не такі ўжо і пабураны (хоць у цэнтры і траплялі руіны некаторых будынкаў), але ў ім адчувалася пэўная «заходнасць», рысы сярэднявечча — у старых будынках, касцёлах, нават у брукоўцы вуліц. Зноў жа — два замкі і Нёман. Дужа гэта міла здалося майму сэрцу, знябытаму на чужыне. Паўдня хадзіў па вуліцах, прыглядаўся, але куды зайсці не наважыўся. Першую гарадзенскую ноч правёў на вакзале. Ранкам пайшоў шукаць майстэрню мастацкага фонду.

Майстэрня была якраз у цэнтры на вуліцы Клары Цэткін — маленькі пакойчык у старым доме. За адзіным сталом сядзеў лысаваты чалавек у светлым гарнітуры з ордэнам Чырвонага Сцягу на грудзях. То быў старшыня гарадзенскіх мастакоў Віктар Марозаў, нядаўні камандзір супрацьтанкавай батарэі, які, дэмабілізаваўшыся, застаўся ў Горадні. Тут жа знаходзіўся стары мастак Дзежка, якога даймала хвароба Паркінсона. Пасля падышлі сівавалосы вальяжны Ігар Васільевіч Сямёнаў, чарнявы Ваня Пупікоў, таксама былы артылерыст, яшчэ нехта. Выхаванец Варшаўскай акадэміі мастацтваў Аляксандр Кох звадзіў мяне на сваю кватэру, дзе я пакінуў чамаданчык, а ягоная гаспадыня, мілая гарадзенская полька, пачаставала мяне квартай малака з лустай хлеба. Мы хутка з усімі паразумеліся, а каб замацаваць нашу шчаслівую сустрэчу, увечары пайшлі ў рэстаран, які, вядома ж, называўся тут «Нёман». Грошай у мяне было няшмат (выхадное пасобіе), а пасля рэстарану амаль не засталося нічога. Затое я набыў сяброў, якія мяне ўладкавалі за Нёманам на кватэру да сардэчнай Мар'і Іванаўны, што надоўга стала бы маёй другой маці. [...]

Увесь той год я прабыў у майстэрні, разам з іншымі перабіваўся выпадковымі заказамі. Аднойчы разам з Андрэем Заспіцкім, скульптарам і будучым лаўрэатам, ладзілі вітрыну кінатэатра, увосень афармлялі ярмарку на Скідэльскім рынку. То быў мой апошні заробак, якога, аднак, хапіла толькі на тое, каб пасядзець у рэстаране і заплаціць за кватэру. А ў пітве я ўжо так напрактыкаваўся, што мог выпіць паўлітра за раз. Сябры лічылі, што тое нармальна, што я нарэшце дасяг

агульнае нормы. Для мяне тое было ўсё ж цяжкавата, і я пачаў думаць, што рабіць далей. Тое, што трэба нешта рабіць, было пэўнасцю... Толькі што? Што я ўмеў? Вучыцца? Але дзе і як? Ніякіх дакументаў аб адукацыі ў мяне не было — усё праглынула вайна, апошняе засталося ў палявой сумцы на заснежаным полі пад Севярынкай. […]

У Горадні, якраз непадалёк ад нашай майстэрні, была рэдакцыя абласной газеты «Гродзенская праўда». Часам у піўнушцы на рагу дзвюх вуліц мы сустракаліся з некаторымі яе газетчыкамі. Тады ў рэдакцыі працаваў бухгалтарам стары (год пад 70) палкоўнік былой царскай арміі, ён таксама заходзіў туды — выпіць з палучкі піва. Калі-нікалі мы размаўлялі, той распавядаў шмат цікавага з свае царскай службы. Аднойчы, у хвіліну п’янаватай добрасці, ён і сказаў мне, што не шкодзіла б падумаць пра сваю будучыню, і тым зачапіў нейкія чуллівыя струны ў маёй душы. Вы ведаеце беларускую мову, сказаў ён, а ў нас частку тыражу пачынаюць выпускаць па-беларуску. Зайдзіце ў сакратарыят, можа, будзе патрэба. Дзён праз колькі я сапраўды зайшоў у сакратарыят, дзе мяне спаткала Ганна Іллінічна Цыпіна, старая газетчыца, прапанавала напісаць заяву па-беларуску. І, як мне здалося, паколькі не знайшла ў ёй занадта памылак, прыняла мяне на працу карэктарам беларускага выдання. Трохі папрацаваўшы ў карэктарскай, перайшоў у сакратарыят. Пачыналася новая старонка маёй біяграфіі. Здавалася мне, што я выходзіў на нейкую прамую, але толькі здавалася. Наперадзе яшчэ былі выкруты лёсу, пякельныя рэцыдывы ўсё той жа ваеншчыны, якая ўпарта не хацела выпушчаць мяне з сваіх жалезных абдымкаў. […]

Большую частку майго рабочага часу адбіраў пераклад на беларускую мову расейскіх матэрыялаў, перададзеных па тэлетайпе агенцтвам БелТА. Усе яны былі не малыя памерам — розныя пастановы, прамовы, канешне, з адзнакай «тэрмінова ў нумар», і мне даводзілася іх дыктаваць Станіславе Фадзееўне — ці не адзінай у рэдакцыі машыністцы, што ведала беларускую мову. Часам пісаў што-небудзь з драбноты па раздзеле інфармацыі. Тады ж у выхадны накрэмзаў першае апавяданне пра апошні дзень вайны. Намеснік рэдактара А. Салаўёў прачытаў і сказаў: «Очань значыцельна!» Скупая яго пахвала дала веру ў нейкія ўласныя здольнасці. Але наступнае апавяданне напісаў не хутка. Прычынай таму з’явілася немалаважная акалічнасць.

У тыя гады, як заўжды на пачатку лета, пачыналіся вайсковыя зборы запаснікоў, і я атрымаў павестку. […]

І праўда, праз дзень выклікаюць у ваенкамат — распішыцеся. Выпіска з загаду міністра абароны аб залічэнні лейтэнанта Быкава В. У. у кадры СА. Праз тры дні яўка ў часць. Ну, што рабіць? Пайшоў да адказнага рэдактара, той моўчкі развёў рукамі. Давялося збіраць «кружку, ложку, кацялок». На гэты раз паехаў далей — у Слонім. У свеце пачыналася шырокамаштабная халодная вайна з перспектывай перарасці ў гарачую, спатрэбілася болей войска. Слонімская брыгада разгортвалася ў дывізію, без артылерыста лейтэнанта Быкава абысціся было немагчыма. […]

Зіму я прабыў у Слонімскай дывізіі, жыў зноў у бабкі ў Альбярціне. Кожны дзень — палявыя заняткі, у мароз, дождж і сцюжу, зіма выдалася сцюдзёная. Нарэшце — чаканая вясна, прыгрэла сонца, і Быкаў атрымлівае новы загад: адправіцца на Далёкі Усход.

Далёкаўсходні адрэзак майго жыцця застаўся ў памяці як штосьці звыродлівае, маларэальнае, парадаксальнае... З аднаго боку — звычайная армейшчына, службовая задубянеласць і муштра. Але накладзеныя на тамтэйшыя экзатычна-адмысловыя абставіны, інакшыя прыродныя ўмовы, яны не толькі прыгняталі людскія натуры, але і душылі іх сваёю выключнасцю, непадобнасцю на ўсё ранейшае, звыклае, еўрапейскае.

Пасля даўгога чыгуначнага падарожжа ўздоўж усяе Далёкаўсходняй магістралі, месячнага чакання ў казармах Другой рэчкі пад Уладзівастокам (тых казармах, дзе ў канцы 30-х гадоў быў перасыльны лагер і дзе скончыў сваё жыццё паэт Восіп Мандэльштам), пасля марскіх вандровак у душных твіндэках грузавых суднаў па Японскім моры ўбачыў нарэшце месца свайго прызначэння — пасёлак Галаўніно на паўдзённым канцы вострава Кунашыр. Тады ўжо быў не адзін, а з жонкаю Надзеяй Андрэеўнай, нядаўняй выпускніцай Гарадзенскага пэдінстытута, якая мусіла выправіцца са мной у нязведаны далёкі шлях. […]

На той час яшчэ ўзнікалі нейкія літаратурныя памкненні, пабудзілася паўзабытая тэма вайны. Напісаў два-тры апавяданні на беларускай мове, якія паслаў у Менск на адрас часопіса «Полымя», каб перадалі Міхасю Лынькову. Прозу гэтага аўтара любіў з даўняй пары, і, думалася, ягоная ацэнка будзе спрыяльнай. І праўда, даволі хутка (за якіх, можа, тры

месяцы) атрымаў адказ — падрабязны разбор на некалькіх старонках. Як цяпер прыпамінаю, апавяданні былі даволі слабыя, і Міхасю Ціханавічу спатрэбілася нямала такту, каб нешта сказаць па сутнасці і не параніць аўтарскага самалюбства. Аўтар адчуў тое і болей не пісаў. Доўга не пісаў наогул. [...]

СМЕРШ там лютаваў, як нідзе. Адмысловых упаўнаважаных тае службы ў палку было цэлае падраздзяленне, і яны шчыравалі як мае быць. Іх «хітры дамок» мясціўся якраз паміж казармай і салдацкай прыбіральняй — для зручнасці карыстання і эканоміі часу. Занавешаныя акенцы там свяціліся да позняе ночы. Нават і пасля адбою. [...]

Відаць, аднак, настала і мая чарга на праверку. Пасля заняткаў выклікае ПНШ[8] па ўліку і моўчкі дае прачытаць сакрэтную паперу. У ёй напісана прыкладна наступнае. Паводле ўліку асабовага складу такой-та арміі лейтэнант Быкаў В. У. значыцца забітым 7.01.44 года і пахаваным у братняй магіле каля вёскі Вялікая Севярынка Кіраваградскай вобласці. Параграф другі: запатрабаваць ад лейтэнанта Быкава В. У. тлумачэння дадзенага поваду. Матэрыял дазнання даслаць да 17 верасня гэтага года. ПНШ смяецца: «Ну пішы, як ты вылез з братняй магілы». Што ж, жарты жартамі, а давялося пісаць. І не аднойчы. Пасля яшчэ патрабавалі сведак, дакументы са шпіталю. Адзін раз выклікаў смершавец, пісаў і таму тлумачэнне. Але гэтага цікавіла галоўным чынам, ці быў кантакт з ворагам пасля майго ранення. Пра тое, як я ноч праляжаў з трупам нямецкага афіцэра, я, канешне, яму не распавёў.

Цікава адзначыць адносіны паліторганаў да таго выпадку. Калі перад тым парторг палка неяк разы два заводзіў са мной размову наконт маёй непажаданай беспартыйнасці, дык пасля — бы адрэзала. Ніхто ні слова. І я быў увогуле рады, бо беспартыйнасць адкрывала для мяне пэўныя перспектывы, партыйнасць жа — заводзіла ў поўны тупік. Я ўсё ж марыў вырвацца на волю... [...]

Зімой, якраз на дзень Савецкай Арміі, у мяне нарадзіўся сынок Сярожка. Быць яму генералам, жартавалі сябры, маючы на ўвазе знакамітую дату нараджэння. Генералам не стаў, але добра, што выжыў у тае халадэчы, каля жалезнай печкі, да якой ніколі не хапала дроў. Відаць, змалку загартаваўся ў японскім клімаце. Жонка рабіла ў школе, а ён, падросшы, выхоўваўся ў кампаніі ката — вялізнага пухнатага стварэння, прыязнасць якога да малога стала выклікаць непакой. Кот ратаваў яго

ад сцюжы, але мог незнарок і прыдушыць, такі быў вялікі. Я спрабаваў ад яго пазбавіцца, ды марна. У канцы восені прыйшоў загад: адправіцца на Сахалін для вучобы. Жонка і сын з катом заставаліся на Кунашыры. […]

Увосень Мікіта Хрушчоў аб'явіў аб скарачэнні савецкага войска на 55 тысячаў чалавек. Ужо зманены «гражданкай», я спаткаў тую навіну нават з радасцю, але шмат іншых афіцэраў, што меркавалі назаўжды звязаць сваё жыццё з войскам, апынуліся ў разгубленасці. Перажылі драму лёсу.

Не ведаю, як тое скарачэнне адбывалася ў іншых акругах, на Далёкім Усходзе (хаця можна было сабе ўявіць па тым бязладдзі, якое суправаджала там нядаўняе пашырэнне), у Лапічах усіх афіцэраў пагналі на медкамісію. Вайсковыя медыкі, бы на канвееры, агледзелі кожнага і ў кожнага нешта знайшлі. У мяне — недастатковасць мітральнага клапана, і як вынік — запіс у дакуменце: не прыгодны для службы ў мірны час. (Дарэчы, як шэсць год таму прызывалі, тады не знайшлі нічога. Тады я быў цалкам прыгодны.) […]

Праз Менск прыехаў у Горадню, куды трохі раней прыехала жонка з сынам. Тут настрой мой крыху апаў: кватэрка жончынай сястры Веры аказалася мізэрненькай, у старым доме, і хоць гаспадары спаткалі падсяленцаў увогуле гасцінна, я зразумеў, што доўга тут жыць нельга. Тут жа высветлілася, што гаспадар, і праўда, афіцэр, але з пэўнага роду войск і служыць у абкаме ў якасці ад'ютанта першага сакратара.

Колькі дзён патраціў на стаўленне на ўлік у ваенкамаце, атрыманне пашпарта. Наконт кватэры ваенкамат нічым памагчы не мог, адсылаў у гарвыканкам. Той абяцаў паставіць на чаргу. Чарга, вядома ж, льготная, так што чакайце, можа, калі і атрымаеце. Забягаючы наперад, зазначу, што чакаць давялося тры доўгія бескватэрныя гады, перажыўшы не адну кватэрную драму. […]

Найбольшы клопат быў вырашаны, заставаўся наступны — праца. Жонка ўладкавалася ў школу хутка, а мне давялося чакаць.У рэдакцыі, куды, вядома ж, неўзабаве завітаў, людзі памяняліся, змяніўся і галоўны рэдактар. Новы, Васіль Булай, найперш папытаўся пра маю партыйнасць і, учуўшы адказ, моўчкі развёў рукамі. Ён наогул не любіў свае думкі выказваць словамі. Відаць, засвоіўшы пэўныя ўрокі 30-х гадоў, у гутарцы аддаваў перавагу жэстам, якія можна было разумець як заўгодна. Але тут я зразумеў правільна — працы няма.

Нейкі час падзарабляў у майстэрні мастацкага фонду, дзе таксама амаль усе мастакі былі ўжо новыя. Мой сябра Віктар Марозаў з’ехаў на Украіну, Дзешка памёр. Кох сядзеў у лагеры. (Неўзабаве прыехаў рэабілітаваны. Выкрыты КДБ як аўтар карыкатур на Сталіна, аказаўся невінаваты, карыкатуры маляваў хтось іншы.) […]

Там жа, на Падгорнай, напісаў першае пасля звальнення апавяданне, якое панёс у рэдакцыю. У аддзеле культуры пазнаёміўся з літкансультантам Міхасём Васільком і аднавіў колішняе знаёмства з літсупрацоўніцай гэтага аддзела Ірынай Суворавай. Трохі знаёмы з ёй быў з 49-га, калі яна студэнткай прыязджала на газетную практыку ў Горадню. Пра Міхася Восіпавіча я ведаў няшмат. Да нядаўняга часу гэты заходнебеларускі паэт жыў у Баброўні за Скідалем і які год перад тым перабраўся ў Горадню. Выглядаў ён дужа змарнелым, пакамячаным жыццём чалавекам, зрэдчас пісаў юбілейныя вершы, што змяшчаліся на першай старонцы газеты. З выпадку знаёмства мы выпілі з ім на рагу Савецкай і Цэткін, я папытаўся, як яму жывецца, і ён заплакаў. На ўсе мае пытанні, чаму, у чым справа, ён толькі махнуў рукой. Ужо пасля стала вядома, што ў той час (як, зрэшты, і пасля) яго ці не кожнага дня цягалі ў КДБ, чагось дамагаліся. Але чаго — Міхась Восіпавіч так і не сказаў да самай сваёй смерці ў шасцідзесятым годзе.

У кватэры было малаўтульна і сцюдзёна, па ваду трэба было хадзіць праз тры двары. Але я ўвесь дзень быў вольны і пачаў пісаць. Пазней, калі ўжо стаў аўтарам кніжак, у мяне пыталіся: як і чаму сталася тое? Што хацеў сказаць чалавецтву, якой ісціне яго навучыць? Мабыць — ніякіх ісцін; адразу адчуў, што па натуры я не прапаведнік. Тады для мяне важна было намацаць свой шлях у жыцці, неяк вызначыцца. Мне ішоў 32-гі год, а ў галоўных адносінах — пошуках свайго месца сярод людзей — я быў пачаткоўцам. Пэўнага месца ў жыцці ў мяне не было, што, безумоўна, не магло не турбаваць мяне, як і кожнага чалавека ў гэткім становішчы. Тое ж, чым я займаўся з юначых гадоў, аказалася зманам, пустэчай, поўнаю непатрэбнасцю. Суцяшала хіба меркаванне, што ўсё тое адбывалася не па ўласнай волі. На тое быў змушаны. Лёсам, жыццём, людзьмі — добрымі і злымі. А найбольш уладай, якая ў нас тады намагалася вызначаць усё — ад глабальных мэтаў да лёсу маленькага чалавека.

У тую зіму пісаў шмат, менш перапісваў і амаль усё рваў на шматкі. Мала што даводзіў да фіналу. Звычайна з ахвотай пачаўшы, неўзабаве траціў цікавасць. […]

Здаецца, у адным з летніх нумароў «Маладосць» надрукавала маё апавяданне «Страта». А яшчэ праз невялікі час тое апавяданне выйшла ў маскоўскім часопісе «Советский воин». Пераклаў яго вайсковы журналіст Якаў Плехаў, які тады таксама пачынаў сваю літаратурную творчасць. Гэта падвойная ўдача адразу ўзняла аўтара ў яго уласных вачах, хаця знешне я стараўся быць як мага спакайнейшым. Мабыць, баяўся спалохаць нечаканую ўдачу. Тым болей што, прачытаўшы абодва тэксты, знайшоў там масу слабіны і нават недарэчнасцяў, з чаго доўга пакутваў. Тыя перажыванкі імкнуўся заглушыць працай над новымі рэчамі, калі, здавалася, напішацца лепш. Бо ўжо займеў нейкі вопыт. […]

Акадэмія навук Беларусі выдала расейска-беларускі слоўнік пад рэдакцыяй акадэміка Крапівы, дзе беларуская лексіка амаль упадабнялася да расейскай, што, паводле задумы, павінна было працаваць на зліццё народаў у адну братнюю сям'ю. Народы не зліліся, але моўнай шкоды той слоўнік нарабіў нямала, гэтая шкода адчуваецца і дагэтуль. Працуючы ў сакратарыяце, я змушаны быў правіць беларускія тэксты паводле таго слоўніка, хаця часцяком мая беларуская натура праціvілася моўнаму гвалту. Успаміналіся маміны словы і выразы, якія былі іншыя, нават іншай прыроды, але ж іх на газетную старонку не ўставіш. Іх выкрасліць карэктар, перад якім на стале ляжыць моўны закон у выглядзе таго ж слоўніка акадэміка Кандрата Крапівы, адзначанага Дзяржаўнай прэміяй СССР. […]

Напрыканцы года я атрымаў ад Саюза пісьменнікаў запрасіны на ўдзел у штогадовым семінары маладых, што адбываўся ў Каралішчавічах пад Менскам. Мілы той маёнтачак апальнага партыйнага функцыянера[9] шмат год служыў і спрыяў беларускаму пісьменству, праз яго прайшлі ці не ўсе тагачасныя маладыя. Старыя там шэраг гадоў мелі магчымасць перавесці дых ад партыйнай задухі на месцах свае працы, ідэалагічных пасадах. Там сярод елак і хвой усе бы рабіліся роўныя, паглыбляліся ва ўласны мастакоўскі свет і тварылі, тварылі... Як і што — гэта ўжо іншая справа, мабыць, кожны сваё. Мележ тварыў не тое, што тварыў Паслядовіч, Броўка інакш, чым Куляшоў. Дапушчаныя туды на тыдзень, мы назіралі і слухалі. Прафесар Гутараў палымяна ўводзіў нас у

прагрэсіўны, на ягоную думку, свет сацрэалізму, марксісцка-ленінскую эстэтыку, Шамякін з уласным вопытам партыйнага раманіста націскаў на адлюстраванне авангарднае ролі партыі ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Уладзімір Карпаў завастраў нашу ўвагу на прошуках заходніх агентаў, былых калабарантаў, якіх трэба было выкрываць. Брыль тае ўвагі не завастраў, болей гаварыў пра лірызм у літаратуры, прыкладам маючы ўласнае апавяданне «Галя». Брыль тады падабаўся маладым, у той час як Мележ быў мала знаёмы і ніхто не чакаў ад яго неспадзяваных «Людзей на балоце». Мы, паўтара дзесятка ўдзельнікаў, што прыехалі з правінцыі, чыталі і абмяркоўвалі прывезенае з сабой, хаця ўсё тое было так сабе і не запомнілася. Апроч хіба «Зоні» маладога Вячаслава Адамчыка. Адамчык быў прызнаны несумненным талентам, казалі: малады, а глядзі, як апісвае старых. Тое было праўдай. Мае вайсковыя апавяданні надта не ганілі, але і не хвалілі. Мабыць, мелі на тое рацыю. […]

Пасля семінара з усяго, што ў мяне сабралася, склаў першы зборнік, адаслаў яго ў выдавецтва. Праз нейкі даволі працяглы час яго далі на падрыхтоўку да друку выдавецкаму рэдактару, якім аказаўся Уладзімір Дамашэвіч. Таму давялося не толькі рэдагаваць тэкст, але і адстойваць мае літаратурныя ідэі, якія былі не ва ўсім традыцыйныя і не задавальнялі выдавецкае начальства. Асабліва тое адносілася да аповесці «Жураўліны крык». Але Валодзя меў характар, а галоўнае — уласны пагляд на літаратуру, адрозны ад казённага пагляду шматлікага начальства. […]

Тады ж я пазнаёміўся з гродзенскім празаікам Аляксеем Карпюком. Неяк сутыкнуліся на стромкай рэдакцыйнай лесвіцы, і Карпюк кінуў мне ў яго звычайнай таропкай манеры: «Здароў! Кажуць, аповесць пішаш?» — «Пішу, ага». — «Правільна, пішы». Сказаў і пабег уніз на падворак. Ён тады ўжо быў аўтарам кніжкі «У адным інстытуце», перажыў не адну жыццёвую драму і, здаецца, на той час не меў працы. Пасля жыццё на шмат год звяло нас з гэтым незвычайным чалавекам і пісьменнікам, шмат гора і радасцяў было перажыта разам. […]

Здавалася, у краіне ажывела ўся літаратура наогул, другое дыханне набывала вайсковая проза. Пасля «У акопах Сталінграда», «Валакаламскай шашы»[10], дзвюх аповесцяў Эм. Казакевіча, адна з якіх («Двое ў стэпе», яна ж самая лепшая) была разгромлена партыйнай крытыкай, можна было думаць,

што тэма вайны вычарпана і не адновіцца. Аж аднавілася ды заззяла яшчэ з большым, чым раней, бляскам, галоўным чынам высілкамі маладых аўтараў т. зв. лейтэнанцкай прозы. Спярша гэта былі Юрый Бондараў з ягонымі «Батальёнамі»[11], затым Рыгор Бакланаў з «Пяддзю»[12]. Увогуле там былі не Бог ведае якія адкрыцці, але была праўда і боль вайны, ад якіх савецкае грамадства амаль ужо адвыкла. (Калі толькі і прывыкала.) Недзе ў гэты час мне давялося прачытаць невялічкую кніжку Р. Бакланава «На поўдзень ад галоўнага ўдару», якая мяне амаль аблавушыла. Рэч у тым, што аўтар падрабязна і праўдзіва апісаў там некалькі момантаў з вядомых мне па ўласным вопыце баёў пад венгерскім горадам Секешфехерварам, дзе мяне параніла. Я быў здзіўлены, як простая праўда вайны рабілася высокім мастацтвам, якія, аказваецца, магчымасці нясе з сабой банальны кавалак жыцця. (Хаця вайна, канешне, не банальны кавалак...) А прачытаўшы ў «Новом мире» ягоную «Пядзь зямлі», адклаў усё, што на той час пісаў, і з жарам сеў за «Трэцюю ракету».

Скончыць яе за вясну мне не ўдалося, а на пачатку лета — зноў вайсковыя зборы. Ваенны гарадок пад Навагрудкам, строй, заняткі. Зноў — статуты, палітпадрыхтоўка, артылерыя, якую я пастараўся забыць. Але там усё напомняць. І ўсё ж болей захапляла мая няскончаная аповесць. Мабыць, ніводную я не пісаў з такой апантанасцю, як «Трэцюю ракету», сам не ведаю, з якой прычыны. Бывала, як толькі наставала пасляабеддзе і па звыклым распарадку дня вайскоўцы клаліся спаць, я бег у ціхманы куток салдацкай курылкі і пісаў — алоўкам у сшытку. Самапісак жа тады не было, тэхнічны прагрэс нашую аргтэхніку яшчэ не кранаў. Немалой праблемай было перадрукаваць напісанае. Друкаркі меліся толькі ва ўстановах, іхні ўжытак строга кантраляваўся кіраўніцтвам і КДБ. На выходныя і святочныя дні машбюро звычайна апячатвалася. Даводзілася неяк выкручвацца, перадрукоўваць амаль нелегальна. І тут мяне выручала Станіслава Фадзееўна, а пасля Ірына Міхайлаўна, якая прытым стала першым і дужа прыдзірлівым крытыкам усяго мной напісанага. Цяпер я ёй за тое вельмі ўдзячны, хаця тады часам і крыўдзіўся.

Часопіс «Маладосць», з якім я ўжо наладзіў сталае супрацоўніцтва, неўзабаве надрукаваў аповесць. Галоўны рэдактар Пімен Панчанка сказаў мне з гэтага поваду трохі ласкавых словаў. Яны, ведама ж, узнімалі настрой, дадавалі жаданне пісаць і яшчэ. На нейкай нарадзе да мяне падышоў малады на-

вуковец і пачынаючы празаік Алесь Адамовіч, які павіншаваў з праўдай вайны, што з'явілася на старонках і беларускага друку. Я быў удзячны абодвум. У краіне паяўлялася новая літаратура, з новым бачаннем свету. І ў прыватнасці мінулай вайны. […]

Хутка пасля публікацыі аповесці ў «Дружбе народов» паявілася і рэцэнзія ў «Литературке». Аўтарам яе быў Рыгор Бакланаў, што мяне вельмі ўсцешыла. Выбар аўтара быў не выпадковы — пра тое паклапаціўся мой новы сябра Валянцін Аскоцкі[13], з якім мяне пазнаёміў у Маскве Алесь Адамовіч. Добрае тое сяброўства доўжыцца да сённяшняга дня, — усё ж, мабыць, лёгкая рука была ў незабыўнага Алеся Міхайлавіча. Бакланаў вельмі добра напісаў пра аповесць, дадаў толькі адну заўвагу наконт перакладу, што, вядома ж, не спадабалася перакладчыку. Можа, аднак, тут была і мая віна, бо перад друкаваннем тэкст быў мной аўтарызаваны. Але тады я меў малы вопыт расейскай літаратурнай мовы і не мог выцягнуць тэкст на патрэбны ўзровень. Зноў жа, каб добра перакласці на расейскую, трэба, каб яна была першаю мовай. Іван Бунін некалі пісаў, што блізкія, «сумежныя», мовы дужа цяжка паддаюцца перакладу, бо надта блізкія да ўласнай прыроды і яшчэ не страцілі свае першазданнай пекнаты, каб увайсці ў сям'ю культурна развітых моваў.

«Дзвюх моваў ведаць немагчыма», — катэгарычна заяўляў слынны майстра расейскай літаратурнай мовы. Пасля я не раз успамінаў тыя ягоныя словы... […]

Пачатак творчага працэсу ў мастацтве заўжды таемны, няўлоўны і невыразны, першыя ягоныя імпульсы з'яўляюцца падсвядома, здаецца, без удзелу волі і розуму. «Творчасць бессвядомая», — пісаў некалі англічанін Карлейль. Так і ў мяне неўпрыкмет выспеў намер «Альпійскай балады». Там сапраўды — ён і яна, абое гнаныя і праследваныя ў самых драматычных абставінах, дзе, аднак, выяўляецца вечная праява жыцця — каханне. Вядома, што каханне перамагае шмат што, бывае, што перамагае і смерць. Вобраз гераіні падказаў выпадак з вайны, той жа выпадак нагадаў антураж падзеяў — горы, зусім рамантычны, пачынаючы з назвы — Альпы. Што ж да героя, дык Іванаў, як характары, я ведаў добра, шмат іх пабачыў на вайне. […]

Як заўжды, аповесць першым выданнем выйшла ў «Маладосці», якая працяглы час даволі ўважліва адносілася да маёй творчасці. Чаго нельга сказаць пра «Полымя» — тады

адмысловы орган, створаны для наменклатурнай пісьменніцкай эліты. Але мяне задавальняла і «Маладосць», хоць мой узрост і перакрочыў маладзёвыя рамкі. У часе абавязковага тады папярэдняга абмеркавання на рэдкалегіі Пімен Панчанка сказаў: «Канешне, усё тое — няпраўда, а верыцца. Значыць, гэта — мастацтва».

Добрыя водгукі на аповесць прыслалі шмат якія чытачы, звычайна скупы на пахвалы Янка Брыль, маладзейшыя пісьменнікі. Атрымаў добры ліст з Зэльвы ад мала каму знаёмай тады Ларысы Геніюш, яна была ў захапленні ад Івана, пакутнага і шчырага беларуса, які сваёй ахвярнасцю выратаваў еўрапейскага чалавека. А яе муж, доктар Іван Пятровіч Геніюш, неўзабаве завітаў да мяне ў Горадню, распавёў пра свой і жончын гаротны лёс. З таго часу ён часцяком наведваўся да мяне на вуліцу Кашавога, калі прыязджаў па сваіх доктарскіх справах. Працаваў ён у Зэльве дэрматолагам. Увогуле ён мне падабаўся сваёй непадробнай беларускай шчырасцю. З нашых гаворак я пазнаў нямала новага і нават неспадзяванага з жыцця на акупаванай тэрыторыі, пад немцамі, а таксама ў Празе. Факты, пра якія распавядаў Геніюш, не надта ўлагоджваліся з тымі, што мы засвоілі з савецкай прапаганды. Распавёў, як пасля вайны Геніюшаў «бралі» ў Празе, як Ларыса Антонаўна не адчыняла кадэбістам дзверы і абяцала выкінуцца ў вакно, а тыя расцягвалі ўнізе брызент, каб яна не забілася. Ім дужа патрэбна была яна жывая, бо праз яе мелі намер дазнацца пра архівы апошняга прэзідэнта БНР Абрамчыка. Геніюшы паехалі ў Варкуту, дзе адбылі восем год, але архіваў не выдалі. І дагэтуль, кажуць, архівы ў надзейным месцы. Геніюшы ў Зэльве жылі ў рэжыме рэгулярнай аблогі, пад няспынным наглядам КДБ ды суседзяў. І не дзіва. Ларыса Антонаўна адмаўлялася прыняць савецкае грамадзянства і прасілася адпусціць яе з мужам у Чэхію, пісала лісты за мяжу. Іхні сын Юрка, якога яны знайшлі, вярнуўшыся з Варкуты, жыў у Беластоку, быў польскі падданы, і бацькі доўга не мелі магчымасці нават наведаць яго. (Пасля смерці бацькоў ён таксама загінуў загадкавым чынам. Добра, што маці ўжо не суджана было дазнацца пра тое.) Так звёўся некалі вялікі і слынны род беларускіх Геніюшаў. […]

Тады часцяком даводзілася ездзіць у Маскву — з выдавецкімі клопатамі і на розныя мерапрыемствы Саюза пісьменнікаў. На адным з іх у Доме літаратараў пазнаёміўся з крытыкам і літаратуразнаўцам Лазарам Лазаравым[14], пра якога чуў раней, і

тады ўпершыню пацiснуў яго скалечаную на вайне руку. Пасля зрэдчас мы сталі сустракацца ў Маскве, ён прыязджаў у Менск, я бываў у яго дома, пазнаёміўся з ягонай мілай разумніцай Наяй. Лазар хутка стаў маім сябрам і пранiклівым крытыкам, праз нейкі час напісаў грунтоўную кнігу пра маю творчасць. Недзе тою ж парой у Маскве, здаецца, у рэстаране ЦДЛ, упершыню спаткаўся з Юрыем Бондаравым, з якім мяне пазнаёміў Рыгор Бакланаў. Тады гэтыя аўтары «лейтэнанцкай прозы» сябравалі, і не можна было нават падумаць, што жыццё калі-небудзь іх развядзе. Але, як ні дзіўна, атрымліваецца так, што жыццё часцей разводзіць, чым зводзіць. […]

Увосень пазванілі з «Нового мира» — трэба прыехаць рыхтаваць да друку «Мёртвым не баліць». […]

«Новый мир» тады ўжо бамбавалі з усіх інстанцыяў — з Галоўліта, з СП, з ЦК. Выходзіў часопіс нерэгулярна, кожны раз з вялікім спазненнем. Спазніліся і № 1, 2 з маёй аповесцю і трапілі якраз падчас чарговага і, можа, самага рэакцыйнага з’езда КПСС — то быў яму падаруначак! У той час, як з’езд набіраўся рашучасці рэабілітаваць сталіншчыну, абяліць запэцканыя Хрушчовым слаўныя чэкісцкія органы, Твардоўскі б’е іх залпам з двух нумароў, у якіх змешчана аповесць беларускага пісьменніка. Мабыць, сваіх у Маскве не знайшлося. Тым горш для «Новога мира».

Інстанцыі зрэагавалі аператыўна, і праз колькі дзён выйшаў чарговы нумар «Правды» з вялікім артыкулам У. Сеўрука (як пасля выявілася, слухача Акадэміі грамадскіх навук). У гэтым артыкуле канстатавалася несумненная няўдача пісьменніка, абараняўся гонар Савецкай Арміі, пераможцы фашызму, даваліся ўстаноўкі, як трэба пісаць на тэму мінулай вайны. Мабыць, артыкул дужа спадабаўся галоўнаму ідэолагу КПСС тав. Суславу, бо аўтар неўзабаве быў пакліканы на Старую плошчу, дзе зрабіў нечуваную для правінцыйнага (здаецца, чукоцкага) журналіста кар’еру. Родам гэты чалавек быў з Беларусі і, мабыць, на гэтай падставе стаў галоўным дарадцам Суслава — спярша па творчасці Быкава, а пасля і па ўсёй савецкай літаратуры.

За праўдзінскім артыкулам, бы па камандзе, пасыпаліся вельмі крытычныя, часта зневажальныя артыкулы з палітычным падтэкстам ва ўсіх іншых цэнтральных газетах. Абвінавачванні кожны раз гучалі ўсё болей грозна. «Красная звезда» ў артыкуле Баранца і Лашкова выкінула свой галоўны абвінаваўчы

козыр — намер аўтара сутыкнуць два спрадвеку братнія народы, беларускі і ўкраінскі. Ветэраны ў сваіх лістах у рэдакцыі, як заўжды, скардзіліся на прыніжэнне іхняй ролі ў разгроме нямецкіх захопнікаў. Вельмі хутка да абвінаваўчага хору маскоўскіх газет падключыўся і беларускі друк. Можа, даўжэй за іншыя трымаў паўзу «ЛіМ». Правінцыйныя газеты, якія не маглі аператыўна арганізаваць уласныя артыкулы супраць «ідэалагічнай дыверсіі» Быкава, передрукоўвалі іх з цэнтральных. У тым ліку і мая родная «Гродзенская праўда». Цікава, што ўвогуле аўтара білі за што заўгодна — паклёп, прыніжэнне, скажэнне — але нідзе не было сказана ніводнага слова пра СМЕРШ, ці НКВД, ці КДБ. Быццам напісанае ў аповесці не мела ніякага дачынення да гэтых «органаў». Я чытаў і не мог даўмецца: што гэта? Знарок ці непаразуменне? [...]

У тых грозных грымотах, якія раздаваліся з поваду аповесці Быкава, Саюз пісьменнікаў доўга не прымаў ніякага ўдзелу, і я ўжо быў пры думцы, што ягонае кіраўніцтва на маім баку. Ды дзе там! Аказалася, што на партсходах таксама ішло бурнае асуджэнне, некаторыя камуністы патрабавалі прыняць меры. Асабліва абураўся Іван Новікаў, з якім мы разам ваявалі ў Венгрыі. Другі Іван, які пры сустрэчы ветліва і дображадана вітаўся, у сваіх лекцыях ва універсітэце падвяргаў жорсткай крытыцы адступніка ад сацрэалізму. Толькі маладзейшыя былі абураныя тым, што вакол мяне адбывалася. Сустрэты мной у Менску малады, але паважаны крытык Віктар Каваленка моцна паціснуў руку і сказаў, што хлопцы з акадэміі — на маім баку. І не толькі з акадэміі. Алесь Адамовіч, які тады быў звольнены з Маскоўскага універсітэта за адмову падпісаць прафесарскі ліст супраць Сіняўскага і Даніэля[15], не раз тэлефанаваў з Менска, каб я трымаўся і не ўпаў у паняверку. Праўда, сам ён тады ўжо абараніў доктарскую дысертацыю, здаецца, у Кіеве з дапамогай масцітага Леаніда Навічэнкі. Той жа Навічэнка аднойчы выпадкам завітаў у Горадню, каб сустрэцца са мной і падтрымаць. Шкада, мяне не аказалася дома. Затое іншыя ўкраінскія пісьменнікі, у тым ліку і мае нядаўнія сябры, гатовыя былі наладзіць мне байкот. Пры сустрэчы на маскоўскім пленуме Алесь Ганчар папытаўся, хто даў гэткае імя прахвосту-смершаўцу Сахно? Я сказаў, што аўтар. Тады ён абурыўся: «А мы чулі, што тое зрабіў нейкі жыдок з «Нового мира». Ад цябе таго не чакалі...» Праз нямала гадоў, як у Кіеве абмяркоўвалася магчымасць друку гэтай

аповесці на ўкраінскай мове, той жа Ганчар сказаў: «Толькі цераз мой труп!» І я думаў: няўжо тут уся справа ў хай сабе і адыёзным прозвішчы? А можа, яшчэ ў чым, болей глыбінным, пра што, аднак, не гавораць? Саромеюцца, ці што? Дзякуючы, аднак, прынцыповай пазіцыі маіх сяброў, славутых украінскіх пісьменнікаў У. Яварыўскага, Дз. Паўлычкі, І. Драча гэтая аповесць выйшла на ўкраінскай мове ў перакладзе нашай мілай Тані Кабржыцкай. [...]

Напярэдадні чарговага з'езда Саюза пісьменнікаў Беларусі мае маладзейшыя сябры Генадзь Бураўкін і Анатоль Вярцінскі арганізавалі збор подпісаў пад лістом у абарону Быкава. Як пасля яны пра тое апавядалі, цікава было паназіраць за рэакцыяй шмат якіх пісьменнікаў на прапанову падпісаць ліст. Некаторыя адразу адмовіліся, іншыя абяцалі падумаць (г. зн. параіцца з кімсь). Бальшыня, аднак, не раздумваючы, падпісала ліст, і мяне ўсцешыла, што сярод іх нямала старых, вельмі шаноўных пісьменнікаў: Міхась Лынькоў, Іван Мележ, Янка Брыль, Аркадзь Куляшоў. (Дарэчы, Аркадзь Куляшоў, які быў у даўняй дружбе з Твардоўскім, адзін з першых павіншаваў мяне з надрукаваннем у «Новом мире».) [...] Ведама, той ліст мала чым дапамог апальнаму аўтару (ды і не мог памагчы), але вэрхалу нарабіў нямала. Тое, што вакол яго адбывалася, дало зразумець партыйнаму кіраўніцтву, што ў надта апекваным калектыве пісьменнікаў няма былога сцэментаванага адзінства. Што пісьменнікі, як ні дзіўна і не зважаючы на шматгадовы ўціск і рэпрэсіі, здольныя да пратэсту. Ліст, зразумела, не быў нідзе надрукаваны, а арганізатараў яго не раз выклікалі на допыты і разбіральніцтвы ў розныя інстанцыі (у тым ліку і ў КДБ). Але справа была зроблена, пісьменнікі ўпершыню засведчылі, што могуць не падпарадкавацца грознай партыйнай волі. Тое ўжо было небяспекай, якая дайшла да Масквы і якую належала прадухіліць. [...]

Правёўшы Гарбачова[16] на маскоўскі цягнік, я засеў за прамову. Нячаста я выступаў на пісьменніцкіх зборышчах такога роду, але тут рашыўся. (Пасля некаторыя з маіх дужа інфармаваных апанентаў абсалютна дарэмна звальвалі гэта на невінаватага ў тым Гарбачова.) Ды й Алесь Адамовіч сказаў па тэлефоне: «Прамаўчаць ты не маеш права, асабліва калі за цябе могуць пацярпець іншыя». За дзень я накідаў выступ з маімі поглядамі і маімі нязгодамі. Прыехаўшы ў Менск, даў прачытаць тое некаторым маскоўскім гасцям — Аскоцкаму

і Лазараву, яны не пярэчылі. Хіба толькі Лазараў, які крыху ведаў маю не надта спрактыкаваную манеру выступаць, сказаў: не затараплівай. Тое было правільна: я стараўся прачытаць напісанае як мага хутчэй, і тое выглядала кепска. Чытаў у вялікім нервовым напружанні, пры абсалютнай цішыні ў залі, а як скончыў, зала нечакана грымнула воплескамі. Некаторыя ў задніх шэрагах нават усталі. Начальства ў прэзідыуме, вядома, сядзела з каменнымі тварамі. Але начальства ведала тое, чаго не ведалі іншыя, — недарма яно рыхтавала з'езд доўга і старанна. Пасля перапынку адразу выступіў Алесь Савіцкі, які незадоўга перад тым прыехаў з аспірантуры Літаратурнага інстытута і таксама пачынаў кар'еру. Цвярдым, размераным голасам пераконанага артадокса ён умомант прыгвасціў да ганебнага слупа рэнегата і антысаветчыка Быкава за яго паклёп на Савецкую Армію і яе авангард — партыю камуністаў. Савіцкаму таксама апладзіравалі, а я там жа ў залі напісаў яму запіску: «Далёка пойдзеш, Алесь!» І бы ў ваду глядзеў. Не мінула месяца, як мой зямляк і аднагодак апынуўся на хлебнай і ганаровай пасадзе ў ЦК КПБ. Праўда, казалі: «Галоўная ісціна веку: сябра з'еў — сам таўсцейшым стаў».

Ворагаў той прамовай я, вядома, набыў нямала (усё кіраўніцтва, якое пасля доўга пазбягала са мной вітацца), але паболела і сяброў. На сустрэчах і ў рэстаранным застоллі вельмі прыязна аднесліся да таго факту Рыгор Бярозкін і яго маладзейшыя таварышы — Валя Тарас, Навум Кіслік, Хведар Яфімаў. З імі ж часцяком быў і няп'ючы Алесь Адамовіч, тым не менш ці не самы актыўны ініцыятар застольных сустрэч. Пакуль мы хмялелі, ён разумна і змястоўна гаварыў пра татальны ўціск літаратуры і нязломнасць асабістай волі. У абставінах звыклай несвабоды тое было няпроста. Але неабходна. Інакш справа літаратуры ператваралася ў банальную паліцэйскую справу сыску і пакарання. Я казаў, што тое вельмі важна было б давесці нашаму кіраўніцтву СП, на што Адамовіч толькі іранічна хмыкаў — яны тое ведаюць лепей за нас. Бо ў тым непасрэдна ўдзельнічаюць. Што ж, як заўжды, Саша меў рацыю, бо ўжо быў навучаны скандальнай гісторыяй у Маскоўскім універсітэце. [...]

Неўзабаве пасля з'езда я атрымаў першы ліст ад Твардоўскага. Пасля ён прысылаў мне нямала лістоў і паштовак, але той самы першы стаўся для мяне самым важным ва ўсіх адносінах. Аляксандр Трыфанавіч найперш абгрунтаваў уласную пазіцыю

ў дачыненні да сучаснай літаратуры і засведчыў пэўную прыхільнасць да майго выступу на з’ездзе. Яму спадабалася, што я не апраўдваўся там, не вініўся, а хутчэй — наступаў і абвінавачваў. Пахвальнае слова рэдактара і мэтра расейскай літаратуры было для мяне важней за ўсе пагрозлівыя напады ўсіх «літаратуразнаўцаў у штацкім». Я адчуў сябе яшчэ болей упэўнена, калі аднойчы пад восень атрымаў тэлеграму з Ялты ад славутага аўтара «Акопаў Сталінграда» і таксама ўжо бітага крытыкай (за падарожныя нататкі з Захаду) Віктара Някрасава. «П’ём за ваша здароўе, жадаем новых кніг праўды пра нашу вялікую вайну», — значылася ў тэлеграме... […]

За кароткі час, можа, за месяц, напісаў невялічкую аповесць, названую «Праклятая вышыня». […]

Найперш я завёз аповесць у Менск, перадаў Пімену Панчанку. Пімен быў заклапочаны, — мае аповесці, падобна, пачалі пагражаць ягонаму рэдактарству ў «Маладосці». Сказаў: «Добра, калі б падтрымаў «Новый мир». Але ж для «Нового мира» трэба перакласці, а перакладчыка ў мяне не было. Тады Пімен кажа: «Зрабіце падрадкоўнік, а перакладчыка яны самі знойдуць. У Маскве перакладчыкаў — навалам».

Так і зрабіў — перапісаў тэкст больш-менш па-расейску. Знарок не шліфуючы, не дбаючы пра стыль, адно клапаціўся пра сэнс. Нейкай аказіяй адправіў рукапіс у Маскву. Праз дужа кароткі час патэлефанаваў Кандратовіч — трэба прыехаць.

На гэты раз адбылася сустрэча з усёй рэдакцыяй. У шырокім крэсле сядзеў грузнаваты, афіцыйна апрануты Аляксандр Трыфанавіч, прыйшлі стрыманы Аляксей Кандратовіч, акулярысты Ігар Вінаградаў, гаваркі Уладзімір Лакшын, мая рэдактарка Аня Берзер і яе каляжанка Іна Барысава. Пасля падышоў сівавалосы ўсмешысты Ігар Сац, а сакратар Хітроў быў тут ад самага пачатку. Пачалося абмеркаванне, якое ішло нядоўга, стрымана і грунтоўна. Памятаю, Кандратовіч гаварыў пра некаторую жорсткасць самой канструкцыі аповесці, Лакшын — пра характары. Твардоўскі адзначыў пэўны новы нюанс у распрацоўцы няновай тэмы, але сказаў, што надрукаваць аповесць для яго — абавязак. Вось толькі пераклад... Хто зробіць пераклад? Лакшын сказаў, што пераклад мог бы зрабіць Дудзінцаў, нядаўна раскрытыкаваны за раман[17], ён сядзіць без працы. Твардоўскі зірнуў на яго з дакорам: «Ага, значыцца, так: аўтар Быкаў, рэдактар Твардоўскі, перакладчык Дудзінцаў? І вы хочаце з такім трыо надрукаваць аповесць?»

Усе засмяяліся, зразумеўшы марнасць прапановы Лакшына. Тады, пасля нядоўгага роздуму, Аляксандр Трыфанавіч кажа: «Вось, няхай Васіль сам папрацуе над рускім тэкстам, як мае быць вычытае, Анна Самойлаўна паможа. А мы паглядзім». На тым і вырашылі. І на шмат год запачаткавалі з Быкава перакладчыка ўласнай прозы. Хаця хлеб той апынуўся надзвычай цяжкі, прынамсі для мяне, які няраз спрабаваў яго кінуць. Але зноў браўся, бо інакш не выпадала.

У заключэнне Твардоўскі аб'явіў, што аўтарская назва не пойдзе, над назвай патрэбна думаць. Мусіць, тое мне найбольш не спадабалася, але я ўжо ведаў, што тут надта патрабавальна адносяцца менавіта да назвы. Таго ад іх вымагае палітыка. А там, дзе палітыка, там няма месца ні густу, ні нават логіцы. Уся мая далейшая практыка адносінаў з выданнямі і выдавецтвамі пацвердзілі тую нязрушную выснову.

У «Маладосці» аповесць, як і належала, выйшла раней за навамірскую публікацыю. Але не паспеў я атрымаць чарговы нумар «Маладосці», як у Менску з'явіўся вялікі артыкул партыйнага журналіста, нейкага Агеева, які каменя на камені не пакідаў ад аповесці. Дасталося, вядома, і аўтару. Хаця іншай ацэнкі я і не чакаў, але было трохі крыўдна — колькі ж можна! На гэты раз беларускае кіраўніцтва не спудлавала — папярэдзіла пэўную маскоўскую ацэнку. Калі раней яно апыналася «на падхопе», дык цяпер падхопліваць маглі расейцы. Ініцыятыва была за Беларуссю.

У Маскве, канешне, не спалі, падхапілі ў час. Ці не па ўсіх газетах пракацілася хваля крытыкі і асуджэння. Не прытупляў палітычнае пільнасці ГлавПУР[18]. На ўсялякіх палітычных нарадах ягоны начальнік генерал Епішаў у якасці негатыву прыводзіў у прыклад паклёпніцкую аповесць Быкава. Ягоныя ацэнкі перайшлі нават у вайсковыя падручнікі і дапаможнікі па палітзанятках для салдатаў Савецкай Арміі. Тут якраз падаспеў і «Новый мир» з аповесцю, дзе яна была названа «Атака с ходу». Тое, што «с ходу», павінна было неяк прабачыць няўдачу самой атакі, — так мне растлумачылі пасля ў «Новом мире». Але не прабачылася нічога. Уся савецкая прэса, чынячы расправу над аўтарам заганнай аповесці, граміла і часопіс, асабліва няраз ужо зганьбаванага Твардоўскага. Чытаючы, як яго бэсцяць, я адчуваў некаторую няёмкасць, што «падставіў» часопіс і яго шаноўнага рэдактара. Той, аднак, не вініўся, а прыслаў мне чарговы ліст з падтрымкай і спасылкай на пратапопа Авакума,

які з астатніх сілаў топае сабе з пратапопіцай. Толькі да якой мэты, думаў я. Да свайго апошняга вогнішча ў закінутай хаціне? Праўда, «Литературка» змясціла адзіную на той час пазітыўную рэцэнзію на аповесць, і для мяне сталася важна, што аўтарам яе быў Юрый Бондараў. […]

Падобна, у краіне махнулі кіраўнічай рукой на эканоміку, прамысловасць, на далейшы ўздым сельскай гаспадаркі і ўзяліся за любімы канёк — уздымаць ідэалогію. З поваду ідэалогіі праводзіліся пленумы ўсіх узроўняў, творчых саюзаў; рэдакцыі і выдавецтвы ўмацоўвалі выпускнікамі ВПШ ды АГН[19]. Неверагодных памераў дасяглі Галоў- і аблліты, спісы забароненых тэмаў і звестак набылі таўшчыню тэлефонных даведнікаў. У рэдакцыях і выдавецтвах галоўным чалавекам стаў цэнзар, які прыдзірліва мацаў кожны радок і пры парушэнні дакладваў наверх, каб аператыўна зрабіць аргвывады. Прапагандовым апаратам было вынайдзена ёмістае і універсальнае азначэнне: ідэалагічныя дыверсіі. Для іх выяўлення пры кожным парткаме працавалі ідэалагічныя камісіі, якія таксама выносілі свае вердыкты. Для пачатку ва ўсіх інстанцыях правялі кампанію па выяўленні абстракцыяністаў і барацьбе з імі. […]

Я прыехаў з Менску, куды ездзіў па справах сваёй кніжкі. Рэч у тым, што некалькі год выдавецтва «Мастацкая літаратура» валыніла з выданнем маіх дзвюх аповесцяў, нават не ўключала іх у план. Калі я сказаў пра тое загадчыку аддзела Алесю Бажко[20], той нявінным позіркам уставіўся на мяне: «А дзе рукапіс? Рукапісу ж няма». Гады тры таму я асабіста прывёз рукапіс у выдавецтва і ў гэтым жа кабінеце аддаў сакратарцы. Тая паставіла папку ў шафу, механічна зірнуўшы на якую, я ўбачыў за шклом свой рукапіс. Дык во ж рукапіс! Бажко шчыра здзівіўся: а мы так шукалі, шукалі... Рукапіс такім чынам быў знойдзены, але кніга ўсё роўна выйшла няхутка...

Дома, на Кашавога, яшчэ было не позна, бліскаў тэлевізар, і раптам — удар у акно, шыбіна — у друз, на падлозе кавалак цагліны. Я выбег на вуліцу — нідзе нікога. Назаўтра пасля невясёлага роздуму пайшоў у міліцыю, напісаў заяву. Пасля змусілі перапісаць, сказалі, будуць расследваць. Нейкі час чакаў выніку, пасля перастаў чакаць. Пачаў чакаць іншых вынікаў, якія і паследвалі. […]

Сталася так, што я ўжо мала з кім таварышаваў у Горадні. Усе знаёмыя былі занятыя асабістымі справамі, а галоўнае — пабойваліся занадта кантактаваць з апальнымі пісьменнікамі.

Часам сустракаўся з Барысам Клейнам, калі той не быў заняты ў інстытуце. Клейн меў даволі глыбокі аналітычны розум, быў дасведчаны ў палітыцы. Ды і ў культуры таксама. (Распавядаў, як некалі вучыўся ў адным класе з Раланам Быкавым, цяпер лёс звёў яго з другім Быкавым.) Менш цікавіўся беларускай літаратурай, але гэта — як каму наканавана.

Аднойчы ўвечары ён прыйшоў да мяне на кватэру, мы пасядзелі трохі, і я пайшоў яго праводзіць дадому. Самую важную частку размовы, вядома, прыпасалі да гэтага часу. Клейн жыў недалёка, у цэнтры горада, каля турмы. Прайшлі ў адзін канец, затым у другі. Было ўжо цёмна, людзей на вуліцы трапляла няшмат. Ля самага яго пад’езда раптам перад намі вынiклі трое, заступілі дарогу. Спярша мы нават не зразумелі, чаму яны перагарадзілі нам вузкі шлях, як тут жа атрымалі па ўдару ў твары — я і Барыс. У таго адразу ўпалі пад ногі акуляры, я здушана крыкнуў: «У чым справа?» І зноў атрымалі — другі раз. Тады мы закрычалі — на ўсю вуліцу. Адзін таропка перайшоў на другі бок, дзе ўжо стаяў трэці з іх групы. Астатні раптам наблізіўся амаль ушчыльную, але замест таго каб ударыць, ціха сказаў: «Простите, ребята!» І пайшоў да тых двух.

Я памог Барысу адшукаць у цемры яго акуляры. Знерваваныя, мы яшчэ пастаялі, гледзячы, як трое нетаропка пайшлі сабе ў бок турмы. Што было рабіць далей? Блізка было ўпраўленне міліцыі, насупроць ад яго ўпраўленне КДБ. Але мы туды не пайшлі. Мы наогул нікуды не пайшлі ні тады, ні назаўтра. Мы зразумелі, чыіх гэта рук справа і што скардзіцца — марна. […]

Праз дзень я патэлефанаваў у Менск Матукоўскаму, распавёў, што ў нас адбываецца. Мікалай Ягоравіч паўздыхаў у трубку і сказаў, што трэба мне перабірацца ў Менск. У Горадні цябе з’ядуць. Ці заб’юць, што таксама не лепей...

Аднак у Менску, куды я неўзабаве з’ездзіў, было не лепш. Кіслік з Тарасам распавялі, як у акадэміі гранілі групу нацыяналіста Прашковіча, за палітыку выключылі з партыі і выгналі з газеты Вінаградава, мужа пісьменніцы Вакулоўскай. У Саюзе пісьменнікаў, куды я забягаў, можна было перакінуцца словам хіба з прыветлівым Толем Вярцінскім, які здаўна прыязна да мяне ставіўся. Адамовіч жыў у Маскве, дзе вучыўся на сцэнарных курсах. (Патрэбны яму былі гэтыя курсы. Хіба, каб уцячы з Менску.) […]

Аповесць «Сотнікаў» (у першым варыянце «Ліквідацыя») нарадзілася не так «з галавы», як з пачуццяў, што былі на-

тхнёныя хутчэй не вайной, а нашай сучаснасцю. Вядома, можна сказаць, што сюжэт біблейскай прыпавесці пра Авеля і яго брата Каіна жыве ў чалавецтве даўно і праяўляецца рэгулярна, у вайну тым болей. Але калі ў іншы час брат забіваў брата дзеля карысці — спадчыны ці багацця, дык у вайну — дзеля элементарнае біялагічнае мэты выжыць. Тое быццам апраўдвала або, прынамсі, давала штось зразумець у шэрагу тагачасных матываў і наступстваў.

У мірны ж час ужо не забівалі дзеля элементарнай патрэбы выжыць, літаратарам не стралялі ў патыліцу. Затое шырока практыкавалася забойства іх твораў. Творы не друкавалі, за імі палявалі, рукапісы перахоплівалі на пошце, тайна аддавалі ў карныя органы, якія выносілі свае прысуды — і творам, і аўтарам. І рабілі тое не акупанты, не людзі іншай нацыі ці рэлігіі, а свае — калегі, таварышы, нават сябры. Партыя не магла (а можа, і не хацела) рабіць усю няўдзячную ўвогуле працу ўласнымі рукамі, рукамі сваіх штатных функцыянераў, усіх гэтых сакратароў-глаўлітаўцаў-цэнзараў, чэкістаў у форме і ў штацкім, актывістаў ідэалагічных камісій, таму шырока карысталася паслугамі тых самых пісьменнікаў. Як тады гаварылі — літаратурных паліцаяў, і тое было дакладна. Усе рэдактары літаратурных (ды і астатніх) газетаў і часопісаў, загадчыкі аддзелаў і рэдакцый, ці не ўсе члены рэдкалегіяў і асобна давераныя рэцэнзенты — былі з ліку пісьменнікаў, членаў СП, самі пісалі і друкаваліся ў тых самых органах, што і астатнія. Менавіта там яны і выкручвалі рукі ўсім іншым, хто не трапляў у іх кіраўнічае, як бы пастаўленае над літаратурай кола. Некаторыя гэта рабілі з цвёрдым бальшавіцкім перакананнем, што так і трэба, што тое — у інтарэсах партыі і народа. Іван Пташнікаў, праз рукі якога прайшла ў тыя гады ці не ўся беларуская проза, меў выключнае значэнне ў літаратуры, бо ніхто з яе кіраўніцтва — ні Шамякін, ні Танк, ні шмат якія парторгі — не мелі такой магчымасці прымаць, адмаўляць, рэзаць і перайначваць, як загадчык аддзела прозы часопіса «Полымя». Дзіўна, што тое амаль не адбівалася на якасці яго ўласных твораў, якія выходзілі з-пад ягонага пяра зусім неблагія. Але, як часта здараецца, да ўласнага былі іншыя, зменшаныя патрабаванні. Іншыя з рэдактараў, здаралася, разумелі сваё сабачае становішча, але ж у кожнага былі сем'і, дзецям патрэбны быў хлеб. І яшчэ было распаўсюджана юдава меркаванне — а каго замест? Маўляў, замест нас паставяць

навана было надрукаваць там невялічкую аповесць «Абеліск», а пасля і я сышоў з часопіса надоўга. [...]

Неўзабаве па вяртанні дамоў пасля той сумнай нагоды, як ужо выйшаў «Новый мир» з маёй аповесцю, «Полымя» запрасіла прыехаць. Сабраліся нарэшце друкаваць, наладжвалася абмеркаванне. Сышлася ці не самая прадстаўнічая рэдкалегія, — усе, апроч Барадуліна, які быў дзесь у ад'ездзе. Я меркаваў, што будуць дробязныя заўвагі па мове і стылю, аказалася — усчалі абмеркаванне па поўнай праграме. На маё слабое пярэчанне, што ў Маскве ўжо абмяркоўвалі і маскоўскі Галоўліт прапусціў, палымянскі галоўны Павел Кавалёў адказаў, што Масква нам не ўказ. Масква друкавала і Еўтушэнку, чаго ў Беларусі ніколі не здарылася б, бо беларуская літаратура ідэйна здаровая, без шкодных ухілаў. На абмеркаванні асабліва стараўся Анатоль Вялюгін, які, мяркуючы па ўсім, быў загадзя да таго падрыхтаваны. Ён праводзіў паралелі паміж прозай Быкава і тымі заганнымі ідэямі, што нам навязваюць з Мюнхена, то-бок з Радыё «Свабода». Іншыя палымянцы выказваліся болей памяркоўна, але ўсе сышліся на тым, што аповесць друкаваць рана, трэба дапрацаваць. Дапамогу аўтару ў дапрацоўцы было вырашана даручыць Барысу Сачанку. Сказалі, каб з тым не цягнуць.

Адразу пасля пасяджэння рэдкалегіі, яшчэ пакуль не прастылі свежыя ўказанні, мы з Сачанкам пайшлі да яго на кватэру. Там Барыс мне сказаў, што не п'е, таму і мне не раіць, бо рэдагаваць трэба з цвярозай галавой — справа сур'ёзная. Я ўжо меў вопыт Сачанкавай рэдактуры, калісь яго намаганнямі была амаль цалкам перапісана мая невялічкая аповесць «Здрада». Цяпер мне Барыс па-сяброўску адкрыў сакрэт рэдактарскіх закідаў да аповесці — адсутнасць у ёй вобразаў камуністаў. Я сказаў, што наогул пазбягаю тых вобразаў, бо не валодаю патрэбным талентам. Мабыць, для іх увасаблення патрэбны талент кшталту Салтыкова-Шчадрына, а ў мяне, калі і ёсць, дык іншы. Сачанка сказаў на тое, што ён гэта выправіць у адзін момант і, пагартаўшы рукапіс, знайшоў здатнае месца. Во тут і напішам: Сотнікаў — камуніст. А што, апроч таго, і сын камуніста, тое вынікае з кантэксту.

Тады я пасумняваўся крыху, але хутка пераканаўся ў рэдактарскай мудрасці Барыса Іванавіча, што ўрэшце прывяла яго на высокую пасаду Галоўнага рэдактара БелСЭ. Хоць мы нічога больш не змянілі, у тым выглядзе аповесць пайшла ў

набор. Прэтэнзіяў да яе больш не знайшлося ні ў галоўнага — Паўла Кавалёва, ні ў Галоўліце, ні ў ЦК. Што значыць мудры спрактыкаваны рэдактар! Толькі аўтар пры гэтым адчуваў сябе дурнем, ну але гэта яго прыватная справа. […]

Мы жылі ў ненатуральным, звыродлівым свеце, калі былі адпрэчаны не толькі хрысціянскія запаветы, але і элементарныя меркаванні здаровага сэнсу. Сэнс зрабіўся класавым, партыйным, пралетарскім. Нас заклікалі пісаць праўду, але далёка не кожная праўда дазвалялася ў літаратуры, хіба тая, якая служыла ўладзе. Над рэгламентацыяй праўды шчыравалі партыйныя органы, ім дапамагалі пісьменніцкія начальнікі, цэнзары, рэдактары, «закрытыя» рэцэнзенты, якія за верную службу надзяляліся кватэрамі, пасадамі, навуковымі званнямі, прэміямі. На Дзяржаўную прэмію Беларусі былі вылучаны разам Уладзімір Караткевіч і Барыс Сачанка, дзе слынны класік беларускай культуры быў толькі фонам, бо прэмію, вядома ж, далі Сачанку. Для таго не абышлося без энергічнага ўмяшання ЦК у асобе Івана Антановіча. Усё тое, натуральна, вяло да выраджэння літаратуры. І калі ў ёй паяўлялася не надта пакорнае імя ды яшчэ надзеленае пэўнымі здольнасцямі, наверсе вырашалі, што з ім рабіць. Выпрабаваны спосаб 30-х гадоў, мабыць, ужо апрыкрыў, запатрабаваліся гнуткія спосабы — бізуна ў спалучэнні з пернікам. Глядзелі, які станецца больш выніковым. [...]

У Менску ў тыя гады я бываў часта — то прыязджаючы на якія мерапрыемствы Саюза пісьменнікаў, то ў рэдакцыі па выдавецкіх справах. А то — вяртаючыся з Масквы. Калі да гарадзенскага цягніка заставаўся нейкі час, забягаў на вуліцу Энгельса ў цесны дамок СП, дзе сядзеў Толя Вярцінскі. Ля яго заўжды можна было збавіць час у кампаніі Макаля, Гамолкі ці яшчэ каго з менскіх літаратараў. Там было шумна і часта весела. Але каб пагаварыць пра справы, умоў там не было. Пра справы і штосьці сур’ёзнае звычайна размаўляў з Нілам Гілевічам, калі ён не быў на лекцыях ва універсітэце. Ніл, апроч таго, быў не супроць прыняць чарку, гаворка з ім была цікавая і сур’ёзная — пра жыццё, літаратуру і найбольш — пра мову.

Нацыянальная мова беларусаў, як і сто год таму, зняважліва тапталася на ўсіх узроўнях, выцяснялася расейскай, хаця афіцыйна тое не прызнавалася. Афіцыйна, наадварот, — улады трубілі пра яе росквіт, што давала памылковую падставу думаць пра нейкі недагляд, які можна выправіць. Ніл, як чалавек

эмацыйны, балюча перажываў той моўны стан. Ва універсітэце з дапамогай студэнтаў ён без супынку збіраў і накопліваў фальклор, які выдаваў кніжкамі — адну за адной. Ды фальклор мала каго цікавіў. Школьніцтва на беларускай мове пакрысе марнела, ужо трэба было паездзіць па раёнах, каб знайсці цалкам беларускую школу (як, прыкладам, у Гудзевічах на Гарадзеншчыне). У Менску не засталося ніводнай. А без авалодання беларускай мовай маладымі пакаленнямі рабілася марнай уся беларуская культура. Мы гаварылі, што пры гэткіх тэмпах русіфікацыі праз якіх 20—30 год беларускую кніжку не будзе каму і прачытаць. А мы ж шчыруем менавіта над кніжкай, як шчыравалі нашыя шматпакутныя класікі. Ці не марным стане ўсё тое шчыраванне? Кажуць, Якуб Колас памёр над лістом у ЦК наконт уціску беларускай мовы. Што з таго часу змянілася? Камуністычная партыя ўпарта трымаецца сваёй рускамоўнасці, усё партыйнае кіраўніцтва зверху да нізу працуе толькі на расейскай мове. Па-беларуску выступае адзін міністр фінансаў Шаціла, якому, аднак, хутка на пенсію. І тут самае крыўднае, што нашу нацыянальную праблему не хочуць разумець нашы расейскія калегі нават самай дэмакратычнай скіраванасці. Апроч хіба Валянціна Аскоцкага ды Лазара Лазарава, з якімі давялося гаварыць пра тое, ніхто іншы не выказаў нават цікавасці да лёсу нашае мовы. Ну і што, кажуць, пяройдзеце на расейскую. Што, расейская горшая? — Не, кажу, нават лепшая. Але...

Што *але*, ужо не было ахвоты тлумачыць.

Тагачаснае кіраўніцтва СП у асобах Броўкі, Шамякіна, Танка было нібы спаралізаванае моўнай праблемай і баялася нават загаварыць пра яе. [...]

Улетку восемдзесят трэцяга года давялося паехаць у Кёльн на пісьменніцкі кангрэс. Дэлегацыя з Масквы была невялікая, пад старшынствам Сяргея Міхалкова: Еўтушэнка, Распуцін, Межэлайціс, я ды яшчэ нехта. Цудоўны надрэйнскі горад, які, як і шмат іншых заходненямецкіх гарадоў, за пасляваенны час падняўся з попелу ваеннага разбурэння, вабіў прыгажосцю, уладкаванасцю і, вядома ж, славутым Кёльнскім саборам, бліз якога ў гатэлі мы і жылі. Кангрэс праводзіўся ў залі гарадской бібліятэкі. Выступы былі даволі гарачыя — у свеце яшчэ не прастыла людское абурэнне з нагоды задушэння «Пражскай вясны». Савецкія пісьменнікі слаба апраўдваліся, звыкла выкрываючы «падкопы англа-амерыканскага імперыялізму». Але самае яркае выступленне належала Генрыху Бёлю, слухаць

якога на плошчу перад бібліятэкай сабраўся вялізны натоўп гараджанаў. Гэты выдатны нямецкі пісьменнік, змагар з фашызмам і бальшавіцкім таталітарызмам, праціўнік ракетна-ядзернага шаленства, скончыў сваю прамову цытатай з Шэкспіра: «Чума — на оба ваших дома», і ўсе слухачы ў залі і на плошчы наладзілі яму авацыю.

Пад той час я ўжо ведаў з успамінаў Бёля і ягонай аўтабіяграфіі, што мы з ім па розныя бакі ваявалі ў Малдавіі і пад Ясамі, падобна, удзельнічалі ў адных баях. Там я, кантужаны, вярнуўся ў свой батальён, а Бёль, сімулюючы хваробу, дамогся адпраўкі ў тыл, — такая была рознасць нашых пазіцыяў у той вайне. На перапынку я падышоў да Бёля і напомніў яму пра нашу вайсковую агульнасць. Бёль пасмяяўся і сказаў, што калі не цяпер, дык пасля мы зразумеем, што абодвух нас выкарысталі ў бруднай справе забойства дзеля ўлады аднолькава злачынных сілаў. Мабыць, ён меў рацыю, хаця тады я не мог цалкам з ім пагадзіцца. Усё ж я ў вялікай меры заставаўся *саўком*, у той час як нобелеўскі лаўрэат Бёль сягаў высока і глядзеў на свет Божы інакш — шырака і непадлегла. Ва ўсякім разе я заўжды з вялікай цікавасцю чытаў тое нешматлікае з ягонай публіцыстыкі, што паяўлялася на расейскай мове. Што ж да ягонага ўплыву на еўрапейскую свядомасць, дык яна была доўгай і неаспрэчнай. Толькі пасля ягонай смерці ў 1985 годзе значэнне асобы Бёля ў Еўропе пачало цьмець. Але тады на яго месца ў Нямеччыне прыйшлі ягоныя маладзейшыя аднадумцы, такія, як, напрыклад, Гюнтэр Грас, што прадоўжылі гуманізм вялікага немца. […]

На дзень народзінаў Аляксандра Салжаніцына я паслаў яму віншаванне і неўзабаве атрымаў ліст у адказ. Адносіны тады паміж інтэлігенцыяй і ўладамі ўсё пагаршаліся, і Аляксандр Ісаевіч суцяшаў, што ўсё будзе добра. Што ён глядзіць у будучыню з аптымізмам. Тое, вядома, абнадзейвала.

І праўда, увосень Шведская акадэмія прысудзіла Салжаніцыну Нобелеўскую прэмію, з якой я і некаторыя мае сябры з Менску павіншавалі лаўрэата. Пасля ён і яшчэ прыслаў ліст, а затым і яшчэ некалькі. Выехаць на Захад Салжаніцын не мог, дык было вырашана ўручыць яму прэмію ў Шведскай амбасадзе ў Маскве. Салжаніцын прыслаў мне запрашэнне на цырымонію ўручэння.

Але ўлады стрываць таго, напэўна, не маглі і прымалі свае д’ябальскія меры. Найперш шырокім патокам праз прэсу і

тэлебачанне ішла кампраметацыя Салжаніцына як франтавіка, пісьменніка і грамадзяніна, ён аб'яўляўся здраднікам, паліцаем, уласаўцам. Яго праследвалі па месцы жыхарства, і ён нейкі час жыў на лецішчах пад Масквой, у гаражы Растраповіча, пасля перабраўся ў Маскву. За ягоных сяброў і знаёмых таксама ўзяліся, патрабуючы ад іх выступаў супраць «уласаўца». Газеты друкавалі лісты з подпісамі слынных інтэлігентаў супраць Салжаніцына і Сахарава, звароты працоўных калектываў, якія патрабавалі кары здрайцам. [...]

Паляванне на пэўных пісьменнікаў прадаўжалася, і я з'ехаў у Маскву. Там нейкі час туліўся на гасціннай кватэры Грышы Куранёва. Цэкоўцы і кадэбісты шукалі мяне ў Горадні і Менску, у Маскве мяне было не знайсці. А некаторыя масквічы ў той час з'язджалі ў іншыя гарады. Бакланаў, напрыклад, тыдзень ці болей інкогніта жыў у Ленінградзе ў рэжысёра Хейфіца. Яго таксама дужа шукалі. Каб запэцкаць і выкарыстаць.

Але колькі дзе ні хавайся, урэшце мусіш вярнуцца дадому. Вярнуўся і я. Трохі пажыў на кватэры, туляючыся, бы злачынца.

А праз колькі дзён пазванілі з Менска, клікалі, каб ехаць у Магілёў. Я падумаў, што тое будзе дарэчы, і прыехаў у Менск. Адтуль на аўтобусах павезлі ў Магілёў.

У Магілёве былі нейкія выступы і сустрэчы з удзелам вялікае групы беларускіх пісьменнікаў на чале з Іванам Шамякіным. Пасля абеду паехалі на галаўное магілёўскае прадпрыемства — капралактамавы камбінат. Пашвэндаўшыся па цэхах, зайшлі ў кабінет дырэктара, дзе той, як звычайна, пачаў распавядаць пра поспехі прадпрыемства. У сярэдзіне яго расповеду расчыняюцца дзверы, і элегантна апрануты мужчына пытаецца: «Хто тут Быкаў? Тэрмінова выклікае Менск». Я спалохаўся — ці не здарылася кепскае дома — і выйшаў з кабінета. Аказалася, трэба ехаць у абкам да прамога проваду. Машына і шафёр чакаюць. Прадчуваючы кепскае, пайшоў да машыны.

У пустым кабінеце першага (быў выхадны) чамусьці доўга не ладзілася з тэлефонам, мабыць, злучалі з рознымі абанентамі. Нарэшце далі трубку, у якой я пазнаў голас аднаго тагачаснага беларускага цэкоўца. Ён ветліва і ціха паведаміў, што ў ЦК КПСС ёсць ліст слынных дзеячаў культуры, якія рашуча асуджаюць падрыўную дзейнасць Сахарава і Салжаніцына. Ад Беларусі той ліст падпісаў Мележ, трэба, каб быў і подпіс Быкава. Я сказаў, што той ліст не чытаў, таму падпісваць яго не магу. Ён сказаў, што то мая справа, але ён павінен папярэдзіць

аб магчымых наступствах. Я, не развітаўшыся, паклаў трубку і выйшаў з кабінета.

Тая ж машына адвезла мяне на хімкамбінат, але пісьменнікі адтуль ужо з'ехалі. Да гатэля я дабіраўся самапасам. А як прыехаў, ці не ўсе мае калегі сядзелі перад тэлевізарам, глядзелі праграму «Время». Знаёмая дыктарка якраз чытала той самы ліст з «Правды», дзе група савецкіх пісьменнікаў асуджала Сахарава і Салжаніцына. З асаблівай інтанацыяй пералічыла падпісантаў, у тым ліку і маё прозвішча. Мае калегі ажывіліся, некаторыя павярнуліся да мяне. Іван Чыгрынаў моўчкі, але выразна пацінуў руку. Іншыя нядобра нахмурыліся. Я быў разгублены і падаўлены...

З тым жа настроем прыехаў у Менск. Усё думаў, што рабіць? Ад аднаго дасведчанага чыноўніка з ЦК дазнаўся, што ўсё вырашалася ў Маскве, а беларускаму толькі загадалі перадаць, што ён і зрабіў са спазненнем. Праз дзень вярнуўся ў Горадню. Карпюк быў абураны, як я яму распавёў маю гісторыю. Сказаў, што трэба пісаць. Куды? Скрозь. Усюды. Я патэлефанаваў у Маскву Сяргею Залыгіну, імя якога таксама значылася пад тым лістом. Сяргей Паўлавіч сказаў, што, на жаль, не можа аб тым гаварыць па тэлефоне, няблага, калі б я прыехаў у Маскву. Я хутка сабраўся і паехаў.

Залыгіна застаў дома, ён пачуваўся не лепшым чынам і ціха распавёў, што ўсё тое — вялікая правакацыя, учыненая Шаурам ды іншымі. Іх па адным выклікалі ў ЦК і там проста выкручвалі кожнаму рукі, дамагаючыся подпісу. Верныя партыйнай дысцыпліне камуністы-пісьменнікі, хоць і неахвотна, змушаныя былі падпісаць. Залыгін жа, спаслаўшыся на сваю беспартыйнасць, спрабаваў адмовіцца. Тады перад ім паставілі пытанне: з кім ён — з імі ці з намі? Яны хутка апынуцца на лаве падсудных, як бы не далучылі да іх і вас. Залыгін толькі нядаўна перабраўся ў Маскву, атрымаў неблагую кватэру, меў нейкія літаратурныя і выдавецкія планы (пасля стаў галоўным рэдактарам «Нового мира»), а тут такі зверскі выбар. І ён падпісаў. «Але ж я не падпісваў!» — сказаў я. — «Ну дык ты ж — у правінцыі. У правінцыі ўсё прасцей. І страшней», — сказаў Залыгін, які толькі месяц таму выбраўся з сібірскай правінцыі.

Мы доўга гаманілі і думалі ў той вечар. Я застаўся начаваць у Залыгіных. Вырашылі прыдумаць што заўтра. Найперш належала перапрасіць Аляксандра Ісаевіча. Зранку пачалі званіць па знаёмых. Нехта даў тэлефон Растраповіча, дзе нейкі час жыў

Салжаніцын. Але той тэлефон не адказваў, а аўтаадказчыкаў тады не было. Не адказваў і маскоўскі тэлефон будучай жонкі Салжаніцына. Нехта з агульных знаёмых сказаў, што Аляксандр Ісаевіч з'ехаў. Напэўна, за мяжу. Тут яго не знайсці. Тады я напісаў ліст у ЦК, Залыгін памагаў. Але ў ніводны пад'езд на Старой плошчы мяне не пусцілі. Давялося аднесці ліст на пошту, адправіць заказным. Адказу на яго не атрымаў ніколі.

Пайшоў у часопіс, дзе працаваў Лазар, які пад той час пісаў кнігу пра маю творчасць, і я хацеў параіцца з ім. Выйшлі на вуліцу, пагаманілі, штораз азіраючыся. Мудры Лазар мяне суцешыў: «Не тузайся, не апраўдвайся, нічога нікому не тлумач. Тыя, што цябе ведаюць, усё зразумеюць без слоў, а хто не ведае, таму не растлумачыш. Хай застаюцца пры сваім».

Тым не менш тлумачыць давялося — тады і пасля. Некаторыя слухалі і маўчалі. Некаторыя абураліся. Я пачуваўся вінаватым. Але што можна было зрабіць?

Пасля Аляксандра Салжаніцына выслалі з краіны, і я з ім не пабачыўся і не павініўся. Было дужа няёмка. Я праклінаў тых, што ўчынілі такое нялюдства... Шмат гадоў пасля адзін адказны працаўнік ЦК КПСС па шчырасці растлумачыў мне, што тое было зроблена дзеля майго паратунку. Інакш яны змушаны былі б скіраваць мяне следам за Салжаніцыным. […]

Вельмі шкада было пакідаць Горадню, якая стала для мяне роднай, але мусіў перабрацца ў Менск. […]

Увосень на дзевяностым годзе жыцця ў вёсцы Ваўчо пад Вушачай памерла мама.

Апошнія гады яе жыцця, як і шмат якіх старых маці, былі азмрочаны бытавой неўладкаванасцю, псіхалагічнай несумяшчальнасцю. […]

Альбер Камю свой апошні раман прысвяціў маці, якая не магла яго прачытаць з прычыны свае непісьменнасці, што, аднак, не зменшыла яе гонару за выдатнага сына. Мая мама таксама не прачытала ніводнага радка з маіх твораў і таксама праз сваю непісьменнасць. Бацька быў пісьменны, але на той час, як сын пачаў друкавацца, нічога чытаць не мог, бо не бачыў, а акуляраў не меў. Прасіў каго пачытаць сынава апавяданне, як сам калісь чытаў малому «Гой» Міхася Лынькова. Параўноўваў і казаў, што ў Лынькова было лепш — цікавей.

Маму хавалі ў цёплы сонечны дзень бабінага лета. Намеснік старшыні райвыканкама даў аўтамабіль і нават арганізаваў невялічкі аркестрык. На такія паховіны сышлося нямала на-

роду. Труну павезлі цераз Вушачу на бычкоўскія могілкі, дзе мама і лягла поруч з бацькам. Шкада, што болей там месца не засталося — далей яма. Брата Міколу, які памёр летась, пахавалі на другім канцы могілак...

Вельмі шмат цяжкога і нават беспрасветнага звязана ў мяне з маёй малой радзімай, куды, аднак, ездзіў ці не кожны год. Але пакуль жывыя былі бацькі. Як перасталі жыць, кожны раз, вяртаючыся адтуль, казаў сабе: «Ну, гэта апошні раз, больш не паеду». Ды мінаў час, наставала лета (ці вясна, ці восень) і ехаў зноў. І зноў казаў сабе: «Ну, гэта ўжо канчаткова апошні». Дужа мала радасці набіраўся я там, а засмучэння — звыш меры. Але ў тым, мабыць, і ёсць горкая слодыч жыцця... А можа, і яго натуральны сэнс. […]

Дапісваў аповесць[21] у Менску, на Танкавай, — усю восень і пачатак зімы. Не сказаць, каб яна давалася мне дужа цяжка — матэрыял быў знаёмы, нейкаю часткай перажыты самім. Асабліва той, што мела адносіны да 30-х гадоў. Уражлівая дзіцячая памяць захавала шмат якія адзнакі побыту і драмаў таго незвычайнага часу. Што ж да вайны, дык тут таксама мог што-нішто сабе ўявіць, хоць сам на акупаванай тэрыторыі не жыў. Трэба сказаць — дзякаваць Богу, што таго не давялося, пазбег не толькі небяспекі, але і пэўнага знаку ў біяграфіі. Людзям з тым знакам доўга не давалі аб ім забыцца.

Пісаў паслядоўна, апроч хіба ўстаўнога сюжэтнага кавалка, які стаўся нібы ядром у арэху, — той уставіў пасля. Тое ядро было важнае для тэмы, бо якраз і несла ў сабе галоўны ідэйны знак — знак нацыянальнай бяды. Так бы мовіць — мала было калектывізацыі, дык яшчэ і акупацыя. І ўсё тое наканавана было перажыць рэліктавым хутаранцам — Сцепанідзе з Петраком. Інстынктыўна Сцепаніда адчувала кірунак, з якога ўвесь час імкнецца на іх бяда, — то быў мост. Дужа яна хацела яго панішчыць, каб канчаткова адасобіцца, ад’яднацца — тое для беларускіх хутаранцаў было важней за ўсё.

Ды менавіта таго ніколі і нідзе не ўдавалася, не зважаючы на ўвесь драматызм спробаў. Сцепанідзіна бомба была наканавана для іншага. […]

Асабіста я прычыніўся да моўнай справы не ўпершыню. Год таму надрукаваў у «Известиях» артыкул менавіта ў абарону мовы, нядаўна з тым жа выступаў па маскоўскім тэлебачанні ў прамым эфіры. Тады маім калегам у студыі НТВ быў выдатны ўкраінскі пісьменнік Уладзімір Яварыўскі, і мы ўдвух

звярталіся да расейскай інтэлігенцыі дапамагчы нам абараніць нацыянальныя святыні. Водгуку, на жаль, ніякага не мелі. Зянон Пазняк надрукаваў у эстонскім часопісе «Радуга» выдатны артыкул, прысвечаны лінгвацыду нашае мовы. Нямала выступалі ў абарону мовы Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Анатоль Вярцінскі ды іншыя пісьменнікі. Цяпер мы ўпершыню звярталіся непасрэдна да генеральнага сакратара ЦК КПСС.

Ні на што не спадзеючыся, чакалі, аднак, адказу. Некаторыя пачалі жартаваць: «Ну, цяпер мову ўзаконяць, прымусяць кіраўніцтва загаварыць па-беларуску». Іншыя толькі крыва ўсміхаліся. Выказвалася такая думка, што Машэраў, калі б не загінуў, вярнуў бы мову ў Канстытуцыю БССР. Але іншыя казалі, што не вярнуў бы, бо сам яе і вывеў. Ды і наогул невядома, ці ведаў ён хоць бы слова па-беларуску... […]

Між тым адказу падпісантам з ЦК КПСС доўга не было, хаця ніхто яго дужа і не чакаў. І раптам навіна — прыехала камісія разбірацца з праблемай мовы ў Беларусі. Пачалі выклікаць, як і належала, — сакрэтна, па адным, у асобны кабінет будынка ЦК. Мяне паклікалі ці не адным з першых. У кабінеце сядзелі два надзьмутыя чыноўнікі са Старой плошчы, тут жа прыткнуўся Іван Антановіч. Гутарка скіроўвала такім чынам, што падпісанты не разабраліся, прыватныя факты («факцікі») выдалі за тыповыя і ў выніку напісалі няпраўду, што кладзе пляму на партыйную палітыку ў Беларусі. Мова беларусаў нармалёва функцыянуе, паспяхова развіваецца, агульныя тыражы беларускамоўных газетаў у параўнанні з мінулай пяцігодкай узраслі на ... працэнтаў. 80 працэнтаў усіх школаў у Беларусі беларускамоўныя. «Ды няма ніводнай беларускай школы!» — не ўстрымаўся я. Чыноўнік адразу змоўк. Ён не прывык, каб яму пярэчылі ці нават яго перапынялі. Памаўчаўшы, сказаў, што заўтра яны паедуць па абласцях і на месцы пазнаёмяцца з моўнай абстаноўкай.

Праз колькі дзён паклікалі зноў. Другі раз Антановіча не было, у кабінеце сядзелі толькі масквічы. Яны бадзёра паведамілі, што ездзілі на Гродзеншчыну, асабіста зайшлі ў выпадковую на іхнім шляху школу, і тая школа аказалася цалкам беларускай. «Якая гэта школа? — запытаўся я. — Напэўна, у Гудзевічах?» Чыноўнік збянтэжана ўставіўся на мяне: «А вы адкуль ведаеце? Хто вам сказаў?» — «Каму ж не вядома, дзе ў нас беларуская школа напаказ? У Гудзевічах. Там і настаўнік

такі — беларускі энтузіяст Белакоз». Тыя два зазірнулі ў паперку — так, Белакоз, ага...

Здаецца, я ім штось сапсаваў, ці, можа, мне так здалося. Наўрад ці іхні спектакль можна было чымсь сапсаваць...

Як і трэба было чакаць, карысці з нашага ліста было няшмат, нічога ў моўнай праблеме не змянілася. Змаганне за яе даўно набыло хранічны характар, то разгаралася, то затухала без якіх-небудзь вынікаў. Але на той раз нікога не пасадзілі, не звольнілі з працы — і то вынік. Усё ж, здаецца, набліжаліся іншыя часы, якія неслі надзею. […]

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» выдала некалькі тамоў майго Збору твораў. Надышла чарга двух апошніх, і я здаў у рэдакцыю рукапіс «Мёртвым не баліць». Гэтая аповесць асобнаю кніжкай у Беларусі не друкавалася (у Расеі таксама), упамінак пра яе не дазваляўся. За тым пільна сачыў сам куратар савецкай цэнзуры, намеснік загадчыка ідэалагічнага аддзела ЦК КПСС.

Але час быццам змяніўся. З моманту першай часопіснай публікацыі аповесці мінула болей за дваццаць гадоў, і выдавецтва вырашыла, што ў Зборы твораў аповесць можна надрукаваць. Тым болей, як паведаміў мне дырэктар Міхал Хведаравіч Дубянецкі, яна значылася ў каталозе і на кніжнай ярмарцы сабрала нямала кантрактаў. ЦК КПБ у асобе А. Кузьміна таксама не пярэчыў супраць яе выдання. Рэспубліканскі Галоўліт паставіў свой штамп, і рукапіс быў адпраўлены на паліграфкамбінат.

Ды выдаўцы і іх аднадумцы, відаць, не ўлічылі аднаго моманту — пільнасці ўнутраных сексотаў. І вось менавіта з іхняй ініцыятывы ў Менск з маскоўскага Галоўліта прыйшоў загад аповесць Быкава не выдаваць. Дубянецкі паведаміў мне пра тое і раззлаваны сказаў, што ён паслаў у Маскву тэлеграму на імя сакратара ЦК тав. Зімяніна, дзе скардзіцца і пратэстуе. Усё ж і Зімянін, і Сеўрук — нашыя землякі, павінны ж яны паспачуваць сваім людзям.

Бедны і наіўны, нягледзячы на свой партыйны вопыт, Міхал Хведаравіч, на што ён спадзяваўся! Я распавёў яму пра выпадак з вайны, калі адзін з паліцаяў расстрэльваў групу землякоў, сярод якіх быў ягоны стрыечны брат. Паліцай быў добры чалавек і як для брата зрабіў выключэнне — падаслаў яму ў магілку свежага хвойнічку. Усё ж брат... Дубянецкі мне не паверыў, сказаў: вось убачыце, яны свой загад адменяць. Трэба пачакаць адказу.

Замест іхняга адказу ён неўзабаве дачакаўся выкліку ў ЦК КПБ, строгай вымовы і ўрэшце — адстаўкі. Пазней з руплівым заступнікам за беларускую літаратуру здарыўся інфаркт, пасля якога ён хутка апынуўся на Паўночных могілках.

Але тады прыгоды са злашчаснай аповесцю працягваліся. Паклікаўшы мяне пасля Дубянецкага, Кузьмін сказаў, што трэба ў аповесці нешта перарабіць, хаця б для прыліку памяняць словы, ці што? Тое дасць падставу паведаміць у Маскву, што аўтар грунтоўна перапрацаваў твор. Я трохі падзівіўся наіўнасці Аляксандра Трыфанавіча, але зрабіў так, як ён раіў, — трохі пачысціў стыль. І праўда, аповесць у такім выглядзе (надта, дарэчы, знявечаным пасля шматлікіх рэдагаванняў) і была надрукаваная ў апошнім томе майго Збору твораў. На гэты раз Сеўрук не мог дамагчыся свайго і адступіў — вырашыў дабраць у іншым. […]

Але пакуль што ідэя справядлівасці і асуджэння сталінскіх рэпрэсіяў была яшчэ моцнай, асабліва сярод нацыянальнай інтэлігенцыі. Паводле ініцыятывы Зянона Пазняка было вырашана стварыць адмысловае таварыства — Беларускі мартыралог з перспектывай ператварэння яго ў іншую, болей радыкальную арганізацыю. Пасля Пазняк скажа, што пра яе стварэнне, апроч яго, ведалі Дубянецкі і Быкаў, але тое не зусім так. Кастрычніцкім надвячоркам я ішоў у Чырвоны касцёл, як і шмат хто, для стварэння Мартыралога. Туды ж прыйшлі некаторыя пісьменнікі і мастакі — Максім Танк, Ніл Гілевіч, Анатоль Вярцінскі, Рыгор Барадулін, Уладзімір Калеснік, Міхал Дубянецкі і шмат іншых.

Аднак і другі бок прыняў свае меры і няблага падрыхтаваўся. Каб заняць месцы ў зале і не дапусціць іншых, за гадзіну да пачатку туды папрыходзіла маса кадэбістаў у штацкім, сакратары гаркама, прадстаўнікі пракуратуры на чале з намеснікам генеральнага пракурора Кандрацкім. Самы першы прыйшоў з ЦК інструктар Бузук, які, мяркуючы па ўсім, меў выразнае заданне сарваць сход.

Я таксама прыйшоў крыху раней і забег у кабінет дырэктара Дома кіно, якім тады быў Чырвоны касцёл. Там якраз і стаўся сведкам таго, як гэты Бузук схапіўся з Пазняком — наконт маючай адбыцца імпрэзы. Пазняк даў яму добры адлуп, і я падумаў тады: «Цвярды характар! Каб такіх болей у Беларусі».

Зала ўжо была поўная, заняў свае месцы прэзідыум. Кіраваць усім, здаецца, узяўся Міхал Дубянецкі, які сядзеў

поруч са мной. Належала абраць кіраўнічыя органы Мартыралога, тут і ўсчаўся вэрхал. Асабліва як настала чарга абраць старшыню. Нахіліўшыся да мяне, Дубянецкі сказаў: зараз пасыпяцца прапановы Быкава. Ужо таго я дапусціць не мог і, устаўшы, запрапанаваў Пазняка.

У залі настаў шум, гоман і крыкі тых, што прыйшлі сюды з намерам сарваць сход. Нешта супраць Пазняка даводзіў пракурор Кандрацьеў, істэрычна выкрыквала з месца сакратарка гаркама. Дубянецкі з трыбуны аб'явіў галасаванне, але як дайшло да Пазняка, да яго падскочыў Бузук, пачаў спіхваць з трыбуны. Зала абурана крычала. Тады я ўстаў з-за стала і прапанаваў прадоўжыць галасаванне. «Хто за, хто супраць, аднагалосна!» — аб'явіў я, як гэтаму навучыўся на сесіях Вярхоўнага Савета. На тым усё скончылася. Старшынёй Мартыралога быў абраны Зянон Пазняк.

І тады хтось (не памятаю, хто) прапанаваў з залі: лічыць абраны камітэт Мартыралога — аргкамітэтам Народнага фронту. Зала аглушальна запляскала, тыя апладысменты палічылі за згоду. Апаненты былі ў ярасці, сцяміўшы, што ашукаліся. Але ўжо нічога нельга было перарабіць, пратакол сходу пісаўся без іх. Як і гісторыя Беларусі таксама. Прынамсі, мы так меркавалі, віншуючы адзін аднаго з перамогай. […]

Якраз у гэты час — праз дзень ці два — насоўваліся Дзяды, меркавалася прыняць у іх удзел. Але на пасяджэнні БНФ рашылі, што паколькі Дзяды — свята рэлігійнае, дык удзел у іх — справа асабістая. Я тады грыпаваў і на могілкі не пайшоў. А менавіта там разгарнуліся трагічныя для менчукоў падзеі. Як тысячы іх падышлі ад станцыі метро да могілак, там ужо нарыхтаваліся шэрагі войска і міліцыі — з «варанкамі», аўтобусамі і нават вадамётамі. Людзей пачалі разганяць, біць, арыштоўваць, труціць газамі з партатыўных балончыкаў. Атруцілі і Пазняка, які ішоў на чале калоны. Але Пазняк не саступіў. Ён скіраваў натоўп на ўскраіну і павёў да Курапатаў. Аднак і там шлях калоне перагарадзілі войскі. Тады Пазняк завярнуў усіх у поле. І ў чыстым полі пад сняжком, які сыпаў з хмарнага неба, адбылося набажэнства. Угары развяваўся белчырвона-белы сцяг, выступалі прамоўцы і сярод іх пісьменнік Уладзімір Арлоў. Тады і пасля шмат людзей апынуліся збітыя і затрыманыя ў пастарунках.

Ранкам я звязаўся з маскоўскім часопісам «Огонёк» (рэдагаваным тады В. Кароцічам), які быў самым радыкальным

друкаваным органам краіны і шмат пісаў пра перабудову. У рэдакцыі сказалі, што прышлюць у Менск спецкора, але матэрыял пра інцыдэнт патрэбны тэрмінова ў нумар. Ноччу я напісаў артыкул, перадаў яго па тэлефоне, і ён хутка з’явіўся ў «Огоньке». Артыкул называўся «Дубінкі замест перабудовы». Гэта быў першы матэрыял наконт падаўлення нацыянальна-вызвольнага руху ў Беларусі. […]

Вярнуўся ў Менск і адразу трапіў у вір палітычнай барацьбы, якая ваўсю разгортвалася ў беларускай сталіцы. БНФ адразу пасля стварэння кінуўся апеляваць да народа, заклікаў яго на вуліцы. Народ не надта ахвотна рэагаваў на палымяныя заклікі Пазняка, але патроху збіраўся, слухаў прамоўцаў на мітынгах. Пазняк ставіў вельмі радыкальныя мэты, якія ў адных выклікалі сумнеў, іншых палохалі менавіта сваім радыкалізмам. Часта засядаў сойм, у якім мы з Барадуліным стараліся рэгулярна ўдзельнічаць. Рыгор выступаў коратка, але заўсёды востра і змястоўна. Якіх-небудзь умоваў для палітычнай работы не было, памяшкання для пасяджэнняў сойм не меў і збіраўся ў выпадковых будынках — школах, музеях, часам у Доме літаратара, пакуль ён належаў пісьменнікам. Тады ж у Доме літаратара адбыліся паховіны Міхася Ткачова, які памёр ад наступстваў збіцця на Мсціслаўшчыне. А перад тым ён з’ездзіў у Горадню на пахаванне Аляксея Карпюка. Той памёр улетку, цяжка памучыўшыся ад рака страўніка. Мала яму было пры жыцці іншых пакутаў... І нават у апошнія гады, калі старыя камуністы абвінавацілі яго ў газетах, што ён няправільна паказвае калектывізацыю, у брыдкіх выразах абразілі аўтара. За абразу Карпюк падаў у суд і выйграў яго, абвясціўшы кошт уласнай знявагі — адзін рубель. Ягоныя праціўнікі толькі пасмяяліся: Карпюковы сарказм да іх не дайшоў... Неўзабаве за знявагі і паклёп яны навучыліся спаганяць мільёны — дзеля патрэбаў дзіцячых садкоў. Самі ўжо нахапаліся, самім стала не трэба. […]

Пробным каменем новай палітыкі Гарбачова стала нацыянальная праблема (Грузія, Арменія, Азербайджан, Цэнтральная Азія, Прыбалтыка). Нават недасведчанаму чалавеку было зразумела, што гэтыя народы імкнуцца да свабоды і незалежнасці, што яны даволі нажыліся ў турме, якая звалася СССР. Імперцы таго не разумелі. Я тады кантактаваў з прыбалтамі — эстонцамі і літоўцамі, якія ўзялі выразны курс на незалежнасць і пачалі паслядоўна яе дамагацца. Для таго патрэбна было прызнаць

незаконнасць сакрэтных пратаколаў да пакту Рыбентропа — Молатава.

Але каб зрабіць так, спярша трэба было знайсці тыя пратаколы. Дыпламаты і кадэбоўцы даводзілі, што пратаколы — фальсіфікацыя Захаду. Намаганнямі дэмакратаў была створана адмысловая камісія, якую ўзначаліў Ландсбергіс і ў якую ўвялі і мяне. Нам належала даказаць, што апублікаваныя на Захадзе копіі тых дакументаў — сапраўдныя. [...]

На перапынку паміж пасяджэннямі мне давялося спаткацца і пагутарыць з Андрэем Сахаравым. Дэпутаты стаялі ў чарзе да буфэтчыцы, як у дзвярах паявіўся Сахараў. Ён быў яўна разгублены, убачыўшы чаргу, і спыніўся, не ведаючы, куды стаць. Бальшыня ў чарзе ставілася да яго варожа, толькі нядаўна яго спрабавалі сагнаць з трыбуны. Тады я выйшаў з чаргі і прапанаваў яму сваё месца. Сахараў падзякаваў, але ў чаргу не стаў. Мы сталі ўдвух асобна ад іншых і размаўлялі. Андрэй Дзмітрыевіч сказаў, што чытаў мае кнігі і хоць сам у вайне не ўдзельнічаў, але верыць беспамылковай рэакцыі на іх жонкі Елены Бонар, якая ёсць франтавічка і была нават паранена. А што да маральнай каштоўнасці кніг, дык тая бясспрэчная. Я ў сваю чаргу распавёў акадэміку, як супраць яго і Салжаніцына дамагаліся подпісаў ад пісьменнікаў, падтрымаў яго барацьбу і сённяшняе выступленне наконт Афганістана, дзе савецкія лётчыкі спрабавалі разбамбіць сваіх, каб яны не трапілі ў палон. Тое выклікала буру пратэсту ў зале, ветэран-інвалід выступіў з гнеўнай водпаведдзю ў тым сэнсе, што факта расстрэлу не было, бо не магло быць ніколі.

Так сталася мая першая і апошняя гутарка з гэтым чалавекам. Ноччу Сахараў памёр у сваёй кватэры, а праз два дні дэпутаты ехалі на аўтобусах яго хаваць. [...]

У залі пасяджэнняў сярод беларускай дэлегацыі наспеў канфлікт, да якога прычыніўся і я. Спатрэбілася даабраць дэпутатаў у Вярхоўны Савет. Дэмакратычна настроеная частка дэпутатаў памкнулася вылучыць сваіх — Шушкевіча ці Дабравольскага. Але тою справай заклапоціўся Сакалоў, ён правёў галасаванне па «спрошчанай» схеме — у залі, са сваіх месцаў. Падлічваць галасы даручыў кадэбісту Балуеву, які сядзеў насупраць мяне. Я адразу падняў руку супраць усіх іхніх кандыдатаў, ды, вядома ж, застаўся ў пройгрышы, абралі камуністаў. Тады я не стрымаўся і, мабыць, празмерна рэзка, а то і зняважліва вымавіў Сакалову. Ленінградскі следчы Іваноў,

што сядзеў недалёка і назіраў тую сцэну, сказаў мне: «Смела вы, аднак». Можа, і смела, але па-дурному і бескарысна, бо нічога тым не дамогся. А галоўнае, сабе на шкоду, — пасля паглытаў таблетак. […]

У адну з апошніх маіх паездак на радзіму я прыдбаў ідэю-сюжэт аповесці «Аблава».

Знаёмы кубліцкі чалавек распавёў пра выпадак з 30-х гадоў, як у нас праходзіла калектывізацыя і з ёй — раскулачванне, высылкі, рэпрэсіі. Адзін селянін быў сасланы з сям'ёй пад Архангельск, там напакутваўся, пахаваў жонку, малую дачку і вырашыў уцякаць на радзіму. Як ні дзіўна, тое яму ўдалося. Праз шмат прыгодаў-пакутаў, адолеўшы тысячу кіламетраў, ён апынуўся на родным котлішчы і соладка, на адзіноце паплакаў. Але на тым і скончылася ўсё яго шчасце вяртання. У дарозе яго ніхто не ведаў, а тут пазнаў першы ж сустрэты ранкам сусед. І ўжо надвячоркам на яго пачалі паляваць, наладзілі аблаву, у якой (во драма!) змушаны быў прыняць удзел і ягоны сын, што ў свой час адрокся ад бацькі і ўступіў у партыю. Бацька ўтапіўся ў балоце, але з чым застаўся жыць яго сын? […]

У наступных падзеях бурна чаргавалася надзея з паняверкай, спадзяванкі з расчараваннем. Былі моманты, калі здавалася, што наша доўгачаканая ісціна — ужо побач, трэба яшчэ адно-два намаганні, і мы будзем мець тое, пра што беларусы марылі доўгія стагоддзі. Але назаўтра высвятлялася, што ўсё перамянілася за адну ноч, і наша надзея апыналася адкінутай у пазаўчарашні дзень. Усё трэба было пачынаць спачатку. Але хто вінаваты? Адны казалі — Масква, яна не дае дыхнуць залежным народам і, апантаная імперскай ідэяй, ніколі не пагодзіцца з незалежнасцю Беларусі. Іншыя думалі, што ўся справа ў стаўленні да нас Захаду. Захаду даражэй адносіны з імперскай Масквой, чым з няпэўнай Беларуссю. Ці не ўсе пры тым сцвярджалі, што ў нашай бядзе найболей вінаваты мы самі, бо яшчэ не ўсвядомілі боскай каштоўнасці свабоды і незалежнасці.

Мабыць, горш за ўсё было тое, што ўсе гэтыя меркаванні мелі рацыю. […]

Некалі Алесь Адамовіч казаў, што пры засіллі звыродлівай улады і абмежаванасці прыродных рэсурсаў Беларусі трэба займець вельмі значную (вялікую!) ідэю, якая вывела б яе у склад сучасных краінаў. Гэта — праўда. Нацыянальная ідэя — важны чыннік прагрэсу, а то і фізічнага існавання ў

свеце. Расея, напрыклад, увайшла ў заняпад, бо зжыла сваю імперскую ідэю і цяпер паўстала перад праблемай вынаходства новай. Але што да Беларусі, дык у яе ёсць важная і аж занадта актуальная ідэя, гэта — свабода і незалежнасць. Ідэя класічная, увасаблення якой даўно дамагліся шмат якія краіны свету, пабудавалі на ёй свой нацыянальны лёс. А беларусы ўсё яшчэ дыскутуюць, ці варта дамагацца таго? Ворагі беларушчыны, вядома ж, даводзяць: не варта, ёсць лепшая ідэя — няволя і залежнасць, яна дае хлеб. (І бензін, і газ, і прамтавары.) Амаль як у Бібліі: заваюйце нас, але накарміце нас. Або яшчэ сцвярджаюць, што Беларусь не можа існаваць незалежна ў наскрозь залежным, драпежным свеце, дзе ўсё вырашаецца сілай. Але ж іншыя, куды слабейшыя за Беларусь еўрапейскія краіны існуюць і жывуць няблага. Ніхто не занявольвае цяпер маленькую Швейцарыю, Аўстрыю, Венгрыю, Данію ні нават Люксембург з Андорай, а іхняя эканамічная залежнасць ад вольнага свету толькі служыць ім на карысць. Мабыць, з часоў сярэднявечча шмат што змянілася ў свеце і дае магчымасць народам жыць і нават развівацца. Сучасны агульнапрызнаны гарант устойлівасці тых зменаў — Амерыка з яе эканамічнай магутнасцю і традыцыйным дэмакратызмам.

Народы, якія на пачатку трэцяга тысячагоддзя ад Хрыстовага нараджэння не засвоілі гэтае ісціны, рызыкуюць не засвоіць яе ніколі. І навек застацца рабамі — найперш уласнае цемры і ляноты. […]

*Сакавік 2002 г.*
*Франкфурт-на-Майне*



# КАМЕНТАР

У аднатомнік Васіля Быкава ўвайшлі яго найбольш значныя творы — аповесці, якія сталі хрэстаматыйнымі і ўвайшлі ў школьныя і універсітэцкія праграмы, апавяданні і прыпавесці, у якіх асабліва яскрава выявілася гісторыя беларусаў мінулага стагоддзя і сама беларуская натура, нацыянальны характар. У раздзел публіцыстыкі ўключаны праграмныя прамовы і выступленні пісьменніка, якія сёння ўспрымаюцца як яго своеасаблівы духоўны запавет. Фрагменты кнігі ўспамінаў «Доўгая дарога дадому», падрыхтаванай самім Васілём Быкавым да друку, змяшчаюць малюнкі і эпізоды яго жыцця, у якіх найбольш глыбока і наглядна адлюстраваўся трагізм беларускай гісторыі і якія леглі ў аснову сюжэта лепшых твораў пісьменніка.

Аб'ём аднатомніка, на жаль, не дазволіў уключыць многія выдатныя творы В.Быкава, якія з'яўляюцца класікай нацыянальнай літаратуры. Пераважная большасць тэкстаў друкуецца паводле Збору твораў ў 6 тамах (1992—1994). Асобныя творы апошніх гадоў публікуюцца паводле зборнікаў «На крыжах» (1992), «Сьцяна» (1998), «Крыжавы шлях» (1998), «Пахаджане» (1999—2000), «Доўгая дарога дадому» (2002).

Тэксты твораў друкуюцца згодна з правіламі сучаснай арфаграфіі і пунктуацыі з захаваннем асаблівасцяў аўтарскай мовы.

## АПОВЕСЦІ

### *Трэцяя ракета (с. 19)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1962, № 2. Пазней аповесць, як і змешчаныя тут дзве іншыя, шматразова перавыдавалася. У перакладзе публікавалася на многіх мовах свету.

### *Знак бяды (с. 143)*

Упершыню — час. «Полымя», 1982, № 8. У перакладзе твор публікаваўся на многіх мовах свету.

### *Аблава (с. 389)*

Упершыню — час. «Полымя», 1989, № 1.

## АПАВЯДАННІ. ПРЫПАВЕСЦІ

### *Адна ноч (с. 463)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1963, № 1.

### *На чорных лядах (с. 492)*

Упершыню — час. «Полымя», 1994, № 1.

### *Жоўты пясочак (с. 513)*

Упершыню — час. «Полымя», 1994, № 1.

### *Народныя мсціўцы (с. 542)*

Упершыню — газ. «Народная воля», 1997, 18 верас.

### *Сцяна (с. 563)*

Упершыню — час. «Полымя», 1995, № 5.

### *Тры словы нямых (с. 573)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1999, 25 студз.

### *Кошка і мышка (с. 580)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 2000, 10 студз.

## ПУБЛІЦЫСТЫКА. УСПАМІНЫ

### *Выступленне на V з’ездзе СП БССР (с. 585)*

Упершыню — зб. «На крыжах». Мн., 1992.

Выступленне адбылося 13 мая 1966 г. на V з’ездзе СП БССР.

[1] Артыкулы рускага літаратурнага крытыка і публіцыста В. Р. Бялінскага (1811–1848 ) «Ответ «Москвитянину» друкаваўся ў час. «Современник», 1847, т. VI, № 11. Гл.: Белинский В. Г.Собр. соч.: В 9 т. М., 1982. Т. 8. С. 315.

[2] *Гогаль* М. В. (1809–1852) — класік рускай літаратуры.

[3] *Хогарт* Уільям (1697–1764) — англійскі жывапісец, партрэтыст і карыкатурыст.

[4] Белинский В. Г. Собр. соч.: В 9 т. Т. 8. С. 316–318.

[5] *Карпюк* Аляксей (1920–1992) — беларускі празаік.

[6] *Луначарскі* А. В. (1875–1933) — савецкі дзяржаўны і камуністычны дзеяч, пісьменнік, крытык, публіцыст.

[7] *Захар Пятровіч.* — Маецца на ўвазе З. П. Матузаў, дырэктар выдавецтва «Беларусь».

[8] *Даўжэнка* А. П. (1894–1956) — кінарэжысёр, драматург.

[9] *Нікалаева* Г. Л. (1911–1963) — руская савецкая пісьменніца.

[10] *Чорны* Кузьма (1900–1944) — класік бел. літаратуры.

[11] *Гарэцкі* Максім (1893–1938) — класік бел. літаратуры.

[12] *Бэндэ* Лукаш (1903–1961) — літ. крытык-вульгарызатар, даносчык, вінаваты ў палітрэпрэсіях супраць бел. пісьменнікаў.

[13] *Го Можо* (1892–1978) — кітайскі вучоны, гісторык, пісьменнік. У часы «культурнай рэвалюцыі» вымушаны быў каяцца перад камуністычнай уладай Кітая.

[14] *Макаёнак* А.Я. (1920–1982) — народны пісьменнік Беларусі.

[15] *...салідарнасць з поваду вядомага выпаду ў мой адрас.* — Маецца на ўвазе калектыўны ліст беларускіх пісьменнікаў у ЦК КПБ у абарону В. Быкава ад шальмавання ў друку.

### *Выступленне на X з'ездзе СП БССР (с. 592)*

Упершыню — зб. «На крыжах». Мн., 1992.

Выступленне адбылося 25 красавіка 1990 г.

[1] «ПС» — «Политический собеседник», грамадска-палітычны часопіс ЦК КПБ, трыбуна антыбеларускіх сіл.

[2] *Сінельнікава* — відаць, адна з камуністычных функцыянераў.

[3] *Паўлаў* С. Я. — загадчык аддзела агітацыі і прапаганды ЦК КПБ у 1971–1989 гг.

[4] *30 кастрычніка.* — У гэты дзень, 30.10.1988, паліт. апазіцыя адзначала Дзяды, шматтысячная маніфестацыя была жорстка разагнана АМАП загадам тагачаснай камуністычнай улады.

[5] *Адамовіч* А.М. (1927—1994) — беларускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. У артыкуле «Оглянись окрест!» (Огонёк, 1988, верас.) ахрысціў камуністычныя ўлады ў Беларусі «антыперабудовачнай Вандэяй». Запазычаная з рамана В. Гюго «93 год» назва французскай правінцыі, якая стала цэнтрам контррэвалюцыйнага мяцяжа, набыла сімвалічныназыўны сэнс.

[6] *Верхняя Вольта* (Буркіна-Фасо) — заходнеафрыканская краіна, што набыла алегарычнае значэнне слабаразвітай дзяржавы.

[7] *Гарбачоў* М. С. (н. 1931) — першы і апошні прэзідэнт СССР.

[8] *ТБМ* — Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.

[9] *Гарун* Алесь (1887–1920) — беларускі паэт, грамадскі дзеяч.

[10] *Гартны* Цішка (Зм. Жылуновіч; 1887–1937) — беларускі пісьменнік, старшыня часовага Савецкага ўрада Беларусі.

[11] БНФ — Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне».

[12] *...самаўпраўствам міліцыі...* — Маецца на ўвазе ўчынены міліцыяй ператрус у адным з кабінетаў Дома літаратара.

### *Выступленне на I кангрэсе беларусістаў (с. 600)*

Упершыню — зб. «На крыжах». Мн., 1992.

Выступленне адбылася 25 мая 1991 г. у Мінску на першым пленарным пасяджэнні Міжнароднага кангрэса беларусістаў у Мінску.

[1] *Яська з-пад шыбеніцы* — дакладна: Яська-гаспадар з-пад Вільні, падпольны псеўданім Кастуся Каліноўскага.

### *Мэта і сродкі (с. 602)*

Упершыню — зб. «Крыжовы шлях». Мн., 1988.

[1] *ВПК* — ваенна-прамысловы комплекс у СССР.

[2] *...«тарашкевічаўцаў» ды «наркомаўцаў».* — Перайначаная назва прыхільнікаў «тарашкевіцы» (паводле аўтара «Беларускай граматыкі для школ» Б. А. Тарашкевіча, у якой ўпершыню былі вызначаны правапісныя і граматычныя нормы беларускай мовы) і «наркомаўкі» (паводле гутарковай назвы Пастановы СНК БССР 1933 г. «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу»).

[3] *...з шаноўным прафесарам на плошчы Незалежнасці...* — Маецца на ўвазе прафесар Мікола Савіцкі.

### *Доўгая дарога дадому (Фрагменты) (с. 608)*

Упершыню — Радыё «Свабода», 2002. Асобнай кнігай твор выйшаў у Мінску, у выд-ве ГА БТ «Кніга», 2002.

[1] *Лынькоў* Міхась (1899–1975) — народны пісьменнік Беларусі.

[2] «Канёк-гарбунок» — казка рус. пісьменніка П. П. Яршова.

[3] *Верн* Жуль (1828–1905) — французскі пісьменнік.

[4] *Маўр* Янка (1883–1971) — беларускі дзіцячы пісьменнік.

[5] «Як гартавалася сталь» — раман М. А. Астроўскага.

[6] «Вайна і мір» — раман-эпапея Л. М. Талстога.

[7] «Ціхі Дон» — раман-эпапея М. А. Шолахава.

[8] *ПНШ* — памочнік начальніка штаба.

[9] *...апальнага партыйнага функцыянера...* — Маецца на ўвазе Н. Я. Наталевіч (1900–1964), дзяржаўны дзеяч БССР.

[10] «У акопах Сталінграда» — аповесць В. Някрасава; «Валакаламская шаша» — аповесць А. Бека.

[11] *...з ягонымі «Батальёнамі».* — Маецца на ўвазе аповесць Ю. Бондарава «Батальёны просяць агню».

[12] *...з «Пяддзю».* — Маецца на ўвазе аповесць Р. Бакланава «Пядзь зямлі».

[13] *Аскоцкі* Валянцін — рускі літаратуразнавец і крытык.

[14] *Лазараў* Лазар — рускі літаратуразнавец і крытык.

[15] *...ліст супраць Сіняўскага і Даніэля...* — Маецца на ўвазе арганізаваная ўладамі кампанія па шэльмаванні рускіх савецкіх пісьменнікаў А. Сіняўскага і Ю. Даніэля, якія апублікавалі на Захадзе творы, кваліфікаваныя КДБ як антысавецкія.

[16] *Гарбачоў* М. В. — рус. пісьменнік, перакладчык з беларускай.

[17] *...раскрытыкаваны за раман...* — Раман У. Дудзінцава «Не хлебам адзіным» (1956) выклікаў вельмі негатыўную рэакцыю ў савецкага кіраўніцтва, рэзка крытыкаваўся ў тагачасным друку.

[18] *ГЛАВПУР*, дакладней — ГлавПУРККА: Главное политическое управление рабоче-крестьянской Красной Армии.

[19] *ВПШ* — Вышэйшая партыйная школа, *АГН* — Акадэмія грамадскіх навук у Маскве.

[20] *...загадчыку аддзела Алесю Бажко...* — У сапраўднасці А. Бажко ў 1962–1970 гг. быў загадчыкам рэдакцыі мастацкай літаратуры выдавецтва «Беларусь», а не «Мастацкая літаратура».

[21] *Дапісваў аповесць...* — Гаворка ідзе пра аповесць «Знак бяды».

## SUMMARY


Vasil Bykau, the People's Writer of Belarus and a classic of world literature, was born in 1924 and died in 2003. He became widely known thanks to his literary works about World War II that revealed totalitarian regime in its most abominable and inhuman forms. V. Bykau introduced Belarusian literature to Europe, placed it in a rich context of world history, firmly established most positive human qualities of his nation.

V. Bykau's creative legacy is a unique aesthetic phenomenon both of home and world literature. His works give a really true picture of a human being of the 20th century, a person put in a crucial situation of existential choice.

In the last decade of his life and creative work, V. Bykau held especially active social position. He was among initiators of formation of the Belarusian Popular Front «Adradzhennie», a president of IABP «Batskaushchyna», headed for years Belarusian Pen centre, was one of leading ideologists of Belarusian national and cultural Renaissance.

In the present one-volumed edition the most considerable works by V. Bykau were included: stories *The Third Rocket (Tretsiaya rakieta), The Sign of Trouble (Znak biady), Round-Up (Ablava)*, short stories and tales that most colourfully tell the history of the 20th century Belarusian people and expose national character and nature of a Belarusian.

In the publicistic part there are the writer's speeches and addresses that nowadays are evaluated as his spiritual precept.

Fragments of the recollection book *Long Way Home (Douhaya daroha dadomu)*, prepared for print by V. Bykau himself, contain pictures and episodes of the author's life that are the deepest and best illustration of tragic character of Belarusian history and which were taken as a base for the plot of best Bykau's works.

Mikhas Tychyna, Doctor of Philology, is a compiler and author of the preface.



# ЗМЕСТ



## АПОВЕСЦІ



## АПАВЯДАННІ, ПРЫПАВЕСЦІ



## ПУБЛІЦЫСТЫКА, УСПАМІНЫ

**Быкаў В. У.**
Б 95 Выбраныя творы / Васіль Быкаў; Уклад., прадм., камент. М. Тычыны. — Мн.: «Беларускі кнігазбор», 2004. — 672 с. [8] с.: іл. — («Беларускі кнігазбор»; сер. І. Мастацкая літаратура).
ISBN 985-6730-42-2

«Выбраныя творы» класіка сусветнай літаратуры, народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава (1924—2003) склалі аповесці «Трэцяя ракета», «Знак бяды», «Аблава», а таксама апавяданні, прыпавесці, публіцыстычныя выступленні і ўспаміны.

Дваццаць восьмы том кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор».

**УДК 821.161.3-8**
**ББК 84 (4Беи) 6-4**

Літаратурна-мастацкае выданне

«Беларускі кнігазбор»
Серыя I. Мастацкая літаратура

Быкаў Васіль Уладзіміравіч

Выбраныя творы

Рэдактар Кастусь Дуброўскі
Мастак Мікалай Казлоў
Тэхнічны рэдактар Алег Глекаў
Карэктар Наталля Аляксеева
Набор Валянціны Фок і Ларысы Ваўчок
Вёрстка Тацццяны Вінярскай і Ларысы Ваўчок

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў заказчыка 20.03.2004.
Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура Times New Roman.
Афсетны друк. Ум. друк. арк. 35,28 + 0,42 укл. Ул.-выд. арк. 33,84.
Наклад 1800 асобнікаў. Зак. .

МГА «Беларускі кнігазбор».
220034, Мінск, вул. Фрунзе, 5. Ліцэнзія ЛВ № 105 ад 31.12.2002 г.
тэл/факс: (017) 220-70-27, E-mail: kniha@bk.lingvo.minsk.by
http://knihazbor.cjb.net

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.

БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

***Выйшлі з друку:***

*Серыя I.*

ЯН ЧАЧОТ. Выбраныя творы
МАКСІМ БАГДАНОВІЧ. Выбраныя творы
ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР ЖЫЛКА. Выбраныя творы
ФІЛАМАТЫ І ФІЛАРЭТЫ. Зборнік
ЯН БАРШЧЭЎСКІ. Выбраныя творы
ЯНКА БРЫЛЬ. Запаветнае. Выбраныя творы
КУЗЬМА ЧОРНЫ. Выбраныя творы
ЭЛІЗА АЖЭШКА. Аповесці, апавяданні, нарысы
ЛАРЫСА ГЕНІЮШ. Выбраныя творы
ПАЎЛЮК ТРУС. Выбраныя творы
ІВАН МЕЛЕЖ. Выбраныя творы
ЦЁТКА. Выбраныя творы
НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА. Выбраныя творы
ЯНКА КУПАЛА. Выбраныя творы
АЛЕСЬ ГАРУН. Выбраныя творы
АДАМ МІЦКЕВІЧ. Выбраныя творы
ФРАНЦІШКА УРШУЛЯ РАДЗІВІЛ. Выбраныя творы

*Серыя II.*

БЕЛАРУСКІЯ ЛЕТАПІСЫ І ХРОНІКІ. Зборнік
КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ. За нашую вольнасць
МІКАЛАЙ УЛАШЧЫК. Выбранае
ЯЎХІМ КАРСКІ. Беларусы
ІГНАТ ДАМЕЙКА. Мае падарожжы
ГАЎРЫЛА ГАРЭЦКІ. Выбранае
ФАДЗЕЙ БУЛГАРЫН. Выбранае

*Серыя III.*

ЁГАН ВОЛЬФГАНГ ГЁТЭ. Выбраныя творы
ФЁДАР ДАСТАЕЎСКІ. Выбраныя творы

***Рыхтуюцца да друку:***

АЛЯКСАНДР ЕЛЬСКІ. Выбранае
ЧАСЛАЎ ПЯТКЕВІЧ. Рэчыцкае Палессе